УДК 811.161.3’374
ББК 81.2 Беи4
С48

Укладальнікі:
Т. В. Валодзіна, Л. М. Салавей

Навуковы рэдактар
доктар філалагічных навук прафесар В. М. Макіенка

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук І. Л. Капылоў,
кандыдат філалагічных навук Т. Р. Рамза

**Слоўнік** беларускіх народных параўнанняў / Нац. акад. навук Беларусі,
С48 Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Т. В. Валодзіна, Л. М. Салавей; навук. рэд. В. М. Макіенка. – Мінск: Беларус. навука, 2011. – 482 с.
ISBN 978-985-08-1346-6.

Параўнанні надаюць мове яркасць, адметнасць і той непаўторны каларыт, які адрознівае адну мову ад іншай. Яны ўзбагачаюць гаворку за кошт сваёй здольнасці трапна і вобразна выяўляць сутнасць самых разнастайных з’яў. Прапанаваны слоўнік – вопыт найбольш поўнага збору ўстойлівых беларускіх народных параўнанняў. Змяшчае больш за 8 тыс. параўнальных выразаў featureрознага тыпу. Дэфініцыя ўключае тлумачэнне значэння, геаграфічную і стылістычную характарыстыку, у неабходных выпадках даецца каментарый культаралагічнага характару. Захаваны дыялектныя асаблівасці маўлення.

Слоўнік разлічаны на фалькларыстаў, лінгвістаў, перакладчыкаў, будзе карысны як настаўнікам беларускай мовы, так і майстрам слова – пісьменнікам, журналістам, а таксама ўсім, хто шануе родную мову.

**УДК 811.161.3’374**
**ББК 81.2 Беи4**

**ISBN 978-985-08-1346-6**

# ПРАДМОВА

Параўнанне – адзін са старажытных і надзейных спосабаў вытлумачэння і наймення навакольнага свету, характарыстыкі чалавека, з'яў прыроды, штодзённых сітуацый. Разам з тым гэта не проста найменне, але і яркі сродак ацэнкі, выражэння эмоцыі і экспрэсіі. У сціслых параўнальных выразах адлюстравана спасціжэнне наваколля, яго вобразная характарыстыка і эмацыянальнае стаўленне да яго.

Рэальны свет у свядомасці чалавека адлюстроўваецца праз выяўленне рыс падабенства між вядомым і невядомым, праз прыпадабненне абстрактнага да канкрэтнага, пачуццёвага да рэчыўнага. Вобразы параўнанняў паходзяць з самых пашыраных і традыцыйных сфераў жыцця і дзейнасці чалавека; ядро большасці з іх складаюць вобразы жывёльнага і расліннага свету, хатняга начыння, вытворчай дзейнасці. Аб'ект, з якім што-небудзь супастаўляецца, гэта значыць параўнанне-вобраз, амаль заўсёды пачэрпнуты менавіта з навакольнай прыроды або са звыклага сялянскага быту, добра знаёмага. У гэтым выражаецца канкрэтнасць, «бачнасць» вобразнага мыслення, што адбілася ў параўнаннях.

Параўнанні часцей складаюцца з дзвюх частак: першая называе аб'ект або паняцце, якое падлягае параўнанню, другая змяшчае само параўнанне, супастаўленне з першай. Часткі звязваюцца злучальнай часцінкай, пераважна гэта злучнік як (*валачы як кот селядца*); а таксама ак, бы (*зажадалася бы на маладое*), быццам, бытта, бацэ, што (*улюблівы што жаба ў гразь*), роўна (*ідзе роўна вядро на галаве нясе*), усё роўна як (*з табой гаварыць усё роўна як пугу з пяску круціць*), чыста, начэ (*глядзець начэ казёл у воду*), хоць (*хоць каціся*). Радзей сустракаюцца параўнанні са злучнікамі ў пачатку канструкцыі: *як агню баіцца, як аднае мацеры дзеткі.* Тыпы і разнавіднасці граматычнага і семантыка-стылістычнага выражэння параўнанняў таксама розныя: субстантыўныя параўнанні, формы ступеняў параўнання прыметніка і прыслоўя, аднаслоўныя і развітыя, адзіночныя і развітыя, бяззлучнікавыя і злучнікавыя. У слоўнік уключаны і шэраг спецыфічных параўнанняў, у якіх няма параўнальнага злучніка, але назоўнік стаіць у творным склоне: *роем хадзіць; Анёлам ляцеў, а чортам сеў; глядзець (пазіраць) ваўком.*

М. Я. Грынблат структуру параўнанняў прадставіў наступным чынам: «Зрокава структура параўнання ўяўляецца нам падобнай на цэп, даўнюю сялянскую прыладу малацьбы, дзе цапільна – гэта як бы першая частка параўнання, біч – другая частка, а гужык – злучнік»[1].

Сярод параўнанняў умоўна вылучаюцца два віды: параўнанні, у якіх праяўляецца лірычнае адчуванне жыццёвых з'яў, паэтычная настраёвасць наогул, пэўная «сур'ёзнасць» (*адказ як шыла, вольны як вецер, бегаць як дурны*), і параўнанні жартаўлівыя, у якіх само параўнанне прасякнута гумарам, іроніяй (*ажаніцца як нагу ў бот уставіць, але есць як валоў шэсць*). Універсальнай з'яўляецца тэндэнцыя да перавагі пеяратыўнай семантыкі пры характарыстыцы чалавека і яго дзейнасці і адносная тэматычная кампактнасць лексічных блокаў, аб'яднаных вакол таго ці іншага стрыжнёвага

[1] Выслоўі / склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. М. Я. Грынблата. – Мінск, 1979. – С. 21.

кампанента. Так, для характарыстыкі чалавека неразумнага знаходзім каля 50 адзінак, а для разумнага – пяць...

У параўнаннях праявілася тонкая назіральнасць чалавека над прыродай, жывёльным светам, чалавечым характарам, асаблівасцямі быту. Яснай унутранай формай, празрыстай матываванасцю вылучаюцца параўнанні з кампанентам-анімалізмам, саматызмам, фітонімам, заснаваныя на назіраннях чалавека над знешнім выглядам, жыццём і паводзінамі жывёл, прызначэннем прадметаў і г. д. Найбольш актыўныя пры стварэнні ўстойлівых параўнанняў стрыжні-анімалізмы; па шкале актыўнасці дамінуюць *сабака* і *кот*; задзейнічаны вобразы многіх птушак, назвы садавіны і гародніны. Разам з тым чыста эмпірычнае ўспрыманне іх чалавекам дапаўняецца міфалагічнымі канатацыямі. Так, параўнанні з кампанентам *сабака* выяўляюць ідэю самага апошняга ў сацыяльнай групоўцы, як суб’ект ён паўстае ў дзеяннях пераважна адмоўнах, у якасці аб’екта прыніжаецца і ганьбуецца. Аднак пры ацэньванні чалавека сабака паўстае як эталон самых розных якасцей, часам супрацьлеглых: пакорлівы, паслухмяны і ўпарты, багаты і бедны, калматы і голы, неразумны і вынаходлівы і г. д. Вобраз сабакі ў параўнаннях часта выражае крайнюю ступень розных эмоцый і фізічных станаў*: галодны як сабака, злы як сабака, змёрз як сабака*. Тое ж можна назіраць адносна параўнанняў з кампанентам *чорт*.

Параўнанні нароўні з іншымі ўстойлівымі выразамі становяцца важнай і цікавай крыніцай пры рэканструкцыі семантыкі таго ці іншага вобраза, раскрыцці яго мастацка-стылістычнага патэнцыялу. Прыкладам, параўнанні з кампанентам *конь* у сістэме іншых устойлівых выразаў дазваляюць выявіць асобныя нюансы фальклорнай семантыкі гэтай лексемы. З асваеннем славянамі верхавой язды конь становіцца сімвалам воінства, пераважна яго вярхушкі, бо выхаваць падрыхтаванага да вайны каня было цяжкім і дарагім заняткам. Успрыманне язды верхам як прэрагатывы прадстаўніка вышэйшых слаёў пакінула адбітак у дастаткова высокім сакральным статусе вершніка. Многія язычніцкія боствы, а затым хрысціянскія святыя і нават Ісус Хрыстос уяўляліся менавіта на кані. Фразеалагічная рэалізацыя падобных вераванняў, акрамя вядомага *Быў на кані і пад канём*, прапаноўвае і шэраг параўнанняў, дзе язда на кані метафарычна кадзіруе дабрабыт, годна пражытае жыццё – бел. *пражыць як на кані праехаць* (гл. іншыя прыклады рэалізацыі гэтай жа структурна-семантычнай мадэлі: *пражыць як на сабаку праехаць; пражыць як на <рабой> свінні праехаць (пераехаў)*, якія падкрэсліваюць пазіцыю каня ў іерархіі жывёл). Тут жа і *як на сто коней сесці* – атрымаць надзейны ў жыцці шанцунак.

Сэнсавыя і канататыўныя адценні пры характарыстыцы чалавека надае атрыбутыўны кампанент параўнання. У першую чаргу гэта колеравая гама: *белы, сівы, шэры, буры*. Актуальныя для міфасемантыкі каня чырвоны і чорны ў параўнаннях аказаліся не задзейнічаны, затое такая асаблівасць знешнасці як лысіна і ў кампаратыве захавала свае міфапаэтычныя патэнцыі – *знацца як лысыя коні* ‘пра людзей у непрыяцельскіх дачыненнях: у адным выпадку прыкрываюць адзін аднаго, у іншым – выдаюць учыненае’, *знаць як лысага каня*. Значна ўзбагачаюць значэнне параўнання і надаюць яму тонкія стылістычныя адценні этнанімічныя атрыбутывы – *цягнуцца як жыдоўскія коні* ‘пра людзей, што не могуць дамовіцца і нesуладна працуюць’; *цягацца як кабыла Лейзарава* ‘пра бязмэтавае бадзянне’; *скакаць як цыганскі конь* ‘пра няшчырыя паводзіны кагосьці’; *душа мінчуецца бы коні у цыгана* ‘пра душэўныя хваляванні’.

Пры агульным пазітыўным стаўленні да каня ў традыцыйным побыце і культуры параўнанні тым не менш скарыстоўваюць яго вобраз для абмалёўкі рысаў харак-

тару і паводзін чалавека, якія не ўхваляюцца грамадствам і выклікаюць насмешку, спачуванне.

Экспрэсіўна-стылістычная градуіроўка параўнанняў, як і фразеалогіі і лексікі наогул, сягае сваімі каранямі ў традыцыйную групоўку вобразаў. Назіранні за кампанентамі параўнанняў па вертыкалі дэманструюць розныя заканамернасці фарміравання вобразнасці для прадметных лексем, анімалізмаў і г. д. У многіх выпадках параўнанні як жанр фальклорнай творчасці выяўляюць уплыў традыцыйных вераванняў, міфалогіі. Праз тое павялічваецца семантычны патэнцыял падобных элементаў, яны набываюць дадатковыя канатацыі, што можа зацямняць іх унутраную форму. Таму неабходныя этнаграфічныя, міфалагічныя адсылкі даюцца ў канцы слоўнікавага артыкула.

Асаблівую цікавасць уяўляюць тыя ўстойлівыя параўнанні, лінгвакультуралагічная функцыя якіх не адлюстравана ў дэнатаце. Іх культурная канатацыя прыхавана і бывае выяўлена толькі на больш шырокім фоне. Культурна маркіраваныя кампаненты ў складзе ўстойлівых параўнанняў падзяляюцца на 4 групы: 1) назвы прадметаў быту – *дзяжа, цэбар, калодка*; звычаяў і святаў – *Дзяды, Радуніца*; 2) архаізмы і гістарызмы – *войт, гайдук*; 3) міфалагічныя, фальклорныя персанажы – *русалка, расамаха*; 4) анамастычныя адзінкі (этнонімы, тапонімы і антрапонімы) – *жыд, Нарач, Міцька, Салоха* і інш.

Спосаб бачання свету праз моўныя вобразы, зафіксаваныя ў параўнаннях, як увогуле ў фразеалагічнай сістэме, будучы глыбока нацыянальным, усё ж грунтуецца на агульных для ўсіх людзей логіка-псіхалагічных і ўласна лінгвістычных асновах. Думаецца, што іх эксплікацыя дапаможа, з аднаго боку, выявіць механізмы вобразнага мыслення, а з іншага – тыя іманентныя заканамернасці мовы як сістэмы знакаў, якія адказваюць за ўнутраную арганізацыю фразеалагічнай сістэмы.

Моўная карціна свету беларусаў праз прызму параўнанняў можа быць прадстаўлена наступнымі ідэаграфічнымі палямі:

**фізіялагічныя характарыстыкі і станы чалавека:**

пазяха́ць як су́чка ў кано́плях. *Гом. Няўхв.* Пра чалавека, які нявыхавана сябе паводзіць; як чорт аблiза́ў (пацалава́ў). *Ушацк.* Пра таго, хто нечакана і цяжка захварэў; як чорт жы́да з’е́ўшы. *Здзекл.* Пра чалавека, які пачувае сябе не вельмі добра; ісці як не сваімі нагамі. *Ваўк. п., Слуцк., Мсцісл. Няўхв.* Пра хваравітае адчуванне, страту валодання сваімі нагамі.

**знешні выгляд чалавека:**

вукласці во́чы ек то́пленік. *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна вылупіў вочы; як цёлка ў ко́хтачцы. *Мсцісл. Насмешл.* Пра жанчыну, убраную неадпаведна ўзросту, фігуры; ры́хтык да вянцу́ вы́брацца. *Зэльв. Ухв.* Пра добра, па-святочнаму прыбранага чалавека.

**фізічныя якасці:**

здаровы як камёлык. *Хоцім. Ухв.* Пра моцнага, здаровага чалавека; жывушчы як кот і слабы як муха. *Лях. Прык.* Пра мізэрнага чалавека, што выяўляе моцную жывучасць; высокі як вілашнік. *Мсцісл.* Пра высокага чалавека.

**эмацыянальны стан:**

Сядзі́ць як сыч і ду́мае, што па́ніч. *Прык.* Пра капрызнага і ганарлівага, які зашмат пра сябе думае; наду́цца як вош на маро́зі. *Ваўк., Гродз., Бераст. Пагардл.* Пра нейчыя спробы паказацца важным, значымым; дрыжа́ць як вяро́ўка пе́рад нажо́м (но́жыкам). *Мсцісл. Жарт.* Пра дрыжыкі, трымценне ад страху.

**паводзіны:**

ле́зці як тарака́н у шчы́ліну. *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які нахабна імкнецца ў нейкае прывабнае для яго месца; як ца́ца ў пала́цы. *Рас. Насмешл.* Пра маменькіну дачку-пястушку; даліка́тны як па́нскі (анге́льскі) цю́цька. *Ваўк. Кплів.* Пра чалавека, што нязвычна далікатны ў манерах.

**адчуванні:**

от даў пы́лі (ду́ху) як вераб́ей кабы́лі. *Ваўк., Клім., Шкл. Іран.* Пра напад, агрэсію кагосьці бяссільнага, параўнальна нязначнага, незаўважнага; Паклёп (плёткі) як вуго́лле: калі́ не абпа́ліць, то запэ́цкае. *Мін. Прык.* Пра непрыемныя, адмоўныя вынікі абгаворвання для чалавека.

**пачуцці:**

улюбі́цца (утрэ́скацца) як чорт у суху́ю (коляву) гру́шу (суху́ю вярбу́). *Ваўк., Докш., Іўеў., Івац., Мядз., Слон., Шарк., Маладз., Пін. Насмешл.* Пра чалавека, які моцна закахаўся; каха́цца як галубкі́. *Памянш. Ухв.* Пра шчыра закаханых.

**рух – нерухомасць:**

ляжа́ць як во́рапень на пячы́. *Мсцісл. Асудж.* Пра гультаяватага чалавека; ляжаць як гара. Пра хворую нерухомую жывёлу; ляжаць як глёк. *Мсцісл.* Пра таго, хто нерухома, без справы ляжыць.

**хуткасць – запаволенасць:**

уцяка́ць як ско́чкі з до́хлай саба́кі. *Саліг. Здзекл.* Пра людзей, якім давялося хутка разбягацца ад месца, што стала непрыдатным; ляце́ць як чорт на калясні́цы. *Слон. Няўхв.* Пра нейчае надта шпаркае перамяшчэнне; паўзці як мача́нка <па патэ́льні>. *Маст. Няўхв.* Пра вельмі павольнае, маруднае перамяшчэнне каго-н.

**здольнасці:**

пісаць як з рукава сыпаць. *Паст. Ухв.* Пра бойкае, хуткае пісанне; пісаць як кошка лапаю. *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчы нязграбны, непрыгожы почырк; рабіць як матор. *Стаўб. Ухв.* Пра руплівую хуткую работу працавітага чалавека.

**маральныя якасці:**

як кот лядачы. *Свісл. Няўхв.* Пра дрэннага нахабнага чалавека; хвалі́цца як цыга́н каро́слівай кабы́лай. *Здзекл.* Пра таго, хто непамерна хваліцца чым-, кім-н., хто не заслугоўвае такой пахвалы; як чортам патшыты. *Мядз. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі благога.

**узрост:**

стары чоловек ек горшчок разбіты. *Жытк.* Пра слабую фізічную форму старых людзей; Стара́я дзе́ўка як дзіра́вы кажу́х – адзі́н дух. *Слуцк. Прык. Здзекл.* Пра марнасць спадзяванняў дачакацца ад састарэлай незамужняй дзеўкі цеплаты, ласкі.

**разумовыя здольнасці:**

дурны як сала без солі. *Свісл. Жарт.* Пра чалавека, якому шмат не хапае, каб быць разумным; дурны як сто пудоў дыму. *Смарг. Здзекл.* Пра вельмі дурнога чалавека; разумны як Саламонавы порткі. *Лід. Іран.* Пра не вельмі разумнага чалавека.

**маўленчая дзейнасць:**

гавары́ць гла́дка як вол языко́м лі́жа. *Навагр. Жарт.* Пра лоўкую, складную, прыемную гаворку каго-н.; гаво́рыць як з ксёнжкі бярэ́. *Ваўк., Сак. п. Ухв.* Пра красамоўнага чалавека; балбата́ць як трапы́шка. *Мсцісл. Няўхв.* Пра балбатуна, надта гаварлівага чалавека.

**стан справаў:**

жыць як баран да восені. *Зэльв.* Пры бесклапотнае жыццё, не думаючы пра будучыню; жыць як варона наколічку. *Раг. Няўхв.* Пра чалавека без маёмасці, бедняка; жыць як вянкі плесці. *Ухв.* Пра добрае, вясёлае, лёгкае жыццё.

**праца – лянота:**

хадзíць як кóньска смерць па вы́гане. *Зэльв. Няўхв.* Пра кагосьці, хто без справы, без сур'ёзнага занятку ходзіць, лазіць і пад.; мяня́ць рабóту як цыгáн куст. *Здзекл.* Пра гультаяватага летуна, што не можа знайсці шчаслівага месца.

**беднасць – багацце:**

багáты як зямля́ <святая>. *Лід., Вілен. п. Ухв.* Пра вельмі багатага чалавека; бедны як царкоўная мыш; гол як сакол. *Брасл., Слонім., Слуц., Мсціcл.* Пра некага вельмі беднага, безмаёмаснага.

**п'янства:**

п'яны як лéйцы. *Нясв. Насмешл.* Пра п'янага, ужо абмяклага чалавека; п'яны як рамíзнік. *Асудж.* Пра надта п'янага чалавека; піць як у чóбаты ліць. *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які можа шмат выпіць.

**міжасабовыя адносіны:**

наравíць каму як ніцай скýлкі. *Памянш. Крыч. Няўхв.* Пра неабходнасць дагаджаць злому, капрызнаму чалавеку, каб пазбегнуць большай бяды; угадзíць *каму* труднéй як катý старóй панéнкі. *Насмешл.* Пра цяжкасці ў адносінах з капрызным чалавекам; клáняцца *каму* як крыніцы пры дарóзе. Пра адносіны да некага з глыбокай пашанай.

**прысутнасць – адсутнасць:**

нямá як чорт хвастóм накры́ў. *Насмешл.* Пра бясследнае знікненне нечага; прапáсці як рудая мыш. *Астр., Шчуч.* Пра бясследнае знікненне, прападанне ні за што; пропáсты як бы хапýн укрáв. *Чыж.* Пра бясследнае знікненне каго-н.

**якасць:**

такí хорóшы ек у стáрца калóшы. *Жытк. Насмешл. Іран.* Пра нешта не вельмі добрай якасці; харошы як з воску. *Ваўк. Ухв.* Пра прадмет добрай якасці, прывабны на выгляд; як старыя рэзгіны. *Ашм. Насмешл.* Пра непрыгожага, нязграбнага, няўклюднага чалавека або недасканалую рэч.

**квантытатыўныя параметры:**

як воўк вільнýў (мільнýў, мялькнýў) хвастóм. *Ваўк. п.* Пра кароткі адрэзак часу.

Відавочна, гэта толькі найбольш распрацаваныя ідэаграфічныя палі кампаратываў, прадстаўленыя дзясяткамі канкрэтных прыкладаў. У цэлым жа ў сістэме параўнанняў увасобілася ўсё духоўнае жыццё чалавека.

Пры ўсёй, здавалася б, сінанімічнасці параўнанняў ім у высокай ступені ўласціва семантычная дыферэнцаванасць. Так, для апісання чагосьці белага можна выкарыстаць выразы *бела як ліпіначка, белы як з крыжа зняты, белы як кроў з малаком, белы як крэта, белы як лебедзь, белы як мельнік, белы як мука, белы як намётка* і інш. Аднак для кожнай сітуацыі мы выбіраем менавіта гэта, а не іншае параўнанне. Так, пра чалавека, збялелага ад страху, скажам *белы як палатно*, але не *белы як сыр*, што тычыцца здаровага бялявага прыгожага хлопца. Толькі пра сівога чалавека скажам *белы як гогаль*, а пра мілую прывабную дзяўчыну – *белая як слонца*. У сітуацыях, дзе патрабуецца доля іроніі і жарту (калі гаворыцца пра нешта не зусім белае), скажам *бела як свіное цела* ці *белы як снег на кузьні*.

Для чалавека адной з яркіх яго характарыстык выступаюць вочы, прычым не толькі для апісання ўласна знешнасці, але і для адлюстравання ўнутранага стану, маральных якасцей. Так, вочкі могуць быць *як васілёчкі, як барвінчык, як вішанькі, як зоркі, як пацерачкі, як пралескі*, але могуць быць і *як слівы, як тыя гарбузы, як у блашчыцы, як у вала, як у каня, як у рыбы, як у савы, як у свінні, як яблыкі*... І як шмат скажуць

пра чалавека вочы, якія *бегаюць як у злодзея, блішчаць як агні, павылазілі от бы ў Берка лудатаго*, ці калі хто *вулупіў очы ек жаба на олешыну*.

Вядома, далёка не ўсе параўнанні ўваходзяць у актыўны фонд нашай мовы, тым не менш нават самыя перыферыйныя складаюць яе адметнасць, чакаюць свайго скарыстання ў творах мастацкай літаратуры.

Асноўныя крытэрыі адбору параўнанняў для слоўніка – яркая вобразнасць, экспрэсіўнасць і адпаведнасць тыповым для ўстойлівых выразаў структурна-семантычным мадэлям. Напрыклад, для апісання добрага, спакойнага, прывольнага жыцця чалавека асабліва папулярнай выступае мадэль жыць + у + станоўчы, нават сакральна вылучаны персанаж + частка яго цела ці жытла: *жыць як у бога за дзвярыма; жыць як у бога за пазухай; жыць як у бога ў вусе; жыць як у мацеры за плячымі; жыць як у мядзведжым вушку* і г. д. Мадэль ілгаць + назва лёгкага дзеяння дае такія яркія прыклады, як *Ілжэ як бліны пячэ: толькі шыпіць; ілжэ як венікі вяжа; маніць як шые.* Для народных параўнанняў характэрна актыўнае вар'іраванне, у выніку чаго катэгарычнае раздзяленне ўстойлівых і няўстойлівых параўнанняў аказваецца досыць праблематычным. Звычайна новыя выразы ствараюцца па вядомых устойлівых структурна-семантычных і вобразных мадэлях. Так, добра вядомая мадэль дурны + як абутак у беларускіх гаворках дае цэлы шэраг варыянтаў: *дурны што бот разінавы* (*Чэрв.*), *дурны як бот без халявы* (*Дзятл.*), *дурны як бот* (*парваны, з левай нагі*) (*Ваўк. п.*, *Івац.*, *Сміл.*, *Касц.*, *Маладз.*, *Уздз.*, *Слон.*, *Віл.*, *Докш.*, *Нясв.*, *Мін.*, *Касц.*), *дурны як бот дзіравы* (*Астр.*), *дурны як левы бот* <з дзюркай на пяце> (*Ашм.*, *Астр.*), *дурны як Пятроў бот з левай нагі* (*Гродз.*), *дурны як рускі бот* (*Лаг.*) *дурны як стаптаны бот* і інш.

Першы ў беларускай фалькларыстыцы асобны зборнік народных параўнанняў склаў Фёдар Янкоўскі[2]. У зборніку змешчана больш за 1760 параўнанняў, адна частка якіх узята з друкаваных крыніц, а другая – з уласных запісаў складальніка 1944–1959 гг. Зборнік быў з цікавасцю і прыхільнасцю сустрэты чытачамі і літаратурнымі крытыкамі. Услед за Ф. Янкоўскім да збору параўнанняў далучыўся Міхаіл Грынблат, змясціўшы ў томе «Выслоўі» з серыі «Беларуская народная творчасць» ужо амаль тры тысячы ўстойлівых кампаратыўных выразаў[3]. Асаблівую каштоўнасць гэтай падборцы надаюць запісы самога фалькларыста, а таксама звесткі з архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

Такім чынам, большасць выразаў для гэтага слоўніка ўзята з жывой народнай гаворкі, якая дакладна лакалізуецца як у часе (храналагічная маркіраванасць ажыццяўляецца праз дакладную пашпартызацыю), так і ў прасторы – праз указанне раёнаў запісу. Выбарка параўнанняў ажыццяўлялася найперш з дыялектных слоўнікаў, прычым шляхам франтальнага прагляду, бо большасць выразаў не вылучаліся ў асобныя вакабулы, аднак лёгка пазнаваліся як устойлівыя і зразумелыя. У большасці выпадкаў даводзілася даваць дэфініцыю выслоўю, зыходзячы з прыведзеных кантэкстаў.

У слоўнік увайшлі параўнанні, якія актыўна выкарыстоўваюцца ў літаратурнай мове: *чорны як вугаль, выкручвацца як вуж, маленькі як вузлік, пабачыць як свае вушы* і інш. Аднак большую частку займаюць выразы, у вышэйшай ступені вобразныя, экспрэсіўныя, узятыя з жывой гаворкі. Яны зразумелыя дзякуючы той сітуацыі, якая падаецца ў выразе. Прычым для параўнання абіраюцца знаёмыя, блізкія прадметы ці з'явы, карцінка параўнання становіцца зрокава яўнай і параўнанне з ёй чалавека

[2] Янкоўскі Ф. Беларускія народныя параўнанні: кароткі слоўн. – Мінск, 1973.

[3] Параўнанні // Выслоўі / склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. М. Я. Грынблата. – Мінск, 1979. – С. 277–432.

абумоўлівае асаблівую эмацыйнасць. Да прыкладу можна прывесці некалькі такіх карцінак-вобразаў, калі ў цэнтр сітуацыі змяшчаецца ўсім добра вядомая варона: *жыць як варона на колічку* – пра чалавека без маёмасці, бедняка; *збірацца куды як варона ў вырай* – пра марудлівыя зборы куды-н., *змокнуць як варона* – пра жанчыну, што патрапіла пад дождж; *зяваць як варона* – пра незадачлівую спявачку; *крычаць як варона на дождж* – пра няўцямна крыклівую асобу; *расхадзіцца як варона на дождж* – пра шумныя, узбуджаныя паводзіны кагосьці; *трапіць як варона ў кісель* – пра недарэчнае траплянне ў якую-н. прыкрую сітуацыю; *углядацца як варона ў шпік* – пра пільны, прагны позірк на што-, каго-небудзь і многія іншыя.

У слоўніку змешчаны і рэгіянальныя выразы, не зусім зразумелыя без належнага тлумачэння, і нават вузка лакальныя, як, напрыклад: *цягацца як Броня па капусце* – пра некага, хто цягаецца па сяле, як мясцовая знакамітасць Броня ў выпадку з капустай; *як Плаўскі на Багача* – пра безгустоўна апранутага чалавека як алюзія да вядомага ўсім мясцовага персанажа.

Варта адзначыць і актыўнае ўключэнне ў слоўнік прыказак з кампаратыўнай структурай, гл. *Дзеўка не зацірка: не астыне; На свеце як у карэце: едзеш і калышашся, пакуль не вывернешся; Гора як зеллё: колькі не рві – кожны год новае.* Відавочна іх вобразнае і структурнае ўзаемадзеянне з ідыёмамі-параўнаннямі. Нярэдка параўнанне выступае як канструктыўны элемент прыказкі і вобразны падмурак параўнання: існуюць выразы *дурны як варона* і *хітры як чорт*, яны ж могуць сустракацца і ў межах прыказкі *Дурань як варона, а хіцёр як чорт*; больш вядомае параўнанне *язык як брытва*, але яшчэ больш яркі вобраз дае прыказка *Язык што брытва: як намылішся, то і пабрые.* У асобных выпадках можна казаць і пра зваротны працэс кандэнсацыі. Так, разгорнутая прыказка *Дзеці як вераб'і: пакуль голыя – у гняздзе, а як апярыліся – паляцелі* судачыняецца з не зусім, на першы погляд, зразумелым параўнаннем *дзеці як вераб'і.* У слоўніку прыказкі падаюцца з вялікай літары.

Запатрабаванасць у слоўніку параўнанняў відавочная на фоне замежнай лексікаграфіі, у якой падобныя выданні прадстаўлены досыць шырока. Спецыяльна прысвечаныя параўнанням слоўнікі маюць нашы суседзі, гл. слоўнікі ўкраінскіх, рускіх, польскіх, чэшскіх, балгарскіх і іншых народаў[4].

Складанасці размежавання ўстойлівых і няўстойлівых параўнанняў ствараюць, як вядома, даволі штучную праблему – праблему іх пунктуацыі, паколькі па правілах перад першымі коскі звычайна няма, а перад другімі яна павінна ставіцца. Суб'ектыўнасць такой пунктуацыйнай устаноўкі праяўляецца ў розных напісаннях, выкліканых вольнай ацэнкай «устойлівасці» параўнанняў пры іх выкарыстанні рознымі пісьменнікамі і адлюстраванні ў розных кніжных і публіцыстычных выданнях. Такі суб'ектывізм асабліва відавочны пры супастаўленні беларускай, рускай пунктуацыі ў параўнальных зваротах з еўрапейскімі правіламі іх напісання. Практычна ва ўсіх літаратурных мовах Еўропы перад злучнікам «як» (чэш. *jako*, серб.-харв. *kao*, англ. *like (as)*, ням. *wie*, франц. *comme* і г. д.) коска не ставіцца ні ва ўстойлівых, ні ў «няўстойлівых» параўнаннях.

[4] Огольцев В. М. Словарь устойчивых сравнений русского языка (синонимо-антонимический). – М., 2001; Юрченко О. С., Івченко А. О. Словник стійких народних порівнянь. – Харьків, 1993; Bańko M. Słownik porównań. – Warszawa, 2007; Кювлиева-Мишайкова В. Устойчивите сравнения в българския език. София, 1986; Финк Ж. Опыт составления словаря славянской сравнительной фразеологии [Электронный рэсурс]. – Режим доступа: www.russian.slavica.org/printout3627.html і інш.

У дадзеным слоўніку прадпрымаецца ўніфікацыя іх напісання па агульнаеўрапейскім стандарце.

Пад устойлівым народным параўнаннем у слоўніку разумеецца вобразная, эмацыянальная, стабільная ў семантычным, фармальна-структурным і функцыянальным планах канструкцыя.

## Структура артыкула

Слоўнікавы артыкул разгортваецца ў наступнай паслядоўнасці:

1. Вакабульны выраз.
2. Лакалізацыя праз пазначэнне раёнаў.
3. Стылістычная характарыстыка.
4. Тлумачэнне значэння.
5. Пашпартызацыя крыніцы.
6. Тлумачэнне незразумелых (у першую чаргу вузкадыялектных) слоў, каментарыі.

Як справядліва заўважае В. М. Макіенка ў прадмове да «Большого словаря русских народных сравнений», «вытлумачэнне ўстойлівых параўнанняў – адна з найбольш складаных тэарэтычных і практычных праблем лексікаграфіі, ... а галоўнай задачай дэфініцыі з'яўляецца максімальнае праясненне семантыкі абарота і яго канкрэтная прывязка да чалавека, прадмета, з'явы ці сітуацыі, якія трапілі параўнання»[5].

Парадак размяшчэння раёнаў пасля вакабулярнага выразу адпавядае парадку крыніц, якія падаюцца па магчымасці ў храналагічным парадку іх падрыхтоўкі ці выдання. У загалоўным слове прыметнікі падаюцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку, дзеясловы (па магчымасці) – у форме інфінітыва. Стылістычныя паметы дапамагаюць вызначыць экспрэсіўна-эстэтычную інфармацыю.

1. У першым шэрагу размяшчаюцца пазнакі словаўтваральна-ацэначнага характару: *памянш.* – памяншальнае, *памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальнае, а таксама вылучаюцца прыказкі – *прык.*, фальклорныя выразы – *фальк.*

2. У другім (часцей гэта першая пазнака) – тэрытарыяльная. Межы Ваўкавыскага павета не дакладна супадаюць з межамі сучаснага Ваўкавыскага раёна, што абумовіла пазнаку *Ваўк. п.* Тое ж тычыцца іншых паветаў – Наваградскага, Сакольскага, Смаленскага. З іншага боку, пазнака павета ўжо на гэтым этапе сведчыць пра запіс параўнання ў XIX – пачатку XX ст.

3. Трэцяя пазнака – функцыянальна-стылістычная і ацэначная:

*Абуральн.* – абуральна
*Абразл.* – абразліва
*Асудж.* – асуджальна
*Вульг.* – вульгарна
*Груб.* – груба
*Жарт.* – жартоўна
*Захапл.* – з захапленнем
*Здзекл.* – здзекліва
*Зласл.* – зласліва
*Зняважл.* – зняважліва

---

[5] Мокиенко В. М., Никитина Т. Г. Большой словарь русских народных сравнений. – М., 2008. – С. 9.

*Іран.* – іранічна
*Кплів.* – кпліва
*Насмешл.* – насмешліва
*Незадав.* – незадавальняльна
*Няўхв.* – няўхвальна
*Пагардл.* – пагардліва
*Раздраж.* – раздражнёна
*Спачув.* – спачувальна
*Ухв.* – ухвальна.

Такая дэталізацыя пазнак дазваляе па магчымасці больш дакладна вызначыць адценні значэння ўстойлівых выразаў.

Парадак размяшчэння параўнанняў алфавітны, цэнтрам апісання выступаюць стрыжнёвыя словы, якія канцэнтруюць у сабе асноўны вобразны і экспрэсіўны сэнс параўнання. Між тым распісанасць параўнання па ўсіх яго кампанентах (не толькі стрыжнёвых) таксама важная, бо дазваляе прасачыць сістэмныя сувязі ў гэтым блоку народнай фразеалогіі ў цэлым. Так, загалоўнае слова сшыць аб'яднала ў сабе такі шэраг выразаў: *Век зжыў як мех сшыў; Век зжыць – не мех сшыць; Год пражыць – не лукошка сшыць; Век пражыць – не каробку сшыць; З жонкай пражыць – не штаны сшыць.* Хоць тлумачэнні гэтых параўнанняў падаюцца адпаведна пры стрыжнёвых словах – мех, каробка, штаны і інш.

У межах блока параўнанняў пры тым ці іншым стрыжнёвым слове выразы падаюцца згодна з алфавітным парадкам: напрыклад, пад стрыжнёвым словам ко́т ідуць спачатку ў алфавітным парадку параўнанні з кампанентам *ката*, потым *катом*, *кату*, *каты*, *кот* і г. д. Пры стрыжнёвых дыялектных словах пры неабходнасці даюцца адсылкі да літаратурных слоў, напрыклад: *асва*, гл. таксама *аса*.

У працэсе збірання па друкаваных крыніцах, архіўных зборах, у час палявых экспедыцый было выяўлена больш за 8 тыс. беларускіх народных параўнанняў.

Параўнанні застаюцца актыўным жанрам народнай творчасці. Геаграфічныя пазнакі падкрэсліваюць фіксацыю таго ці іншага параўнання ў дадзеным раёне, але зусім не абазначаюць яго прынцыповую адсутнасць у іншых раёнах. Хочацца спадзявацца, што слоўнік стане штуршком для збіральніцкай дзейнасці ва ўсіх рэгіёнах краіны.

Аўтары выказваюць самыя шчырыя словы падзякі за карысныя парады Зміцеру Саўку і Вераніцы Курцовай, за дапамогу ў тэхнічнай падрыхтоўцы – Валянціне Алефірэнка і Віктару Скакуну.

Будзем удзячныя за любыя заўвагі, пажаданні і асабліва дапаўненні, якія можна паслаць на электронны адрас tanja.valodzina@gmail.com.

*Т. Валодзіна*

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## Крыніцы

АВНЛ – Архіў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Аксамітаў – Аксамітаў А. Прыказкі і прымаўкі: тлумач. слоўн. бел. прыказак і прымавак з архіваў, кафедр. збораў, рэд. выд. XIX і XX стст. – Мінск, 2000.

Анимелле – [Анимелле]. Быт белорусских крестьян // Этнограф. сб. – СПб., 1854. – Вып. II.

Антырэліг. казкі – Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі / уклад. і прадм. А. Фядосік. – Мінск, 1961. – Выд. 2.

Арх. Гр. – Фальклорны архіў філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

АСЭТ – Архіў студэнцкага этнаграфічнага таварыства (г. Мінск, кіраўнік – А. Глушко).

Ахрым. – Ахрыменка П., Буцько М. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. – Гомель, 1957.

БА – Фальклорны архіў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Барадулін – Барадулін Р. Здубавецьця. – Мінск, 1996.

Барысюк, Буян – Барысюк У. У., Буян Н. М. З фразеалогіі вёскі Альманы Столінскага раёна // Скарбы народнай мовы: дыялекталаг. зб. / рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск, 2005. – С. 12–28.

БВ – Даніловіч М. А., Памецька Н. К., Піваварчык І. В. Беларускае вяселле. Абрад. Зычэнні. Тосты. Прыказкі. Фразеалагізмы (на матэрыяле Гродзеншчыны). – Гродна, 2000.

БД – Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і дaслед.: зб. навук. арт. – Мінск, 2010.

Босак – Босак А. А. Народны фразеалагічны слоўнік Верхняясельдскай гаворкі // Скарбы народнай мовы: Дыялекталаг. зб. / рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск, 2005. – С. 29–32.

БПФС – Aksamitow A., Czurak M. Słownik frazeologiczny białorusko-polski // Беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік. – Warszawa, 2000.

Булгаковский – Булгаковский Д. Г. Пинчуки. – СПб., 1890.

БФБ – Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Брэсцкая вобласць / склад. В. А. Захарава; пад рэд. Р. Р. Шырмы. – Мінск, 1973.

БФГ – Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць. – Мінск, 1989.

БФМ – Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Мінская вобласць. – Мінск,1995.

Бялькевіч – Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970.

ВА – Архіў кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.

Варлыга 1966 – Прыказкі Лагойшчыны / запіс. Адам Варлыга. – New-York; München, 1966.

Васильев – Васильев В. Белорусские пословицы. – Спб., 1844. – Т. 15. – С. 29–30; 1845. – Т. 22, с. 58; т. 23, с. 144.

Васюковіч – Васюковіч Л. З сённяшняй гаворкі (старонкі фразеалагічнага слоўніка) // Беларуская фразеалогія, лексікалогія / зб. арт. – Мінск, 1980. – С. 13–19.

Высл. – Выслоўі / склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. арт. і камент. М. Я. Грынблата; рэд. А. С. Фядосік. – Мінск, 1979.

Гавораць – Гавораць чарнобыльцы: З мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі: зб. арт. / склад. і навук. рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск, 1994.

Ганчук, Касцючык – Ганчук Т. А., Касцючык В. М. Матэрыялы да слоўніка Жабінкаўшчыны // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. – Мінск, 2010. – С. 84–85.

Гілевіч – Гілевіч Н. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 2005.

Гілевіч 2007 – Гілевіч Ніна. Слова – роднае, жывое, свабоднае: узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960-х – 1970-х. – Мінск, 2007.

Гор., Руд.– Горленка В., Рудакоўская З. З фразеалогіі Гомельшчыны // Полымя. – 1978, май. – С. 252–256.

Горленка – Горленка В. З гаворак Гомельшчыны // Полымя. – 1975. – № 9.

Гут. – Сучасны беларускі фальклор / склад. І. Гутараў. – Мінск, 1963.

ДА – Дыялекталагічны архіў кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.

Даль, Слов. – Даль В. И. Толковый словарь живого русского языка. – 3-е изд. – М., 1955. – Т. 1–4.

Даніловіч – Даніловіч М. А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. – Гродна, 2000.

Даніловіч 2008 – Даніловіч М. З дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны // Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск, 2008. – С. 125–138.

Даніловіч 2010 – Даніловіч М. З дыялектнай фразеалагічнай спадчыны // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. – Мінск, 2010.

Добровольский III – Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник: Пословицы. – СПб., 1894. – Ч. 3.

Добр., Смол. – Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. – Смоленск, 1914.

Дуб. – Беларускія пагаворкі і пасловіцы / сабраў Дубяйкоўскі Лявон [у Мсціслаўшчыне] (рукапіс) // Рукапісны аддзел бібліятэкі АН Літвы. – Фонд 21. – Мінск, 1979 (цыт. па: Выслоўі).

Дуб., Нар. – Народныя пагаворкі / сабраў Л. В. Дубяйкоўскі (рукапіс) // Аддзел рэдкай кнігі Фундамент. б-кі імя Я. Коласа НАНБ.

ЖН – Жывое наша слова: дыялекталаг. зб. – Мінск, 2001.

ЖНС – Жывое народнае слова: дыялекталаг. зб. – Мінск, 1992.

Жыв. сл. – Жывое слова. – Мінск, 1978.

ЗБоганевай – Запісы А. М. Боганевай.

ЗВалодзінай – Запісы Т. В. Валодзінай.

Зеленин – Зеленин Д. К. Описание рукописей Ученого Архива Императорского Русского Географического Общества. – Прага, 1914. – Т. 1.

ЗЗайкі – Запісы А. Ф. Зайкі.

ЗЛапаціна – Запісы Г. І. Лапаціна.

ЗЛобача – Запісы У. А. Лобача.

З нар. сл. – З народнага слоўніка. – Мінск, 1975.

ЗСалавей – Запісы Л. М. Салавей.

ЗСысова – Запісы У. М. Сысова.

ЗЯшкіна – Запісы І. Я. Яшкіна.

Каспяровіч – Касьпяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік (матэрыялы). – Мінск, 1927.

КВДУ – Картатэка кафедры дыялекталогіі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Киркор – Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнограф. сб. – СПб., 1858. – Вып. III.

Козенка – Козенка М. А. Абрамовіч М. А. Традыцыйнае вяселле Мядоцкага краю. – Мінск, 2005.

Крэмнеў – Крэмнеў М. Ц. Прыказкі і пагаворкі, сабраныя сярод беларускага насельніцтва паўночных паветаў Чарнігаўскай губ. // Арх. ІМЭФ. – Фонд 9. – Воп. 2. – Спр. 22–23.

Кучук, Малюк – Кучук І. М., Малюк А. К. Палескі слоўнік. Лельчыцкі раён. – Мазыр, 2000.

ЛА – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; уклад. А. П. Груца [і інш.]. – Т. 1–5. – Мінск, 1993–1998. – Т. 3: Чалавек. – Мінск, 1996.

Леп. – Лепешаў І. З народнага // ЛіМ. – 1972. – 16 чэрв. – С. 16.

Лучыц-Федарэц І. І. Адмоўная экспрэсіўная лексіка. Матэрыялы да слоўніка Брэстчыны // Народная лексіка. – Мінск, 1997. – С. 221–223.

ЛЦ – Ліцвінка В. Д., Царанкоў Л. А. Слова міма не ляціць. – Мінск, 1985.

Ляцкий – Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. – Вып. 1: Пословицы, поговорки, загадки. – М., 1898.

Мат. – Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы / пад рэд. Ф. Янкоўскага. – Мінск, 1960.

Мат. Гом., III – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1976. – С. 134–272. – Вып. 3.

Мат. Гом., IV – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1975. – Вып. 4.

Мат. Гом., V – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1977. – Вып. 5.

Мат. Гом., VI – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1978. – Вып. 6.

Мат. Гом., VII – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1979. – Вып. 7.

Мат. Гом., VIII – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1980. – Вып. 8.

Матэрыялы 1981 – Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны / уклад. М. В. Абабурка, Л. І. Аляксеенка, М. П. Бузук [і інш.]. – Мінск, 1981.

Мін.-Мал., 1970 – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / пад рэд. М. А. Жыдовіч. – Мінск, 1970.

Мін.-Мал., 1974 – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / пад рэд. М. А. Жыдовіч. – Мінск, 1974.

Мін.-Мал., 1977 – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / пад рэд. М. А. Жыдовіч. – Мінск, 1977.

МК – Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. – Мінск, 1972.

Нар. лекс. – Народная лексіка. – Мінск, 1997.

Нар. слов. – Народная словатворчасць. – Мінск, 1979.

Нар. скарбы – Народныя скарбы: дыялекталаг. зб. (Да 80-годдзя А. А. Крывіцкага) / рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск, 2008.

«Ніва» – «Ніва»: Беларус. грамад.-культ. тыднёвік. – Беласток.

Никифоровский – Никифоровский Н. Я. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии // Записки Северо-Западного отдела РГО. – Вильна, 1910. – Кн. I. – С. 197–207; 1911. – Кн. II. – С. 142–154; 1912. – Кн. III. – С. 300–303.

Нікіфароўскі 1924 – Нікіфароўскі Н. Я. Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі // Крывіч. – Коўна, 1924. – № 1. – С. 13–23.

Нікіфароўскі 1928 – Нікіфароўскі М. Напоўпрыказкі-напоўпрыслаўкі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. – Кн. 4: Працы катэдры этнографіі Інстытута беларускай культуры. – Т. 1, сш. 1. – Мінск, 1928. – С. 81–115.

НН – Слоўнік мовы «Нашай нівы» (1906–1915): у 5 т. – Т. 1: А–Д / уклад. А. М. Анісім [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск, 2003.

НН 1911 – Наша Ніва. Першая беларуская газэта з рысункамі (факсімільнае выд. Вып. 4. 1911 г.). – Мінск, 2003.

Нос. – Носович И. И. Сборник белорусских пословиц // ИОРЯС. Т. 12. 1874. № 2.

Носович – Носович И. И. Словарь белорусского наречия. – СПб., 1870.

ПП 1 – Прыказкі і прымаўкі: у 2 кн. – Мінск, 1978. – Т. 1.

ПП 2 – Прыказкі і прымаўкі: у 2 кн. – Мінск, 1978. – Т. 2.

Пяткевіч – Пяткевіч Ч. Рэчыцкае Палессе / уклад., прадм. У. Васілевіча; пер з пол. Л. Салавей і У. Васілевіча. – Мінск, 2004.

Рабкевіч – Рабкевіч В. Паслухай, што людзі кажуць: беларускія народныя прыказкі, прыкметы, жарты. – Мінск, 1985.

Рапановіч – Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі / склад. Я. Рапановіч. – Мінск, 1974.

Расторгуев – Расторгуев П. А. Словарь народных говоров западной Брянщины. – Мінск, 1973.

Ройзензон – Ройзензон Л. И., Бадясников А. В., Шугорова З. А. Словарь белорусской диалектной фразеологии д. Гребени (Лельчицкого р-на Гомельской обл.) // Тр. Самаркандского ун-та. – Самарканд, 1975. – Вып. 272.

Ром., Бел – Романов Е. Р. Белорусский сборник. – Т. 1, вып. 1, 2: Песни, пословицы, загадки. – Киев, 1886.

Ром., Зап. – Древние русские пословицы (сообщение Е. Р. Романова) // Записки Северо-Западного отдела РГО. – Вильна, 1910. – Кн. I. – С. 214–216; 1912. – Кн. III. – С. 221–236.

Романов 1901 – Романов Е. Белорусский сборник. – Вып. 6: Сказки. – Могилев, 1901. – С. 86–91.

Санько – Санько З. Ф. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мінск, 1991.

Сахараў – З матэрыялаў С. П. Сахарава. – Вып. III: Казкі, апавяданні, прыказкі і загадкі, 1944 (рукапіс) // АІМЭФ. – Фонд 9. – Воп. 3. – Спр. 13 [усх. р-ны Латвіі].

Сержп. – Сержпутовский А. Сборник белорусских пословиц и поговорок // АИМЭФ. – Фонд 9. – Оп. 2. – Д. 121.

Сержпутоўскі 1998 – Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. – Мінск, 1998.

Сержпутоўскі 1999 – Сержпутоўскі А. К. Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў. – Мінск, 1999.

Сержпутоўскі 2000 – Сержпутоўскі А. К. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета. – Мінск, 2000.

Скарбы – Скарбы народнай мовы: дыялекталаг. зб. / рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск, 2005.

Слов. брян. – Словарь брянских говоров. – Вып. I / ред. В. Н. Чагишева. – Л., 1976.

СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск, 1979–1986. – Т. 1–5.

СРЛГ – Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / пад рэд. М. А. Даніловіча, П. У. Сцяцко. – Гродна, 1999.

Станкевіч – Станкевіч Я. Белорусско-русский (Великолитовско-русский) словарь. – Нью-Йорк, 1995.

СЦБ – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. – Мінск, 1990. – Т. 1.

Сцяцко 1970 – Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік (З гаворак Зэльвеншчыны). – Мінск, 1970.

Сцяцко 2005 – Сцяцко П. У. Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны. – Гродна, 2005.

Сцяшковіч – Сцяшковіч Т. В. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1983.

ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Мінск, 1982–1987. – Т. 1–5.

ФА – Фальклорны архіў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта (кіраўнік У. А. Васілевіч).

Фед. Арх. – Архіў М. Федароўскага ў Варшаве.

Федароўскі – Federowskij M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. – Kraków, 1897. – Т. 1.

ФСБМ – Лепешаў І. Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1993. – Т. 1–2.

ФСГ – Фальклорны слоўнік Гомельшчыны / У. А. Анічэнка [і інш.]. – Гомель, 2003.

Цыхун – Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы (з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага р-на). – Мінск, 1993.

Шаталава – Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. – Мінск, 1975.

Шатэрнік – Шатэрнік Н. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. – Мінск, 1929.

Шейн – Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. – СПб, 1893. – Т. II.

Шимановский – Шимановский А. Н. Минская губерния и ее народное творчество в связи с описанием народных праздников и обрядов // Архив Российского географического общества (РГО, Санкт-Петербург). – Фонд 20. – Оп. 8.

Шпилевский – Шпилевский П. Белорусские пословицы // Изв. Импер. АН по отд-нию рус. языка и словесности. – СПб, 1853. – Т. 2. – С. 174–192.

Шырма – Шырма Р. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі. – Мінск, 1947.

Юрч. – Юрчанка Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. А–Л. – Мінск, 1981.

Юрчанка – Юрчанка Г. Ф. Народнае мудраслоўе: слоўнік. – Мінск, 2002.

Юрчанка 1969 – Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. – Мінск, 1969.

Юрчанка 1972 – Юрчанка Г. Ф. І коціцца і валіцца. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворках Мсціслаўшчыны. – Мінск, 1972.

Юрчанка 1974 – Юрчанка Г. Ф. І сячэ і паліць. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворках Мсціслаўшчыны. – Мінск, 1974.

Юрчанка 1977 – Юрчанка Г. Ф. Слова за слова. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворках Мсціслаўшчыны. – Мінск, 1977.

Юрчанка 1993 – Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексіка: з гаворкі Мсціслаўшчыны. А–Н. – Мінск, 1993.

Юрчанка 1998 – Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексіка: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўнік. Р–Я. – Мінск, 1998.

Янк. – Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы // склаў Ф. Янкоўскі. – Мінск, 1992.

Янк., Дыял. І – Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 1959–1970. – Вып. 1–3. – Вып. 1. – 1959.

Янк., Дыял. ІІІ – Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 1959–1970. – Вып. 1–3. – Вып. 3. – 1959.

Янк., Пар. – Янкоўскі Ф. Беларускія народныя параўнанні: кароткі слоўнік. – Мінск, 1973.

Янкова – Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. – Мінск, 1982.

Янкоўскі – Янкоўскі Ф. Дыялектны зборнік. – Мінск, 1972. – Вып. 3.

Янкоўскі 1968 – Янкоўскі Ф. М. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. – Мінск, 1968.

Янкоўскі 1971 – Янкоўскі М. А. Паэтыка беларускіх прыказак. – Мінск, 1971.

Янук. – Сказаў, як звязаў. Беларускія прыказкі, прымаўкі, жарты і выслоўі / зап. У. Януковіч // Беларусь. – 1963. – № 4. – С. 30; № 11. – С. 31.

Янчук – Янчук Н. По Минской губ. // Зборник сведений для изучения быта крестьянского населения России. – М., 1889. – Вып. 1. – С. 213–221.

Яўсееў – Яўсееў Р. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага р-на. – Мінск, 1978.

Czeczot – Czeczot J. Piosnki wieśniacze nad Niemna i Dźwiny. – Wilno, 1846.

Dybowski – Dybowski W. Prysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego // Materiały i prace Komisyi językowej. – Kraków, 1903. – T. II.

Federowski – Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. – Warszawa, 1935. – T. 4.

Jelski – Jelski A. 100 pzykazak, prydumak i gawendau dla Białoruskaha (Krywickaha) narodu. – Wilno, 1908.

Kolberg – Kolberg O. Dzieła wszystkie: w 23 t. – T. 52: Białoruś-Polesie. – Wrozław-Poznań, 1968.

Pietkiewicz – Pietkiewicz C. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego: Materiały etnograficzne. – Warszawa, 1938.

Sielicki – Sielicki F. Wierzenia i obyczaje na Wielejszczyźnie w okresie międzywojennym. – Wrocław, 1991.

Tyszkiewicz – Tyszkiewicz Cz. E. Opisanie powiatu Borysowskiego. – Wilno, 1847.

Varłyha – Varłyha A. Krajovy słoŭnik Łahojščyny. – New Jork, 1970.

Wereńko – Wereńko F. Przyczynek do lecznictwa ludowego // Materiały anrtopołogiczno-archeołogiczne i etnograficzne. – Kraków, 1896. – T. 1. – S. 99–229.

## Назвы раёнаў

Акц. – Акцябрскі
Арш. – Аршанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бабр. – Бабруйскі
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. – Барысаўскі
Беласт. – Беластоцкі (Польшча)
Бераст. – Бераставіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Б.-Каш. – Буда-Кашалёўскі
Браг. – Брагінскі
Бран. – Бранскі (Расія)
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Бых. – Быхаўскі
Бял.– Бялыніцкі
Бяр. – Бярэзінскі
Валож. – Валожынскі
В.-Дзв. – Верхнядзвінскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Ваўк. п. – Ваўкавыскі павет
Ветк. – Веткаўскі
Віл. – Вілейскі
Вілен. – Віленскі (Літва)
Віцеб. – Віцебскі
Воран. – Воранаўскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Глуск. – Глускі
Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі
Гродз. п. – Гродзенскі павет
Даўг. – Даўгаўпілскі (Латвія)
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дубр. – Дубровенскі
Езяр. – Езярышчанскі (расфарміраваны, зараз у складзе Гарадоцкага р-на)
Ельск. – Ельскі

Жабін. – Жабінкаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Ігн. – Ігналінскі (Літва)
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капатк. – Капаткевіцкі (расфарміраваны, зараз у складзе Петрыкаўскага р-на)
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Кір. – Кіраўскі
Клецк. – Клецкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі
Лаг. – Лагойскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лід. – Лідскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Міл. – Мілаславіцкі (расфарміраваны, цяпер у складзе Клімавіцкага р-на)
Мін. – Мінскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Нав. п. – Навагрудскі пав.
Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі

Пін. – Пінскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Раснян. – Раснянскі (расфарміраваны, цяпер у складзе Дрыбінскага р-на)
Рэч. – Рэчыцкі
Сак. п. – Сакольскі павет Гродзенскай губ., зараз на Беласточчыне
Саліг. – Салігорскі
Светл. – Светлагорскі
Свісл. – Свіслацкі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуцк. – Слуцкі
Смаляв. – Смалявіцкі
Смал. п. – Смаленскі павет
Смарг. – Смаргонскі
Сміл. – Смілавіцкі
Старадар. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Сур. – Суражскі (расфарміраваны, цяпер у складзе Віцебскага р-на)
Тал. – Талачынскі
Трак. – Тракайскі (Літва)
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі
Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі
Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чашн. – Чашніцкі
Чыж. – Чыжэўскі (Польшча)
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі
Шальч. – Шальчынінскі (Літва)
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Швянч. – Швянчонскі (Літва)
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

# А

| | |
|---|---|
| ***аба́бак*** | **ціхі як аба́бак.** *Добр. Спачув.* Пра ціхага, бяскрыўднага чалавека. Мат. Гом., ІІІ, 161.< Абабак – падбярозавік. |
| ***абакра́сці*** | пра́ўда як сляпы́ го́лага абакра́ў. Гл. сляпы. |
| ***абара́нак*** | **лёгка як абара́нак з’е́сці.** *Слуцк.* Пра выкананне нескладанай справы, якая пад сілу кожнаму. Сержпутоўскі 1999, 30. |
| | як за грош абара́нак. Гл. грош. |
| ***абарва́ны*** | хадзіць як саба́ка з абарва́най вяро́ўкай. Гл. сабака. |
| ***абблу́таны*** | **хадзіць як абблу́таны.** *Сміл.* Пра няўпэўненую і нязграбную павольную хаду. Шатэрнік, 2. |
| ***абда́ць*** | як жа́рам абдало́. Гл. жар. |
| ***абдзёрты*** | прыкме́тны як з абдзёртым но́сам. Гл. нос. |
| ***абдзіра́ны*** | то́лку як з абдзіра́най кнігі. Гл. кніга. |
| ***абе́д*** | **До́бры сусе́д як сы́тны абе́д.** *Слуцк. Прык.* Пра суседа, якога выгадна, карысна мець. Сержпутоўскі 1999, 186. |
| | збіра́цца (пле́сціся, паўзці) як ста́рцы на абе́д. Гл. старац. |
| | патрэ́бен як гарчы́ца пасля́ абе́ду. Гл. гарчыца. |
| ***аб’е́ўшыся*** | бе́гаць як блёкату аб’е́ўшыся. Гл. блёкат. |
| | гавары́ць як бо́бу аб’е́ўшыся. Гл. боб. |
| | як мух аб’е́ўшыся. Гл. муха. |
| ***абла́ва*** | захадзіць як воўк у абла́ві. Гл. воўк. |
| ***аблі́заны*** | **глядзе́ць як аблі́заны.** *Пагардл.* Пра прысаромленага чалавека. Нос., 24; Крэмнеў, № 187. |
| | **сядзе́ць як аблі́заны.** *Пруж. Пагардл.* Пра прысаромленага чалавека. Рабкевіч, 197. |
| ***аблiза́ць*** | як чорт аблiза́ў (пацалава́ў). Гл. чорт. |
| | пазіра́ць як мя́ла аблiза́ў[шы]. Гл. мяла. |
| ***аблі́ць*** | як халадзёнкай аблілі́. Гл. халадзёнка. |
| | спаце́ць як ва́ром абліло́. Гл. вар. |
| ***аблі́ты*** | вы́йсці як хало́днаю вадо́ю аблі́ты. Гл. вада. |
| | вы́скачыць як ва́рам аблі́ты. Гл. вар. |
| | што малако́м аблі́ты. Гл. малако. |
| | як памы́ямі аблі́ты. Гл. памыі. |
| | як кіпятко́м аблі́тый (ашпа́раный). Гл. кіпяток. |
| | цвіце́ сад як молоко́м облі́ты ўсей. Гл. малако. |
| ***аблу́дны*** | **адзі́н як аблу́дны.** *Дзятл. Няўхв.* Пра нязручнасці жыцця адзінокага чалавека, няўпэўненасць яго ўнутранага стану. ФА. |
| ***аблу́плены*** | **ве́даць** *каго* **як аблу́пленага.** *Івац.*, *Мсцісл.*, *Пруж.* Пра дасканалыя, да ўнутраных падрабязнасцяў веды пра каго-н. Бялькевіч, 27; Босак, 30; ЗЗайкі. |
| | гато́ва як яе́чка аблу́пленае. Гл. яечка. |
| | завішча́ць як аблу́плены пяту́х. Гл. пятух. |

ве́даць *каго* як аблу́пленую кабы́лу. Гл. кабыла.
ве́даць *каго* як аблу́пленую казу́. Гл. каза.

***аблямо́ўка*** **Мужыку́ жо́нка як жы́ду аблямо́ўка.** *Прык.* Пра ролю жонкі ў сям'і, калі яна ўпрыгожвае мужа. БВ, 122. < Аблямоўка – абшыўка краёў вопраткі першапачаткова лямай (парчой), а потым іншай прыгожай тканінай, канчатковае афармленне, упрыгожанне (відаць, пераважна ў гарадскім асяроддзі, мода ў яўрэяў).

***абмёрзлы*** доўбсці як гусь обме́рзлэ коры́то. Гл. гусь.

***абмо́клы*** стая́ць як ча́пля абмо́кла. Гл. чапля.
**хадзі́ць як абмо́клы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра прыгнечанага, прысаромленага, панурага чалавека. Federowski, 48.

***абмо́тка*** **як абмо́тка пе́рад сапаго́м (бо́там).** *Мсцісл. Іран.* Пра высакамерныя паводзіны ніжэйшага ў сацыяльнай іерархіі, які выхваляецца, ганарыцца на пустым месцы. Юрчанка, 177.

***або́з*** **загрукаце́ць як або́з на мо́сце.** *Слуцк. Іран.* Пра моцны грукат. Сержпутоўскі 1998, 34.

***або́ра*** Анто́сь ды Тадо́ра – што ла́паць ды або́ра. Гл. лапаць.
дзялі́ць як То́дар з Тадо́раю [ла́паць з або́раю]. Гл. Тодар.
упусці́ць як во́ўка да гаве́ц [у хлеў, або́ру]. Гл. воўк.

***абпалі́ць*** Паклёп (плёткі) як са́жа: калі не абпа́ліць, то запэ́цкае. Гл. сажа.
працí́ўны як каба́н абпа́лены. Гл. кабан.

***абро́ць*** заскака́ць як конь, яко́га пе́ршы раз узя́лі ў абро́ць (уці́снулі ў агло́блі). Гл. конь.
надзява́ць як на ко́шку абро́ць. Гл. кошка.
падыхо́дзіць як кату́ абро́ць. Гл. кот.

***абру́ч*** **ро́ўны як абру́ч.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта не такое роўнае, як хацелася б. Federowski, 247.
разваліцца (рассы́пацца) як бо́чка без абручо́ў. Гл. бочка.
трэ́ба як бо́чка без абручо́ў. Гл. бочка.
як бо́чка без абручо́ў. Гл. бочка.

***абрэ́зкі*** разбіра́цца як свіння́ ў калба́сных абрэ́зках. Гл. свіння.

***абсе́клы*** лы́сы як пень абсе́клы. Гл. пень.

***абсма́лены*** бе́гаць як мыш абсма́леная. Гл. мыш.

***абтра́ўлены*** хадзі́ць як ры́ба абтра́ўленая. Гл. рыба.

***абу́х*** **дурны́ як абу́х.** *Слон. Няўхв.* Пра дурнога, тупаватага чалавека. Высл., 316. < У адрозненне ад ляза секеры, якое вострае і прыдатнае на розныя справы, абух – тупы, ім толькі кліны забіваць.
распра́віцца як абу́х з клі́нам. *Мсцісл.* Пра нейкую рашучую расправу з кім-н. Юрчанка, 177.
**тупы́ як абу́х.** Санько, 188. Тое, што дурны як абух.
**даў (вы́цяла бяда́) як абу́хам па галаве́.** *Лаг., Слуцк.* Кажуць пасля нечаканай жудаснай весткі. Высл., 311; Сержпутоўскі 1999, 22.
ля́паць як у сце́нку абу́хам. *Клецк.* Пра моцны, грубы стук. МК, 307.
**як абухо́м б'ець.** Пра моцнае, з усяе сілы ляпанне, стук, крык. Нос., 165.
[прывы́кнуць] бы вул до обуха́. Гл. вол.

***абцугі*** ціснуць як у апцугóх. *Віл.* 1. *Няўхв.* Пра дыскамфортнае адчуванне, боль ад нашэння цеснага абутку. 2. Пра сцісканне чаго-н. СПЗБ 5, 361.
узя́ць як кава́ль абцэ́нгамі жале́за. Гл. каваль.

***абэ́рда*** **як абэ́рда.** *Гродз. Асудж.* Пра нешта вялікае, непрыгожае. Цыхун, 9. < Абэрда – недарэчны будынак вялікіх памераў.

***аб'ядáла*** **жраць што аб'ядáла** [які]. *Брасл. Асудж.* Пра празмерны апетыт. СПЗБ 1, 45. < Аб'ядала – абжора.

***абяз'я́на*** **скаму́рдзіцца як абязья́на.** *Сен. Няўхв. Груб.* Пра чый-н. скрыўлены, зморшчаны твар. Каспяровіч, 281.

***авадзéнь*** **сляпы́ як авадзён.** *Слон. Пагардл.* Пра сляпога чалавека. Нар. слов., 30. < Асобны падвід аваднёў і называецца «сляпень».
**бóмкаць (бзы́іць) як авадзéнь.** *Івац.*, *Слон. Кплів.* Пра дакучлівую, незразумелую гаворку. Высл., 288; ЗЗайкі.
**даку́члівы як авадзéнь.** *Мін. Няўхв.* Пра назойлівага, дакучлівага чалавека. ЛЦ, 103.
**нахлябтáцца як авадзéнь.** *Слон. Пагардл.* Пра чалавека, які моцна, многа выпіў. Высл., 353.
махáць галавóю як конь ад аваднёў. Гл. конь.
уцякáць (бéгчы) як карóва ад аваднёў. Гл. карова.
**гудзéць як авадні́.** Янк., Пар., 45. Тое, што бомкаць як авадзень.

***авёс*** лы́біцца як конь на авёс. Гл. конь.
**спаць як авёс прадáўшы.** *Воран. Жарт.* альбо *іран.* Пра нейчы моцны бесклапотны сон. Даніловіч, 211.
так як ад гу́сі авёс купля́ць. Гл. гусь.
пазычáць як у гу́сі аўсá. Гл. гусь.
уцякáць што кабы́ла ад аўсá. Гл. кабыла.
хацéць як кабы́ла аўсá. Гл. кабыла.
храпсці́ як конь каля́ аўсá. Гл. конь.
як конь каля́ аўсá. Гл. конь.
бéгчы (пабéгчы) услéд за ім (ёю) як конь за тóрбай з аўсóм. Гл. конь.
захацéцца як кабы́ле аўсу́. Гл. кабыла.

***авéчка***, *гл. таксама* ***аўца*** **аднóй – як авéчка бляéць: ні туды́ ні сюды́.** *Сен.* Пра чалавека, які пачувае сябе разгубленым і бездапаможным. ПП 2, 38.
**бляя́ць як авéчка.** *Івац. Няўхв.* Пра нейчыя стогны, нараканне, пустую гамонку. ЗЗайкі.
**Дару́ свéчку, каб не былá як авéчка.** *Фальк.* Пажаданне быць упэўненай у сабе. БВ, 42.
**дурны́ як авéчка.** *Асудж.* Пра чалавека недалёкага, які слаба арыентуецца ў справах. Янк., Пар., 56.
**жвáкаць як авéчка.** *Сен. Пагардл.* Пра непрыгожую манеру есці. Каспяровіч, 107.
**задры́паная як авéчка.** *Сміл. Пагардл.* Пра неахайную жанчыну, па аналогіі з воўнай гэтых жывёл, якая лёгка забруджваецца. Шатэрнік, 100.

**запы́рхаць як аве́чка.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, які задыхаўся пры хадзьбе, бегу. МК, 145.
**пако́рны як аве́чка.** Пра пакорлівую, ціхмяную, сціплую асобу. БПФС, 22.
**чмя́каць як та́я аве́чка.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які пры спажыванні ежы робіць непрыемныя гукі. Шатэрнік, 306.
як нявінная аве́чка. *Мсцісл.* Пра чалавека, які прыкідваецца невінаватым. Юрчанка, 192.
ша́рыць вачы́ма як воўк па аве́чках. Гл. воўк.
**ба́бы як аве́чкі бягу́ць.** *Няўхв.* Пра жанчын, што бягуць гуртам, адна за адной, не арыентуючыся. Высл., 283.
бая́цца як воўк аве́чкі. Гл. воўк.
**вэ́льваль як у паро́снае аве́чкі ўсёро́ўно.** *Зэльв. Няўхв.* Пра вялікі жывот. СРЛГ, 28. < Вэльваль – жывот.
**збі́цца як аве́чкі.** *Насмешл.* Пра натоўп людзей. Янк., Пар., 69.
збі́цца ў ку́чу як аве́чкі ў дождж. *Чэрык.* Пра натоўп людзей. ЛЦ, 106. Тое, што збіцца як авечкі.
**пладзі́цца як аве́чкі ў хляве́.** Пра актыўнае размнажэнне каго-н. Federowski, 377.
**абіры́чыць (абстры́гчы, абу́бніць)** *каго* **як аве́чку.** *Стаўб., Сміл., Лаг., Лоеў. Асудж.* Пра нестараннае, паспешлівае падстрыганне каго-н. Нар. слов., 83; Шатэрнік, 178; Мін.-Мал., 1977, 10; Янкова, 170; ТС 3, 240. < Абірычыць – абстрыгчы нядбайна, нароўна.
**адбі́ць** *каго* **як аве́чку ад ста́да.** *Івац., Маладз. Спачув.* Пра дэзарганізаванне каго-н., увядзенне яго ў няпэўны, роспачны стан. Высл., 280; ЗЗайкі.
глядзе́ць як воўк на аве́чку. Гл. воўк.
Да пяці год пясту́й дзіця́ як яе́чка, з сямі́ пасі́ як аве́чку – тады́ вы́йдзе на чалаве́чка. Гл. яечка.
пацягну́ць як воўк аве́чку. Гл. воўк.
схапі́ць як воўк аве́чку. Гл. воўк.
**як старо́й аве́чцы жыць.** *Ваўк., Капыл. Спачув.* Пра дрэннае жыццё. Сцяшковіч, 620; БД, 146.
пагляда́ць (пазіра́ць) як воўк на гаўцу́ (аве́чку). Гл. воўк.
**бы овэ́чка дурна́я.** *Драг. Няўхв.* Пра бесталковую мітуслівую жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222.
**крыча́ць бу ове́чкі ты́е кручо́ные.** *Жытк. Няўхв.* Пра моцны, пранізлівы, непрыемны для слуху крык. ТС 5, 323.
**ка́шляць бы овэ́чка.** *Кам.* Пра сухі часты кашаль. ЖН, 43.
**пакара́ны як гаве́чка.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра пакаранага, набітага чалавека. Federowski, 212. < Авечка – бяскрыўдная жывёліна і вечная ахвяра.
**чатаваць** *каго* **як воўк гаве́чку.** *Ваўк. п.* Пра пільнае адсочванне, вартаванне каго-н. Federowski, 65. < Чатаваць – вартаваць, пільнаваць (польск. czatować).

***аве́чы*** прыста́ць як дзядо́ўнік да аве́чага (саба́чага) хваста́. Гл. дзядоўнік.
прычапіцца як рэпе́й к аве́чаму хвасту́. Гл. рэпей.
абрасці́ як аве́чая нага́. Гл. нага.
дрыжа́ць (трасці́ся, мата́цца, скака́ць) як аве́чы (бара́нні, бара́нчыкаў) хвост (хво́сцік). Гл. хвост.
зацёпывацца як аве́чы хвост. Гл. хвост.
сэ́рца дрыжы́ць як аве́чы хво́сцік. Гл. хвосцік.
як хвост аве́чы. Гл. хвост.

***агаро́д,*** *гл.* ***гарод***

***аглабля́,*** *гл.* ***аглобля***

***аглашо́ны*** **крыча́ць як аглашо́ны.** *Нав. п., Кір. Няўхв.* Пра моцны, непрыемны, бязмэтавы крык. Federowski, 154; Нар. слов., 65.
**насі́цца як аглашо́ны.** *Смал. п., Бял. Карэл. Няўхв.* Пра бязмэтавы рух, мітусню. Добр., Смол., 569; Яўсееў, 20; Нар. слов., 102.
**бе́гчы як аглашэ́нная.** *Лоеў., Слаўг. Няўхв.* Пра хуткі, імклівы бег. Янкова, 19; Матэрыялы 1981, 9; Нар. слов., 83.

***агло́бля*** **як аглабля́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра высокага, худога чалавека. Юрчанка, 177.
заскака́ць як конь, яко́га пе́ршы раз уці́снулі ў агло́блі. Гл. конь.
не хо́чацца як ляно́му каню́ ў агло́блі. Гл. конь.
убі́цца як ду́рань у агло́блі. Гл. дурань.
Шча́сце не конь – у агло́блі не запражэ́ш. Гл. конь.
**ба́ба як агло́бля.** *Шчуч. Асудж.* Пра непрывабную жанчыну. Арх. Гр.
**до́ўгая як агло́бля.** *Карэл. Няўхв.* Пра высокую нязграбную дзяўчыну/жанчыну. Высл., 314.
**як агло́бля.** *Гродз. Няўхв.* Пра высакарослага чалавека. Цыхун, 175.
**як агло́бляй па зуба́х агрэ́ць.** *Брэсц. Груб.* Пра нечаканую вестку. ЛЦ, 62.

***аго́нь*** папра́віцца як скура́т на агне́. Гл. скурат.
**асцяро́жна як з агнём.** *Ваўк. п., Слон.* Пра максімальна асцярожнае абыходжанне з чым-н. Federowski, 10; Высл., 282.
**ве́цер зі́мні про́ста як агнём па́ліць.** *Слон. п.* Пра моцны сівер. Federowski, 331.
**во́чы пыла́юць агнём.** Пра чалавека ва ўзбуджаным стане, пра чый-н. гнеўны погляд. НН, 292.
**куса́чыя му́хі як агнём пяку́ць.** *Ветк.* Пра балючыя ўкусы мух. Мат. Гом., IV, 270.
**палі́ць (смалі́ць) як агнём.** *Краснап., Лаг., Слон.* 1. Пра дотык нечым моцна гарачым. 2. Пра моцны боль у грудзях. Federowski, 7, 118; Бялькевіч, 404; Высл., 360.
**пячы́ вача́мі як агнём.** *Рэч.* Пра жаночыя заляцанні, жаркія погляды. Пяткевіч, 559.
**як агнём апякло́** *каго. Леп.* Пра дотык нечым распаленым, гарачым. ЗВалодзінай.

**як агнём пячэ́.** *Ваўк.*, *Слон. п.* Federowski, 179; Янк., 442; Нар. лекс., 56. Тое, што паліць (смаліць) як агнём.
**як агнём спалíла** *каго.* Пра нейчае рашучае і безнадзейнае знікненне. АВНЛ.
**адзéнне ляцíць як на агнí.** *Лаг.* Пра адзенне, якое хутка зношваецца, пра неберажлівую носку адзення. Varłyha, 38.
**вóчы блішчáць як агнí.** *Мядз.* Пра чый-н. гнеўны погляд. СПЗБ 5, 278.
выкрýчвацца як скурáт на агнí. Гл. скурат.
выпінáцца (напінáцца) як скурáт (шкурáт) на агнí. Гл. скурат.
**галавá як у агнí.** *Бял.* Пра хваравіты стан, гарачку, тэмпературу. Бялькевіч, 427.
**гарэ́ць як у агнí.** *Лаг.* Пра высокую тэмпературу. Varłyha, 42.
**знíкнуць як у агнí згарэ́ць.** *Астр.* Пра бясследнае знікненне чаго-н. Даніловіч, 255.
круцíцца як бярóста на агнí. Гл. бяроста.
прáвіцца як скурáт на агнí. Гл. скурат.
**як на агні гары́ць.** *Іўеў.*, *Слон.*, *Лаг.* Пра адзенне, якое вельмі хутка зношваецца. Сцяшковіч, 616; Varłyha, 38.
**як на агні згарэ́ў.** *Мядз.*, *Драг.* Пра зношаны, стаптаны абутак. СЦБ, 161; ЖНС, 83.
**бая́цца як агню́.** *Івац.* Пра панічны страх перад нечым. ЗЗайкі.
**бéгчы як агню́ ўхапíўшы.** Пра хуткі і разам з тым асцярожны бег. Санько, 70.
**Ваду́ бóйся як і агню́.** *Светл. Прык.* І агонь, і вада аднолькава небяспечныя. ПП 1, 58.
**вы́скачыць як з агню́.** *Івац.* Пра разгарачонага чалавека, які доўга спрачаўся ці сварыўся. ЗЗайкі.
**вы́хапіць** *што* **як з агню́.** Пра хуткае, умомант вырataванне чаго-н. Янк., Пар., 32.
**забяжы́цца (пабýдзе) як агню́ ўхапíўшы.** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Пол.* Пра вельмі кароткі візіт. Federowski, 207; З нар. лекс., 15; ЗЗайкі.
**панéсціся як агню́ ўхапíўшы.** *Маладз.* Пры імклівы, паспешны бег. Янк., 1968, 427.
**прыбéгчы як агню́ пазы́чыць (ухапíць).** *Івац.* Пра вельмі кароткі, мітуслівы візіт каго-н. Даніловіч, 211; ЗЗайкі.
**рваць як з агню́.** *Дзятл.*, *Воран.* Пра вельмі хуткую, энергічную працу. Даніловіч, 164.
**стая́ць як на агню́.** *Ваўк. п.* Пра нейчыя неспакойныя паводзіны, узбуджанасць. Federowski, 289.
**ухапíць як з агню́.** *Лоеў.* Пра хуткае, імклівае хапанне чаго-н. Янкова, 20.
**уцякáць як ад агню́.** *Ваўк. п.*, *Івац.* Пра панічныя ўцёкі. Federowski, 316; ЗЗайкі.
**хватáць як з агню́.** *Ваўк. п.* Federowski, 56. Тое, што рваць як з агню.

**як агню́ бая́цца (сцерагчыся).** Пра моцны, панічны страх перад чым-н., кім-н. *Брасл.*, *Гродз.*, *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Лаг.*, Federowski, 20; Сержпутоўскі 1999, 185. Янкоўскі, 232; Цыхун, 124; СЦБ, 37; СПЗБ 1, 49; ЗЗайкі.

Без дачкí сям'я́, што печ без агня́. Гл. печ.

**бая́цца як аго́нь вады́.** *Мсцісл.* Юрчанка, 177. Тое, што як агню баяцца.

**бы́стры як аго́нь.** *Ваўк. п., Глыб.* Пра вельмі хуткага, імклівага чалавека, жывёлу. Federowski, 46; Высл., 288.

**бяро́цца як аго́нь.** Пра хуткае распаўсюджванне чаго-н. Янк., Пар., 21.

**валасы́ як аго́нь гара́ць.** *Чэрык.* Пра яркі, вогненна-рыжы колер валасоў. Бялькевіч, 391.

**гара́чы як аго́нь.** *Сак. п.* Пра ўспыльчывы, гарачы характар. Federowski, 103.

**гарэ́ць як аго́нь.** *Слон.*, *Брэсц. Спачув.* Пра чалавека, у якога высокая тэмпература. Высл., 303; ЛЦ, 63.

**да рабо́ты як аго́нь.** *Ухв.* Пра хуткага, ахвочага, здольнага чалавека. ЛА, 26.

**дзе́ўка як аго́нь.** *Астр.*, *Мсцісл. Захапл.* Пра здатную, прыгожую дзяўчыну. Высл., 312; Юрчанка 1977, 220.

**е́сці як на аго́нь кіда́ць.** *Івац. Няўхв.* Пра хуткае, без апетыту спажыванне ежы. ЗЗайкі.

**жыць як аго́нь з вадо́ю.** *Зэльв. Асудж.* Жыццё несумяшчальных па характары людзей. Даніловіч, 212.

**каса́ як аго́нь.** *Мсцісл.*, *Слон. Ухв.* Пра дужа вострую касу. Юрчанка 1969, 152; Нар. лекс., 60.

ле́зці як свяршчо́к на аго́нь. Гл. свяршчок.

**мо́цная што аго́нь.** *Слон.* Пра моцную гарэлку. Высл., 347.

**нязго́дныя як аго́нь з вадо́ю.** *Ваўк. п.* Пра зусім несуладныя характары. Federowski, 202.

**прыляце́ць як на аго́нь.** *Шальч.* Пра рашучае, імклівае да чаго-н. набліжэнне. СПЗБ 4, 146.

**хло́пец як аго́нь.** *Ухв.* Пра гарачага хуткага хлопца. Янк., Пар., 182.

**чырво́на як аго́нь.** *Ваўк. п.* Пра што-н. яркае, насычана-чырвонае. Federowski, 70.

**як аго́нь уваду́.** *Бераст.* Пра бясследнае знікненне каго-, чаго-н. Даніловіч, 212.

**як на аго́нь ляце́ць.** *Івац. Няўхв.* Пра настойлівае імкненне каго-н. куды-н., дзе, аднак, небяспечна. ЗЗайкі.

**як у аго́нь укі́нуць.** *Няўхв.* Пра знішчэнне нечага, марнаванне. БПФС, 23.

***агнісцік*** **бе́гаць як агні́сцік.** *Лоеў.* Пра дзіця, якое бегае і ніяк не можа суняцца. Янкова, 19. < Агнісцік – гарэза, свавольнік.

***агры́зак*** **ма́хенький, прима́хенькій як агры́зык.** *Смал. п. Пагардл.* Пра нізкарослага чалавека. Добр., Смол., 404.

| | |
|---|---|
| ***агрэ́ць*** | як агло́бляй па зуба́х агрэ́ў. Гл. аглобля. |
| ***агу́рчык*** | **як агу́рчык кру́гленькі.** *Мсцісл.* Пра нешта, некага круглых і невялікіх. Юрчанка 1977, 138. |
| ***Ада́м*** | **жыть як Ада́м у раю́.** *Смал. п. Ухв.* Пра добрае, бесклапотнае жыццё. Добровольский III, 5. |
| ***адбі́ць*** | як пята́мі адбіць. Гл. пята. |
| ***адбры́ць*** | **як адбры́ць.** *Мсцісл.* Пра рашучы, цвёрды адказ. Юрчанка, 172. |
| ***адбы́ць*** | Ду́шка не пту́шка: мякі́наю не адбу́дзеш. Гл. птушка. |
| | Каро́ста ні папо́ўства: сем год адбу́дзіць, тады́ ні бу́дзіць. Гл. папоўства. |
| ***адвака́т*** | **язы́к як у адвака́та.** *Мсцісл. Кплів.* Пра гаваркога знаходлівага чалавека. Янк., Пар., 200. |
| ***адваражы́ць*** | усё ро́ўна як ба́бка адваражы́ла. Гл. бабка. |
| ***адве́сіўшы*** | стая́ць як конь у але́шніку, губу́ адве́сіўшы. Гл. конь. |
| ***аджава́ць*** | маўча́ць, ба́ццэ каро́вы язы́к аджава́лі. Гл. карова. |
| | як цяля́ты язы́к аджава́лі. Гл. цяля. |
| ***адзе́жа*** | бра́цца як рапе́й за адзе́жу. Гл. рапей. |
| | Грыб – ні е́жа, а шля́па – ні адзе́жа. Гл. ежа. |
| ***адзі́н*** | **Век звекаваў як адзін дзень згуляў.** *Прык.* Пра хуткабежнасць жыцця. Янк., Пар., 25. |
| | **жыць сула́дне як адзі́н.** Пра дружнае жыццё. Высл., 313. |
| | Стара́я дзе́ўка як дзіра́вы кажу́х – адзін дух. Гл. кажух. |
| | **як адзі́н цвет.** *Мсцісл. Ухв.* Пра моцнае дружнае цвіценне чаго-н. Юрчанка, 172. |
| | **як адны́м грэ́бенем пачаса́ліся.** Пра вельмі падобных адзін да аднаго. Янк., 442. |
| ***адлі́ць*** | **здзе́лаець – як аталье́ць.** *Мсцісл. Ухв.* Пра дасканалае выкананне работы. Юрчанка 1977, 210. |
| ***адмалацíць*** | як боб адмалаціць. Гл. боб. |
| ***адна́*** | **зляце́лі гадо́чкі як адна́ вясна́.** Пра хутка прамінулае жыццё. Янк., Пар., 75. |
| | **як адна́ міну́та ме́сяц праляце́ў.** *Мсцісл.* Пра хуткі бег часу. Юрчанка 1977, 210. |
| | прыста́ць як ба́нны ліст да аднаго́ ме́ста. Гл. ліст. |
| | **як аднае́ ма́церы дзе́ткі.** *Ваўк. п., Шчуч. Ухв.* Пра блізкіх, клапатлівых, прыязных адзін да аднаго людзей. Federowski, 368; Высл., 320; Янкоўскі, 10. |
| | пахо́жы як панто́плі з адно́й ко́жы. Гл. пантоплі. |
| | **як у адно́й кашу́лі хры́шчаныя.** *Лаг., Стаўб.* Пра моцную, трывалую, шчырую дружбу людзей. МК, 319; Мін.-Мал., 1970, 171. |
| | дзе́рціся як два каты́ ў адно́м мяшку́. Гл. кот. |
| ***адня́ць*** | як рукóю адня́ў. Гл. рука. |
| | скры́ўдзіць усё ро́ўна як бязно́гаму кій адня́ць. Гл. бязногі. |
| ***адпаро́ць*** | Жо́нка не рука́ў – не адпо́раш. Гл. рукаў. |
| ***адрасці́*** | Валасы́ ня зу́бы – адрасту́ць. Гл. зуб. |
| | Мужы́к як бара́н: астрыжы́, то ён зноў адрасце́. Гл. баран. |

***адры́на*** **аграмні́сты (ве́лькі) як адры́на.** *Слон., Ваўк. п.* Пра высокага поўнага чалавека. Federowski, 7, 332; Высл., 280.

**ха́та што адры́на.** *Слон. Няўхв.* Пра вялікую і бедна абстаўленую хату. Высл., 408.

***адрэ́заць*** **як адрэ́зала** [ні разу не паказа́ўся]. *Івац., Мсцісл.* Пра катэгарычнае перапыненне чаго-н. Юрчанка 1977, 210; ЗЗайкі.

як нажо́м адрэ́зала. Гл. нож.

**сказа́ць як адрэ́заць.** *Мсцісл.* Пра рашучы, цвёрды, катэгарычны адказ. Юрчанка, 172.

***адсячы́*** **сказа́ў як адсе́к.** *Паст.* Пра рашучы, цвёрды, катэгарычны адказ. СПЗБ 4, 434.

як тапаро́м адсе́к. Гл. тапор.

***адуро́ны*** **ходить як одурённый.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чыесьці няўцямныя паводзіны. Добр., Смол., 524.

***адурэ́лы*** **бе́гаць як адурэ́лы.** *Клім. Асудж.* Пра мітуслівую бязмэтавую бегатню. Бялькевіч, 47.

***адхадзі́ць*** схудне́ць бы́ццам сем баб адхадзіла. Гл. баба.

як сто (сем) баб адхадзіла *каго.* Гл. баба.

***ады́мка*** **чорны як ады́мка.** *Няўхв.* Пра бруднае, неахайнае адзенне, рэч. Станкевіч, 40. < Адымка – ануча для вымання чыгуноў з печы.

***Адэ́льск*** **лад як у Адэ́льску на кермашы́.** *Гродз. п. Іран.* Пра беспарадак. Federowski, 4. < Адэльск – мястэчка каля Гродна.

**толк як у Адэ́льску.** *Гродз. Няўхв.* Пра беспарадак дзе-н. Высл., 399.

***адэ́льскі*** чы́ста як на я́рмарку адэ́льскім. Гл. ярмарка.

***Адэ́ля*** **пагуля́ць як Адэ́ля ў Кузьмах.** *Іўеў. Насмешл.* Пра дрэнна, не ў задавальненне адбытую гулянку. Сцяшковіч, 613.

***Адэ́са*** як бог у Адэ́се, на цёплым ме́сце. Гл. Бог.

***ажані́ўшыся*** **бедава́ць як по́зна ажані́ўшыся.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейкае дарэмнае бедаванне з-за нечага незваротнага. Янк., Пар., 20.

***ажані́ць*** ця́жка што чорта ажаніць. Гл. чорт.

***А́за*** **выць як Фанасёва А́за.** *Маст. Асудж.* Пра моцны і працяглы плач. Даніловіч, 261. < Аза – клічка сабакі.

***азязю́лены*** **сядзе́ць як азязю́лены.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека нібыта соннага, напаўп’янага, з няўцямным выглядам. Бялькевіч, 50.

***азяро́д*** браха́ць як саба́ка на азяро́д. Гл. сабака.

***айце́ц*** **радзіла́ малайца́ – акура́т як айца́.** *Слуцк.* Пра падобнага на бацьку сына. Сержпутоўскі 1999, 53.

**Цар як айце́ц: во́зьме каро́ву, прышле́ на скапе́ц.** *Мсцісл. Прык. Іран.* Пра царскую «справядлівасць». Янк., 65.

**лядцы́ як ро́дныя атцы́.** *Смал. п.* Пра ўрадлівае ляда. Добр., Смол., 40.

***аквала́нг*** трэ́ба як зайцу аквала́нг. Гл. заяц.

***акно́*** **як за акно́ вы́кінуць.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нешта змарнаванае, згубленае. Federowski, 343.

кле́нчыць як жабра́к пад акно́м. Гл. жабрак.

***ако́раны*** го́лы як ако́ранае бервяно́. Гл. бервяно.

***акуля́ры*** патрэ́бны (прыда́ўся) як сляпо́му акуля́ры. Гл. сляпы.

***алавя́ны*** **ве́йкі як алавя́ныя.** *Слон.* Пра неадольнае жаданне спаць, калі закрываюцца вочы. Высл., 292.

***ала́дка*** **гладка як ала́дка.** *Ваўк. п.*, *Слуцк. Ухв.* Пра жанчыну прывабнага выгляду. Dybowski, 9; Сержпутоўскі 1999, 72; Federowski, 110.

**ні еду́ха, ні піту́ха, а гла́дка як ала́дка.** *Маст.* Аксамітаў, 179; ФА. Тое, што гладка як аладка.

***але́й*** **Пра́ўда як але́й: што ні рабі́, то яна́ наве́рх вы́йдзе.** *Рэч. Прык.* Пра немагчымасць схаваць праўду. Pietkiewicz, 387.

***Але́ся*** **як Але́ся дво́рная.** *Карэл. Няўхв.* Пра неахайную асобу. Сцяшковіч, 613.

***але́шнік*** стая́ць як конь у але́шніку, губу́ адве́сіўшы. Гл. конь.

***але́шына*** ву́лупіць о́чы ек жа́ба на оле́шыну. Гл. жаба.

***алі́ва*** **Праўда як алі́ва – вы́йдзе наве́рх.** *Шчуч. Прык.* Пра немагчымасць схаваць праўду. Federowski, 246; Сцяшковіч, 606.

***алта́р*** згра́бны як свіння́ да алтара́. Гл. свіння.

***альхо́вы*** зарыжэ́цца як коўш альхо́вы. Гл. коўш.

зачырване́ць як альхо́вы (асо́вы) клін. Гл. клін.

сядзе́ць як альхо́вый клін: ні туды́, ні сюды́. Гл. клін.

чырво́ны як пень (коўш) альхо́вы. Гл. пень.

***а́ман*** **ве́даць** *што* **як а́ман у па́церах.** *Ваўк. п.*, *Сак. п.*, *Кам. Ухв.* Пра дасканалае веданне чаго-н. Federowski, 8, 226; ЖН, 37.

**як а́ман сказа́ць.** *Астр. Ухв.* Пра вельмі хуткае, без запінкі прагаворванне чаго-н. Даніловіч, 212.

**піха́ць як а́мана.** *Гродз. Асудж.* Пра чалавека, якога зневажаюць, піхаюць, ганьбуюць. Цыхун, 12. < Аман тут: Гаман.

***аму́т*** вы́плыць як чорт з амута́. Гл. чорт.

***амярцве́лы*** **сядзе́ць як амярцве́лы.** *Касц. Няўхв.* Пра чалавека, які панура, нерухома сядзіць. Бялькевіч, 52.

***аналлё*** **як аналлё яко́е наваліцца.** *Пол. Асудж.* Пра нахабнае нападзенне на каго-н. ЖН, 14. < Аналлё – нахабныя птушкі, жывёла.

***а́нгел*** **Ляце́ла як а́нгел, уда́рылася як чорт.** *Смал. п. Прык. Іран.* Пра беспаспяховае завяршэнне ўдала распачатай працы. Магчыма, пра ганарыстую дзеўку, што няўдала выйшла замуж. Добровольский III, 132.

***анге́льскі*** гну́цца як анге́льскі цю́цька. Гл. цюцька.

далiка́тны як анге́льскі цю́цька. Гл. цюцька.

***анёл*** **Ляце́ў як анёл, а ўпаў як чорт.** *Петр.* Пра няўдачлівы канец пры прыгожым пачатку. ЛЦ, 112.

**Анёлам ляце́ў, а чо́ртам сеў.** *Шчуч. Іран.* ПП 2, 322. Тое ж.

***анёлак*** **дзіця́ як анёлак.** *Сміл. Захапл.* Пра прыгожае, мілае, нявіннае дзіця. Носович, 6; Шатэрнік, 18.

**зві́цца як анёлак.** *Слон. Ухв.* Пра дзіця, якое спіць. Высл., 326.

**Дару́ гро́шы на фіёлкі, каб малады́я жылі́ і любі́ліся як анёлкі.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне. Пра пару закаханых, якія пяшчотна, шчыра ставяцца адзін да аднаго. БВ, 58.

**прыго́жы як анёлак.** *Івац. Захапл.* Пра некага прыгожага, часцей пра дзіця. ЗЗайкі.

***Анто́ська*** **напі́цца і ляжа́ць як той Анто́ська на по́куці.** *Смаляв. Жарт.* Пра моцна п’янага чалавека. ФА.

***ану́ча*** **вя́лы як ану́ча.** *Воран. Няўхв.* Пра вялага, бязвольнага, безыніцыятыўнага чалавека. Высл., 300.

**згі́нуць як ану́ча з пло́ту.** *Маст.*, *Свісл. Жарт.* Невядома куды, невядома дзе (згінуць, знікнуць). Даніловіч, 212.

**зрабіцца як ану́ча.** *Пух. Няўхв.* СПЗБ 3, 292. Тое, што вялы як ануча.

**карэ́лы як ану́ча.** *Лоеў. Пагардл.* Пра бруднага, неахайнага чалавека. Янк., Пар., 84.

**як ану́ча.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нешта бруднае, памятае. Юрчанка, 177.

**насі́цца бы́ццам падаві́ўся ану́чай.** *Рэч.*, *Чэрык.*, *Мін. Пагардл.* Пра бяссэнсную мітусню. ЛЦ, 72.

насі́цца як дурны́ з ану́чай. Гл. дурны.

**як мо́краю ану́чаю па зуба́х** *каму. Слон.* Няўхв. Пра непрыемную, нечаканую вестку. Высл., 428.

**бузава́ць як ану́чу.** *Мсцісл. Асудж.* Пра моцную лупцоўку, пакаранне. Юрчанка 1969, 188. < Бузаваць – біць, лупцаваць.

**змяць як ану́чу.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра неахайнае стаўленне да адзення, якой-н. рэчы. Юрчанка, 177.

**накі́нуцца** *на каго* **як на мо́крую ану́чу.** Пра жартоўнае нападзенне. Крэмнеў, № 633.

пяя́ць як чорт ану́чы дзярэ́. Гл. чорт.

спява́ць як свіння́ ану́чу дзярэ́. Гл. свіння.

**трапа́ць** *каго* **як ану́чу.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра абгаворванне, ганьбаванне каго-н. Юрчанка 1969, 188.

рваць як дурны́ ану́чы. Гл. дурны.

худа́я, от бы тая жыдо́ўка, што ану́чы збіра́е. Гл. жыдоўка.

**вя́лы як гану́ча.** *Воран. Спачув.* Пра абяссіленага чалавека, што зусім не мае пругкасці ў целе. Высл., 300.

**як гану́ча.** *Івац. Няўхв.* Пра безыніцыятыўнага, нясмелага чалавека. ЗЗайкі.

***ану́чка*** **збузава́ць** *каго* **як ану́чку.** *Памянш. Мсцісл. Няўхв.* Пра абгаворванне, зневажанне каго-н. Юрчанка, 177.

**усу́нуцца** *на каго* **як на мо́крую ану́чку.** *Памянш. Няўхв.* Пра нападзенне на каго-н., сварку, бойку. Высл., 406.

***ану́чніца*** **сядзе́ць як ону́чніца.** *Жытк. Няўхв.* Пра неахайную жанчыну. ТС 3, 257.

***анцуюд*** **хадзі́ць як анцуюд.** *Езяр. Няўхв.* Пра мітуслівага, легкадумнага, нястрыманага чалавека. Каспяровіч, 21. < Анцуюд – чалавек, які не сядзіць на адным месцы (тлумачэнне аўтара).

***аняме́лы*** **маўча́ць як аняме́лы.** *Ваўк. п.*, *Бялын.*, *Мсцісл.* Пра зацятае, напружанае маўчанне каго-н. Federowski, 180; Юрчанка 1977, 182; Яўсееў, 18.

***апало́нік*** **умяша́цца як апалонік у лы́жкі.** *Воран. Насмешл.* Пра сованне, умешванне не ў сваю справу, куды не трэба. Даніловіч, 212.

***апанта́ны*** **бе́гаць як апанта́ны.** *Ваўк. п., Мсцісл., Сміл. Няўхв.* Пра бяссэнсную, імклівую, мітуслівую бегатню. Federowski, 160; Шатэрнік, 19; Бялькевіч, 56; Санько, 70.

**крыча́ць як апанта́ны.** *Навагр. п., Кір. Асудж.* Пра чалавека, які моцна, голасна, не да справы крычыць. Federowski, 154; Нар. слов., 65.

**хадзі́ць як <які> апынта́ны.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які бяссэнсна ходзіць туды-сюды, паводзіць сябе як душэўна хворы. Бялькевіч, 56.

***апанча́*** **хадзі́ць як апанча́.** *Гродз. Няўхв.* Пра бязмэтавае, недарэчнае бадзянне каго-н. Даніловіч, 212. < Апанча (устар.) – старадаўняе верхняе адзенне ў выглядзе шырокага плашча.

***апа́раны*** **бе́гаць як апа́раны.** *Гродз. Няўхв.* Пра імклівы, хуткі, панічны бег. Цыхун, 167.

**вы́скачыць як апа́раны.** *Івац.* Пра чалавека, які хутка, знянацку выскоквае адкуль-н. Высл., 298; ЗЗайкі.

**кі́дацца як апа́раны.** *Няўхв.* Пра хуткую, рашучую, панічную бегатню, мітусню. НН 1911, 394.

**пабе́гчы як апа́раны.** *Мсцісл., Пруж. Няўхв.* Хутка, знянацку, панічна пабегчы, панесціся. Янк., 418; Босак, 33.

**падско́чыць як апа́раны.** *Насмешл.* Пра раптоўную, рэзкую рэакцыю на што-н. нечаканае. Янк., Пар., 122.

**уляце́ць як апа́раны.** *Насмешл.* Пра чалавека, які хутка, імкліва ўскочыў куды-н. СПЗБ 1, 85.

***апарасі́цца*** у пасце́лі так як сем свіне́й апарасілася. Гл. свіння.

***апаро́сная*** **гла́дкая ходзіць як апаро́сная.** *Быx.* Пра адкормленую, сытую жывёлу. Нар. слов., 84.

**як апаро́сная.** *Быx.* 1. Пра тоўстую, з вялікім жыватом жывёлу. 2. *Груб.* Пра тоўстую жанчыну. Матэрыялы 1981, 11.

***апельсі́н*** разбіра́цца што свіння́ ў апельсінах. Гл. свіння.

***апе́нька*** **глухі́ як апе́нькі.** *Клецк. Насмешл.* Пра глухаватага чалавека. Янк., 402; ФА.

***апе́чаны*** **здаро́вая як апе́чаная.** *Івац.* Пра крамяную, моцную, дужую жанчыну. ЗЗайкі.

**трапята́цца як апе́чаны.** *Карэл. Насмешл.* Пра чыесьці мітуслівыя рухі. Высл., 400.

***апі́лкі*** глядзе́ць як дура́к на апілкі. Гл. дурак.

***апла́тка*** **худы́ як апла́тка.** *Слон. Кплів.* Пра худога, высахшага чалавека, жывёлу. Высл., 413. < Аплатка – тоненькая пласцінка з цеста.

***аплі́к*** **вы́сахнуць як аплі́к.** *Сміл.* Шатэрнік, 19. < Аплік – гаплік.

***аплыву́да*** цягну́цца <ззá́ду> як аплыву́да. *Сміл. Няўхв.* Пра марудны, павольны рух, перасоўванне. Шатэрнік, 19.

***аплы́цька*** **хадзі́ць як аплы́цька.** *Ветк. Асудж.* Пра неахайнага, непрыемнага чалавека. Скарбы, 82. < Аплыцька – апушчэнец.

***апóка*** **ляжáць як апóка.** *Смал. п. Пагардл.* Пра лянівага чалавека, які не рупіцца пра працу. Добр., Смол., 6. < Апока – тоўстае бервяно.

***апóшняе*** **сядзéць рýкі злажы́ўшы як апóшняе ў гаршчóк палажы́ўшы.** *Навагр. Няўхв.* Пра чалавека, які знаходзіцца ў роспачы, не адпаведнай яго рэальнай сітуацыі. ФА.

**рýкі апусцíць як апóшняе ў печ усы́паўшы.** *Рэч., Гор., Леп.* Руд., 252; ФА. Тое ж.

***аптэ́ка*** **дóрага (па кры́шачцы) як у аптэ́цы.** *Ваўк. п.* Пра дарагую, хаця і дробную рэч. Янк., Пар., 124.

**як у аптэ́цы.** *Докш., Мсцісл.* Пра вельмі дакладную вагу. Высл., 431.

***апýдала*** **адзявáцца як апýдала (пýдала).** *Карэл., Пін. Няўхв.* Нехайна, непрыгожа, дзіўнавата апранацца. Нар. лекс., 112. < Апудала – неахайны чалавек, пудзіла.

**хадзíць як апýдала.** *Добр. Асудж.* Пра неахайнага, дрэнна апранутага чалавека. Мат. Гом., III, 177.

***апусцíць*** сказáць як у вар апусцíць. Гл. вар.

як свіння́ вýшы апусцíўшы. Гл. свіння.

***апýшчаны*** **круцíцца як апýшчаны ў вар.** *Маладз., Брэсц., Рэч., Мін. Няўхв.* Пра мітуслівыя, рэзкія, бессэнсоўныя рухі. ЛЦ, 30.

хадзíць як у вóду апушчóны. Гл. вада.

***апушчэ́нка*** **хадзíць як паслéдняя апушчэ́нка.** *Мсцісл. Пагардл.* Пра неахайную, непрывабную жанчыну. Юрчанка 1998, 37.

***арáп*** **чóрны як арап.** *Краснап.* Пра смуглага, загарэлага чалавека. Бялькевіч, 57.

***ардá*** **пішчáць, крычáць бы татáрская ардá.** *Слуцк. Няўхв.* Пра віск, крык, валтузню. Сержпутоўскі 1998, 274.

***ардзéль*** **крáсен як ардзéль.** *Смал. п. Ухв.* Пра здаровага, чырванашчокага старога, мужчыну. Добр., Смол., 534. < Ардзель – яркачырвоная кветка.

***арлянё*** **біцца як арлянё.** *Сміл. Спачув.* Пра чалавека, што трапіў у цяжкое становішча і ўсімі сіламі імкнецца выйсці з яго. Шатэрнік, 21.

***арóл*** **бáчыць як арóл.** *Ухв.* Пра добры, востры зрок. Янк., 397.

**конь як арóл.** *Смал. п. Ухв.* Пра добрага, хуткага, спрытнага каня. Добр., Смол., 299.

***арты́ст*** **лóўкі як арты́ст.** *Ухв.* Пра зграбнага, прыгожага, лоўкага чалавека. Янк., Пар., 97.

**фігýрысты як арты́ст.** *Мсцісл. Ухв.* Пра статнага чалавека. Янк., Пар., 177.

***архірэ́й*** **услугóўваць бы архірэ́я.** *Слуцк. Насмешл.* Пра далікатнае, стараннае, руплівае абслугоўванне каго-н. як вельмі важнага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 37.

***аршы́н*** **як аршы́н праглынýў.** Пра чалавека ў ненатуральна прамой паставе. ФСБМ 2, 205.

***арэ́нда*** вы́йграць як Шлёма на арэ́ндзе. Гл. Шлёма.

***арэ́х***

**ліпець як арэх на сухой галіне.** *Спачув.* Пра бядотнае, поўнае клопатаў і небяспекі жыццё. Янк., 413, Санько, 150.

**Смех не арэ́х – зуб не лу́піць.** *Прык.* Пра тое, што смех арганізму ніяк не пашкодзіць, а толькі карысны. Ром., Бел., 309.

углядацца як жаба ў арэх. Гл. жаба.

**цвёрды як арэх.** *Мсцісл.* Пра нешта цвёрдае. Юрчанка, 177.

**Чалаве́к не арэ́х – не раску́сіш.** *Прык.* Пра немагчымасць адразу раскрыць натуру іншага. Янкоўскі 1971, 41.

**сы́паць як арэ́хамі.** Пра чалавека, што хутка, выразна, заўзята нешта апавядае. Высл., 392.

**бу́льба як арэ́хі.** *Лаг. Няўхв.* Пра дробную, маленькую бульбу. Varłyha, 23.

**Галаву́ згубі́ць як арэ́х раскусі́ць.** *Прык.* Пра хісткасць і няўпэўненасць чалавечага жыцця, лёгкасць яго згубіць. Янкоўскі, 175.

**заўсёды ўдвух як арэ́хі блізня́ты.** *Ушацк.* Пра вельмі дружных людзей. ЛЦ, 78.

**Зда́ўся на пры́казкі як арэ́хі дзе́ля пацéхі.** Пра словаахвотлівага чалавека, які перасыпае сваю гаворку шматлікімі прыказкамі. Янк., 167.

**трашчаць як арэхі пад нагамі.** *Пух.* Пра моцны, з гукам трэск. ЛЦ, 124.

**як арэхі шчоўкаць.** *Ваўк.*, *Шчуч. Ухв.* Пра лёгкае, спрытнае вырашэнне якой-н. задачы, справы. Даніловіч, 212.

**вы́лушчыцца (вы́лузацца) як гарэ́х [з шапачкі].** *Ваўк. п. Жарт.* Пра модна і прыгожа апранутага чалавека. Federowski, 344; Янк., Пар., 29.

**залга́ць як гарэ́х раскусі́ць.** *Няўхв.* Пра лёгкі падман. Federowski, 348.

***аса́,***
*гл. таксама* ***асва***

**ле́зці як аса́ ў во́чы.** *Ваўк. п.*, *Смал. п. Асудж.* Пра назойлівае дакучанне каму-н.; чаплянне да каго-н. Federowski, 163; Добр., Смол., 533.

**ліха́я (зла́я) як аса́.** *Асудж.* Пра злосны, куслівы, прыдзірлівы характар жанчыны. Янк., 413.

**сы́каць як аса́.** *Валож. Няўхв.* Пра злосную жанчыну, што агрызаецца, пырскае злымі словамі. Гілевіч 2007, 49.

**як аса́ перавя́зістая.** *Слон.* Пра жанчыну з тонкай таліяй. ЖНС, 184. < Перавязісты – з тонкай у таліі фігурай.

**асо́ю ле́зці ў во́чы.** *Маст.*, *Мін.*, *Рэч. Няўхв.* МК, 242; ЛЦ, 54. Тое, што лезці як аса ў вочы.

**маха́ць рука́мі так, бы́ццам** *на каго* **напа́лі во́сы.** *Хоц. Насмешл.* Пра залішнюю жэстыкуляцыю. ЛЦ, 72.

**пазлята́цца як во́сы на мёд.** *Мін. Іран.* Пра энергічны збор людзей, у нечым асабіста зацікаўленых. ЛЦ, 117.

**Пра́ўда як во́сы: ле́зе ў во́чы.** *Прык.* Пра немагчымасць схаваць праўду. Янкоўскі 1971, 45.

**сказа́ць як у во́сы прут уваткну́ць.** *Іран.* Пра нешта сказанае, што выклікае агульную злосную рэакцыю. Фед. Арх.

**як во́сы злы́я – і даро́слыя, і малы́я.** *Рэч. Асудж.* Пра зласлівы характар у сям'і, стаўленне іх да іншых. ПП 2, 45.

***асака́*** **во́чы як асако́ю прарэ́заны.** Пра вузкія вочы. Ройзензон, 68.

***асалаве́ўшы*** **маўча́ць як асалаве́ўшы.** Пра чалавека, які маўчыць, слаба разумеючы, што наўкола, як захмялеўшы. НН 1911, 3.

***асва́,***
*гл. таксама* ***аса*** **зла́я як асва́.** *Мядз. Няўхв.* СЦБ, 29. Тое, што злая як аса.

прывяза́цца як асва́. *Мсцісл. Няўхв.* Бялькевіч, 349. Тое, што лезці як аса ў вочы.

**прычапіцца як асва́.** *Лаг. Няўхв.* Varłyha, 16. Тое, што лезці як аса ў вочы.

***Асве́нцым*** **як з Асве́нцыма.** *Бераст.*, *Гродна. Спачув.* Пра вельмі худога, слабага, страшнага чалавека. Даніловіч, 224.

***асе́нні*** дакутлівы як дождж асе́нні. Гл. дождж.

хму́ры як асе́нні дзе́нь. Гл. дзень.

непастая́нны як асе́нняе надвор'е. Гл. надвор'е.

непастая́нны як асе́нняе со́нейка. Гл. сонейка.

даку́члівы як асе́нняя му́ха пе́рад здыха́ннем. Гл. муха.

зла́я як асе́нняя му́ха. Гл. муха.

куса́цца (куслі́вы) як асе́нняя му́ха пе́рад здыха́ннем. Гл. муха.

ста́ра дзяву́ха як асе́нняя му́ха. Гл. муха.

чо́рны як асе́нняя ноч. Гл. ноч.

***асе́ўкі*** разбіра́цца як свіння́ ў асеўка́х. Гл. свіння.

***асе́ць*** **ку́рна як у асе́ці.** *Няўхв.* Пра вельмі закапцелае памяшканне. Янк., Пар., 91.

**чо́рна як у асе́ці.** *Мядз.* Пра цёмнае памяшканне. ЗСалавей.

ле́зці як Хо́мка ў асе́ць (падасе́цце). Гл. Хомка.

**то́ўсты як асе́ць.** *Мсцісл.* Пра празмерна поўнага, тоўстага чалавека. Юрчанка, 177.

***асёл*** **дурны́ як асёл.** *Вілен. Асудж.* Пра вельмі дурнога чалавека. Sielicki, 158.

**як дзі́кі асёл.** *Шчуч.* Пра чалавека, які вельмі многа працуе. Даніловіч 2010, 91.

**як асёл на кірмашы́.** *Астр. Няўхв.* Пра чалавека, што паказвае сябе не з лепшага боку. Даніловіч, 212.

***асілак*** **ду́жы як асілак.** *Сміл. Ухв.* Пра дужага, моцнага чалавека. Шатэрнік, 21. < Параўнанне з казачным асілкам – адна з вышэйшых ступеняў народнай пахвалы.

***асіна*** **го́ркі як асіна.** *Бых.* Пра нешта вельмі горкае. ЖН, 91.

**калаці́цца як асіна.** *Лаг.*, *Слон. Фалькл.* Пра моцныя дрыжыкі, страх каго-н. Varłyha, 49; ЖН, 123.

**Як у по́лі асіна – так і сіраціна: яе вецер гне і мачаха б'е.** *Светл. Прык.* Пра горкую долю сіраты, якая церпіць і ад мачахі, і ад людзей. ПП 2, 102.

**вы́перці як асіну ў ле́се.** *Лаг.* Пра падлетка, што выцягнуўся за кароткі час. Гілевіч 2007, 13.

улюбі́цца як чорт у суху́ю асіну. Гл. чорт.

**горко́та ек осіна.** *Жытк.* ТС 3, 267. Тое, што горкі як асіна.

***асінавы*** калаціцца як асінавы ліст. Гл. ліст.

***асінка*** **абадра́ць як асі́нку.** *Памянш. Маст.* Пра поўнае абрабаванне. Даніловіч, 213. < Утворана па мадэлі класічнага параўнання абадраць як ліпку.

***асі́пшы*** храпсці як асі́пша ку́рыца. Гл. курыца.

***аслупяне́лы*** **як аслупяне́лы.** *Чашн. Няўхв.* Пра нечакана застыўшага, нерухомага чалавека. Каспяровіч, 25; Санько, 68.

***асма́лак*** **як асма́лак стаць.** *Клецк.* Пра моцна загарэлага чалавека. ДА.

***асмалі́ць*** лёгка як перыну́ асмалі́ць. Гл. перына.

***асмало́ўскі*** як чорт асмало́ўскі. Гл. чорт.

***асно́ва*** **хадзі́ць як асно́ва.** *Гродз.* 1. *Няўхв.* Пра бадзянне, хаджэнне без справы, без сур'ёзнага занятку. Даніловіч, 213. 2. *Спачув.* Пра саслабелага чалавека. ЗСалавей. < Аснова – дэталь кроснаў.

***аспі́дка*** **сіпе́ць як аспі́дка.** *Асудж.* Пра злосную, сварлівую жанчыну. Высл., 382.

***астатнё*** **уздыха́ць як аста́тнё спёкшы.** *Слон. Іран.* Пра вельмі забедавалага, заклапочанага чалавека. Высл., 404; Санько, 70.

***асташо́ны*** **лётаць як асташо́ны.** *Мёр. Няўхв.* Пра мітуслівую, бязмэтную, імклівую бегатню. Нар. слов., 105. < Асташоны – звар'яцелы.

***асто́пак*** іншэ прожыве́ ек у ка́рты проёграе, а іншы – ек у осто́пку прото́пчэ. Гл. карты.

**губська наставыв бы остопкы.** *Драг. Абразл.* Пра надзьмутага чалавека. ЛА, 24.

***астро́г*** **бая́цца** *чаго* **як астро́гу.** Пра вельмі моцны страх. Янк., Пар., 13.

***асты́ць*** Дзе́ўка не зацірка: не асты́не. Гл. зацірка.

***асуждзёны*** хадзіць як на смерць асуждзёны. Гл. смерць.

***асцю́к*** **як асцю́к [за каўняро́м].** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нешта, што моцна дакучае, непакоіць. Юрчанка, 178.

**круці́цца як з асцюко́м за ка́ркам (пад языком).** *Слон. Няўхв.* Пра непаседлівага чалавека, яго мітуслівыя, вяртлявыя рухі. Высл., 337.

***асцялёпак*** **дзіця́ як асцялёпак.** *Добр.* Пра поўнае, важкае дзіця. Мат. Гом., III, 179; ФСГ, 29. < Асцялёпак – паскрэбак.

***асы́пана*** **мно́га як асы́пана.** *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць чаго-н. Юрчанка, 178.

***асяло́к*** **тр́эба як асялку́ (для асялка́) кірпічына.** *Мсцісл. Іран.* Пра непатрэбную рэч. Юрчанка, 172.

тр́эба як кірпічыне асяло́к. Гл. кірпічына.

***атаду́ра*** **жыць адзін як атаду́ра.** *Астр. Няўхв.* Пра свядома адасобленае жыццё нелюдзімага, дзікаватага чалавека. СПЗБ 1, 118. < Атадура – нелюдзь, упарты.

***атлу́млены*** **хадзі́ць як атлу́млены.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чые-н. няўцямныя паводзіны. Высл., 410.

***атні́мач*** **хадзі́ць як атні́мач.** *Карэл. Асудж.* Пра неахайнага, бруднага чалавека. Высл., 411. < Атнімач – ануча, якой бралі закапцелыя гаршкі.

***атня́ць*** як руко́й атняло́. Гл. рука.

| | |
|---|---|
| ***атóпак*** | **Прывычка не атопак: з нагі не скінеш.** *Прык.* Пра складанасць пазбавіцца ад якой-н. звычкі. Матэрыялы 1981, 122. |
| | як атóпак. *Мсцісл. Спачув.* Пра зусім слабога альбо хваравітага чалавека. Юрчанка, 178. |
| | **ля́пнуць (сказáць) як атóпкам па балóце (па гразі) [пляснýць].** *Шчуч. Няўхв.* Пра штосьці нетактоўна сказанае. Сцяшковіч, 598; З нар. сл., 40. |
| | **ля́пнуць як атóпкам па цымбáлах.** *Няўхв.* Янк., Пар., 98; Янк., 442. Тое, што ляпнуць як атопкам па балоце. |
| | плáваць як гаўнó ў атóпку. Гл. гаўно. |
| ***атóрва*** | **як паслéдняя атóрва.** *Мсцісл. Асудж.* Пра паводзіны лянівага, нявыхаванага, грубаватага чалавека. Юрчанка 1998, 97. |
| ***атрýчаны/атрýяны*** | **кідацца ва ўсе бакі як атрýчаны.** *Брэсц. Няўхв.* Пра роспачныя дзеянні нечым моцна ўражанага чалавека. ЛЦ, 71. |
| | **хадзіць як атрýяны.** *Навагр.* Пра чалавека запаволенага, соннага, вялага. ФА. |
| ***Аўгíння*** | дрыжáць як Аўгіннін кулéш. Гл. кулеш. |
| ***Аўгуст*** | **зарабіць як Аўгуст на петушкáх.** *Воран. Іран.* Пра нулявы заробак ад якой-н. справы. Сцяшковіч, 613. |
| ***аўтамáт*** | áрмія без мáта што салдáт без аўтамáта. Гл. салдат. |
| ***аўтóбус*** | як Фрáнак у аўтóбусе. Гл. Франак. |
| ***аўцá,*** *гл. таксама* ***авечка*** | **Бýдзеш знаць да канцá, састáрышся як аўцá.** *Мсцісл. Жарт. Фальк.* Романов 1901, 69; ПП 2, 185. < Паходзіць з жартаўлівага павер'я, што празмерныя веды спрыяюць больш хуткаму набліжэнню старасці. |
| | **глядзéць як аўцá з-пад нóжняў.** *Мсцісл. Кплів.* Пра спалоханы позірк каго-н. Юрчанка, 178. |
| | **дрыжáць як стры́жаная аўцá.** *Мсцісл. Кплів.* Пра моцныя частыя дрыжыкі ад холаду альбо ад страху. Юрчанка, 198. |
| | **кáшляць як аўцá матылíчная.** *Слон.* Пра рэзкі, адрывісты, часты кашаль. Высл., 335. < Матылічная авечка – авечка з захворваннем лёгкіх, якое ў народзе завецца матыліцы. |
| | **хы́раць як здóхлая аўцá.** *Слон. Няўхв.* Пра цяжкае дыханне, часты глухі кашаль. Высл., 414. < Хырацъ – кашляць. |
| | **як аўцá безгалóсы.** *Спачув.* Пра ціхмянага забітага чалавека. Носович, 19. |
| | глядзéць як барáн на стры́жаную аўцý (на запíску). Гл. баран. |
| | глядзéць як кот на аўцý. Гл. кот. |
| | накíнуцца як воўк на аўцý. Гл. воўк. |
| | **трэ́ба як аўцэ́ расчóска (пяршчáткі).** *Мсцісл. Іран.* Пра непатрэбную рэч. Юрчанка, 178. |
| | як вóўка да гавéц [у хлеў, абóру] упусціць. Гл. воўк. |
| ***ахламóн*** | **як ахламóн [які].** *Гор. Няўхв.* Пра неахайнага чалавека. Матэрыялы 1981, 12. < Магчыма, запазычана з рускай мовы. |
| ***ахмістры́ня*** | **хадзіць ханянём як ахмістры́ня.** *Пол.* Пра ганарлівую, напышлівую жанчыну. Нар. лекс., 17. |
| ***Ахóнаўскі*** | укáпацца як Ахóнаўская дрýжка. Гл. дружка. |

***ачмурэ́лы*** **бе́гаць як ачмурэ́лы.** *Бял. Няўхв.* Пра панічную, ненармальную бегатню чалавека, якая нагадвае паводзіны псіхічна хворага. Бялькевіч, 77.

**насі́цца як ачмурэ́лы.** *Смал. п., Бялын., Лоеў., Карэл. Няўхв.* Добр., Смол., 569; Яўсееў, 20; Нар. слов., 102. Тое ж.

***ачуме́лы*** **бе́гаць як ачуме́лы.** *Слон.* Высл., 285. Тое, што бегаць як ачмурэлы.

***ачэ́п*** **п'я́ны як ачэ́п.** *Браг. Асудж.* Пра вельмі п'янага, «мокрага» чалавека. АВНЛ. < Ачэп – тут: вочап у калодзежы-жураўлі, на якім мацуецца шост і які часта апускаецца ў ваду, «мокне».

***ашале́лы*** **бе́гчы як ашале́лы.** *Беш. Няўхв.* Каспяровіч, 28. Тое, што бегаць як ачмурэлы.

крыча́ць як ашале́лы пан. Гл. пан.

**насі́цца як ашале́лы.** *Мсцісл. Няўхв.* Бялькевіч, 78. Тое, што бегаць як ачмурэлы.

***ашало́млены*** **як ашало́млены.** *Лях.* Пра моцна здзіўленага, разгубленага, нібы ўдаранага моцна па галаве чалавека. СПЗБ 1, 139.

***ашмётак,***
***асмётка*** **хадзі́ць як асмётка яка́я.** *Асудж.* Пра неахайную, брудную жанчыну. Носович, 369.

**чо́рны як ашмётка.** *Няўхв.* Пра штосьці бруднае, неахайнае. Станкевіч, 68.

**валя́итца як ошмёток.** *Смал. п. Няўхв.* Пра нешта непатрэбнае, скарыстанае. Добр., Смол., 569.

***ашмя́нскі*** хадзі́ць як ашмя́нскі шля́хціц: адну́ кало́шу вы́пусціўшы, другу́ю абу́ўшы. Гл. шляхціц.

***ашпа́раны*** падско́чыць як ашпа́раны кот. Гл. кот.

як кіпятко́м ашпа́раны. Гл. кіпяток.

***ашчэ́п*** **як ашчэ́пам ці́снуць.** *Слон.* Пра моцны галаўны боль. Federowski, 302.

# Б

***ба́ба*** **бы́ццам сем баб адхадзі́ла** *каго. Мін.* Пра добрую дапамогу, калі адразу палепшала. ЛЦ, 74.

**як сем баб пошэпта́ло** *каго. Жытк.* ТС 4, 211. Тое ж.

**як сто баб адхадзі́ла** *каго.* 1. *Навагр. Слуцк.* Тое, што быццам сем баб адхадзіла. 2. *Навагр.* Пра палепшаны настрой, калі адышла злосць, непрыязнасць. Даніловіч, 25.

**аббраха́ць як ба́ба [яка́я].** *Раснян. Пагардл.* Пра беспадстаўную і бесталковую лаянку, абгаворванне. Бялькевіч, 17.

**выця́гацца як ба́ба дурна́я.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра беспадстаўны плач, бедаванне. Юрчанка 1969, 156. < Выцягацца – тут: плакаць, бедаваць.

**за пнём галава́, як за дзе́дам ба́ба.** *Брасл.* Пра нечае надзейнае сховішча. Рабкевіч, 77.

**ка́шляць як стара́я ба́ба.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра часты, адрывісты кашаль, не ўласцівы маладзейшым асобам. Federowski, 139.

**Мужы́к так гару́іць па жо́нцы, як ба́ба па іго́лцы.** *Ушацк. Прык. Кплів.* Пра недастаткова моцныя перажыванні мужа па жонцы. Барадулін, 98.
**насі́цца як ба́ба з качаргóй.** *Насмешл.* Пра хуткага, імклівага, мітуслівага чалавека. Ляцкий, 29.
**ныць бы ста́ра ба́ба.** *Саліг. Асудж.* Пра чалавека, які залішне наракае на лёс, здароўе і інш. ДА.
**пла́каць як ба́ба.** *Івац. Няўхв.* Пра мужчыну, што залішне эмацыянальна выказвае свае пачуцці, плача. ЗЗайкі.
**раскіра́чыцца як старая ба́ба.** *Лоеў. Асудж.* Пра непрыгожую позу чалавека. Янкова, 306.
**распусці́цца як ба́ба над но́чвамі.** *Насмешл.* Пра жанчыну без галаўнога ўбору, з распушчаныміваласамі. Ляцкий, 37.
**сварлі́вы як старая ба́ба.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра сварлівага, нуднага, зласлівага мужчыну. Federowski, 294.
**стаць як ба́ба.** *Лаг. Кплів.* Пра мужчыну або маладую дзяўчыну, што набылі звычку бурчаць, сварыцца, займацца дробязнымі разборкамі. Гілевіч, 79.
**хі́тры бы ба́ба.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека не мужчынскага характару, выкрутлівага, хітрага. Сержпутоўскі 1999, 71.
**што ні пупала не́сці як [ікая] дурна́я ба́ба.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра беспадстаўную гаворку, бязглуздзіцу. Юрчанка 1993, 23.
**шыць як сляпа́я ба́ба.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра неахайнае шыццё. Federowski, 301.
**як ба́ба з яе́шняю.** *Гродз. Насмешл.* Пра настырнае чаплянне, дакучлівае прыліпанне. Сцяшковіч, 613.
**як блага́я ба́ба.** *Вілен. Няўхв.* Пра сварлівага, бурклівага, злоснага чалавека. Sielicki, 159.
**як [тая] ба́ба балбата́ць.** *Слон. Асудж. Пагардл.* Пра чалавека, які любіць гаварыць абы-што. Высл., 431.
**цесна як двум бабам на кухні.** *Астр. Жарт.* Пра цеснату ў вельмі маленькім памяшканні. Даніловіч, 136.
**гэ́ты ка́шаль як ба́бе радзі́ць.** *Быx.* Пра цяжкі, надрыўны, гучны кашаль. Высл., 310.
**зямлі́ (дзя́лка, ласкуці́нка) як [до́брай] ба́бе се́сці.** *Віл., Стаўб., Уздз., Лаг. Іран.* Пра колішні мізэрны надзел зямлі. Янк., 410; Нар. слов., 143; Мін.-Мал., 1974, 190; МК, 319; ДА; Гілевіч 2007, 10.
**по́ле як старо́й ба́бе се́сці ср...ць.** *Лельч. Груб.* ФА. Гл. зямлі як бабе сесці.
**Як ба́бе ця́жка радзі́ць, так скупо́му даўгі́ плаці́ць.** *Прык.* Пра напругу скупога чалавека пры аддаванні даўгоў. Крэмнеў. ПП 1, 493.
**як на забі́тай ба́бе.** *Слон. Няўхв.* Пра беспарадак, калі вельмі многа, у беспарадку ўсяго настаўлена. Даніловіч, 236.
**накідаць як на забі́тую ба́бу.** *Слон. Няўхв.* Пра навальванне рэчаў абы-як, у беспарадку. Даніловіч, 236.
**адгла́дзіць як до́брай ба́бы ср...ку.** *Мінск. Насмешл. Вульг.* Пра старанную апрацоўку глебы, аддзелку нечага. ЗСалавей.

**валасы́ сівы́я як у старóй бáбы.** *Спачув.* Пра рана пасівелыя валасы ў жанчыны. Бялькевіч, 79.

**раздры́пкацца як стáрыя бáбы.** *Мсцісл. Асудж.* Пра неахайна апранутых жанчын. Юрчанка 1998, 37.

сядзéць навéрсе як зуб у старóй бáбы. Гл. зуб.

*у каго* **стан як у бáбы, рýкі, нóгі як у жáбы.** *Гродз. Насмешл.* Пра чыю-н. непрапарцыянальную фігуру. Цыхун, 194.

чы́ста як тры бáбы убірáлі. *Карэл. Ухв.* Пра добрае, стараннае прыбіранне дзе-н., парадак. Высл., 420.

***бáба-ягá*** **вы́трашчыцца як [тая] бáба-ягá.** *Няўхв.* Пра недалікатны, непрыгожы позірк. Шпилевский, 177.

***бабёр*** **плáкаць як бабёр.** *Міл., Дзярж., Івац. Фальк.* Пра нейчы моцны, несупынны плач. Бялькевіч, 79; ФА; ЗЗайкі. < Верылі, калі бабёр знаходзіць перашкоду на сцежцы да сваёй хаткі, ён не можа пайсці іншай, а садзіцца і плача.

**тоўсты як бабёр.** *Ухв.* Пра дагледжанага здаровага чалавека. Янк., Пар., 167.

**зýбы** *ў каго* **як у бабрá.** *Карэл. Ухв.* Пра чые-н. моцныя, здаровыя зубы. Высл., 331.

**слёзы як у бабрá.** *Ваўк. п.* Пра буйныя слёзы каго-н. Federowski, 303.

**сы́плюцца як із бабрá слёзы.** *Лоеў. Спачув.* Пра чый-н. нястрыманы плач. Янкова, 350.

**прывóлле як бабрý на вóзеры.** *Ухв.* Пра нейчае свабоднае, прывольнае жыццё. Янк., Пар., 132.

**жыць бы бобéр [сам].** *Стол.* Пра адзінокага чалавека. ТС 1, 65.

***бабíнец*** як чорт у бабíнец. Гл. чорт.

уцякáць як чорт з бабíнцу. Гл. чорт.

***бáбіч*** **жыць як бáбіч.** *Стаўб. Няўхв.* Пра адзінокае жыццё, без жонкі, дзяцей. МК, 89.

**хадзíць як бáбіч.** *Краснап. Няўхв.* Пра жанападобнага мужчыну. Бялькевіч, 79.

***бáбка*** **усё рóўна як бáбка адваражы́ла.** *Карэл.* Высл., 406. Тое, што як сто баб адхадзіла.

**хлóпцы ростýць ек грыбы́, а дзéўкі – ек бáбкі.** *Стол.* Пра хуткі рост моладзі. ТС 1, 32. < Бабка – тут: падбярозавік.

***бабýлька*** **дóбры як бабýлька.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра спагадлівага, ласкавага чалавека. Янк., Пар., 54.

***бабýльчын*** хóраша як у бабýльчынай кáзцы. Гл. казка.

***бабы́ль*** **жыць як бабы́ль.** *Докш.* 1. Пра беззямельнага селяніна. 2. Пра старога халасцяка. СПЗБ 1, 135.

тóпіцца як у караля́, а вáрыцца як у бабыля́. Гл. кароль.

***багáты*** **брáць як багáтага за сэ́рца.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які моцна разгневаўся. Federowski, 42.

**брáць/узяць (ухапíць) як багáтага за жывóт.** *Ваўк. п., Жытк., Капыл.* Пра таго, хто моцна разгневаўся. Federowski, 324; Высл., 404; Янк., 398, 435; Ройзензон, 78; Аксамітаў, 193; ТС 2, 69.

**бяро́ як шчы́рага за сэ́рца, а бага́тага за жыво́т.** *Рэч.* Пра шчыльна падагнаныя дошкі. Pietkiewicz, 359. < Заўвага збіральніка: «Так кажа цесля, калі яму ўдасца штось капітальна замацаваць».

го́нару як у бага́тага сва́та. Гл. сват.

**наўчы́ць** *каго* **як бага́тага.** *Мсцісл. Іран.* Пра безвыніковае навучанне. Юрчанка 1977, 210.

**пасыла́ць** *каго куды* **як бага́тага (бага́таму) па смерць.** *Гродз. Воран. Іран.* Пра пасыланне, адпраўленне каго-н. без надзеі на хуткае вяртанне. Даніловіч, 213.

**цёпла** *дзе* **як у бага́тага ў кішэ́ні.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра значную ступень цяпла, забеспячэння. Federowski, 58.

**пайсці́ як бага́таму па смерць.** *Няўхв.* Пра павольную, марудную хаду. Сцяшковіч, 613.

**хо́чацца** *каму́ што* **як бага́таму ўміра́ць.** *Ваўк., Сак. п., Івац. Іран.* Пра нежаданне штосьці рабіць. Dybowski, 192; Federowski, 54; ЗЗайкі.

**як бага́ты.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра важнага, задаволенага чалавека. Юрчанка 1977, 210.

***багаты́р*** **хадзі́ць як багаты́р [які].** *Лельч. Няўхв.* Пра чалавека, які задаецца сваім багаццем. Кучук, Малюк, 10. < Багатыр – тут: багаты чалавек.

***Багаро́дзіца*** **сядзе́ць як Багаро́дзіца.** *Насмешл.* Пра кагосьці, хто сядзіць са складзенымі рукамі. БПФС, 27.

***багі́ня*** **як багі́ня.** *Мсцісл.* Пра адзінокую жанчыну. Юрчанка, 178. < Тлумачэнне збіральніка.

***багла́й*** **цяга́цца як багла́й.** *Няўхв.* Пра таго, хто бадзяецца без справы. Бялькевіч, 96. < Баглай – гультай.

***ба́гна*** со́весць зарасла́ мо́хам, як ба́гна ў бало́це. *Мін. Асудж.* Пра несумленнага чалавека. ЛЦ, 45.

**як ба́гну тапта́ць.** *Ветк. Няўхв.* Даваць многа, без ніякага знаку. Гор., Руд., 255.

***бада́к*** **калю́чы як бада́к.** *Слон.* 1. Пра нешта калючае. 2. *Насмешл.* Пра з'едлівага, калючага чалавека. Высл., 333. < Бадак – асот.

***бадзя́га*** **цяга́цца як бяздо́мны бадзя́га.** *Краснап. Асудж.* Пра чалавека, што не любіць сядзець на месцы, спакойна працаваць. Бялькевіч, 99.

***база́р*** **галгата́ць як на база́ры.** *Бял. Няўхв.* Пра голасную гамонку, калі гавораць усе адразу. Бялькевіч, 144.

**насі́цца як та Віхна з гарбузо́ю на база́ры.** *Стол. Насмешл.* Пра бязладнасць гаворкі і дзеяння. ТС 1, 195.

расхіхіта́цца як Сі́дар на база́ры. Гл. Сідар.

**як на дурны́м база́ры** *дзе. Мсцісл. Няўхв.* Пра беспарадак дзе-н. Юрчанка, 191.

***база́рніца*** **крыча́ць як база́рніца.** *Няўхв.* Пра празмерную крыклівасць. Носович, 12. < Базарніца – базарная гандлярка. АВНЛ.

***ба́йбус*** **здоро́ву ек ба́йбус.** *Жытк. Асудж.* Пра гультаяватага падлетка. ТС 1, 37.

***байстру́к*** **хадзі́ць як байстру́к.** *В.-Дзв. Няўхв.* Пра гультаяватага чалавека. СПЗБ 1, 153. Заўвага збіральніка.

**шанцава́ць** *каму* **як байструку́.** *Іран.* Пра адсутнасць шанцавання, удачлівасці. Ляцкий, 59, 6.

***ба́кала*** **дзіві́цца як ба́кала.** *Пагардл.* Пра марудлівае азнаямленне з чымсьці. Носович, 12. < Бакала – рассеяны, няўважлівы чалавек.

***балаба́н*** **балбата́ць як балаба́н.** *Люб. Няўхв.* Пра празмерную, не думаючы, гаворку, балбатню. ДА.

***балала́йка*** трэ́ба *каму што* як уме́рламу балала́йка. Гл. умерлы.

хадзі́ць як поп (Хо́мка) з балала́йкаю. Гл. поп.

***баландзю́к*** **цяга́цца як баландзю́к.** *Бых. Асудж.* Пра неадпаведныя для працавітага чалавека паводзіны. ЖН, 88. < Баландзюк – брадзяга, валацуга.

***балва́н, балба́н*** **ляжа́ць як балба́н.** *Гродз. Няўхв.* Пра таго, хто не рупіцца працаваць, доўга спіць, нерухома ляжыць. Цыхун, 17. < Балбан – балван.

**стая́ць як балва́н.** *Драг.* Зняважл. Пра лянівага, затармажанага чалавека. СПЗБ 1, 157.

***балеры́на*** *хто* **як з мяне́ балеры́на.** *Гродз., Шчуч. Іран.* Пра чалавека, які не адпавядае патрабаванням. Даніловіч, 227.

***бало́та*** вы́скачыць як чорт з бу́рага бало́та. Гл. чорт.

**Каму́ як бало́та, а каму́ як залота.** *Прык.* Пра разнастайнасць стаўлення да каго-, чаго-н. Federowski, 21.

**як бало́та гра́зкае.** *Маст. Асудж.* 1. Пра асяродак, абставіны, што спараджаюць застой. 2. *Груб.* Пра вельмі дурнога, неразумнага чалавека. Даніловіч, 213.

**як у бало́та ўкі́нуць** *што. Ваўк. п.* Пра бясследнае, беззваротнае знікненне чаго-н., марнаванне. Federowski, 21.

як чорт з бало́та. Гл. чорт.

як чорт з маславага бало́та. Гл. чорт.

ара́ць як чорт бало́там. Гл. чорт.

калаці́ць як чорт бало́там. Гл. чорт.

круці́ць як чорт бало́там. Гл. чорт.

вадзі́ць як чорт п’я́нага па бало́ту. Гл. чорт.

ды́баць бы бу́сько по боло́ту. Гл. буська.

прывы́кнуць як чорт к бало́ту. Гл. чорт.

ля́пнуць (сказа́ць) як ла́пцем (ато́пкам) па бало́це (па гразі) [пляснуў]. Гл. лапаць.

**па́хне як у бало́це.** *Няўхв.* Пра дрэнны, непрыемны пах. Ройзензон, 76.

скака́ць як за́яц на бало́це – з ку́піны на ку́піну. Гл. заяц.

скака́ць як хо́хлік у бало́це. Гл. хохлік.

со́весць як ку́піна ў бало́це – мо́хам зарасла́. Гл. купіна.

сядзе́ць як чорт у бало́це. Гл. чорт.

*у каго* со́весць зарасла́ мо́хам як ба́гна ў бало́це. Гл. багна.

увя́знуць як (бы) чорт у бало́це. Гл. чорт.

хадзі́ць як бу́сел па бало́це. Гл. бусел.

цяке́ць *з каго* і плыве́ць як ад чо́рта з бало́та. Гл. чорт.
што чарце́й у бало́це [жаніхо́ў]. Гл. чорт.
Язы́к у ро́це як чорт у бало́це. Гл. чорт.
ляжа́ць ек лось у боло́ці. Гл. лось.

***бало́тны*** як кікі́мара бало́тная. Гл. кікімара.
вы́цапкацца як чорт бало́тны. Гл. чорт.

***бальны́*** вазі́цца як з бально́ю ску́лаю. Гл. скула.

***бальшы́*** У міру́ як на бальшы́м піру́: хто ска́чыць, а хто пла́чыць. Гл. пір.

***баля́чка*** **пачырване́ць як баля́чка.** *Рэч.*, *Чэрык. Кплів. Здзекл.* Пра чыюсьці рэакцыю на нешта непрыемнае. Янкоўскі, 1968, 396.
**гла́дзіць як баля́чку.** *Хоц.*, *Мін. Іран.* Пра вымушаную асцярожнасць, далікатнасць. ЛЦ, 50.

***Банапа́рт*** убіра́цца як ад Куту́за Банапа́рт. Гл. Кутуз.

***бандо́ля*** **До́ля як бандо́ля, а шча́сце як мушке́т.** *Прык. Жарт.* Пра незайздросную долю. Federowski, 79.

***ба́ндур*** **[от чоловерно] як полескі ба́ндур.** *Жытк. Зняважл.* Пра нязграбнага ці неразвітага чалавека. ТС 5, 293. < Ба́ндур – высакарослы хлопец.

***ба́нк*** **хава́ць** *што* **як у фі́нскім ба́нку.** *Астр.*, *Шчуч. Жарт.* Пра надзейнае захоўванне чаго-н. Даніловіч, 261.

***ба́нка*** памагло́ як паме́рламу ба́нкі. Гл. памерлы.

***ба́нны*** прыкарэ́ць *да каго* як ба́нны ліст да це́ла. Гл. ліст.
прыста́ць *да каго* як ба́нны ліст. Гл. ліст.
прыста́ць *да каго* як ба́нны ліст да аднаго́ ме́ста. Гл. ліст.
прычапі́цца *да каго* як ба́нны ліст. Гл. ліст.
шу́стры як ба́нны ве́нік. Гл. венік.

***ба́нцік*** трэ́ба *каму што* як лы́саму ба́нцік. Гл. лысы.

***ба́ня*** **выпухтуліць** *каго* **як у ба́ні.** *Шчуч.* Пра фізічнае пакаранне, лупцоўку. СПЗБ 1, 365.
**духо́та ўсёдна як у ба́ні.** *Мсцісл.* Пра моцна нагрэтае, душнае паветра ў памяшканні. Бялькевіч, 160.
**напа́лена слова у ба́ні.** *Смал. п.* Добр., Смол., 452. Тое ж.
**па́рнасць што ў ба́ні.** *Слон.* Высл., 362. Тое ж.

***бараба́н*** **бараба́ніць як стары бараба́н.** *Чэрв. Няўхв.* Пра пустую, гучную гаворку каго-н. Гілевіч 2007, 198.
**бо́кі параздува́ла як бараба́н.** *Лельч. Няўхв.* Пра акруглыя бакі. З нар. сл., 180.
**галава́ што [табе́] бараба́н [і така́я ж пуста́я].** *Брэсц.*, *Мін., Чэрык. Няўхв.* Пра абсалютна пустую, бяздумную галаву. ЛЦ, 44.
**жыво́т (трыбу́х) як (бы) бараба́н.** *Слон.*, *Драг.*, *Івац. Жарт.* Пра напоўнены жывот, калі чалавек добра пад’еў. Высл., 320; Нар. лекс., 222; Юрчанка 1969, 137; ЗЗайкі.

***баравí́к*** **Мухамор не баравік, ён не пойдзе ў залік.** *Пол. Прык.* Пра адсутнасць карысці з мухамора, яго непатрэбнасць. ЗЛобача.
**як барaві́к.** *Мсцісл. Ухв.* Пра моцнага чалавека. Юрчанка, 178.
**кра́сен як борови́к.** *Смал. п. Ухв.* Пра здаровага, румянага старога. Добр., Смол., 37.

***барада́*** лéзці як казёл з барадóю. Гл. казёл.
насíцца як казёл з барадóю. Гл. казёл.
рабіць *што* як стáрца за барадý цягнýць. Гл. старац.

***бара́н*** Адзéўся як пан, а дурны́ як барáн. Гл. пан.

**бляя́ць як дурны́ бара́н.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра пустую, недарэчную гаворку. Federowski, 32.

**бóўтнуць як бара́н у вóду.** *Гродз. Пагардл.* Пра нешта сказанае недарэчы. Цыхун, 178.

**вы́валыты óчы ек бара́н на éйця.** *Драг. Здзекл.* Пра нейчы непрывабны погляд. Скарбы, 93.

**вы́лупіць вóчы як бара́н на вóўка.** *Слуцк. Пагардл.* Пра няўцямнае ўзіранне ў штосьці незразумелае. Ляцкий, 6; Сержпутоўскі 1999, 124.

**вы́лупіць вóчы як дурны́ бара́н.** *Ваўк. п. Пагардл.* Federowski, 336. Тое ж.

**вытарапіцца** *на каго/на што* **як бара́н на нóвыя варóта.** *Карэл. Пагардл.* Нар. слов., 50. Тое ж.

глядзéць *на каго/на што* як барáн на нóвыя варóты. *Сен.*, *Стаўб.*, *Гом.*, *Бабр.*, *Мядз.*, *Саліг.* МК, 55; АВНЛ; ФА. Тое ж.

**глядзе́ць** *на каго/на што* **як бара́н на стры́жаную аўцý (на запíску).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра здзіўлены, без разумення, позірк. Юрчанка, 178.

**глядзе́ць** *на каго/на што* **як бара́н у Бíблію.** *Іран.* Пра тупое, няўцямнае разгляданне чагосьці. Янк., Пар., 40.

**глядзе́ць** *на кагó/на што* **як [дурны́] бара́н [на вадý].** *Ваўк. п.*, *Сен. Пагардл.* Federowski, 109; МК, 55. Тое, што вылупіць вочы як баран на воўка.

**дурны́ як бара́н.** *Ваўк. п.*, *Сен.*, *Маст. Пагардл.* Пра вельмі тупога чалавека. Federowski, 86; Каспяровіч, 101; ФА.

**дывы́цьця бы бара́н на вóду.** *Кам. Няўхв.* ЖН, 54. Тое, што глядзець як баран у Біблію.

**жыць як бара́н да вóсені.** *Зэльв.* Пра бесклапотнае жыццё, не думаючы пра будучыню. ФА.

**жыць як бара́н да дзядóў.** *Зэльв.* Даніловіч, 213. Тое, што жыць як баран да восені.

**жыць як бара́н да Пакрóў.** *Ваўк.* ФА. Тое, што жыць як баран да восені.

**жыць як бара́н да рэ́зі.** *Гродз.* Цыхун, 180. Тое, што жыць як баран да восені.

**круцíцца як дурны́ бара́н.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра незразумелыя мітуслівыя дзеянні. Federowski, 153.

**кучара́вы як бара́н.** *Гродз.*, *Івац.* Пра крэпка кучаравага, лахматага чалавека. СПЗБ 2, 594; ЗЗайкі.

**Мужы́к як бара́н: астрыжы́, то ён зноў адрасцé.** *Рэч. Прык.* Пра здольнасці селяніна працай нажываць адабранае панам. Pietkiewicz, 379.

**набруха́ціцца як бара́н.** *Насмешл.* Пра бяздумнае, непатрэбнае аб'яданне. Носович, 35.

**пазіра́ць як дурны́ бара́н на ваду́.** Санько, 171. Тое, што глядзець як баран у Біблію.

**рабі́ць як бара́н на трыбу́х.** *Гродз. Няўхв.* Пра працу, вынікі якой ідуць толькі на ежу. Цыхун, 191.

разбіра́цца як бара́н па кні́зе. *Брэсц.*, *Касц. Іран*. Пра няўцямнае, тупое чытанне, разглядванне чаго-н. ЛЦ, 120.

**раскі́нуць но́жкі як бара́н ро́жкі.** *Ушацк. Жарт.* 1. Пра шырока разведзеныя ногі. 2. Пра жанчыну лёгкіх паводзінаў, у якой ногі разведзены (для любога ахвотнага), як рогі ў барана. Барадулін, 123.

**стая́ць як му́ты бара́н.** *Няўхв.* Пра панурага, празмерна спакойнага, бяздзейнага чалавека. ТС 1, 42.

**упа́рты (упі́рліў) як бара́н.** *Ваўк. п.*, *Краснап.*, *Мсцісл.*, *Глыб.*, *Глуск.*, *Слон.*, *Асіп.*, *Докш. Няўхв.* Пра занадта ўпартага, незгаворлівага чалавека. Federowski, 32; Бялькевіч, 460, 461; Высл., 406.

**утаро́піцца як бара́н на но́выя варо́ты.** *Лаг. Няўхв.* Varłyha, 145. Тое, што глядзець як баран у Біблію.

вы́лупіць во́чы як воўк на бара́на. Гл. воўк.

**галава́ раскало́чана як у бара́на.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра неахайную прычоску. Бялькевіч, 395.

**галава́ як у бара́на [уся ў кучара́вых кацяка́х].** *Барыс. Жарт.* Пра кучаравую непрычасаную галаву. Мін.-Мал., 1974. 18. < Кацяк – завіток.

**хыхлаччо́ як на дурны́м бара́ну.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра неахайную прычоску. Юрчанка 1998, 281. < Хахлаччо – непрыбраныя валасы.

**як бара́ны п'я́ныя.** *Карэл. Пагардл.* Пра дурных і забіячных. Высл., 425.

**бі́цца як [ты́я] баранэ́.** *Зэльв. Іран.* Пра няўступных, заўзятых забіяк. Нар. слов., 23.

**сця́цца бі́цца як [тыя] баранэ́.** *Зэльв. Пагардл.* Пра ахвочых да бойкі. Нар. слов., 23.

***барана́***

**валасы́ як барана́.** *Краснап. Няўхв.* Пра чые-н. рэдкія, жорсткія валасы. Бялькевіч, 349.

**галава́ як барана́ растрэ́сена.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра растрапаную прычоску. Federowski, 99.

**зу́бы што барана́.** *Шчуч. Няўхв.* Пра чые-н. рэдкія зубы. СПЗБ 2, 329.

**цяга́цца як барана́ за свіннёю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра недарэчнае хаджэнне, цяганне некага за некім. Юрчанка, 178.

**Пражы́ць як на баране́ прае́хаць.** *Гродз. Прык. Няўхв.* Пра дрэнна, няўдала пражытае жыццё. Даніловіч 2010, 91.

**З жо́нкай як з барано́й у ле́се.** *Прык. Іран.* Пра цяжкасці, нязручнасці жыцця жанатага мужчыны. Federowski, 366; Янкоўскі, 69.

*з кім* **як з барано́й у ле́се.** *Івац.* Пра нязручнасці абыходжання з кімсьці. ЗЗайкі.

**ідзе́ць як барано́й грабе́ць.** Чэрык. *Няўхв.* Пра нязграбную, няўклюдную хаду. Бялькевіч, 138.

схава́цца як ліса́ пад барано́й. Гл. ліса.

схава́цца як за́яц пад барану́. Гл. заяц.

схава́цца як лісіца пад барану́. Гл. лісіца.

***бара́ні**, гл.* ***баранні***

***бара́нішніца*** **крыча́ць як бара́нішніца.** *Асудж.* Пра чыюсьці крыклівую гаворку. Носович, 15. < Баранішніца – гандлярка абаранкамі. АВНЛ.

***бара́нні*** калаціцца як бара́ні хвост. Гл. хвост.

сэ́рца трапе́чыць як бара́ні хво́сцік. Гл. хвосцік.

дрыжа́ць (трэ́сціся, мата́цца, біцца, скака́ць) як бара́нні хвост (хво́сцік). Гл. хвост.

язычо́к лята́е як бара́нні хвасто́к. Гл. хвасток.

***барано́вы*** целепа́цца бы барано́вы я́йца. Гл. яйцо.

***баранчу́к*** **кудра́ванькі як баранчу́к.** Пра чыю-н. моцную кучаравасць. Носович, 15.

***бара́нчык*** **ку́длы на галаве́** *у каго* **як бара́нчык.** *Памянш. Лоеў.* Пра кучаравыя валасы. Янкова, 170.

**ершукі́ ўю́цца як у бара́нчыка.** *Памянш. Лельч.* Кучук, Малюк, 38. Тое ж.

***барві́нак*** **як барві́нак ві́цца.** *Лельч. Фальк.* Пра заляцанні хлопца. Кучук, Малюк, 11.

***барві́нчык*** **во́чкі сі́нія як барві́нчык.** *Памянш.-ласк. Слон. Ухв. Фальк.* Пра чые-н. сінія вочы. Высл., 294.

***бардады́н*** **ле́зці ўсю́ды як бардады́н [сераўно].** *Клецк. Насмешл.* Пра залішнюю цікаўнасць. Нар. лекс., 201. < Бардадын – тут: адзінокі, беспрытульны чалавек. Відаць, скажонае бернардзін – манах каталіцкага ордэна.

***баркула́баўскі*** спява́ць як баркула́баўскія ста́рцы. Гл. старцы.

***баро́вы*** здаро́вы як ры́жык баро́вы. Гл. рыжык.

***баро́н*** **хадзі́ць як баро́н.** *Касц. Іран.* Пра празмерна фарсістага важнага чалавека. Бялькевіч, 96.

***барсу́к*** **лы́сы як барсу́к.** Пра лысага чалавека. Янк., Пар., 97. < Параўнанне з барсуком, відаць, таму, што ў яго морда белая. Але, магчыма, тут іронія: у барсука поўсць грубая і даўгаватая.

**сядзе́ць як барсу́к у нары́.** *Мін. Няўхв.* Пра ціхае непрыкметнае існаванне. ЛЦ, 123.

**тлу́сты як барсу́к.** *Ваўк. п.* Пра дагледжанага, сытага чалавека. Federowski, 312.

**у нача́льства як у барсука́ – у адну́ нару́ пяць вы́ходаў.** Пра рознае стаўленне кіраўніцтва да падначаленых: у залежнасці ад адносін дае адмоўны ці станоўчы адказ. Аксамітаў, 264.

зарабі́ць як Са́ўка на барсуку́. Гл. Саўка.

***бархамо́тнік*** **гра́зны як [тэй] бархамо́тнік.** *Бран. Няўхв.* Пра неахайнага чалавека. Расторгуев, 49. < Бархамотнік – абадраны, брудны, у рыззі чалавек.

***ба́рхат*** **мя́кенька як ба́рхат.** *Лельч. Ухв.* Пра нешта вельмі мяккае. Кучук, Малюк, 8. < Бархат (аксаміт) – эталон мяккасці.

***ба́рын*** **жыць як за ба́рынам.** *Мсцісл. Ухв.* Пра прывольнае, беcклапотнае жыццё. Юрчанка, 183.

***ба́рыня*** **жыць як ба́рыня.** *Віл. Ухв.* Пра добрае, прывольнае, заможнае жыццё. Гілевіч 2007, 128.

та́лія *ў каго* што ў ба́рыні. *Міл. Ухв.* Пра тонкую талію. Бялькевіч, 122. < Як успамін пра зацягнутых у гарсэты паненак.

***ба́с*** абе́д без мя́са – як скры́пка без ба́са. Гл. скрыпка.

***басалы́га*** **ісці́ як басалы́га.** *Вілен. Няўхв.* Пра нязграбнага, але высокага чалавека. Sielicki, 159.

***басіна*** дрыжа́ць як жыд на басіне. Гл. жыд.

***басурма́н*** **хадзі́ць як басурма́н.** *Беш. Асудж.* Пра небяспечнага агрэсіўнага чалавека. Каспяровіч, 35. < Басурман – тут: вораг-татарын, небяспечны чалавек.

***басяка́*** **ісці́ як басяка́.** *Мсцісл.* Пра асцярожную, мяккую ходу. Юрчанка, 178.

***батле́н*** **напі́цца як батле́н.** *Карэл. Няўхв.* Пра крэпка п’янага чалавека. Высл., 352. < Відаць, як успамін пра той час, калі батлейшчыкаў шчодра частавалі, у тым ліку і гарэлкай. Батлей – тут: батлейшчык.

***бато́н*** як Ма́нька з бато́намі. Гл. Манька.

***Баты́й*** **як Баты́й прайшо́ў** *дзе. Няўхв.* Пра поўны непарадак, неразбярыху дзе-н. ФСБМ 2, 17.

***баўтану́ць*** як у ваду́ баўтану́ць. Гл. вада.

***бац****, гл. таксама* ***пацук*** **мо́кры як бац.** *Гродз. Няўхв.* Пра вельмі мокрага, спацелага чалавека. Даніловіч, 241. < Бац-пацук.

**спаце́ць як бац.** *Гродз. Няўхв.* Даніловіч, 241. Тое ж.

***бацві́нінка*** **хло́пчык як бацві́нінка.** *Памянш. Леп. Спачув.* Пра слабенькае, кволае хлапчаня. ЗВалодзінай.

***ба́цька*** **дагляда́ць** *каго* **як ро́дны ба́цька.** *Слуцк. Ухв.* Пра добры, шчыры догляд, клопаты. Сержпутоўскі 1999, 116.

**Старэ́йшы брат як другі́ ба́цька.** *Прык.* Пра стаўленне старэйшых дзяцей у сям’і да малодшых. БФБ, 251. < Старэйшы брат павінен быў апекаваць малодшых.

**шанава́ць** *каго* **як ро́днага ба́цька.** *Слон. Ухв.* Пра моцнае, шчырае шанаванне. Высл., 421.

**нож як для (да) ро́днага ба́цькі.** *Навагр. Няўхв.* Пра тупы, ненавостраны нож. Даніловіч, 220.

драць (запрасі́ць) што цыга́н за ба́цьку. Гл. цыган.

запрасі́ць як чорт за ба́цьку. Гл. чорт.

**крыча́ць** *на каго* **як на ро́днага ба́цьку.** *Мін. Іран.* 1. Відаць, пра нерашучы крык, бо на бацьку добрым людзям крычаць нельга. 2. Пра чалавека, які моцна крычыць на некага і тым яго крыўдзіць. ЛЦ, 83.

так до́рага хо́ча прада́ць як цыга́н ба́цьку. Гл. цыган.

***ба́цькаў*** жыць як за ба́цькавай галаво́й. Гл. галава.

***ба́цькаўшчына*** **ця́гне куды́ як [з гада́мі] на ба́цькаўшчыну.** Пра моцную цягу куды-н. Янк., Пар., 190.

***бачо́нак*** **як бачо́нак.** *Мсцісл.* Пра тоўстага чалавека, жывёлу. Юрчанка, 178.

***ба́чыць*** куды́ як ніко́лі хле́ба ў во́чы не ба́чыў. Гл. хлеб.
ста́ры як ма́лы: што ба́чыць, то про́сіць. Гл. малы.

***башлы́к*** **прапа́сці як Сымо́наў башлы́к.** *Маст. Насмешл.* Пра бясследнае знікненне чаго-н. Даніловіч, 254.
**як Сымо́наў башлы́к.** *Маст. Няўхв.* Пра чалавека, які зусім апусціўся, дайшоў да непрыстойнага, нізкага. Даніловіч, 254.

***бая́рынь*** **надзе́цца як бая́рынь.** *Сміл. Насмешл.* Пра пышна разадзетага чалавека. Шатэрнік, 30.

***бе́дны*** **Па́нская хваро́ба як бе́днага здаро́ўе.** *Гродз. Прык. Жарт.* Пра неаднолькавую ацэнку сітуацыі: спешчанаму дрэнна тады, калі няспешчанаму яшчэ прымальна. Цыхун, 190.
*што* **як у бе́днага саро́чка.** *Навагр.* Пра нешта адзінае ў чалавека. Даніловіч, 255.
сядзе́ць ціха як бе́дны свая́к. Гл. сваяк.

***без’язы́кі*** **маўча́ць як без’язы́кі.** *Няўхв.* Пра зусім маўклівага чалавека. Санько, 68.
**мі́каць як без’язы́кі.** *Няўхв.* Пра чалавека, які гаворыць невыразна. Станкевіч, 697.

***бе́лень*** **го́ркі шчо бе́лень.** *Стол. Няўхв.* Пра нешта вельмі горкае, часцей пра яблык. ТС 1, 51.

***бе́лка****, гл. таксама* ***вавёрка*** **го́лы як бе́лка.** *Леп.* Пра цалкам збяднелага, немаёмаснага чалавека. АВНЛ.
**круці́цца як бе́лка.** *Свісл.* Пра вельмі занятага, заклапочанага чалавека. Даніловіч, 213.
**круці́цца як бе́лка ў калясе́.** *Лаг.* МК, 132. Тое ж.
**ла́зіць як бе́лка па со́снах.** *Мсцісл. Ухв.* Пра чыё-н. спрытнае, хуткае перамяшчэнне. Юрчанка, 179.
**хі́тры як бе́лка.** *Няўхв.* Пра пранырлівага, хітрага чалавека. Ройзензон, 79.
**абабра́ць** *каго* **як бе́лку.** *Кап., Чэрык. Няўхв.* Пра поўнае, абсалютнае пазбаўленне маёмасці каго-н. Даніловіч, 213; ЛЦ, 49; ДА.
**абіры́чыць** *каго* **як бе́лку.** *Стаўб. Няўхв.* МК, 13. Тое ж.
**аблупе́жыць** *каго* **як бе́лку.** *Смал. п. Няўхв.* Добр., Смол., 502. Тое ж. < Аблупежыць – абадраць.
глядзе́ць як за́яц на бе́лку. Гл. заяц.

***бе́лы*** як па бе́лай біро́зі піло́й. Гл. бяроза.
ві́дна як у бе́лы дзень. Гл. дзень.
Убяры́ і пень, то бу́дзе як бе́лы дзень. Гл. дзень.
як дзень бе́лы. Гл. дзень.
як пень у бе́лы дзень. Гл. пень.

***бель*** **як бель.** *Мсцісл. Ухв.* Пра пакрыты белымі кветкамі сад. Юрчанка, 179.

***бéраг*** пéрці як плот на бéраг. Гл. плот.

***беразня́к*** **травá як беразня́к.** *Мсцісл.* Пра высокую, роўную траву. Юрчанка, 179.

***бервянó*** **спýхла нагá як бервянё.** *Шальч.* Пра вялікую пухліну. СПЗБ 4, 554.

**гóлы як акóранае бервянó.** *Мін. Спачув.* Пра немаёмаснага, беднага чалавека. ЛЦ, 70. < Без кары бервяно зусім голае і таму служыць эталонам беднасці.

**крýглы як бервянó.** *Мсцісл.* Пра нешта круглае. Янк., 411; Юрчанка, 179.

**ляжáць як бервянó.** *Міл. Няўхв.* Пра нерухомасць каго-н. Бяль-кевіч, 298.

**цяжкí як бервянó.** *Мсцісл.* Пра нешта цяжкае. Юрчанка, 179.

**як бервянó стáла [нагá].** *Лаг., Бран.* Высл., 425; Слов. брян., 46. Тое, што спýхла нагá як бервянё.

***Бéрка*** **вóчы павылáзілі от бы ў Бéрка лудáтаго.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека з вачыма навыкаце. Сержпутоўскі 1999, 106.

***Бéрман*** **спрáў як у Бéрмана на завóдзе.** *Леп. Жарт.* Пра вялікую колькасць спраў, занятасць каго-н. ФА. < Завод Бермана, відаць, лічыўся ўзорам дзелавітасці, энергічнай дзейнасці.

***бес*** Вы́рас як лес, а дурны́ як бес. Гл. лес.

Вялíкі як лес, дурны́ як бес. Гл. лес.

**доробля́ць шо бес.** *Жытк. Няўхв.* Пра неадэкватныя паводзіны, свавольства, дурасць. ТС 2, 31.

у вóчы лíсам, а за вóчы бíсам. Гл. ліс.

***бёрда*** **гóрла як сукóннае бёрда.** *Асудж.* Пра таго, хто ахвотны да выпіўкі. Ром., Бел., 310. < Суконнае бёрда – рэдкае, лёгка прапускае ніткі асновы.

**кáшляць як у бёрда.** *Мсцісл.* Пра моцны глухі кашаль. Юрчанка, 200.

**як бёрда.** *Жлоб. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека. Гор., Руд., 255.

***бздзець*** смéлы як жыд, калі ў шкóле са стрáху бздзіць. Гл. жыд.

***бздзюх*** **куры́ць як бздзюх.** *Гродз. Няўхв.* Пра моцнае курэнне, калі шмат цёмнага дыму. СПЗБ 1, 184. < Бздзюх – порхаўка.

***Бíблія*** панімáць як мядзвéдзь у Бíбліі. Гл. мядзведзь.

разбірáцца як вол па Бíбліі. Гл. вол.

разумéць як вол па Бíбліі. Гл. вол.

глядзéць як барáн у Бíблію. Гл. баран.

учытáцца як поп у Бíблію. Гл. поп.

***бізýн*** **абарвáцца як бізýн.** *Івац.* Пра абсалютнае збядненне каго-н. ЗЗайкі.

**абгалíцца як бізýн.** *Сен.* Каспяровіч, 2. Тое ж.

**гóлы як бізýн.** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Сміл.*, *Уздз.*, *Мін.*, *Барыс.*, *Лоеў.*, *Шчуч.*, *Маладз.*, *Гродз.* Пра зусім беднага чалавека. Ром., Бел., 293; Ляцкий, 8; Federowski, 112; Шатэрнік, 31; Мін.-Мал., 1970, 159; Высл., 306; Янкова, 87; СЦБ, 97; Цыхун, 180; ТС 5, 174; АВНЛ; ФА; Гілевіч, 165; ЗЗайкі.

падляце́ць як го́лы пад бізу́н. Гл. голы.

**худы́ (вы́сах, вы́петрыў) як бізу́н.** *Гродз.*, *Мсцісл. Насмешл.* Пра дужа схуднелага, высмяглага чалавека. Сцяшковіч, 284; Юрчанка 1977, 222.

**чо́рны як бізу́н.** *Ваўк. п.* Рэдка. Пра нешта чорнае. Federowski, 66.

рабіць як з-пад бізуна́. *Слон.* Пра цяжкую працу пад прымусам. Высл., 379.

прывы́кнуць як ср...ка к бізуну́. Гл. ср...ка.

**як бызу́н.** *Жабін. Насмешл.* Пра добра вымаклага чалавека. Ганчук, Касцючык, 85.

***біржа*** **вы́расці як біржа.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра высокую худую дзяўчыну. Юрчанка 1969, 60.

**насіцца як біржа.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра хуткага, імклівага чалавека. Юрчанка 1977, 210.

***бісер*** **як бісер.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нешта дробнае, бліскучае, яснае. Юрчанка, 179.

***біты*** падско́чыць, бы́ццам наступі́ў бо́сай наго́й на бітае шкло. Гл. нага.

***біцца*** з дурны́м свары́цца як з вадо́ю біцца. Гл. вада.

з табо́ю гавары́ць як з вадо́ю біцца. Гл. вада.

як дурно́му бы́тыся. Гл. дурны.

***біць*** п’ець як з лу́ка б’ець. Гл. лук.

п’ець як з ружжа́ б’ець. Гл. ружжо.

***біч*** **Галы́ш як біч, гуля́ка як саба́ка.** *Прык. Няўхв.* Пра лайдака, які ўсё праматаў. Аксамітаў, 189.

**галы́ш як біч.** *Пруж.* Пра зусім збяднелага, згалелага чалавека. Шейн, 475.

**Го́лы як біч, а во́стры як каса́ (сяке́ра).** *Рэч. Прык.* Пра чалавека беднага, неўплывовага, але з задзірлівым, вострым характарам. Pietkiewicz, 370; ТС 1, 60.

**Го́лы як біч, во́стры як меч.** *Прык.* Шпилевский, 178; Носович, 67; Сержпутоўскі 1999, 24. Тое, што Голы як біч, а востры як каса.

**го́лы як біч.** *Івац.*, *Люб.* ФА; ЗЗайкі. Тое, што галыш як біч.

**круці́цца як біч на цапі́льні.** *Дзярж. Іран.* Пра чалавека, якому даводзіцца часта і шмат выкручвацца. АВНЛ.

любі́ць як саба́ка біч. Гл. сабака.

**распусці́цца як жыдо́ўскі біч.** *Гродз.*, *Маст. Жарт.* Пра чалавека, які паводзіць сябе надта свабодна, непаслухмяна. Даніловіч, 223.

**распусці́ць язы́к як ху́рманскі біч.** *Ваўк. п. Жарт. Іран.* Пра чалавека, які надта разгаварыўся. Федароўскі, 127.

**Хоць гол як біч, да вумён як Саламо́н.** *Прык.* Пра беднага, але вельмі дасведчанага чалавека. ПП 1, 408.

**пaпе́рці** *адкуль* **як з біча́.** *Карэл.* Пра імклівае выскокванне аднекуль, хуткі рух, перамяшчэнне. Высл., 361.

біць як па сно́пе бічам. Гл. сноп.

**памагчы́ як бíчам па вадзé.** *Астр. Іран.* Пра немагчымасць штосьці зрабіць. СПЗБ 3, 374.
**як бíчам па вадзé** *каму. Воран. Няўхв.* Пра адсутнасць уплыву на каго-н. Даніловіч, 214.
**каласы́ як бічэ́.** *Гродз. Ухв.* Пра вялікія, цяжкія каласы. Сцяшковіч, 187.

***бічóўка*** **каласы́ як бічóўкі.** *Лаг. Ухв.* Пра вялікія, цяжкія каласы. Varłyha, 49.

***благí*** чапáцца як благáя скýла. Гл. скула.
як благáя бáба. Гл. баба.
як благáя свіння́. Гл. свіння.
гадзíць як благóй скýле. Гл. скула.
дрáцца як благí мацер'я́л. Гл. мацер'ял.
пхаць як у благí мяшóк. Гл. мяшок.
раз'éхацца як благíя пóрткі: то там, то там балíць. Гл. порткі.
біць як благóга катá. Гл. кот.

***блакáдны*** як з блакáднага Ленінгрáду. Гл. Ленінград.

***блашчы́ца*** **сядзéць як блашчы́ца ў шчы́ліне.** *Насмешл.* Пра чалавека, які сцішыўся, схаваўся, прытаіўся. Янк., 431.
**вóчы як у блашчы́цы.** *Мін. Насмешл.* Пра маленькія і невыразныя вочы. Высл., 295.

***блёкат*** **бéгаць як блёкату аб'éўшыся.** *Асудж.* Пра мітусню як пры атрутных канвульсіях. Янк., Пар., 15.
**гавары́ць як блёкату наéўшыся.** *Ваўк. п., Івац. Няўхв.* Пра няўцямную гаворку. Federowski, 108; ЗЗайкі.

***блізня́ты*** заўсёды ўдвýх як арэ́хі-блізня́ты. Гл. арэх.
**рóдныя як блізня́ты.** Пра вельмі блізкіх адзін аднаму людзей. Янк., 425.

***блін*** **ламáцца як грэ́цкі блін.** *Насмешл.* Пра хуткую страту знешняга выгляду. БФГ, 171.
**лёгкі на ўспамíн як з патэ́льні блін.** *Докш.* 1. Пра часты і прыемны ўспамін. 2. Пра чалавека, які кожны раз з'яўляецца тады, калі пра яго ўзгадваюць. Высл., 341.
**марнавáцца як грэ́цкі блін у тóрбе.** *Валож.* Высл., 345. < Грэцкі блін крохкі, ломкі і ў торбе хутка траціць выгляд. Тое, што ламáцца як грэ́цкі блін.
**Ні то, ні сё – як гарэ́лы блін.** *Няўхв.* Пра нягеглага работніка, нікчэмнага чалавека. Станкевіч, 139.
**прыставáць як кéпскі блін.** *Няўхв.* Пра настойлівае прыставанне, прыліпанне каго-н. да кагосьці іншага. Янк., Пар., 134.
**тóнкі як блін.** *Маст. Насмешл.* Пра нешта тонкае, пляскатае. Сцяшковіч, 610.
цягáцца што гусь з блíнам. Гл. гусь.
Прáўда не шквáрка – з блінáмі не з'ясí. Гл. шкварка.
нахватáцца як сярбýн блінóў. Гл. сярбун.
**Ілжэ́ як бліны́ пячэ́: тóлькі шыпíць.** *Прык. Асудж.* Пра таго, хто з лёгкасцю лжэ. ПП 2, 312.

**пячы́ як бліны́.** *Жарт.* Пра лёгкае, хуткае выкананне пэўнай працы. БПФС, 30.
утрэ́скацца як чорт у кíслыя бліны́. Гл. чорт.
**як бліны́ пячы́.** *Мсцісл.* Юрчанка 1977, 210–211. Тое, што пячы́ як бліны́.

***бліскаві́ца*** **мігну́ць як бліскаві́ца.** *Вауk. п.*, *Слон.* Пра хуткае, імклівае міманне чаго-н. Federowski, 186; Высл., 346.
**сцебану́ць як бліскаві́ца.** Пра нешта хуткае, рэзкае – удар, словы. Янк., Пар., 159.
**шпа́ркі як бліскаві́ца.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра рухавага, хуткага, імклівага чалавека. Federowski, 300.
глядзе́ць як гусь на бліскаві́цу. Гл. гусь.
**схапі́ць як бліскаві́цу.** *Іран.* Пра немагчымасць нешта зрабіць, схапіць, атрымаць. Янк., Пар., 158.

***блі́скаўка*** **шпа́ркі як блі́скаўка.** *Ваўк. п. Ухв.* Federowski, 300. Тое, што шпаркі як бліскавіца.

***блішчо́ны*** глядзе́ць як ду́рань на бо́ты блішчо́ныя. Гл. дурань.

***блу́дзень*** **як блу́дзень** [сваёй хаты не пазнае́ш]. *Дзятл. Асудж.* Пра моцна п’янага. Жыв. сл., 6.

***блудзя́шчы*** **хадзі́ць як блудзя́шчы.** *Чыж. Злосл.* Пра чалавека, што бадзяецца, не пільнуецца дому. СПЗБ 1, 196.

***блу́дны*** хадзі́ць як блу́дная гаўца́. Гл. аўца.

***блыха́*** го́нару што ў свінні́ блох. Гл. свіння.
го́нару як у саба́кі блох. Гл. сабака.
даўго́ў як у су́чкі блох. Гл. сучка.
набра́цца як Му́рза блох. Гл. Мурза.
набра́цца як су́чка блох. Гл. сучка.
**дзёргацца нібы бло́хі ў штана́х.** *Гом. Пагардл.* Пра нейкія няхвартыя намаганні. АВНЛ.
напа́сці як на мо́крага бло́хі. Гл. мокры.
як той, што ў сало́ме спіць, а зубамі бло́хі б’е. Гл. салома.
**вы́паўзці як блыха́ на пу́за.** *Смарг. Іран. Насмешл.* Пра чалавека, які раптам разбагацеў, выбраўся на віднае месца. ФА.
**пры́ткі як блыха́.** *Беш. Насмешл.* Пра кагосьці хуткага, рэзкага, імклівага. Каспяровіч, 255.
**скака́ць як блыха́ ў штана́х.** *Мін. Кплів.* Пра нейчыя рэзкія, непрывабныя, нечаканыя падскокі, мітусенне. ЛЦ, 122.
**скака́ць як блыха́.** *Мсцісл. Кплів.* Пра мітуслівыя рухі. Бялькевіч, 88.
набра́цца як саба́ка (цю́цька) во́шай. Гл. сабака.

***бля́ха*** бліша́ць як вош на бля́се. Гл. вош.
**выцыга́ць як на гара́чай бля́се.** *Слон. Насмешл.* Пра нейчае незайздроснае становішча, калі добра падпячэ. Высл., 299. < Выцыгаць – падскокваць.
падско́кваць як кот на гара́чай бля́се. Гл. кот.
**брэмкаць як па блясе.** Пра характэрны гук, лясканне. АВНЛ.
як град па бля́хе. Гл. град.

***бляша́нка*** **лы́сы як бляша́нка.** *Насмешл.* Пра лысую галаву. СПЗБ 2, 698.

***бля́шка*** **балабо́ніць як у бля́шку.** *Мсцісл. Іран.* Пра гучную гамонку. Бялькевіч, 97.

***бляя́ць*** адно́й як аве́чка бляе́ць: ні туды, ні сюды. Гл. авечка.

***боб*** **во́чкі як боб.** *Гом.* Пра чые-н. маленькія выразныя вочкі. ПП 2, 114.

**пшані́ца як боб.** *Ухв.* Пра буйную, ураджайную пшаніцу. Янк., Пар., 135.

**слёзы як боб.** *Івац. Спачув.* Пра нейчыя буйныя горкія слёзы. ЗЗайкі.

**сы́пацца як боб.** *Слон.* Пра частыя смерці ў выпадках эпідэміі, голаду. МК, 29–30.

**чыта́ць як боб малаці́ць.** *Маладз. Ухв.* Пра выразнае і хуткае чытанне. ФА.

**як боб адмалаці́ць.** *Стаўб. Ухв.* Пра беглае і выразнае прачытанне чаго-н. МК, 308.

**бо́бам гавары́ць.** *Ашм.* Пра гаворку ў хуткім тэмпе. СПЗБ 1, 398.

**чыта́ць як бо́бам сы́паць.** *Ушацк.*, *Светл. Ухв.* МК, 308; Высл., 393. Тое ж.

**як бо́бам пла́каць.** *Слон. п.* Пра буйныя слёзы, моцны плач каго-н. Federowski, 238.

**як бо́бам сы́паць.** *Ашм.*, *Ушацк.*, *Стаўб.* Пра хуткую гаворку каго-н. Даніловіч, 214; МК, 308.

**блох у ха́це як бо́бу.** *Сміл.* Пра вялікую колькасць блох у хаце. Шатэрнік, 32.

**гавары́ць як бо́бу аб’е́ўшыся.** *Ваўк. п.* 1. Пра балбатню, хуткую гаворку. 2. *Насмешл.* Пра выпусканне газаў. Dybowski, 9; Federowski, 108.

**Дзяце́й як бо́бу, а хле́ба ні дро́бу.** *Гродз.*, *Навагр. Прык.* Пра беднасць мнагадзетнай сям’і. Сцяшковіч, 588; Гілевіч, 154.

**дзяце́й як бо́бу.** *Івац.* Пра шматлікасць дзяцей у сям’і. Шпилевский, 179; Киркор, 238; Нос., 35; Аксамітаў, 200; ЗЗайкі.

**нае́сціся як ду́рань бо́бу.** *Слон. Жарт.* Пра таго, хто неабачліва наеўся да небяспечнага стану. Высл., 351.

**насы́паць як бо́бу.** *Слуцк. Асудж.* Пра балбатлівасць і нястрыманасць жанчыны. Сержпутоўскі 1999, 47.

**як бо́бу ў гаро́се шука́ць.** Пра лёгкае заданне. Янк., 443.

***бобу́ль*** **хадзі́ць як бобу́ль.** *Жытк.* Пра вытрыманага, але панурага чалавека. ТС 1, 66. < Бобуль – стары халасцяк.

***Бог*** **глухі́ як бог.** *Чав.* Пра чалавека, да якога колькі не звяртайся, а адказу не пачуеш. 1970.

**жыць як Бог** [усё ў рука́х]. *Мсцісл. Ухв.* Пра заможнае, бесклапотнае жыццё. Юрчанка 1977, 211.

**жыць як Бог вялі́ць.** *Слуцк. Ухв.* Пра жыццё сумленнае, працавітае, суладнае. Сержпутоўскі 2000, 185.

**пра́ўда як Бог на не́бе.** *Ваўк. п.* 1. *Ухв.* Пра абсалютную дакладнасць пачутага, сказанага, пра шчырую праўду. 2. *Іран.* Пра адсутнасць праўды, падман. Federowski, 246.

**распіса́ць як Бог чарапа́ху.** Пра моцнае, бязлітаснае знявечванне каго-н. ФСБМ 1, 108.
**як Бог на не́бе, так пан на зямлі́.** Аксамітаў, 236. Тое, што жыць як Бог.
**як бог у Адэ́се, на цёплым ме́сце.** *Ухв. Гом.* ПП 1, 343. Тое, што жыць як Бог.
ашука́ць як жыд Бо́га. Гл. жыд.
ашука́ць як жыд па́на Бо́га. Гл. жыд.
**бяспе́чны як у Бо́га за плячы́ма (дзвяры́ма).** *Ваўк. п. Ухв.* Пра бесклапотнага чалавека, які жыве заможна і ў поўнай бяспецы. Federowski, 29.
дзяржа́цца як Халімо́н за Бо́га. Гл. Халімон.
**ждаць як бо́га.** *Івац. Слон.* Пра моцнае чаканне, спадзяванне на нешта добрае. Высл., 319; ЗЗайкі.
Жыццё як даро́га: прасі́ Бо́га. Гл. дарога.
Жыццё як даро́га: прасі́ ў Бо́га. Гл. дарога.
**жыць (сядзе́ць) як у Бо́га за па́зухай.** *Смал. п.*, *Стаўб.*, *Лаг.*, *Бабр.*, *Астр.*, *Карэл.*, *Карм.*, *Мсціcл.*, *Стол. Ухв.* Пра спакойнае, ціхае жыццё, без асаблівых клопатаў і трывог. Ром., Бел., 295; Добр., 119; Ляцкий, 12; Pietkiewicz, 403; Мін.-Мал., 1970, 171; МК, 320; Высл., 319; Юрчанка 1969, 44; Цыхун, 180; СПЗБ 3, 334; АВНЛ; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі.
**жыць як у Бо́га за дзвяры́ма.** *Маладз.*, *Петр.*, *Жытк. Ухв.* ТС 1, 66; МК, 320; ФА. Тое ж.
**жыць як у Бо́га за плячы́ма.** Булгаковский, 178; Цыхун, 180. Тое ж.
**жыць як у Бо́га ў ву́се.** *Навагр. Ухв.* Даніловіч, 256. Тое ж.
**каха́ць як бо́га.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра вельмі шчырае, моцнае каханне. Federowski, 132.
му́чыць як жыды́ па́на Бо́га. Гл. жыд.
**п’я́ны ек у Бо́га дзень.** *Жытк. Няўхв.* Пра моцна п’янага чалавека. ТС 1, 180.
**рад як бы бо́га за но́гі злаві́ў.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра беспадстаўную радасць нейкага залішне самаўпэўненага чалавека. Federowski, 38.
**спадзявацца** *на каго* **як на Бо́га.** *Мсціcл.* Пра чые-н. цвёрдыя спадзяванні. Юрчанка, 191.
**стая́ць як у бо́га цялё ўкра́ўшы.** *Іўеў. Насмешл.* Пра чалавека, які стаіць вінавата, разгублена, з адчуваннем няёмкасці. Даніловіч, 256.
**сядзе́ць як у бо́га за плячы́ма.** *Дзярж. Ухв.* Гілевіч, 161. Тое, што жыць (сядзець) як у Бога за пазухай.
**сядзе́ць як у Бо́га не прыня́ты.** *Брасл. Насмешл.* Пра разгубленага, забедаваўшага, што не трапіў у рай (куды хацеў). Рабкевіч, 198.
**сядзе́ць як у па́на Бо́га за пе́ччу (пе́чкай).** *Ваўк. п. Ухв.* Dybowski, 17; Federowski, 274. Тое, што жыць (сядзець) як у Бога за пазухай.

**жыць як за бóгам.** Санько, 71. Тое, што жыць (сядзець) як у Бога за пазухай.

**кáяцца як пéрад бóгам.** *Мсціcл.* Пра шчырае, чыстасардэчнае, без падману апавяданне пра што-н. Бялькевіч, 18.

**як з Бóгам пагавары́ць.** *Зэльв. Ухв.* Пра адчуванне фізічнай ці маральнай палёгкі, задавальнення. Даніловіч 2008, 136.

***Бóжа*** **сядзи́т рýки палажá як святэ́й Божá.** *Смал. п.* Пра бяздзейнага, пасіўнага, падобнага сваёй позай да святога на абразе. Добровольский III, 57.

***бóжы*** сядзéць як Мáцер Бóжая. Гл. мацер.
як Мáтка Бóжжая. Гл. матка.
глядзéць як шавéц на бóжа цялé. Гл. шавец.
зажуры́цца ек бóжы непотрэ́бнік. Гл. непатрэбнік.
стая́ць як бóжы непотрэ́бнік. Гл. непатрэбнік.
я́сна як бóжы дзень. Гл. дзень.
ціха як у бóжым вушку. Гл. вушка.
як у бóжым (бóскім) вýшку (вýху). Гл. вуха.
распусціцца як бóскі кій. Гл. кій.

***бóйня*** гры́зціся як сабáкі на бóйні. Гл. сабака.
упірáцца як вол, якóга вядýць на зарэ́з (на бóйню). Гл. вол.

***бок*** ускóчыць як скýла на бакý. Гл. скула.
мýляць як скýла на бакý. Гл. скула.
**дарóга, хоць бóкам кацíся.** *Ваўк. п., Слуцк., Івац. Ухв.* Пра добрую, наезджаную дарогу. Federowski, 133; Сержпутоўскі 1999, 123; ЗЗайкі.
хадзíць як пан у бóкі ўзя́ўшыся. Гл. пан.

***бóлька*** **як да бóлькі прылажы́ць.** *Смарг. Кплів.* Пра вельмі малую, мізэрную колькасць чаго-н. ФА.

***бóльшы*** паслухмя́ны як пéрад бóльшым начáльнікам. Гл. начальнік.

***бóмба*** **вы́литіў як бóмба.** *Смал. п.* Пра раптоўнае імклівае знікненне альбо з’яўленне. Добр., Смол., 735.

***бóнда*** **печанí тóўстыя як бóнды.** *Воран. Ухв.* Пра тоўстыя печані. СПЗБ 1, 204. < Бонда – буханка хлеба.

***бóндараў*** хадзíць як бóндарава карóва. Гл. карова.
адбýчыць як бóндараву карóву. Гл. карова.

***бóндачка*** **твар крýгленькі як бóндачка.** *Памянш.-ласк. Шчуч. Ухв.* Пра кругленькі прыемны чый-н. твар. СПЗБ 1, 205. < Параўнанне з булачкай хлеба мусіць несці дадатны сэнс.

***бонк/бóнка*** **апíцца (напíцца) як бонк кóнскай крывí.** *Ваўк., Сак. п. Асудж.* Пра моцна п’янага. Federowski, 9, 230. < Бонк – авадзень.
**бубнéць як бóнка.** *Слон. п. Насмешл.* 1. Пра манеру гаварыць бомкаючы. 2. Пра надта гаварлівага чалавека. Federowski, 43.

***бор*** [яна] як той кáмень на барý. Гл. камень.
багáта як іглíцы ў бары́. Гл.ігліца.

***Бóрах*** **цягáцца як Бóрах па двóрах.** *Мсціcл. Жарт.* Цягацца ад хаты да хаты, як гарбрэі-арандатары, што часта мянялі арэндадаўцаў. Юрчанка 1977, 222.

***бо́рахаў*** бу-бу-бу як бо́рахава кіла́. Гл. кіла.

***бо́рна*** збіра́цца *куды* як гало́дны ў бо́рну. Гл. галодны.

***бо́сы*** падско́чыць бы́ццам наступі́ў бо́сай нагой на бі́тае шкло. Гл. нага.

**лёгка як бо́саму разу́цца.** Пра вельмі простае, лёгкае выкананне працы. ФСБМ 2, 261.

хадзі́ць як саба́ка бо́сы. Гл. сабака.

***бот*** ажані́цца як нагу́ ў бот уста́віць. Гл. нага.

**блішча́ць як паваксава́ны бот.** *Слон. Насмешл.* Пра самазадаволенага і празмерна ўбранага. Высл., 287.

**галава́ як бот з ле́вай нагі́.** *Смарг. Пагардл.* Пра неразумнага чалавека. ФА.

**глухі́ як бот.** *Мін. Жарт.* Пра няўважлівага, глухога. ЛЦ, 88.

**дружы́ць як бот з ла́пцем.** *Мсцісл. Іран.* Пра адсутнасць сяброўства. Юрчанка, 173.

**дурны́ што бот разі́навы.** *Чэрв. Пагардл.* Пра дурнога чалавека. АВНЛ.

**дурны́ як бот без халя́вы.** *Дзятл. Пагардл.* Даніловіч 2008, 136. Тое ж.

**дурны́ як бот** [парва́ны, з ле́вай нагі́]. *Ваўк. п., Івац., Сміл., Касц., Маладз., Уздз., Слон., Віл., Докш., Нясв., Мін., Касц., Стаўб. Пагардл.* Federowski, 86; Шатэрнік, 89; Бялькевіч, 160; МК, 79; Высл., 316; ЛЦ, 42; ФА; ЗЗайкі. Тое ж.

**дурны́ як бот дзіра́вы.** *Астр. Пагардл.* ФА. Тое ж.

**дурны́ як ле́вы бот <з дзю́ркай на пяце>.** *Ашм., Астр. Пагардл.* Даніловіч, 231. Тое ж.

**дурны́ як мой ле́вы бот.** *Люб. Пагардл.* ФА. Тое ж.

**дурны́ як Пятро́ў бот з ле́вай нагі́.** *Гродз. Пагардл.* Даніловіч, 243. Тое ж.

**дурны́ як ру́скі бот.** *Лаг. Пагардл.* Варлыга 1966, 32. Тое ж.

**дурны́ як стапта́ны бот.** *Мін., Касц. Пагардл.* ЛЦ, 42. Тое ж.

**Жо́нка не бот – не скі́неш.** *Прык.* Пра сур'ёзнасць сямейных сувязяў. Нос., 43.

**задава́цца як бот пе́рад ла́пцем.** *Мсцісл. Іран.* Пра ганарыстае стаўленне да ніжэйшых у сацыяльнай іерархіі. Юрчанка, 179.

**набра́цца як бот.** *Чэрв. Асудж.* Пра добра ап'янелага чалавека. Гілевіч, 166.

**п'ецъ як у бот ліе́ць.** *Ушацк. Асудж.* Пра таго, хто непамерна многа п'е. Барадулін, 103.

усё гато́ва як нагу́ ў бот уста́віць. Гл. нага.

**як бот дзюра́вы.** *Леп. Пагардл.* КВДУ. Тое, што дурны як бот.

**як у бот ступі́ць.** *Астр.* Пра атрыманне нечага ў гатовым выглядзе, часцей пра прыход жыць/працаваць на ўсё гатовае. Даніловіч, 256.

выхваля́цца як абмо́тка пе́рад бо́там. Гл. абмотка.

спяша́цца як шаве́ц на кірма́ш за бо́тамі.

**стая́ць як у но́вых бо́тах.** *Нясв. Насмешл.* Пра ганарыстага, важнага чалавека. ФА.

глядзéць як дýрань на бóты блішчóныя. Гл. дурань.
патрэ́бен як карóве бóты. Гл. карова.
як шавéцкі нож – і бóты шыць, і бýльбу крышы́ць. Гл. нож.
мýляць як цвік у бóце. Гл. цвік.
рáды як цвікý ў бóце пад пя́ткай. Гл. цвік.
**толк** *дзе* **як у парвáным бóце.** *Воран. Асудж.* Пра бесталковую сітуацыю. Сцяшковіч, 592.
**тóлку** *дзе* **як у дзірáвым бóце.** *Воран.* ФА. Тое ж.

***бóхан*** **у каня́ пéрсі як баханэ́.** *Шчуч. Ухв.* Пра шырокія, моцныя грудзі ў каня. СПЗБ 1, 209.

***бóхаўка*** **бáба тóўстая што бóхаўка.** *Віл.* Пра мажную жанчыну. СПЗБ 1, 209. < Бохаўка – тоўстая калода.

***бóчачка*** **як бóчачка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Пра поўнага, сытага чалавека альбо жывёліну. Юрчанка, 179.

***бóчка*** **бáба гладзь ек бóчка.** *Стол.* Пра мажную жанчыну. ТС 1, 201.
**барабáніць як парóжняя (пустáя) бóчка.** *Асудж.* Пра таго, хто громка і недарэчы гаворыць. Янк., 397.
**бурчáць як дзірóвая бóчка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надакучлівае бурчанне каго-н. Юрчанка, 182.
**жывóт як бóчка.** Пра чый-н. вялікі тоўсты жывот. Янк., Пар., 62.
**здулó карóву як бóчка.** *Слуцк.* Пра абдутую ў выніку пераядання карову. ЖНС,154.
**крýглы як бóчка.** *Мін.* Пра ўкормленага і тоўстага чалавека, жывёлу. Высл., 336.
**наéсца ек бóчка.** *Жытк. Няўхв.* Пра празмернае наяданне. ТС 3, 154.
**напíцца як бóчка.** *Слон.* Пра чалавека, што выпіў шмат вадкасці альбо гарэлкі. Высл., 352.
**развалíцца (рассы́пацца) як бóчка без абручóў.** *Мін.* Пра любое раз’яднанне. ЛЦ, 120.
табé нáда і не нáда як жýжалю бóчка жы́та. Гл. жужаль.
**таўсты́ (таўшчарэ́зны, таўшчэ́нны) як бóчка.** *Ваўк. п., Слуцк., Краснап., Кам., Івац.* Пра тоўстага чалавека, жывёлу. Federowski, 311; Сержпутоўскі 1999, 134; Бялькевіч, 441; СПЗБ 5, 102; ЗЗайкі.
**тóненькі як бóчка.** *Іран.* Пра тоўстага чалавека. Янк., 432.
**трэ́ба як бóчка без абручóў.** *Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Янк., Пар., 170.
**хозя́йка мóўна – як бóчка пóўна.** *Стол.* Пра гаваркую жанчыну. ТС 3, 94.
**гавары́ць бы з бóчкі.** *Слуцк.* Пра глухую, грубую гаворку. Сержпутоўскі 1999, 134.
грукацéць бы на мóсце, як вязýць пýстыя бóчкі. Гл. мост.
*з каго* **хазя́йка як ад пустóй бóчкі заты́чка.** *Астр. Няўхв.* Пра няўмелую, нядбайную гаспадыню. СПЗБ 5, 281.
**найшлó ў хáту як сялёдак у бóчкі.** *Мсцісл.* Пра вялікае напаўненне памяшкання людзьмі. Юрчанка 1969, 121.

**параз’е́сціся як бо́чкі.** *Мін., Бран. Няўхв.* Пра абжорлівых людзей, жывёлу. Высл., 362; Слов. брян., 13.

як шпунт ад бо́чкі. Гл. шпунт.

**бу́хаць як у бо́чку.** *Уздз., Маст., Зэльв., Чэрв. Няўхв.* Пра моцны кашаль. Янк., Пар., 19; Мін.-Мал., 1977, 136; СЦБ, 46; ТС 1, 77; Даніловіч, 256; ФА.

**валі́ць** *што* **як у бязд́оннную бо́чку.** *Слон. Няўхв.* Пра безвыніковую працу, дапамогу. Высл., 291.

**гавары́ць як у пусту́ю бо́чку.** *Рэч. Няўхв.* ЛЦ, 102. Тое, што гаварыць бы з бочкі.

**е́сці як у бо́чку.** *Бабр., Браг. Асудж.* Пра празмернае спажыванне ежы. МК, 85; Горленка, 251.

**ка́шляць (пі́рхаць) як у бо́чку.** *Івац., Слон., Мсцісл. Няўхв.* Пра гучны кашаль. Высл., 335; Юрчанка 1969, 119; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі.

**напаі́ць як бо́чку.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра празмернае прымушэнне каго-н. да спажывання алкагольных напояў. Federowski, 197.

**піць як у бо́чку ліць.** *Зэльв., Івац. Асудж.* Пра празмернае спажыванне алкагольных напояў. Dybowski, 18; Леп., 95; Даніловіч, 256; Янкоўскі, 244; ЗЗайкі.

**піць як у дурну́ю бо́чку.** Юрчанка, 200. Тое, што піць як у бо́чку ліць.

жыць як са́ла ў бо́чцы. Гл. сала.

***бра́га*** дабра́цца (дапа́сці, дарва́цца) як вол (каро́ва, свіння́) да бра́гі. Гл. вол.

набра́цца як свіння́ бра́гі. Гл. свіння.

падто́ркнуцца як чорт з каўшо́м пад бра́гу. Гл. чорт.

***бра́жны*** як каро́ва бра́жная. Гл. карова.

***брат*** **Го́лад не свой брат.** *Слуцк. Прык.* Пра бязлітаснасць голаду. Сержпутоўскі 2000, 188.

**пагавары́ць як з бра́там.** *Ухв.* Пра нейчую шчырую, прыязную, даверлівую размову. ФСБМ 1, 185.

**жыць як браты́.** *Івац., Слуцк. Ухв.* Пра дружнае сужыцце. Сержпутоўскі 1999, 59 ЗЗайкі.

**падо́бны ўсё адно́ як браты́.** Пра падобных мужчын. ЛА, 25.

**як ро́дныя браты́.** *Ваўк. п.* Пра падобных альбо дружных людзей. Federowski, 42; ЛА, 25.

**Жыве́м як бра́це, раху́емся як жы́дзе.** *Прык.* Кажуць у папрок родным, якія не робяць палёгкі. Нос., 42; Даніловіч 1996, 143.

***брахня́*** **пакаці́лася (разышла́ся) гарэ́лка па жывату́ як брахня́ па сялу́.** *Мін. Жарт.* Пра гарэлку, якая хутка заняла ўсе куточкі ў страўніку і стварыла адпаведны настрой. ЛЦ, 97.

**пійшло́ як бры́хня по сылі́.** *Насмешл.* Кажуць, выпіўшы чарку гарэлкі. ФА.

***бра́цкі*** раскалыха́цца як бра́цкі звон. Гл. звон.

***бро́вар*** **бе́гаць як бро́вар падпалі́ўшы.** *Свісл. Насмешл.* Пра неспакойную, мітуслівую бегатню. Даніловіч, 214.

лята́ць як жыд бро́вар запалі́ўшы. Гл. жыд.
сы́ты як вол на бро́вары. Гл. вол.

***Бро́ня*** **цяга́цца як Бро́ня па капу́сце.** *Люб. Няўхв.* Пра некага, хто цягаецца па сяле, як мясцовая вядомасць Броня ў выпадку з капустай. ФА.

***Бро́цкі*** **заробі́ць бы Бро́цкі на мы́лі.** *Стол. Іран.* Пра адсутнасць заробку, а толькі страты. Барысюк, Буян, 17.

***бруд*** **шанава́ць як бруд на шчэ́пках.** *Лаг.* Пра благога чалавека, якога трэба шанаваць не дзеля таго, што ён заслужыў пашану, а за тое, каб ён прыкрасьці не нарабіў. Варлыга 1966, 94.

***брус*** **то́ўсты як брус.** *Мсцісл.* Пра нешта альбо некага надта тоўстых. Юрчанка, 179.
**то́ўсты як драўля́ны брус.** *Мядз.* Пра тоўстага чалавека. ЗСалавей.
**цвёрды як брус.** *Гом.* Пра нешта дужа цвёрдае. Мат. Гом., VII, 164.
**менціць як [тым] брусо́м по косе́.** *Асудж.* Пра нядобразычлівую балбатлівасць, што закранае іншых. ТС 3, 73.

***брусні́ца/брушні́ца*** **кра́сны як брушні́ца.** *Ухв.* Пра нешта чырвонае, прывабнае. Ройзензон, 72.
**маладзі́ца як брусні́ца.** *Ухв.* Пра здаровую, румяную, прывабную маладзіцу. Янк., 414; Станкевіч, 149; Санько, 152.
**ля паясні́цы як брушні́цы.** *Рэч.* Пра вялікіх вошаў. Пяткевіч, 376.

***бру́ха*** Блін не клін – бру́ха не распо́ра. Гл. клін.
**Судзе́йскі карма́н [быў] што папо́ўскае бру́ха.** *Дзятл. Прык. Іран.* Пра сквапнасць адзначаных службоўцаў. Сцяшковіч, 609.

***брушты́н*** **жо́ўты як брушты́н.** *Беш.* Пра нешта жоўтае, яркае. Касяровіч, 42. < Бруштын – бурштын, янтар.

***брыда́*** **Зяць на дачцэ́ што зо́лата ў руцэ́, а сын на няве́стцы што брыда́ на трэ́сцы.** *Дзярж. Прык.* Пра неаднолькавую ацэнку тых самых сітуацый і асоб. ФА.

***бры́днік*** **расці́ як бры́днік у ле́се.** *Люб.* Пра хуткі, інтэнсіўны рост чагоальбо каго-н. СПЗБ 1, 225. < Брыднік – зараснік.

***брызге́ль*** **ві́шань што брызге́ль.** *Слон.* Пра вялікую колькасць вішань, чырвоных ягад. Высл., 293.

***брысь*** **чырво́ны як брысь.** *Слон. Ухв.* Пра чырванашчокага, паўнатварага чалавека. Нар. слов., 32. < Брысь – ужываецца выключна ў параўнанні.
**як брысь.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага моцнага чалавека. Юрчанка, 179.

***бры́тва*** **вайстре́нный што бры́тва.** *Мсцісл.* Пра нешта вельмі вострае. Юрчанка, 1993, 71.
**во́стры (го́стры) як бры́тва.** *Ваўк. п., Слон.* Federowski, 113; Янк., 399; Высл., 294. Тое ж.
**коса́ я́рка шо бры́тва.** *Слон. Ухв.* Пра вострую касу. ТС 5, 364.
**язы́к як бры́тва.** *Івац., Слон., Мядз.* Пра занадта востры язык. Высл., 424; ФА; ЗЗайкі.

**Язы́к што бры́тва: як намы́лішся, то і пабры́е.** *Касц.*, *Хоц. Прык. Асудж.* Пра занадта востры язык. ЛЦ, 66. Тое, што язык як брытва.

**хадзі́ць як на бры́твах.** *Ваўк. п.*, *Бяроз.* Пра асцярожную, напружаную хаду. Federowski, 48; АВНЛ.

**як бры́тваю рэ́заць.** *Мсцісл.* 1. Пра хуткае і роўнае адразанне чаго-н. 2. Пра адкрытае, рэзкае выказванне сваёй думкі. Юрчанка 1998, 8.

***брыць*** **касíць як брыць.** *Маст. Ухв.* Пра дакладнае, чыстае, роўнае скошванне чаго-н. Сцяшковіч, 28.

лёгка жаніцца што лы́сага брыць. Гл. лысы.

лёгка як го́лага брыць. Гл. голы.

***бу́ба*** **малыі як буба.** *Кам.* Пра нешта дробнае. ЖН, 38. < Буба – ягады.

***буба́к*** **кача́цца як буба́к.** *Краснап.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра гультаяватага чалавека, які толькі валяецца, а не працуе. Бялькевіч, 93; Юрчанка 1998, 178. < Бубак – круглы шар.

***бу́бен*** **бубне́ць і бубне́ць як [той] бу́бен.** *Уздз. Няўхв.* Пра надакучлівую гаворку. ФА.

**вы́ган як бу́бен.** *Івац.* Пра пусты, выгаралы на сонцы, выбіты капытамі жывёл выган. ЗЗайкі.

**гавары́ць як у бу́бен біць.** *Ваўк. п.*, *Маз.*, *Слуцк.*, *Гродз.*, *Малар.* Пра моцную, гучную гаворку. Federowski, 108, 30; Высл., 300; Сержпутоўскі 1999, 3; Pietkiewicz, 311; Цыхун, 190; БД, 93.

**го́л[ы] як бу́бен.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Ушацк.* Пра голага, беднага чалавека. Federowski,112; Сержпутоўскі 1999, 24; Шатэрнік, 36; Барадулін, 122.

**лупíць як у бу́бен.** *Слон.* Пра гучны стук. Высл., 341.

**лы́сы як бу́бен.** *Насмешл.* Пра безвалосую галаву. Янк., Пар., 97; СПЗБ 2, 698.

**уда́рыць у звон як у бу́бен.** *Ваўк. п.*, *Гродз.* Пра гучны, звонкі гук звона. Federowski, 362; Цыхун, 190.

насíцца як чорт з бу́бнам. Гл. чорт.

***буга́й*** **ду́жы што буга́й.** *Слон. Ухв.* Пра дужага чалавека. Высл., 315.

**розбуце́цца як буга́й.** *Стол. Насмешл.* Пра чалавека, што раскрычаўся, разгаварыўся, разнерваваўся. ТС 4, 298. < Розбуцецца – разгудзецца.

**хадзі́ць як буга́й.** *Карм., Стаўб. Асудж.* Пра здаровага мужчыну, які свядома доўга не жэніцца. МК, 288.

**хадзі́ць як тро́льскі буга́й.** *Лельч. Няўхв.* Пра здаравеннага гультая. Матэрыялы 1981, 129. < Трольскі – пародзісты, здаровы.

**як буга́й ху́тка бе́гаць.** *Гродз.* 1. Пра нейчы шпаркі бег. 2. *Няўхв.* Пра бегатню мужчыну ў стане сексуальнага запалення. Сцяшковіч, 613.

**гізава́ць як бугаі́.** *Пін. Няўхв.* Пра тых, хто бушуюць, не маючы куды дзяваць сілу. Нар. лекс., 109.

**ка́рак як у [таго́] бугая́.** *Лаг. Ухв.* Пра моцны карак мужчыны. Высл., 334.

**лоб як у бугая́.** *Краснап.* Пра высокі лоб. Бялькевіч, 246.

**сілы як у бугая́.** *Слон. Ухв.* Высл., 382. Тое, што ду́жы што буга́й.

***бу́да*** **коро́ва як бу́да.** *Кам. Ухв.* Пра добрую вялікую карову. ЖН, 38.

***бу́дка*** засе́дзецца до́ма як саба́ка ля бу́дкі. Гл. сабака.

***буза́*** **шмат як бузы́ ў во́зеры.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Янк., Пар., 196.

***бузіна́*** **стая́ць як бузіна́ ў по́лі.** *Люб. Спачув.* Пра поўную самотнасць, адзіноту. ФА.

***бука́тка*** **дзе́ўка як бука́тка.** *Смал. п.* Пра поўную дзяўчыну. Добр., Смол., 43. < Букатка – бочка.

***булава́*** **Галава́ не булава́, мо́згі не пілаві́ны.** *Прык.* Пра абавязковасць розуму ў чалавека. Dybowski, 8.

**галава́ як булава́.** *Слон. Няўхв.* Пра вялікую галаву. Высл., 302.

***бу́лка*** **шчо́кі як бу́лкі.** *Слон. Ухв.* Пра акругласць шчок. Высл., 423.

лёгка як нож у бу́лку. Гл. нож.

***бу́льба*** **о́чы навэрсы бы бу́льба.** *Няўхв.* Пра вялікія вочы навыкаце. ЛА, 24.

**пяку́цца францу́зы бы бу́льба ў пры́ску.** Пра нягоды французаў у час напалеонаўскай кампаніі. Янк., 74.

разабра́цца як по́вар з бу́льбай. Гл. повар.

цягну́цца як тума́н па бу́льбе. Гл. туман.

уна́дзіцца як свіння́ ў бу́льбу. Гл. свіння.

утраво́цца ў гаро́д як вэ́прык у бу́льбу. Гл. вэпрык.

***бу́льбіна*** **нос як бу́льбіна.** *Лаг., Кір. Насмешл.* Пра вялікі тоўсты нос. МК, 223; Янк., Пар., 115; ФА.

***бульдо́зер*** **гарну́ць (вярну́ць) як бульдо́зер.** *Слон. Ухв.* Пра заўзятую працу моцнага мужчыны. Высл, 307.

***бу́нька*** **пропа́в як бу́нька на воді́.** *Драг., Мёр.* Пра нейчае бясследнае знікненне. Скарбы, 94; Нар. скарбы, 141. < Бунька – бурбалка.

***бу́ра*** **падхваці́цца як дурна́я бу́ра.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра імпульсіўнага, неўраўнаважанага чалавека. Юрчанка 1969, 175.

як бу́ра. 1. *Ашм.* Пра хуткага, імклівага чалавека. СПЗБ 1, 240; 2. Пра некага поўнага, вялікага. Юрчанка, 179.

**як пе́рад бу́раю ціш ды гладзь.** *Мсцісл.* Пра злавесную, пагрозлівую цішыню, што можа закончыцца няшчасцем. Юрчанка 1977, 178.

пахілі́цца як кве́тка ў бу́ру. Гл. кветка.

таўчы́ся як хма́ры ў бу́ру. Гл. хмара.

***бу́ры*** вы́скачыць як чорт з бу́рага бало́та. Гл. чорт.

***бура́к*** **чырво́ны як бура́к.** *Ваўк. п., Слуцк., Сміл. Насмешл.* Звычайна пра чалавека з чырвоным тварам (у тым ліку ад сораму). Federowski, 70; Ром., Бел., 299; Сержпутоўскі 1999, 79; Шатэрнік, 37; Янкоўскі, 95.

***бурачо́к*** **Мой хвор мужычо́к, да красён як бурачо́к; а я здаро́ва, да жо́ўта як марко́ва.** *Памянш.-ласк. Прык.* Не ўсе здаровыя, якія такімі выглядаюць. Нос., 78.

***бýрбалка*** **набрáць як бýрбалак на вадзé.** Пра марнасць намаганняў штосьці зрабіць. Янк., Пар., 108.

**дзяўчы́нка як бýрбалка.** *Маладз. Ухв.* Пра дагледжаную, сытую дзяўчынку. ФСБМ 1, 473; Гілевіч 2007, 71.

**лóпнуць як бýрбалка.** *Беласт. Іран.* Пра нейкую справу, пачынанне, што хутка закончылася нічым. «Ніва», 1978, № 46.

**скýла як бýрбалка.** *Сміл.* Пра вялікую скулу, якая нарывае. Шатэрнік, 38.

**мóцы** *ў каго/дзе* **як у бýрбалцы на вадзé.** *Іран.* Пра нешта эфемернае, слабое, што хутка знікае. Янк., Пар., 104.

***буржуазíя*** глядзéць як Лéнін на буржуазíю. Гл. Ленін.

***бýркала*** **бурчáць як бýркала.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надакучлівае, нуднае, раздражнёнае бурчанне, сварку. Юрчанка 1969, 52.

***бурклíвы*** як свёкар бурклíвы пýрхаць. Гл. свёкар.

***бýркнуць*** прапáў як чорт у вадý бýркнуў. Гл. чорт.

***бурлáк*** **здарóвы, чырвóны як бурлáк.** *Мядз. Ухв.* Пра здаровага чырванатварага мужчыну. Высл., 327.

***буры́ла*** **як буры́ла.** *Швянч. Няўхв.* Пра злоснага, грубага чалавека. СПЗБ 1, 245.

***бýсел****, гл. таксама*
***буська, буцян*** **браць як бýсел у дзю́бу.** *Астр., Івац.* Пра далікатнае, акуратнае трыманне чаго-н. ФА.

**даўганóгі (даўгалы́гі, пустыгáлы, дліннанóгі) як бýсел.** *Краснап., Беласт., Бран. Насмешл.* Пра чалавека з тонкімі доўгімі нагамі. Янк., 404; Бялькевіч, 16; «Ніва», 1978, № 16; Растаргуев, 281.

**дзы́гаць як бýсел.** Пра адпаведныя рухі чалавека. Янк., Пар., 53. < Дзыгаць – скакаць.

**нахапáцца як бýсел жаб.** *Навагр. Насмешл.* Пра ежу спехам, на скорую руку. Даніловіч 2008, 136.

**хадзíць як бýсел ля вады́.** *Маладз.* Пра характэрную паходку кагосьці. Высл., 411.

**хадзíць як бýсел па балóце.** *Сміл.* Шатэрнік, 38. Тое ж.

**цыбáты як бýсел.** Пра высокага даўганогага чалавека. Янк., 439.

**нос як у бýсла дзю́ба.** *Зэльв. Жарт.* Пра доўгі востры нос. Янк., Пар., 115; Сцяцко 2005, 61.

**шы́я дóўга як у бýсла.** *Ваўк. п.* Пра доўгую хударлявую шыю. Federowski, 301.

**як у бýсла дзю́ба.** *Гродз.* Пра нешта тонкае, доўгае. Цыхун, 75.

**наклáсці як бýслу на гняздó.** *Ваўк.* Пра нешта накладзенае абы-як. СПЗБ 3, 152.

***бýська*** **нажы́шча ек у бýська дóўгіе.** *Стол.* Пра доўгія цыбатыя ногі. ТС 5, 279.

**ды́баць бы бýсько по болóту.** *Стол. Насмешл.* ТС 2, 48. Тое, што хадзíць як бýсел па балóце.

**ек бýсько жáбу – коўць, і немá.** *Стол.* Пра кароткую расправу над некім. ТС 2, 227.

***бу́ськаў*** пара́дак як у бу́ськавым кублé. Гл. кубло.

***бутэ́лька*** **дурны́ як бутэ́лька ад га́зы.** *Докш. Жарт.* Пра пустагаловага чалавека. Высл., 316.

**збі́тая як бутэ́лька.** *Шальч. Ухв.* Пра жанчыну моцнага целаскладу. СПЗБ 2, 276.

як слон па бутэ́льках. Гл. слон.

прычапі́цца як п’я́ніца да бутэ́лькі. Гл. п’яніца.

***буця́н*** **ке́шкацца як буця́н з лягу́шкаю.** *Іран.* Пра хуткую расправу. Арх. Гр.

**як буця́н пе́рад петухо́м.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейчыя ганарыстыя паводзіны. Юрчанка, 179.

**но́гі як у буцяна́.** *Маг. Насмешл.* Пра цыбатыя ногі. Высл., 355.

вы́ставіцца як ку́ры пе́рад буцяно́м. Гл. куры.

як лягу́шка пе́рад буцяно́м. Гл. лягушка.

***буя́н*** **во́чы вы́рачыць бы буя́н.** *Пін. Няўхв.* Пра позірк упартага, настырнага чалавека. МК 40.

***бы́дла*** **крыча́ць** *на каго* **як на бы́дла [яко́ё].** *Слон. Асудж.* Пра грубую, з крыкам размову. Высл., 338.

***быдля́*** **смярдзе́ць як быдля́.** *Пух. Пагардл.* Пра неахайнага, недагледжанага, апушчанага чалавека. СПЗБ 1, 251.

***бык*** **Ба́цька да дзіця́ці як бык да цяля́ці.** *Прык.* Пра недастатковыя бацькоўскія пачуцці ў параўнанні з мацярынскімі. Даніловіч 1996, 141.

**вы́лупіць (вы́рачыць) во́чы як бык на но́вае шу́ла.** *Пін. Няўхв.* Пра ўпартую няўцямную паставу, погляд каго-н. МК, 40.

**гавары́ць як бык сцыць.** *Пол. Насмешл. Вульг.* Пра немнагаслоўную гаворку з перапынкамі. АВНЛ.

**глядзе́ць як бык на чырво́но.** *Слон.*, *Брэсц. Насмешл.* Пра чыйсьці злосны пагляд. Высл., 305; ЛЦ, 70.

**глядзе́ць як бык на мясніка́.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра перапалоханы і няўцямны погляд. Юрчанка, 179.

**глядзе́ць як бык на но́вае шу́ла.** *Касц.*, *Хоц.*, *Рэч.*, *Ганц. Жарт.* Пра няўцямны погляд на штосьці невядомае. ЛЦ, 70; ФА.

**затупя́ніцца як бык.** *Краснап. Няўхв.* Пра чыюсьці незвычайную ўпартасць. Бялькевіч, 206.

**Здаро́вы як бык, а ро́зуму ні на глык.** *Бярэз. Прык. Няўхв.* Пра вялікага ды неразумнага чалавека. СЦБ, 95.

**здаро́вы як бык.** *Ваўк. п.*, *Смал. п.*, *Докш.* Пра моцнага чалавека. Federowski, 353; Добр., Смол., 488; Высл., 327; Ройзензон, 80.

**крыча́ць як бык у сту́дні.** *Іўеў. Няўхв.* Пра моцны крык, лямант. Даніловіч, 214.

**ляжы́ць як бык, бо ён так прывы́к.** *Маст.*, *Слон. Няўхв.* Пра лянівага чалавека. СРЛГ, 54; Арх. Гр.

**нае́сца (наладава́цца) як бык.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра схільнага да абжорства чалавека, што празмерна наеўся. Federowski, 196, 197.

**Нае́ўса як бык, а кішка́ як смык.** *Жытк. Прык. Іран.* Пра нейчы слабы наедак. ТС 2, 193.

**Нае́ўся як бык, перагну́ўся як смык, а гало́дны як саба́ка.** *Лоеў. Прык. Іран.* Янкова, 332. Тое ж.

**нае́ўся як бык, не зна́ю як быць.** *Мін.*, *Чэрык. Жарт.* Пра чалавека, што празмерна наеўся. ЛЦ, 93.

**Нае́ўся як бык, перагну́ўся як смык.** *Рэч. Прык. Іран.* ЛЦ, 19. Тое, што Нае́ўса як бык, а кішка́ як смык.

**пагляда́ць ско́са як бык.** *Сміл. Няўхв.* Пра пагрозліва касы пагляд. Шатэрнік, 258.

**рабíць як бык.** *Віл. Ухв.* Пра працавітага чалавека. СПЗБ 1, 251.

**раўсці не́ма як бык.** *Івац.*, *Пол. Няўхв.* Пра нейчы гучны, голасны крык, рык. Нар. лекс.,16; ЗЗайкі.

**сапе́ць як бык раз'яро́ны.** *Кап. Няўхв.* Пра паводзіны злоснага, раз'юшанага чалавека. ФА.

**унуры́цца як бык.** *Мсцісл.*, *Капыл.* 1. Пра насупленага, упартага чалавека. 2. Пра таго, хто актыўна ўключыўся ў справу. З нар. сл., 129. < Унурыцца – тут: заўзята ўзяцца за справу. Тое, што рабіць як бык.

**упа́рты (упíрліў) як бык.** *Ваўк. п.*, *Краснап. Няўхв.* Пра надта ўпартага, упірлівага, незгаворлівага чалавека. Federowski, 32; Бялькевіч, 460, 461; Высл., 406.

**хадзíць усле́д** *за кім* **як бык за каро́вай.** *Хоц. Няўхв.* Пра ўпартае пераследванне, навязлівае таварыства. ЛЦ, 126.

**як бык сцыць.** *Ушацк. Вульг.* Пра няроўнае выкананне чаго-н. Барадулін, 58.

**як бык у сту́дні** *дзе. Смарг. Насмешл.* Пра няёмкае, нязручнае адчуванне сябе дзе-н. Даніловіч, 214.

**завы́ик то́ўстый як у быка́.** *Смал. п. Жарт.* Пра чалавека ўкормленага, з тоўстым каркам. Добр., Смол., 224. < Завыек – карак. надзіма́цца як жа́ба, гле́дзячы на быка́. Гл. жаба.

**станчы́ць шы́йку як у быка́.** *Іран.* Пра ладную тоўстую адгадаваную шыю каго-н. Ройзензон, 77.

**як з быка́ малака́** *чаго. Дзятл.*, *Лаг.*, *Слон. Іран. Няўхв.* Пра адсутнасць якой-н. карысці ад каго-, чаго-н. Высл, 426; Даніловіч, 225; ФА.

**мужыкí як быкí.** *Глыб. Ухв.* Пра моцных, здаровых мужыкоў. Высл., 347.

***быліна*** **адна́ як былíна ў по́лі.** *Рэч.*, *Светл. Спачув.* Пра самотную жанчыну. Высл., 281; Янк., 443.

**загну́цца як былíна.** *Ваўк. п.* Пра слабога чалавека, што гнецца пад гнётам абставін. Federowski, 347.

**то́нкі як быліна.** *Рэч.* Пра чалавека з тонкім станам, хударлявага. ЛЦ, 75.

***былíначка*** **ссушы́ць, зморы́ць як булíночку.** *Памянш. Жытк. Спачув. Фальк.* Пра здзекі, прыніжэнне, абцяжаранасць клопатамі (пра жанчыну). ТС 1, 92. < Сцябло травы – сімвал самотнасці, пакінутасці.

**то́нкая як быліначка, жа́ркая як малíначка.** *Памянш.-ласк. Лаг. Захапл. Фальк.* Пра прывабную зграбную дзяўчыну. Varłyha, 171.

***былíнка*** **аднá як былíнка ў пóлі.** *Памянш. Астр., Маст., Рэч., Мсціcл., Светл. Спачув.* Пра самотную адзінокую жанчыну. Высл., 281; Янк., 443; Юрчанка, 174; Даніловіч, 214.

**вы́сахнуць як былíнка ў пóлі.** *Памянш. Смал. п., Слуцк. Спачув.* Пра самотнае жыццё адзінокай жанчыны. *Добр., Смол.*, 46; Сержпутоўскі 1999, 31.

**вя́нуць (ад дýмак) як былíнка ў пóлі.** *Памянш.* Пра нейчыя перажыванні, думкі, клопаты. НН, 400.

жывé аднá сірацíнка як у пóлі былíнка. Гл. поле.

***быльня́г*** **нарасці́ як быльнягý.** Пра непрыкметна падрослае маладое пакаленне. Янк., Пар., 112.

***бычанóк*** **упéрціся як бычанóк.** *Памянш. Мсціcл. Жарт.* Пра ўпартага чалавека, часцей, падлетка, таго, хто заўсёды адмаўляецца. Юрчанка, 269.

***бычóк*** **Вы́пі, маладзéнькі, малачкá, каб стая́ў як у бычкá.** *Памянш. Слуцк. Вясельны жарт.* ФА.

**глáдкі як бычóк.** *Памянш. Ухв.* Пра дагледжанага моцнага хлопца. Янк., Пар. 39.

**дундзíць (дундзé) як бычóк.** *Памянш. Слуцк., Маладз.* Пра прагнае піццё з асалодаю. Жыв. сл., 62; Мат., 98.

**надýндзіцца малакá як бычóк.** *Памянш. Слон. Жарт.* Пра дзіця, што добра, у смак, напілося малака. Нар. лекс., 54.

**хадзíць услéд** *за кім* **як бычóк за цялýшкай.** *Памянш. Хоц. Жарт.* Пра хлопца, што ходзіць услед за ўпадабанай дзяўчынай. ЛЦ, 126.

**як Дашкавіча бычóк.** *Памянш. Воран. Жарт.* Пра нязграбнага, няўдалага хлопца. Сцяшковіч, 614.

***бычы́ны*** шы́я як бычы́ны хвост. Гл. хвост.

арáць бычы́ным сíкам. Гл. сік.

***бэ́йбас*** **хадзíць як бэ́йбас.** *Асудж.* Пра гультаяватага хлопца. Каспяровіч, 38.

***бэ́ля*** **ляжáць як бэ́ля.** *Нясв. Асудж.* Пра п’янага да непрытомнасці. СПЗБ 3, 502.

**п’я́ны як бэля.** *Смарг., Іўеў., Шчуч., Маладз. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. Даніловіч, 214; ФА; АВНЛ.

***бэ́мбаль*** **жывóт як бэ́мбаль.** *Слон. Насмешл.* Пра туга набіты жывот. Нар. лекс., 48.

***Бэ́рка*** **разýмны як Бэ́ркавы штаны́.** *Рэч. Іран.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Pietkiewicz, 390.

**чэ́сны як Бэ́ркавы штаны́ на лéву стóрану.** *Карэл. Іран.* Пра нячэснага чалавека, махляра. Высл., 421.

**тóлку** *дзе* **як у Бэ́ркавым вóзе (Бэ́ркавых калёсах).** *Іран.* Пра адсутнасць парадку, ладу дзе-н. Васюковіч, 19. < Бэрка – анучнік.

глядзéць як Хáйка на Бэ́рку. Гл. Хайка.

***бэ́сця*** **упíцца як бэ́сця.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра крэпка п’янага чалавека. Federowski, 321.

***бягу́нка*** **як бягу́нка падганя́е.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра нечыю нястрыманую спешку. Federowski, 330. < Бягунка – панос.

***бяда́*** **Дуда́ як бяда́: пачне́ш дзьму́ць, дак аж слёзы набягу́ць.** *Барыс. Прык.* Сержпутоўскі 1999, 23; Шейн, II, 473.
спява́ць як ку́рыца на бяду́. Гл. курыца.
**напі́ўся вады́ як з’еў поў бяды́.** *Ваўк. п.* Пра адчуванне чалавека пасля наталення смагі. Federowski, 325.

***бяздо́мны*** цяга́цца як бяздо́мны бадзя́га. Гл. бадзяга.

***бяздо́нне*** **(рабіць) як у бяздо́нне.** *Беш. Няўхв.* Пра марную працу, намаганні. Станкевіч, 119.

***бяздо́нны*** валі́ць як у бяздо́нную бо́чку. Гл. бочка.
жраць як у мех бяздо́нны таптá́ць. Гл. мех.
кідаць як у бяздо́нны кало́дзеж. Гл. калодзеж.
таптá́ць як у бяздо́нны мех. Гл. мех.
тахто́ліць (пхаць) як у бяздо́нны (бяздэ́нны) мяшо́к. Гл. мяшок.
шэ́льма як бяздэ́ннае мо́ра. Гл. мора.
е́сці як у бяздэ́нную каду́шку. Гл. кадушка.

***бяззу́бы*** **жваць як бяззу́бы.** *Пол. Насмешл.* Пра нязграбнае павольнае жаванне. Нар. слов., 198.

***бязле́цце*** **як на бязьле́цьце.** *Беш.* Пра вялікую колькасць чаго-н. спажыўнага. Станкевіч, 123.

***бязме́н*** **як бязме́н (абязме́н).** *Ваўк. Груб.* Пра вельмі неразумнага, бесталковага чалавека. Даніловіч, 211.
**галава́ як бязме́н.** *Івац., Вілен. Няўхв.* Пра цяжкую да думак галаву. Sielicki, 158; ЗЗайкі.
разбіра́цца як свіння́ на бязме́не. Гл. свіння.

***бязмо́зглы*** як з бязмо́зглага ската́. Гл. скот.

***бязно́гі*** **скры́ўдзіць, усё ро́ўна як бязно́гаму кій адня́ць.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра крыўду нанесеную бездапаможнаму, слабейшаму чалавеку. Federowski, 354.
**ісці́ як безно́гі.** *Стол.* 1. Пра павольнае перамяшчэнне каго-н. 2. *Іран.* Пра нешта немажлівае. ТС 1, 50.
**Чалаве́к ўбо́гі як конь бязно́гі.** *Прык.* Пра мажлівасці беднага чалавека. ПП 1, 407.

***бязру́кі*** **трэ́ба як бязру́каму рукаві́цы.** *Ушацк. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Барадулін, 107.
**Без наву́кі як бязру́кі.** *Гродз. Прык.* Пра неабходнасць навучання для чалавека. Санько, 114; Цыхун, 195.

***бяльмо́*** **паві́снуць як бяльмо́ на во́цы.** *Люб. Няўхв.* Пра сітуацыю, становішча, адносіны, што перашкаджаюць жыць. ФА.
**як бяльмо́ на во́ку.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.

***бярве́нне*** **но́гі як бярве́нне.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра тоўстыя ногі. Юрчанка, 179.

***бярло́г*** **ко́йкі як берлаге́.** *Смарг. Няўхв.* Пра непазасціланыя ложкі. СПЗБ 1, 261.
кача́цца як паршу́к у берлагу́. Гл. паршук.
**у ха́це як свіны́ бягло́г.** *Смарг. Няўхв.* Пра непрыбраную хату. СПЗБ 1, 261.

мармыта́ць як мядзве́дзь у бярло́зе (мярло́зе). Гл. мядзведзь.
як мядзве́дзь у бярло́зе. Гл. мядзведзь.

***бяро́за*** — **пла́каць, што бяро́за ліе́цца.** *Ганц.*, *Лоеў. Спачув.* Вельмі слёзна плакаць, разліваццa слязьмі. СПЗБ 2, 664; Янкова, 366. < Метафарычнасць выразу ўзнікла па асацыяцыі з тым, як вясною з галінак бярозы капае сок.
як ліпа з бяро́зай. Гл. ліпа.
**як па бе́лай біро́зі піло́й.** *Ветк. Няўхв.* Пра безвыніковасць угавораў каго-н., папрокаў да каго-н. ЗЛапаціна.

***бяро́завы*** — ляжа́ць як бяро́зава кара́. Гл. кара.

***бяро́зка*** — **адна́ як бяро́зка ў по́лі.** *Памянш. Мін. Спачув.* Пра самотную адзінокую жанчыну. ЛЦ, 37.
**вы́цягнуцца як бяро́зка.** *Памянш. Слон. Ухв.* Пра стройную дзяўчыну. Высл., 299.

***бяро́ста*** — **круці́цца як бяро́ста на агні́.** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, які вымушаны выкручвацца, хутка дзейнічаць. Юрчанка, 179.

***бярэ́менная*** — бру́ха як у ба́бы бярэ́меннай. Гл. баба.

***бясхво́сты*** — круці́цца як су́чка бясхво́стая. Гл. сучка.
Жана́ты як пан бага́ты, а хало́сты як саба́ка бясхво́сты. Гл. пан.

# В

***вавёрка,*** *гл. таксама* ***белка*** — **Дару́ маладо́й вядзёрка, каб была́ спры́тная як вавёрка.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне маладой увішнасці і працавітасці. БВ, 38.
спры́тная як вавёрка. *Ухв.* Пра спрытную, увішную, працавітую дзяўчыну. Янк., Пар., 155.

***ва́ган*** — **цяжкі́ як ва́ган.** *Мядз.*, *Паст. Ухв.* Пра цяжкое, дагледжанае, сытае дзіця. Нар. слов., 7; СПЗБ 1, 264.

***ваго́н*** — **коро́ва як ваго́н.** *Кам. Ухв.* Пра рослую дагледжаную карову. ЖН, 38.
уле́гчы як казёл за ваго́нам. Гл. казёл.

***вада́*** — **адстава́ць як вада́ ад ту́ку.** Пра відавочнае аддзяленне чаго-н. ад нечага іншага. НН 1911, 339.
**Бо́жая мі́ласць – як вада́ на плыт.** *Прык.* Пра знікненне, няўлоўнасць Божай ласкі, дапамогі. Янкоўскі 1971, 10.
Быль як смала́, а нябы́ль як вада́. Гл. смала.
**во́йска ідзе́ як вада́ плыве́.** *Ваўк. п.* Пра вялікі паток салдатаў. Federowski, 334.
**гадзі́нкі іду́ць як вада́ плыю́ць.** *Шальч.* Пра няўмольны рух часу. СПЗБ 4, 19.
**гро́шы як вада́.** *Івац.*, *Мсцісл.* Пра хуткае разыходжанне грошай. Юрчанка, 180; ЗЗайкі.
дзіця́ці патрэ́бна ла́ска як ры́бе вада́. Гл. рыба.
жыццё мяня́ецца як у рацэ́ вада́. Гл. рака.
**кіпе́ць як вада́ ў гаршку́.** *Слуцк.* 1. Пра чалавека, які моцна задаецца, нервуецца. 2. Пра натоўп узрушаных нечым людзей. Янк., 411; Сержпутоўскі 1999, 32.

круцíцца як у кóлі вадá. Гл. кола.
**лю́дзі ідýць бы вадá плывé.** *Слуцк.* Пра вялікі людскі паток. Сержпутоўскі 1998, 240.
**ляты́ (гады́) ідýць як вадá плывé.** *Ваўк. п.* Пра няўмольны рух часу. Federowski, 262; Янк., 401.
прáўда *ў каго* як у рэ́шаце вадá. Гл. рэшата.
**рабóта ідзé як вадá.** *Лаг. Ухв.* Пра тую працу, калі чалавек працуе паволі, але спорна. Varłyha, 47.
**так і жывýць лю́дзі бы вада цечэ́ ў рацэ́.** *Слуцк.* Пра вечную зменлівасць жыцця людзей. Сержпутоўскі 1999, 137.
трымáцца як на гýсі вадá. Гл. гусь.
**усмóктвацца як вадá ў гýбку.** Пра добрае ўпітванне, усмоктванне. НН 1911, 339.
**ціхі як вадá.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра чалавека, які вельмі ціха, асцярожна сябе трымае. Federowski, 57; Ройзензон, 78.
**ціхмáны як вадá ў лýжыне.** *Мін.* ЛЦ, 75. Тое, што ціхі як вада.
**ціхмáны як стая́чая вада.** *Мін.* ЛЦ, 75. Тое, што ціхі як вада.
**чы́сты як крынíчна вадá.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта вельмі чыстае, прыемнае. Federowski, 71.
што з гýся (вадá). Гл. гусь.
**як вадá змы́ла (панéсла)** *каго. Брасл. Няўхв.* Пра нейчае вельмі хуткае, імклівае знікненне, уцёкі. СПЗБ 1, 316; Санько, 68.
**як вадá ўнясла́.** *Свісл.* Сцяшковіч, 614. Тое, што як вада змыла.
**як вадá ў рэ́ку жы́зьня пайшлá.** *Свісл. Ухв.* Пра добрае, спрыяльнае жыццё каго-н. Даніловіч 2008, 136.
жыць як вýтка (вýця) на вадзé. Гл. вутка.
кíдацца як ры́ба ў вадзé. Гл. рыба.
ля́пнуць як пасталóм па вадзé. Гл. пастол.
набрáць як бýрбалак на вадзé. Гл. бурбалка.
плáваць як кáчка ў вадзé. Гл. качка.
плёхацца як кáчка ў вадзé. Гл. качка.
слабы як цень на вадзé. Гл. цень.
спры́тны як кáчка на вадзé. Гл. качка.
цалýецца як лáпцем па вадзé плешча. Гл. лапаць.
шлёпаць як кýра па вадзé. Гл. кура.
як (што) пýгаю па вадзé [што ні скáжаш]. Гл. пуга.
як бíчам па вадзé *каму.* Гл. біч.
як бíчам па вадзé, так ты мне памóг. Гл. біч.
як прáнікам па вадзé. Гл. пранік.
як пýгай па вадзé правёў (ляснуў). Гл. пуга.
як ры́бка (ры́бе) у вадзé. Гл. рыбка.
**азы́злы чалавéк як вадóй налíты.** *Ашм., Івац. Няўхв.* Пра апухлага, ацёчнага чалавека. СПЗБ 1, 69; ЗЗайкі.
**як вадóй плывýць** *да каго. Маст.* Пра грошы, якія лёгка дастаюцца чалавеку. Сцяшковіч, 617.
як ры́ба з вадóй. Гл. рыба.
бядá за бядою як ры́ба за вадóю. Гл. рыба.

**вы́йсці як хало́днаю вадо́ю аблі́ты.** *Мсцісл. Спачув.* Пра чалавека, якога расстроілі, расчаравалі, збянтэжылі. Юрчанка 1977, 219.
**до́бра як з вадо́ю.** Пра нейкую чыстую, надзейную, прыгожую сітуацыю. Янк., Пар., 54; Высл., 313.
**е́хаць як вадо́ю плыць.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра гладкую дарогу, мяккую павозку. Federowski, 128.
жыву́ць між сабо́ю як ры́ба з вадо́ю. Гл. рыба.
**З дурны́м свары́цца як з вадо́ю бі́цца.** *Прык.* Пра немагчымасць даказаць неразумнаму чалавеку сваю праўду. Санько, 135.
*з кім* **гавары́ць як з вадо́ю бі́цца.** *Віл. Асудж.* Пра размову з чалавекам, які не ўмее слухаць думку іншага. ФА.
звы́кнуць з бядо́ю як ры́ба з вадо́ю. Гл. рыба.
**лю́дзі як вадо́ю плылі́.** *Ваўк. п.* Пра вялікі натоўп людзей. Federowski, 63.
мы з табо́ю як ры́ба (ры́бка) з вадо́ю. Гл. рыба.
мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а мы ў гаўно. Гл. рыба.
мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а ты гаўно́. Гл. рыба.
мы з табо́ю як ры́бка з вадо́ю: ты ў ваду́, а я над табо́ю. Гл. рыбка.
**не́ту як вадо́ю ўмы́ла.** *Смал. п.* Добр., Смол., 14. Тое, што як вада змыла.
нязго́дныя як аго́нь з вадо́ю. Гл. агонь.
як аго́нь з вадо́ю. Гл. агонь.
**як вадо́ю зглá́дзіла.** 1. Пра хуткае фізічнае знікненне чагосьці. 2. Пра забыўлівасць чалавека. Янк., Пар., 202.
**як вадо́ю разлі́ўся.** Янк., 443. Тое, што як вада змыла.
Бога прасі́ць – што рэ́шатам ваду́ насі́ць. Гл. рэшата.
бо́ўкнуць як каме́нь у ваду́. Гл. камень.
**гавары́ць як ваду́ на ко́ла ліць.** *Карэл.* 1. Пра расказванне нечага добрага, прыемнага. 2. Пра пустую балбатню. Высл., 300.
гарадзі́ць як казёл, на ваду́ гле́дзечы. Гл. казёл.
**гарэ́лку жлу́кціць як ваду́.** *Слуцк. Асудж.* Пра празмерную схільнасць чалавека да гарэлкі. ДА.
**гарэ́лку лы́каць як ваду́.** *Лаг. Асудж.* Varłyha, 65. Тое ж.
глядзе́ць як [дурны́] бара́н [на ваду́]. Гл. баран.
**З нача́льствам свары́цца, што су́праць ве́тру ваду́ ліць, – заўсёды абалье́шся.** *Маз. Прык.* Пра наступствы спрэчкі з начальствам. ПП 1, 340.
ка́нуць як ка́мень у ваду́. Гл. камень.
пазіра́ць як дурны́ бара́н на ваду́. Гл. баран.
прапа́ў як чорт у ваду́ бу́ркнуў. Гл. чорт.
**прапа́ў як у ваду́ ўпаў.** Пра знікненне чаго-, каго-н. без следу. Dybowski, 16.
ражышча якра́з як чугу́н ваду́ грэць. Гл. чугун.
**сказа́ць як у ваду́ пе́рднуць.** *Кплів. Вульг.* Пра недарэчнае, пустое выказванне чалавека, што не пакідае следу ў памяці. Фед. Арх.

**сказа́ць як у ваду́ пёрнуць.** У ваду пёрнеш, хоць бурбалкі пойдуць, а тут... *Лаг. Вульг.* ФА. Тое ж.
**сказа́ць як у ваду́ плю́нуць.** *Маст., Воран., Шчуч. Няўхв.* Пра што-н. зусім недарэчае, неўпапад сказанае. Даніловіч, 256; Даніловіч 2010, 91.
*чыя* **гаво́рка – як ваду вязе́ш на гару́, а яна́ не йдзець.** *Няўхв.* Пра гаворку чалавека, які не можа пераканаць, угаварыць. Раманов 1901, 68.
укара́ць рыхтык як ра́ка ў ваду́ ўпусці́ўшы. Гл. рак.
як аго́нь у ваду́. Гл. агонь.
**як ваду́ ліць.** *Мсцісл.*, *Лоеў.* Пра пустое нагаворванне на каго-н. Юрчанка, 180; Янкова, 62.
**як ваду́ ў то́рбу ліць.** *Няўхв.* Пра бескарыснасць, безвыніковасць гаворкі, дзеяння. Янк., 443.
**як у ваду́ апу́шчаны.** *Мсцісл.*, *Стол. Спачув.* Пра моцна заклапочанага, прыбітага нечым чалавека. Бялькевіч, 56; Барысюк, Буян, 13.
**як у ваду́ баўтану́ць.** *Дзятл.* Сцяшковіч, 620. Тое, што прапа́ў як у ваду́ ўпаў.
**як у ваду́ глядзе́ць.** *Мёр.*, *Івац.* Пра загадзя выказаныя здагадкі, меркаванні. Нар. слов., 125; ЗЗайкі.
**як у ваду́ ка́нуць.** *Маладз.*, *Стол.* Пра чыё-н. бясследнае знікненне. СЦБ, 182; Барысюк, Буян, 13.
**як у ваду́ сюкну́ць.** *Астр. Няўхв. Іран.* Пра нешта сказанае недарэчы, абы-што. Даніловіч 2008, 138.
бая́цца як [шалёны] саба́ка вады́. Гл. сабака.
бая́цца як чорт (д’я́бал) свянцо́най вады́. Гл. чорт.
бы ка́пелька вады́. Гл. капелька.
**бяссло́ўны як вады́ ў рот набра́ў.** *Івац.*, *Валож. Няўхв.* Пра чалавека, што баіцца выказацца, сказаць слова. СЦБ, 48; ЗЗайкі.
**гу́таркі як вады́.** *Лаг.* Пра шматлікасць тэм для гаворкі ў прыязных адзін да аднаго людзей. Varłyha, 13.
да пе́сень як ка́мень да вады́. Гл. камень.
даста́неш (тру́дно) як з ка́меня вады́. Гл. камень.
**забе́гчы як вады́ каўтну́ць.** Пра вельмі кароткі візіт. Янк., Пар., 66.
**забе́гчы як вады́ ўхапі́ць.** *Івац.* ЗЗайкі. Тое ж.
захаце́ць як уле́тку вады́. Гл. улетку.
ідзе́ як нясе́ шкля́нку вады́ на галаве́. Гл. шклянка.
**маўча́ць як вады́ ў рот (у гу́бы) набра́ў (набра́ўшы).** *Мін.*, *Хоц.*, *Чэрв.* Federowski. 181; ЛЦ, 65; ФА. Тое, што бясслоўны як вады ў рот набраў.
**мо́края што з вады́.** *Віл.* Пра нешта, некага вельмі мокрых. СПЗБ 5, 500.
му́чыцца як ры́ба без вады́. Гл. рыба.
не вы́йсці бе́днаму з бяды́ як ка́меню з вады́. Гл. камень.
**разгаво́раў як вады́.** *Стаўб.* МК, 155. Тое, што гутаркі як вады.

сын як ка́пля ваду́, у та́тка ўда́ўсо. Гл. капля.
**трэ́ба як ваду́ напі́цца.** Пра пільную, моцную патрэбу чагосьці. Янк., 433.
*у каго* пра́ўды як у рэ́шаце ваду́. Гл. рэшата.
**успаце́ць уве́сь як з ваду́.** *Мсціcл.* Пра чалавека, што вымак ад поту. Юрчанка 1969, 152.
уцяка́ць як чорт ад свянцо́най ваду́. Гл. чорт.
хадзі́ць як бу́сел ля ваду́. Гл. бусел.
хаце́ць як у паго́ду ваду́. Гл. пагода.
**чые́ мруць, а на́шы як із ваду́ йдуць.** *Смал. п.* Пра добрае гадаванне дзяцей, без смерці і асаблівых хваробаў. Добр., Смол., 29.
**як ваду́ напі́цца.** *Маст.* Пра вельмі лёгкае, простае выкананне якой-н. справы. Даніловіч, 215.
як дзве ка́плі ваду́. Гл. капля.
**як з ваду́ вы́йшаў.** *Ваўк. п.* Пра моцна ўпацелага чалавека. Federowski, 343.
як ры́ба без ваду́. Гл. рыба.
прапа́в як бу́нька на водзі́. Гл. бунька.
бо́ўтнуць як бара́н у во́ду. Гл. баран.
глядзе́ць на́чэ казёл у во́ду. Гл. казёл.
дыві́цьця бы бара́н на во́ду. Гл. баран.
зні́кнуць як ключ у во́ду. Гл. ключ.
ні пле́мені, ні ро́ду, як бел ка́мень у во́ду. Гл. камень.
ні ро́ду, ні пло́ду – як ка́мень у во́ду. Гл. камень.
пакара́ць як ра́ка ў во́ду ўкі́нуўшы. Гл. рак.
прапа́сці як ка́мень у во́ду. Гл. камень.
тра́піць як ка́мень у во́ду. Гл. камень.
**хадзі́ць як у во́ду апушчо́ны.** *Смал.*, *Івац.* Добр., Смол., 533; ЗЗайкі. Тое, што як у ваду апушчаны.
**Я до́брого ро́ду, п'ю горэ́лку як во́ду.** *Жытк. Фальк. Жарт.* Пра самахвальства падвыпіўшай кабеты. ТС 1, 223.
**як у во́ду ўпаў.** *Краснап.* Бялькевіч, 342. Тое, што як вада змыла.
як чорт у во́ду (у лу́жыну) плю́нуў. Гл. чорт.
боя́цца як полешу́к воды́. Гл. паляшук.
**ек воды́ ў рот набра́ўшы.** *Стол.* ТС 1, 131. Тое, што бясслоўны як вады ў рот набраў.

***ва́жыць*** жыць як зо́лата ва́жыць. Гл. золата.

***вазо́н*** ле́зці як кот у вазо́на. Гл. кот.
сядзе́ць як кве́тка ў вазо́не. Гл. кветка.

***вайна́*** **бе́гчы** *адкуль* **як з вайны́.** *Мсціcл.* Пра хуткія, рашучыя ўцёкі адкуль-н. Юрчанка, 184.
**не трэ́ба як вайны́.** Пра нешта, некага зусім не патрэбных, рашуча непрымальных. Янк., Пар., 113.

***вайто́ўна*** **прыбра́цца як вайто́ўна.** *Рас. Ухв.* Пра добра, прыгожа, багата ўбраную дзяўчыну. Бялькевіч, 103.

***Вайце́х*** **Така́я пацеха як на свято́га Вайце́ха.** *Ваўк. п. Прык.* Пра вялікае святкаванне, весялосць. Federowski, 326; Санько, 174. < Вайцех

адзначаецца каталікамі 23 красавіка. Раней супадала з Юр’ем, калі пастухі спраўлялі сваё свята.

***ва́кса*** тр́эба як ла́пцю ва́кса. Гл. лапаць.

***валасо́к*** **галасо́к як то́ненькі валасо́к.** *Памянш. Слуцк. Жарт.* Пра чый-н. голас высокага рэгістру, пісклявы. Нос., 26; Сержпутоўскі 1999, 134.

**мя́кенькі як дзіця́чыя вало́сікі.** *Памянш.-ласк. Слон. Ухв.* Пра мяккасць, далікатнасць якой-н. рэчы. Высл., 348.

***валассё*** **патрэ́бны як валассё ў но́се.** *Іран.* 1. Пра нешта непатрэбнае. 2. Пра малапатрэбнага чалавека для якой-н. справы. Дуб., Нар., 362.

***валасы́*** патрэ́бен *хто дзе* як у ср...цы валасы́. Гл. ср...ка.

***ва́ленак*** **дурны́ як сібі́рскі ва́ленак.** *Астр., Нясв. Абразл. Пагардл.* Пра вельмі неразумнага, цёмнага чалавека. Даніловіч, 249; ФА.

***валі́за*** **бруха́ты як валі́за.** *Барыс. Няўхв.* Пра чалавека з тоўстым жыватом. ФА. < Валіза, валізка – чамадан.

***ва́ліць*** **Чужы́ пра́знік як со́кал ляці́ць, а свой як гара́ ва́ліць.** Гл. сокал.

***валлё*** збіра́ць як ку́рыца валлё. Гл. курыца.

***вало́к*** **як ва́лкам круці́ць.** *Шчуч. Насмешл.* Пра чалавека, што шмат з’ядае. Даніловіч, 215.

***вало́ў*** як у воло́ве ухо попа́ў. Гл. вуха.

***валяр’я́нка*** **піць** *што* **як кот валяр’я́нку.** Гл. кот.

***вандзо́нка*** **як вандзо́нка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра лянівага, вялага, непаваротлівага чалавека. Бялькевіч, 103.

***вандзэ́лак*** **ця́жкі як вандзэ́лак.** *Мядз. Ухв.* Звычайна пра цяжкое, сытае, дагледжанае дзіця. Высл., 417. < Ванзэлак – клунак (польск. węzełek).

***ва́нна*** **як на со́нешных ва́ннах** *дзе. Мсцісл.* Пра бесклапотнае, прывольнае прабыванне дзе-н. Юрчанка, 192.

***ванцы́пар*** **насі́цца як ванцы́пар.** *Краснап. Асудж.* Пра нейкую незразумелую, раздражняльную актыўнасць кагосьці. Бялькевіч, 104. < Ванцыпар – Люцыпар.

***вапе́р*** **ле́зці** *да каго* **як вапе́р на вясе́ллі.** *Мсцісл. Асудж. Пагардл.* Пра настырнае чаплянне да кагосьці. Юрчанка, 174.

**як ко́рмный вапе́р.** *Мсцісл.* Пра сытага, тоўстага чалавека. Юрчанка, 187.

**насцеба́цца як вапры́.** *Смал. Асудж.* Пра людзей, што крэпка напіліся і наеліся. Добр., Смол., 464. < Вапры – вепрукі.

***вапру́к*** **лье́цца кроў абы́ з вапрука́, як яго́ зако́люць.** *Слуцк.* Пра параненага, пабітага чалавека, які не выклікае спагады. Сержпутоўскі 1998, 56.

**растаўсце́ць як адко́рмлены вапру́к.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1999, 80. Тое, што як кормны вапер.

***вар*** **круці́цца як апу́шчаны ў вар.** *Маладз., Брэсц., Рэч., Мін.* Пра чалавека, які мітусіцца ў цяжкіх абставінах. ЛЦ, 30.

**сказа́ць як у вар апусці́ць.** *Б.-Каш.* Пра нешта сказанае, што даводзіць да крайняй ступені раздражнення. Высл., 383.

**ско́чыць як у вар.** *Спачув.* Пра траплянне чалавека ў надта небяспечную сітуацыю. Янк., Пар., 149.

**Янва́р як вар.** *Брасл. Прык.* Пра пякучы мароз у зімовы месяц. ПП 1, 74.

**вы́скачыць як ва́рам аблі́ты.** *Мсцісл.* Пра рэзкае, імклівае выскокванне адкуль-н. каго-н. Юрчанка 1977, 223; Янк., 443.

дагадзіць як збро́днай су́чцы ва́рам. Гл. сучка.

**пабе́гчы як ва́рам аблі́ты.** *Дзятл.* Пра чый-н. вельмі шпаркі бег. Сцяшковіч, 614; Янк., Пар., 85.

разбе́гчыся ва ўсе бакі́ як тарака́ны, калі́ на іх ліну́лі ва́рам. Гл. таракан.

**спаце́ць як ва́рам абліло́.** *Віл. Спачув.* Пра чалавека, што ўспацеў ад цяжкіх фізічных намаганняў ці моцных перажыванняў. СПЗБ 1, 282.

**як ва́рам вары́ць.** Пра гарачыню, спякоту. БПФС, 39.

***вараннё*** **як вараннё [то́е] глядзе́ць.** *Няўхв.* Пра настырную зацікаўленасць да некага групы людзей. Нос., 194.

***араня́ты*** **з вуша́мі паўла́зіць што вараня́ты [які́я].** *Мсцісл. Няўхв.* Пра дзіцячыя вылазкі, цікаўнасць. Юрч., 1977, 130.

***варато́чак*** **рато́чак як варато́чак.** *Памянш. Жарт.* Пра нейчы вялікі рот і добры апетыт. Нос., 145.

***вараца́кі*** пацягну́ць як кат на вараца́кі. Гл. кот.

***Варва́нскі/ Зарва́нскі*** як на вырва́нскай (варва́нскай, варва́рскай) ву́ліцы *у каго, дзе.* Гл. вуліца.

бы на Зарва́нскай гу́ліцы. Гл. вуліца.

***варо́на*** **вісе́ць як варо́на на калку́.** *Пруж. Насмешл.* Пра нязручнае сядзенне каго-н. на чым-н. ФА.

**гарла́ніць як варо́на.** *Няўхв.* Пра моцны крыклівы голас чалавека. Янк., 11.

**глядзе́ць як варо́на.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра насуплены, але зацікаўлены позірк каго-н. Шпилевский, 178; Tyszkiewicz, 426; Federowski, 109.

**глядзе́ць як варо́на на косць.** *Маст. Няўхв.* Пра злосны, прагны позірк. Даніловіч, 215.

**гра́гаць як варо́на.** *Шчуч. Няўхв.* СПЗБ 3, 26. Тое, што гарланіць як варона.

**гра́каць як варо́на.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 97; ФА; СЦБ, 100. Тое, што гарланіць як варона.

**Ду́рань як варо́на, а хіцёр як чорт.** *Прык.* Пра чалавека, які прыкідваецца прастаком, але такім не з'яўляецца. Federowski, 85.

**дурны́ (глуп) як варо́на.** *Сак. п., Шчуч. Няўхв.* Пра вельмі дурнога чалавека. Federowski, 86; Сцяшковіч, 613. < Варона – фальклорны сімвал дурноты.

**жыць як варо́на на ко́лічку.** *Раг. Няўхв.* Пра немаёмаснага чалавека, бедняка. СПЗБ 2, 171.

**збіра́цца** *куды* **як варо́на ў вы́рай.** *Капыл. Няўхв.* Пра марудлівыя зборы куды-н. ДА.

**змо́кнуць як варо́на.** *Карэл. Насмешл.* Пра жанчыну, што патрапіла пад дождж. Высл. 329.
**зя́ваць як варо́на.** *Хоц. Іран.* Пра незадачлівую спявачку. ЛЦ, 71.
**ка́ркаць як варо́на.** *Сміл. Насмешл.* Пра гаворку, расказ некага не вельмі шанаванага. Шатэрнік, 131.
**ка́ркаць як варо́на гервя́цкая.** *Астр. Насмешл.* ФА. Тое, што каркаць як варона.
**ко́шкацца як варо́на.** *Няўхв.* Пра нейчую бесталковую работу. СПЗБ 2, 511.
**крыча́ць як варо́на на дождж.** *Маладз. Насмешл.* Пра няўцямна крыклівую асобу. Высл., 329.
**маўча́ць як варо́на.** *Сміл. Іран.* Пра звяглівую, крыклівую, балбатлівую асобу. Шатэрнік, 156; Высл., 345.
**Мужы́к глядзі́ць як варо́на, а хіцёр як чорт.** *Прык.* Гаворыцца як ацэнка хітрасці і праніклівасці мужыка, селяніна. Ляцкий, 21; Czeczot, 111; Federowski, 192; Kolberg, 472.
**Мужы́к дурны́ як варо́на, а хі́тры як чорт.** Аксамітаў, 203. Тое ж.
нарабі́ць як варо́на на хвасце́ панясе́. *Гродз. Пагардл.* Пра малыя вынікі чыёй-н. працы. Federowski, 198.
**разя́віць го́рла як варо́на.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра крыклівую асобу. Federowski, 112.
**расхадзі́цца як варо́на на дождж.** *Астр. Насмешл.* Пра шумныя, узбуджаныя паводзіны кагосьці. Арх. Гр.
**расшуга́кацца як загумённая варо́на.** *Мсцісл. Насмешл.* Юрчанка, 313. Тое, што расхадзі́цца як варо́на на дождж.
**спява́ць як варо́на (на галіне).** *Мін. Насмешл.* ЛЦ, 123. Тое, што зяваць як варона.
**тра́піць як варо́на ў кісе́ль.** *Астр. Насмешл.* Пра недарэчнае траплянне ў якую-н. прыкрую сітуацыю. Даніловіч, 215.
**тырча́ць (сядзе́ць, круці́цца) як варо́на на па́лцы (калу́).** 1. *Уздз.*, *Слон. Няўхв.* Пра нейкага не вельмі ўдалага чалавека. Высл. 402. 2. *Леп.* ЗВалодзінай. Тое, што вісе́ць як варо́на на калку́.
**угляда́цца як варо́на ў шпік.** *Астр. Няўхв.* Пра пільны, прагны позірк на што-, каго-н. Даніловіч, 215.
**хі́тра сказа́ць як варо́на.** *Чэрв. Іран.* Пра жанчыну, што нешта не дарэчы сказала. Высл., 409.
Хі́тры наш брат як чорт, але́ і дурны́ як варо́на. Гл. чорт.
**ціліпа́цца як варо́на на калку́.** *Лаг. Насмешл.* Пра таго, хто дрэмле седзячы. Варлыга 1966, 91.
**чо́рны як варо́на.** *Лаг.* Пра некага чорнага. Мін.-Мал., 1974, 47.
**як мо́края варо́на.** *Няўхв.* Пра неахайную, непрывабную, засмучаную жанчыну. БПФС, 39.
**як варо́не на хвасце́ пане́сці** *чаго.* Пра нязначную колькасць чаго-н. Санько, 208.
**глядзе́ць** *на каго* **як на варо́ну.** *Ваўк. п.* Пра пагардлівы, недружалюбны позірк. Federowski, 109.
як чорт варо́ну пагна́ў. Гл. чорт.

**галдзя́ць, як варóны, бáбы сабрáўшыся.** *Віл. Няўхв.* Пра шумлівую бесталковую гаворку натоўпу жанчын. СПЗБ 1, 410.
**злятáцца як варóны на здыхля́ціну.** *Мін., Чэрык. Пагардл.* Пра збор людзей, зацікаўленых у нечым карыслівым. ЛЦ, 53.
**сядзéць як загумéнныя варóны.** *Астр., Люб. Насмешл.* Пра ціхае, мала заўважнае жыццё, сядзенне нейкіх людзей. ФА.
**У мянé як у варóны – нямá абарóны.** *Бераст. Прык.* Пра безабароннае жыццё каго-н. Янкоўскі, 7; Даніловіч 1997, 139. < У народнай традыцыі варона – вобраз не шанаваны і ганьбаваны.
**бу ворóна зехаць.** *Жытк. Няўхв.* Пра непрызваітае пазяханне чалавека. ТС 2, 152.
**бы ворóна розя́віць рот да роззірáць.** *Стол. Насмешл.* Пра чалавека, які так захапіўся разглядваннем чаго-н., што раскрыў рот. ТС 4, 303.

***варóты*** **адзíн што варóты ў пóлі.** Пра адзіноту чалавека, што не мае ніадкуль дапамогі. Сахараў.
**адчынíць гóрла як варóты ў заéзднай карчмé.** *Няўхв.* 1. Пра чалавека, што многа і прагна п’е. 2. Пра заўзятага крыкуна. Federowski, 112.
вы́тарапіцца як барáн на нóвыя варóта. Гл. баран.
глядзéць як барáн на нóвыя варóты. Гл. баран.
глядзéць як цяля́ на рáбыя варóты. Гл. цяля.
насíцца як дурны з варóтамі. Гл. дурны.
**разя́віць ля́пу як варóты.** *Няўхв.* Каспяровіч, 264. Тое, што адчынíць гóрла як варóты ў заéзднай карчмé.

***варóчацца*** у жывацé як мядзвéдзь варóчаецца. Гл. мядзведзь.

***вары́ць*** як вáрам вары́ць. Гл. вар.

***варэ́нне*** выдýрвацца як мýха на варэ́нні. Гл. муха.

***васілёк*** **цвісцí як васілёк.** *Ухв.* Пра радаснае жыццё маладога чалавека. Янк., 437.

***васілёчак*** **вóчкі [сíнія] як васілёчкі.** *Памянш.-ласк. Докш. Ухв.* Пра нейчыя прыгожыя сінія вочы. Высл., 294; Янк., 426.

***вáта*** **мя́ккі (мя́кенькі) як вáта.** *Ваўк. п., Слон. Ухв.* Пра вопратку, матэрыял, што прываблiваюць сваёй мяккасцю. Federowski, 182; Янк., Пар., 105; Высл., 348.

***вáтны*** **нóгі як вáтныя.** *Івац., Слон.* Пра саслабелыя, няпругкія ногі састарэлага ці хворага чалавека. Высл., 355; ЗЗайкі.

***ваўкалáк/ваўкалáка*** **мáе смак бы да кóней ваўкалáк.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, якога цягне да нечага шкоднага. Сержпутоўскі 1999, 98.
**бы ваўкалáка шны́рыць.** *Няўхв.* Шпилевский, 172. Тое, што хадзіць як ваўкалак.
**спры́крыцца як ваўкалáка.** *Асудж.* Пра чалавека, які надакучыў, стаў прыкрым сваім блізкім. Санько, 185.
**глядзéць ваўкалáкам.** *Няўхв.* Пра нейчы злосны, насуплены, варожы пагляд. БПФС, 39.
**ходить як воўкулак.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека, які таямніча снуецца, невядома чаго шукае. Добр., Смол., 351.

***ваўкаўня́*** **хо́ладна** *дзе* **як у ваўкаўні́.** *Ушацк. Няўхв.* Пра няпаленую, халодную хату. Барадулін, 90.

**як ваўкаўня́ ха́та.** *Валож. Няўхв.* Пра неапаленую, з волкім паветрам хату. СЦБ, 56.

***ваўчанё*** **пазіра́ць (пагляда́ць) [з-пад ілба́] як то́е ваўчанё.** *Сміл., Стаўб. Няўхв.* Пра погляд напалоханага ці варожа настроенага дзіцяці. Шатэрнік, 261; МК, 208.

***ваўчу́га*** **хадзі́ць як [той] ваўчу́га.** *Жытк. Няўхв.* Пра варожа настроенага чалавека, які ходзіць ні на кога не гледзячы. Мат. Гом., ІІІ, 211.

***ваўчы́ца*** **спява́ць як ваўчы́ца на Каля́ды.** *Глыб. Няўхв.* Пра спевы, калі спявак не мае голасу. КВДУ.

***вашы́вы*** абры́днуць як вашы́вы кажу́х. Гл. кажух.

***ве́дзьма*** **растру́хацца як ве́дзьма.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра ўскудлачаную, непрывабную жанчыну. Federowski, 48.

**стра́шная як ве́дзьма.** *Мсцісл., Івац. Няўхв.* Пра жанчыну з непрывабнай, неахайнай знешнасцю. Бялькевіч, 106; ЗЗайкі.

**хадзі́ць (насі́цца) як ве́дзьма на таўкача́х.** *Слон. п., Карэл. Няўхв.* Пра жанчыну, якая непрыемна выглядае і неадпаведна сябе паводзіць. Federowski, 48; Высл., 410.

**хадзі́ць як ве́дзьма на Купа́льскага Іва́на.** *Асудж.* Пра жанчыну, што стараецца зрабіць нешта шкоднае, нядобрае. Ройзензон, 79.

як чорт з ве́дзьмаю. Гл. чорт.

**жа́ру хоць ве́дзьму спалі́.** *Жарт.* Пра добра напаленую печ, дзе шмат гарачага вуголля. Янк., 406.

**як ве́дзьма з таўкача́мі.** *Нясв. Няўхв.* ФА. Тое, што хадзіць як ведзьма на таўкачах.

**валасы́ тырча́ць як у ве́дзьмы.** *Лаг. Няўхв.* Пра ўскудлачаныя, непрыбраныя валасы. Гілевіч 2007, 23.

***ве́зці*** е́дзе як дро́вы вязе́. Гл. дровы.

е́дзе як чорт ма́церу да до́ктара вязе́. Гл. чорт.

твая́ гаво́рка – як ваду́ вязе́ш на гару́, а яна́ не йдзець. Гл. вада.

лёд [то́ўсты] хоць гарма́ты вязі́. Гл. гармата.

грукаце́ць бы на мо́сце, як вязу́ць пусты́я бо́чкі. Гл. мост.

***век*** жыць як [тому] чарвяку́ па вяку́. Гл. чарвяк.

***векаву́ха*** **вясёлы як векаву́ха.** *Іран.* Пра невясёлага, заклапочанага чалавека. Янк., Пар., 33.

***веліко́нны*** абхо́дзіцца як з веліко́нным яйцо́м. Гл. яйка.

ца́цкацца як з веліко́нным яйко́м (я́йкам). Гл. яйка.

***ве́нік*** **ба́ба як ве́нік.** *Івац. Насмешл.* Пра ўвішную, спрытную, хуткую кабету. ЗЗайкі.

**бе́гаць як ве́нік.** *Дзятл. Жарт.* Пра чалавека, што ўсюды трапляе. ФА.

**вы́петраць як пятро́ў ве́нік.** *Маладз. Насмешл.* Пра схудалага чалавека. Гілевіч, 107. < Нарыхтаваны пасля Пятра (12 ліпеня) венік хутка губляе лісце.

**го́лы як litары́ ве́нік.** *Няўхв.* Пра беднага, згалелага чалавека. БПФС, 41.

**ссо́хнуць як ма́йскі ве́нік.** *Ушацк. Спачув.* Пра вельмі схуднелага чалавека. Барадулін, 90.
**шу́стры як ба́нны ве́нік.** *Слон. Жарт.* Пра непаседлівага, хуткага, жвавага чалавека. Высл., 422.
**шу́стры як ве́нік.** *Івац. Жарт.* ЗЗайкі. Тое ж.
**як ве́нік.** *Астр.* Даніловіч, 215. Тое ж.
**заве́я як ве́нікам мяце́.** *Воран.* Пра вялікую замець, завею. СПЗБ 2, 189.
сядзе́ць як мы́ша пад ве́нікам. Гл. мыш.
**як ве́нікам змяло́.** Пра нейчае хуткае знікненне. Санько, 68.
**ілжэ́ як ве́нікі вя́жа.** *Лід. Няўхв.* Пра вельмі спрытнае, штукарскае казанне няпраўды. Даніловіч, 215.
**спаць як ве́нікі прада́ўшы.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чалавека, які бестурботна і моцна спіць. Бялькевіч, 474.
як ве́нікі прада́ўшы *хто. Мсцісл.* Пра вясёлыя, задаволеныя паводзіны каго-н. Юрчанка, 180.
жыць як верабе́й у ве́ніку. Гл. верабей.
сядзе́ць як верабе́й у ве́ніку. Гл. верабей.
шавялі́цца (шуме́ць, разгуля́цца) як верабе́й у ве́ніку. Гл. верабей.
**завяза́ць вузла́ як гараб'я́.** *Бар.* Відаць, пра вялікі вузел. СПЗБ 1, 335.

***вераб'ёў***
**з вераб'ёву душу́.** Пра зусім малую колькасць чаго-н, драбок, каліва. Янк., 407.

***верабе́й***
непаспе́шны як мядзве́дзь за вераб'ём. Гл. мядзведзь.
як у камо́ры пасля́ вераб'ёў [чы́ста]. Гл. камора.
**авадні́ як вераб'і́.** *Леп.* Пра вялікіх і дакучлівых аваднёў. ЗВалодзінай.
**валту́зіцца як вераб'і́ ў гнаі́.** *Мін. Няўхв.* Пра нейкую дробязную мітусню, валтузню. ЛЦ, 63.
**Дзе́ці як вераб'і́: паку́ль го́лыя – у гняздзе́, а як апяры́ліся – паляце́лі.** *Бераст. Прык.* Пра непазбежнасць адыходу дзяцей з бацькоўскай хаты. ФА.
**накі́нуцца (наляце́ць) як вераб'і́ на спе́лыя кано́плі (на спе́лае про́са).** *Жлоб. Няўхв.* Пра паспешлівы, таропкі напад на ежу дзятвы. ЛЦ, 72.
**уна́дзіцца як вераб'і́ ў про́са.** *Ваўк. Няўхв.* Пра нейкую звычку чалавека, непрыемную для іншых. Высл., 405.
**кусо́чак як вераб'ю́ ўклю́нуць.** *Глуск.* Пра вельмі малы кавалачак ежы. Мат., 116.
**як вераб'ю́ дзеўбану́ць** *чаго.* Пра нешта ў малой колькасці, найперш пра ежу. Санько, 20.
**жыццё як у таго вераб'я́: ска́ча па сце́жцы ды гаўно́ клюе́.** *Рэч. Жарт.* Пра беднае, незабяспечанае, нявартае чалавечае жыццё. Pietkiewicz, 398.
**як у вераб'я́ пад кале́нкамі** *што. Акц. Жарт.* Пра нешта зусім нязначнае, непрыкметнае. ДА.

**як з вераб’я́ часавы́.** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, зусім непрыгоднага да нейкай справы. Юрчанка 1998, 174.
**як у ста́рага вераб’я́ кале́на.** *Леп. Жарт.* Пра нейчыя не вельмі развітыя мышцы рук. ЗВалодзінай.
**жыць як верабе́й у ве́ніку.** *Віл.*, *Смарг.* Пра жыццё ў нястачы, у пастаянным страху. МК, 308; Сцяшковіч, 614.
**адна́ як верабе́й.** *Слуцк.* Пра адзінокага чалавека. МК, 232.
**ву́зел як гарабе́й.** *Бар. Насмешл.* Пра вялікі, неахайны вузел, пра няўменне кагосьці вязаць вельмі малыя, непрыкметныя вузлы. СПЗБ 1, 335.
**клю́нуць як верабе́й.** *Жарт.* Пра чалавека, які зусім мала з’еў. Янк., Пар., 86.
**круці́цца як верабе́й на сучку́.** *Мсцісл. Жарт.* 1. Пра мітуслівага, неспакойнага чалавека. 2. Пра дзеянні чалавека, які стараецца неяк пратрымацца ў жыцці. Юрчанка, 180.
**натапы́рыцца як верабе́й.** *Лаг. Жарт.* Пра чалавека, які з супраціўвам, насцярожана прымае нейкае паведамленне. Высл., 353.
**от даў пы́лі (ду́ху) як верабе́й кабы́лі.** *Ваўк. п.*, *Клім.*, *Шкл. Іран.* Пра напад, агрэсію кагосьці бяссільнага, параўнальна нязначнага, незаўважнага. Нос., 31. Federowski, 73, 83; Бялькевіч, 300.
**папа́сціся як верабе́й у ша́пку.** *Насмешл.* Пра чалавека, які патрапіў у нявыкрутнае становішча. Ляцкий, 33.
**прынёс як верабе́й.** Пра малы аб’ём ці вагу прынесенага. Янк. Пар.,134.
**Сло́ва як верабе́й: вы́леціць і не пайма́еш.** *Рэч. Прык.* Пра незнішчальнасць і незваротнасць сказанага. Pietkiewicz, 383.
**узя́ць** *што* **як верабе́й.** *Ваўк. п.* Пра невялікую колькасць узятага кімсьці. Federowski, 324.
**ці́ўкаць як верабе́й.** *Жарт.* Неяк паціху падаваць пра сябе знакі, пускаць голас, пaціху жыць. Янк., Пар., 188.
**шавялі́цца (шуме́ць, разгуля́цца) як верабе́й у ве́ніку.** *Докш. Іран.* Пра няўдалае пагулянне ў зусім неспрыяльных для таго ўмовах. Tyszkiewicz, 433; Шпилевский, 187; Нос., 185; Dybowski, 192; Дуб., Нар., 2.

***верабе́йка*** **жва́вы як верабе́йка.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра рухавага, жвавага хлопчыка, дзіця. Янк., Пар., 60.
**ую́шны як верабе́йка.** *Памянш.-ласк. Жытк.* Матэрыялы 1981, 158. Тое, што жвавы як верабейка.
**сядзе́ць як верабе́йкі.** *Памянш.-ласк. Глуск.* Пра сцішаны гурток дзяцей. АВНЛ.
**е́сці як верабе́йку.** *Памянш.-ласк.* Пра малую колькасць ежы на стале. Янк., 406.

***вераце́нца*** **худы́ як вераце́нца.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Пра худзенькага невысокага хлопчыка. Юрчанка, 180.
**як вераце́нца.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Пра спрытнага невысокага чалавека. Юрчанка, 180.

***верацянó***

**дрыжáць як на верацянé.** *Карэл.* Пра трымценне, дрыжыкі чалавека ад страху, хвалявання. Высл., 315.

**круцíцца як верацянó.** *Ваўк. п.* Пра непаседлівага чалавека. Federowski, 153.

ссушы́ць *каго* як верацянó. *Няўхв.* Пра кагосьці, хто змучыў, замарнаваў іншага. Янк., Пар., 158.

**як верацянó.** *Жлоб.* Тое, што круціцца як верацяно. Гор., Руд., 255.

***вéрая***

**бáба як вéрая.** *Шчуч. Ухв.* Пра дужую поўную жанчыну. СПЗБ 1, 299. < Верая – шуло; бэлька.

***вербалóзіна***

**схілíцца як вербалóзіна.** *Спачув.* Пра самотную, збедаваную, стомленую жанчыну. Янк., Пар., 159.

***вéрны***

служы́ць *каму* як вéрны сабáка. Гл. сабака.

***верхавóдка***

**халóдная як верхавóдка.** *Стаўб. Няўхв. Іран.* Пра нешта не той якасці, якая чакалася. Высл., 407. < Верхаводка – тут: верхні слой вады ў калодзежы, што паступіла не з глыбінных слаёў, а нацякла падчас таяння снегу, вялікіх дажджоў.

***верцялí***

**круцíцца як [ты́я] верцялí.** *Мін. Няўхв.* Пра мітуслівых, непаседлівых дзяцей. Высл., 338.

***вéсліца***

**ісцí як па вéсліцы.** *В.-Дзв. Ухв.* Пра чалавека, які лёгка падымаецца па прыступках кар’еры, набывае навыкі, асвойвае рамяство. СПЗБ 1, 301. < Весліца – драбіны.

***вéтачка***

**лёгка як за вéтачку ўхапíцца.** *Памянш. Ваўк. п.* Пра простае і хуткае выкананне нейкай работы. Federowski, 316.

***вéтла***

**бу гнілáя вéтла, да не трýхніць.** *Жытк.* Пра старую поўную, але яшчэ моцную жанчыну. ТС 5, 157.

***вéхаць***

падружы́цца як ср...ка з вéхцем. Гл. ср...ка.

***вéцер***

**паляцéць як вéтрам гнáны.** *Валож.* Пра вельмі хуткі, імклівы бег каго-н. Высл., 360.

**як вéтрам здýла** *каго. Івац., Лаг., Мсцісл., Стол., Чав.* Пра чалавека, што некуды хутка адыйшоў. МК, 308; Нар. слов., 132; Юрчанка 1977, 211; Барысюк, Буян, 12; ЗЗайкі.

**гавары́ць як з пустóга вéтру.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра пустыя гаворкі. Юрчанка, 173.

**З начáльствам свары́цца, што сýпраць вéтру вадý ліць, – заўсёды абальéшся.** *Маз. Прык.* Пра небяспечнасць пярэчыць начальству, якое можа адпомсціць. ПП 1, 340.

усё рóўна што плявáць прóці вéтру. Гл. пляваць.

**як вéтру ў пóлі шукáць.** *Івац.* Пра марныя намаганні што-н. знайсці. Янк., 443; ЗЗайкі.

адзíн як у пóлі вéцер. Гл. поле.

брахáць як сабáка на вéцер. Гл. сабака.

**вóльны як вéцер.** *Ухв.* Пра вельмі вольнага чалавека. Янк., Пар., 26.

**гадавáцца як вéцер у пóлі.** *Мсцісл.* Пра гадаванне дзяцей без належнага прыгляду. Юрчанка, 173.

**гуля́ць як вéцер ды́мам.** *Няўхв.* Пра бяздумнае, зменнае распараджэнне кімсьці. НН, 481.

**гуля́ць як ве́цер.** Пра паводзіны незалежнага, свабоднага і безадказанага чалавека. Янк., Пар., 46.
**злаві́ць** *каго* **як ве́цер у по́лі.** *Іран.* Пра чалавека, якога не зловіш, які ўжо далёка. Янк., Пар., 74.
**кіда́ць як на ве́цер.** *Мсцісл. Асудж.* Пра бяздумную, марную трату грошай. Юрчанка, 191.
**ляце́ць як ве́цер.** *Івац., Лельч.* Пра вельмі хуткае перамяшчэнне, бег. Янк., 411; Матэрыялы 1981, 142; ЗЗайкі.
**няма́** *каго* **як ве́цер зве́яў.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра хуткае знікненне кагосьці. Federowski, 184.
**пашкадава́ць/шкадава́ць** *каго* **як ве́цер страху́.** *Лід. Іран.* Пра добрыя ўчынкі, шкадаванне каго-н., што на самай справе толькі шкодзіць. ФА.
**Пе́сні як ве́цер у по́лі: ве́цер паду́ў – і пе́сні прайшлі́.** *Смал. п. Прык.* Пра няўлоўнасць, хвілiннасць уражанняў ад песень. Добр., Смол., 98; Рапановіч, 168.
**пусты́ як ве́цер.** *Няўхв.* Пра легкадумнага, несур'ёзнага чалавека. Янк., Пар., 135.
**ро́зумам раскіда́ць як ве́цер.** *Мсцісл.* Пра палёт думкі, шырыню фантазіі каго-н. Юрчанка 1977, 15.
**такі́ справядлі́вы як ве́цер у по́лі.** *Ваўк. п. Іран.* Пра непастаяннага чалавека. Federowski, 288.
**шкадава́ць** *каго* **як ве́цер падра́ную стрэ́ху.** *Шчуч. Іран.* Даніловіч, 215. Тое, што пашкадаваць як вецер страху.
**што ве́цер у по́лі.** *Мсцісл. Асудж.* Пра нясталага, «ветранага» чалавека, хлопца. Юрчанка 1977, 223.
**як бы** *каго* **ве́цер панёс (памча́ў).** *Ваўк. п. Няўхв.* Незадаволенасць паводзінамі чалавека, які знік, збег. Federowski, 330.
**як ве́цер на загуме́нні.** *Ваўк.* Вельмі хутка, шпарка (хадзіць, бегаць і пад.). Даніловіч, 215.
**як ве́цер.** *Мядз. Няўхв.* 1. Пра нясталы характар чалавека, няўрымслівасць, зменлівасць. ЗСалавей. 2. *Мсцісл.* Пра расхлябая, неарганізаванага чалавека. Юрчанка, 296.

***ве́чар*** **пла́каць як о дзяві́ч ве́чар.** *Жарт. Іран.* Пра упаданне ў роспач, успомніўшы маладосць. Dybowski, 188; Аксамітаў, 205.

***вечары́нка*** разыйсці́ся як Ігна́ля на вечары́нцы. Гл. Ігналя.

***ве́шаць*** гавары́ць як во́ўну на плот ве́шаць. Гл. воўна.
гавары́ць як на ўзгаро́ду ве́шаць. Гл. ізгарода.
е́сці як на кол ве́шаць. Гл. кол.
е́сці як на плот ве́шаць. Гл. плот.

***ве́ялка*** **дошч што ве́ялкай ве́іць.** *Віл.* Пра густы, часты, спорны дождж. СПЗБ 1, 305.

***ве́яць*** дошч што ве́ялкай ве́іць. Гл. веялка.
кля́сці як маро́зам на вяргі́ню ве́яць. Гл. мароз.

***вёска*** цы́ндацца як воўк каля́ вёскі. Гл. воўк.

***Ві́ганцы*** **збіра́цца** *куды* **як у Ві́ганцы на та́нцы.** *Воран. Жарт.* Пра хуткае, мітуслівае збіранне куды-н. Даніловіч, 256.

*віду́к* **пло́дны як віду́к.** Пра расліну, што хутка распаўсюджваецца. Янк., 421. < Відук – мак-самасей.

**узыйсці́ як віду́к.** Пра добрую ўсходлівасць раслін. Янк., Пар., 173.

**учэ́пісты як віду́к.** *Няўхв.* Пра некага з асаблівымі здольнасцямі да выжывання. Янк., 436.

*відэ́лец* **насі́ць** *што* **як на відэ́льцы сква́рку.** *Нясв. Жарт.* Пра надта ўважлівае абыходжанне з чым-н., цацканне. ФА.

*віж* **хадзі́ць як [той] віж.** *Стаўб. Няўхв.* Пра вельмі цікаўнага, пранырлівага чалавека. Нар. слов., 149. < Віж – чалавек, які ўсё выглядае і выведвае.

*ві́лы* **дзе́ўка як ві́ламі скі́даная.** *Стаўб., Капыл. Няўхв.* Пра неразумную ці не надта выхаваную або не вельмі станістую дзяўчыну. ФА; БД, 146.

круці́цца як вуж у ві́лах. Гл. вуж.

насі́ць як чо́рта на ві́лах. Гл. чорт.

падня́ць як чо́рта на ві́лах. Гл. чорт.

**шанава́ць** *каго* **як на ві́лах.** *Івац. Няўхв.* Пра пажаданні чагосьці злога некаму. ЗЗайкі.

**но́гі як ві́лы.** *Ушацк. Насмешл.* Пра крываногага чалавека. Скарбы, 130.

*ві́лашнік* **высо́кі як ві́лашнік.** *Мсцісл.* Пра высокага чалавека. Юрчанка, 203.

любі́ць як саба́ка ві́лашнік. Гл. сабака.

**як ві́лашнік.** *Мсцісл.* Пра тонкага, худога чалавека. Юрчанка, 180.

*Ві́льня* як дзя́дзька ў Ві́льні. Гл. дзядзька.

**як у Ві́льні на Кальва́ры** *дзе. Шчуч. Маст.* Пра людное і шумнае месца, вялікі вэрхал дзе-н. Даніловіч, 257.

**ха́та як Ві́льня.** *Івац. Ухв.* Пра вялікую, прасторную хату. ЗЗайкі.

*вінагра́днік* хадзі́ць як ліса́ каля́ вінагра́дніку. Гл. ліса.

*вінахо́д* **як вінахо́д.** *Мсцісл.* Пра непаседлівага чалавека, часцей пра дзіця. Юрчанка, 180.

*Вінцэ́сь* **гаранцава́ць як Вінцэ́сь у та́нцы.** *Астр. Жарт.* Пра чые-н. адметныя, незвычайныя выхадкі, паходку і г. д., што нагадваюць манеру танцаваць прыкметнай на мясцовым узроўні асобы. ФА.

*вір* **база́р як вір.** Пра кругавы рух людзей на прасторы рынку. Янк., Пар., 13.

**пае́хаць** *куды* **як у вір галаво́ю.** *Няўхв.* Пра рашучае небяспечнае прадпрыемства, паездку каго-н. Янк., Пар., 122.

**як у вір.** *Пін.* ДА. Тое, што паехаць як у вір галавою.

круці́ць мі́рам як чорт ві́рам. Гл. чорт.

круці́ць як чорт ві́рам. Гл. чорт.

**круці́цца як у віры́.** *Спачув.* Пра вялікую занятасць каго-н., каму даводзіцца паспешліва рабіць шмат спраў. Янк., Пар., 89; Санько, 148.

*ві́сельнік* **падтры́мліваць** *каго* **як ві́сельніка вяро́ўка.** *Брасл. Іран.* Пра ўмяшальніцтва, якое вядзе да поўнай катастрофы. Рабкевіч, 158.

**шанцава́ць як ві́сельніку.** *Івац., Слуцк. Іран.* Пра вельмі рэдкае шанцаванне. Сержпутоўскі 1999, 72; ЗЗайкі. < Алюзія да рэдкіх

выпадкаў, калі вяроўка не вытрымлівае і рвецца пад цяжарам вісельніка.

***вітры́на*** **стая́ць як у вятры́ня ля́лька.** *Астр. Жарт. Іран.* Пра манерыстага альбо модна апранутага чалавека, які як бы выстаўляе сябе напаказ. СПЗБ 4, 586.

***ві́хар/віхо́р*** **круці́ць як ві́хар у по́лі.** *Слон., Ваўк. п. Асудж.* 1. Пра нечае крутельства, падман, нядобрасумленнасць. 2. Пра надта злоснага, раз'юшанага чалавека. Federowski, 153.

**хадзі́ць усё ро́ўна як ві́хар.** *Ваўк. п.* Пра чыю-н. імклівую паходку. Federowski, 48, 410.

**не́сціся як віхо́р.** *Няўхв.* Пра чыё-н. імклівае перамяшчэнне, бег. Янк., 418.

**павіхры́цца не́дзе як віхо́р.** *Слон. Няўхв.* Пра знікаючага сямейніка, які не паведамляе, куды ідзе. Нар. слов., 36.

**віхро́м вада́ ўе.** *Брасл.* Пра кругавы рух вады, крыніцы, пра вір. СПЗБ 1, 316.

***ві́хла*** **бы́стры, уда́лы як ві́хла.** *Ухв.* Пра энергічнага чалавека, у якога хутка і спорна ідзе работа. З нар. сл., 99. < Віхла – тут: агонь.

***Ві́хна*** **насі́цца як та Ві́хна з гарбузо́ю на база́ры.** *Стол. Жарт.* Пра мітуслівую жанчыну. ТС 1, 195.

***віхура́тка*** **лётаць як віхура́тка.** *Астр.* Пра мітуслівае, хуткае перамяшчэнне каго-н., Даніловіч 2008, 136.

***віці́на*** **здаро́вы як віці́на.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра моцнага, жылістага мужчыну. Federowski, 353. < Віціна – тут: прэнт.

**як віці́на.** *Гродз. Ухв.* Пра прыгожую, стройную, тоненькую дзяўчыну. Цыхун, 175.

***ві́шанька*** **во́чкі як ві́шанькі.** *Памянш.-ласк. Захапл.* Пра цёмныя, прыгожыя, бліскучыя вочы. Янк., 399.

***вішнёвы*** пачырване́ць як вішнёвы сок. Гл. сок.

***ві́шня*** **дзе́ўка як ві́шня.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожую, ладную дзяўчыну. Federowski, 95. < Вішня – фальк. сімвал дзявочай прыгажосці.

***во́гір*** **як во́гір расхаджа́цца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра празмерна энергічнага чалавека. Юрчанка 1977, 206. < Вогір – жарабец (гл. польск. ogier).

***во́глум*** **хадзі́ць як у во́глумі.** *Няўхв.* Пра няўцямны стан, калі няясна помніцца, не разумеецца. НН, 306.

***во́дка*** **Усё во́цат не во́дка, а кума́ не жо́нка.** *Прык. Насмешл.* Пра немагчымасць замяніць гарэлку воцатам, а жонку кумой. Ляцкий, 51.

**тру́дна як во́дку піць.** *Іран.* Пра даволі лёгкае і прыемнае заданне. Ляцкий, 46.

***во́жык*** **Дару́ ко́шык, каб не быў да жо́нкі як во́жык.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне жаніху, каб быў ласкавы да жонкі, а не калючы. БВ, 48.

**тапы́рыцца/натапы́рыцца як во́жык.** *Слон., Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які востра ўспрымае заўвагу, параду, вымову. Носовіч, 63; Шатэрнік, 276; Высл., 353; Санько, 158.

**пра́ўда, як го́лай ду́пай во́жыка заду́шыш.** *Капыл. Іран.* Пра няпраўду, выдумку, падман. ФА.

**валасы́ як на во́жыку.** *Ваўк. п.*, *Івац. Насмешл.* Пра жорсткія валасы тарчком. Federowski, 338; ЗЗайкі.
**сядзе́ць як на во́жыку.** *Нясв. Злаcл.* Пра нечае некамфортнае становішча. ФА.
**хадзі́ць як ёж па дро́жджы.** *Сак. п. Насмешл.* Пра нейчыя марныя, дарэмныя паходкі. Federowski, 48.
**наду́цца як яжа́ праглыну́ў.** *Рэч. Асудж.* Пра крыўдлівага, незадаволенага чалавека. ЛЦ, 72.
**як на яжа́ се́сці.** *Рэч.* Пра пакутлівы выраз твару каго-н. ЛЦ, 76.
**глядзе́ць як ёжык на лісі́цу.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра палахлівы погляд чалавека. Юрчанка, 183.
**зарасці́ як ёжык.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека з калючай шчацінай, няголенага. Юрчанка, 298.
**як ёжык.** *Мсцісл.* 1. *Няўхв.* Пра знешні выгляд непрычасанага, узлахмачанага чалавека. 2. Пра чалавека з няўжыўчывым характарам. Юрчанка, 183.
**ятве́ж як еж.** *Няўхв.* Пра калючы, задзірысты характар яцвягаў. ПП 1, 508. < Ятвеж, ятвягі – старажытнае літоўскае племя.

***воз*** цяга́цца як цыга́нская каза́ на вазах. Гл. каза.
**ісці́ як за сабо́ю воз цягну́ць.** *Няўхв.* Пра марудную, з намаганнямі паходку каго-н. Янк., Пар., 80.
як заты́чка ад во́за. Гл. затычка.
бе́гчы (валачы́ся) як саба́ка за во́зам. Гл. сабака.
патрэ́бен як пя́тае ко́ла ў во́зе. Гл. кола.
**як на жы́давым во́зе** *на чым. Дзятл. Няўхв.* Пра памяшканне, стол, дзе вельмі многа розных рэчаў, размешчаных абы-як, у беспарадку. Даніловіч, 236.
трэ́ба як разбі́тае калясо́ ў во́зе. Гл. калясо.
як у Бэ́ркавым во́зе *дзе*. Гл. Бэрка.

***во́зера*** прыво́лле як бабру́ на во́зеры. Гл. бабёр.
раско́ша *каму, дзе* як шчупаку́ ў во́зеры. Гл. шчупак.
шмат як бузы́ ў во́зеры. Гл. буза.

***во́йска*** **У Лаго́йску як у во́йску: ла́ўкі шыро́кі, ёсьць дзе се́сьці, ды не́чага е́сьці.** *Прык. Лаг. Жарт.* Пра не вельмі прывабную сітуацыю ў названым горадзе. Варлыга 1966, 84.

***во́ка*** **адзі́н (анно́) як во́ка [у ло́бе, у ілбе́].** *Крыч.*, *Віл.*, *Івац.*, *Лоеў.*, *Слон. п.*, *Стаўб.*, *Уздз.* Пра кагосьці адзінага, які патрабуе асаблівай увагі. Federowski, 6; МК, 19; Высл., 280; Мін.-Мал., 1977, 141; Янкова, 24; ЗЗайкі.
**адно́ дзіця́ як во́ка ў ло́бе.** Пра асаблівы догляд за адзіным у сям'і дзіцём. Сцяшковіч, 624.
**берагчы́** *каго/што* **бы сваё во́ка.** *Слуцк.*, *Лоеў.* Пра вельмі старраннае і беражлівае абераганне, ахоўванне, догляд каго-, чаго-н. Сержпутоўскі 1998, 53; Янкова, 68.
**блішча́ць як во́ўчае (во́ўча) во́ка.** *Слон.* Пра цьмяны бляск чаго-н. Янк., Дыял., І, 204; Высл., 287.

**газні́чка як во́ўчае во́ка.** Пра цьмяны бляск газнічкі ці іншай слабай крыніцы святла. Янк., Пар., 31.
**гарэ́ць як во́ўча во́ка.** *Шчуч.* СПЗБ 1, 403. Тое, што блішчаць як воўчае (воўча) вока.
**глядзе́ць** *каго/што* **як во́ка.** *Асіп.* Янкоўскі 1968, 108; Высл., 305. Тое, што берагчы каго/што бы сваё вока.
**глядзе́ць (пілнова́ці)** *каго/што* **як во́ка ў ілбе́.** *Дзятл.*, *Кам.*, *Пруж.* Сцяшковіч, 614; ЖН, 40; Босак, 32. Тое, што берагчы каго/што бы сваё вока.
**Дво́е дзе́так як дзве о́кі ў ло́бе.** *Прык.* Пра найвышэйшую каштоўнасць дзяцей для бацькоў. Federowski, 91.
**заві́сны (зайздро́сны) як папо́ва во́ка.** *Слон. п.* Пра вельмі зайздроснага, хцівага чалавека. Federowski, 351; Янк., 408.
паві́снуць як бяльмо́ на во́цы. Гл. бяльмо.
**падо́бны як з во́ка вы́драны.** *Брасл.* Пра чалавека, вельмі падобнага на іншага, як бы яго візуальная копія. Рабкевіч, 158.
**по́ўны (по́ўна) як во́ка.** *Брасл.*, *Краснап.*, *Леп.*, *Люб.*, *Івац.* Пра поўна налітую вадкасцю ёмістасць. Бялькевіч, 336; ФА; Скарбы, 106; ЗЗайкі.
**по́ўнае як ры́бяе во́ка.** *Валож.* Гілевіч 2007, 51. Тое ж.
**свяці́ць як во́ўча во́ка.** *Чэрв.* СПЗБ 4, 396. Тое, што блішчаць як воўча вока.
**це́мень хаць ты во́ка вы́каль.** *Івац.*, *Слуцк.* Пра густую цемру, аж да чарнаты. Сержпутоўскі 2000, 215; ЗЗайкі.
**чы́сты як ры́бічае во́ка.** *Іран.* Пра нешта быццам бы чыстае: рыбіна вока ўвесь час знаходзіцца ў вадзе. Янк., 441.
**як во́ка даста́не (зглéдзіць, кі́не, схо́піць).** Янкоўскі, 1968, 431.
**як во́ка ў ілбе́.** *Уздз.* СЦБ, 63. Тое, што адзін як вока.
**як з во́ка вы́паў.** *Свісл.* Пра чалавека такога самага, падобнага. Янк., Пар., 203; Санько, 69; Сцяшковіч, 615.
**як з во́ка вы́рвана.** *Смарг.*, *Докш.* Высл. 426; Даніловіч, 225. Тое, што як з вока выпаў.
**як во́кам зме́рыць.** Пра плошчу, якую можна толькі ахапіць позіркам. НН, 310.
**як во́кам змігну́ць.** *Стаўб.* Пра хуткае, імгненнае здзяйсненне чаго-н. МК, 308.
**як во́кам скі́нуць.** *Слуцк.*, *Ваўк. п.*, *Стаўб.*, *Ганц.*, *Раснян.*, *Мядз. Захапл.* Сержпутоўскі 1999, 18; Federowski, 75; МК, 309; Бялькевіч, 26. Сцяшковіч, 617; СПЗБ 4, 449; СПЗБ 1, 324. Тое, што як вокам змерыць.
**як во́кам сця́міць (сцягну́ць).** НН, 310. Тое, што як вокам змерыць.
**як во́кам сцяць.** *Шчуч.* Даніловіч 2008, 136. Тое ж.
блішча́ць як у ката́ во́чы. Гл. кот.
**заві́сны (зайздро́сны) як папо́выя во́чы.** *Слон. п.*, *Івац. Асудж.* Пра вельмі зайздроснага, хцівага чалавека. Federowski, 351; Янк., 408; ЗЗайкі.

лéзці ў вóчы як мýха ў спáсаўку. Гл. муха.
лéзці як асá (асвá) ў вóчы. Гл. аса.
лéзці як дым у вóчы. Гл. дым.
лéзці як мýха ў вóчы. Гл. муха.
**любíць як вóчы соль.** *Мін. Іран.* Пра абсалютнае непрыманне чаго-н. Высл., 396.
ля́пнуць як гразёй у вóчы. Гл. гразь.
начай сóлі хто ў вóчы насы́паў. Гл. соль.
Прáўда як вóсы: лéзе ў вóчы. Гл. аса.
прáўда як соль у вóчы. Гл. соль.
прымаўкаю як гráззю ў вóчы. Гл. гразь.
Сóрам не вóран – вóчы не вы́дзяўбе. Гл. воран.
Сóрам не ёлка – вачáм не кóлка. Гл. ёлка.
Стыд не дым – вачэ́й (вочы) не вы́кура. Гл. дым.
трэ́ба як сóлі ў вóчы. Гл. соль.
**ныч тэ́мна, хоч у вóчы совганы́.** *Драг.* Пра цёмную ноч. Скарбы, 91.
худы́ як нікóлі хлéба ў вóчы не бáчыў. Гл. хлеб.
прыйсці бы ў собáкі вóчэй позы́чыўшы. Гл. сабака.

***вол***

валíць як на валá. *Ваўк. п. Няўхв.* Пра занадта вялікія заданні для аднаго чалавека. Federowski, 326; Янк., Пар., 24.
**вóчы як у валá.** *Дзятл. Няўхв.* Пра вялікія, невыразныя вірлаватыя вочы. СПЗБ 1, 313.
**распёрла** *каго* **як валá, а рабóты нямá.** *Слуцк. Асудж.* Пра добра дагледжанага, адкормленага, але гультаяватага каня. Сержпутоўскі 1999, 45.
**цягнýць як валá на стрэ́ху.** *Івац. Здзекл.* Пра цяжкую і непатрэбную работу. ЗЗайкі.
**шы́я як у валá.** *Ухв.* Пра дужага чалавека з моцнай шыяй. Янк., Пар., 199.
**шы́я што ў валá хвост.** *Гом. Насмешл.* Пра тонкую, выцягнутую шыю худога чалавека. Янк., Пар., 198; Высл., 423.
**зарабíць як на валáх седакóў вóзячы.** *Петр. Іран.* Пра вельмі нязначныя заробкі. Мат., Гом., VIII, 1980, 185.
**як на валáх.** *Слон. Жарт.* Пра маруднае, павольнае перасоўванне. Даніловіч, 236.
**есць як валóў шэсць.** *Сак. п. Жарт.* Пра чалавека з празмерным апетытам. Federowski, 129; Санько, 130.
**спаць як валóў (валá) прадáўшы.** *Воран., Дзятл. Жарт.* Пра вельмі моцны, спакойны сон. Даніловіч, 215.
**як валóў патапíўшы.** *Зэльв.* Пра разгубленага, засмучанага, прыгнечанага чалавека. Даніловіч, 215.
**жывéцца** *каму* **як валý ў ярмé.** *Іран.* Пра цяжкое працоўнае жыццё. Янк., 407.
**сказáв ек віл у лýжу.** *Драг. Няўхв.* Пра нешта сказанае недарэчы. Скарбы, 94.
**вы́лупіць (вы́рачыць) вóчы як вол на нóвае шула.** *Пін. Насмешл.* Пра няўцямнае разглядванне чаго-н. МК, 40.

**вы́трашчыць (вырачыць) во́чы як вол на разні́ка́**. *Няўхв.* Пра нейчы трывожны, няўцямны погляд. Federowski, 337.
**вярну́ць як вол.** *Слуцк.*, *Стаўб.* Пра чалавека, які многа, шчыра працуе фізічна. МК, 309.
**гавары́ць гла́дка як вол языко́м лі́жа.** *Навагр. Жарт.* Пра лоўкую, складную, прыемную гаворку каго-н. Высл., 300.
**гарава́ць як чо́рны вол.** *Рэч. Спачув.* Пра цяжкое жыццё беднага, хаця і працавітага чалавека. Pietkiewicz, 369.
**гол як вол.** *Слуцк. Няўхв.* Пра беднасць, немаёмаснасць. Сержпутоўскі 1999, 25.
**дабра́цца (дапа́сці, дарва́цца) як вол да бра́гі.** *Ваўк. п.*, *Слон. Іран. Няўхв.* Пра нечую прагнасць, пра чалавека, што не можа спыніцца, калі атрымлівае мажлівасць нешта ўзяць. Federowski, 76; Высл., 310.
**дзень як вол.** *Ваўк. п.*, *Рэч.* Federowski, 94; Pietkiewicz, 368. < Так кажуць, што ўжо позна, а хтось яшчэ не ўзяўся за работу (заўвага збіральніка).
**ду́жы як вол.** *Слон. Ухв.* Пра здаровага, дужага чалавека. Высл., 315.
здараве́нны як вадзяны́ вол. *Лоеў.* Пра вельмі вялікага, моцнага, дужага чалавека. Янкова, 62.
**зда́ўся (прыда́ўся, прышо́ўся; спры́тны, такі́ спасо́бны, ло́вак, зда́тны, згра́бны) як вол да кар́эты.** *Ваўк. п.*, *Пух.*, *Карэл.*, *Смарг. Іран.* Пра чалавека, які зусім не адпавядае пэўнай справе, задачы. Dybowski, 17; Ляцкий, 44; Federowski, 248, 352, 353; Шатэрнік, 148; Янк., 409; Высл., 328; ФА.
**ляны́ як вол.** *Слуцк., Івац. Няўхв.* Пра лянівага, марудлівага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 46; ЗЗайкі.
**ля́паць як вол на трэ́скі.** *Жытк. Груб.* Пра чалавека, які гаворыць абы-што, не да месца. ТС 3, 57.
**няма́ як вол языко́м злiза́ў.** *Івац.* Пра знікненне, адсутнасць чаго-н. ЗЗайкі.
**пе́рці што вол.** *Клецк.* Пра чалавека, які нясе цяжкую паклажу. Нар. лекс., 211.
**піса́ць як вол ідзе́.** *Гом. Насмешл.* Пра няроўнае, крывое пісанне, неакуратны почырк. Высл., 365.
**працава́ць як вол у ярме́.** *Маладз.* Гілевіч, 167. Тое, што вярнуць як вол.
**працаві́ты як вол.** *Раснян. Ухв.* Пра працавітага чалавека. Бялькевіч, 111.
**рабі́ць як вол.** *Сен.* МК, 23. Тое, што вярнуць як вол.
**рабі́ць як чо́рны вол.** *Лельч.*, *Навагр.*, *Карэл.* Сцяшковіч, 621; АВНЛ; Кучук, Малюк, 94. Тое, што вярнуць як вол.
**Рабо́тай як вол, бу́дзеш мець бага́ты стол.** *Гом. Прык.* Пра залежнасць дастатку ад працы, намаганняў. АВНЛ.
**разбіра́цца як вол па Бі́бліі.** *Пагардл.* Пра чалавека, хто па вызначэнні не можа разбірацца ў нечым, што патрабуе іншага ўзроўню. ЛЦ, 120.

**разуме́ць як вол па Бі́бліі.** *Касц., Мін. Пагардл.* ЛЦ, 40. Тое, што разбірацца як вол па Бібліі.

**растаўсце́ць як вол.** Пра надта распаўнелага чалавека. Янк., 424.

**смулі́ць на робо́ту бу вол.** *Стол. Ухв.* Пра працавітага, цягавітага чалавека. ТС 5, 65.

**спаць як волы́ прода́ўшы.** *Стол., Воран., Дзятл. Жарт.* Пра спакойны сон пасля цяжкай адказнай справы. ТС 1, 135; Даніловіч, 215.

**сы́ты як вол на бро́вары.** Пра здаровага тоўстага чалавека. Янк., Пар., 160.

**таўсця́к як вол.** *Сміл.* Шатэрнік, 277. Тое ж.

**узя́цца за рабо́ту як вол.** *Мсцісл. Ухв.* Пра спакойнае і надзейнае стаўленне да справы. Юрчанка 1969, 60.

**упа́рты як вол.** *Івац. Няўхв.* Пра ўпартага, незгаворлівага чалавека. ЗЗайкі.

**упе́рціся ек вол у ермо́.** *Жытк. Няўхв.* Пра паводзіны ўпартага чалавека. ТС 2, 52.

**упіра́цца як вол, яко́га вяду́ць на зарэ́з (на бо́йню).** *Мін.* Пра моцнае супраціўленне каго-н. ЛЦ, 75.

**цягаві́ты як вол.** *Ухв.* Пра працавітага моцнага чалавека. Янк., 439.

**цягну́ць як вол [ярмо].** *Ваўк. п., Івац. Ухв.* Пра шчырае стаўленне да сваёй працы. Federowski, 57; ЗЗайкі.

**чака́ць беды́ бы вол до́ўбні.** *Слуцк. Няўхв.* Пра пасіўнае чаканне катастрофы, бяздзейнічанне. Сержпутоўскі 1999, 149.

**як вол варо́чаць.** *Слуцк., Мсцісл.* Сержпутоўскі 1999, 37; Юрчанка 1977, 55. Тое, што вярнуць як вол.

**як вол зліза́ў** *каго/што. Лях. Жарт.* Пра знікненне каго-, чаго-н. Санько, 69; ЗВалодзінай.

На Белару́сі пчо́лы як гу́сі, а гу́сі як во́лы, а паны́ – як го́лы, так го́лы. Гл. гусь.

**[прывы́кнуць] бы вул до обуха.** *Пін. Іран.* Пра немагчымасць прывыкнуць да пакарання. ФА.

*во́лас* **як во́лас перапалі́ць.** *Рэч.* Пра вельмі хуткае, імгненнае і лёгкае дзеянне. Янкоўскі 1968.

**як во́ласу перагарэ́ць.** *Слуцк.* Пра вельмі хуткае, імгненнае мінанне часу. МК, 309.

*во́лат* **Дару́ вам гару́ зо́лата, каб дзе́ці былі як во́латы.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне маладым мець моцных і здаровых дзяцей. БВ, 60.

*во́лік* **гнядзе́нькі як во́лік.** *Памянш. Слон.* Пра гнядога каня. Высл., 306.

*во́міга* **кі́слы як во́міга.** *Бран.* Пра нешта вельмі салонае, атрутнае або кіслае. Расторгуев, 41. < Воміга – перасол (Носович, 66); во́мег – горыч, цыкута (Станкевіч, 1180).

*вораг* **памі́ж на́мі як памі́ж ворага́мі.** *Жытк.* Пра непрыязныя адносіны паміж людзьмі. ТС 4, 223.

*во́ран* **круці́цца што во́ран над кро́ўю.** *Мсцісл. Асудж.* Пра нечыя злавесныя, варожыя намеры. Юрчанка 1977, 224.

**Со́рам не во́ран – во́чы не вы́дзяўбе.** *Капатк. Прык.* Пра фізічную неадчувальнасць сораму. ПП 2, 347.

**як ворын крыви жилаить.** *Смал. п. Асудж.* Пра злачынныя намеры альбо помсту каго-н. Добр., Смол., 360.

**як во́рану мы́ла, так уме́ртаму памо́жа кадзі́ла.** *Іран.* Пра безвынiковасць якой-н. дапамогі, адбывання справы. Federowski, 320.

***во́рапень*** **ляжа́ць як во́рапень на пячы́.** *Мсцісл. Асудж.* Пра гультаяватага чалавека. Бялькевіч, 112. < Ворапень – гультай.

***во́рак*** **сядзе́ць як кум у во́рку.** *Воран. Іран.* Пра маўклівага чалавека. СПЗБ 3, 46. < Відаць, з анекдатычнай гісторыі пра схаванага кума.

**як у дзюра́вым во́рку.** *Ашм. Няўхв.* Пра бяздумныя, бязмэтавыя, упустую, пастаянныя траты чаго-н. у каго-н. < Ворак – параўн. польск. worek ‘мех, мяшок’. Даніловіч, 257.

***во́сень*** жыць як бара́н да во́сені. Гл. баран.

**у галаве́ як у во́сені на дварэ́.** *Іўеў.* Пра шум і зменлівае адчуванне ў галаве. Сцяшковіч, 660.

як ліст во́сенню. Гл. ліст.

**здо́ўжыцца як во́сень.** *Няўхв.* Пра зацягнутую справу, чаканне чаго-н. Янк., Пар., 73.

**цягну́цца як во́сень.** *Няўхв.* Пра зацягнутую справу, чаканне чаго-н. Янк., Пар., 190.

**зо́льна на двары́ як уво́сень.** *Ветк.* Пра халоднае, непрыемнае надвор’е не ў пару. Мат. Гом., IV, 183.

**паміра́ць бы аб о́сень му́хі.** *Слуцк.* Пра вялікі мор у народзе. Сержпутоўскі 1999, 160.

***во́сець*** людзе́й што снапо́ў на во́сеці. Гл. сноп.

***во́ск*** **жо́ўты як воск.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта жоўтае. Federowski, 366; ТС 2, 65. < Воск – шанаваны матэрыял, параўнанне з ім характарызуе прадмет станоўча.

**ма́сла жо́ўтая як воск.** Пра тугое, жоўценькае, пахучае, якаснае масла. СПЗБ 3, 39.

**ма́сла як воск.** *Маладз. Ухв.* Выcл., 345. Тое ж.

**мя́ккі як воск.** *Слон., Слуц.* Пра нешта пругкае, падатлівае, мяккае. Сержпутоўскі 1999, 128; Выcл., 348. Юрчанка, 180.

**харо́ша пшэні́ца як воск.** *Ухв.* Пра добрую ядраную пшаніцу. ТС 4, 330.

**харо́шы як з во́ску.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прадмет добрай якасці, прывабны на выгляд. Federowski, 50.

**шчо́кі як з во́ску.** Пра хваравіты колер твару, калі ён здаецца нежывым. Янк., Пар., 198.

***во́тмут*** **у ха́це што ў во́тмуце.** *Лоеў. Няўхв.* Пра непарадак у хаце, калі ў ёй бязладдзе. Янкова, 70. < Вотмут – вір.

***воўк*** **етраўке́ як ваўке́.** *Шчуч. Асудж.* Пра злосных жонак мужавых братоў. СПЗБ 2, 124.

**абста́віць як ваўка́ ў ло́гаве.** *Карэл.* Пра чалавека, якому непрыяцелі не даюць ходу, перашкаджаюць у справах. Выcл., 280.

**глядзе́ць як на ваўка́.** *Віл.* Пра позірк са страхам і здзіўленнем. Sielicki, 158.
**гука́ць як на ваўка́.** *Паст.* Пра крык, нападкі на якога-н. чалавека. СПЗБ 1, 500.
**каля́ная спіна́ што ў ваўка́.** *В.-Дзв.* Пра спіну худога чалавека. СПЗБ 2, 386.
навастры́ць ву́шы як конь, пачу́ўшы ваўка́. Гл. конь.
**у сыба́кі ву́шы тарча́ць як у ваўка́.** *Мсцісл.* Пра вушы сабакі, што нагадваюць ваўчыныя. Бялькевіч, 441.
**хадзі́ць як ваўка́ спайма́ўшы.** *Рэч. Жарт.* Пра чалавека, які ідзе, шырока расстаўляючы ногі. Найчасцей у адрас п'янага. ЛЦ, 75.
**як у ваўка́ з ля́пы.** *Глыб. Няўхв.* Пра моцна памятую вопратку. КВДУ.
**разгуля́цца як ваўкі́ ў Пілі́паўку.** *Чэрв.* Пра людзей, што празмерна разышліся, разгуляліся. СПЗБ 4, 254.
**глядзе́ць (пазіра́ць) ваўко́м.** *Злсл.* Пра нахмураны, пануры, драпежны пагляд каго-н. НН, 316.
У во́чы ліско́м, а за во́чы ваўко́м. Гл. ліс.
**пабе́гчы ваўко́м.** Пра асцярожны, цікуючы бег каго-н. НН, 282.
**ад пажа́ру не ўцячэ́ш як ад ваўко́ў.** *Саліг.* Ад пажару немагчыма застрахавацца. З нар. сл., 105.
**даць як ваўку́ ў ля́пу.** *Глыб.* Пра нешта назаўсёды аддадзенае, страчанае. КВДУ.
**як ваўку́ ў ля́пу.** *Глыб.* Пра нешта страчанае бясследна. КВДУ.
**абжо́ра як воўк.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека з празмерным апетытам. Federowski, 3.
**абро́с (заро́с) як воўк.** *Краснап. Няўхв.* Пра знешні выгляд няголенага, нястрыжанага чалавека. Бялькевіч, 423.
**агляда́цца як воўк каля́ вуглоў цы́ндаючы.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, які шукае сабе спажывы альбо падглядае за іншымі. Federowski < Цындаць – цікаваць, выглядаць.
**адзін як воўк.** *Мядз. Спачув.* Пра адзінокага самотнага чалавека. СПЗБ 3, 33.
**бая́цца як воўк казы́.** *Іран.* Пра той выпадак, калі ніхто не баіцца, а ахвяра і драпежнік мяняюцца месцамі. Нос., 7.
**бая́цца як воўк саба́кі.** *Ваўк. п. Іран.* Federowski, 20; Высл., 283. Тое, што баяцца як воўк казы.
**бая́цца як воўк ягня́ці (аве́чкі).** *Слуцк. п.*, *Івац.*, *Слон. Іран.* Federowski, 20; Сержпутоўскі 1999, 68; Янк., Пар., 13; Шейн, 473; Высл., 283; ТС 2, 50; ЗЗайкі. Тое, што баяцца як воўк казы.
**блі́скаць як воўк за гаро́ю.** *Рэч.* Пра цьмяны бляск, нейкія далёкія знікомыя агеньчыкі, як бляск воўчых вачэй у цемры. Pietkiewicz, 399.
**блі́скаць вачы́ма як воўк.** *Слуцк. Няўхв.* Пра хціві, жорсткі пагляд чалавека. Сержпутоўскі 1999, 77.

**Брат да сястры́ – гасцёк мі́лы, сястра́ бра́ту – як воўк сі́вы.** *Мін. Прык.* Пра розныя стаўленні сястры да брата і брата да сястры. АВНЛ.
**вы́лупіць во́чы як воўк на бара́на.** *Насмешл.* Пра нейчы хцівы пагляд. Ройзензон, 68.
**выць (храпсці́) як воўк.** *Ваўк. п., Бялын., Івац., Карэл. Няўхв.* Пра грубае праяўленне чыіх-н. эмоцый. Federowski, 343; Высл., 296; Яўсееў, 27; ЗЗайкі.
**выць што воўк пілі́паўскі.** *Лаг., Капыл. Няўхв.* ФА. Тое, што выць як воўк.
**выць як воўк у Каля́дню.** *Віл. Няўхв.* ФА. Тое, што выць як воўк.
**выць як воўк у Пілі́паўку.** *Івац., Карэл., Лаг. Няўхв.* Высл., 296; Янк., Пар., 29; ЗЗайкі. Тое, што выць як воўк.
**гало́дны як (што) воўк.** *Івац., Слон., Слуцк., Чэрык., Рэч., Драг.* Пра вельмі галоднага чалавека. Высл., 302; Сержпутоўскі 1999, 38; ЛЦ, 90; СПЗБ 1, 330; ЗЗайкі.
**гало́дны як воўк жаро́бны.** *Ушацк. Насмешл.* Барадулін, 91. Тое, што галодны як воўк.
**глядзе́ць з-пад ло́ба як воўк.** *Ваўк. п., Гродз. Асудж.* Пра нейчы насцярожаны, хмуры, непрыветлівы пагляд. Federowski, 109; Цыхун, 133.
**глядзе́ць ско́са як воўк пілі́паўскі.** *Маг. Няўхв.* Пра злосны, непрыязны пагляд. ФА.
**глядзе́ць як воўк на аве́чку.** *Мін., Хоц., Петр., Ганц., Докш.* Пра прагны, хцівы пагляд на каго-н. як на ахвяру. ЛЦ, 50; ФА; Гілевіч, 165.
**глядзе́ць як воўк на казу́.** Крэмнеў, № 186. Тое, што глядзець як воўк на авечку.
**глядзе́ць як воўк.** *Жытк. Няўхв.* Пра нейчы хмуры, непрыязны, злосны пагляд. ТС 4, 152.
**дзе́рці** *каго* **як воўк кабы́лу.** *Ваўк. п.* Пра праследванне каго-н., яго абіранне. Federowski, 81; Санько, 127.
**дзі́віцца як воўк на казу́ (ягня́).** *Ваўк., Гродз. п.* Ром., Бел., 294; Federowski, 109; Крэмнеў. Тое, што глядзець як воўк на авечку.
**жыць як воўк.** *Гродз. Асудж.* Пра чалавека, што імкнецца жыць адасоблена і ізалявана. Цыхун, 10.
**завы́ць як воўк на Грамні́цы.** *Слон., Шчуч.* 1. Пра выражэнне свайго болю, жалю; 2. *Іран.* Пра непрыемны для слыху спеў. Высл., 322; Даніловіч, 216.
**завы́ць бы ваўкі́ над па́длам.** *Слуцк. Няўхв.* Пра нейчы прагны ўзбуджаны крык, голас. Сержпутоўскі 1999, 103.
**закі́нуць за пле́чы як воўк гаўцу́.** *Ваўк. п.* Пра рашучае закідванне цяжару на плечы. Federowski, 348.
**захадзі́ць як воўк у абла́ві.** *Зэльв. Зласл.* Пра панічныя дзеянні чалавека ў небяспецы. СРЛГ, 46.
**зірну́ць як воўк.** Янк., Пар., 74. Тое, што глядзець як воўк.

**злы як воўк.** *Рэч. Асудж.* Пра чалавека з благім, злым, агрэсіўным характарам. ЛЦ, 63.
**змóкнуць як воўк.** *Слон.* Пра моцна ўпацелага, вымаклага чалавека. Высл., 329.
**зрахмáніцца як воўк у я́ме.** *Зласл.* Пра чалавека, які пад уплывам адбставін зрахманіўся і перастаў быць агрэсіўным. Носовић, 561; Матэрыялы 1981, 121.
**кідацца як воўк на пры́вязі (цапý).** *Мсцісл.* Пра бяссільныя, безвыніковыя высілкі штосьці зрабіць, вырвацца. Юрчанка, 180.
**любíць як вóўк ягня́.** *Мін. Іран.* Пра чалавека, які любіць карысна, для сваёй спажывы. ЛЦ, 52.
**Лю́ты як галóдны воўк, а баязлíвы як зáяц.** *Мін. Прык. Асудж.* Пра супярэчлівы характар чалавека. ЛЦ, 57.
**ля́скаць зубáмі як воўк.** *Сміл. Насмешл.* Пра вельмі галоднага чалавека. Шатэрнік, 152.
**мужы́к пагарэ́ўшы як воўк не éўшы.** *Слуцк.* Пра імкненне да набыцця чаго-н. селянінам пасля пажару. Сержпутоўскі 1999, 62.
**накíнуцца** *на каго* **як воўк на аўцý/авéчку.** *Смал.*, *Ашм. Асудж.* Пра драпежны напад на каго-н. Добр., Смол., 443; Даніловіч, 216.
**нарабíць [дзялоў] як воўк у Маркунáх.** *Астр. Няўхв.* Сцяшковіч, 600; Высл., 353; ФА, Даніловіч, 216. < Маркуны – вёска ў Астравецкім раёне.
**настырин як воўк.** *Смал. Асудж.* Пра настырнага хмурага чалавека. Добр., Смол., 465.
**нялю́дны як воўк.** *Няўхв.* Пра замкнёнага, насупленага, недружалюбнага чалавека. ЛА, 31.
**паглядáць (пазірáць) як воўк на гаўцý (авéчку).** *Ваўк. п.* Federowski, 210; Янк., 418. Тое, што глядзець як воўк на авечку.
**падстаўля́ць галавý як воўк пад дóўбню.** *Няўхв.* Пра пасіўныя паводзіны пры смяротнай пагрозе. ЛЦ, 73.
**папáсці як воўк у дóўбні.** *Смарг.* Пра траплянне ў непрыемную сітуацыю, пастку. Даніловіч, 216. < Доўбня – лоўчая паляўнічая прылада.
**пасýнуцца як воўк па загумéнні.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека альбо жывёлу, якія выглядваюць здабычу. Высл., 362.
патрэ́бны як стары́ конь вóўку. Гл. конь.
**Пашкадавáў як воўк кабы́лу: пакíнуў хвост да гры́ву.** *Івац. Прык. Іран.* Пра адсутнасць шкадавання, драпежныя намеры. ЗЗайкі.
**пашкадавáць як воўк цяля́.** *Уздз. Іран.* Пра адсутнасць шкадавання наогул. Мін.-Мал., 1970, 165.
**пасýнуцца бу мóкры воўк.** *Жытк. Іран.* Пра панурага, прыгнечанага чалавека. ТС 4, 196.
**прыкрадáцца як воўк.** Пра кагосьці, хто асцярожна наближаецца да ахвяры. Ройзензон, 76.
**пуцавáць як воўк.** *Гродз. Няўхв.* Пра прагнае накідванне на ежу. ЖН, 29. < Пуцаваць – прагна есці.

**пышить як жарёбный воўк.** *Смал. п.* Пра злоснае, пагрозлівае сапенне некага. Добр., Смол., 760.
**пяя́ць як воўк вы́е.** *Асудж.* Пра нейчыя непрыгожыя спевы. Ляцкий, 24.
Рабíць як конь, éсці як воўк. Гл. конь.
**развы́цца як воўк у канóплях.** *Глуск. Няўхв.* Пра нейчыя непрыемныя, немілагучныя спевы. БД, 146.
**свíснуць бы воўк з перапалóху.** *Слуцк.* Пра чалавека, жывёлу, што імкліва, рэзка кінуліся бегчы. Сержпутоўскі 184.
**серавáтай мáсці нача воўк.** *Лоеў.* Пра падобнага на воўка па масці каня. Янкова, 242.
**страшы́цца як воўк ягня́ці.** *Мядз. Іран.* ФА. Тое, што баяцца як воўк казы.
**сýнуць бы воўк.** *Слуцк.* Пра прыгнечанага, хмурага, раздражнёнага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 56.
**схапíць як воўк авéчку.** *Вілен.*, *Івац.* Пра рашучае, смелае нападзенне. Sielicki, 162; ЗЗайкі.
**сярдзíты ек воўк.** *Слон. Асудж.* ТС 1, 147. Тое, што злы як воўк.
**танцавáць як стары воўк у Пілíпаўку.** *Асіп. Жарт.* Пра нейкія недарэчныя рухі, выхілянні. Высл., 398. < Алюзія да шлюбных танцаў старога ваўка.
**тымáць бы воўк зубáмі.** *Слуцк. Няўхв.* Пра нейчае беззаконнае трыманне чаго-н. Сержпутоўскі 1999, 136.
**трэ́ба** *хто куды* **як воўк на нéба.** *Смарг. Іран.* Пра некага, абсалютна не патрэбнага дзе-н. Высл., 401; Даніловіч, 216.
**ты завядзéш бáсам, як воўк чáсам, а я за табóю, як мядзвéдзь парóю.** *Люб. Жарт.* Пра нейкі хаўрус, агульны «спеў», пра падтрымку адзін аднаго. АВНЛ.
**пацягнýць як воўк авéчку.** *Карэл., Беласт. Асудж.* Пра рашучае драпежнае нападзенне. Высл., 407.
**хапáць як воўк.** *Слуцк. Асудж.* Пра прагнасць у здабыванні даброт. Сержпутоўскі 1999, 73.
**хíтры як сíвы воўк.** *Мёр.* Пра хітрага чалавека, які ўмее выкруціцца ў любой сітуацыі. Высл., 409.
**цáхкаць як воўк зубáмі.** Янк., Пар., 186. Тое, што ляскаць як воўк зубамі.
**цікавáць як воўк.** Пра чалавека, што адсочвае, падпільноўвае ахвяру. Янк., 437.
**цы́ндацца як воўк каля́ вёскі.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які ходзіць каля чаго-, каго-н. і нешта выглядае, падпільноўвае. Federowski, 339. < Цындаць – цікаваць, выглядаць.
**цягáцца як стары воўк смéрці шукáючы.** *Воран. Няўхв.* Пра бесталковае, безвыніковае бадзянне. Даніловіч, 252.
**цягáць як воўк ягня́.** *Карэл. Няўхв.* Пра лёгкую, безабаронную здабычу ахвяры. Высл., 416.
**чакáць як воўк дóўбні.** *Іўеў. Іран.* Пра дарэмнае, безвыніковае чаканне чаго-н. Даніловіч, 216.

**ча́таваць як воўк на гаве́чку.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра неміласэрнае адсочванне ахвяры. Federowski, 65. < Чатаваць – вартаваць, пільнаваць (польск. czatowac).

**чужы́ грош бяжы́ць як воўк.** *Іран.* Пра цяжкасці, што чакаюць таго, хто хацеў бы здабыць чужы грош. Jelski, 15.

**ша́насьць така́я, як воўк кабы́лу шанава́ў.** *Ушацк. Іран. Зневаж.* Пра нейчае благое стаўленне да свайго бліжняга. Барадулін, 103.

**ша́рыць вачы́ма як воўк па аве́чках.** *Няўхв.* Пра настойлівы, хцівы, прагны позірк. Ройзензон, 80.

**шука́ць як воўк сме́рці.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра дарэмную, безвыніковую справу. Federowski, 301.

**як воўк вільну́ў (мільну́ў, мялькну́ў) хвасто́м.** *Ваўк. п.* Пра кароткі адрэзак часу. Шпилевский, 187; Киркор, 239; Dybowski, 192; Federowski, 56.

**як во́ўка да гаве́ц [у хлеў, або́ру] упусці́ць.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра непажаданасць пускаць злодзея да матэрыяльных даброт. Federowski, 339.

**як той воўк, што прасі́ў: «анно́ хвост падвязі́».** *Ваўк. п. Іран.* Пра сітуацыю, калі малая ўступка цягне за сабою вялікую небяспеку. Federowski, 339.

**бая́цца як во́ўка.** *Ваўк. п.* Пра сапраўдны моцны страх. Federowski, 20.

вы́лупіць во́чы як бара́н на во́ўка. Гл. баран.

**крыча́ць як на во́ўка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра грубы, гучны, зняважлівы крык на чалавека. Federowski, 154.

**не прыла́шчыць як во́ўка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра дзікаватасць, зацятасць, недаверлівасць чалавека альбо жывёлы. Federowski, 250; Янк., Пар., 113.

**тру́дно як у во́ўка з зубо́ў (го́рла) вы́рваць.** *Ваўк. п.* 1. Пра выпадкі цяжкога спагнання даўгоў. 2. Пра складанасці ў выкананні той ці іншай справы. Federowski, 314.

**У яго́ стало́ўка, як у во́ўка: дзе ўрве́, дзе ўхо́піць.** *Прык.* Пра драпежнага, вынаходлівага, прагнага чалавека. Даніловіч 1996, 148.

**цюга́каць як на во́ўка.** *Няўхв.* Пра празмерныя нападкі на каго-н. Янк., Пар., 189.

**як у то́га во́ўка.** *Зэльв.* Пра вялікую колькасць спраў у кагосьці. Даніловіч 2008, 138.

**во́ўкам выць.** *Мсцісл.* Бялькевіч, 126. Тое, што выць як воўк.

У во́чы лі́сам, а за во́чы во́ўкам. Гл. ліс.

**е́сці хо́чацца як во́ўку.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі галоднага чалавека. Federowski, 130.

***во́ўна***

як мяшо́к з во́ўнай. Гл. мяшок.

**гавары́ць як з во́ўнаю ў ро́це.** *Пол. Няўхв.* Пра невыразную гаворку. Янк., Пар., 36; ФА.

зарабі́ць як Хо́ўра на во́ўне. Гл. Хоўра.

зарабі́ць што (як) Хама́ на во́ўне. Гл. Хама.

**гавары́ць як вóўну на плот вéшаць.** *Ушацк. Жарт. Няўхв.* Барадулін, 121. Тое, што гавары́ць як з вóўнаю ў рóце.
такáя кары́сць як з [тагó] казлá: ні вóўны, ні малакá. Гл. казёл.
як з тагó казлá: ані вóўны, ані малакá. Гл. казёл.
як з ягня́ці вóўны. Гл. ягня.

***вóўчы*** гарэ́ць як вóўча вóка. Гл. вока.
свяцíць як вóўча вóка. Гл. вока.
блішчáць як вóўчае (вóўча) вока. Гл. вока.
як з вóўчага гóрла дастáны. Гл. горла.
газнíчка як вóўчае вóка. Гл. вока.
патрэ́бен як кабы́ле вóўчы хвост. Гл. кабыла.
вы́рваць як з вóўчых зубóў. Гл. зуб.

***вóцат*** **кíслы як вóцат.** *Ваўк. п., Сміл., Стаўб.* Пра нешта вельмі кіслае. Federowski, 144; Шатэрнік, 49; СЦБ, 252.
зажадáцца (захацéцца) як кабы́ле вóцату. Гл. кабыла.
**маўчáць як вóцату вы́піўшы.** *Няўхв.* Пра зацятае, але вымушанае маўчанне. Ляцкий, 20; Санько, 68.
**я́блык кíслы што óцат.** *Стаўб. Няўхв.* Пра вельмі кіслы яблык. СЦБ, 252.
спяшáцца як [той] мужы́к з óцтам. Гл. мужык.

***вóчап*** **дóўгі як вóчап.** *Маладз.* Пра надта высокага чалавека або доўгі прадмет. Гілевіч, 27.

***вóчка*** **малáя як ры́б'я вóчка.** *Памянш. Ушацк.* Пра вельмі маленькі прадмет. Барадулін, 122.
**малéнькі як кóзья вочка.** *Памянш. Лаг.* Высл., 357. Тое ж.
**як рыбéччае вóчка.** *Памянш. Лоеў.* Янкова, 142. Тое ж.
**як з вóчка вы́рваны.** *Памянш. Шарк.* Пра вельмі падобнае да бацькоў дзіця. КВДУ.

***вош*** **блішчáць як вош на бля́се.** *Мядз. Пагардл.* Пра нешта непатрэбна заўважнае. Высл., 287.
**выкаблу́чвацца як вош на грабянцы́.** *Астр., Гом., Лід., Пін. Асудж. Зневаж.* Пра непрызваітыя паводзіны людзей. ФА; АВНЛ; Даніловіч 2008, 136; Нар. скарбы, 142.
**вылáзіць як вош на лоб.** *Івац., Рэч. Пагардл.* Пра чалавека, які хоча беспадстаўна паказацца, вылучыцца. Pietkiewicz, 399; ЗЗайкі.
**дакучáць як вош у кажусé (сарóчцы).** *Ваўк. п., Слон. Пагардл.* Пра вельмі дакучлівага, непрыемнага чалавека. Federowski, 75; Высл., 310.
**задавáцца як вош на грэ́бені.** *Івац. Зласл.* Пра пустую ганарлівасць, фанабэрыстасць каго-н. ЗЗайкі.
**наду́цца як вош на марóзі.** *Ваўк., Гродз., Бераст. Пагардл.* Пра нейчыя спробы паказацца важным, значымым. Сцяшковіч, 614; Санько, 155; Даніловіч, 216.
**круцíцца як вош на зáсланцы.** *Свісл. Іран. Здзекл.* Пра пастаянны, несупынны рух, які хутка скончыцца, бо кінуць у агонь. Даніловіч, 216.

**ле́зці як вош на каўне́р.** *Маст. Асудж.* Пра настойлівае, настырнае імкненне чалавека да пасады, цёплага месца і да т. п. Даніловіч, 216.

**ле́зці (пну́цца) як вош пад (на) струп.** *Мядз., Слон., Брасл., Астр. Іран.* Высл., 340; Янк., Пар., 94; СПЗБ 1, 332; Даніловіч, 217. Тое, што лезці як вош на каўнер.

**наду́цца як вош на кажу́се.** *Ваўк. Насмешл.* Federowski, 195. Тое, што надуцца як вош на марозі.

**наду́цца як салда́т на вош.** *Дзярж. Насмешл.* Пра нейчае пагардлівае, зневажальнае да каго-н. стаўленне. ФА.

**Не дае́ спаць чужы́ грош як вош.** *Слуцк. Прык.* Пра неспакой зайздроснага чалавека з-за чужога багацця. Сержпутоўскі 1999, 126.

**прыгрэ́цца** *дзе* **як вош за каўняро́м.** *Люб. Іран.* Пра становішча ўтрыманца, прыжыванца. ФА.

**су́нуцца** *куды* **як вош.** *Шальч. Іран.* Пра імкненне чалавека куды-н. пралезці. СПЗБ 5, 18.

**сядзе́ць** *дзе* **як вош пад стру́пам.** *Навагр., Шчуч. Іран.* Пра ціхае, спакойнае прабыванне чалавека дзе-н. Даніловіч, 217.

**така́я пра́ўда як вош ка́шляе.** *Гом., Бераст. Іран.* Пра абсалютную няпраўду. ПП 2, 314; Даніловіч 2010, 91.

**трыма́цца як вош за кажу́х.** *Рэч., Брэсц. Іран.* Пра моцнае трыманне каго-н. за добрую пасаду, прыбытак і г. д. Pietkiewicz, 368; ЛЦ, 20.

**трэ́ба як вош на ло́бе.** *Іран.* Пра нешта абсалютна непатрэбнае. Ройзензон, 78.

**чапуры́цца як вош на маро́зі.** *Гродз. Кплів.* Цыхун, 164. Тое, што надуцца як вош на марозе.

набра́цца як саба́ка (цю́цька) во́шай. Гл. сабака.

**спаўза́цца як во́шы на стру́п'е.** *Мін., Чэрык. Іран.* Пра хуткі збор звабленых на спажыву людзей. ЛЦ, 53.

**уе́ліся злы́дні як во́шы ў це́ла.** Пра заняпад гаспадаркі, няшчасці ў сям'і. Высл., 403. < Злыдні – увасабленне напасці, бяды, нягоды, якія, паводле даўніх народных павер'яў, «нападаюць» на чалавека, яго сям'ю, гаспадарку.

**узя́цца за дзе́ла як во́шы за це́ла.** *Вілен., Касц., Жлоб. Жарт.* Пра працу, якая вымагае сумесных высілкаў. Sielicki, 157; Нос., 167; Высл., 404; ТС 1, 147.

***ву́гал*** **трэ́ба як пя́ты ву́гал у ха́це.** *Дзятл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Даніловіч, 243.

чу́хацца як свіння́ аб ву́гал (плот, пад пло́там). Гл. свіння.

аглядáцца як воўк каля́ вуглó ў цы́ндаючы. Гл. воўк.

***вугалёк*** **чо́рны як вугалёк.** *Памянш. Мсцісл.* Пра некага вельмі чорнага і невялічкага. Юрчанка, 180.

***вугалёчак*** **як вугалёчак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Юрчанка, 180. Тое, што чорны як вугалёк.

***ву́галь*** **чо́рны (счарне́ць) як ву́галь.** *Клецк., Слон., Краснап.* Пра нешта альбо некага вельмі чорных. Высл., 418; Бялькевіч, 91.

**бе́гаць як з вугля́мі ў нагаві́цах.** *Слон. Іран.* Пра панічную мітусню кагосьці. Высл., 285.

*вуго́ліна* **обгорэ́ць як вуго́ліна.** *Жытк.* Пра насычаны, інтэнсіўны загар чалавека. ТС 3, 221.

*вуго́лле* **сядзе́ць як на вуга́ллі.** *Мсцісл.* Пра неспакойнае, нястрыманае сядзенне, калі што альбо трывожыць, альбо нечага чакаеш. Бялькевіч, 113.

**Благí чалаве́к – што вуго́лле: або апячэ́, або абмара́е.** *Прык.* Пра благія наступствы кантактавання з нядобрым чалавекам. Янкоўскі, 174.

**гарэ́ць як вуго́лле.** *Слуцк.* Пра гарэнне чаго-н. без полымя. Сержпутоўскі 1999, 42.

**Паклёп (плёткі) як вуго́лле: калí не абпа́ліць, то запэ́цкае.** *Мін. Прык.* Пра непрыемныя, адмоўныя вынікі абгаворвання для чалавека. ЛЦ, 46; ПП 2, 396.

**чо́рны як вуго́лле.** Лоеў. Пра нешта насычана чорнае. БД, 98.

**як на гара́чым вуго́ллі.** Пра паводзіны чалавека, які нечым моцна занепакоены, нечага чакае, перажывае. БПФС, 51.

прыпячы́ як ра́ку на вуго́ллях. Гл. рак.

*ву́да* **Нож як ву́да, да рэ́заць ім ху́да.** *Прык.* Пра чалавека, які ў гутарцы кпіць з іншых, але сам у рабоце няўмелы і лянівы. Нос., 115; Крэмнеў, № 805.

**п'я́ныя як ву́да: ківень, ківень.** *Пух. Няўхв.* Пра няроўную паходку п'яных. СПЗБ 1, 333.

**ро́ўна ісцí як ву́да.** *Чэрв. Іран.* Пра асаблівасці паходкі п'янага. СПЗБ 1, 333.

**як ву́да ўбакí хадзíць.** *Ушацк. Насмешл.* Барадулін, 112. Тое, што роўна ісці як вуда.

**но́гі як ву́ды.** *Бар. Няўхв.* Пра доўгія худыя ногі. СПЗБ 1, 333.

**пайсцí як з ву́ды.** *Навагр.* Пра хуткае, шпаркае перамяшчэнне каго-н. Даніловіч, 225.

*вуж* **выкру́чвацца як вуж.** *Няўхв.* 1. Пра немагчымасць спакойна пабыць, уседзець на адным месцы. 2. Пра занятак, клопаты чалавека, якія патрабуюць шмат сіл. 3. Пра няшчырыя, падманныя паводзіны чалавека. Янк., Пар., 29; Санько, 120.

**вярце́цца як вуж у ві́лах.** *Свісл.* Сцяшковіч, 614. Санько, 148. Тое, што выкручвацца як вуж 3.

**жыла́ву ек вуж.** *Жытк.* Пра жылістага хударлявага мужчыну. ТС 2, 71.

**круцíцца (ві́цца, звіва́цца) як вуж [ушчы́млены].** Янк., Пар., 88. Тое, што выкручвацца як вуж.

**круцíцца як вуж у ві́лах.** *Шчуч. Дзятл. Воран.* Даніловіч, 217. Тое ж.

**Муж не вуж, а кроў вы́смакча.** *Жытк. Прык. Асудж.* Пра стаўленне да жонкі жорсткага, неспагадлівага мужа. АВНЛ.

**паўзцí як вуж.** *Няўхв.* Пра павольнае перасоўванне, няшпаркую хаду кагосьці. Янк., Пар., 125.

**сядзі́ць няду́ж: налiза́ўся як вуж.** *Іран.* Пра моцна п’янага чалавека. Ром., Бел., 308; Янкоўскі, 245.

**цягну́ць як вуж.** *Асудж.* Пра кагосьці, хто сушыць каго, паціху і непрыкметна забірае жыццё. Янк., 1968, 409.

**чо́рны як вуж.** Пра чорную жывёлу (ката, каня). Ром., Бел., 314; Ляцкий, 58.

**як вуж на патэльні.** *Няўхв.* БПФС, 51. Тое, што выкручвацца як вуж 3.

**выкру́чвацца ву́жам.** БПФС, 51. Тое, што выкручвацца як вуж.

**звіва́цца ву́жам.** БПФС, 51. Тое ж.

**круці́цца вужо́м.** БВ, 126. Тое, што выкручвацца як вуж 1.

***вужа́ка*** **выкру́чвацца як вужа́ка.** *Мін.* Бялькевіч, 233; ЛЦ, 101. Тое, што выкручвацца як вуж.

**глядзе́ць як вужа́ка на я́йкі.** *Петр. Асудж.* Пра прагны, злосны, варожы погляд. ЛЦ, 50.

**Ду́рань не вужа́ка – не ўку́сіць.** *Прык.* Пра частую бяскрыўднасць не вельмі разумных людзей. Янкоўскі, 176.

**круці́цца як вужа́ка.** *Сен., Чэрв.* МК, 270; Гілевіч, 165. Тое, што выкручвацца як вуж 3.

**поўзці́ як [яка] вужа́ка.** *Стол.* ТС 1, 159. Тое што паўзці як вуж.

**чо́рны як [тая] вужа́ка.** Пра чорную жывёліну (ката, каня). Ром., Бел., 314; Ляцкий, 58.

**віцца вужа́кай** *перад кім. Няўхв.* Пра нейчыя лісьлівыя, але зланамысныя захады перад кімсьці. БПФС, 53.

***ву́зел*** **пры́казку ска́жа як вузло́м (ву́зел) завя́жа.** *Добр.* Пра трапнае, да месца, яркае выслоўе ў гаворцы. Рапановіч, 206.

***ву́злік*** **мале́нькі як ву́злік.** *Памянш.-ласк. Карэл. Жарт.* Пра маленькае, кругленькае дзіця, кацяня, кураня і г. д. Высл., 345.

***ву́лей*** **на пло́шчы як у ву́леі.** *Беласт.* Пра вялікую колькасць людзей, шум на плошчы. Высл., 348.

**ба́ба як ву́лей.** *Бабіц. Ухв.* Пра мажную, поўную кабету. СПЗБ 1, 142.

**то́ўсты як ву́лей.** *Люб.* Пра поўнага, тоўстага чалавека. ДА.

загудзе́ць як пчо́лы ў вуллі́. Гл. пчолы.

лю́ду як пчол у караніку́ (вуллі́). Гл. пчолы.

распуці́цца як ксяндзы́ ля ву́лляў. Гл. ксёндз.

**оводо́ў як із ву́лья рой.** *Жытк.* Пра вялікую колькасць аваднёў. ТС 1, 164.

***ву́літы****, гл.* ***выліты***

***ву́ліца*** **Прако́с ве́сці – не ву́ліцу ме́сці.** *Прык.* Пра складанасць і патрабаванне спрыту пры касьбе. Янкоўскі, 183.

любі́ць як саба́кі дзе́да ў це́снай ву́ліцы. Гл. сабакі.

**як з вырва́нскай ву́ліцы.** *Астр. Няўхв.* Пра неахайна апранутага, з неўпарадкаванай знешнасцю чалавека. Даніловіч, 225.

**бы на Зарва́нскай гу́ліцы.** *Пруж.* Босак, 29. Тое ж.

***вулка́н*** **жыць як на вулка́не.** *Няўхв.* Пра жыццё ў пастаянным чаканні якіх-н. непрыемнасцей. ФСБМ 1, 196.

***вулля́к*** **як вулля́к.** *Мсцісл.* Пра тоўстага чалавека. Юрчанка, 180.

***ву́пар*** **стая́ць як ву́пар.** *Іўеў., Гродз. Няўхв.* Пра надзьмутага, упартага, незадаволенага чалавека. СПЗБ 1, 337; Цыхун, 19. < Вупар – упарты чалавек.

***вус*** **блішча́ць як despaт тарака́нні вусы́.** *Кліч. Жарт. Іран.* Пра чысціню, парадак. АВНЛ.

***ву́сень*** **валаса́ты як ву́сень.** *Насмешл. Няўхв.* Пра аброслага, няголенага чалавека. Янк., Дыял., III, 154.

**паўзці́ як ву́сень.** *Насмешл.* Пра павольны рух, хадзьбу, перамяшчэнне. Янк., Пар., 125; Санько, 71.

***ву́тка*** **жыць як ву́тка (вуця) на вадзе.** *Лоеў. Ухв.* Пра вельмі добрае, спакойнае жыццё. Янкова, 71.

**ідзе́ як (бы́ццам) ву́тка плыве́.** *Ваўк. п., Клім. Ухв.* Пра плаўную, павольную хаду кагосьці. Federowski, 48; Янк., Пар., 80; Бялькевіч, 114.

**пражы́ць** *за кім* **як ву́тка на вадзе́.** *Люб. Ухв.* Пра шчаслівае, у дастатку жыццё жанчыны ў замужжы. Скарбы, 158.

**як ву́тка.** *Мсцісл.* 1. Пра павольнага чалавека. 2. Пра распаўнелага чалавека. Юрчанка, 180.

*да каго* **як да ву́ткі на сёмыя су́ткі.** *Раг. Жарт.* Пра чалавека, які вельмі павольна кеміць. АВНЛ.

**прама́я кішка́ як у ву́ткі.** *Касц.* Пра чалавека, які многа есць, а не папраўляецца. АВНЛ.

***ву́ха/у́ха*** **мале́нькі што ў ву́се паме́сціцца.** *Карэл. Насмешл.* Пра некага вельмі маленькага. Высл., 398.

**сядзе́ць як у ву́сі.** *Лоеў.* Пра чыё-н. бесклапотнае жыццё. Янкова, 71.

**ціха як у ву́се (ву́ху).** *Івац., Слуцк., Кам.* Пра цішыню, спакой дзе-н. Янк., 439; Высл., 415; Сержпутоўскі 1999, 69; ЖН, 55; ЗЗайкі.

**як у ву́сі** *дзе. Светл. Ухв.* Пра ўтульнае, спакойнае, надзейнае пачуванне дзе-н. Матэрыялы 1981, 158.

**уба́чыць** *што* **як сваё ву́ха без люстэ́рка.** *Астр., Бераст. Іран.* Пра немагчымасць што-н. убачыць. Даніловіч, 246.

**як у ву́ха слу́хаць** *каго. Лоеў.* Пра паслушэнства, павагу да каго-н. Янкова, 71.

**жыць як у бо́жым (бо́скім) ву́ху.** *Астр. Шчуч. Ухв.* Пра вельмі добрае, прывольнае, бесклапотнае жыццё. Даніловіч, 256.

**цёпла** *дзе* **як у мядзве́джым ву́ху.** *Докш. Ухв.* Пра лагодную цеплыню дзе-н. Высл., 415. < У казках у мядзведжым вуху не толькі цёпла, але і багата, і бедная дзяўчына знаходзіць там багацце.

**цяпло́ як у ву́ху.** *Гродз.* Цыхун, 195. Тое, што цёпла як у мядзведжым вуху.

**як у бо́жым (бо́скім) ву́ху.** *Лід., Маст., Воран.* Даніловіч, 256. Тое, што ціха як вусе.

**як у каровя́чым ву́ху.** *Гродз. Ухв.* 1. Тое што ціха як вусе. 2. Пра хуткае, дружнае, спорнае выкананне якой-н. працы. Даніло-

віч, 258. < Згодна з беларускімі казкамі, у вуху каровы-апякункі прадзецца кудзеля, тчэцца палатно для дзяўчыны-сіроткі.

**паба́чыш як сваé ву́шы.** *Петр.* Пра немажлівасць нешта паглядзець, штосьці атрымаць. Federowski, 318; Высл., 397; Санько, 189; НН, 321; Янк., 397.

хадзíць як свіння́, ву́шы апусцíўшы. Гл. свіння.

**хоць ву́шы затыка́й.** *Няўхв.* Пра грубую гаворку, брыдкую лаянку, калі становіцца немагчыма слухаць. НН, 321.

**не віда́ць як сваíх вушэ́й.** *Крыч.* Высл., 354; ТС 1, 181. Тое, што пабачыш як свае вушы.

**як у воло́ве ýхо попа́ў.** *Жытк. Ухв.* Пра траплянне ў ціхае утульнае месца. ТС 1, 135.

**жыць як у бо́жэму ýху.** *Віл. Ухв.* Пра добрае, спакойнае жыццё каго-н. СПЗБ 2, 161.

***вуцяня́*** **жыць до́брэ як вуценя́ ў сíтніку.** *Жытк. Ухв.* Пра прывольнае добрае жыццё. ТС 2, 24.

***ву́чаны*** **як ву́чаныя.** *Ушацк. Іран.* Пра паводзіны людзей, што намагаюцца выглядаць больш разумнымі, здольнымі. Васюковіч, 19.

***ву́шка*** **усягó** *дзе* **як у мядзвéджа ву́шку.** *Памянш. Мядз. Ухв.* Пра казачнае багацце ў хаце. Высл., 406.

**цёпла як у мядзвéдждым ву́шку.** *Памянш. Вілен., Докш. Ухв.* Пра прыемнае, лагоднае цяпло. Sielicki, 158; Высл., 415.

сядзéць як у мядзвéдзя ў ву́шку. Гл. мядзведзь.

**ціха як у Бо́жым вушку.** *Памянш. Ухв.* Пра прыемную цішыню дзе-н. Станкевіч, 353.

**як у бо́жым (бо́скім) ву́шку.** *Памянш. Лід., Маст., Воран., Смарг. Ухв.* Пра прыемнае знаходжанне дзе-н. Даніловіч, 256; Сцяшковіч, 620; Санько, 71.

**як у мядзьвежжу вушку.** *Памянш. Ушацк. Ухв.* Барадулін, 106. Тое, што як у бо́жым (бо́скім) ву́шку.

***вы́вад*** шыпíць як змей на вы́ваде. Гл. змей.

***вы́вернуць*** Душа́ чалавéка не кажу́х: не вы́вернеш. Гл. кажух.

***вы́вернуты*** шурпа́ты як вы́вернуты трыбу́х. Гл. трыбух.

***вы́ган*** хадзíць як ко́ньска смерць па вы́гане. Гл. смерць.

***вы́драць*** падо́бны як з во́ка вы́драны. Гл. вока.

злíтавацца як рак над жа́баю [узяў ды й очы выдраў]. Гл. рак.

***вы́калаць*** цéмень хаць ты во́ка вы́каль. Гл. вока.

***вы́капаны*** **як вы́капаны** *хто. Воран. Маст.* Пра чалавека, вельмі падобнага на каго-н. Даніловіч, 217.

***вы́кінуць*** Сваё дзіця́ не шчаня́: за плот не вы́кінеш. Гл. шчаня.

гро́шы як за плот вы́кінуць. Гл. плот.

як за акно́ вы́кінуць. Гл. акно.

**з'éсці як за сябé вы́кінуць (закíнуць).** *Ваўк. п., Стаўб.* Пра хуткае, лёгкае спажыванне ежы. Federowski, 356; Янк., Пар., 74; МК, 310.

***вы́курыць*** Жы́тку пражы́ць – не лю́льку вы́курыць. Гл. люлька.

***вы́леплены*** як з цéста злéплены (вы́леплены). Гл. цеста.

***вы́лецець*** Сло́ва як верабе́й: вы́леціць і не пайма́еш. Гл. верабей.

***вы́літы*** **увесь бацю́та як вы́літы.** *Бялын.* Пра падобнае на бацьку дзіця. Яўсееў, 23.

**як ву́літы.** *Ухв.* Пра гладкага, адкормленага чалавека. ТС 1, 165.

як з яйца́ вы́літы. Гл. яйцо.

***вы́ліць*** **як вы́ліць.** *Лоеў. Ухв.* Пра добрае, дакладнае, хуткае выкананне справы. Янкова, 73.

**як за сябе́ вы́ліць** *што. Слон.* Пра лёгкае, хуткае спажыванне ежы. Даніловіч, 224.

***вы́лупіцца*** глядзе́ць як з яйца́ вы́лупіўся. Гл. яйцо.

***вы́лупка*** **адзе́цца як вы́лупка [яка́я].** *Езяр. Няўхв.* Пра багата і вычварна апранутую жанчыну. Каспяровіч, 64.

***вы́месці*** як мятло́ю вы́мела (змяло́, зме́цена) [гасцей з хаты]. Гл. мятла.

**як вы́мецена** *дзе.* Пра знікненне чагосьці, спусташэнне дзе-н. БПФС, 55.

***вы́няць*** як душы́ не вы́няць. Гл. душа.

***вы́піць*** маўча́ць як во́цату вы́піўшы. Гл. воцат.

***вы́пхнуць*** глядзе́ць як шы́бы ня вы́пхне. Гл. шыба.

***вы́рай*** **цёпла як у вы́раі.** *Ухв.* Пра ідэальныя ўмовы, выключна прыемную цеплыню. Янк., Пар., 188.

збіра́цца як варо́на ў вы́рай. Гл. варона.

збіра́цца як со́йка ў вы́рай. Гл. сойка.

***вы́рваць*** кра́сен-чы́рван як са ср...кі вы́рван. Гл. ср...ка.

як з во́ка вы́рвана. Гл. вока.

жраць як з гало́днага кра́ю вы́рваўсё. Гл. край.

тру́дно як у во́ўка з зубо́ў (го́рла) вы́рваць. Гл. воўк.

***вы́сеўкі*** вы́скаліць зу́бы як саба́ка на вы́сеўкі. Гл. сабака.

глядзе́ць (узіра́цца) як саба́ка на вы́сеўкі. Гл. сабака.

глядзе́ць як кабы́ла на вы́сеўкі. Гл. кабыла.

***вы́скідзь*** сядзе́ць як чорт на вы́скідзі. Гл. чорт.

***вы́смактаць*** Муж не вуж, а кроў вы́смакча. Гл. вуж.

***вы́смаліць*** як перуно́м вы́смалена. Гл. пярун.

***вы́стаўка/выста́ва*** **вы́брацца як на выста́ву.** *Зэльв. Насмешл.* Пра занадта модна, прыгожа ці нават вычурна апранутага чалавека. Сцяцко 2005, 22.

**разадзе́цца як на выста́ву.** *Маладз. Насмешл.* Гілевіч, 30. Тое, што выбрацца як на выставу.

**хоць на вы́стаўку.** *Ухв.* Пра нешта вельмі прыгожае, дасканалае, высокай якасці. НН, 380.

***выць*** пяя́ць як воўк вы́е. Гл. воўк.

***в'юн****, гл.* ***уюн***

***вэ́прык*** **утравэ́цца ў гаро́д як вэ́прык у бу́льбу.** *Малар. Няўхв.* Пра чалавека, што нарабіў шкоды на чужой тэрыторыі. Нар. лекс., 88. < Утравэцца – унадзіцца рабіць шкоду.

***вядзме́дзь****, гл.* ***мядзведзь***

***вядзьма́к*** **заказе́рыць во́чы як вядзьма́к.** *Сміл.* Пра непрыветны, здзіўлены, варожы позірк. Шатэрнік, 102. < Заказерыць – закаціць вочы і глядзець здзіўлена.

***вядро́***

**о́чы ек [этэ] ведро́.** *Жытк.* Пра вялікія, але невыразныя вочы. ТС 1, 109.

**дождж як з вядра́ [ллець].** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Сміл.*, *Шчуч.*, *Стаўб.*, *Мсцісл.*, *Чав.* Пра моцны, праліўны дождж. Federowski, 81; Шатэрнік, 84; З нар. сл., 44; Юрчанка 1969, 69; МК, 311; Юрчанка, 1974, 194; Нар. слов., 85, 189; СЦБ, 216; ТС 4, 143; ЗЗайкі.

**ліць як з вядра́.** *Свісл.* Сцяшковіч, 615. Тое ж.

**ве́лька лы́мя як вядро́.** Пра вялікае вымя малочнай каровы. СПЗБ 1, 360. < Лымя – вымя.

**бу́хаць як у вядро́.** *Дзятл.* Пра моцны кашаль. Сцяшковіч, 580.

**галава́ як вядро́.** *Ваўк. п.* Пра вялікую галаву. Federowski, 99.

**ідзе́, ро́ўна вядро́ на галаве́ нясе́.** *Воран.* Пра павольную, асцярожную хаду. Сцяшковіч, 426.

бе́гчы (пабе́гчы) усле́д *за кім* як цяля́ за вядро́м з по́йлам. Гл. цяля.

таўчы́ся як ры́ба ў вядрэ́. Гл. рыба.

***вяза́ць***

ілжэ́ як ве́нікі вя́жа. Гл. венік.

**ка́жа як вя́жа.** Пра гладкі, паслядоўны расказ. Янк., Пар., 84.

піса́ць ве́ршы як панчо́шкі вяза́ць. Гл. панчошка.

***Вялі́кдзень***

жо́ўты як све́чка пе́рад Вялі́каднем. Гл. свечка.

**пад’е́сці як на Вялі́кдзень.** *Гродз.*, *Мін.* Пра сытнае, добрае сталаванне. Даніловіч, 236; ЛЦ, 95.

брадзі́ць па ха́тах як ста́рац на Вялі́кдзень. Гл. старац.

***вяне́ц***

**ры́хтык да вянцу́ вы́брацца.** *Зэльв. Ухв.* Пра добра, пасвяточнаму прыбранага чалавека. Сяцко 1970, 139.

прыбра́цца як малада́я да вянца́. Гл. маладая.

**прыбра́цца як пад вяне́ц.** *Івац. Ухв.* ЗЗайкі. Тое, што ры́хтык да вянцу́ вы́брацца.

***вяно́к***

**як вено́к.** *Лоеў. Ухв.* Пра спрытную, працавітую, вясёлую гаспадыню. Янкова, 307.

**як у вянку́.** *Стаўб. Захапл.* Пра вельмі добрае, паспяховае выкананне справы, пра дасканалы выгляд чаго-н. СЦБ, 79; ТС 1, 112.

**жыць як вянкі́ пле́сці.** *Ухв.* Пра добрае, вясёлае, лёгкае жыццё. Санько, 131.

***вяно́чак***

**Свой дваро́чак як вяно́чак.** *Памянш.-ласк. Слуцк. Прык.* Пра родны блізкі замчысты двор. Сержпутоўскі 1999, 58.

**сыно́чак як вяно́чак.** *Маг. Захапл.* Пра дарагога, прыгожага, ладнага сына. Высл., 392.

**у садо́чку як у вяно́чку.** *Івац. Захапл.* Пра ўтульны дагледжаны сад. ЗЗайкі.

**ха́та як у вяно́чку.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра дагледжаную, акуратную хату. Янк., Пар., 181. < Магчыма, адлюстроўвае асаблівасці вяночнага тыпу сялібы.

***вяпру́к***

**насцяба́цца як вапры́.** *Смал. Няўхв.* Пра п’яных людзей. Добр., Смол., 464. < Вапры – вепрукі.

**гла́дкі як вяпру́к.** Пра сытага, адкормленага мужыка. Янк., Пар., 40.

**тлу́сты як вяпру́к.** *Сміл.* Шатэрнік, 277; Янк., 432. Тое ж.

***вярба́*** **высо́ка як вярба́.** *Ваўк. Ухв.* Пра высокую стройную дзяўчыну, жанчыну. СПЗБ 1, 389.

**гну́цца як вярба́.** *Кір.* Пра старанную, працавітую дзяўчыну, жанчыну. ДА.

**Дзе́ўкі як вярба́ – іх усю́ды пераса́джваюць.** *Прык.* Пра пераход маладой жанчыны ў хату мужа. Federowski, 95; Янкоўскі, 66.

**нахілі́цца як вярба́.** *Фальк. Спачув.* Пра самотную дзяўчыну. Янк., Пар., 112.

**стро́йная як вярба́.** *Гродз. Ухв.* Пра зграбную, прыгожую дзяўчыну. Цыхун, 175.

го́йдацца бы руса́лка на вярбе́. Гл. русалка.

**назбіра́ць як на вярбе́ груш назрыва́ць.** *Іран.* Пра безвыніковае збіранне. Янк., Пар., 110.

*што* **як на вярбе́ гру́шкі.** *Іран.* Пра тое, чаго не бывае ў жыцці. ПП 2, 313.

***вярблю́д*** **зго́рбіцца як ярблю́д.** *Карэл. Насмешл.* Пра згорбленага, няўклюднага чалавека. Нар. лекс., 164.

***вяргі́ня*** кля́сці як маро́зам на вяргі́ню ве́яць. Гл. мароз.

***вярмо́*** **загну́ць карк як пад вярмо́м.** *Ваўк. п. Спачув.* 1. Пра цяжкую фізічную працу. 2. Пра прыгнечаны душэўны настрой. Federowski, 137.

***вяро́вачка*** гуля́ць/пагуля́ць як цяля́ на вяро́вачцы. Гл. цяля.

жыць як цяля́ на вяро́вачцы: дзе прывя́жуць, там і сто́й. Гл. цяля.

***вяро́ўка*** **Доўг не вяро́ўка, не парве́цца.** *Асіп. Прык. Жарт.* Пра абавязковасць аддаваць доўг. АВНЛ.

**дрыжа́ць як вяро́ўка пе́рад нажо́м (но́жыкам).** *Мсцісл. Жарт.* Пра дрыжыкі, трымценне ад страху. Юрчанка, 180.

**круці́цца як вяро́ўка.** *Няўхв.* Пра чалавека, які імкнецца знайсці выйсце з якога-н. становішча. Янк., Пар., 88.

**п’я́ны як вяро́ўка.** *Маладз. Асудж.* Пра няцвёрдую, хісткую паставу п’янага чалавека. ФА.

падтры́мліваць як ві́сельніка вяро́ўка. Гл. вісельнік.

хадзі́ць як саба́ка з абарва́най вяро́ўкай. Гл. сабака.

*хто* **вяро́ўкаю** *за кім. Лельч.* Пра неадступны рух каго-н. за іншым чалавекам. Кучук, Малюк, 21.

**вусы́ як вяро́ўкі (вераўкі́).** *Слон. Насмешл.* Пра доўгія вусы. Высл., 295.

**круці́ць** *каго* **як вяро́ўкі.** *Ушацк. Спачув.* Пра залежнасць чалавека ад розных абставін. Барадулін, 113.

**ліць як з вяро́ўкі (як з верав́ок).** *Зэльв., Маст., Слон.* Пра вельмі моцны, суцэльным патокам дождж. Леп., 86; Даніловіч, 226; Санько, 69.

**скруці́ць** *каго* **як вяро́ўку.** *Слуцк. Няўхв.* Пра рашучае падпарадкаванне кагосьці. Сержпутоўскі 2000, 162.

задава́цца як свіння́ на вяро́ўцы. Гл. свіння.
нагуля́цца як каза́ на вяро́ўцы. Гл. каза.
разгуля́цца як цяля́ на вяро́ўцы. Гл. цяля.
як свіння́ на вяро́ўцы. Гл. свіння.

***вярста́*** **адзі́н што вярста́ ў по́лі.** *Слуцк. Спачув.* Пра адзінокага, самотнага чалавека. Сахараў. < Вярста – тут: верставы слуп.
стая́ць як вярста́. *Няўхв.* Пра вельмі высокую дзяўчыну. НН, 288.
**цыба́стая як вярста́.** *Хоц. Няўхв.* Пра вельмі высокую дзяўчыну, жанчыну. Бялькевіч, 483.

***вярту́н*** **круці́цца як вярту́н.** *Сміл. Няўхв.* Пра нясталую пазіцыю чалавека. Шатэрнік, 60.

***вярцёлка*** **круці́цца як вярцёлка.** *Івац., Шальч. Няўхв.* СПЗБ 1, 392; ЗЗайкі. Тое, што круціцца як вяртун.

***вясе́лле*** розгуля́цца як ду́рэнь на вэсе́лы. Гл. дурань.
**збіра́цца як вясе́лле ла́дзіць.** Пра добрую, старанную падрыхтоўку да нечага. Янк., Пар., 70.
**вы́радзіцца як на вясе́лле.** *Бых., Івац. Асудж.* або *ўхв.* Пра залішнюю вычурную прыбранасць не да месца. Мат., 85; ЗЗайкі.
**нае́сціся як на вясе́лле.** *Івац.* Пра добры, сытны, смачны наедак. ЗЗайкі.
**нарабі́ць як на Га́нніна вясе́лле.** *Люб. Жарт.* Пра залішнюю колькасць нарыхтаваных страваў. ФА.
Ста́расць не ра́дасць, а смерць – не вясе́лле. Гл. радасць.
**шыкава́цца як на вясе́лле.** Янк., Пар., 198. Тое, што збіра́цца як вясе́лле ла́дзіць.
галасі́ць як маладу́ха на вясе́ллі. Гл. маладуха.
**гасцяваць** *дзе* **як на вясе́ллі.** *Слуцк.* Пра вельмі добрае гасцяванне, баляванне дзе-н. Сержпутоўскі 1999, 70.
**накіда́ць масло́ў пад стол як на вясе́ллі.** *Хоц. Жарт.* Пра неахайнасць у паводзінах добра пад'еўшых, выпіўшых гасцей. Бялькевіч, 260.
сядзе́ць як жа́ба на вясе́ллі. Гл. жаба.
сядзе́ць як малады́ на вясе́ллі. Гл. малады.
**сядзе́ць як на вясе́ллі.** *Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які не рупіцца да работы. ЗЗайкі.
усе́сціся як ку́лля на вясе́ллі. Гл. кулля.
як свіння́ (каба́н, вапе́р) на вясе́ллі. Гл. свіння.
**здаро́вы хоць да вясе́лля.** *Слуцк. п. Ухв.* Пра некага моцнага, здаровага, у поўнай сіле. Federowski, 353.

***вясло́*** аста́цца як на мо́ры без вясла́. Гл. мора.
**Бага́цце як вясло́, упу́сціш – паплыло́.** *Чэрв. Прык.* Пра неабходнасць дбаць пра дастатак, інакш зноў збяднееш. Гілевіч, 152.

***вясна́*** **зляце́лі гадо́чкі як адна́ вясна́.** Пра хуткае мінанне гадоў, усяго жыцця. Янк., Пар., 75.
кракта́ць як жа́ба на вясну́. Гл. жаба.
шчабята́ць як ла́стаўка на вясну́. Гл. ластаўка.

*вясно́й* прыго́жая як кве́тка вясно́й. Гл. кветка.
фарсі́сты як пе́вень вясно́ю. Гл. певень.
шчабята́ць як пту́шка вясно́ю. Гл. птушка.

*вясно́вы* худы́ як вясно́вы грак. Гл. грак.

*вячэ́ра* ісці́ як зма́рлыя ду́шы на дзе́давую вячэ́ру. Гл. душа.
адвярну́цца як Ю́да ад свято́й вячэ́ры. Гл. Юда.

# Г

*гавя́да* **мны́го як гавя́ды** *каго. Кам.* Пра вялікую колькасць людзей. ЖН, 40.

*гавары́ць* балбата́ць як па́церы гавара́ць. Гл. пацеры.

*гаго́й* **насі́цца як гаго́й.** *Мсцісл.* Пра нейчую мітуслівую, неразумную бегатню. Юрчанка, 240. < Гагой – здаравяка.

*гаго́ль* **як гаго́ль.** *Мсцісл.* Пра сівога чалавека. Юрчанка, 181.

*гад* **бі́цца як гад.** Пра жыццё ў цяжкіх умовах, празмерную працу ў дамаганнях лепшага. НН, 407.
**бы гад на сковороді́.** *Пін. Няўхв.* Пра непаседлівага чалавека. Нар. скарбы, 142.
**цягну́цца як гад па зямлі́.** *Мядз.* Пра маруднае перамяшчэнне кагосьці непрыемнага. Янк., Абр., 126.
**задушы́ць** *каго* **як га́да.** *Івац. Пагардл.* Пра жорсткае, неміласэрднае знішчэнне каго-н. Янк., Пар., 67; ЗЗайкі.

*гадава́ны* як у ле́се гадава́ны (гадо́ваны, гадава́ўся). Гл. лес.

*га́дзіна* **злава́ць як га́дзіна.** *Слуцк. Асудж.* Пра раз’юшанасць, што пагражае небяспекай. Сержпутоўскі 1999, 90.
**ска́ча ў го́чы бы га́дына.** *Драг. Асудж.* Пра агрэсіўную, злую, сварлівую жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222.
**як га́дзіна, што сваé дзе́ці пажрэ́.** *Ашм. Асудж.* Пра злосную жанчыну. СПЗБ 1, 401. < Па народным паданні, гадзіна (вужака), як раджае дзяцей, перавешваецца праз галінку, ловіць іх пры выпадзенні з цела і з’ядае. Толькі тое выжыве, якога не паспее злавіць.

*гадзі́ннік* **працава́ць як гадзі́ннік.** *Ухв.* Пра дакладную і бесперабойную працу. ФСБМ 1, 245.

*га́дзіць* Жыццё як у кура́тніку: ка́жды ле́зе вышэ́й, каб га́дзіць на ні́жняга. Гл. куратнік.

*гадзю́ка* **круці́цца як гадзю́ка.** *Калінк. Няўхв.* Пра чалавека, што злосна выкручваецца, прыціснуты доказам. СПЗБ 3, 236.
**слі́зкі як гадзю́ка.** *Няўхв.* Пра нешта або некага слізкіх, непрыемных. Янк., 428.
**шыпе́ць/зашыпе́ць (сыкаць) як (бы) гадзю́ка.** *Ваўк. п., Слуцк., Лельч. Няўхв.* Пра злоснае, яраснае нараканне на каго-н. Federowski, 296; Сержпутоўскі 1998, 53; Шатэрнік, 270; Кучук, Малюк, 63.
**бая́цца** *каго* **як гадзю́кі.** Пра моцны, панічны страх перад некім. Янк., Пар., 13.

***га́за*** дурны́ як бутэ́лька ад га́зы. Гл. бутэлька.

***гай*** **жы́та як гай.** *Івац. Ухв.* Пры высокае, умалотнае збожжа. ЗЗайкі.

**расці́ як гай.** *Лоеў. Ухв.* Пры высокую збажыну. Янкова, 79.

**працава́ць як гай шумі́ць.** *Лях. Ухв.* Пра вясёлую, спорную, грамадскую працу. ФА.

**Сухі́ ма́рац, мо́кры май – бу́дзе жы́та як гай.** *Шарк., Ашм., Смарг.* Прыкмета. Пра залежнасць ураджайнасці жыта ад надвор'я ўвесну. ПП 1, 79.

**Як дождж ідзе́ ў май, то бу́дзе жы́та як гай.** *Навагр.* Прыкмета. ПП 1, 80. Тое ж.

***гайда́чка*** **бе́гаить як гайда́чка.** *Смал.* Пра бегатню непаседлівай, бойкай дзяўчынкі. Добр., Смол., 117.

***гайду́к*** **хадзі́ць як гайду́к.** *Смiл. Няўхв.* Пра ганарыстае расхаджванне з усведамленнем сваёй службовай сілы. Шатэрнік, 62.

***га́йсцер*** **худы́ як га́йсцер.** Пра вельмі худога чалавека, жывёлу. ТС 1, 190. < Гайсцер – чорны бусел.

***галава́*** патрэ́бен як ду́рню галава́. Гл. дурань.

хоць гаць гаці да па галава́х хадзі́. Гл. гаць.

лы́сы – як ме́сяц све́ціць на галаве́. Гл. месяц.

**раве́ як галаве́ сцяць.** *Карэл. Няўхв.* Пра нейчы гучны, голасны крык, рык. Высл., 374.

ро́ўна вядро́ на галаве́ не́сці. Гл. галава.

сядзе́ць цвіко́м у галаве́. Гл. цвік.

хадзі́ць як з я́йкамі на галаве́. Гл. яйка.

**як абу́хам па галаве́** *каму. Лаг., Слуцк.* Пра нечаканую жудасную вестку. Высл., 311; Сержпутоўскі 1999, 22.

**як галаве́ сцяць.** *Навагр.* Пра вельмі моцны боль. СЦБ, 84.

як пусты́м мяшко́м па галаве́ сту́кнуты. Гл. мяшок.

**жыць як за ба́цькавай галаво́й.** *Ухв.* Пра бесклапотнае добрае жыццё каго-н. БПФС, 60.

**напі́ўся – як галаво́й аб сцяну́ пабі́ўся.** Пра моцны галаўны боль пасля п'янкі. ПП 2, 356.

схава́цца як цецяру́к галаво́й у корч: нічо́га не віда́ць, а хвост тырчы́ць. Гл. цецярук.

пае́хаць як у вір галаво́ю. Гл. вір.

**з кура́чую галаву́.** *Жарт.* Пра нешта невялічкае. БПФС, 61.

звалі́ца як хало́дны снег на галаву́ ўле́тку. Гл. снег.

звалі́цца як снег на галаву́ ў са́мы сенако́с. Гл. снег.

**напрадзе́ ек с куры́ну го́лову.** *Жытк. Няўхв.* Пра малы клубочак напрадзеных нітак. ТС 3, 152.

**як за́йцаву галаву́ з'е́ўшы.** *Іўеў. Няўхв.* 1. Пра мітуслівую і бязмэтную бегатню. 2. Пра вельмі хуткія ўцёкі. Даніловіч, 224.

пріста́ць як калту́н да галавы́. Гл. калтун.

**хадзі́ць як без галавы́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які дзейнічае бязмэтна, непрадумана. Federowski, 48.

**шанава́ць** *што* **як свае́ галавы́.** *Слон. п.* Пра шчырае шанаванне, зберажэнне чаго-н. Federowski, 297.

**як без галавы́.** *Мсцісл. Асудж.* Пра непрадуманыя, нелагічныя дзеянні, развагі. Юрчанка 1977, 221.
Ро́зум не куле́ш, у го́лаву не ўліе́ш. Гл. кулеш.

***галаве́шка*** **абгарэ́ць як галаве́шка.** *Слуцк.* Пра счарнелага, загарэлага чалавека. Сержпутоўскі 1998, 52.
**кача́цца як галаве́шка.** *Мсцісл.* Пра слабага, хворага чалавека. Юрчанка, 47.
**чо́рны (счарне́ць, учарне́ць) як галаве́шка.** *Ваўк.*, *Слон. п.*, *Жытк.*, *Івац.*, *Стаўб.*, *Мсцісл.*, *Сміл.* Federowski, 66; Янк., 431; Юрчанка 1977, 224; Шатэрнік, 291; ЖНС, 194; ЗЗайкі. Тое, што абгарэ́ць як галаве́шка.
**бу́льба як галаве́шкі.** *Люб. Ухв.* Пра вялікую бульбу. СПЗБ 1, 407.
**сіня́к ек голове́шка.** *Жытк.* Пра вялікі чорны сіняк. ТС 5, 36.

***гала́йка*** **мало́ць як гала́йка.** *Жытк. Няўхв.* Пра балбатлівую жанчыну. Нар. слов., 302. < Галайка – крыклівая балбатуха.

***гале́еўскі*** як гале́еўская ста́рчыха. Гл. старчыха.
раздры́паць як гале́іўскую ста́рчыху. Гл. старчыха.

***галё́нчыха*** **п’я́ны як галё́нчыха.** *Мсцісл.*, *Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. Юрчанка, 181. < Галёнчыха – дробная гандлярка у 40–50-х гг. у Мсціславе. АВНЛ.

***галі́на*** зя́ваць як варо́на (на галі́не). Гл. варона.
ліпець як арэ́х на сухо́й галі́не. Гл. арэх.
тлець як гарэ́х на сухо́й галі́не. Гл. арэх.

***галі́нка*** **(зрабі́ць)** *што* **як за галі́нку.** *Памянш. Астр., Слон.* Пра хуткае, без пярэчанняў выкананне чаго-н. Даніловіч, 224.

***га́лка*** **чо́рны як га́лка.** *Ваўк. п.*, *Браг.*, *Івац.* Пра каго-н. вельмі чорнага. Federowski, 66; Мат. Гом., IV, 57; ЗЗайкі. < Галка – узор чарнаты, смуглявасці.

***гало́дны*** жраць як з гало́днага краю́ вы́рваўсё. Гл. край.
як з гало́днага кра́ю. Гл. край.
злята́цца як гало́днае крумкаччо́. Гл. крумкач.
цягну́цца як гало́днае ле́та. Гл. лета.
*што каму* **як гало́днаму пост.** *Мсцісл.* Пра нешта абсалютна непатрэбнае. Юрчанка, 181.
**бра́цца** *за што* **як гало́дны за хлеб.** Пра руплівае, рэзкае дзеянне, хапанне каго-н. Янк., Пар., 21.
**збіра́цца як гало́дны ср...ць.** *Старадар. Вульг.* Пра вельмі маруднае, неахвотнае збіранне куды-н. Dybowski, 16; ФА.
**збірацца як гало́дны ў бо́рну.** *Дзятл. Іран.* Даніловіч, 217. Тое, што збірацца як галодны ср...ць. Борна – параўн. руск. уборная ‘прыбіральня’.
**збіра́цца як гало́дны ў кано́плі (крапіву́).** *Карэл., Пол. Іран.* Высл., 326; З нар. лекс., 14. Тое, што збірацца як галодны ср...ць.
Лю́ты як гало́дны воўк, а баязлі́вы як зя́яц. Гл. воўк.
**накі́нуцца як гало́дны на хлеб.** *Мін. Няўхв.* Пра вельмі прагнае, імклівае дзеянне каго-н., накідванне на што-н. ЛЦ, 72.
наляце́ць як гало́дны крумка́ч. Гл. крумкач.

**рабі́ць як гало́дны се́ра.** *Рэч. Вульг.* Пра маруднае, скуднае выкананне чаго-н. Pietkiewicz, 389.

як гало́дный саба́ка. Гл. сабака.

сябрава́ць як гало́дныя саба́кі, што дзе́ляць ко́стку. Гл. сабака.

лу́пацьочы́ма бы голо́дна сова́. Гл. сава.

***га́лстук*** *каму што* як саба́ку га́лстук. Гл. сабака.

***галубі́ны*** рабы́ як галубі́нае яйцо́. Гл. яйцо.

***галу́бка*** **бі́цца як галу́бка падстрэ́леная.** *Памянш. Спачув.* Пра жанчыну ў бядзе, роспачы. Янк., 397.

***галубо́к*** **брукава́ць як галубкі́.** *Памянш. Ваўк. п. Слон.* Пра шчырую, сардэчную размову закаханых. Federowski, 43; Янк., Пар., 19; Высл., 288.

**жыць [удваі́х] як галубкі́ ў па́ры.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Пра шчырае, вернае жыццё сужонкаў. Federowski, 367; Юрчанка 1972, 213; Янк., Пар., 62.

**жыць як галубкі́.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Юрчанка, 181. Тое, што жыць як галубкі ў пары.

**каха́цца як галубкі́.** *Памянш. Ухв.* Пра шчыра закаханых. Янк., Пар., 85.

**Любі́ліся, каха́ліся як галубкі́ ў стрэсе́, а ціпе́р разышлі́ся як я́гадкі ў ле́се.** *Памянш. Гродз. Прык.* Пра нярэдкае заканчэнне кахання расстаннем. Цыхун, 186.

**любі́цца (мілава́цца) як галубкі́.** *Памянш. Ваўк. п., Смал. п., Слон. Ухв.* Federowski, 167; Высл., 342; Добр., Смол., 410. Тое, што каха́цца як галубкі́.

любі́цца як галубкі́ ў гняздзе́. *Памянш.-ласк. Мін. Ухв.* АВНЛ. Тое, што каха́цца як галубкі́.

***галу́за*** **абгарэ́ць як галу́за.** *Светл.* Пра моцна абгарэлага, счарнелага чалавека. Мат. Гом., III, 228. < Галуза – тут: галавешка.

***галу́шка*** **Дару́ гро́шы на пялю́шкі, каб дзе́ці каці́ліся як галу́шкі.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне многа здаровых дзяцей. БВ, 67.

**як галу́шка па ма́сле пла́ваць.** *Ваўк. п., Карэл. Ухв.* Пра чыё-н. заможнае спакойнае жыццё. Federowski, 239; Высл., 366; Санько, 71.

***га́ман*** **че́рный як га́ман.** *Смал.* Пра чорнага, страшнага чалавека альбо жывёлу. Добр., Смол., 120. < Гаман – тут: д’ябал.

**бі́ці** *каго* **як гамана.** *Драг.* Пра моцнае, бязлітаснае збіванне каго-н. З нар. сл., 137. < Гаман – біблейскі персанаж, вельмі люты чалавек, якога веруючыя яўрэі ў дзень свята Пурым у сінагозе сімвалічна «білі», уздымаючы грукатанне бразготкамі.

гармідáр *дзе* баццэ жыды гамана б’юць. Гл. жыд.

**крыча́ць як на гамана.** Пра беспадстаўны крык на кагосьці. Станкевіч, 187.

накі́нуцца *на каго* як жыды́ на гамана. Гл. жыд.

**напа́сці (наваліцца)** *на каго* **як на гамана.** *Ваўк. п.* Пра беспадстаўнае нападзенне на каго-н. Federowski, 102; Носович, 195;

Станкевіч, 187. < Узята са звычаю яўрэяў перасследваць Амана ў час Пурыма.

**таўчы́** *каго* **бы гамана.** Нар. лекс., 222. Тое, што біці як гамана.

***гама́ра*** **як гама́ра.** *Навагр. Няўхв.* Пра вельмі бруднага чалавека. Даніловіч, 217.

***гамо́лак*** **як гамо́лак.** *Ухв.* Пра пухлае дзіця. Высл., 426. < Гамолак – кружок сыру.

***гамэ́рня*** **у ха́це як у гамэ́рні.** *Ушацк.* Пра моцны шум дзе-н. З нар. сл., 168. < Гамэрня – шумнае зборышча людзей. Відаць, ад гамарня – кузня медніка, у якой заўсёды раздаваўся стук.

***ганаві́цы****, гл.* ***нагавіцы***

***га́нак*** круці́цца як саба́ка ля га́нку. Гл. сабака.

***га́ндля*** **тра́піць як на саба́чую га́ндлю.** *Карэл.* Пра траплянне ў злосную мітуслівую кампанію. Высл., 400. < Сабачая гандля – сабачае зборышча, гайня.

**што га́ндля во́ўчая.** *Стаўб. Асудж. Зласл.* Пра групавое нападзенне, ад якога цяжка адбіцца. СЦБ, 15.

***Га́нна*** **ро́зуму** *ў каго* **што ў Га́нны – ра́дзіць пастая́нна.** *Мінск. Жарт.* Пра чалавека, які гатовы ўсім нешта ра́дзіць, падказваць. АВНЛ.

нарабі́ць як на Га́нніна вясе́лле. Гл. вяселле.

***гану́ча****, гл.* ***ануча***

***гану́чнік*** **хадзі́ць як гану́чнік [які́].** *Івац., Слон. Асудж.* Пра неахайнага чалавека. Жыв. сл., 153; ЗЗайкі.

***ганча́к*** **пе́рці як ганча́к.** *Уздз.* Пра нейчае імклівае перамяшчэнне, хуткі бег. Мін.-Мал., 1977, 140.

***ганча́рка*** **чо́рны як ганча́рка.** Няўхв. Пра чорную, брудную рэч. Станкевіч, 192. < Ганчарка – ануча, якой вымаюць гаршкі з печы.

***ганчура*** **як ганчура гра́зная.** *Лоеў.* Пра неахайную, брудную жанчыну. Янкова, 81. < Ганчура – ануча.

***гаплі́к*** **хло́пчык як гоплю́к.** *Лельч.* Пра худзенькага, але моцнага хлопчыка. Кучук, Малюк, 140.

***Гапо́н*** **дарва́цца як Гапо́н [да] сліў.** *Гом. Жарт.* Пра чалавека, які нечага моцна, без меры нахапаўся. Высл., 311; Янк., 416. < Гапон – асабовае імя Агафон.

**набра́цца як Гапо́н сьліў.** *Ушацк. Жарт.* Барадулін, 122. Тое ж.

***гара́*** абрыня́ць як Магіля́нска гара́. *Гродз.* Пра значнае распуханне, раздуванне каго-, чаго-н. Цыхун, 8.

**ляжа́ць як гара́.** *Івац. Няўхв.* Пра хворую нерухомую жывёлу. Дуб., Нар., 1; Sielicki, 159; ЗЗайкі.

**нае́сціся як гара́.** *Стаўб.* Пра многа і ўдосталь пад'еўшых (звычайна пра жывёлу). МК, 155.

**Не рух Рыгара́, хай сядзі́ць як гара́.** *Гродз. Прык.* Парада не патрабаваць ад пэўных асоб дзейнасці, лепш пакінуць іх у спакоі. Цыхун, 188.

**Не чапа́й Рыгара, хай сталі́ць як гара́.** *Прык. Люб.* ФА. Тое ж.

разду́цца як гара́. *Маг.* Пра моцнае распуханне, расшырэнне чаго-н. Бялькевіч, 365.

Чужы́ пра́знік як со́кал ляці́ць, а свой як гара́ ва́ліць. Гл. сокал.
**як (нібы) гара́ з плеч спа́ла (звалі́лася).** *Докш.*, *Івац.*, *Слуцк.* Пра адчуванне палёгкі пасля нейкага здарэння, падзеі, весткі. Нос., 194; Сержпутоўскі 1999, 133; Высл., 426; Санько, 69; ЗЗайкі.
як гара́. *Слон.* Пра нешта вялікае. Высл., 426.
**жыць як за каме́ннаю гаро́й.** *Дзятл.* Пра спакойнае жыццё пад надзейнай апекай, аховай каго-н. Санько, 69; Даніловіч, 224.
блі́скаць (сваці́цца) як воўк за гаро́ю. Гл. воўк.
галасо́к як у таго́ салаўя́, што за гаро́ю (на зарэ́) кабы́лу ду́шыць (ко́ней кру́ціць). Гл. салавей.
**Дару́ бяро́завай каро́ю, каб за му́жам была́ як за гаро́ю.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне маладой надзейнага, спакойнага жыцця ў замужжы. БВ, 40.
**ляце́ць дадо́му як з гары́ ўніз.** *Уздз.* Пра ахвотны рух дадому. Мін.-Мал., 1977, 138.
пашэ́нціць як жы́ду з гары́. Гл. жыд.
**смяя́цца як з гары́ е́дучы.** Пра смех без бачнай прычыны. Нос., 152.
трэ́ба як стапта́ны ла́паць на гарэ́. Гл. лапаць.
[сядзе́ць] як чарвя́к за гарэ́ю. Гл. чарвяк.
**[паду́шкі] як го́ры стая́ць.** *Карм.*, *Гом. Ухв.* Пра высокія, вялікія падушкі. Мат. Гом., VI, 142.

***гарабе́й**, гл. **верабе́й***

***гарадзі́ць*** гавары́ць як [п’я́ны] плот (пляце́нь) гаро́дзіць. Гл. плот.

***гарадскі́*** згра́бная як яка́я гарадска́я пане́нка. Гл. паненка.
раўсці́ як сарэ́на гарадска́я. Гл. сарэна.

***га́рац*** **У ма́рцы як у га́рцы: уно́ч пячэ́, а ўдзень цячэ́.** *Гродз. Прык.* Пра вялікую рознасць дзённых і начных тэмператур у сакавіку. Цыхун, 193.

***гара́чы*** кругі́цца як кот вако́л гара́чага малака́. Гл. кот.
выцыга́ць як на гара́чай бля́се. Гл. бляха.
кругі́цца як уюн на гара́чай патэ́льні (скаўрадзе́, скаварадзе́). Гл. уюн.
падско́кваць бы́ццам на гара́чай скаварадзе́. Гл. скаварада.
падско́кваць як кот на гара́чай бля́се (патэ́льні). Гл. кот.
як у гара́чый кацёл. Гл. кацёл.
кругі́цца як на гара́чым жале́зе. Гл. жалеза.
як на гара́чым вуго́ллі. Гл. вуголле.

***гара́чка*** **брэ́дзіць як у гара́чцы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нелагічнае маўленне, трызненне. Federowski, 43.
**уцяка́ць як у гара́чцы.** *Навагр. Няўхв.* Пра імклівыя і ў той жа час мітуслівыя ўцёкі. Гілевіч 2007, 212.

***гарба́ты*** **прыляпі́ць як гарба́тага да сцяны́.** *Івац.*, *Слон. Насмешл.* Пра нейкае няўдалае, нескладнае дзеянне, прыкладанне да якой-н. справы. Высл., 371; ЗЗайкі.
**так памо́жа** *каму што* **як гарба́тага магі́ла параўня́е.** *Смарг. Іран.* Пра адсутнасць дапамогі ад каго-, чаго-н. СПЗБ 4, 146.

**доложы́цца як горба́ты до стэны.** *Кобр. Насмешл.* ФА. Тое, што прыляпіць як гарба́тага да сцяны́.

***гарбу́з*** **аго́леная галава́ як гарбу́з.** *Віц. Насмешл.* Пра лысую галаву. Каспяровіч, 10.

біць як свіння́ гарбу́з. Гл. свіння.

**вы́расці бы гарбу́з на агаро́дзе.** *Слуцк. Ухв.* Пра спраўнае, дагледжанае, сытае дзіця. Сержпутоўскі 1999, 149.

**галава́ го́лая як гарбу́з.** *Чэрв. Насмешл.* Мін.-Мал., 1977, 10. Тое, што аго́леная галава́ як гарбу́з.

**жыво́т як гарбу́з, а мо́рда як рэ́шата.** *Мін.*, *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека з вялікім жыватом і шырокім тварам. ЛЦ, 70.

**кача́цца па ха́це як гарбу́з па гра́дах.** *Сміл.* Пра паводзіны малых дзяцей, што поўзаюць па падлозе. Шатэрнік, 133.

кача́ць як свіння́ гарбу́з. Гл. свіння.

**кру́глы як гарбу́з.** *Слон.* Пра нешта круглае і вялікае. Высл., 336.

**ле́зці як гарбу́з на пляце́нь.** *Мсцісл. Жарт.* Пра ўпартае, настойлівае прасоўванне, перамяшчэнне. Юрчанка, 181.

любі́ць як свіння́ гарбу́з. Гл. свіння.

**маладзэ́й ды няста́нны як гарбу́з.** *Хоц.* Пра круглага, таўставатага чалавека. Нястанны – нязграбны «як удоўж, так і ўпоперак». Бялькевіч, 288.

**сядзе́ць як гарбу́за нае́ўшыся.** *Карэл. Насмешл.* Пра добра, уволю пад'еўшага чалавека. Высл., 394.

**як гарбу́з.** *Мсцісл.* Пра некага, нешта тоўстых і круглых. Юрчанка, 181.

як свіння́ гарбу́з. Гл. свіння.

набра́цца гарэ́лкі як Цю́рла гарбуза́. Гл. Цюрла.

насі́цца як [та] Віхна з гарбузо́ю на база́ры. Гл. Віхна.

**во́чы як [ты́я] гарбузы́.** *Люб. Няўхв.* Пра вялікія круглыя вочы. ФА.

**карто́плі пораслі ек гарбузы́.** *Жытк. Ухв.* Пра вялікую бульбу. ТС 4, 184.

***гарбу́зік*** **адзі́н радзі́ўся Ю́зік, і той – як гарбу́зік.** *Брасл. Ухв.* Пра ўпітанае, сытае дзіця. АВНЛ.

**дзяце́й як гарбу́зікаў.** *Памянш.* Пра шматлікасць дзяцей. Янк., Пар., 53.

**Дару́ гу́зікі, каб дзе́ці былі́ як гарбу́зікі.** Вясельнае зычэнне, каб было шмат здаровых дзяцей. БВ, 39.

***гарбы́ль*** **ісці́ як гарбы́ль.** *Паст. Няўхв.* Пра няўклюдную, марудную хаду. СПЗБ 1, 425.

***гаргáз*** як Ма́ня з гаргáзу. Гл. Маня.

***гарманíст*** *хто* як з свінні́ гарманíст. Гл. свіння.

***гарма́та*** **таўсты́ як гарма́та.** *Ваўк. п.* Пра сапраўды тоўстага і моцнага чалавека. Federowski, 312.

**грымаціць бы ты́сяча гарма́т сма́ліць.** *Слуцк.* Пра моцныя раскаты грому. Сержпутоўскі 1998, 35.

**лёд хоць гарма́ты вязі́.** *Ваўк. п.* Пра тоўсты трывалы лёд. Federowski, 167.

***гармóнік*** *каму што* як папý гармóнік. Гл. поп.

**расцэ́нкі як гармóнік, як хóчаш, так і расця́гвай.** *Гродз. Насмешл.* Пра нясталасць, адвольнасць расцэнак. Цыхун, 191.

***гармóня*** трэ́ба як папý гармоня. Гл. поп.

***гармóшка*** **у грудзя́х як гармóшка іграé.** *Чэрв. Жарт.* Пра прастуджанага, з закладзенымі дыхальнымі шляхамі чалавека, хто дыхае з шумам і рознымі гукамі. ФА.

***гарóд*** уля́паць сваё як свіння́ ў агарóд. Гл. свіння.

уна́дзіцца як свіння́ ў агарóд. Гл. свіння.

вы́расці бы гарбýз на агарóдзе. Гл. гарбуз.

гаспада́рыць як парсю́к у агарóдзе. Гл. парсюк.

утравэ́цца ў гарóд як вэ́прык у бýльбу. Гл. вэпрык.

гаспада́рыць як свіння́ ў гарóдзе. Гл. свіння.

нарабíць як свіння́ ў гарóдзе. Гл. свіння.

сядзéць як мóркаў у гарóдзе. Гл. моркаў.

зогнýцца ек сонóшнік на горóдзі. Гл. соношнік.

***гарóх*** удалóся як свінні́ ў гарóсе. Гл. свіння.

як бóбу ў гарóсе шука́ць. Гл. боб.

як пятýх у гарóсе. Гл. пятух.

**Адзíн не жыха́р, так як гарóх пры дарóзе: хто ідзéць, шчыпнéць.** *Арш. Прык.* Пра безабароннае жыццё адзінокага чалавека, якога кожны можа пакрыўдзіць. ПП 2, 38.

**жыць (сядзéць) як гарóх пры дарóзе.** *Ваўк. п.*, *Мін.*, *Драг. Прык.* Пра безабароннае жыццё самотнага чалавека, якога кожны можа пакрыўдзіць. Нос., 42; Federowski, 368; Высл., 320; Сержпутоўскі 1999, 87; СПЗБ 1, 429.

**Жыць як гарóх пры дарóзе: хто ідзé, той ірвé.** *Рэч. Прык.* Пра безабароннае жыццё самотнага чалавека, якога кожны можа пакрыўдзіць. ЛЦ, 61.

**не прыстаé як да сцяны́ гарóх.** *Ваўк. п.* Пра таго, хто не слухае іншых, не рэагуе на заўвагі. Federowski, 251; Янкоўскі, 99.

**Сірóчае жыццё як гарóх пры дарóзе: хто ідзé, той ускубнé.** *Прык.* Пра безабароннае, самотнае жыццё сіраты. Federowski, 278.

**скака́ць баццэ гарóх на гара́чай скаварадзé.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, які падскоквае, перапоўнены эмоцыямі. Сержпутоўскі 2000, 217.

**слёзы як гарóх.** *Акц.*, *Івац.* Пра буйныя слёзы каго-н. Высл., 385; ЗЗайкі.

**так да** *каго* **[прыстаé] як да сцяны́ (аб сцянý) гарóх.** *Ваўк. п.*, *Мёр.*, *Мядз.*, *Слуцк.* Federowski, 251; Нар. слов., 111; Сержпутоўскі 1999, 11; СПЗБ 4, 161. Тое, што гарох аб сценку.

**трыма́цца** *за што* **як гарóх за пруцíну (хварасцíну).** *Мсцісл.* Пра моцнае, учэпістае трыманне, прымацаванне да чаго-н. Юрчанка, 181.

уна́дзіцца як дзéці ў гарóх. Гл. дзеці.

**што гарóх аб сцéнку.** *Паст. Асудж.* СПЗБ 1, 429. Тое, што не прыстаé як да сцяны́ гарóх.

**языко́м мало́ць як гаро́х сы́паць.** *Бярэз.* Пра хуткую балбатлівую гаворку. Ляцкий, 3; Санько, 153; ФА.
**як гаро́х прада́ўшы.** *Бераст.* Пра моцны, спакойны сон. Даніловіч, 217.
**як гаро́х.** *Крыч. Няўхв.* Пра дробную гародніну. Бялькевіч, 483.
як чорт гаро́х малаці́ў *на чым*. Гл. чорт.
**каза́ць як гаро́хам аб сцяну́.** *Клецк., Лаг., Стаўб. Незадав.* МК, 307; АВНЛ. Тое, што гарох аб сценку.
**сы́паць сло́вам як гаро́хам.** *Рэч.* ЛЦ, 66. Тое, што языком малоць як гарох сыпаць.
**дзяце́й як гаро́ху.** Пра шматлікасць малых дзяцей. Шпилевский, 179; Киркор, 238; Нос., 35.
**талкава́ць як гаро́ху нае́ўшыся.** *Ваўк. п.* 1. Пра балбатню, хуткую гаворку. 2. *Насмешл.* Пра выпусканне газаў. Federowski, 310.

***гаро́хавы*** худы́ як гаро́хава лапа́тка. Гл. лапатка.
як пу́дзіла гаро́хавае. Гл. пудзіла.
галава́ як гаро́хавая кі́тка. Гл. кітка.
надзе́цца як чу́чала гаро́хавая. Гл. чучала.

***гаро́шына*** **як гаро́шына.** *Круп.* Пра нізкарослага поўнага чалавека. СЦБ, 91.
**як ма́ла гаро́шына.** Пра нешта малое, дробнае. Ройзензон, 81.

***гару́д*** сядзе́ць як мыш у гару́дзя. Гл. мыш. < Гаруд – аруд, засек.

***гарчы́ца*** **патрэ́бен як гарчы́ца пасля́ абе́ду.** *Хоц. Іран.* Пра нешта зусім не патрэбнае. ЛЦ, 118.

***гаршчо́к*** пазбыткава́цца як кацёл з гаршка́. Гл. кацёл.
**пама́лу як з гаршка́мі на торг.** *Ваўк. п.* Пра павольную, асцярожную язду. Federowski, 215.
**е́хаць як з гаршка́мі.** *Ваўк. п., Зэльв.* Federowski, 128; Даніловіч, 226. Тое, што пама́лу як з гаршка́мі на торг.
сядзе́ць як гаршкі́. *Гом. Жарт.* Пра дзяўчат, што доўга не ідуць замуж. ЗВалодзінай.
як таўка́ч кала́ гаршко́ў. Гл. таўкач.
**бы ў гаршку́ кіпі́ць.** *Слуцк.* 1. Пра мноства людзей, што знаходзяцца ў пастаянным хваляванні, узбуджэнні. 2. Пра наближэнне навальніцы, імклівае перамяшчэнне хмарак, грымоты. Сержпутоўскі 1998, 35.
**вары́ць як у гаршку́.** *Зэльв.* Пра душнае, парнае надвор’е. Сяцко 2005, 22.
**вісе́ць як у гаршку́.** *Бар.* Пра хмурнае надвор’е. АВНЛ.
вяшчуешся як рак у гаршку́. Гл. рак.
кіпе́ць як вада́ ў гаршку́. Гл. вада.
круці́цца як вьюн у гаршку́. Гл. уюн.
**па́рыць як у гаршку́.** *Шчуч.* Пра вялікую парнасць перад дажджом. Нар. слов., 45.
**прайшо́ў век як у гаршку́ пракіпе́ў.** Пра бязладна, у цяжкасцях пражытае жыццё. Ройзензон, 76.
**як у гаршку́.** *Шчуч.* Пра ціхае, бязветранае надвор’е. СПЗБ 3, 228.
**зако́пчаны як стары́ гаршчо́к.** *Слон. Насмешл.* Пра бруднага, счарнелага чалавека. Высл., 323.

сядзе́ць ру́кі злажы́ўшы як апо́шняе ў гаршчо́к палажы́ўшы. Гл. апошняе.

**мозгоўня́ бы горшо́к стоўбунова́ты.** *Драг. Няўхв.* Пра не надта разумную, цяжкую да думак галаву. Лучыц-Федарэц, 222.

**стары́ чолове́к ек горшчо́к разбі́ты.** *Жытк.* Пра нядужасць старых людзей. ТС 4, 297.

***гарэ́лка*** **як гарэ́лка стара́я, так і дзе́ўка малада́я.** Пра палкае каханне з маладой дзяўчынай. БВ, 107.

цягну́ць як п’я́ніцу да гарэ́лкі. Гл. п’яніца.

зні́кнуць як канфор (кампора) [у гарэ́лцы]. Гл. канфор.

***гарэ́лы*** Ні то, ні сё – як гарэ́лы блін. Гл. блін.

***гарэ́хаўка*** **забе́гацца як [та́я] гарэ́хаўка.** Пра чые-н. мітуслівыя паводзіны. Каспяровіч, 77. < Гарэхаўка – птушка з сям’і варановых.

***гарэ́ць*** **як гары́ць.** *Мсцісл.* Пра хуткае зношванне адзення. Юрчанка, 181.

рабі́ць як мо́крае гары́ць. Гл. мокрае.

як мо́крае гары́ць. Гл. мокрае.

***гаспада́р*** азіра́цца як саба́ка на кірмашу́, згубі́ўшы гаспадара́. Гл. сабака.

***гастрыё*** **жыць як на гастрыі́.** *Слуцк.* Пра жыццё ў нябеспецы, пастаяннай няпэўнасці. Сержпутоўскі 1999, 70.

***гастры́ць*** як бы на *чыё* го́рла нож гастры́лі. Гл. нож.

***гасці́нец*** **як ко́брынскый гостынэць** *хто. Жабін. Ухв.* Пра здаровага тоўстага чалавека. Ганчук, Касцючык, 85.

***гасцява́ць*** до́бра як у ма́мы гасцява́ць. Гл. мама.

***гаўно́*** *з каго* такі рабо́тнік як сяке́ра з гаўна́. Гл. сякера.

**ажані́цца як у гаўно́ ўвалі́цца.** *Вілен. Вульг. Здзекл. Іран.* Пра няўдалую жаніцьбу. Sielicki, 173.

жыццё як у таго́ вераб’я́: ска́ча па сце́жцы ды гаўно́ клюе́. Гл. верабей.

**змёрзнуць як гаўно.** *Груб. Іран.* Пра кагосьці моцна замерзлага. Dybowski, 21.

Мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а мы ў гаўно. Гл. рыба.

Мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а ты гаўно́. Гл. рыба.

**пла́ваць як гаўно́ ў ато́пку.** *Вілен. Вульг.* Пра вясеннія паводкі. Sielicki, 161.

**раз’е́хацца як гаўно́ пад ла́пцем.** *Груб. Здзекліў.* Пра чалавека, які разняволіўся, расслабіўся. Фед. Арх.

**маўча́ла б як гаўном рот зама́заўшы.** *Бабр. Абразл.* Пра таго, каму няма чым апраўдацца. АВНЛ.

трасці́ся як жыд над гаўном. Гл. жыд.

**як гаўном па зуба́х.** *Груб. Злаcліў.* Пра вельмі абразлівы адказ, аргумент. Federowski, 107.

***гаўца́*** **блу́кацца як гаўца́ без пастуха́.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра несамастойнага, пасіўнага чалавека. Federowski, 32.

**хадзі́ць як блу́дная гаўца́.** *Ваўк. п., Зэльв. Няўхв.* 1. Пра збродлівага, несамастойнага чалавека. 2. Пра бязмэтавае, без пэўнага кірунку перамяшчэнне чалавека. Federowski, 48; Гілевіч, 166.

пагляда́ць (пазіра́ць) як во́ўк на гаўцу́. Гл. воўк.

закі́нуць за плéчы як воўк гаўцу́. Гл. воўк.

***гаўя́до***

**дурны́ бы гаўя́до: куды́ яго́ го́няць, туды́ йдзе, што ка́жуць, то́е ро́біць.** *Слуцк. Няўхв.* Пра пакорлівага, ціхмянага, бязвольнага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 147.

**пазіра́ць як на гаўя́до.** *Слуцк. Няўхв.* Пра зняважлівае, пагардлівае стаўленне паноў да сялянства. Сержпутоўскі 1999, 148.

***га́ці***

**дра́цца як стары́я га́ці.** *Слон. Асудж.* Пра вельмі гучны, непрыемны для слыху крык, лямант. Даніловіч, 61. < Гаці – сподняя штаны.

*хто* **такі мудрэц як Саламо́навы га́ці.** *Іран.* Пра вельмі сумнеўнага «мудраца». СПЗБ 1, 437.

***га́ць***

**мно́га хоць гаць гаці́.** *Ваўк. п., Івац.* Пра вялікую колькасць чаго-н. Federowski, 188; ЗЗайкі.

**хоць гаць гаці́ да па галава́х хадзі́.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1999, 103. Тое ж.

***гва́лт***

**крыча́ць як на гвалт.** Пра клікание на дапамогу. Носович, 111.

***гво́зд,***
*гл. таксама* ***цвік***

**сказа́ць як гвазд́ом прыбі́ць.** Пра тое, што цяжка змяніць, пра строгі загад. Крэмнеў, № 1000.

**ба́ба як гвозд.** *Маг. Жарт.* Па моцную кабету. Высл., 283.

**крэ́пкі як гвозд.** Пра моцнага, здаровага мужчыну. Высл., 339.

***гво́здзік***

**як гво́здзік.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага, добра складзенага хлопчыка, падлетка. Юрчанка, 182.

***ге́ман***

**злы як ге́ман які́.** *Бран. Асудж.* Пра вельмі злога, лютага чалавека. Расторгуев, 78. < Геман – злы дух, больш верагодна – Гаман.

***гервя́цкі***

ка́ркаць як варо́на гервяцкая. Гл. варона.

***Гі́на***

**зажада́цца як Гі́не касніко́ў.** *Насмешл.* Пра нейкае вельмі нястрыманае і недарэчнае жаданне. Tyszkiewicz, 422. < Гіна – асабовае імя.

***гі́ра***

**паднімáць як двухпудо́вую гі́ру.** *Мсцісл.* Пра значныя намаганні, прыкладанне сілы. Юрчанка, 182.

***гі́рос***

**кі́слы як гірос.** *Карэл., Мядз.* Пра нешта вельмі кіслае. З нар. сл., 88. < Літ. gira – квас.

***Гі́тлер***

**пла́ны** *ў каго* **як у Гі́тлера.** *Воран. Насмешл.* Пра вялікую колькасць планаў. Даніловіч, 257.

**адна́ касма́ на лоб спа́ла** *ў каго*, **як у Гі́тлера яко́га.** *Ушацк.* Пра асаблівасць прычоскі. ЖНС, 143.

***гла́дзіць***

**гавары́ць бы́ццам гла́дзіць па шэ́рсці.** *Мін. Іран.* Пра ліслівую гаворку. ЛЦ, 50.

***глады́ш***

**Мужчы́на жана́ты ўсё ро́ўна як глады́ш шчарба́ты.** *Прык. Насмешл.* Пра жанатага як пра ўжываную, не новую рэч. Federowski, 191.

***гладышка****, гл. таксама* ***ладышка***

**вісе́ць як глады́шка на калу́.** *Рэч.* Пра знаходжанне каго-, чаго-н. на віду ва ўсіх. ЛЦ, 69.

***глёк*** **сыры́й хліб як глёк.** *Кам.* Пра сыры, непрапечаны, няўдалы хлеб. ЖН, 40.
**ляжа́ць як глёк.** *Мсцісл.* Пра таго, хто нерухома, без справы ляжыць. Юрчанка, 181.
**то́ўсты як глёк.** *Мсцісл.* Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека. Юрчанка, 181.
паглядзе́ць як сава́ ў глёк. Гл. сава.

***глі́на*** **разла́зіцца як глі́на.** *Івац.* Пра нешта вязкае, што распаўзаецца ў бакі. Янк., Пар., 137; ЗЗайкі.
**цяжкі́ як глі́на.** *Ваўк. п., Івац.* Пра нешта сапраўды цяжкае. Federowski, 57; ЗЗайкі.
вы́трашчыць во́чы як кот на глі́не. Гл. кот.
кі́дацца як той кот, што ўвяз у мо́края глі́не. Гл. кот.

***глі́снік*** даць як Мо́ська глі́сніку. Гл. Моська.

***гліст*** **Быў цар Нікала́шка – былі́ шчы і ка́шка, а прышлі́ камуні́сты – усе пані́цiліся як глі́сты.** *Чэрв. Прык.* Пра наступленне галодных часоў пасля рэвалюцыі. ФА.
**то́нкі ек гліст.** *Насмешл.* Пра вельмі тонкага чалавека. ТС 1, 203.

***глума́к*** **засвіста́ць што глумакі́ не́йкія.** *Мсцісл.* Пра нейчы неабдуманы, дзёрзкі ўчынак. Юрчанка 1977, 48.

***глухі́*** стая́ць як глуха́я сцяна́. Гл. сцяна.
пагавары́ць як дурны́ з глухі́м. Гл. дурны.

***глуша́к*** **раскрыча́цца як глуша́к у ле́сі.** *Стаўб. Жарт.* Пра таго, хто крычыць, не слухаючы іншых. СЦБ, 31. < З назіранняў над паводзінамі глушца ў час току.

***глыну́ць*** бе́гаць як рыцы́ны глыну́ўшы. Гл. рыцына.
нясма́чна як (бы) мыш глыну́ўшы. Гл. мыш.
як лом глыну́ўшы. Гл. лом.
як рыцы́ны глыну́ўшы. Гл. рыцына.
як журaві́н жме́ню глыну́ць. Гл. журавіны.

***глядзе́ць*** як у ваду́ глядзе́ць. Гл. вада.
гары́ць як сляпы́ глядзі́ць. Гл. сляпы.

***гляк*** **сказа́ць як у гляк пе́рднуць.** *Люб. Няўхв. Вульг.* Пра неўпапад, недарэчы сказанае. ЗВалодзінай.
**цяжкі́ як гляк.** *Карэл. Ухв.* Гавораць звычайна пра цяжкое, дагледжанае, сытае дзіця, калі яго бяруць на рукі. Высл, 417; Янк., 443.

***гна́ны*** паляце́ць як ве́трам гна́ны. Гл. вецер.

***гнёт*** **ляжа́ць як гнёт.** *Мсцісл.* Пра нерухомасць каго-н. Юрчанка, 181.
**цяжо́лы/цяжкі́ як гнёт.** *Краснап., Мсцісл.* Пра нешта вельмі цяжкое. Бялькевіч, 136; Юрчанка, 181.
**як гнёт на ня́ньку (кано́плі).** *Мсцісл. Жарт.* Пра моцны ціск на што-н. Юрчанка, 181.

***гнілы́*** абры́днуць як ры́ба гніла́я. Гл. рыба.
бу гніла́я ветла, да не тру́хніць. Гл. ветла.
размо́кнуць як гніла́я сало́ма. Гл. салома.
ліпе́ць як тое гніло́е да старо́е дзе́рава. Гл. дзерава.

гніло́ю кало́даю жы́цце пражы́ць. Гл. калода.
лі́шні як гнілы́ ко́рань у ро́це. Гл. корань.
як гнілы́ ко́рань у ро́це. Гл. корань.
як грыб гнілы́ (стаць, зрабі́цца). Гл. грыб.
то́лку як у гнілы́м колку́. Гл. кол.
як на гнілы́м кіі. Гл. кій.
як чорт у гнілы́я грыбы́ (бліны́). Гл. чорт.

***гніль*** **сварлі́ва жо́нка шчо гніль у косця́х.** *Стол.* Пра пакуты ад сварлівай жонкі. ТС 2, 63.

***гніля́к*** **размя́кнуць як гніля́к.** *Пух. Насмешл.* Пра чалавека, што ад гарачыні, стомы, нейкіх пачуццяў размяк, «растаяў». Высл., 376.

***гной*** валту́зіцца як вераб'і ў гнаі. Гл. верабей.
адна́ на све́цця век пражы́ла, як свіня́ па гнаю хвост працягну́ла. Гл. свіння.
**сядзе́ць як гно́ю ку́чка.** *Леп. Няўхв.* Пра кагосьці, хто сядзіць прыгнечаны, нерухомы, незадаволены, буркатлівы. ЗВалодзінай.
**як гно́ю.** *Слуцк.*, *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць каго-н. альбо чаго-н. (звычайна пладоў). Сержпутоўскі 2000, 165; Юрчанка, 182.

***гняздзе́чка*** **ша́пка як гняздзе́чка.** *Памянш. Ухв.* Пра круглую акуратную шапку. Янк., Пар., 195.

***гняздо́*** **як з свінно́га гнязда́** *што. Мсцісл. Няўхв.* Пра нешта бруднае, памятае, часцей пра адзенне. Юрчанка, 173.
**бру́дна як у свінны́м гняздзе́.** *Мсцісл. Асудж.* Пра неахайнае, бруднае, запушчанае памяшканне. Юрчанка, 201.
Дзе́ці як вераб'і: паку́ль го́лыя – у гняздзе́, а як апяры́ліся – паляцэ́лі. Гл. верабей.
ко́рпацца як ку́рыца ў гняздзе́. Гл. курыца.
кублі́цца як ку́рыца на гняздзе́. Гл. курыца.
любі́цца як галубкі ў гняздзе́. Гл. галубок.
мясці́цца як ку́рыца на гняздзе́. Гл. курыца.
**як у свінны́м гняздзе́** *дзе. Мсцісл. Асудж.* 1. Пра беспарадак у памяшканні. 2. *Жарт.* Пра цеплыню дзе-н. Юрчанка, 201.
**галава́ як саро́чье гняздо́.** *Смал. Няўхв.* Пра растрапаную, калматую прычоску. Добровольский III, 63.
**дом як саро́чча гняздо́.** *Смал.* Пра дом, напоўнены рознымі аздобамі. Добр., Смол., 793.
накла́сці як бу́слу на гняздо́. Гл. бусел.
**прылі́пнуць як ла́стаўчына гняздо́.** Пра прыліпанне нечага, моцнае трыманне за нешта. Высл., 371.
Старо́му з маладо́й жыць, як саве́ з ла́стаўкай гняздо́ віць. Гл. сава.
**як саро́чча гняздо́.** *Вілен. Няўхв.* Пра нешта зробленае абы як. Sielicki, 159.

***год*** Го́ра як зеллё: колькі не рві – кожны год новае. Гл. зелле.
**з му́жам жы́тку пражы́ць як год.** *Ушацк.* Пра суладныя адносіны ў сям'і, калі час хутка мінае. Васюковіч, 19.
Каро́ста ні папо́ўства: сем год адбу́дзіць, тады́ ні бу́дзіць. Гл. папоўства.

**уле́тку дзень як год.** *Рэч.*, *Брэсц.* Пра вельмі доўгі летні працоўны дзень. ЛЦ, 14.
дурны́ як саба́ка (шчаня́) да го́ду. Гл. сабака.
як у саба́кі да го́ду. Гл. сабака.

***го́йда*** **ісці́ як го́йда.** *Гарад. Няўхв.* Відаць, пра паходку з гойданнем. Каспяровіч, 82. < Гойда – высокая танклявая жанчына.

***го́лад*** **е́сці як на го́лад.** *Няўхв.* Пра празмерны поцяг да ежы. Янк., Пар., 59.

***го́лас*** **гавары́ць як не сваі́м го́ласам.** *Слон.* Пра гаворку напалоханага ці вельмі ўражанага чалавека. Высл., 301.

***го́лаў*** гавары́ць як лапа́таю ў го́лаў кла́сці. Гл. лапата.

***го́лены*** глядзець як стры́жаный на го́ленага. Гл. стрыжаны.
**як го́леный пе́рад стры́жаным.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чые-н. ганарыстыя паводзіны перад іншым. Юрчанка, 182.

***го́лка**, гл.* ***іго́лка***

***го́луб*** **любі́цца (мілава́цца) як галубы́.** *Ваўк. п.* Пра шчыра закаханых. Federowski, 167; *Слон.* Высл., 342; Добр., Смол., 410. < Голуб – сімвал лагоднасці і шчырасці ў каханні.
**брукава́ць (буркава́ць) як галубы́ (галубкі́).** *Ваўк. п. Слон.* Пра шчырую, сардэчную размову закаханых. Federowski, 43; Янк., Пар., 19; Высл., 288.
**каб вы пасіве́лі як галубы́ сівы́я.** Пажаданне доўгага жыцця. Federowski, 377.
**сівы́ як го́луб.** *Івац.*, *Жытк.* Пра моцна ссівелага чалавека. Санько, 182; ТС 5, 33; ЗЗайкі.

***го́лы*** **пра́ўда як сляпы́ го́лага абакра́ў.** Гл. сляпы.
**як го́лага брыць.** *Навагр.* Пра лёгкае, простае выкананне якой-н. справы. Даніловіч, 217.
пра́ўда як го́лай ду́пай во́жыка заду́шыш. Гл. дупа.
**пагуля́ць як го́ламу ў крапі́ве пасядзе́ць.** *Люб. Іран.* Пра няўдалае, кепскае гулянне. ФА.
**як го́ламу памы́цца.** *Мсцісл.* Юрчанка, 182. Тое, што як голага брыць.
**вы́скачыць як го́лы з кано́пель.** *Лях. Насмешл.* Пра чалавека, які аднекуль выскачыў моцна ўражаны, напалоханы, апечаны. ФА.
**вы́скачыць як го́лы з крапі́вы.** *Насмешл.* БПФС, 69. Тое ж.
гульну́ць як го́лы ў крапі́ве. Янк., 404. Тое, што пагуляць як голаму ў крапіве пасядзець.
**дачака́цца як го́лы маро́зу.** *Чэрык. Іран.* Нечага неспадзявана дачакацца. ЛЦ, 103.
**круці́цца як го́лы ў крапі́ве.** *Навагр. п.*, *Дзярж. Насмешл.* Пра мітуслівыя паводзіны чалавека ў цяжкіх абставінах. Federowski, 153; ФА.
**круці́цца як го́лы ў мура́шніку.** *Слон. Насмешл.* Санько, 69; Высл., 337. Тое ж.
**падляце́ць як го́лы пад бізу́н.** *Насмешл.* Пра чалавека, які трапіў у непрыемнае становішча. Высл., 358.

**пажыві́цца як го́лы ў крапі́ве.** *Уздз.*, *Шкл.*, *Карэл. Іран.* Пра няўдалую справу, адсутнасць поспеху. Высл., 359.

**як го́лы ў крапі́ве.** *Карэл.*, *Зэльв.* Пра чыё-н. няёмкае становішча, прыкрую сітуацыю. Даніловіч, 217; Сцяшковіч, 614.

**любі́ць** *што* **як го́лый крапі́ву.** *Мсцісл. Іран.* Пра адмоўнае, непрымальнае стаўленне да чаго-н. Юрчанка, 173.

**танцава́ць як го́лыя ў крапі́ве.** *Мядз. Насмешл.* Пра рэзкія, мітуслівыя, непрывабныя рухі ў танцах. Высл, 398.

***го́рад*** **вялі́кі як го́рад.** Пра вялікі пасёлак. Янк., Пар., 32.

***горб*** **Наву́ка не горб, за плячамі не нясці.** *Мядз. Прык.* Пра патрэбнасць ведаў, якія ў жыцці не абцяжарваюць, а дапамагаюць. ФА.

***го́ркі*** надае́сці як го́ркае са́ла. Гл. сала.

апры́крыць як го́ркая цыбу́ліна. Гл. цыбуліна.

надае́сці як го́ркая (пага́ная) рэ́дзька. Гл. рэдзька.

надае́сці як го́ркі я́блык. Гл. яблык.

як го́ркі пе́рац (я́блык, чэ́мер). Гл. перац.

***го́рла*** **бальшы́я во́чы як го́рла.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вялікія прагныя вочы. Federowski, 335.

тру́дно як у во́ўка з го́рла вы́рваць. Гл. воўк.

**як бы на** *чыё* **го́рла нож гастры́лі.** *Ваўк. п.* Пра жорсткія, хцівыя захады каго-н. Federowski, 112.

**як з во́ўчага го́рла воўчага дастаны** *што. Шчуч.* Пра вельмі камечанае, неадпрасаванае адзенне. Даніловіч, 225.

як у саба́кі з го́рла вы́цягнуць. Гл. сабака.

**го́сці як у го́рле ко́сці.** *Маст.*, *Дзятл.*, *Зэльв. Няўхв.* Пра несвоечасовых, дакучлівых гасцей. Даніловіч, 257.

змя́та як у саба́кі ў го́рле было́. Гл. сабака.

**прасто́рна як у саба́чым го́рле.** *Ваўк. п. Іран.* Пра адсутнасць прастору, пра цеснату. Federowski, 245.

**сра́но, мара́но** *дзе* **як у саба́чым го́рле.** *Вульг. Асудж.* Пра непарадак у якім-небудзь цесным кутку. Federowski, 288.

У ха́тэ нэві́стка бы ў го́рле кі́стка. Гл. котска.

як ко́стка ў го́рле. Гл. костка.

***горн*** **дурны́ як кава́льскія гарны́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра недалёкага чалавека. Federowski, 86; Санько, 129.

***госць*** **угасці́ць і вы́правадзіць як гасця́.** *Краснап. Ухв.* Пра пачцівую сустрэчу і гасцінны пачастунак. Бялькевіч, 38.

Бу́дзьце як до́ма, але не забыва́йце, што ў гасця́х. Гл. дом.

**до́бра як у гасця́х на Слу́ччыне.** *Ухв.* Пра прыемнае баўленне часу дзе-н. Янк., 404; Ройзензон, 69.

**рассе́сціся як у гасця́х.** *Івац.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які надта вольна рассеўся. Высл., 377; ЗЗайкі.

**частава́ць як го́сця.** *Слуцк.* Пра сардэчны гасцінны пачастунак. Сержпутоўскі 1999, 49.

***грабе́жны*** гарава́ць як конь грабе́жны (грабе́жна кабы́ла). Гл. конь.

***гра́блі*** **па́льцы як гра́блі.** *Няўхв.* Пра застылыя пальцы, што не слухаюцца ў больш далікатнай працы. Янк., 419.

**рýкі як грáблі.** *Гродз.*, *Івац. Няўхв.* Пра няўмелыя, няспрытныя рукі. СПЗБ 1, 335; ЗЗайкі.

**хоць граблямí грабí.** *Мядз. Ухв.* Пра вялікую колькасць (часцей грыбоў). СЦБ, 104.

як дурны́ з граблямí. Гл. дурны.

як свіння́ з граблямí. Гл. свіння.

***грабянéц*** *каму што* як лы́саму дзéду грабянéц. Гл. дзед.

выкаблýчвацца як вош на грабянцы́. Гл. вош.

***грабсцí*** ідзéць як баранóй грабéць. Гл. барана.

хоць граблямí грабí. Гл. граблі.

***град*** **грýкаць як град па бля́се.** *Мсцісл.* Пра гучнае, звонкае грукатанне. Юрчанка, 182.

**як град сы́пле.** *Ваўк. п.* Пра нешта, што сыпле спорна, густа. Federowski, 296.

**слóвы сы́пяцца як грáдам.** *Астр.* Пра хуткую і калючую гаворку. СПЗБ 4, 486.

***грáдка*** сядзéць як рэ́дзька на грáдцы. Гл. рэдзька.

***грáды*** тлець як дрóва за грáдамі. Гл. дровы.

качáцца [малы́] па хáце як гарбýз па грáдах. Гл. гарбуз.

патрэ́бны (так стрáшан) як лéташні (лóнскі, тагрóчны) снег [на грáдах]. Гл. снег.

прайсцí як конь па грáдах. Гл. конь.

як рак у градзé. Гл. рак.

**як грáды загрóбшы.** *Мсцісл. Іран.* Пра ганарлівыя паводзіны каго-н. Юрчанка, 182.

***грáзкі*** як балóта грáзкае. Гл. балота.

***гразь*** **ля́пнуць як гразёй у вóчы.** *Маладз. Няўхв.* Пра нешта сказанае нечакана, недарэчна і груба. Высл., 343.

**ры́нуць пры́маўкаю як грáззю ў вóчы.** Dybowski, 188; Янкоўскі, 106. Тое ж.

абкешкацца (вы́качацца) як свіння́ [у гразі]. Гл. свіння.

**багáта як грáзі.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Янк., 396; Янкоўскі 1971, 43.

ля́пнуць (сказáць) як лáпцем (атóпкам) па балóце (па гразі) [пляснýў]. Гл. лапаць.

**мнóга як грáзі ўвóсень.** *Пруж.* ФА. Тое, што багата як гразі.

**мнóга як грáзі.** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Слон.*, *Стаўб.*, *Капыл.* Янк., Пар., 104; МК, 310; Янкоўскі 1971, 43; Federowski, 117; Высл., 308; ДА; ЗЗайкі. Тое, што багата як гразі.

набрáцца як жáба грáзі (мýлу, твані). Гл. жаба.

набрáцца як свіння́ грáзі. Гл. свіння.

наéсціся як свіння́ грáзі. Гл. свіння.

прывы́кнуць як свіння́ да грáзі. Гл. свіння.

як жáба да грáзі. Гл. жаба.

**п'я́ны як гразь.** *Асудж.* Пра моцна п'янага чалавека. Санько, 178.

**слабáя як гразь.** *Стол. Спачув.* Пра слабасць, знямогласць, ватнасць у нагах. ТС 1, 227.

**ува́жацца як гразь.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра крэпка вымаклага і забруджанага чалавека. Federowski, 323.
улéзці як жа́ба ў гразь. Гл. жаба.
улю́блівы як жа́ба ў гразь. Гл. жаба.
ускочыць як цю́цька ў гразь. Гл. цюцька.
**як у гразь пля́снуць.** *Асудж.* Пра неразумныя стратныя ўкладанні, пра марнатраўства. Янк., Пар., 209.
**як у гразь укі́нуць.** *Ваўк. п. Асудж.* Federowski, 117. Тое, што як у гразь пляснуць.

***грак*** **сядзе́ць як грак.** *Смал. п.* Пра насупленага, нахохленага чалавека. Добр., Смол., 122.
**худы́ як вясно́вы грак.** *Мін. Жарт.* Пра некага схуднелага, зграладнелага. Высл., 413.
**чо́рны як грак.** *Ваўк. п.* Пра некага вельмі чорнага. Federowski, 55; Янкоўскі 1971, 42. < Традыцыйнае параўнанне, дзе грак мае эталонныя характарыстыкі чарнаты.

***грама́дка*** **Калі́ сказа́ў ба́бцы, то як усёй грама́дцы.** *Памянш. Прык. Няўхв.* Пра жаночую балбатлівасць, няздольнасць захоўваць сакрэты. Санько, 144.

***гра́матка*** **Ма́тка не гра́матка – за зло́ты (злотку) не ку́піш.** *Прык.* Пра немагчымасць ні купіць, ні знайсці замену роднай маці. Нос., 77; ПП, 2, 82, 144.

***Грамні́цы*** завы́ць як воўк на Грамні́цы. Гл. воўк.
як воўк на Грамні́цы. Гл. воўк.

***граць*** Бяда́ не дуда́: пішчы́ць, а не гра́е. Гл. дуда.
гавары́ць як у скры́пку граць. Гл. скрыпка.
ткаць кро́сна бу ў скры́пку граць. Гл. скрыпка.

***гроб****, гл. таксама* ***дамавіна, труна*** **цёмна (ці́ха) як у гро́бе.** *Ваўк. п., Мсцісл., Слон.* Пра абсалютную цемру і цішыню. Federowski, 59; Высл., 415; Янк., 439; Юрчанка 1977, 246.

***Гро́дна*** **як Гро́дна.** *Зэльв. Жарт.-іран.* Пра каго-н., што-н. вельмі старых. Даніловіч, 218.

***гром*** **ба́ба [то́ўстая] як гром.** *Сміл. Захапл.* Пра моцную, мажную кабету. Шатэрнік, 278; Янк., Пар., 12.
**навіна́ як гром з я́снага не́ба звалі́лася.** *Стаўб.* Мяц., 310. Тое, што як гром з яснага неба.
**скацíцца як гром.** Пра некага або нешта, што звалілася з рэзкім гукам. Ройзензон, 77.
**уляце́ць у ха́ту як гром з не́ба.** *Рэч.* Пра чыё-н. раптоўнае, неспадзяванае з’яўленне. ЛЦ, 125.
**як гром з я́снага не́ба.** *Ашм., Клецк.* Пра неспадзяваную, раптоўную вестку. МК, 310; СПЗБ 1, 481.
**як гром за маладнёю.** *Мсцісл.* Пра чыё-н. абавязковае з’яўленне. Юрчанка, 182.
**як каля́дный гром.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нешта зусім не страшнае. Юрчанка, 185.

баяцца вады́ як чорт гро́му. Гл. чорт.
**бая́цца як гро́му.** Пра вельмі моцны страх. НН 1911, 590.

***грош*** **нос як за грош.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра не вельмі прыгожы нос. Federowski, 205.
**як за грош абара́нак.** *Ваўк. п., Слон. п.* Пра зразумелую, лагічную цану. Dybowski, 10; Federowski, 1, 316.
пла́ваць як тапо́р за пяць гро́шай. Гл. тапор.
пра́ўды *ў каго* як у жабрака́ гро́шай. Гл. жабрак.
такі́ харо́шы як лю́лька за тры гро́шы. Гл. люлька.
такі харо́шы як ля́лька за тры гро́шы. Гл. лялька.
харо́шы як драпя́нка за тры гро́шы. Гл. драпянка.
харо́шы як цуке́рка за два гро́шы. Гл. цукерка.
**як тры гро́шы даць.** *Гродз., Слуц. Няўхв.* Пра нядобразычлівы, злосны погляд. Носович, 115; Нос., 128; Сержпутоўскі 1999, 39, 137; Даніловіч, 255.

***груга́н, урга́н*** **абіра́ць як груга́н ко́сці.** *Смарг. Асудж.* Пра поўнае рабаванне. ФА.
**назлята́цца як груганы́.** *Асудж.* Пра нейкі актыўны збор дзеля непрыгожай справы, з карыслівымі мэтамі. Янк., Пар., 110.
пазлята́цца як груганы́ на па́длу (на пако́рм). *Барыс.* Высл., 359; Янк., Пар., 123. Тое ж.
**стая́ць як гурга́н над ім.** *Смал. Няўхв.* Пра пастаяннае адчуванне небяспекі ад каго-н. СЦБ, 267.

***груд*** аднаму́ ідзе́ як па ма́сле, а другóму як па грудзі. Гл. масла.

***гру́дзі*** як ка́мень з грудзе́й ссу́нуўся. Гл. камень.

***груз*** **ляжа́ць мёртвым гру́зам.** *Няўхв.* Пра нешта, што застаецца непатрэбным, некарыстаным. БПФС, 73.

***грузд*** **як грузд.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага, добра складзенага чалавека. Юрчанка, 182.

***гру́здзік*** **як гру́здзік.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага, добра складзенага хлопчыка. Юрчанка, 182.

***груздзі́ла*** трэба як саба́ку (для саба́кі) груздзіла. Гл. сабака.

***гру́ша*** **назбіра́ць як на вярбе́ груш назрыва́ць.** *Іран.* Пра безвыніковае, дарэмнае збіранне. Янк., Пар., 110.
**налі́цца як гру́ша.** *Слон.* Пра моцнае распуханне. КВДУ.
**уро́сшы як гру́ша ў мяжу́.** *Беласточчына.* Пра моцнае трыманне за якое-н. месца, прывязанасць да роднага куточка. «Ніва», 1973, № 50.
Любі дзіця́ як ду́шу, а калаці як гру́шу. Гл. душа.
улюбі́цца (утрэскацца) як чорт у суху́ю гру́шу. Гл. чорт.
Шкаду́й як ду́шу, калаці як гру́шу. Гл. душа.
як чорт суху́ю гру́шу: засу́ша, засу́ша, а тады́ і лю́біць. Гл. чорт.
прывяза́цца як чорт да старо́й ігру́шы. Гл. чорт.

***гру́шка*** гэта так як на вярбе́ гру́шкі. Гл. вярба.
Любі дзіця́ як ду́шку і калаці як гру́шку. Гл. душка.

***грыб*** **Век пражы́ць як салёны грыб праглыну́ць.** *Ваўк. Прык.* Пра адчуванне хуткасці часу. Янк., 157; Даніловіч 1997, 131.

**згніць бы разлéзлы грыб.** *Слуцк. Няўхв.* Пра прападанне, гніенне, псаванне нечага. Сержпутоўскі 2000, 180.

**змóршчыцца як грыб на сóнцы.** *Мін. Здзекл., іран.* Пра старэнне, маршчыністы твар. ЛЦ, 70.

**ламáцца як здóбны грыб.** *Карэл.* 1. Пра тое, што хутка губляе прыгожы знешні выгляд, крышыцца, ламаецца. 2. *Насмешл.* Пра чалавека, які капрызнічае, нешта з сябе выстаўляе. Высл., 340. < Здобны грыб – баравік.

**разлéзлы як стáры грыб.** *Івац. Няўхв.* Пра старога нямоглага чалавека. Янк., 424; ЗЗайкі.

**раскíснуць як стáры грыб.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.

**сядзéць як грыб пад іглíцай.** *Рэч.* Пра чыё-н. спакойнае, забяспечанае месца, становішча. Pietkiewicz, 371.

**трухля́вы як грыб.** *Дзятл. Няўхв.* Пра старога нямоглага чалавека. СПЗБ 5, 133.

**як грыб гнíлы.** *Маладз. Няўхв.* Пра нядужага, слабага чалавека. СЦБ, 102.

прыстáць як слімáк да гры́ба. Гл. слімак.

**седзéць як гры́бу ў порослі.** Пра надзейнае становішча. ТС 4, 184.

**вýсны як грыбы́.** *Ушацк. Няўхв.* Пра тоўстыя непрыгожыя, часта надутыя вусны. Скарбы, 134.

**дзéці растýць як грыбы́.** *Лід.* Пра хуткі, непрыкметны рост дзяцей. АВНЛ.

**дзяўчáта так хýтка растýць як грыбы́ пасля́ дажджý.** *Івац., Тал.* Пра хуткае падрастанне дзяўчат. Federowski, 95; МК, 18; ЗЗайкі.

**Хлóпцы рóстуць ек грыбы́, а дзéўкі – ек бáбкі.** *Стол. Прык.* ТС 1, 32. < Бабка – падбярозавік. Тое, што дзеці растуць як грыбы.

***грыбóк*** **ужо малóчнічкі лéзуць як ты́я грыбкí ў лéсі.** *Памянш. Клецк.* Пра хуткі рост дзіцячых зубоў. ДА.

***грыбóчак*** **Дарý пянёчкі, каб дзéці раслí як грыбóчкі.** *Памянш.-ласк.* Вясельнае пажаданне здаровых дзяцей. БВ, 67.

***грывеннік*** **як нóвый гры́веннік.** *Мсцісл. Іран.* Пра задаволенага чалавека. Юрчанка, 192.

***гры́зці*** чытáць як рэ́пу гры́зці (сячы́). Гл. рэпа.

як рэ́пу грызé, так лáе. Гл. рэпа.

задáчкі рашáець як рэ́пу грызéць. Гл. рэпа.

***гры́ўна*** **працíўна як стáрцу гры́ўна.** Кпіны з таго, хто прыкідваецца, што яму нешта не падабаецца. Крэмнеў, № 939; Матэрыялы 1981, 127.

***грэ́бень*** як адны́м грэ́бенем пачасáліся. Гл. адзін.

задавáцца як вош на грэ́бені. Гл. вош.

лéзці як мы́чка на грэ́бень. Гл. мычка.

скрывíцца як у пéўня грэ́бень. Гл. певень.

як лы́саму грэ́бень. Гл. лысы.

як лы́сы да грэ́бня. Гл. лысы.

***грэ́бля*** **грыбóў хоць грэ́блю масцí.** *Гродз.* Пра вялікую колькасць грыбоў. Сцяшковіч, 586.

**дзяўчат хоць грэ́блю масці́.** *Івац. Жарт.* Пра вялікую колькасць дзяўчат у вёсцы, у хлопца. ЗЗайкі.
упе́рціся як чорт у грэ́блю. Гл. чорт.
**до́ўгі як Алекшыцка грэ́бля.** *Ваўк.*, *Гродз. п.* Пра доўгую дарогу, сцяжынку, адлегласць. Federowski, 8. < Алекшыцка грэбля – дарога ля в. Алекшыцы.

***грэх*** **вісе́ць нада мно́й як грэх над душо́й.** *Гом. Асудж.* Пра нейкую пастаянную пагрозу, перашкоду. Высл., 293.
**стра́шны як смяро́тны грэх.** *Няўхв.* Пра нешта альбо некага невыносна страшнае, непатрэбнае, злое. БПФС, 74.
**хадзі́ць як грэх без душы́ [па пе́кле].** *Ваўк. Жарт.* Пра бязмэтнае хаджэнне, няпэўнае перамяшчэнне. Federowski, 48.
**хадзі́ць як грэх па пе́клі.** *Ваўк. п.* Federowski, 48. Тое, што хадзіць як грэх без душы.
**як на грэх.** Пра непамысны збег абставінаў, як на жаль. НН, 476.

***грэ́цкі*** лама́цца як грэ́цкі блін. Гл. блін.
марнава́цца як грэ́цкі блін у то́рбе. Гл. блін.

***грэ́шнік*** **кудаса́ баццэ вялі́кі грэ́шнік засі́ліўса.** *Слуцк. Няўхв.* Пра вялікую завею, мяцеліцу. Сержпутоўскі 2000, 200. < Гл. народнае павер'е аб тым, што гвалтоўная, раптоўная смерць каго-н. уплывае на прыродныя стыхіі.

***грэ́шны*** не́сціся як чорт з грэ́шнай душо́й. Гл. чорт.
згры́бчыць як чорт грэ́шную душу́. Гл. чорт.
пане́сці (папе́рці, схапі́ць) як чорт грэ́шную душу́. Гл. чорт.

***губа́*** як хвасто́м па губа́х. Гл. хвост.
**е́сці як не сваёю губо́ю.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра павольнае, неакуратнае, неахвотнае з'яданне чаго-н. Federowski, 130.
**есці як губу́.** *Слаўг. Няўхв.* Пра марудную, без апетыту ежу. Высл., 317.
стая́ць як конь у але́шніку, губу́ адве́сіўшы. Гл. конь.
**як хто** *каму* **гу́бу замалява́ў.** *Ваўк. Няўхв.* Пра таго, хто ўвесь час маўчыць. Federowski, 120.
**маўча́ць бы́ццам** у *каго* **гу́бы прыраслі́ да зубо́ў.** *Мін.*, *Хоц. Няўхв.* Пра ўпартую маўклівасць. ЛЦ, 65.
маўча́ць як вады́ ў гу́бы набра́ў (набра́ўшы). Гл. вада.

***губі́на*** **е́сці як губі́ну.** *Слаўг.* Высл., 317. Тое, што есці як губу.

***гу́бка*** як вада́ ў гу́бку. Гл. вада.

***гудзе́ць*** шавардаць бу чмель гудзе́. Гл. чмель.
**ідзе́ць як гудзе́ць.** *Ухв.* Пра шчаслівае жыццё, удачнае складванне абставінаў. Нос., 54.

***гу́зічак*** **нос як гу́зічак.** *Памянш.-ласк. Жарт.* Пра курносы носік у дзіцяці. Янк., Пар., 115.

***гу́ма*** **кот жыву́шчы як гу́ма.** *Шчуч.* Пра жывучасць ката. СПЗБ 2, 163.

***гумно́*** **аграмні́сты (ве́лькі) як гумно́.** *Слон.*, *Ваўк. п.* Пра вялікае памяшканне. Federowski, 7, 332; Высл., 280.
**хата што гумно́.** *Слон.* Пра вялікую і пуставатую хату. Высл., 408.

***гуро́к*** **кру́глыя як гуркі.** *Ваўк. п.* Пра нешла невялікае і круглае. Federowski, 153.

**кача́цца як гуро́к.** *Мсцісл.* Пра дзіця, якое спакойна сябе паводзіць. Юрчанка, 182.

***гуса́к*** **выця́гваць шы́ю як гуса́к.** *Віл. Няўхв.* Пра нечыю нязграбную постаць. Жыв. сл., 96.

**сы́каць як гуса́к.** *Няўхв.* Пра чыёсьці незадаволенае бурчанне, калючыя словы. Янк., Пар., 160.

**щипи́тца як гуса́к.** *Смал.* Пра нейчыя рэзкія выпады супраць апанентаў. Добр., Смол., 155.

**як гуса́к наста́віцца.** *Стол.* Пра чыю-н. устрывожана-агрэсіўную паставу. ТС 3, 154.

ісці́ як гу́сі за гусако́м. Гл. гусь.

як пяту́х гусаку́. Гл. пятух.

***гусь*** **ісці́ як гу́сі за гусако́м.** Пра імкненне трымацца ззаду, паблізу вядучага. Янк., 411.

**на Белару́сі пчо́лы як гу́сі, рэзгінамі мёд но́сяць.** *Жарт.* Пра непамернае выхвалянне багатага жыцця на Беларусі. Янкоўскі, 4.

**пазы́чыць як у гу́сі аўса́.** *Іран.* Пра безвыніковасць спробы пазыкі. Янк., 419.

**так як ад гу́сі авёс купля́ць.** *Ваўк. п. Іран.* Пра безвыніковае, марнае жаданне нешта купіць. Federowski, 158.

**таўсты́я ха́каюць як гу́сі.** *Паст.* Пра задышку ў час хацьбы тоўстых людзей. СПЗБ 5, 282.

**трыма́цца як на гу́сі вада́.** *Іран.* Пра тое, што зусім не трымаецца дзе-н. Янк., 433.

**гавары́ць як гусь з свіннёю (з пара́сем).** *Воран., Навагр. Іран.* Пра гаворку, не разумеючы адзін аднаго, па-рознаму адносячыся да прадмета размовы. Даніловіч, 218.

**глядзе́ць як гусь на бліскавіцу.** *Насмешл.* Пра няўцямны погляд. Янк., 402; Высл., 305.

**до́ўбаць як гусь обме́рзлэ коры́то.** *Жытк. Няўхв.* Пра дарэмныя намаганні. ТС 2, 34.

**ке́ркаць як гусь.** *Лях. Няўхв.* Пра незразумелую гаворку кагосьці. СПЗБ 2, 458.

**ле́зці як гусь у мякі́ну.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра настырнае, упартае куды-н. імкненне. Юрчанка, 182.

**сапсці́ як гусь.** *Валож.* Пра задышку пры хадзьбе, размове і інш. СПЗБ 4, 366.

**хадзі́ць [кавале́рам] як гусь.** *Насмешл.* Пра ганарлівую паставу кавалера. Ройзензон, 79.

**цяга́цца што гусь з блі́нам.** *Маладз. Няўхв.* Пра маруднае выкананне работы. АВНЛ.

**што з гу́ся (вада́).** *Навагр., Раг.* Хоць бы што. НН 1911, 238; АВНЛ; СЦБ,107.

зарабі́ць як Со́лтан на гуся́х. Гл. Солтан.

***гусíны*** сíні як пуп гусíны. Гл. пуп.

ссінéць як гусíны пуп. Гл. пуп.

чырвóныя [рýкі] як гусíныя лáпы. Гл. лапа.

***гусíха*** дзівíцца як пятýх на гусíху. Гл. пятух.

***гусянѧ́*** **Дзéўкі як гусяня́ты: як пéр’ямі абрастýць, так і разляця́цца.** *Прык.* Пра адыход дзяўчат з бацькоўскай хаты ў сям’ю мужа. БФБ, 251.

**схудáлы, замэ́рлы як гусяня́ пятрóвае.** *Карэл. Спачув.* Пра малое, кволае дзіця. Высл., 398. < Гусяня пятровае – позна выседжанае.

***гýта*** **éсці як у гýту гуцíць.** *Мядз. Няўхв.* Пра прагную, празмерную ежу. Высл., 318. < Гута – шклозавод.

***гуталíн*** трэ́ба як лáпцю гуталíн. Гл. лапаць.

# Д

***дабрáцца*** наéсціся як дóбры кот, дабрáўшыся да смятáны. Гл. кот.

***дабрó*** **Зíмнё цяплó як мáчышыно дабрó.** *Слон. Прык.* Пра недастатковасць і нелагоднасць для чалавека зімовага цяпла. Высл., 328.

***дажы́нкі*** **дóбра як на дажы́нках.** *Ухв.* Пра вясёлае і шчодрае частаванне, свята. Янк., Пар., 54. < Дажынкі – абрад заканчэння жніва, калі гаспадары частуюць работніц, а тыя спяваюць і танцуюць пад музыку.

***дайнíца*** **нóгі як дайнíцы.** *Вілен. Няўхв.* Пра вялікія, грубыя, хутчэй хворыя ногі жанчыны. Sielicki, 160.

***далóнь*** **відáць як на далóні.** *Ваўк. п., Гарад., Івац. Ухв.* Пра вельмі добрую бачнасць чаго-н. Federowski, 75, 330; Каспяровіч, 92; БПФС, 77; ЗЗайкі.

**нашчыпáць** *чаго* **як на далóні.** *Іран.* Пра сітуацыю, калі не ўдасца нічога зрабіць. Янк., Пар., 112.

Прáўда – як сóнца: далóнню не закры́еш. Гл. сонца.

**велíзные ек долóні.** *Жытк. Ухв.* Пра добра развітую расліну з шырокім лісцем. ТС 1, 110.

***дамавíна*** **з’éхаць на чужы́ну як звалíцца ў дамавíну.** *Слон.* Пра чалавека, страчанага для родных у сувязі з ад’ездам за мяжу. Сцяшковіч, 592.

**хоць у дамавíну кладзí.** *Спачув.* Пра вельмі бледнага, знясіленага чалавека. БПФС, 77.

***Данíла*** **зарабíць як Данíла на лісíчках.** *Светл. Здзекл.* Пра няўдалую спробу лёгкага заробку. Высл., 324. < З анекдота пра няўдалы гандаль.

***дарóга*** **Жыццё як дарóга: прасí Бóга.** *Докш. Прык.* Пра нязведанасць падзей у жыцці чалавека і вартасць зваротаў да Бога па садзейнічанне. Ляцкий, 12; АВНЛ.

пытáцца як сляпы́ дарóгі. Гл. сляпы.

чакáць як мáтка дачýшку з дарóгі. Гл. матка.

як у мяцéліцу дарóгу знайсці́. Гл. мяцеліца.
адзі́н не жыхáр, так, як гарóх пры дарóзе: хто ідзéць, шчыпнéць. Гл. гарох.
адзі́н як кол [пры дарóзе]. Гл. кол.
жыць як гарóх пры дарóзе. Гл. гарох.
жыць як гарóх пры дарóзе: хто ідзé, той ірвé. Гл. гарох.
замінáць як корч на дарóзе. Гл. корч.
застáцца як палы́н пры дарóзе. Гл. палын.
клáняцца як крыні́цы пры дарóзе. Гл. крыніца.
маўчáць як кáмень пры дарóзе. Гл. камень.
сірóчае жыццё як гарóх пры дарóзе: хто ідзé, той ускубнé. Гл. гарох.
спакóйна як у сланéчніку пры дарóзе. Гл. сланечнік.
стаў у парóзе як пень на дарóзе. Гл. пень.
як стоўб (слупáк) пры дарóзе. Гл. стоўб.

***дастáць*** як вóка дастáне (зглéдзіць, кі́не, схóпіць). Гл. вока.
як з вóўчага гóрла дастáны. Гл. горла.
зачырванéцца як у мóрду дастáў. Гл. морда.
наéсціся як пáльцам дастáць. Гл. палец.
як (хоць) рукóй дастáць. Гл. рука.
як катý сáла: ніякˊ з кýбла не дастáць. Гл. кот.

***даўбешка*** **дурны́ як даўбéшка.** *Няўхв.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Янк., Пар., 57; Санько, 129.

***даць*** паглядзéць (глянуць) так, бы́ццам даў пятáк. Гл. пятак.
сон як у рýку даў. Гл. рука.
так як *каму* ў мóрду даў. Гл. морда.
адказáць як па мóрдзе даць. Гл. морда.
гля́нуць (паглядзéць, зірнýць) як капéйку (тры грóшы, грош) даць. Гл. капейка.
гля́нуць як капéйку даць. Гл. капейка.
сказáць як у лоб даць. Гл. лоб.
як дóўбней даць. Гл. доўбня.
як тры грóшы даць. Гл. грош.
як тры рублі́ даць. Гл. рубль.

***дачакáцца*** шчаслі́вая як мáтка, унýкаў дачакáўшыся. Гл. матка.

***дачýшка*** Кукýшка – не птýшка, нявéстка – не дачýшка. Гл. птушка.
чакáць як мáтка дачýшку з дарóгі. Гл. матка.

***два*** дзярýцца як два каты́ ў аднóм мяшкý. Гл. кот.
згóдны як два каты́ ў вaднóм мяшкý. Гл. кот.
знайсці́ як два канцы́ ў кальцы́ (як канéц у кóле). Гл. канец.
падóбны як два куры́ныя я́йкі. Гл. яйка.
падóбны як два пшані́чныя зéрні. Гл. зерне.
сябравáць як два каты́ ў мяхý. Гл. кот.
упéрціся як два казлы́ лоб у лоб. Гл. казёл.
харóшы як цукéрка за два грóшы. Гл. цукерка.
**як двóйчы два.** Пра нешта бясспрэчнае, абавязковае, без усякага сумнення. ФСБМ 1, 328.

як раз ды два. Гл. раз.
як каза́ памі́ж двух стаго́ў: не ве́дае, да като́рага (куды́) і кі́нуцца. Гл. каза.

***двор*** кі́нуцца як пе́вень на пе́ўня з чужо́га двара́. Гл. певень.
аглядá́цца як злóдзей (сабáка) у чужы́м двары́. Гл. злодзей.
бы сабáка на двары́ жыць. Гл. сабака.
**на све́це як на двар́э.** Пра шматлікасць праяваў жыцця, сітуацый, падзей на свеце. Ляцкий, 23.
у галаве́ як у во́сені на двар́э. Гл. восень.
цягáцца як Бо́рах па дво́рах. Гл. Борах.

***дво́рны*** пагаво́рна як свіння́ дво́рна. Гл. свіння.
право́рна як су́ка дво́рна. Гл. сука.
як Але́ся дво́рная. Гл. Алеся.

***двухпудо́вы*** падымáць як двухпудо́вую гі́ру. Гл. гіра.

***дзень*** Век звекаваў як адзін дзень згуляў. Гл. адзін.
**як мі́лы дзень.** *Лоеў. Ухв.* Пра мілага, прыветнага, прыгожага чалавека. Янкова, 226.

***джгур*** **разыгра́цца як джгур.** *Люб. Няўхв.* Пра мужчыну, які паводзіць сябе вельмі нястрымана, узбуджана. СПЗБ 2, 38. < Джгур – самец жывёлы.

***дзве*** бяда́ ды хваро́ба як дзве пту́шкі-зязю́лькі: накуку́юцца ўдо́валь, паку́ль яны́ вы́таўкуцца. Гл. птушка.
дабра́цца як дзве кро́плі (ка́плі) вады́. Гл. кропля.
не ўцяць, не ўзяць як дзве ка́плі вады́. Гл. капля.
падо́бны як дзве кро́плі вады́. Гл. кропля.
сы́каць адна́ на адну́, як дзве ко́шкі каля́ аднае́ мі́скі з малако́м. Гл. кошка.
як дзве ка́плі вады́. Гл. капля.

***дзверцы*** насі́цца як ду́рань з дзве́рцамі. Гл. дурань.
патр́эбны як у ср...цы дзве́рцы. Гл. ср...ка.

***дзве́ры*** біць як дурны́ ў дзве́ры. Гл. дурны.
**лёгка як ѓэтыя дзве́ры адкры́ць/закрыць.** *Гродз.* Пра вельмі лёгкае, простае, без намаганняў выкананне якой-н. работы. Даніловіч, 218.
сту́каць як дурны́ ў дзве́ры. Гл. дурны.
цягну́ць як ду́рань дзве́ры. Гл. дурань.
як у Бо́га за дзверы́ма. Гл. Бог.
бяспе́чны як у Бо́га за плячы́ма (дзвяры́ма). Гл. Бог.
жыць як у Бо́га за дзвяры́ма (дзвярмі́). Гл. Бог.
стая́ць як сабáка пад дзвяры́ма. Гл. сабака.
**шука́ць як дзвяр́эй у по́лі.** Пра марнасць пошукаў чаго-н. там, дзе яго і быць не можа. Янк., Пар., 197.

***дзвік****, гл.* ***цвік***

***дзві́нуць*** **накла́лі воз як дзві́нуць.** *Слон.* Пра поўны, максімальна нагружаны воз. Нар. лекс., 50.

***дзе́віч*** пла́каць як о дзе́віч ве́чор. Гл. вечар.

***дзевяцiру́чка*** **круцíцца як дзевяцiру́чка [яка́я].** *Ушацк.*, *Слуцк. Спачув.* Пра чалавека, якому належыць спраўляцца з вялікай колькасцю работ. ЖНС, 141; ДА. < Дзевяціручка – той, хто вымушаны «разрывацца на часткі», каб усё паспець.

***дзед*** **плéсцi як стáры дзед кашалí.** *Ваўк.*, *Свісл. Насмешл.* Аповед пра нешта непраўдападобнае. Federowski, 237; Высл., 367.

**прычапíцца як дзед да штанíны.** *Астр. Няўхв.* Пра вельмі моцнае, неадступнае, назойлівае прыставанне да каго-н. Даніловіч, 220. < Дзед – калюча-ўчэпістае суквецце, шышка лопуху.

**чыкiльдáць як стагóднi дзед.** *Жлоб. Насмешл.* Пра нязграбную хаду маладога чалавека. Жыв. сл., 120.

любíць як сабáкi дзéда ў цéснай вýліцы. Гл. сабака.

любíць як сабáкi дзéда. Гл. сабака.

малы́ нос, задзíрысты, бы лю́лька ў дзéда. Гл. люлька.

напáсці як сабáкi на дзéда. Гл. сабака.

**як у дзéда ў тóрбе** *дзе. Шчуч. Насмешл.* Пра непарадак, раскіданыя рэчы. Сцяшковіч, 620.

**за пнём галавá, як за дзéдам бáба.** *Брасл.* Пра надзейнае пачуванне, хаванне сябе дзе-н. Рабкевіч, 77.

**смéла як за дрýжным дзéдам.** *Іран.* Пра чалавека, які паводзіць сябе смела толькі за надзейным прыкрыццём. Янк., Пар., 152.

*каму што* **як лы́саму дзéду грабянéц.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім не патрэбнае. Юрчанка, 190.

**спявáць як дзяды́ пад касцёлам.** *Вілен. Насмешл.* Пра фальшывае, нязладжанае, немілагучнае спяванне. Sielicki, 161.

***дзедавáць*** з дóбрым рабíць як Дзяды́ дзéдаваць. Гл. Дзяды.

***дзéдаў*** язы́к як дзéдава пýга. Гл. пуга.

баяцца *чаго* як дзéдавай пýгі. Гл. пуга.

распусцíць як дзéдаву пýгу. Гл. пуга.

ісці́ як змáрлыя дýшы на дзéдавую вячэ́ру. Гл. вячэра.

***дзень*** **Без гаспады́нькi хáта што дзень без сóнца.** *Пух. Прык.* Пра важнасць прысутнасці гаспадыні ў хаце. Мін.-Мал., 1970, 158.

**вíдна як у [бéлы] дзень.** *Ваўк. п.*, *Мсцісл.*, *Драг. Ухв.* Пра добрую асветленасць (месяцам, электрычнасцю) у цёмную пару сутак. Federowski, 330; Бялькевіч, 108; СПЗБ 1, 250.

Госьць як і ры́ба: на трэ́ці дзень сьмярдзíць. Гл. рыба.

**дóўгi як пятрóўскi дзень.** *Глуск.*, *Люб.* Пра нешта вельмі доўгае, працяглае. Янк., Дыял., III, 157; АВНЛ. < Пятроўскі дзень – самы доўгі дзень у годзе.

**падóбна як дзень да нóчы.** *Ваўк. п.*, *Мін. Іран.* Пра нешта альбо некага абсалютна непадобных. Federowski, 209; Высл., 426.

**Прыбяры́ пень, то бýдзе як бéлы дзень.** *Прык.* Пра важнасць убрання, адзення для ўспрымання чалавека. Federowski, 316; БВ, 105.

**рад як дзень сóнцу.** *Рэч. Ухв.* Пра шчырую радасць чалавека чаму-н. ЛЦ, 60.

узя́цца за рабо́ту як пчо́лы ў цёплы дзень. Гл. пчала.

**хадзíць як дзень пацяра́ўшы.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які разгублена, панура ходзіць, не ведаючы, што рабіць. Нар. лекс., 191; Юрчанка 1977, 212.

**хму́ры як асе́нні дзень.** *Няўхв.* Пра чалавека ў благім настроі. Ройзензон, 79.

**як мíлы дзень.** *Лоеў. Ухв.* Пра нешта вельмі добрае, прыемнае для чалавека. Янкова, 101.

як пень у бе́лы дзень. Гл. пень.

**я́сна як бо́жы дзень.** Пра што-н. бясспрэчнае. ФСБМ 1, 333.

**як маладзён трох дзён [разу́мны].** *Іран.* Пра зусім не дасведчанага чалавека ў якой-н. справе. Васильев, 144.

**гавары́ць як тры дні не е́ўшы (не еў).** *Докш., Маз., Мядз., Навагр., Слон. Асудж.* Пра чалавека, што марудна, ціха, невыразна гаворыць. Высл., 301; Мін.-Мал., 1974, 186.

**жэ́рці як тры дні не еў.** *Івац., Хойн. Асудж.* Пра чалавека, які прагна і шмат есць. Высл., 318; ЗЗайкі.

**рабíць як тры дні не е́ўшы.** *Вілен. Няўхв.* Пра чалавека, што марудна, павольна працуе. Sielicki, 162.

**як тры дні нічо́га не еў.** *Краснап. Насмешл.* Пра маруднага, вялага чалавека, што неахвотна бярэцца за работу. Бялькевіч, 233.

зваліцца як дождж сяро́д я́снага дня на сухо́е се́на. Гл. дождж.

***дзе́раво**, гл.* ***дрэва***

***дзеравя́нны*** **но́гі яе дзеравя́нныя.** *Слуцк.* Пра фізічнае адчуванне цяжару ў нагах. МК, 83.

***дзерць*** **як дзерць.** *Маст.* Пра нешта вельмі мокрае. Даніловіч, 220. < Дзерць – дзірван.

***дзесянцёры*** ве́рыць як саба́ка ў дзесянцёры. Гл. сабака.

***дзе́сяць*** як той бобе́р, дзе́сець вер. Гл. бабёр.

***дзе́тка*** як аднае́ ма́церы дзе́ткі. Гл. маці.

***дзеўбану́ць*** як вераб'ю дзеўбану́ць. Гл. верабей.

***дзе́ўка*** Вантро́ба не мя́са, а ўдава́ не дзе́ўка. Гл. мяса.

**Гарэ́лка не дзе́ўка, не саро́меючыся п'е́цца.** *Жарт.* Нос., 27. < Дзяўчына па вызначэнні мусіць быць сарамлівай, а гарэлка і п'ецца без развагаў, і вядзе да бессаромнасці.

**Машы́на лю́біць зма́зку як дзе́ўка ла́ску.** *Гом. Прык.* Пра ўважлівае і асцярожнае абыходжанне з механізмамі. АВНЛ.

**палахлíвы як дзе́ўка.** *Кплів.* Пра надта палахлівага хлопца. Станкевіч, 819.

**сарамлíвы як дзе́ўка.** *Бран. Кплів.* Пра надта далікатнага, сарамлівага, нясмелага хлопца. Расторгуев, 237.

**во́сеньская му́ха як дзе́ўка-векаву́ха.** *Мін. Жарт.* Пра асаблівую куслівасць і дакучлівасць асенніх мух. Высл., 294.

**у Спа́саўку му́ха як дзе́ўка-векаву́ха.** *Круп. Жарт.* СПЗБ 1, 294. Тое ж.

***дзёгаць*** такáя прáўда як сýчка дзёгаць піла. Гл. сучка.
**чóрны як дзёгаць.** *Ваўк. п.*, *Слон. Няўхв.* Пра нешта чорнае, бруднае, ліпкае. Federowski, 66; Высл., 418.
прапáхнуць як смаля́р дзёгцем. Гл. смаляр.
такáя прáўда як сабáка сякéру з’еў і дзёгцем запíў. Гл. сабака.
напíцца як дýрань дзёгцю. Гл. дурань.
**прыйсці дамóў як дзёгцю з’éўшы.** *Шчуч.* Пра чалавека, якому давялося перажыць прыкрую сітуацыю. Арх. Гр.

***дзёдзя*** **зацялéскацца як дзёдзя.** *Карэл. Жарт.* Пра забруджанага, неахайнага чалавека. З нар. сл., 88. < Зацялескацца – запэцкацца, дзёдзя – свіння.

***дзёрнуць*** калóдзішча як каню́ дзёрнуць. Гл. конь.

***дзіва*** **агляда́ць як якóе дзíва.** Пра празмерна зацікаўленае разглядванне чаго-н. НН, 562.
**глядзéць як на якóе дзíва.** *Івац.*, *Слон.* Высл., 305; ЗЗайкі. Тое ж.

***дзікі*** ноч як дзíкай казé перáскóчыць. Гл. каза.
як дзíкі асёл. Гл. асёл.

***дзіра*** **патрэ́бен (патрэ́бны, трэ́ба) як дзíра у (на) мóсце.** *Ваўк. п.*, *Стаўб.*, *Докш.*, *Уздз.*, *Слон. Іран.* Пра абсалютную непатрэбнасць і нават шкоднасць чаго-н. Federowski, 224; Dybowski, 49; Высл., 362; Сцяшковіч, 605.

***дзірáвы*** сы́пацца як з дзірáвага мяхá. Гл. мех.
дурны́ як бот дзірáвы. Гл. бот.
як у дзірáвы мех: нікóлі пóўна не насы́плеш. Гл. мех.
тóлку як у дзірáвым бóце. Гл. бот.
як дзірóвая бóчка. Гл. бочка.
як у дзірóвым (дзірáвым) мяшкý. Гл. мяшок.
як бот дзюрáвы. Гл. бот.
як у дзюрáвым вóрку. Гл. ворак.

***дзірка*** **мнóга як дзíрак у рэ́шаце.** *Пол.* Пра вялікую колькасць чаго-н. ЗЛобача.
патрэ́бен як у мóсце дзíрка (дзю́ра). Гл. мост.
трэ́ба як у плóце дзíрка. Гл. плот.

***дзіцёнак*** **турлю́дзіць што дзіцёнак.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нецікавую, наіўную для субяседніка гутарку. З нар. сл., 129. < Турлюдзіць – надакучліва лапатаць.
**як дзіцёнак без цы́цкі.** *Мсцісл. Спачув.* Пра чалавека ў бядотным стане, пазбаўленага самага неабходнага. Юрчанка, 182.
**дуры́цца як з дзіцёнкам.** *Мсцісл.* Пра дураслівыя, жартаўлівыя адносіны з кім-н. Юрчанка 1977, 52.

***дзіця́*** вы́трашчыць вóчы як я́шчарыца на дзéці. Гл. яшчарыца.
жыць як аднаé мáцеры (мáткі) дзéці. Гл. маці.
**Любíліся, кахáліся як малы́я дзéці, разышлíся як тумáн па свéце.** *Гродз. Фальк.* Пра шчырасць кахання ў юнацтве і розныя яго наступствы. Цыхун, 186.
**унадзіцца** *куды* **як дзéці ў гарóх.** *Рэч. Няўхв.* Пра чалавека, што не стрымлівае свае дзеянні, памкненні. Pietkiewicz, 397.

як га́дзіна, што сваé дзе́ці пажрэ́. Гл. гадзіна.
**як дзе́ці.** Пра непасрэдных, шчырых альбо залішне дурaслівых дарослых. БПФС, 80.
**без кло́пату як дзіця́.** *Няўхв.* Пра бесклапотнага чалавека. Янк., Пар., 15.
**гарто́ўны як цыга́нскае дзіця́.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра чалавека не спешчанага, без хваробаў, здольнага пераносіць і голад, і холад. Federowski, 60.
**гуля́ць як дзіця́ мало́е.** *Няўхв.* Пра дарослага, што захаваў дзіцячыя звычкі. Янк., Пар., 46.
**забаўля́цца як мало́е дзіця́.** *Ваўк. п., Івац.* Federowski, 345; ЗЗайкі. Тое, што гуляць як дзіця малое.
**засну́ць як мало́е дзіця́.** *Слуцк. Ухв.* Пра крэпкі, бестурботны сон каго-н. Сержпутоўскі 1999, 41.
**здзяці́нець што мало́е дзіця́.** *Краснап. Няўхв.* Пра старога чалавека, што неадэкватна рэагуе на навакольны свет. Бялькевіч, 210.
**пла́каць як дзіця́ мало́е.** *Стаўб.* Пра шчыры і слёзны плач каго-н. МК, 165.
**прывы́кнуць як дзіця́ да ма́тчынай калыха́нкі.** Пра прывыканне да нечага добрага, прыемнага. Янк., 422.
**прывы́кнуць як дзіця́ да ма́тчынай цы́цкі.** *Івац. Насмешл.* ЗЗайкі. Тое ж.
**прывы́кнуць як дзіця́ да ма́церы.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прывыканне да каго-н. добрага, ласкавага. Federowski, 251.
**рад як дзіця́.** *Івац., Слон.* Пра шчырую радасць некага. Высл., 375; ЗЗайкі.
**Шану́й старо́е як дзіця́ мало́е.** *Смал. Прык.* Пра неабходнасць такой жа ўвагі і пашаны старому, як і малому. АВНЛ.
**Гало́ўка як у дзіця́ці, што не зна́е ні ба́цькі, ні ма́ці.** *Прык.* Пра чалавека ненавучанага, нявыхаванага. Ляцкий, 7.

***дзіця́тка*** **замарко́ціцца як дзіця́тка без ма́ткі.** *Памяншн.* Пра вялікі, шчыры сум, тугу чалавека. Янк., Пар., 67.
любі́ць як ма́тка дзіця́тка. Гл. матка.
пла́каць як ма́тка па дзіця́тку. Гл. матка.

***дзіця́чы*** мя́кенькі як дзіця́чыя вало́сікі. Гл. валосікі.

***дзі́чка*** кі́слы як я́блык з дзі́чкі. Гл. яблык.

***дзы́ба*** **хадзі́ць як дзы́ба.** *Сен. Няўхв.* Пра чалавека з непрыгожай, павольнай паходкай. Носович, 132; Каспяровіч, 141. < Дзыба, дзыбала – той, хто павольна ходзіць; высокі нязграбны чалавек.

***дзындра*** **зямля́ як дзындра.** *Карэл. Няўхв.* Пра цвёрдую, неўрадлівую, недагледжаную глебу. СПЗБ 2, 59. < Дзындра – шлак.

***дзю́ба*** нос як у дзя́тла (бусла́) дзюба. Гл. дзяцел.
як у бусла дзю́ба. Гл. бусел.
браць як бу́сел у дзю́бу. Гл. бусел.
як верабе́й з дзю́бы, так з ро́та зу́бы. Гл. верабей.

***дзю́ндзіха*** **хадзі́ць як [та́я] дзю́ндзіха.** *Бых. Няўхв.* Пра неахайную асобу. Мат., 86.

***дзюра́вы***, *гл.* ***дзіра́вы***

***дзяві́ца*** **Ма́йская траві́ца ніб́ы малада́я дзяві́ца.** *Саліг. Прык. Ухв.* Пра свежасць і прыгажосць майскай расліннасці. ПП 1, 84.

***дзя́дзька*** **прыслужы́цца як дзя́дзька су́чцы: та́я хвост незнаро́к прытулі́ла да кало́дкі, а ён сяке́рай – гак! І адрубі́ў.** *Мёр. Іран. Здзекл.* Пра чалавека, што не ўмее прыслужыцца, а замест карысці прыносіць шкоду. ПП 1, 364.

**як дзя́дзька ў Ві́льні.** Пра збянтэжанае, непрывычнае, ніякаватае адчуванне сябе, чые-н. паводзіны ў нязвыклай сітуацыі. ФСБМ 1, 336.

***дзядо́ўнік*** **приста́ць як дзядо́ўнік да аве́чага (саба́чага) хваста́.** *Чэрык. Няўхв.* Пра назойлівае, упартае приставанне чалавека да каго-н. ЛЦ, 119.

**приста́ць як дзядо́ўнік да кажуха́.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 119. Тое ж. 

***дзядо́ўскі*** як дзядо́ўская пу́га. Гл. пуга.

***дзяду́лька*** **кракта́ць як стары́ дзяду́лька.** *Памянш. Насмешл.* Пра прытворныя альбо няшчырыя стогны маладога чалавека. Янк., Пар., 90.

***Дзяды́*** **Не ўсегды ек на Дзеды́.** *Жытк. Прык.* Не заўсёды такое багатае частаванне, як за памінальным сталом. ТС 5,211.

жыць як бара́н да Дзядо́ў. Гл. баран.

**з до́брым рабі́ць як Дзяды́ дзедава́ць.** *Ухв.* Пра плённыя і прыемныя партнёрскія дачыненні. Янк., Пар., 66.

**на сталé як на Дзяды́.** Пра багаты стол, застаўлены стравамі. Янк., Пар., 108.

**нае́сціся як на Дзяды́ (Дзядэ́).** *Мсцісл., Саліг., Слон., Пін. Няўхв.* Пра ўдосталь, добрае сталаванне. Бялькевіч, 154; МК, 155; Высл., 351; Янк., Пар., 110; Нар. скарбы, 146.

**Яды́ як на Дзяды́, а рабо́ты як у нядзе́лю.** *Прык.* Пра вельмі прывабную сітуацыю, калі і работы няма, і стол багаты. НН 1911, 634.

**яды́ як на Дзяды́.** *Мін., Лях., Смарг., Стол.* Пра багаты, шчодры стол. ЛЦ, 95; Высл., 424.

***дзяжа́*** **гарбу́за шчо дзежа́.** *Ухв.* Пра вялікі гарбуз. ТС 5, 105.

**то́ўста як дзяжа́.** *Слон. Няўхв.* Пра занадта тоўстую кабету. Высл., 400.

сіжу́ да гляжу́ як ко́шка у дзяжу́. Гл. кошка.

разыйсці́ся як це́ста ў дзяжы́. Гл. цеста.

***дзяк*** перагу́квацца от не раўну́ючы рыхтык поп з дзяком у цэ́ркві. Гл. поп.

***Дзямя́н*** **убіцца як Дзямя́н у касцёл.** *Капыл. Жарт.* Пра недарэчнае пранікненне, трапляннe чалавека ў неадэкватную сітуацыю, памяшканне. Рабкевіч, 212. < Магчыма, алюзія на мясцовае анекдатычнае здарэнне.

***дзяркач*** **у старо́га чалаве́ка го́лас як дзярка́ч.** *Рэч. Няўхв.* Пра хрыпаты, дзярлівы старэчы голас. АВНЛ.

**як дзярка́ч.** *Гродз. Няўхв.* Пра задзірыстага, супярэчлівага па характару чалавека. Цыхун, 175.

***дзяўчо́нка*** краснéць як дзяўчóнка. *Мсцісл. Жарт.* Пра маладога сарамлівага чалавека, які бянтэжыцца і чырванее. Юрчанка 1998, 131.

***дзяўчы́на*** **спаць як дзяўча́ты на Купа́лле.** *Іран.* Пра невялікую працягласць сну ці яго адсутнасць. Янк., Пар., 153. < Купальскую ноч дзяўчаты праводзяць ля вогнішча, у варожбах, спевах, забавах.

**засаро́мецца як дзе́ўчына.** *Слон.* Высл., 325. Тое, што краснець як дзяўчонка.

**сарамлі́вы як дзяўчы́на.** *Мсцісл.* Бялькевіч, 401. Тое, што краснець як дзяўчонка.

***дзя́цел*** **нос як у дзя́тла дзю́ба.** *Жарт.* Пра доўгі і непрыгожы нос. Янк., Пар., 115.

**вязé як жароному дзя́тлу.** *Стол. Іран.* Пра абсалютнае нешанцаванне, няўдачу. ТС 2, 58.

**трэ́ба** *каму што* **як дзя́тлу шчы́пці.** *Мсцісл. Іран.* Пра непатрэбнасць нейкіх прадметаў, інструментаў. Юрчанка, 183.

**[вы ўсе] хараш́ы як дзя́тлы ў куляшы́.** *Жарт.* Пра не вельмі прыгожых хлопцаў. Васильев, 58.

**ра́бенькі як дзя́цел.** *Ваўк. п.* Пра некага рабога, пярэстага. Federowski, 256; Янк., 423.

**даўбсці́ як той дзяцёл.** *Стол., Жытк. Няўхв.* Пра няўмелае, упартае вядзенне гутаркі, частае паўтарэнне аднаго і таго ж. ТС 2, 34.

**удаўбсці́ся як той дзяцёл у дзе́рэво.** *Жытк. Няўхв.* Пра імкненне, трапляннe чалавека туды, дзе яго не чакалі. ТС 5, 182.

***дзя́целіна*** **цвісці́ як дзя́целіна.** *Ухв.* Пра прыгажосць, росквіт маладой прывабнай дзяўчыны. Янк., Пар., 187. < Дзяцеліна – канюшына.

***дзячы́ха*** **пля́снуць як дзячы́ха на лёдзе.** *Івац. Насмешл.* Пра чалавека, які паваліўся, прыклаўся мяккім месцам да нечага цвёрдага. Высл., 366.

***дзяшо́вы*** пра́цы як з дзяшо́вага пастуха́. Гл. пастух.

уме́лы як дзяшо́вы пасту́х. Гл. пастух.

***дно*** мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а мы ў гаўно. Гл. рыба.

пайсці́ як тапо́р на дно. Гл. тапор.

як кулём на дно. Гл. куль.

хадзі́ць як ры́ба па дну. Гл. рыба.

***до́бры*** го́лас то́ўсты як у до́брага мужыка́. Гл. мужык.

*у каго* ключо́ў як у до́брага зло́дзея. Гл. злодзей.

зямлі́ (дзя́лка, ласкуці́нка) як [до́брай] ба́бе се́сці. Гл. баба.

адгла́дзіць як до́брай ба́бы ср...ку. Гл. баба.

стая́ць як чорт над до́браю душо́й. Гл. чорт.

чыха́ць як чорт на до́бру ду́шу. Гл. чорт.

абмані́ць *каго* як чорт до́брую ду́шу. Гл. чорт.

заве́сці (ашука́ць, зве́сці, зману́ць, падмані́ць) як чорт до́брую ду́шу. Гл. чорт.

нае́сціся як до́бры кот, дабра́ўшыся да смята́ны. Гл. кот.

як до́бры ду́рань. Гл. дурань.

***дождж*** віцца як ла́стаўка пе́рад дажджо́м. Гл. ластаўка.
кý рчыцца як шчаню́к пад дажджо́м. Гл. шчанюк.
надзьму́цца як ку́рыца пе́рад дажджо́м. Гл. курыца.
дзяўча́та так ху́тка расту́ць як грыбы́ пасля́ дажджу́. Гл. грыб.
ждаць як ка́ня дажджу́. Гл. каня.
як зо́ркі по́сле дажджу́. Гл. зоркі.
сядзе́ць як ку́рыца на дажджы́. Гл. курыца.
**бры́зкі ляця́ць як дождж.** *Сміл.* Пра густыя, у вялікай колькасці пырскі вадкасці. Шатэрнік, 36.
**даку́тлівы як дождж асе́нні.** *Карм. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга, нудна навязвае сябе камусьці. Мат. Гом., III, 241.
**дзе́ці сы́плюцца як дождж.** *Капыл.* Пра частае нараджэнне дзяцей. Высл., 312.
дру́жна як жа́бы на дождж. Гл. жаба.
е́нчыць як ка́ня на дождж. Гл. каня.
застракатаа́ць як саро́ка на дождж. Гл. сарока.
збі́цца ў ку́чу як аве́чкі ў дождж. Гл. авечка.
**зваліцца як дождж сяро́д я́снага дня на сухо́е се́на.** *Мін. Няўхв.* Пра нечаканае і зусім не пажаданае з'яўленне каго-н. ЛЦ, 106.
згра́бны як [худа́я] свіння́ ў дождж. Гл. свіння.
капашы́цца як ку́рыца на дождж. Гл. курыца.
красі́вая як свіння́ ў дождж. Гл. свіння.
крыча́ць (пішча́ць) як свіння́ ў дождж. Гл. свіння.
крыча́ць як варо́на на дождж. Гл. варона.
**наляце́ць як дождж на сухо́е се́на.** *Мін. Асудж.* Пра шкадлівае і непатрэбнае нападзенне на каго-н. ЛЦ, 61.
прыго́жы як свіння́ ў дождж. Гл. свіння.
разыйсці́ся як свіння́ на дождж. Гл. свіння.
расквахта́цца як ку́рыца на дождж. Гл. курыца.
расхадзі́цца як варо́на на дождж. Гл. варона.
расхадзі́цца як жыды́ на дождж. Гл. жыд.
усхадзі́цца як свіння́ на дождж. Гл. свіння.

***до́жджык*** разгуля́цца як сві́нні на до́жджык. Гл. свіння.

***до́йная*** стая́ць як до́йная каро́ва. Гл. карова.

***до́ктар*** **нае́сціся як до́ктар па́раных каўба́с.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, які да атвалу наеўся якіх-н. дэлікатэсаў. Высл., 351.
е́хаць як чорт ма́церу да до́ктара вязе́. Гл. чорт.

***дол*** **як дол.** *Гродз. Няўхв.* Пра вельмі п'янага чалавека. Даніловіч 2010, 91.

***до́лата*** **Мужы́к хай бу́дзе як до́лата, абы ты за ім была як зо́лата.** *Зэльв.*, *Брасл. Прык.* Пра тое, што мужык можа быць простым, рабочым чалавекам, каб толькі жонцы за ім добра жылося. Сцяшковіч, 598.
круці́цца як цыга́н на до́лаце. Гл. цыган.

***до́ля*** **валачы́цца па дзе́ўках як ліха́я до́ля.** *Слон. Няўхв. Фальк.* Пра настойлівыя заляцанні хлопца да некалькіх дзяўчат адначасова. Сцяшковіч, 583.

**нешчаслі́вы як мая́ до́ля.** *Брэсц., Навагр. Іран.* Пра чалавека, якому пастаянна не шанцуе. ЛЦ, 62; Даніловіч 2010, 91.

**тако́е дабро́ (жы́та) як мая́ до́ля.** *Ваўк. п., Івац. Іран.* Пра дрэннае, рэдкае жыта. Federowski, 72; ЗЗайкі.

***дом*** **Бу́дзьце як до́ма, але не забыва́йце, што ў гасця́х.** *Карм., Мсцісл. Жарт.* Парада гасцям. ПП 1, 394.

**быць** *дзе* **як до́ма.** БПФС, 81. Тое ж.

**распараджа́цца** *дзе* **як до́ма.** *Дзярж. Няўхв.* Пра чалавека, які ў чужым месцы камандуе, распараджаецца. Гілевіч, 141.

**бы ў сваі́м до́ме.** Пра вольнае, свабоднае, упэўненае пачуванне сябе дзе-н. БПФС, 81.

*хто* **такі́ хазя́ін як ад пусто́га до́му закру́тка.** *Астр. Пагардл.* Пра благога, няўважлівага, нестараннага гаспадара. СПЗБ 5, 280.

***до́ска**, гл.* ***дошка***

***до́стачка**, гл.* ***дошчачка***

***до́ўбня*** **як до́ўбней даць.** *Круп.* Пра нешта сказанае, што моцна ўразіла, «прыбіла» слухача. Высл., 426.

ждаць як ду́рань до́ўбні. Гл. дурань.

чака́ць беды́ бы вол до́ўбні. Гл. вол.

як воўк у до́ўбні. Гл. воўк.

падстаўля́ць галаву́ як воўк пад до́ўбню. Гл. воўк.

**галава́ як до́ўбня.** *Няўхв.* Пра лысага чалавека. ФСБМ 1, 105.

**сядзе́ць як до́ўбня.** *Няўхв.* Пра нерухомае і доўгае сядзенне дзе-н. АВНЛ.

**як [та́я] до́ўбня рабі́навая.** *Воран. Няўхв.* Пра не вельмі разумную дзяўчыну. Арх. Гр.

***до́хлы*** уцяка́ць як ско́чкі з до́хлай саба́кі. Гл. скочкі.

***до́шка*** **лежа́ць нібі доска.** *Стол. Няўхв.* Пра лянівага альбо хворага чалавека, што праводзіць свой час у ложку. ТС 2, 242.

**як до́ска.** *Мсцісл.* 1. Пра нешта роўнае і гладкае. 2. *Няўхв.* Пра худога і плоскага чалавека. Юрчанка, 183.

**як до́ска-саракоўка.** *Маст. Няўхв.* Пра худую і плоскую жанчыну. Сцяшковіч, 614.

**то́нкі як до́шка.** *Ваўк. п.* Federowski, 313. Тое, што худы як дошка.

**худзю́шчы, хлёсткі бу до́шка.** *Стол.* ТС 5, 259. Тое, што худы як дошка.

**худы́ як до́шка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра худога тонкага чалавека. Federowski, 55.

**пе́рыць як у до́шку.** *Лаг.* Пра гучны часты кашаль. Varłyha, 55.

***до́шчачка*** **як до́стачка.** *Памянш.* Юрчанка, 183. Тое, што як доска.

**зрабі́ць бяду́ як до́шчачку.** *Памянш. Драг.* Пра нескладанасць учыніць якую-н. бяду. ФА.

***драбі́ны*** **бы драбі́на.** *Стол. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека. Барысюк, Буян, 12.

насі́цца як дурны́ з драбі́намі. Гл. дурны.

пайсці́ угу́ру як цыга́н па драбі́нах на не́ба. Гл. цыган.

***дражні́цца*** **дождж як дра́жніцца** [кап, кап і сціх]. *Мсціcл.* Пра малы, кароткачасовы, што не прамочыць глебу, дождж. Нар. лекс., 176.

***дра́нка*** **вы́сахнуць як дра́нка.** *Нараўл. Няўхв.* Пра вельмі схуднелага чалавека. Горленка, 248. < Дранка – шчапаная дошчачка.

***драпя́нка*** **харо́шы як драпя́нка за тры гро́шы.** *Слон.*, *Валож. Іран. Жарт.* Пра нешта не самай лепшай якасці, вартасці. Высл., 408; Даніловіч, 220. < Драпянка – матузок, вяровачка.

***драць*** но́гі як саба́кі дзяру́ць. Гл. сабака.
пяя́ць як чорт ану́чы дзяро́. Гл. чорт.
спява́ць як свіння́ ану́чу дзяро́. Гл. свіння.
храпсці́ як карчы́ драць. Гл. корч.

***драч*** **худы́ як драч.** *Стаўб. Няўхв.* Пра хударлявага, падцягнутага чалавека. МК, 269.

***Дро́бат*** **чы́ста як у Дро́бата на надво́рку.** *Івац. Насмешл.* Пра нейкі адмысловы парадак у кагосьці ў двары. ЗЗайкі. < «Жыў даўней Дробат, які трымаў свой надворак у чысціні і парадку» (тлумачэнне інфарманта).

***дро́вы*** **ка́шляць як дро́ва руба́ць.** *Ваўк. п.* Пра моцны, гучны кашаль. Federowski, 139.
**мно́га як дроў.** *Ваўк. п.* Пра вялікую колькасць чаго-н. Federowski, 188.
**навазі́ць як дроў.** Пра назапашванне нечага ў вялікай колькасці. Янк., Пар., 108.
**нагавары́ць як дроў накало́ць.** *Навагр. Іран.* Пра пустое, бессэнсоўнае ці нават грубае нагаворванне. Даніловіч, 220.
**накла́сці як дроў.** *Слон. п.* Federowski, 197. Тое, што навазіць як дроў.
чалаве́к без сябро́ў, што печ без дроў. Гл. печ.
як па́лка дроў [дурны́]. Гл. палка.
**е́дзе як дро́вы вязе́.** *Слуцк. Няўхв.* Пра павольную, асцярожную язду. ФА.
**п'я́ны як дро́вы.** *Нясв. Няўхв.* Пра моцна п'янага чалавека, што не можа нават рухацца. ФА.

***дро́жджы*** **расці́ як на дражджа́х.** *В.-Дзв.*, *Івац.*, *Леп.*, *Мсцісл.*, *Мядз. Ухв.* Пра добры, хуткі рост жывёлы, дзяцей. СПЗБ 3, 285; Юрчанка 1998, 76; ФА; ЗЗайкі.
**шарахо́ніцца як на дражджа́х.** *Мсцісл. Кплів.* Пра паводзіны празмерна ганарыстага, самаўпэўненага чалавека. Бялькевіч, 495. < Шарахоніцца – задаецца, ганарыцца.
глядзе́ць (вы́лез) як мыш з дражджэ́й. Гл. мыш.
хадзі́ць як ёж па дро́жджы. Гл. ёж.

***дрозд*** **поттулі́ць хвост як той дрозд.** *Жытк. Кплів.* Пра чалавека, што мусіць прыціхнуць, стуліцца, не выступаць. ТС 2, 40.

***дро́здзік*** **скака́ць як дро́здзік.** *Памянш. Кплів.* Пра кагосьці, што лоўка, весела падскаквае, часцей пра дзіця. Янк., 427.

***дронк*** **ляжа́ць як дронк.** *Зэльв. Няўхв.* Пра нерухомае ляжанне чалавека ад стомленасці ці ап'янення. Даніловіч, 220.

**стая́ць як дронк уе́ўшы.** *Іран.* Пра роўную, нерухомую постаць чалавека здзіўленага, не вельмі разумнага, напалоханага. Даніловіч, 220.

***дрот*** **валасы́ як дрот (з дро́ту).** *Слон. Няўхв.* Пра жорсткія валасы, што не ўкладваюцца ў прычоску. Высл., 291; Янк., Пар., 24.

**здаро́вы што дрот.** *Ухв.* Пра моцнага, трывалага чалавека. Янк., Дыял., І, 210.

***дро́цік*** **пру́ткі як дро́цік.** *Памянш. Лід. Ухв.* Пра дзябёлага, моцнага чалавека. СПЗБ 4, 119.

***дру́жка*** **ука́пацца як Ахо́наўская дру́жка.** *Дзятл. Асудж.* Пра неахайнага чалавека. Сцяшковіч, 38. < Аб паходжанні гэтага параўнання: «Адна дружка з вёскі Ахонавічы калісьці вельмі закапала ўсю сукню тлусням і воткай; цяпер на дзяцей ці дарослых, якія брудна ходзяць, гавораць: «укапалася, як ахонаўская дружка».

***друза́*** **ісці́ як друза́.** *Паст. Няўхв.* Пра павольную, няўклюдную хаду, калі чалавек як бы дрыжыць, пераваливаецца з боку на бок. СПЗБ 5, 282. < Друза – твань.

**мя́са як друза́.** *Брасл.* Пра сапсаванае мяккае мяса. СПЗБ 2, 93.

***дрыгва́*** **дрыжа́ць як дрыгва́.** *Ваўк. п.* Пра нешта хісткае, што ўгінаецца, калоціцца. Federowski, 82.

**як дрыгва́ стаць.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра жанчыну, што стала вельмі тоўстай і кволай. Юрчанка 1998, 82.

**ісці́ як па дрыгве.** *Няўхв.* Пра хісткую, няўпэўненую хаду. Янк., Пар., 80.

ненадзе́йна як з малі́тваю праз дрыгву́. Гл. малітва.

***дры́нда*** **як дры́нда вы́цягнуцца.** *Мсцісл. Нясмешл. Няўхв.* Пра чалавека, які вольна разлёгся. Юрчанка 1969, 60. < Дрында – нікудышная павозка (ЖНС, 179).

***дрыста́чка*** **Каха́нне як дрыста́чка: не хо́чаш, а ляці́ш.** *Мін. Прык. Кплів. Вульг.* Пра стан пачуццяў чалавека, якія пазбаўляюць яго волі. ЗВалодзінай.

***дрэ́ва*** **як дзе́рава трухля́вае шапаце́ць.** *Лоеў. Спачув.* Пра старога, нямоцнага чалавека, яго здароўе. Янкова, 362.

**ліпе́ць як тое гніло́е да старо́е дзе́раво.** *Слуцк. Спачув.* Пра старога слабога чалавека, які ледзь трымаецца за жыццё. Сержпутоўскі 1999, 182.

удо́ўбацца як той дзяцёл у дзе́рэво. Гл. дзяцел.

зляце́ць як лісто́к з дрэ́ва. Гл. лісток.

прычапі́цца як смала́ да дрэ́ва. Гл. смала.

**цвёрдае як дрэ́ва.** *Віл. Няўхв.* Пра слаба зваранае мяса. СПЗБ 5, 340.

***дуб*** **вы́бухацца як дуб.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вырастанне хлопца моцным, здаровым, дужым. Юрчанка 1993, 146.

**вы́расці як дуб.** *Ваўк. п. Ухв.* Federowski, 344. Тое ж.

**вялі́кі як дуб.** *Ухв.* Пра рослага, моцнага чалавека. Янк., Пар., 32.

**здаро́вы (здараўля́ка, крэ́пкі, мо́цны) як дуб [скарбо́вы].** *Ваўк. п., Гродз., Івац., Мсцісл., Слуцк. Ухв.* Янк., Пар., 73; Шатала-

ва, 88; Federowski, 188; Сержпутоўскі 1999, 79; Юрчанка 1969, 60; Цыхун, 175; ЗЗайкі. Тое, што вялікі як дуб.

**здарóвы як дуб, ды мóцны як зуб.** *Ухв.* Санько, 135. Тое, што вялікі як дуб.

лéзці як свярдзёлак у дуб. Гл. свярдзёлак.

**хлóпец дзябёлы як дуб.** *Сміл., Слон. Ухв.* Шатэрнік, 84; Высл., 409. Тое, што вялікі як дуб.

**цвёрды як дуб.** *Івац. Ухв.* Пра нешта сапраўды цвёрдае. ЗЗайкі.

**Чоловéк ек дуб, а жóнка – ек та хвóйка.** *Стол. Прык. Ухв.* Пра здаровых і прыгожых мужа і жонку. ТС 2, 43.

**як з дýба зваліцца (рýхнуць).** *Шчуч.* 1. *Жарт.* Пра чыё-н. нечаканае з'яўленне. 2. Пра чыюсьці немагчымасць зразумець, асэнсаваць навакольнае. Даніловіч, 226.

згінáцца як лазá пéрад дýбам. Гл. лаза.

**здýру як з дýбу.** *Ашм. Жарт.* Пра нешта сказанае, зробленае не падумаўшы, раптам. Даніловіч, 226.

**зглýху як з дýбу.** *Смал.* Пра чалавека, які нешта зрабіў не дачуўшы. Добровольский III, 17.

**сыны́ як дубы́.** *Івац. Ухв.* Пра рослых, моцных, прыгожых сыноў. ЗЗайкі.

***дубéц*** **адзінóкі як дубéц у пóлі.** *Спачув.* Пра адзінокага чалавека. ЛА, 30.

**ліць як з дубцá.** *Гродз. Лід.* Пра вельмі моцны суцэльным патокам дождж. Даніловіч, 226.

***дуб'ё*** **здарóвыя як дуб'ё.** *Бялын. Ухв.* Пра здаровых моцных людзей. Яўсееў, 67.

***дубіна*** **як дубіна.** *Астр. Няўхв.* Пра няскладную, непаваротлівую жанчыну. СПЗБ 3, 224.

***дубóвы*** **цвёрда як дубóва.** *Ваўк. п.* Пра нешта цвёрдае. Federowski, 59.

не скранéш як пень дубóвы. Гл. пень.

**як дубóвый.** *Мсцісл.* Пра фізічны стан скачанелага, змерзлага чалавека. Юрчанка, 183.

***дубóк*** **адзін як дубóк у пóлі.** *Памянш. Мін. Спачув.* Пра адзінокага, самотнага чалавека. ЛЦ, 37.

**Дарý агурóк, каб рос сын як дубóк.** *Памянш. Фальк.* Вясельнае віншаванне з пажаданнем здароўя і сілы будучаму сыну. БВ, 53.

***дубóчак*** **Дарý зялёны лістóчак, каб мужы́к быў як дубóчак.** *Памянш.-ласк. Фальк.* Вясельнае пажаданне здаровага, моцнага мужа. БВ, 49.

**гібкі як маладзéнькі дубóчак.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра гібкага, лоўкага маладога хлопца. НН, 604.

**Дарý бóчкі, каб дзéткі былі мóцныя, як дубóчкі.** *Памянш.-ласк. Фальк.* Вясельнае пажаданне моцных, здаровых дзяцей. БВ, 54.

***дугá*** **дедугá сагнýўся як дугá.** *Лоеў. Спачув.* Пра старога сагнутага чалавека. Янкова, 101.

**крывы́ як дугá.** *Бял.* Пра рэч з моцна выяўленай крывізной. Бялькевіч, 232.

**ксяндзóўскі слугá сагнýўся як дугá.** Пра чалавека-прыслугача, якому даводзіцца часта нізка кланяцца. Янкоўскі 1971, 97, 336, 624; Нос., 194.
пáнскі слугá сагнýўся як дугá. Матэрыялы 1981, 122. Тое ж.
прáвільна як дугá. *Касц. Іран.* Пра справу, пытанне, сітуацыю не простую і не правільную. ЛЦ, 119.
**праў ек дугá.** *Іран.* Пра чалавека хітрага, які толькі прыкідваецца простым. ТС 5, 362.
**прóсты як дугá.** Нос., 141; Крэмнеў, № 938; Станкевіч, 906. Тое ж.
**глядзéць як з-пад дугí.** *Маг. Няўхв.* Пра насуплены, з-пад ілба позірк чалавека. Высл., 305.
глядзéць як конь з-пад дугí. Гл. конь.
*што* **як з дугí касты́ль.** *Мсцісл. Іран.* Пра штосьці ненадзейнае, няправільнае. Юрчанка, 173.
**хвост дугой дзяржáць.** *Слуцк.* Не сумаваць, не падаць духам, трымацца з гонарам. МК, 286.

***дудá*** **Бядá не дудá: пішчы́ць, а не грáе.** *Прык.* Пра цяжкасці і боль перажывання бяды. Federowski, 25.
**Бядá як дудá: зачнéш дуць, аж слёзы набягýць.** *Прык.* Пра непрыемнасці, што ідуць адна за адной. Tyszkiewicz, 430; Шпилевский, 176; Шейн, 473; Сержпутоўскі 1999, 21; Арх. Гр.
**Бядá як дудá: стáнеш дуць, слёзы сáмі йдуць.** *Слуцк.* Сахараў; Нос., 12. Тое ж.
**вазíцца як з дудóю.** Кажуць з незадавальненнем пра тых дарослых, якіх праз іх ляноту альбо нядбайнасць нельга ні да чога прывучыць альбо выдаць замуж (калі гэта дзяўчына). Крэмнеў, № 124.

***дýдка*** *з каго* **як з дýдкі жанé.** *Ваўк. п.*, *Івац.* Пра моцны панос у хворага чалавека ці жывёлы. Federowski, 110; ЗЗайкі.
наéўся як пук, а нóгі як дýдкі. Гл. пук.
**пéрыць як у дýдку.** *Дзятл.* Пра моцны кашаль у хворага. Арх. Гр.

***дýжы*** **паімчáць як дýжы.** Пра бег ва ўсю сілу, шпарка, хутка. Янк., 419.

***дук*** **стаць як дук.** *Стол. Насмешл.* Пра акруглелага, поўнага чалавека. ТС 2, 45. < Дук – шайба, якую ганялі дзеці па лёдзе.

***Дунáй*** **вялíкі як Дунáй.** *Мядз. Ухв. Фальк.* Пра ўдалага, вялікага чалавека. Высл., 300.
**як Дунáй.** 1. *Мсцісл.*, *Валож. Ухв.* Пра мажнага здаровага чалавека. 2. *Гродз. Ухв.* Пра ўсё, што выклікае захапленне прыгажосцю, ростам, багаццем і г. д. Юрчанка, 183; АВНЛ; Цыхун, 175.

***дýнда*** **ісцí як дýнда.** *Гродз. Асудж.* Пра нязграбную няскладную жанчыну. СПЗБ 2, 104. < Дунда – соня.

***дундýк*** **хадзíць як дундýк.** *Чэрв. Няўхв.* Пра насупленага, няскладнага, непаваротлівага чалавека. СЦБ, 126.

***Дýнька*** **застáцца як Дýнька ад пóезда.** *Валож. Насмешл.* Пра недарэчнае спазненне. ФА. < Хутчэй, новае, запазычанае з рускай мовы.
гавары́ць як Сяргéй з Дýнькаю. Гл. Сяргей.

*ду́па* **пра́ўда, як го́лай ду́пай во́жыка заду́шыш.** *Капыл. Іран. Здзекл.* Пра нешта зусім непраўдзівае, нерэальнае, смешнае. ФА.

*дупло́* сядзе́ць як жаўна́ ў дупле́. Гл. жаўна.

*дура́к* **глядзе́ць як дура́к на апі́лкі (шчэ́пкі, шкля́нкі).** *Мсцісл. Няўхв.* Пра няўцямны, непаразумелы позірк каго-н. Юрчанка, 183.

**нажра́цца як дура́к на памі́нках.** *Мсцісл. Асудж.* Пра непрызваітыя паводзіны чалавека, што ладна выпіў, наеўся. Высл., 351.

*ду́рань* **бе́гаць як ду́рань.** *Карм. Асудж.* Пра непрадуманую, недарэчную мітусню каго-н. Мат., Гом., VIII, 122.

**гігі́каць як ду́рань.** *Пух. Няўхв.* Пра чалавека, што смяецца без прычыны альбо проста задужа весяліцца. Шатэрнік, 67.

**глядзе́ць як ду́рань на бо́ты блішчо́ныя.** *Касц., Рэч. Няўхв.* Пра няўцямнае, тупое ўзіранне, угляданне каго-н. на новы, незразумелы прадмет. ЛЦ, 70.

**глядзе́ць як ду́рань на чырво́но.** *Слон. Няўхв.* Высл., 305. Тое ж.

**жані́ўся як ду́рань з пе́чы звалі́ўся.** *Слуцк. Насмешл.* Пра нейчую нечаканую, без доўгіх заляцанняў жаніцьбу. Сержпутоўскі 1999, 64.

**ждаць як ду́рань до́ўбні.** *Слуцк. Няўхв.* Пра пасіўнае чаканне чаго-н. небяспечнага. ФА.

**крыча́ць як той ду́рань касу́ схава́ўшы.** *Слон. п.* Пра нейчы няўцямны пусты крык. Federowski, 154.

**Мужы́к п'ець, як у ле́ечку льець, а як пры́дзецца плаці́ць, то як ду́рань маўчы́ць.** *Прык.* Пра карыслівага чалавека, які, каб пазбегнуць плаціць выдаткі, гатовы прыкінуцца дурным. Шпилевский, 184; Нос., 142.

**набра́цца як ду́рань зацíркі.** *Капыл., Карэл. Няўхв.* Пра празмерную неразумную прагавітасць чалавека ў піцці, ежы. Высл., 349.

**набра́цца як ду́рань кло́ччa.** *Гом. Няўхв.* Высл., 349. Тое ж.

**нае́сціся як ду́рань бо́бу.** *Слон. Няўхв.* Высл., 351. Тое ж.

**нае́сціся як ду́рань кло́ччa.** *Мін., Чэрык., Рэч. Няўхв.* ЛЦ, 93; Высл., 351. Тое ж.

**накі́нуцца як ду́рань на зацíрку.** *Нясв. Няўхв.* ФА. Тое, што набрацца як дурань зацiркі.

**напі́цца як ду́рань дзёгцю.** *Воран. Асудж.* Даніловіч, 220. Тое ж.

**насі́цца як ду́рань з дзвярмі́** (дзвяры́ма). *Астр., Нясв. Няўхв.* Пра недарэчнае перасоўванне з месца на месца груваcткай рэчы; пра празмерную ўвагу да чаго-н. недарэчнага, неістотнага. Янк., Пар., 115; Высл, 356; ФА; СПЗБ 3, 37.

**насі́цца як ду́рань з мя́лам.** *Асіп.* Высл., 356. Тое ж.

**насі́цца як ду́рань з пі́санай то́рбай.** *Кругл. Няўхв.* ДА. Тое ж.

**пазіра́ць у во́чы як ду́рань.** *Сміл. Няўхв.* Пра позірк вінаватага чалавека, які не хоча ў гэтым прызнацца. Шатэрнік, 193.

**прычапі́цца як ду́рань да дзве́рцаў.** *Паст. Няўхв.* Высл., 372. Тое, што насіцца як ду́рань з дзвярмі.

**убі́цца як ду́рань у агло́блі.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, што сам улез у цяжкую справу, узяў на сябе клопат. Высл., 403.

**цягнýць як дýрань дзвéры.** *Карэл.* Высл., 416. Тое, што насіцца як дурань з дзвярмі.

**як дóбры дýрань.** *Івац.*, *Мсцісл.*, *Слон.* Пра паводзіны не вельмі разумнага чалавека. Юрчанка 1977, 212; Высл., 426; ЗЗайкі.

**як той дýрань.** *Клецк. Асудж.* Пра чалавека, які зрабіў нешта не так, не здагадаўся, не прадбачыў, паверыў. ДА.

**глядзéць дýрнем.** *Няўхв.* Пра чалавека, які паставіў сябе ў непрыемнае становішча. НН, 610.

**патрэ́бен як дýрню галавá.** *Мін. Іран. Жарт.* Пра нешта не зусім патрэбнае. ЛЦ, 118.

**вускóчыць ек дýрэнь з-за куста.** *Жытк. Асудж.* Пра недарэчнае ўмяшанне чалавека ў нейкую справу, размову. ТС 1, 175.

**насíцца ек дýрэнь со стýпою.** *Глуск.*, *Жытк. Няўхв.* Мат., 121; ТС 5, 112. Тое ж.

**шварды́кнуць ек бу дýрэнь с пéчы.** *Жытк. Няўхв. Жарт.* Пра падзенне аднекуль па неасцярожнасці. ТС 5, 362.

***дурачóк*** **рабíць як дурачóк.** *Памянш. В.-Дзв. Спачув.* Пра чалавека, што надта шчыра працуе на іншых. СПЗБ 4, 232.

***дурнап'я́н*** **трэ́ліць як дурнап'я́ну наéўшыся.** *Слон. Асудж.* Пра чалавека, які гаворыць абы-што, як пад уздзеяннем наркатычнага зелля. Высл., 402.

***дурнíца*** **хляхатáць як дурнíца.** *Кругл.*, *Леп. Няўхв.* Пра беспрычынны гучны смех каго-н. ФА; ЗВалодзінай.

***дурнíцы*** **гавары́ць як дурнíцаў з'éўшы.** Пра чалавека, які гаворыць абы-што, нелагічна, як пад дзеяннем наркатычнага зелля. Даніловіч, 220.

***дурны́*** адзéцца як пáва, але дурнáя слáва. Гл. пава.

выцягацца як бáба дурнáя. Гл. баба.

падхвацíцца як дурнáя бýра. Гл. бура.

самагóнка як дурнáя жóнка. Гл. жонка.

**тут такí парáдак як у дурнóга ў тóрбе.** *Гродз. Няўхв. Насмешл.* Пра поўны беспарадак у нечым, у справах, рэчах, паперах. Цыхун, 193.

**як у дурнóга фáнцікаў.** *Гродз. Насмешл.* Пра нешта малапатрэбнае ў вялікай колькасці. Даніловіч 2008, 138.

**Гатóвае як дурнóе.** *Рэч. Прык.* Пра тое, куды не ўклаў сваёй працы і што здаецца горшым. ЛЦ, 29.

**Чужóе як дурнóе.** *Асіп. Прык.* Пра частае неадэкватнае ўспрыманне чалавекам нечага чужога. Высл, 419.

сы́пацца як з дурнóй тóрбы. Гл. торба.

як у дурнóй мéльніцы. Гл. мельніца.

**як дурнóму бы́тыся.** *Пін. Няўхв.* Пра моцную прагу, хаценне кагосьці. Нар. скарбы, 146.

піць як у дурнýю бóчку. Гл. бочка.

**бéгаць як дурны́.** *Івац. Асудж.* Пра чалавека, які неразважліва мітусіцца ў нейкай справе. Ройзензон, 67; ЗЗайкі.

**біць як дурны́ ў дзвéры.** *Іўеў. Асудж.* Пра ўпартае стаянне на сваім, не зважаючы ні на што. Сцяшковіч, 579; Санько, 114.

бляя́ць як дурны́ бара́н. Гл. баран.
вы́лупіць во́чы як дурны́ бара́н. Гл. баран.
глядзе́ць як [дурны́] бара́н [на ваду́]. Гл. баран.
**дапа́сці як дурны́ да мы́ла.** *Карэл. Іран.-асудж.* Пра прагнае хапанне чаго-н., прыкладам, ежы. Даніловіч, 221.
круці́цца як дурны́ бара́н. Гл. баран.
**крыча́ць як дурны́ ў малі́нах.** *Гродз. Асудж.* Пра моцны беспрычынны крык. Даніловіч, 221.
**набра́цца як дурны́ мы́ла.** *Маст. Асудж.* Даніловіч, 221. Тое, што дапасці як дурны да мыла.
**напі́цца як дурны́ на памі́нках.** *Докш. Асудж.* Пра празмерна п'янага чалавека. ФА.
**насі́цца ек дурны́ со сту́пою.** *Жытк. Няўхв.* Пра празмерную ўвагу да чаго-н. недарэчнага, неістотнага. ТС 3, 214.
**насі́цца як дурны́ з дзвяры́ма (-амі).** *Астр.*, *Свісл.* Сцяшковіч, 631. Тое ж.
**п'я́ны што й дурны́.** *Івац.*, *Светл. Прык.* Пра аднолькавыя паводзіны п'янага і дурнога. ПП 2, 356; Санько, 178; ЗЗайкі.
**пагавары́ць як дурны́ з глухі́м.** *Віл. Іран.* Пра поўнае непаразуменне паміж двума суразмоўцамі. ФА.
пазіра́ць як дурны́ бара́н на ваду́. Гл. баран.
**рабі́ць як дурны́.** *Івац. Няўхв.* Пра непатрэбную заўзятасць пры нейкай працы. ЗЗайкі.
**рваць як дурны́ ану́чы.** *Астр. Іран.* Пра вельмі хуткія ўцёкі. Даніловіч, 164.
**смэя́ціся бы дурны́ з сы́ру.** *Пруж. Іран.* Пра чалавека, які смяецца без бачнай на тое прычыны. Босак, 32.
**стая́ць як дурны́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які трапіў у прыкрае становішча. Бялькевіч, 54.
**сту́каць як дурны́ ў дзве́ры.** *Смарг.* ФА. Тое, што біць як дурны ў дзверы.
**утрэ́скацца як дурны́ ў саладу́ху.** *Акц. Жарт.* Пра моцную закаханасць. Горленка, 250.
**хо́ча п'я́ны піць як дурны́ борацца.** *Гом. Насмешл.* Пра неадэкватнасць паводзін і п'янага, і дурнога. Высл., 413.
**цяга́ць як дурны́ каме́нне.** *Пруж. Насмешл.* Пра шчырую заўзятасць у цяжкай непатрэбнай рабоце. ФА.
**што дурны́.** *Віц.* Пра чалавека, які робіць нешта заўзята, з ахвотай. КВДУ.
зарасці́ як у дурны́м ле́се. Гл. лес.
цёмна як у дурны́м ле́се. Гл. лес.
шуме́ць як у дурны́м ле́се. Гл. лес.
як на дурны́м база́ры. Гл. базар.
як на дурны́м бара́ну. Гл. баран.
уплята́ць як за сямёх дурны́х. Гл. сем.
**як сто дурны́х.** *Шчуч.*, *Слон.*, *Ваўк. Іран.-абразл.* Пра дурнаватага чалавека. Даніловіч, 253.

***дух*** Стара́я дзе́ўка як дзіра́вы кажу́х – адзі́н дух. Гл. кажух.
**хадзі́ць як дух па ганаві́цах.** *Свісл. Іран.* Пра бадзянне дзе-н. без справы, без занятку. Даніловіч, 221.
**бая́цца як зло́га ду́ха.** *Ваўк. п.* Пра вельмі моцны страх каго-н. Federowski, 20.
**е́сці як не ў свае́ духі́ (не ў свой дух).** *Зэльв. Гродз. Няўхв.* Пра вельмі прагнае, ненасытнае спажыванне ежы. Даніловіч, 238.
**расказа́ць усё як на духу́.** *Мсцісл.* Шчыры аповед пра ўсё садзеянае. Юрчанка 1977, 217.

***духі́*** трэ́ба *каму што* як ко́шцы духі́. Гл. кошка.

***душа́*** **дарагі́ як свая́ душа́.** *Ухв.* Пра вельмі дарагога, блізкага чалавека. Янк., Пар., 51.
**жыць як душа́ жада́е.** *Ухв.* Пра свабоднае, спакойнае, заможнае жыццё. БПФС, 86.
вісе́ць *над кім* як грэх над душо́й. Гл. грэх.
насі́цца як чорт з грэ́шнай душо́й. Гл. чорт.
стая́ць як чорт над до́браю душо́й. Гл. чорт.
**хадзі́ць як душа́ без це́ла.** *Івац.* Пра нячутнае, непрыкметнае і разам з тым бязмэтнае хаджэнне чалавека дзе-н. Высл., 411; ЗЗайкі.
як у латышá хрэн ды душа́ *ў каго.* Гл. латыш.
абману́ць *каго* як чорт до́брую душу́. Гл. чорт.
**з вераб'ёву душу́.** Пра зусім малую колькасць, драбок, каліва. Янк., 407.
заве́сці (ашука́ць, зве́сці, зману́ць, падману́ць) як чорт до́брую душу́. Гл. чорт.
згры́бчыць як чорт грэ́шную душу́. Гл. чорт.
**Любі́ жо́нку як ду́шу, а трасі́ як гру́шу.** *Прык.* Пра неабходнасць патрабавальнага стаўлення нават да блізкага чалавека. Tyszkiewicz, 419; Шпилевский, 183; Нос., 75; Dybowski, 7; Pietkiewicz, 402; Дуб., 32; Federowski, 365; Добр., Смол., 60.
**Любі́ як ду́шу, трасі́ як гру́шу.** Пра неабходнасць патрабавальнага стаўлення нават да блізкага чалавека. Czeczot, 160; Federowski, 168.
**любі́ць як сваю́ душу́.** *Сак. п.* Federowski, 168. Тое, што думаць як аб сваёй душы.
пане́сці (папе́рці, схапі́ць) як чорт грэ́шную душу́. Гл. чорт.
**таргува́цца як за душу́.** *Няўхв.* Пра бурны, няўступлівы торг за што-н. Янк., Пар., 166.
чыха́ць як чорт на до́бру ду́шу. Гл. чорт.
**Шкаду́й як ду́шу, калаці́ як гру́шу.** *Валож.* ФА. Тое, што Любі як душу, трасі як грушу.
**як за душу́ пацягнуты.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра дакучлівага, прывязлівага, раздражнёнага чалавека. Юрчанка, 173.
**як за душу́ пачэ́плены.** *Мсцісл. Спачув.* Пра бесперастанны плач, прычытанне, скаргі. Юрчанка, 261.
**як у душу́ плю́нуць.** *Івац. Абуральн.* Пра нешта вельмі крыўдна сказанае альбо зробленае. Ройзензон, 81; ЗЗайкі.

гарэ́ць што ў мёртвага на душы́. Гл. мёртвы.
**ду́маць як аб сваёй душы́.** *Ваўк. п.* Пра вельмі клапатлівае, шчырае стаўленне да каго-н. Federowski, 84.
жада́ць (чака́ць) як збаве́ння душы́. Гл. збавенне.
**ісці́ як зма́рлыя ду́шы на дзе́давую вячэ́ру.** *Ваўк. п. Фальк.* Пра перамяшчэнне гуртам, суладна альбо адзін за адным. Federowski, 122.
**Калí без грашы́, так як без душы́.** Пра адчуванне скаванасці, несвабоды пры адсутнасці сродкаў. Federowski, 117.
ла́зіць як цялё без душы́. Гл. цялё.
**ляжа́ць як без душы́.** *Ваўк. п.* Пра нерухомы стан чалавека. Federowski, 161.
хадзі́ць (цягну́цца) як це́ла без душы́. Гл. цела.
ця́жка як ка́мень на душы́. Гл. камень.
што ма́слам па душы́. Гл. масла.
**як душы́ не вы́няць.** *Лоеў.* Пра гаворку, спевы, якія соладка, прыемна слухаць. Янкова, 73.
як ма́слечкам па душы́. Гл. маслечка.
**як у душы́** *дзе. Ашм. Ухв.* Пра вельмі цёплае, утульнае пачуванне сябе дзе-н. Даніловіч, 257.

***душы́ць*** галасо́к як у таго́ салаўя́, што за гаро́ю кабы́лу ду́шыць. Гл. салавей.

***дыва́н*** **трава́ як дыва́н рассціла́ецца.** *Чэрык. Захапл.* Пра вельмі прыгожы, каляровы абразок прыроды. Бялькевіч, 396.

***дым*** **го́ркі як дым.** *Няўхв.* Пра нешта вельмі горкае, непрыемнае. Янк., Пар., 43.
**густы́ як дым.** Пра густы туман. Янк., Пар., 47.
**до́ля го́ркая як дым на качарзе́.** *Капыл. Жарт.* Пра незайздросны лёс каго-н. Wereńko, 214; ФА.
**за́муж як у дым.** *Смал.* Пра невядомасць будучага лёсу ў замужжы. Добр., Смол., 245.
**ле́зці як дым у во́чы.** *Івац. Асудж.* Пра дакучлівае, назойлівае чаплянне чалавека да каго-н. іншага. Янк., Пар., 94; ЗЗайкі.
**пого́да ек дым по́сле дождж́а.** *Жытк.* Пра парнасць, цішу. ТС 4, 81.
**расплы́цца бы дым.** *Слуцк.* Пра паступовае знікненне чаго-н. Сержпутоўскі 2000, 197.
**расці́ як дым.** *Гродз.* Пра імклівае распаўсюджанне чагосьці, разрастанне, павялічванне. Леп., 85; Даніловіч, 221.
**рэ́дкі як дым.** *Слуцк.* Пра нешта рэдкае, празрыстае, часцей пра тканіну. Сержпутоўскі 1998, 65.
**Со́рам ня дым – у во́чы ня ле́зе.** *Прык.* Пра фізічную неадчувальнасць сораму для чалавека. Станкевіч, 1014.
**Стыд не дым – вачэ́й (вочы) не вы́кура.** Ром., Бел., 309. Тое ж.
**упёкся як качарэ́жны дым.** *Лоеў.* Пра нешта вельмі надакучлівае, нуднае, непрыемнае. Янкова, 376.
**як дым.** *Гродз.* Пра высокі, буйны, густы лес. Цыхун, 175.
гуля́ць як ве́цер ды́мам. Гл. вецер.

міргáць як кот у ды́ме. Гл. кот.

**нагарну́ць як ды́му ў мех.** *Іран.* Пра марныя намаганні зрабіць нешта нерэальнае. Янк., Пар., 109.

**як сто пудóў ды́му.** *Смарг. Здзекл.* Пра вельмі дурнога чалавека. Даніловіч, 253.

***ды́рба*** **вы́расці як ды́рба.** *Слон. Няўхв.* Пра тонкага, высокага чалавека. Нар. лекс., 50. < Дырба – жэрдка.

***ды́рда*** **як ды́рда.** *Астр. Няўхв.* Пра высокага чалавека. СПЗБ 1, 295.

***ды́шла*** **вы́йсці як з ды́шла.** *Слон. Жарт.* Пра тое, што атрымалася інакш, не так, як хацелася, меркавалася. Даніловіч, 226.

**Закóн як ды́шла: куды́ павярну́ў, туды́ і вы́шла.** *Капыл. Прык.* Пра несправядлівае маніпуляванне законам на карысць кагосьці. ПП 1, 356.

упéрціся як кабы́ла ў ды́шла. Гл. кабыла.

***д’я́бал*** жóнка як сóкал, мужы́к як дзья́вал, тады́ дóбрая пáра. Гл. сокал.

**прыслужы́цца як д’я́бал у Чанстахóве.** *Ваўк. п.* Пра нейкія асабліва выкрутныя дзеянні нячысціка. Federowski, 65.

**прычапíцца як д’я́бал да святóга Міхáла.** *Гродз.* Пра чалавека, які неадчэпна, назойліва камусьці дакучае. Даніловіч 2008, 136.

бая́цца як свéнты Міхал д’я́бла. Гл. Міхал.

звязáцца як чорт з д’я́блам. Гл. чорт.

***д’ябэ́лак*** **умáзацца як д’ябэ́лак.** *Насмешл.* Пра чалавека, які моцна забрудзіўся (сажай, граззю). Носович, 149.

# Е

***éжа*** **Грыб – ні éжа, а шля́па – ні адзéжа.** *Рас. Прык.* Пра невялікі наедак з грыбоў. БД, 35.

***éздзіць*** у трыбусé як калесьмí éздзіць. Гл. калёсы.

***Éзус*** **барадá не раўну́ючы як у Пáна Éзуса на абразé.** *Лаг.* Пра акуратную, падстрыжаную бараду мужчыны. Varłyha, 80.

***éлка*** сівізнá як мох на éлцы. Гл. мох.

***ераплан*** **як ераплáн.** *Валож. Няўхв.* Пра ўспыльчавага, хуткага чалавека. Гілевіч 2007, 50.

гаспадáрку вéсці – не кáшу éсці. Гл. каша.

***éсці*** **трэ́ба як éсці.** Пра нешта вельмі патрэбнае чалавеку, без чаго не абыйдзешся. Янк., Пар., 170.

куры́ць як жáба травý есць. Гл. жаба.

як свіння́: дзе есь, там і сéра. Гл. свіння.

аплятáць як ты́ждзень не éўшы. Гл. тыждзень.

гавары́ць як тры дні не éўшы (не еў). Гл. дзень.

рабíць як тры дні ня éўшы. Гл. дзень.

**худы́ як нікóлі нічóга не éўшы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека сухарлявага целаскладу. Federowski, 55.

***éхаць*** рад як жыд з гары́ едучы. Гл. жыд.

смяя́цца як з гары́ едучы. Гл. жыд.

як жы́ду з гары́ <едучы>. Гл. жыд.

# Ё

***ёж****, гл.* ***вожык***

***ёжык****, гл.* ***вожык***

***ёлка*** **Со́рам не ёлка – вача́м не ко́лка.** *Слуцк. Прык.* Пра фізічную неадчувальнасць сораму для чалавека. Сахараў.

***ёлуп*** **стая́ць як ёлуп.** *Віц. Няўхв.* Пра кагосьці, хто стаіць з разгубленым, няўцямным выглядам. Каспяровіч, 103.

***ёрш*** **натапы́рыцца бы ёрш.** *Івац. Няўхв.* Пра надзьмутага, непрыветнага, сярдзітага чалавека. ЗЗайкі.

# Ж

***жа́ба*** нахапа́цца як бу́сел жаб. Гл. бусел.

**бо́ўнуць як жа́ба ў калóдзежы.** *Шчуч. Асудж.* Пра нешта сказанае нетактоўна. Арх. Гр.

**всу́нутыся як жа́ба в му́лю.** *Кобр. Пагардл.* Пра жанчыну, якая недарэчна з’явілася ў таварыстве, дзе яе не чакалі. ФА.

**ву́лупіць о́чы ек жа́ба на оле́шыну.** *Жыт к. Няўхв.* Пра няўцямны, здзіўлены, разгублены позірк. ТС 2, 54.

**вы́рачыць во́чы як жа́ба з но́чы.** *Берас. Груб.* Даніловіч, 42. Тое ж.

**вы́рачыць во́чы як жа́ба.** *Ваўк. п.*, *Рэч. Няўхв.* Pietkiewicz, 337; Янк., Пар., 30; Высл., 297. Тое ж.

**вы́скачыць як жа́ба з куста́.** *Насмешл.* Пра чалавека, што недарэчна заявіў пра сябе. Высл., 298; Санько, 69.

**вы́тарашчыцца як жа́ба серучы́.** *Люб. Абразл. Вульг.* Пра чалавека, які нетактоўна ў нешта ўзіраецца. ФА.

**глядзе́ць як жа́ба на ку́піне.** *Бераст. Няўхв.* Даніловіч, 222. Тое, што вулупіць очы ек жаба на олешыну.

**дапа́сці як жа́ба да гра́зі (да му́лу).** *Лід. Свісл. Няўхв.* Пра чалавека, які прагна накідваецца на нешта не зусім станоўчае. Даніловіч, 222.

**дра́цца як жа́ба (стара́я).** *Стаўб. Няўхв.* Пра вельмі дрэннае выкананне песні, спевы непрыемным голасам. МК, 78.

**дра́цца як жа́ба на корч.** *Гом. Насмешл.* Пра чалавека, што некуды моцна імкнецца, ціснецца. АВНЛ.

**дра́цца як жа́ба на крэў.** *Ушацк. Няўхв.* Барадулін, 98. Тое ж.

**дра́цца як жа́ба на ку́піне.** *Лід. Няўхв.* Даніловіч, 222. Тое ж.

**ду́жы як жа́ба ў лу́жы.** *Ганц. Іран. Насмешл.* Пра слабага, знямоглага чалавека. ФА.

**зні́кнуць як жа́ба ў тва́ні.** *Касц. Жарт.* Пра чалавека, які неяк непрыкметна выйшаў, схаваўся. ЛЦ, 107.

**зялёны як жа́ба.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра колер нейкага прадмета, без захаплення. Federowski, 354.

**кі́дацца як жа́ба на касу́.** *Наваг. Іран.* Пра чалавека, які ў сваіх дзеяннях непрадбачлівы, не адчувае відавочнай небяспекі. ЛЦ, 71.

**круці́цца як жа́ба ў калясе́.** *Маз. Насмешл.* Пра марныя намаганні чалавека. Высл., 337.
**крэкта́ць як жа́ба на вясну́.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які пры нейкай справе раптам падае голас, праяўляе сябе. Federowski, 152.
**ле́зці як жа́ба на кол.** *Асіп.* АВНЛ. Тое, што драцца як жаба на корч.
**ле́зці як жа́ба на корч.** *Глыб.*, *Круп. Жарт.* КВДУ; Гілевіч, 165. Тое, што драцца як жаба на корч.
**маўчы́ як жа́ба на карчы́.** *Дзятл.*, *Докш.*, *Капыл.*, *Мін.*, *Саліг.*, *Рэч.* Кажуць пра спрэчку моцнага са слабым, калі апошняму лепш памаўчаць. Аксамітаў, 152; ЛЦ, 112; АВНЛ; Высл., 345; Санько, 15; Даніловіч, 222.
**набра́цца (нахлябта́цца)** *чаго* **як жа́ба му́лу.** *Слон. п.*, *Зэльв.*, *Івац.*, *Гродз.*, *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, які нечага сквапна нахапаўся альбо залішне напіўся. Federowski, 194; ФА; ЗЗайкі. < Мул – рачны, азёрны глей.
**набра́цца як жа́ба гра́зі.** *Сміл. Астр.*, *Докш. Няўхв.* Шатэрнік, 163; ФА. Тое, што набрацца чаго як жаба мулу.
**набра́цца як жа́ба ка́лу.** *Гродз.*, *Воран. Няўхв.* Цыхун, 187; Даніловіч, 223. Тое, што набрацца чаго як жаба мулу.
**набра́цца як жа́ба тва́ні.** *Касц.*, *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 97. Тое, што набрацца чаго як жаба мулу.
**надзіма́цца як жа́ба, гле́дзячы на быка́.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які занадта імкнецца паказаць сваю значнасць. ЛЦ, 56.
**надзьму́цца як жа́ба на карчы́.** Санько, 155. Тое ж.
**надзу́цца як жа́ба на корч.** *Рэч.*, *Гродз. п., Калінк. Няўхв.* Пра чалавека, што празмерна важнічае, ганарыцца. Federowski, 195; Высл., 350; ДА.
**наду́цца як жа́ба на ку́піну.** *Гродз. Няўхв.* Даніловіч, 222. Тое ж.
**нязгра́бны як жа́ба.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нязграбнага, нялоўкага, непрывабнай знешнасці чалавека. Federowski, 202.
**паўзці́ як жа́ба.** *В.-Дзв. Няўхв.* Пра чалавека, які марудна павольна перамяшчаецца, пляцецца. ЗВалодзінай.
**пля́хацца як жа́ба.** *Карэл. Насмешл.* Пра нейчую нязграбную хаду, перамяшчэнне. Шаталава, 136.
**пну́цца як жа́ба на ку́піну.** *Жытк.*, *Пух.*, *Мін.*, *Лаг. Няўхв.* ТС 4, 65; ФА; ЛЦ, 118; Varłyha, 99. Тое, што драцца як жаба на корч.
**Рабá́я ба́ба ўсё ро́ўна як жа́ба: ні лю́дзям паказа́ць, ні сабе́ паглядзе́ць.** *Прык.* Пра зняважлівае стаўленне да жанчыны з пабітым воспай тварам, непрыгожай. Ляцкий, 37.
**распя́яцца як жа́ба на карчы́.** *Мядз. Кплів.* Пра чалавека, які надта заўзята расспяваўся, не зважаючы на іншых. Высл., 376.
**рассе́сціся** *дзе* **як жа́ба на купі́ну.** *Смарг. Насмешл.* Пра чалавека, які занадна вольна рассеўся і важна сябе пачувае. ФА.
**скака́ць як жа́ба – з ку́піны на ку́піну.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які робіць нейкія рухі, якія не выклікаюць захаплення альбо спачування. ЛЦ, 122.

**скве́рціся як жа́ба.** *Няўхв.* Пра капрызнае дзіця. ТС 3, 60.
**ско́кнуць як жа́ба з купі́ны.** *Мсцісл. Жарт.* Пра лёгкае, спрытнае перамяшчэнне, выкананне якой-н. справы. Юрчанка, 183.
**сядзе́ць як жа́ба на вясе́ллі.** *Рэч. Насмешл.* Пра ганарыстую, надзьмутую асобу. ЛЦ, 74.
**сядзе́ць як жа́ба над ку́пінаю.** *Мсцісл. Пагардл.* Пра ціхае, маўклівае адбыванне часу. Юрчанка, 183.
**угляда́цца як жа́ба ў арэ́х.** *Нясв. Насмешл.* Пра кепскі зрок. ФА.
**уле́зці як жа́ба ў гразь.** *Хойн. Асудж.* Пра чалавека, які моцна ўвяз у непрыгожую сітуацыю. АВНЛ.
**улю́блівы як жа́ба ў гразь.** *Уздз. Насмешл.* Пра часта і лёгка ўлюблівага чалавека. Высл., 405.
**хадзі́ць як расплю́шчаная жа́ба.** *Ваўк. Абразл. Кплів.* Пра чалавека ў прыбітым, гаротным стане. Высл., 412.
**хало́дная як жа́ба.** *Ваўк. п.*, *Драг.*, *Бярэз. Няўхв.* 1. Пра безэмацыйнасць некага. 2. Пра раўнадушную жанчыну ў палавых дачыненнях. Federowski, 49; Нар. лекс., 222; ФА.
**цягну́цца зза́ду як жа́ба.** *Сміл.*, *Хойн. Няўхв.* Пра марудлівых, не жадаючых прыспешыць ходу людзей. Шатэрнік, 19; Мат. Гом., III, 189.
**Як була молода́, то була рэ́зка, а як постарэ́ла – як жа́ба обле́зла.** *Жытк. Фальк. Жарт.* Пра заганы старасці ў параўнанні з маладосцю. ТС 4, 346.
**як жа́ба на лісапе́це.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які паводзіць сябе дзівосна, з выкрутасамі. Юрчанка, 183.
**як жа́ба ў лапця́х.** *Свісл. Іран.* Пра чалавека, які недарэчна выглядае ў якім-н. адзенні. Даніловіч 2010, 91.
**насі́цца як ко́шка з жа́бай: гадка з’есці і шкада кінуць.** Гл. кошка.
злітавацца як рак над жа́баю [узяў ды й очы выдраў]. Гл. рак.
**заняло́ як жа́бе на зіму́.** *Дзятл.*, *Карэл. Кплів.* Пра чалавека, якому ў спрэчцы рашуча не было ўжо чаго сказаць. Янк., 408; Даніловіч, 222; Гілевіч, 165.
**бы жа́бу з’еў.** *Пруж. Насмешл.* Пра чалавека, які выглядае неяк нязвыкла, маўкліва. Босак, 29.
**маўча́ць як жа́бу праглыну́ўшы.** *Шчуч. Насмешл.* Пра маўчанне чалавека, што трапіў у непрыемную сітуацыю. Даніловіч, 223.
**сядзе́ць як жа́бу прыглыну́ўшы.** *Мёр. Здзекл.* Пра незайздросны стан чалавека ў пэўнай сітуацыі. ДА.
**бы жа́бы то́пчэ.** *Пін. Насмешл.* Пра чалавека, які непрыгожа ходзіць. Нар. скарбы, 142.
**во́чы [ра́бы] як у жа́бы.** *Ваўк. п.*, *Сен. Насмешл.* Пра непрывабныя выпуклыя вочы. Federowski, 336; Каспяровіч, 181.
**во́чы як жа́бы навярху́ сідзя́ць.** *Маладз. Здзекл.* Пра нейчыя выпуклыя непрыгожыя вочы. Гілевіч, 53.
**дру́жна як жа́бы на дождж.** *Іран.* Пра людскую мітусню, актыўнасць, крык. Янк., Пар., 55.

**ру́кі як жа́бы.** *Віл.*, *Слон.* Пра халодныя, застылыя рукі. Sielicki, 162; Барысюк, Буян, 13.

**шчо́чкі ра́бы як у жа́бы.** *Паст. Насмешл. Фальк.* Пра рабыя, у плямках, больках, вяснушках шчокі. СПЗБ 5, 179.

**як з жа́бы са́ла** *з чаго. Свісл. Іран.* Пра адсутнасць ці вельмі малую карысць, толк з чаго-н. Даніловіч, 226.

***жа́біны*** ру́кі як жа́біны ла́пы. Гл. лапа.

шча́сця як з жа́біны пры́гаршчы. Гл. прыгаршчы.

***жабра́к*** **абдзёрты (абадра́ны, абарва́ны) як жабра́к.** *Ваўк.*, *Гродз. п.*, *Сен.*, *Івац.*, *Слон. Няўхв.* Пра вельмі бедна і неахайна апранутага чалавека. Federowski, 2; Каспяровіч, 1; Высл., 279; ЗЗайкі.

**е́сці як жабра́к.** *Івац. Няўхв.* Пра прагнае, неахайнае спажыванне ежы. ЗЗайкі.

**кле́нчыць як жабра́к пад акно́м.** *Няўхв.* Пра чалавека, які дакучліва і настойліва нешта выпрошвае. Янк., 411.

**спамо́гся як жабра́к на кісе́ль.** *Слон. Насмешл.* Пра прагнае спажыванне ежы. Высл., 387. < Спамогся – тут: накінуўся.

**хадзі́ць як жабра́к.** *Івац.*, *Клім. Няўхв.* Матэрыялы 1981, 81; ЗЗайкі. Тое, што абдзёрты як жабрак.

**цяга́цца (валачы́цца) як жабра́к [які́].** *Слон. Асудж.* Пра чалавека, які ходзіць ад хаты да хаты замест таго, каб заняцца справай. Высл., 416.

**пра́ўды** *ў каго* **як у жабрака́ гро́шай.** *Іран.* Пра надта невялікую долю праўды ў чыім-н. расказе. Янк., 421.

**як у жабрака́ ў то́рбе** *дзе. Маст.*, *Воран.*, *Лід. Няўхв.* Пра вялікі беспарадак у чым-н. Высл., 361; Даніловіч, 258.

***жабянё*** **грябсці́ся як жабянё на корч.** *Няўхв.* Пра імкненне чалавека некуды патрапіць. Фед. Арх.

**ле́зці як жабянё на корч.** *Маст. Няўхв.* ФА. Тое ж.

***жа́варанак*** **трэ́ба як жа́варанку паспява́ць.** *Фальк.* Пра нешта вельмі неабходнае, што хочацца і трэба зрабіць. Янк., Пар., 170.

**вясёлы як жаўранка.** *Ухв.* Пра чалавека з вясёлым характарам. Янк., Пар., 33.

***жа́гаўка*** **круці́цца як жа́гаўка.** *Ельск. Няўхв.* Пра чалавека, які мітусіцца пры розных справах. Мат. Гом., IV, 137. < Жагаўка – невялікі шчупак.

***жада́ць*** **жыць як душа́ жада́е.** *Ухв.* Пра свабоднае, спакойнае, заможнае жыццё. БПФС, 86.

***жале́за*** гры́зці як іржа́ жале́за. Гл. іржа.

е́сці як ржа жале́за. Гл. іржа.

лень жуе́ чалаве́ка як іржа́ жале́за. Гл. іржа.

**лізну́ць як жале́за на маро́зе.** *Асудж.* Пра неабачлівае, небяспечнае дзеянне чалавека. Янк., Пар., 96.

узяць як кава́ль абцэ́нгамі жале́за. Гл. каваль.

**круці́цца як на гара́чым жале́зе.** *Няўхв.* Пра чалавека, які праяўляе неапраўданую актыўнасць. Сержпутоўскі 1999, 87.

**цвёрды як залéза.** *Ваўк. п.* Пра цвёрды характар чалавека. Federowski, 59.

**халóдны як залéза.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра халодны, раўнадушны характар чалавека. Federowski, 49.

**ця́жка, як зялéза ўсёдна напхáна.** *Стаўб.* Пра нешта вельмі цяжкае. СЦБ, 170.

***жалéзка*** **лы́біцца як жалéзка знайшóўшы.** *Івац. Насмешл.* Пра нейчую радасць з пустога. ЗЗайкі. < Лыбіцца – усміхацца. Жалезка – лязо нажа.

***жалу́д*** **дзяўчы́на як жалу́д.** *Ушацк. Ухв.* Пры крэпенькую, прывабную дзяўчыну. Барадулін, 93.

***жаніх*** **убрáны як жэніх.** *Жытк. Ухв.* Пра святочна, вельмі добра ўбранага чалавека. ТС 4, 12.

***жанíцьба*** **заду́мацца як пéрад жанíцьбаю.** *Карэл. Насмешл.* Пра сур'ёзны роздум перад важнай справай. Высл., 323.

***жар*** **аганёк як жар гары́ць.** *Лоеў. Ухв.* Пра яркае квітненне пакаёвай кветкі. Янкова, 18. < Аганёк – бальзамін.

**зóлата бы жар ззя́е.** *Слуцк. Захапл.* Пра гарачы бляск золата. Сержпутоўскі 1999, 108.

**чырвóны як жар.** *Ваўк.* п., *Чэрык. Ухв.* Пра колер тканіны ці якой-н. іншай рэчы. Federowski, 71; Бялькевіч, 493.

*што* **як жар гары́ць.** *Мсцісл. Захапл.* Пра нейкую прыгожую бліскучую рэч найчасцей цёплага чырвонага колеру. Янкоўскі 1968, 434.

**бéгаць як з жáрам у нагавíцах.** *Слон. Няўхв.* Пра мітуслівую, бяссэнсную бегатню каго-н. Высл., 285.

**наўстыдзíць** *каго* **як жáрам сыпану́ць.** *Слон. п.* Пра моцнае прысаромліванне каго-н. Federowski, 199.

**як жáрам абдалó.** Пра атрыманне нечаканай і моцна ўразлівай весткі, паведамлення. БПФС, 89.

**як з жáрам у нагавíцах.** *Іран.* Пра чалавека гарачага, нярвовага, неспакойнага. Санько, 70.

**бéгчы як жáру ўхапíўшы.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які моцна спяшаецца, бяжыць без агляду. Ром., Бел., 291; Ляцкий, 5.

**забяжы́цца (пабу́дзе) як жáру ўхвацíць.** *Ваўк. п.*, *Пол.* Пра вельмі кароткі, паспешлівы візіт. Federowski, 207; Нар. лекс., 15.

**ляцéць як жáру ўхапíўшы.** *Рэч.* ЛЦ, 72. Тое, што бегчы як жару ўхапіўшы.

**нанасíць як жáру ў шáпцы.** *Іран.* Пра вельмі малую колькасць прынесенага, назапашанага. Янк., Пар., 111.

**панéсціся як жáру пад хвост насы́палі.** *Лаг.* Мін.-Мал., 1974, 188. Тое, што бегчы як жару ўхапіўшы.

**як жáру** *на каго* **сыпну́лі.** *Слон.* Пра ўспрыманне чалавекам чагосьці крыўднага, абразлівага, балючага. Высл., 426.

***жарá*** **хоты́в як у жару́ пы́ты.** *Кам.* Пра моцнае жаданне чалавека. ЖН, 55.

***жарабе́ц*** **бы́стры як жарабе́ц.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра здаровага, хуткага, спартыўнага чалавека. Federowski, 46.

**во́льны як жарабе́ц.** *Маладз. Ухв.* Пра вольнага, свабоднага чалавека. СЦБ, 133.

**Дару́ ядлаве́ц, каб пасля́ вясе́лля не бе́гаў як жарабе́ц.** *Фальк.* Вясельнае пажаданне мецць вернага мужа. БВ, 53.

**зарагата́ць як жарабе́ц.** *Слуцк. Няўхв.* Пра вельмі гучны, задаволены смех каго-н. ТС 2, 76; Сержпутоўскі 1999, 63. Тое, што іржаць як жарабец.

вы́валіць зу́бы як кабы́ла да жарабца́. Гл. кабыла.

**запрагці́ як сі́вага жарабца́.** *Зласл.* Пра чалавека, якога моцна нагрузілі абавязкамі, цяжкой работай. Ройзензон, 71.

**стары конь, а ро́зум што ў жарабца́.** *Гродз. Асудж.* Пра чалавека старога, але не вельмі разважлівага. Арх. Гр.

**Хвалі́лася аўца́, што ў яе хвост як у жарабца́.** *Брэсц. Прык.* Пра чалавека, які хваліцца неіснуючымі якасцямі. ЛЦ, 56.

*за кім* **хадзі́ць як жарабцы́.** *Краснап. Асудж.* Пра хлопцаў, што празмерна пускаюцца ў залёты. Бялькевіч, 170.

**іржа́ць ек жэрэбе́ц.** *Жытк. Няўхв.* Тое, што зарагатаць як жарабец.

***жарабо́к*** **растубыхацца як жарабо́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра гучныя, звонкія крокі чалавека. Юрчанка, 296. < Растубыхацца – гучна ступаць.

***жарабя́*** **бе́гчы** *за кім* **як жарабя́ за кабы́лаю.** Пра чалавека, які вельмі залежны ад іншага, наследуе яму, імкнецца быць разам. Янк., Пар., 20.

***жардзі́на*** **вы́махаць як жардзі́на.** *Мсцісл. Няўхв.* Пры высокага, хударлявага, танклявага чалавека. Юрчанка 1969, 60.

**як жардзіна́.** *Леп., Ушацк.* ЗВалодзінай. Тое ж.

***жаржы́на*** **як жэржы́на кра́сны.** *Лоеў. Ухв.* Пра здаровага, моцнага, чырванашчокага чалавека. Янкова, 114. < Жаржына – вяргіня.

***жарно́ў*** **вярце́цца як ме́льнічны жарно́ў.** *Сен. Няўхв.* Пра чалавека, які з цяжкасцю выконвае нейкую справу. Каспяровіч, 70.

***жаро́бны*** галóдны як воўк жаро́бны. Гл. воўк.

***жаро́н*** **як жаро́н.** Пра нешта вялікае, круглае. Тарас на Парнасе.

***жаро́бка*** **дзе́ўкі як жаро́бкі малады́я.** *Узд. Няўхв.* Пра маладых, здаровых, поўных энергіі дзяўчат, якія шумна сябе паводзяць, раздражняюць старэйшых. СЦБ, 221.

***жарства́*** **тваро́г як жарства́.** *Леп. Няўхв.* Пра жорсткі, ператоплены тварог. ЗВалодзінай.

**хлеб як жарства́.** *Бран. Няўхв.* Пра сухі, цвёрды хлеб. Расторгуев, 99.

***жарт*** **гу́ртам як жа́ртам.** Пра лёгкасць сумеснай працы. Янк., Пар., 46.

Карты – не жарты. *Мінск.* Пра неабходнасць выконваць правілы гульні. ПП 2, 362.

**Ка́рты не жа́рты: прайгра́й да й адда́й.** *Прык.* Ром., Бел., 298. Тое ж.

***жарэ́бчык*** **нату́рысты як малады́ жарэ́бчык.** *Насмешл.* Пра непаслухмянага, упартага маладога чалавека. Янк., Пар., 112.

***жаўмéр*** **ходить як жаўмéрь.** *Смал. Няўхв.* Пра вялага, нерашучага чалавека. Добр., Смол., 215.

***жаўнá*** **сядзéць як жаўнá ў дуплé.** *Капыл.* Пра чалавека, які ціха пражывае ў сваім сховішчы. Рабкевіч, 197.

**дóўгі язы́к як у жаўны́.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека залішне балбатлівага, нястрыманага на язык. Аксамітаў, 211; Сержпутоўскі 1999, 5. < Жаўна – чорны дзяцел.

**надоéсці як жоўнá.** *Жытк. Няўхв.* Пра надакучлівага сваімі размовамі, стукам чалавека. ТС 3, 124.

***жáўранка**, гл.* ***жáваранак***

***жаўтóк*** **жóўты як жаўтóк.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра эталонна жоўты колер чаго-н. Federowski, 366.

**падлóга як жаўтóк.** *Івац. Ухв.* Пра добра вымытую, адшараваную падлогу. ЗЗайкі.

**хáта як жаўтóк.** *Ухв.* Пра зграбную, утульную хату, чыста вымытыя драўляныя сцены якой захоўваюць светлы колер. Янк., Пар., 181.

***жаўтóчак*** **лáвы (стол) як жаўтóчак.** *Памянш. Слон. Ухв.* Пра добра вымытыя, нашараваныя драўляныя вырабы. Высл, 339.

***жбан*** улéзці як сýчка ў жбан (збан). Гл. сучка.

***жмéня*** як журавíн жмéню глынýць. Гл. журавіны.

***жмодзь*** **ек та жмодзь: і свое поедзя́ць і нáшэ покрáдуць.** *Стол. Асудж.* Пра вялікую колькасць малых пражэрлівых істот. ТС 2, 61. < Жмодзь – саранча, навала.

***жмут*** падхапíцца бы́ццам ямý сýнулі за пáзуху жмут крапíвы. Гл. пазуха.

***жмы́нда*** **гавары́ць як жмы́нда.** *Сен. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека, пустамелю. Каспяровіч, 107. < Жмында, жмінда – назола, пустамеля.

***жóлаб*** вы́чысціць як конь у жóлабе. Гл. конь.

***жом*** набрáцца як мýрза жóму. Гл. мурза.

***жóнка*** **Хлеб не жонá, з'еў да нямá.** *Івац. Прык.* Пра надзейнасць шлюбу, пастаянную прысутнасць жонкі ў сям'і. ЗВалодзінай.

мнóга як у ксяндзá жóнак. Гл. ксёндз.

**дзянёк што жóнка змóладу.** *Навагр. Ухв.* Пра прыгожы, пагодны дзень. ЛЦ, 15.

**самагóнка як дурнáя жóнка.** *Насмешл.* Пра заганы і адмоўныя вынікі ад спажывання гарэлкі. Янк., Пар., 144.

смáчна як старóму маладáя жóнка. Гл. стары.

Усё вóцат не вóдка, а кумá не жóнка. Гл. водка.

рóбіць як п'я́ны з жóнкай сьпіць. Гл. п'яны.

**без лю́волькі як без жóнкі.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра цяжкасць абыходжання без люлькі для ахвотніка паліць. Federowski, 168.

**язы́к дóўгі як у жóнкі.** *Валож. Насмешл.* Пра балбатлівага, гаваркога мужчыну. ФА.

**Як жóнцы ця́жка радзíць, так скупóму доўг плацíць.** *Прык. Карэл. Насмешл.* Пра скупога чалавека, якому цяжка аддаваць пазыку. АВНЛ.

***жо́рны***
скры́тны як спо́дні жо́рнаў ка́мень. Гл. камень.
ро́ўны як ме́лін у жо́рнах. Гл. мелін.
**тра́піць як у жо́рны.** *Мін.* Пра сітуацыю, у якой чалавека чакаюць значныя выпрабаванні і цяжкасці. ЛЦ, 62.
**Язы́к што жо́рны: перама́лывае і ко́сці.** *Мін. Прык.* Пра абгаворванне чалавека, асуджальныя размовы пра яго. ЛЦ, 47.
**як насле́дняе ў жо́рны засы́паўшы.** *Воран. Спачув.* Пра чалавека, які адчувае сябе забедаваным, разгубленым. Даніловіч, 241.

***жо́рсткі***
няве́стка по́рсткая як се́на жо́рсткае. Гл. сена.

***жу́ржа***
**бе́гаць по́зна як жу́ржа.** *Касц. Асудж.* Пра дзяўчыну, жанчыну недысцыплінаваную, што парушае агульнапрынятыя правілы паводзін. Бялькевіч, 168. < Журжа – распусніца.

***жу́жаль***
**на́да** *каму што* **як жу́жалю бо́чка жы́та.** *В.-Дзв. Насмешл.* Пра нешта непатрэбнае сваёй празмерна вялікай колькасцю. ФА. < Жужаль, жужак – авадзень, хрушч, жук.

***жук***
**конь як жук.** *Нараўл.* Пра каня чорнай масці. СПЗБ 2, 156.
**чо́рны як жук.** *Слон. п.* Пра некага эталонна чорнага. Federowski, 66.
**обсе́лся де́тьми як у жука́ во́кыла ла́пык.** *Смал. Насмешл.* Пра шматдзетнага чалавека. Добр., Смол., 513.
пячы́ як лісі́ца жука́. Гл. лісіца.
**ле́зці** *да каго* **як жукі́ на ку́чу.** *Лях. Няўхв.* Пра празмернаназойлівае, бессаромнае чаплянне мужчын да жанчыны. ФА.
**спа́су няма́** *ад каго* **як ад калара́дскіх жуко́ў.** *Слон. Асудж.* Пра складанасць пазбавіцца ад кагосьці вельмі надакучлівага. Высл., 387.
**траві́ць як жуко́ў.** *Воран.* Пра бязлітаснае пераследаванне кагосьці, чалавека ці групы людзей. Арх. Гр.

***жу́лік***
**круці́цца як жу́лік на кірмашы́.** *Ушацк. Асудж.* Пра неспакойныя, мітуслівыя, насцярожаныя паводзіны каго-н. Барадулін, 108.

***жур***
**вада́ як жур.** *Ваўк. п.* Пра каламутную, густую, з мулам ваду. Federowski, 325.

***жураве́й****, гл.* ***журавель***
**шы́ю вы́цягнуць як жураве́й.** *Зэльв. Насмешл.* Пра занадта цікаўнага чалавека, які выцягвае шыю, каб што-небудзь убачыць. Сцяцко 2005, 43. < Журавей – журавель.

***жураве́ль***
**дзыба́ты як жураве́ль.** *Ваўк. п.* Пра няскладную фігуру даўганогага чалавека. Federowski, 96.
така́я пра́ўда як жураўлі́ ў не́бе. *Ваўк. п. Іран.* Пра не вельмі надзейную праўду. Federowski, 247.

***журaві́на***
**кі́слы як журaві́на.** Пра вельмі кіслы прадукт, кіслую страву. Янк., Пар., 86. < Журавіны – эталон, сімвал кіслага.
**як журaві́н жме́ню глыну́ць.** 1. Пра нейкую няскладную, непрыемную справу. 2. Пра зморшчанага чалавека, з кіслым тварам. Санько, 70.
**бу́льба як журaві́ны.** *Віл. Няўхв.* Пра дробную бульбу. Нар. слов., 139.

***жучо́к*** **што жучкі́ во́ласы.** *Памянш. Хойн. Ухв.* Пра чорныя бліскучыя валасы чалавека. Мат. Гом., IV, 249.

***жува́ць*** но́гі [баля́ць] як саба́кі жую́ць (рвуць). Гл. сабака.

***жыво́т*** **прае́хацца гла́дка як жывато́м па пяску́.** *Рэч. Кплів. Іран.* Пра язду ці наогул работу, выкананую з непрыемнасцямі, нязручнасцямі. ЛЦ, 119.

як та́ркаю па жываце́. Гл. тарка.

**як у ма́тчыным жываце́** *дзе. Лід.* Пра вельмі добрае, спакойнае, без турбот і клопатаў пачуванне сябе, жыццё. Сцяшковіч, 620; Санько, 71; Даніловіч, 259.

**Бяро́ як шчы́рага за сэ́рца, а бага́тага за жыво́т.** *Рэч.* Так кажа цесля, калі яму ўдасца штось капітальна замацаваць. Pietkiewicz, 359 (заўвага збіральніка).

**Галава́ не жыво́т, ка́шай не наб'е́ш.** *Прык.* Пра доўгі і няпросты шлях назапашвання ведаў і вопыту. Янкоўскі, 175.

**крыча́ць як на жыво́т.** *Слуцк. Няўхв.* Пра крыклівую, рэзкую гамонку чалавека. Сержпутоўскі 1999, 137; Санько, 148.

**узяць як бага́тага за жыво́т.** *Жытк.* Пра таго, хто моцна разгневаўся. Аксамітаў, 193; ТС 2, 69.

***жывы́*** хадзі́ць як смерць жыва́я. Гл. смерць.

**бе́гаць як што жыво́е.** *Слон. п.* Пра рухомую дэталь чаго-н. Federowski, 30.

як жыво́е серабро́. Гл. серабро.

**у вача́х** *хто* **стаі́ць як жывы́.** *Івац.* Пра вельмі выразнае ўзгадванне кагосьці. ЗЗайкі.

***жыгу́н*** **вярце́цца як жыгу́н.** *Ушацк. Няўхв.* Пра хуткага, вяртлявага чалавека. ЖНС, 132. < Жыгун – хуткі, вяртлявы чалавек.

***жыд*** **адва́жны як жыд.** *Ваўк. Іран.* Пра палахлівага, ляклівага чалавека. Federowski, 368.

**ашука́ць** *каго* **як жыд бо́га.** *Насмешл.* Пра нейкае мудрагелістае ашуканства, падман. Dybowski, 5.

**ашука́ць** *каго* **як жыд па́на Бо́га.** *Навагр. Насмешл.* Federowski, 368. Тое ж.

**даць як жыд пе́рцу.** *Шчуч., Лід., Воран., Пруж. Іран.* Пра вельмі нязначную колькасць чаго-н. атрыманага, аддадзенага. Даніловіч, 223; ФА.

**дрыжа́ць як жыд на басіне.** *Воран. Насмешл.* Пра нейчыя дрыжыкі. Даніловіч 2008, 136.

**е́сці ў ша́пцы як жыд.** *Віл. Асудж.* Пра чалавека, які парушае этыкет застолля. Sielicki, 186. < Хрысціянін у час застолля у знак павагі здымае галаўны ўбор, у габрэяў, наадварот, галава мусіць быць пакрыта.

**завёўся як жыд у та́нцы.** *Ваўк. Насмешл.* Пра заўзятасць каго-н. у пэўнай справе, гаворцы, лаянцы і г. д. Federowski, 371.

**зарабі́ць як жыд на мякі́не.** *Астр. Іран.* Пра зусім нязначны заробак. Даніловіч, 223.

**зафлёндрыцца як жыд.** *Ваўк. Няўхв.* Пра неахайную брудную вопратку. Federowski, 371.

**лётаць як жыд, бро́вар запалі́ўшы.** *Гродз. Няўхв.* Пра панічную мітусню, бегатню. Цыхун, 185.
**на гро́шы ла́сы як жыд.** *Ваўк. Асудж.* Пра нейчую прагнасць да грошай. Federowski, 369.
**набо́жны як жыд падаро́жны.** *Іран.* Пра не вельмі набожнага чалавека. Нос., 82. < Падарожным габрэям давалася паслабленне ў адбыванні рэлігійных рытуалаў.
**насі́цца як жыд з по́дранікамі.** *Свісл. Няўхв.* Пра чалавека, што займаецца нечым неістотным, непрыемным. Даніловіч, 223. < Габрэі часта былі анучнікамі, збіралі і абменьвалі ўтыль.
**рад як жыд з гары́ е́дучы.** *Іран.* Пра беспадстаўны радасны настрой каго-н. Аксамітаў, 163.
**скупы́ як жыд.** *Наваг. Асудж.* Пра вельмі скупога, дробязнага чалавека. Federowski, 370. < Жыд – эталон скупасці ў народнай творчасці.
**сме́лы як жыд, калі́ ў шко́ле са стра́ху бздзіць (у сінаго́зе).** *Рэч. Іран. Абразл.* Пра палахлівага чалавека. Pietkiewicz, 403.
**спяша́цца як жыд на ша́бас.** *Ваўк. Насмешл.* Пра чалавека ў спешцы, які баіцца спазніцца куды-н. Federowski, 371.
**таргава́цца як жыд.** *Ваўк. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга і настойліва таргуецца нават за дробязі. Federowski, 371.
**трасці́ся як жыд над гаўно́м.** *Ушацк. Асудж. Пагардл.* Пра залішнія клопаты пра нешта малавартаснае. Барадулін, 121.
**трэ́сціся як жыд над ку́чай.** *Шчуч. Няўхв.* Даніловіч, 182. Тое ж.
**фарбава́цца як жыд.** *Ваўк.* Пра чалавека, што мае дачыненне да фарбаў. Federowski, 369. < Раней фарбаваннем займаліся рамеснікі-габрэі.
**хвалі́цца як жыд парха́мі.** *Ваўк. п., Рэч. Іран. Здзекл.* Пра чалавека, які выхваляецца нечым, таго не вартым. Federowski, 369; Pietkiewicz, 403.
**хі́тры як жыд.** *Слон., Ваўк. Няўхв.* Пра вельмі хітрага чалавека. Federowski, 369.
**чу́хацца як жыд.** *Ваўк. Асудж.* Пра чалавека, які не ўмее сябе паводзіць на людзях, чухаецца, скрабецца. Federowski, 369.
**як жыд да Хрыста́** *да каго. Капыл. Няўхв.* Пра благое стаўленне да некага. ДА.
**гро́шай як у жы́да.** *Слон. Ухв.* Пра няўнасць вялікіх грошай, багацця. Dybowski, 9; Federowski, 369.
**падня́ць гоман як жыды́ ў шко́ле.** *Чашн. Насмешл.* Пра гоман, крык, калі людзі гавораць, перабіваючы адзін аднаго. Станкевіч, 171.
**панчо́хі до́ўгія як у жы́да.** *Рэч. Насмешл.* Пра чые-н. доўгія панчохі. Пяткевіч, 477.
узяць як чорт жы́да. Гл. чорт.
**як у жы́да ў то́рбе** *дзе. Маст. Няўхв.* Пра вялікі непарадак у нечым. Даніловіч, 257.

як чорт жы́да з’е́ўшы. Гл. чорт.

**цягну́ць як жыд за жы́дам.** *Ваўк.* Пра людзей, што ўвесь час гуртуюцца, імкнуцца быць разам. Federowski, 369.

жыве́м як браце, раху́емся як жы́дзе. Гл. брат.

**пашэ́нціла як жы́ду з гары́.** *Астр.*, *Ашм. Іран.* Пра чалавека, якому не пашанцавала ў нейкай справе. Аксамітаў, 258; ФА. < Заўвага збіральніка: яўрэі любяць хуткую язду з гары, але часта перкульваюцца.

**бага́тыя як жыды́.** *Слон.* Пра багатых, заможных людзей. Federowski, 368.

**брахлі́выя як жыды́.** *Слон. Няўхв.* Пра людзей, што любяць бясконца лаяцца, спрачацца, перапірацца. Federowski, 368.

**гарміда́р, баццэ жыды́ га́мана б’юць.** *Слуцк. Няўхв.* Пра моцны шум, лаянку, крык, які нагадвае пэўны рытуал габрэяў. Сержпутоўскі 1998, 274.

**загаманí́ць як жыды́ на кірмашы́.** *Слуцк. Насмешл.* Пра моцную, гучную, бязладную гамонку. Сержпутоўскі 1998, 34.

**заўзіма́цца як жыды́ за жыда́мі.** *Ваўк.* Пра рашучае заступніцтва кагосьці за сваіх. Federowski, 371.

**крыча́ць як жыды́ ў шко́ле.** *Ваўк. Няўхв.* Пра крык, незразумелы гоман (як у час малення габрэяў у сінагозе – школе). Federowski, 369.

**ме́нчыць** *каго* **як жыды́ Па́на Бо́га.** *Ваўк.* Пра вялікія пакуты, якія нехта церпіць ад людзей. Federowski, 369. < Алюзія на Хрыстовыя пакуты.

**накі́нуцца** *на каго* **як жыды́ на га́мана.** *Слуцк. Няўхв.* Пра рэзкае бязлітаснае нападзенне на каго-н. Сержпутоўскі 1999, 2.

**расхадзі́цца як жыды́ на дождж.** *Лаг. Насмешл.* Пра залішнюю актыўнасць дзяцей, іх свавольства. Варлыга 1966, 75. < Заўвага збіральніка: жыды на кірмашы шпарка рухаюцца, каб закупіцца да дажджу.

***жы́даў*** як на жы́давым во́зе *на чым*. Гл. воз.

***жыдо́ўка*** **зафлёндрыцца як жыдо́ўка.** *Ваўк. Няўхв.* Federowski, 371. Тое, што зафлёндрыцца як жыд.

**худа́я от бы тая жыдо́ўка, што ану́чы збіра́е.** *Слуцк. Няўхв.* Пра вельмі худую непрывабную жанчыну. Сержпутоўскі 1999, 37.

***жыдо́ўскі*** галасава́ць як у жыдо́ўскай шко́ле. Гл. школа.

як у жыдо́ўскай шко́ле. Гл. школа.

распусці́цця як жыдо́ўская панчо́ха. Гл. панчоха.

распусці́цца як жыдо́ўская пу́га. Гл. пуга.

до́ўгі як жыдо́ўскі пачака́й. Гл. пачакай.

разу́мны як жыдо́ўскі шпе́ктар. Гл. шпектар.

разу́мны як ра́бін жыдо́ўскі. Гл. рабін.

твой січа́с, як жыдо́ўскі за́раз. Гл. зараз.

ціка́вы як жыдо́ўскі па́рабак. Гл. парабак.

як жыдо́ўскі пачака́й. Гл. пачакай.

агню́ як на жыдо́ўскія каля́ды. Гл. каляды.

цягну́цца як жыдо́ўскія ко́ні. Гл. конь.
зрабі́ць як жыдо́ўскую мацу́. Гл. маца.
волочы́цца бы жыдо́ўська коро́ва. Гл. карова.

***жы́жка*** **загарэ́цца як жы́жка.** *Браг. Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі хутка і востра на нешта рэагуе альбо хутка загараецца нейкай ідэяй. З нар. сл., 156. < Жыжка – агонь.

***жыра́ф*** **як да жыра́фа** *да каго. Гродз. Іран.* Пра вельмі маруднае, запозненае разуменне чаго-н. сказанага. Даніловіч, 218.

***жы́та*** на́да як жу́жалю бо́чка жы́та. Гл. жужаль.
прапа́сці як то́рба жы́та. Гл. торба.
седзе́ць як за́яц у жы́це. Гл. заяц.

***жыццё*** **тако́е до́брае як маё жыццё.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта не вельмі добрае. Federowski, 78. < Па звычаі з меркавання засцярогі ніхто пра сваё жыццё не скажа, што яно добрае.

***жыць*** Злосць што лёд: да цяпла́ жыве́. Гл. лёд.
**трэ́ба як жыць.** Пра пільную патрэбу нечага для чалавека. Янк., 433.
**як жыць не збіра́ецца.** *Асудж.* Пра неразважлівыя паводзіны чалавека, нібы ён не думае пра будучыню. Санько, 68.

***жэ́бра*** **худа́я як же́бра.** *Смал. Няўхв.* Пра вельмі худую карову. Добр., Смол., 216.

***жэ́мжа*** **як жэ́мжы.** *Свісл.* Пра вялікую колькасць казявак. СПЗБ 2, 363.

***жэрдзь*** **як жэ́рдзь.** *Краснап. Няўхв.* Пра чалавека вельмі худога, танклявага. Бялькевіч, 239.

***жэ́рдка*** **вуросці ек та жэ́рдка.** *Жытк.* ТС 2, 49. Тое, што высокі як жэрдка.
вы́валіцца як жэ́рдка. *Івац.* ЗЗайкі. Тое ж.
**высо́кі як жэ́рдка.** *Слон.* Пра чалавека празмерна высокага. Высл., 298.
**до́ўгі як жэ́рдка.** *Ваўк. п.* Federowski, 81; Санько, 129. Тое, што высокі як жэрдка.
**худы́ як жэ́рдка.** *Івац. Няўхв.* Пра худога высокага чалавека. ЗЗайкі.

***жэ́ўжык*** **бе́гаить як же́вжик.** *Смал.* 1. *Няўхв.* Пра дураслівае дзіця. 2. *Ухв.* Пра чалавека жвавага, што рухаецца як падлетак. Добр., Смол., 221.

# З

***забі́ты*** як на забі́тай ба́бе. Гл. баба.
накіда́ць як на забі́тую ба́бу. Гл. баба.
**уда́дзіны як забі́ты.** *Лаг.* Пра недапушчальнасць абгаворваць чалавека за вочы, што наносіць яму вялікі ўрон. Varłyha, 140. < Удадзіны – завочна абвінавачаны.
**Чалаве́к працаві́ты спіць но́ччу як забі́ты.** *Прык.* Пра чалавека напрацаванага, што моцна спіць. Jelski, 15.

**спаць як забíтый.** *Мсцісл., Слон., Слаўг. Івац.* Пра чалавека, што моцна, не прачынаючыся, спіць. Янк., 408; Высл., 325; Юрчанка 1993, 121; Нар. слов., 76; ЗЗайкі.

вісéць як на забíтым чóрце. Гл. чорт.

***Заблóцкі*** **вязцí (шанцýе) як Заблóцкаму на мы́ле.** *Тал., Сен., Смарг. Іран.* Пра няўдачу ў планаваных справах, мерапрыемствах. Каспяровіч, 348; Высл., 299; ФА. < З народнага анекдота пра купца Заблоцкага, які вёз на караблі мыла і меркаваў добра зарабіць на ім, але карабель даў цечу і ўвесь яго тавар змыла вадой.

**вы́йграць як Заблóцкі на мы́ле.** *Насмешл. Іран.* Пра чалавека, які меркаваў зарабіць, а растраціўся. Аксамітаў, 144.

**зарабíць як Заблóцкі на мы́ле.** *Валож., Асіп., Астр., Карм., Мін. Іран.* СЦБ, 152; АВНЛ; ЛЦ, 37; ФА. Тое ж.

***забóйня*** **тóўсты што забóйня.** *Слон.* Пра тоўстага, круглага чалавека. Высл., 400. < Забойня – вялікая бочка для захавання жыта.

***завадны́*** **балбатáць як заваднáя.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра гаваркіх, балбатлівых людзей, што гавораць без супынку. Юрчанка 1977, 27.

**талатóніць ек завóдна.** *Жытк.* ТС 5, 132. < Талатоніць – плявузгаць, гаварыць. Тое ж.

***завалíцца*** як за сцянý завалíцца. Гл. сцяна.

***заварóжаны*** **спынíцца** *перад кім/чым* **як заварóжаны.** Пра чалавека, які спыніўся нечым моцна захоплены, уражаны. ФСБМ 1, 157.

***завéдзены*** як завéдзеная машы́на. Гл. машына.

**як завéдзены (-ая, -ыя).** Пра амаль механічныя, аднолькавыя рухі, дзеянні чалавека. ФСБМ 1, 385.

***завéшаны*** не бачу, усё рóўна як палатнóм завéшаны. Гл. палатно.

***завірýха*** злóсны як сóнца ў завірýху. Гл. сонца.

***завóд*** спраў як у Бéрмана на завóдзе. Гл. Берман.

***завóдны*** во якáя курнóсая як завóдная свіння́. Гл. свіння.

***завýглічу*** бéгаць як сабáкі па завýглічу. Гл. сабака.

***завушнíцы*** трэ́ба (патрэ́бны) як свінні́ завушнíцы. Гл. свіння.

пасавáць як свінні́ завушнíцы. Гл. свіння.

***завязáць*** пры́казку скáжа як вузлóм (вýзел) завя́жа. Гл. вузел.

**як завязáна.** *Слон.* Пра поўную адсутнасць апетыту. Высл., 427.

як язы́к завязáў. Гл. язык.

**як завязáць.** 1. *Лоеў.* Пра страту ахвоты да ўсяго. 2. *Мсцісл., Стол.* Пра напаўненне да мажлівага ўзроўню пэўнай тары, часцей мяшка. Янкова, 121; Юрчанка 1977, 212; Барысюк, Буян, 28.

***загáд*** **як па загáду.** Пра дакладнасць, строгасць выканання. НН, 547.

***загáрак*** **ідзé як загáрак.** *Сак. п.* 1. Пра дакладную работу нейкага механізма. 2. Пра чалавека, які з’яўляецца на службу ў адзін і той жа час. Federowski, 122, 128. < Загарак – дыял. гадзіннік.

***загáт*** **у хаце як у загáце.** *Ваўк. п., Гродз. Ухв.* Пра цеплыню ў памяшканні, у хаце. Federowski, 50; Цыхун, 194. < Загата – ацяпленне хаты на зіму.

***зáгваздка*** як катóк без зáгваздкі. Гл. каток.

***заграбáць*** хоць лапáтай заграбáй. Гл. лапата.
як грáды загрóбшы. Гл. грады.

***загрóбны*** плéсціся як цень загрóбная. Гл. цень.

***загумённы*** расшугáкацца як загумённая ворóна. Гл. варона.
сядзéць як загумéнныя варóны. Гл. варона.

***загумéнне*** як вéцер на загумéнні. Гл. вецер.

***задавíцца*** **Ажанíўся як задавíўся.** *Леп. Прык.* Пра адказнасць жаніцьбы, пра яе пераважную незваротнасць у традыцыйным грамадстве. АСЭТ.

***задушы́ць*** прáўда як гóлай дýпай вóжыка задýшыш. Гл. дупа.

***заéздны*** сэ́рца бы заéзджая карчмá. Гл. карчма.
адчыніла гóрла як варóты ў заéзднай карчмé. Гл. вароты.

***зáйцаў*** як зáйцаву галавý з'éўшы. Гл. галава.

***зáйчык*** **бéгаць як зáйчык шэ́ранькі.** *Памянш. Слаўг.* Пра жвавасць, шпаркасць некага, часцей дзіцяці. Высл., 357.
**сíвы як зáйчык.** *Памянш.* Пра некага або нешта мякка-сівога колеру. Высл., 382.

***закажанéць*** **як закажанéў(шы).** *Ушацк. Няўхв.* Пра дзіця малога росту, што вельмі павольна расце. Васюковіч, 200. < У павер'ях, калі на дзіця сядзе кажан, яно больш не вырасце (заўвага збіральніка).

***закáз*** **як на (пад) закáз [зрабíў].** *Рэч. Ухв.* Пра дакладна выкананую задачу, добра зробленую Янк., Пар., 207; Ройзензон, 81.

***закíдваць*** не калёсы закідáць. Гл. калёсы.
éсці як у сячкáрню закíдваць. Гл. сячкарня.

***закíнуць*** **вы́браць як за сябé закíнуць.** Пра чалавека, што лёгка і хутка нешта з'еў. МК, 310.
**жыць як за сябé закíнуць.** *Ухв.* Пра чалавека, які добра жыве, якому ўсяго дастаткова. Ройзензон, 70.
**з'éсці як за сябé закíнуць.** *Стаўб.* Federowski, 356; Янк., Пар., 74; Янк., 444; Нар., 169. Тое, што вы́браць як за сябé закíнуць.

***закладáць*** грыбóў, хоць касý закладáй. Гл. каса.

***закля́ты*** **рабíць як закля́ты.** *Няўхв.* Пра надсадную працу без адпачынку. ФСБМ 1, 398.

***закóн*** **як закóн.** *Гродз. Ухв.* Пра абавязковае, несумненнае, пэўнае выкананне нейкіх абавязкаў, спраў. Даніловіч, 224.

***закрутка*** *хто* **такí хазя́ін, як ад пустóга дóму закрýтка.** *Астр. Асудж.* Пра дрэннага гаспадара, ад якога няма ніякай карысці. СПЗБ 5, 280.

***закры́ць*** Прáўда – як сóнца: далóнню не закры́еш. Гл. сонца.
як гэ́тыя дзвéры адкры́ць/закры́ць. Гл. дзверы.

***закýска*** **Сыр не закýска, кум не свая́к.** *Гродз., Свісл. Прык. Жарт.* Пра няздатнасць сыру выступаць у ролі закускі і немагчымасці замяніць сваяка кумам. Сцяшковіч, 609.
даць як зáйцу на закýску. Гл. заяц.
націскáць як п'я́ніца на закýску. Гл. п'яніца.

***залá*** **прычапíцца як залá.** *Ашм. Няўхв.* Пра назойлівага чалавека. СПЗБ 2, 222. < Зала – тут: попел.

***залéза**, гл. **жалеза***

***замáзаць*** маўчáла б як гаўном рот замáзаўшы. Гл. гаўно.

***замалявáць*** як *хто каму* гýбу замалявáў. Гл. губа.

***замóрскі*** перанімáць як замóрская кікíмара. Гл. кікімара.

***зáмуж*** збірáцца як папóўна зáмуж. Гл. папоўна.
убірáцца ек попóўна зáмуж. Гл. папоўна.

***замясíць*** што цéста: як замясíў, так і вы́расла. Гл. цеста.

***запáлак*** *з кім* **пасвары́цца як запáлак запалíць.** *Івац.* Пра дачыненні са сварлівым, схільным да скандалаў чалавекам. ЗЗайкі.

***запалíць*** лётаць як жыд, брóвар запалíўшы. Гл. жыд.
*з кім* пасвары́цца як запáлак запалíць.

***запíска*** глядзéць як бара́н на запíску. Гл. баран.

***запрагáць*** здарóвы, хоць ты ў плуг запрагáй. Гл. плуг.
Шчáсце не конь – у аглóблі не запражэ́ш. Гл. конь.

***запрадáны*** **Удáны як запрадáны.** *Прык.* Пра незайздросны лёс абылганага чалавека. Нос., 166; Federowski, 317. Носович, 651. Матэрыялы 1981, 124. < Уданы – абгавораны, абылганы, той, на каго ўзведзены паклёп. Гэта чалавек, выдадзены ўладам, а, значыць, прададзены некім.

***зáраз*** **твой січáс як жыдóўскі зáраз.** *Ушацк. Іран.* Пра чалавека, які нешта абяцае, але доўга даводзіцца гэтага чакаць. Барадулін, 105.

***зарáза*** **бая́цца** *чаго* **як зарáзы.** Пра страх нечага благога, небяспечнага, непрыемнага. Янк., Пар., 13.
**уцякáць** *адкуль* **як ад зарáзы.** *Ваўк.* Пра хуткія, рашучыя ўцёкі аднекуль. Federowski, 317.

***зарвáць*** **змоўк як зарвáло** *каму. Слон. Здзекл.* Пра чалавека, які гаварыў нешта непрыемнае, але нарэшце сціхнуў. Высл., 330.

***зарóслы*** твар як мóхам зарóслы. Гл. мох.

***зарýчаны*** **сядзéць як заручóная.** Пра ціхае, спакойнае, задуменнае пачуванне каго-н. Янк., Пар., 161.

***зарэ́з*** **кармíць як на зарэ́з.** Пра вельмі сытнае, багатае кармленне каго-н. БПФС, 93.
упірáцца як вол, якóга вядýць на зарэ́з. Гл. вол.

***зарэ́заны*** **крычáць (храпсцí) як зарэ́заны.** *Ваўк. п., Смал. Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі моцна адчайна крычыць. Federowski, 55; Добр., Смол., 624.
**спаць бы зарэ́заны.** *Слуцк.* Пра нейчы моцны беспрабудны сон. Сержпутоўскі 2000, 95.

***засáда*** нарвáцца як нéмцы на засáду. Гл. немец.

***зáсек*** прытаíцца як пацýк у пусты́м зáсеку. Гл. пацук.

***засéяць*** так ціха сядзíць як мак засéялі (засéяўшы). Гл. мак.

***зáсланка*** **бéлы як зáсланка.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта чорнае, закапцелае. Federowski, 31.
**блішчáць як зáсланка.** *Шчуч. Іран.* Сцяшковіч, 579. Тое ж.
**плéчы як зáсланка.** *Івац., Лун.* Пра шырокія плечы. Янк., 421; Ззайкі; Гілевіч 2007, 213.
**чóрны як зáсланка.** *Ваўк. п., Жытк.* Пра нешта вельмі чорнае. Federowski, 66; ТС 2, 101.

угляда́цца як чорт у за́сланку. Гл. чорт.
круці́цца як вош на за́сланцы. Гл. вош.

***засну́ць*** **трэ́ба як засну́ць.** Пра нешта вельмі патрэбнае, неабходнае чалавеку. Янк., 433.

***засты́ць*** **як засты́ў.** *Івац.* Пра кагосьці, хто раптам знерухомеў, спыніўся, змоўк. ЗЗайкі.

***засцянко́вы*** го́нару як у засцянко́вай шляхця́нкі. Гл. шляхцянка.

***засыпа́ць*** рот, хоць карто́плю засыпа́й. Гл. картопля.
як пасьле́дняя ў жо́рны засы́паўшы. Гл. паследняе.

***затка́ла*** **ба́ба як затка́ла да ко́міна.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра непрыемную, неахайную, магчыма, чарнявую кабету. Federowski, 11. < Заткала – засланка.
**стая́ць як затка́ла.** *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, які стаіць на дарозе, перашкаджае іншым. Сцяшковіч, 615.

***затыка́ць*** хоць ву́шы затыка́й. Гл. вуха.

***заты́чка*** *кім* **бы заты́чкою усі дырке́ затыка́ють.** *Драг. Няўхв.* Пра ўзвальванне розных абавязкаў на аднаго і таго ж чалавека. Лучыц-Федарэц, 222.
*з каго* хазя́йка як ад пустой бо́чкі заты́чка. Гл. бочка.
**патрэ́бна** *што каму* **як заты́чка ад во́за.** *Бераст. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Даніловіч, 224.
**су́нуцца зза́ду як заты́чка.** *Маладз. Зневаж.* Пра чалавека, які неадступна праследуе кагосьці. Гілевіч 2007, 70.

***за́ўтра*** Рабо́та не мядзве́дзь: мо́жна за́ўтра паглядзе́ць. Гл. мядзведзь.
**трэ́ба як за́ўтра паміра́ць.** *Дзярж. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ФА.
**як на за́ўтра трэ́ба.** *Пруж., Жабін. Няўхв.* Пра марудны, няспешны тэмп работы. АВНЛ; Босак, 29; Ганчук, Касцючык, 85.

***заце́рка**, гл.* ***заці́рка***

***заці́рка*** ля́снуць як пяру́н у заце́рку. Гл. пярун.
сказа́ць як пяру́н у заце́рку. Гл. пярун.
**Дзеўка не заці́рка: не асты́не.** *Нараўл. Прык. Жарт.* Пра недапушчальнасць паспешлівасці пры жаніцьбе. АВНЛ.
дапа́сці як дурны́ да заці́ркі. Гл. дурны.
набра́цца як ду́рань (му́рза, саба́ка) заці́ркі. Гл. дурань.
ратава́цца як пруса́к з заці́ркі. Гл. прусак.
накі́нуцца як ду́рань на заці́рку. Гл. дурань.
уля́пацца як му́рза ў заці́рку. Гл. мурза.
ума́зацца як му́рза ў заці́рку. Гл. мурза.
круці́цца як пруса́к у заці́рцы. Гл. прусак.

***зацяло́*** **змо́ўкнуць як зацяло́.** *Слон. Зласлів.* Пра чалавека, якога перамаглі ў спрэчцы, якому не хапіла аргументаў і які канчаткова змоўк. Высл., 330.

***зачарава́ны*** **як зачарава́ны.** Пра чалавека, які нешта робіць і гаворыць як бы не па сваёй волі. Санько, 69.

***зачыні́ць*** Чужы́ рот не хлеў – не зачы́ніш. Гл. хлеў.

***зашпілі́ць*** чужы́ ро́цік не каўне́рык – яго не зашпі́ліш. Гл. каўнерык.

***за́шчыт*** **гаво́рыць як за́шчыт у судзе́.** *Беласт. Ухв.* Пра чалавека, які ўмее складна і лагічна гаварыць. «Ніва», 1978, № 40.

***зашыты*** маўчы́ць, нібы́ *ў каго* рот зашы́ты. Гл. рот.

***за́яц*** **во́чы заспа́ныя як у за́йца.** *Ушацк. Іран. Жарт.* Пра шырока адкрытыя вочы. Барадулін, 121. < Заяц нават у сне не заплюшчвае вочы.

**ву́шы як у за́йца.** Пра доўгія вузкія вушы ў якой-н. жывёліны. Янк., Пар., 28.

**па́мяць як у за́йца хвост.** *Рэч.*, *Гом. Насмешл.* Пра кароткую, слабую памяць у чалавека. ЛЦ, 73; АВНЛ.

пяе́ як сава́ за́йца выклíкáе. Гл. сава.

разарва́ць *каго* як сабáкі за́йца. Гл. сабака.

**свато́ў як у за́йца ламо́ў.** *Ваўк. п.*, *Сен.* Пра вялікую колькасць сватоў да дзяўчыны, якія, аднак, не спяшаюцца жаніцца. Federowski, 80; Каспяровіч, 179; Нос., 167. < Ламы – куча галля ў лесе.

**сме́ласці як у за́йца.** *Мсцісл. Жарт. Іран.* Пра зусім нязначную смеласць і адвагу каго-н. Юрчанка, 200.

**тако́е са́ла як у за́йца пер’е.** *Мін.*, *Віл. Іран.* Пра адсутнасць сала ў кабана. Высл., 398.

*у каго* **дамко́ў як у за́йца ламко́ў.** *Ушацк.* Пра бадзягу, які, дзе спыніцца, там днюе і начуе. Аксамітаў, 183; Барадулін, 93.

*у каго* **даўго́ў як у за́йца ламо́ў.** *Ушацк. Жарт.* Пра вялікую колькасць даўгоў у каго-н. Барадулін, 93.

**уле́тку ноч (каро́тка) як у за́йца хвост.** *Слон.* Пра кароткую летнюю ноч. Янк., 435; Высл., 405.

**даць як за́йцу на заку́ску.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра нешта ў малой колькасці. Federowski, 73.

**патрэ́бен** *каму што* **як за́йцу стоп-сігна́л.** *Слон.*, *Нясв. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Высл., 362; ФА.

**трэ́ба** *каму што* **як за́йцу аквала́нг.** *Лід. Іран.* Даніловіч, 224. Тое ж.

**трэ́ба** *каму што* **як за́йцу скры́пка.** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка, 183. Тое ж.

**трэ́ба** *каму што* **як за́йцу хля́сцік.** *Дзятл.*, *Люб. Іран.* Даніловіч, 224. Тое ж.

**Абе́д не за́яц, не ўцячэ́.** *Лід. Прык.* Пра непатрэбнасць паспешлівасці да абеду, з якім можа пачакаць. АВНЛ.

**вы́скачыць як за́йіць.** *Кам. Насмешл.* Пра нечаканае з’яўленне каго-н. ЖНС, 77.

**вы́скачыць як за́яц з крапíвы.** БПФС, 94. Тое, што выскачыць як зайіць.

**вы́скачыць як за́яц з-пад ку́піны.** Санько, 71. Тое ж.

**гадава́цца як за́яц у капу́сце.** *Іўеў. Жарт.* Пра добрае, у дастатку гадаванне дзіцяці. Высл., 301.

**глядзе́ць як за́яц на бе́лку.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра здзіўлены, няўцямны позірк на каго-н. Юрчанка, 184.

**дагадзíць як зáяц кабы́ле.** *Вілен. Іран. Насмешл.* Пра адсутнасць якога б ні было дагаджэння. Sielicki, 158.
**даць як зáяц кабы́ле.** *Гродз. Іран.* Пра зусім слабы, неадчувальны ўдар каму-н. альбо пра малую колькасць дадзенага, падараванага. Даніловіч, 225.
**ёмкі як зáяц.** *Сміл.* Пра хуткага, спрытнага чалавека. Шатэрнік, 76.
**задáць пы́лі як зáяц кабы́ле.** *Ваўк. п., Клім., Касц., Шкл. Іран.* Federowski, 83, 73; Нос., 31; Бялькевіч, 300; Высл., 357; ЛЦ, 106. Тое, што даць як заяц кабыле.
**круцíцца як зáяц у пятлí.** *Мал., Брэсц., Рэч., Мін.* Пра чалавека, што актыўна дзейнічае ў нязручнай сітуацыі. ЛЦ,30.
лю́ты як галóдны воўк, а баязлíвы як зáяц. Гл. воўк.
**мітусíцца як падсмáлены зáяц.** *Мін., Рэч., Чэрык. Здзекл.* Пра бязмэтавую, рэзкую, няўцямную мітусню каго-н. ЛЦ, 72.
**навастры́ць вýшы як зáяц.** *Мін. Жарт.* Пра чалавека, што пільна прыслухоўваецца. ЛЦ, 72.
**наплýтаць як зáяц слядóў.** *Маг. Няўхв.* Пра чалавека, які наўмысна нешта плутае, блытае. Высл., 352.
**падхапíцца як зáяц з-пад кýпіны.** *Жарт.* Пра чалавека, які порстка ўскочыў, прахапіўся, узнік. Янк., Пар., 122.
**палахлíвы (баязлíвы, труслíвы) як зáяц.** *Мсцісл., Клецк. Няўхв.* Пра баязлівага чалавека. Бялькевіч, 445; Янк., Пар., 15; Высл., 360. < Заяц – сімвал палахлівасці.
**памагчы́ як зáяц кабы́ле.** *Ваўк. п., Івац. Іран.* Пра адсутнасць якой ні было б дапамогі. Federowski, 215; ЗЗайкі.
**памагчы́ як зáяц кабы́ле воз падцягнýць.** *Воран. Іран. Жарт.* Даніловіч 2008, 136. Тое ж.
**паспáць як зáяц пад мяжóй.** *Зэльв.* Пра зусім нядоўгі, кароткачасовы сон. Даніловіч, 225; Леп., 86.
**пáцеры не зáяц, не ўцякýць.** Пра магчымасць троху адкласці вымаўленне пацераў. Federowski, 207.
**пéрці як зáяц.** Пра імклівы бег каго-н. Янк., Пар., 135.
**пятля́ць як зáяц на снéзе.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які не гаворыць праўды, выкручваецца. ЛЦ, 53.
**Рабóта не зáяц – не пабяжы́ць.** *Прык.* Пра магчымасць троху адкласці работу. Federowski, 255.
**седзéць як зáяц у жы́це.** Пра знаходжанне ў бяспечным месцы. Киркор, 238; Нос., 159; Аксамітаў, 205.
**скакáць як зáяц на балóце – з кýпіны на кýпіну.** *Мін.* Пра вымушанасць чалавека рабіць пэўныя імклівыя крокі. ЛЦ, 122.
**спаць як зáяц.** *Мін., Ашм.* Пра нейчы чуйны, насцярожаны, неспакойны сон. ЛЦ, 122; ФА.
**спаць як зáяц пад кустóм.** *Рэч., Смарг.* ЛЦ, 58; Даніловіч, 225; Леп., 86. Тое ж.
**спры́тны як зáяц.** *Светл. Ухв.* Пра спрытнага, увішнага, хуткага чалавека. Высл., 388.

**схавáцца як зáяц пад баранý.** *Смарг. Іран.* Пра такі схоў, калі ўсё бачна. СПЗБ 5, 30.

**сядзéць (прытаíцца) як зáяц пад мяжóю.** *Ваўк., Слон., Свісл. Насмешл.* Пра чалавека, які дзесь прытаіўся, сцішыўся. Federowski, 275; Гілевіч, 166.

**унáдзіцца як зáяц у капýсту.** *Драг. Насмешл.* Пра чалавека, які па ўнутраным памкненні недзе часта бывае, куды яго цягне. Янк., Пар., 174; Нар. лекс., 222.

**уцякáць як зáяц ад сабáкі.** *Ваўк. п., Рэч. Насмешл.* Пра вельмі імклівыя, панічныя ўцёкі ад кагосьці. Federowski, 317; Pietkiewicz, 396.

**як заяц.** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка, 184. Тое, што палахлівы як заяц.

Як кот шкадлíвы, а як зáяц баязлíвы. Гл. кот.

**як п'яны зáяц.** *Маст. Насмешл.* Пра чалавека, які выхваляецца, задаецца на пустым месцы толькі ў п'яным стане. Сцяшковіч, 618.

***збавéнне*** **жадáць (чакáць)** *што* **як збавéння душы́.** *Ваўк. п.* Пра вельмі моцнае, шчырае чаканне чаго-н. Federowski, 362, 65.

***збан*** Гавóрыць як у скры́пку іграе, а рóбіць як у разбíты збан брáзгае. Гл. скрыпка.

нік! як сýчка ў збан. Гл. сучка.

**стýкаць як у пусты́ збан.** *Мін.* Пра моцны гук з характэрным глухім тэмбрам. ЛЦ, 66.

улéзці як сабáка ў збан. Гл. сабака.

уткнýцца як сýчка ў збан. Гл. сучка.

бльітацца як сабáка ў збáне. Гл. сабака.

***збанóк*** **трýтні [у гэтам вýляі] як збанкí.** *Слон. Няўхв.* Пра тоўстых, тлустых трутняў. Высл., 401.

***збанóчак*** як Кéранскі са збанóчкам. Гл. Керанскі.

***збізумéлы*** **хадзíць як збізумéлый.** *Краснап. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе неразумна, нагадвае вар'ята. Бялькевіч, 187.

***збірáцца*** **як жыць не збірáецца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што паводзіць сябе бесклапотна, абыякава. Санько, 68; Юрчанка 1977, 49.

***збірáць*** ідзé бы́тта грóшы збірáе. Гл. грошы.

от бы тáя жыдóўка, што анýчы збірáе. Гл. жыдоўка.

вíдна ноч, хоць шпíлькі збірáй. Гл. шпілька.

вíдно, хоць гóлкі збірáй. Гл. іголка.

***збіць*** сы́ты як кýкамі збíты. Гл. кука.

таўстáя як кýкамі зьбíта. Гл. кука.

як чорт лапáтай збіў. Гл. чорт.

***збрóдлівы*** вéрыць як збрóдліваму сабáку. Гл. сабака.

як збрóдлівы кот *хто*. Гл. кот.

дагадзíць як збрóднай сýчцы вáрам. Гл. сучка.

***збыць*** спаць як тавáр збы́ўшы. Гл. тавар.

***збянтэ́жаны*** бéгаць як збянтэ́жаны Сáўка. Гл. Саўка.

як збянтэ́жаны Сáўка. Гл. Саўка.

***звалíцца*** навíнá як гром з я́снага нéба звалíлася. Гл. гром.

як гарá з плеч звалíлася. Гл. гара.

як сто пудóў звалíлася *з каго*. Гл. пуд.

ажаніўся як з пе́чы зваліўся. Гл. печ.
жаніўся як ду́рань з пе́чы зваліўся. Гл. дурань.
з'е́хаў на чужы́ну як зваліўся ў дамавіну. Гл. дамавіна.
як з ду́ба зваліўся. Гл. дуб.
як з ме́сяца зваліўся. Гл. месяц.
як з не́ба зваліўся. Гл. неба.
*хто* як цыга́н: як надзе́ніць надзе́тку яку́ю, паку́ль ня зва́ліцца – но́сіць. Гл. цыган.

***зваліць*** уда́рыць як з палкі зва́ліць. Гл. палка.

***званіць*** як у званы́ зво́няць. Гл. звон.

***званко́вы*** як туз званко́вы. Гл. туз.

***звано́к*** **галасо́к як звано́к.** *Памянш. Ухв.* Пра звонкі, выразны, гучны голас. Янк., Пар., 37.
**ляску́чы як звано́к.** *Памянш. Пін.* 1. Пра нешта звонкае. 2. Пра чалавека, які шмат і пустога гаворыць. Нар. лекс., 110.
**бра́зкаць ек звоне́ц.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які гучна гаворыць, але пустое. ТС 1, 79.

***звано́чак*** **як звано́чак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра вясёлае дзіця. Юрчанка, 197.

***зва́раны*** **як зва́раны.** *Слон., Навагр.* 1. Пра чалавека, які пачырванеў. 2. Пра разамлелага чалавека. Высл., 427; Даніловіч 2008, 136.

***звер*** **бе́гаць як лю́ты звер.** *Смал. п. Асудж.* Пра злоснага, агрэсіўнага чалавека. Добр., Смол., 43.
**вы́скаліць зу́бы як звер.** *Сен. Асудж.* Пра каго-н., хто моцна і злосна агрызаецца. Каспяровіч, 67.
**вы́скачыць як раз'юшаны звер.** *Лаг. Асудж.* Пра нечаканае нападзенне чалавека на кагосьці. Varłyha, 114.
**вярну́ць як звер.** *Глыб.* Пра чалавека, які многа і цяжка працуе. СПЗБ 5, 432.
**гало́дны як звер.** *Слон.* Пра моцна згаладнелага чалавека. Высл., 302.
**глядзе́ць як звер [які].** *Краснап., Старадар. Асудж.* Пра погляд злоснага, агрэсіўнага чалавека. Бялькевіч, 188; АВНЛ.
**Губа́ як звер: ніко́лі ёй не вер.** *Старадар. Прык. Іран.* Пра немагчымасць верыць усяму сказанаму кімсьці. АВНЛ.
**здаро́вы як звер.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага, моцнага, вынослівага чалавека. Юрчанка, 184.
**зло́сны як звер.** *Мсцісл. Няўхв.* Янк., Пар., 75; Юрчанка, 184. Тое, што як звер люты.
**кре́пкій як зьверь.** *Мсцісл. Ухв.* Пра моцнага, здаровага каня. Юрчанка 1993, 215.
**одзіно́кі чолове́к шо звер.** Пра самотнага чалавека без падтрымкі і спагады. ЛА, 30.
**поню́ры чолове́к як звер.** *Стол. Няўхв.* Пра панурага, змрочнага чалавека. ТС 4, 162.
**шалёны як звер.** *Івац. Асудж.* Пра злога, раз'юшанага чалавека. *ЗЗайкі.*
**як звер лю́ты.** *Касц. Асудж.* Бялькевіч, 255. Тое ж.

*звераня́* **глядзе́ць з-пад ілба́ як звераня́.** *Краснап. Няўхв.* Пра насцярожаны, непрыветны погляд. Бялькевіч, 188.

*зве́яць* нямá як ве́цер зве́яў. Гл. вецер.

*звон* **дзе́раво як звон.** *Івац. Ухв.* Пра лесаматэрыял добрай якасці. ЗЗайкі. < «Стукняш сакераю па дзераві, ажно звініць» (прыклад інфарманта).

**звіне́ць як звон.** *Слон.* 1. Пра дасканала зробленую рэч. 2. Пра гучную, звонкую гутарку чалавека. Высл., 326.

**раскалыха́цца як бра́цкі звон.** Пра чалавека, які надта разышоўся, разгаварыўся, раскрычаўся. Санько, 179.

**ха́та (зруб, пастро́йка) як звон.** *Докш.*, *Мсцісл. Ухв.* Пра зграбную, якасную новую пабудову. Янк., Пар., 181; Высл., 408; Янк., 410; Юрчанка 1969, 148.

**як звон.** *Гродз. Ухв.* Пра нешта вельмі добрае, высокай якасці, з добрага матэрыялу. Цыхун, 175.

**як у звон б'юць.** *Смал.*, *Мсцісл.* Пра актыўнае абмеркаванне чаго-н. грамадой людзей. Добр., Смол., 263; Юрчанка 1977, 219.

**як у званы́ зво́няць.** *Краснап.* Бялькевіч, 8. Тое ж.

*звя́заны* **галасава́ць бы звя́заны.** *Драг. Няўхв.* Пра крыклівага чалавека. Нар. лекс., 225.

*звяза́ць* **сказа́ў як звяза́ў (ска́жа як звя́жа).** 1. Пра вынясенне канчатковага прысуду, канчатковага рашэння. Аксамітаў, 136; ЛЦ, 66. 2. *Лід.*, *Іўеў.*, *Нараўл. Ухв.* Пра нешта сказанае дасціпна, трапна. Даніловіч, 226; ФА; АВНЛ; ЗЗайкі.

*згарэ́ць* **як згарэ́лі.** *Мсцісл.* Пра поўнае знікненне чаго-н. Юрчанка 1977, 39.

як на агні́ згарэ́ць. Гл. агонь.

*зглáдзіць* як вадо́ю зглáдзіла. Гл. вада.

*згля́нуць* **як згля́нуць во́кам.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.* Пра адлегласць у межах бачнасці чалавекам. Federowski, 75; Сержпутоўскі 1999, 18.

*згубі́ць* азірáцца як сабáка на кірмашу́, згубі́ўшы гаспадарá. Гл. сабака.

*згуля́ць* Век звекавáў як адзін дзень згуля́ў. Гл. адзін.

*здань* **хадзі́ць** *за кім* **як здань.** *Чэрык. Няўхв.* Пра чалавека, які неадступна і ціха трымаецца ля іншага. Бялькевіч, 190.

**як здань з таго́ све́ту** *хто. Няўхв.* Пра чалавека альбо вельмі худога, альбо страшнага. Янк., 444.

*здаро́ўе* Пáнская хваро́ба як бе́днага здаро́ўе. Гл. бедны.

**твая хваро́ба як маё здаро́ўе.** Пра аднолькавае стаўленне двух субяседнікаў да свайго здароўя, калі нараканні хворага не прымаюцца здаровым. Янук., 30.

*здо́бны* ламáцца як здо́бны грыб. Гл. грыб.

*здо́ены* **хадзі́ць ек здо́ены.** *Стол. Насмешл.* 1. Пра чыюсьці лёгкую, увішную хаду. 2. Пра кагосьці панурага, заклапочанага. ТС 2, 146.

*здо́хлы* расцягну́ць як сабáкі здо́хлага каня́. Гл. сабака.

важдáцца як кот са здо́хлай мы́шшу. Гл. кот.

хы́раць як здо́хлая аўцá. Гл. аўца.

*здо́хнуць* бы коро́ва здо́хла. Гл. карова.

*збру́я* Дзе́ўка – не конь, збру́ю не надзе́неш. Гл. конь.

***здуць*** як вéтрам здýла (змяló, знясló) [ягó адéтуля]. Гл. вецер.

***здых*** спявáць як кýрыца на здых. Гл. курыца.

***здыхáнне*** дакýчлівы як асéнняя мýха пéрад здыхáннем (як авадзéнь). Гл. муха.

кусáцца (куслíвая) як асéнняя мýха пéрад здыхáннем. Гл. муха.

***здыхатá*** як кýрыца на здыхатý. Гл. курыца.

***здыхлíна*** **смярдзéць як здыхлíна.** *Няўхв.* Пра непрыемны рэзкі пах, смурод. Высл., 386.

***зды́хля*** **хадзíць як зды́хля.** *Кір. Зласл.* Пра ціхага вялага альбо вельмі худога чалавека, які павольна ходзіць і марудна працуе. Матэрыялы 1981, 37.

***здыхля́ціна*** злятáцца як варóны на здыхля́ціну. Гл. варона.

***зéлле*** **Гóра як зеллё: кóлькі не рві – кóжны год нóвае.** *Прык.* Пра немагчымасць назаўсёды пазбавіцца ад гора. Арх. Гр.

прапáсці як кураня́ ў зéллі. Гл. кураня.

На вякý як на дóўгай нíве: зéлля, якóга хóчаш. Гл. ніва.

***землямéр*** **напíцца як землямéр.** *Рэч. Няўхв.* Пра моцнае ап’яненне каго-н. Pietkiewicz, 385.

***зéркала*** **вадá чы́стая як зéркала.** *Светл. Ухв.* Пра чыстую, празрыстую паверхню вадаёма. Высл., 290.

**як [о то] зéркала: такáя хорóшая стáла.** *Лоеў. Ухв.* Рэдка. Пра поўную, прыгожую жанчыну. Янкова, 273.

прычапíцца як п’я́ны к зéркалу. Гл. п’яны.

**Кішкá ня зеркыла, што ўпёр, абы ня керкала.** *Прык.* Пра магчымасць з’есці і не вельмі прыгожыя знешне стравы, абы быць сытым. Романов 1901, 69.

***зéрне*** **дрóбненькі як мáкавае зéрне.** *Асіп.*, *Івац.* Пра нешта вельмі дробнае, маленькае. ДА; ЗЗайкі.

папáсціся як сляпóй кýрыцы зéрне. Гл. курыца.

пашанцавáла як сляпóй кýрыцы знайсцí зéрне. Гл. курыца.

чуць ек муш зéрнета. Гл. мыш.

**падóбны як два пшанíчныя зéрні.** *Мін.* Пра вельмі падобных адзін да аднаго людзей, прадметы. ЛЦ, 73.

янá як каласóк без зéрня. Гл. каласок.

надýцца як мыш на зярнó. Гл. мыш.

як сляпóй кýрыцы зярня́ <на смéтніку>. Гл. курыца.

***зéрнятка*** **з мáкава зéрнятка.** *Памянш. Слон.* Высл., 321. Тое, што дробненькі як макавае зерне.

***з’éсці*** залгáць як хлéба з мáслам з’éсці. Гл. хлеб.

лёгка як абарáнак з’éсці. Гл. абаранак.

лёгка як хлéба з мáслам з’éсці. Гл. хлеб.

насíцца як кóшка з жáбай: гáдка з’éсці і шкадá кíнуць. Гл. кошка.

У мéсце, як у цéсце, не купíўшы – не з’éсці. Гл. цеста.

мазуру бíцца, так як лю́дям хлеб з мáслам з’есць. Гл. хлеб.

*хто* як кот: скóлькі вéсіць, стóлькі з’есць. Гл. кот.

вы́чысціць як конь у жóлабе – усё з’éсці. Гл. конь.

**напíўся вады́ як з’еў поў бяды́.** *Ваўк. п.* Пра адчуванне палёгкі пасля піцця. Federowski, 325.

праўда як саба́ка сяке́ру з’еў. Гл. сабака.
така́я пра́ўда як саба́ка сяке́ру з’еў і дзёгцем запі́ў. Гл. сабака.
бе́гаць як за́йцаву галаву́ з’е́ўшы. Гл. галава.
(лётаць) уцякаць як за́йцаву галаву́ з’е́ўшы. Гл. галава.
гавары́ць як дурні́цаў з’е́ўшы. Гл. дурніцы.
лята́ць як чо́рта з’е́ўшы. Гл. чорт.
распаўзлі́ся як мы́шы, стог з’е́ўшы. Гл. мыш.
смяя́цца як по́дмазку з’е́ўшы. Гл. подмазка.
стая́ць як лом з’е́ўшы (глыну́ўшы). Гл. лом.
як дзёгцю з’е́ўшы. Гл. дзёгаць.
як му́ху з’е́ўшы. Гл. муха.
як мы́ла з’е́ўшы. Гл. мыла.
як чорт жы́да з’е́ўшы. Гл. чорт.

***зеўзю́ля**, гл.* **зязю́ля**

***зёрнышка*** **як ма́кавае зёрнышка [дробнае].** *Памянш.* Никифоровский, 149. Тое, што дробненькі як макавае зерне.

***зіма*** заняло́ як жа́бе на зі́му. Гл. жаба.
**бая́цца** *каго* **як такрочнай зімы́.** *Воран. Іран.* Пра поўную адсутнасць боязі перад іншым. СПЗБ 5, 79.

***зімо́вы*** з’яўля́цца як зімо́вае со́нейка. Гл. сонейка.
Удаўцо́ва і ўдаві́нае сэ́рца як зімо́вае со́нца, а малайцо́ва і дзяво́цкае як ле́тняе со́нца. Гл. сонца.

***зімо́й*** заняло́ (зарва́ла) як жа́бе зімо́ю. Гл. жаба.
**пяро́ скрыпі́ць бы зімо́ю ла́паць.** *Слуцк.* Пра характэрны скрып пяра. Сержпутоўскі 2000, 88.
садо́к ле́там што кажу́х зімо́ю. Гл. кажух.
спаць як кот зімо́ю. Гл. кот.

***злаві́ць*** рад як бы бо́га за но́гі злаві́ў. Гл. бог.

***злажы́ць*** Жыццё пражы́ць – не ка́зку злажы́ць. Гл. казка.

***зле́зці*** як з ме́сіка злез (зле́зшы). Гл. месік.

***зле́плены*** як з це́ста зле́плены́й. Гл. цеста.

***злізаць*** як каро́ва языко́м злізала. Гл. карова.
няма́ як вол языко́м злізаў. Гл. вол.
як вол злізаў. Гл. вол.

***зло́дзей*** **агляда́цца як зло́дзей у чужы́м двары́.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 47. Тое, што глядзець як злодзей.
**вуро́сці як поле́скі зло́дзей.** *Стол.* Рэдка. Пра надта высокага чалавека. ТС 4, 141.
**гаспада́рыць як зло́дзей у чужо́й кле́ці.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які прысвойвае сабе нешта з чужой уласнасці. ЛЦ, 48.
**глядзе́ць як зло́дзей.** *Асудж.* Пра чалавека, які нешта вышуквае, запамінае, адсочвае. Янк., Пар., 41.
**ісці́ азіра́ючыся як зло́дзей.** *Сміл., Слон. Няўхв.* Ісці азіраючыся, быццам баючыся пагоні. Шатэрнік, 16; Высл., 331.
**хі́тры як зло́дзей.** *Няўхв.* Пра вельмі хітрага чалавека. Янк., Пар., 182.
**цікава́ць як зло́дзей.** Янк., Пар., 188. Тое, што глядзець як злодзей.

**Іва́ну ў кафта́не што зло́дзею ў карма́не.** *Мін.* Пра чалавека, якому ў гэтым адзенні ўтульна, камфортна, прыемна. ЛЦ, 107.

**во́чы [бе́гаюць] як у зло́дзея.** *Івац., Слуцк., Мсцісл. Няўхв.* Пра няшчыры, бегаючы, вінаваты пагляд. Сержпутоўскі 1999, 88; Янк., Пар., 27; Юрчанка, 1993, 288; ЗЗайкі.

**за́рыцца як на зло́дзея.** *Касц. Няўхв.* Пра чый-н. падазроны погляд. Матэрыялы 1981, 35.

**кішэ́нь як у пале́скага зло́дзея.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра вялікія кішэні ў нейкай вопратцы. Federowski, 214.

**па́льцы до́ўгія як у зло́дзея.** *Рэч. Няўхв.* ЛЦ, 73. Тое, што рукія як у злодзея.

**ру́кі дрыжа́ць як у зло́дзея.** *Лаг. Кплів.* Пра дрыжэнне нейчых рук. Высл., 379.

**ру́кі як у зло́дзея.** *Асудж.* Пра схільнага да крадзяжу чалавека. Леп., 95.

**ру́кі як у пале́скага зло́дзея.** *Свісл. Асудж. Іран.* Даніловіч, 259. < Палескі – які жыве ў лясной мясцовасці. Тое, што рукі як у злодзея.

*у каго* **ключо́ў як у до́брага зло́дзея.** *Мін. Жарт.* Пра ўладальніка вялікай колькасці ключоў. ЛЦ, 49.

укара́ць *каго* як зло́дзея за плот перакі́нуўшы. *Ваўк. п. Іран.* Пра замену належнага пакарання папушчаннем каму-н. Federowski, 318.

***злосць*** **як на злосць.** *Дзятл.* Пра адсутнасць патрэбнага ў дадзены момант. Сцяшковіч, 617.

***зло́та*** **Ма́тка не гра́матка – за зло́ты (злотку) не ку́піш.** Гл. граматка.

***злы*** баяцца як зло́га ду́ха. Гл. дух.

ры́жага да крыво́га бо́йся як пса зло́га. Гл. пёс.

***злы́ганы*** **ісці́ як злы́ганыя.** Пра неразлучных спадарожнікаў, што ідуць побач. Янк., Пар., 81. < Злыганыя – запрэжаныя ў ярмо валы.

***злы́дні*** **пожыра́ць ек злы́дні.** *Жытк. Асудж.* Пра благіх людзей, што карыстаюцца нейкімі дабротамі, якія ім не на карысць. ТС 5, 327.

***змалаці́ць*** галава́ як на ёй ячме́нь змалаці́лі. Гл. ячмень.

***змаргну́ць*** **ху́тка як змаргну́ць.** *Слон.* Пра вельмі кароткі час, імгненне. Высл., 414.

***зма́рлы*** **памо́жа як зма́рламу кадзі́ла (прыпа́рка).** *Івац., Слуцк., Касц., Ваўк., Слон., Нясв., Пін. Іран.* Пра безнадзейнасць нейкіх захадаў, заведама непатрэбных, нядзейсных. Сержпутоўскі 1999, 137, 138, 383; Бялькевіч, 216; Высл., 361; ФА; Ззайкі; Нар. скарбы, 146.

ідуць як зма́рлыя ду́шы на дзе́давую вячэ́ру. Гл. душа.

**пасну́ць бы зма́рлыя.** *Слуцк.* Пра моцны, беспрабудны сон. Сержпутоўскі 1998, 265.

***змаява́ць*** прапа́ла як май змаява́ў. Гл. май.

***змей*** **шыпи́ць як змей на вы́ваде.** *Смал. Асудж.* Пра чалавека, які злосна, востра выказвае сваё раздражненне. Добр., Смол., 272.

***зме́рыць*** як во́кам зме́рыць. Гл. вока.

***зме́сці*** як мятло́ю зме́цена *дзе*. Гл. мятла.
як ве́нікам змяло́ *каго*. Гл. венік.
як ве́трам змяло́ *каго*. Гл. вецер.
як мятло́ю змяло́ *каго*. Гл. мятла.
**як бы змясці́ і счы́сціць мятло́й.** Пра абсалютнае знікненне чагосьці. НН 1911, 300.

***змігну́ць*** як во́кам змігну́ць. Гл. вока.

***змо́ладу*** дзянёк што жо́нка змо́ладу. Гл. жонка.

***змо́раны*** **Ро́дная зяме́лька як змо́ранаму пасце́лька.** *Ганц. Прык.* Пра любасць і пашану да роднай зямлі. ПП 1, 287.

***змы́дзганы*** **хадзі́ць як змы́дзганы.** *Навагр. Няўхв.* Пра прысаромленага чалавека. Жыв. сл., 23.

***змыць*** як вада́ змы́ла (пане́сла) каго́. Гл. вада.

***змяя́*** **ліхі́ (злы) як змяя́.** *Ваўк. п*., *Бял. Асудж.* Пра вельмі злога, ліхога чалавека. Federowski, 164; Яўсееў, 70.
**скака́ць як змяя́.** *Івац. Няўхв.* Пра захады злога, хітрага чалавека. ЗЗайкі.
**хі́тры як змяя́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі хітрага, асцярожнага і злога чалавека. Federowski, 86.

***знайсці́*** пашанцава́ла як сляпо́й ку́рыцы знайсці́ зе́рне. Гл. курыца.
як у мяце́ліцу даро́гу знайсці́. Гл. мяцеліца.
лы́біцца як жале́зка знайшо́ўшы. Гл. жалезка.
маўча́ць як пту́шак знайшо́ўшы. Гл. птушка.
**Сёння зро́біш – за́ўтра як зно́йдзеш.** *Прык.* Пра карыснасць своечасовай работы. Янкоўскі, 44.
**як зно́йдзеш.** *Гродз. Шчуч.* Пра рэч, якая спатрэбіцца, будзе вельмі дарэчы. Даніловіч, 227; ФСБМ 1, 448.
попа́ло шча́сце, бы слыпу́й ку́рыцы зэ́рне. Гл. курыца.

***знасі́ць*** Жыццё пражы́ць – не ша́пку знасі́ць. Гл. шапка.

***зна́хар*** **така́я пра́ўда як Рыго́р зна́хар.** *Ваўк. п. Іран.* Пра адсутнасць праўды ў расказе каго-н. Federowski, 247.

***зне́сці*** як ве́цер знёс. Гл. вецер.
як ку́рыца знёсшы яйцо́. Гл. курыца.

***зні́чка*** **зіхнуць як зні́чка.** Пра кароткае жыццё чалавека, пра нядоўгае яго знаходжанне дзе-н. Янк., Пар., 74.

***зняць*** як руко́й зняло́. Гл. рука.
бе́лы як з крыжа́ зня́ты. Гл. крыж.
бы з крыжа́ зня́ты *хто*. Гл. крыж.
як з іго́лкі зня́ты. Гл. іголка.

***зо́лата*** свіння́ ў бало́ці як пан у зло́ці. Гл. пан.
**блішчэ́ць як зо́лата.** *Хоц*., *Слон. Ухв.* Пра яркі, зіхоткі, прыемны бляск чаго-н. Бялькевіч, 196; Высл., 287.
**гарэ́ць як зо́лата.** Янк., Пар., 38. Тое ж.
**жыць як зо́лата ва́жыць.** *Віл*., *Мядз*., *Смал. Захапл.* Пра дружнае, добразычлівае, памяркоўнае, з павагай адзін да аднаго жыццё. СЦБ, 139; Санько, 131; Добр., 119; Высл., 320; Гілевіч, 154.

**зіхацéць як зóлата.** *Карэл. Захапл.* Высл., 328. Тое, што блішчэць як золата.

**зярнó аднó ў аднó як зóлата.** *Краснап., Івац. Ухв.* Пра адборнае, высокай якасці зерне. Бялькевіч, 62; ЗЗайкі.

**Зяць на дачцэ́ што зóлата ў руцэ́, а сын на нявéстцы што брыдá на трэ́сцы.** *Дзярж. Прык.* Пра рознае стаўленне бацькоў да дачкі і нявесткі. ФА.

камý як балóта, а камý як залóта. Гл. балота.

мужы́к хай бýдзе як дóлата, абы́ ты за ім была як зóлата. Гл. долата.

**харóшы як зóлата.** *Ваўк. п. Захапл.* Пра найвышэйшую ступень харaства чалавека, прадмета. Federowski, 50.

хоць жóнка як свіння́, абы́ зóлата сяўня́. Гл. свіння.

**чы́сты (я́сны) як зóлата.** *Ваўк. п., Слон. п. Ухв.* Пра чысціню, якасць нейкага прадмета альбо (пераносна) чалавека. Federowski, 71, 126.

***зóнцік*** нáда *каму што* як ры́бе зóнцік. Гл. рыба.

трэ́ба *каму што* як рáку зóнцік. Гл. рак.

як рак пад зóнцікам. Гл. рак.

***зóрачка*** **я́сны як зóрачка.** *Памянш.-ласк. Ваўк. п. Захапл.* Пра нешта прыемнае, яснае, зіхоткае, часцей пра позірк. Federowski, 125.

***зóрка*** **багáта як зóрак на нéбе.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Янк., Пар., 12.

**мнóга як зóрак (зóраў) на нéбе.** *Ваўк. п.* Federowski, 359.

**[от] красíвая як зóрка.** *Брасл. Захапл.* Пра прыгожую жанчыну, дзяўчыну. СПЗБ 2, 324.

**я́сны як зóрка.** *Слуцк. Захапл.* Пра ясны, прамяністы позірк. Сержпутоўскі 1999, 39.

**блішчáць як зóркі пóсле дажджý.** *Мсцісл. Ухв.* Пра яркі, прыемны бляск чаго-н. Юрчанка, 184.

**вóчкі як зóркі.** *Ухв.* Пра ясныя, прамяністыя вочы. Янк., 399.

**як зóркі пéрад мéсікам** *хто перад кім. Мсцісл. Захапл.* Пра дзяўчат, што гуртуюцца вакол хлопца. Юрчанка, 184.

**як зóрку схапíў.** *Жарт.* Пра чалавека, нечым вельмі задаволенага, шчаслівага. Янк., 444.

***зрэ́нка*** **берагчы́** *што* **як зрэ́нку вóка.** Пра вельмі старраннае, клапатлівае абераганне чаго-н. ФСБМ 1, 453.

***зуб*** здарóвы як дуб, ды мóцны як зуб. Гл. дуб.

**ныць як хвóры зуб.** *Мін., Саліг. Няўхв.* Пра нейчае дакучлівае, раздражняючае ныццё. ЛЦ, 85; АВНЛ.

Смех не арэ́х – зуб не лýпіць. Гл. арэх.

**сядзéць як зуб у старóй бáбы.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра некага, хто сядзіць бяздзейсна, ганарліва. Federowski, 275.

**éсці як не сваíмі зубáмі.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра павольнае, неахайнае пераржоўванне ежы. Юрчанка 1969, 114.

**мýчыцца як з зубáмі.** *Спачув.* Пра чалавека, які ад нечага пакутуе. Янк., Пар., 105.

трымáць бы воўк зубáмі. Гл. воўк.
цáхкаць як воўк зубáмі. Гл. воўк.
як аглóбляй па зубáх агрэ́ць. Гл. аглобля.
як гаўнóм па зубáх. Гл. гаўно.
як мóкраю анýчаю па зубáх *каму*. Гл. ануча.
як рандэ́лькам па зубáх *каму*. Гл. рандэлек.
**бы з вóўчых зубóў.** *Стол. Няўхв.* Пра пакамечанае адзенне. Барысюк, Буян, 12.
**вы́рваць як з вóўчых зубóў.** *Слуцк. Асудж.* Пра цяжкасці спагнання доўгу. Янк., Пар., 30; Сержпутоўскі 1999, 127.
**éсці як без зубóў.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 179. Тое, што есці як не сваімі зубамі.
маўчы́ць бы́ццам *у каго* гýбы прыраслí да зубóў. Гл. губы.
трýдно як у вóўка з зубóў (гóрла) вы́рваць. Гл. воўк.
**Валасы́ ня зýбы – адрастýць.** *Бар. Прык.* Пра няўдала абстрыжаныя валасы. ФА. < Кажуць часцей пасля няўдалай стрыжкі.
папáсці як лáпцем у зýбы. Гл. лапаць.

***зубёр*** **здарóў як зубёр.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра здаровага, моцнага чалавека. Federowski, 353.

***зубр*** **дýжы як зубр.** *Ухв.* Пра вельмі дужага, моцнага чалавека. Янк., Пар., 56.

***зýндаль*** **хадзíць як зýндаль.** *Чашн. Няўхв.* Пра высокага лянівага чалавек. Каспяровіч, 135. < Зундаль – ?

***зьвірóнык*** **пазірáць як зьвірóнык.** *Краснап. Няўхв.* Пра недаверлівы, насцярожаны, баязлівы позірк дзіцяці. Бялькевіч, 209.

***зэт*** **скрывіцца як пóльскі зэт.** *Ашм. Жарт.* Пра чалавека з выразнай мімікай, які вельмі моршчыцца, перакрыўляючы твар. Даніловіч, 242.

***зю́зя*** **назю́зіцца як зю́зя.** Насмешл. Пра моцна п'янага чалавека. Станкевіч, 473.
**Сядзіць ня дуж, упіўся як зюзь.** Станкевіч, 473. Тое ж.

***зязю́лька*** **аднá як зязю́лька.** *Памянш. Спачув.* Пра жанчыну без сям'і. Санько, 70.
**жыць як зязю́лька.** *Памянш. Няўхв.* Пра жанчыну, што жыве без дому, без сям'і. Янк., Пар., 61.
**зязю́лісты як зязю́лька.** *Памянш. Мсцісл.* Пра светла-шэрае апярэнне птушак, колер рэчаў. Бялькевіч, 212. < Зязюлісты – светла-шэры, падобны па апярэнні да зязюлі.
**укíнуць як зязю́лька я́йка.** *Памянш. Воран. Асудж.* Пра вельмі мала зробленае, для адчэпнага і без далейшага адказвання. Даніловіч, 187.
**шэ́рая як зязю́лька.** *Памянш. Ухв.* Пра афарбоўку матэрыялу, шэрае апярэнне птушак, курыцы. Янк. Пар., 199.
гавары́ць як салавéй з зязю́лькаю. Гл. салавей.

***зязю́ля*** **плáкаць як зезю́ля куé.** *Лоеў. Спачув.* Пра плач ці галашэнне над хворым, памерлым. Янкова, 366.

**хóвацца як зеўзю́ля по капýсці.** *Жытк.* Пра ўдалае хаванне ад каго-н. ТС 2, 165.
**аднá як зязю́ля шэ́рая.** *Маладз. Спачув.* Пра самотную жанчыну. Гілевіч 2007, 64.
**кукавáць як зязю́ля.** *Слуцк. Спачув.* Пра плач, прычытанне чалавека. Сержпутоўскі 1999, 137.
**рабы́ як зязю́ля.** *Івац.* Пра некага рабога. ЗЗайкі.
шчабятáць як салавéй з зязю́ляю. Гл. салавей.

***зялéза**, гл. **жалеза***

***зялёны*** трэ́сці як зялёны мак. Гл. мак.

***зяляпýха*** **зялёны як зяляпýха.** *Ваўк. п.* 1. Пра хваравіты выгляд худога чалавека. 2. Пра афарбоўку якога-н. матэрыялу. Federowski, 354. < Зяляпуха – зялёны, недаспелы плод.

***зямля́*** грымнýць як сóсна аб зéмлю. Гл. сосна.
**п’я́ны ек земля́.** *Стол.*, *Зэльв. Няўхв.* Пра вельмі п’янага чалавека. ТС 2, 151; Сцяцко 1970, 132.
**сы́но чóрнэ як зымля́ в мýлі.** *Кам. Няўхв.* Пра счарнелае ад дажджоў сена, што страціла кармавую якасць. ЖН, 55.
**чóрный як зымля́.** *Кам.*, *Зэльв.*, *Івац., Маладз. Няўхв.* Пра нешта чорнае, брудна, неадмытае. ЖНС, 78; Сцяцко 2005, 49; Ззайкі; Гілевіч 2007, 68.
**як нéба з зямлёй.** *Лід., Стаўб.* Пра зусім розных, працілеглых людзей, прадметы, падзеі. МК, 311.
**як пад зямлёй.** *Смарг.* Пра адчуванне суму і заклапочанасці. Сцяшковіч, 617.
**хадзíць як пад зямлёю.** *Слуцк.*, *Івац. Спачув.* Пра чалавека, які моцна нешта перажывае, бядуе, не мае надзеі. Янк., 515; Сержпутоўскі 1999, 38; Санько, 68; ЗЗайкі.
**вы́расці як з-пад зямлí.** *Пух.*, *Мсцісл.* Пра нейчае нечаканае з’яўленне. Мін.-Мал., 1970, 159. Юрчанка 1977, 213.
**прамóвіць як з-пад зямлí.** Пра нейчы глухі, далёкі голас. Янк., Пар., 130.
так падóбна як нéба да зямлí. Гл. неба.
цягнýцца як гад па зямлі. Гл. гад.
**як (нібы́) з-пад (з) зямлí вы́рас.** Пра нейчае зусім нечаканае, раптоўнае з’яўленне.
**як з зямлí вы́расці.** Пра нечаканае, раптоўнае з’яўленне. НН, 371.
**Ажанíцца – як пад зямлю праваліцца.** *Прык. Брасл.* Пра чалавека, які пасля жаніцьбы перастаў з’яўляцца на людскіх зборышчах. Рабкевіч, 20.
**згíнуць як праз зямлю́ правалíцца.** *Івац.* Пра каго-альбо што-н., якія бясследна зніклі. Янк., Пар., 72; ЗЗайкі.
**хадзíць як зямлю́ прадáўшы.** *В-Дзв. Спачув.* Пра прыгнечаны, разгублены, нярадасны стан чалавека. Высл., 411; Санько, 70.
**як скрозь зямлю́ правалíцца.** *Навагр.*, *Стаўб.*, *Стол. Няўхв.* Пра нейчае бясследнае, раптоўнае знікненне. Сцяшковіч, 619; МК, 214; Барысюк, Буян, 13.

**бага́ты як зямля́ [свята́я].** *Вілен. п.*, *Івац.*, *Лід. Ухв.* Пра вельмі багатага чалавека. Federowski, 19; ЗЗайкі.

здаро́ва як каро́ва, бага́та як зямля́, пладаві́та як свіння́. Гл. карова.

**набра́цца як зямля́.** *Слон. Няўхв.* Пра вельмі п’янага чалавека. Высл., 349.

**напі́цца як зямля́.** *Няўхв.* Санько, 157. Тое ж.

**п’я́ны ек земля́.** *Зэльв. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. ТС 2, 151; Сцяцко 2005, 100.

**усё прыма́е як зямля́ свята́я.** *Ваўк. п.* Пра кагосьці, хто прымае ўсё, што даюць ці трапляецца. Federowski, 359.

**цёмны бы зямля́.** *Слуцк. Спачув.* Пра чалавека, счарнелага ад хваробы, няшчасця. Сержпутоўскі 1999, 58.

**чо́рна як зямля́.** *Зэльв.*, *Кам. Няўхв.* 1. Пра брудную вопратку. 2. Пра жанчыну, што моцна перажывае, бядуе. Сцяцко 1970, 64; ЖНС, 78.

**чо́рны як свята́я зямля́.** *Ваўк.*, *Слон.*, *Мсцісл.* Пра нешта чорнае. Federowski, 66; Сцяшковіч, 12; Юрчанка 1977, 228.

**Як та́му, што зямля́ на я́му.** *Капатк. Прык.* 1. Пра чалавека, якому гранічна блага. 2. Пра таго, каму ўсё роўна, як памерламу. Высл., 431.

***зярно́**, гл.* ***зерне***

***зярня́тка***

як сляпо́й ку́рыцы зярня́тка <на сме́тніку>. Гл. курыца.

жанчы́на без дзіця́ці як ко́лас без зярня́ці. Гл. колас.

***зяць***

**Хлеб не зяць, як захо́чуць, то з’ядзя́ць.** *Саліг. Прык. Жарт.* Пра тое, што хлеб любой якасці будзе спажыты. ДА.

**Хлеб не зяць: паглядзя́ць ды з’ядзя́ць.** *Рэч.* АВНЛ. Тое ж.

# І

***Іва́н***

хадзі́ць як ве́дзьма на Купа́льскага Іва́на. Гл. ведзьма.

***ігла́**, гл.* ***іголка***

***іглі́ца***

сядзе́ць як грыб пад іглі́цай. Гл. грыб.

**бага́та як іглі́цы ў бары́.** Пра вялікую колькасць чаго-н. дробнага. Янк., Пар., 12.

**мно́га як іглі́цы.** Янк., Пар., 104. Тое ж.

***Ігна́ля***

**разыйсці́ся як Ігна́ля на вечары́нцы.** *Жарт.* Пра нейкага чалавека, што дужа раззухваціўся, стаў падобны на вядомага ў дадзенай масцовасці персанажа. Санько, 178.

***іго́лка***

**як на го́лках.** Пра трывожнае, нецярплівае чаканне. Санько, 70.

**відно хоць го́лкі збіра́й.** *Ваўк. п.* Пра ясную, месячную ноч, добра асветленае памяшканне. Federowski, 330.

**як з го́лкі зня́ты.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта зусім новае, часцей пра ўбранне. Federowski, 111.

**каля́ить як и́глами.** *Смал.* Пра адчуванне колікі, колючых боляў. Добр., Смол., 336. < Каляіць – коліць.

**прапáсці (знíкнуць, згубíцца) як igóлка ў сéне.** *Хоц.*, *Мін.* Пра бясследнае знікненне чалавека альбо прадмета. ЛЦ, 119; Юрчанка 1977, 213.

**як (што) ігóлка ў стóзе <сéна>.** Пра зусім непрыкметнага, такога, што немагчыма знайсці, выявіць, адшукаць. ФСБМ 1, 461.

як нíтка з ігóлкай: куды́ ён, туды́ і янá. Гл. нітка.

**як ігóлкамі кóле.** *Люб.* Пра адчуванне колікі, колючых боляў. ДА.

**сядзéць як на ігóлках.** *Івац.* Пра стан крайняга хвалявання, неспакою. ФСБМ 1, 462; ЗЗайкі.

**як з (з-пад) ігóлкі.** *Мсцісл. Ухв.* Пра рэч, вопратку, якая выглядае зусім новай. Юрчанка, 184.

мужы́к так гарýіць па жóнцы, як бáба па ігóлцы. Гл. баба.

***ігрáць***

гавóрыць як у скры́пку ігрáе, а рóбіць як у разбíты збан брáзгае. Гл. скрыпка.

у грудзя́х як гармóшка ігрáе. Гл. гармошка.

***ігрýша**, гл.* ***грýша***

***ігры́шча***

**вéсела як на ігры́шчы.** Пра вясёлае зборышча, дзе смех, жарты, музыка, танцы. Янк., Пар., 25.

***ігýменша***

**бáба што ігýменша [тоўстая].** *Гом. Ухв.* Пра тоўстую, мажную кабету. Мат. Гом., IV, 186.

***íдал***

**раскрычáцца як íдыл [якéй].** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека нядобрага і грознага, крыклівага, якім малявалі язычніцкага ідала. Юрчанка 1998, 61.

***ізгарóда***

**гавары́ць як на ізгарóду вéшаць.** *Шум. Няўхв.* Пра чалавека, які дазваляе сабе гаварыць не падумаўшы, няпраўду, да таго ж марудліва і невыразна. Гілевіч, 165.

***ікóна***

малíцца *на каго* як поп на ікóну. Гл. поп.

***Ілля́***

**камáндаваць як Ілля́ хмáрамі.** *Слон.* Пра чалавека, які любіць камандаваць, грозна распараджацца. Сцяшковіч, 642. < Святы Ілля лічыцца адзінаўладным распарадчыкам хмар, маланкі, навальніцы.

***ільвíца***

**глáдкыя як ільвíца.** *Мсцісл. Ухв.* Пра сытую, спраўную карову. Юрчанка, 1993, 87.

***імянíны***

сядзéць як пан на імянíнах. Гл. пан.

***індзю́чка**, гл.* ***індычка***

***інды́к***

**балбатáць як інды́к.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які многа і непрыгожа гаворыць. Высл., 284.

**глядзéць як інды́к на чырвóно.** *Слон. Жарт.* Пра злосны, раздражнёны, абуральны пагляд. Высл., 305.

**éсці як інды́к.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які хутка глытае, не перажоўваючы ежу. СПЗБ 1, 440.

**надзьмýцца (надýцца, нахóхліцца) як інды́к.** *Ваўк. п.*, *Касц.*, *Іўеў.*, *Слуцк.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які важна, ганарыста сябе паводзіць. Federowski, 195; Сцяшковіч, 203; Нос., 84; Сержпутоўскі 1999, 90; Ройзензон, 74; Юрчанка 1977, 33; Бялькевіч, 215; Юрчанка 1998, 246; Санько, 159.

**начапу́рыцца як інды́к.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра залішне начапуранага, прыбранага чалавека. Federowski, 194; Янк., Пар., 135.

**расста́віць пе́р'е як інды́к.** *Івац. Насмешл.* ЗЗайкі. Тое, што надзьму́цца (наду́цца, нахо́хліцца) як інды́к.

**фанабэрыцца як індык.** *Сен. Няўхв.* Каспяровіч, 322. Тое ж. ходзіць, харабруецъ як інды́к. *Віц.* Каспяровіч, 145. Тое ж.

**ціка́вы як інды́к да ка́вы.** *Маст.*, *Лід. Іран.* Пра чалавека, які нічым зусім не цікавіцца. Даніловіч, 228; ФА.

**чырво́ны як інды́к.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека ў злосці, раздражнёнага і чырвонага. Federowski, 70.

***інды́чка*** **кра́хаць што індзю́чкі на яе́чках се́дзя.** *Рас. Няўхв. Насмешл.* Пра бурчанне, нараканне каго-н. Высл., 336.

**сярди́та як инды́чка.** *Смал. Асудж.* Пра злосную жанчыну. Добр., Смол., 299.

***І́рад*** **трасетца як [тэй] Ірод.** *Асудж.* Пра злоснага чалавека ў гневе. Янчук, 12.

***іржа́*** **гры́зці як іржа́ жале́за.** *Ваўк. п.*, *Сміл.*, *Івац.*, *Іўеў.*, *Клецк.*, *Паст.*, *Слон.*, *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека з дакучлівым злосным характарам, што ўвесь час дакарае, папракае. Federowski, 119; Шатэрнік, 124; Высл., 308; Нар. лекс., 202; Сержпутоўскі 1999, 95; СПЗБ 4, 402; Юрчанка, 185; ЗЗайкі.

**Журба́ як іржа́.** *Прык.* Пра цяжасць, разбуральнасць журбы для чалавека. Янк., Пар., 60.

**лень жуе́ чалаве́ка як іржа́ жале́за.** Пра шкоднае ўздзеянне ляноты на характар чалавека. ПП 2, 167.

**Туга́ як іржа́.** *Прык.* Пра разбуральную ўласцівасць тугі, якая вельмі шкодзіць чалавеку. Янк., 434.

***іса́р*** **як іса́р.** *Старадар. Няўхв.* Пра дрэннага чалавека. ДА.

***і́скарка*** **дзяўчо́нка як і́скарка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра вясёлую, прыгожую, яскравую дзяўчыну. Юрчанка 1977, 228.

**се́нца бы і́скарка.** *Памянш.-ласк. Слуцк. Ухв.* Пра хутка і добра высушанае сена. Сержпутоўскі 1999, 34.

***іска́цца*** така́я пра́ўда як сляпы́ іска́ўся. Гл. сляпы.

***і́скра*** **чырво́ны як і́скра.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра вельмі яскравы чырвоны колер. Federowski, 70.

**падско́чыць як ад і́скры.** Пра хуткае, раптоўнае, порсткае падскокванне каго-н. Янк., Пар., 121.

***іспа́нцы*** **та́нцы як іспа́нцы.** *Глуск.* Высл., 398. < Утворана на падставе рыфмы, простага сугучча.

***Ісу́с*** **як Ісу́с Хрысто́с распя́ты.** *Маладз. Кплів.* Пра нястрыжанага хлопца. ФА.

***ісці́*** упіра́ецца як каза́ на то́рг ідучы. Гл. каза.

як наза́ўтро ісці́. Гл. назаўтра.

чые́ мруць, а на́шы як із вады́ йдуць. Гл. вада.

# К

***каба́н*** **гла́дкі як каба́н.** *Няўхв.* Пра раскормленага чалавека, якому добра паводзіцца. Янк., Пар., 40.

**памагчы́** *каму* **як каба́н на вясе́ллі.** *Мсцісл. Іран.* Пра адсутнасць альбо шкоднасць чыёй-н. дапамогі. Юрчанка, 174.

**праці́ўны як каба́н абпа́лены.** *Бран. Няўхв.* Пра кагосьці агіднага, знешне непрыемнага. Расторгуев, 29.

**тлу́сты як каба́н.** *Сміл. Няўхв.* Пра тоўстага, масіўнага чалавека. Шатэрнік, 277; Янк., 432.

**як каба́н ко́рмны ўсё ро́ўна.** *Краснап. Няўхв.* Бялькевіч, 253. Тое, што тлу́сты як каба́н.

**ака́рак як у кабана́.** *Бял., Кругл., Краснап., Сен. Няўхв.* Пра тоўстую спіну, шыю. Бялькевіч, 400; Каспяровіч, 154; Нар. слов., 84; Матэрыялы 1981, 10.

**падбаро́душ як у кабана́.** *Краснап. Няўхв.* Пра масіўны, тлусты падбародак у каго-н. Бялькевіч, 358.

***кабы́ла*** **Ба́сня (ба́йка) без канца́ як кабы́ла без хваста́.** *Бар. Прык. Жарт. Груб.* Пра неабходнасць лагічнай завершанасці нейкага аповеду. Federowski, 23; Янкоўскі, 101; ФА.

**вы́валіць зу́бы як кабы́ла да жарабца́** [смяе́цца-це́шыцца]. *Асудж. Груб.* Пра жанчыну, якая вельмі прыхільна камусьці ўсміхаецца. «Ніва», 1978, № 45.

**вышчара́цца як кабы́ла на пасе́і.** *Лаг. Няўхв.* Пра кабету, якая непрыемна ўсміхаецца. Varłyha, 91. < Пасеі – неразмолатыя часткі зярнят і шалупіны.

**гу́бы разве́сіць як стара́я кабы́ла.** *Слуцк. Пагардл.* Пра непрыемны выраз твару каго-н. Сержпутоўскі 1999, 59.

**заця́цца як нараві́стая кабы́ла.** *Слуцк. Няўхв.* Пра вельмі ўпартага, наравістага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 122.

**здаро́ва як кабы́ла.** *Нараўл. Няўхв.* і *ўхв.* Пра моцную, вынослівую жанчыну. Мат. Гом., IV, 170.

**лятаць як кабы́ла.** *Шчуч. Няўхв.* і *ўхв.* Пра энергічную, моцную, вынослівую жанчыну. СПЗБ 2, 645.

**напіна́цца як кабы́ла пе́рад про́пасцю.** *Насмешл.* Пра чалавека, які прыкладвае ўсе намаганні, каб выйсці з цяжкага становішча. Нос., 133.

**нараві́сты як кабы́ла.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі ўпартага, наравістага чалавека. Federowski, 198.

**паны́ бы нараві́стая кабы́ла.** *Слуцк. Няўхв.* Пра ўпартых, грозных, наравістых паноў. Сержпутоўскі 2000, 163.

**рагата́ць як кабы́ла на вы́сеўкі.** *Іўеў. Абразл.* Пра моцны, галасны рогат каго-н. Сцяшковіч, 615; Даніловіч, 228.

**упе́рціся як кабы́ла ў ды́шла.** *Капыл. Ухв.* Пра энергічнае, настойлівае, рашучае ўключэнне ў якую-н. цяжкую работу. Высл., 406.

**уцяка́ць** *адкуль* **што кабы́ла ад аўса́.** *Іран.* Пра ніякія не ўцёкі, а актыўнае імкненне да чаго-н. Янк., 387.

**цяга́цца як кабы́ла Ле́йзарава.** *Зэльв.*, *Маст. Няўхв.* Пра хаджэнне, цяганне, бадзянне без справы, без сур'ёзнага занятку. Даніловіч, 229.
**як кабы́ла бальша́я.** *Сен. Груб.* Пра рослую дзяўчыну. МК, 254.
хваліцца як цыган каро́слівай кабы́лай. Гл. цыган.
бегчы як жарабя́ за кабы́лаю. Гл. жарабя.
**як з кабы́лаю па́церы мо́віць.** *Насмешл.* Пра размову з няздольным да разумення субяседнікам. Санько, 70.
дагадзі́ць як за́яц кабы́ле. Гл. заяц.
даць як за́яц кабы́ле. Гл. заяц.
**ек кобы́лі покача́цца.** *Стол. Насмешл.* Пра малы лапік зямлі. ТС 5, 83.
зада́ць пы́лі як за́яц кабы́ле. Гл. заяц.
**зажада́цца (захаце́цца) як кабы́ле во́цату.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, якога турбуюць нейкія несур'ёзныя пажаданні. Шпилевский, 180; Нос., 45; Высл., 323.
**захаце́цца/хаце́ць як кабы́ле аўсу́.** *Воран. Насмешл.* Пра моцнае, прагнае жаданне чаго-н. Даніловіч, 228.
**не падступі́цца** *к каму* **бы к наравістай кабы́ле.** *Слуцк. Няўхв.* Пра складанасці дачыненняў з кімсьці ўпартым, наравістым, незгаворлівым. Сержпутоўскі 2000, 253.
**Па забы́ле б'юць як па кабы́ле.** *Капыл.*, *Чэрык. Прык.* Пра значныя пакаранні чалавеку, які часта забываецца. Рабкевіч, 156; ФА.
памагчы́ як за́яц кабы́ле. Гл. заяц.
**патрэ́бен як кабы́ле во́ўчы хвост.** *Слон. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ФА.
даць пы́лі (ду́ху) як вераб́ей кабы́лі. Гл. верабей.
**ве́даць** *каго* **як аблу́пленую кабы́лу.** *Здзекл.* Пра дасканалыя веды пра каго-н. Нос., 50.
ша́насьць така́я як воўк кабы́лу шанава́ў. Гл. воўк.
дзе́рці як воўк кабы́лу. Гл. воўк.
галасо́к як у таго́ салаўя́, што за гаро́ю кабы́лу ду́шыць. Гл. салавей.
любі́ць як цыга́н сляпу́ю кабы́лу. Гл. цыган.
набо́жны як свято́га Ю́р'я конь: ён да касцёла, а ён да кабы́лы. Гл. Юр'е.

***кабыліца*** **зарза́ць як кабыли́ца.** *Смал. Асудж.* Пра нейчы моцны, нястрыманы, непрыемны смех, рогат. Добр., Смол., 674.

***кабыля́чы*** каса́ даўга́я (густа́я) як кабыля́чы хвост. Гл. хвост.

***ка́ва*** патрэ́бен як пе́рац у ка́ве. Гл. перац.
ціка́вы як інды́к да ка́вы. Гл. індык.
ціка́вы як Марцін да ка́вы. Гл. Марцін.

***кава́дла*** **пла́ваць як кава́дла.** *Светл.*, *Слон. Іран. Няўхв.* Пра няўменне плаваць наогул. Высл., 366.

***кава́ль*** **узя́ць як кава́ль абцэ́нгамі жале́за.** *Лід.* 1. Пра надзейнае, моцнае трыманне чаго-н. у руках. 2. Пра чалавека, які можа наладзіць дысцыпліну. МК, 164.

***кава́льскі*** дзьмуць як кава́льскі мех. Гл. мех.
надýцца як кава́льскі мех. Гл. мех.
сапсці як кава́льскі мех. Гл. мех.
дурны́ як кава́льскія гарны́. Гл. горн.

***ка́даўб*** **таўсты́ як ка́даўб.** *Ваўк. п.*, *Пух. Насмешл.* Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека. Federowski, 312; СЦБ, 175. < Кадоўб – вялікая бочка, выдзеўбаная з калоды.

***кадзі́ла*** памо́жа як мёртваму кадзі́ла. Гл. мёртвы.
як во́рану мыла, так умéртаму памо́жа кадзі́ла. Гл. воран.
насы́тыся як поп з кады́лом. Гл. поп.

***ка́дка*** **гла́дка як ка́дка.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра поўную дагледжаную жанчыну. Federowski, 110; Матэрыялы 1981, 116.

***кадýк*** **сказа́ў як кадýк у лýжу плю́нуў.** *Круп. Асудж.* Пра чалавека, які нешта злосна і вычварна сказаў. КВДУ.

***кадýшка*** **ба́ба як кадýшка.** *Смал. Няўхв.* Пра залішне распаўнелую жанчыну. Добр., Смол., 304.
**таўсты як кадýшка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра моцна тоўстага чалавека. Federowski, 312.
**як кадýшка ста́ць.** *Клім. Няўхв.* Пра залішне распаўнелага чалавека. Матэрыялы 1981, 40.
**есці як у бяздо́нную кадýшку.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, які празмерна есць. Federowski, 130.
**ліць як у кадýшку.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра моцна пітушчага чалавека. Federowski, 166.
храпсці як кандзер у кадýшку. Гл. кандзер.

***кажа́н*** **гідкі (праці́ўны) як кажа́н.** *Пагардл.* Пра непрыемнага, агіднага чалавека. Янк., 402, 422. < Кажан як хтанічная начная жывёліна выклікала страх і агіду.
**ні расцéць парасёнак як кажа́н.** *В.-Дзв.* Пра слабы рост парасяці. СПЗБ 3, 285. < Па павер'ях, рост жывой істоты перапыняецца пасля таго, як на яе сядзе кажан.

***кажýх*** дакýчаць як вош у кажусé. Гл. вош.
надýцца як вош на кажусé. Гл. вош.
**цяпло́ як у кажусé.** *Краснап. Ухв.* Пра вельмі прыемнае, надзейнае цяпло. Бялькевіч, 144.
**абрыднуць як вашы́вы кажýх.** *Гродз. Пагардл.* Пра нешта, што вельмі моцна надакучыла, абрыдзела. Даніловіч, 215.
дзяржа́цца як вош за кажýх. Гл. вош.
**Душа́ чалавéка не кажýх: не вы́вернеш.** *Глуск. Прык.* Пра неспасціжнасць чалавечай душы. АВНЛ.
**Садок лéтам што кажýх зімо́ю.** *Прык. Захапл.* Пра прыемны халадок у садзе ўлетку. Рапановіч, 228.
**Стара́я дзéўка як дзіра́вы кажýх – адзі́н дух.** *Слуцк. Прык. Здзекл.* Пра марнасць спадзяванняў дачакацца ад састарэлай незамужняй дзеўкі цеплаты, ласкі. Сержпутоўскі 1999, 63; БВ, 107.
прыста́ць як дзядо́ўнік да кажуха́. Гл. дзядоўнік.

**як (што) кажухóм па пéчы.** *Глуск., Клецк. Няўхв.* Пра немілагучнае, няскладнае спяванне, гаворку. Янк., 1968, 436 < Паходзіць з непрыемнага дысанансавага ўражання: шум скарэлага кажуха, калі яго сцягваюць з печы.

***казá***

**баяцца як казá капýсты.** *Нясв. Іран.* Пра адсутнасць страху перад чым-н. ФА.

**бляяць як каза нядóеная.** *Докш. Насмешл.* Пра чалавека, які непрыемна спявае, дакучае. ФА.

**брыкаць як казá.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нейчую лёгкую хаду з падскокамі. Federowski, 43.

**зблудзíўся рóзум як казá ў лéсе.** *Маст.* Пра немагчымасць самастойна знайсці слушнай высновы, рашэння. Сцяшковіч, 637.

**карóўка як казá.** *Няўхв.* Пра маленькую худую кароўку. Янк., Пар., 84.

**нагуляцца як казá на вярóўцы.** *Астр. Іран.* Пра немагчымасць добра пагуляць, вырвацца на волю. ФА.

**скакáць як казá.** *Віц. Кплів.* Пра дарослую дзяўчыну, што яшчэ бавіцца дзіцячымі гульнямі. КВДУ.

**унадзіцца** *куды* **як казá ў [а]гарóд.** *Рэч., Капыл. Няўхв.* Пра частае наведванне чаго-н. з карыслівымі мэтамі. Pietkiewicz, 397; Высл., 405; Янк., Пар., 174.

**упірáцца як казá на клáдцы.** *Шчуч. Няўхв.* Пра зацятае, наравістае ўпіранне. Даніловіч, 228.

**упірáцца як казá на торг ідучы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 321. Тое ж.

**цягáцца як цыгáнская казá на вазах.** *Воран. Асудж.* Пра чалавека, які не працуе, а цягаецца ў пошуках лёгкай спажывы. Даніловіч, 262.

**як казá (кóзка).** *Мсціcл. Ухв.* Пра маладую спрытную дзяўчыну. Юрчанка, 185.

**як казá паміж двух стагóў: не вéдае, да катóрага (кудЫ) і кінуцца.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які не можа зрабіць выбар, рашыцца на нешта адно. ЛЦ, 130.

**зажадацца** *каму чаго* **як казе перцу.** *Мядз. Насмешл.* Пра чалавека, якога турбуюць нейкія несур'ёзныя жаданні. ЗСалавей.

**захацéцца** *чаго* **як казé вóцату.** *Брасл. Насмешл.* Рабкевіч, 80. Тое ж.

**ноч – як дзíкай казé пераскóчыць.** *Капатк.* Пра зусім кароткую летнюю ноч. ПП 1, 96.

**от Ганін до Роздвá – ек козé скóчыць.** *Стол.* Пра невялічкі прамежак часу паміж святамі Ганны і Ражства. ТС 5, 48.

**біць (абадрáць, даíць, лупáсіць, таўчы)** *каго* **як сідараву казý.** *Ваўк. п., Карм., Люб., Уздз., Астр., Чэрв., Дзярж.* Пра бязлітасную эксплуатацыю, біццё некага. Мат., Гом., III, 218; Шырма, 205; Высл., 287; Сцяшковіч, 619; ФА; ЖН, 102; Гілевіч, 66.

**вéдаць** *каго* **як аблýпленую казý.** *Здзекл.* Пра дасканалыя веды пра каго-н. Ром., Бел., 297.

глядзе́ць як воўк на казу́. Гл. воўк.

**шча́сце як у казы́ хвост.** *Кплів.* Пра чыё-н. невялікае, нядоўгае шчасце. Federowski, 377.

*хто* **як з казы́ нявє́ста (ухажо́рка).** *Мсцісл. Іран.* Пра некага няздатнага. Юрчанка, 173.

**дзе́вка як каза́.** *Смал. Ухв.* Пра вёрткую, зграбную, жвавую дзяўчыну. Добр., Смол., 331.

**спяша́цца як з ко́замі на торг.** *Кругл. Іран.* Пра няспешлівае збіранне, выпраўленне куды-н. Высл., 422.

**дзе́ўкі ўпа́рты як ко́зы.** *Нараўл. Няўхв.* Пра незгаворлівых, упартых дзяўчат. Дуб., 14; АВНЛ.

**пабе́гчы як ко́зы.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра дзяўчат, што жвава, лёгка некуды пабеглі. Federowski, 206.

**спаць як ко́зы прада́ўшы.** *Слон.* Пра вельмі моцны, салодкі, бестурботны сон. Даніловіч, 230.

**у вуша́х як ко́зы пераначава́лі.** *Насмешл.* Пра нямытыя вушы нейкага дзіцяці. Янк., Пар., 172.

***каза́к*** **вы́скачыць як каза́к з ма́ку.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра нейчае нечаканае з’яўленне, выступленне, недарэчныя паводзіны. Federowski, 345; Санько, 69.

***каза́льніца*** пра́віць як ксёндз з каза́льніцы. Гл. ксёндз.

***ка́зань*** **сядзе́ць як на няме́цкай ка́зані.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які сядзіць важна, чынна, але з няўцямным выглядам, бо нічога не разумее. Federowski, 203.

**гаво́рыць як ка́зань ка́жа.** *Ухв.* Пра чалавека, што гаворыць складна, павучальна, як па пісанаму. Янк., Пар., 36.

***каза́рма*** **ха́та як каза́рма.** *Лаг. Няўхв.* Пра вялікую няўтульную хату. Мін.-Мал., 1977, 84.

***казёл*** **бі́цца як сляпы́ казёл аб я́слі.** *Няўхв.* Пра ўпартае і безвыніковае, сляпое змаганне з нечым. Ром., Зап., І, 215.

**гарадзі́ць як казёл, на ваду́ гле́дзечы.** *Насмешл.* Пра чалавека, які гаворыць абы-што. Ляцкий, 7.

**глядзе́ць начэ казёл у во́ду.** *Рэч. Няўхв.* Пра няўцямны, недаўменны позірк каго-н. Pietkiewicz, 374.

**маўча́ць як стары́ казёл.** *Рэч. Жарт.* Пра панурага, маўклівага чалавека. Пяткевіч, 553.

**смярдзе́ць як казёл.** *Ваўк. п. Абразл.* Пра непрыемны рэзкі пах ад некага, смурод. Federowski, 305.

**стыда́цца як казёл у капу́сце.** *Іран.* Пра адсутнасць сораму ці ніякаватасці ў чалавека, які чыніць шкоду. Дуб., Нар., 1.

**узіра́цца як казёл.** *Слон. п. Няўхв.* Federowski, 324. Тое, што глядзе́ць на’чэ казёл у во́ду.

**уле́гці як казёл за ваго́нам.** *Слон. Асудж.* Пра пустое, недарэчнае даганянне каго-н. Высл., 405; Янк., 435.

**упа́рты як казёл.** *Мсцісл., Свісл. Няўхв.* Пра беспадстаўна, моцна ўпартага, незгаворлівага чалавека. Бялькевіч, 460; Гілевіч, 166.

**утаро́піцца (уту́піцца) як казёл.** *Слон., Сміл. Няўхв.* Высл., 406; Шатэрнік, 290. Тое, што глядзець начэ казёл у воду.

**улазіць як казёл з барадо́ю.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, які ўмешвацца, ублытваецца ў чужыя справы. Юрчанка, 185.

**даста́ць як у казла́ малака́.** *Ваўк. п. Іран. Здзекл.* Пра немагчымасць нешта атрымаць ад каго-н. Federowski, 76.

**Зла як у казла́, а сілы як у камара́.** *Гом. Прык. Кплів.* Пра задзірыстага і слабога чалавека. ПП 2, 257.

**По́льзы як ад казла́, а грахо́ў як у чо́рта.** *Мсцісл. Прык. Асудж.* Пра шкадлівую асобу, ад якой адны непрыемнасці. Юрчанка, 58.

**Сам мужычо́к з кулачо́к, а зла як у казла́.** *Маладз. Прык.* Пра малога невысокага чалавека з упартым і злосным характарам. ПП 2, 257.

**як ад казла́ – ні шэ́рсці, ні малака́.** Пра адсутнасць карысці з каго-, чаго-н. Аксамітаў, 194.

**як з казла́ малака́.** *Віл., Івац.* СЦБ, 176; ЗЗайкі. Тое ж.

**як з таго́ казла́: ані во́ўны, ані малака́.** *Ваўк. п., Гродз., Рэч.* Federowski, 138; Pietkiewicz, 374; Аксамітаў, 269; АВНЛ. Тое ж.

**упе́рціся як два казлы́ лоб у лоб.** *Насмешл.* Пра двух упартых, што ніяк не саступяць адзін аднаму. Янк., 435.

***казі́ны***

як смерць казі́ная. Гл. смерць.

цягну́цца як казі́ная сме́рць. Гл. смерць.

як казлі́ныя ро́гі ў мяшку́. Гл. рог.

***ка́зка***

**Жыццё пражы́ць – не ка́зку злажы́ць.** *Арш. Прык.* Пра тое, што ў жыцці ўсё цяжэй, складаней, не так цікава, як у казцы. ФА.

нарабілася як у ка́зцы. Пра адбыванне розых незвычайных падзей. Янк., Пар., 111.

**хо́раша** *дзе* **як у бабу́льчынай ка́зцы.** *Ухв.* Пра нешта ўтульнае, прыгожае, прывабнае. Янк., Пар., 184.

***казна́***

**Зіма́ як казна́ – сваё во́зьме.** *Мін. Прык.* Пра тое, што баланс халодных дзён, агулам беручы, захоўваецца заўсёды. ПП 1, 73.

***кал***

**зайцо́ў у ле́се як ка́лу.** *Свісл.* Пра вялікую колькасць зайцоў. СПЗБ 2, 365.

набра́цца як жа́ба ка́лу. Гл. жаба.

**я́гад як ка́лу.** *Івац.* Пра мноства ягад дзе-н. ЗЗайкі.

***калако́льчык,***
*гл. таксама* ***званок***

**як кылако́льчык [якей].** *Мсцісл. Ухв.* Пра прыемную гаворку, звонкі голас некага. Юрч, 1993, 7.

***калані́ца***

**як [та́я] калані́ца чо́рная.** *Маладз.* Пра нешта або некага чорных, брудных. Мат., 99. < Каланіца – мазь для калёс.

***калапні́***

**утапі́ць як калапні́ ў лу́жу.** *Мядз. Здзекл.* Пра ганьбаванне, крыўду каго-н. ЗСалавей. < Калапні – каноплі.

***калара́дскі***

спа́су нямá *ад каго* як ад калара́дскіх жуко́ў. Гл. жук.

***каларне́т***

**трашча́ць як каларне́т.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчую гучную, бесперапынную гаворку. Юрчанка, 185.

***каласо́к***

**адзін як каласо́к.** *Памянш. Мсцісл. Спачув.* Пра адзінокага, самотнага чалавека. Юрчанка, 187.

*хто* **як каласо́к без зе́рня.** *Памянш. Мін. Спачув.* Пра бяздзетную жанчыну. ЛЦ, 87.

***калаўро́дак*** **язы́к як калаўро́дак.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі балбатлівую асобу. Federowski, 126.

***калаўро́т*** **круці́цца як калаўро́т.** *Віл.* Пра надта мітуслівага, няўрымслівага, бойкага чалавека. БД, 146.

**язы́к ляшчы́ць што калаўро́т трашчы́ць.** *Няўхв.* Ляцкий, 61. Тое, што язы́к як калаўро́дак.

***калба́сны*** разбіра́цца як свіння́ ў калба́сных абрэ́зках. Гл. свіння.

***калга́с*** **рабіць як у калга́се.** *Мсцісл. Жарт.* Пра павольнае, неахвотнае, як не для сябе выкананне справы. Юрчанка, 200.

***калды́чыць*** як чэ́рці пад каўняро́м калды́чуць. Гл. чорт.

***кале́ка*** **ро́быть як калі́ка.** *Драг. Няўхв.* Пра благую, неакуратную работу некага. СПЗБ 2, 373.

***кале́на*** **галава́ як кале́на.** *Клім.*, *Гом.*, *Слон.*, *Мсцісл.* Пра зусім лысую галаву. Бялькевіч, 27; Высл., 302; Нар. слов., 188.

**го́лы як кале́на.** *Івац.*, *Мсцісл.* Янк., Пар., 42; Юрчанка, 185; ЗЗайкі. Тое ж.

**лы́сы як кале́на.** *Ваўк. п.*, *Віл.*, *Вілен.* Federowski, 100; СПЗБ 2, 373, 698; Sielicki, 160. Тое ж.

мускулы як у ста́рага вераб'я́ кале́на. Гл. верабей.

ру́ка бы ў шво́раба кале́на. Гл. швораб.

гру́дзі як у петуха́ кале́ні. Гл. пятух.

***кале́нкі*** балі́ць усё маё це́ла, як псюк пад кале́нкамі куса́ець. Гл. псюк.

як у вераб'я́ пад кале́нкамі. Гл. верабей.

***калёсы*** **у трыбусе́ як кале́сьмі е́здзіць.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра бурчэнне ад голаду ў жываце. Federowski, 314.

**ну й гыласо́к – скро́гыт як з калёс німа́зыных.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра непрыемны, скрыпучы голас каго-н. Бялькевіч, 408.

**як у Бэ́ркавых калёсах** *дзе. Ушацк. Насмешл.* Пра адсутнасць парадку дзе-н. Васюковіч, 19.

**Ба́ба без мужыка́ як калёсы без каня́.** *Маст. Прык.* Пра важную ролю мужчыны ў сям'і. ФА; ПП 2, 106.

**не калёсы закіда́ць.** *Лаг.* Пра работу, якая не патрабуе развагі, умення, а вымагае больш фізічнай сілы. Гілевіч, 147.

**разье́хацца як калёсы нямя́заныя.** *Воран. Насмешл.* Пра пагаршэнне ўнутранага стану, разбітасць, несабранасць у паводзінах. Гілевіч 2007, 207.

**скрыпе́ць бы нямя́заныя калёсы.** *Слуцк. Няўхв.* 1. Пра чые-н. скаргі, нараканне на здароўе, незадаволенасць. 2. Пра непрыемны, скрыпучы голас каго-н. Сержпутоўскі 1999, 95.

***калі́на*** **гарэ́ць як калі́на.** *Слон. п., Сен. Захапл.* Пра нешта чырвонае яскравае, зіхоткае, прыгожае. Federowski, 104; МК, 445.

**ек калі́на хорошу́ха.** *Жытк. Захапл.* Пра румяную, прыгожую дзяўчыну, жанчыну. ТС 5, 253.

**хло́пец як калі́на.** *Ваўк. п.*, *Мсцісл. Ухв.* Пра харошага на выгляд хлопца. Federowski, 54; *Мсцісл.* Бялькевіч, 461.

**чырвóна як калíна.** *Ваўк. п. Захапл.* Federowski, 70. Тое, што ек калíна хорошýха.

***калíнавы*** нявéста як калíнавая квéтка. Гл. кветка.

***калíначка*** **Узя́ў дóчку як калінóчку, а ссушы́ў, зморыў як буліночку.** *Памянш.-ласк. Жытк. Фальк.* Пра лёс жанчыны з благім мужам. ТС 1, 92.

***калóда*** **глухí як (што) калóда.** *Ваўк. п., Слуцк., Стаўб., Светл., Старадар.* Пра зусім аглохлага чалавека. Federowski, 110; Сержпутоўскі 1999, 36; Pietkiewicz, 370; Янк., 402; МК, 53, Высл., 305.

**крýглы як калóда.** Пра нешта круглае, тоўстае. Янк., 411.

**ляжáць як калóда.** *Беш., Лаг., Мсцісл·* 1. *Асудж.* Пра лянівага чалавека. 2. *Спачув.* Пра хворага, што не ў стане рухацца. Каспяровіч, 5; Янк., Пар., 98; Varłyha, 14; Юрчанка, 185.

**распýхнуць як калóда.** *Івац. Спачув.* Пра распухлую частку цела. ЗЗайкі.

**рýкі як калóда.** *Краснап. Няўхв.* Пра распухлыя, непаслухмяныя рукі. Бялькевіч, 240.

**стая́ць як калóда.** *Уздз. Няўхв.* Пра кагосьці, хто нерухома стаіць з разгубленым, няўцямным выглядам. Высл., 389.

**цяжкі як калóда.** *Ваўк. п., Мсціслъ.* Пра некага, нешта цяжкае, тоўстае. Federowski, 57; Юрчанка, 185.

**гнілóю калóдаю жыццё пражы́ць.** Пра раўнадушнае, абыякавае жыццё каго-н. НН, 450.

**як пень цéраз калóду.** *Бран. Няўхв.* Пра бесталковае, абы-якое выкананне справы. Расторгуев, 260.

**нóгі як калóды.** *Лаг., Сміл., Лоеў. Няўхв.* Пра тоўстыя, распухлыя, непаслухмяныя ногі. Высл., 355; Янкова, 224.

прывíцца як чарвя́к у калóдзе. Гл. чарвяк.

**гладзелны бы колóда.** *Стол.* Пра вельмі сытага, тоўстага чалавека, жывёлу. ТС 1, 201.

**жы́то як колóда.** *Жытк. Ухв.* Пра густое добрае жыта, траву. ТС 2, 207.

**тóўсты ек колóда.** *Жытк. Няўхв.* Пра тоўстага непаваротлівага чалавека. ТС 5, 148.

***калóддзе*** **ножы́шчы як калóдзьдзя.** *Мсціслъ. Няўхв.* Пра нейчыя вельмі тоўстыя непаслухмяныя ногі. Юрчанка 1993, 265.

***калóдзеж*** **кідáць як у бяздóнны калóдзеж.** *Ваўк. п. Няўхв.* 1. Пра чалавека, які бяздумна ставіцца да грошай і шмат траціць. 2. Пра чалавека, які шмат есць. Federowski, 143; Санько, 146.

бóўнуць як жáба ў калóдзежы. Гл. жаба.

**цёмна як у калóдзежы.** *Рэч.* Пра цемень у памяшканні. ЛЦ, 14.

як у калóдзежы *дзе. Мсціслъ.* Юрчанка, 200. Тое ж.

**вісéць ек у колóдзежы.** *Стол.* Пра надвор'е, калі хмурыцца, навісае. ТС 1, 127.

***калóдзішча*** **як калóдзішча.** *Мсціслъ. Няўхв.* Пра занадта тоўстую, няўклюдную жанчыну. Юрчанка 1998, 36.

| | |
|---|---|
| ***калóдка*** | **ногі як калóдкі.** *Памянш. Ганц., Зэльв. Няўхв.* Пра тоўстыя, апухлыя ногі. ДА; Сцяцко 2005, 49. |
| | **рýкі як калóдкі.** *Івац. Няўхв.* Пра нязграбныя апухлыя рукі. ЗЗайкі. |
| | **сядзéць як колóдка.** *Лоеў. Асудж.* Пра неруплівага, няўмелага чалавека. Янкова, 149. |
| ***калóк*** | **рýкі як калкí.** *Паст.* Пра азяблыя ці амярцвелыя рукі, што не хочуць гнуцца, дзейнічаць. СПЗБ 2, 324. |
| | **як калкóм набíта** *дзе. Ваўк. п.* Пра перапоўненае людзьмі памяшканне. Federowski, 194. |
| | вісéць як варóна на калкý. Гл. варона. |
| | ціліпáцца як варóна на калкý. Гл. варона. |
| | **адзíн (сам адзíн, адзінóкі) як калóк [у пóлі, у плóце].** *Навагр. Спачув.* Пра самотнага адзінокага чалавека. Federowski, 6, 280; ФА. |
| | адзінóкі як калóк у пóлі. ЛА, 30. Тое ж. |
| | **гóлы як калóк.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра беднага няшчаснага чалавека. Federowski, 112. |
| | **як той калóк.** Пра нешта нягнуткае, цвёрдае, непрыдатнае для чаго-н. Санько, 70. |
| | **вісéць (матляцца) як на калý (калкý).** *Брэсц., Івац., Лаг., Слуцк. Няўхв.* Пра адзенне на схуднелым чалавеку. Высл., 293; Нар. лекс., 197; Ройзензон, 81; ЗЗайкі. |
| | **як од колкá.** *Стол.* Пра вельмі хуткае, рэзкае падскокванне, кіданне. ТС 2, 208. |
| | **тóлку як у гнілы́м кóлку.** *Докш. Іран.* Пра адсутнасць ладу, парадку дзе-н. Высл., 399. |
| ***калóмазь*** | **прыставáць** *да каго* **як калóмазь.** *Жытк. Няўхв.* Пра надта прыставучага, надакучлівага чалавека. Мат. Гом., IV, 199. |
| ***калóшы*** | такí хорóшы ек у стáрца калóшы. Гл. старац. |
| ***калтýн**, гл.* ***каўтун*** | |
| ***калýн*** | **вóстры як калýн.** *Слон. Іран.* Пра нешта не толькі не вострае, але і выразна тупое. Высл, 294. |
| | **як калýн плаваць.** *Іран.* Пра чалавека, які не ўмее плаваць. ФСБМ 1, 480. |
| ***калхóзны*** | абáбіцца як калхóзны конь. Гл. конь. |
| ***калыхáнка*** | прывы́кнуць як дзіця́ да мáтчынай калыхáнкі. Гл. дзіця. |
| ***Кальвáрыя*** | як у Вíльні на Кальвáры *дзе.* Гл. Вільня. |
| ***кальцó*** | знайсці як два канцы́ ў кальцы́. Гл. канец. |
| ***каля́дны*** | даўжэ́зны як каля́дная свячá. Гл. свяча. |
| | як каля́дный гром. Гл. гром. |
| | як каля́дный лёд. Гл. лёд. |
| ***Каля́ды*** | як ад куцці да Каля́д. Гл. куцця. |
| | асмáлены бы свіння́ пéрад Каля́дамі. Гл. свіння. |
| | **агню як на жыдóўскія Каля́ды.** *Ваўк.* Калі хата асветленая больш, чым заўсёды. Federowski, 368. |
| | сяваць як ваўчы́ца на Каля́ды. Гл. ваўчыца. |

галава́ пуста́я як за́сяк посьля Каля́т. Гл. засяк.

**маро́з як на Ко́ляды.** *Ваўк. п.* Пра самыя моцныя маразы. Federowski, 147.

***каля́ска***

**Ла́ска не каля́ска, ся́дзеш – не пае́дзеш.** *Мядз. Прык. Жарт.* Пра ветлівасць, з якой няма вялікай бачнай карысці. Tyszkiewicz, 417; Dybowski, 13; Дуб., 33; Federowski, 169; Сцяшковіч, 596; АВНЛ.

**Ла́ска – не каля́ска, не ся́дзеш, не пае́дзеш.** *Слуцк. Прык.* Васильев, 29; Сахараў. Тое ж.

***калясні́ца***

як чорт на калясніцы. Гл. чорт.

***каляcо́***

круці́цца як жа́ба ў калясе́. Гл. жаба.

**во́чы як на калясе́.** Пра какетлівы, ігрывы жаночы позірк. Тарас на Парнасе.

круці́цца як бе́лка ў калясе́. Гл. белка.

**лад** *дзе* **як у млы́навым калясі.** *Слон. п. Ухв.* Пра парадак, адладжанасць. Federowski, 169.

**круці́цца як калясо́.** *Івац. Няўхв.* Пра надта мітуслівага, няўрымслівага, бойкага чалавека. ЗЗайкі.

**трэба як разбі́тае калясо́ ў во́зе.** *Ваўк. Іран.* Пра абсалютную непатрэбнасць чаго-н. ФА.

**раз’е́хацца як калясо́.** *Слон. Жарт.* Пра чалавека, што ўрэшце ад душы рассмяяўся. Даніловіч, 162.

**Броў калясо́м і сапе́ль пад насо́м.** *Прык. Насмешл.* Пра некага недарослага, які, аднак, задзірыста, ганарыста сябе паводзіць. Дуб., 7; Нос., 9.

***калячко́***

**як калячко́ круці́цца.** *Памянш. Гродз.* Пра вельмі хуткае мінанне часу. Даніловіч, 229.

***кама́нда***

**як па кама́ндзе.** *Ухв.* Пра адначасовае і дакладнае выкананне чаго-н. некалькімі асобамі. ФСБМ 1, 481.

***каманíца***

**сяді́ць як щаме́ль на каманицы.** *Смал. Ухв. Жарт.* Пра чалавека, які добра, утульна недзе ўладкаваўся. Добр., Смол., 309. < Шчамель – чмель; каманіца – травяністая расліна з блакітнымі кветкамі.

***кама́р***

**гудзе́ць над ву́хам як кама́р.** *Няўхв.* Пра дакучлівага чалавека, які ўвесь час падае свой голас. ФСБМ 1, 199.

**звіне́ць як кама́р.** *Докш. Няўхв.* Высл., 326; Янк., Пар., 71. Тое ж.

**Карчма́р як кама́р: дзе ся́дзе, там і п’е.** *Прык. Жарт.* Пра карчмара, які проста знаходзіць сабе прыбытак. Ахрым., 15.

**Крама́р як кама́р: дзе ся́дзе, там і п’е.** *Прык. Жарт.* Пра гандляроў, якім лёгка знаходзіць сабе прыбытак. Янкоўскі 1971, 90.

**лёгкі што кама́р.** *Слон.* Пра малога худога дзіцяя. Высл., 341.

**надае́дны як кама́р.** *Маг. Асудж.* Высл., 350. Тое, што звінець як камар.

**напі́цца як кама́р крыві́.** *Слон. Асудж.* Пра крэпкае ап’яненне. Высл., 352.

**скака́ць бы кама́р у во́чы.** *Асудж.* Пра дакучлівага непрыемнага чалавека. Нар. лекс., 235.

**сядзе́ць што кама́р за пе́чкаю.** *Мсцісл.* Пра ціхае жыццё без якой-н. актыўнасці. Юрчанка 1977, 228.
**укол як камар укусіў.** *Мін.* Пра небалючы ўкол. ЗВалодзінай.
**яко́е яго́ жы́ла: як кама́р на камарницы.** *Смал. Няўхв.* Пра чыёсьці беднае, неўладкаванае жыццё. Добровольский III, 35.
**Зла як у казла́, а сілы як у камара́.** *Гом. Прык. Здзекл.* Пра злоснага, рэзкага, але слабога чалавека. ПП 2, 257.
вы́смактаць як craся́нка камара́. Гл. расянка.
**сілы як у камара́.** *Ваўк. п., Слуцк. Іран.* Пра слабога, нямоглага чалавека. Federowski, 277; Сержпутоўскі 2000, 218.
**па́льцы лята́юць па папе́ры як камары́.** *Ваўк. п.* Пра спрытнае пісанне. Federowski, 235.
**таўчы́ся як камары́ на паго́ду.** *Мсцісл.* Пра нейчы бесперапынны рух. Юрчанка, 185.
таўку́ць (таўку́цца) як камары́ мак. Янк., 432. Тое ж.
**седзе́ць ек комáр у порохне́.** *Жытк. Няўхв.* Пра беднае, ціхае жыццё чалавека. ТС 2, 211.
**ядо́к ек той комар.** *Стол. Насмешл.* Пра чалавека, які зусім мала есць. ТС 2, 50.

***камарніца*** яко́я яго́ жы́ла: як кама́р на камарни́цы. Гл. камар.

***камаро́ў*** малю́сенькі як камаро́вы насо́к. Гл. насок.
каласкі як камаро́выя наскі. Гл. насок.
зімо́вы дзянёк што камаро́ў насо́к. Гл. насок.

***кама́шачка*** **мале́нькае як кама́шачка.** *Памянш.-ласк. Лоеў. Спачув.* Пра вельмі маленькае дзіця. Янкова, 237.

***кама́шка*** **як кама́шка стара́нны.** *Лоеў. Ухв.* Пра стараннага, працавітага, руплівага чалавека. Янкова, 149. < Камашка – мурашка.

***каме́ль*** **мо́цны як каме́ль.** *Люб. Ухв.* Пра моцнага, дужага хлопца. ДА.
**хло́пец як каме́ль.** *Ухв.* Янк., Дыял., I, 223. Тое ж.
**На ро́днай зямлі́ як на камлі́.** *Прык.* Пра пачуццё ўпэўненасці, спакою на радзіме. Янкоўскі 1971, 10.

***каме́нне*** цяга́ць як дурны́ каме́нне. Гл. дурны.
**як каме́нне.** 1. Пра нешта цяжкае. 2. Пра нейкі вялікі плод, прадмет наогул. Юрчанка, 186.
**мно́га як каме́ння.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Янк., Пар., 104.

***каме́нны*** як за ка́меннай сцяно́й. Гл. сцяна.
жыць (пражы́ць век) як за ка́меннай сцяно́й. Гл. сцяна.
жыць як за ка́меннаю гаро́й. Гл. гара.
як ка́менная сцяна́. Гл. сцяна.

***ка́мень*** **сядзе́ць ка́менем.** *Сен., Стаўб. Зласл. Незадав.* 1. Пра нейкую перашкоду ў справе. 2. Пра сцішанае, спакойнае сядзенне. МК, 254.
**бо́ўкнуць як ка́мень у вады́.** *Няўхв.* Пра бясследнае знікненне чаго-, каго-н. Носович, 28.
**бы́ццам ка́мень з сэ́рца спаў.** *Ухв.* Пра чалавека, які адчуў вялікую палёгку, супакоіўся. Санько, 69.
**вісе́ць як ка́мень на шы́і.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра адчуванне цяжару доўгу, нейкай справы, абавязку. Federowski, 155.

**глізо́вы хлеб бы ка́мень.** *Лун. Няўхв.* Пра ацеслівы хлеб. Шаталава, 41.

дзе́ці гадава́ць як сіні́цы ка́мень клява́ць. Гл. сініца.

**засну́ць/спаць бы/як ка́мень.** *Слуцк.*, *Маст.*, *Воран.* Пра чалавека, які заснуў моцным, беспрабудным сном. Сержпутоўскі 1999, 169; Даніловіч, 229.

**заця́цца як ка́мень.** *Слон.* Пра чалавека, які моцна і рашуча змоўк, заўпарціўся, заця̆ўся. Высл., 325; Санько, 133.

**здаро́вы як ка́мень.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі здаровага, моцнага чалавека. Юрчанка 1969, 93.

**зямля́ [перасо́хла] як ка́мень.** *Жлоб.*, *Мсцісл.* Пра значную сухасць і цвёрдасць глебы. Мат. Гом., IV, 207; Юрчанка 1969, 72.

**ка́нуць як ка́мень у ваду́.** *Валож.* ДА. Тое, што бо́ўкнуць як ка́мень у ваду́.

**кі́нуць** *што/каго* **як ка́мень у ваду́.** *Няўхв.* Пра выкінутую рэч або чалавека, пакінутага на згубу. Янк., Пар., 85.

**крэ́пкі як ка́мень.** *Ухв.* Пра вельмі здаровага, моцнага чалавека. Янк., 412.

**ляжа́ць як ка́мень.** *Мсцісл.* Пра нерухомае ляжанне. Юрчанка, 186.

**маўча́ць (спа́ць) як ка́мень.** *Хоц.*, *Рэч.* Пра чалавека, які нічога не выдаў, ні пра што не сказаў. ЛЦ, 65.

**маўча́ць як ка́мень пры даро́зе.** Янк., Пар., 103. Тое ж.

**мо́цны як ка́мень.** *Ухв.* Янк., 415. Тое, што крэпкі як камень.

**Ні ро́ду, ні пло́ду – як ка́мень у во́ду.** *Віл.*, *Гродз.* Пра чалавека, што не мае нашчадкаў. ФА; Янкоўскі, 78; Цыхун, 189.

**пайсці́ на дно як ка́мень.** *Слуцк.* Пра нешта цяжкае, што адразу пайшло на дно. Сержпутоўскі 1999, 72.

**папяро́к го́рла стаў як ка́мень.** 1. Пра непрыемнае адчуванне ў час спажывання цяжкай, тлустай ежы. 2. *Няўхв.* Пра чалавека, які не дае жыць другому, перашкаджае яму. Ройзензон, 75.

**прапа́сці як ка́мень у во́ду.** *Слуцк.* Пра рашучае знікненне чаго-, каго-н. Сержпутоўскі 1999, 68.

**пра́ўда як ка́мень пла́вае.** *Ваўк. п. Іран.* Пра няпраўду, выдумку. Federowski, 247.

**скры́тны як спо́дні жо́рнаў ка́мень.** Пра чалавека скрытнага, маўклівага, што не імкнецца да грамады. Высл., 385.

**Сэ́рца не ка́мень.** *Прык.* Пра мяккасць, адчувальнасць, пачуццёвасць каго-н. Federowski, 274; Сержпутоўскі 1999, 62.

**така́я пра́ўда як ка́мень пла́вае.** *Іран.* Пра адсутнасць праўды наогул. Янкоўскі, 217.

**тра́піць як ка́мень у во́ду.** *Рэч.* Pietkiewicz, 357. Тое, што прапасці як камень у воду.

тра́піць як каса́ на ка́мень. Гл. каса.

**цвёрды як ка́мень.** *Ваўк. п.*, *Мсцісл.*, *Івац.* 1. *Няўхв.* Пра чорствы хлеб. 2. *Ухв.* Пра цвёрды характар прынцыповага чалавека. Federowski, 59; Янк., Пар., 186; Юрчанка, 186; ЗЗайкі.

**ця́жкі як ка́мень.** *Мсцісл.* Пра нешта вельмі цяжкае. Юрчанка, 186.

**ця́жка** *каму* **як ка́мень на душы́.** *Ваўк. п., Івац. Спачув.* Пра моцныя душэўныя перажыванні. Federowski, 57; ЗЗайкі.

*хто* **да пе́сень як каме́нь да вады́.** *Іўеў. Іран.* Пра няздатнага да спеваў чалавека. АВНЛ.

**язы́к лята́е як ка́мень у млы́не.** *Сак. п. Іран.* Пра балбатлівага чалавека, што без перапынку круціць языком. Federowski, 126.

**як ка́мень з грудзе́й ссу́нуўся.** *Ваўк. п.* Federowski, 135. Тое, што быццам камень з сэрца спаў.

**як ка́мень з душы́ спаў.** *Івац.* ЗЗайкі. Тое ж.

**як ка́мень з сэ́рца спаў.** *Слон.* Высл., 427. Тое ж.

**як ка́мень на шы́і** *хто/што. Няўхв.* Пра нешта, некага, што моцна абцяжарваюць чалавека. Янк., 445.

**як саба́ка на ка́мень – так ты пагара́ў.** *Няўхв.* Пра вельмі някаснае ворыва. СПЗБ 1, 422.

**як [той] ка́мень на бару́.** *Вілен. Спачув.* Пра самотную адзінокую жанчыну. Sielicki, 159.

**Не вы́йсці бе́днаму з бяды́, як ка́меню з вады́.** *Слон. Прык.* Пра вялікую цяжкасць вырвацца з беднасці. Арх. Гр.

**даста́неш (трудно) як з ка́меня вады́.** *Ваўк. п., Слон. Іран.* Пра немагчымасць нешта дастаць, атрымаць. Federowski, 246, 314; Высл., 311.

**ідзе́ як з ка́меня.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра надта марудны рост раслін. Federowski, 122.

***камёлак*** **ця́жкі як камёлак.** *Хоц. Ухв.* Пра крэпкае, дагледжанае дзіця. ЛЦ, 128.

**здаро́вы як камёлык.** *Хоц. Ухв.* Пра моцнага, здаровага чалавека. Бялькевіч, 474. < Камёлак – камель, ніжняя частка ствала дрэва, больш моцнае, цвёрдае ў параўнанне з вяршыняй.

***камiна́р*** **вы́мазацца як камiна́р.** *Карэл., Лаг. Няўхв.* Пра бруднага, чорнага, закопчанага чалавека. Сцяшковіч, 212; Мін.-Мал., 1977, 60.

**уве́сь як камiна́р.** *Лоеў. Няўхв.* Янкова, 81. Тое ж.

***камiна́рнiк*** **хадзі́ць як камiна́рнiк.** *Уздз. Няўхв.* Пра вельмі забруджанага, закапцелага чалавека. СЦБ, 180.

**чо́рны (мурза́ты) як камiна́рнiк.** *Ваўк. п., Стаўб. Няўхв.* Federowski, 66; Жыв. сл., 107; Янк., Пар., 105. Тое ж.

***камiса́рскi*** як камiса́рскiя до́чкi рышчачэніцца. Гл. дачка.

***камо́ра*** **як у камо́ры пасля́ вераб'ёў** *дзе.* 1. *Няўхв.* Пра поўны беспарадак, забруджанасць. 2. *Насмешл.* Пра поўнае з'яданне, знішчэнне чаго-н. адкуль-н. Ройзензон, 81.

***ка́мушак*** **крэ́пкi як ка́мушак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Юрчанка, 186. Тое, што крэпкі як камень.

**цвёрды як ка́мушак (камушо́к).** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Юрчанка, 186. Тое, што цвёрды як камень.

***камушо́чак*** **кре́пiнькiй як кумушо́чык.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра здаровенькае, дагледжанае, поўненькае дзіця. Юрчанка 1993, 210.

***камя́к*** **што камя́к.** *Шчуч. Ухв.* Пра цяжкую, сытую хатнюю птушку. СПЗБ 2, 393.

***камярдзёлак*** **здаро́вы як камярдзёлак.** *Сміл. Ухв.* Пра здаровага, моцнага чалавека. Шатэрнік, 129. < Камярдзёлак – тут: здаравяк.

***кана́ва*** спыні́цца як ста́ры конь пе́рад кана́вай. Гл. конь.

***канавя́зь*** **крыча́ць як у канавя́зі.** *Брасл. Асудж.* Пра чалавека, які неадпаведна сябе паводзіць, у памяшканні крычыць, нібы на двары. Рабкевіч, 99.

***канаплі́на*** **то́нкі як канапля́на.** *Ваўк. п.* Пра тонклявага, хударлявага чалавека. Federowski, 313.

**вы́цягнуло як канаплі́ну.** *Гродз.* Пра маладога чалавека, што неўпрыкмет вырас, стаў высокі. Цыхун, 178.

***кандалы́*** **ступа́ць як у кандала́х.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра хаду чалавека ў нязручным абутку. Юрчанка, 296.

***ка́ндзер*** **храпсці́ як кандзер у каду́шку.** Слон. Няўхв. Пра нейчы моцны, раскацісты, гучны храп. Даніловіч 2008, 136.

***канды́біна*** **вы́цягнуцца як канды́біна.** *Валож. Няўхв.* Пра высокага, хударлявага чалавека. МК, 267. < Кандыбіна – доўгая жэрдка або высокае, здаровае дрэва.

***кане́ц*** **як на пустэ́й (пусты́й) кане́ц.** *Мсцісл.* Пра дрэннае развіццё справы, тупіковую сітуацыю. Юрчанка, 174.

**знайсці́ як два канцы́ ў кальцы́.** *Брэсц. Насмешл.* 1. Пра чалавека, які «знайшоў» тое, чаго няма па вызначэнні. 2. Пра бессэнсоўнасць пошукаў, немагчымасці знайсці каго- ці што-н. ЛЦ, 107.

***канёўка*** **дождж лье як з канёўкі.** *Ваўк. п.* Пра моцны дождж. Federowski, 81. < Канёўка – конаўка, кубак.

***кано́плі*** **вы́скачыць як з канапе́ль.** *Віл. Насмешл.* Пра нейчае нечаканае з’яўленне. СПЗБ 1, 369; Станкевіч, 535.

вы́скачыць (вы́рвацца) як Піліп (Раман, шля́хціц, пе́вень) з канапе́ль. Гл. Піліп.

І ў ста́рца душа́ не пень: хо́ча хле́ба і канапе́ль. Гл. пень.

вы́скачыць як го́лы з кано́пель. Гл. голы.

збіра́цца як гало́дны ў кано́плі. Гл. галодны.

ціснуць як гнёт на кано́плі. Гл. гнёт.

накі́нуцца (наляце́лі) як вераб’і на спе́лыя кано́плі. Гл. верабей.

**Дзяце́й як кано́плі, а хле́ба ні кро́плі.** *Гарад. Прык. Жарт.* Пра беднага чалавека, у якога шмат дзяцей. АВНЛ.

кі́нуцца ў паку́ту як саба́кі ў кано́плі. Гл. сабака.

сябраваць як таўка́ч з кано́плямі (маслё́нкаю). Гл. таўкач.

уцяка́ць як чорт з кано́пляў. Гл. чорт.

пазяха́ць як су́чка ў кано́плях. Гл. сучка.

**што ў коно́плі.** *Іван. Няўхв.* Пра непрыгожага, абарванага чалавека. ЗВалодзінай.

плу́тацца бы п’я́ны по коно́плях. Гл. п’яны.

развы́цца як воўк у кано́плях. Гл. воўк.

***ка́нуць*** знік як у Нёман ка́нуў. Гл. Нёман.
як у ваду́ ка́нуць. Гл. вада.

***канфо́р*** **знікнуць як канфо́р (кампо́ра) [у гарэ́лцы].** *Мядз., Слон.* Пра хуткае бясследнае знікненне каго-, чаго-н. Высл., 330. < Канфор – камфара.

***капа́*** **жо́нка ў папа́ як капа́.** *Слуцк. Жарт.* Пра мажную матушку-пападдзю. Сержпутоўскі 1999, 139.
**сядзе́ць як капа́ се́на.** *Бран. Насмешл.* Пра тоўстую непаваротлівую жанчыну. Расторгуев, 131.
**блоха́ бі копа́.** *Жытк. Жарт.* Пра задужа буйную блыху. ТС 1, 63.

***капе́йка*** **як но́вая капе́йка.** *Іўеў., Слон. Ухв.* Пра нешта, некага вельмі прыгожых, прыстойных. Даніловіч, 239.
**гля́нуць (паглядзе́ць, зірну́ць) як капе́йку (тры гро́шы, грош) даць (як рублём падары́ць).** *Жарт.* Пра асаблівы, вельмі выразны погляд. Высл., 306; Дуб., 22; Носович, 115; Нос., 128; Сержпутоўскі 1999, 39, 137; Шырма, 205; Янк., 403; Матэрыялы 1981, 116.
**стра́ціць як адну́ капе́йку.** Пра хуткае і бяздумнае развядзенне ўсіх грошай. БПФС, 105.
**у свет як у капе́йку.** *Смаляв., Мсцісл. Жарт.* Пра нейкае адчайнае падарожжа ў невядомае. ФА; Юрчанка, 174.
**про́сты як тры капе́йкі.** *Нясв. Жарт.* Пра наіўнага, нямудрага чалавека. ФА.
**одзе́цца ек но́ва копе́йка.** *Жытк. Жарт.* Пра чалавека ў новым святочным адзенні. ТС 2, 216.

***ка́пелька*** **бы ка́пелька вады́.** *Памянш. Слуцк.* Пра кагосьці вельмі падобнага да іншага. Сержпутоўскі 1999, 10.

***капля*** **дабра́цца як дзве ка́плі вады́.** *Ваўк. п., Рэч.* Пра дзвюх асоб, вельмі падобных адна на адну. Federowski, 324, 71; Pietkiewicz, 397; ЛА, 25.
**не даць, не ўзяць як дзве ка́плі вады́.** Нос., 111. Тое, што дабрацца як дзве ка́плі вады́.

***капу́ста*** **галава́ як капу́ста.** *Насмешл.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Ройзензон, 69.
папа́сці як па́льцам у капу́сту. Гл. палец.
уна́дзіцца як за́яц у капу́сту. Гл. заяц.
Це́ла не скwа́рка, капу́сту не запра́віш. Гл. скварка.
галава́ што кача́н капу́сты: хоць і вялі́кая, але без ро́зуму. Гл. качан.
бая́цца як каза́ капу́сты. Гл. каза.
пасіве́ць як хра́пка ў капу́сты. Гл. храпка.
гадава́цца як за́яц у капу́сце. Гл. заяц.
разбіра́цца як свіння́ ў капу́сце. Гл. капуста.
стыда́цца як казёл у капу́сце. Гл. казёл.
цяга́цца як Бро́ня па капу́сце. Гл. Броня.
хава́цца ек зеўзю́ля по капу́сці. Гл. зязюля.

***капы́л*** **прыго́ж: нос капыло́м, барада́ кляўцо́м.** *Краснап. Іран.* Пра некага зусім непрыгожага, з шырокім вялікім носам. Бялькевіч, 289.

***капы́т*** грýкаць як конь капы́тамі. Гл. конь.

***капыто́к*** **грыбкі як капыткі.** *Памянш.* Пра форму грыбоў, што нагадваюць конскі капыт. Янк., Пар., 45.

***кара́*** **ліць што з кары́.** *Шум.* Пра моцны, спорны дождж. СПЗБ 2, 411.

**як бяро́зава кара́.** *Капыл. Спачув.* Пра скуру хворага, усыпаную струпкамі, балячкамі. ДА.

***ка́ра*** **ле́зці ў во́чы як ка́ра [тая].** *Сміл. Няўхв.* Пра назойлівага, прыставучага чалавека. Шатэрнік, 146.

**Смэрть – ны ка́ра.** *Драг. Прык.* Пра разуменне смерці як заканамернасці. Скарбы, 94.

**як за ка́ру.** *Гродз.* Пра вельмі цяжкае, пакутлівае выкананне чаго-н. Даніловіч, 224; Леп., 85.

***караго́д*** **стая́ць** *на кім* **караго́дам.** *Бран.* Пра жаночае адзенне з грубай тканіны. Расторгуев, 132.

***ка́рак*** круцíцца як з асцюко́м за ка́ркам. Гл. асцюк.

***карале́ўна*** **дачка́ як карале́ўна.** *Захапл.* Пра прыгожую, хораша апранутую, гордую дзяўчыну. Янк., Пар.,52.

**хадзíць як карале́ўна.** *Захапл.* Янкоўскі, 1968, 45. Тое ж.

***кара́нік*** вы́цягнуць як тру́тня з кара́ніка. Гл. труцень.

лю́ду як пчол у каранікý (вуллі). Гл. пчала.

***кара́ўнік*** **ру́кі як у кара́ўніка.** *Пол. Асудж.* Пра брудныя нямытыя рукі. ЖН, 18.

***кара́ч*** **як кара́ч.** *Лях. Асудж.* Пра нешта вельмі забруджанае, запушчанае. СПЗБ 2, 416. < Карач – брудны ручнік, сціркa.

***карачы́*** **хадзíць як на карача́х.** *Лаг. Няўхв.* Пра хаду на хворых нягнуткіх нагах. Varłyha, 51. < Карачы – высокія драўляныя падстаўкі пад ногі, на якіх падлеткі любяць шуткавацца.

***Ка́рла*** **рабíць як па́па Ка́рла.** *Бераст., Свісл.* Пра цяжкую, з высілкамі працу. Даніловіч, 240; Леп., 91.

***карма́н*** Івану ў кафта́не што зло́дзею ў карма́не. Гл. злодзей.

***карму́шка*** унуры́цца як конь над пусто́й карму́шкай. Гл. конь.

***каро́бачка*** круцíцца як уюны́ ў каро́баццы. Гл. уюн.

***каро́бка*** **Галава́ як каро́бка, а дурны́ як про́бка.** *Клецк. Прык. Няўхв.* Пра дурнога чалавека. АВНЛ; БФМ, 241.

**Век пражы́ць – не каро́бку сшыць.** *Ветк. Прык.* Пра складанасці ў жыцці, яго няпросты бег. ЗЛапаціна.

круцíцца як су́ка ў каро́бцы. Гл. сука.

***каро́ва*** **абленава́цца як Ле́йзерава карова.** *Ваўк. п., Слон., Уздз., Слуц. Насмешл.* Пра чалавека, што зусім разгультаіўся, абленаваўся. Federowski, 2; Высл., 279; Сержпутоўскі 1999, 60.

**вадзíцца як каро́ва з целям.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нейчую празмерную клапатлівасць, апякунства. Federowski, 326.

**валачыцца бы жыдо́ўська коро́ва.** *Стол. Пагардл.* Пра бязмэтавае бадзянне, шуканне занятку ці спажывы. ФА.

**выду́рвацца як каро́ва на лёдзе.** *Маст. Няўхв.* Пра непрыгожае, нязграбнае выдурванне кагосьці. Даніловіч, 229.

**вы́лізаць як каро́ва цяля́.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра старанны, клапатлівы догляд кім-н. свайго дзіцяці. Federowski, 344.
**глядзе́ць як каро́ва на каро́ву.** *Ушацк.* Відаць, пра абыякавы, непрыхільны пагляд. Барадулін, 112.
**дабра́цца (дапа́сці)** *да чаго* **як каро́ва да бра́гі.** *Ваўк. п.*, *Слон. Кплів.* Пра чалавека, які моцна ў нешта ўсмактаўся, дарваўся да нечага лакамага. Federowski, 76; Высл., 310.
**задры́пацца як ме́льнікава каро́ва.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра неахайную жанчыну. Federowski, 347.
**здаро́ва як [ме́льнікава] каро́ва.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра сытую, здаровую жанчыну. Federowski, 353.
**Здаро́ва як каро́ва, бага́та як зямля́, пладаві́та як свіння́.** *Брасл. Фальк.* З вясельнага пажадання маладой. Рабкевіч, 82.
**змя́та (пакаме́чана) як каро́ва пажава́ла.** *Слон. Няўхв.* Пра моцна пакамечаную вопратку ці яе дэталі. Высл., 330.
**ісці́ [паво́лі] як каро́ва нае́ўшыся.** *Хоц. Няўхв.* Пра павольную, няспешную хаду каго-н. Бялькевіч, 301.
**ісці́ як каро́ва па лёдзе.** *Касц.*, *Бар.*, *Воран.*, *Свісл. Жарт.* Пра няўпэўненую, асцярожную хаду па слізкай паверхні, калі ногі раз'язджаюцца ў розныя бакі. ЛЦ, 71; Даніловіч, 229.
**красі́ва як каро́ва сі́ва.** *Драг. Іран.* Пра зусім не прыгожага чалавека. Скарбы, 93.
**лётаць як каро́ва бра́жная.** *Лаг. Зневаж.* Пра нястрыманую ў паводзінах, узбуджаную часцей жанчыну. СЦБ, 186.
**ляжа́ць як каро́ва лянд́эрская.** *Шчуч. Няўхв.* Пра бесклапотнае, без справы і дбання ляжанне. Даніловіч, 229.
**[няма́ нічо́га] як каро́ва языко́м злізáла/злізну́ла.** *Асіп.*, *Івац.*, *Дзярж.*, *Маст.*, *Валож.*, *Мін.*, *Рэч.*, *Стаўб.*, *Стол.*, *Пін.* Пра хуткае і бясследнае знікненне каго-, чаго-н. Юрчанка 1977, 214; Сцяшковіч, 616; МК, 311; СЦБ, 165; ЛЦ, 130; ФА; АВНЛ; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі; Нар. скарбы, 142.
**Прахо́дзіць Пакрова – раве́ дзе́ўка бы каро́ва.** *Слуцк. Прык.* Пра падрыхтоўку дзяўчыны да плачу на вяселлі альбо пра дзеўку, якая на гэты год засталася нявысватанай. Сержпутоўскі 1999, 64. < З Пакровамі надыходзіць перыяд вяселляў, калі маладусе давядзецца плакаць.
**разбрыня́ць як каро́ва на до́брай па́шы.** *Карэл. Няўхв.* Пра занадта распаўнелую на добрых харчах жанчыну. Высл., 375.
**раўсці́ як каро́ва лянд́эрская (ранд́эльская).** *Маст. Асудж.* Пра вельмі моцны, голасны плач, крык. Даніловіч, 229.
**ры́каць як нядо́еная каро́ва.** *Хоц. Няўхв.* Пра часты, дакучлівы поклічны крык каго-н. ЛЦ, 120.
**скаўза́цца як каро́ва на льду.** *Асіп.* АВНЛ. Тое, што ісці́ як каро́ва па лёдзе.
**стая́ць як до́йная каро́ва.** *Уздз. Насмешл.* Пра тоўстую, непаваротлівую жанчыну. Высл., 389.

**танцава́ць як каро́ва на ляду́ (лёдзе).** *Капыл.*, *Слон. Насмешл.* Пра нейчыя нязграбныя непрыгожыя танцы. Высл., 398.
**танцо́р** *з каго* **як каро́ва на лёдзе.** *Івац. Іран.* ЗЗайкі. Тое ж.
**таўчы́ся як каро́ва ў це́сце.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра нейчыя нязграбныя дзеянні, павольнае выкананне працы. Юрчанка, 186.
**трапа́ць языко́м як каро́ва хвасто́м.** *Лід. Няўхв.* Высл., 402. Тое, што ме́нціць езыко́м ек коро́ва помело́м.
**уцяка́ць (бе́гчы) як каро́ва ад аваднёў.** *Мін.*, *Хоц. Насмешл.* Пра хуткія, імклівыя ўцёкі каго-н. ЛЦ, 58.
**хадзі́ць удваі́х як каро́ва з цялём.** *Смарг.* Пра неразлучных людзей, маці з дзіцем. ФА.
**хадзі́ць як бо́ндарава каро́ва.** *Ветк.* ФА. Тое, што валачыцца бы жыдо́ўська коро́ва.
**Хоць жо́нка як каро́ва, абы здаро́ва.** *Слуцк.* Пра найпершую важнасць здароўя жонкі, а затым яе прыгажосці. Сержпутоўскі 1999, 68.
**цягацца як каро́ва (кабы́ла) Ле́йзарава (Лайззрува).** *Зэльв.*, *Івац.*, *Кам.*, *Маст. Няўхв.* Даніловіч, 229; Скарбы, 178; ЗЗайкі. Тое, што валачыцца бы жыдо́ўська коро́ва.
**цяга́цца як каро́ва за це́лям.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра нейчае неадвязнае хаджэнне за кім-н. Federowski, 57.
**што каро́ва раўсці.** *Воран. Асудж.* Пра моцны жаночы плач, крык. Арх. Гр.
**як каро́ва ляндэ́рская (рандэ́льская).** *Астр.*, *Маст.*, *Слон.*, *Шчуч. Груб.* 1. Пра каго-н. вельмі тоўстага. 2. Пра каго-н. нязграбнага, няўклюднага. Даніловіч, 229.
**як Сі́дарава каро́ва.** *Мсціcл. Жарт.* Пра поўнага, тоўстага чалавека. Юрчанка, 197.
хадзі́ць усле́д як бык за каро́вай. Гл. бык.
**патрэ́бен** *каму што* **як каро́ве бо́ты.** *Хоц. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ЛЦ, 118.
**трэ́ба** *каму што* **як каро́ве сядло́.** *В.-Дзв. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ФА.
**як на каро́ве (на свінні́) сядло́.** *Чэрык. Касц.*, *Хоц. Брэсц.*, *Івац. Кплів.* Пра неадпаведны ўбор, вопратку на кім-н. ЛЦ, 76; ЗЗайкі.
ідзе́ (пасуе, падыхо́дзіць, прыста́ла, прыхо́дзіцца) як каро́ве набэдрыкі (сядло, паўшоры, падсядзёлак). *Ваўк. п.*, *Слуц.*, *Валож.*, *Гом.*, *Івац.*, *Слон.*, *Мсціcл. Іран.* Пра нешта, што зусім не пасуе, не падыходзіць. Federowski, 251; Сержпутоўскі 1999, 56; Янк., 411; Высл., 332; Юрчанка 1977, 288; Даніловіч, 218; ЗЗайкі. < Набэдрыкі – частка збруі: шляі, якія ідуць ад хамута па баках каня і злучаюцца папярэчнымі шляямі.
**патрэ́бен як каро́ве шляя́.** *Хоц.* ЛЦ, 118. Тое, што трэ́ба як каро́ве сядло́.
**адбу́чыць** *каго* **як бо́ндараву каро́ву.** *Насмешл.* Пра моцную лупцоўку каго-н. Ром., Бел., 305. < Адбучыць – пабіць.
**драма́ць як каро́вы на сто́йле.** *Насмешл.* Пра сонных, марудных людзей. Янк., Пар., 56.

**бы коро́ва здо́хла.** *Пін. Спачув.* Пра сумнага, заклапочанага, нечым прыгнечанага чалавека. Нар. скарбы, 142.

**ме́нціць езыко́м ек коро́ва помело́м.** *Жытк. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. ТС 5, 160.

***каровя́чы*** ці́ха як у каровя́чым ву́ху. Гл. вуха.

ро́біцца як у каровя́чым ву́ху. Гл. вуха.

***каро́ль*** **то́пітца як у караля́, а ва́рытца як у бабыля́.** *Смал., Ветк. Насмешл.* Пра беднага чалавека, які імкнецца выставіць напаказ сваё нібыта багацце. Добровольский III, 78; ЗЛапаціна.

жыць як каро́ль. *Слон. Ухв.* Пра добрае, заможнае жыццё. Высл., 319.

***каро́мысел*** **як каро́місел.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нязграбнага, сутулага чалавека. Юрчанка, 186.

***каро́слівы*** хвалі́цца як цыга́н каро́слівай кабы́лай. Гл. цыган.

**чу́хацца як каро́слівы.** *Зэльв. Асудж.* Пра чалавека, які пастаянна чухаецца, цярэбіцца. Сцяцко 1970, 172.

***каро́ста*** **ле́зці як тая каро́ста.** *Асудж.* Пра назойлівага, прыставучага чалавека. СЦБ, 237.

**Любо́сь як каро́ста: калі каро́сту бо́лі дзяро́ш, дык ёна го́ры сьвярбі́ць.** *Лаг. Прык.* Заўвага збіральніка: «Прыказваюць аб сабе тыя, хто ашукаліся ў каханьні». Варлыга 1966, 50.

**прычапі́цца/прыста́ць як каро́ста.** *Няўхв.* Пра нейчае настойлівае і такое непрыемнае прыставанне, чаплянне да каго-н. БПФС, 107; Янк., 423.

**у гаре́лку как у каро́сту.** *Смал. Асудж.* Пра крэпка схільнага да гарэлкі чалавека. Добровольский III, 44.

**дра́цца як у каро́сце.** *Лаг. Асудж.* Пра чалавека, які пастаянна чухаецца, цярэбіцца. Varłyha, 35.

**часа́цца як у каро́сце.** *Слуцк. Асудж.* Сержпутоўскі 1999, 74. Тое, што драцца як у каросце.

***карто́пля*** **рот, хоць карто́плю засыпа́й.** *Карэл. Насмешл.* Пра нейчы шырокі рот. Высл., 379.

**Па́церы не карто́пля – не акі́снуць.** *Жарт.* Пра магчымасць адкласці вымаўленне пацераў. Federowski, 207.

***карто́ха*** **Во́чы як карто́хі, а не ба́чаць ні тро́хі.** *Слуцк. Прык.* Пра неадпаведнасць велічыні вачэй і зроку. Сержпутоўскі 1999, 80.

***ка́рты*** **І́ншэ прожыве́, ек у ка́рты пройгра́е, а і́ншы – ек у осто́пку прото́пчэ.** *Стол. Прык.* Пра розны лёс людзей. ТС 4, 229.

***карусе́лі*** **як на карусе́лях.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчыя неспакойныя паводзіны. Юрчанка, 191.

***карці́нка*** Ве́рачка як тарэ́лачка, тарэ́лачка як скры́пка, а Ве́ра як карці́нка. Гл. тарэлачка.

**як карці́нка.** *Мсцісл., Маладз. Ухв.* Пра вельмі прыгожага, дагледжанага чалавека. Юрчанка, 186; Гілевіч 2007, 71.

**як на карці́нцы.** *Ухв.* Пра добры парадак, лад, прыгожае абсталяванне. Янк., Пар., 184.

***карча́к,***
*гл. таксама* ***карчо́к*** — **зрабі́цца як карча́к.** *Навагр. Спачув.* Пра чалавека, што састарэў, стаў нязграбны, непрыгожы. СПЗБ 2, 426.

***карчма́*** — **сэ́рца бы зае́зджая (зае́зная) карчма́.** *Вaўк. п., Слуцк.* Пра занадта адкрытага, даступнага, магчыма, і шчырага чалавека. Federowski, 273; Сержпутоўскі 134.
адчыні́ць го́рла як варо́ты ў зае́зднай карчме́. Гл. вароты.
**крык як у карчме́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі шумныя паводзіны людзей. Federowski, 152.
**крыча́ць як у карчме́.** Санько, 148. Тое ж.
бе́гчы як шаве́ц да карчмы́. Гл. шавец.

***карчма́р*** — **запо́мніць як карчма́р даўгі́.** *Насмешл.* Пра памятлівага, уважлівага чалавека. Янк., Пар., 68.

***карчо́к*** — **ляжа́ць адно́й у ха́це як карчо́к.** *Памянш. Брасл. Спачув.* Пра адзінокую, нямоглую, недагледжаную жанчыну. СПЗБ 2, 426.
**ху́дзенькі, ста́ранькі як карчо́к.** *Памянш. Паст. Спачув.* Пра старога, нямоглага, недагледжанага чалавека. СПЗБ 5, 332.

***карчы́жка*** — **нага́ як корчи́жка.** *Смал. Няўхв.* Пра хворую скручаную нагу. Добр., Смол., 347.

***каршу́н*** — **біць** *каго* **як каршу́н куры́цу.** *Мін.* Пра рашучы моцны напад на кагосьці. Высл., 285; ЛЦ, 23.
**бяжы́ць як каршу́н ляці́ць.** *Бран. Няўхв.* Пра хуткае перамяшчэнне з агрэсіўнымі намерамі. Расторгуев, 183.
**наляцець/прыляце́ць як каршу́н.** *Івац., Паст. Няўхв.* Пра рашучае, драпежнае з’яўленне каго-н. СПЗБ 3, 138; ЗЗайкі.
**крыча́ць як на каршуна́.** *Навагр. п.* Пра гучны, настойлівы, рэзкі крык. Federowski, 138; Ройзензон, 72.
разбе́гчыся *хто куды* як кураня́ты ад це́ню каршуна́. Гл. кураня.

***кары́та*** — варо́чаць як свіння́ ў кары́це. Гл. свіння.
задава́цца як свіння́ ў кары́це. Гл. свіння.
по́ркацца як лычо́м у кары́це. Гл. лыч.
така́я пава́га як свінні́ ў кары́це. Гл. свіння.
цмо́кнуць бы свіння́ ў кары́це. Гл. свіння.
до́ўбаць як гусь обме́рзлэ коры́то. Гл. гусь.

***кары́тца*** — жыць як саба́кі ў кары́тцы. Гл. сабака.

***карэ́нне*** — **цвёрда як на карэ́нні.** *Няўхв.* Пра мулкую пасцелю, няроўнае пасланне. Янк., Пар., 186.

***карэ́та*** — зда́цца (прыда́цца, прыйці́ся; спры́тны, такі́ спасо́бны, ло́вак, зда́тны, згра́бны) як вол да карэ́ты. Гл. вол.
**На све́це як у карэ́це: е́дзеш і калы́шашся, паку́ль не вы́вернешся.** *Прык.* Пра розныя падзеі ў жыцці, якое заканчваецца адным сумным фіналам. Нос., 87.

***каса́*** — **Го́лы як біч, а во́стры як каса́.** *Рэч. Прык. Жарт.* Пра збяднелага, але задзірыстага чалавека. Pietkiewicz, 370.
**го́стры як каса́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека з вострым, задзірыстым характарам. Federowski, 113.

**джы́гацца як каса́.** *Мсціcл.* Пра апёкі крапівай. Юрчанка, 186.

**тра́піць як каса́ на ка́мень.** *Стол.* Пра сутыкненне двух моцных характараў. Высл., 400.

язы́к хо́дзіць як мянта́шка (мянта́) па касе́. Гл. мянташка.

**грыбо́ў хоць касу́ заклада́й.** *Пух.*, *Слуцк. Ухв.* Пра вялікую колькасць грыбоў. Мін.-Мал., 1970, 159; Сержпутоўскі 1999, 79.

кі́дацца як жа́ба на касу́. Гл. жаба.

крыча́ць як той ду́рань касу́ схава́ўшы. Гл. дурань.

**языќом мянці́ць як касу́ чысці́ць.** *Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Ройзензон, 80.

**чы́ста (ро́ўна) як пасля́ касы́.** *Глуск. Ухв.* Пра прыбраную пляцоўку. Мат., 186.

**дзерка́ч дзерэ́ як ко́су ме́нціць: жах-жах!** *Стол.* Пра спеў драча, падобны на гук вастрэння касы. ТС 2, 14.

***касе́ц*** **трэ́ба** *каму што* **як касцу́ маты́ка.** *Мсціcл. Іран.* Пра непатрэбную для пэўнай справы рэч. Юрчанка, 186.

***касі́ць*** **грыбо́ў, хоць касі́ць.** *Слон. п.*, *Івац. Ухв.* Пра вялікую колькасць грыбоў. Federowski, 118; ЗЗайкі.

Любі́ць – не се́на касі́ць. Гл. сена.

***каснік*** зажада́цца як Гі́ны каснікóў. Гл. Гіна.

***Ка́спар*** **даня́ць як Ка́спар су́чку.** *Вілен. Жарт.* Пра чалавека, які надта да кагосьці прычапіўся, назаляе. Sielicki, 158.

***кастра́*** **лі́пнуть як кастра́.** *Смал. Няўхв.* Пра некага ці нешта ліпучае, прыставучае. Добр., Смол., 351.

***касты́ль*** як з дугі́ касты́ль. Гл. дуга.

***касцёл*** **талака́ як у касце́лі.** *Ваўк. п.* Пра вялікі збор народу, цеснату ў памяшканні. Federowski, 310. < Талака – тут: таўкатня.

**як у касце́лі [не раўну́ючы]** *дзе. Мін. Ухв.* Пра чысціню і прыгажосць у памяшканні. Высл., 432.

убі́цца як Дзямя́н у касцёл. Гл. Дзямян.

убі́цца як Я́нкель у касцёл. Гл. Янкель.

набо́жны як свято́га Ю́р'я конь: ён да касцёла, а ён да кабы́лы. Гл. Юр'е.

**прыбра́цца як да касцёла.** *Докш. Ухв.* Пра добра, па-святочнаму апранутага чалавека. Высл., 369.

спява́ць як дзяды́ пад касцёлам. Гл. дзед.

***ка́тарга*** **рабі́ць як на ка́тарзе.** *Слон.* Пра цяжкую працу не для сябе. Высл., 379.

***ката́цца*** як сыр у ма́сле ката́цца. Гл. сыр.

***катля́р*** **чо́рны як катля́р.** *Смал. Няўхв.* Пра вельмі чорнага, нямытага чалавека. Высл., 419.

***като́к*** **хадзі́ць як крывэ́й като́к.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра нейчую нязграбную хаду. Юрчанка, 188.

*што* **як като́к без за́гваздкі.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра нешта ненадзейнае. Юрчанка, 186.

**як като́к.** *Мсціcл.* Пра шустрага, непаседлівага чалавека. Юрчанка, 186.

***като́чак*** **як кото́чек.** *Памянш.-ласк. Смал. п. Ухв.* Пра малое дзіця. Добр., Смол., 353.

***кату́х*** **дом як коту́х.** *Смал. Няўхв.* Пра малы неакуратны дом. Добр., Смол., 353.

***каўбаса́*** нае́сціся як до́ктар па́раных каўба́с. Гл. доктар.

глядзе́ць (пазіра́ць) як кот на каўбасу́. Гл. кот.

**гу́бы бы каўба́сы.** *Слон., Слуцк. Абразл.* Пра чые-н. тоўстыя вусны. Сержпутоўскі 1998, 43; Высл., 309; ЛА, 24.

ла́сы як кот (поп, пан) на каўба́сы. Гл. кот.

уна́дзіцца як кот у каўба́сы. Гл. кот.

як у саба́кі кілбаса́ на шы́і. Гл. сабака.

што кот на кілба́сы жму́рыцца. Гл. кот.

**вдэ́ржыцьця як кувбаса́ на шы́йі в суба́кы.** *Брэсц.* Казалі, калі дзіця хутка зношвае адзенне. Скарбы, 106.

***каўне́р*** ле́зці як вош на каўне́р. Гл. вош.

**ліць як за каўне́р.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат і прагавіта п’е. Federowski, 166.

прыгрэ́цца як вош за каўняро́м. Гл. вош.

*хто* як асцю́к [за каўняро́м]. Гл. асцюк.

як чэ́рці пад каўняро́м калды́чуць. Гл. чорт.

***каўне́рык*** **Чужы́ ро́цік не каўне́рык – яго не зашпі́ліш.** *Памянш. Гродз. Прык.* Пра немагчымасць забараніць гаварыць іншым. Сцяшковіч, 615.

***каўтну́ць*** забе́гчы як briefly вады́ каўтну́ць. Гл. вада.

***каўту́н*** **пworld ста́ць як калту́н да галавы́.** *Воран. Раздраж.* Пра дакучлівага чалавека, ад якога цяжка адчапіцца. СПЗБ 2, 380.

**гры́ва ўсеро́ўно як каўту́н.** *Гродз. Няўхв.* Пра зблытаную, збітую грыву ў каня. Цыхун, 72.

***кацаўба*** **ру́кі як коцаўбы.** *Івац. Няўхв.* Пра няспрытныя, няўмелыя рукі. ЗЗайкі. < Кацаўба – таўкач.

***кацёл*** **кіпе́ць як у катле́.** Пра стан узбуджэння ў сям’і, грамадзе. Янк., 411.

**мяша́цца як у катле́** *дзе. Ваўк. п.* Federowski, 186. Тое ж.

**се́рца** *ў каго* **як у катле́ кіпі́ть.** *Смал.* Пра вельмі эмацыянальнага, пачуццёвага чалавека. 2. Пра стан узбуджанасці, хвалявання каго-н. Добр., Смол., 41.

**па́рыць як у ко́тле.** *Івац., Жытк.* Пра надвор’е перад дажджом. ТС 4, 15; ЗЗайкі.

**Галава́ бы кацёл, а вума́ няма́.** *Слуцк. Прык. Насмешл.* Пра чалавека, які неразумна сябе паводзіць. Сержпутоўскі 1999, 60.

**галава́ як піўны́ кацёл.** *Няўхв.* Пра нейчую вялікую галаву. БПФС, 107.

**го́лая як кацёл.** *В.-Дзв. Насмешл.* Пра лысую галаву. ЗВалодзінай.

**пазбыткава́цца як кацёл з гаршка́.** *Слон. Іран.* Пра жарты аднаго чалавека з другога, калі яны абодва роўныя. Высл., 359. < Пазбыткаваць – пасмяяцца. Параўн.: Смяяўся кацёл з гаршка, што ён чорны, але абодва яны роўны.

ускóчыць *куды* як у гарáчый кацёл. *Мсціcл. Няўхв.* Пра неабдуманае ўмяшанне ў небяспечную справу. Юрчанка, 200.

***кацёлка*** **пакацíцца як кацёлка.** *Бар.* Пра хуткае аддаленне кагосьці. СПЗБ 2, 442.

***кацíцца*** дарóга, хоць бóкам кацíся. Гл. бокам.

***кацялóк*** **прыйшлóся як мéднаму кацялкý.** *Маст.* Пра нейкае значнае пакаранне, цяжкі абавязак. Даніловіч, 234.

***кацянёнак*** насíцца як кóшка з кацянёнкам. Гл. кошка.

***кацяня́*** **дурэ́ць як кацяня́ты.** *Ухв.* Пра малых дзяцей, што забаўна сваволяць. Янк., Пар., 57.

***качáлка*** **пакацíцца як качáлка.** *Івац.* Пра лёгкае, хуткае перамяшчэнне каго-, каго-н. ЗЗайкі. < Качалка – качалкі, прыстасаванне для разгладжвання тканіны, бялізны і інш.

***качáн*** **галавá аблéзла як качáн.** *Смал. п.* Пра чалавека з аблыселай галавой. Добр., Смол., 206.

**Галавá што качáн капýсты: хоць і вялíкая, алé без рóзуму.** *Брэсц.*, *Чэрык.*, *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які робіць неразумныя ўчынкі. ЛЦ, 44.

**крýглы як качáн.** Пра коратка абстрыжаныя валасы. Янк., 411.

***кáчар*** **закрýчваюцца валасы́ як у кáчара.** *Карэл. Ухв.* Пра трохі кучаравыя валасы. Высл., 323.

**рóзуму нямá што ў кáчара.** *Капыл. Насмешл.* Пра чалавека не вельмі разумнага, які робіць нешта не падумаўшы. ФА.

***качаргá*** **бáба што качаргá.** *Гродз. Зневаж.* Пра худую, сагнутую, нязграбную жанчыну. СПЗБ 2, 444.

**скóрчыцца як качаргá.** *Вілен. Няўхв.* Пра чалавека, які прывык горбіцца, сутуліцца. Sielicki, 162.

**рýкі як качóргі.** *Вілен.*, *Івац. Няўхв.* Пра нязграбныя, нялоўкія рукі. Sielicki, 162; ЗЗайкі.

насíцца як бáба з качаргóй. Гл. баба.

дóля гóркая як дым на качарзé. Гл. дым.

***качарэ́жны*** упёкся як качарэ́жны дым. Гл. дым.

***кáчка*** **ісцí як (бы́ццам) кáчка плывé.** *Ваўк. п.*, *Клім. Ухв.* Пра роўную, плаўную хаду кагосьці. Federowski, 48., Бялькевіч, 114; Янк., Пар., 80.

**ненаéдны (ненажэ́рны) як кáчка.** *Няўхв.* Пра чалавека з празмерным апетытам. Янк., Пар., 114.

**плáваць як кáчка ў вадзé.** *Мін. Ухв.* Пра чалавека, які добра, упэўнена трымаецца на вадзе. ЛЦ, 74.

**плёхацца як кáчка ў вадзé.** *Дзярж.* Пра чалавека, які ўпэўнена адчувае сябе ў вадзе. Высл., 373.

**спры́тны як кáчка на вадзé.** *Глуск. Ухв.* Пра спрытнага, увішнага, хуткага чалавека. Высл., 388.

**сядзéць як кáчка на я́йках.** *Іўеў. Насмешл.* Пра чалавека, які ціха сіднем сядзіць дома. Сцяшковіч, 615.

**улéзці як кáчка ў шмаравíдла.** *Люб. Насмешл.* Пра траплянне каго-н. у брудную, непрыемную справу. ФА.

**нос як у ка́чкі.** *Няўхв.* Пра пляскаты непрывабны нос. Янк., Пар., 115.

***качо́лка*** **то́ўсты як качо́лка.** *Рэч.* Пра тоўсценькага, круглага чалавека. Матэрыялы 1981, 118.

***качу́лка*** **по́ўны як качу́лка.** *Мсцісл.* Юрчанка, 186. Тое ж.

***ка́ша*** **панара́віцца як ка́ша Максі́му.** *Стол. Насмешл.* Пра нешта, што прыйшлося каму-н. да густу. ТС 4, 242.

**снег як ка́ша.** *Івац.* Пра мокры, вязкі снег. Янк., Пар., 153; ЗЗайкі.

Галава́ не жыво́т, ка́шай не наб'ёш. Гл. жывот.

**Гаспада́рку ве́сці – не ка́шу е́сці.** *Прык.* Пра цяжкасці гаспадарання. Янкоўскі, 22.

**любі́ць як ка́шу з ма́слам.** *Воран. Насмешл.* Пра шчырыя добрыя пачуцці да каго-, чаго-н. Даніловіч 2008, 136.

**чы́стая падло́га, хоць ка́шу лажы́.** *Івац. Насмешл.* Пра добра вымытую, вышкрабаную падлогу. ЗЗайкі.

круці́цца як кот вакол гара́чай ка́шы. Гл. кот.

**маўча́ць бы́ццам по́ўны рот ка́шы.** *Мін., Хоц. Няўхв.* Пра чыё-н. адмоўчванне. ЛЦ, 65.

хадзі́ць як кот каля́ гара́чай ка́шы. Гл. кот.

***ка́шаль*** **падле́зці як ка́шаль пад хваро́бу.** *Гродз. Асудж.* Пра ўмяшанне каго-н., што толькі пагоршыла ход спраў. Цыхун, 189.

**памага́е (трэ́ба, патрэ́бны, прыста́ў) як ка́шаль у хваро́бе.** *Ваўк. п., Арш., Гродз., Івац., Капыл., Люб., Зэльв., Маладз., Уздз., Ушацк., Шальч. Іран.* Пра выпадак не дапамогі, а шкоды. Federowski, 215, 224; Ляцкий, 33; Сержпутоўскі 1999, 138; Юрчанка 1977, 249; Ройзензон, 78; Высл., 360; Сцяшковіч, 604; СПЗБ 3, 374; Высл., 311; Янк., 404; АВНЛ; Барадулін, 100; ФА; ЗЗайкі.

**патрэ́бен як ка́шаль у ко́льцы.** *Іран.* Пра нешта зусім не патрэбнае. Dybowski, 16.

трэ́ба як хваро́бе ка́шаль. Гл. хвароба.

**З каха́ннем як і з ка́шлем – не схава́ешся.** *Прык.* Пра цяжкасці схаваць ад іншых свае пачуцці. Янкоўскі, 69.

***ка́шляць*** такá́я пра́ўда як вош ка́шляе. Гл. вош.

***кашу́ля*** як у адно́й кашу́лі хры́шчаныя. Гл. адна.

***кашэ́ль*** пле́сці як ста́ры дзед кашалі́. Гл. дзед.

***квакý́ха*** **капашы́цца як квакý́ха.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які павольна нешта робіць, поркаецца на месцы. Юрчанка, 186.

*хто перад кім* **як квакý́ха пе́рад петухо́м.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра незалежныя, ганарлівыя паводзіны перад кім-н. Юрчанка, 186.

бая́цца як кот квакý́хі. Гл. кот.

бе́гчы як кот ад квакý́хі. Гл. кот.

***квач*** **мо́кры як квач.** *Івац. Няўхв.* Пра мокрага, неахайнага чалавека. ЗЗайкі.

**хадзі́ць як квач.** *Лях. Няўхв.* Пра неахайна апранутую, непрычасаную жанчыну. ЗВалодзінай.

***квет*** **адна́ як ма́каў квет.** *Слуцк. Спачув.* Пра самотную прыгожую адзінокую жанчыну. Сахараў.

Рад ле́ту як матылі́ кве́ту. Гл. матыль.

***кве́тачка*** **няве́стачка як кве́тачка.** *Памянш.-ласк. Захапл.* Пра прыгожую маладую нявестку. Янк., Пар., 116.

**вы́гадаваць** *каго* **як кве́тачку ў садо́чку.** *Памянш.-ласк. Клецк. Ухв.* Пра добрае гадаванне дзяўчыны. ФА.

***кве́тка*** **Дару́ ве́тку, каб жо́нка была́ як кве́тка.** *Фальк.* З вясельнага пажадання прыгажосці маладой жонцы. БВ, 38.

**Дару́ мане́тку, каб жо́нка была́ як кве́тка.** *Фальк.* БВ, 49. Тое ж.

дзе́ўка як кве́тка. *Захапл.* Пра прыгожую дзяўчыну. Янк., 405.

**Калі́ мужы́к лахма́ты, то жо́нка бы кве́тка.** *Брэсц. Прык.* Пра жонку, якая дбае найперш пра сябе, а не пра мужа. ЛЦ, 83.

**неве́ста як кали́новая кве́тка.** *Смал. Захапл.* Пра прыгожую нявестку. Добр., Смол., 971.

Няха́й сабе́ мужы́к як шкарпэ́тка, абы́ я была́ як кве́тка. Гл. шкарпэтка.

**пахілі́цца як кве́тка ў бу́ру.** *Спачув.* Пра самотную, забедаваную жанчыну. НН, 450.

**прыго́жая як кве́тка вясно́й.** *Івац., Чэрык. Захапл.* Бялькевіч, 193; ЗЗайкі. Тое, што дзеўка як кветка.

**сядзе́ць як кве́тка ў вазо́не.** *Гродз., Шчуч. Іран.* Пра важную, напышлівую дзяўчыну, жанчыну. Даніловіч, 230.

**харо́ша (прыго́жая) як кве́тка.** *Ваўк. п., Івац., Хоц. Захапл.* Federowski, 49; Бялькевіч, 225; ЗЗайкі. Тое, што дзеўка як кветка.

**харо́ша як кве́тка сяро́д ле́тка.** *Захапл.* Ройзензон, 79. Тое ж.

**цвісці́ як кве́тка.** *Сак. п. Захапл.* Federowski, 59. Тое ж.

**як кве́тка.** *Гродз. Захапл.* Цыхун, 175. Тое ж.

**вы́гадаваць** *каго* **як кве́тку ў садо́чку.** *Ухв.* Пра добрае гадаванне дзяўчыны. Янкоўскі 1971, 243.

***ке́льня*** **ха́та мале́нькая, усеро́ўна як ке́льня.** *Касц. Няўхв.* Пра малую, цесную хату. Бялькевіч, 463.

***ке́пка*** **спа́ла кре́пка, уста́ла як ке́пка.** *Смал. п. Жарт.* Пра адчуванні пэўнай разбітасці адразу пасля крэпкага сну. Добровольский III, 113.

***ке́пскі*** прыстава́ць як ке́пскі блін. Гл. блін.

***Ке́ранскі*** **як Ке́ранскі са збано́чкам.** *Лід. Няўхв.* Пра нейчыя бязмэтавыя, мітуслівыя паводзіны, бадзянне. Даніловіч 2008, 137.

***керма́ш****, гл.* ***кірма́ш***

***кіда́ць*** як у тра́сцы кі́дае. Гл. трасца.

***кіёк*** **худе́нькая як [е́ты] кіёк.** *Памянш. Лоеў. Няўхв.* Пра схуднелую, ссохлую жанчыну. Янкова, 157.

**сядзе́ць як на кійка́х.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра адзенне, што абвісае на худых станах. Юрчанка, 192.

***кій*** **наро́ду як кі́ем набі́та.** *Ваўк. п.* Пра перапоўненае людзьмі памяшканне. Federowski, 198.

як у ста́рца кіёў. Гл. старац.

**трыма́цца як на гнілы́м кіі́.** *Смарг.* Пра ненадзейную апору. Сцяшковіч, 616.
**распусці́цца як бо́скі кій.** *Насмешл.* Пра чалавека, які занадта разышоўся, выйшаў з-пад кантролю. Высл., 377.
скры́ўдзіў, усё ро́ўна як бязно́гаму кій адня́ў. Гл. бязногі.
**галава́ як на кію́.** *Івац.* Пра вяртлявага, хуткага чалавека. ЗЗайкі.
пусці́ць *каго* як сляпо́га без кія. Гл. сляпы.

***кікі́мара*** **перані́ма́ць як замо́рская кікі́мара.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, што безразважліва кагосьці капіруе. Бялькевіч, 226.
**як кікі́мара бало́тная.** *Леп. Пагардл.* Пра неахайную, дрэнна апранутую, непрывабную жанчыну. ЗВалодзінай.

***кіла́*** **бурча́ць як кіла́.** *Ваўк. п., Івац., Мёр. Няўхв.* Пра бурклівага, незадаволенага чалавека. Federowski, 44; ЖН, 78; ЗЗайкі.
**хадзі́ць як бо́рахава кіла́.** *Мсцісл. Насмешл. Здзекл.* Пра нешта, што перакачваецца, пераліваецца з боку ў бок. Нар. лекс., 170.
**то́лку** *з каго/чаго* **як з кілы́ мазго́ў.** *Ушацк. Іран.* Пра адсутнасць толку з каго-, чаго-н. Барадулін, 88.

***кіла́вы*** **хадзі́ць (су́нуцца, ісці́) як кіла́вы.** *Слон. п., Карэл. Насмешл.* Пра нязграбную, як раскірака, хаду. Federowski, 122, 293; Высл., 410.

***кілбаса́**, гл.* **каўбаса́**

***кі́нуць*** як за плéчы кі́нуў. Гл. плечы.
як во́кам кі́нуць. Гл. вока.
ек поле́ном кі́нуць. Гл. палена.

***кі́пень*** круці́цца як му́ха ў кі́пені. Гл. муха.

***кіпе́ць*** бы ў гаршку́ кіпі́ць. Гл. гаршчок.
так ве́ле мужы́к жо́нку лю́біць, як кісе́ль на ла́ве кіпі́ць. Гл. кісель.

***кіпцю́р*** дзярэ́цца но́гцямі як кот кіпцюра́мі. Гл. кот.

***кіпято́к*** **вы́скачыць як кіпятко́м аблі́тый (ашпа́раный).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра хуткае, імгненнае выскокванне адкуль-н. Юрчанка, 174.
угадзі́ць як саба́цы кіпятко́м. Гл. сабака.
ускó́чыць як му́ха ў кіпято́к. Гл. муха.

***Кі́рзева*** вы́скачыць як чорт з Кі́рзевай са́жалкі. Гл. чорт.

***кірма́ш*** лад як у Адэ́льску на кермашы́. Гл. Адэльск.
круці́цца як цыга́н на кермашы́. Гл. цыган.
**ва́ліць наро́д як на кірма́ш.** *Слон.* Пра інтэнсіўны рух людзей. Высл., 291.
**з’язджа́цца так як на кірма́ш.** *Ваўк. п.* Пра вялікі збор народу. Federowski, 356.
спяша́цца як шаве́ц на кірма́ш за бо́тамі. Гл. шавец.
**як бы кірма́ш які́ кішы́ць.** Пра вялікае, шумнае зборышча людзей. Тарас на Парнасе.
азіра́цца як саба́ка на кірмашу́, згубі́ўшы гаспадара́. Гл. сабака.
выкру́чвацца як цыга́н (шаве́ц) на кірмашу́. Гл. цыган.
**галасава́ць** *дзе* **як на кірмашу́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра крык, гучную, голасную гамонку ў памяшканні. Federowski, 99.

**як пасля́ кірмашу́.** Пра стомленега чалавека. Санько, 212.
**гу́чна як на кірмашы́.** Пра вялікі шум, гаману, мітусню. Янк., Пар., 47.
загамані́ць як жыды́ на кірмашы́. Гл. жыд.
круці́цца як жу́лік на кірмашы́. Гл. жулік.
**наро́ду як на кірмашы́.** *Слон.* Пра вялікі збор народу. Высл., 353.
**талака́ як на кірмашы́.** *Ваўк. п.* Пра вялікую колькасць народу, мітусню, таўкатню. Federowski, 310. < Талака – тут: таўкатня.
**шум як на кірмашы́.** *Слон.* Высл., 422. Тое, што гучна як на кірмашы.
як асёл на кірмашы́. Гл. асёл.
**як людзе́й на кірмашы́.** *Слуцк.* Пра мноства некага. Сержпутоўскі 1998, 241.

***кірпічына*** як асялку́ (для асялка́) кірпічы́на. Гл. асялок.
**трэ́ба** *каму што* **як кірпічы́не (для кірпічы́ны) асяло́к.** *Мсцісл. Іран.* Пра поўную непатрэбнасць чаго-н. Юрчанка, 172.

***кісе́ль*** збіра́цца як убо́гі на кісе́ль. Гл. убогі.
папа́сці як му́ха ў кісе́ль. Гл. муха.
папа́сці як мя́ла ў кісе́ль. Гл. мяла.
спамо́гся як жабра́к на кісе́ль. Гл. жабрак.
**так ве́ле мужы́к жо́нку лю́біць, як кісе́ль на ла́ве кіпі́ць.** *Жарт.* Пра ілюзорнасць і непрацягласць кахання мужыка да жонкі. Federowski, 193.
тра́піць як варо́на ў кісе́ль. Гл. варона.
ке́шкацца як му́ха ў кісялю́. Гл. муха.

***кіслы*** скрывíцца бы́ццам укусíў кíслы я́блык. Гл. яблык.
уле́зці (ублы́тацца) як чорт у гнілы́я (у кíслыя) грыбы́ (бліны́). Гл. чорт.

***кісля́к*** **ляжа́ць як кісля́к.** *Воран. Няўхв.* Пра нямоглага, састарэлага чалавека. СПЗБ 2, 466.

***кітка*** **галава́ як гаро́хавая кі́тка.** *Касц.* Пра курчавыя валасы. Бялькевіч, 239.

***кішка*** набра́цца як Му́рза кі́шак. Гл. Мурза.
**цягну́цца як кішка́.** *Івац., Карэл., Лаг., Слуцк. Няўхв.* 1. Пра павольнае, маруднае перасоўванне, хаду. 2. Пра нешта доўгае, дакучлівае, заблытанае. Даніловіч, 230; Варлыга 1966, 92; Сержпутоўскі 1999, 65; ЗЗайкі.

***кішэ́нь*** цёпла *дзе* як у бага́тага ў кішэ́ні. Гл. багаты.
**це́шыцца як** *хто каму* **ў кішэ́ню насра́ў.** *Ваўк. п. Здзекл. Вульг.* Пра чалавека, які цешыцца з пустога. Federowski, 58.

***кішэ́ць*** як бы кірма́ш які кішы́ць. Гл. кірмаш.

***кла́дка*** упіра́цца як каза́ на кла́дцы. Гл. каза.

***кладо́ўка*** **зямля́ як кладо́ўка.** *Ухв.* Пра ўрадлівую зямлю. Янк., Пар., 79.

***кла́сці*** гало́дны як шалёны: то кладзе́ пакло́ны, то праклёны. Гл. шалёны.
так зва́лі як у ла́паць кла́лі. Гл. лапаць.
гавары́ць як у то́рбу кла́сці. Гл. торба.

***клéвер*** як птýшка на клéвер паляцéла б. Гл. птушка.

***клéтка*** **Нóраў – не клéтка, не перастáвіш.** *Прык.* Пра немагчымасць так проста перамяніць нораў, характар іншага. Ром., Зап., III, 225.

**трымáць як у клéтцы.** *Івац.* Пра трыманне каго-н. у няволі. ЗЗайкі.

***клець*** гаспадáрыць як злóдзей (жабрáк) у чужóй клéці. Гл. злодзей.

***клешч*** **прычапíцца як клешч.** *Ваўк. п., Вілен., Івац. Няўхв.* Пра назойлівага, прыставучага чалавека. Federowski, 249; Sielicki, 161; Янк., 435; ЗЗайкі.

**трымáцца як клешч.** Пра моцнае, учэпістае трыманне за што-н. Янк., Пар., 169.

даўгóў як у сабáкі кляшчóў. Гл. сабака.

***клéшчы*** **трымáць** *што* **як клéшчамі.** *Слуцк.* Пра моцнае трыманне чаго-н. Сержпутоўскі 1999, 55.

лéзці як ля́мец з-пад кляшчэ́й. Гл. лямец.

***клёцка*** падыхóдзіць як Мáрцін да клёцак. Гл. Марцін.

**дзяўчóнка як клёцка.** *Мсцісл. Ухв. Жарт.* Пра невялічкую, поўненькую, прывабную дзяўчыну. Юрчанка 1977, 239.

**жыць як клёцка ў мáсле.** *Мсцісл. Ухв.* Пра спакойнае, сытае, заможнае жыццё. Юрчанка 1969, 44.

**харашы́ як клёцкі ў куляшы́.** *Тал. Жарт.* Пра дзяўчат, якія няблага выглядаюць. Шейн, 482; Янкоўскі, 17; АВНЛ.

***клíзма*** патрэ́бны як мёртваму клíзма. Гл. мёртвы.

***клін*** **Блін не клін – брýха не распóра.** *Саліг. Прык.* Пра адсутнасць шкоды ад аднаго бліна. ФА.

**брэ́ша як клін чэ́ша.** *Гом. Асудж.* Пра нейчую складную ману. Высл., 288.

**зачырванéцца як альхóвы (асóвы) клін.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, што моцна зачырванеўся, засаромеўся. Federowski, 347.

**сядéть як альхóвый клин; ни туды́, ни сюды́.** *Смал. Іран.* Пра нейчае бязвыходнае становішча. Добровольский III, 73.

**Я брашý як клін чашý, а ты прáўду гавóрыш, як плот стрóіш.** *Глуск. Прык.* Пра складную ману і нязграбную праўду каго-н. АВНЛ.

распрáвіцца як абýх з клíнам. Гл. абух.

***клоп*** **дóбра ўладкавáўся як клоп, што з халóднай стóлі скóчыў у цёплую пáніну пасцéль.** *Брэсц. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта добра ўладкаваўся ў чужым доме. ЛЦ, 51.

**надýтца як клоп.** *Смал., Леп. Няўхв.* Пра надзьмутага, крыўдлівага, наравістага чалавека. Добровольский III, 41; ЗВалодзінай.

**схавáцца як клоп у шчы́ліну.** *Касц. Асудж.* Пра чалавека, які ўхіляецца ад агульных спраў. ЛЦ, 123.

**сядзéць як клоп на пéчы.** *Валож. Здзекл.* Пра чалавека, які дзесь уладкаваўся ў ціхім цёплым месцы. МК, 242.

***клóчча*** наéсціся як дýрань клóчча. Гл. дурань.

***клубóк*** **дзéвачка як клубóк.** *Мсцісл. Ухв.* Пра кругленькую, невялічкую, але жвавую дзяўчынку. Юрчанка 1969, 93.

**каці́цца як клубо́к.** *Івац. Ухв.* Пра лёгкае, бесперашкоднае перамяшчэнне. Янк., Пар., 87; ЗЗайкі.

***клубо́чак*** **по́ўны як клубо́чак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра сытае, дагледжанае дзіця. Юрчанка, 187.

**як клубо́чак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра рухавага чалавека. Юрчанка, 187.

***клундзю́к*** **малы́ як клундзю́к.** *Паст. Насмешл.* Пра невысокага поўнага чалавека. СПЗБ 2, 480. < Клундзюк – страўнік, начынены мясам.

***клу́ня*** **шыро́ка бы клу́ня.** *Драг.* Пра тоўстую мажную кабету. Лучыц-Федарэц, 222.

***клы́шня*** **ру́кі як клы́шні ра́кавыя.** *Паст. Няўхв.* Пра касцістыя дужыя, але нязграбныя рукі. СПЗБ 2, 484.

***ключ*** **як ключ у во́ду.** *Мсцісл.* Пра нейчае бясследнае знікненне. Юрчанка, 187.

***клява́ць*** дзе́ці гадава́ць як сіні́цы ка́мень клява́ць. Гл. сініца.

***кляпня́*** **як у кляпні́** *дзе. Мсцісл. Няўхв.* Пра цёмнае няўтульнае памяшканне. Юрчанка, 201.

**жыць як у кляпні́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра замкнёнае, адзінокае жыццё. Юрчанка, 201.

***кляшчо́ткі*** **сяди́ть як у клящётках.** *Смал. Спачув.* Пра чалавека ў нялёгкім становішчы. Добр., Смол., 327.

***кні́га*** **трэ́ба** *каму што* **як парва́ная кні́га.** *Навагр. Іран.* Пра не вельмі патрэбнае. Даніловіч, 227.

**то́лку** *з каго* **як з абдзіра́най кні́гі.** *Смарг. Насмешл.* Пра адсутнасць толку ад каго-н. ФА.

**разбіра́цца як у парва́най (у падра́най) кні́зе.** *Іўеў. Няўхв.* Пра заблытанасць справы, немагчымасць разабрацца. Даніловіч, 259.

***кні́жка*** **глядзе́ць як у кні́жку.** *Памянш. Ухв.* Пра чалавека, які нешта прадбачыў, угадаў. Янк., Пар., 41.

**як па кні́жцы чыта́е.** *Памянш. Івац., Крыч.* 1. *Ухв.* Пра чалавека, які складна, разумна пра нешта гаворыць. 2. *Насмешл.* Пра жанчыну, што складна сварыцца. Бялькевіч, 339; ЗЗайкі.

***кніжы́ны*** рабы́ як кніжы́нае яйцо́. Гл. яйцо.

***кнот*** **як кнот [то́нкі].** *Няўхв.* Пра залішне танклявага падлетка. Янк., 445.

***кнур/кнюр*** **бе́гаць за дзе́ўкамі як кнур.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра залішнія заляцанні хлопца да дзяўчат. Federowski, 95.

**такі́ ярзу́н як кнюр.** *Ашм. Няўхв.* Пра неспакойнага, непаседлівага, схільнага да заляцанняў чалавека. СПЗБ 5, 558. < Ярзун – хто ёрзае, круціцца, не сядзіць на месцы.

***кнут*** **крычы́ць як кнуто́м хле́шча.** *Светл. Няўхв.* Пра чалавека, які падганяе іншых у рабоце, крычыць, сварыцца. Мат. Гом., VI, 124.

***княгі́ня*** **нарадзі́ць** *каго* **як княгі́ню.** *Лельч. Ухв.* Пра дзяўчыну, прыбраную як маладуха на вяселлі. Кучук, Малюк, 67.

***князь*** **У я́зя ў галаве́ што ў княя́зя, а ў шчу́кі што ў удавы́.** *Прык.* Пра асаблівасці анатамічнай будовы названых рыб, а таксама пра мужчынскі і жаночы розум. БФГ, 166.

***ко́брынскі*** як ко́брынскый гостынэць *хто.* Гл. гасцінец.

***ко́жа*** пахо́жы як панто́плі з адно́й ко́жы. Гл. пантоплі.

***ко́кавінь*** **хадзі́ць як ко́кавінь сяро́д курэ́й (з кура́мі).** *Краснап. Насмешл.* Пра ганарыстага мужчыну, які красуецца сярод жанчын. Бялькевіч, 229; Ройзензон, 79. < Кокавінь – певень.

***кол*** прыста́ць як смала́ да кала́. Гл. смала.
учапі́цца як смала́ да кала́. Гл. смала.
так рэ́дка пасхо́дзіла як чорт кало́м паты́каў. Гл. чорт.
**як кало́м набі́та.** *Гродз.* Пра перапоўненае памяшканне. Даніловіч 2010, 91.
вісе́ць як гланды́шка на калу́. Гл. гладышка.
стая́ць як саро́ка на калу́. Гл. сарока.
сядзе́ць як саро́ка на калу́. Гл. сарока.
**вісе́ць (матля́цца) як на калу́ (калку́).** *Лаг.*, *Слуцк.*, *Брэсц.* Пра адзенне на схуднелым чалавеку. Высл., 293; Нар. лекс., 197; Ройзензон, 81; Varłyha, 42; МК, 286.
жыць як саро́ка на калу́. Гл. сарока.
тырчэ́ць (сядзі́ць, кру́ціцца) як саро́ка (варо́на) на па́лцы (калу́). Гл. сарока.
**адзі́н як кол.** *Слуцк. Няўхв.* Пра самотнага, адзінокага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 53.
**адзі́н як кол у пло́це.** *Воран.*, *Свісл. Няўхв.* Даніловіч, 230. Тое, што адзін як кол.
**стая́ць як кол.** *Чаш., Старадар. Няўхв.* Пра чалавека, які трымаецца скована, нясмела, няўпэўнена. Станкевіч, 1071; ДА.
**адзі́н як кол пры даро́зе.** *Чашн.*, *Слаўг.*, *Слуцк.* Каспяровіч, 7; Сержпутоўскі 1999, 6; Высл., 281. Тое, што адзін як кол.
**гол як кол.** *Няўхв.* Пра беднага, немаёмаснага чалавека. Станкевіч, 171.
ле́зці як жа́ба на кол. Гл. жаба.
**адно́ дзіця́ як кол у пло́ці.** *Шчуч.* Пра самотнасць, адзіноту аднаго дзіцяці ў сям'і. СПЗБ 2, 57.
**е́сці як на кол ве́шаць.** *Дзярж. Няўхв.* Пра спажыванне ежы без смаку, абыякава, не хацеўшы. ФА.
**то́лку** *дзе* **як у гнілы́м ко́лку.** *Докш.* Пра адсутнасць у чым-н. толку, ладу. Высл., 399.

***ко́ла*** гавары́ць як ваду́ на ко́ла ліць. Гл. вада.
**кру́глы як ко́ла.** Пра нешта цалкам круглае. Янк., Пар., 88.
**круці́цца як ко́ла ў млы́не.** *Маладз.*, *Рэч.*, *Мін.* Пра актыўнасць чалавека, яго прадпрымальнасць. ЛЦ, 30.
**патрэ́бны (трэ́ба) як пя́та ко́ла (пя́тае калясо́) да во́зу (у во́зе).** *Ваўк. п.*, *Мін.*, *Слон. Іран.* Пра нешта, некага зусім непатрэбных. Federowski, 224; Dybowski, 187; Высл., 363; ЛЦ, 118.
**рыпе́ць як ко́ла няма́занае.** *Мін.* 1. Пра не вельмі добрае здароўе чалавека. 2. Пра залішнія папрокі, нараканне, дакучанне. Янкоўскі, 118.
**скрыпе́ць як няма́занае ко́ла.** *Чэрык.*, *Касц.*, *Хоц. Насмешл.* ЛЦ, 122. Тое ж.

**пайшло́ як на ма́заных ко́лах.** *Ухв.* Пра добрае вырашэнне нейкай справы. Янк., 419; Санько, 70.
**круці́цца як у ко́ле вада́.** *Івац.* Пра актыўнасць чалавека, яго прадпрымальнасць. Санько, 148; ЗЗайкі.
знайсці́ як кане́ц у ко́ле. Гл. канец.
**Вясе́лле без гарэ́лкі, што ко́лы без ма́зі.** *Уздз. Прык. Жарт.* Пра неабходнасць гарэлкі на вяселлі для больш вясёлага застолля. ПП 2, 34.

***ко́лас*** **адзі́н як ко́лас.** *Карэл., Мсцісл., Стаўб. Спачув.* Пра самотнага адзінокага чалавека. Высл., 281; Юрчанка, 187; МК, 19.
**Жанчы́на без дзіця́ці як ко́лас без зярня́ці.** *Крыч. Прык.* Пра важнасць мець дзіця для жанчыны. АВНЛ.
**як ко́лас на ржы́шчы.** Санько, 70. Тое, што адзін як колас.

***ко́лічак*** жыць як варо́на на ко́лічку. Гл. варона.

***ко́лька*** патрэ́бен як ка́шаль у ко́льцы. Гл. кашаль.
памага́ць як ка́шаль у ко́льцы. Гл. кашаль.

***Ко́ляды****, гл.* ***Каля́ды***

***ко́мін*** **мара́ты (заму́ляны) бы ко́мін.** *Пруж. Няўхв.* Пра вельмі бруднага, неахайнага чалавека. Босак, 31.
**чо́рны як ко́мін.** *Слуцк. Няўхв.* Пра некага, нешта вельмі брудных, чорных. Сержпутоўскі 1999, 13.
**чы́сты як ко́мін навы́варат.** *Слуцк. Іран.* Пра моцную забруджанасць нечага. Сержпутоўскі 1999, 13.
ба́ба як затка́ла да ко́міна. Гл. заткала.
як чорт з ко́міна вы́лезшы. Гл. чорт.
**це́мра як у ко́міне.** Пра густую, чорную цемень. Янк., Пар., 186.
ну́дная як у ко́міне пе́сня. *Няўхв.* 1. Пра чыюсьці нудную, сумную, нецікавую гаворку. 2. Пра занудную, панурую жанчыну. Фед. Арх.
**свістаць як у коміне.** 1. Пра рэзкія парывы ветру. 2. Пра нейкія пранізлівыя гукі. Янк., Пар., 146.

***ко́наўка*** **ліць як з ко́наўкі.** Пра моцны дождж. Санько, 69.

***конёў*** ек конёва но́га. Гл. нага.

***ко́нскі*** напі́цца як бонк ко́нскай крыві́. Гл. бонк.
цяга́цца як ко́ньска смерць па вы́гане. Гл. смерць.

***конь*** **хвалі́цца як цыга́н канём.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра залішняе расхвальванне чаго-н. беспадстаўна. Federowski, 59.
кама́ндаваць *кім* як дармавы́м канём. *Асудж.* Пра выкарыстанне некага не шкадуючы. Янкоўскі 1968, 233.
**шпа́рка як на спу́таным кані́.** *Іран.* Пра павольны рух альбо пра яго адсутнасць. Янк., Пар., 196.
**бяды́ – як на кані́ паве́зці.** *Мін.* Пра вялікую бяду альбо пра шэраг непрыемных здарэнняў. ЛЦ, 24.
**выязджа́ць усё ро́ўна як на се́рым кані́.** *Шкл. Асудж.* Пра бязлітаснае выкарыстанне чалавека, узвальванне на яго шматлікіх абавязкаў. Высл., 282.
**Пражы́ць як на кані́ прае́хаць.** *Прык. Ухв.* Пра ладна, з задавальненнем і з карысцю пражытае жыццё. БПФС, 110.

**сядзе́ць** *на чым* **як на кані́.** *Гродз. Насмешл.* Пра сядзенне на ўслоне, лаве, бервяне і інш., акірначыўшы іх нагамі. Цыхун, 11.
**як на кані́ паве́зці.** *Мін.* Пра вялікую колькасць чаго-н. ЛЦ, 24.
**бу́дзе** *каму* **як сіваму каню́.** *Івац.* Пра пераследванне, пакаранне кагосьці, не заўсёды заслужана. ЗЗайкі.
**даць як каню́ се́чкі.** *Пруж. Няўхв.* Пра моцную, без жалю лупцоўку. ФА.
**кало́дзішча як каню́ дзёрнуць.** *Мсцісл.* Пра тоўстую калоду, якую зрушыць можна толькі канём. Юрчанка 1977, 172.
**не хо́чацца як ляно́му каню́ ў агло́блі.** *Насмешл.* Пра чалавека, якому не хочацца брацца за цяжкую справу. Янк., 417.
**патрэ́бна як старо́му каню́ ма́ці.** *Шчуч. Іран.* Пра некага, іншаму чалавеку зусім непатрэбнага і нецікавага. Юрчанка 1977, 172; Даніловіч, 252.
**трэ́ба як каню́ та́пкі.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 186.
**увалі́ць як каню́ се́чкі.** *Дзятл., Пруж., Слон., Шчуч. Няўхв.* Даніловіч, 229; ФА. Тое, што даць як каню сечкі.
**увалі́ць як каню́.** *Мін.* Высл., 403. < Уваліць – тут: пабіць. Тое ж.
**як каню́.** *Карэл., Лаг.* Пра вялікую колькасць чаго-н., выдадзенага камусьці. Высл., 294.
**як каню́ пазёмка.** *Шчуч. Іран.* Пра вельмі малую колькасць чаго-н. для пэўнай справы або для чалавека. Даніловіч 2008, 136.
**як каню́ перакаці́цца, дык яму́ засну́ць.** *Круп.* Пра хуткае і лёгкае засыпанне. СПЗБ 2, 500.
*каму чаго* **як каню́ пе́рнік.** *Мін. Іран.* Пра нешта, чаго адчувальна замала. Высл., 427.
**адпа́лчыць** *каго* **як каня́.** *Шчуч. Няўхв.* Пра моцную, без жалю лупцоўку. Нар. лекс., 40.
Ба́ба без мужыка́ як калёсы без каня́. Гл. калёсы.
**валі́ць як на каня́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра перакідванне абавязкаў, спраў, адказнасці на каго-н. іншага. Federowski, 326; Янк., Пар., 24.
**во́чы як у каня́.** *Слон. Няўхв.* Пра нейчыя вялікія вочы. Высл., 295.
**ганары́лася свіння́, што пу́за як у каня́.** *Леп. Насмешл.* Пра чалавека, які чымсьці неапраўдана, незаслужана ганарыцца. АВНЛ.
**дзяржа́ць** *каго* **як каня́ на мунштуку́.** *Ваўк. п.* Пра трыманне некага ў дысцыпліне, пад наглядам. Federowski, 95. < Мунштук – цуглі.
**зу́бы як у каня́.** *Лельч.* Пра вялікія моцныя зубы. Кучук, Малюк, 25.
**кандзю́х як у каня́.** *Чэрык. Насмешл.* Пра нейчы вялікі жывот. Бялькевіч, 220. < Кандзюх – жывот.
**напі́рыць** *каго* **як каня́.** *Гродз. Няўхв.* Цыхун, 92. < Напірыць – набіць, налупцаваць. Тое, што адпалчыць каго як каня.
прыраўнава́цца як свіння́ да каня́, да шэ́рсць не така́. Гл. свіння.
расцягну́ць як саба́кі здо́хлага каня́. Гл. сабака.

раўня́ як свіння́ да каня́. Гл. свіння.
**таргава́цца як за каня́.** *Ваўк. п.* Пра занадта доўгі і настойлівы торг. Federowski, 311.
уссе́сці *на каго* як пан на каня́. Гл. пан.
**ма́е смак бы да ко́ней ваўкала́к.** *Слуцк. Асудж.* Пра чалавека, які мае схільнасць да нечага благога. Сержпутоўскі 1999, 98.
**як на сто ко́ней се́сці (уссе́сці).** *Мін. Ухв.* Пра вялікае шанцаванне ў нечым. Санько, 211; Гілевіч, 166.
**Ба́бы як ты́я ко́ні: сустрэ́нуцца, адзі́н другі́ому шы́ю пагрызе́, пагрызе́, дый разы́йдуцца.** *Рэч. Фальк.* Пра звычку жанчын абгаворваць адна адну. Пяткевіч, 377.
**душа́ мінчу́ецца бы ко́ні ў цыга́на.** *Лоеў. Насмешл.* Пра душэўныя хваляванні. Янкова, 194. < Мінчавацца – хвалявацца, трывожыцца.
**зна́цца як лы́сыя ко́ні.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра людзей, якія жывуць між сабою ў непрыязных адносінах: у першым выпадку прыкрываюць адзін аднаго ў сваіх свавольствах, а ў іншых – рэзка выкрываюць дурныя ўчынкі. Нос., 50; Дуб., 22; Federowski, 358; Матэрыялы 1981, 117.
**іржа́ць як ко́ні.** *Маст. Няўхв.* Пра гучны недалікатны смех. Сцяшковіч, 203.
мяня́ць як цыга́н коні. Гл. цыган.
**рэ́мзаць як ты́я ко́ні.** *Акц. Няўхв.* Мат. Гом., VII, 1979, 154. < Рэмзаць – смяяцца. Тое, што іржаць як коні.
**цягну́цца як жыдо́ўскія ко́ні.** *Лаг. Няўхв.* Пра тых, што несуладна, непрадуктыўна працуюць. Варлыга 1966, 92.
**аба́біцца як калхо́зны конь.** Ляхав. *Пагардл.* 1. Пра мужчыну, што, знаходзячыся ўвесь час у жаночым калектыве, прыдбаў жаноцкія звычкі. 2. Пра чалавека ў запушчаным, вартым жалю стане. ФА.
**апусці́ць галаву́ як той конь убо́істы.** *Насмешл.* Пра чалавека, які панура апусціў галаву, замаркоціўся. НН 1911, 634.
**бая́цца як ста́ры конь ма́церы/ма́ткі.** *Гродз.*, *Лід.*, *Мін. Іран.* Пра адсутнасць страху перад кім-н. Даніловіч, 253; Высл., 285.
**бе́гчы ўслед** *за кім* **як конь за то́рбай з аўсо́м.** *Ушацк.*, *Касц. Насмешл.* Пра чалавека, што надта цягнецца за іншымі. ЛЦ, 90.
**бе́гчы/пабе́гчы як конь.** *Няўхв.* Пра чалавека, які бяжыць хутка і з грукатам. Нар. слов., 302; НН, 614.
**вы́рабатаны бы конь.** *Ушацк. Спачув.* Пра спрацаванага, стомленага чалавека. Барадулін, 110.
**вы́чысціць як конь у жо́лабе.** Пра галоднага чалавека, які з'еў усё, што было. Янк., Пар., 32.
**вы́шчэрыць зу́бы бы конь.** *Стол. Няўхв.* Пра чыю-н. непрыемную ўсмешку. ТС 1, 186.
**вялі́зны (вялі́кі, ве́лькі) як конь.** *Ваўк. п.* Пра вялікага здаровага чалавека альбо пра што-н. вялікае ў памерах. Federowski, 329, 332.

**гайда́чить як конь стяпске́й.** *Смал. Няўхв.* Пра не зусім прывабныя паводзіны хлопца. Добр., Смол., 876. < Гайдачыць – бегаць; стяпскей – стэпавы.

**гарава́ць як конь грабе́жны.** *Ваўк.* Пра нейчыя пакуты. Federowski, 103, 242. < Конь грабежны – конь, «забраны ў шкодзе» (тлум. М. Федароўскага).

**глядзе́ць як конь з-пад дугі́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчы насцярожаны, незадаволены погляд. Юрчанка, 187.

**глядзе́ць як конь на падко́ву.** *Мсцісл. Жарт.* Пра здзіўлены, няўцямны погляд. Юрчанка, 187.

**глядзе́ць як конь на салядэ́ру (на салідэ́ру).** *Маст., Навагр. Іран.* Пра прагны, сквапны погляд на каго-н. Даніловіч, 230. < Салядэра – сырадой.

**гру́каць як конь капы́тамі.** *Няўхв.* Пра чалавека з цяжкой хадой, моцным топаннем, грукатам. Янк., Пар., 44.

**гры́ву задзёр як конь.** *Няўхв.* Пра позу чалавека з узбуджана узнятай галавой. Нос., 29.

**Дзе́ўка – не конь, збру́ю не надзе́неш.** *Прык.* Пра немагчымасць так проста падпарадкаваць дзяўчыну. Янкоўскі 1971, 41.

**дры́гаць нага́мі як конь у пяко́ту.** *Лаг. Насмешл.* Пра чалавека, які перабірае нагамі, неспакойна пераступае з нагі на нагу. Гілевіч 2007, 23.

**ды́хаць як конь уду́шлівы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра цяжкое дыханне, сапенне каго-н. Federowski, 90.

**е́сці як спі́саны конь.** *Гродз., Шчуч. Іран.* Пра прагнае, ненасытнае спажыванне ежы. Даніловіч, 251.

**жлу́кціць як конь.** *Мсцісл., Пух. Няўхв.* Пра чалавека, які многа і прагна п'е. Бялькевіч, 167; Высл., 319. < Жлукціць – тут: піць доўга і многа.

**зарагата́ць бы конь.** *Ваўк. п., Слуцк.* Пра гучны непрыемны смех каго-н. Federowski, 350; Сержпутоўскі 1999, 108.

**заскака́ць як конь, яко́га пе́ршы раз узя́лі ў абро́ць (уці́снулі ў агло́блі).** *Мін. Няўхв.* Пра чыю-н. рашучую нязгоду, супраціўленне, пярэчанне. ЛЦ, 32.

**здаро́вы як конь.** *Ваўк. п. Лоеў., Брасл., Докш., Мін. Ухв.* Пра моцнага, дужага чалавека. Federowski, 353; Высл., 327; Добр., Смол., 222; Янкова, 290; СПЗБ 4, 171.

**ісці́ як конь ступа́е.** Янк., Пар., 80. Тое, што грукаць як конь капытамі.

**ле́зці як конь у хаму́т.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, якому неахвотна брацца за справу. Юрчанка, 187.

**лізну́ць як конь.** *Ваўк. п. Іран.* Пра хапанне адразу вялікага кавалка ежы. Federowski, 167.

**лупа́ты як конь.** *Шчуч. Няўхв.* Пра вялікія непрывабныя вусны, непрыгожы выраз твару каго-н. СПЗБ 2, 685.

**лу́пу атве́сіць як конь.** *Паст. Няўхв.* Пра непрывабны выраз твару каго-н. СПЗБ 2, 684.

**лы́біцца як конь на авёс.** *Слуцк. Насмешл.* Пра нейчы прагны задаволены позірк. Высл., 341. < Лыбіцца – усміхацца.
**лы́ндаць як той конь, като́раму німа́ чаго́ е́сьці вясно́й.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, які валочыцца ў пошуках нейкай спажывы, карысці. СЦБ, 217.
**маха́ць галаво́ю як конь ад аваднёў.** *Глыб. Няўхв.* Пра чалавека, які ўвесь час паддаквае, толькі і згаджаецца. АВНЛ.
**набо́жны як конь падаро́жны.** *Ваўк. п. Іран.* Пра зусім не набожнага чалавека. Pietkiewicz, 194.
**набо́жны як свято́га Ю́р'я конь.** *Слуцк. п.* Шейн, 478. Тое ж.
**набо́жны як свято́га Ю́р'я конь: ён да касцёла, а ён да кабы́лы.** Federowski, 131. Тое ж.
**навастры́ць ву́шы як конь, пачу́ўшы ваўка́.** *Мін.* Пра чалавека, які стаў уважлівым, адчуўшы небяспеку. ЛЦ, 72.
**нягі́дкая як конь.** *Ушацк. Іран.* Пра звычайную, не вельмі прывабную кабету. Барадулін, 111.
**пажані́ліся, што малады́ конь і стары́ конь спрэ́гліся.** *Мядз. Няўхв.* Ці то пра суладнасць рознаўзроставых сужонкаў, ці то наадварот. Янк., Дыял., І, 217; АВНЛ.
**памага́ць як ста́ры конь ма́церы.** *Гродз. Іран.* Пра адсутнасць якой бы ні было дапамогі. Даніловіч, 253.
**патрэ́бны як ста́ры конь во́ўку.** *Маладз. Іран.* Пра штосьці не вельмі прывабнае. Высл., 363.
**прайсці́ як конь па гра́дах.** *Асудж.* Пра кагосьці, хто зруйнаваў, патаптаў напрацаванае. Янк., Пар., 129.
**пудлі́вы як конь.** *Краснап.* Пра пуглівага, асцярожнага чалавека. Бялькевіч, 358.
**раўсці́ як конь.** *Стаўб. Няўхв.* Пра нейчы гучны, голасны крык. МК, 312.
**Ро́біш як конь, ясі́ як воўк.** *Дзятл. Жарт.* Пра цяжкую працу і адпаведную патрэбу ў ежы. Арх. Гр.
**скака́ць як цыга́нскі конь.** *Крыч. Няўхв.* Пра значныя няшчырыя захады чалавека. Бялькевіч, 483.
**спыні́цца як ста́ры конь пе́рад кана́вай.** *Хоц. Няўхв.* Пра нерашучага, асцярожнага чалавека. ЛЦ, 58.
**стая́ць як конь у але́шніку, гу́бу адве́сіўшы.** *Маладз. Пагардл.* Пра чалавека, які трымаецца абыякава. ФА.
**тру́хаць ек конь.** *Жытк. Насмешл.* Пра няспешную хаду чалавека. ТС 5, 157.
**трэ́сці галаво́ю як конь ад мух.** *Хоц.* 1. *Насмешл.* Пра чалавека з доўгімі непрычасанымі валасамі, якія ён мусіць пастаянна адкідваць з твару. 2. Пра чалавека, які пастаянна паддаквае. ЛЦ, 75.
трэ́сці галаво́ю як конь у го́рач. *Зэльв.* СРЛГ, 57. Тое ж.
**уздыха́ць як конь над пусты́м цэ́брам.** *Рэч.* Пра таго, хто цяжка ўздыхае. Гор., Руд., 255.
**узрагата́цца як конь.** *Няўхв.* Пра чалавека, які моцна, гучна разрагатаўся. Носович, 55.

унуры́цца як конь над пусто́й карму́шкай. *Брэсц.* Пра незадаволены, але скароны выгляд чалавека. ЛЦ, 75.

**фы́ркаць як конь.** *Лаг. Няўхв.* 1. Пра сапенне, фырканне чалавека. 2. Пра таго, каму ўсё не ў гумор. Высл., 407.

**храпсці́ як конь каля́ аўса́.** *Ветк.* Пра таго, хто храпе ў сне. Гор., Руд., 255.

**цягну́ць бы конь на млы́не.** *Драг.* Пра чалавека, якому даводзіцца цяжка працаваць. Нар. лекс., 222.

**Чалаве́к ўбо́гі як конь бязно́гі.** *Прык.* Пра беднага і таму бязвартаснага чалавека. ПП 1, 407.

**Шча́сце не конь – у агло́блі не запражэ́ш.** *Маладз. Прык.* Пра немагчымасць проста кіраваць сваім шчасцем ці знаходзіць яго. ПП 2, 422.

**Жы́тка – не конь, пу́гаю не адсцябне́ш.** *Прык.* Пра немагчымасць падагнаць або рэзка павярнуць жыццё. Янкоўскі 1971, 41.

**як конь на гра́дах.** *Докш. Асудж.* Пра чалавека, прысутнасць якога шкодная. Янк., 445; АВНЛ.

**як конь раўці́.** *Лід.*, *Стаўб. Няўхв.* Пра моцны, голасны плач. МК, 312.

**як конь стае́нны.** *Іўеў.* Пра здаровага чалавека. Сцяшковіч, 615.

***ко́пша*** **сядзе́ць як ко́пша.** *Гом. Няўхв.* Пра непаваротлівага панурага чалавека. ФСГ, 155.

***ко́раб*** **сы́пацца як з ко́раба.** 1. Пра моцны снег; вялікую колькасць грошай у каго-н. 2. Пра чыюсьці хуткую, няспынную гаворку. БПФС, 111.

***ко́рань*** **лі́шні як гнілы́ ко́рань у ро́це.** *Няўхв.* Пра нешта зусім непатрэбнае, лішняе. Янк., Пар., 96.

**трэ́ба як гнілы́ ко́рань у ро́це.** *Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Санько, 70.

учапі́цца як рак за ко́рань. Гл. рак.

***корж*** **лома́цца як ву́печаны корж.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які манернічае, крыўляецца. ТС 3, 41.

***ко́рмнік*** **як ко́рмнік.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі сытага чалавека. Юрчанка, 187.

***ко́рмны*** як ко́рмны каба́н. Гл. кабан.

насадзі́цца як сві́нні ко́рмныя. Гл. свіння.

***корч*** сці́шыцца як мянту́з пад карчо́м. Гл. мянтуз.

**сядзе́ць карчо́м.** *Пух. Няўхв.* Пра невылазнае, нерухомае сядзенне дзе-н. МК, 92.

маўча́ць як жа́ба ў карчы́. Гл. жаба.

надзьму́цца як жа́ба на карчы́. Гл. жаба.

распяя́цца як жа́ба на карчы́. Гл. жаба.

**ру́кі як карчы́.** *Івац. Няўхв.* Пра нязграбныя, няўмелыя рукі. ЗЗайкі.

**храпе́ як карчы́ дзярэ́.** *Насмешл.* Пра моцны гучны храп каго-н. Янк., Пар., 184.

**адзі́н як корч на па́сецы.** Пра адзінокага чалавека. Янк., 395.

грябе́цца як жабянё на корч. Гл. жабянё.

**дзед як смалóвы корч.** *Ухв.* Пра яшчэ моцнага старога. Янк., Пар., 52.

**замінáць як корч на дарóзе.** *Няўхв.* Пра чалавека, які замінае іншым. Янк., Пар., 67.

лéзці як жáба на корч. Гл. жаба.

лéзці як жабянё на корч. Гл. жабянё.

надýцца як жáба на корч. Гл. жаба.

пнýцца як жáба на корч. Гл. жаба.

схавáцца як цецярýк галавóй у корч: нічога не відáць, а хвост тырчы́ць. Гл. цецярук.

**сядзéць як корч на сцéжцы.** *Няўхв.* Янк., Пар., 162. Тое, што замінаць як корч на дарозе.

**худы́ як корч.** *Брасл.* Пра худога сагнутага чалавека. СПЗБ 4, 323.

***кóстачка*** **як кóстачка.** *Памянш. Мсцісл.* Пра схуднелага чалавека. Юрчанка, 187.

***кóстка*** **скакáць, бы́ццам без касцéй.** *Касц. Ухв.* Пра спрытнага гнуткага танцора. ЛЦ, 122.

**У хáтэ нэвíстка бы ў гóрле кíстка.** *Драг. Прык.* Пра ўспрыманне нявесткі залішне патрабавальнай сям’ёй мужа. БА.

**гóлы як кóстка.** *Слон. Няўхв.* Пра беднага чалавека. Высл., 306.

**стая́ць як кóстка ў гóрле.** *Івац., Стаўб. Няўхв.* Пра моцную дакучлівую перашкоду ў чым-н. МК, 131; ЗЗайкі.

**цвёрды як кóстка.** Пра нешта вельмі цвёрдае. Янк., Пар., 186.

як сабáку кóстка. Гл. сабака.

**сядзéць у гóрле кóсткаю.** *Рэч. Няўхв.* Пяткевіч, 568. Тое, што стаяць каму як костка ў горле.

абсмактáць (абабраць) як сабáкі кóстку. Гл. сабака.

глядзéць як сабáка на кóстку. Гл. сабака.

накíнуцца як сабáка на кóстку. Гл. сабака.

сябравáць як галóдныя сабáкі, што дзéляць кóстку. Гл. сабака.

углéдзеца як сарóка на кóстку. Гл. сарока.

абірáць як гругáн кóсці. Гл. груган.

Гóсці як у гóрле кóсці. Гл. горла.

збірáць *што* як крумкáч кóсці. Гл. крумкач.

збірáць як сабáка кóсці. Гл. сабака.

Язы́к што жóрны: перамáлывае і кóсці. Гл. жорны.

глядзéць як варóна на косць. Гл. варона.

***кот*** **аддрэ́нчыць як катá.** *Смíл. Няўхв.* Шатэрнік, 10. < Аддрэнчыць – моцна набіць. Тое, што біць як шкоднага (благога) ката.

**біць як шкóднага (благóга) катá.** *Астр., Навагр. Няўхв.* Пра моцнае біццё каго-н. Даніловіч, 265.

**блішчáць як у катá вóчы.** *Мін.* Пра нейкія слабыя агеньчыкі ў цемры. Высл., 287.

**блішчáць як у катá я́йцы.** *Нясв. Здзекл. Вульг.* Пра нешта занадта бліскучае, часцей пра боты. ФА.

**валíць як на катá.** *Мсцісл. Асудж.* Пра перакладванне сваёй віны на іншага. Юрчанка, 174.

**ве́зці абы сярлі́вага ката́ ў мяшку́.** *Івац. Здзекл. Вульг.* Пра шкоднага чалавека, якога вязуць на кару. ФА.
**ганя́ць як ката́.** *Няўхв.* Пра чалавека, якога адусюль ганяюць. Янк., Пар., 38.
**захава́цца** *што, у каго* **як у ката́ за ла́паю пясо́к.** *Лід. Іран.* Пра чалавека, які ніяк не можа трымаць нешта ў сакрэце. Даніловіч, 258.
**Зло́сці по́ўны ко́сці, а сі́лы як у ката́.** *Леп., Мядз. Прык. Насмешл.* Пра злоснага, але слабога чалавека. ФА; ЗВалодзінай.
**капцюрэ́ як у ката́.** *Сміл. Жарт.* Пра чыесьці доўгія вострыя пазногці. Шатэрнік, 130.
**лёгка як ката́ з пе́чы скі́нуць.** *Мсцісл. Жарт.* Пра лёгкую, простую справу. Юрчанка, 186.
любі́ць як саба́ка ката́. Гл. сабака.
**надзе́яцца як на ката́: кілба́скі адрэ́жа, схва́ціць і катане́.** *Мсцісл. Іран.* Пра безнадзейныя, марныя спадзяванні на каго-н. Юрчанка, 174.
**напужа́ць як ката́ шква́ркаю.** *Капыл. Іран.* Пра ніякае не палоханне, а наадварот пра заахвочванне. ФА.
**настра́шыць як ката́ сква́ркаю.** *Слон. Іран.* Высл., 353. Тое ж.
**не адцягнеш як ката́ ад мы́шы.** *Мін. Жарт.* Пра чалавека, увага якога моцна да нечага прыцягнутая. Высл., 354; Санько, 160.
**пацягну́ла як ката́ на вараца́кі.** *Ушацк., Лаг. Насмешл.* Пра непрыгожы нутраны поцяг чалавека на нядобрую справу. Барадулін, 115; Гілевіч, 24.
**прыве́зці** *што* **як ката́ ў мяшку́.** *Паст. Няўхв.* Пра нешта невядомае. СПЗБ 2, 243.
разбе́гчыся як мы́шы ад ката́. Гл. мыш.
**таўкці́ як ката́.** *Лоеў. Насмешл.* Янкова, 356. Тое, што біць як шкоднага (благога) ката.
**цяга́ць як ката́ за хвост.** *Хоц. Няўхв.* Пра нейкую валакіту, сумысную цяганіну, марнаванне часу. Бялькевіч, 457.
грызу́цца як саба́ка з като́м. Гл. сабака.
дзе́рціся як саба́ка з като́м. Гл. сабака.
жа́рты як у мы́шы з като́м. Гл. мыш.
**даць як кату́ пад'е́сці.** *Карэл., Лаг. Няўхв.* Пра малую колькасць нечага, часцей ежы. Мін.-Мал., 1974, 186; АВНЛ.
**е́сці як кату́.** *Лаг., Леп., Івац.* Высл., 317; Янк., 406; ЗЗайкі. Тое ж.
**падыхо́дзіць** *што каму* **як кату́ абро́ць (ла́пці).** *Маст., Свісл. Іран.* Пра адзенне, яго частку, якое зусім не падыходзіць каму-н. Даніловіч, 230.
**угадзі́ць** *каму* **трудне́й як кату́ старо́й пане́нкі.** *Насмешл.* Пра цяжкасці ў адносінах з капрызным чалавекам. Ляцкий, 47.
**чэсць як кату́ ў мяху́.** *Насмешл.* Пра здзеклівыя адносіны да чалавека. Дуб., Нар., 1.
**як кату́ са́ла: нія́к з кубла́ не даста́ць.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, якому нечага вельмі хочацца, але тое немагчыма дастаць. ЛЦ, 54.

**як кату́ ў мяху́.** *Віл. Насмешл.* Пра чалавека ў дрэнных, невыносных абставінах. МК, 311–312; Юрчанка 1977, 214.
**дзяру́цца як каты́.** *Докш. Асудж.* Пра вельмі нядружных, варагуючых людзей. Высл., 313.
**дра́цца як два каты́ ў адно́м мяшку́.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра вельмі нядружных, варагуючых людзей. Federowski, 95.
**зго́дны як два каты́ ў вадно́м мяшку́.** *Ваўк. п. Іран.* Federowski, 354. Тое, што сябраваць як два каты ў мяху.
**сябрава́ць як два каты́ ў мяху́.** *Іран.* Пра адсутнасць дружбы, бясконцае варагаванне. Санько, 186.
**як каты́ мармо́чуць.** *Віл. Асудж.* Пра сучасныя песні. Гілевіч 2007, 121.
**аблі́звацца што кот на са́ла.** *Сміл., Бярэз. Насмешл.* Пра сквапнае на нешта пагляданне, жаданне. Шатэрнік, 4; Янк., 395; Ройзензон, 67; ФА.
**адто́чаны як кот на смята́не.** *Бялын., Круп. Ухв.* Пра добра дагледжанага чалавека. Яўсееў, 15; КВДУ.
**бая́цца як кот квaку́хі.** *Мсцісл. Жарт.* Пра страх перад кімсьці агрэсіўным, злосным. Юрчанка, 187.
**бая́цца як кот саба́кі.** *Насмешл.* Пра сапраўдны страх перад кім-н. Янк., Пар., 13.
**бе́гчы як кот ад квaку́хі.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра шпаркія ўцёкі ад каго-н. Юрчанка, 187.
**бры́дзіцца** *чым* **як кот са́лам.** *Ваўк. п. Іран.* Пра прагнае жаданне чаго-н. з ежы. Federowski, 43.
**бурча́ць як кот.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра незадаволенае бурчанне, выгаворванне. Юрчанка, 187.
**важда́цца** *з чым* **як кот са здо́хлай мы́шшу.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які залішне з нечым цацкаецца. Высл., 290.
**валачы́** *што* **як кот селядца́.** *Ваўк. п., Нясв. Насмешл.* Пра чалавека, які нешта сквапна павалок. Federowski, 326; ФА.
**вы́лупіцца як кот.** *Няўхв.* Пра нейчы асаблівы погляд. Янк., Пар., 30.
**вы́лупіць во́чы як кот.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.
**вылу́чвацца як кот.** *Лельч. Жарт.* Пра нейчае пешчанне, пацягванне, выгібанне. Кучук, Малюк, 22. < Вылучвацца – пацягвацца, выгінаць спіну.
**вы́трашчыць во́чы як кот на глі́не.** *Слон. Няўхв.* Пра нейчы характэрны пагляд. Высл., 299.
**глядзе́ць (пазіра́ць)** *на што* **як кот на са́ла (каўбасу́, ма́сла).** *Карэл., Слон., Мін., Хоц., Петр. Жарт.* Пра нейчы прагны, сквапны позірк. Янк., 402; Высл., 305; ЛЦ, 50.
**глядзе́ць як кот на тру́са.** Відаць, пра злосны, драпежны погляд. Янк., 402.
**гуля́ць (граць, дражні́цца) як кот з мы́шкаю.** *Ваўк. п., Івац., Слон., Хойн. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга з нечым забаўляецца, цацкаецца. Federowski, 121; Высл., 309; Мат. Гом., VI, 174; ЗЗайкі.

**дарва́цца як кот да ры́бы (да са́ла).** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, які атрымаў доступ да нечага жаданага. ЛЦ, 51.
**дзіві́цца як кот на аўцу́.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нейчы здзіўлены, няўцямны позірк. Юрчанка, 174.
**дзяру́шчы (дзярэ́цца) як [той] кот.** *Гродз. п.*, *Сміл. Няўхв.* Пра задзірлівага, драпежнага чалавека. Federowski, 95; Шатэрнік, 87.
**дра́цца но́гцямі як кот кіпцюра́мі.** *Сміл. Няўхв.* Пра таго, хто ў бойцы пускае ў ход пазногці. Шатэрнік, 178.
**душы́ць як кот мышэ́й.** *Ваўк. п.* Пра бязлітаснае распраўленне са слабейшымі альбо ворагамі. Federowski, 89.
**жму́рыцца што кот на кілба́сы.** *Мсцісл.* Пра сквапны задаволены позірк на ласошчы. Юрчанка 1977, 230.
**жму́рыцца як кот на со́нцы.** *Кплів.* Пра нейчы асаблівы прыжмураны пагляд. Янк., 407.
**жыву́чы (жыву́шчы) як кот.** *Навагр. п.*, *Івац.*, *Зэльв.*, *Сміл.*, *Маладз.*, *Чэрв. Ухв.* Пра загартаванага жыццяздольнага, жыццястойкага чалавека. Federowski, 373; Шатэрнік, 95; Нос., 43; Мін.-Мал., 1974, 59; СПЗБ 2, 163; Сцяцко 2005, 43; ЗЗайкі.
**жыць (дру́жаць, любі́цца) як кот з саба́кам**. *Ваўк. п.*, *Маз.*, *Івац.*, *Іўеў.*, *Сміл.*, *Стаўб.*, *В.-Дзв. Іран.* Пра людзей, якія варагуюць, пастаянна сварацца. Дуб., Нар., 1; Шатэрнік, 96; Высл., 321; МК, 312; Янк., 413; Pietkiewicz, 391, 403; СПЗБ 2, 171; ЗЗайкі.
**збро́даваць па ха́це як [той] кот.** *Дзярж. Няўхв.* Пра чалавека, які ўсюды шукае сабе лёгкай спажывы. Нар. слов., 32. < Збродаваць – лазіць усюды, шукаючы ежы.
**ігра́ць як кот на цымба́лах (на рая́лі).** *Мін. Іран.* Пра чалавека, які зусім не ўмее іграць. ЛЦ, 32.
*каго* **хоць з да́ху скінь, а ён як кот ста́не на но́гі.** *Мін. Ухв.* Пра жывучасць каго-н. ЛЦ, 37.
**ке́шкацца як кот з селядцо́м.** *Няўхв.* Пра чалавека, які доўга і марудна займаецца нечым не вартым. Янук., 31. < Кешкацца – забаўляцца, а таксама варушыцца.
**кі́дацца як [той] кот, што ўвя́з у мо́край глі́не.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, што роспачна кідаецца ў цяжкіх абставінах. ЛЦ, 71.
**круці́цца як кот вако́л гара́чага малака́ (вако́л гара́чай ка́шы).** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які ніяк не адступаецца ад нечага, яму пакуль не даступнага. ЛЦ, 71.
**ла́саваць** *на каго/што* **ек кот на са́ло.** *Жытк. Насмешл.* Пра ласы, сквапны погляд. ТС 3, 14.
**ла́сы як кот на каўба́сы.** *Гродз.*, *Ваўк. п.*, *Зэльв.*, *Маз.*, *Маст.*, *Нясв.*, *Гродз. Кплів.* Пра ласага чалавека. Federowski, 140; Pietkiewicz, 377; Сцяшковіч, 597; Антырэліг. казкі, 200; Ахрым., 15; Высл., 340; Цыхун, 185.
**ла́шчыцца (ласіцца) як кот.** *Слон. Ухв.* Пра ласкавага альбо лíслівага чалавека. Federowski, 169; Янк., Пар., 94; Высл., 340.

**ле́зці як кот у вазо́на.** *Хоц. Насмешл.* Пра нейчае нахабнае імкненне куды-н. Сцяшковіч, 615.
**лы́пацьвачы́ма як кот у ды́ме.** *Ашм. Няўхв.* 1. Пра частае міганне, лыпанне вачыма. 2. Пра чалавека, якому няёмка, няма куды дзець вочы. Даніловіч, 230.
**ляжа́ць як кот на пе́чы.** *Няўхв.* Пра лянівага чалавека, які любіць выгоду. Ройзензон, 73.
**ля́пнуць ек кот на чэ́рэн.** *Жытк. Няўхв.* Пра нейчае нечаканае, раптоўнае з'яўленне. ТС 5, 313–314.
**мармыта́ць як кот.** *Слон. п. Няўхв.* Пра невыразную гаворку. Federowski, 118.
**мо́цна як кот убрыкну́ў.** *Іран.* Пра нешта зусім нямоцнае, невыразнае. Янк., Пар., 104.
**на сэ́рцы як кот пацара́паў.** Пра чалавека, якому шчыміць сэрца, які моцна перажывае. БФГ, 171.
**наду́ць лу́пы як кот на кру́пы.** *Бераст. Насмешл.* Пра чалавека надзьмутага, пакрыўджанага. Даніловіч, 120.
**нае́сціся як до́бры кот, дабра́ўшыся да смята́ны.** *Карэл. Ухв. Жарт.* Пра чалавека, які даволі наеўся смачнага. Высл., 351.
**напі́цца як кот масля́нкі.** *Свісл. Няўхв.* Пра залішне, празмерна п'янага чалавека. Даніловіч, 230.
**насі́цца як кот з са́лам.** *Ваўк.*, *Сак. п.*, *Рэч.*, *Докш.*, *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга носіцца з нейкай справай, прадметам і выхваляецца. Dybowski, 15; Federowski, 198; Pietkiewicz, 380; Высл., 356; МК, 312.
**насі́цца як кот з мы́шшу.** *Мсцісл.* Юрчанка 1977, 229. Тое, што насіцца як кот з салам.
**насі́цца як кот з селядцо́м.** *Капыл.*, *Уздз.*, *Свісл.*, *Смарг. Няўхв.* Шатэрнік, 171; Высл., 356; Даніловіч, 230. Тое, што насіцца як кот з салам.
**насі́цца як кот уга́рны.** *Шум. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат мітусіцца без толку. КВДУ.
**нашко́дзіць як кот.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які шкодзіць спадцішка. ЛЦ, 61.
**няма́ як кот пазлізаў.** *Мсцісл.* Пра поўнае знікненне нечага без следу. Бялькевіч, 369.
**пава́дзіцца хадзі́ць** *куды* **як кот у са́ла.** *Хоц. Няўхв.* Пра частае наведванне таго месца, дзе можна пажывіцца, паласавацца. Бялькевіч, 357.
**пага́на бы начэ́ кот насра́ў на сэ́рца.** *Рэч. Вульг.* Пра непрыемнае адчуванне ў роце пасля пераядання альбо перапою. Пяткевіч, 570.
**пагляда́ць як кот на са́ла.** *Касц. Няўхв.* Пра нейчы сквапны, хцівы погляд. Бялькевіч, 478.
**пагуля́ць як кот на жарна́х.** *Смарг. Іран. Няўхв.* Пра нейчае няўдалае, прыкрае гулянне. Сцяшковіч, 615.
**падско́кваць як кот на гара́чай бля́се (патэ́льні).** *Жарт.* Пра чалавека, якога нечым данялі. Янк., 418; Санько, 69.

**падско́чыць як ашпа́раны кот.** *Мін.*, *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, якога раптам моцна ўразілі. ЛЦ, 73.
**пацягну́цца як кот без малака́.** *Ваўк.* Пра пакрыўджанага чалавека, жаданні якога не апраўдаліся. ФА.
**піць** *што* **як кот валяр'я́нку.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чалавека, які паспешліва, прагна нешта п'е. Юрчанка, 187.
**плю́шчыцца як кот.** *Петр.* Пра чалавека, які седзячы дрэмле, плюшчыць вочы. Мат. Гом., VI, 194.
**прыбі́цца як кот памы́йны.** *Карэл. Зласл.* Пра валачашчага чалавека, які прыстроіўся да некага жыць, харчавацца, можа, зайшоў у прымы. Высл., 369.
**прыбра́цца як кот у сваты́.** *Шчуч. Жарт.* Пра некага прыбранага. СПЗБ 4, 123.
**прыгрэ́цца як кот на со́нцы.** *Светл. Насмешл.* Пра чалавека, які дзесь утульна прыстроіўся. Высл., 370.
**прыжму́рыцца як [той] кот.** *Сміл. Насмешл.* Пра нейчы характэрны выраз твару. Шатэрнік, 228.
**прыкрада́цца як кот да мышэ́й.** Пра кагосьці, хто асцярожна набліжаецца да ахвяры. Ройзензон, 76.
**пяя́ць як кот ку́рню.** *Беш. Насмешл.* Пра мурлыканне, ціхае напяванне песні сабе пад нос. АВНЛ.
**разбурчэ́цца як стары́ кот.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нечым незадаволенага чалавека, які мармыча сабе пад нос. Юрчанка 1998, 15.
**размармыта́цца як кот.** *Трак. Насмешл.* СПЗБ 4, 258. Тое ж.
**ско́кнуць як кот на мыш.** Пра нейчы рашучы драпежны выпад. Янк., 427.
**спаць як кот зімо́ю.** *Капыл. Насмешл.* Пра ахвотніка доўга паспаць. ДА.
**спры́тны як кот.** *Ухв.* Пра ўвішнага, лоўкага, хуткага чалавека. Высл., 388.
**су́нуцца як кот з хвасто́м.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які ўсюды імкнецца паспець, умяшацца. Юрчанка 1977, 214.
**сядзе́ць як кот у кра́сках.** *Мін.* Пра прыемнае, утульнае пачуванне сябе дзе-н. Высл., 394.
**сядзе́ць як кот у смалязка́х.** *Ганц.* 1. *Насмешл.* Пра нейчае падскокванне, пакручванне. 2. *Ухв.* Пра ўтульнае пачуванне сябе ў цёплым месце. ФА.
**так працу́е бы кот пла́ча.** *Насмешл. Іран.* Пра невялікую працу кагосьці. Станкевіч, 165.
**увы́кнуць як кот у са́ла.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра пастаяннае імкненне да нечага. Бялькевіч, 77.
**уна́дзіцца як кот да чужо́га (у чужо́е) са́ла.** *Маз. Няўхв.* Пра чалавека, які здабывае сабе ежу, пасягаючы на чужое. Высл., 405; Ляцкий, 50.
**уна́дзіцца як кот у каўба́сы.** *Лях. Жарт.* Пра ахвотніка да нейкае стравы, нейкіх учынкаў. Мат., 130.

**уско́чыць як кот у рашчы́ну.** *Докш. Насмешл.* Пра траплянне ў непрыемную сітуацыю. ФА.
**утаро́піцца як кот у мыш.** *Івац., Мін. Насмешл.* Пра нейчы хцівы, пільны погляд. ЛЦ, 126; ЗЗайкі.
**уцячы́ як нашко́дзіўшы кот.** *Мін. Няўхв.* Пра ўцёкі нашкодзіўшага чалавека. Часта пра хлоца, які пакінуў падманутую дзяўчыну. ЛЦ, 126.
**хадзі́ць як кот каля́ гара́чай ка́шы.** *Маладз. Насмешл.* Пра адсочванне нечага дужа пажаданага, але пакуль недаступнага. Высл., 411.
*хто* **як кот: ско́лькі весіць, сто́лькі з'есць.** *Мядз.* Пра чалавека, які многа есць. ПП 1, 252.
**цікава́ць як кот.** Пра чалавека, які некага адсочвае. Янк., 437.
**ча́іцца як кот на мыш.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які некага падпільноўвае, да некага падкрадваецца. Federowski, 61. < Чаіцца – падпільноўваць, падкрадвацца.
**чапли́вый як кот.** *Смал. п. Няўхв.* Пра зладзеяватага чалавека. Добр., Смол., 972.
**ча́таваць як кот на мыш.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 65. < Чатаваць – вартаваць, пільнаваць (польск. czatować). Тое, што чаіцца як кот на мыш.
**шко́дны (шкадлі́вы) як кот.** *Ваўк. п., Бярэз., Івац. Асудж.* Пра шкадлівага, зладзеяватага чалавека. Federowski, 299; Высл., 421; ЗЗайкі.
**шчаслі́вы як той кот, што дабра́ўся да смята́ны.** *Мін. Жарт.* Пра шчаслівага чалавека, які дабраўся да нечага жаданага. ЛЦ, 60.
**як збро́длівы кот.** *Віл. Няўхв.* Пра мужчыну з нясталымі паводзінамі. СПЗБ 2, 278.
**як кот ла́паю.** *Мсцісл.* Пра нейчы нязграбны, непрыгожы почырк. Юрчанка, 187.
**як кот ляда́чы.** *Свісл. Асудж.* Пра дрэннага, нахабнага чалавека. Сцяшковіч, 615.
**як кот мале́нька.** *Стаўб. Жарт.* Пра невысокую дзяўчынку. МК, 110.
**як кот марцо́вый.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 188. Тое, што як збродлівы кот.
**як кот мурла́ты.** *Хоц. Няўхв.* Пра лянівага тоўстага адкормленага чалавека. Бялькевіч, 358.
**як кот напла́каў.** *Ваўк. п., Івац., Капыл., Клецк., Леп., Стаўб., Хоц., Чэрык., Чэрв., Стол., Мін.* Пра штосьці ў вельмі малой колькасці. Federowski, 150; МК, 312; ТС 3, 150; Pietkiewicz, 327; Янк., 417, 418; Нар. слов., 56; ЛЦ, 130; ФА; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі.
**як кот у ма́рцы.** *Шчуч. Няўхв.* Пра распуснага, разбэшчанага чалавека. Даніловіч, 230.
**Як кот шкадлі́вы, а як за́яц баязлі́вы.** *Стаўб. Прык.* Пра шкадлівага, баязлівага чалавека. ФА; Янкоўскі, 232.

**но́та як у ко́та.** *Докш. Насмешл.* Пра чалавека з непрыемным голасам, які блага спявае. Высл., 356.

**потягну́ты як кота́ на смэта́ну.** *Стол. Насмешл.* Пра нейчае прагнае жаданне чаго-н. АВНЛ.

***ко́ўлак***

**як [той] ко́ўлак.** *Карэл., Драг. Няўхв.* Пра звяглівага, раздражнёнага, непрыемнага чалавека. Высл., 431; Нар. лекс., 164. < Коўлак – звяглівы чалавек.

***ко́ўча***

**се́дзець бу ко́ўча.** *Жытк. Няўхв.* Пра занадта заматаную, укутаную жанчыну, падобную да кучы. ТС 2, 228. < Коўча – штосьці нязграбнае, бясформеннае.

***коўш***

падто́ркнуцца як чорт з каўшо́м пад бра́гу. Гл. чорт.

**чарпа́ць** *што* **як каўшо́м.** *Ваўк. п.* Пра чарэпанне нечага памногу, спорна. Federowski, 65.

**зарыжэ́цца як коўш альхо́вы.** *Віл.* Пра чырванатварага альбо пачырванеўшага ад сораму чалавека. Жыв. сл., 98.

**чырво́ны як коўш альхо́вы.** *Ельск., Сміл.* Высл., 420; Шатэрнік, 18. Тое ж.

***ко́хтачка***

падыхо́дзіць *каму што* як цёлцы ко́хтачка. Гл. цёлка.

як цёлка ў ко́хтачцы. Гл. цёлка.

***ко́шка***

**Удзе́нь як кашке́, уно́чы як пташке́.** *Воран. Прык.* Пра сужонкаў, што ўдзень сварацца, а ўночы мірацца. Аксамітаў, 183; Арх. Гр.

**ба́ба жыву́чая бы ко́шка.** *Слуцк. Жарт.* Пра нібыта вялікую вынослівасць і жывучасць жанчын. Сержпутоўскі 1999, 16; Гілевіч, 165.

**глядзе́ць як ко́шка на мыш (мы́шку).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейчы прагны, насцярожаны позірк. Юрчанка, 188.

**гуля́ць (дражні́цца) як ко́шка з мы́шаю.** *Ваўк. п., Слон., Хойн. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга з нечым забаўляецца, цацкаецца. Federowski, 121; Высл., 309; Мат. Гом., VI, 174.

**дабра́цца як ко́шка да са́ла.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, што дабраўся да нечага жаданага. Federowski, 71.

**насі́цца як ко́шка з жа́бай: га́дка з’е́сці і шкада́ кі́нуць.** *Капыл. Няўхв.* Пра сквапнага чалавека, які трымае пры сабе і тое, што не патрэбна. Рабкевіч, 153.

**насі́цца як ко́шка з кацянёнкам (кацянёначкам).** *Мсцісл.* Пра мітуслівыя, турботныя, неспакойныя захады каго-н. Юрчанка, 188.

**насі́цца як ко́шка з по́мазам.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які доўга носіцца з нейкай справай, прадметам. Юрчанка 1977, 230. < Помаз – помазка для змазвання патэльні тлушчам.

**пісаць як ко́шка ла́паю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчы нязграбны непрыгожы почырк. Юрчанка, 187.

**разду́раная як па́ніна ко́шка.** *Насмешл.* Пра спешчаную, пераборлівую дзяўчыну ці жанчыну. Янк., Дыял.,1, 219.

**сяжу́ да гляжу́ як ко́шка ў дяжу́.** *Смал. Жарт.* Пра чалавека, які нічога не робіць, але чакае спажывы. Добровольский III, 13.

**схапі́ць як ко́шка мыш (мы́шку).** *Мсцісл.* Пра чалавека, які нешта спрытна схапіў, набыў. Юрчанка, 188.

**ча́таваць як ко́шка (кот) на мыш.** *Ваўк. п.* Пра ўважлівае, пільнае адсочванне каго-н. Federowski, 65. < Чатаваць – вартаваць, пільнаваць (польск. czatować).

**як ко́шки дра́паются.** *Смал. п.* 1. Пра царапанне вострымі пазногцямі. 2. *Няўхв.* Пра калючага, задзірлівага чалавека. Добр., Смол., 189.

**жанкі́ жыву́шчыя як ко́шкі.** Federowski, 366. Тое, што баба жывучая бы кошка.

*з каго хто* **як з ко́шкі шве́йка.** *Мсцісл. Іран.* Пра некага зусім не годнага для справы. Юрчанка, 184.

**сы́каць адна́ на адну́, як дзве ко́шкі каля́ аднае́ мі́скі з мало-ко́м.** *Мін. Няўхв.* Пра спрэчкі дзвюх задзірлівых жанчын. ЛЦ, 64.

**як ко́шкі ў ха́це начава́лі.** *Зэльв. Няўхв.* Пра цяжкае паветра. Сцяшковіч, 616.

глядзе́ць як саба́ка на ко́шку. Гл. сабака.

наляце́ць як ла́стаўкі на ко́шку. Гл. ластаўка.

**як на ко́шку абро́ць** *што. Мсцісл. Іран.* Пра нешта не да месца. Юрчанка, 192.

**трэ́ба як ко́шцы духі́ (пу́дра).** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 188.

**трэ́ба як ко́шцы расчо́ска (пяршча́ткі).** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка, 178. Тое ж.

***ко́шык*** **тупы́ як ко́шык.** *Астр. Няўхв.* Пра не дужа разумнага чалавека. Даніловіч 2010, 91.

***край*** **жраць як з гало́днага краю вы́рваўсё.** *Івац., Навагр., Слон. Здзекл.* Пра чалавека, які моцна прагаладаўся. Сцяшковіч, 19; Высл., 318; ЗЗайкі.

***краль*** *каму* таго жа́лю як па нябо́жчыку кра́лю. Гл. нябожчык.

***кра́ля*** **прыбра́цца як [тая] кра́ля.** *Сміл. Іран.* Пра надта модна, з прэтэнзіямі апранутую дзяўчыну. Шатэрнік, 131.

***каралве́цкі*** граць як каралве́цкі музыка́нт. Гл. музыкант.

***крамушка*** **дзіця́ здаро́вае як крамушка.** *Івац. Ухв.* Пра дагледжанае, здаровае дзіця. ЗЗайкі. < Крамушка – крэмень.

***крамянёк*** **як крамянёк.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага, моцнага чалавека. Юрчанка, 188.

***крапіва*** **расці́ як тая крапіва пры пло́це.** Пра дзіця, што расце без належнага дагляду. Янк., 424.

**секану́ць як крапі́ваю.** *Няўхв.* 1. Пра ўдар нечым балючым, пякучым. 2. Пра нешта востра, балюча сказанае. Санько, 182.

бара́хтацца як п’я́ны ў крапі́ве. Гл. п’яны.

варушы́цца як п’я́ны ў крапі́ве. Гл. п’яны.

ганя́ць як куку́шку па крапі́ве. Гл. кукушка.

гульну́ць як го́лы ў крапі́ве. Гл. голы.

круці́цца як го́лы ў крапі́ве. Гл. голы.

**пагрэ́цца як у крапі́ве.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, якому не пашанцавала. ЛЦ, 62.

пагуля́ць як го́лым у крапі́ве пасядзе́ць. Гл. голы.

пажывіцца як го́лы ў крапі́ве. Гл. голы.

прапа́сці як кураня́ ў крапі́ве. Гл. кураня.

танцава́ць як го́лыя ў крапі́ве. Гл. голыя.

сказа́ў, як крапіво́й секану́ў па го́лых лы́тках. *Петр.* Пра нешта сказанае, што моцна дапякло суразмоўцу. ЛЦ, 66; Янк., 445.

збіра́цца як гало́дны ў крапі́ву. Гл. галодны.

любі́ць як го́лый крапі́ву. Гл. голы.

уто́ркнуцца як ср...ць у крапі́ву. Гл. ср...ць.

вы́скачыць як го́лы з крапі́вы. Гл. голы.

вы́скачыць як за́яц з крапі́вы. Гл. заяц.

падхапі́цца бы́ццам *каму* су́нулі за па́зуху жмут крапі́вы. Гл. пазуха.

сядзе́ць як цвет між крапі́вы. Гл. цвет.

***крапі́ла/крапі́дла*** ба́яцца як чорт крапі́дла. Гл. чорт.

палі́ць як ксёндз крапі́длам. Гл. ксёндз.

папы́рскаць як поп крапі́длам. Гл. поп.

пакрапі́ць як ксёндз крапі́лам. Гл. ксёндз.

***кра́ска*** **дзе́ўка як кра́ска.** *Захапл.* Пра вельмі прыгожую дзяўчыну. Янк., 405.

**дзіця́ да ма́ці як кра́ска да со́нца.** Пра дзіця, што цягнецца да маці. Санько, 127.

***краснапёрачка*** **харо́шая (прыго́жая) як краснапёрачка.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра прыгожую жанчыну, дзяўчыну. Янк., 338.

***красня́к*** **здаро́вы як красня́к.** *Леп. Ухв.* Пра здаровага, чырванатварага, румянага мужчыну. АСЭТ.

***крась*** **падско́кваць як крась на скаўрадзе́.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які падскоквае нечым праняты. Юрчанка, 174. < Крась – карась.

**як крась.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага чалавека. Юрчанка, 188.

***кра́сці*** ру́кі трасу́цца бы́ццам ку́ры краў. Гл. куры.

***кро́іць*** сэ́рца як нажо́м кро́іць. Гл. нож.

***кро́пля*** **дабра́ліся як дзве кро́плі вады́.** *Ваўк. п., Рэч.* Пра вельмі падобных адзін да аднаго. Federowski, 324, 71; Pietkiewicz, 397.

дзяце́й як кано́плі, а хле́ба ні кро́плі. Гл. каноплі.

**падо́бны як дзве кро́плі вады́.** *Мін.* ЛЦ, 73. Тое, што дабраліся як дзве кроплі (каплі) вады.

***кро́сны*** **павуці́на ўе́цца як кро́сны.** Пра вельмі густое павуцінне. НН, 304.

***кроў*** **бе́лы як кроў з малако́м.** *Ваўк. Ухв.* Пра чалавека бялявага з румяным тварам. Federowski, 30.

**не дзяўчы́на, а ўся круго́м як кроў з малако́м.** *Навагр. Ухв.* Пра прыгожую, румяную дзяўчыну. ЖНС, 168.

смакта́ць як п’я́ўка кроў. Гл. п’яўка.

**чырво́ны як кроў.** *Ваўк. п.* Пра чырвоны колер нечага. Federowski, 70.

круці́цца што во́ран над кро́ўю. Гл. воран.

апі́цца як бонк ко́нскай крыві́. Гл. бонк.

жала́ць як во́ран крыві́. Гл. воран.
напі́цца як кама́р крыві́. Гл. камар.

***кру́глы*** круці́цца як чорт у кру́глым крэ́сле. Гл. чорт.

***крук 1*** **стоя́ть** *над кім* **як крук над па́длом.** *Ваўк. п., Бяроз. Няўхв.* Пра чалавека, які надта пільна, пагрозліва пільнуе некага. Federowski, 275; АВНЛ.
**чо́рны як крук.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чорнага, змрочнага чалавека. Federowski, 66. < Крук – тут: крумкач, воран.

***крук 2*** **стая́ць кру́кам** *над кім. Няўхв.* Пра кагосьці, хто за некім пільна сочыць, не выпускае з поля зроку, кантралюе. БПФС, 115.
**сядзе́ць кру́кам** *над чым. Астр.* Пра старанную, працяглую працу над чым-н. БПФС, 115; Скарбы, 8.
**ру́ки слова кру́ки** *ў каго. Смал., Мін. Няўхв.* Пра сквапнага, эгаістычнага чалавека. Добр., Смол., 364; ЛЦ, 53.
няру́шны як то́рба на круку́. Гл. торба.

***круле́ўскі*** даліка́тны як з круле́ўскай пся́рні. Гл. псярня.

***крумка́ч*** **збіра́ць** *што* **як крумка́ч ко́сці.** *Няўхв.* Пра сквапнае збіранне нечага спажыўнага, патрэбнага. ФСБМ 1, 149.
**наляце́ць як гало́дны крумка́ч.** *Асудж.* Пра нейчы агрэсіўны, рэзкі напад на каго-н. БПФС, 115.
**злята́цца як гало́днае крумкаччо́.** *Асудж.* Пра людзей, што збіраюцца для нейкай агрэсіўнай, захопніцкай спажывы. БПФС, 115.

***кру́пы*** прытаі́цца як муш у крупе́. Гл. мыш.
глядзе́ць як мыш на кру́пы. Гл. мыш.
наду́цца як мыш на кру́пы. Гл. мыш.
наду́ць лу́пы як кот на кру́пы. Гл. кот.
паста́віцца як мыш на кру́пы. Гл. мыш.

***круцёлка*** **круці́цца як круцёлка.** *Беш. Няўхв.* Пра ветраную дзяўчынку, жанчыну. Каспяровіч, 168.

***круці́ць*** е́сці як ва́лкам круці́ць. Гл. валок.
*з кім* гавары́ць, усё ро́ўна як з пяску́ пу́гу круці́ць. Гл. пясок.

***кру́чанка*** **бе́гаць як та́я кру́чанка.** *Лоеў. Няўхв.* Пра паводзіны безразважнай жанчыны. Янкова, 167.

***кру́чаны*** бая́цца як кру́чанага саба́кі. Гл. сабака.
**бе́гчы як кру́чаны.** *Маст. Няўхв.* Пра хуткі, безаглядны, але бязмэтавы бег. Сцяшковіч, 244.
запе́ніцца бы кру́чаны саба́ка. Гл. сабака.
крыча́ць бу ове́чкі ты́е кручо́ные. Гл. авечка.

***кручо́к*** **насы́ паднімаю́цца як на кручку́.** *Мсцісл. Няўхв. Жарт.* Пра занадта ганарыстых людзей, што празмерна задаюцца. Юрчанка, 174.
заскака́ць як ры́ба на кручку́. Гл. рыба.
ве́села як ры́бцы на кручку́. Гл. рыбка.
**хадзі́ць як кручо́к.** *Віл. Няўхв.* Пра сагнутага, згорбленага чалавека. Гілевіч 2007, 119.

***крыву́лі*** **крывано́гага но́гі як крыву́лі.** *Шчуч.* Пра крывыя ногі каго-н. СПЗБ 2, 539.

***крыж***

баяцца як чорт кры́жа. Гл. чорт.

**бе́лы як з кры́жа зня́ты.** *Ваўк. Спачув.* Пра збялелага чалавека, падобнага да нябожчыка. ФА.

выгляда́ць як чорт з-за кры́жа. Гл. чорт.

глядзе́ць як чорт з-пад кры́жа. Гл. чорт.

мана́х бяжы́ць ад рабо́ты, як чорт ад кры́жа. Гл. чорт.

наду́вся бы Нэсьцю́р до кры́жа. Гл. Нэсьцюр.

**як з кры́жа (храста́) зня́ты.** *Ваўк. п., Мсцісл., Дзятл., Навагр. Спачув.* Пра вельмі бледнага, стомленага, схварэлага чалавека. Federowski, 374; Юрчанка 1977, 213; Сержпутоўскі 1999, 31; Сцяшковіч, 615; Гілевіч, 166.

дрыжа́ць (знябо́жыцца) як чорт пад кры́жам. Гл. чорт.

зні́шчыцца як чорт пад кры́жам, а ліха ду́маць. Гл. чорт.

мі́на як у чо́рта пад кры́жам. Гл. чорт.

ску́рчыцца як чорт пад кры́жам. Гл. чорт.

стая́ць як чорт пад кры́жам. Гл. чорт.

***кры́лы***

**паляце́ў бы кры́ламі.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра хуткае, лёгкае перамяшчэнне каго-н. Federowski, 214.

***крындж́алы***

**но́гі як крындж́алы.** *Рэч. Насмешл.* Пра доўгія вялікія ногі. ЛЦ, 73. < Крынджалы – сані, на якіх возяць доўгія бярвенні.

***крыні́ца***

гавары́ць як крыні́ца булько́ча. *Ухв.* Пра прыемную, мілагучную гаворку. Санько, 120.

**Лу́жына не крыні́ца, дзяўчы́на не маладзі́ца.** *Карэл. Прык.* Відаць, пра тое, што дзяўчыне да добрай маладзіцы яшчэ трэба дарасці. АВНЛ.

**кла́няцца** *каму* **як крыні́цы пры даро́зе.** Пра адносіны да некага з глыбокай пашанай. Янк., Пар., 86.

***крыні́чны***

чы́сты як крыні́чна вада́. Гл. вада.

***кры́са,***
*гл. таксама* ***пацу́к***

**як кры́са.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра пранырлівага хцівага чалавека. Юрчанка, 188.

***кры́ца***

**як кры́цаю се́сці.** Пра супыненне актыўнасці, супакойванне каго-н. Санько, 69.

***крышта́ль***

**вада́ [чы́стая] як крышта́ль.** *Смал. п., Сміл. Ухв.* Пра вельмі чыстую ваду. Добр., Слов, 967; Шатэрнік, 140.

**чы́сты як крышта́ль.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта чыстае, высокага гатунку: посуд, паветра і г. д. Federowski, 71.

***крэмень***

**Ба́ба бы краме́нь: ні з яко́га бо́ку яе не ўку́сіш.** *Слуцк. Прык. Жарт.* Пра кабету, што аніяк не адгукаецца на чыесьці залёты. Сержпутоўскі 2000, 89.

**як крэ́мэнь.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага дужага чалавека. Юрчанка, 188.

***крэ́сіва***

**як крэ́сівам вы́красіў [усю пра́ўду].** *Ваўк. п.* Пра здабыванне, раскрыванне праўды. Federowski, 245.

***крэ́сла***

круці́цца як чорт у кру́глым крэ́сле. Гл. чорт.

***крэ́та***

**бе́лы як крэ́та.** *Гродз.* Пра бледнага чалавека. Сцяшковіч, 578. < Крэта – крэйда.

***ксёндз*** **пакрапі́ць як ксёндз крапі́лам.** Пра дожджык, які ледзь-ледзь пакапаў. *Ваўк. п.* Federowski, 213.

**палі́ць як ксёндз крапі́длам.** *Воран.*, *Іўеў.*, *Шчуч. Няўхв.* Даніловіч, 231. Тое ж.

**памагчы́ як ксёндз Магдале́не.** *Гродз.*, *Маст. Іран.* Пра адсутнасць дапамогі. Даніловіч, 231.

**пра́віць як ксёндз з каза́льніцы.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра складную разумную гаворку некага, прамову. Federowski, 247. < Казальніца – балкончык у касцёле, адкуль ксёндз выступае са сваімі прамовамі.

**угадзі́ць як ксёндз Магду́лі.** *Гродз.*, *Карэл. Іран.* Пра сітуацыю, калі не толькі не дагадзілі, але і паздзекваліся. Высл., 403; Цыхун, 180; Даніловіч, 231. < Тлумачэнне інфарманта: «Зімой у лапцях хадзіла, а на весну валенкі купіў».

**мно́га як у ксяндза́ жо́нак.** *Мін. Іран. Жарт.* Пра поўную адсутнасць нечага. ЛЦ, 21.

*у каго* пра́ўды як у папа́ з ксяндзо́м. Гл. поп.

**распуці́цца як ксяндзы́ ля ву́лляў.** *Стаўб.* Пра прагных да спажывы людзей, якія згубілі асцярожнасць. Высл., 377.

***ксёнжка*** **гаво́рыць як з ксёнжкі бярэ́.** *Ваўк.*, *Сак. п. Ухв.* Пра красамоўнага чалавека. Federowski, 108.

**кляне́ як з ксёнжкі бярэ́.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра надта складныя праклёны. Federowski, 145.

***ку́бел*** як кату́ са́ла: нія́к з ку́бла не даста́ць. Гл. кот.

***кубе́льнік*** **е́хаць як кубе́льнікі.** *Мядз. Насмешл.* Пра ціхую, асцярожную, няспешную язду. Нар. слов., 10. < «Кубельнік усягды ехаў памалу, каб дабро ні растрасці, вот і сталі казаць на тых, што памалу ехалі: едуць як кубельнікі» (тлумачэнне збіральніка). Кубельнік – вясельны чын, той сват, што вязе кубел маладой у дом маладога.

***кубло́*** *дзе* **такі́ пара́дак як у бу́ськавым кублé.** *Смарг. Іран.* Пра непарадак у памяшканні. СПЗБ 4, 146.

купчыцца (кубліцца) як ку́ры на кублé. Гл. куры.

**расцé кублóм.** *Лельч.* Пра значную колькасць апенек, змешчаных шчыльна побач адзін ля аднаго. Кучук, Малюк, 64.

***кудзе́ля*** **галава́ як кудзе́ля.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра непрычасаныя, неўпарадкаваныя валасы. Юрчанка 1998, 102.

***ку́дла*** **як ку́дла [яка́я].** *Мсціcл. Няўхв.* Пра непрычасанага чалавека. Бялькевіч, 236.

***кудла́ты*** бага́ты як саба́ка кудла́ты. Гл. сабака.

Зна́ці, ой, зна́ці, што ён жана́ты: скýрчыўся, згóрбіўся, як пёс кудла́ты. Гл. пёс.

скóрчыцца, змóршчыцца як цю́цька кудла́ты. Гл. цюцька.

***ку́зня*** бе́лы як снег на кýзьні. Гл. снег.

**кóпаці як у ку́зні.** *Слон. Няўхв.* Пра закопчанае памяшканне. Высл., 336.

| | |
|---|---|
| ***Кузьма́*** | пагуля́ць як Адэ́ля ў Кузьма́х. Гл. Адэля.<br>зарабі́ць як Ме́ер на Кузьме́. Гл. Меер.<br>ты та́кая радня́ як Са́ўка Кузьме́ ро́дны Хве́дар. Гл. Саўка. |
| ***ку́ка*** | **стая́ць як ку́ка.** *Жытк. Няўхв.* Пра разгубленага, нерухомага чалавека. ТС 2, 248.<br>**сы́ты як ку́камі збі́ты.** *Ушацк., Пол., Мядз.* Пра ўкормленага, але дужага і не тлустага чалавека. МК, 312; Нар. лекс., 15; Барадулін, 97; СПЗБ 5, 59; Скарбы, 130.<br>**ру́кі як ку́кі.** *Воран. Няўхв.* Пра непрызвычаеныя, неахвочыя да працы рукі. Даніловіч, 231.<br>**Ру́кі як ку́кі, а язы́к як у су́кі.** *Прык. Зласл. Абразл.* Пра жанчыну, няважную работніцу, але вельмі брахлівую і языкатую. ФА. |
| ***ку́калка,*** | |
| *гл. таксама* ***лялька*** | **як ку́калка.** *Мсцісл. Памянш. Захапл.* Пра прывабнага, прыгожа ўбранага чалавека. Юрчанка, 188.<br>**як ку́кылку зьдзе́лыць.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра дасканалае выкананне нечага. Юрчанка 1993, 18. |
| ***кукаро́ка*** | **сядзе́ць як кукаро́ка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра жанчыну ў нязграбнай, непрывабнай позе. Юрчанка 189. |
| ***кукарэ́ку*** | засты́ць як пе́вень пасля́ кукарэ́ку. Гл. певень. |
| ***куку́шка*** | **ганя́ць як куку́шку па крапі́ве.** *Гом. Няўхв.* Пра настойлівае пераследванне каго-н. ЗВалодзінай.<br>**харашо́** *каму* **як куку́шцы ў ле́се пасля́ Пятра́.** *Гом. Іран.* Пра цяжкія, пакутлівыя ўмовы жыцця кагосьці. ЗВалодзінай. < У павер’ях, пасля Пятра птушкі пераследуюць зязюлю, б’юць яе, і тая абарочваецца ястрабам. |
| ***кулёма*** | **як кулёма.** *Астр. Насмешл.* Пра вельмі цёпла апранутага чалавека. Даніловіч 2010, 91. |
| ***кула́к*** | **гурдзе́лка як кула́к.** *Смарг. Няўхв.* Пра вялікі кадык у кагосьці. Шаталава, 46. < Гурдзелка – валляк, кадык.<br>ігру́шы ве́лькія што кула́к. *Глыб. Ухв.* Пра вялікія грушы. СПЗБ 2, 338.<br>**во́чы як кулаке́.** *Зэльв. Няўхв.* Пра надта вялікія выпуклыя вочы ў каго-н. Жыв. сл., 139. |
| ***кула́цкі*** | сярдзі́ты як кула́цкі саба́ка. Гл. сабака. |
| ***кулачо́к*** | **уста́ць ра́но, бы чэ́рці на кулачку́.** *Памянш. Стол.* Пра абуджэнне без пары, уночы. ТС 2, 249.<br>**Сам мужычо́к з кулачо́к, а зла як у казла́.** *Маладз. Прык. Насмешл.* Пра малога задзірлівага мужычка. ПП 2, 257. |
| ***кулёк*** | **як кулёк.** *Мсцісл.* Пра туга падпаясанага чалавека. Юрчанка, 188. |
| ***кулёчак*** | **як кулёчак.** *Памянш. Мсцісл.* Юрчанка, 188. Тое, што як кулёк. |
| ***куле́ш*** | **дрыжа́ць як Аўгі́ннін куле́ш.** *Кір. Насмешл.* Пра чые-н. дрыжыкі ад страху. ДА.<br>**Ро́зум не куле́ш, у го́лаву не ўліе́ш.** *Прык.* Пра немагчымасць перадаць свой розум, свае веды камусьці іншаму або без намаганняў авалодаць навукай. СЦБ, 205.<br>[вы ўсе] хараша́ як дзя́тлы ў куляшы́. Гл. дзяцел.<br>харашы́ як клёцкі ў куляшы́. Гл. клёцка. |

| | |
|---|---|
| ***Куліна*** | гнýцца як Хóмка пéрад Кулíнай. Гл. Хомка. |
| ***кýлля*** | **усéсціся як кýлля на вясéллі.** *Барыс. Жарт.* Пра жанчыну, якая недзе важна расселася. ФА. |
| ***куль*** | **ляцéць кулём.** *Люб.* Пра імклівае, стрымгалоў перамяшчэнне. Скарбы, 172. |
| | **пáдаць кýлем.** *Жытк.* Пра вельмі стомленага чалавека. ТС 2, 249. |
| | **як кулём на дно.** *Карм.* Пра нешта, што рэзка і адразу пайшло на дно. МК, 312; Санько, 68. |
| | **тóўсты як куль салóмы.** *Слуцк., Віц.* Пра тоўстага невялікага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 65; Нікіфароўскі, 1924, 17. |
| | **хадзíць як куль.** *Касц., Мсцісл.* 1. Пра тоўстага чалавека. 2. Пра чалавека, які многа на сябе апрануў. Матэрыялы 1981, 48; З нар. сл., 240. |
| | **як куль.** *Мсцісл., Леп.* Пра чалавека, які многа на сябе апрануў. Юрчанка, 256; ЗВалодзінай. |
| ***кýльба*** | **ніс бы кýльба зогнёны.** *Драг. Насмешл.* Пра нейчы курносы нос. Лучыц-Федарэц, 222. |
| ***кýльбачка*** | як да свінні́ кульбáчка. Гл. свіння. |
| ***кýля**, гл. таксама* | |
| ***пуля*** | **вы́лецець** *адкуль* **як кýля.** *Светл.* Пра імклівае, рэзкае аднекуль выскокванне, выбяганне. Высл., 296. |
| | **жых як [бы́стра] кýля (пýля).** *Ваўк. п., Мсцісл.* Пра нешта, што вельмі хутка мільгнула. Federowski,133, 160; Нар. лекс., 176. |
| | **трáпіць (папáсці) як кýляй у плот.** *Ваўк. п., Слуцк. Насмешл.* Пра некага, хто трапіў у сітуацыю, якую цяжка абмінуць. Federowski, 219; Сержпутоўскі 1999, 134; Янк., 432. |
| | трáпіць як у сцянý кýляй. Гл. сцяна. |
| | папáсці як у лоб кýляю. Гл. лоб. |
| ***кум*** | **як кум у вóрку сядзíць.** *Воран. Насмешл.* Пра маўклівага, заклапочанага чалавека. СПЗБ 3, 46. |
| ***кумáк*** | **твар як кумáк.** *Мсцісл.* Пра чырвонашчокі твар здаровага, румянага мужчыны. Юрчанка, 189. |
| ***кумпячóк*** | **хлóпчык як кумпячóк.** *Памянш. Лаг. Ухв.* Пра моцнае, здаровае дзіця. Высл., 410. |
| ***кумушóчык*** | **крéпінькій як кумушóчык.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра моцнае здаровае дзіця. Юрчанка 1993, 210. |
| ***кýпа*** | **сядзéць як кýпа.** *Люб. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта вольна рассеўся і займае шмат месца. ДА. |
| ***купáльскі*** | хадзíць як вéдзьма на Купáльскага Івáна. Гл. ведзьма. |
| ***кýпіна*** | **зарасці́ як кýпіна.** *Жытк. Няўхв.* Пра нешта вельмі запушчанае. ТС 3, 220. |
| | *у каго* **сóвесць як кýпіна ў балóце – мохам зарасла.** *Маз. Асудж.* Пра чалавека са страчаным сумленнем. ЛЦ, 45. |
| | сядзéць як жáба над кýпінаю. Гл. жаба. |
| | глядзéць як жáба на кýпіне Гл. жаба. |
| | дрáцца як жáба на кýпіне. Гл. жаба. |
| | загусці́ як чмялí ў кýпіне. Гл. чмель. |
| | надýцца як жáба на кýпіне. Гл. жаба. |

пну́цца як жа́ба на ку́піну. Гл. жаба.
скака́ць як жа́ба – з ку́піны на ку́піну. Гл. жаба.
ска́ча як за́яц на бало́це – з ку́піны на ку́піну. Гл. заяц.
падхапі́цца як за́яц з-пад ку́піны. Гл. заяц.
пры́гнуць як жа́ба з ку́піны. Гл. жаба.

***ку́пінка*** **як ку́пінка.** *Памяш. Шчуч. Ухв.* Пра прыгожую, поўную, у росквіце дзяўчыну, жанчыну. БВ, 130; Даніловіч, 231.

***купі́ць*** **даць як купі́ўшы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра малую, скупую колькасць дадзенага. Federowski, 73.
у ме́сце як у це́сце, не купі́ўшы – не з'е́сці. Гл. цеста.
Ма́тка не гра́матка – за зло́ты (злотку) не ку́піш. Гл. граматка.

***купля́ць*** так як ад гу́сі авёс купля́ць – ён само́му патрэ́бны. Гл. гусь.

***ку́ра****, гл. таксама*
***курыца*** **грабсці́ся як ку́ра [на сме́тніку].** *Ваўк. п., Клецк., Пін.* Пра жанчыну, занадта занятую сваёй працай. Federowski, 114; Высл., 307; Нар. скарбы, 142.
**кублі́цца ек ку́ра ў пе́ску.** *Стол. Насмешл.* ТС 2, 246. Тое ж.
**пашлёпаць як ку́ра па вадзе́.** *Воран. Кплів.* Пра хаду, не разбіраючы сцежкі, абы як. СПЗБ 3, 474.
**пісáць як ку́ра ле́вай ла́пай.** *Нясв. Няўхв.* Пра нязграбнае непрыгожае пісанне, почырк. ФА.
**як ку́ра на се́дале.** *Акц., Гор. Насмешл.* Пра сакатлівага, гаманлівага чалавека. Руд., 255.

***куранё*** **прысупо́ніцца** *да каго* **як куранё да ма́ткі.** *Слон.* Пра вельмі даверлівае прытуленне да некага. СРЛГ, 95.
**пішча́ць як кураня́ ў яйцэ́.** *Ваўк. п. Кплів.* Пра нейчы тонкі піск. Federowski, 235.
**прапа́сці як кураня́ ў крапі́ве.** *Івац. Кплів.* Пра лёгкую згубу кагосьці безабароннага. ЗЗайкі.
**прапа́сці як кураня́ ў зе́ллі.** *Лід.* Даніловіч 2008, 137. Тое ж.
**сядзе́ць як кураня́.** *Ваўк. п.* Пра прыціхлае дзіця. Federowski, 275.
**разбе́гчыся** *хто куды* **як кураня́ты ад це́ню каршуна́.** *Мін. Насмешл.* Пра панічнае, хуткае разбяганне людзей у нейкім страху. ЛЦ, 120.
**адкруці́ць галаву́ як кураня́ці.** *Няўхв.* Пра хуткую і бязлітасную расправу над некім. ФСБМ 1, 406.

***кураня́тка*** **далі́ка́тны як кураня́тка.** *Ухв.* Пра некага вельмі мяккага ў абыходжанні. Янк., Пар., 50.

***кураня́тніца*** **нат сваі́мі дзе́цьмі трасе́цца як кураня́тніца яка́я.** *Карэл. Ухв.* Пра клапатлівую маці. ЖН, 58.

***кура́па*** **як кура́па разда́ўленая.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра агіднага, непрыемнага, неахайнага чалавека. Бялькевіч, 381. < Курапа – жаба.

***курaса́дня*** спаць як той пе́вень на курaса́дні: адно́ во́ка заплю́шчана, а другі́м гляджу́. Гл. певень.

***кура́тнік*** **Жыццё як у кура́тніку: ка́жды ле́зе вышэ́й, каб га́дзіць на ні́жняга.** *Капыл.* Пра складанасці жыцця ў калектыве. ЗВалодзінай.

***кура́чы*** скýра як кура́ча це́ла. Гл. цела.
з кура́чую галаву́. Гл. галава.

***курду́піль/карду́піль*** **як курду́піль.** *Віц., Кобр. Насмешл.* Пра нізкарослага чалавека. Нікіфароўскі 1928, 154; Скарбы, 49.

***курме́ль*** **то́ўсты як курме́ль.** *Даўг. Ухв.* Пра тоўстага сытага чалавека. СПЗБ 2, 581. < Курмель – пячкур.

***ку́рня*** спява́ць як кот ку́рню. Гл. кот.

***курчы́жка*** **скаро́жыцца як курчы́жка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра некага сагнутага, скукожанага, старога альбо хворага. Юрчанка 1998, 145.

***куры́ны*** стая́ць як на куры́най назе́. Гл. нага.
маршча́кі на тва́ры як куры́ны слядо́к. Гл. слядок.
напра́сці ек с куры́ну го́лову. Гл. галава.
пасіне́ць як куры́ны пуп. Гл. пуп.
падо́бны як два куры́ныя я́йкі. Гл. яйка.

***ку́рыца*** [ну й панчо́ху ро́біш]: **во́чкі ўсё ро́ўна як ку́ры набэ́рдзалі.** *Пух. Няўхв.* Пра няякаснае вязанне. Шатэрнік, 183.
**Валасы́ дагу́ры, а во́шы як ку́ры.** *Прык. Асудж.* Кпліва. Пра жанчыну моцную, але неахайную. Federowski, 338.
**кублі́цца як ку́ры на кублé.** *Рэч.* Пра старанное дзе-н. уладкоўванне. Янк., Дыял., I, 212; Высл., 339.
**ру́кі трасу́цца (дрыжа́ць) бы́ццам ку́ры краў.** *Касц., Мін., Паст. Насмешл.* Пра чалавека, у якога рукі недыхтоўныя з перапою. ЛЦ, 49; Гілевіч, 166.
**саката́ць ек ку́ры на се́дале.** *Жытк. Жарт.* Пра смех, гамонку гурту дзяўчат, жанчын. ТС 5, 70.
**спяша́цца дадо́му, бы́ццам** *у каго́* **ку́ры нядо́ены я.** *Брэсц. Жарт.* Пра нейчую паспешлівасць без бачнай прычыны. ЛЦ, 123.
**абадзьму́цца як тая ку́рыца.** *Сміл. Насмешл.* Пра некага капрызнага, надзьмутага, важнага. Шатэрнік, 1.
**гняздзі́цца (ме́сціцца) як ку́рыца на я́йцах.** *Ваўк. п., Слон., Жабін. Насмешл.* Пра чалавека, які неспакойна і доўга ўладкоўваецца дзе-н. Federowski, 186; Высл., 306; Ганчук, Касцючык, 85.
**гра́бацца як ку́рыца [на сме́тніку].** *Ваўк. п., Клецк. Насмешл.* Пра нейкія дробныя хатнія заняткі жанчыны. Federowski, 114; Высл., 307.
**збіра́ць як ку́рыца валлё.** *Шум. Насмешл.* Пра стараннага, руплівага, запаслівага чалавека, які нешта збірае, назапашвае. Гілевіч, 165.
**капашы́цца як ку́рыца на дождж.** *Карэл., Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які праяўляе нейкую малазначную актыўнасць, працавітасць. Высл., 333; Юрчанка 1977, 164.
**квакта́ць як ку́рыца.** *Сак. п. Няўхв.* Пра жанчыну, якая ўвесь час бядуе, выказвае заклапочанасць, незадавальненне. Federowski, 160; Шпилевский, 117; Киркор, 238; Dybowski, 12.
**кво́лая як ку́рыца.** *Дзятл. Няўхв.* Пра слабую, кволую жанчыну. СПЗБ 2, 455.
**ко́рпацца як ку́рыца ў гняздзé.** *Івац. Насмешл.* ЗЗайкі. Тое, што грабацца як курыца (кура) [на сметніку].
**ко́шкацца як ку́рыца на гра́зі.** *Іўеў. Насмешл.* СПЗБ 2, 511. Тое ж.

**ко́шкацца як ку́рыца ў пяску́.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 150. < Кошкацца – тут: грэбсціся. Тое ж.
**ку́бліцца як ку́рыца на гняздзе́.** *Мін., Рэч. Жарт.* ЛЦ, 71. Тое, што гняздзіцца (месціцца) як курыца на яйцах.
**купа́цца ў гроша́х як ку́рыца ў пяску́.** *Мін., Драг.* Пра вялікую колькасць грошай у каго-н. Высл., 339; Лекс., 231.
**масці́цца як ку́рыца на сяда́ле/на я́йках.** *Мін., Рэч.* ЛЦ, 71. Тое, што гняздзіцца (месціцца) як курыца на яйцах.
**мясці́цца як ку́рыца на гняздзе́.** *Раснян.* Бялькевіч, 271. Тое ж.
**награзмо́ліць як ку́рыца ла́паю.** *Карэл., Жабін. Жарт.* Пра невыразнае, неахайнае пісанне. Жыв. сл., 69; Ганчук, Касцючык, 85.
**надзьму́цца як ку́рыца пе́рад дажджо́м.** *Рэч., Чэрык. Насмешл.* Пра некага надзьмутага, капрызнага. ЛЦ, 72.
**намо́кнуць як ку́рыца.** *Карм. Насмешл.* Пра вымаклага чалавека, з непрывабным знешнім выглядам. Высл., 352.
**насі́цца як ку́рыца з пе́ршым яйцо́м.** *Брасл. Насмешл.* Пра чалавека, які носіцца захоплены нейкай справай, ідэяй, прыбыткам. Рабкевіч, 153.
**насі́цца як ку́рыца з я́йкам (яйцо́м).** *Івац., Сміл., Чашн. Насмешл.* Ром., Зап., III, 221; ЗВалодзінай; ЗЗайкі. Тое ж.
**пабе́гчы як ку́рыца з яйцо́м.** *В.-Дзв. Насмешл.* Пра паспешлівы бег каго-н. ФА.
**піса́ць як ку́рыца ла́паю.** *Івац., Мсцісл. Няўхв.* Пра невыразны неахайны почырк. Юрчанка, 187; ЗЗайкі.
**расквахта́цца як ку́рыца на дождж.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які залішне разбурчаўся. ЛЦ, 66.
**рассаката́цца як ку́рыца знёсшы яйцо́.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чалавека, які гучна, публічна выхваляецца. Юрчанка, 174.
**рассе́сціся як ку́рыца.** *Мядз. Няўхв.* Пра чалавека, які займае зашмат месца. ФА.
**саката́ць языко́м што ку́рыца.** *Ветк., Вілен. Няўхв.* Пра балбатлівую жанчыну. Мат. Гом., VIII, 1980, 123; Sielicki, 162.
**спява́ць як ку́рыца на бяду́.** *Воран. Няўхв.* Пра недарэчны, немілагучны спеў каго-н. Арх. Гр.
**спява́ць як ку́рыца на здых.** *Смарг. Няўхв.* Даніловіч, 231. Тое, што спяваць як курыца на бяду.
**спява́ць як ку́рыца на сваю́ галаву́.** *Глыб. Няўхв.* Высл., 373. Тое, што спяваць як курыца на бяду.
**спява́ць як ку́рыца на сме́тніку.** *Няўхв.* Пра нейкі зусім нікчэмны спеў. ФА.
**спява́ць як ку́рыца пе́рад сме́рцю.** *Глыб.* Высл., 373. Тое, што спяваць як курыца на бяду.
**сшу́рпіцца як мо́края ку́рыца.** *Івац. Насмешл.* Пра натапыранага, надзьмутага, заклапочанага чалавека. ЗЗайкі. < Сшурпіцца – натапырыцца.
**сядзе́ць як ку́рыца на дажджы́.** *Рэч. Насмешл.* Пра прыціхлага, сумнага, заклапочанага чалавека. ЛЦ, 74.

**сядзе́ць як ку́рыца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра кагосьці ў нязграбнай позе. Юрчанка, 189.
**сядзе́ць як мо́края ку́рыца.** *Івац. Насмешл.* Пра кагосьці нахохленага, непрыгляднага, збедаванага. ЗЗайкі.
**так ве́ле ма́е ро́зуму як ку́рыца.** *Ваўк. п. Іран.* Пра кагосьці не вельмі разумнага. Federowski, 264. < Веле – многа.
**ты́цкацца як сляпа́я ку́рыца.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які няўдала нешта шукае. Высл., 402.
**уцяка́ць як ку́рыца ад петуха́.** *Мсцісл. Жарт.* Пра прытворныя ўцёкі. Юрчанка, 189.
**хадзі́ць як ку́рыца на здыхату́.** *Воран.*, *Шчуч. Няўхв. Жарт.* Пра чалавека з кепскім настроем, дрэнным самаадчуваннем. Даніловіч, 231.
**хадзі́ць як ку́рыца падбі́тая.** *Валож. Няўхв.* Гілевіч 2007, 54. Тое ж.
**хадзі́ць як ку́рыца шу́рпа.** *Ваўк. Няўхв.* Пра ўскудлачаную неахайную жанчыну. СПЗБ 5, 508. < Шурпа – парода кур, гусей з натапыраным, ускудлачаным пер’ем.
**храпсці́ як асі́пша ку́рыца.** *Слон. Няўхв.* Пра нейчы непрыемны голас, храп. Высл., 413.
**як ку́рыца саката́ць.** *Сак. п.*, *Беш.*, *Бар. Няўхв.* Пра жанчыну, якая шмат гаворыць. Federowski, 271; Шпилевский, 187; Dybowski, 192; Каспяровіч, 274; Янк., Пар., 144; АВНЛ.
**як мо́края ку́рыца [прышла́].** *Слон. Няўхв.* Federowski, 316. Тое, што намокнуць як курыца.
бе́гчы як пяту́х за ку́рыцай. Гл. пятух.
сябрава́ць як ліса́ з ку́рыцай. Гл. ліса.
хадзі́ць *перад кім* як пяту́х пе́рад ку́рыцай. Гл. пятух.
біць як каршу́н ку́рыцу. Гл. каршун.
**дзяўбці́ як ку́рыцу наво́дную.** *Паст.* Пра злосныя нападкі на каго-н. СПЗБ 3, 125. < Наводны – прыведзены з іншага статку.
накі́нуцца як сава́ (я́страб) на ку́рыцу. Гл. сава.
разорва́ты як Насту́ся ку́рыцу. Гл. Настуся.
**агаро́д як ку́рыцы се́сці.** *Івац. Няўхв.* Пра невялічкі агарод. ЗЗайкі.
**Адино́кыму мужику́ як ку́рицы: иде́ ни капану́ў, дак і ўклюну́ў.** *Смал. Прык. Жарт.* Пра зручнасць вольнага жыцця халасцяка. Добр., Смол., 106.
**зарабі́ць як ку́рыцы на соль.** *Іран.* 1. Пра адсутнасць заробку наогул. 2. Відаць, пра лёгкі заробак: прадаць знесенае яйка. Янк., Пар., 68.
**мазго́ў што ў ку́рыцы.** *Гродз. Няўхв.* Пра не дужа разумнага чалавека. Нар. скарбы, 130.
**падыхо́дзіць як да ку́рыцы набз́дрыка.** *Слон. Іран.* Пра тое, што зусім не падыходзіць, не пасуе. Даніловіч, 219.
**пад’ясі́ ад сы́на хле́ба, як ад старо́й ку́рыцы я́ек.** *Астр. Іран.* Пра выпадкі, калі дзеці не забяспечваюць як належыць бацькоў. Сцяшковіч, 652.

**папа́ла як сляпо́й ку́рыцы зярня́ (зярнё, зярня́тка)** < на сме́тніку >. *Воран.*, *Гродз.*, *Зэльв.*, *Івац.*, *Слон. Жарт.* Пра шанцаванне каму-н. Даніловіч, 249; Цыхун, 190; ЗЗайкі.

**пашанцава́ла як сляпо́й ку́рыцы знайсці зе́рне.** *Мін.*, *Брэсц.* ЛЦ, 62. Тое ж.

**попа́ло шча́сце, бы слыпу́й ку́рыцы зэ́рне.** *Пін.* ФА. Тое ж.

**то́лку з гэ́тай дзе́ўкі як з ку́рыцы: піску мно́га, пе́р'я ма́ла.** *Докш. Жарт.* Пра балбатлівую, ды не вельмі разумную дзяўчыну. ФА.

**трэ́ба** *каму што* **як ку́рыцы стаме́ска.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 194.

хадзіць як ко́кавінь (пе́вень) сяро́д курэ́й (з кура́мі). Гл. кокавінь.

***курэ́ц*** нудзіцца як п'я́ніца без ча́ркі, а курэ́ц бэз лю́лькі. Гл. п'яніца.

***куса́ць*** балі́ть усё маё те́ла, як псюк пад кале́нками куса́еть. Гл. псюк.

***куст*** абібо́к мяня́е рабо́ту як цыга́н куст. Гл. цыган.

**галава́ як куст.** *Краснап. Няўхв.* Пра непрычасаныя, кудлатыя валасы. Бялькевіч, 228.

вы́скачыць як жа́ба з куста́. Гл. жаба.

**ля́пнуць як з-за куста́.** *Ваўк. п.*, *Кір. Няўхв.* Пра недарэчнае, непрыгожае выказванне каго-н. Federowski, 161; АВНЛ.

віля́ць як саба́ка хвасто́м памі́ж па́лкай і кусто́м. Гл. сабака.

спаць чу́йна як за́яц пад кусто́м. Гл. заяц.

пайсці́ як пчала́ між кусто́ў. Гл. пчала.

сядзе́ць на куце́ як сава́ ў кусце́. Гл. сава.

***Куту́з*** **прагна́ць як Куту́з пранцу́за.** *Навагр.* Пра рашучае, смелае выгнанне каго-н. Даніловіч, 231.

**убіра́цца як ад Куту́за Банапа́рт.** *Жарт.* Пра адступленне, ганебныя ўцёкі. Энеіда навыварат.

***ку́хня*** це́сна як двум ба́бам на ку́хні. Гл. баба.

***куцця́*** **як ад куцці да Каля́д.** *Астр.*, *Смарг. Жарт.* Пра нядоўгі, кароткі прамежак часу. Даніловіч, 212.

**нае́сціся як на куццю́.** *Лід. Ухв.* Пра вельмі сытны, уволю наедак. Леп., 90; Даніловіч, 236.

**се́на як куццю́ падасла́ць.** *Насмешл.* Пра зусім невялічкую колькасць сена, якога хапіла б толькі падасланаць на калядны стол. Янк., Пар., 146.

**сядзе́ць як куцця́.** *Лаг. Ухв.* Пра паважнае, непарушнае, спакойнае прабыванне, сядзенне дзе-н. Варлыга 1966, 81.

***ку́ча*** трэ́сціся як жыд над ку́чай. Гл. жыд.

глядзе́ць няма́ на што, а мужыкі́ як жукі́ на ку́чу ле́зуць. Гл. жук.

***ку́чка*** сядзе́ць як гною ку́чка. Гл. гной.

***ку́чма*** **ходы́ть як та́я кучма́.** *Івац. Няўхв.* Пра неахайнага, непрычасанага чалавека. ЖН, 11.

***кяту́рка*** **як кяту́рка старо́га дзе́да.** *Даўг. Насмешл.* Пра неакуратнага чалавека. СПЗБ 2, 598. < Кятурка – шырынка.

# Л

***ла́ва***

**крыж як ла́ва.** *Ухв.* Пра шырокую крыжавіну добра ўкормленага каня. Янк., Пар., 89.

**Сей лён на Станісла́ва, вы́расце як ла́ва.** *Ваўк. Фальк.* Народная прыкмета. Пра лён, што вырасце густы, роўны. СПЗБ 2, 600.

знайсці́ як тапо́р за ла́вай. Гл. тапор.

так ве́ле мужы́к жо́нку лю́біць, як кісе́ль на ла́ве кіпі́ць. Гл. кісель.

***ла́дан***

бая́цца як чорт ла́дана. Гл. чорт.

***ла́дзіць***

збіра́цца як вясе́лле ла́дзіць. Гл. вяселле.

***лады́шка,*** *гл.* ***гладышка***

напі́цца як ліса́ з лады́шкі. Гл. ліса.

***ладэ́с***

**пла́каць як ладэ́с.** *Лях.* Пра плач без слёз. ФА. < Ладэс – тут, магчыма, бабёр.

***лаза́***

**згіна́цца як лаза́ пе́рад ду́бам.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які перад мацнейшым паводзіць сябе прыніжана, пакорна. Юрчанка, 189.

**Мужы́к як лаза́: абсяку́ць, абрэ́жуць, а ён зноў абрасце́.** *Прык. Мядз.* Пра вынослівасць селяніна, здольнасці яго аднаўляць гаспадарку. ЗСалавей.

**цыбу́ля як лаза́.** *Івац.*, *Слон.*, *Слуцк. Ухв.* Пра цыбулю з высока парослым пер'ем. Высл., 416; Сержпутоўскі 2000, 183; ЗЗайкі.

трэ́сці як чорт лазо́й. Гл. чорт.

вы́скачыць як чорт з лазы́. Гл. чорт.

як чорт з лазы́ вы́лезці. Гл. чорт.

як чорт з лазы́. Гл. чорт.

***Ла́зар***

**выгляда́ць як чы́сты Ла́зар.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра чалавека, які выглядае як нямоглы калека, хворы жабрак. Federowski, 170. < Лазар – персанаж духоўнага верша, песні рэлігійна-хрысціянскага зместу. У яго аснове – евангельская прытча пра багацея і жабрака Лазара: пакрыты гнойнымі язвамі, ён паміраў, ляжачы на сметніку супраць дома багацея.

**ляжа́ць як Ла́зар.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра ляжачага хворага, інваліда. Federowski, 170.

**як Ла́зор му́чыцця.** *Кам. Спачув.* Пра цяжкахворага, звычайна ляжачага калеку. СПЗБ 3, 90.

***лаза́ты***

пе́рціся як чорт лаза́ты. Гл. чорт.

***ла́зня***

**гарачо́ як у ла́зні.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра добра нагрэтае памяшканне. Federowski, 103.

**го́лы як у ла́зні.** Пра зусім голага чалавека. Янк., Пар., 42.

прыста́ць як ліст у ла́зні да це́ла. Гл. ліст.

прыста́ць як сало́ма ў ла́зні. Гл. салома.

**цёпла як у ла́зні.** *Ваўк. п.* Federowski, 58. Тое, што гарачо як у лазні.

**як з ла́зні.** Пра моцна пабітага, пакаранага чалавека. НН 1911, 155.

***лазо́вы***

прапа́сці як лазо́вы ла́паць на паго́дзя. Гл. лапаць.

***Лазо́р,*** *гл.* ***Ла́зар***

*лака́тар* **ву́шы як лака́тары.** *Воран. Насмешл.* Пра таго, хто мае тонкі слых. Арх. Гр.

*ламá́чына* **валя́цца як ламá́чына.** *Няўхв.* Пра нешта непатрэбнае, скарыстанае, зламанае. Янк., 398.

*ламбá́к* **аснэ́ тарча́ць як ламба́ке.** *Дзятл.* Пра пяровае пянеўе ў забітых свойскіх птушак. СПЗБ 1, 110. < Асны – пянеўе ў птушак, ламбы – бацвінне.

*ламо́к* у яго дамко́ў як у за́йца ламко́ў. Гл. заяц.

*ланту́х* **разрабі́цца як ланту́х.** *Віл. Няўхв.* Пра тоўстага і непаваротлівага чалавека. СПЗБ 2, 617. < Лантух – мех.

*ланцу́г* **бе́гаць як з ланцуга́ сарва́ўшыся.** *Няўхв.* Пра чалавека, што бегае, чапляецца да іншых. Янк., Пар., 15.

насі́цца як сабáка, сарвá́ўшыся з ланцугá / з пры́вязі. Гл. сабака.

сарвá́цца як сабá́ка з ланцугá. Гл. сабака.

**як з ланцуга́ сарва́ўся.** *Івац. Асудж.* Пра злоснага, раздражнёнага, нястрыманага чалавека. Ром., Бел., 316; ЗЗайкі.

кі́дацца (рвá́цца) як злы сабá́ка з ланцу́гаю. Гл. сабака.

*лань/ла́ня* **дзяўчы́на як лань.** *Ухв.* Пра статную прыгожую дзяўчыну. Янк., Пар., 53.

**маладзі́ца як лань.** *Ухв.* Пра прыгожую статную дагледжаную жанчыну. Янк., Пар., 102.

**раз’е́сціся як лань.** *Дзятл. Ухв.* Пра чалавека, які выглядае дагледжаным, выпешчаным. СПЗБ 2, 257.

**цялу́шка як ла́ня.** *Шальч. Ухв.* Пра добра выгадаваную цялушку. СПЗБ 2, 37.

*ла́па* **вы́сахнуць як мядзве́джа ла́па.** *Іран.* Насмешка з таго, хто прыкідваецца хворым. Крэмнеў, № 166; Нос., 22.

патрэ́бен як сабá́цы (сабá́ку, сабá́кі) пя́тая лá́па. Гл. сабака.

пісá́ць як кý́ра лé́вай лá́пай. Гл. кура.

як лягý́шка лá́памі. Гл. лягушка.

награзмо́ліць як кý́рыца лá́паю. Гл. курыца.

як кот (ко́шка, кý́рыца) лá́паю. Гл. кот.

як у катá́ за лá́паю пясо́к. Гл. кот.

**ру́кі як жа́біны ла́пы.** *Насмешл.* Пра нейчыя халодныя нязграбныя рукі. Янк., Пар., 140.

хý́да дзé́ду без бá́бы як мядзвé́дзю без лá́пы. Гл. мядзведзь.

**чырво́ныя [ру́кі] як гусі́ныя ла́пы.** *Слон. Жарт.* Пра азяблыя пачырванелыя рукі. Высл., 420.

*лапа́та* **барада́ як лапа́та.** *Дубр.* Пры шырокую акладзістую бараду. ВА.

**Лоб што лапа́та, ды ро́зуму небага́та.** *Прык. Іран.* Пра неадпаведнасць розуму чалавека яго знешняму выгляду. Санько, 151.

**нос як лапа́та.** *Краснап. Насмешл.* Пра нейчы пляскаты нос. Бялькевіч, 254.

**язы́к бы лапа́та.** *Нясв., Дзятл. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. ФА.

**Язы́к як лапа́та: што хачу́, то́я і пляшчу́.** *Мядз. Асудж.* ЗСалавей. Тое ж.

**мянцíць языкóм як лапáтай.** *В.-Дзв. Асудж.* Пра балбатлівага, нястрыманага чалавека. Шаталава, 9.

**хоць лапáтай заграбáй.** Пра вялікую колькасць нечага. БПФС, 71.

як чорт лапáтай збіў. Гл. чорт.

**гаварыць як лапáтаю ў гóлаў клáсці.** *Вaўк. п. Ухв.* Пра чалавека, які многаму і добра вучыць. Federowski, 108.

***лапáтка*** **худы́ як гарóхава лапáтка.** *Слон. Няўхв.* Пра зусім худога, плоскага на выгляд чалавека. Высл., 413.

***лáпаць*** **Антóсь ды Тадóра – што лáпаць ды абóра.** *Прык.* Пра дружных, неразлучных, патрэбных адзін аднаму людзей. Санько, 111.

дзялíць як Тóдар з Тадóраю лáпаць з абóраю. Гл. Тодар.

**дружы́ць як лáпаць з бóтам.** *Мсцісл. Іран.* Пра сяброўства без узаемнасці двух зусім розных у сацыяльным становішчы людзей. Юрчанка, 189.

**дурны́ як лы́кавы лáпаць.** *Касц., Хоц., Чэрык., Лун. Насмешл.* Пра зусім дурнога чалавека. ЛЦ, 42; ЗВалодзінай.

**Жанíтьба ни лáпыть – з нагí не скíнеш.** *Смал. Прык.* Пра неабходнасць сур’ёзна ставіцца да жаніцьбы, якая мяняе жыццё чалавека. Добровольский III, 8.

**задавáцца як лáпаць пéрад бóтам.** *Мсцісл. Іран.* Пра ганарыстага чалавека, які задаецца на пустым месцы. Юрчанка, 189.

**прапáсці як лазóвы лáпаць на пагóдзя.** *Лаг.* Калі нешта гіне раптам і канчаткова. Варлыга 1966, 71. < Пры непагодзе лазовы лапаць больш эластычны, ноcкі, а пры сушы ён ламаецца, хутка зношваецца.

пярó скрыпíць бы зімóю лáпаць. Гл. зімою.

**сóхнуць як мóкрый лáпаць.** *Мсцісл.* Пра працяглы час такой сушкі. Юрчанка, 190.

**так звáлі як у лáпаць клáлі.** *Чэрв. Няўхв.* 1. Пра знявагу каго-н. 2. Магчыма, пра імя чалавека, якім яго звалі ў маленстве. АВНЛ.

трэ́ба як стаптáны лáпаць на гарэ́. *Уздз. Іран.* Пра нешта непатрэбнае, недасканалае. ФА.

**як мóкрый лáпаць.** *Мсцісл. Пагардл.* Пра непрывабнага чалавека. Юрчанка, 190.

**Хай чоловéк ек лáпоць, абы за ім не плáкаць.** *Паст., Стол. Прык.* Пра тое, што не знешні выгляд важны для сужэнца, а яго адносіны да жонкі. СПЗБ 3, 81; ТС 5, 293.

**ля́пнуць (сказáць) як лáпцем па балóце (па грáзі) [пля́снуў].** *Шчуч. Асудж.* Пра сказаную нетактоўнасць, глупства, грубасць. Сцяшковіч, 598; З нар. сл., 40.

**ля́пнуць як лáпцем (атóпкам) па цымбáлах.** Янк., Пар., 98; Янк., 442. Тое ж.

**папáсці як лáпцем у зу́бы.** *Слуцк. Няўхв. Іран.* Пра чалавека, які дапусціў нейкую нетактоўнасць. ФА.

раз’éхацца як гаўно пад лáпцем. Гл. гаўно.

**цалу́ецца як лáпцем па вадзé плéшча.** *Докш. Насмешл.* Пра няўмелыя, занадта гучныя, з прычмокамі пацалункі. ФА.

як бот з ла́пцем. Гл. бот.
як бот пе́рад ла́пцем. Гл. бот.
як у бо́та з ла́пцем. Гл. бот.
**Гаспада́рку ве́сці – не ла́пці пле́сці.** *Прык.* Пра складанасць вядзення гаспадаркі. Янкоўскі, 23.
**За́муж ісці́ – не ла́пці плясці́.** *Астр. Прык.* Пра непажаданасць легкадумнага стаўлення да замужжа. ПП 2, 57.
**лёгка як ла́пці плясці́ (ла́паць сплé́сці).** *Ваўк.*, *Віл.*, *Слон. п. Ухв.* Пра лёгкае і простае выкананне нейкай справы. Federowski, 169; Tyszkiewicz, 433; Шейн, 475; Янк., 445; Янкоўскі, 24; АВНЛ.
**не ла́пці сплé́сці.** Пра складаную работу, якая патрабуе ўмельства. Гілевіч, 147.
**спаць як ла́пці прада́ўшы.** *Мсцісл.* Пра моцны бесклапотны сон пасля таргоў. Юрчанка, 180.
**тру́дна як ла́пці плесць.** *Іран.* Пра нешта зусім лёгкае і простае. Нос., 164.
трэ́ба як кату́ ла́пці. Гл. кот.
як жа́ба ў ла́пцях. Гл. жаба.
**як ла́пці пацяра́ўшы.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра разгубленага чалавека. Юрчанка, 174.
**як ла́пці прада́ўшы.** *Мсцісл.* Пра вясёлага, задаволенага чалавека. Юрчанка, 180.
трэ́ба як лягу́шцы ла́пці. Гл. лягушка.
**трэ́ба як ла́пцю ва́кса (гуталі́н).** *Мсцісл.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 189.
**жы́тку ек у лапця́х стопта́ў.** *Жытк. Няўхв.* Пра марна, бязрадасна пражытае жыццё. ТС 5, 100.

***лапу́х*** **як лапух.** *Воран.*, *Леп.* Пра няўважлівага чалавека. Арх. Гр.
як піво́ня ў лапуха́х. Гл. півоня.
**ву́шы як лапухі́.** *Слон. Насмешл.* Пра вялікія непрывабныя вушы. Высл., 295.

***лапу́шша*** бе́гчы як чорт па лапу́шшу. Гл. чорт.

***ла́сіца (ла́ска)*** **ла́шчыцца як ла́сіца.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра пяшчотную, ласкавую жанчыну. Federowski, 170.

***ласі́ца (ласі́ха)*** **здаро́вая як ласі́ца.** *Ушацк. Ухв.* Пра здаровую дагледжаную жанчыну. Барадулін, 117.

***ла́ска*** машы́на лю́біць зма́зку як дзе́ўка ла́ску. Гл. дзеўка.

***ла́ставачка*** **дачу́шка як ла́ставачка.** *Памянш.-ласк. Захапл.* Пра мілую прыгожую дачку. Янк., Пар., 52.

***ла́стаўка*** **віцца як ла́стаўка пе́рад дажджо́м.** Пра трывожную, імклівую мітусню, бегатню каго-н. Ляцкий, 48.
**вясёлы як ла́стаўка.** *Ухв.* Пра вясёлага прывабнага чалавека. Янк., Пар., 33.
**Дачка́ як ла́стаўка: пашчабе́чыць, пашчабе́чыць ды й паляці́ць.** *Пін. Прык.* Пра непазбежнае замужжа дачкі і яе адыход да мужа. АВНЛ.

**насíцца як ла́стаўка на пакóрме.** *Няўхв.* Пра занадта мітуслівыя паводзіны каго-н. Янк., Пар., 116.

**шчабята́ць як ла́стаўка на вяснý.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра дзяўчат, што вядуць мілыя размовы. Federowski, 297.

**ла́стаўкай вíцца.** *Гродз. Ухв.* Пра жанчыну, якая імкнецца дапамагчы, пашкадаваць, палячыць. Цыхун, 185.

Старóму з маладóй жыць, як савé з ла́стаўкай гняздó віць. Гл. сава.

**гуля́ць як ла́стаўкі над пóплавам.** *Ухв.* Пра моладзь, што весяліцца гуртам. Янк., Пар., 46.

**любíцца як ла́стаўкі ў стрэ́се.** *Слон. Фальк. Ухв.* Пра шчырае прыгожае каханне. Высл., 342.

**наляцéць як ла́стаўкі на кóшку.** *Ваўк., Брэсц.* Пра калектыўны напад на каго-н. ЛЦ, 38.

прылíпнуць як ла́стаўчына гняздó. Гн. гняздо.

***латацё*** **жóўты як латацё.** *Слон.* Пра нешта яскрава жоўтае. Высл., 319. < Латацё – лотаць.

***латóк*** **вада́ ліéцца як з латака́.** *Брасл.* Пра моцны струмень сцякаючай вады. СПЗБ 2, 628.

***латрýга*** **басця́цца як латрýга.** *Краснап. Асудж.* Пра чалавека без прыстанку, гультая і валацугу. Бялькевіч, 247. < Латруга – валацуга, гультай.

***латы́ш*** *у каго* **як у латыша́ – хрэн ды душа́.** *Бераст. Іран.* Пра каго-н. вельмі беднага. Даніловіч, 258.

***ла́ўка*** **сеў і прыкіпéў як к смалянóй ла́ўцы.** *Насмешл.* Пра чалавека, які сеў і не хоча ўставаць. Нос., 159.

***ла́хаўка*** **як ла́хаўка бéгаць.** *Ушацк. Асудж.* Пра легкадумную жанчыну. Барадулін, 119.

***лахмы́тка*** **як лахмы́тка хадзíць.** *Гродз. Няўхв.* Пра дрэнна апранутага або ўскудлачанага чалавека. Цыхун, 79.

***лéбедзь*** **бéлы як лéбедзь.** *Ваўк. Ухв.* Пра некага ці нешта вельмі белых. Federowski, 30.

**збелéць як лéбедзь.** *Спачув.* Пра чалавека, што раптам збялеў. ТС 2, 136.

падóбны як свіння́ да лéбедзя. Гл. свіння.

**шы́я як у лéбедзя.** *Ухв.* Пра гнутую прыгожую шыю. Янк., Пар., 199.

***лебяда́*** як свіння́ ў лебядзé. Гл. свіння.

гарадзíць як плот з лебяды́. Гл. плот.

***Левантэ́го*** як у хварóбе святэ́га Левантэ́го. Гл. хвароба.

***лéвы*** вот галава́ як бот з лéвай нагí. Гл. бот.

дурны́ як бот, ды яшчэ́ з лéвай нагí. Гл. бот.

пíса́ць як кýра лéвай ла́пай. Гл. кура.

як Пятрóў бот з лéвай нагí. Гл. бот.

як хóча лéвая нага́ *каго, чыя*. Гл. нага.

чэ́сны як Бэ́ркавы штаны́ на лéву стóрану. Гл. штаны.

дурны́ як мой лéвы бот. Гл. бот.

як лéвы бот < з дзю́ркай на пяцé >. Гл. бот.

***ле́гчаны*** **бе́гчы як ле́гчаны.** *Гом. Насмешл.* Пра хуткі, панічны бег каго-н. Высл., 290.

***ле́ечка*** **Мужы́к п’ець, як у ле́ечку льець, а як пры́дзецца плаці́ць, то як ду́рань маўчы́ць.** *Прык. Насмешл.* Пра чалавека, які ахвотна п’е, але неахвотна за тое плаціць. Шпилевский, 184; Нос., 142.

**цягну́ць як у ле́ечку.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, ахвотнага да выпіўкі. Юрчанка 1977, 246.

***ле́жыва*** ляжа́ць як лён на ле́жыві. Гл. лён.

***ле́зці*** Жыццё як у кура́тніку: ка́жды ле́зе вышэ́й, каб га́дзіць на ні́жняга. Гл. куратнік.

Пра́ўда як во́сы: ле́зе ў во́чы. Гл. аса.

***Ле́йзараў*** абленава́цца як Ле́йзерава каро́ва. Гл. карова.

аблі́цца як Ле́йзарава каро́ва. Гл. карова.

як каро́ва (кабы́ла) Ле́йзарава. Гл. карова.

розу́мны ек Ле́йзероў соба́ка. Гл. сабака.

***ле́йцы*** **п’я́ны як ле́йцы.** *Нясв. Насмешл.* Пра п’янага, ужо абмяклага чалавека. ФА.

***Ле́нін*** **глядзе́ць** *на каго* **як Ле́нін на буржуазі́ю.** *Жарт.* Пра погляд звысоку. Юрчанка, 189.

***Ленінгра́д*** **як з блака́днага Ленінгра́ду.** *Іўеў. Спачув.* Пра вельмі згаладалага чалавека. Даніловіч, 225.

***ле́пех*** **то́ўсты ек ле́пех.** *Жытк.* Пра гладкага, паўнацелага чалавека. ТС 5, 148.

***лес*** **[вялі́кая па́параць] парасла́ як лес усё ро́ўна.** *Сміл. Ухв.* Пра высокі зараснік папаратніку. Шатэрнік, 201.

**Вялі́кі як лес, а дурны́ як бес.** *Астр., Швянч. Прык. Кплів.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Даніловіч 1997, 131; СПЗБ 1, 183.

**Вы́рас як лес, а дурны́ як бес.** *Капыл. Прык.* ПП 2, 243. Тое ж.

**гэ́та** *для каго* **што цёмны лес.** *Мін.* Пра нешта зусім новае, незразумелае. ЛЦ, 102.

**душа́ як лес.** *Смал. п.* Пра нязведаныя глыбіні чалавечай душы. Добр., Смол., 388.

**жы́та як лес.** *Гродз. Захапл.* Пра густое, высокае, урадлівае жыта. Цыхун, 175.

**зарасці́ як лес.** *Шчуч. Няўхв.* Пра агарод, зарослы травой. Нар. лекс., 40.

брaха́ць як саба́ка ў ле́се. Гл. сабака.

вы́перці як асі́ну ў ле́се. Гл. асіна.

**гука́ць бы́ццам у ле́се.** *Краснап. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна, гучна крычыць у памяшканні. Бялькевіч, 207.

**дроў як у ле́се.** *Ухв.* Пра добры запас дроў. Янк., Пар., 55.

жыд брэ́ша як саба́ка ў ле́се. Гл. сабака.

**жыць што ў ле́се [ні ка мне ніхто́, ні я нікуды́].** *Мсцісл.* Пра самотнае, замкнёнае жыццё чалавека. Юрчанка 1977, 247.

**зарасці́ як у дурны́м ле́се.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 200. Тое, што зарасці як лес.

**з жо́нкаю як з барано́ю ў ле́се.** *Жарт.* Пра некаторыя нязручнасці жанатага чалавека. Federowski, 366; Янкоўскі, 69.
**з табо́ю як у ле́се з барано́ю.** *Уздз. Жарт.* Пра нязручнасці мець справу з кімсьці. Высл., 322.
зблудзі́ўся ро́зум як каза́ ў ле́се. Гл. каза.
ле́зці як ты́я грыбкі́ ў ле́се. Гл. грыбок.
**лупі́цца як у ле́се.** *Сміл. Няўхв.* Шатэрнік, 149. Тое, што гукаць быццам у лесе.
Любі́ліся як пта́шкі ў стрэ́се, разышлі́ся як сцё́жкі ў ле́се. Гл. пташка.
Любі́ліся, каха́ліся як галубкі́ ў стрэ́се, а ціпе́р разышлі́ся як я́гадкі ў ле́се. Гл. галубок.
**на чужы́м ме́сцы што ў ле́се.** *Мінск. Прык.* Пра тое, што новае месца для чалавека незнаёмае і часам небяспечнае. ПП 1, 292.
**На чужы́не чужы́ да чужо́га, як у ле́се сляпы́ да сляпо́га.** *Прык.* Пра тое, што ў чужым асяроддзі чалавек пра чалавека нічога не ведае. Янкоўскі, 4.
**неабхо́дны як у ле́се тапо́р.** *Клім.* Пра нешта вельмі неабходнае для справы. Бялькевіч, 283.
нявé́ста як яго́дка ў ле́се. Гл. ягодка.
пільнава́цца як сцё́жкі ў ле́се. Гл. сцежка.
разыйсці́ся як сцё́жкі ў ле́се. Гл. сцежка.
**расці́ як бры́днік у ле́се.** *Люб. Няўхв.* Пра моладзь, якая ўзрастае без належнага выхавання. СПЗБ 1, 225. < Брыднік – зараснік.
харашо́ *каму* як куку́шцы ў ле́се пасля́ Пятра́. Гл. кукушка.
**цёмна** *дзе* **як у дурны́м ле́се.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра непрыемную, густую цемру. Юрчанка, 200.
**шуме́ць як у дурны́м ле́се.** *Мсцісл. Асудж.* Пра крык, гучную гамонку, смех, шум у памяшканні альбо ля хаты. Юрчанка, 200.
**як дроў у ле́се.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Санько, 208.
**як у ле́се вы́рас.** *Мсцісл. Іран.* 1. Пра дрэнна выхаванага чалавека, які паводзіць сябе непрыстойна. 2. Пра нясмелага, нелюдзімага, дзікаватага чалавека. Юрчанка 1977, 131.
**як у ле́се гадава́ны (гадо́ваны, гадава́ўся).** *Ашм.*, *Бераст.*, *Слон.*, *Воран.*, *Гродз. Іран.* Даніловіч, 258. Тое, што як у лесе вырас.
раскрыча́цца як глуша́к у ле́сі. Гл. глушак.
вутра́ даждзе́шся як на кра́юшак з цёмнага ле́су вы́берашся. Гл. краюшак.
**чхнуць ек у лесу́.** *Стол. Няўхв.* Пра моцны да непрыстойнасці чох. ТС 5, 305.
Мы любі́ліся як пту́шачкі ў стрэ́ся, а прышло́ся раста́ціся як я́гадца ў ле́ся. Гл. птушачка.

***ле́свіца*** **зыгрукацеў гром як на ле́сьніцы.** *Краснап.* Пра гучны гром, што прагучаў шматкроць. Бялькевіч, 139.

***ле́та*** **сядзе́ць як ці́хае ле́та.** *Івац.* Пра спакойнага, разважлівага чалавека. ЗЗайкі.

**хло́пец як ці́хае ле́та.** *Люб.*, *Івац. Ухв.* Пра хлопца са спакойным характарам. ФА.

**цягну́цца як гало́днае ле́та.** *Шум.*, *Ашм. Няўхв.* Пра маруднае перасоўванне часу. СПЗБ 2, 644; Даніловіч, 217.

як снег сяро́д ле́та. Гл. снег.

***ле́ташні*** вялі́кі страх як ле́ташні снег. Гл. снег.

патрэ́бны (так стра́шан) як ле́ташні (ло́нскі, тагро́чны) снег [на гра́дах]. Гл. снег.

так *гэта каго* абхо́дзіць як ле́ташні снег. Гл. снег.

пра́ўда як лісі́ца на ле́ташнім ламе́ скwа́ркі пякла́. Гл. лісіца.

бая́цца *каго* як ле́ташняга сне́гу. Гл. снег.

шко́да як ле́ташняга сне́гу. Гл. снег.

бедава́ў як па ле́ташняму сне́гу. Гл. снег.

***ле́тка*** харо́ша як кве́тка сяро́д ле́тка. Гл. кветка.

***ле́тні*** удаўцо́ва і ўдаві́нае сэ́рца як зімо́вае со́нца, а малайцо́ва і дзяво́цкае як ле́тняе со́нца. Гл. сонца.

***леў*** **Ляце́ў як леў, а паў як му́ха.** *Астр. Прык. Кплів.* Пра чалавека, які ўяўляў сябе важным, а на справе аказаўся нікчэмным. Сцяшковіч, 645.

***лешч*** **пло́скі як лешч.** Пра некага плоскага. Янк., Пар., 129.

**Ляжы́ць язы́к у ро́це як ле́шча, што хо́ча, то́е і пле́шча.** *Брасл. Прык. Асудж.* Пра безадказную балбатлівасць чалавека. Рабкевіч, 107.

***лёд*** бі́цца як ры́ба аб лёд. Гл. рыба.

**здаро́вы як лёд.** *Ваўк.*, *Слон. п. Ухв.* Пра здаровага, загартаванага, моцнага чалавека. Federowski, 353.

**Злосць што лёд: да цяпла́ жыве́.** *Прык.* Пра адступленне злосці ад цеплыні, ласкі, пяшчоты. Янкоўскі 1971, 45.

**зьяві́цца як лёд на Пятра́.** *Воран. Іран.* Пра нешта альбо некага, якія так і не з’явіліся. Даніловіч, 232.

**лгаць як у лёд.** *Ушацк. Няўхв.* Пра нахабны бессаромны падман. Барадулін, 106.

**Не я б’ю, ве́рба б’е, будзь здаро́ў на весь год, ек осе́нній лёд.** *Жытк. Фальк.* З пажадання здароўя. ТС 1, 113.

**ру́кі як лёд.** *Івац. Няўхв.* Пра застылыя, халодныя рукі. ЗЗайкі.

хало́дны як лёд. *Ваўк. п.*, *Драг.*, *Івац.* 1. Пра нешта вельмі халоднае. 2. *Няўхв.* Пра халодны, раўнадушны характар чалавека. Federowski, 49; СПЗБ 2, 649; ЗЗайкі.

**як каля́дный лёд.** *Мсцісл.* 1. Тое, што халодны як лёд. 2. Пра нешта празмерна цвёрдае. Юрчанка, 185.

**як лёд на (каля́) Пятра́.** *Гродз.* Пра нешта зусім нетрывалае, ненадзейнае. Даніловіч, 231.

выду́рвацца як каро́ва на лёдзе. Гл. карова.

ісці́ (хадзі́ць) як каро́ва па лёдзе. Гл. карова.

пагуля́ць як ры́ба на лёдзе. Гл. рыба.

пля́снуць як дзячы́ха на лёдзе. Гл. дзячыха.

разгуля́цца як свіння́ на лёдзе. Гл. свіння.

**як лёду.** *Драг.* Пра вялікую колькасць чаго- альбо каго-н. СПЗБ 2, 649.

**ко́ўзка як на ляду́.** *Лаг. Няўхв.* Пра коўзкую дарогу, падлогу ці што іншае. Высл., 336.

танцава́ць як каро́ва на ляду́ (лёдзе). Гл. карова.

***лёк*** **салёнае як лёк.** *Карэл. Няўхв.* Пра нешта надта салёнае. Высл., 380.

***лён***

**брэ́ша як лён чэ́ша.** *Смарг. Асудж.* Пра чалавека, які маніць бесперапынку. Высл., 396; Санько, 115.

**валасы́ як лён.** *Ухв.* Пра чые-н. светлыя мяккія валасы. Янк., Пар., 24.

**дзяўча́ты расту́ць так ско́ра як лён.** *Рэч.* Пра хуткае падрастанне моладзі. Pietkiewicz, 368.

**ляжа́ць як лён на ле́жыві.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, што лёгма ляжыць, не бярэ ўдзелу ў працы. Нар. слов., 35. < Лежыва – сцелішча.

**як лён.** *Гродз. Ухв.* Пра прыгожую дзяўчыну. Цыхун, 175.

***лізáць*** гаво́рыць гла́дка як вол языко́м лі́жа. Гл. вол.

Го́ра гарава́ць – не мёд лізáць. Гл. мёд.

***лілéя*** **тва́рык як ліле́я.** *Захапл.* Пра белы чысты дзявочы твар. Янк., Пар., 166.

***лін*** **літві́н як лін.** Пра характар колішняга беларуса – дужага, моцнага, выкрутлівага, якога голай рукой не возьмеш. Шпилевский, 183; Нос., 73; Дуб., 33. < Літвін – так рускія і палякі некалі называлі не толькі літоўцаў як этнас, але таксама і беларусаў, пераважаючае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. У Рускай дзяржаве літвінамі называлі выхадцаў з Беларусі.

**гла́дкі як лін.** *Ухв.* Пра некага добра ўкормленага, здаровага. Янк., 402.

**сыты як лін.** *Лаг. Ухв.* Гілевіч 2007, 39. Тое ж.

***ліне́ечка*** **як пад ліне́ечку.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі роўнае, дакладнае правядзенне лініі, выкананне працы. Юрчанка, 193.

***ліпа*** **жыць як ліпа з бяро́зай.** *Мсцісл. Ухв.* Пра дружнае, па-братэрску жыццё. Юрчанка, 189.

***лíпіна*** **бе́ла як лі́піна.** *Стол. Спачув.* Пра моцнае збяленне ад страху, хваробы, перажыванняў. ТС 1, 177.

**збяле́ць як лі́піна.** *Смал. п., Сен., Лоеў.* Добр., Смол., 375, Каспяровіч, 136; Янкова, 179. Тое ж.

**худа́я бы лі́піна.** *Ганц.* Пра схуднелую, знямоглую жанчыну. ФА.

***ліпі́начка*** **бе́ла як ли́пинычка.** *Памянш.-ласк. Смал. п.* Пра нешта абсалютна белае, чыстае. Добр., Смол., 375. < Ліпіначка – народны паэтычны сімвал белізны.

***ліпі́нка*** **збяле́ць як лі́пінка.** *Памянш. Сен.* Каспяровіч, 136. Тое, што збялець як ліпіна.

***лі́пка*** **абабра́ны як лі́пка.** *Мсцісл. Спачув.* Пра цалкам абрабаванага чалавека. Бялькевіч, 30.

**абадра́ць як го́лую лі́пку.** *Чэрык.* Пра злодзея, рабаўніка, несумленнага чалавека, які кагосьці поўнасцю абакраў, абабраў. ЛЦ, 49.

**аблупíць (абакрáсці, абабрáць) як лíпку.** *Івац.*, *Пух.*, *Светл.*, *Лаг.*, *Рэч. Асудж.* Мін.-Мал., 1970, 157; Сержпутоўскі 1999, 395; Расторгуев, 101; Высл., 279; Ройзензон, 80; Varłyha, 1; ЗЗайкі. Тое ж.

***ліс*** **ры́жы як ліс.** *Свісл.* Пра рыжавалосага чалавека. СПЗБ 4, 323.

**слаць як ліс хвастóм.** *Няўхв.* Пра манеры ліслівага чалавека. Санько, 183.

**хітравáць як ліс.** *Няўхв.* Пра хітрыкі няшчырага чалавека. Санько, 195.

**хітры як ліс.** *Ваўк. п.*, *Шчуч. Няўхв.* Пра вялікага хітруна. Federowski, 52, 86; Сцяшковіч, 613.

**У вóчы лíсам, а за вóчы вóўкам.** *Прык. Іран.* Пра крывадушнага чалавека. Federowski, 166.

У вóчы лíсам, а за вóчы бíсам. Тое ж.

**нібы́ лíсы ры́жыкі ў лéсе.** *Клім. Ухв.* Пра вялікія прыгожыя грыбы рыжыкі. КВДУ.

***лісá*** **жáры як лісá.** *Жлоб.* Пра моцна рыжага чалавека. Мат., Гом., IV, 139. < Жары – рыжы.

**любíць** *каго* **як лісá пéўня.** *Мін. Іран.* Пра карыслівую любоў з мэтай спажывы. ЛЦ, 52.

**накры́цца як лісá хвастóм.** *Асудж.* Пра чалавека, які адмовіўся ад узятых на сябе абавязкаў, ад уласных слоў, пазіцыі. Янкоўскі, 227.

**напíцца як лісá з лады́шкі.** *Гродз. Іран. Кплів.* Пра марнасць намаганняў нешта атрымаць. Цыхун, 77. < Ладышка – гладыш, выцягнуты збанок без ручкі. Параўн. казачны сюжэт пра гасцяванне лісы ў журава і наадварот.

**схавáцца як лісá пад баранóй.** *Віл. Кплів.* Пра ненадзейны схоў, калі ўсё відна. ФА.

**сябравáць як лісá з кýрыцай.** *Гродз. Іран.* Пра сяброўства, небяспечнае для аднаго боку і карыслівае для другога. ФА.

**хадзíць як лісá каля́ вінагрáдніку.** *Ваўк.* Пра вышукванне сабе спажывы. ФА.

**хітры як лісá.** *Ваўк. п.*, *Шчуч. Няўхв.* Federowski, 52, 86; Сцяшковіч, 613. Тое, што хітры як ліс.

цягнýцца як хвост [за лісóю]. Гл. хвост.

***лісапéт*** як жáба на лісапéце. Гл. жаба.

***лісíны*** пагáўкаць як [той] сабáка на лісíную нарý. Гл. сабака.

***лісíца*** **закруцíць як лісíца хвастóм.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які выкручваецца, падманвае. Federowski, 348.

**лáшчыцца як лісíца.** *Паст. Няўхв.* Пра няшчырую ласкавасць хітруна. СПЗБ 2, 649.

**мýчыцца як лісíца ў саладýсе.** *Іран.* Пра адсутнасць пакутаў, а толькі прагнае задавальненне. Янк., Дыял., III, 162.

**накры́цца як лісíца хвастóм.** *Ваўк.*, *Лід. п. Няўхв.* Пра крывадушніка. Аксамітаў, 203; Шпилевский, 184; Киркор, 238; Dybowski, III; Pietkiewicz, 197.

**пра́ўда як лісі́ца на ле́ташнім ламе́ скві́ркі пякла́.** *Паст. Іран.* Пра поўнае глупства, няпраўду. СПЗБ 2, 660.

**пячы́ як лісі́ца жука́.** *Ашм. Жарт.* Пра хуткае, на скорую руку прыгатаванне стравы. Даніловіч, 232.

**схава́цца як лісі́ца пад бараны́.** *Смарг.* Пра ненадзейны схоў, калі ўсё відна. Сцяшковіч, 616.

**тра́піць як лісі́ца ў саладу́ху.** *Няўхв.* Пра чалавека, які ў пагоні за спажывай трапіў у прыкрае становішча. Янк., Пар., 168.

**у во́чы як лісі́ца, а за во́чы што ён ка́жыць.** *Хоц. Няўхв.* Пра крывадушнага чалавека. Бялькевіч, 168.

**хі́трая як лісі́ца.** *Вілен.*, *Астр.*, *Мсціл. Няўхв.* Пра хітрую жанчыну. Sielicki, 158; СПЗБ 5, 305; Юрчанка, 189.

**хітры́ць як лісі́ца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчыя выкручванні, хітрыкі, падман. Юрчанка, 189.

**як лісі́ца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра падыходлівага няшчырага чалавека. Юрчанка, 189.

глядзе́ць як ёжык на лісі́цу. Гл. ёжык.

***лісі́чкі*** **шмат як лісі́чак.** Пра вялікую колькасць нечага. Янк., Пар., 196.

зарабі́ць як Дані́ла на лісі́чках. Гл. Даніла.

***ліскату́ха*** **барбаце́ць як ржа́вая ліскату́ха.** *Чач. Няўхв.* Пра непрыемную балбатню, гаворку каго-н. Мат. Гом., V, 113. < Ліскатуха – званок.

***ліст*** **дрыжа́ць як ліст.** *Слуцк.* Пра вельмі напалоханага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 184.

**калаці́цца як асі́навы ліст.** *Івац.*, *Мядз.* ФА; ЗЗайкі. Тое ж.

**прыкарэ́ць як ба́нны ліст да це́ла.** *Астр. Няўхв.* Пра вельмі прыставучага, прыліпчывага чалавека. СПЗБ 4, 140.

**прыста́ць як ба́нны ліст да аднаго́ ме́ста.** *Нясв. Няўхв.* ФА. Тое ж.

**прыста́ць як ба́нны ліст.** *Мсцісл. Няўхв.* Бялькевіч, 67. Тое ж.

**прыста́ць як ліст у ла́зні да це́ла.** *Рэч. Няўхв.* ЛЦ, 119. Тое ж.

**прычапі́цца як ба́нны ліст.** *Мядз. Няўхв.* ФА. Тое ж.

**як ліст во́сенню.** *Лоеў. Спачув.* Пра хворае на жаўтуху дзіця. Янкова, 115.

**гаво́рыць як лі́стам (пу́хам) сце́ле (сце́лецца).** *Ваўк.*, *Слон. п.*, *Навагр.*, *Слуцк.* Пра ласкавую альболіслівую гаворку. Federowski, 282; Высл., 301; Сержпутоўскі 1999, 127; Высл., 301.

**лі́стам сла́цца.** 1. Пра чалавека, які вельмі дагаджае каму-н., мякка і пакорна гаворыць. 2. Пра паводзіны паслухмянага, добрага, памяркоўнага чалавека. Янкоўскі 1968, 437; МК, 140.

**лі́стам сце́лецца, а ўкусі́ць цэ́ліцца.** *Няўхв.* Пра двурушнага чалавека. Янкоўскі, 227.

**У гало́ўцы мо́жа й што, але языко́м бы́ццам лі́стам сце́ле.** *Прык. Няўхв.* Пра крывадушнага чалавека, які думае адно, а гаворыць іншае. Ляцкий, 47.

**Хі́тры чалаве́к гаво́рыць, як лі́стам сце́ле, а ў кішэ́ні гара́чы ка́мень трыма́е.** *Асудж.* Пра ліслівага і падступнага хітруна. Federowski, 52.

**як лі́стам слаць.** *Івац., Смарг. Няўхв.* Пра ліслівую, няшчырую гаворку. Сцяшковіч, 616; ЗЗайкі.
**гавары́ць як з лі́сту браць.** *Ухв.* Пра лагічную, правільную, складную гаворку. Dybowski, 9.
**усё ро́ўна як лі́сту.** *Лельч. Ухв.* Пра вялікую колькасць яблыкаў на дрэве. Кучук, Малюк, 78.
**бага́та як лі́сця.** Пра вялікую колькасць чаго-н., асабліва пладоў на дрэве. Янк., Пар., 12.
**слёзы лью́цца бы з лі́сця раса́.** *Слуцк.* Пра буйныя, частыя слёзы каго-н. Сержпутоўскі 2000, 240.

***лісто́к*** **зляце́ць як лісто́к з дрэ́ва.** *Памянш.* Відаць, пра памерлага чалавека. *Маг.* Высл., 329.
**то́нкі як лісто́к.** *Памянш. Івац.* Пра нешта тоненькае, пляскатае. ЗЗайкі.
хава́цца як я́гада пад лісто́к. Гл. ягада.

***лісці́нка*** **як лісці́нка ла́сціцца.** *Памянш.* Пра чалавека з ласкавым абыходжаннем. Нікіфароўскі, 1928, 86.
**то́нкі як лісці́нка.** *Памянш.* Пра тонкі скрылёк чаго-н., скібачку. Янк., Пар., 167.

***літо́ўскі*** браха́ць як цэп літо́ўскі. Гл. цэп.
язык як цэп літо́ўскі. Гл. цэп.

***лі́ты*** **як лі́ты.** *Івац.* Пра каранастага, моцнага чалавека, яго постаць. ЗЗайкі.

***лі́фік*** улé́зці як чорт у лі́фік. Гл. чорт.

***лі́ха*** **як на лі́ха.** Быццам кімсьці падстроена, нібы знарок. ФСБМ 1, 579.

***ліхама́нка*** калаці́цца як у ліхама́нцы. Пра чалавека, які крэпка дрыжыць, калоціцца (у хваробе, ад страху). ФСБМ 1, 443.

***ліхі́*** знаць як ліхо́га шэ́лега. Гл. шэлег.
бурча́ць як ліха́я це́шча (свякро́ў). Гл. цешча.
бурча́ць як ску́ла ліха́я. Гл. скула.
валачы́цца па дзе́ўках як ліха́я до́ля. Гл. доля.
віда́ць як ліха́я (падра́ная) ша́пка. Гл. шапка.
дуду́каць як ліха́я свякро́ўка. Гл. свякроўка.
ха́та чужа́я як свякру́ха ліха́я. Гл. свякруха.
гадзі́ць як [тэй] ліхе́й скуле́. Гл. скула.
**бы́стры як ліхі́ на шко́ду.** *Слон. Няўхв.* Пра празмерную актыўнасць у нядобрых справах. Высл., 289.
апусці́цца як ліхі́я ганаві́цы. Гл. нагавіцы.
абхо́дзіць бы ліхо́га чалаве́ка. Гл. чалавек.
бая́цца як ліхо́га шэ́лега. Гл. шэлег.
боя́цца ек ліхо́го соба́кі. Гл. сабака.
не збу́дзеш як ліхо́га шэ́лега. Гл. шэлег.
чо́рны рот як у ліхо́га саба́кі. Гл. сабака.
**так як што ліхо́е ўгле́дзеў.** *Ваўк. п.* Пра спалох чалавека без бачнай прычыны. Federowski, 166.
цадзі́ць праз зу́бы як ліхо́ё парася́. Гл. парасё.
бая́цца як ліхо́й ша́пкі. Гл. шапка.

навярну́цца як на ліху́ю ша́пку. Гл. шапка.
знаць як ліху́ю ша́пку. Гл. шапка.
зна́юць як ліху́ю ша́пку. Гл. шапка.

***лі́цца*** пла́ча што бяро́за ліе́цца. Гл. бяроза.

***ліць*** п’ець як у бот ліе́ць. Гл. бот.
З нача́льствам свары́цца, што су́праць ве́тру ваду́ ліць, – заўсё-ды абалье́шся. Гл. вецер.
піць як у бо́чку ліць. Гл. бочка.
як вадо́ю ліць. Гл. вада.
як ваду́ ў то́рбу ліць. Гл. вада.
**як ліць разліла́ся.** *Брасл.* Пра бясследнае знікненне чаго-н. СПЗБ 2, 664.

***лічы́ць*** вы́сахнуць хоць рэ́бры лічы́. Гл. рэбры.

***лой*** як по́чка ў лаю́. Гл. лой.

***лоб*** вылá́зіць як вош на лоб. Гл. вош.
**лёд як лоб.** *Слон. Ухв.* Пра моцны, цвёрды, гладкі лёд. Высл., 341.
**папа́сці як у лоб ку́ляю.** *Ухв.* Пра нешта трапна сказанае. Янк., 420.
**сказа́ў як у лоб даў.** Пра нечаканае паведамленне. Крэмнеў, № 1001; Янкоўскі, 107.
упе́рціся як два казлы́ лоб у лоб. Гл. казёл.
адзін (анно́) як во́ка [у ло́бе, у ілбе́]. Гл. вока.
адно́ дзіця́ як во́ка ў ло́бе. Гл. вока.
дво́е дзе́так як дзве о́кі ў ло́бе. Гл. вока.
трэ́ба як вош на ло́бе. Гл. вока.
гляды́ш як о́ка в ло́бу. Гл. ока.

***ло́гава*** абста́віць як ваўка́ ў ло́гаве. Гл. воўк.

***ло́жка*** **Ву́ха як ло́жка, а не чу́е ні тро́шка.** *Прык. Жарт.* Пра слабую функцыю знешне нармальнага органа. Federowski, 342.
**Во́чы як ло́жкі, а не ба́чаць (не ві́дзяць) ані́ тро́шкі.** *Прык. Жарт.* Пра слабы зрок, неадпаведны знешняму выгляду. Dybowski, 15; Federowski, 335.

***лом*** пра́ўда як лісі́ца на ле́ташнім ламе́ сква́ркі пякла́. Гл. лісіца.
*у каго* свато́ў як у за́йца ламо́ў. Гл. заяц.
*у каго* даўго́ў як у за́йца ламо́ў. Гл. заяц.
**як лом з’е́ўшы (глыну́ўшы).** *Валож. Іран.* Пра чалавека, які стаіць роўна, не рухаючыся. Даніловіч, 232.

***ло́нскі*** патрэ́бны (так стра́шан) як ло́нскі снег [на гра́дах]. Гл. снег.

***лоск*** **ляжа́ць як лоск.** *Лоеў.* Пра вялікую колькасць пабітых людзей на полі бою. Янкова, 181.

***лось*** **насі́цца як ласі́.** *Глыб. Няўхв.* Пра бегатню дзяцей, падлеткаў са стукам і грукатам. Высл., 356.
**блішча́ць як лось.** *Мін. Ухв.* Пра хатнюю добра адкормленую жывёлу. ФА.
**здоро́ву ек лось.** *Жытк. Ухв.* Пра дужага, здаровага чалавека. ТС 3, 44.
**лежа́ць ек лось у боло́ці.** Пра ахвотніка доўга спаць. ТС 3, 44.

| | |
|---|---|
| | **пашо́ў бы на́тчэ лось.** *Слуцк.* Пра чалавека, які ўпэўнена, хутка пайшоў. Сержпутоўскі 1999, 68. |
| | **спры́тны як лось.** *Ухв.* Пра лоўкага, хуткага чалавека. Янк., Пар., 155. |
| | **ста́тны як лось.** *Івац. Ухв.* Пра віднага, статнага, зграбнага мужчыну. Янк., Пар., 157; ЗЗайкі. |
| ***ло́ўма/ло́йма*** | **растрэ́паны валасы́ як у ло́ўмы.** *Слон.* Пра растрапаную жанчыну. Federowski, 172. < Лойма – чарціха ў міфалогіі літоўцаў і народаў суседніх раёнаў. |
| ***лошадзь*** | нарадзіцца як к сва́дзьбе ло́шадзь. Гл. свадзьба. |
| ***луб*** | **цу́бкі як луб.** *Глуск.* Янк., Пар., 189. < Цубкі – цвёрды, зацвярдзелы (параўн. цубчэць – станавіцца неэластычным, цвёрдым). |
| | **ліць як з лу́ба.** *Лаг.*, *Мёр.*, *Смал.*, *Смарг.*, *Лаг.* Пра моцны працяглы дождж. МК, 311; Нар. слов., 101; СПЗБ 2, 674; ЛЦ, 13; ФА. < Луб – посуд з лубу. |
| ***луда́ты*** | во́чы павылазілі от бы ў Бе́рка луда́таго. Гл. Берка. |
| ***лу́жа*** | сказа́в ек віл у лу́жу. Гл. вол. |
| | **сказа́ць як упа́сці ў лу́жу.** *Воран. Няўхв.* Пра нешта нялоўка сказанае, што выдае намеры каго-н. Арх. Гр. |
| | **сказа́ць як у лу́жу плю́нуць.** *Гродз. Няўхв.* Пра нешта недарэчна сказанае. Даніловіч, 259. |
| | ускочыць як жа́ба ў лу́жу. Гл. жаба. |
| | сказа́ў як каду́к у лу́жу плю́нуў. Гл. кадук. |
| | **сказа́ць як у лу́жу пёрнуць.** *Смал., Кліч. Няўхв. Вульг.* ФА. Тое, што сказаць як у лужу плюнуць. |
| | ду́жы як жа́ба ў лу́жы. Гл. жаба. |
| | ду́жы як свіння́ ў лу́жы. Гл. свіння. |
| ***лу́жына*** | ціхма́ны як вада́ ў лу́жыне (як стая́чая вада́). Гл. вада. |
| | як чорт у лу́жыну плю́нуў. Гл. чорт. |
| | **піць як з лу́жыны.** *Смарг. Няўхв.* Пра празмернае, неразборлівае піццё. Высл., 364. |
| ***лузканнё*** | **дзе́ці як лузканнё.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровых, дужых дзяцей. Юрчанка, 189. |
| ***лук*** | **паляце́ць як з лу́ка страла́.** Пра імклівае, хуткае перамяшчэнне, бег. Никифоровский, 154. |
| | **п'ець як з лу́ка б'ець.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра ахвотніка выпіць. Высл., 365. |
| ***Лука́ш*** | **як у Лукаша́ на пячы́.** *Шчуч. Ухв.* Пра нейкае выгоднае, прыемнае становішча. Арх. Гр. |
| ***луко́шка*** | **Год пражи́ть – ни луко́шка сшить.** *Прык.* Пра складанасці на жыццёвым шляху. Добровольский III, 36. |
| ***лу́ніца*** | **ба́ба біз мужчы́ны хо́дзіць як лу́ніца.** *Віл. Спачув.* Пра пасіўную, прыгнечаную жанчыну. СПЗБ 2, 682. |
| ***лунь*** | **ссіве́ць як лунь.** *Івац.*, *Паст.* Пра моцна ссівелага чалавека. СПЗБ 4, 558; ЗЗайкі. |
| | **стая́ць як лунь.** *Гарад. Няўхв.* Пра кагосьці, хто стаіць з разгубленым, няўцямным выглядам. Высл., 389. |

**сядзе́ць як лунь.** *Ушацк. Няўхв.* Пра нерухомага, панурага, прыгнечанага чалавека. Скарбы, 134.

**хадзі́ць з кутка́ ў куто́к як лунь.** *Глыб.*, *Віл.*, *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які трохі не ў сабе, рухаецца бязмэтна, трымае сябе адчужана. Нар. лекс., 166–167.

**хадзі́ць як лунь па не́бу.** *Віл.* Пра чалавека, які рухаецца без бачнай мэты. СПЗБ 2, 683.

**хадзі́ць як лунь.** *Ушацк. Няўхв.* Пра неўраўнаважанага, прыгнечанага чалавека. Скарбы, 134.

***лу́пік*** **облу́плены ек лу́пік.** *Жытк. Спачув.* Пра чалавека абрабаванага ці абабранага да ніткі. ТС 3, 48. < Лупік – лазіна, з якой садрана кара.

**худэ́ ек лу́пік.** *Няўхв.* Пра худое парася. ТС 3, 48.

***лупі́ць*** крыча́ць як бы з яго́ шку́ру лупілі. Гл. шкура.

***лут*** **вы́цягнуцца як лут.** *Глуск.*, *Сміл. Ухв.* Пра падрослага высокага танклявага юнака. Шатэрнік, 148; Мат., 180. < Лут – тут: маладая тонкая ліпка.

**ляжа́ць як лут.** *Касц. Няўхв.* Відаць, пра гультая, голага, босага, але лянівага. ЛЦ, 35; Янкоўскі 1971, 110.

**хло́пец як лут.** Янк., Пар., 182. Тое, што выцягнуцца як лут.

**як лут.** Пра тоўстую, укормленую жывёлу. Янкова, 182; СПЗБ 2, 690. < Лут – галіна, з якой садрана кара.

***лучні́к*** **стая́ць як лучні́к пасяро́д ха́ты.** *Светл. Насмешл.* Пра чалавека, які стаіць прама на дарозе, замінае і не рупіцца адсунуцца. Высл., 389.

***лучы́на*** **жых як лучы́на.** *Віл.*, *Дзятл.* 1. Пра нешта, што хутка ўспыхвае, разгараецца. 2. Пра запальчывага, эмацыянальнага чалавека. *Віл.* СПЗБ 2, 169; Арх. Гр.

**як лучы́на.** *Мсцісл.* Юрчанка, 189. Тое ж.

***лы́жы*** **як лы́жы.** *Івац.*, *Леп. Насмешл.* Пра вялікі абутак не па назе. ЗЗайкі; ЗВалодзінай.

***лы́ка*** **спаць як лы́ка прада́ўшы.** Пра моцны салодкі сон каго-н. ФСБМ 2, 206.

**старо́е ўспаміна́ць што лы́кі жава́ць.** *Няўхв.* Пра пустату і непрыемныя ўражанні ад успамінаў мінулага. Янкоўскі, 184.

**даро́га ек лы́ко.** *Жытк. Ухв.* Пра роўную, добрую дарогу зімой. ТС 3, 52.

**п’я́ны бы лы́ко.** *Кам. Няўхв.* Пра п’янага чалавека, што не можа нават роўна стаяць. ЖН, 55.

***лы́кавы*** дурны́ як лы́кавы ла́пацць. Гл. лапаць.

***лы́сы*** **ве́даць як лы́сага.** *Навагр.* Пра вельмі добрае, да драбніц веданне каго-н. Даніловіч, 232.

**лёгка жані́цца што лы́сага брыць.** *Смарг. Жарт.* Пра тое, што не мусіць быць простым і хуткім. ПП 2, 25.

**на по́лі каласо́ў як у лы́сага валасо́ў.** *Няўхв.* Пра вельмі рэдкае збожжа, малы ўраджай. Аксамітаў, 253.

**патрэ́бен як лы́саму грэ́бень.** *Мін. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ЛЦ, 118.
патрэ́бен як лы́саму дзе́ду грабяне́ц. Гл. дзед.
**трэ́ба як лы́саму ба́нцік.** *Дзятл. Іран.* Даніловіч, 232. Тое, што патрэбен як лысаму грэбень.
**трэ́ба як лы́саму расчо́ска.** *Ашм.*, *Бар.*, *Івац. Іран.* Даніловіч, 232; ЗЗайкі. Тое ж.
**дарва́цца як лы́сы да расчо́скі (да грэ́бня).** *Воран.*, *Іўеў. Іран.* Пра неадольнае жаданне чаго-н., прагнае накідванне на што-н. Даніловіч, 232.
зна́цца як лы́сыя ко́ні. Гл. конь.

***лы́тка*** сказа́ць як крапіво́й секану́ць па го́лых лы́тках. Гл. крапіва.

***лыч*** задра́ць нос як свіння́ лыч. Гл. свіння.
перабіра́ць як свіння́ лы́чам. Гл. свіння.
як парася́ лы́чам. Гл. парася.
**по́ркацца як лычо́м у кары́це.** *Насмешл.* Пра пераборлівага ў ежы чалавека. Янк., Пар., 129.

***лэ́я*** **бы лэ́я.** *Драг.* Пра тоўстую ладную жанчыну, падобную на мясцовы ўзорны персанаж – яўрэйку Лэю (Лію). ЖН, 86. < Лэя – тоўстая жанчына.

***лю́дзі*** **не як у людзе́й.** *Лаг. Няўхв.* Пра нешта (парадак, работу, вопратку), зробленае з адступленнем ад звычаю. Высл., 355.
**як людзе́й на кірмашы́.** *Слуцк.* Пра мноства некага дзе-н. Сержпутоўскі 1998, 241.
**як у людзе́й.** *Мін. Ухв.* Пра нешта добрае, прыемнае, звычнае. Высл., 432.
**чалаве́к такі́ як і ўсе другі́я лю́дзі.** Пра чалавека, які не вылучаецца з грамады. НН, 306.
**мазуру́ бі́цца, так як лю́дям хлеб з ма́слам з’есць.** *Асудж.* Пра рэальную ці ўяўную схільнасць мазуроў да бойкі, іх задзірлівасць. Federowski, 181. < Мазуры – тут: мазаўшане, этнаграфічнае падраздзяленне палякаў, бліжэйшыя заходнія суседзі беларусаў.

***лю́лька*** **нос бы лю́лька ў дзе́да.** *Стол. Насмешл.* Пра задзірысты кірпаты кос. ТС 2, 192.
**такі́ харо́шы як лю́лька за тры гро́шы.** *Ваўк. п.*, *Віл.*, *Шчуч.*, *Лід. Жарт. Іран.* Пра нешта не зусім якаснае і таму таннае. Federowski, 50; Высл., 398; Сцяшковіч, 659; Даніловіч, 232.
**харо́шы як лю́лька ў Адошы.** *Карэл.* Даніловіч, 233. Тое ж.
нудзі́цца як п’я́ніца бэз ча́ркі, а курэ́ц бэз лю́лькі. Гл. п’яніца.
**Жы́тку пражы́ць – не лю́льку вы́курыць.** *Прык.* Пра складанасці на жыццёвым шляху. Сержпутоўскі 1999, 70.

***лю́стра*** трэ́ба *каму што* як сляпо́му лю́стра. Гл. сляпы.
**адбіва́цца як у лю́стры.** *Ухв.* Пра адбітак у блішчастай, добра адпаліраванай паверхні. НН, 566.

***люстэ́рка*** **блішча́ць як люстэ́рка.** *Ухв.* Пра нешта бліскучае, прыгожае, добра апрацаванае. Янк., Пар., 17.

пабáчыць як сваё вýха без люстэ́рка. Гл. вуха.
трэ́ба *каму што* як сляпóму люстэ́рка. Гл. сляпы.

***лю́ты*** бéгчы як лю́ты звер. Гл. звер.
як звер лю́ты. Гл. звер.

***лягýшка*** **кíдацца як лягýшка пéрад буцянóм.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра панічнае, у жаху кіданне, мітусню. Юрчанка, 190.
**як лягýшка лáпамі.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нязграбнае, няўмелае выкананне нейкай работы. Юрчанка, 190.
**кéшкацца як буця́н з лягýшкаю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра маруднае выкананне чаго-н. Юрчанка, 179.
**Наймíся за палýшку, а цягáюць як лягýшку.** *Раг. Прык.* Пра незайздросны лёс наёмнага работніка. Нос., 85; АВНЛ.
**трэ́ба** *каму што* **як лягýшцы лáпці.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 190.

***ля́да*** **у хáце як у ля́дзе.** *Маг.* Пра непарадак у хаце. Высл., 402.

***лядáк*** **рýкі як лядакí.** *Паст.* Пра адубелыя ад холаду рукі. СПЗБ 2, 711.

***лядáчы*** як кот лядáчы. Гл. кот.

***лядзéнь*** **як лядзéнь.** *Мсцісл.* Пра нешта альбо некага вельмі халодных. Юрчанка, 190.
**рýкі й нóгі як ляднí.** *Мсцісл.* Пра адубелыя ад холаду рукі. Бялькевіч, 391.

***лядóўня*** **нóгі што лядóўні.** *Івац.* Пра састылыя, халодныя ногі. ЗЗайкі. < Лядоўня – склеп, які па баках застаўляўся льдом і засыпаўся апілкамі. Лядоўня выконвала ролю халадзільніка.
**як у лядóўні.** *Мін.*, *Мсцісл.*, *Ушацк.* Пра вельмі халоднае памяшканне. Юрчанка, 174; КВДУ; Высл., 407.

***лязó*** **хадзíць як па лязý нажá.** *Мін.* Пра жыццё ў небяспецы і страху, калі патрэбна асцярожнасць. ЛЦ, 126.

***ляк*** **дрыжáць як ляк.** *Слон. Няўхв.* Пра некага баязлівага, напалоханага. Высл., 315. < Ляк – халадзец (тлумачэнне збіральніка).

***лякáрства*** **накасíць (назапáсіць) сéна як на лякáрства.** *Касц. Насмешл.* Пра вельмі малы запас сена. ЛЦ, 113.
патрэ́бен як мёртваму лякáрства. Гл. мёртвы.

***лялёта*** **дзвíгацца як [тáя] лялёта.** *Бран.* Пра маларухавую непрывабную жанчыну. Расторгуев, 149. < Лялёта – маларухавая непрыгожая жанчына.

***ля́лечка*** **як ля́лечка.** *Памянш.-ласк. Глыб. Захапл.* Пра некага вельмі мілага і прыгожага. Высл., 397.

***ля́лька****, гл. таксама* ***кукалка*** **вы́страіцца як ля́лька.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра дзяўчыну, жанчыну прыгожа, акуратна апранутых. Federowski, 345. < Выстраіцца – убрацца.
**глáдзенькі як ля́лька.** *Лельч. Ухв.* Пра нешта прыемна гладзенькае, прывабнае. Жыв. сл., 525.
**дзіцёнак як ля́лька расцéць.** *Івац.*, *Слаўг.*, *Стаўб. Ухв.* Пра здаровага, прыгожага дзіцёнка. Нар. слов., 76; МК, 227; ЗЗайкі.

**конь (каро́ва) як ля́лька.** *Мсцісл.*, *Слон. Ухв.* Пра дагледжаных, укормленых хатніх жывёлін. Высл., 336; Янк., Пар., 87; Юрчанка 1969, 79.

**такі харо́шы як ля́лька за тры гро́шы.** *Івац. Іран.* Пра нешта не вельмі добрай якасці. ЗЗайкі.

**харо́ша бы ля́лька.** *Драг., Зэльв. Захапл.* Пра некага вельмі прыгожага, прывабнага. Нар. лекс., 223; Сцяцко 2005, 32.

**ха́та як ля́лька.** *Івац.*, *Мсцісл. Ухв.* Пра прыгожую, ладна збудаваную хату. Нар. слов., 175; Янк., 439; ЗЗайкі.

**хло́пец як ля́лька.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожага, хораша ўбранага хлопца. Federowski, 54.

**як ля́лька стаць.** *Гродз. Ухв.* СРЛГ, 24. Тое, што хароша бы лялька.

**насі́цца як з ля́лькай.** *Івац. Насмешл.* Пра чалавека, які ўдзяляе чаму-н. неапраўдана шмат часу. ЗЗайкі.

насі́цца як чорт з ля́лькаю. Гл. чорт.

**стагі́ стыя́ць як ля́лькі.** *Мсцісл. Ухв.* Пра акуратна складзеныя стагі. Юрчанка 1993, 118.

***ля́ля*** **прыго́жая як ля́ля.** *Ухв.* Пра вельмі прыгожую дзяўчыну, жанчыну. Шпилевский, 187.

***ляля́к*** **жыць як ляля́к на пажа́рышчы.** *Маз. Няўхв.* Пра бесклапотнае жыццё без надзейнага прыстанішча. Высл., 319. < Ляляк – невялікая птушка, якая сваё гняздо будуе часцей на зямлі.

**сядзе́ць як ляля́к.** *Лоеў. Няўхв.* Пра гультаяватага чалавека. Янкова, 185.

***ляме́ц*** **выла́зіць як ляме́ц з-пад кляшчэ́й.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра настырнае з’яўленне каго альбо чаго-н. Юрчанка, 190.

таке́ цу́пке ек у хомуце́ ляме́ц. Гл. хамут.

**хлеб як ляме́ц.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра няўдалы ацеслівы хлеб. Юрчанка, 190.

***ляндэ́рскі*** **як каро́ва ляндэ́рская (рандэ́льская).** Гл. карова.

***лянóк*** **валасы́ як лянóк.** *Памянш. Слон. Ухв.* Пра светленькія мяккія валасы. Высл., 291.

***ляпе́х*** **то́ўсты ек ле́пех.** *Жытк.* Пра гладкага, паўнацелага чалавека. ТС 5, 148.

***ля́па*** як ваўку́ ў ля́пу. Гл. воўк.

як у ваўка́ з ля́пы. Гл. воўк.

***ляск/ля́ска*** **даро́га як ляск (ля́ска).** *Сак. п.*, *Івац.*, *Маст.*, *Шчуч. Ухв.* Пра роўную, гладкую, без выбоін дарогу. Federowski, 76; СПЗБ 2, 722; Даніловіч, 233; ЗЗайкі. < Ляск – ляска, кіёк.

***лята́рня*** **лоб як лята́рня.** *Пруж.* Пра высокі, круглы, выпуклы лоб. Гілевіч, 166. < Лятарня – круглы ліхтар на слупе.

***ляшы́ць*** **иде́ть як ле́шить.** *Смал.* Пра роўную хаду каго-н. Добровольский III, 87. < Ляшыць – адзначаць край пасеву, градкі-ляхі.

***ляшчо́тка*** **я́зык як ляшчо́тка.** *Няўхв.* Пра гаворку балбатуна. Янк., Пар., 200.

# М

| | |
|---|---|
| ***Ма́гда*** | дагадзíць як ксёндз Ма́гдзе. Гл. ксёндз. |
| ***Магдале́на*** | дагадзíць як ксёндз Магдале́не. Гл. ксёндз. |
| | дагадзíць як поп Магдале́не. Гл. поп. |
| ***Магду́ля*** | угадзíць як ксёндз Магду́лі. Гл. ксёндз. |
| ***Магду́ся*** | дагадзíць як ксёндз Магду́сі. Гл. ксёндз. |
| ***Магдэ́ся*** | **як Магдэ́ся та́я стаць.** *Капыл. Асудж.* Пра жанчыну, што па неахайнасці прыпадабняецца да мясцовай «знакамітасці» Магдэсі. Нар. слов., 58. < Магдэся – неахайная жанчына. |
| ***магíла*** | **маўча́ць як магíла.** Пра чыё-н. надзейнае, упартае маўчанне. ФСБМ 2, 5. |
| | памо́жа як гарба́тага магíла парауня́е. Гл. гарбаты. |
| | **цíха** *дзе* **як у магíле.** *Мін., Чэрык., Мсцісл.* Пра ненатуральную цішыню (з адценнем страху). ЛЦ, 128; Юрчанка, 201. |
| | **цёмна** *дзе* **як у магíле.** *Ваўк. п., Слон.* Пра ненатуральна густую цемнату. Federowski, 59; Высл., 415. |
| | **як з магíлы ўста́ў (вы́йшаў, падня́ўся).** *Мсцісл. Спачув.* Пра вельмі худога чалавека пасля хваробы, бяды, нягод. Юрчанка, 173. |
| ***Магіля́нскі*** | абрыня́ць як Магіля́нска гара́. Гл. гара. |
| ***магнíт*** | **цягну́ць** *куды* **як магнíтам.** Пра моцнае, неадольнае імкненне куды-н. ФСБМ 2, 6. |
| ***маёвы*** | удаўцо́ва сэ́рца як маёвае со́нца. Гл. сонца. |
| ***ма́заны*** | пайсцí як на ма́заных ко́лах. Гл. кола. |
| ***ма́заць*** | **лжэ як мёдам ма́жа.** *Асудж.* Пра таго, хто шчодра раздае даверлівым салодкую няпраўду. Янк., Пар., 96. |
| | **Што ні ска́жа, нібы ма́слам ма́жа.** *Б.-Каш., Хойн. Прык. Няўхв.* Пра чалавека, які ўмее ўсім падгадзіць словам, пра залішне лíслівага. ПП 2, 326; АВНЛ. |
| | гавары́ць як мёдам ма́заць. Гл. мёд. |
| ***мазгí*** | то́лку як з кілы́ мазго́ў. Гл. кіла. |
| ***мазнíца*** | **чы́ста, гла́дка як мазнíца.** *Іран.* Пра брудную, непрыемную з выгляду жанчыну. Аксамітаў, 218. |
| | **у ро́це як у мазьнíцы.** *Рэч. Няўхв.* Пра непрыемнае адчуванне ў роце падчас хваробы, пасля перапою. Пяткевіч, 659. |
| ***мазу́рык*** | **як мазу́рык.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра хітрага, жулікаватага чалавека. Юрчанка, 190. |
| ***мазь*** | вясе́лле без гарэ́лкі што ко́лы без ма́зі. Гл. кола. |
| | **Ула́сць як мазь: як падма́жаш, так і пае́дзіш.** *Ушацк. Прык.* Пра прадажных дзяржаўных службоўцаў, якія вырашаюць пытанні за хабар не па праўдзе. Барадулін, 120. |
| ***мазэ́па*** | **сядзе́ць (хадзíць) як мазэ́па (мазэ́паю).** *Няўхв.* Пра бруднага, нямытага чалавека. Станкевіч, 665. |
| ***май*** | **як май змаява́ў (зма́яў)** *каго, што. Астр., Івац., Рэч., Стаўб.* Пра чыё-н. бясследнае знікненне. Высл., 428; Даніловіч, 233; ФА; ЗЗайкі. |

***ма́йскі***

лы́біцца як ма́йская ро́за. Гл. роза.

ссохнуць як ма́йскі ве́нік. Гл. венік.

***мак***

**адзёр вы́ступіць як мак.** *Пух.* Пра густую высыпку дробных болек пры захворванні на адзёр. СПЗБ 1, 59.

**во́йска ідзе́ як мак цвіце́.** *Ваўк. п. Захапл.* Пра яскравае відовішча вайскоўцаў падчас паходу, якія ідуць у каляровым убранні, у шапках з чырвонымі аколышкамі. Federowski, 334.

**дро́бны як мак.** *Ваўк. п.* Пра нешта дужа дробнае. Federowski, 82.

**зацвісці́ як мак.** *Смал. п.*, *Івац. Ухв.* 1. Пра нейкую расліну, што цвіце буйным цветам. 2. Пра добрае жыццё жанчыны. Добр., Смол., 398; Янк., Пар., 69; ЗЗайкі.

**мале́нькі як мак.** *Ваўк. п.* Federowski, 177. Тое, што дробны як мак.

**Народ ідзе як мак цвіце.** *Ветк.* Пра людзей у святочным адзенні. ФА.

**так ціха сядзі́ць як мак засе́ялі (засе́яўшы).** *Ваўк. п.*, *Рэч.* Пра чалавека, што вельмі сцішыўся. Federowski, 276, 57; Pietkiewicz, 362. < Пры сяўбе маку чакалі найцішэйшага надвор’я, інакш лёгкія зярняткі былі б знесены ветрам.

таўку́ць як камары́ мак. Гл. камар.

**трэ́сці** *каго* **як зялёны мак.** *Мін. Няўхв.* Пра калатнечу, здзекі з некага. Гілевіч, 166.

**уміра́лі як мак сы́паліся.** *Стаўб.* Пра павальнае паміранне (напрыклад, падчас эпідэміі), што нагадвае высыпанне саспелага маку-самасею. СЦБ, 217.

**чырво́ны (кра́сен) як мак.** *Мядз.*, *Смал. п. Ухв.* Пра яркі чырвоны колер чаго-н. Добр., Смол., 395; Высл., 419; Янк., 440.

**шчо́кі як мак.** *Стаўб. Ухв.* Пра чый-н. румяны твар, шчокі. МК, 235.

**як мак у по́лі зацві́ў.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра яскравае відовішча – вяселле, натоўп на свяце і інш. Federowski, 347.

**як мак цвіце́.** Пра яркасць, стракатасць дзе-н. ТС 3, 61.

**гавары́ць як ма́кам сы́паць.** *Лаг. Няўхв.* Пра надта хуткую, неразборлівую гаворку. СЦБ, 217.

**як ма́кам насы́пана (пасы́пана)** *чаго. Гродз. Маст.* Пра вялікую колькасць нечага дробнага дзе-н. Даніловіч, 233.

вы́скачыць як каза́к з маку. Гл. казак.

**людзе́й (наро́ду, мно́га) дзе як ма́ку.** *Ваўк.*, *Навагр. п.*, *Івац.* Пра вялікую колькасць людзей дзе-н. Federowski, 63, 188, 198; Ляцкий, 62; ЗЗайкі.

**спаць бы́ццам ма́ку нае́ўшыся.** *Хоц.*, *Чэрык. Жарт.* Пра моцны, беспрабудны сон. ЛЦ, 74. < Мак скарыстоўваўся ў якасці снатворнага сродку.

**што ма́ку.** *Ашм.* СПЗБ 4, 249. Тое, што як макам насыпана.

**як пасля́ ма́ку.** *Люб. Жарт.* Пра моцны, працяглы сон каго-н. ДА; Санько, 212.

***ма́кавы/ма́каў***

з ма́кава зе́рнятка. Гл. зернятка.

дро́бненькі як ма́кавае зе́рне. Гл. зерне.

як ма́кавае зёрнышка [дро́бнае]. Гл. зёрнышка.
адна́ як ма́каў квет. Гл. цвет.
Бе́лы (гэ́тат) свет як ма́каў (ма́кавы) цвет. Гл. цвет.
Гэ́ты свет як ма́каў цвет: зра́нку расцвіта́е, да ве́чара апада́е. Гл. цвет.
Дзяво́чы век як ма́каў цвет. Гл. цвет.
пачырване́ць як ма́каў цьвет. Гл. цвет.
харо́ша як ма́каў цвет. Гл. цвет.
*чый* век як ма́каў цвет. Гл. цвет.
шчо́кі пачырване́лі як ма́каў цвет. Гл. цвет.

***ма́каўка*** **Гало́ўка як ма́каўка, а ро́зуму як насра́на.** *Рэч. Насмешл. Вульг.* Пра маладых і прыгожых, але нявопытных і неразумных. Pietkiewicz, 369.
**цвісці́ як ма́каўка.** *Ухв.* Пра дзяўчыну, жанчыну, што добра жыве, хараша прыбрана. Киркор, 239; Нос., 179; Dybowski, 191.
**шчо́кі як ма́каўкі.** *Ухв.* Пра румяныя шчокі, твар. Янк., Пар., 198.
**гало́ўка як мако́ўка.** Пра прыгожую галоўку маладога чалавека. Нос., 25; Ляцкий, 8.
**Гало́ўка як мако́ўка, а ро́зуму як нака́кана.** *Прык.* Пра чалавека прыгожага, але недалёкага. Нос., 25.
**спаць ек по́слі мако́ўкі.** *Стол. Жарт.* Пра працяглы, беспрабудны сон. ТС 4, 191.

***макля́к*** **намо́кнуць як макля́к.** *Шчуч. Жарт.* Пра чалавека, які моцна вымак пад дажджом. СПЗБ 3, 15. < Макляк – намоклае палена.

***мако́ўка****, гл.* ***макаўка***

***Максі́м*** понара́віцца як ка́ша Максі́му. Гл. каша.

***малада́я*** **збірацца як малада́я да вянца́.** *Дзятл. Няўхв.* Пра марудныя, надта старанныя зборы куды-н. Даніловіч, 233.

***маладзе́нькі*** гібкі як маладзе́нькі дубо́чак. Гл. дубочак.

***маладзён*** **як маладзён трох дзён.** *Іран.* Пра зусім недасведчанага ў нейкай справе чалавека. Васильев, 144.

***маладзі́к*** **паказа́цца як маладзі́к [і згі́нуць].** *Жарт.* Пра хуткае знікненне кагосьці з поля зроку. Federowski, 212.

***маладзі́ца*** **Зімá не маладзі́ца, да яе не прытулі́цца.** *Паст. Прык. Жарт.* Пра зімовыя халады, няўтульнасць зімой. АВНЛ.
Лу́жына не крыні́ца, дзяўчы́на не маладзі́ца. Гл. крыніца.

***маладня́*** як гром за маладнёю. Гл. гром.
**мільканýць як маладня́.** *Мсцісл.* Пра з'яўленне каго- альбо чаго-н. на вельмі кароткі прамежак часу. Бялькевіч, 264.
**лята́ць як маланння́.** *Паст.* Пра таго, хто хутка, імкліва рухаецца, перамяшчаецца. СПЗБ 2, 651.

***маладо́е*** **зажада́цца бы на маладо́е.** *Слуцк. Жарт.* Пра моцнае жаданне чаго-н. з'есці, што ўласціва звычайна цяжарным жанчынам. Сержпутоўскі 1999, 61.

***маладу́ха*** **пла́каць як маладу́ха на вясе́ллі.** *Брасл.* Пра нейчы гучны, але не зусім шчыры плач. Рабкевіч, 43.

***малады́*** ма́йская траві́ца нібы малада́я дзяві́ца. Гл. дзявіца.
смáчна як старо́му малада́я жо́нка. Гл. стары.
сэ́рца б'е́цца як у маладо́га пе́ўня. Гл. певень.
разысці́ся як маладо́е пі́ва. Гл. піва.
шуме́ць як маладо́е пі́ва. Гл. піва.
**зажуры́цца як малады́.** *Маг. Насмешл.* Пра журботу, сум чалавека пры развітанні са свабодай. Высл., 323.
нату́рысты як малады́ жарэ́бчык. Гл. жарэбчык.
Пажані́ліся, што малады́ і стары́ конь спрэ́гліся. Гл. конь.
паказа́цца як малады́ ме́сяц [і згі́нуў]. Гл. месяц.
**сядзе́ць як малады́ на вясе́ллі.** *Брасл. Насмешл.* Пра нейчы заклапочаны, з адценнямі журботы і гордасці выгляд. Рабкевіч, 197.
дзе́ўкі як жаро́бкі маладыя, туды-сюды лята́юць. Гл. жаробка.

***малако́*** даста́ць як у казла́ малака́. Гл. казёл.
круці́цца як кот вако́л гара́чага малака́. Гл. кот.
пацягну́цца як кот без малака́. Гл. кот.
як ад казла́ – ні шэ́рсці, ні малака́. Гл. казёл.
як з быќа малака́. Гл. бык.
як з казла́ малака́ [то́лку, ні вы́ціснуць]. Гл. казёл.
як з таго́ казла́: ані во́ўны, ані малака́. Гл. казёл.
**бе́лы як малако́.** *Ваўк. Ухв.* Пра нешта белае, чыстае. Federowski, 30.
бе́лы як кроў з малако́м. Гл. кроў.
не дзяўчы́на, а ўся круго́м як кроў з малако́м. Гл. кроў.
**сад што малако́м аблі́ты.** *Івац.*, *Смал.* Пра бялюткі, усыпаны цветам сад. СЦБ, 16; ТС 3, 88; ЗЗайкі.
сы́каць адна́ на адну́, як дзве ко́шкі каля́ аднае́ мі́скі з малако́м. Гл. кошка.
Век за ве́кам як піро́г з мле́кам. Гл. пірог.
**тума́н ек молоко́.** *Жытк.* Пра надта густы белы туман. ТС 5, 164.

***мала́нка*** **жы́гаць як мала́нка тая.** Пра праворнае дзіця. Нос., 42; Носович, 288. < Жыгаць – тут: мітусіцца, хутка бегаць.
**мігну́ць як мала́нка.** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра таго, хто хутка знік з вачэй. Federowski, 186; Высл., 346.
пабе́гчы як мала́нка. *Маст.* Пра чалавека, які хутка, імкліва пабег. Высл., 358.
**шпа́ркі як мала́нка.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра шпаркага чалавека альбо жывёліну. Federowski, 300.
**хутка як мала́нкаю спалі́ў.** *Ваўк. п.* Пра хуткае выкананне якой-н. справы. Federowski, 55.

***малата́рня*** **гудзе́ць (грыме́ць) як пуста́я малата́рня.** *Слон. Асудж.* Пра нейчыя пустыя размовы. Высл., 309.
**мало́ць (мянташы́ць) языко́м як малата́рня.** *Дзятл.*, *Карэл. Няўхв.* Сцяшковіч, 598; МК, 148. Тое ж.

***малато́к*** **як з-пад малатка́.** *Мсцісл.* Пра новую пабудову. Юрчанка, 184.
**сэ́рца сту́кае як малато́к.** Пра моцнае, гучнае біццё сэрца. Высл., 393.

**што малато́к хло́пец.** *Мсцісл. Жарт.* Пра добрага, лоўкага хлопца. Юрчанка 1977, 231.

***малацілка*** **гаварыць як малацілка.** *Мсцісл. Асудж.* Пра пустую гаворку каго-н. Юрчанка, 190.

**як у дурно́й малаці́лцы** *дзе. Мсцісл. Няўхв.* Пра моцны шум дзе-н. Юрчанка, 200.

**тара́хкаць ек молоці́лка.** *Стол. Асудж.* ТС 5, 135. Тое, што гаварыць як малацілка.

***малаціць*** гавары́ць бы́ццам у шэсць цапо́ў малаці́ць. Гл. цэп.

чыта́ць як боб малаці́ць. Гл. боб.

як чорт гаро́х малаці́ў *на чым*. Гл. чорт.

***малёваны*** **харо́ша як малёвана.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра вельмі прыгожую жанчыну, яе прыроднае харaство. Federowski, 50.

**дитёнык як малёваный.** *Смал. п. Ухв.* Пра вельмі прыгожае дзіця. Добр., Смол., 449.

***маліна*** **дзе́ўка як малі́на.** *Ваўк. п., Жытк. Захапл.* Пра маладую, прыгожую, прыемную дзяўчыну. Federowski, 95; ТС 3, 63.

**се́на как мали́на.** *Смал. п. Ухв.* Пра пахучае сенца добрай якасці. Добровольский III, 121.

**хло́пец як малі́на.** *Ваўк. п. Захапл.* Пра маладога, спраўнага, прыгожага хлопца. Federowski, 54.

крыча́ць як дурны́ ў малі́нах. Гл. дурны.

***маліначка*** **То́нкая як былі́начка, жа́ркая як малі́начка.** *Памянш.-ласк. Лаг. Захапл.* Пра маладую, зграбную, прыгожую дзяўчыну. Varłyha, 171.

***малінка*** **гу́бкі як малі́нкі.** *Памянш. Захапл. Фальк.* Пра прыгожыя дзявочыя вусенкі. Янк., Пар. 45.

**згла́дзіць як малі́нку.** *Памянш. Ваўк. п.* Пра хуткае і прыемнае знішчэнне чаго-н. Federowski, 354. < Згладзіць – тут: зглынуць, знішчыць.

**ухапі́цца як за малі́нку.** *Памянш. Ваўк. п.* Пра радасную, з прыемнасцю згоду на нейкую прапанову, справу. Federowski, 316.

***малітва*** **як п’я́нага малі́тва.** *Слон. Іран. Насмешл.* Пра блытаную гаворку. Высл., 430.

**ненадзе́йна як з малі́тваю праз дрыгву́.** *Іран.* Пра ненадзейную справу, слаба падмацаванае, негарантаванае пачынанне. Антырэліг. казкі, 83.

мармыта́ць як ра́бін малі́тву. Гл. рабін.

***мало́дзіва*** **густы́ што мало́дзіва.** *Слон. Ухв.* Пра нешта густой кансістэнцыі. Высл., 309.

***ма́лпа*** **вы́лупіць о́чы ек на́лпа.** *Жытк. Асудж.* Пра чалавека з непрыемным, няўцямным паглядам. ТС 3, 141. < Налпа – малпа.

***малы́*** гуля́ць як дзіця́ мало́е. Гл. дзіця.

забаўля́цца як мало́е дзіця́. Гл. дзіця.

засну́ць як мало́е дзіця́. Гл. дзіця.

здзяці́нець што мало́е дзіця́. Гл. дзіця.

пла́каць як дзіця́ мало́е. Гл. дзіця.

**Старо́е як мало́е – оды́н ро́зум.** *Драг. Прык.* Пра старога чалавека, які становіцца па-дзіцячаму капрызным. Скарбы, 94.
**старо́е як мало́е.** *Няўхв.* Пра старых, якія перастаюць арыентавацца ў рэчаіснасці, патрабуюць апекі і дапамогі. Янкоўскі, 95.
шану́й старо́е як дзіця́ мало́е. Гл. дзіця.
**зямлі́ як мало́му се́сці.** *Мін. Няўхв.* Пра вельмі малы лапік зямлі. Высл., 331.
**цы́ркаць [таго́ малака́] бы мало́му.** Пра невялікі надой малака. Нар. лекс., 236.
**дзяці́ніцца як малы́.** *Сміл. Няўхв.* Пра паводзіны дарослага, неадпаведныя яго ўзросту. Шатэрнік, 85.
**засаро́мецца як малы́ ўсё ро́ўна.** *Сміл. Няўхв.* Пра сарамяжлівасць дарослага, неадпаведна ўзросту. Шатэрнік, 108.
**Ста́ры як ма́лы: што ба́чыць, то про́сіць.** *Прык.* Аксамітаў, 217. Тое, што Старо́е як мало́е – оды́н ро́зум.
**дурэ́ць як малы́я.** *Няўхв.* Пра дарослых, што забаўляюцца як дзеці. Янк., Пар., 57.

***малю́нак*** **як на малю́нку.** *Ухв.* Пра нешта вельмі прыгожае. Янк., 446.

***ма́ма*** **до́бра як у ма́мы гасцява́ць.** *Ухв.* Пра дужа прыемную сітуацыю. Янк., Пар., 54.

***Мама́й*** **як Мама́й прайшо́ў** *дзе. Няўхв.* Пра поўны беспарадак, разбурэнне, неразбярыху дзе-н. ФСБМ 2, 17.

***Мамо́н*** **шука́ць як Мамо́н пі́пку.** *Ушацк. Насмешл.* Пра нейкае дарэмнае, камічнае шуканне не ў тым месцы, дзе трэба. МК, 306.

***мамы́ра*** **як мамы́ра не́йкі.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надзьмутую, замкнёную, капрызную асобу. Юрчанка 1977, 71.

***мана́х*** **сядзе́ць як у мана́хах.** *Насмешл.* Пра падкрэслена строгага чалавека. Янк., Пар., 163.

***манго́л*** **стра́шан як манго́л.** *Вілен. п. Няўхв.* Пра чалавека з благім характарам і непрыемнай знешнасцю. Зеленин, I, 125.

***мане́ж*** **круці́цца як у маняжы́.** *Маст. Спачув.* Пра чалавека ў пастаянных занятках, клопаце. Даніловіч, 259. < Манеж – паветка, дзе змяшчалася прывадное кола стацыянарнай малатарні. Кола круцілі два запрэжаныя кані.

***ма́нія*** **сядзе́ць як ма́нія.** *Лоеў. Няўхв.* Пра асобу, што ў гурце адчувае сябе адчужана, засяроджана на нечым сваім. Янкова, 189. < Ма́нія – здань, прывід.

***ма́нна*** **чака́ць як ма́нны нябе́снай.** Пра чаканне з вялікім нецярпеннем. ФСБМ 2, 18.

***Ма́нька*** **як Ма́нька з бато́намі.** *Іўеў. Асудж.* Пра жанчыну неахайна апранутую, нагружаную хатулямі з пакупкамі (ацэнка гараджанамі нядаўніх «калхознікаў»). Даніловіч, 233.

***Ма́ня*** **як Ма́ня з гаргя́зу.** *Астр. Няўхв.* Пра залішне бойкую, гаваркую жанчыну. Даніловіч, 233.

***ма́ра*** **пама́зала пла́цце як ма́ра [екая].** *Лоеў.* Пра жанчыну, якая з-за бруднай вопраткі выглядае страшна і несамавіта. Янкова, 245. < Мара – у розным значэнні: здань, злы дух.

**прыста́ць ек ма́ра.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, што прыстае да іншых, ад якога ніяк не адчапіцца. ТС 4, 255.

**прычапі́цца як та ма́ра.** *Жытк., Кам. Няўхв.* ЖНС, 67. Тое ж.

**прэ́цца сле́дам як тая мара́.** *Слуцк. Няўхв.* Пра настойлівае пераследаванне каго-н. Сержпутоўскі 1999, 177.

**убра́цца як ма́ра.** *Беласт. Асудж.* Пра неадпаведны, дзіўнаваты ўбор некага. «Ніва», 1978, № 26.

**хадзі́ць як ма́ра.** *Смал. п., Брэсц., Драг. Няўхв.* Пра дзіўнаватага чалавека з несамавітымі паводзінамі. Добр., Смол., 389; Нар. лекс., 196.

**ходы́ть бы ма́ра распатла́ная.** *Драг. Няўхв.* Пра неахайную непрычасаную жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222.

**як ма́ра з'яві́цца** *перад кім. Чэрык. Няўхв.* Пра нейчае нечаканае з'яўленне. Бялькевіч, 259.

**як ма́ра ў во́чы ле́зці.** *Слон. Няўхв.* ЖН, 128. Тое, што прыстаць ек мара.

***Ма́рак,*** *гл. таксама* ***Ма́рка***

**таўчы́ся як Ма́рак па пе́кле (у пе́кле).** *Воран. Няўхв.* Пра чалавека, які пакутуе, мусіць шмат хадзіць, рабіць розную работу, мець многа клопатаў і турбот. Даніловіч, 233.

***ма́рац***

як кот у ма́рцы. Гл. кот.

***мардва́***

**Радні́ як мардвы́, а паабе́даць нейдзе.** *Прык. Асудж.* Пра шматлікіх сваякоў, ад якіх не дачакаешся дапамогі. Нос., 144.

***Ма́рка***

**блу́каць (сно́ўдацца) як Ма́рка па пе́кле.** *Мін.* Пра чалавека, які пакутуе, мусіць шмат хадзіць, рабіць розную работу, мець многа клопатаў і турбот. ЛЦ, 34. < З павер'я пра Марка, які выпадкова трапіў у пекла.

**ганя́ць як Ма́рка (Ма́рку) па пе́кле.** *Навагр., Дзятл., Крыч., Ваўк., Івац. Асудж.* Пра чалавека, якога ўвесь час, не шкадуючы, куды-н. пасылаюць, прымушаюць рабіць што-н. Даніловіч, 233; Высл., 303; ФА; ЗЗайкі.

**загі́нуць як Ма́рка ў пе́кле.** *Мін. Спачув.* Пра чалавека, які нясе непамерны груз клопатаў і турбот. ЛЦ, 106.

**ісці́ як Ма́рка з пе́кла.** *Мсцісл.* Пра чалавека, што ідзе стомлены, спрацаваны, заклапочаны. Юрчанка 1977, 215.

**ма́яцца як Ма́рка ў пе́кле.** *Гор. Спачув.* Пра чые-н. пакуты, клопаты, турботы. АВНЛ.

**таўчы́ся як Ма́рка ў пе́кле.** *Смал. п., Стаўб., Светл., Маз., Гродз., Стол., Няўхв.* Ром., Бел., 310; Добр., Смол., 423; Нос., 143; Высл., 399; МК, 258; Цыхун, 193; ТС 5, 147; ФА. Тое, што блукаць (сноўдацца) як Марка па пекле.

**хадзі́ць як святы́ Ма́рка па пе́кле.** *Маладз.* ФА. Тое ж.

**цяга́цца як Ма́рка па пе́кле.** *Смарг., Маладз.* ФА. Тое ж.

цяга́ць як чорт Ма́рку па пе́кле. Гл. чорт.

***марко́ва***

**Мой хвор мужычо́к, да красён як бурачо́к; а я здаро́ва, да жо́ўта як марко́ва.** *Прык. Іран.* Пра неадпаведнасць знешняга выгляду і фактычнага здароўя ў сужонкаў. Нос., 78; Дуб., 36.

***Маркуны*** нарабíць [дзялóў] як воўк у Маркунах. Гл. воўк.

***марóз*** надзьмýцца як вош на марóз. Гл. вош.

**па плячáх так як марóз сы́пле.** *Слон. п.* Пра стан узрушанасці, хваробы ці страху. Federowski, 237.

**узя́цца як марóз нáнач.** *Ухв.* Пра нейкі ўздым у працы, у справах. Янк., Пар., 174.

як вош на марóз. Гл. вош.

**кляне́ як марóзам на вяргíню ве́е.** Пра страшныя, моцныя праклёны. Янк., Пар., 86.

дрыжáць бы сабáка на марóзе. Гл. сабака.

лізнýць як жалéза на марóзе. Гл. жалеза.

пагíнуць як прусакí на марóзе. Гл. прусак.

трашчáць як сцянá на марóзе. Гл. сцяна.

як прусáк на марóзе. Гл. прусак.

чыпуры́цца як вош на марóзі. Гл. вош.

дачакáцца як гóлы марóзу. Гл. голы.

уцякáць (бéгчы) як прусáк ад марóзу. Гл. прусак.

***марскí*** Людскáя пахвáла што марскáя хвáля. Гл. хваля.

***Марцíн*** **набрáцца як Марцíн за рублíя́.** *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, які празмерна напіўся. Санько, 154.

**набрáцца як Марцíн мы́ла.** *Крыч.*, *Касц.*, *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які празмерна напіўся ці наеўся. Высл., 349; ЛЦ, 97.

**нарэ́зацца ек Марцíн мýла.** *Жытк. Насмешл.* ТС 3, 158. Тое ж.

**падыходзіць** *да чаго* **як Марцíн да клёцак.** *Воран.*, *Шчуч. Ухв. Жарт.* Пра нейчае ўмелае, удалае стаўленне да чаго-н. Даніловіч, 234; ФА.

**цікáвы як Марцíн да кáвы.** *Лід.*, *Шчуч. Іран.* Пра нейчую празмерную цікаўнасць да чаго-н. Сцяшковіч, 614; Высл., 415; Даніловіч, 234.

***марцóвы*** набы́цца як марцóвы снег. Гл. снег.

як кот марцóвый. Гл. кот.

***Марцэ́ля*** **зарабíць як Марцэ́ля на цыбýлі.** *Ашм. Іран.* Пры чыесьці страты ў нейкай справе пры спадзяваным заробку. Высл., 324.

***маршáлок*** **стая́ць як маршáлок на пóкуце.** *Стол. Насмешл.* Пра нейчую важную паставу. ТС 4, 138.

***масéлца*** **Кáртачкі як мáселца, а машóначка хоць вы́круць.** *Памянш. Прык. Іран.* Пра заўзятага іграка: карты зношаныя, замасленыя, а кішэнь (машонка) пустая. Нос., 60.

***маскáль*** **муцíць у вадзé як маскáль у сялé.** *Асудж.* Пра чалавека нахабнага і актыўнага, што не па праўдзе жыве. Шпилевский, 184. < Маскаль (тут) – царскі салдат.

**як маскáль.** *Гродз. Насмешл.* Пра здаровую, энергічную, прадпрымальную жанчыну. Цыхун, 175.

**сыдя́ть як москалí в рад.** *Драг. Насмешл.* Пра шэраг людзей, што сідзяць шчыльна адзін да аднаго. БА.

***Масквá*** **пайсцí як у Масквý за пéснямі.** *Нясв.* Пра чалавека, якога ніяк не дачакацца з дарогі. ФА.

**як да Масквы́ ра́кам.** *Слон.*, *Шчуч.*, *Воран.* 1. Пра далёкае і доўгае падарожжа. 2. *каму да каго. Здзекл.* Пра асоб, якія не раўня адзін аднаму, паміж якімі вялікая розніца. Даніловіч, 219.

***ма́сла*** глядзе́ць (пазіра́ць) як кот на ма́сла. Гл. кот.

**жо́ўты як ма́сла.** *Навагр. Ухв.* Пра нейкі якасны прадукт прыемнага жаўтаватага колеру. СПЗБ 5, 98.

**зя́мля як ма́сла.** *Ухв.* Пра ўрадлівую зямлю. ФСБМ 2, 21.

**бы ма́слам пама́заў.** *Карэл. Ухв.* Пра чалавека, што нешта падладзіў, камусьці падгадзіў, сказаў прыемнае. Высл., 289.

залга́ць як хле́ба з ма́слам з’е́сці. Гл. хлеб.

любі́ць як ка́шу з ма́слам. Гл. каша.

Мазуру́ бі́цца, так як людзям хлеб з ма́слам з’есць. Гл. людзі.

**пайсці́ як з ма́слам.** *Ухв.* Пра лёгкае, з ахвотай выкананне нейкай працы. Янк. Пар., 123.

**што ма́слам па душы́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нешта прыемнае, сказанае ці зробленае. Юрчанка, 154.

**што ні ска́жа, нібы ма́слам ма́жа.** *Б.-Каш.*, *Хойн. Няўхв.* Пра чалавека, што надта лісліва гаворыць. ПП 2, 326; АВНЛ.

**як ма́слам па ны́рках.** *Шчуч. Ухв.* Сцяшковіч, 617. Тое, што ма́слам па душы́.

як хле́ба з ма́слам з’е́сці. Гл. хлеб.

**Аднаму́ ідзе́ як па ма́сле, а друго́му – як па гру́дзі.** *Прык.* Пра тое, што розным людзям не аднолькава шанцуе. Federowski, 122.

бы сыр у ма́сле кача́цца. Гл. сыр.

жыць як клёцка ў ма́сле. Гл. клёцка.

**ідзе́ як па ма́сле (ма́слу).** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Слуцк.*, *Мін.*, *Сміл.*, *Стаўб. Ухв.* Пра работу, любую справу, якая вельмі добра, гладка ідзе. Federowski, 122; Сержпутоўскі 1999, 55; Высл., 332; Шатэрнік, 14; МК, 316; ТС 3, 66; ЗЗайкі.

як галу́шка па ма́сле пла́ваць. Гл. галушка.

як сыр у ма́сле купа́цца. Гл. сыр.

як сыр у ма́сле. Гл. сыр.

**гла́дка чэ́ша як па ма́слу.** *Астр. Ухв.* Пра чалавека, які нешта складна робіць. Сцяшковіч, 585.

***масла́к*** **абмо́кнуць як масла́к.** *Гродз. п. Насмешл.* Пра надта вымаклага чалавека. Federowski, 2. < Маслак – масляк, ядомы грыб.

***ма́слечка*** **як ма́слечкам па душы́.** *Памянш.-ласк. Ваўк. п.* Federowski, 88. Тое, што ма́слам па душы́.

***маслёнка*** сябраваць як таўка́ч з маслёнкаю. Гл. таўкач.

пахадзіць як таўка́ч па маслёнцы. Гл. таўкач.

***маслю́к, масля́к*** **як стары́ маслю́к.** *Жлоб. Насмешл.* 1. Пра знешні выгляд старога чалавека. 2. Пра нейкую зношаную, бясформенную рэч. Гор., Руд., 255.

**зме́рзнуць як масля́к уво́сень.** *Слуцк. Насмешл.* Пра моцна змерзлага чалавека, які страціў бадзёры выгляд. Высл., 329.

**раскі́снуць як масля́к.** *Івац. Няўхв.* Пра састарэлага або стомленага, расхліпанага чалавека. ЗЗайкі.

**слі́зкі як масля́к.** *Івац. Няўхв.* Пра нешта або некага слізкіх, непрыемных. Янк., Пар., 151; ЗЗайкі.

***масля́нка*** набра́цца як кот масля́нкі. Гл. кот.

набра́цца як му́рза масля́нкі. Гл. мурза.

***матаві́ла*** **стаць як матаві́ла.** 1. *Няўхв.* Пра чалавека, што займае не тое месца ў хаце, перашкаджае руху. 2. Пра схуднелага чалавека. Высл., 390; Санько, 185.

***матаві́на*** **вялі́кі як матаві́на.** *Віл.* Пра нешта, некага вялікіх, аб'ёмных. МК, 49.

***матацы́кл*** выпе́ндрывацца як му́ха на матацы́кле. Гл. муха.

***ма́тка*** **аўчы́нная ла́тка як ро́дная ма́тка.** *Гродз. Ухв.* Пра фізічную цеплыню кажуха. Цыхун, 177.

**дарагі́ як ма́тка ро́дная**. *Ухв.* Пра некага вельмі дарагога і блізкага. Янк., Пар., 50.

**дзе кажу́шная ла́тка, то як ро́дная ма́тка.** Federowski, 170. Тое, што аўчы́нная ла́тка як ро́дная ма́тка.

**любі́ць** *каго* **як ма́тка дзіця́тка.** Пра шчырую, моцную любоў да каго-н. Янк., Пар., 97.

**пла́каць як ма́тка па дзіця́тку.** *Спачув.* Пра моцны несуцешны плач каго-н. Янк., Пар., 128.

**Свая́ ха́тка як ро́дная ма́тка.** *Чэрык. Смал. п., Рэч., Светл., Асіп., Мядз. Прык.* Пра жыццёвую каштоўнасць і важнасць дома для шчасця чалавека. Tyszkiewicz, 418; МК, 395; Нос., 147; Dybowski, 189; Добр., Смол., 129; Pietkiewicz, 360; Federowski, 50; СПЗБ 5, 281.

**чака́ць** *каго* **як ма́тка дачу́шку з даро́гі.** Пра нецярплівае чаканне каго-н. Янк., Пар., 191.

**шчаслі́вая як ма́тка, уну́каў дачака́ўшыся.** *Ухв.* Пра шчаслівага чалавека, які адчувае радасць ад пражытых гадоў жыцця. Янк., Пар., 198.

**як Ма́тка Бо́жжая.** *Мсцісл. Ухв.* Пра жанчыну з лагодным, літасцівым характарам. Юрчанка, 190.

бая́цца як стары́ конь сваёй ма́ткі. Гл. конь.

замарко́ціцца як дзіця́тка без ма́ткі. Гл. дзіцятка.

прысупо́ніцца як куранё да ма́ткі. Гл. кураня.

трэ́цца як цяля́тка каля ма́ткі. Гл. цялятка.

**пла́каць як па ма́тцы.** *Спачув.* Пра моцны жаласны плач каго-н. Янк., Пар., 128.

**жыць як аднае́ ма́церы (ма́ткі) дзе́ці (дзе́ткі).** *Ваўк. п., Шчуч. Ухв.* Пра блізкіх, клапатлівых, прыязных адзін да аднаго людзей. Federowski, 368; Высл., 320; Янкоўскі, 10.

***мато́р*** **рабі́ць як мато́р.** *Стаўб. Ухв.* Пра руплівую, хуткую работу працавітага чалавека. МК, 90.

***мату́ля*** **Ба́цька не мату́ля: не пацалу́е і не прыту́ле.** *Карм. Прык.* Пра ласку і пяшчоту, якая больш зыходзіць ад маці, чым ад бацькі. ПП 2, 85.

***ма́тушка*** **то́ўсты як ма́тушка.** *Івац. Насмешл.* Пра тоўстага, поўнага чалавека. ЗЗайкі.

| | |
|---|---|
| | прывы́кнуць як дзіця́ да ма́тчынай калыха́нкі. Гл. дзіця. |
| ***ма́тчын*** | прывы́кнуць як дзіця́ да ма́тчынай цы́цкі. Гл. дзіця. |
| | як у ма́тчыным жываце́ [жыць]. Гл. жывот. |
| | ласка́ва як ма́тчынымі рука́мі. Гл. рукі. |
| | трэба *каму што* як касцу́ маты́ка. Гл. касец. |
| ***маты́ка*** | **трэба** *што для чаго* **як маты́ка для се́на.** *Мсцісл. Іран.* Пра непатрэбны для пэўнай справы інструмент. Юрчанка, 190. |
| ***маты́лічны*** | ка́шляць як аўца́ маты́лічная. Гл. аўца. |
| ***маты́ль*** | **Рад ле́ту як матылі́ кве́ту.** *Прык.* Пра шчырую радасць каго-н. ад наступлення лета. Янк., Пар., 136. |
| | **лёгкі бы маты́ль.** *Слуцк. Ухв.* Пра лёгкае і рухавае дзіця. Сержпутоўскі 1998, 284. |
| ***махі́на*** | **вы́расці як махі́на.** *Крыч.* Пра вельмі рослага маладога чалавека. Бялькевіч, 403. |
| ***маца́*** | **зрабі́ць як жыдо́ўскую мацу́.** *Насмешл.* Пра нешта, сплюшчанае ўдарам. Романов 1901, 12. |
| ***мацер'я́л*** | **дра́цца як благі́ мацер'я́л.** *Смарг. Асудж.* Пра гамонку, крык, сварку моцным непрыемным голасам. Даніловіч, 61. |
| ***ма́ці*** | **сядзе́ць як Ма́цер Бо́жая.** Пра кагосьці, хто сядзіць са складзенымі рукамі. БПФС, 27. |
| | е́дзе як чорт ма́церу да до́ктара вязе́. Гл. чорт. |
| | баяцца як ста́ры конь ма́церы. Гл. конь. |
| | **жыць як у ма́церы за плячы́ма.** *Мін. Ухв.* Пра добрае, бяспечнае, бесклапотнае жыццё кагосьці. Высл., 321. |
| | прывы́кнуць як дзіця́ да ма́церы. Гл. дзіця. |
| | **як аднае́ ма́церы дзе́ткі.** *Ваўк. п.* Пра вельмі падобных адзін на аднаго людзей. Federowski, 92. |
| | **го́лы як ма́ці радзі́ла.** *Ваўк. п., Слуцк.* Пра зусім голага чалавека, без ніякай вопраткі. Federowski, 112; МК, 313. |
| | тро́ба як старо́му каню́ ма́ці. Гл. конь. |
| | **У зна́ці як у ро́днай ма́ці.** *Прык. Ухв.* Пра добры прыём у блізкіх сяброў. Нар. слов., 272. < Знаць – блізкія сябры, знаёмыя. |
| | **як ма́ці радзі́ла.** *Лельч.* Кучук, Малюк, 49. Тое, што голы як маці радзіла. |
| ***мача́нка*** | **як мача́нка < па пато́льні >.** *Маст. Няўхв.* Пра вельмі павольнае, маруднае перамяшчэнне каго-н. Даніловіч, 234. |
| ***ма́чаха*** | **глядзе́ць як ма́чаха.** *Няўхв.* Пра злосны і востры погляд каго-н. Ройзензон, 69. |
| | **зя́ваць як ма́чыха на па́дчырыцу.** *Лаг. Жарт.* Пра кросны, калі вялікі зеў у аснове пры тканні палатна. Varłyha, 83. |
| | **часа́ць** *каго* **як ма́чыха.** *Ваўк. п.* Пра недалікатнае балючае прычэсванне каго-н., прычыняючы боль. Federowski, 65. |
| ***мачо́нка*** | **мо́кры як мачо́нка.** *Ушацк. Насмешл.* Пра некага ці нешта вельмі мокрых. Барадулін, 90. |
| ***ма́чышын*** | зі́мнё цяпло́ як ма́чышыно дабро́. Гл. дабро. |
| ***машы́на*** | **ру́кі хо́дзяць як машы́на.** *Ухв.* Пра лоўкую, спрактыкаваную работу рук, якія дзейнічаюць нібы самі сабой. ЛА, 25. |

**як заве́дзеная машы́на.** Пра нейчыя хуткія, зладжаныя, манатонныя дзеянні. БПФС, 126.

***Мая́к*** **высо́кі бы мая́к.** *Лун.* Пра высокага худога чалавека. ЗВалодзінай.

***ме́дзены*** адзі́н як па́лец ме́дзены. Гл. палец.

***ме́дны*** як ме́днаму кацялку́. Гл. кацялок.
бле́дны як пята́к ме́дны. Гл. пятак.
блішчэ́ць што ме́дны самава́р. Гл. самавар.
начы́шчаны як ме́дны пята́к. Гл. пятак.

***Меер*** **зарабі́ць як Ме́ер на Кузьме́.** *Светл. Іран.* Пра ўсялякую адсутнасць заробку. Высл., 324. < З анекдота пра няўдалы гандаль.

***ме́лін*** **ро́ўны як ме́лін у жо́рнах.** *Сен.* Пра нешта прамое, роўнае. Каспяровіч, 189. < Мелін – млён, палка, якой круцяць жорны.

***ме́льнік*** **бе́лы як ме́льнік.** *Слон.* Пра некага белага, нібы прысыпанага мукой. Высл., 286.

***ме́льнікаў*** задры́пацца як ме́льнікава каро́ва. Гл. карова.
здаро́ва як [ме́льнікава] каро́ва. Гл. карова.

***ме́льніца*** **гавары́ць як палама́ная ме́льніца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надакучлівую, доўгую нудную гаворку каго-н. Юрчанка, 193.
**гавары́ць як пуста́я ме́льніца.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 195. Тое ж.
**шумець як у дурно́й ме́льніцы** *дзе. Мсцісл. Няўхв.* Пра моцны шум, сварку ў нейкім памяшканні. Юрчанка, 200.

***ме́льнічны*** вярце́цца як ме́льнічны жарно́ў. Гл. жарноў.

***ме́мка*** **маўча́ць як той ме́мко.** *Старадар. Няўхв.* Пра маўклівага чалавека. ЖН, 119. < Мемко – нямы.

***ме́ншы*** гро́зны як пе́рад ме́ншым нача́льнікам. Гл. начальнік.

***мень*** **непаваро́тлівы як [тэй] мень.** *Бран.* Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека. Расторгуев, 159. < Мень – мянтуз, які летам маларухома жыве пад каменем, карчагамі.
**слі́зкі як мень, ні́як не ўтрыма́ць.** *Мін.* Пра нешта аслізлае, нязручанае для трымання. ЛЦ, 74.

***ме́ра*** **як тры ме́ры по́пелу.** *Чашн. Насмешл.* Пра нешта нікчэмнае, што нават не бачна. КВДУ.

***мерэ́ц*** **пла́каць як по мерцу́.** *Стол.* Пра вельмі моцны плач кагосьці. ТС 3, 76.

***ме́сік*** **блішчы́ць гылыва́ як ме́сік.** *Мсцісл.* Пра галаву лысага чалавека. Юрчанка 1993, 19.
**сія́ць як ме́сік.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі задаволенага чалавека. Юрчанка, 190.
мітусі́цца як зо́ркі пе́рад ме́сікам. Гл. зорка.

***ме́ста/ме́сца*** престу́ць як ба́нны ліст да аднаго́ ме́ста. Гл. ліст.
як бог у Адэ́се, на цёплым ме́сце. Гл. Бог.

***ме́сці*** Прако́с ве́сці – не ву́ліцу ме́сці. Гл. вуліца.
заве́я як ве́нікам мяце́. Гл. венік.

***ме́сяц*** **блішча́ць як ме́сяц.** *Валож. Ухв.* Пра нейкія блішчастыя прыгожыя рэчы. Высл., 287.
браха́ць як саба́ка на ме́сяц. Гл. сабака.

га́ўкаць як саба́ка на ме́сяц. Гл. сабака.
**грэць як ме́сяц.** *Іран.* Пра адсутнасць цяпла. Янк., Пар., 45.
**лы́сы – як ме́сяц све́ціць на галаве́.** *Шчуч. Жарт.* Пра лысага чалавека. СПЗБ 2, 697.
**паказа́цца як малады́ ме́сяц.** *Навагр.* Пра чалавека, якога чакалі, але ён прыйшоў на хвілінку (параўнанне з маладым месяцам, маладзіком, які, з'явіўшыся на гарызонце, хутка заходзіць). Federowski, 212, СЦБ, 230.
**чырво́ненькі як ме́сяц.** *Стаўб. Ухв.* 1. Пра нешта прыемна чырванаватага бліщчастага адцення. 2. Пра некага, нешта прыгожых. Мін.-Мал., 1970, 42; СЦБ, 105.
**як з ме́сяца зваліцца.** Пра нейчае нечаканае з'яўленне. БПФС, 127.

***ме́сячык*** **адзі́н як ме́сячык у не́бе.** *Памянш. Спачув. Фальк.* Пра адзінокага чалавека. Янк., 395; Санько, 70.
**Ма́чаха як ме́сячык: све́ціць ды не грэ́е.** *Памянш. Б.-Каш. Прык.* Пра адсутнасць шчырых, глыбокіх пачуццяў у няроднай маці. ПП 2, 84.
**харо́шы як ме́сячык.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожага маладога чалавека. Federowski, 50.
**я́сны (чы́сты) як ме́сячык.** *Памянш. Ваўк. п. Захапл.* Пра ясны тварык дзіцяці. Federowski, 126, 71.

***ме́тла**, гл.* ***мятла́***

***ме́тка*** як ую́н на ме́тцы. Гл. уюн.

***мех*** **асу́нуцца як мех.** *Слуцк.* Пра чалавека, што мякка, павольна ўпаў, забіты, страціўшы прытомнасць ці адчуўшы моцны боль. Сержпутоўскі 1999, 31.
**Век зжыў як мех сшыў.** *Прык.* Пра хуткаплыннасць часу. Янк., Пар., 25.
**Век зжыць – не мех сшыць.** *Віл. Прык.* Пра складанасць жыццёвай дарогі. Tyszkiewicz, 415; Анимелле, 262; Нос., 22; Дуб., 7; СПЗБ 1, 294.
**дзьмуць як кава́льскі мех.** *Ваўк. п.* Пра моцнае дзьмуханне куды-н. Federowski, 83.
**жарэ́ як у мех бязд́онны то́пча.** *Хойн. Асудж.* Пра залішне абжорлівага чалавека. Высл., 318.
**жраць як у мех.** *Рэч. Асудж.* ЛЦ, 91. Тое ж.
**кашляць як у мех.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчы моцны гучны кашаль. Юрчанка, 200.
нагарну́ць як ды́му ў мех. Гл. дым.
**наду́цца як кава́льскі мех.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра надутага крыўдлівага чалавека. Нос., 143; Federowski, 195.
**напха́цца як мех.** *Карэл. Няўхв.* Пра залішняе аб'яданне каго-н. Высл., 352.
**пражы́ць** *за кім* **як непра́ны мех.** *Лоеў. Спачув.* Пра невясёлае, небагатае замужняе жыццё. Янкова, 217.
**пхнуць як у мех.** *Вілен. Няўхв.* Sielicki, 146. Тое, што жраць як у мех.

**сапе́ць но́сам як кава́льскі мех.** *Няўхв.* Пра моцнае, немілагучнае сапенне каго-н. Бялькевіч, 400.
**сапці́ як кава́льскі мех.** *Ваўк.*, *Івац. Няўхв.* СПЗБ 4, 366; Янкоўскі, 118; ЗЗайкі. Тое, што сапе́ць но́сам як кава́льскі мех.
**сапці́ як паравэ́й мех.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 193. Тое, што сапе́ць но́сам як кава́льскі мех.
**сапці́ як у мех.** *Мсцісл. Няўхв.* Бялькевіч, 400. Тое, што сапе́ць но́сам як кава́льскі мех.
**су́нуцца як салявы́ мех.** *Гродз. Астр. Няўхв.* Пра маруднае, няспрытнае, непаваротлівае перамяшчэнне каго-н. Даніловіч, 245.
**сядзе́ць як мех на́бжджаны.** *Мядз. Насмешл. Вульг. Асудж.* Пра кагосьці непрыветнага, надзьмутага, нялоўкага. ЗСалавей.
**таптáць як у бяздо́нны мех.** Санько, 187. Тое, што жраць як у мех.
**то́ўсты як мех.** *Карэл. Няўхв.* Пра тоўстага сытага чалавека. Высл., 400.
**хадзі́ць як няпра́ны мех.** *Гом. Няўхв.* Пра чалавека, што ходзіць у бруднай вопратцы. Горленка, 251. < Няпраны – нямыты, брудны.
**як мех.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра непаваротлівага лянівага чалавека. Юрчанка, 190.
**як у дзіра́вы мех: ніко́лі по́ўна не насы́плеш.** *Чэрык. Няўхв.* Пра чалавека, якому заўсёды нечага мала. ЛЦ, 130.
**Паце́ха як з [пусто́га] ме́ха.** *Ваўк. п. Прык. Іран.* Пра адсутнасць любой пацехі. Federowski, 208; Дуб., 45.
**сы́пацца як з парва́нага (пракля́тага, про́клятага) ме́ха.** *Мсцісл.* Пра несупынную, моцную завіруху, завею. Юрчанка, 173.
**сы́пацца як з дзіра́вага мяха́.** НН, 565. Тое ж.
**біць як па мяху́.** *Мсцісл.* Пра ўдары па нечым мяккім. Юрчанка, 193.
**вісе́ць як у мяху́.** *Віл.*, *Іўеў.*, *Навагр.* Пра хмарнае бязветранае надвор’е. СПЗБ 3, 192; СЦБ, 230.
сябрава́ць як два каты́ ў мяху́. Гл. кот.
чэсць як кату́ ў мяху́. Гл. кот.
як кату́ ў мяху́. Гл. кот.

***меч*** Го́лы як біч, а во́стры як меч. Гл. біч.
**з языко́м як з мячо́м.** *Няўхв.* Пра чалавека, які мае надта востры язык. Янк., 407; Санько, 138.

***мешэ́чок**, гл.* ***мяшочак***

***мёд*** жыць ек пчола ў меду. Гл. пчала.
**Го́ра гарава́ць – не мёд ліза́ць.** *Прык.* Пра цяжкасці і боль пры перажыванні гора. Ром., Бел., 293; Federowski, 113.
**За́муж – як у мёд, з заму́жжа – як са смалы́.** *Гор. Прык.* Пра лёгкасць і прыемнасць пачатку замужжа і заганы і праблемы расстання альбо разводу. АВНЛ.
ла́сы як мядзве́дзь на мёд. Гл. мядзведзь.
лі́пнуць як му́хі на мёд. Гл. муха.
ляце́ць як му́хі на мёд. Гл. муха.

пазлята́цца як во́сы на мёд. Гл. восы.
помалю́сеньку ісці́ як пчо́ла ў мёд. Гл. пчала.
**сма́шны як мёд.** *Мсцісл.* Пра нешта вельмі смашнае. Бялькевіч, 60.
**Як грымі́ць на лёд, то бу́дзе хлеб як мёд.** *Прык. Фальк.* Пра дарагі хлеб у неўраджайны год. Сцяшковіч, 668. < У прыкметах гром, калі яшчэ не адтала зямля, нібыта прадвяшчае галодны год.
**гавары́ць як мёдам ма́заць.** *Бераст. Няўхв.* Пра надта лісліվую, дагодлівую гаворку каго-н. Даніловіч, 234.
задава́цца як му́ха на шкля́нцы з мёдам. Гл. муха.
**лжэ як мёдам ма́жа.** *Асудж.* Пра чалавека, які шчодра раздае даверлівым салодкую няпраўду. Янк., Пар., 96.
**сало́дкая як з мёдам слі́ва.** *Захапл.* Пра нешта дужа смачнае і салодкае. Энеіда навыварат.
**як мёдам нама́зана** *каму*, *дзе*. *Гродз. Маст. Асудж.* Пра вялікае імкненне, цягу да чаго-н., што вельмі прываблівае. Даніловіч, 234; Васюковіч, 19.
завя́з у сваі́м багацці як му́ха ў мёдзе / у смале́. Гл. муха.
стара́цца як мядзве́дзь у мё́дзе. Гл. мядзведзь.
**Жыццё як мёду піццё.** *Прык. Ухв.* Пра добрае, прыемнае жыццё. Янкоўскі, 85.
хо́чацца як мядзве́дзю мёду. Гл. мядзведзь.
ле́зці як мура́шкі ў пля́шку з-пад мёду. Гл. мурашка.
**У раду́ як у мяду́.** *Гродз. Прык.* Пра найлепшае, што чакае чалавека ў сям'і, родзе. Цыхун, 194.

***мёртвы*** **Вучо́нага вучы́ць што мёртвага лячы́ць.** *Прык. Іран.* Пра непатрэбнасць намаганняў у нечым. ПП 2, 179.
**гарэ́ць што ў мёртвага на душы́.** *Жлоб. Іран.* Пра поўную адсутнасць гарэння. Высл., 303.
**Дурно́га вучы́ць як мёртвага лячы́ць.** *Прык.* Пра марнасць намаганняў вывучыць дурня. Янк., 161.
**як мёртвага но́гі.** *Шчуч. Няўхв.* Пра нешта вельмі халоднае, настылае. Сцяшковіч, 616.
**дапамо́г як мёртваму прыпа́ркі.** *Маладз. Іран.* Пра поўную неэфектыўнасць дапамогі, нейкіх захадаў. ФА; Ахрым., 27.
**патрэ́бен як мёртвамуляка́рства.** *Чэрык. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ЛЦ, 118.
**трэба як мёртваму клі́зма.** *Смарг. Іран.* Даніловіч, 234. Тое ж.
**узгаласі́ць як па мёртваму.** Пра моцны плач, галашэнне. Носович, 52.
**ляжа́ць як мяртва́я.** *Паст. Няўхв.* Пра нерухомае ляжанне стомленай альбо моцна заснуўшай жанчыны. СПЗБ 3, 107.
**ляжа́ць як мёртвы.** *Краснап.*, *Паст. Няўхв.* Пра моцна п'янага чалавека, які ляжыць непрытомны. Бялькевіч, 274; СПЗБ 1, 180.
ляжаць мёртвым грузам. Гл. груз.
**памо́жа як уме́рламу (зма́рламу, зма́рнаму, мёртваму) кадзі́ла.** *Ваўк.*, *Слон.*, *Касц.*, *Нясв.* Federowski, 215; Сержпутоўскі 1999,

137, 138, 383; Высл., 361; Янкоўскі, 229; Бялькевіч, 216; ФА. Тое, што дапамо́г як мёртваму прыпа́ркі.

***мігла́*** **як мігль́ы.** *Воран.* Пра вялікую кольскасць мошак. СПЗБ 3, 65. < Мігла – мгла.

***мілы*** як мі́лы дзень. Гл. дзень.

***міну́та*** **праляце́ць як адна́ міну́та.** *Мсцісл.* Пра хуткае прамінанне часу, асабліва тады, калі чалавеку было прыемна. Юрчанка 1977, 210.

***Міро́н*** **хо́дзіце як Міро́н з Чычыры́ндаю.** *Івац. Насмешл.* Пра маладых, якія швэндаюцца без справы. ЗЗайкі. < «Гэта наша кушняроўская прысказка. Хто былі такія Мірон і Чычырында, ніхто не памятае. Але так скажуць найхутчэй пра валацуг якіх» (тлумачэнне інфарманта).

***міска*** як таўка́ч кала мі́сак. Гл. таўкач.

сы́кацць адна́ на адну́, як дзве ко́шкі каля́ аднае́ мі́скі з малако́м. Гл. кошка.

***місачка*** **як мі́сачку (мі́сачкі) пабі́ўшы.** *Памянш.-ласк. Астр., Воран. Насмешл.* Пра прыгнечанага, разгубленага, спалоханага чалавека. Даніловіч, 234.

***мітульга́*** **бы́йстрінькій як мітульга́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра жвавага дзіцёнка. Бялькевіч, 264; Нар. слов., 174. < Мітульга – матылькі, казяўкі.

**насі́цца як мітульга́ яка́я.** *Чач.* Пра паводзіны жвавага, хуткага дзіцяці. ЖНС, 103.

***Міхал*** **бая́цца як све́нты Мі́хал д'я́бла.** *Воран. Іран. Насмешл.* Пра адсутнасць страху перад кім-н. Даніловіч, 246.

прычапі́цца як д'я́бал да святóга Міха́ла. Гл. д'ябал.

***Міхаль*** **сядзе́ць як Міхаль ад Нясві́жа.** *Стаўб. Іран.* Пра чалавека, які займае месца за сталом, што далёка ад міскі. МК, 256.

***Міцька*** **весялі́цца як Мі́цька на Ра́даўніцу.** *Карм. Няўхв.* Пра чыюсьці недарэчную весялосць. Высл., 293.

***млён*** **як млён.** *Віл.* Пра непаваротлівага чалавека. Жыв. сл., 98. < Млён – палка, якой круцяць жорны.

***млін/млын*** **мало́ць (языко́м) як пусты́ млін.** *Ваўк. п., Жытк., Кліч. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. Federowski, 176; ТС 4, 271; ДА.

**гру́кату** *дзе* **як у млі́не.** *Ваўк. п., Мін., Слон.* Пра моцны шум, гоман, грукат дзе-н. Federowski, 188; Высл., 308.

**пытлява́ць як млын.** *Ваўк. п. Асудж.* Federowski, 253. Тое, што мало́ць (языко́м) як пусты́ млін.

круці́цца як ко́ла ў млы́не. Гл. кола.

**пы́лу як у млы́не.** Пра цэлае воблака пылу. Янк., Пар., 135.

**у галаве́ як у млы́не (шумі́ць).** *Гродз.* Пра моцны шум у галаве. СПЗБ 1, 406.

цягну́ць бы конь на млы́не. Гл. конь.

язы́к лята́е як ка́мень у млы́не. Гл. камень.

***млы́навы*** лад як у млы́навым калясі. Гл. калясо.

***мо́віць*** як з кабы́лаю па́церы мо́віць. Гл. кабыла.

ху́тка як сло́ва мо́віць. Гл. слова.

як сло́ва му́віць [лёгка]. Гл. слова.

***мóгілкі*** **ісці́ як з мóгілак.** Пра павольную хаду ў журбоце, задуменні. Янк., Пар., 81.
**вусці́шна як на мóгілках.** Пра цішыню, што палохае, насцярожвае, пра бязлюднасць. Янк., Пар., 28.
**нéма як на мóгілках.** Янк., Пар., 114. Тое ж.

***мóкры*** **напáсці як на мóкрага блóхі.** *Глыб. Насмешл.* Пра напад на кагосьці нейкіх агрэсіўных, непрыязных, варожых людзей. Рабкевіч, 130.
**éсці як мóкрае гары́ць.** *Люб. Няўхв.* Пра павольнае з неахвотай спажыванне стравы. ФА.
**рабі́ць як мóкрае гары́ць.** *Астр.*, *Гродз.*, *Дзярж.*, *Івац.*, *Хоц.*, *Стаўб.*, *Стол. Няўхв.* Пра павольнае, маруднае, як бы нехаця выкананне працы. СПЗБ 4, 232; Цыхун, 197; МК, 313; ЛЦ, 130; ФА; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі.
кі́дацца як той кот, што увя́з у мóкрай глíне. Гл. кот.
як мóкраю анýчаю па зубáх. Гл. ануча.
прыцягнýцца як мóкрая мыш. Гл. мыш.
стая́ць як разі́нька мóкрая. Гл. разінька.
сшýрпіцца як мóкрая кýрыца. Гл. курыца.
як мóкрая варóна. Гл. варона.
як мóкрая кýрыца [прышла]. Гл. курыца.
накі́нуцца як на мóкрую анýчу. Гл. ануча.
узлёгчыся як на мóкрую шáпку. Гл. шапка.
усýнуцца як на мóкрую анýчку. Гл. анучка.
посýнуцца бу мóкры воўк. Гл. воўк.
як мóкрый лáпаць. Гл. лапаць.

***моль*** **завівáцца як моль.** *Слон. п. Няўхв.* Пра чалавека, які завіваецца там, дзе яго не просяць. Federowski, 351.

***мóмса*** **як мóмса тáя.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека з празмерным апетытам. Добр., Смол., 417. < Момса – чалавек, які многа есць.

***моняк*** **стая́ць як моняк.** *Лельч. Няўхв.* Пра чалавека, які нерухома стаіць. Кучук, Малюк, 75. < Моняк – маяк.

***мóра*** **Век пражы́ць – не мóра перапльі́ць.** *Прык.* Пра складанасці на жыццёвым шляху. Ахрым., 23.
выбірáцца як чáйка за мóра. Гл. чайка.
зайсці́ як чáйка за мóра. Гл. чайка.
збірáцца як птýшка за мóра. Гл. птушка.
збірáцца як сóйка за мóра ляцéць. Гл. сойка.
збірáцца як сóра за мóра. Гл. сора.
збірáцца як сóя за мóра. Гл. соя.
збірáцца як чáйка за мóра. Гл. чайка.
**шырóкая як мóра.** *Мсцісл.*, *Жытк. Ухв.* Бялькевіч, 265; Юрчанка, 191; ТС 5, 231. Тое, што вялік як мора.
**шэ́льма як бяздэ́ннае мóра.** *Асудж.* Пра вельмі ненадзейнага, здрадлівага чалавека. Ляцкий, 11.
як птáшка на мóры. Гл. пташка.

**астáцца як на мóры без вясла́.** *Мсцісл.* Пра бездапаможны стан чалавека. Юрчанка, 44.

**У дзéўкі ўма на шэ́лег нямá, а ў малайцá вéры як на мóры пéны.** *Арш. Прык.* Пра асаблівасці дзявочага і хлапечага характараў. АВНЛ.

**вяли́к як мóря.** *Смал. п. Ухв.* Пра нешта вялікае, шырокае (памяшканне, надзел зямлі). Добр., Смол., 161; Янк., Пар., 129.

***мóрда*** **адказáць як па мóрдзе даць.** *Лід. п. Вульг.* Пра востры, непрыемны, без жалю адказ апаненту. Federowski, 4.

**зачырванéцца як у мóрду дастáць.** *Слон. Вульг.* Пра пачырваненне чалавека ад нечага пачутага, успрынятага. Высл., 325.

**так як** *каму* **ў мóрду даў.** *Ваўк. п. Вульг.* Пра рэакцыю чалавека на нешта сказанае яму непрыемнае. Federowski, 189.

***мóркаў, мóрква*** **сядзéць як мóркаў у гарóдзе.** *Люб. Ухв.* Пра добра ўладкаванага чалавека. ФА.

унáдзіцца як свіння́ ў мóркву. Гл. свіння.

***мост*** **палажы́ць мастóм.** *Івац.* Пра сітуацыю, калі захварэла ўся сям’я. ЗЗайкі.

**як па масту́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра добрую, цвёрдую дарогу, глебу, па якой зручна ехаць. Юрчанка, 193.

**патрэ́бны як у масцé дзюра.** *Астр.*, *Івац. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае і нават шкоднае. СПЗБ 3, 450; ЗЗайкі.

**злажы́ць як мост.** *Няўхв.* Пра павалены бурай лес, шчыльна пакладзенае дажджом і ветрам збожжа. Ройзензон, 77.

**ляжáць кортóплі як мост.** *Жытк.*, *Сен.* Пра выараную бульбу, якая густа ляжыць на зямлі. ТС 1, 168; МК, 138.

**Пост не мост: аб’éхаць мóжна.** *Астр. Прык.* Пра магчымасць саступак і паслабленняў у час посту. ПП 1, 97.

**грукацéць бы на мóсце, як вязу́ць пусты́я бóчкі.** *Слуцк. Няўхв.* Пра моцны непрыемны грукат. Сержпутоўскі 1998, 31.

загрукацéць як абóз на мóсце. Гл. абоз.

***Мóська*** **даць як Мóська глíсніку.** *Мін. Жарт.* Пра малую колькасць нечага. ЗЯшкіна.

***мотлох*** **як мотлоху.** *Кам.* Пра вялікую колькасць чаго- альбо каго-н. ЖНС, 68. < Мотлух – попел, прах (Носович, 291).

***мох*** **сівізнá як мох на éлцы.** *Мін.* Пра моцна ссівелага чалавека. ЛЦ, 74.

сóвесць як ку́піна ў балóце – мóхам зараслá. Гл. купіна.

твар як мóхам зарóслы. *Навагр. Спачув.* Пра хворага, схуднелага, няголенага чалавека. ФА.

***мрюк*** **як мрюк.** *Кам. Няўхв.* Пра маўклівага, зацятага чалавека. ЖНС, 78.

***му́віць**, гл.* ***мовіць***

***мужы́к*** **Воўк не éўшы як мужы́к пагарэ́ўшы: што ўвíдзе, тое трэ́ба.** *Прык.* Пра галоднага ваўка, што рады любой здабычы. Ляцкий, 6.

**гáдка, як бы мужы́к, наéўшыся гнíлак, наср...ў** *каму* **ў рот.** *Рэч. Вульг.* Пра непрыемнае адчуванне ў роце пасля пераядання альбо перапою. Пяткевіч, 571.

**спяша́цца як [той] мужы́к з о́цтам.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра нейкую неапраўданую спешку. Federowski, 306. < Оцат – воцат.
**у пе́чы гары́ць так як мужы́к па жо́нцы пла́ча.** *Лях. Іран.* Пра слабаваты агонь у печы. ФА.
**го́лас то́ўсты як у до́брага мужыка́.** *Нараўл.* Пра нізкі, падобны да мужчынскага голас (часцей пра падлетка). Матэрыялы 1981, 122.

***му́жын*** **чо́рны як му́жын.** *Шальч.* СПЗБ 5, 426. < Мужын – негр.
**сядзя́ць як му́жыны.** *Трак. Няўхв.* Пра моцна забруджаных ці запыленых людзей. СПЗБ 3, 81.

***мужы́цкі*** фы́ркаць як пан у мужы́цкай ха́це. Гл. пан.

***му́зыка*** **вэджынджурэцца бы на музыку.** *Драг. Насмешл.* Пра занадта святочна ўбранага чалавека. Нар. слов., 142. < Вэджынджурытыся – прыгожа ўбрацца.

***музыка́нт*** **граць як краляве́цкі музыка́нт.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра добрую, прыгожую музыку. Federowski, 152. < Краляўц – даўнейшая славянская назва г. Кенінсберга (зараз – Калінінград).
*з каго* рабо́тнік як з свінні́ музыка́нт. Гл. свіння.

***мука́*** **бе́лы як мука́.** *Слон. Ухв.* Пра нешта вельмі белае. Высл., 286.
глядзе́ць як пацу́к з мукі. Гл. пацук.
**спаць як муку́ прада́ўшы.** Пра моцны бесклапотны сон. ФСБМ 2, 47.

***мул*** набра́цца як жа́ба му́лу. Гл. жаба.
сы́но чо́рнэ як зымля́ в му́лі. Гл. зямля.
всу́нуцца як жа́ба в му́лю. Гл. жаба.

***му́мра*** **сядзе́ць як му́мра.** *Гарад. Няўхв.* Пра маўклівага, негаваркога чалавека. СПЗБ 3, 83.

***мунішту́к*** дзяржа́ць як каня́ на мунштуку́. Гл. конь.

***мур*** **здаро́вы як мур.** *Гродз. Ухв.* Пра здаровага, моцнага, дужага чалавека. ЖН, 32; Янк., 409.
**маўча́ць як мур.** *Слон. Няўхв.* 1. Пра занадта маўклівага чалавека. 2. *Ухв.* Пра таго, хто не выдасць таямніцы. Высл., 346.
**мо́цны як мур.** *Ухв.* Янк., Пар., 104. Тое, што здаро́вы як мур.
**сі́льны як мур.** *Астр. Ухв.* СПЗБ 3,83. Тое ж.
**сядзе́ць як мур.** *Стаўб. Няўхв.* Пра нерухомага панурага чалавека. МК, 208.
**як мур.** *Гродз. Ухв.* Даніловіч, 234. Тое, што здаро́вы як мур.
**як за му́рам.** *Ухв.* Пра жыццё за добрым, надзейным мужам, начальнікам. Санько, 69.

***мурава́*** **зялёны як мурава́.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыемны зялёны колер чаго-н. Federowski, 354; Носович, 294.

***мураўё*** **сто́лькі мі́ру сабра́лася як мураўя́.** *Лоеў.* Пра вялікі збор людзей. Янкова, 194.

***мура́шачка*** **жо́нка як мура́шачка.** *Памянш.-ласк. Ваўк. п. Захапл.* Пра руплівую, працавітую жонку. Federowski, 365.
**як мура́шачка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра стараннага працавітага чалавека. Юрчанка, 191.

**сяме́йка як мура́шачкі.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра дружную працавітую сям’ю. Янк., Пар., 163.

***мура́шка*** **людзе́й як мура́шак (як мурашо́к).** *Ваўк. п., Зэльв., Слон.* Пра сабраную разам вялікую колькасць людзей. Federowski, 63; Высл., 342; Сцяцко 2005, 89; Ройзензон, 81.

**Сам як мура́шка, галава́ як ра́жка (як цэ́бар).** *Жарт.* Гратэскнае выяўленне непрапарцыянальнай чалавечай фігуры. Санько, 181.

**цягну́ць як мура́шка.** *Няўхв.* і *Ухв.* Пра чалавека, які цягне дадому, што ні трапіць. Янк., 439.

**ядаві́ты на рабо́ту ўсё ро́ўна як мура́шка.** *Сміл. Ухв.* Шатэрнік, 131. Тое, што як мура́шка.

**як мура́шка.** *Івац., Мсцісл. Ухв.* Пра стараннага, працавітага чалавека. Юрчанка, 191; ЗЗайкі.

**ле́зці як мура́шкі ў пля́шку з-пад мёду.** *Брэсц. Няўхв.* Пра людзей, што імкнуцца трапіць у прывабнае для іх месца. ЛЦ, 38.

**працава́ць як [тыя] мура́шкі.** *Лаг. Ухв.* Пра дружную, нястомную працу. Varłyha, 2.

***мура́шнік*** круці́цца як го́лы ў мура́шніку. Гл. голы.

***Му́рза*** **набра́цца** *чаго* **як Му́рза блох.** *Слон. Асудж.* Пра празмернае назапашванне чаго-н. Даніловіч, 234.

**набра́цца як Му́рза масля́нкі (жо́му, заці́ркі, кі́шак, ко́стак).** *Зэльв. Бераст., Люб. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. Даніловіч, 235.

**набра́цца як папо́ва Му́рза.** *Ваўк. п. Асудж.* Federowski, 194. Тое ж.

**папа́сці як Му́рза ў сту́дню.** *Мін. Здзекл.* Пра чалавека, што трапіў у непрыемнае, нявыкрутнае становішча. ЛЦ, 69.

**уля́пацца як Му́рза ў заці́рку.** *Іўеў. Насмешл.* Пра чалавека, што моцна, але недарэчна закахаўся ў каго-н. Даніловіч, 235.

**ума́зацца як Му́рза ў заці́рку.** *Карэл. Няўхв.* Пра выпацканага нейкай стравай чалавека. Высл., 405.

**чо́рная бы папо́ва Му́рза.** *Слуцк. Няўхв.* Пра непрыемную, неахайную жанчыну. Сержпутоўскі 1999, 19.

***мурме́ль*** **убі́ць галаву́ як мурме́ль.** *Астр. Няўхв.* Пра чалавека з панура апушчанай галавой. СПЗБ 3, 85. < Мурмель – маўклівы, негаваркі чалавек.

***муро́г*** **па́хнуць як муро́г.** *Ухв.* Пра добры прыемны пах. Янк., Пар., 126.

***му́рын*** **чо́рны як му́рын.** *Драг., Слуцк. Насмешл.* Пра вельмі смуглага ці замурзанага чалавека. Нар. лекс., 222; Сержпутоўскі 1999, 12, 13.

***му́ты*** як му́ты бара́н. Гл. баран.

***му́ха*** **бая́цца як мух узі́мку (у лю́тым).** *Іран.* Пра адсутнасць страху наогул. Янк., 396.

бая́цца як саба́ка мух. Гл. сабака.

**сядзе́ць як мух аб’е́ўшыся.** *Астр., Смарг. Няўхв. Жарт.* Пра чалавека, які сядзіць моўчкі, без жадання гаварыць. Даніловіч, 235.

трэ́сці галаво́ю як конь ад мух. Гл. конь.

хава́цца (уцяка́ць) [ад рабо́ты] як саба́ка ад мух. Гл. сабака.
**бружжа́ць што худа́я му́ха ўво́сень.** *Няўхв.* Пра таго, хто дакучае навязлівай гутаркай. Ром., Зап., I, 2/5.
**бу́іць як му́ха.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра паводзіны дакучлівага, прыставучага чалавека. Federowski, 43.
**выду́рвацца як му́ха на вар́энні (на ве́ніку, у ве́ніках, на матацы́кле, на мато́цыку, на сцяне́, на шкле).** *Дзятл., Ваўк., Гродз. Няўхв. Іран.-жарт.* Пра залішнюю празмерную сваволю каго-н., яго выстаўленне, назалянне. Даніловіч, 235.
**выду́рвацца як му́ха на сцяне́.** *Іўеў. Няўхв.* Сцяшковіч, 583. Тое ж.
**выкру́чвацца як му́ха на шкле.** *Брасл. Няўхв.* Рабкевіч, 39. Тое ж.
**выпе́ндрывацца як му́ха на матацы́кле (на шкле).** *Карэл. Няўхв.* Высл., 297. Тое ж.
**гудзе́ць як надае́длівая му́ха.** *Слон. Няўхв.* Высл., 309. Тое, што бружжа́ць што худа́я му́ха ўво́сень.
**дaку́члівы як асе́нняя му́ха пе́рад здыха́ннем.** *Мін. Кплів.* Пра надта дакучлівага, прыставучага чалавека. ЛЦ, 103.
Жыву́шчы як кот і слабы́ як му́ха. Гл. кот.
**завіха́цца (стара́цца, трапята́цца) як му́ха ў смалé (по́пеле).** *Ваўк. п., Слон. Насмешл.* Пра відавочна дарэмныя завіханні, памкненні каго-н. Federowski, 290, 351; Высл., 322.
**завя́знуць у сваі́м бага́цці як му́ха ў мёдзе / у смалé.** *Мін., Рэч. Насмешл.* Пра чалавека, які становіцца рабом свайго набытку, багацця. ЛЦ, 51.
**загі́нуць як му́ха ў смалé.** *Мін., Рэч.* Пра непазбежнасць гібелі каго-н. ЛЦ, 51.
**задава́цца як му́ха на шкля́нцы з мёдам.** *Івац. Насмешл.* Пра пустую ганарлівасць каго-н. ЗЗайкі.
**заплу́тацца бы му́ха ў павуце́не.** *Слуцк.* Пра чалавека, які трапіў у небяспечную сітуацыю. Сержпутоўскі 1999, 165.
**зла́я як асе́нняя му́ха.** *Мін. Няўхв.* Пра злосных, «кусьлівых», дакучлівых людзей. ЛЦ, 63.
**ке́шкацца як му́ха ў кісялю́.** *Паст. Насмешл.* Пра чалавека, які надта завяз у сваіх справах. СПЗБ 2, 459.
**кі́дацца як му́ха у павуці́не.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які ў жаху шукае паратунку, а яго няма. Юрчанка, 191.
**круці́цца як му́ха ў кі́пені.** *Маладз., Брэсц., Рэч., Мін.* Пра трапятанне каго-н. у дужа благой, нявыкрутнай сітуацыі. ЛЦ, 30.
**куса́цца (куслі́вая) як асе́нняя му́ха пе́рад здыха́ннем.** *Рэч. Няўхв.* ЛЦ, 71. Тое, што зла́я як асе́нняя му́ха.
**ле́зці ў во́чы як му́ха ў Спа́саўку.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра надакучлівага зласлівага чалавека. Federowski, 287.
**ле́зці як му́ха.** *Маладз. Незадав.* Пра дакучлівага чалавека, які назойліва ўмешвацца ў чые-н. справы. МК, 139.
**ле́зці як му́ха на ра́ну.** *Асудж.* Пра настырнага злоснага чалавека, што ўмешваецца ў нейчыя справы. *Ваўк. п.* Federowski, 163.

**ле́зці як му́ха ў во́чы.** *Незадав.* Dybowski, 12. Тое, што лезці як муха.
**Ляце́ў як леў, а паў як му́ха.** *Астр. Прык.* Пра чалавека, які ўяўляў сябе важным, але ў выніку аказаўся зусім нікчэмным. Сцяшковіч, 645.
**ляце́ць як му́ха на ра́ну.** *Вілен. Няўхв.* Sielicki, 159. Тое, што ле́зці як му́ха на ра́ну.
**надая́длівы як му́ха.** *Бярэз. Асудж.* Пра дакучлівага пустога чалавека. СПЗБ 3, 135.
**пама́лу (паво́льна) як му́ха на смале́.** *Насмешл.* Пра вельмі павольнае перамяшчэнне, рух. Янк., Дыял., ІІІ, 164.
**папа́сціся як му́ха ў кісе́ль.** *Насмешл.* Пра чалавека, які трапіў у нявыкрутную сітуацыю. Янк., Пар., 125.
**папа́сціся як му́ха ў саладу́ху.** *Пол. Насмешл.* АВНЛ. Тое ж.
**папа́сціся як му́ха ў сыро́ватку.** *Барыс. Насмешл.* Высл., 361. Тое ж.
**патрэ́бен як му́ха ў стра́ве.** *Ваўк. Іран.* Пра нешта зусім не патрэбнае. ЛЦ, 118.
**паўзці́ як му́ха на сыро́ватцы.** *Жлоб. Насмешл.* Высл., 363. Тое, што пама́лу (паво́льна) як му́ха на смале́.
**паўзці́ як му́ха па смале́.** *Насмешл.* Янк., Пар., 126. Тое ж.
**паўзці́ як со́нная му́ха.** *Віц., Івац. Насмешл.* Пра рух вялага, соннага, хворага чалавека. КВДУ; ЗЗайкі.
**погы́нуты як му́хы на воді́.** *Пін.* Пра нейчую непазбежную марную гібель. ФА.
**прапа́сці як му́ха ў смале́.** *Рэч. Насмешл.* Пра чалавека, які прапаў ні за што. ЛЦ, 119.
**прапа́сці як му́ха ў сы́раватцы.** *Ушацк. Насмешл.* Барадулін, 105. Тое, што прапа́сці як му́ха ў смале́.
**прылі́пнуць як му́ха да сало́дкага.** *Светл. Раздраж.* Пра надта прыставучага, дакучлівага чалавека. Высл., 371.
**ру́хацца як му́ха па смале́.** *Трак. Насмешл.* СПЗБ 4, 318. Тое, што пама́лу (паво́льна) як му́ха на смале́.
**зло́сныя (куслі́выя) як тыя му́хі ў спа́саўку (пе́рад спа́сам).** *Карэл. Няўхв.* Высл., 329. Тое, што зла́я як асе́нняя му́ха. < Спасаўка – пост у жніўні.
**сла́бы і вя́лы як перазімава́ўшая му́ха.** *Маз. Насмешл.* Пра слабога, вялага, соннага, хваравітага чалавека. ЛЦ, 89.
**со́нны як му́ха.** *Нясв. Насмешл.* Пра стан нявыспанага альбо вялага, неактыўнага па натуры чалавека. ФА.
**Стара́ дзяву́ха як асе́нняя му́ха.** *Смарг. Прык.* Пра зласлівасць старой незамужняй дзеўкі. ФА.
**ублы́тацца як му́ха ў павуці́нне.** *Насмешл.* Санько, 189. Тое, што заплутацца бы му́ха ў павуце́не.
**уле́зці (зале́зці) як му́ха ў смалу́ (па́таку).** *Ваўк. п., Капыл. Няўхв.* Пра чалавека, які неабачліва трапіў у благое становішча. Federowski, 319; Высл., 404; Янк., 408.

**улі́пнуць як му́ха ў саладу́ху.** *Карэл. Насмешл.* Высл., 405; Санько, 191. Тое ж.
**улі́пнуць як му́ха ў смалу́.** *Капыл. Насмешл.* Рабкевіч, 214. Тое ж.
**уплю́тацца як му́ха ў паўці́нне.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 321; Янк., 434. Тое, што заплутацца бы му́ха ў павуце́не.
**уско́чыць як му́ха ў кіпято́к.** *Мсцісл. Насмешл.* Юрчанка, 7. Тое, што уле́зці (зале́зці) як му́ха ў смалу́.
**у́тлы як му́ха.** *Ваўк. п.* Насмешл. Пра слабога, вялага, неактыўнага чалавека. Federowski, 323. < Утлы – слабы.
**Чалаве́к як му́ха.** *Глуск.*, *Івац. Іран.* Пра ненадзейнасць чалавечага жыцця, непазбежнасць смерці. Высл., 418; ЗЗайкі.
**Чалаве́к як му́ха: тут е, а тут нямá.** *Прык.* Federowski, 61. Тое, што чалавек як муха.
*што каму* як саба́ку му́ха. Гл. сабака.
**як му́ха ага́злівы.** *Чашн. Раздраж.* Пра назойлівага, надакучлівага, пустога чалавека. Каспяровіч, 9. < Агазлівы – надакучлівы.
**як му́ха.** *Бераст. Насмешл.* Пра кволага, слабога чалавека. Сцяшковіч, 616.
**Як му́ха: чалаве́к жыў – і ру́кі згарну́ў.** *Нясв. Прык.* СПЗБ 5, 398. Тое, што Чалаве́к як му́ха.
**як со́нная му́ха.** *Стаўб. Незадав.* МК, 318–319. Тое, што сонны як муха.
**як спа́саўская му́ха.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 198. Тое, што зла́я як асе́нняя му́ха.
пажыві́цца як саба́ка му́хаю. Гл. сабака.
**злята́цца як му́хі на ра́ну.** *Мін.*, *Чэрык. Няўхв.* Пра людзей, што збіраюцца з нядобрай карыслівай мэтай. ЛЦ, 53.
**каласэ як му́хі.** *Гродз. Няўхв.* Пра дробныя каласкі. Цыхун, 95.
**лі́пнуць як му́хі на мёд.** *Хоц. Няўхв.* Бялькевіч, 250. Тое, што злята́цца як му́хі на ра́ну.
**ляце́ць як му́хі на мёд.** *Івац.*, *Карэл.*, *Мін.* Высл., 344; ЛЦ, 92; ЗЗайкі. Тое ж.
**матыля́цца як му́хі ля све́ту.** *Клецк. Няўхв.* Пра пустую мітусню гурту людзей. Жыв. сл., 181.
**насе́сці як му́хі на цу́кар.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 113. Тое, што злята́цца як му́хі на ра́ну.
**памірáць бы аб о́сень му́хі.** *Слуцк.* Пра частыя выпадкі смерці пры нягодах, эпідэміях. Сержпутоўскі 1999, 160.
**сі́лы як у му́хі.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра вельмі слабага чалавека. Юрчанка, 174.
**сядзе́ць со́нныя як му́хі.** *Чэрык. Насмешл.* Бялькевіч, 171. Тое, што сонны як муха.
**чэзнуць як му́хі.** *Бялын.*, *Івац.*, *Лаг.*, *Лоеў.* Varłyha, 31; Яўсееў, 109; ЗЗайкі. Тое, што памірáць бы аб о́сень му́хі.
**як му́хі прыста́лі** *да каго. Паст.* Пра настырнае, дакучлівае чаплянне да каго-н. СПЗБ 1, 443.

гла́мнуць як саба́ка му́ху. Гл. сабака.

**задушы́ць як му́ху.** *Слон. п.* Пра знішчэнне каго-н. без роздуму і адразу. Federowski, 347.

*каму* пабажы́цца як саба́ку му́ху схапі́ць. Гл. сабака.

**ляце́ць як му́ху схапі́ўшы.** *Рэч. Іран.* Пра шпаркі бег каго-н. (часцей курыцы). ЛЦ, 72.

палкнуць як саба́ка му́ху. Гл. сабака.

**як му́ху з’е́ўшы.** *Шчуч. Насмешл.* Пра злоснага, незадаволенага чалавека. Арх. Гр.

***мухамо́р*** — **цвісці́ як ста́ры мухамо́р.** *Іран.* Пра знешні выгляд ужо немаладой жанчыны. ФСБМ 1, 278.

**хадзі́ць як мухамо́ра.** *Мядз. Няўхв.* Пра чалавека, які не сочыць за сваім выглядам, абыякавы, вялы. СПЗБ 3, 89.

***мучэ́нне*** — **Вучэ́нне як мучэ́нне.** *Брасл. Прык.* Пра цяжкасці навучання. Рабкевіч, 39.

***мушкет*** — До́ля як бандоля, а шча́сце як мушке́т. Гл. бандоля.

***мы́дла**, гл.* ***мыла***

***мы́ла*** — пазна́цца як свіння́ на мы́длі. Гл. свіння.

дапа́сці як дурны́ да мы́ла. Гл. дурны.

набра́цца як дурны́ мы́ла. Гл. дурны.

набра́цца як Марцін мы́ла. Гл. Марцін.

**пайсці́ як мы́ла з’е́ўшы.** *Віл., Ашм., Івац., Слуцк., Маст., Гродз., Пін. Незадав.* Пра чалавека, які адчуў незадавальненне, прыкрасць, расчараванне. МК, 313–314; Станкевіч, 711; ФА; СПЗБ 3, 92; Ззайкі; Нар. скарбы, 142.

як во́рану мы́ла, так уме́ртаму памо́жа кадзі́ла. Гл. воран.

як шы́ла ў мы́ла. Гл. шыла.

вы́йграць як Забло́цкі на мы́ле. Гл. Заблоцкі.

зарабі́ць як Забло́цкі на мы́ле. Гл. Заблоцкі.

шанцава́ць як Забло́цкаму на мы́ле. Гл. Заблоцкі.

заро́біць бы Бро́цкі на мы́лі. Гл. Броцкі.

заробыць як Бру́цкі на мы́лу. Гл. Бруцкі.

***мы́льны*** — наду́цца як мы́льны пузы́р. Гл. пузыр.

***мыт*** — *дзе* **як на мыту́ – ка́жны ві́дзен.** *Мсцісл.* Пра месца, дзе пра кожнага чалавека ўсё вядома. Юрчанка 1977, 235.

***мыхла́к*** — **жыць як мыхла́к на бе́лым сьве́ці.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра замкнёнага, асацыяльнага чалавека. Юрчанка, 1993, 252.

***мыць*** — ла́дзіцца ўсё ро́ўна як сьвёкыр пялёнкі мыць. Гл. свёкар.

не хо́чацца як свёкру пялёнкі мыць. Гл. свёкар.

***мы́чка*** — **ле́зці як мы́чка на грэ́бень.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейкую справу, што ідзе з цяжкасцю. Юрчанка, 191.

***мыш*** — **прытаі́цца як муш у кру́пе.** *Жытк. Насмешл.* Пра ўладкаванне чалавека ў дужа выгадным месцы. ТС 4, 257.

**чуць ек муш зе́рнета.** *Стол. Ухв.* Пра вялікую чуйнасць некага, успрыманне па паху. ТС 5, 304.

**ву́гінуць як ру́дые му́шы.** *Стол. Зласл.* Пра бясследнае знікненне, прападанне ні за што. ТС 1, 135.

**аблéзлы як рудáя мыш.** *Рэч.*, *Круп. Насмешл.* Пра не надта імпазантны выгляд чалавека. Высл., 279; КВДУ.
**бéгаць як мыш абсмáленая.** *Няўхв.* Пра таго, хто бесталкова мітусіцца з вугла ў вугал пры ўяўнай небяспецы. Крэмнеў, № 103.
**бéдны як царкóўная мыш.** *Чэрык.*, *Мін. Насмешл.* Пра зусім беднага чалавека. ЛЦ, 23.
**глядзéць (вы́лезці) як мыш з дражджэ́й.** *Насмешл.* Пра напаўсоннага, п'янага альбо здзіўленага чалавека. Дуб., 11; Рапановіч, 244; Нос., 24; Матэрыялы 1981, 116.
глядзéць як кóшка на мыш. Гл. кошка.
**глядзéць як мыш на крýпы.** *Чашн.*, *Чэрык.*, *Бяроз.*, *Дзярж. Насмешл.* Пра прагны, зацікаўлены позірк на што-н. ЛЦ, 70; ФА; АВНЛ.
**глядзéць як падклéтная мыш.** *Насмешл.* Станкевіч, 803. Тое ж.
**згíнуць (змарнавáцца, прапáсці) як рудая мыш [у балóце].** *Ваўк.*, *Слон. п.*, *Стаўб.*, *Рэч.* Пра марную гібель каго-н. Federowski, 354, 358, 244; Ройзензон, 71; МК, 216; Pietkiewicz, 387.
**лéзці (шчамíцца) як мыш у мякíну.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра настырнае імкненне, пранікненне каго-н. туды, дзе выгадна. Юрчанка, 182.
**мóкрая/мóкры як мыш.** *Маг.*, *Гродз. Жарт.* Пра прамоклага альбо моцна спацелага чалавека. Высл., 347; Даніловіч, 235.
**мóкры як рудáя мыш.** *Лоеў. Жарт.* ЛЦ, 72; Янкова, 312. Тое ж.
**надзьмýцца (дзьмýцца, надýцца, натапырыцца, пазірáць) як мыш на крýпы.** *Дзярж.*, *Івац.*, *Пух.*, *Сміл.*, *Карм.*, *Светл.*, *Уздз.*, *Капыл.*, *Стол. Насмешл.* Пра чый-н. надзьмуты, пакрыўджаны, незадаволены выгляд. Шатэрнік, 84, 166; Нос., 35; Сержпутоўскі 1999, 31, 88; Высл., 350; Нар. слов., 26, 58; Добр., 41; Ляцкий, 23; Мін.-Мал., 1970, 164; Высл., 350; Сцяшковіч, 616; Даніловіч, 235; Барысюк, Буян, 18; ЗЗайкі.
**надýцца як мыш на зярнó.** *Нясв.* ФА. Тое ж.
**нясмáчна (у рóце) як (бы) мыш глынýўшы.** *Здзекл.* Пра прыкрае, непрыемнае адчуванне ў роце. Янк., 418.
**пазірáць як мыш з патрэ́п'я.** *Лаг. Жарт.* Пра абыякавы позірк каго-н., хто заняў выгаднае месца. Varłyha, 903.
**папáсціся як мыш у пáстку.** *Віл. Насмешл. Здзекл.* Пра чалавека, які праз цягу да спажывы трапіў у нявыкрутнае становішча. СПЗБ 3, 435.
**пастáвіцца як мыш на крýпы.** *Гродз.* Цыхун, 187. Тое, што надзьмýцца як мыш на крýпы.
**пішчáць як мыш.** Пра нейчы тоненькі піск. Янк., Пар., 128.
**прапáсці як рудáя мыш**. *Астр.*, *Івац.*, *Шчуч. Зласл.* Пра бясследнае знікненне, прападанне ні за што. СПЗБ 4, 91; Сцяшковіч, 617; ЗЗайкі.
**прыцягнýцца як мóкрая мыш.** *Мсцісл. Здзекл.* Пра кагосьці, хто прыйшоў з вінаватым выглядам. Юрчанка 1977, 232.
**расцягнýць як мыш якýю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра лёгкую жорсткую расправу над кім-н. Бялькевіч, 126.

ско́кнуць як кот на мыш. Гл. кот.

**скра́бацца як мыш.** *Хойн. Насмешл.* Пра чалавека, які ўвесь час нешта паціху чыніць. Высл., 428.

**спаце́ць/упаце́ць як мыш.** *Лаг., Мін., Гродз. Насмешл.* Пра моцна ўпацелага чалавека. Varłyha, 142; ЛЦ, 74; Даніловіч, 235.

схапі́ць як ко́шка мыш (мы́шку). Гл. кошка.

**сядзе́ць ціха як мыш.** *Івац., Мсціsл., Гродз.* Пра чалавека, які недзе прытаіўся, сцішыўся. Юрчанка 1977, 186; Ззайкі; Даніловіч 2008, 137.

**сядзе́ць як мыш пад ве́нікам (у ве́ніку).** *Брасл., Івац., Мядз. Жарт.* Пра чалавека, які ціха, баязліва, не праяўляючы сваё «я» працягвае існаванне ў няпэўных варунках. Рабкевіч, 197; ФА; ЗЗайкі.

**сядзе́ць як мыш пад мятло́й.** *Астр., Рэч., Стаўб., Пін., Стол.* СПЗБ 3, 94; МК, 314; ЛЦ, 74; Барысюк, Буян, 25. Тое ж.

**сядзе́ць як мыш у гару́дзя.** *Ашм. Насмешл.* Пра чалавека, які засеў у выгадным для яго месцы. СПЗБ 1, 103. < Гаруд – засек.

**тра́піць як мыш у па́стку.** Санько, 188. Тое, што папа́сціся як мыш у па́стку.

**уле́зці як мыш у це́ста.** *Пух. Асудж.* Пра чалавека, які праз сваю прагнасць трапіў у нявыкрутную непрыемную сітуацыю. ЛЦ, 125.

утаро́піцца як кот у мыш. Гл. кот.

**худы́ як мыш з царквы́.** *Насмешл.* Пра беднага ці худога чалавека. Янк., 436.

ча́іцца як кот на мыш. Гл. кот.

ча́таваць як ко́шка на мыш. Гл. кошка.

**шалпата́цца як мыш.** *Стаўб., Івац. Насмешл.* Пра нейкія гукі, скрэбанне, шорах спадцішка. Нар. слов., 155; ЗЗайкі.

**ша́стаць як мыш па па́стках.** *Слон. Іран.* Пра чалавека, які чыніць нейкія дробныя, але рызыкоўныя справы. Высл., 355.

**шмы́гнуць як мыш.** *Сен. Насмешл.* Пра некага, што хутка і непрыкметна знік, схаваўся. Каспяровіч, 353.

**як мыш абсма́леная.** *Насмешл.* 1. Пра чалавека, які выглядае непрыглядна. 2. Пра нейчыя мітуслівыя паводзіны. Санько, 71.

**як мыш у па́стку ўпа́сці.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра таго, хто трапіў у небяспеку, лёгка папаўся. Federowski, 321.

гуля́ць (дражні́цца) як ко́шка з мы́шаю. Гл. кошка.

**адна́ адно́й вы́шай – і ўсе як мы́шы.** *Брасл. Іран.* Пра асоб, што выхваляюцца, не маючы на тое падстаў. Рабкевіч, 18.

**жа́рты як у мы́шы з като́м.** *Слон.* Пра благія жарты, калі аднаму пагражае смяротная небяспека. Высл., 318.

не адця́гнеш як ката́ ад мы́шы. Гл. кот.

**няма́** *каго/чаго* **як мы́шы з'е́лі.** *Карэл. Насмешл.* 1. Пра нематываваную адсутнасць чаго- альбо каго-н. 2. Пра непрыкметнае знікненне кагосьці альбо чагосьці. Высл., 357; Санько, 69.

**разбе́гчыся як мы́шы ад ката́.** *Хоц.* 1. Пра групу людзей ці жывёл, што хутка ці напалохана разбегліся ва ўсе бакі. 2. *Насмешл.*

Пра людзей, што перапалохана адмовіліся ад сваіх пазіцый. ЛЦ, 120.
**разбе́гчыся як ру́дыя мы́шы.** *Старадар.* ДА. Тое, што разбе́гчыся як мы́шы ад ката́.
**распаўзлі́сь як мы́шы, стог зъе́ўшы.** *Смал. Насмешл.* Пра людзей, што разышліся, учыніўшы шкоду. Добр., Смол., 783.
**рассы́пацца як ру́дыя мы́шы па све́це.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра людзей, што разышліся ў розныя бакі. Federowski, 259.
важдацца як кот са здо́хлай мы́шшу. Гл. кот.
насíцца як кот з мы́шшу. Гл. кот.
**ганя́ць як ру́дых мышэ́й.** *Рэч. Асудж.* 1. Пра жорсткае праследаванне каго-н. 2. Пра п’яніцу, які ганяецца за сваімі сямейнікамі. ЛЦ, 96.
душы́ць як кот мышэ́й. Гл. кот.
прыкрада́цца як кот да мышэ́й. Гл. кот.
**што мышэ́й сабра́лася.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра вялікі збор людзей. Юрчанка 1977, 241.

***мышы́ны*** каса́ як мышы́ны хвост. Гл. хвост.
мо́рква як мышы́ныя хво́сьцікі. Гл. хвосцік.

***мэршчы́на*** **ты́хо як мэршчы́на.** *Кам.* Пра незразумелую, неадпаведную моманту цішыню. ЖН, 45. < Мэршчына – хаўтуры.

***мядзве́джа*** вы́сахнуць як мядзве́джа ла́па. Гл. лапа.
усягó як у мядзве́джым ву́шку. Гл. вушка.
цёпла як у мядзве́джджым ву́шку. Гл. вушка.

***мядзве́дзь*** **жыць як вядзме́дзь у мярло́ге.** *Бран. Няўхв.* Пра непрыбранае жытло, запушчанасць гаспадаркі, адасобленасць ад людзей. Расторгуев, 159.
сябро́ўства як у ры́сі з мядзве́дзем. Гл. рысь.
**сядзе́ць як у мядзве́дзя ў ву́шку.** *Мядз.* Пра надзейнае, утульнае пачуванне. Гілевіч 2007, 138.
**абрасці́ як мядзве́дзь.** *Ваўк. п.*, *Івац. Жарт.* Пра нястрыжанага, няголенага чалавека. Federowski, 3; ЗЗайкі.
**ашчарэ́піць як мядзве́дзь.** *Жарт.* Пра чалавека, які крэпка абняў, абшчапіў кагосьці іншага. Станкевіч, 69.
**валюга́цца (варо́чацца, трашча́ць) як мядзве́дзь.** *Пух. Насмешл.* Пра чалавека, які нязграбна ходзіць ківаючыся. Шатэрнік, 42; Шпилевский, 176; Киркор, 238. < Валюгацца – хадзіць ківаючыся.
**варо́чацца/паварó́чвацца як мядзве́дзь.** *Карэл.*, *Слон. Няўхв.* Пра няўклюднага і непаваротлівага чалавека. Крэмнеў, № 126; Высл., 358; АВНЛ.
**ду́жы як мядзве́дзь.** *Ваўк. п.*, *Сміл.*, *Докш. Ухв.* Пра дужага здаровага чалавека. Federowski, 89; Шатэрнік, 89; Высл., 315.
**жы́ць як вядзме́дзь у мярло́ге.** *Бран. Няўхв.* 1. Пра жыццё ў непрыбраным памяшканні, непрыбранай хаце. 2. Пра адасобленае, замкнёнае жыццё каго-н. Расторгуев, 159.
**здаро́вы ек медзве́дзь.** *Стол. Ухв.* ЖНС, 197. Тое, што ду́жы як мядзве́дзь.

**згóрбіцца як мядзвéдзь скáчучы.** *Насмешл.* Пра сагнутую, згорбленую паставу чалавека. Янк., Пар., 72.
**кацалáпы як мядзвéдзь.** *Карэл. Насмешл.* Пра чалавека з крываватымі нагамі. Высл., 334.
**кóле ў плéчы усё рóўна як мядзвéдзь сядзíць.** *Слон. п.* Пра адчуванне цяжару, болю ў плячах. Federowski, 237.
**кудлáты як мядзвéдзь.** *Лаг.* 1. Пра непрычасанага аброслага чалавека. 2. Пра кудлатую жывёліну. Varłyha, 58.
**лáсы як мядзвéдзь на мёд.** *Мін. Насмешл.* Пра дужа ласага да нечага чалавека. ЛЦ, 92.
**мармытáць (ляжáць, мы́ркаць) як мядзвéдзь у бярлóзе (мярлóзе).** *Ваўк. п.*, *Сміл.*, *Светл. Няўхв.* Пра некага, хто не робіць, вольна разлёгся і адпачывае. Federowski, 179; Нос., 80; Шатэрнік, 155; Рапановіч, 254; Высл., 345; Станкевіч, 676.
**матáцца як мядзвéдзь.** Ляцкий, 23. Тое, што валюгáцца як мядзвéдзь.
**Мужы́к не мядзвéдзь, а мя́са аб’éсць.** *Браг. Прык.* Пра жорсткага неспагадлівага мужа. ПП 2, 643.
**непаварóтлівы як мядзвéдзь.** *Хоц.* Пра няўклюднага і непаваротлівага чалавека. Бялькевіч, 358; Матэрыялы 1981, 55.
**непаспéшны як мядзвéдзь за вераб’ём.** *Рэч.* Пра маруднага, няўклюднага і непаваротлівага чалавека. Мат. Гом., V, 173.
**панімáць** *у чым* **як мядзвéдзь у Бíбліі.** *Іран.* Пра чалавека, зусім не дасведчанага ў нейкай справе. Фед. Арх.
**пéрціся напралóм як мядзвéдзь на пáсеку.** *Брэсц. Няўхв.* Пра рух да прывабнага месца, не разбіраючы дарогі. ЛЦ, 74.
**Рабóта не мядзвéдзь: мóжна зáўтра паглядзéць.** *Прык. Жарт.* Пра магчымасць адкласці нейкую работу. Романов 1901, 68.
**старáцца як мядзвéдзь у мёдзе.** *Капыл. Іран. Насмешл.* Пра чалавека, які дзейнічае груба, абы-як, захоплены сквапнасцю. ДА.
ты завядзéш бáсам як воўк чáсам, а я за табóю як мядзвéдзь парóю. Гл. воўк.
**у жывацé як мядзвéдзь варóчаецца.** *Слон. п.* Пра стан страўніка, які ўздуўся і баліць. Federowski, 373.
**як мядзвéдзь каштарлáпы.** *Бял.* Яўсееў, 57. Тое, што кацалáпы як мядзвéдзь.
**як мядзвéдзь у бярлóзе.** *Свісл.* 1. *Ухв.* Пра бесклапотнае жыццё каго-н. 2. *Няўхв.* Пра знаходжанне ў недагледжаным памяшканні. Сцяшковіч, 616.
**Хýда дзéду без бáбы як мядзвéдзю без лáпы.** *Прык.* Пра важнасць гаспадыні ў хаце. Аксамітаў, 167; Шимановский, 473.
**хóчацца** *чаго* **як мядзвéдзю мёду.** *Насмешл.* Пра надта прагнае жаданне чаго-н. Янк., Пар., 184.

***мяжá***
паспаць як зáяц пад мяжóй. Гл. заяц.
сядзéць як зáяц пад мяжóю. Гл. заяц.
урóсшы як грýша ў мяжý. Гл. груша.

***мяздрá*** **хлеб як мяздрá.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра клейкі, ліпкі, непрапечаны хлеб. Юрчанка, 191.

***мякíна*** **Грóшы – не мякíна, а чалавéк не скацíна.** *Слуцк. Прык.* Пра патрэбу ашчадна ставіцца да грошай. Сержпутоўскі 1999, 42.
**лушаі як мякíна.** *Лаг.* Пра густую буйную перхаць. Varłyha, 65.
Дýшка не птýшка: мякíнаю не адбýдзеш. Гл. птушка.
як жыд на мякíне. Гл. жыд.
розьéсціса як свіньá на мякíні. Гл. свіння.
**браць як за мякíну.** *Ваўк. п.* Пра набыццё нечага амаль задарма. Federowski, 42.
лéзці як мыш у мякíну. Гл. мыш.
накíнуцца бы свíнні на мякíну. Гл. свіння.
**грóшай (дзéнег) як мякíны.** *Ваўк. п.*, *Рэч.*, *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць грошай. Federowski, 117; Pietkiewicz, 371; Юрчанка, 191.
**клóпату як мякíны.** *Брэсц.* Пра шматлікія клопаты. Высл., 335.
**Як з мякíны падýшка, так з нявéсты дачýшка.** *Прык.* Пра тое, што нявестка не стане для свекрыві дарагой, як дачка. Аксамітаў, 269.

***мя́куш*** **мя́кки як мя́куш.** *Смал.* Пра нешта мяккае. Добр., Смол., 426.

***мя́ла*** **пазірáць як мя́ла аблізáў[шы].** *Слон. Кплів.* Пра чалавека ў няёмкім становішчы. Высл., 359.
**папáсці як мя́ла ў кісéль.** *Насмешл.* Пра чалавека, які трапіў некуды без патрэбы на тое. Янк., 419.
насíцца як дýрань з мя́лам. Гл. дурань.
**як мя́ло.** *Гарад. Няўхв.* Пра лянівага, непаваротлівага чалавека. СПЗБ 3,103.

***мя́ліца*** **éсці як мя́ліца.** *Навагр. Злаcл.* Пра надта прагнае спажыванне ежы. Сцяшковіч, 616.

***мя́мля*** **хадзíць як мя́мля.** *Сен. Няўхв.* Пра кагосьці нерашучага, несабранага. Каспяровіч, 154.

***мянёк*** **глáдкі як мянёк (мянтýз).** *Івац. Памяншь. Ухв.* 1. Пра добра адкормленую жывёлу. 2. Пра дагледжанага сытага дзіцёнка. Янк., 402; ЗЗайкі.

***мянтáшка*** **балбатáць як мянтáшка.** *Шчуч. Няўхв.* Арх. Гр.
**язы́к хóдзіць як мянтáшка па кáсе.** *Ваўк. п.*, *Слон. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Federowski, 126; Высл., 424.
**язы́к як мянтáшка.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.

***мянтýз*** **сцíшыцца як мянтýз пад карчóм.** *Мін.* Пра кагосьці, хто затаіўся ў бяспечным месцы. ЛЦ, 58.

***мянцю́шка*** **éсці як мянцю́шка.** *Шальч. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат і непрыгожа есць. СПЗБ 3, 106. < Мянцюшка – мянташка, мешалка.

***мярлóг*** жыць як вядзмéдзь у мярлóге. Гл. мядзведзь.
**спаць як у мярлóгу.** *Віл. Асудж.* Пра непрыбраны ложак каго-н. СПЗБ 3, 107.
(мармытáць, ляжáць, мы́ркаць) як мядзвéдзь у бярлóзе (мярлóзе). Гл. мядзведзь.

***мярцве́ц*** **быць як мярцве́ц.** *Навагр.* Пра чалавека ў стане спалоху, моцнай хваробы. СПЗБ 3, 108.

**пабяле́ць ад стра́ху як мярцве́ц.** *Раснян. Спачув.* Пра стан страху, збяленне. Бялькевіч, 271.

**прибранный як мяртве́ц.** *Смал.* Пра добра, але строга і танна апранутага чалавека. Добр., Смол., 704.

***мярцвя́к*** **збяле́ць як мярцвя́к.** Пра моцна збялелага чалавека. ФСБМ 1, 137.

***мярэ́ц*** **шыць як на мярца́.** *Ваўк. п.* Пра абы-якое, нямоднае, неахайнае шыццё. Federowski, 301.

**пла́каць як па мярцу́.** *Зэльв.* Пра моцны, голасны плач каго-н. Сцяцко 1970, 99.

***мя́са*** **Вантро́ба не мя́са, а ўдава́ не дзе́ўка.** *Прык. Іран.* Пра немагчымасць замяніць мяса вантробай, а ўдаву дзяўчынай. Federowski, 326.

**дакуча́ць як сы́тае мя́са.** *Маст. Іран.* Пра надаедлівага чалавека. Даніловіч, 254.

**збры́днуць як сы́тае мя́са.** *Ваўк. п. Іран.* Federowski, 352. Тое, што дакучаць як сы́тае мя́са.

Мужы́к не мядзве́дзь, а мя́са аб’е́сць. Гл. мядзведзь.

Мужы́к не саба́ка, а мя́са вы́есць. Гл. сабака.

со́раму як у пе́ўня мя́са на шпо́рах. Гл. певень.

***мятла́*** **як метла́.** *Лоеў. Ухв.* Пра ўвішную, спрытную маладую жанчыну. Янкова, 66.

**парасёнак як метла́.** *Лоеў. Няўхв.* Пра дужа хуткае, рухлівае парася. Янкова, 167.

**право́рны як мятла́ ў рука́х.** *Ухв.* Пра энергічнага, працавітага, увішнага чалавека. ЛА, 25.

**працава́ць як мятла́.** *Рэч. Ухв.* Пра добрую, энергічную працу. ЛЦ, 30.

сядзе́ць як мыш пад мятло́й. Гл. мыш.

**чы́ста** *дзе* **як мятло́ю вы́меў.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра чысціню дзе-н. Federowski, 71.

**як мятло́ю вы́мела (змяло́, зме́цена)** *каго, што. Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Слон.* Пра абсалютнае знікненне чагосьці альбо кагосьці. Federowski, 374; Сержпутоўскі 1999, 36; Высл., 429.

***мяцёлачка*** **дзе́вычка як мяте́лычка.** *Памянш.-ласк. Смал. п.* Пра спраўную, спрытную дзяўчыну. Добр., Смол., 409.

***мяце́ліца*** **як у мяце́ліцу даро́гу знайсці́.** Пра нешта цяжкое для выканання. Ройзензон, 81.

***мяцёлка*** **ба́ба як мяцёлка.** *Стаўб. Ухв.* Пра спраўную, спрытную, жвавую жанчыну. Высл., 283.

**у любо́м дзе́ле як мяцёлка.** *Мсцісл.* Пра некага патрэбнага, прыдатнага ў любой справе. Юрчанка 1977, 234.

***мя́чык*** **адляце́ць як мя́чык.** *Памянш.* Пра нешта, некага, што раптоўна адыйшлі. Юрчанка 1998, 300.

**насі́цца як мя́чык.** *Мсцісл.* Пра дзіцянят чалавека ці хатняй жывёлы, што дурэюць, забаўляюцца, бегаюць. Юрчанка, 191.

**падскáкваць як мя́чык.** *Карэл. Ухв.* Пра энергічнае дзіця, каценя і г. д. СПЗБ 3, 451.
**перакі́нуць як мя́чык.** *Мсцісл.* Пра лёгкае выкананне нейкай справы. Юрчанка, 191.
**вáрыць ек у мешкý.** *Жытк.* Пра гарачае і вільготнае надвор'е. ТС 1, 107.

***мяшóк***

**парно ек у мешкý.** *Стол.* ТС 4, 13. Тое ж.
**скáжа сцішкá як з мяшкá.** *Астр. Няўхв.* Пра нешта нечакана непрыемнае, сказанае. СПЗБ 5, 43.
**Спадцішкá як з-пад мяшкá.** *Жытк., Мін. Прык.* Пра таго, хто спадцішка можа зрабіць благую справу. ПП 2, 326; АВНЛ; ЛЦ, 122.
**як пусты́м мяшкóм па галавé стýкнуты.** *Шчуч. Няўхв.* Пра прыдуркаватага, з дзівацтвамі чалавека. Даніловіч, 242.
**як пыльным мяшком ударany.** *Няўхв.* БПФС, 128. Тое ж.
вéзці абы сярлíвага катá ў мяшкý. Гл. кот.
**вісéць як у мяшкý.** *Гродз., Івац.* Пра надвор'е, калі туман, хмарна, бязветрана. Цыхун, 126; ЗЗайкі.
дрáцца як два каты́ ў аднóм мяшкý. Гл. кот.
**Жызьню пражы́ць як у мяшкý стаўчы́.** *Прык. Віл. Няўхв.* Пра цяжкое, беспрасветнае, нецікавае жыццё кагосьці. СЦБ, 149.
згóдны як два каты́ ў ваднóм мяшкý. Гл. кот.
круціцца як сабáка ў мяшкý. Гл. сабака.
прывéзці як катá ў мяшкý. Гл. кот.
**трымáцца як у дзірóвым (дзірáвым) мяшкý.** *Мсцісл. Асудж. Іран.* Пра чалавека, які не ўмее распарадзіцца грашыма, маёмасцю альбо не адказвае за свае словы. Юрчанка, 200.
**Умéлая пры́казка як пры мяшкý прывя́зка.** *Прык.* Пра важную ролю прыказкі ў гаворцы. Янк., 172.
як казлíныя рóгі ў мяшкý. Гл. рог.
**як у мяшкý.** *Слаўг., Слон.* Пра надвор'е, калі туман, хмарна, бязветрана. ДА; Барысюк, Буян, 14.
**Бáба што мяшóк – што палóжыш, то нясéць.** *Прык. Насмешл.* Пра пасіўную, падначаленую ролю жанчыны. Ром., Зап., I, 215.
**Жыць – не мяшóк шыць.** *Мёр. Прык.* Пра складанасці на жыццёвым веку. Нар. скарбы, 139.
**паварóчвацца як мяшóк.** *Брасл. Няўхв.* Пра непаваротлівага лянівага чалавека. СПЗБ 1, 87.
**пхаць як у благí мяшóк.** *Астр. Няўхв.* Вельмі многа даваць чаго-н., аказваць матэрыяльную дапамогу каму-н., але, як правіла, без узаемнай удзячнасці. Даніловіч, 159.
**сýнуцца як салявы́ мяшóк.** *Гродз., Зэльв. Няўхв.* Пра хаду маруднага, няспрытнага, непаваротлівага чалавека. Даніловіч, 245.
**сядзéць як мяшóк.** *Лаг. Няўхв.* Пра непаваротлівага, неактыўнага, у дадатак тоўстага чалавека. Varłyha, 29.
**тахтóліць (пхаць) як у бяздóнны (бяздэ́нны) мяшóк.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра прагнае і празмернае спажыванне ежы. Federowski, 226, 309.

**як мяшо́к з во́ўнай.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра непаваротлівага чалавека. Юрчанка, 191.

**як мяшо́к.** *Мсцісл. Насмешл.* Юрчанка, 191. Тое ж.

***мяшо́чак*** **хло́пчак споко́йны ек мешэ́чок.** *Памянш. Жытк.* Пра спакойнае, неактыўнае дзіця. ТС 5, 243.

***мяшу́лка*** **як мяшу́лка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра непаваротлівага нуднага чалавека. Юрчанка, 191.

# Н

***набздзе́ць*** сядзе́ць як мех на́бжджаны. Гл. мех.

смярдзі́ць як на́ча тхор набздзе́ў. Гл. тхор.

***набі́лкі*** пабе́гчы як чорт з набі́лак. Гл. чорт.

***набі́ты*** пазіра́ць як набі́ты саба́ка. Гл. сабака.

***набі́ць*** наро́ду як кі́ем набі́та. Гл. кій.

як калко́м набі́та [цэ́рква людзе́й]. Гл. калок.

Галава́ не жыво́т, ка́шай не наб’е́ш. Гл. жывот.

***набра́ць*** бяссло́ўны як вады́ ў рот набра́ў. Гл. вада.

маўча́ць як вады́ ў рот (у гу́бы) набра́ў (набра́ўшы). Гл. вада.

***набэ́дрыкі*** як да ку́рыцы набэ́дрыка. Гл. курыца.

ідзе́ (пасу́е, падыхо́дзіць, прыста́ла, прыхо́дзіцца) як каро́ве набэ́дрыкі. Гл. карова.

***набэ́рдзаць*** [ну й панчо́ху ро́біш]: во́чкі ўсё ро́ўна як ку́ры набэ́рдзалі. Гл. куры.

***набяга́ць*** Бяда́ як дуда́: зачне́ш дуць, аж слёзы набягу́ць. Гл. дуда.

**жыць як набяжы́ць.** *Стаўб.*, *Рас., Івац.* Пра жыццё, калі прыходзіцца жыць так, як складваюцца абставіны. МК, 89; ФА; ЗЗайкі.

***наваражы́ць*** як чорт навваро́жыць. Гл. чорт.

***наваява́ць*** так *хто* накасі́ў як не́мец наваява́ў. Гл. немец.

***наве́рх*** вы́йдзе як алі́ва наве́рх. Гл. аліва.

Пра́ўда як але́й: што ні рабі́, то яна́ наве́рх вы́йдзе. Гл. алей.

Пра́ўда як алі́ва, вы́йдзе наве́рх. Гл. аліва.

***наво́дны*** дзяўбсці́ як ку́рыцу наво́дную. Гл. курыца.

***наво́й*** **як наво́й.** *Мсцісл.* Пра тоўстага і непаваротлівага чалавека. Юрчанка, 191.

***навы́варат*** чы́сты як ко́мін навы́варат. Гл. комін.

***навя́заны*** **як навя́заный.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надакучлівага чалавека. Юрчанка, 191.

***нага́*** **абрасці́ як аве́чая нага́.** *Слуцк. Жарт.* Пра нyголенага чалавека. ФА.

патрэ́бен як саба́цы (саба́ку, саба́кі) пя́тая нага́ (ла́па). Гл. сабака.

**як хо́ча ле́вая нага́** *каго, чыя. Іран.* Пра недарэчныя, безразважныя ўчынкі, дзеянні таго, хто лічыцца толькі са сваім жаданнем. ФСБМ 2, 64.

**ісці́ як не сваі́мі нага́мі.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра хваравітае адчуванне, страту валодання сваімі канечнасцямі.

Federowski, 48, 122; Нос., 58; Сержпутоўскі 1999, 45; Юрчанка 1969, 114.

трашча́ць як арэ́хі пад нага́мі. Гл. арэх.

дурны́ як бот [парва́ны, з ле́вай нагі́]. Гл. бот.

Жані́цьба не ла́паць – з нагі́ не скі́неш. Гл. лапаць.

Прывы́чка не ато́пак: з нагі́ не скі́неш. Гл. атопак.

як Пятро́ў бот з ле́вай нагі́. Гл. бот.

**падско́чыць бы́ццам наступі́ў бо́сай наго́й на бі́тае шкло.** *Мін.* Пра вострую рэакцыю каго-н. на штосьці для яго балючае. ЛЦ, 73.

**ажані́цца як нагу́ ў бот уста́віць.** *Мядз.*, *Маст.* Пра выгодныя ўмовы жаніцьбы для жаніха. Высл., 281; ФА.

**усё гато́ва як нагу́ ў бот уста́віць.** *Сміл.* Пра камфортныя ўмовы, калі ўсё падрыхтавана і гатова. Шатэрнік, 65.

**стая́ць як на куры́най назе́.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта ненадзейнае, хісткае стаянне чаго-н. Federowski, 289.

**све́чка ек конёва нога́.** *Жытк.* Пра вялікую свечку. ТС 5, 20.

бы соба́кі рвуць за но́гі, так замо́рышса. Гл. сабака.

*каго* хоць з да́ху скінь, а ён, як кот, ста́не на но́гі. Гл. кот.

**крыча́ць як но́гі палама́ўшы.** *Капыл. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна раскрычаўся. ФА.

рад як бы бо́га за но́гі злаві́ў. Гл. бог.

як мёртвага но́гі. Гл. мёртвы.

дбаць як саба́ка аб пя́ту но́гу. Гл. сабака.

***нагаві́цы*** як дух па ганаві́цах. Гл. дух.

як саба́ццы ў ганаві́цах. Гл. сабачка.

**апусці́цца як ліхі́я (рва́ныя) ганаві́цы.** *Івац. Няўхв.* Пра абдзёртую, неахайную жанчыну. ЗЗайкі.

бе́гаць як з жа́рам у нагаві́цах. Гл. жар.

***нага́йка*** **Ла́йка не нага́йка: на пляча́х не ляжы́ць.** *Прык.* Пра адрозненне лаянкі ад бойкі, лупцоўкі. Нос., 72.

***нагуля́цца*** нагуля́цца як каза́ на вяро́ўцы. Гл. каза.

***надае́длівая*** гудзе́ць як надае́длівая му́ха. Гл. муха.

***надво́рны*** бе́гаць бу надво́рна свіння́. Гл. свіння.

***надзе́я*** **распуха́ць як пры надзе́і.** *Лаг. Іран.* Пра распаўнелага чалавека, які падобны да цяжарнай жанчыны. МК, 223.

***на́доўб*** **стая́ць як на́доўб.** *Жытк. Няўхв.* Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека, які стаіць і перашкаджае іншым. ТС 3, 124.

***на́доўбень*** **крыча́ць як той на́доўбень.** *Жытк. Няўхв.* Пра гучны, бесталковы крык. ТС 3, 124. < Надоўбень – неразумны чалавек.

***надра́ены*** **блішча́ць як надра́ены.** *Слон. Насмешл.* Пра святочна апранутага, вясёлага чалавека. Высл., 287.

***наду́цька*** **як наду́цька наду́цца.** *Віц., Леп. Насмешл.* Пра чалавека, які мае надзьмуты ці пакрыўджаны выгляд. Нікіфароўскі, 1928, 87.

***нае́сціся*** як з смарка́тым наясі́ (-ся). Гл. смаркаты.

пайсці́ як мы́ла нае́ўшыся. Гл. мыла.

***нажда́к*** пагла́дзіць як па трыбуху́ наждако́м. Гл. трыбух.

***Наза́р*** **дрыжа́ць як Наза́р над млінца́мі.** *Стол. Насмешл.* Параўнанне з нейкім агульнавядомым персанажам мясцовай показкі. ТС 2, 42.

***наза́ўтра*** **бра́цца як наза́ўтра трэ́ба.** *Няўхв.* Пра неахвотнае, марудлае распачынанне нейкай работы. Янк., Пар., 21.

**е́сці як наза́ўтра.** *Івац. Няўхв.* Пра марнатраўства часу пры спажыванні ежы. Янк., 406; ЗЗайкі.

**е́хаць як наза́ўтра.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра непаспешную, марудную язду. Federowski, 90.

**ісці́ як наза́ўтра ду́маючы.** *Люб., Слон. Няўхв.* Высл., 332. Тое, што як назаўтро ісці.

**як наза́ўтро ісці́.** *Стол. Няўхв.* Пра вельмі павольную хаду. ТС 3, 128.

***назганя́ць*** як чорт пу́гаю назганя́ў. Гл. чорт.

***назо́ла*** **прывяза́цца як назо́ла [якая].** *Беласт. Няўхв.* Пра надакучлівага чалавека. Высл., 370.

***назрыва́ць*** назбіра́ць як на вярбе́ груш назрыва́ць. Гл. вярба.

***на́йда*** **бе́гаць па двара́х як на́йда.** *Лоеў. Асудж.* Пра жынчыну-плёткарку. Янкова, 224. < Найда – магчыма, клічка сучкі.

***на́йміт*** **рабі́ць як на́йміт.** *Рэч.* Пра чалавека, які цяжка і шмат працуе, прычым не для сябе. Пяткевіч, 563.

***нака́каць*** Гало́ўка як мако́ўка, а ро́зуму як нака́кана. Гл. макоўка.

***накало́ць*** як дроў накало́ць. Гл. дровы.

***накру́чаны*** **бе́гаць як накру́чаны.** *Шчуч. Няўхв.* Пра нейчую бесперапынную і напружаную мітусню. Даніловіч 2008, 137.

***накры́цца*** як хвасто́м накры́лася. Гл. хвост.

***накры́ць*** няма́ як чорт хвасто́м накры́ў. Гл. чорт.

***налёпа*** **раз’е́хацца як налёпа.** *Смал. Няўхв.* Пра надта распаўнелага чалавека. СЦБ, 240. < Налёпа – клей, завараны з мукі.

***налі́ва́ны*** **як налі́ва́ныя [цяля́ты].** *Ухв.* Пра сытых, дагледжаных цялят. Янк., 446.

***налі́то́к*** **харо́шая дзе́ўка як налі́то́к.** *Рэч. Ухв.* Нар. слов., 161. < Наліток – сакавітая, спелая садавіна.

***налі́ты*** **як чым-та налі́та.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра тоўстую бясформенную жанчыну. Юрчанка 1998, 14.

**азы́злы чалаве́к як вадо́й налі́ты.** *Ашм. Няўхв.* Пра нездаровага, ацёчнага чалавека. СПЗБ 1, 69. < Азызлы – апухлы.

**як налі́ты.** *Брасл. Ухв.* Пра чалавека дагледжанага, напоўненага здароўем. СПЗБ 3, 158.

**як со́кам налі́ты.** *Мсцісл. Ухв.* Юрчанка, 198. Тое ж.

***налі́ўка*** **дзе́ці як налі́ўкі.** *Лаг. Ухв.* Пра поўных, дагледжаных дзяцей. Varłyha, 73.

***на́лпа**, гл.* ***малпа***

***нама́заць*** як мёдам нама́зана *каму дзе*. Гл. мёд.

***намалёваны*** **така́ харо́ша гэ́бы намалёвана.** *Пін. Захапл.* Пра прыгожую, прывабную дзяўчыну, жанчыну. ФА.

**гу́бкі як намаліва́ны.** *Стаўб. Ухв.* Пра нейчыя яркія сакаўныя вусенкі. МК, 22.

сядзе́ць як намалёваны све́ты. Гл. святы.

***наме́тка*** **бе́лы як наме́тка.** Пра чалавека, збялелага ад чагосьці. Янкоўскі 1971, 111.

***намы́лены*** **вы́слізнуць як намы́лены.** *Слон. Здзекл.* Пра чалавека, які лоўка выкруціўся з пэўных абставін. Высл., 298.

***на́нава*** як на́нава на свет нарадзі́ўся. Гл. свет.

***на́нач*** узя́цца як маро́з на́нач. Гл. мароз.

***на́няты*** **браха́ць як наня́ты.** *Слон.*, *Рэч. Асудж.* Пра чалавека, які ўпарта і нястомна лжэ, нібы за плату. Высл., 288; ЛЦ, 46.

**крыча́ць як наня́ты.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра голасны, рэзкі, старанны крык. Federowski, 154.

**лгаць як наня́ты.** *Асудж.* Янк., Пар., 96. Тое, што брахаць як наняты.

**рабі́ць як наня́ты.** *Ваўк. п.*, *Клецк.* Пра цяжкую працу пад прымусам. Federowski, 254; Высл., 379.

***напі́цца*** трэ́ба як вады́ напі́цца. Гл. вада.

як вады́ напі́цца. Гл. вада.

***напла́каць*** даць як кот напла́каў. Гл. кот.

ро́зуму то як кот напла́каў. Гл. кот.

як кот напла́каў. Гл. кот.

так памо́жа як саба́ка напла́ча. Гл. сабака.

***напха́ць*** ця́жа як зяле́за ўсёдна напха́на. Гл. зялеза.

***нара́*** пага́ўкаць як [той] саба́ка на лісі́ную нару́. Гл. сабака.

у нача́льства як у барсука́ – у адну́ нару́ пяць вы́ хадаў. Гл. барсук.

сядзе́ць як барсу́к у нары́. Гл. барсук.

***наравíсты*** не падступі́цца бы к наравí́стай кабы́ле. Гл. кабыла.

заця́цца як наравí́стая кабы́ла. Гл. кабыла.

паны́ бы наравí́стая кабы́ла. Гл. кабыла.

як пе́вень наравí́сты. Гл. певень.

***нарадзі́цца*** рад як на свет нарадзі́ўся. Гл. свет.

як другі́ раз на свет нарадзі́ўся. Гл. свет.

як на́нава на свет нарадзі́ўся. Гл. свет.

**глядзе́ць як то́лькі што нарадзі́ўшыся.** *Няўхв.* Пра чалавека, які робіць выгляд, што сутыкаецца з нечым упершыню. Ройзензон, 69.

**як сяння радзі́ўся.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які нічога не разумее. Юрчанка, 174.

***наро́г*** **зу́бы як наро́гі.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра моцныя, вострыя зубы некага. Federowski, 361.

***нары́тнік*** ідзе́ як сьвіньні́ нары́тнік. Гл. свіння.

***нары́ца*** **наду́цца як нары́ца.** *Івац. Няўхв.* Пра кагосьці надутага, пакрыўджанага. ЗЗайкі.< Нарыца – свішч, нарыў ў каня.

***насе́ннік*** **дітэ́ бы той насі́ннык.** *Драг. Ухв.* Пра дагледжанае сытае дзіця. Лучыц-Федарэц, 222.

***насе́чка*** **мо́рда як насе́чка.** *Слуцк. Няўхв.* Пра пабіты воспай непрыглядны твар. Сержпутоўскі 1999, 94.

***насе́яць*** **грыбо́ў як насе́яна.** *Слон. Ухв.* Пра вялікае мноства грыбоў. Высл., 308.

**як насе́яна.** *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць нечага. Юрчанка, 192.

***насíць*** Бóга прасíць, што рэ́шатам вадý насíць. Гл. рэшата.
бы́та яго чэ́рці нóсяць. Гл. чорт.

***насланнё*** **навалíцца як насланнё.** *Лаг. Няўхв.* Пра цяжкі збег абставін, нядобрае стаўленне да чалавека, нібы пад дзеяннем чараў. Varłyha, 75.
**прыскóчыць** *куды* **як насланнё.** *Пол.* Пра з'яўленне кагосьці нечаканага, небяспечнага, непажаданага. Высл., 371.

***насланóё*** **прыстáць як насланóё.** *Карэл. Няўхв.* ЖН, 59. Тое, што навалíцца як насланнё.

***насмáлены*** **блішчáць як насмáлены.** *Жарт.* Пра нешта, некага ў добрым стане. Янк., Пар., 18.

***насóк*** **каласкí як камарóвыя наскí.** *Памянш. Слон. Жарт.* Пра вельмі малыя каласкі, неўрадлівае збожжа. Высл., 333; Янк., 411.
**Зімóвы дзянёк што камарóў насóк.** *Памянш. Прык.* Пра кароткі зімовы дзень. БФМ, 238.
**малю́сенькі як камарóвы насóк.** *Памянш. Жарт.* Пра нешта вельмі маленькае. Янк., 414.

***наср...ць*** Галóўка як мáкаўка, а рóзуму як наср...на. Гл. макаўка.
гáдка, як бы мужы́к, наéўшыся гнíлак, наср...ў камý ў рот. Гл. мужык.
пагáна бы начэ́ кот наср...ў на сэ́рца.
**цéшыцца як хто ямý ў кішэ́ню наср...ў.** *Ваўк. п. Вульг. Насмешл.* Пра чалавека, які цешыцца з пустога. Federowski, 58.

***наступíць*** падскóчыць бы́ццам наступíў бóсай нагóй на бíтае шкло. Гл. нага.
падскóчыць бы́ццам наступíў пятóй на цвік. Гл. пята.

***Настýся*** **разорвáты як Настýся кýрыцу.** *Пін.* З апавядання пра Настусю, якая адной сваёй нагой стала на нагу курыцы, пацягнуўшы за другую. ФА.

***насы́паць*** панёсся як жáру пад хвост насы́палі. Гл. жар.
як мáкам насы́пана (пасы́пана) *чаго.* Гл. мак.
**як насы́пана.** *Мсціел.* Пра вялікую колькасць чаго-н. Юрчанка 1998, 24.
нáчай сóлі мне хто ў вóчы насы́паў. Гл. соль.

***натанцавáцца*** так нарóбіць як п'я́ны натанцýецца. Гл. п'яны.

***нацíна*** **змарнéць (валíцца) як нацíна.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які слабее, вяне. Federowski, 358, 326.
**нíкнуць як нацíна.** *Няўхв.* Янк., Пар., 114. Тое ж.
**ýтлы як нацíна.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра слабага, вялага, нямоцнага чалавека. Federowski, 323. < Утлы – слабы.
**як нацíна.** *Нясв., Мсціел.* Пра нешта вельмі тонкае. СПЗБ 3, 193; Юрчанка, 192.

***нацíнка*** як нацíнка. *Памянш.* Пра некага вельмі худога, кволага, слабага. Даніловіч, 237.

***начавáць*** у рóце як сарóкі начавáлі. Гл. сарока.
як кóшкі ў хáце начавáлі. Гл. кошка.

***начáльнік*** **паслухмя́ны як пéрад бóльшым начáльнікам.** *Насмешл.* Пра некага залішне паслухмянага, рахманага. Янк., Пар., 125.

**гро́зны як пе́рад ме́ншым нача́льнікам.** *Насмешл.* Пра залішне грознага, строгага чалавека. Янк., 403.

***начва́ч***

**стая́ць як начва́ч які.** *Гродз. Няўхв.* Пра чалавека з вялікім жыватом. Цыхун, 11. < Начоўкі (*перан.*) – вялікі жывот.

***начо́ўкі***

**як у начо́ўках** *дзе. Мсцісл. Жарт.* Пра нерухомае знаходжанне каго-н. дзе-н. Юрчанка, 174.

**жыво́т як начо́ўкі.** *Гродз., Сміл. Насмешл.* Пра вялікі жывот. Шатэрнік, 234; Станкевіч, 955; Цыхун, 10.

***начы́нка***

хлеб з мякі́нкай як піро́г з начы́нкай. Гл. пірог.

***начы́шчаны***

блішча́ць як начы́шчаны пята́к. Гл. пятак.

***нашко́дзіць***

вы́скачыць як нашко́дзіўшы саба́ка. Гл. сабака.

уцячы́ як нашко́дзіўшы кот. Гл. кот.

***не́ба***

браха́ць як саба́ка на не́ба. Гл. сабака.

**вясёлы як у не́ба ўзя́ты.** *Паст. Ухв.* Пра шчаслівага, задаволенага чалавека. СПЗБ 5, 553.

**далёка як да не́ба.** *Чэрв., Пін.* Пра вялікую дыстанцыю, што дзеліць рэчы, людзей і даты. Мін.-Мал., 1977, 29; Нар. скарбы, 146.

**ждаць як з не́ба пасланца́.** *Ваўк. п.* Пра чаканне добрых вестак. Federowski, 364.

пайсці́ ўго́ру як цыга́н па драбі́нах на не́ба. Гл. цыган.

**сі́ні як не́ба.** *Ухв.* Пра нешта прыемнага сіняга, блакітнага колеру. Янк., Пар., 147.

**так падо́бна як не́ба да зямлі́.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта зусім непадобнае. Federowski, 209.

тра́піць як па́льцам у не́ба. Гл. палец.

трэ́ба як воўк на не́ба. Гл. воўк.

уба́чыць як свіння́ не́ба. Гл. свіння.

як гром з я́снага не́ба. Гл. гром.

**як да не́ба.** *Мсцісл.* Юрчанка, 182; ТС 3, 177. Тое, што далёка як да неба.

**як з не́ба зваліўся.** *Бар., Мсцісл. Няўхв.* 1. Пра чалавека, які не разумее простых рэчаў. 2. Пра нейчае нечаканае з’яўленне. АВНЛ; Юрчанка, 184.

**як з не́ба спаў.** *Ваўк. п.* Federowski, 287. Тое ж.

**як не́ба з зямлёй.** *Лід., Стаўб.* Пра нешта, некага зусім розных, процілеглых. МК, 311.

**як не́ба і зямля́.** *Мсцісл.* Юрчанка 1977, 237. Тое, што як неба з зямлёй.

адзін як ме́сячык у не́бе. Гл. месячык.

бага́та як зо́рак на не́бе. Гл. зорка.

пра́ўда як Бог на не́бе. Гл. Бог.

**така́я до́ля, як у не́бе сто́ля.** *Стол. Іран.* Пра адсутнасць у чалавека добрай долі. ТС 2, 30.

така́я пра́ўда як жураўлі́ ў не́бе. Гл. журавель.

трэ́ба як воўк на не́бе. Гл. воўк.

як бог на не́бе, так пан на зямлі́. Гл. Бог.

**дóбра як у нéбі.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра стан поўнага задавальнення, шчасця. Federowski, 78.

**Дóля, дóля як у нéбі стóля – немá ў нéбі стóлі, немá ў менé дóлі.** Тое, што такáя дóля як у нéбе стóля.

хадзíць як лунь па нéбу. Гл. лунь.

***небагáта*** Лоб што лапáта, ды рóзуму небагáта. Гл. лапата.

***недарэ́заны*** крычáць як свіння́ недарэ́заная. Гл. свіння.

**крычáць як недарэ́заны.** *Лід. Няўхв.* Пра вельмі моцны, нястрыманы крык. Даніловіч, 238.

***нежывы́*** **éсці як нежывы́.** *Івац.*, *Міл. Няўхв.* Пра чалавека, які марудна і доўга есць. Бялькевіч, 169; ЗЗайкі.

**ляжáць як нежывы́.** *Сміл.* Пра нерухомага, апатычнага чалавека. Шатэрнік, 17; Federowski, 161.

**хадзíць як нежывы́.** *Ваўк. п.*, *Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які павольна, марудна перасоўваецца. Federowski, 48; ЗЗайкі.

***нéмец*** **накасíць як нéмец наваявáў.** *Кліч. Іран.* Пра чалавека, які мала накасіў. Высл., 397.

**скупы́ як нéмец.** *Няўхв.* Пра скупаватага, педантычнага чалавека. Dybowski, 17.

**калупáцца як нéмец.** *Гом. Няўхв.* Пра надта педантычнага чалавека, які робіць усё празмерна метадычна і дасканала. Высл., 333.

**дурны́ як сем нéмцаў.** *Зэльв. Няўхв.* Пра не надта разумнага чалавека. Даніловіч, 249.

**нарвáцца як нéмцы на засáду.** *Лід.* Пра траплянне ў непрыемную сітуацыю. Высл., 281.

***нéмчык*** **круцíцца як нéмчык.** *Ушацк.* Пра чалавека, якому даводзіцца праяўляць актыўнасць. ЖНС, 145. < Немчык – ваўчок.

***нéмы*** **маўчáць як нéмы.** *Ваўк. п.*, *Бялын.*, *Мсцісл.* Пра чалавека, які не выдае сакрэтаў. Federowski, 180; Санько, 153; Юрчанка 1977, 182; Яўсееў, 18.

***непатрэ́бнік*** **зажуры́цца ек бóжы непотрэ́бнік.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які трымаецца асобна, лічыць сябе непатрэбным. ТС 2, 96.

стоя́ць ек бóжы непотрэ́бнік. *Жытк.* ТС 3, 192. Тое ж.

***непрыкáянны*** **хадзíць як непрыкáяны.** *Слаўг.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, не занятага справай, кагосьці негаспадарлівага. Нар. слов., 78; Юрчанка 1998, 220.

**шлы́ндаць [па дварáх] як непрыкáянны.** *Чав. Няўхв.* Нар. слов., 135. Тое ж.

***непрытóмны*** **бéгаць як непрытóмны.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які бязмэтна ходзіць, бегае, валочыцца. Шатэрнік, 180.

**валáндацца бы непрытóмны.** *Слуцк. Няўхв.* Сержпутоўскі 1999, 44. Тое ж.

**валачы́цца па свéту бы непрытóмны.** *Слуцк. Няўхв.* Сержп., 26. Тое ж.

**мармытáць як непрытóмны.** *Сен. Няўхв.* Пра невыразную, няўцямную гаворку каго-н. Каспяровіч, 211.

**хадзі́ць як непрыто́мны.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1999, 51. Тое, што бегаць як непрытомны.

**як непрыто́мны.** НН, 470. Тое ж.

***не́рат*** улéзці як шчупа́к у не́рат. Гл. шчупак.

во́льны як ры́ба ў не́раце. Гл. рыба.

**Пупа́сці як у не́рыт: ні ўзад, ні ўпе́рыд.** *Касц. Прык.* Пра чалавека, які трапіў у безвыходнае становішча. Бялькевіч, 455.

***не́сці*** Ба́ба што мяшо́к – што пало́жыш, то нясе́ць. Гл. мяшок.

ідзе, ро́ўна вядро́ на галаве́ нясе́. Гл. вядро.

Наву́ка не горб, за пляча́мі не нясці́. Гл. горб.

***нетачо́ны*** Людзі́на невучо́ная як сякі́ра нетачо́ная. Гл. сякера.

чалаве́к невучо́ны як тапо́р нетачо́ны. Гл. тапор.

***неўмыва́цька*** напада́ць як пчо́лы на неўмыва́цьку. Гл. пчала.

***не́хаця*** **е́сці як не́хаця.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які есць без апетыту, неахвотна. Высл., 318.

***Нёман*** **як у Нёман ка́нуць.** *Маст.* Пра бясследнае знікненне каго-н. Даніловіч, 259.

***ні́ва*** **Жызнь шчо ні́ва, усё бува́е.** *Прык.* Пра разнастайнасць жыццёвых праяў. БФГ, 171.

**На вяку́ як на до́ўгай ні́ве: зе́лля, яко́га хо́чаш.** *Сен.*, *Ваўк. Прык.* Пра разнастайнасць жыццёвых праяў, а таксама пра вельмі розных людзей, якія трапляюцца чалавеку на яго жыццёвым шляху. АВНЛ; ЛЦ, 113.

***ні́гер*** **чо́рны бы ні́гер.** *Драг.*, *Слуцк.* Пра некага цёмнага, смуглага, загарэлага. Нар. лекс., 222; Сержпутоўскі 1999, 12, 13.

***ніізьве́сна*** **як ніізьве́сна хто.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які трымаецца не так, як усе, моцна вылучаецца. Юрчанка 1998, 58.

***ні́тачка*** **Бяда́ па бядзе́ як па ні́тацці ідзе́.** *Памянш. Валож.*, *Рэч.*, *Смарг.*, *Лаг. Прык.* Пра беды, што змяняюць адна адну ў жыцці чалавека. Tyszkiewicz, 430; Шпилевский, 176; Dybowski 6; Нос., 12; Federowski, 251; МК, 150; СЦБ, 236.

**як па ні́тацці** *перад кім* **хадзі́ць.** *Памянш. Гродз.* Пра чалавека, які трымаецца дысцыплінавана, пакорліва. Цыхун, 31.

**як ні́точка.** *Памянш. Смал. п. Спачув.* Пра моцна худога чалавека. Добр., Смол., 488.

***ні́тка*** **то́ненькі як ні́тка.** *Лаг.* Пра тоненькага, схудалага чалавека. Гілевіч, 52.

**як ні́тка з іго́лкай: куды́ ён, туды́ і яна́.** *Рэч.* Пра дружных, спагадлівых сужонкаў. ЛЦ, 84.

**Ад сьні́ткі но́гі як ні́ткі.** Пра некаларыйнасць веснавой стравы бедных, што не маюць хлеба, а харчуюцца сніткай. Варлыга, 15.

**збльі́тацца як ні́ткі.** *Няўхв.* Пра заблытанасць нейкай справы. Янк., 408.

***ні́цы*** наравíць *каму* як ні́цай ску́лкі. Гл. скулка.

**хадзі́ць як ні́цы.** *Няўхв.* Пра згорбленага, няўпэўненага чалавека, які нібы прызнае якуюсь віну. Станкевіч, 775.

***ніць*** **як ніці плёнтаць.** *Бераст. Няўхв.* Пра нелагічную, блытаную гаворку. Даніловіч, 238. < Плёнтаць – параўн. польск. plątac ‘блытаць, зблытваць’.

***нічóга*** **худы́ як нікóлі нічóга не éўшы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека. Federowski, 55.

**як тры дні нічóга не еў.** *Краснап. Няўхв.* Пра вельмі галоднага чалавека. Бялькевіч, 233.

***нóвы*** одзéцца ек нóва копéйка. Гл. капейка.

вóчы вы́рачыць як вол на нóвае шýла. Гл. вол.

Гóра як зеллё: кóлькі не рві – кóжны год нóвае. Гл. зелле.

глядзéць як бык на нóвае шýла. Гл. бык.

як нóвая капéйка. Гл. капейка.

прапáсці як нóвая сарóчка з плóту. Гл. сарочка.

як нóвы стол. Гл. стол.

як нóвый гры́веннік. Гл. грывеннік.

стая́ць як у нóвых бóтах. Гл. бот.

глядзéць як барáн на нóвыя варóты. Гл. баран.

прапáсці як <нóвыя> трусы́ з плóту. Гл. трусы.

***нóгаць*** **малю́сенькі як нóгаць.** *Слон. п.* Пра нешта вельмі малое. Federowski, 177.

***нож*** дрыжáць як вярóўка пéрад нажóм (нóжыкам). Гл. вяроўка.

**рэ́заць языкóм як нажóм.** Пра вострыя, калючыя, непрыемныя словы. Янк., 425.

**сэ́рца як нажóм крóіць.** Пра чалавека, які моцна нешта перажывае. Санько, 186.

**як нажóм па сэ́рцы** *каму. Няўхв.* Пра што-н. непрыемнае, нясцерпнае, такое, што выклікае душэўны боль. ФСБМ 2, 70.

**як нажóм па шы́і.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нейкае вельмі вострае патрабаванне. Federowski, 301.

**як нажóм адрэ́зала.** *Мсцісл., Івац.* Пра рашучы адказ, спыненне чагосьці ці кагосьці. Юрчанка, 191; ЗЗайкі.

**лёгка як нож у бýлку.** *Мсцісл.* Пра простае, лёгкае выкананне работы. Юрчанка, 174.

**рэзýчы ек нож.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека з вострым характарам. ТС 4, 346.

як бы на *чыё* гóрла нож гастры́лі. Гл. горла.

**як нож у сэ́рца ўбіў.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які нечым вельмі моцна ўразіў субяседніка. Federowski, 273.

**як шавéцкі нож – і бóты шыць, і бýльбу крышы́ць.** *Ушацк.* Пра чалавека альбо прадмет, здатных на розныя функцыі. Барадулін, 89.

***нóжні*** глядзéць як аўцá з-пад нóжняў. Гл. аўца.

***нóжык*** **язы́к што нóжык.** *Раг.* Пра нейчы надта востры язык. АВНЛ.

дрыжáць як вярóўка пéрад нóжыкам. Гл. вяроўка.

***нóраст*** трýцца перадáмі як ры́ба ў нóраст. Гл. рыба.

***нос*** **як на нос.** *Мсцісл.* Пра адзенне, абутак, выразна замалыя. Юрчанка, 192.

**блі́зка як пад но́сам.** Пра нешта, што знаходзіцца зусім блізка перад чалавекам. Янк., Пар., 17.

**прыкме́тны як з абдзёртым но́сам.** Пра кагосьці, хто праз нейкую прыкмету вылучаецца з натоўпу. Янк., Пар., 135.

патрэ́бны там як валассё ў но́се. Гл. валассё.

***ноч*** **бры́дка як ноч.** *Беласт. Няўхв.* Пра жанчыну непрыгожую, цёмную тварам, змрочную. Высл., 288.

**дожч бы в рабіно́ву ноч.** *Івац.* Пра вялікі дождж з бурай. ЖН, 8.

до́ўгі як пілі́паўская ноч. *Глуск.* Пра нешта вельмі доўгае і працяглае. Янк., Дыял., III, 157.

**стра́шны як ноч.** *Нясв.* Пра некага альбо нешта страшных, змрочных, трывожных. ФА.

**так цёмна [зрабі́лася] як ноч.** *Чэрык.* Пра наступленне цемнаты ўдзень, прыкладам, перад бурай. Высл., 397.

**цёмна ек ноч.** *Жытк. Няўхв.* Пра неадукаваную, недалёкую жанчыну. ТС 5, 268.

**чо́рны як асе́нняя ноч.** *Няўхв.* Пра нешта вельмі цёмнае, да чарнаты. Янк., Пар., 192.

**чо́рны як ноч.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 66. Тое ж.

як дзень і ноч. Гл. дзень.

**як цёмная ноч** *каму што. Астр.*, *Івац.* Пра нешта незразумелае каму-н. Даніловіч, 262; ЗЗайкі.

**як цёмная ноч.** *Слон. Няўхв.* 1. Пра некага прыгнечанага, расстроенага, засмучанага. 2. *Свісл.* Пра некага моцна п’янага. Даніловіч, 262.

**я́сна як цёмная ноч.** *Паст. Іран.* Пра зусім няясную сітуацыю. Высл., 432.

вы́рачыць во́чы як жа́ба з но́чы. Гл. жаба.

так падо́бна як дзень да но́чы. Гл. дзень.

***но́чвы*** распусці́цца як ба́ба над но́чвамі. Гл. баба.

**рассе́сціся як у но́чвах.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нерухомае, заціснутае сядзенне. Юрчанка, 175.

***нуда́*** **ісці́ як нуда́.** *Воран. Няўхв.* Пра павольную, ціхую хаду. Сцяшковіч, 617.

***ны́рка*** **абрасці́ як ны́рка ў са́ла.** *Сак. п.*, *Слон. Ухв.* Пра жыццё вельмі добрае, у поўным дастатку. Federowski 3; Высл., 280.

**жыць як ны́рка ў са́ле.** *Бераст.*, *Смал. п., Астр.*, *Ашм.*, *Бераст.*, *Іўеў. Ухв.* Добр., 5; Сцяшковіч, 617; Даніловіч, 242. Тое ж.

як ма́слам па ны́рках. Гл. масла.

***Нэсьцю́р*** **наду́вся бы Нэсьцю́р до кры́жа.** *Драг. Насмешл.* Пра некага надзьмутага, пакрыўджанага, насупленага. Скарбы, 93.

***нябе́сны*** чака́ць як ма́нны нябе́снай. Гл. манна.

***нябо́жчык*** **галасі́ць як нябо́жчыка хава́е.** *Глуск. Няўхв.* Пра моцны галасны плач. Мат., 180.

**вычы́тваць (галасі́ць) як па нябо́жчыку.** *Слон. Няўхв.* Высл., 299. Тое ж.

*каму* **таго́ жа́лю як па нябо́жчыку кра́лю.** Кажуць, калі той, каго аплакваюць, таго не варты. Federowski, 288.

***нявéста*** як з казы́ (свінні́) нявéста (ухажóрка). Гл. каза.

***нявíнны*** як нявíнная авéчка. Гл. авечка.

***нявóльнік*** **Госць што нявóльнік: ся́дзе там, дзе ска́жуць.** *Хоц.* Пра падпарадкаванае становішча госця. ЛЦ, 91.

**госць як (што) нявóльнік.** *Слуцк.* Матэрыялы 1981, 116; Сержпутоўскі 1999, 35. Тое ж.

**Госць як нявóльнік: ляжы́ць, хоць і ў пяры́ну палóжуць.** Нос., 29. Тое ж.

***нявы́валака*** **ісці́ як нявы́валака.** *Ушацк. Няўхв.* Пра павольнага, неакуратнага чалавека. Нар. слов., 171. < Нявывалака – той, хто ўсё робіць вельмі марудна.

***нядзéля*** Яды́ як на дзяды́, а рабóты як у нядзéлю. Гл. дзяды.

***нядóеная*** бляя́ць як каза́ нядóеная. Гл. каза.

раўсці́ (рыка́ць) як нядóеная карóва. Гл. карова.

спяша́цца дадóму, бы́ццам у кагó кýры нядóеныя. Гл. куры.

***няма́заны*** скрыпéць (рыпéць) як няма́занае кóла. Гл. кола.

ну й гыласóк – скрóгыт, як з калёс німа́зыных. Гл. калёсы.

разьéхацца як калёсы няма́заныя. Гл. калёсы.

скрыпéць бы нема́заныя калёсы. Гл. калёсы.

***нямéцкі*** сядзéць як на нямéцкай ка́зані. Гл. казань.

***нямкó*** **маўча́ць як нямкó.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які ўвесь час маўчыць. Юрчанка 1977, 182.

***ня́нька*** як гнёт на ня́ньку (канóплі). Гл. гнёт.

***няпра́ны*** пражы́ць за кім як непра́ны мех. Гл. мех.

хадзíць як няпра́ны мех. Гл. мех.

***нярэ́заны*** як нярэ́заных саба́к. Гл. сабака.

***Нясвíж*** сядзéць як Міха́ль ад Нясвíжа. Гл. Міхаль.

***нячы́сты*** **танцава́ць бы ты́е нечы́стые.** *Стол. Асудж.* Пра сучасныя танцы, незразумелыя старэйшым сваімі тэмпам і фігурамі. ТС 3, 201.

***нячы́сцік*** **сказа́ў як нячы́сцік плю́нуў.** *Асіп. Няўхв.* Пра нешта сказанае благое, злое, блюзнерскае. АВНЛ.

***няшча́сце*** **загнýцца як паўтара́ няшча́сця.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які набыў нейкі варты жалю выгляд. Federowski, 137.

# О

***óбліты**, гл. **абліты***

***обмéрзлэ**, гл. **абмёрзлы***

***обрата́нт*** **здорóвый як обрата́нт.** *Кам.* Пра чалавека атлетычнага складу. ЖН, 45.

***óбрус*** **глізóвы хлеб як óбрус.** *Жытк. Няўхв.* Пра хлеб благой выпечкі. Нар. слов., 305. < Глізовы хлеб – ацеслівы; обрус – брусок.

***óбух**, гл. **абух***

***О́йча*** **вéдаць** *што* **як О́йча наш.** *Астр. Гродз.* Пра дасканалае веданне чагосьці напамяць. Даніловіч, 239.

***о́лава*** **цяжкі́ як о́лава.** *Ваўк. п.* Пра нешта цяжкае, важкае, прадмет ці рэч з вялікай удзельнай вагой. Federowski, 57.

***оле́шына**, гл.* ***але́шына***

***о́лупень*** **стаць бы о́лупень.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека не зусім разумнага, што выклікае не надта добрае ўражанне. ТС 3, 256.

***Оме́лька*** **семе́йка ек у Оме́льке.** *Жытк. Насмешл.* Пра шматлюдную сям'ю. *Жытк.* ТС 5, 28. < Гл. таксама Семеечка маленечка у нашого Омелечка: вон да вона, стары да стара, дзве Насці на басці і дзве Хрысці на вісці.

***ону́чніца**, гл.* ***анучніца***

***о́сень**, гл.* ***восень***

***осто́пок**, гл.* ***астопак***

***о́цат**, гл.* ***воцат***

# П

***паабе́даць*** Радні́ як мардвы́, а паабе́даць не́йдзе. Гл. мардва.

***пабе́гчы*** Рабо́та не за́яц – не пабяжы́ць. Гл. заяц.

***пабіра́нне*** пле́сціся як у свя́та ста́рцы на пабіра́нне. Гл. свята.

***пабі́ты*** пайсці́ як пабі́ты саба́ка. Гл. сабака.

уцячы́ як пабі́ты саба́ка. Гл. сабака.

**спаць як пабі́тыя.** *Гродз.*, *Навагр.* Пра вельмі моцны, беспрабудны сон. Даніловіч, 239.

**як пабі́тыя.** *Навагр.* Пра кароў, якія пасвяцца на адным месцы. Даніловіч, 239.

***пабі́цца*** напі́ўся – як галаво́й аб сцяну́ пабі́ўся. Гл. галава.

Сра́чка не шкля́нка: не паб'е́цца. Гл. шклянка.

***пабі́ць*** стая́ць як мі́сачку (мі́сачкі) пабі́ўшы. Гл. місачка.

***пабра́цца*** так ху́тка адно́ за другі́м памёрлі як за ру́кі пабра́ліся. Гл. рука.

***пабры́ць*** Язык што бры́тва: як намы́лішся, то і пабры́е. Гл. брытва.

***па́ва*** **Адзе́нецца як па́ва, але блага́я сла́ва.** *Прык.* Пра неадпаведнасць знешняга выгляду і рэпутацыі. Ляцкий, 1; Сержпутоўскі 1999, 3; Санько, 108.

**змо́кнуць як па́ва.** *Брасл. Насмешл.* Пра вымаклага чалавека. СПЗБ 3, 276.

**ідзе́ як па́ва плыве́.** *Глыб. Захапл.* Пра прыгожую, плаўную, велічную хаду жанчыны. Рабкевіч, 87.

**ісці́ як [та] па́ва.** *Жытк. Захапл.* ТС 5, 362. Тое ж.

**Ляці́ць як па́ва, кладзе́цца як па́ні.** *Лаг. Прык. Ухв.* Пра прыгожую, дагледжаную жанчыну, якой добра жывецца. Varłyha, 93.

**хадзі́ць (пахаджа́ць) як па́ва.** *Віц.*, *Драг.*, *Стаўб.*, *Зэльв.*, *Івац. Ухв.* Каспяровіч, 213; Янк., 438; МК, 286; Нар. лекс., 223; Лучыц-Федарэц, 222; Гілевіч, 166; ЗЗайкі. Тое, што ісці як пава.

***паваксава́ны*** бліШча́ць як паваксава́ны бот. Гл. бот.

***пава́ла*** **ляжа́ць як пава́ла.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які нерухома ляжыць. Шатэрнік, 183. < Павала – дрэва, паваленае бурай.

***павалачы́*** **накла́сці (наладава́ць) як павалачы́.** *Слон.*, *Чэрв.* Пра моцна накладзены вялікі воз. Высл., 351; Мін.-Мал., 1977, 139.

***паве́зці*** бяды́ – як на кані́ паве́зці. Гл. конь.

***паве́смо*** **стая́ць як паве́смо на маро́зі.** *Бераст. Няўхв.* Пра чалавека, які стаіць прыгнечана, разгублена, ссутуліўшыся, згорбіўшыся. Даніловіч, 239. < Павесмо – жменя ці некалькі жменяў ільновалакна.

***павесмянё*** **хло́пчык як павесмянё.** *Слон. Ухв.* Пра крэпенькага ўдалага хлопчыка. Нар. лекс., 55. < Павесмянё – невялікі скрутак ачэсанага льну.

***паве́тра*** **патрэ́бны як паве́тра.** Пра нешта жыццёва неабходнае. БПФС, 135.

***паве́шаны*** як за язы́к паве́шаны. Гл. язык.

***паво́й*** **ві́цца як паво́й.** Пра чалавека, які надта чапляецца, прыліпае да каго іншага. Янк., Пар., 173. < Павой – павойная расліна.

***паву́к*** **набра́цца як паву́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра моцна п’янага чалавека. Высл., 294; Санько, 155.

**нашатыры́цца як паву́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка 1977, 39. Тое ж.

**нашы́кацца як паву́к.** *Жытк. Няўхв.* ТС 3, 176. Тое ж.

**праці́ўны як паву́к.** *Няўхв.* Пра знешне непрыемнага, агіднага чалавека. Янк., Пар., 131.

***павуці́на*** кі́дацца як му́ха ў павуці́не. Гл. муха.

уплю́тацца (ублы́тацца) як му́ха ў паўці́нне. Гл. муха.

***павуці́нка*** **то́ненькая, мя́кенькая як павуці́нка.** *Памянш. Слуцк. Ухв.* Пра нешта тонкае, мяккае, далікатнае. Жыв. сл., 60.

***павуці́нне*** заплу́твацца бы му́ха ў павуце́не. Гл. муха.

ублы́тацца як му́ха ў павуці́нне. Гл. муха.

***павярну́ць*** Зако́н як дышла: куды́ павярну́ў, туды́ і вы́шла. Гл. дышла.

***пагавары́ць*** як з Бо́гам пагавары́ць. Гл. Бог.

***пага́ны*** надае́ў як пага́ная рэ́дзька (цыбу́ліна). Гл. рэдзька.

зажыва́ць як на пага́ным саба́ку. Гл. сабака.

***пагарэ́лец*** **бага́цця як у пагарэ́льца.** *Іран.* Пра поўную адсутнасць багацця, беднату кагосьці. Янк., 396.

***пагарэ́лішча*** **бедава́ць як на пагарэ́лішчы.** *Спачув.* Пра моцнае бедаванне, перажыванне. Янк., Пар., 20.

***пагарэ́лле*** **У чужы́м баку́ як на пагарэ́ллі.** *Віл. Прык.* Пра беспрытульнасць, беднасць, бяздомнасць чалавека на чужыне. ФА.

**У чужо́м краю́ як на пагарэ́ллі.** *Прык.* Federowski, 151; БФМ, 240. Тое ж.

***пагарэ́ць*** Воўк не е́ўшы, як мужы́к пагарэ́ўшы: што ўві́дзе, то́е трэ́ба. Гл. мужык.

***пагі́бель*** **ірза́ць як пе́рад пагі́беллю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нечый нястрымны, беспрычынны, надта вясёлы смех. Юрчанка 1977, 238.

**рехтаць як на пагі́бель.** *Капыл. Няўхв.* Пра жанчын, што голасна гамоняць без бачнай прычыны. ДА. < У павер’ях, на пагібель пачынае спяваць курыца.

***пагла́джаны*** **як хвасто́м пагла́джаны́й.** *Мсцісл. Іран.* Пра задаволенага, у добрым настроі чалавека. Юрчанка, 201.

***пагна́ць*** пане́сціся як чорт варо́ну пагна́ў. Гл. чорт.

***пагóда*** жыць як сад на пагóдзе. Гл. сад.
прапáсці як лазóвы лáпаць на пагóдзя. Гл. лапаць.
таўчы́ся як камары́ на пагóду. Гл. камар.
**як у пагóду вады́ хóчацца.** *Лаг.* Пра моцнае, прагнае жаданне чагосьці. Высл., 432.

***паграбёны*** **як паграбёны.** *Пух. Спачув.* Пра чалавека смутнага, прыбітага горам. СЦБ, 256.

***падавіцца*** **мітусíцца бы́ццам падавíўся ану́чай.** *Рэч., Чэрык., Мін. Здзекл.* Пра некага, хто моцна мітусіцца, бегае. ЛЦ, 72.

***падáлец*** **злы (ліхí) як падáлец.** *Сак. п. Няўхв.* Пра злога, ліхога чалавека. Federowski, 357, 164, 177. < Падалец – змяя (паланізм).

***падарóжны*** набóжна як свіння́ падарóжна. Гл. свіння.
набóжны як жыд падарóжны. Гл. жыд.
набóжны як конь падарóжны. Гл. конь.

***падары́ць*** паглядзéць як рублём падары́ць. Гл. рубель.

***падасéцце*** лéзці як Хóмка (Сáўка) у падасéцце. Гл. Хомка.

***падасла́ць*** сéна як куццю́ падасла́ць. Гл. куцця.

***пада́ць*** блíзка як рукóю пада́ць. Гл. рука.

***падбíты*** хадзíць як кýрыца падбíтая. Гл. курыца.

***падвóрак/ надворак*** чы́ста як у Дрóбата на надвóрку. Гл. Дробат.
шныра́ць як сарóка на падвóрку. Гл. сарока.

***падвя́заны*** турлы́чыць як за язы́к пыдвя́зыный. Гл. язык.

***падгáлы*** як харт падгáлы. Гл. харт.

***падганя́ць*** як бягункá падганя́е. Гл. бягунка.

***паджáць*** як сабáка хвост паджáўшы. Гл. сабака.

***падзімáны*** **хлóпец як падзімáны.** *Стаўб. Ухв.* Пра прыгожага хлопца. З нар. сл., 79. < Падзіманыя – неяк спецыяльна апрацаваныя, гл. «кубкі падзіманыя, пазлачаныя» (валачобныя песні).

***падзю́баны*** **твар як падзю́баны.** *Астр. Няўхв.* Пра твар чалавека, адзначаны слядкамі-ямкамі ад струпоў. СПЗБ 3, 308.

***пад’éсці*** даць як катý пад’éсці. Гл. кот.

***падклéтны*** глядзéць як падклéтная мыш. Гл. мыш.

***падкóва*** **блішча́ць як падкóва ў рысакá (скакунá).** *Мсцісл. Ухв. Жарт.* Пра нешта (некага?), што свеціцца, блішчыць, ззяе, мае добры выгляд. Юрчанка, 193.
патрэ́бен як свінні́ падкóва. Гл. свіння.
глядзéць як конь на падкóву. Гл. конь.

***падкóшаны*** **паваліцца як падкóшаны.** Пра імгненнае падзенне некага. ФСБМ 2, 120.

***пáдла*** **смярдзéць як пáдла.** *Івац., Слон. Няўхв.* Пра непрыемны рэзкі пах, смурод. Высл., 386; ЗЗайкі.
**сцюдзёная як пáдла.** *Віл. Няўхв.* Пра курыцу, што страціла тэмпературу квактухі, не можа грэць яйкі. СПЗБ 5, 44.
завы́ць бы ваўкí над пáдлам. Гл. воўк.
**лежáць бы пáдло.** *Слуцк. Няўхв. Абразл.* Пра бяссільнага, нерухомага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 158.

стоя́ть як крук над па́длом. Гл. крук.
**му́хі пасе́лі** *на каго* **як на па́длу.** *Няўхв.* Ці пра свой стан здароўя, ці пра што іншае. Фед. Арх.
пазлята́цца як груганы́ на па́длу. Гл. груган.
прывы́кнуць як саба́ка да па́длы. Гл. сабака.

***падма́заць*** Уласць як мазь: як падма́жаш, так і пае́дзіш. Гл. мазь.

***падма́зка*** **чо́рны як по́дмазка.** *Насмешл.* Пра чалавека вельмі замурзанага, закапцелага ці смуглявага, загарэлага. Янк., Пар., 192.

***падмецены/***
***падмяцёны*** **хадзі́ць як падме́цены.** *Слуцк.*, *Маст.*, *Івац. Ухв.* Пра чалавека жвавага, увішнага, спрытнага ў руху. Сержпутоўскі 1999, 52; Янк., Дыял., I, 223; Даніловіч, 239; Гілевіч, 166; ЗЗайкі.
**пабе́гчы (пане́сціся) як падмяцёны.** *Слон.*, *Маст.* Пра вельмі хуткае, увішнае, спрытнае перамяшчэнне, бег. Высл., 358; Даніловіч, 239.

***падме́ць*** **як на падме́ці пайсці́.** *Навагр. Ухв.* Пра хуткае, жвавае перамяшчэнне. Даніловіч, 236.

***падмяні́ць*** **як падмяні́лі** *каго.* Пра чалавека, які раптам перамяніўся. ФСБМ 2, 121.

***падно́сак*** **каса́ як падно́сак (падо́сак).** *Сміл. Няўхв.* Пра зусім тупую, нібы ніколі не востраную прыладу. Шатэрнік, 189; Янк., Пар., 84.

***падня́цца*** як з магі́лы падня́ўся. Гл. магіла.

***падня́ць*** **назбіра́ецца як падня́ць.** *Івац.*, *Мядз.* Мера колькасці нечага, што можа падняць чалавек. Нар. Слов., 58; ЗЗайкі.

***падо́ска*** **як падо́ска.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра зусім тупую, нібы ніколі не востраную прыладу. Юрчанка, 193.

***падпалі́ць*** бе́гаць як бро́вар падпалі́ўшы. Гл. бровар.

***падпераза́цца*** **лёгка як падпераза́цца.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нешта, што лёгка і проста зрабіць. Юрчанка, 193.
**язык, хоць падпяражыся.** *Івац. Няўхв.* Пра нейкага балбатуна, пляткара. ЗЗайкі.

***падпе́чаны*** пасу́нуцца як саба́ка падпе́чаны. Гл. сабака.

***падра́ны*** віда́ць як падра́ная ша́пка. Гл. шапка.
як у парва́най (у падра́най) кні́зе. Гл. кніга.
шкадава́ць як ве́цер падра́ную стрэ́ху. Гл вецер.
дра́цца як падра́ныя по́рткі. Гл. порткі.

***падру́ба*** **то́ўстая як падру́ба.** *Слон. Няўхв.* Пра грубую тканіну. Высл., 400. < Падруба – тут: абшыты падол спадніцы.

***падско́чыць*** **язы́к прыкусі́ў бы́ццам падско́чыў.** *Насмешл.* Пра чалавека, які раптоўна змоўк. Ляцкий, 62.

***падсма́лены*** **бе́гаць/бе́гчы як падсма́лены.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які рашуча, шпарка пабег. Federowski, 30, 31; Юрчанка, 193.
ме́чацца як падсма́лены за́яц. Гл. заяц.
ме́чацца як падсма́лены пацу́к. Гл. пацук.
**як падсма́лены.** *Насмешл.* Санько, 70. Тое, што бегаць як падсмалены.
як чорт падсма́лены. Гл. чорт.

| | |
|---|---|
| ***падстры́гчы*** | **ро́ўна, як постры́жэна росце́.** *Жытк. Ухв.* Пра роўнае жыта. ТС 4, 330. |
| ***падстрэ́лены*** | біцца як галу́бка падстрэ́леная. Гл. галубка. |
| | **пабе́гчы як падстрэ́лены.** *Бераст. Насмешл.* Пра імклівы, хуткі бег. Даніловіч, 239. |
| | **як падстрэ́лены.** *Ашм.*, *Маст.*, *Стол.*, *Леп. Насмешл.* Пра чалавека ў кароткім адзенні. Даніловіч, 239; Барысюк, Буян, 13. |
| ***падстрэ́ліць*** | На парабкава́нні як на палява́нні: што падстрэ́ліў – то́е і тваё. Гл. паляванне. |
| ***падсядзёлак*** | ісці́ (пасава́ць, падыхо́дзіць, прыста́ць, прыхо́дзіцца) як каро́ве (свінні́) падсядзёлак. Гл. карова. |
| ***паду́шка*** | **дзе́ўка як паду́шка.** *Івац. Кплів.* Пра пухлую дагледжаную дзяўчыну. ЗЗайкі. |
| | **мя́ккі як паду́шка.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта вельмі мяккае. Federowski, 182. < Падушка – эталон мяккасці. |
| | Як з мякі́ны паду́шка, так з няве́сты дачу́шка. Гл. мякіна. |
| | **гла́дка бы поду́шка.** *Драг. Ухв.* Пра сытую дагледжаную жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222. |
| ***падхарта́ны*** | як саба́ка падхарта́ны. Гл. сабака. |
| ***падця́жкі*** | пасава́ць як саба́ку падця́жкі. Гл. сабака. |
| ***падэ́рва*** | **хадзі́ць як падэ́рва [яка́я].** *Сен. Няўхв.* Пра жанчыну, што мае неадпаведны выгляд. Каспяровіч, 217. < Падэрва – худая, з падарваным здароўем жанчына. |
| ***падэ́шва*** | **дурны́ як падэ́шва.** *Няўхв.* Пра кагосьці дурнаватага, неразумнага. БПФС, 34. |
| | **цвёрды (цвярды́) як падэ́шва.** *Ваўк. п.*, *Слон. Няўхв. Насмешл.* Пра нешта занадта цвёрдае; не той, што трэба, якасці. Federowski, 59; Высл., 414. |
| | прыста́ць як смала́ да падэ́швы. Гл. смала. |
| ***пае́хаць*** | Ла́ска не каля́ска, ся́дзеш – не пае́дзеш. Гл. каляска. |
| | Ула́сь як мазь: як падма́жаш, так і пае́дзіш. Гл. мазь. |
| ***пажава́ць*** | змя́та (пакаме́чана) як каро́ва пажава́ла. Гл. карова. |
| ***пажа́р*** | **ляце́ць як на пажа́р.** *Віл.*, *Івац. Няўхв.* Пра некага, хто хутка, імпэтна кудысьці рухаецца. СЦБ, 271; ЗЗайкі. |
| | **у бе́дную ха́ту госьць як пажа́р.** *Ушацк.* Пра непажаданасць гасцей для беднякоў, бо іх трэба частаваць, а гэта лішні выдатак. Барадулін, 19. |
| | адна́ як чэрэці́на на пожа́рэ. Гл. чэрэціна. |
| ***пажа́рышча*** | **бедава́ць як на пажа́рышчы.** Пра чалавека, які моцна бядуе. Янк., Пар., 20. |
| | жыць як ляля́к на пажа́рышчы. Гл. ляляк. |
| ***пажра́ць*** | як га́дзіна, што сваé дзе́ці пажрэ́. Гл. гадзіна. |
| ***пажы́ць*** | душа́ накрасава́лася як у раю́ пажыла́. Гл. рай. |
| ***пазатакро́шні*** | трэ́ба як пазатакро́шні снег. Гл. снег. |
| ***пазёмка*** | як каню́ пазёмка. Гл. конь. |
| ***пазліза́ць*** | як кот пазліза́ў. Гл. кот. |

| | |
|---|---|
| ***па́зуха*** | **жыць як за па́зухай.** *Іваџ. Ухв.* Пра добрае, забяспечанае, спакойнае жыццё. ЗЗайкі.<br>жыць як у Бо́га за па́зухай. Гл. Бог.<br>жыць як у Хрыста́ за па́зухай. Гл. Хрыстос.<br>сядзе́ць як у Бо́га за па́зухай. Гл. Бог.<br>**падхапі́цца, бы́ццам су́нулі за па́зуху жмут крапівы́.** *Брэсц., Мін. Насмешл.* Пра нейкую раптоўную рэакцыю чалавека, уражанага чымсьці. ЛЦ, 73. |
| ***пазы́чыць*** | **прынёс як пазы́чыў.** *Івац. Раздраж.* Пра малую колькасць прынесенага. ЗЗайкі.<br>прыйсці бы ў саба́кі вочэ́й позы́чыўшы. Гл. сабака.<br>як агню́ пазы́чыць (ухапі́ць). Гл. агонь. |
| ***пакаці́цца*** | **збо́жжа (жы́та) хоць пакаці́ся па ве́рсе.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра вельмі густое, моцнае збожжа. Federowski, 352, 372. |
| ***пакача́цца*** | ек кобы́лі покача́цца. Гл. кабыла. |
| ***пакі́нуты*** | як пакі́нуты саба́ка [лётаў па база́ру]. Гл. сабака. |
| ***паклóн*** | Галóдны як шалёны: то кладзе́ паклóны, то праклёны. Гл. шалёны. |
| ***пакóйнік**, гл. таксама **нябожчык*** | **галасі́ць што па пакóйніку.** *Віл.* Пра вельмі вялікі плач, галашэнне кагосьці. СПЗБ 1, 408.<br>**вычы́тваць як па пакóйніку.** *Слон.* Пра моцны плач і галашэнне кагосьці. Высл., 299. |
| ***пакóпаны*** | **хадзі́ць як пакóпаны.** *Ваўк., Слон. п. Спачув.* Пра чалавека, які выглядае вялым, хваравітым, сумным. Federowski, 48. |
| ***пакóрм*** | пазлята́цца як груганы́ на пакóрм. Гл. груган.<br>насі́цца як ла́стаўка на пакóрме. Гл. ластаўка. |
| ***Пакрóвы*** | гóла як у пóлі пасля́ Пакрóву. Гл. поле.<br>жыць як бара́н да Пакрóў. Гл. баран. |
| ***пакуса́ць*** | як пчóлы пакуса́лі *каго.* Гл. пчала. |
| ***палажы́ць*** | сядзе́ць ру́кі злажы́ўшы, як апóшняе ў гаршчóк палажы́ўшы. Гл. апошняе.<br>Ба́ба што мяшóк – што палóжыш, то нясе́ць. Гл. мяшок. |
| ***палазы́*** | **нóгі як палазы́.** *Ашм. Насмешл.* Пра крываногага чалавека. СПЗБ 2, 539. |
| ***палама́ны*** | як палама́ная ме́льніца. Гл. мельніца. |
| ***палама́ць*** | крыча́ць як нóгі палама́ўшы. Гл. нага. |
| ***паласка́ць*** | зьбіра́ецца як сьвёкар пялёнкі паласка́ць. Гл. свёкар. |
| ***палатнó*** | **ба́чыць як праз палатнó.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, што дрэнна бачыць, мае слабы зрок. МК, 26.<br>**бе́лы як палатнó.** *Ваўк. п., Краснап., Гродз., Івац.* Пра вельмі збялелага чалавека (са страху, у хваробе і інш.). Federowski, 30; Бялькевіч, 256; СПЗБ 2, 335; ЗЗайкі.<br>**збяле́ць як палатнó.** *Ваўк. п., Івац. Спачув.* Пра вельмі збялелага чалавека (са страху, у хваробе і інш.). Federowski, 373; ЗЗайкі.<br>**пóмніць як праз палатнó.** *Дзятл. Няўхв.* Пра недакладнае запамінанне чаго-н. ФА. |

**як праз палатно́** *хто з кім. Калінк. Няўхв.* Пра людзей у сварцы, якія не хочуць кантактаваць. ДА.

**не ба́чу, усё ро́ўна як палатно́м заве́шаны.** *Слон. п. Няўхв.* Пра слабы зрок, наступленне слепаты ў кагосьці. Federowski, 15.

**бле́дны ек полотно́.** *Жытк.* ТС 1, 61. Тое, што белы як палатно.

***пала́ц*** як ца́ца ў пала́цы. Гл. цаца.

***пала́ш*** **го́стры як пала́ш.** 1. *Ухв.* Пра нешта вельмі вострае. 2. *Няўхв.* Пра запальчывы характар чалавека, яго паводзіны. Federowski, 113.

***пале́на*** **глухі́ як пале́на.** *Слуцк. Няўхв.* Пра глухога чалавека. Сержпутоўскі 1999, 186.

**ісці́ на дно як пале́на.** Пра нешта, некага, што тут жа патанаюць, ідуць на дно. ФСБМ 1, 468.

**кача́цца як пале́на.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра лянівага чалавека. Юрчанка, 193.

**лы́сы як пале́на.** *Віл. Насмешл.* Пра зусім лысага чалавека. СПЗБ 2, 697.

**ляжа́ць як пале́на.** *Лаг. Няўхв.* Пра лянівага чалавека. Varłyha, 170.

**як пале́на.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра дурнаватага чалавека. Юрчанка, 193.

**ек поле́ном кі́нуць.** *Жытк*. Пра досыць невялікую адлегласць, блізкую мэту. ТС 4, 140.

***пале́скі*** кішэ́нь як у пале́скага зло́дзея. Гл. злодзей.

ру́кі як у пале́скага зло́дзея. Гл. злодзей.

***Палесты́на*** як Фэ́лька з Палесты́ны. Гл. Фэлька.

***па́лец*** **адзін як па́лец (перст).** *Івац.*, *Слуцк.*, *Стаўб.*, *Мёр.*, *Слон.*, *Мсцісл.*, *Віл.* Пра самотнага чалавека, аднаго сына ў бацькоў. Сержпутоўскі 1999, 6; МК, 19–20; Нар. слов., 103; Высл., 281; Добр., 106; Юрчанка 1972, 27; Янк., Пар., 42; СПЗБ 3, 357; ТС 4, 6; ЗЗайкі.

**адзі́н як па́лец ме́дзены.** *Слон.* Пра самотнага чалавека, аднаго сына ў бацькоў. ДА.

**го́лы як па́лец.** *Астр. Няўхв.* Пра вельмі беднага чалавека. Даніловіч, 240.

**Век звекава́ць – не па́льцам pаківа́ць.** *Прык.* Пра цяжкасці на жыццёвым шляху. Federowski, 331.

Век перажы́ць – не по́ле перайці́ць, не па́льцам пераківа́ць. Гл. поле.

**нае́сціся як па́льцам даста́ць.** *Рэч. Насмешл.* Пра чалавека, які напоўніўся ежай аж па горла (моцна наеўся). Pietkiewicz, 372.

**папа́сці як па́льцам у капу́сту.** *Карэл. Насмешл.* Пра чалавека, што выказаў нешта агульнавядомае, банальнае. Высл., 361.

**тра́піць (папа́сці) як па́льцам у не́ба.** *Уздз.*, *Слуцк., Івац. Насмешл.* Пра чалавека, што выказаў нешта агульнавядомае, відавочнае, банальнае. Высл., 400; Янк., 432; ФА; ЗЗайкі.

**вы́рабіць зямлю як па́льцамі перама́цаць.** *Ухв.* Пра вялікі догляд глебы. Янк., Пар., 30.

**знаць як сваé пяць пáльцаў.** *Івац. Ухв.* Пра дакладнае, добрае веданне чаго-н. Янкоўскі, 97; ЗЗайкі.

**зрабíць** *што* **як два пáльцы аб асвáльт.** *Карэл. Жарт.* Пра лёгкае, без намаганняў выкананне працы. Даніловіч 2008, 139.

**як на пáльцы спéкчы.** *Барыс. Няўхв.* Пра вельмі малую колькасць нечага. ФА.

***палíць*** вéцер зíмні прóста як агнём пáліць. Гл. агонь.

***пáлка*** **пілá тýпа як пáлка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра тупую пілу. Высл., 365.

трэ́ба як сабáццы пáлка. Гл. сабачка.

**худы́ як пáлка.** *Люб. Няўхв.* Пра худога, непрывабнага чалавека. БД, 146.

**як пáлка дроў [дурны́].** *Мсцісл. Насмешл.* Пра дурнога, прасталінейнага чалавека. Юрчанка 1977, 51.

віля́ць як сабáка хвастóм паміж пáлкай і кустóм (паміж пáлкай і кавáлкам). Гл. сабака.

**як пáлкай па галавé стýкнуць.** *Мін.* Пра чалавека, якога нечым моцна ўразілі, здзівілі. ЛЦ, 62.

**ляжáць як пáлкі.** *Віц.* Пра моцна стомленых людзей, што ляжаць без руху. Высл., 429.

**прылíп як до пáлкі Пылíп.** *Бяроз.*, *Люб. Насмешл.* Пра прыставучага, надакучлівага чалавека. АВНЛ; ФА.

**удáрить як с пáлки звали́ть.** *Смал. п.* Пра моцны ўдар па кім-н. Добр., Смол., 652.

*хто без каго* як сляпы́ без пáлкі. Гл. сляпы.

**як з-пад пáлкі.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека (людзей), што робіць павольна, нехаця, пад прымусам. МК, 311.

глядзéць як сабáка на пáлку. Гл. сабака.

жалéць як сабáка пáлку. Гл. сабака.

любíць як сабáка пáлку. Гл. сабака.

рад як сабáка пáлцы. Гл. сабака.

тырчáць (сядзéць, круцíцца) як сарóка (варóна) на пáлцы (калý). Гл. сарока.

***палóва*** **мóвы як полóвы** *ў каго. Жабін. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат гаворыць. Ганчук, Касцючык, 85. < Палова – мякіна.

***палóмак*** **хадзíць як палóмак.** *Карм. Няўхв.* Пра чалавека, які выглядае як зламаная рэч, непрыдатная, непатрэбная. МК, 296.

***палóнка*** круцíцца як трэ́ска ў палóнцы. Гл. трэска.

***Палтáва*** замёрзнуць як швед пад Палтáвай. Гл. швед.

прапáсці як швед пад Палтáваю. Гл. швед.

***палы́н*** **гóркі (гóрка) як палы́н.** *Ваўк. п.*, *Сен.*, *Івац. Няўхв.* 1. Пра нешта вельмі горкае. 2. Пра няпростае бядотнае жыццё чалавека. Federowski, 112; Каспяровіч, 226; Сцяшковіч, 406; Янк., 403; ЗЗайкі.

**жывýчы як палы́н.** *Ухв.* Пра чалавека, што выжывае ў цяжкіх умовах. Янкоўскі, 112.

**застáцца як палы́н пры дарóзе.** *Гом. Спачув.* Пра самотнага адзінокага чалавека. Горленка, 251.

***па́льчык*** **малы́ як па́льчык.** *Памянш. Мсцісл.* Пра нізкарослага хлопчыка. Юрчанка, 193.

***палява́нне*** **На парабкава́нні як на палява́нні: што падстрэ́ліў – тóе і тваё.** *Глуск. Прык. Насмешл.* Пра жыццё парабка «на падножным корме». Янк., Дыял., III, 162.

паўзці як самы́ з палява́ння. Гл. сом.

**хлусіць бы прышóў з палява́ння.** *Слуцк. Насмешл.* Пра хлуслівага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 128.

***паляцéць*** Варажба́ як стральба́: куда́ паляціць, туды́ і загрыміць. Гл. стральба.

Дачка́ як ла́стаўка: пашчабéчыць, пашчабéчыць ды й паляціць. Гл. ластаўка.

***паляшу́к*** **боя́цца** *чаго* **як палешу́к воды́.** *Жытк. Іран.* Пра адсутнасць страху перад чым-н. ТС 4, 142.

***пама́заць*** **як мёдам пама́зана** *дзе. Ушацк. Няўхв.* Пра месца, дзе чалавеку добра, утульна, куды ён імкнецца. Васюковіч, 19.

бы ма́слам пама́заў. Гл. масла.

як са́лам *каго* пама́заў. Гл. сала.

***пама́к****, гл.* **помак** **намóкнуць як пама́к.** *Чэрв.* Пра чалавека, які моцна вымак пад дажджом. Нар. лекс., 65; СПЗБ 3, 374.

**цяжкі як пама́к.** *Кір.* Пра нешта вельмі важкае. Нар. слов., 71.

< Памак – намоклае бервяно, палена.

***памаўза́*** **маўча́ць як памаўза́.** *Ашм. Няўхв.* Пра чалавека, што трымаецца не так, як трэба. СПЗБ 3, 376.

***памéрлы****, гл. таксама* **умерлы** **памагло́ як памéрламу ба́нкі.** *Хойн. Іран.* Пра адсутнасць дапамогі наогул. Высл., 360.

**Памóжа варóне мы́ла як памéрламу кадзіла.** *Прык.* Пра немажлівасць змяніць прыродныя дадзеныя. Санько, 172.

***памéрці*** **трэ́ба як сённі памéрці.** *Лоеў. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Высл., 401.

***памéршы*** **ляжа́ць як памéршы.** *Сміл.* Пра людзей, што ляжаць нерухома, стомлена. Шатэрнік, 17; Federowski, 161.

***памéцены*** **пайсці як памéцена.** *Ваўк. п.* Пра хуткі сыход. Federowski, 211.

***памéшаны*** **хадзіць як памéшаны.** *Мядз. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе неадпаведна, дзіўна. СЦБ, 282.

***памідóр*** **чырвóны як памідóр.** *Глыб. Ухв.* 1. Пра нешта вельмі яркае. 2. Пра румянага чалавека. Высл., 420.

разбіра́цца як свіння́ ў памідóрах. Гл. свіння.

***памінкі*** напіцца як дурны́ на памінках. Гл. дурны.

нажра́цца як дура́к на помінках. Гл. дурак.

***паміра́ць*** **не хóчацца як паміра́ць.** Пра нешта, чаго вельмі не хочацца. Янк., Пар., 113.

трэ́ба як за́ўтра паміра́ць. Гл. заўтра.

***пампу́шка*** **дзéўка як пампу́шка.** *Ельск., Слаўг. Ухв.* Пра поўненькую прывабную дзяўчыну. ФСГ, 221; Нар. слов., 75.

**як пампу́шка.** *Мсцісл.* 1. *Няўхв.* Пра распухлага чалавека. 2. *Івац. Ухв.* Пра сытага, поўнага, асабліва дзіцёнка. Юрчанка, 193; ЗЗайкі.
**ла́дкі як пампу́шкі.** *Касц. Ухв.* 1. Пра пышныя апетытныя аладкі. 2. Пра ручкі немаўляці. Бялькевіч, 245.

***памча́ць*** як бы *каго* ве́цер памча́ў. Гл. вецер.

***памы́і*** **як памы́ямі аблі́ты.** *Свісл., Івац. Няўхв.* Пра стан чалавека, зняважанага, зняслаўленага кімсьці. Даніловіч, 240; ЗЗайкі.
віжава́ць як су́ка на памы́ях. Гл. сука.

***памы́йны*** прыбі́цца як кот памы́йны. Гл. кот.

***памы́ты*** **сядзе́ць як памы́ты.** *Рэч. Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі рана ўстаў, нічога не робіць – сядзіць і чакае снядання. ЛЦ, 123.

***памы́цца*** про́ста як го́ламу памы́цца. Гл. голы.

***памяло́*** **гало́вы як памёлы.** *Смал. п. Няўхв.* 1. Пра людзей непрычасаных, калматых. 2. *Здзекл.* Пра пустых, неразумных людзей. Добр., Смол., 659.
**барада́ як памяло́.** *Івац. Няўхв.* Пра калматую растрапаную бараду каго-н. ЗЗайкі.
**дурны́ як памяло́.** *Мсцісл. Зневаж.* Пра дурнаватага чалавека. Юрчанка, 193.
**хвост як памяло́.** *Астр.* Пра нейкую жывёліну з густым хвастом. СПЗБ 4, 310.
**язы́к кру́ціцца як памяло́.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. Federowski, 126.
**язы́к як памяло́.** *Івац., Драг. Асудж.* Ройзензон, 80; Юрчанка, 193; Ззайкі; БД, 146. Тое ж.
**як памяло́ лапата́ць.** *Мсцісл. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. Юрчанка 1977, 206.
**насі́цца з языко́м як з памяло́м.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, што бесперапынна гаворыць. Юрчанка, 185.
ме́нціць езыко́м ек коро́ва помело́м. Гл. карова.

***па́мятнік*** **адин як па́мятник.** *Смал.* Пра самотнага чалавека. Добр., Смол. 106.

***пан*** **Адзе́ўся як пан, а дурны́ як бара́н.** *Прык. Няўхв.* 1. Пра неразумнага фарсуна. 2. Пра неадпаведнасць розуму і знешняга воблiку. Санько, 108.
**выле́жвацца як пан.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, што адпачывае, нічога не робіць. МК, 284.
**ганары́сты як пан.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, што празмерна ганарыцца. Высл., 303.
**Да людзе́й як пан, а ў ха́це як хам.** *Лід. Прык. Асудж.* Пра чалавека, што ветлівы на людзях і грубіян дома. Сцяшковіч, 630.
**Жана́ты як пан бага́ты, а хало́сты як саба́ка бясхво́сты.** *Шкл. Прык. Насмешл.* Пра перавагу жанатага над бабылём. АВНЛ.
**жыць як пан пшэ́нны.** *Ашм. Ухв.* Пра чалавека, што жыве ў дастатку, раскошы. Даніловіч, 240.
**жыць як пан.** *Слон. Ухв.* Пра чалавека, што багата, лёгка жыве. Высл., 319.

**ісці́ як пан на прахо́дке** [чуць но́гі со́вае]. *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які ідзе павольна, акуратна, важна. Бялькевіч, 341. < Праходка – прагулка.
**ісці́ як пан.** *Івац.* Пра чалавека, які ідзе паважна, самавіта. ЗЗайкі.
**крыча́ць як ашале́лы пан.** Пра моцны, голасны крык. Тарас на Парнасе.
**ла́сы як пан на каўба́сы.** *Маз.*, *Маст.*, *Нясв. Прык. Жарт.* Пра чалавека, які да нечага вельмі ласы. Высл., 340.
**ляжа́ць бы пан на перы́не.** *Слуцк. Няўхв.* Пра кагосьці, хто разлежваецца і не хоча працаваць. Сержпутоўскі 2000, 237.
**ляжа́ць як пан.** *Ваўк. п. Ухв.* і *няўхв.* Пра чалавека, які разлёгся вольна, нічога не робіць. Federowski, 161.
**развалі́цца як пан.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што занадта вольна разлёгся. Высл., 375.
**рассе́сціся як пан.** *Мсцісл., Івац. Насмешл.* Пра чалавека, які сядзіць ды нічога не робіць. Юрчанка 1977, 140; ЗЗайкі.
**Свіння́ ў бало́ці як пан у зло́ці.** *Прык. Насмешл.* 1. Пра жывёлу, якая ў брудзе пачуваецца не найгорай. 2. Пра чалавека, якому прыносяць задавальненне благія ўчынкі. Ляцкий, 40; Сержпутоўскі 1999, 79.
**Ску́ла што пан – не зачапі́.** *Прык. Жарт.* Пра неабходнасць вельмі далікатна абыходзіцца са скулой. Янкоўскі 1971, 45.
**спаць як пан на хамуце́.** *Лід. Няўхв. Жарт.* Пра чалавека, якому мулка спалася. МК, 316.
**сядзе́ць як пан на імяні́нах.** *Люб. Насмешл.* Пра чалавека, што важнічае, нічога не робіць. ФА.
**сядзе́ць як пан.** *Слон. Ухв.* Пра выгоднае становішча чалавека. СРЛГ, 55.
**уссе́сці як пан на каня́.** 1. Пра ўдалага чалавека, які лоўка ўскочыў на каня. 2. *Няўхв.* Пра чалавека, які занадта на некага насеў. Ляцкий, 51.
**фы́ркаць як пан у мужы́цкай ха́це.** *Няўхв.* Пра чалавека, які капрызнічае, выказвае незадавальненне. Янк., 436.
**хадзі́ць як пан у бо́кі ўзя́ўшыся.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, што трымаецца ганарыста, нічога не робіць. Federowski, 48.
**хадзі́ць як пан у вакуля́рах.** *Сміл. Насмешл.* Пра чалавека ў акулярах, што важна трымаецца. Шатэрнік, 17.
**хоць я п'ян, але́ іду́ як пан.** *Жарт.* Пра чалавека, якому ап'яненне надае ўпэўненасці. ПП 2, 356.
**Шчапа́н – сядзі́ць па́рабак як пан.** *Прык.* Пра тэрмін у календары, калі спыняюцца дамовы на службу. Аксамітаў, 186.
ашука́ць як жыд Пана Бога. Гл. жыд.
**барада́ не раўну́ючы як у Па́на Е́зуса на абразе́.** *Лаг.* Пра бараду вялікую ці па форме падобную да барады Бога на абразах. Varłyha, 80.
**до́бра [табе́ сядзе́ць] як у Па́на Бо́га за пе́ччу.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра чалавека, якому ўтульна, бяспечна жывецца. Federowski, 274.

мéнчыць як жыды́ Пáна Бóга. Гл. жыд.
скасавýрыцца як чорт на пáна. Гл. чорт.
**у кагó «зáрэ» як у пáна «почэкáй».** *Бяроз. Няўхв.* Пра чалавека, у якога словы разыходзяцца са справай. АВНЛ.
**У пéчы гары́ць як у пáна, а вáрыцца як у цыгáна.** *Прык. Жарт.* Пра паказны дастатак і фактычную беднату кагосьці. Добр., Смол., 78; Янкоўскі 1971, 28.
**узялó** *каго* **як пáна разáчка.** *Жарт.* Пра чалавека, якога нешта дужа праняло. Янк., Пар., 173.
**жыць як за пáнам.** *Мсцісл. Ухв.* Пра жанчыну, якой добра жывецца ў замужжы. Юрчанка, 183.
**За Івáнам як за пáнам, за Вáняю як за пáняю.** *Фальк.* Жарт у адрас маладзіц, якія расхвальваюць сваіх мужоў. Юрчанка, 29.
**шапкавáць як пéрад пáнам.** *Слуцк. Няўхв.* Пра неабходнасць прынізліва вітацца з кімсьці. Сержпутоўскі 1999, 77.

***панажы́*** **хадзíць як па панажáх.** *Глыб.* Пра чалавека, якому неабходна дзейнічаць строга па правілах. Рабкевіч, 221.

***панамáр*** **залáдзіць як панамáр.** *Няўхв.* Пра нейчае манатоннае нуднае невыразнае чытанне, выгаворванне. ФСБМ 1, 145.

***пáнаў*** збірáцца як пáнаў пáрабак. Гл. парабак.

***панéначка*** **дзéўкі роўна панéначкі.** *Лаг. Ухв.* Пра вельмі прыгожых, выхаваных дзяўчат. Гілевіч 2007, 22.

***панéнка*** **далікáтны як панéнка.** *Слон.* Пра вельмі далікатнага юнака. Высл., 310.
**згрáбная як [якáя] гарадскáя панéнка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра пекную, станістую дзяўчыну. Бялькевіч, 189.
**красíвая як панéнка.** *Б.-Каш. Ухв.* Пра вельмі пекную дзяўчыну. Мат. Гом., VI, 155.
**фанабэ́рыстая як [тáя] панéнка.** *Няўхв.* Пра дзяўчыну, што дужа задаецца. Янк., 436.
**бя́ла лíчка як у панéнкі.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра некага прыгожага, выпешчанага, з белым тварам. Federowski, 166.
угадзíць *каму* труднéй як катý старóй панéнкі. Гл. кот.

***панéня*** **дзіця́ як панéня.** *Маз. Ухв.* Пра дагледжанае, прыбранае дзіця. Гаворaць, 64.

***панéсці*** як бы *каго* вéцер панёс (памчáў). Гл. вецер.
як вадá панéсла *каго*. Гл. вада.
як варóне на хвасцé панéсці. Гл. варона.
**як панéсці (як панясцí).** *Дзярж.*, *Навагр.*, *Гродз.* Пра меру вагі чагосьці, пад'ёмную для чалавека. Нар. слов., 48; Даніловіч, 240.
нарабíць як варóна на хвасцé панясé. Гл. варона.

***пáні*** **вылягóўвацца сабé як якáя пáні.** *Гродз.* З зайздрасцю. Пра жанчыну, якая можа сабе дазволіць адпачыць. Цыхун, 30.
**двор як пáні сéсці.** *Жарт.* Пра зусім невялікі двор. Янк., 404.
**зрабíцца як пáні.** *Стаўб. Няўхв.* Пра жанчыну, якая набралася звычак у паноў. МК, 169.

**ісці як пáні.** *Гродз. Ухв.* Пра жанчыну, якая добра выглядае. Цыхун, 34.
Ляціць як пáва, кладзéцца як пáні. Гл. пава.
**мадыгавáцца як пáні.** *Дзятл. Няўхв.* Пра жанчыну, якая манернічае. СПЗБ 3, 9. < Мадыгавацца – убірацца, моднічаць.
Мужы́к як сáні, абы́ я самá былá як пáні. Гл. сані.
**убрáцца як пáні.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра добра прыбраную жанчыну. Federowski, 316.
раздýраная як пáніна кóшка. Гл. кошка.
**ісці дык што пáня.** *Міл. Ухв.* Пра добра прыбраную жанчыну. Бялькевіч, 122.
**Ні карóвы, ні каня́, жывý сабé як паня́.** *Ушацк. Жарт.* Пра жыццё без маёмасці і без клопатаў аб ёй. Барадулін, 96.
**Ні каня́, ні валá – сядзí як паня́.** *Іран.* Пра нібыта лёгкае жыццё бедняка. Ляцкий, 26.

***паніха*** **рассéсціся як паніхі.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра жанчын, што занадта расселіся, занялі шмат месца. Юрчанка 1998, 159.

***паніч*** Сядзíць як сыч і дýмае, што панíч. Гл. сыч.

***панóс*** **шýстры як панóс.** *Івац. Насмешл.* Пра мітуслівага чалавека, якому не сядзіцца на адным месцы. ЗЗайкі.

***пáнскі*** у хáце як у пáнскай святлíцы. Гл. святліца.
мужы́цкое здорóўе як пáнская хварóба. Гл. хвароба.
далікáтны як пáнскі цю́цька. Гл. цюцька.
сярдзíты як пáнскі сабáка. Гл. цюцька.
як пáнскі цю́цька. Гл. цюцька.

***пантóпля*** **пахóжы як пантóплі з аднóй кóжы.** *Стаўб. Жарт.* Пра двух вельмі падобных людзей. Мін.-Мал., 1974, 186.
**цягáцца як пантóпля.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які ўсюды цягаецца. Шатэрнік, 201.

***панчóха*** **распусцíцца як жыдóўская панчóха.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які дужа распусціўся, перастаў слухацца. Federowski, 370.

***панчóшка*** **пісáць вéршы як панчóшкі вязáць.** *Памянш. Мядз. Ухв.* Пра чалавека, якому лёгка даецца вершаванне. ЗСалавей.

***пáншчына*** **ісці як на пáншчыну.** *Іўеў. Няўхв.* Пра чалавека, які неахвотна, марудзячы, некуды ідзе. Высл., 333; ПП 1, 314.

***паню́шка*** даць як табáкі на паню́шку. Гл. табака.

***паня**, гл. **пані***

***пападдзя́*** **зайздрóсны як пападдзя́.** *Няўхв.* Пра некага вельмі зайздроснага. Янк., Пар., 67.
**хíтры як нáша пападдзя́.** *Навагр. п. Няўхв. Насмешл.* Пра некага занадта хітрага. Federowski, 52.

***папéра*** **бéлы як папéра.** *Ваўк. п., Зэльв.* Пра нешта вельмі белае. Federowski, 30; Сцяцко 1970, 117.
**збялéць як [тáя] папéра.** *Сміл. Спачув.* Пра чалавека, які збялеў з перапуду, нездароўя і інш. Шатэрнік, 201.

***папéрка*** **сцéнкі як папéркі.** *Ухв.* Пра белыя, чыстыя сцены. Высл., 392.

***папіро́са*** **ху́тка што папяро́су скуры́ць.** *Мсцісл.* Пра невялікую работу, малы час яе выканання. Юрчанка 1977, 238.

***папо́нка*** йдзе як сві́нне под попо́нкою. Гл. свіння.

***папо́ў*** набра́цца як папо́ва Му́рза. Гл. Мурза.
разу́мны як папо́ва свіння́. Гл. свіння.
чо́рная бы папо́ва Му́рза. Гл. Мурза.
заві́сны (зайздро́сны) як папо́выя во́чы (папо́ва во́ка). Гл. вока.

***папо́ўна*** **збіра́цца як папо́ўна за́муж.** *Лаг.* Калі нехта некуды доўга збіраецца, але справа застаецца нявыкананай. Варлыга 1966, 38.
**убіра́цца ек попо́ўна за́муж.** *Стол. Насмешл.* Пра маруднае, стараннае прыбіранне. ТС 5, 172.

***папо́ўскі*** судзе́йскі карма́н што папо́ўскае бру́ха. Гл. бруха.
завіха́цца як на папо́ўскай талацы́. Гл. талака.
цягну́цца як папо́ўская пу́га. Гл. пуга.

***папо́ўства*** **Каро́ста ні папо́ўства: сем год адбу́дзіць, тады́ ні бу́дзіць.** *Прык. Жарт.* Пра часовасць нечага ў адрозненне ад духоўнага сану, што навек. Романов 1901, 69.

***папру́га*** **яві́цца як папру́га ад плу́га.** *Мёр. Асудж.* Пра чалавека, што з'явіўся дамоў у неналежным стане. ДА.

***па́ра*** жыць [удваі́х] як галубкі́ ў па́ры. Гл. галубок.

***па́рабак*** **рабі́ць як па́наў па́рабак.** *Маст.*, *Лаг. Няўхв.* Пра чалавека, што робіць нехаця, павольна. Мін.-Мал., 1970, 171; МК, 315.
**ціка́вы як жыдо́ўскі па́рабак.** *Ваўк. Насмешл.* Пра залішне цікаўнага чалавека. Federowski, 369.

***параво́з*** **нос як [той] параво́з.** *Люб. Насмешл.* Пра чалавека з вялікім носам. ФА.

***паравы́*** рассо́пціся як паравы́ мех. Гл. мех.

***парадзі́ха*** **хадзі́ць як парадзі́ха.** *Касц. Няўхв.* Пра чалавека распаўнелага, непаваротлівага. Бялькевіч, 315.

***паражы́лля*** **лэжа́ть бы порожі́льля.** *Драг. Няўхв.* Пра чалавека, што большай часткай ляжыць нямоглы. Лучыц-Федарэц, 222.

***па́раны*** як па́раная рэ́па [сма́чна]. Гл. рэпа.
нае́сціся як до́ктар па́раных каўба́с. Гл. доктар.

***парасё****, гл.* ***парася***

***парасёнак*** **як парасёнак.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра дзіцёнка перамурзанага, раздуранага. Юрчанка, 193.

***парасо́н*** патрэ́бен як ры́бе парасо́н. Гл. рыба.
падыхо́дзіць *што-н. каму́-н.* як свінні́ парасо́н. Гл. свіння.

***парася́*** **агля́двацца як парася́ ўкра́ўшы.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, што падазрона сябе паводзіць. Высл., 280.
**верашча́ць (вішча́ць, пішча́ць) як парасё ў пра́слі/пло́це.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Мсцісл.*, *Жлоб.*, *Івац.*, *Пруж.*, *Мін.*, *Рэч.*, *Гродз. Асудж. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна крычыць, сварыцца ці, можа, спявае. Federowski, 235; Сержпутоўскі 1999, 137; Бялькевіч, 109; Высл., 293; Цыхун, 179; ЛЦ, 101; ФА; ЗЗайкі.
**ду́ндзіць як парася́.** *Маладз.*, *Слуцк. Няўхв.* Пра дзіцёнка, які ахвотна п'е малако. Жыв. сл., 62; Мат., 98.

**качáцца па зямлí як парасё.** *Маладз.* Пра дзіця, пакінутае без нагляду. Гілевіч 2007, 65.

**кнíжыць як парасё благóя.** *Смарг. Няўхв.* Відаць, пра дзіцё, што капрызнічае, плача. СПЗБ 2, 491. < Кніжыць – капрызіць.

**скрэ́бсціся як [тое] парася́.** *Пух. Насмешл.* Пра нейчыя віскаты, стогны, варушэнні. Мін.-Мал., 1970, 124.

**смяя́цца як свянцóнае парася́.** Пра нейчы няшчыры, нацягнуты, запознены смех. Янк., Пар., 152.

**ушчамíцца як парася́ ў плот.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які не туды ўлез. Высл., 407.

**цадзíць праз зýбы як ліхóё парася́.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які неахвотна есць. Высл., 416.

**як парася́ лы́чам.** *Браг. Насмешл.* Пра нейкую неадпаведна выкананую работу. АВНЛ.

**як парася́там.** *Драг. Насмешл.* Пра ежу, якую жанчына нестаранна нагатавала днём. Нар. лекс., 196.

**зачвя́каць як парася́ты.** *Краснап. Няўхв.* Пра гучнае, з прыцмокванне прыманне ежы. Бялькевіч, 207.

пагавары́ць/гавары́ць як гусь з парэсéм. Гл. гусь.

**добрáцца ек порося́ до сырóводкі.** *Жытк. Насмешл.* Пра чалавека, які дабраўся да нейкага пітва – гарэлкі, піва і інш. ТС 5, 128.

***параўня́ць*** так памóжа, як гарбáтага магíла параўня́е. Гл. гарбаты.

***парахня́*** **крóхкі як парахня́.** Пра нешта вельмі крохкае, ломкае. Янк., Пар., 87.

**тлець як парахня́.** Пра нешта, што патроху дыміць, не разгараецца. Янк., Пар., 166.

седзéць ек комáр у порохнé. Гл. камар.

***парвáны*** разбірáцца як у парвáнай (у падрáнай) кнíзе. Гл. кніга.

сы́паць як з парвáнага мéха. Гл. мех.

трэ́ба як парвáная кнíга. Гл. кніга.

дурны́ як бот парвáны. Гл. бот.

толк як у парвáным бóце. Гл. бот.

як на парвáным ры́нку *дзе.* Гл. рынак.

***парвáцца*** Доўг не вярóўка, не парвéцца. Гл. вяроўка.

***парнýць*** схапíцца як бы *хто каго* шы́лам парнýў. Гл. шыла.

***парóг*** скугóліць як сабáка пры парóзе. Гл. сабака.

***парóжні*** барабáніць як парóжняя бóчка. Гл. бочка.

***парóсная*** чэ́рэво ек у порóсное свіньé. Гл. свіння.

***парóць*** Як тая Тадóра – то шы́е то пóра. Гл. Тадора.

***парсю́к*** **гаспадáрыць як парсю́к у агарóдзе.** *Маст. Іран.* Пра чалавека, які не гаспадарыць, а разбурае гаспадарку. ФА.

**глáдкі як парсю́к.** Пра тлустага, укормленага чалавека. Янк., Пар., 40.

**тлýсты як парсю́к.** *Сміл. Насмешл.* Шатэрнік, 277; Янк., 432. Тое ж.

**як парсю́к адкóрмлены.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1999, 79. Тое ж.

***пархí*** хвалíцца як жыд пархáмі. Гл. жыд.

***паршу́к*** **кача́цца як паршу́к у берлагу́.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які неахайна жыве. Высл., 334.
**разгадава́цца як паршу́к.** *Івац.* Пра надта распаўнелага, раскормленага чалавека. ЗЗайкі.
**сыты як паршу́к.** *Ваўк. п.* Пра тоўстага, укормленага чалавека, жывёлу. Federowski, 286.
**падбаро́давішча як у паршука́.** *Гродз. Насмешл.* Пра сытага чалавека з падвойным падбародкам. Цыхун, 99.

***паса́д*** дзяце́й як снапо́ў у паса́дзе. Гл. сноп.

***паса́тка*** **пупа́ўся як у па́сатку**. *Смал. п.* Пра чалавека, які трапіў у безвыходнае становішча. Добр., Смол., 675.

***пасвары́цца*** сядзе́ць як пасвары́ўшыся. *Івац. Няўхв.* Пра надзьмутых, варожа настроеных адзін да аднаго людзей. ЗЗайкі.

***пасве́нчаны*** **як пасве́нчаны.** *Ашм. Ухв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе вельмі мірна, рахмана. Даніловіч, 240.

***па́сеі*** вышчара́цца як кабы́ла на па́сеі. Гл. кабыла.
змо́ршчыцца як саба́ка на па́сеі. Гл. сабака.

***па́сека*** пе́рціся напрало́м як мядзве́дзь на па́секу. Гл. мядзведзь.
адзін як корч на па́сецы. Гл. корч.

***паску́дны*** цяпе́р уся́кага граху́ на све́це як на сме́тніку паску́днага сме́цця. Гл. сметнік.

***пасланец*** ждаць як з не́ба пасланца́. Гл. неба.

***пасла́ць*** як суке́нку хто пасла́ў. Гл. сукенка.

***пасле́дні*** здо́хнуць як [пасле́дні] саба́ка. Гл. сабака.
**як пасле́дняе ў жо́рны засы́паўшы.** *Воран. Няўхв.*1. Пра чалавека, які нешта робіць зусім павольна, нібы апошнюю работу. 2. Пра чалавека ў стане маркоты, упадку сіл, пасіўнасці. Даніловіч, 241.
**як пасле́дняе ў печ усы́паўшы.** *Вілен.*, *Воран. Няўхв.* Пра чалавека ў стане маркоты, упадку сіл, пасіўнасці. Sielicki, 162; Даніловіч, 241.
хадзі́ць як пасле́дняя апушчэ́нка. Гл. апушчэнка.
як пасле́дняя ато́рва. Гл. аторва.

***паспява́ць*** трэ́ба як жа́варанку паспява́ць. Гл. жаваранак.

***па́стка*** ша́стаць як мыш па па́стках. Гл. мыш.
папа́сціся/тра́піць як мыш у па́стку. Гл. мыш.
папа́сціся як тхор у па́стку. Гл. тхор.
як мыш у па́стку ўпаў. Гл. мыш.
вы́скаліцца як саба́ка ў па́стцы. Гл. сабака.

***пасто́л*** **вы́валіць як з пастала́.** *Ваўк. п. Груб.* 1. Пра нешта выкінутае бруднае, непрыемнае. 2. Пра грубыя, брыдкія словы. Federowski, 345.
**ля́пнуць як з пастала́.** *Сак. п.*, *Ваўк. п.*, *Гродз. Асудж.* Пра чалавека, які сказаў не да месца, недарэчна, Federowski, 161; Янкоўскі 1968, 220; Даніловіч, 227. < Пасталы – лапці (поўдзень Беларусі); у некаторых гаворках пасталы – лапці са скуры.
прыста́ць як смала́ да пастала́. Гл. смала.

**на стале́ як на пастале́.** *Карэл. Асудж.* Пра неахайнасць у хаце. Даніловіч, 237.
**ля́пнуць як пастало́м па вадзе́.** *Гродз., Івац. Асудж.* Пра чалавека, які сказаў нешта недарэчна, непрыстойна, брыдка. Цыхун, 186; ЗЗайкі.
**снег па́дае як пасталы́.** *Івац.* Пра снег камякамі. ЗЗайкі.
**мужы́к як пасто́л.** *Драг. Абразл.* Пра непрывабнага, нехлямяжага мужа. Скарбы, 90.
**Хай бу́дзе мужы́к як пасто́л – сядаві́ яго́ за стол.** *Пін. Прык.* Пра неабходнасць ветлівага абыходжання і з простым чалавекам. БВ, 123; БД, 308.
потрі́бный як чо́ртовы постолы́. Гл. чорт.

***пасту́х*** **уме́лы як дзяшо́вы пасту́х.** *Іран.* Пра некага зусім няўмелага. Янк., Пар., 174.
блука́цца як гаўца́ без пастуха́. Гл. гаўца.
**пра́цы як з дзяшо́вага пастуха́.** *Іран.* Пра невялікі аб'ём і ненайлепшую якасць выкананай кім-н. працы. Янк., Пар., 131.

***пасты́рскі*** распусці́цца як пасты́рская пу́га. Гл. пуга.

***пасце́лька*** **вялі́зная [газэ́ціна] як пасце́лька.** *Сміл. Жарт.* Відаць, хацелі сказаць, што газета нагадвае прасціну, дзяругу. Шатэрнік, 62.
**Ро́дная зяме́лька як змо́ранаму пасце́лька.** *Ганц. Прык.* Пра неацэннае значэнне радзімы для чалавека. ПП 1, 287.

***пасы́паць*** як ма́кам пасы́пана *чаго.* Гл. мак.
круці́цца як ую́н, со́ллю пасы́паны. Гл. уюн.

***пасьвісьцёл*** **як пасьвісьцёл.** *Гродз. Жарт.* Пра некага хударлявага, высокага, нібы дудка. Цыхун, 175.

***па́така*** **сало́дка як па́така.** *Гродз. Ухв.* Пра нешта прыемна салодкае. Сцяшковіч, 463.
схапі́ць як шы́лам па́такі. Гл. шыла.
уле́зці (зале́зці, улі́пнуць) як му́ха ў па́таку. Гл. муха.

***патану́ць*** **як патану́ў.** *Мсцісл.* Пра бясследнае, незразумелае знікненне кагосьці. Юрчанка, 194.

***патапі́ць*** як вало́ў патапі́ўшы. Гл. вол.

***патаро́ча*** **вы́салапіцца як патаро́ча.** *Няўхв.* Пра жанчыну, якая выставілася напаказ. Шпилевский, 172; Киркор, 238; Шейн, 22; Станкевіч, 848. < Высалапіцца – тут: убрацца, выставіцца напаказ.
**вы́цалапіцца як патаро́ча.** Пра вытарашчаныя вочы. Аксамітаў, 199.
**але́ ж во́чы як у патаро́чы.** *Сак. п. Насмешл.* Пра чыйсьці непрыемны пагляд, непрыемныя вочы. Federowski, 224. < Патароча – тут: пудзіла.

***патарча́ка*** **тарча́ць як патарча́ка.** *Ушацк. Насмешл.* Пра некага худога, высокага, нібы жэрдка. Барадулін, 115.

***патрэ́п'е*** пазі́раць як мыш з патрэ́п'я. Гл. мыш.

***падсядзёлак*** пасава́ць як да каро́вы (каро́ве) падсядзёлак. Гл. карова.

***падшы́ты*** лётаць як чо́ртам падшы́ты. Гл. чорт.
як чо́ртам падшы́ты. Гл. чорт.

***папа́сці*** як у воло́ве ýхо попа́ў. Гл. вуха.

***патыкаць*** так рэ́дка пасхóдзіла як чорт калóм патыкаў. Гл. чорт.

***патыліца*** **уба́чыць (угле́дзіць) як сваю патыліцу.** *Докш., Слон., Івац. Іран.* Пра нешта, што нельга ўбачыць, нельга атрымаць, дачакацца абяцанага. Высл., 403; Санько, 191; ЗЗайкі.

***патэ́льня*** **гла́дка як на патэ́льні.** *Ухв.* Пра роўны, гладкі ўчастак зямлі. Янк., Пар., 39.

круці́цца (ві́цца, вярце́цца) як уюн на [гара́чай] патэ́льні (скаўрадзе́, скаварадзе́). Гл. уюн.

**лёгкі на ўспамі́н як з патэ́льні блін.** *Сен., Докш. Насмешл.* Пра хуткае з'яўленне кагосьці, пра каго гаварылі. Высл., 341.

падскóкваць як кот на гара́чай патэ́льні. Гл. кот.

паўзці́ як мача́нка <па патэ́льні>. Гл. мачанка.

пішча́ць як піску́н на патэ́льні. Гл. піскун.

скве́рціся як са́ла на патэ́льні. Гл. сала.

як вуж на патэ́льні. Гл. вуж.

***паўлі́н*** **прыбра́цца як паўлі́н.** *Насмешл.* Пра надта страката, залішне модна апранутага чалавека. Янк., Пар., 132.

***паўці́нне**, гл.* ***павуціна***

***паўшóры*** ісці́ (пасава́ць, падыхóдзіць, прыста́ць, прыхóдзіцца) як карóве (свінні́) паўшóры. Гл. карова.

***пахава́нне*** **ісці́ як на пахава́нне.** *Мін. Няўхв.* Пра ціхую марудную хаду. ЛЦ, 71.

***пахава́ць*** **засму́чаны ба́цдэ** *каго* **пахава́ў.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека вельмі засмучанага. Сержпутоўскі 1998, 283.

**на сэ́рцу як бы пахава́ў** *каго. Ваўк. п.* Пра свой стан журботы, маркоты (чалавек). Federowski, 274.

ця́жка на сэ́рцы, ба́ццэ сам сябе́ пахава́ў. Гл. сам.

***паха́ць*** так хóчацца рабі́ць як саба́цы паха́ць. Гл. сабака.

***пахлапе́нь*** **як пахлапе́нь.** *Мсцісл. Зняважл.* Пра чалавека дужа простага, недалёкага, неадукаванага, як лапаць з вяровачным падплётам. Юрчанка, 194.

***пац*** **мóкры як пац.** *Гродз., Навагр. Жарт.* Пра вельмі спацелага чалавека. Даніловіч, 241. < Пац – пацук.

***пацалава́цца*** як са сме́рцю пацалава́ўся. Гл. смерць.

***пацалава́ць*** як чорт пацалава́ў. Гл. чорт.

***пацара́паць*** на сэ́рцы як кот пацара́паў. Гл. кот.

***па́церачка*** **вóчкі як па́церачкі.** *Памянш.-ласк. Слон. Ухв.* Пра нечыя малыя, круглыя, бліскучыя вочкі. Высл., 294.

***па́церкі*** **бу́льба як па́церкі.** *Маладз. Няўхв.* Пра малую, дробную бульбу. Гілевіч, 104.

**мале́нькія як па́церкі.** *Валож.* Пра нейкія дробныя прадметы. Высл., 345.

падыхóдзіць як свінні́ па́церкі. Гл. свіння.

**слёзы як па́церкі.** *Ваўк. п.* Пра буйныя слёзы каго-н. Federowski, 303.

***па́церы*** разбіра́цца як свіння́ ў па́церах. Гл. свіння.

так (пэ́ўна) як а́ман у па́церах. Гл. аман.

знаць як амы́нь у пацеро́вы. Гл. амінь.

**балбата́ць як па́церы гавары́ць.** *Няўхв.* Пра надта складную балбатню кагосьці. Янк., Пар., 14.

**ве́даць як па́церы** *што. Стаўб. Ухв.* Пра добрае, дасканалае веданне, разуменне ў якой-н. справе. МК, 36–37.

патрэ́бна як чо́рту па́церы. Гл. чорт.

**рабо́та йдзе як у Рама́на па́церы.** *Воран. Ухв.* Пра чыюсьці спорную, складную работу. Даніловіч, 260.

**уме́ць як па́церы.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які напамяць ведае сваю справу. Federowski, 319.

як з кабы́лаю па́церы мо́віць. Гл. кабыла.

***па́церына*** **свяці́ць як па́церына.** *Леп. Ухв.* Відаць, пра штосьці бліскучае, дробнае. АВНЛ.

***паце́ха*** зда́ўся на пры́казкі як арэ́хі дзе́ля паце́хі. Гл. арэх.

***пацу́к*** **глядзе́ць як пацу́к з мукі́.** *Няўхв. Жарт.* Пра чалавека з нейкім характэрным поглядам. Ляцкий, 7.

**мітусі́цца як падсма́лены пацу́к.** *Рэч.*, *Чэрык.*, *Мін. Насмешл.* Пра чалавека вельмі мітуслівага, панікуючага, перапалоханага. ЛЦ, 72.

**мо́кры бы пацу́к.** *Гродз.*, *Стол.*, *Навагр. Жарт.* Пра вельмі спацелага чалавека. Даніловіч, 241; ТС 4, 19.

**прытаі́цца як пацу́к у пусты́м за́секу.** *Мін. Насмешл.* Пра кагосьці, што імкнецца схавацца, адседзецца, прычакаць свой час. ЛЦ, 58.

**спаце́ць як пацу́к.** *Гродз. Жарт.* Даніловіч, 241. Тое, што мокры як пацук.

**шко́дны як пацу́к.** *Ваўк. п.*, *Докш. Няўхв.* Пра шкадлівага чалавека. Federowski, 299; АВНЛ.

***пацучо́к*** **жы́рны як пацучо́к.** *Памянш. Мсцісл. Насмешл.* Пра некага даволі сыценькага, ускормленага. Юрчанка 1998, 39.

***паця́гнуты*** як за душу́ паця́гнутый. Гл. душа.

***пацягну́ць*** **накла́сці (наладава́ць) як пацягну́ць.** *Слон.*, *Чэрв.* Пра вялікую колькасць нечага (мяшкоў, дроў і інш.), што цяжка зрушыць, павезці, скрануць з месца. Высл., 351; Мін.-Мал., 1977, 139.

***пацяра́ць*** хадзі́ць як дзень пацяра́ўшы. Гл. дзень.

як ла́пці пацяра́ўшы. Гл. лапці.

як пуць пацяра́ўшы. Гл. пуць.

як свет пацяра́ўшы. Гл. свет.

***пачака́й*** **до́ўгі як жыдо́ўскі пачака́й.** *Лаг.* Пра нешта доўгае, працяглае. Варлыга 1966, 32. < Ад жыда-гандляра часам доўга трэба чакаць аплаты (жыды-гандляры часта адцягвалі аплату).

**твой пагадзі́ як яго пачака́й.** *Сміл. Жарт.* Пра марудлівасць партнёраў. Шатэрнік, 184.

**як жыдо́ўскі пачака́й.** *Астр. Насмешл.* Пра тое, што трэба доўга чакаць. Даніловіч, 223.

**у тэбэ́ «за́рэ» як у па́на «почэка́й».** *Бяроз. Насмешл.* Пра чыёсьці няхуткае выкананне, пра што гаварылася «зараз». АВНЛ.

***пачаса́цца*** як адны́м грэ́бенем пачаса́ліся. Гл. грэбень.

***пачастава́цца*** пагавары́ць як шро́там пачастава́цца. Гл. шрот.

***пача́ць*** Абма́н як чума́: як пачне́ць, не спы́ніцца. Гл. чума.
Дуда́ як бяда́: пачне́ш дзьмуць, дак аж слёзы набягу́ць. Гл. бяда.

***пачу́ць*** навастры́ць ву́шы як конь, пачу́ўшы ваўка́. Гл. конь.
як сядзёлку пачу́ўшы. Гл. сядзёлка.

***пачы́нак*** **хло́пчык як пачы́нак.** *Івац.*, *Слон. Ухв.* Пра дагледжанае тоўсценькае дзіця. Нар. лекс., 55; ЗЗайкі. < Пачынак – большае верацяно, на якое навіваюць пражу з некалькі верацён.
**парася́ты як пачы́нкі.** *Ухв.* Пра тоўсценькіх сытых парасят. Янк., Дыял., I, 218.

***пачэ́плены*** крыча́ць як за язы́к пачэ́плена. Гл. язык.
як за душу́ пачэ́плены. Гл. душа.

***па́ша*** разбрыня́ць як каро́ва на до́брай па́шы. Гл. карова.

***пашавэ́лак*** **хадзіць як пашавэ́лак.** *Астр. Няўхв.* Пра неахайнага чалавека. СПЗБ 3, 473.

***пашані́шны*** **як пашані́шный.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нешта, некага белых, чыстых. Юрчанка, 194.

***пашапта́ць*** як сем баб пошэпта́ло. Гл. баба.

***пашчабята́ць*** Дачка́ як ла́стаўка: пашчабе́чыць, пашчабе́чыць ды й паляціць. Гл. ластаўка.

***пашы́ць*** як хаму́т пашы́ўшы. Гл. хамут.

***пашэ́та*** **як пашэ́та.** *Навагр. Асудж.* Пра кагосьці вельмі неахайнага. Даніловіч, 241.

***пе́рынка****, гл.* ***пярынка***

***пе́вень****, гл. таксама*

***пятух*** **вы́скачыць як пе́вень з канапе́ль.** *Светл.*, *Мін.*, *Петр. Няўхв.* Пра чалавека, што нечакана выступіў, выказаўся, заявіў аб сабе. Высл., 298; Ройзензон, 68; Юрчанка 1977, 239.
**гара́чы як пе́вень.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека з характарам забіякі. ЛЦ, 63.
**задзі́рлівы (задзі́рысты) як пе́вень.** *Насмешл.* Пра нястрыманага, задзірыстага чалавека. Янк., 408; Янк., Дыял., I, 209.
**засты́ць як пе́вень пасля́ кукарэ́ку.** *Насмешл.* Пра чалавека, які нечакана змоўк. Янк., 408; Санько, 133.
**кінуцца як пе́вень на пе́ўня з чужо́га двара́.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які заўзята накінуўся на іншага. ЛЦ, 71.
**ку́длы стоя́ць ек пе́вень на пло́це.** *Жытк. Насмешл.* Пра непрычасанага, у каго валасы пнуцца ўверх. ТС 2, 247.
**ле́зці як пе́вень на плот.** *Няўхв.* Пра чалавека, які нахабна некуды лезе. Рапановіч, 253.
**пагро́зны як пе́вень.** *Насмешл.* Пра агрэсіўна настроенага, але нястрашнага чалавека. Янк., Пар., 120.
**пове́сціса ў бо́кі бу пе́вень.** *Стол. Няўхв.* Пра ўпартага, задзірлівага чалавека. ТС 1, 68.
**пяя́ць як пе́вень на сме́тніку.** *Рэч.* Пра задзірысты, гучны спеў. Высл., 373.

**спаць як той пéвень на курасáдні: аднó вóка заплю́шчана, а другíм гляджý.** *Жарт.* Пра нейчы чуткі сон. Янкоўскі, 44.
**фарсíсты як пéвень вяснóю.** *Насмешл.* Пра занадта фарсістага чалавека. Янк., Пар., 177.
**хадзíць як пéвень сярóд курэ́й (з курáмі).** *Краснап. Насмешл.* Пра кавалера, які горда трымаецца сярод дзяўчат. Бялькевіч, 229; Ройзензон, 79.
**як пéвень наравíсты.** *Карэл. Няўхв.* Пра ўпартага, капрызлівага чалавека. Сцяшковіч, 617.
**шчапíцца ек пéўне.** *Стол. Няўхв.* Пра двух людзей, што схапіліся біцца. ТС 5, 127.
**бíцца як пéўні.** *Ваўк. п.*, *Стол. Насмешл.* Пра людзей, што заядла біліся. Federowski, 29; ТС 5, 127.
**парабíцца ў кроў як пéўні вяснóй б'ючы́ся.** Пра людзей, што пабіліся да крыві. НН 1911, 494.
**спрачáцца як пéўні.** *Пруж. Насмешл.* Пра ўпартых людзей, што не ўступаюць адзін аднаму. МК, 242.
**чý біцца як пéўні.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра людзей, што зацята б'юцца. Federowski, 69.
**сэ́рца б'éцца як у маладóга пéўня.** *Віл. Кплів.* Пра нейчы стан хвалявання, узбуджэння, калі часта-часта б'ецца сэрца. ЗВалодзінай.
любíць як лісá пéўня. Гл. ліса.
**пóмачы як ад пéўня я́ек.** *Шарк. Іран.* Пра чалавека, ад якога няма ніколькі помачы. ДА.
**скрывíцца як у пéўня грэ́бень.** *Карэл. Кплів.* Пра нейчую згорбленую паставу. Высл., 384.
**сóраму як у пéўня мя́са на шпóрах.** *Ашм. Іран.* Пра чалавека, у якога зусім няма сораму. Даніловіч, 259; Санько, 184.

***пéкла*** ісцí як Мáрка з пéкла. Гл. Марка.
**ляцéць (пéрці) так як [чэ́рці] з пéкла.** *Сак. п.*, *Слон. Няўхв.* Пра людзей, што некуды надта хутка беглі. Federowski, 160; Высл., 344.
**папáсціся як у пéкла.** *Мсцісл.* Пра чалавека, што трапіў у вялікае гора, цяжкія абставіны. Юрчанка, 72.
**прапáла як у пéкла ўкíнуў.** *Ваўк. п.* Пра безнадзейнае знікненне чаго-н. Federowski, 244.
блукáць (снóўдацца) як Мáрка па пéкле. Гл. Марка.
ганя́ць як Мáрку па пéкле. Гл. Марка.
загíнуць як Мáрка ў пéкле. Гл. Марка.
**зáмужам як у пéкле.** *Спачув.* Пра благое замужжа жанчыны. Бялькевіч, 449.
**круцíцца як у пéкле.** *Няўхв.* Пра панічную мітусню. Станкевіч, 651.
мáяцца як Мáрка ў пéкле. Гл. Марка.
**нажылáся як у пéкле спяклáся.** *Слуцк.*, *Валож. Няўхв.* Пра чыёсьці вельмі цяжкое жыццё. ФА.
хадзíць як грэх без душы́ [па пéкле]. Гл. грэх.

хадзі́ць як святы́ Ма́рка па пе́кле. Гл. Марка.
цяга́цца як Ма́рка па пе́кле. Гл. Марка.
цяга́ць як чорт Ма́рку па пе́кле. Гл. чорт.
як чорт у пе́кле. Гл. чорт.
**гарачо́ (жаро́та; ро́біцца) як у пе́клі.** *Ваўк. п.*, *Краснап. Няўхв.* Пра вельмі гарачае надвор'е. Federowski, 103, 254; Бялькевіч, 413.
**так** *каму* **до́бра як у пе́клі.** *Іран.* Пра вельмі благое становішча кагосьці. Ляцкий, 44.
хадзі́ць як грэх па пе́клі. Гл. грэх.
шата́цца як чорт па пе́клі. Гл. чорт.
таўчы́ся як Ма́рка па пе́клу (у пе́клі). Гл. Марка.

***Пе́льха*** **заробі́ць ек Пе́льха на сагана́х.** *Стол. Іран.* Пра нейкае стратнае мерапрыемства. ТС 5, 8. < Саган – вялікі чыгун з вушкамі.

***пе́люсці*** **як у пе́люсці (як у пе́люсцях)** *дзе. Маст.* Пра вялікі холад пераважна ў памяшканні. Даніловіч, 259. < Пелюсць (пелюсці) – чалеснікі.

***пе́на*** **У дзе́ўкі ўма́ на шэ́лег няма́, а ў малайца́ веры як на мо́ры пе́ны.** *Арш. Няўхв. Прык.* Пра даверлівасць дзяўчат і нявернасць хлопцаў. АВНЛ.

***пень*** **И ў ста́рца душа́ ня пень: хо́чить хле́ба и канапе́ль.** *Смал., Шарк. Прык.* Пра патрэбу кожнага ў харчаванні. Добр., Смол., 117; Рапановіч, 46.
**адзін як пень.** *Слон. п.*, *Івац.*, *Мін.*, *Лід.*, *Жытк.*, *Дзярж. Спачув.* Пра старога самотнага чалавека. Federowski, 6; Высл., 281; АВНЛ; ТС 4, 22; СЦБ, 95; ЗЗайкі.
**адзін як пень у чы́стым по́лі.** *Докш.* АВНЛ. Тое ж.
Ва́ша малада́я як су́чка раба́я, а ваш малады́ як пень смаляны́. Гл. сучка.
**гавары́ць** *каму* **як у пень.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра людзей, што не рэагуюць на сказанае. Юрчанка 1977, 247.
**глухі як (што) пень (кало́да).** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Слуцк.*, *Рэч.*, *Стаўб.*, *Светл.*, *Старадар.*, *Рэч.*, *Бых. Пагардл.* Пра глухога чалавека. Federowski, 110; Сержпутоўскі 1999, 36; Pietkiewicz, 370; Янк., 402; МК, 53; Высл., 305; ЛЦ, 74; Матэрыялы 1981, 25; ЗЗайкі.
**го́лы як пень.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра зусім беднага чалавека. Federowski, 112.
**дурны́ як пень.** *Слуцк. Пагардл.* Пра дурнога чалавека. Сержпутоўскі 1999, 61, 97; Ляцкий, 42.
зачапі́цца як п'я́ны за пень. Гл. п'яны.
**лы́сы як пень абсе́клы.** *Дзятл. Няўхв.* Пра знешнасць аблыселага чалавека. Арх. Гр.
**маўча́ць як пень.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта маўчыць. Сержпутоўскі 1999, 122.
**не скрану́ць як пень дубо́вы**. *Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі стойкі, упарты. Янк., Пар., 113.
**рабі́ць як пень це́раз кало́ду.** *Няўхв.* Пра работу, якая бесталкова робіцца. Расторгуев, 260.

**стаў у паро́зе як пень на даро́зе.** *Насмешл.* Пра чалавека, што стаіць на дарозе і перашкаджае іншым. Ляцкий, 43.

**стая́ць як пень <маляўа́ны>.** *Воран., Гродз. Зняважл.* Пра чалавека, які не разумее, што адбываецца. Даніловіч, 241.

**стая́ць як пень у бе́лы дзень.** *Лід. Няўхв.* Пра чалавека, што трымаецца збянтэжана, няўцямна. Сцяшковіч, 617.

**стая́ць як пень.** *Стаўб. Зняважл.* Пра чалавека, які бяздзейнічае, не разумее, не памагае. МК, 247.

**усадзі́ў бог ду́шу як у пень.** *Смарг. Няўхв.* Пра тупога, дурнаватага, нягеглага чалавека. ФА.

**чырво́ны як пень альхо́вы.** *Ельск., Сміл. Ухв.* Пра здаровага румянага чалавека. Высл., 420; Шатэрнік, 18.

**што пень, нічо́генькі не панімá́іць.** *Б.-Каш. Асудж.* Пра чалавека тупога, няўцямнага. Матэрыялы 1981, 109.

**як на пень уз'е́хаў.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, што спыняецца раптам у здзіўленні. Юрчанка, 192.

**як пень у бе́лы дзень.** *Лід. Асудж.* Пра збянтэжанага, зніякавелага, разгубленага чалавека. Даніловіч, 241.

**жыць як за пнём.** *Лоеў. Ухв.* Пра чалавека, што жыве без турбот, бяспечна. Янкова, 261.

сядзе́ць як чорт на пні. Гл. чорт.

**каза́ць** *каму* **як пню: яму ўсё ро́ўна.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не рэагуе на словы, не слухае. Романов 1901, 68.

**<да ха́тняй рабо́ты> як да пня.** *Маладз. Няўхв.* Пра няспрытную ў рабоце жанчыну. Гілевіч, 131.

**гавары́ць як да пня.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра зварот да ўпартага чалавека, якому цяжка штосьці сказаць, загадаць. Юрчанка, 182.

**да бо́йкі як да пня.** *Мядз. Насмешл.* Пра гарачы, задзірысты характар чалавека, які лёгка кідаецца ў бойку. ЗСалавей.

**дахо́дзіць як да пня** *каму да каго. Іўеў., Слон. Асудж.* Пра вельмі павольнае разуменне некім нечага. Даніловіч, 219.

**валі́цца як з пня.** *Рэч.* Пра чалавека, які раптоўна памёр, захварэў – зваліўся з ног. ЛЦ, 106.

**як да пня.** *Навагр. Асудж.* Пра чалавека, які вельмі ахвочы да нечага – пагуляць, выпіць. Даніловіч, 219.

***перавіты*** **як пераві́тый.** *Мсцісл. Ухв.* Пра поўнага, сытага чалавека. Юрчанка, 194.

***перавóз*** мудрава́цца як су́чка пе́рад перавóзам. Гл. сучка.

вышчара́цца як су́чка на перавóзе. Гл. сучка.

круці́цца як су́чка на перавóзе. Гл. сучка.

***перавя́заны*** **ру́чкі як перавя́заныя.** *Івац. Ухв.* Пра дзіцячыя тоўсценькія пульхныя ручкі. ЗЗайкі.

***перагарэ́ць*** ху́тка як во́ласу перагарэ́ць. Гл. волас.

***пераéзны*** як сва́ха пераéзная. Гл. сваха.

***пераéхаць*** як на <рабóй> свінні́ праéхаў (пераéхаў). Гл. свіння.

пражы́ць жызь як на свіні́ пераéхаць. Гл. свіння.

***перазімава́ўшы*** сла́бы і вя́лы як перазімава́ўшая му́ха. Гл. муха.

***перайці*** Век працы – не по́ле перайці́ць, не па́льцам пераківа́ць. Гл. поле.

***перакаці́цца*** як каню́ перакаці́цца. Гл. конь.

***перакі́нуць*** як за сябе́ перакі́нуў. Гл. сябе.

укара́ць як зло́дзея за плот перакі́нуўшы. Гл. злодзей.

***перакры́ць*** папяро́к го́рла стаў, як ка́мень ручэ́й перакры́ў. Гл. камень.

***перакулі́цца*** як каню́ перакулі́цца. Гл. конь.

***перама́лываць*** Язы́к што жо́рны: перама́лывае і ко́сці. Гл. жорны.

***перама́цаць*** вы́рабіць зямлю́ як па́льцамі перама́цаць. Гл. палец.

***перамы́ты*** **як перамы́ты.** *Навагр.*, *Пол. Ухв.* Пра здаровага, у росквіце сіл чалавека. Даніловіч, 241; Нар. лекс., 15.

***пераначава́ць*** у вуша́х як ко́зы пераначава́лі. Гл. каза.

***перапалі́ць*** ху́тка як во́лас перапалі́ць. Гл. волас.

***перапало́х*** сві́снуць бы воўк з перапало́ху. Гл. воўк.

***перапе́чка*** **маладзі́ца як перапе́чка.** *Глуск. Ухв.* Пра дагледжаную, поўную жанчыну. Янк., Дыял., III, 171.

**паваро́чвацца як перапе́чка.** *Чашн. Няўхв.* Пра поўную, непаваротлівую жанчыну. КВДУ.

**як перапе́чка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра дагледжанага, тоўстага чалавека. Янк., Пар., 207; Юрчанка 1993, 125.

***перапёлка*** **гнядзе́нькі як перапёлка.** *Слон. Ухв.* Відаць, пра масць каня. Высл., 306.

***пераплы́ць*** Век пражы́ць – не мо́ра пераплы́ць. Гл. мора.

мо́кры як Сож пераплы́ўшы. Гл. Сож.

***перапо́начка*** **ру́чачкі як перапо́начкі.** *Памянш. Мсцісл. Няўхв.* Пра вельмі тонкія рукі. Юрчанка, 194.

***перапу́д*** **ляце́ць як з перапу́ду.** *Мін. Няўхв.* Пра вельмі хуткую хаду кагосьці. ЛЦ, 72.

***пераса́джваць*** Дзе́ўкі як вярба́ – іх усю́ды пераса́джваюць. Гл. вярба.

***пераско́чыць*** ноч як дзі́кай казе́ пераско́чыць. Гл. каза.

Смерць не ручаі́на – не пераско́чыш. Гл. ручай.

***пераса́льваць*** Жарт як соль: салі́ ды не пераса́львай. Гл. соль.

***пературу́хнуць*** Дзяўчы́на як сало́ма: пературу́хне – ніко́му не патрэ́бна. Гл. салома.

***пераxо́дны*** Шча́сце як тра́сца, перахо́дная сва́цця. Гл. трасца.

***пе́рац*** **вы́сахнуць як пе́рац.** *Няўхв.* Пра чалавека схуднелага, ссохлага, старога. Янк., 400.

**го́ркі як пе́рац.** *Няўхв.* Пра нешта вельмі горкае. Янк., Пар., 43.

**надаку́чыць як го́ркі пе́рац.** *Навагр.*, *Дзятл.*, *Маст. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна надакучыў, абрыдзеў. Даніловіч, 218.

**патрэ́бен як пе́рац у ка́ве.** *Касц. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ЛЦ, 118.

**кі́нуць сло́вам як пе́рцам.** *Няўхв.* Пра чалавека, які сказаў штосьці вельмі балючае, горкае. Матэрыялы 1981, 119.

даць як жыд пе́рцу. Гл. жыд.

зна́цца як свіння́ на пе́рцу. Гл. свіння.

**Ры́нуць слаўцо́м як пярцо́м.** *Прык.* Пра чалавека, які ўжыў вострае, пякучае (як перац) слова. Dybowski, 188.

***перашпілены*** **як перашпіленый.** *Мсцісл.* Пра чалавека з тонкай таліяй. Юрчанка, 194.

***пéрднуць****, гл.* ***пёрнуць***

***пéр'е*** такóе сáла як у зáйца пéр'е. Гл. заяц.

тóлку з гэ́тай дзéўкі як з кýрыцы: піску мнóга, пéр'я мáла. Гл. курыца.

***пéрлы*** **зýбы як пéрлы.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожыя белыя зубы кагосьці. Federowski, 361.

***пéрнік*** **румя́ны як пéрнік.** *Ухв.* Пра румянага прыгожага чалавека. Санько, 180.

смáчна як каню́ пéрнік. Гл. конь.

**Хварóба не пéрнік: не пракаўнéш і не адкáжашся.** *Глуск. Прык.* Пра нялёгкасць пазбыцца хваробы. Янк., Дыял., I, 223.

***пéрнічак*** **як пéрнічак румя́ненькі.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Federowski, 267. Тое, што румя́ны як пéрнік.

***перст*** **адзін як перст.** *Смал. п., Слуцк., Стаўб., Мёр., Слон., Рэч., Брэсц. Спачув.* Пра самотнага адзінокага чалавека. Добр., 106; Сержпутоўскі 1999, 6; МК, 19–20; Нар. слов., 103; Высл., 281; Юрчанка 1972, 27; Никифоровский, 202; ЛЦ, 99.

***пéршы*** насíцца як кýрыца з пéршым яйцóм. Гл. курыца.

***перынá*** **лёгкі як перынá.** *Ваўк. п.* Пра нешта (некага) вельмі лёгкага. Federowski, 167.

**схлýсіць як перынý спалíць.** *Глуск.* Пра лёгкасць, з якім хтосьці падманвае. АВНЛ.

**як перынý асмалíць.** Пра вельмі кароткі адрэзак часу, імгненне. Санько, 212.

***перы́нка****, гл.* ***пярынка***

***пéсенька*** **Жыццё пражы́ць – не пéсеньку спець.** *Прык.* Пра складанасці на жыццёвым шляху. Янк., 218.

***пéсня*** **жывéм як пéсні пяéм.** *Ухв.* Пра шчаслівае жыццё. Янк., Пар., 61; Санько, 131.

нýдная як у кóміне пéсня. Гл. комін.

**цягнýцца як сабáчая пéсня.** *Віл. Няўхв.* Пра нешта доўгае, працяглае і не зусім прыемнае. ФА.

пайсцí як у Масквý за пéснямі. Гл. Масква.

***петнастóўка*** **вы́брацца (убрáцца) як [сераўнó] петнастóўка (шаснáццатка).** *Маст., Клецк. Зэльв. Насмешл. Асудж.* Пра дарослую жанчыну, што прыбралася, як падлетак. Сцяшковіч, 371; Нар. лекс., 211; Гілевіч, 167. < Петнастоўка – дзяўчына 15 гадоў.

***петушкí*** зарабíць як Áўгуст на петушкáх. Гл. Аўгуст.

***печ*** **Без дачкí сям'я́ што печ без агня́.** *Свісл. Прык.* Пра святло і цеплыню, што прыносіць у сям'ю дачка. Сцяшковіч, 581.

**бéлы як печ.** *Ухв.* Пра нешта вельмі белае. Ройзензон, 67.

**крýта што на печ [чуць узлéзеш].** *Мсцісл.* Пра круты, стромкі пад'ём куды-н. Юрчанка 1977, 236.

**рухáвая як печ.** *Чэрык. Іран.* Пра некага зусім нерухавага. ЛЦ, 74.

сядзéць як паслéдняе ў печ усы́паўшы. Гл. паследняе.

**то́ўстая (разрабі́лася) як печ.** *Слуцк., Уздз., Івац. Няўхв.* Пра жанчыну, што моцна распаўнела. Сержпутоўскі 1999, 79; Мін.-Мал., 1970, 116; МК, 112; ЗЗайкі.
**то́ўсты як печ.** *Слуцк. Ухв.* Пра тоўстыя дрэвы. Сержпутоўскі 1999, 40.
**Чалаве́к без сябро́ў што печ без дроў.** *Прык. Няўхв.* Пра неабходнасць мець сяброў. Сцяшковіч, 665.
**шырачэ́зная як печ.** *Лаг. Ухв.* Пра нешта вялікае, шырокае. Высл., 423.
як апо́шняе ў печ усы́паўшы. Гл. апошняе.
як апсле́дняе ў печ усы́паўшы. Гл. паследняе.
**сядзе́ць як за пе́чай.** *Астр. Ухв.* Пра чалавека, што мае падмогу ад кагосьці, жыве ў дастатку. СПЗБ 5, 66.
до́бра [табе́ сядзе́ць] як у Па́на Бо́га за пе́ччу. Гл. пан.
**ажані́ўся як з пе́чы звалі́ўся.** *Івац. Насмешл.* Пра нечпадзяваную, без доўгіх заляцанняў жаніцьбу. ЗЗайкі.
**го́рача як у пе́чы.** *Няўхв.* Пра гарачае надвор'е, спёку. Янк., Пар., 43.
Жані́ўся як ду́рань з пе́чы звалі́ўся. Гл. дурань.
лёгка як ката́ з пе́чы скі́нуць. Гл. кот.
ляжа́ць як кот на пе́чы. Гл. кот.
**Начу́е ў бу́дцы, а ка́шляе як на пе́чы.** *Мсцісл. Жарт.* Пра таго, хто жыве ў дрэнных умовах, але імкнецца паказаць сябе ў выгадным святле. Юрчанка, 45.
паўзці́ як Хо́ўра з пе́чы. Гл. Хоўра.
спява́ць як кажухо́м па пе́чы. Гл. кажух.
сядзе́ць як клоп на пе́чы. Гл. клоп.
**цёпла як на пе́чы.** *Ухв.* 1. Пра цёплае, утульнае месца. 2. Пра надвор'е. Янк., Пар., 188.
швардэ́кнуць ек бу ду́рэнь с пе́чы. Гл. дурань.
ляжа́ць як во́рапень на пячы́. Гл. ворапень.
як у Лукаша́ на пячы́. Гл. Лукаш.

***пе́чаны*** маршчы́ністы як пе́чана я́блыка. Гл. яблык.
нае́дку што (як) з [пе́чанага] ра́ка. Гл. рак.
патрэ́бен як саба́ку пе́чаная цыбу́ля. Гл. сабака.
чырво́ны (счырване́ў) як рак [варо́ны, пе́чаны]. Гл. рак.
смак у як у пе́чаным ра́ку. Гл. рак.

***пе́чка*** **за му́жам як за пе́чкай.** *Мін. Ухв.* Пра выгаднае жыццё жанчыны замужам. ЛЦ, 83.
сядзе́ць што кама́р за пе́чкаю. Гл. камар.

***печка́р*** **покома́ндоваць як печка́р печкары́хою.** *Стол. Насмешл.* Пра чалавека, што дае недарэчныя загады, каманды. ТС 4, 49. < Печкар – пячнік.

***пёрнуць*** сказа́ць як у гляк пе́рднуць. Гл. гляк.
сказа́ць як у ваду́ пёрнуць. Гл. вада.
сказа́ць як у лу́жу пёрнуць. Гл. лужа.

***пёс*** **Зна́ці, ой, зна́ці, што ён жана́ты: ску́рчыўся, згóрбіўся, як пёс кудла́ты.** *Фальк. Жарт.* Пра заганы жанатага перад маладым зухаватым хлопцам. Federowski, 363.

**Ры́жага да крывóга бóйся як пса злóга.** *Прык.* Пра прымхлівую боязнь рыжых ды крывых. Матэрыялы 1981, 123.

***піва*** **Наву́ка не піва – у рот не ўлье́ш.** *Слуцк. Прык.* Пра немагчымасць з ходу перадаць усе веды і навыкі, бо гэта патрабуе доўгай працы. Сахараў.

**разбушава́цца як маладóе піва.** *Мсцісл. Жарт.* Пра людзей, што гучна гамоняць, гуляюць. Юрчанка, 190.

**разысці́ся як маладóе піва.** *Лід. Іран. Жарт.* Пра чалавека, што нястрымана, шумна сябе паводзіць. Даніловіч, 233.

***півóня*** **дзе́ўка як півóня.** *Ухв.* Пра вельмі яркую, прыгожую дзяўчыну ў росквіце. Янк., Пар., 52.

**сядзе́ць як півóня ў лапуха́х.** *Воран., Маст. Насмешл.* Пра некага, хто вылучаецца ў акружэнні. Даніловіч, 242. < «Як ружа ў крапіве» – кажуць пра хлопца ў натоўпе дзяўчат.

***піка*** **вóстры як піка.** *Няўхв.* Пра чалавека з рэзкім характарам. Фед. Арх.

***піке́т*** як чорт на піке́це. Гл. чорт.

***пілá*** **пілі́ць як пілá.** *Лоеў. Няўхв. Асудж.* Пра жонку, што вечна дакарае мужа, ці пра каго іншага – маці, цётку, любога чалавека. Янкова, 31.

як па бе́лай бірóзі пілóй. Гл. бяроза.

**балі́ць як пілóю хто рэ́жа.** *Астр.* Пра моцны востры боль. ДА.

рóўненька як пілóю. Пра нешта роўна адрэзанае. Высл., 379.

***пілавіны*** **Галава́ не булава́, мóзгі не пілавіны.** *Прык.* Пра тое, што трэба думаць і знаходзіць рашэнне. Dybowski, 8.

***Пілíп*** **вы́скачыць (вы́рвацца) як Пілі́п (Рама́н, шля́хціц, пе́вень) з канапе́ль.** *Гродз., Светл., Мін., Мсцісл., Петр., Пух., Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які недарэчна не да месца выступіў з прамовай, прапановай, паказаў сябе. Высл., 298; Нос., 22; Сержпутоўскі 1999, 60; Pietkiewicz, 234; Мін.-Мал., 1970, 159; Сцяшковіч, 584; Ройзензон, 68; Юрчанка 1977, 239; Цыхун, 179.

прылі́п як да па́лкі Пі́ліп. Гл. палка.

***Пілі́паўка*** выць як воўк у Пілі́паўку. Гл. воўк.

разгуля́цца як ваўкі́ ў Пілі́паўку. Гл. воўк.

танцава́ць як стары́ воўк у Пілі́паўку. Гл. воўк.

***пілі́паўскі*** дóўгі як пілі́паўская ноч. Гл. ноч.

выць што воўк пілі́паўскі. Гл. воўк.

глядзе́ць скóса як воўк пілі́паўскі. Гл. воўк.

***пі́пка*** шука́ць як Мамóн пі́пку. Гл. Мамон.

***пір*** **У міру́ як на бальшы́м пі́ру: хто ска́чыць, а хто пла́чыць.** *Гродз. Прык.* Пра палярнасць вынікаў намаганняў людзей – аднаму шанцуе, іншаму – не. Крэмнеў, № 152; Цыхун, 193.

***піражóк*** **Дару́ табе́ ражóк, каб ср...чка была́ як піражóк.** *Памяни.* З вясельнага ці хрэсьбіннага віншавання: каб добра жылося. БВ, 42.

***піро́г*** **з языко́м як з пірагом.** Пра добры прыём, што чакае красамоўнага госця. Federowski, 127.

**Век за векам як пірог з млекам.** *Прык. Ухв.* Пра добрае, заможнае жыццё. Дуб., Нар., 1.

**дзяўчы́на як піро́г.** *Смарг. Ухв.* Пра надта прывабную дзяўчыну. СПЗБ 3, 86.

**хлеб з мякі́нкай як піро́г з начы́нкай.** Для беднага хлеб з мякінай здаецца смачным. Ляцкий, 59.

***пі́санае*** **раска́зваць як з пі́санага браць.** *Ухв.* Пра чалавека, што ўмее складна апавядаць. Янк., 424.

***пі́санка*** **хоро́шэ полотно́ ек пі́санка.** *Жытк. Ухв.* Пра ўзорыстую тканіну, нібы размаляваную. ТС 4, 52. < Пісанка – кіёк з узорамі, арнаментам, размаляванае велікоднае яйка.

***пі́саны*** насі́цца як з пі́санай то́рбай. Гл. торба.

як ду́рань з пі́санай то́рбай. Гл. дурань.

**ісці́ як па-пі́санаму.** *Старадар. Ухв.* Пра слушнае, складнае, паслядоўнае выкананне якой-н. справы. МК, 221.

**жо́нка як пі́саная.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі прыгожую, як з малюнка, жанчыну. Юрчанка 1977, 73.

насі́цца як пі́саная то́рба. Гл. торба.

**як пі́саный.** *Мсцісл. Ухв.* Пра некага вельмі прыгожага. Юрчанка, 194.

**гавары́ць як па пі́саным.** *Ухв.* Пра нейчую складную прыгожую гаворку. БПФС, 142.

***піса́ць*** **гла́дка рабі́ць як піса́ць.** *Іўеў., Мін. Ухв.* Пра чалавека, які дакладна і прыгожа робіць. Federowski, 254; Высл., 304; Сцяшковіч, 585.

**арэ́ як пі́ша.** *Рэч. Ухв.* Пра чалавека, што роўна, прыгожа арэ. Pietkiewicz, 355.

**ідзе́ як пі́ша.** *Смал. п., Івац., Слон., Мсцісл. Ухв.* Пра чалавека з роўнай, прыгожай хадой. Добр., 87; Высл., 332; Юрчанка, 194; ЗЗайкі.

**ко́сіць як пі́ша.** *Івац. Ухв.* Пра дасканалую і спрытную касьбу. ЗЗайкі.

**тчэ про́ста як пі́ша.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра ткачыху, што добра валодае сваім рамяством. Federowski, 312.

***піск*** то́лку з гэ́тай дзе́ўкі як з ку́рыцы: пі́ску мно́га, пе́р’я ма́ла. Гл. курыца.

***піску́н*** **пішча́ць як піску́н на патэ́льні.** *Глыб. Насмешл.* Пра некага, хто тонка пішчыць. АВНЛ.

***пісталéт*** ляце́ць як пу́ля з пісталéта. Гл. пуля.

***пісьмó*** насі́цца як чорт з пісьмо́м. Гл. чорт.

***піту́шачка*** **нос як піту́шачка.** *Жарт.* Пра чалавека з круглым тоўстым носам. Высл., 355. < Пітушачка – маленькі (на 0,5–1 л) гаршчочак, у якім звычайна кіпяцяць малако (тлумачэнне збіральніка).

***піўны́*** галава́ як піўны́ кацёл. Гл. кацёл.

***піццё*** жыццё як мёду піццё. Гл. мёд.

***піць*** **сказа́ў як піць даў.** *Валож.* Пра нешта сказанае ў час, прыемнае і неабходнае. Гілевіч, 166.
тру́дна як во́дку піць. Гл. водка.
**трэ́ба як піць (вады́ напі́цца).** Пра нешта вельмі патрэбнае. Янк., 433.
хоты́в як у жару́ пы́ты. Гл. жара.
Крама́р як кама́р: дзе ся́дзе, там і п’е. Гл. камар.
Карчма́р як кама́р: дзе ся́дзе, там і п’е. Гл. камар.
Гарэ́лка не дзе́ўка, не саро́меючыся п’е́цца. Гл. дзеўка.

***пішча́ць*** Бяда́ не дуда́: пішчы́ць, а не гра́е. Гл. дуда.

***пла́каць*** **е́сці хо́чацца як пла́каць.** *Слон.* Пра адсутнасць апетыту ў каго-н. Высл., 317.
так працу́е бы кот пла́ча. Гл. кот.
такі́ дождж як сірата́ пла́ча. Гл. сірата.
У міру́ як на бальшы́м піру́: хто ска́чыць, а хто пла́чыць. Гл. пір.

***пласт*** **ляжа́ць як пласт (пласто́м).** *Астр.*, *Слон. п.*, *Слуцк.*, *В.-Дзв.* Пра таго, хто ляжыць нерухома, выцягнуўшыся. Federowski, 161; Янк., 414; Высл., 343; Сержпутоўскі 1999, 30; СПЗБ 5, 364; Скарбы, 9.

***пласто́к*** **ляжа́ць як пласто́к.** *Памянш. Слон. п.*, *Лаг.* Federowski, 161; Янк., 414; Высл., 343; Varłyha, 93. Тое, што ляжаць як пласт.

***пласці́на*** **ляжа́ць як пласці́на.** *Мсцісл.* Пра чалавека, што ляжыць роўна распластаўшыся, без руху, без сіл. Юрчанка, 194.

***плаў*** **як плаў плыць.** *Ашм.* Пра некага, нешта, што рухаюцца павольна, роўна. СПЗБ 3, 532. < Плаў – зыбкі дзірван на возеры.

***Пла́ўскі*** **як Пла́ўскі на Багача́.** *Шчуч. Няўхв. Насмешл.* Пра безгустоўна апранутага чалавека – алюзія да вядомага ўсім мясцовага персанажа. Сцяшковіч, 617.

***пла́ха*** **як пла́ха.** *Смал. п.*, *Пух.* Пра нешта вельмі вялікае. Добр., Смол., 218; СПЗБ 3, 533.

***плашчані́ца*** **суда́я як плашчані́ца.** *Мін. Няўхв.* Пра худую непрывабную жанчыну. Гілевіч, 166.

***плевуці́нка*** **лёд [то́нкі] як плевуці́нка.** *Карэл.* Пра вельмі тонкі лёд. Нар. лекс., 161. < Плевуцінка – плеўка.

***плен*** **ісці́ як з пле́ну.** *Лід. Няўхв.* Пра павольную хаду знясіленага чалавека. Сцяшковіч, 615.

***пле́сці*** Гаспада́рку ве́сці – не ла́пці пле́сці. Гл. лапаць.
гэ́та яму́ як ла́пці пле́сці. Гл. лапаць.
жыць як вянкі́ пле́сці. Гл. вянок.
За́муж ісці́ – не ла́пці плясці́. Гл. лапаць.
лёгка як ла́пці плясці́ (ла́паць спле́сці). Гл. лапаць.
жыву́ць як вянкі́ пляту́ць. Гл. вянок.
як ла́пці плесць. Гл. лапаць.

***пле́чы*** як гара́ з плеч спа́ла (звалі́лася). Гл. гара.
**як** *што* **з плеч ссу́нулася.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра чалавека, які адчуў вялікую палёгку. Federowski, 237; Санько, 69.
**як за пле́чы кі́нуць.** *Дзятл., Жабін. Ухв.* Пра чалавека, які хутка з’еў абед. Сцяшковіч, 615; Ганчук, Касцючык, 85.

Наву́ка не горб, за плячáмі не нясці́. Гл. горб.
Лáйка не нагáйка: на плячáх не ляжы́ць. Гл. нагайка.
бяспéчны як у Бóга за плячы́ма. Гл. бог.
жыць як у Бóга за плячы́ма. Гл. бог.
матля́цца як тóрба за плячы́ма. Гл. торба.
сядзéць як у Бóга за плячы́ма. Гл. бог.
**як за плячы́ма жыць.** *Стаўб. Ухв.* Пра бяспечнае, бестурботнае жыццё кагосьці. МК, 310.
жыць як у мáцеры за плячы́мі. Гл. маці.

***плеш*** **як плеш.** *Краснап.* Пра незасеяны лапік зямлі на ніве. Бялькевіч, 34.

***плёнтаць*** гавары́ць як ні́ці плёнтаць. Гл. ніць.

***плот1*** вішчáць як су́чка ў плот ушчамі́ўшыся. Гл. сучка.
гавары́ць як вóўну на плот вéшаць. Гл. воўна.
**гавары́ць як плот (пляцéнь) гарадзі́ць.** *Ваўк. п.*, *Сен.*, *Клецк.*, *Дзятл. Няўхв.* Пра чалавека, што гаворыць абы-што. Federowski, 108; Каспяровіч, 76; Дуб., Нар., 1; Высл., 301.
**гарадзі́ць як плот з лебяды́.** *Пух. Няўхв.* Пра чалавека, што гаворыць непатрэбнае, абы-што. Шатэрнік, 65; Санько, 121.
гарóдзіць як плот з лебяды́. *Няўхв.* Тое ж.
**грóшы як за плот вы́кінуць.** *Стаўб. Асудж.* Пра чалавека, што марна страціў грошы. МК, 310.
дзяржáцца як п’я́ны за плот. Гл. п’яны.
**éсці як на плот вéшаць.** *Валож. Няўхв.* Пра чалавека, што есць без ахвоты, апетыту, прымушае сябе. Гілевіч, 165.
**éсці як на плот чапля́ць.** *Стаўб.*, *Карэл. Няўхв.* МК, 315; Мін.-Мал., 1970, 170; Высл., 317. Тое ж.
крычáць як свіння́, увя́зшы ў плот. Гл. свіння.
лéзці як пéвень на плот. Гл. певень.
Сваё дзіця́ не шчаня́: за плот не вы́кінеш. Гл. шчаня.
трáпіць (папáсці) як ку́ляй у плот (сцяну́). Гл. куля.
трымáцца (дзяржáцца; прыстáць, прычапі́цца, прывязáцца) як п’я́ны (сляпы́, стары́, стáрац) за плот (плоту, каля плóту, да плóту). Гл. п’яны.
укрáсць як злóдзея за плот перакі́нуўшы. Гл. злодзей.
ушчамі́цца як парася́ ў плот. Гл. парася.
Я брашу́ як клін чашу́, а ты прáўду гавóрыш, як плот стрóіш. Гл. клін.
прывязáцца (прыбі́цца) як сляпы́ да плóта. Гл. сляпы.
прылі́пнуць/лі́пнуць як смалá да плóта. Гл. смала.
ляжáць як сабáка пад плóтам. Гл. сабака.
чу́хацца як свіння́ пад плóтам. Гл. свіння.
**як за плóтам.** Пра надзейнае, абароненае пачуванне сябе дзе-н. Санько, 69.
**За дóбрым чоловéком ек за плóтом, а за нехорóшым – ек за частокóлом.** *Жытк. Жарт.* Пра жыццё за рознымі мужамі. ТС 3, 200.

**за пога́ным му́жом ек пуд пло́том.** *Жытк. Няўхв.* Пра благое замужжа. ТС 4, 51.
зні́кнуць як ану́ча з пло́ту. Гл. ануча.
прапа́сці як <но́выя> трусы́ з пло́ту. Гл. трусы.
прапа́сці як но́вая саро́чка з пло́ту. Гл. сарочка.
прапа́сці як по́рткі з пло́ту. Гл. порткі.
прапа́сці як сло́ік з пло́ту. Гл. слоік.
прапа́сці як штаны́ з пло́ту. Гл. штаны.
прыста́ць як сляпы́ да пло́ту. Гл. сляпы.
шука́ць як сляпы́ пло́ту. Гл. сляпы.
адзі́н (сам адзі́н, адзіно́кі) як кало́к [у пло́це]. Гл. калок.
вісе́ць як цадзі́лак на пло́це над кім. Гл. цадзілак.
вішча́ць (заяката́ць) як парася́ ў пло́це. Гл. парася.
пішча́ць як свіння́ ў пло́це. Гл. свіння.
расці́ як тая крапі́ва пры пло́це. Гл. крапіва.
сядзе́ць як сыч на пло́це. Гл. сыч.
**трэ́ба як у пло́це дзі́рка.** *Слон. Іран.* Пра нешта абсалютна непатрэбнае. Даніловіч, 260.
як кол у пло́це. Гл. кол.
як свіння́ ў пло́це ўшчамі́лася. Гл. свіння.
**адно́ дзіця́ як кол у пло́ці.** *Шчуч.* Пра пажаданасць мець больш дзяцей у сям'і, бо аднаму ў жыцці не будзе на каго абаперціся. СПЗБ 2, 57.

***плот2*** **пе́рці як плот на бе́раг.** *Слуцк.* Пра наезд чалавека на кагосьці супраціўнага. Сержпутоўскі 1998, 250.

***пло́тка*** глядзе́ць як сы́ты шчупа́к на вялі́кую пло́тку. Гл. шчупак.

***плуг*** **здаро́вы, хоць у плуг запрага́й.** *Слон. Ухв.* Пра здаровага, моцнага чалавека. Высл., 327.
як цыга́ну плуг. Гл. цыган.
як папру́га ад плу́га. Гл. папруга.

***плыт*** бо́жая мі́ласць як вада́ на плыт. Гл. вада.
**як з плыто́ў.** *Астр.* Пра вельмі стомленага чалавека. Даніловіч, 227.

***плыці́на*** **поро́ся як плыці́на.** *Жытк. Ухв.* Пра вялікае, дагледжанае парася. ТС 4, 63. < Плыціна – вялікая дзярніна.

***плыць*** во́йска ідзе́ як вада́ плыве́. Гл. вада.
ісці́ як (бы́ццам) ка́чка (ву́тка) плыве́. Гл. качка.
ісці́ як па́ва плыве́. Гл. пава.
лю́дзі іду́ць бы вада́ плыве́. Гл. вада.
ляты́ (гады́) іду́ць як вада́ плыве́. Гл. вада.
**іде́ть як плыве́ть.** *Смал. п. Ухв.* Пра чалавека з роўнай, плаўнай хадой. Добровольский III, 87.
цяке́ць з яго́ і плыве́ць як ад чо́рта з бало́та. Гл. чорт.
як вадо́й плыву́ць да яго́. Гл. вада.
гадзі́нкі іду́ць як вада́ плыю́ць. Гл. вада.

***плю́нуць*** сказа́ць як каду́к у лу́жу плю́нуў. Гл. кадук.
сказа́ць як нячы́сцік плю́нуў. Гл. нячысцік.

як чорт у ваду плю́нуў. Гл. чорт.
як чорт у лу́жыну плю́нуў. Гл. чорт.
**зрабіць як плю́нуць.** *Ухв.* Пра некага, каму штосьці вельмі лёгка зрабіць Янк., 410.
лёгка як сліну плю́нуць. Гл. сліна.
сказа́ць як у ваду́ плю́нуць. Гл. вада.
сказа́ць як у лу́жу плю́нуць. Гл. лужа.
як у душу́ плю́нуць. Гл. душа.

***плюш*** **мя́ккі як з плю́шу.** *Шчуч. Ухв.* Пра нейкі прадмет з такой мяккасцю. Нар. лекс., 43.

***плява́ць*** **усё ро́ўна што плява́ць про́ці ве́тру.** *Слуцк.* Пра безвыніковасць нейкіх дзеянняў, якія толькі шкодзяць. Высл., 406.

***пля́снуць*** ля́пнуць (сказа́ць) як ла́пцем (ато́пкам) па бало́це (па гра́зі) [пля́снуў]. Гл. лапаць.
як у гразь пля́снуць. Гл. гразь.

***пляце́нь*** **гаво́рыць як [п'я́ны] пляце́нь гаро́дзіць.** *Ваўк. п., Сен., Клецк., Дзятл. Няўхв.* Пра чалавека, які гаворыць абы-што і абы-як. Federowski, 108; Каспяровіч, 76; Дуб., Нар., 1; Высл., 301.
ле́зці як гарбу́з на пляце́нь. Гл. гарбуз.
чапля́цца як трудадзе́нь за пляце́нь. Гл. трудадзень.

***пля́шка*** ле́зці як мура́шкі ў пля́шку з-пад мёду. Гл. мурашка.

***по́вар*** **разабра́цца як по́вар з бу́льбай.** *Астр. Жарт.* Пра лёгкае выкананне якой-н. справы. СПЗБ 4, 245.

***по́варзы*** жыць як то́рба без по́варзаў. Гл. торба.

***по́дмаз*** **так стара́ўся як бы по́дмаз укра́ў.** *Смал. п. Насмешл.* Пра чалавека, які стараўся дагадзіць, падладзіць, нібы вінаваты. Добр., Смол. 396; Мат. Гом., VI, 199.

***по́дмазка*** **чо́рны як по́дмазка.** *Жарт.* Пра кагосьці смуглявага, загарэлага ці перамурзанага. Янк., Пар., 192.
**смяя́цца як по́дмазку з'е́ўшы.** *Кругл. Насмешл.* Пра недарэчны смех без бачнай прычыны. ФА.
схапіць як цю́цька по́дмазку. Гл. цюцька.

***по́дранікі*** насіцца як жыд з по́дранікамі. Гл. жыд.

***по́езд*** заста́цца як Ду́нька ад по́езда. Гл. Дунька.

***по́йла*** піць як цялёнак по́йла. Гл. цялёнак.
**рэдкае як пойла.** *Няўхв.* Пра нейкую рэдкую, ненаварыстую страву. Янк., Пар., 141.
уско́чыць як руса́к у по́йла. Гл. прусак.
бе́гчы /пабе́гчы ўслед як цяля́ за вядро́м з по́йлам. Гл. цяля.

***по́кнуць*** **напіцца як не по́кнуць.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што задужа напіўся. З нар. сл., 127. < Покнуць – лопнуць.

***по́куць*** стаць як марша́лок на по́куце. Гл. маршалак.
напіцца і ляжа́ць як той Анто́ська на по́куці. Гл. Антоська.

***по́лаз*** **но́гі як палазы́.** *Ашм. Няўхв.* Пра чалавека з доўгімі нагамі. СПЗБ 2, 539.

***по́ле*** **Век пражы́ць – не по́ле перайці́ць, не па́льцам пераківа́ць.** *Прык.* Пра складанасці на жыццёвым шляху. Ром., Зап., 216.

**Жисть пиряжи́ть – ня пóля пиряйти́.** *Прык. Смал. п.* Добровольский III, 35; Сержпутоўскі 1999, 70; Ахрым., 31. Тое ж.
адзíн (сам адзíн, адзінóкі) як калóк у пóлі, у плóце. Гл. калок.
адзíн што варóты ў пóлі. Гл. вароты.
адзíн што вярстá ў пóлі. Гл. вярста.
адзíн як былíнка ў пóлі. Гл. былінка.
адзíн як дубóк у пóлі. Гл. дубок.
адзíн як пень у чы́стым пóлі. Гл. пень.
**адзíн як у пóлі вéцер.** *Лід.* Пра адзінокага чалавека. АВНЛ.
адзінóкі як дубéц у пóлі. Гл. дубец.
аднá як былíнка (былíна) у пóлі. Гл. былінка.
аднá як бярóзка ў пóлі. Гл. бярозка.
аднá як травíнка ў пóлі. Гл. травінка.
вы́сахнуць як былíнка ў пóлі. Гл. былінка.
вя́нуць (ад дýмак) як былíнка ў пóлі. Гл. былінка.
**гóла як у пóлі пасля́ Пакрóву.** *Кір.* Пра нейкую пустэчу, адсутнасць усяго. ДА.
**жывé аднá сірацíнка як у пóлі былíнка.** *Рэч. Спачув.* Пра самотнае жыццё сіраты. ЛЦ, 87.
**застáцца [аднá] як у пóлі вéцер.** *Навагр., Мін., Маз.* Высл., 325. Тое, што адзíн як у пóлі вéцер.
злавíць як вéцер у пóлі. Гл. вецер.
круцíць як вíхар у пóлі. Гл. віхар.
**На чужы́м мéсцы што ў пóлі.** *Капатк. Няўхв.* Пра няўтульнае жыццё на чужыне. ПП 1, 292.
Пéсні як вéцер у пóлі: вéцер падýў – і пéсні прайшлí. Гл. вецер.
**расцí як у пóлі вéцер.** Пра дзіця, што расце без належнага нагляду. ФА.
справядлíвы як вéцер у пóлі. Гл. вецер.
стая́ць як бузíнá ў пóлі. Гл. бузіна.
цéсна як цыгáну на пóлі. Гл. цыган.
што вéцер у пóлі. Гл. вецер.
шукáць як дзвярэ́й у пóлі. Гл. дзверы.
як вéтру ў пóлі шукáць. Гл. вецер.
як вéцер у пóлі. Гл. вецер.
як мак у пóлі зацвíў. Гл. мак.
**Як у пóлі асíна – так і сірацíна: яе вéцер гне і мáчаха б'е.** *Светл. Прык. Спачув.* Пра цяжкае жыццё сірацінкі. ПП 2, 102.
як тапóля сярóд пóля. Гл. таполя.

***полéскі*** вýросці як полéскі злóдзей. Гл. злодзей.
чоловéрно як полéскі бáндур. Гл. бандур.

***полівáны*** **як полівáны.** *Стол.* Пра некага вельмі падобнага да кагосьці. ТС 4, 143.

***пóлом'е**, гл.* ***пóлымя***

***пóлудзень*** **узя́цца як за пóлудзень.** *Жарт.* Так дружна ўзяцца за работу, нібы за абед. Янк., 435.

***по́лымя*** **ек по́лом’е печы́.** *Стол.* Пра запаленне на целе, адчуванне пякучага болю. ТС 4, 149.

**вы́скачыць як з по́лымя.** Пра чалавека, які выскачыў аднекуль, нічога не маючы пры сабе. Янк., Пар., 31.

***по́лынь*** **у гру́дцах як по́лынь шуга́ець.** 1. Пра адчуванне чалавекам запаленчага болю ў грудзях. 2. Пра чалавека, ахопленага злобай. Высл., 402.

***По́лькіна*** як По́лькіна каза́. Гл. каза.

***по́льскі*** змо́ршчыцца як по́льскі зэт. Гл. зэт.

скрыві́цца як по́льскі эс. Гл. эс.

***по́маз*** насі́цца як ко́шка з по́мазам. Гл. кошка.

***по́мак**, гл. таксама* ***памак*** **як по́мак.** *Дзятл. Насмешл.* Пра тоўстага непаваротлівага чалавека. СПЗБ 4, 46. < Помак – куль ільну, замочанага ў вадзе.

***поп*** баяцца як чорт папа́. Гл. чорт.

**кары́сці** *з каго* **як з папа́.** *Мін. Іран.* Пра чалавека, ад якога ніякай карысці ў рабоце. Высл., 334.

**ко́сы як у папа́.** *Зэльв. Няўхв.* Пра чалавека з адрослымі валасамі. СРЛГ, 53.

паглядáць (пазірáць) як чорт на папá. Гл. чорт.

**рукавы́ як у папа́.** *Міл.* Пра расклёшаныя да нізу рукавы. Бялькевіч, 97.

*у каго* **пра́ўды як у папа́ з ксяндзо́м.** *Ваўк. Іран.* Пра чалавека, у якога няма праўды. ПП 1, 332.

цягну́ць як чорт за папо́м. Гл. чорт.

**расказа́ць як папу́ на спо́ведзі.** *Воран.*, *Івац.*, *Маст.* Пра шчырую, адкрытую гаворку, расказ. Даніловіч, 240; ЗЗайкі.

**трэ́ба як папу́ гармо́нік.** *Дзятл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Даніловіч, 240.

**Паны́ як папы́, а паня́ты як шчаня́ты, яшчэ́ го́ршыя.** *Прык. Няўхв.* Пра людзей вышэйшых слаёў непрыязна. Ляцкий, 33.

**ба́яць як поп, а слу́хаць не́чава.** *Няўхв.* Пра людзей, што складна гавораць, але пустое. Анимелле, 262.

**дагадзі́ць як поп Магдале́не.** *Бар. Іран.* Зусім не дагадзіць, а пакпіць з кагосьці. АВНЛ.

**завіха́цца як поп у талацэ́.** *Лід. Іран.* Пра чалавека, што робіць выгляд працавітага, але фактычна бяздзейнічае. Сцяшковіч, 617; Станкевіч, 1148.

**зарасці́/абрасці́ як поп.** *Докш.*, *Бярэз.*, *Івац. Няўхв.* Пра доўга не стрыжанага чалавека. Высл., 280; Янк., Пар., 68; ТС 3, 234; ФА; ЗЗайкі.

**кудла́ты як поп.** *Няўхв.* Янк., Пар., 90. Тое ж.

**ла́сы як поп на каўба́сы.** *Гродз.*, *Ваўк. п. Зэльв.*, *Маз.*, *Маст.*, *Нясв. Жарт.* Пра чалавека, ласага да нечага. Federowski, 140; Pietkiewicz, 377; Сцяшковіч, 597; Антырэліг. казкі, 200; Ахрым., 15; Высл., 340.

**малі́цца як поп на іко́ну.** *Люб.* Пра шчырасць маленняў, захапленне кім-н. ЗСысова.

**носы́тыся як поп з кады́лом.** *Пін. Няўхв.* Пра паводзіны апантанага, заўзятага чалавека. Нар. скарбы, 146.

**папы́рскаць як поп крапі́длам.** *Слон. Няўхв.* Відаць, пра кароткачасовы рэдкі дожджык. Высл., 361.

**перагу́квацца от не раўну́ючы ры́хтык поп з дзяко́м у цэ́ркві.** *Слуцк.* Пра нейчыя зладжаныя распеўныя перамовы. Сержпутоўскі 2000, 91.

**пра́віць як поп у цэ́ркві.** *Слон. Ухв.* Пра нейчую складную, разумную гаворку. Высл., 367.

**приста́ть** *да каго* **как поп на духу́.** *Смал. Няўхв.* Пра настойлівыя роспыты каго-н. Добр., Смол., 721.

**Сноп ад снапа́ як поп ад папа́.** *Маст. Прык. Жарт.* Пра рэдкасць снапоў на ніве, благі ўраджай. Даніловіч 1997, 138.

Ста́расьць ня ра́дасьць, а поп ня ся́бра. Гл. радасць.

**трэ́ба як папу́ гармо́ня (гармо́нік).** *Гродз., Дзятл., Слон. Іран.* Пра нешта непатрэбнае. Высл., 401; Даніловіч, 240.

**учыта́цца як поп у Бі́блію.** *Брасл. Жарт.* Пра чалавека, што заглыбіўся ў чытанне. Рабкевіч, 217.

**хадзі́ць як поп з балала́йкаю.** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, які недарэчна сябе паводзіць. Юрчанка, 194.

**хлусі́ць як поп.** *Жарт.* Пра чалавека, які складна хлусіць. Гут., 79.

**до тёшчы як до попа́ йсці.** *Стол. Жарт.* Пра неабходнасць несці падарунак ідучы да цешчы. ФА.

***по́пел*** **зямля́ як по́пел.** *Івац. Няўхв.* Пра моцна перасохлую глебу. Янк., Пар., 79; ЗЗайкі.

**сядзе́ць як у по́пеле.** Пра расліны ў моцна перасохлай глебе. НН 1911, 413.

**мурза́ты як з по́пелу вы́браўся.** *Лаг. Няўхв.* Пра нямытага, забруджанага чалавека, хутчэй за ўсё, дзіцяя. Высл., 347.

**як тры ме́ры по́пелу.** *Чашн. Насмешл.* Пра нешта шэрае, невыразнае. КВДУ.

**мару́дна капа́цца як у по́пялі.** *Шчуч. Няўхв.* Пра нейкае запаволенае, безвыніковае дзеянне. СПЗБ 3, 37.

***по́плаў*** гуля́ць як ла́стаўкі над по́плавам. Гл. ластаўка.

***по́пляска*** **як по́пляска.** Пра худога высокага чалавека. СПЗБ 4, 49. < Попліска – дошчачка, палка.

***по́расль*** седзе́ць як гры́бу ў по́рослі. Гл. грыб.

***по́рах*** **жыгаце́ць як по́рах.** *Зэльв.* Пра хуткае разгаранне дроў, лучынак. Нар. слов., 16.

**пы́хнуць як по́рах.** *Івац.* 1. *Слон.* Пра хуткае разгаранне дроў, лучынак. 2. Пра запальчывага чалавека. Высл., 373; ЗЗайкі.

**вы́сыхнуць як по́рых.** *Лаг., Мсцісл., Івац. Ухв.* Пра нешта вельмі добра высушанае. Высл., 391; Юрчанка 1993, 6; ЗЗайкі.

*по́рткі* **дра́цца як падра́ныя по́рткі.** *Гродз.*, *Шчуч. Асудж.* Пра чалавека, які непрыгожа, непрыемна, няправільна спявае, хутчэй крычыць. Даніловіч, 61.

**прапа́сці як по́рткі з пло́ту.** *Гродз.*, *Шчуч. Жарт.* Пра нейчае бясследнае знікненне. Даніловіч, 242.

**раз’е́хацца як благі́я по́рткі: то там, то там балі́ць.** *Астр. Жарт.* Пра чалавека з папсаваным здароўем, болямі. СПЗБ 4, 256.

**разу́мны як Салamо́навы по́рткі.** *Лід. Іран.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Сцяшковіч, 658.

**хі́тры як Саламо́навыя по́рткі.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра некага, хто лічыць сябе вельмі хітрым, мудрым. Federowski, 271.

*по́рхаўка* **душы́ць як по́рхавак.** *Няўхв.* Пра бязлітасную расправу над кім-н. ЗВалодзінай.

**рассыпа́цца бы по́рхаўка.** *Слуцк. Няўхв.* Пра нешта (некага), што не мае трываласці, моцы. Сержпутоўскі 1999, 171.

**ста́ла бы по́рхаўка.** *Драг. Няўхв.* Пра састарэлую нямоглую жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222.

**ста́ры бы по́рхаўка.** *Слон. Няўхв.* Пра нямоглага старога. Высл., 390.

**карто́плі ек по́рхоўкі.** *Жытк. Асудж.* Пра замярзанне (псаванне) бульбы, марнатраўна пакінутай на полі пад мароз. ТС 1, 168.

**кары́сці як з по́рхаўкі.** *Іран.* Пра нешта, з чаго няма ніякай карысці. Янк., Пар., 84. < Порхаўка – шарападобны неядомы грыб, які пры высыханні рассыпаецца ў пыл, «на порах».

*пост1* як гало́днаму пост. Гл. галодны.

*пост2* **глядзе́ць як на па́сту.** *Мсціcл.* Пра неабходнасць пільнага, уважлівага назірання за нечым. Юрчанка, 192.

*посцілка* усміха́цца як свірэ́па з по́сцілкі. Гл. свірэпа.

*по́ўны* маўчы́ць бы́ццам по́ўны рот ка́шы. Гл. рот.

*по́ўпрыца* **мале́нькая як по́ўпрыца.** *Пух.* Пра нешта зусім невялічкае. Шатэрнік, 222. < Поўпрыца – металічная планачка, пад верхнім каменем у жорнах.

*по́ўху* **ціха як по́ўху ўда́рыўшы.** *Мядз.* Пра цішыню ў наваколлі. Высл., 415.

*по́чка* **жыць як по́чка ў са́ле.** *Бераст.*, *Стол.*, *Івац.*, *Ашм.*, *Астр.*, *Малар. Ухв.* Пра добрае, забяспечанае жыццё кагосьці. Добровольский III, 5; Сцяшковіч, 617; ТС 3, 60; ФА; Даніловіч, 242; Ззайкі; БД, 93.

**як по́чка ў лаю́.** *Івац. Ухв.* ЗЗайкі. Тое ж.

*по́шта* **лята́ць як по́шта.** *Шчуч. Ухв.* Пра чалавека, які энергічна, хутка, ахвотна робіць работу. Сцяшковіч, 618; Даніловіч, 242.

**як по́шта.** *Бераст.*, *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, што спраўна разносіць плёткі. Даніловіч, 242.

*прабі́ць* як то́кам прабі́ла (каго). Гл. ток.

як цвіко́м прабі́ць. Гл. цвік.

*правалі́цца* ажані́ўся – як пад зямлю́ правалі́ўся. Гл. зямля.

згі́нуць як праз зямлю́ правалі́цца. Гл. зямля.

***праве́сці*** як пу́гай па вадзе́ правёў. Гл. пуга.

***право́рань*** ко́рань як шво́рань – ля дзе́вак право́рань. Гл. шворань.

***праглыну́ць,***
***праглаціць*** асе́ўся як язы́к праглацíў. Гл. язык.
Го́рла як про́рва, праглыне́ць, што ў рот пападзе́ць. Гл. прорва.
век пражы́ў як салёны грыб праглыну́ў. Гл. грыб.
маўча́ць бы́ццам язык праглыну́ў. Гл. язык.
наду́цца як яжа́ праглыну́ў. Гл. ёж.
змо́ўкнуць як язык праглыну́ць. Гл. язык.
маўча́ць як жа́бу праглыну́ўшы. Гл. жаба.
сядзе́ць як жа́бу праглыну́ўшы. Гл. жаба.

***прагрыме́ць*** **як прагрыме́ў.** *Мсцісл.* Пра чыё-н. незразумелае знікненне. Юрчанка, 194.

***прада́цца*** **Наня́ўся – як прада́ўся.** *Крыч., Паст., Мін., Рэч., Лоеў. Прык. Няўхв.* Пра паднявольную працу найміта. Бялькевіч, 294; Нос., 86; Federowski, 197; Pietkiewicz, 380; ЛЦ, 27; Цыхун, 187; СПЗБ 3, 163; БД, 96.

***прада́ць*** спаць як авёс прада́ўшы. Гл. авёс.
спаць як вало́ў (вала́) прада́ўшы. Гл. вол.
спаць як ве́нікі прада́ўшы. Гл. венік.
спаць як гаро́х прада́ўшы. Гл. гарох.
спаць як ко́зы прада́ўшы. Гл. каза.
спаць як ла́пці прада́ўшы. Гл. лапаць.
спаць як лы́ка прада́ўшы. Гл. лыка.
спаць як муку́ прада́ўшы. Гл. мука.
спаць як пяньку́ прада́ўшы. Гл. пянька.
хадзíць як зямлю прада́ўшы. Гл. зямля.
спаць як пшэ́ніцу продаўшы. Гл. пшаніца.
спаць як волы́ прода́ўшы. Гл. вол.

***прае́хаць*** жыў як на свінні прае́хаў. Гл. свіння.
пражы́ў як на саба́ку прае́хаў. Гл. сабака.
пражы́ць як на бара́не прае́хаць. Гл. барана.
пражы́ць як на кані́ прае́хаць. Гл. конь.

***пражо́нка*** **жо́нка як пряжо́нка.** *Смал. п. Жарт. Ухв.* Пра прыгожую, прыемную жонку. Добр., Смол., 745. < Пражонка – яешня.

***прайсці́*** як праз ха́ту <прайсці>. Гл. хата.
пе́сні як ве́цер у полі: ве́цер паду́ў – і пе́сні прайшлі́. Гл. вецер.
**як Мама́й прайшо́ў** *дзе*. Гл. Мамай.

***пракіпе́ць*** прайшо́ў век як у гаршку́ пракіпе́ў. Гл. гаршчок.

***праклён*** Гало́дны як шалёны: то кладзе́ пакло́ны, то праклёны. Гл. шалёны.

***праклі́ты*** сы́пацца як з праклі́тага ме́ха. Гл. мех.
**рабíць як праклíты.** *Няўхв.* Пра чалавека, што знясілена, шмат, надсадна працуе. ФСБМ 1, 550.

***пралéска*** **во́чы сíні як пралéскі.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожыя сінія вочы кагосьці. Federowski, 336.

***прало́мка*** **як у [яку́ю] прало́мку.** Пра непрыкметнае бясследнае знікненне кагосьці ці чагосьці. Мін.-Мал., 1977, 89.
ві́цца як ую́н у прало́мцы. Гл. уюн.

***прамы́ты*** **во́чы як прамы́тыя.** *Рэч.* Пра стан бяссоння кагосьці. Pietkiewicz, 382.

***пра́нік*** **рука́ ці нога́ ек пра́нік.** *Жытк.* Пра чалавека, у якога напухаюць канечнасці, робяцца нягнуткія. ТС 5, 119.
**пля́снуць як пра́нікам па вадзе́.** *Бераст.*, *Навагр. Асудж.* Пра чалавека, што сказаў пустое, нікчэмнае. Сцяшковіч, 618.

***пранцу́з**, гл.* ***француз***

***прарэ́заны*** во́чы як асако́ю прарэ́заны. Гл. асака.
во́чы як сачы́нкаю прарэ́заны. Гл. сачынка.

***прасі́ць*** Жыццё як даро́га: прасі́ бо́га. Гл. дарога.
Жыццё як даро́га: прасі́ ў бо́га. Гл. дарога.
**падле́зці як** *каго* **сюда́ прасі́лі.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра кагосьці няпрошанага, хто ўлез у кампанію. Юрчанка 1977, 117.
як той воўк, што прасі́ў: «анно́ хвост падвязі́». Гл. воўк.
погледа́ць ек рубля́ просі́ць. Гл. рубль.
ста́ры як ма́лы: што ба́чыць, то про́сіць. Гл. малы.

***пра́сла*** **ляжа́ць як пра́сла.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які ляжыць нерухома ды абыякава. Высл., 343. < Прасла – тут: паваленая агароджа.
вішча́ць як свіння́ ў пра́сле. Гл. свіння.
верашча́ць як парасё ў пра́слі. Гл. парасё.

***праснá́к*** **распляска́цца як прасна́к.** *Няўхв.* Пра нешта, што прыняло нежаданую форму. Санько, 179.

***прастачо́к*** **павы́лажылі ко́зыры як прастачкі́ якея.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нявопытных, няўдачлівых карцёжнікаў. Юрчанка 1977, 17.

***пратапта́ць*** Іншэ́ прожыве́ ек у ка́рты пройграе́, а іншы – ек у остóпку протóпчэ. Гл. карты.

***пратаўчы́*** век пражы́ць як у сту́пе пратаўчы́. Гл. ступа.
дзень пратаўчы́ся як таўка́ч у сту́пе. Гл. таўкач.

***пра́ўда*** **вялі́кі як пра́ўда.** Пра нешта (некага) вельмі важнае, істотнае. Янк., Пар., 33.

***праўза́к*** **то́нкі што праўза́к.** *Слон. Жарт.* Пра чалавека, можа, падлетка, вельмі худога і тонкага. Высл., 399. < Праўзак – тонкі раменьчык.

***прах*** **Прышло́ ма́хам і по́йдзець пра́хам.** *Міл. Прык.* Пра марнасць і бязладнасць атрыманага без прыкладання нейкіх намаганняў. Бялькевіч, 275.

***прахо́дка*** ісці́ як пан на прахо́дке [чуць но́гі со́вае]. Гл. пан.

***пра́ца*** аскыля́цца як саба́ка на чужу́ю пра́цу. Гл. сабака.

***працэ́сія*** **дым як на тата́рскай працэ́сіі.** *Сак. п. Няўхв.* Пра густы дым. Federowski, 311.

***працягну́ць*** адна́ на све́ця век пражыла́, як свіня́ па гнаю́ хвост працягну́ла. Гл. свіння.

***про́бка*** Галава́ як каро́бка, а дурны́ як про́бка. Гл. каробка.

***про́лабка*** **збіра́цца як у про́лабку.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра маруднае, лянівае збіранне кагосьці ў дарогу, на працу (як паміраць). Юрчанка, 201.

як рак у про́лубцы. Гл. рак.

круці́цца як шчэ́пка ў про́лупца. Гл. шчэпка.

***про́пасць*** напіна́цца як кабы́ла пе́рад про́пасцю. Гл. кабыла.

***про́рва*** **глыта́ць як про́рва.** *Няўхв.* 1. Пра чалавека, што многа есць. 2. Пра марнасць нейкіх намаганняў, высілкаў. Янкоўскі, 189.

**жраць як про́рва.** *Асудж.* Станкевіч, 906. Пра чалавека, што многа есць.

**Го́рла як про́рва, праглыне́ць, што ў рот пападзе́ць.** *Прык.* Пра непераборлівасць чалавека ў ежы. ПП 1, 398.

**Па́нскае го́рла як про́рва, праглыне́ць, што ў рот пападзе́ць.** *Прык.* Пра прагнасць паноў. Рапановіч, 21.

**гаці́ць як у про́рву.** *Няўхв.* Санько, 122. Тое, што глыта́ць як про́рва.

**е́сці як у про́рву, да больш жада́ць.** *Слуцк., Дзятл., Уздз. Няўхв.* Пра ненасытнага чалавека, што есць і больш хоча. Сержпутоўскі 1999, 73; Сцяшковіч, 620; Никифоровский, 144; ФА.

**тахці́ як у про́рву.** *Краснап. Няўхв.* Сержпутоўскі 1999, 50. < Тахтоль, тахці – відаць, словы гукапераймальныя, ад тахаць – ляскаць, стукаць (Бялькевіч, 441), тут: гучна запіхваць. Тое, што гаціць як у прорву.

***про́са*** накі́нуцца (наляце́ць) як вераб'і́ на спе́лае про́са. Гл. верабей.

уна́дзіцца як вераб'і́ ў про́са. Гл. верабей.

***про́цьма*** **валі́ць (гаці́ць) як у про́цьму.** *Няўхв.* Пра чалавека, які шмат есць. Янк., 398.

**пайшо́ў як у про́цьму ўвалі́ўся.** Пра чалавека, які бясследна знік. Станкевіч, 907.

**прапа́ў як у про́цьму ўпа́ў.** Санько, 71. Тое ж.

***пруд*** **З суда́ як з пруда́ – сухі́ не вы́йдзеш.** *Брасл. Прык. Няўхв.* Пра судовыя парадкі, калі абвінавачванне заўсёды знойдзецца. Янкоўскі 1971, 45; Ахрым., 14.

***прус*** **змёрзнуць як прус.** *Касц. Жарт.* Пра чалавека, што моцна прамёрз. Высл., 329; Янк., 400; ЛЦ, 13. < Раней змаганне з прусакамі вялося шляхам вымарожвання хаты і гаспадарчых пабудоў.

***пруса́к*** **бая́цца [хо́ладу] як пруса́к.** *Насмешл.* Пра чалавека, уражлівага да холаду. Янк., 396.

**змёрзнуць як пруса́к.** *Касц.* Высл., 329; Янк., 400; ЛЦ, 13. Тое, што змёрзнуць як прус.

**круці́цца як пруса́к у заці́рцы.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які дзейнічае ў цяжкіх абставінах. Высл., 337.

**прапа́сці як прусак на маро́зе.** *Ашм. Жарт.* Даніловіч, 242. Тое ж.

**ратава́цца як пруса́к з заці́ркі.** *Насмешл.* Пра чалавека, які недарэчна імкнецца выкруціцца з дужа цяжкой сітуацыі. Янк., Пар., 139.

**тра́піць як пруса́к у саладу́ху.** *Мін., Слон. Насмешл.* Пра чалавека, што папаўся, трапіў у нявыкрутку. Янк., Пар., 168; Янк., 420; Высл., 400.

**ускóчыць як прусáк у пóйла.** *Мсціcл. Злacл.* Пра чалавека, які трапіў у небяспеку па сваёй волі. Юрчанка, 160.

**уцякáць (бéгчы) як прусáк ад марóзу.** *Хоц., Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які борзда ўцякае ад небяспекі аднекуль. ЛЦ, 58.

**як прусáк у шчы́лінцы.** *Жарт.* Пра некага, хто пацiху ўладкоўваецца ў бяспечным месце, ціха жыве. Янк., 1968, 423.

**пагíнуць як прусакí на марóзе.** *Жарт.* Пра кагосьці, хто канчаткова загінуў, знік. Янк., 418.

**сы́пацца як прусакí.** *Стаўб.* Пра частае паміранне людзей. Высл., 344.

**цíснуцца як прусакí ў шчы́ліну.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра людзей, якія хочуць дзесьці выгодна ўладкавацца. Federowski, 59.

***прут*** сказáць як у вóсы прут уваткнýць. Гл. аса.

**нóгі прýтам.** *Лях. Спачув.* Пра нейчыя зацёкшыя, нерухомыя ногі. ЗВалодзінай.

***прутóк*** **вы́пруціцца як прутóк.** *Паст. Няўхв.* Пра дзіця (хворае), якое не можа звычна сядзець на руках, выпростваецца, як вырываецца з рук. СПЗБ 1, 364. < Выпруціцца – выпраміцца.

**сухí як прутóк.** *Пол.* Пра некага вельмі схуднелага, тоненькага. Нар. лекс., 14.

***пруцíна*** трымáцца як гарóх за пруцíну. Гл. гарох.

***прыбíты*** **сядзéць як прыбíты.** *Жлоб. Няўхв.* Пра чалавека, што сядзіць нерухома. Гор., Руд., 255.

**як прыбíты.** *Рэч.* Пра чалавека, які выглядае паніклым, сумным, нездаровым. Гор., Руд., 255.

***прыбíць*** сказáць як гваздóм прыбíць. Гл. гвозд.

***прывя́заны*** **цягáцца ўслед як прывя́заны.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра дзіцё, што неадступна ходзіць за маці, або пра свойскую жывёлу, пару – маці і дзіця. Юрчанка 1998, 309.

як за язы́к прывя́заны. Гл. язык.

***прывязáць*** жыць як цялá на вярóвачцы: дзе прывя́жуць, там і стой. Гл. цяля.

***пры́вязка*** **Пры́казка як пры́вязка: і так дóбра, і так спатрэ́біцца.** *Прык. Жарт.* Пра дарэчнасць прыказкі ў любых выпадках. Янкоўскі 1971, 71.

Умéлая пры́казка як пры мяшкý пры́вязка. Гл. мяшок.

здатны на пры́казкі як чорт на пры́вязкі. Гл. чорт.

**на пры́казкі як на пры́вязкі.** *Гом. Ухв.* Пра чалавека, які багаты на прыказкі. ПП 2, 190.

спры́тны на пры́казкі як скýра на пры́вязкі. Гл. скура.

удáўся на пры́казкі як сабáчая скýра на пры́вязкі. Гл. скура.

***пры́вязь*** кíдацца як воўк на пры́вязі (цапý). Гл. воўк.

насíцца як сабáка, сарвáўшыся з пры́вязі. Гл. сабака.

**як з пры́вязі сарвáўся.** *Асудж.* Пра чалавека, які злосна накінуўся на кагосьці. Ром., Бел., 316; Сержпутоўскі 1999, 134.

***пры́гаршчы*** **шчáсця як з жáбіны пры́гаршчы.** *Жарт.* Пра рэдкія хвіліны шчасця, хутчэй яго адсутнасць. Янкоўскі 1971, 43.

***прыдарóжны*** набóжная як свіння́ прыдарóжная. Гл. свіння.

***прыду́ха*** хаўкаць як ры́ба ў прыду́ху. Гл. рыба.

***прыйсці́*** **скла́дна хлусíць бы прышóў з палява́ння.** *Слуцк. Насмешл.* Пра хлуслівага чалавека, падобнага да паляўнічага. Сержпутоўскі 1999, 128.

***прыкіпе́ць*** **як прыкіпе́ць.** *Івац., Леп., Шчуч.* 1. Пра чалавека, які моцна з некім зрадніўся, здружыўся. 2. Пра чалавека, які прыседзеўся да месца, не хоча рухацца. Сцяшковіч, 618; ЗЗайкі.

***прыкле́іць*** сказа́ць як к сцяне́ прыкле́іць. Гл. сцяна.

***прыку́ты*** **як прыку́ты.** Пра чалавека, якога абавязак, справа, неабходнасць трымаюць на месцы, нельга зрушыць з месца. Санько, 69.

***прылажы́ць*** як да бо́лькі прылажы́ць. Гл. болька.

***пры́нада*** **ляжа́ць як пры́нада.** *Астр. Няўхв.* Пра п’янага чалавека, які ляжыць, нібы туша забітай жывёлы. СПЗБ 4, 150. < Прынада – прыманка.

***прыня́ты*** сядзе́ць як у Бо́га не прыня́ты. Гл. Бог.

***прыпа́рка*** памо́жа як уме́рламу (зма́рламу, зма́рнаму, мёртваму) прыпа́рка. Гл. умерлы.

***пры́печак*** **зямлí як на пры́печку.** *Іран.* Пра поўную адсутнасць зямлі (зямельных угоддзяў). Янк., 410.

***прырасці́*** маўча́ць бы́ццам *у каго* гу́бы прырасла́ да зубо́ў. Гл. губы.

***пры́сак*** **гара́чы як пры́сак.** *Няўхв.* Пра чалавека ўзрыўнога характару. Янк., 401.

**сло́вы як пры́сак.** Пра нейчыя вострыя словы, што балюча, рэзка ўспрымаюцца. ФСБМ 1, 416.

**сухí як пры́сак.** *Слуцк.* Пра нешта вельмі сухое. Сержпутоўскі 1999, 44.

**як пры́скам** *на каго* **сыпну́ць.** *Ваўк., Слон. п.* Пра нешта сказанае, што балюча ўспрынята. Federowski, 296; Санько, 212.

пячы́ся бы бу́льба ў пры́ску. Гл. бульба.

**скака́ць як у пры́ску.** *Воран. Насмешл.* Пра нейчыя неспакойныя паводзіны. Сцяшковіч, 620.

***пры́стаўле́нне*** **выгінды́рвацца як на прыстаўле́нні.** *Стаўб. Асудж.* Пра чалавека, што паводзіць сябе як на сцэне, акцёрствуе. Нар. лекс., 85. < Выгіндырвацца – крыўляцца.

***прытулíцца*** Зіма́ не маладзіца, да яе не прытулíцца. Гл. маладзіца.

***прыту́лле*** **хлы́нкаць [з вугла́ ў ву́гал] як прыту́лля няма́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што не можа знайсці сабе адпаведнага месца. Юрчанка 1972, 257. < Хлынкаць – блукаць.

***пры́ца*** **лíпнуць як пры́ца.** *Мсцісл.* Пра прыліпанне нечага глейкага. Юрчанка, 194.

***прыча́сце*** **пха́цца як да прыча́сця.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра натоўп людзей, якія некуды цiснуцца, спяшаюцца. Federowski, 311.

***прышы́ты*** **як прышы́тый.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які трымаецца аднаго месца. Юрчанка, 194.

***псíны*** язы́к што псíны хвост віля́ець. Гл. хвост.

***пстры́чка*** **вы́лецець** *адкуль* **як пстры́чка.** *Віл. Насмешл.* Пра чалавека, які жвава выскачыў аднекуль. СПЗБ 4, 178.

***псюк*** **балúть усё маё тéла, як псюк пад калéнками кусáеть.** *Смал. п.* Нараканне чалавека, якога данімае грызлівы боль. Добр., Смол., 747.

***пся́рня*** **далікáтны як з крулéўскай пся́рні.** *Ваўк. п. Іран. Здзекл.* Пра непаважанага чалавека, які падае сябе далікатным. Federowski, 75.

***птах*** **вóльны як птах.** *Ухв.* Пра зусім вольнага чалавека. Янк., 399.

***птáшка*** **жыць як птáшка на мóры.** *Маст. Ухв.* Пра чалавека, што добра жыве. Сцяшковіч, 618.

**жыць як птáшкі.** *Слон. п. Ухв.* Пра вольнае жыццё каго-н. Federowski, 367.

**Любíліся як птáшкі ў стрэ́се, разышлíся як сцéжкі ў лéсе.** *Воран. Фальк.* Пра шчырае каханне і поўнае расстанне. Арх. Гр. Удзéнь як кашкé, а ўнóчы як пташкé. Гл. кошка.

***птýшачка*** **трапятáцца як птýшачка.** *Памянш.-ласк. Спачув.* Пра чалавека ў нейкім трапяткім, узрушаным стане. Янк., Пар., 168.

**Любíліся як птýшачкі ў стрэ́ся, а прышлóся растáціся як ягáдца ў лéся.** *Віл. Фальк.* Пра шчырае каханне і поўнае расстанне. СПЗБ 2, 702.

**ляця́ць гадóчкі як птýшачкі.** *Памянш.-ласк.* Пра хуткабежнасць жыцця чалавека. Янк., Пар. 98.

***птýшка*** **маўчáць як птýшак знайшóўшы.** *Насмешл.* Пра маўчанне некага. Дуб., Нар., 1.

**бáчыць як птýшка.** *Ухв.* Пра вельмі зоркага чалавека. Янк., 397.

**вóльны як птýшка.** *Ухв.* Пра зусім вольнага чалавека. Янк., 399.

**Душа не птушка: праз акно не вылеціць.** *Прык.* Пра адыход душы разам са смерцю чалавека. Federowski, 88.

**Дýшка не птýшка: мякíнаю не адбýдзеш.** *Жарт. Прык.* Пра неабходнасць чалавека добра сілкавацца. Крэмнеў, № 303. < Жартам кажуць пры частаванні.

**затрепетáла сéрца як птýшка.** *Смал. п.* Пра стан усхваляванага чалавека. Добр., Смол., 256.

**збірáцца як птýшка за мóра.** *Асіп.* Пра чалавека, што думае пра апошні вырай. АВНЛ.

**Какýшка – ня птýшка, нявéстка – ни дачýшка.** *Смал. п. Прык.* Пра рознае стаўленне ў сям'і да дачкі і нявесткі. Добровольский III, 121.

**лёгкі як птýшка.** Пра малое дзіця. Янк., 413.

**паляцéла б як птýшка.** *Ваўк. п.* Пра моцнае жаданне жанчыны апынуцца ў месцы яе мары, жаданне на сустрэчу з некім. Federowski, 214.

**скакáць як тая птýшка па галíнках.** *Слон. п. Ухв.* Пра кагосьці, што лоўка, весела падскоквае, часцей пра дзіця. Federowski, 279.

**Слóва як птýшка: вы́леціць, то не злóвіш.** *Прык.* Пра няўлоўнасць, незваротнасць выказанай думкі. Federowski, 282.

**Слóва як птýшка: вы́пусціў – не вéрнеш.** *Прык.* Ляцкий, 42. Тое ж.

шчабятáць як птýшка вяснóю. *Ваўк. п. Ухв.* Пра радасную гамонку дарагіх людзей, дзяцей, блізкіх. Federowski, 297.

**як пту́шка на кле́вер паляце́ла б.** *Брэсц., Пол.* Высл., 430. Тое, што паляце́ла б як пту́шка.

**Бяда́ да хваро́ба як дзве пту́шкі-зязю́лькі: накуку́ешся ўдо́валь, паку́ль яны́ вы́таўкуцца.** *Прык.* Пра цяжкасці, выкліканыя бядой ды хваробай. Ляцкий, 4.

**лю́дзі як пту́шкі.** *Дзярж.* Пра людзей, што хочуць быць вольнымі. Нар. слов., 37.

**у галаве́ як пту́шкі ціўкаюць.** *Слон. п. Спачув.* Пра шумы ў галаве, якія чуе хворы. Federowski, 101.

**яда́ як у [той] пту́шкі.** *Жарт.* Пра чалавека, што мала есць. Ляцкий, 14; Янк., 406.

***пу́га*** **распусці́цца як дзядо́ўская (дзе́дава) пу́га.** *Лід., Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які выбіўся з дысцыпліны, распусціўся. Станкевіч, 960; Даніловіч, 220.

**распусці́цца як жыдо́ўская пу́га.** *Лід., Гродз. Няўхв.* Даніловіч, 223. Тое ж.

**распусці́цца як пасты́рская пу́га.** *Смарг. Няўхв.* Даніловіч, 241. Тое ж.

**распусці́цца як пу́га.** *Чэрв. Няўхв.* Гілевіч, 166. Тое ж.

**распусці́цца як старэ́цкая пу́га.** *Лаг., Мёр. Няўхв.* Varłyha, 111; Нар. скарбы, 141. Тое ж.

**цяга́цца як пу́га цыга́нска.** *Воран., Навагр., Маст. Няўхв.* Пра валацужнага чалавека. Сцяшковіч, 618; Даніловіч, 262.

**цягну́цца бы старэ́чая пу́га.** *Слуцк. Няўхв.* Пра павольнае, без паспешлівасці перамяшчэнне каго-н. Сержп. 20.

**цягну́цца як папо́ўская пу́га.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 22. Тое ж.

**язы́к як дзе́дава пу́га.** *Паст. Няўхв.* Пра распушчаную мову кагосьці. Высл., 424.

**як пу́гай па вадзе́ праве́сці (ляснуць).** *Івац., Раг., Мін. Няўхв.* 1. Пра марнасць намаганняў. 2. Пра чалавека, які сказаў нешта, добра не падумаўшы. АВНЛ; БФМ, 243; ЗЗайкі.

бо́ўтаць языко́м як ста́рац пу́гаю. Гл. старац.

Жы́тка – не конь, пу́гаю не адсцябне́ш. Гл. конь.

**свíснуць як пу́гаю.** Пра рэзка, нечакана, балюча сказаныя словы. Янк., Пар., 146.

**як (што) пу́гаю па вадзе́ [што ні ска́жаш].** *Жлоб., Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, якому колькі ні кажы – не слухае, не разумее, упарціцца. Высл., 430; Янк., 446; Юрчанка 1977, 240.

як чорт пу́гаю назганя́ў. Гл. чорт.

**бая́цца як дзе́давай пу́гі.** *Гродз. Іран.* Пра нешта, чаго ніхто не баіцца. Арх. Гр.

*з кім* гавары́ць, усё ро́ўна як з пяску́ пу́гу круці́ць. Гл. пясок.

**распусці́ць язы́к як цыга́нску пу́гу.** *Слон. Няўхв.* Пра залішне балбатлівага чалавека. Высл., 377.

***пугаўё*** **то́нкі як пугаўё.** *Жлоб. Няўхв.* Пра тонкага худога чалавека. Гор., Руд., 255.

**як пугаўё станчэ́ць.** *Лаг., Чэрв. Няўхв.* Мін.-Мал., 1977, 52; СЦБ, 158. Тое ж.

***пуга́ч*** **напугацца бы пуга́ч.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, што шмат апрануў на сябе, стаў таўсматы, круглы. ТС 3, 154. < Напугацца – надзець празмерна на сябе, начапляць лішняга.

***пуд*** **дурны́ як сто пудо́ў ды́му.** *Смарг. Здзекл.* Пра вельмі дурнога чалавека. Даніловіч, 253.

**як сто пудо́ў звалі́лася** *з каго. Ашм. Ухв.* Пра чалавека, што адчуў вялікую палёгку, пазбавіўся ад клопатаў, перажыванняў. Даніловіч, 253.

***пу́дала*** **наадзява́цца як пу́дала.** *Пін., Карэл. Няўхв.* Пра неакуратна, абы-як апранутага чалавека. Нар. лекс., 112, 161.

***пу́дзіла*** **стая́ць як пу́дзіла.** *Паст. Няўхв.* Пра чалавека, які не працуе, не рухаецца. СПЗБ 4, 181.

**як пу́дзіла гаро́хавае.** *Краснап. Насмешл.* Пра кагосьці не вельмі сімпатычнага. Бялькевіч, 358.

**як пу́дзіла хадзі́ць.** *Мін. Асудж.* Пра неахайнага чалавека. Высл., 430.

**вісе́ць** *на кім* **як на пу́дзіле.** *Няўхв.* Пра недапасаванне вопраткі да чалавека. Янк., Пар., 26.

***пу́дра*** трэ́ба *каму што* як ко́шцы пу́дра. Гл. кошка.

***пудэ́лак*** круціцца як чорт на пудэ́лку. Гл. чорт.

***пужа́йла*** **надзе́цца як пужа́йла.** *Брасл. Няўхв.* Пра непрыгожа, неахайна апранутага. СПЗБ 4, 182.

***пу́за*** вы́паўзці як блыха́ на пу́за. Гл. блыха.

***пузы́р*** **наду́цца як мы́льны пузы́р.** *Мядз. Няўхв.* Пра чалавека, што празмерна задаецца, ганарысты. Мін.-Мал., 1974, 187.

**як пузы́р.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека тоўстага, сытага, круглага. Юрчанка, 194.

***пук*** **Нае́ўся як пук, а но́гі як ду́дкі.** *Насмешл.* Пра чалавека з нязграбнай фігурай. ПП 1, 398.

**як пук.** *Віц. Няўхв.* Пра некага тоўстага, непаваротлівага. Нікіфароўскі, 1924, 17.

**сы́ты як пукі́.** *Мін., Мсцісл. Ухв.* Пра сытых, дагледжаных кароў. Юрчанка, 195.

***пука́*** **як пука́ сцека́е.** *Ганц.* Пра меру як абхапіць пальцамі рукі. СПЗБ 5, 36.

***пу́ля*** **ляце́ць (каці́цца, вы́скачыць; жых) як [бы́стра] пу́ля.** *Ваўк. п., Мсцісл.* Пра чалавека, што хутка імчыцца. Federowski, 133, 160; Нар. лекс., 176.

**ляце́ць як пу́ля з пістале́та.** *Мсцісл.* Юрчанка, 129. Тое ж.

***пу́ня*** **паразява́ць зя́пы як пу́ні.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра людзей, што паразявалі раты ад здзіўлення. Юрчанка 1977, 14.

**стая́ць як пу́ня.** *Вілен. Ухв.* Пра здаровую, мажную кабету. Sielicki, 162.

***пуп*** **пасіне́ць як куры́ны пуп.** *Вілен. Насмешл.* Пра замярзанне каго-н., пасіненне яго твару і рук. Sielicki, 160.

**пасіне́ць/ссіне́ць як гусі́ны пуп.** *Маст., Лаг., Шум., Лоеў. Насмешл.* Янкова, 32; СПЗБ 4, 558; ФА. Тое ж.

**сі́ні як пуп гусі́ны.** *Насмешл.* Пра чалавека, ссінелага ад холаду. Санько, 182.

**сі́ні як пуп.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1998, 289. Тое ж.

***пупінак*** **хло́пяц як пупінак.** *Слон.* Пра вельмі малога хлопца. Нар. слов., 37.

***пу́рхаўка*** **як пу́рхаўка.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра састарэлага, нямоцнага чалавека. Federowski, 182. < Пурхаўка – порхаўка.

***пустадо́мкі*** **бе́гаць як пустадо́мкі.** *Лаг. Няўхв.* Пра людзей, што бязмэтава, упустую бегаюць, мітусяцца. Гілевіч 2007, 9.

***пусты́*** барабáніць як пустáя бóчка. Гл. бочка.
гудзéць (грымéць) як пустáя малатáрня. Гл. малатарня.
плявýзгаць як пустáя мéльніца. Гл. мельніца.
гавары́ць як з пустóга вéтру. Гл. вецер.
пацéха як з [пустóга] мéха. Гл. мех.
хазя́ін як ад пустóга дóму зáкрутка. Гл. дом.
унуры́цца як конь над пустóй кармýшкай. Гл. конь.
хазя́йка як ад пустóй бóчкі зáтычка. Гл. бочка.
гавары́ць як у пустýю бóчку. Гл. бочка.
малóць языкóм як пусты́ млін. Гл. млін.
стýкаць як у пусты́ збан. Гл. збан.
прытаíцца як пацýк у пусты́м зáсеку. Гл. пацук.
уздыхáць як стары́ конь пéрад пусты́м цэ́брам. Гл. конь.
як пусты́м мяшкóм па галавé стýкнуты. Гл. мяшок.
грукацéць бы на мóсце, як вязýць пусты́я бóчкі. Гл. мост.
як на пустэ́й (пусты́й) канéц. Гл. канец.

***пусты́ня*** **усё дно як у пусты́ні век пражы́ў.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які нічога не ведае, нічога не ўмее. Юрчанка 1993, 63.

***пустэ́льнік*** **жыць як [той] пустэ́льнік.** *Смíл., Чэрык. Няўхв.* Пра чалавека беднага, немаёмаснага, адзінокага. Шатэрнік, 235; Бялькевіч, 146.

***пусці́ць*** як чорт на чалавéка чмут пусціў. Гл. чорт.

***пух*** **вы́рабіць зямлю як пух.** *Івац. Ухв.* Пра дасканалую апрацоўку глебы. Янк., Пар., 30; ЗЗайкі.

**лёгкі як пух.** *Слуцк., Мсцісл.* Пра нешта зусім лёгкае. Сержпутоўскі 1999, 80; Юрчанка, 195.

**мя́ккі (мя́кенькі) як пух.** *Ваўк. п., Слон., Мсцісл. Ухв.* Пра нешта вельмі мяккае. Federowski, 182; Янк., Пар., 105; Высл., 348; Юрчанка, 195.

**снег як пух – як стаў, так і завалі́ўся.** *Іўеў.* Пра цяжкасці хаджэння па мяккаму снегу. СПЗБ 2, 186. < Заваліцца – праваліцца.

**хма́ры як пух.** *Слон.* Пра белыя лёгкія хмаркі. Высл., 410.

**гавары́ць як пу́хам слаць.** *Ваўк., Слон. п., Навагр. Ухв.* Пра надта ж ласкавую, шматабяцальную гаворку. Federowski, 282; Высл., 301.

дабрá з *каго* як ад свінні́ пýху. Гл. свіння.

***пухля́к*** **дзіця́ як пухля́к.** *Леп. Няўхв.* Пра занадта раскормленае дзіця. АВНЛ.

***пухóвы*** **мя́ккі як пухóвы.** *Касц. Ухв.* Пра нейкую вельмі мяккую рэч. Бялькевіч, 270.

***пуць*** **хадзíць як пуць пацяра́ўшы.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што ходзіць бязмэтна. Юрчанка, 174.

***пу́шка*** **ныс бы пу́шка.** *Драг. Няўхв.* Пра тупы з шырокай пераносіцай нос. Лучыц-Федарэц, 222.

**ду́нуць як з пу́шкі.** *Слуцк. Ухв.* Пра гучны ўдар, стук. ДА.

***пушы́нка*** **лёгкэ ек пушы́нка.** *Стол. Ухв.* Пра нешта вельмі лёгкае. ТС 4, 275.

***пчала́*** **пайсцí як пчала́ між кустóў.** *Ваўк. п.* Пра нейчую надта лоўкую, умелую, каб нідзе не зачапіцца, хаду. Federowski, 211.

**прыста́ць як пчала́ да смалы́.** *Іўеў. Няўхв.* Пра некага недарэчна дакучнага, прыставучага. Сцяшковіч, 618.

**руплíвы як пчала́.** *Ухв.* Пра працавітага чалавека. Санько, 180.

**лю́ду як пчол у караніку (вуллі).** *Маладз.* Пра шматлікі збор людзей. Мін.-Мал., 1977, 61.

шумéць як рой пчол у рэ́шаце. Гл. рой.

**жыць ек пчóла ў меду́.** *Стол. Ухв.* Пра нечае багатае жыццё. ТС 4, 275.

**зы́зкаць бы пчóла.** *Стол.* Пра нейчае характэрнае бурканне. ТС 2, 169. < Зызкаць – бзыкаць.

**помалю́сеньку ісцí як пчóла ў мёд.** *Стол. Ухв.* Пра чалавека, які вельмі далікатна, асцярожна ідзе. ТС 4, 150.

**Дай, бóжа, каб пладзíліся як пчóлы ў ву́леі.** *Фальк.* Дабразычэнне на прыбаўленне сям'і. Federowski, 377.

**загудзéць як пчóлы ў ву́ллі.** *Ухв.* Пра ажыўленне збору, сходу, вяселля. НН 1911, 635.

**маха́ць рука́мі так, бы́ццам на ягó напа́лі пчóлы (вóсы).** *Хоц. Насмешл.* Пра кагосьці, хто адмахваўся, жэстыкуляваў. ЛЦ, 72.

напа́сці як пчóлы на неўмыва́цьку. *Насмешл.* Пра калектыўны дружны напад на некага. Янк., Пар., 111.

**рабíць як Шыманелевы пчóлы.** *Смарг. Ухв.* Пра дружную, энергічную працу. Сцяшковіч, 622.

**узя́цца за рабóту як пчóлы ў цёплы дзень.** *Хоц. Ухв.* Пра дружную працу людзей. ЛЦ, 38.

**як пчóлы пакуса́лі** *каго. Маст. Іран.* Пра каго-н. неспакойнага, злога, раздражнёнага. Даніловіч, 243.

***пчóлачка*** **жóначка (гаспады́ня) як пчóлачка.** *Памянш.-ласк. Слон., Смал. п. Захапл.* Пра клапатлівую, працавітую жанчыну. Высл., 319; Добр., Смол., 756.

***пчóлка*** вы́гнаць як сóнца пчóлак. Гл. сонца.

**руплíвы як пчóлка.** *Памянш. Маг. Ухв.* Пра руплівага, працавітага, стараннага, чалавека. Высл., 380.

**гуду́ць як пчóлкі.** *Памянш. Ваўк. п., Уздз. Ухв.* Пра вясёлае спяванне, гамонку сабраных людзей. Federowski, 120; Мін.-Мал., 1970, 146.

**як пшчóлка паляцéць.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Пра чалавека (жанчыну), які весела адпраўляецца ў белы свет. Federowski, 160.

*пшані́ца* **набра́ць гро́шай як за пшані́цу.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра вялікую колькасць нечага. Federowski, 117.

**спаць як пшэні́цу прода́ў.** *Жытк., Леп., Люб., Стол., Жабін., Лун. Жарт.* Пра моцны, спакойны, бесклапотны сон кагосьці. ТС 4, 276; ДА; Барысюк, Буян, 13; Ганчук, Касцючык, 85; ЗВалодзінай.

*пшані́чны* падо́бны як два пшані́чныя зе́рні. Гл. зерне.

*пшо́нны* пе́нкна як пшо́ннае це́ста. Гл. цеста.

падо́бны як два пшо́нныя зе́рні. Гл. зерне.

*пшэ́нны* жыць як пан пшэ́нны. Гл. пан.

*пы́жык* **сядзе́ць пы́жыкам.** *Няўхв.* Пра нешта, што замарудзілася ў росце. Бялькевіч, 368.

*пы́жычак* **як пы́жичек.** *Памянш.-ласк. Смал. п. Ухв.* Пра поўненькае дзіця. Добр., Смол., 757.

*пыл* **дро́бны як пыл.** *Мсцісл.* Пра нешта вельмі дробнае, маленькае. Бялькевіч, 390.

*пы́льны* як пы́льным мяшко́м уда́раны. Гл. мяшок.

*пы́рнік* **жыву́чы як пы́рнік.** *Ухв.* Пра жывучасць, учэпістасць кагосьці. Янк., 407.

учэ́пісты як пы́рнік. Янк., 436. Тое ж.

*пыхце́лка* **пыхце́ць як пыхце́лка.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейчае пыхценне, сапенне. Юрчанка 1977, 150.

*пы́цел* **язы́к як пы́цел.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека балбатлівага, які ўсё перамолвае. Federowski, 126. < Пыцел – прыстасаванне ў млыне для пытлявання асабліва тонкага памолу жытняй мукі.

*пяву́н* **пя́яць бы пяву́н, распусці́ўшы хвост.** *Слуцк. Насмешл.* Пра некага, што любіць пакрасавацца. Сержпутоўскі 1998, 237.

*пяке́льнік* **працава́ць як пяке́льнік.** *Сен.* Пра чалавека, які надрыўна і шмат працуе. Каспяровіч, 259.

*пяко́та* дры́гаць нага́мі як конь у пяко́ту. Гл. конь.

*пялёнка* зьбіра́цца як сьвёкар пялёнкі паласка́ць. Гл. свёкар.

ла́дзіцца ўсё ро́ўна як сьвёкыр пялёнкі мыць. Гл. свёкар.

не хо́чацца як свёкру пялёнкі мыць. Гл. свёкар.

*пянёк* **што пянёк глухі́.** *Памянш. Лаг. Няўхв.* Пра глухога чалавека. Гілевіч 2007, 32.

*пянёчак* **хло́пчык як пянёчак.** *Памянш.-ласк. Ваўк. п. Ухв.* Відаць, пра моцнага хлопца. Federowski, 54.

*п'я́ніца* **нацiска́ць як п'я́ніца на заку́ску.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат і без патрэбы есць. Высл., 354.

**нудзі́цца як п'я́ніца бэз ча́ркі, а куро́ц бэз лю́лькі.** *Рэч.* Пра чалавека, якому надта нечага не хапае, да нечага цягне. Пяткевіч, 554.

**прычапі́цца як п'я́ніца да бутэ́лькі.** *Асудж.* Пра настойлівае чаплянне да нечага. Янкоўскі 1971, 42.

**рад як п'я́ніца ча́рцы.** *Няўхв.* Пра нейчую шчырую радасць. Янк., Пар., 136.

**цягну́ць як п'я́ніцу да гарэ́лкі.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, якога моцна цягне да нечага, некага. Federowski, 57.

***п'я́ны***

**вадзі́ць як п'я́нага.** *Слон.* Пра чалавека, які адчувае слабасць, хіляецца ад кружэння ў галаве. Высл., 294.

вадзі́ць як чорт п'я́нага па бало́ту. Гл. чорт.

**як п'я́нага малі́тва.** *Слон. Насмешл.* Пра блытаную, незразумелую гутарку. Высл., 430.

**балбата́ць як п'я́ны.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які гаворыць абы-што. Шатэрнік, 28.

**бара́хтацца як п'я́ны ў крапі́ве.** *Мін. Насмешл.* Пра няўпэўненыя, недарэчныя рухі каго-н. ЛЦ, 96.

**варушы́цца як п'я́ны ў крапі́ве.** *Мін. Насмешл.* ЛЦ, 36. Тое ж.

**гавары́ць як [п'я́ны] плот (пляце́нь) гародзі́ць.** *Ваўк. п.*, *Сен.*, *Клецк.*, *Дзятл. Няўхв.* Пра чалавека, які гаворыць абы-як, нясکладна, блытана. Federowski, 108; Каспяровіч, 76; Дуб., Нар., 1; Высл., 301; Янкоўскі, 224.

**зачапі́цца як п'я́ны за пень.** *Мін.* Пра чалавека, які спатыкнуўся, замоўк, заблытаўся. ЗВалодзінай.

**ісці́ ек п'я́ны – то туды́ соўк, то сюды́ соўк.** *Жытк. Няўхв.* Пра няўпэўненую, хісткую хаду некага. ТС 5, 77.

**ківа́цца як п'я́ны.** *Міл.* Бялькевіч, 226. Тое ж.

**ківіта́цца як п'я́ны.** *Воран.* СПЗБ 2, 459. Тое ж. < Ківітацца – хістацца.

ла́яцца як п'я́ны рамі́знік. Гл. рамізнік.

**плу́тацца бы п'я́ны по коно́плях.** *Стол. Насмешл.* ТС 4, 62. Тое, што барахтацца як п'яны ў крапіве.

**прычапі́цца як п'я́ны к зе́ркалу.** *Мсціcл. Насмешл.* Пра чалавека, які настойліва да чагосьці чапляецца. Юрчанка 1977, 240.

**робі́ць як п'я́ны з жо́нкай сьпіць.** *Рэч. Здзекл.* Пра нявартую, абы-якую работу каго-н. Пяткевіч, 562.

**так нарабі́ць як п'я́ны натанцу́ецца.** *Мін. Няўхв.* Пра марнасць нейчых намаганняў, безвыніковасць працы. Высл., 396.

**трыма́цца (дзяржа́цца; прыста́ць, прычапі́цца, прывяза́цца) як п'я́ны за плот (пло́ту, каля́ пло́ту, да пло́ту).** *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Стаўб.*, *Сміл.*, *Пух.*, *Лід.*, *Маз.*, *Петр.*, *Рэч.*, *Іўеў.*, *Мядз. Няўхв. Насмешл.* 1. Пра чалавека, які каля чаго-н. упарта стаіць. 2. Пра чалавека, які неадступна трымаецца нейкай ідэі, пераканання, справы, методыкі і інш. Нос., 164; Ром., Бел., 294; Ляцкий, 10; Federowski, 95, 314; Сержпутоўскі 1999, 134; Янкоўскі 1971, 42; Мін.-Мал., 1970, 171; Шатэрнік, 232, 233; Сцяшковіч, 618; Высл., 401; ФА; ЛЦ, 75.

**убра́ць голову ў плэ́чэ бы п'е́ны.** *Драг.* Пра няўпэўненую паставу каго-н. Нар. слов., 148.

**хадзі́ць як п'я́ны.** *Ваўк. п.* Пра аслабелага, хворага чалавека. Federowski, 48.

**як п'я́ны за́яц.** *Маст. Насмешл.* Пра чалавека-хвалька. Сцяшковіч, 618.

як бара́ны п'я́ныя. Гл. баран.

***пянька́*** **спаць як пянькý прада́ўшы.** *Смал., Гродз. Жарт.* Пра чалавека, што моцна, бяспечна, доўга спіць. Добровольский III, 52; Цыхун, 192.

***пяркó*** **Слаўкóм як пяркóм.** *Прык.* Пра далікатна сказанае. Янкоўскі, 104.

***пярó*** **валóсікі як пярó.** *Мсцісл. Ухв.* Пра мяккія дзіцячыя валосікі. Юрчанка, 195.

**згарэ́ць як пярó.** *Слуцк.* Пра нешта, што адбылося імгненна. Сержпутоўскі 1999, 97.

**лёгкі як пярó.** *Мсцісл.* Пра дзіцё ці штосьці вельмі лёгкае. Юрчанка, 195.

**так лёгка (хýтка) як пярó спалíць.** *Ваўк. п.* Пра нейкую лёгкую справу. Federowski, 280; Нос., 161.

**уцяка́ць як бы** *каму* **хто ўваткнýў пярó ў ср...ку.** *Рэч. Груб. Насмешл.* Пра чалавека, які хутка, як на крыллях, збег, уцёк. Pietkiewicz, 396.

***пярýн*** **зла́я як пярýн.** *Астр. Асудж.* Пра вельмі злосную жанчыну. СПЗБ 4, 218.

**ля́пнуць як пярýн у зацéрку.** *Лід.*, *Воран. Насмешл.* Пра чалавека, які неўпапад сказаў. Сцяшковіч, 618; Даніловіч, 177.

**ля́снуць як пярýн у зацéрку.** Санько, 151. Тое ж.

**знíкнуць як перунóм спалíла** *каго. Шчуч.*, *Зэльв.*, *Пух.* Пра чалавека, што імгненна знік. Даніловіч, 241; Сцяшковіч, 617; Мін.-Мал., 1970, 170.

**нічóга ня́ма́ ў ха́це – як перунóм вы́смалена.** *Ушацк.* Пра поўную адсутнасць маёмасці ў бядняцкай хаце. Барадулін, 117.

**як перунóм спалíць.** 1. *Смарг. Ухв.* Пра чалавека, які вельмі хутка выконвае работу. 2. *Шчуч.*, *Пух.* Пра імгненнае знікненне кагосьці альбо чагосьці. Даніловіч, 241; Сцяшковіч, 617; Санько, 71; ДА; Мін.-Мал., 1970, 170.

**як пярунóм пайшлó.** *Капыл. Ухв.* Пра работу, якая стала хутка выконвацца. ДА.

***пяршча́ткі*** трэ́ба як аўцэ́ пяршча́ткі. Гл. аўца.

***пяры́на*** ляжа́ць бы пан на перы́не. Гл. пан.

разбіра́цца як свіння́ ў пяры́нах. Гл. свіння.

**мя́кка як на пяры́не.** *Слон. Ухв.* Пра мяккую пасцель. Высл., 348. < Пярына – рэч недасягальная ў старым сялянскім быце. Пярына была вядома як эталон мяккасці, але лічылася непатрэбнай для сну, нездаровай.

***пяры́нка*** **зрабíць як пéрынку спалíць.** *Памяншь. Слон.* Пра вельмі кароткі час, неабходны для чагосьці. Высл., 330.

*каму* **схлусíць як пяры́нку спалíць.** *Асудж.* Пра некага, хто любіць і не саромеецца хлусіць. Янкоўскі, 222.

***пярэ́плат*** **высóкі як пярэ́плат.** *Астр. Няўхв. Насмешл.* Пра вельмі высокага чалавека. Даніловіч, 243.

пішча́ць як сьвіньня́ ў пярэ́плаце. Гл. свіння.

***пярэ́чынка*** **есць як пярэ́чынка перачыня́е.** *Івац. Ухв.* Пра павольнае, са смакам спажыванне ежы. ЗЗайкі. < Пярэчынак – пласт сена, саломы, які збіваецца граблямі.

***пясо́к*** повзты́ як рак по пэску́. Гл. рак.

**блох як пяску́.** *Сак. п.* Пра вялікую колькасць паразітаў. Federowski, 32.

**гро́шай як пяску́.** *Карэл. Ухв.* Пра вялікую колькасць грошай. Высл., 308.

до́бра як ры́бе на пяску́. Гл. рыба.

*з кім* **гавары́ць, усё ро́ўна як з пяску́ пу́гу круці́ць.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, з якім нельга дамовіцца, паразумецца. Federowski, 109.

ко́шкацца як ку́рыца ў пяску́. Гл. курыца.

купа́цца ў граша́х як ку́рыца ў пяску́. Гл. курыца.

прае́хацца гла́дка як жывато́м па пяску́. Гл. жывот.

**снег сыпу́н як пясо́к.** *Чэрв.* Пра дробны сухі калючы снег. Высл., 386.

як у ката́ за ла́паю пясо́к. Гл. кот.

***пята́*** **зрабі́ць як пя́тамі адбі́ць.** *Лоеў. Ухв.* Пра хуткае, лоўкае выкананне працы. Янкова, 298.

**падско́чыць бы́ццам наступі́ў пято́й на цвік.** *Мін.* Пра рэзкае, імклівае падскокванне каго-н. ЛЦ, 73.

***пята́к*** **бле́дны як пята́к ме́дны.** *Насмешл. Іран.* Пра чырванашчокага чалавека. Крэмнеў, № 61; Нос., 6.

**бліщча́ць як начы́шчаны пята́к.** *Мін. Насмешл.* Пра радасны, шчаслівы выгляд чалавека. ЛЦ, 69.

**паглядзе́ць (гля́нуць) так, бы́ццам даў пята́к.** *Касц., Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які надта выразна злосна глянуў. ЛЦ, 63.

***пя́тка*** *каму* ра́ды як цвіку́ ў бо́це пад пя́ткай. Гл. цвік.

***пятля́*** круці́цца як за́яц у пятлі́. Гл. заяц.

***пя́тніца*** **змо́ршчыцца як суха́я пя́тніца.** *Жарт. Няўхв. Насмешл.* Пра чалавека, што вельмі зморшчыўся незадаволена. Нос., 49. < Пятніца – посны дзень.

вы́скаліць зу́бы як саба́ка на пя́тніцу. Гл. сабака.

**гарэ́ць як у пя́тніцу.** *Шарк.* Пра гарэнне сырых дроў. Высл., 304. < Параўноўваецца з пятніцай, відаць, таму, што гэта быў посны дзень і печ палілі не на поўную сілу.

глядзе́ць бы серэда́ на п’я́тніцу. Гл. серада.

змо́ршчыцца як серада́ на пя́тніцу. Гл. серада.

знаць як саба́ка пя́тніцу. Гл. сабака.

надзьму́цца як серада́ на пя́тніцу. Гл. серада.

скрыві́цца як з серады́ на пя́тніцу. Гл. серада.

скрыві́цца як серада́ на пя́тніцу. Гл. серада.

***Пятро́*** з’яві́цца як лёд на (каля́) Пятра́. Гл. лёд.

такі́ трыва́лы як лёд на Пятра́. Гл. лёд.

***Пятро́ў*** схуда́лы, замэ́рлы як гусяня́ Пятро́вае. Гл. гусяня.

вы́петраць як Пятро́ў ве́нік. Гл. венік.

як Пятро́ў бот з ле́вай нагі́. Гл. бот.

***пятро́ўскі*** дóўгі як пятрóўскі дзень. Гл. дзень.

***Пятру́ля*** **капа́цца як Пятру́ля ў то́рбе.** *Іўеў. Няўхв. Здзекл.* Пра чалавека, які павольна кудысьці збіраецца. Сцяшковіч, 618.

***Пятру́ся*** **калупа́цца як Пятру́ся ў то́рбе.** *Іўеў. Няўхв.* Даніловіч, 243. Тое ж.

***пяту́н*** **быць над ба́бамі бы пету́н над кура́мі.** *Слуцк. Насмешл.* Пра задзірыстага, ганарлівага мужчыну, што хоча быць першым і паважаным у жаноцкім гурце. Сержпутоўскі 2000, 88.

***пяту́х*** **гру́дзі як у петуха́ кале́ні.** *Ушацк. Насмешл.* Пра неразвітыя худаватыя грудзі падлетка. Барадулін, 118.

уцякáць як кýрыца ад петухá. Гл. курыца.

**худорля́вые як петухі́.** *Жытк. Насмешл.* Пра цыбатых падлеткаў. ТС 5, 259.

**штурха́цца як петухі́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра задзірлівых падлеткаў ці дарослых. Юрчанка 1977, 119.

як буця́н пéрад петухóм. Гл. буцян.

як квакýха пéрад петухóм. Гл. квакуха.

**патрэ́бна як петуху́ стаме́ска (тэлефо́н).** *Мсцісл. Іран. Здзекл.* Пра нешта, зусім непатрэбнае. Юрчанка, 194.

**бе́гчы як пяту́х за ку́рыцай.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, што спрытна, імпэтна бегае. Юрчанка, 195.

**дзіві́цца як пяту́х на гусі́ху.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, што недаўменна глядзіць, дзівіцца. Юрчанка, 195.

**завішча́ць як аблу́плены пяту́х.** *Няўхв.* Пра чалавека, які ад нечага моцна закрычаў. Ляцкий, 12.

**зайздро́сціць** *каму* **як пяту́х гусаку́.** *Мсцісл. Жарт.* Пра моцную зайздрасць каму-н. Юрчанка, 195.

**падцыга́ць (падско́кваць) як пяту́х.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які смешна ходзіць. Высл., 359.

**разысці́ся як пяту́х на сме́тніку.** *Маст. Няўхв.* Пра чалавека, што задужа раскрычаўся, раскамандаваўся. Даніловіч, 243.

**скака́ць як пяту́х.** *Зэльв., Івац. Насмешл.* Пра забіяку, задзірыстага хлопца. Сцяцко 2005, 50; ЗЗайкі.

**сердзі́цца як пяту́х [тэй].** *Смал. п. Няўхв.* Пра сярдзітага задзірыстага чалавека. Добр., Смол., 762.

**трапята́цца як пяту́х у гаро́се.** *Зэльв. Іран.* Пра мітусню, трапятанне каго-н. Даніловіч, 243.

**успы́хваць як пяту́х.** *Мсцісл.* Юрчанка, 195. Тое, што сярдзіцца як пятух.

**хадзі́ць як пяту́х пе́рад ку́рыцай.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра паводзіны ганарлівага, зухаватага чалавека. Юрчанка, 195.

***пя́ты*** патрэ́бен як пя́тае кóла ў вóзе. Гл. кола.

патрэ́бен як сабáку пя́тая нагá. Гл. сабака.

***п’я́ўка*** **гі́дкі як п’я́ўка.** *Няўхв.* Пра брыдкага, гідкага чалавека. Янк., Пар., 39.

**напі́цца (упі́цца) як п’я́ўка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра моцна п’янага чалавека. Federowski, 230; Янк., Пар., 175.

**смакта́ць як п’я́ўка кроў.** 1. Пра чалавека, які нешта прагна п’е. 2. *Асудж.* Пра чалавека, які здзекуецца з іншага, выціскае з яго жыццёвыя сілы. Янк., 428.

**шчы́ры як п’я́ўка.** *Іран.* Пра некага небяспечнага эгаістычнага чалавека. Янк., 442.

**як п’я́ўка ўпі́ліцца.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які прыстаў неадчэпна. Federowski, 321.

***пяхце́р*** **сапсці́ як пяхце́р.** *Мсцісл.* Пра чалавека, якому цяжка дыхаць. Юрчанка, 195. < Пяхцер – вяровачная сетка, у якую кладуць сена.

**як пяхце́р.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека тоўстага, тлустага. Юрчанка, 195.

***пяць*** **знаць як сваé пяць па́льцаў.** *Ухв.* Пра дасканалае веданне кагосьці ці чагосьці кімсьці. Янкоўскі, 97.

пла́ваць як тапо́р за пяць гро́шай. Гл. тапор.

**трыма́цца як за пяць тузо́ў.** *Мсцісл.* Пра ганарыстага чалавека, які імкнецца добра выглядаць. Юрчанка, 184.

У нача́льства як у барсука́ – у адну́ нару́ пяць вы́хадаў. Гл. барсук.

***пячо́ны*** чалаве́к вучо́ны як хлеб пячо́ны. Гл. хлеб.

***пячы́*** Пра́ўда як лісіца на ле́ташнім ламе́ скваркі пякла́. Гл. лісіца.

кusа́чыя му́хі як агнём пяку́ць. Гл. агонь.

як бліны́ пячы́. Гл. бліны.

У ма́рцы як у га́рцы: уно́ч пячэ́, а ўдзень цячэ́. Гл. гарац.

як агнём пячэ́. Гл. агонь.

ілжэ́ як бліны́ пячэ́: то́лькі шыпі́ць. Гл. блін.

***пяя́ць*** Жыве́м як пе́сні пяе́м. Гл. песня.

**Гаво́рыць як пяе́ць, а слу́хаць не́чага.** *Няўхв.* Пра чалавека, што прыгожа гаворыць, але пустое. ПП 2, 384.

# Р

***рабёнак*** **Дураку́ наву́ка, што рабёнку аго́нь.** *Слуцк. Прык.* Пра непатрэбнасць і нават небяспеку вучэння для неразумнага чалавека. *Сахараў.*

***ра́бін*** **ківа́цца як ра́бін над талму́дам.** *Мін. Насмешл.* Пра марудную, нудную работу над нечым. ЛЦ, 21.

**мармыта́ць як ра́бін малі́тву.** *Няўхв.* Пра невыразнае манатоннае мармытанне. Янк., Пар., 102.

**мудрава́ць як ра́бін.** *Насмешл.* Пра чалавека, які нешта камбінуе, мудруе. Янк., Пар., 105.

**наўчо́ны як ра́бін.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра чалавека, які занадта мудрue. Federowski, 255, 260.

**разу́мны як ра́бін.** *Рэч.* 1. *Ухв.* Пра дасведчанага чалавека. 2. *Іран.* Пра кагосьці не зусім дасведчанага. Pietkiewicz, 390.

**разу́мны як рабін жыдо́ўскі.** Dybowski, 17. Тое, што разумны як рабін.

**хі́тры як ра́бін.** Пра кагосьці хітрамудрага, вынаходлівага. Янк., Пар., 182.

**як люба́вицкій ра́бин [як рехниць сло́ва – па и́зби пах пай-дзець].** *Смал. п. Насмешл.* Пра дзіўнаватага недалёкага чалавека. Добр., Смол., 764. < З алюзіяй да мясцовага персанажа.
разу́мны як ра́бінавы штаны́. Гл. штаны.

***рабі́на*** **жы́та як рабі́на.** *Ухв.* Пра буйное ўрадлівае жыта. Янк., 407.
**жуко́ў як на рабі́не я́год.** *Жытк. Няўхв.* Пра вялікую колькасць каларадскіх жукоў. ТС 4, 278.

***рабі́навы*** як [та́я] до́ўбня рабінавая. Гл. доўбня.
дожч бы в рабі́нову ноч. Гл. ноч.

***рабі́ць*** **е́сці як рабі́ць.** *Слон.* Пра прыманне ежы як адбыванне павіннасці. Высл., 318.

***рабы́*** дачака́цца як ад рабо́й су́чкі я́ек. Гл. сучка.
як на <рабо́й> свінні́ прае́хаць (перае́хаць). Гл. свіння.
глядзе́ць як цяля́ на ра́быя варо́ты. Гл. цяля.

***рага́ты*** бага́ты як чорт рага́ты. Гл. чорт.

***раго́жа*** **як рого́жа лежа́ць.** *Стол.* Пра палеглае збожжа. ТС 4, 292.

***рад*** сыдя́ть як москалі́ в рад. Гл. маскаль.
**Гады́ як рады́.** *Чэрв. Прык.* Пра значную колькасць пражытых гадоў. Гілевіч, 165.

***ра́дасць*** **Ста́расць не ра́дасць, а смерць – не вясе́лле.** *Астр. Прык.* Пра клопаты і цяжар старэчых гадоў. Гілевіч,161.
**Ста́расьць ня ра́дасьць, а поп ня ся́бра.** *Прык.* Станкевіч, 1029. Тое ж.

***Ра́даўніца*** весялі́цца як Мі́цька на Ра́даўніцу. Гл. Міцька.

***радзі́мец*** *з кім* **як з радзі́мцым: ні найці́ць, ні пыціря́ць.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра бесталковага, дурнаватага чалавека. Юрчанка 1993, 136. < Радзімец – 1. Нячысцік. 2. Падучая хвароба.

***радзі́на*** **лёгка як з радзі́наю.** *Ухв.* Пра добрую, спрыяльную, лёгкую сітуацыю, дачыненні з кім-н. Янк., Пар., 95.

***радзі́ць*** го́лы як ма́ці радзіла. Гл. маці.
ка́шаль як ба́бе радзі́ць. Гл. баба.
ро́зуму што ў Га́нны – радзі́ць пастая́нна. Гл. Ганна.
як ба́бе ця́жка радзі́ць, так скупо́му даўгі́ плаці́ць. Гл. баба.
як жо́нцы ця́жка радзі́ць, так скупо́му доўг плаці́ць. Гл. жонка.

***ра́жка*** **галава́ як ра́жка.** *Слон., Драг., Жытк.* Пра вялікую галаву кагосьці. Высл., 302; Нар. лекс., 222; ТС 1, 212.
**гра́зны як свіна́я ра́жка.** *Івац. Няўхв.* Пра бруднага, неахайнага чалавека. ЗЗайкі. < Ражка – драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай.
сам як мура́шка, галава́ як ра́жка. Гл. мурашка.

***ражо́н*** **сядзе́ць як на ражна́х.** *Ашм., Гродз.* Пра чалавека ў стане крайняй фізічнай актыўнасці, немагчымасці спакойна ўседзець на адным месцы. Даніловіч, 237.
**пакру́чвацца як на ражне́.** ФСБМ 1, 77. Тое ж.
**На чужыне́ што на ражне́.** *Прык. Маз.* Пра няўтульнае, неспакойнае жыццё на чужыне. ПП 1, 291.
ле́зці як чорт на ражо́н. Гл. чорт.

**пацéха як ражóн.** *Ваўк. п.* Пра таго, хто цешыцца без прычыны, а пацеха можа выйсці бокам. Federowski, 208; Нос., 135; Dybowski, 188; Аксамітаў, 205; Васильев, 23.

**худы́ як ражóн.** *Жытк., Стаўб. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі худога. ТС 5, 259; МК, 112.

закруці́цца як ую́н на рожнé. Гл. уюн.

***раз*** **даць як на раз укусíць.** Пра нешта ў вельмі малой колькасці. Янк., Пар., 51.

заскакáць як конь, якóга пéршы раз узя́лі ў абрóць. Гл. конь.

**трэ́ба як раз хлéба ўкусíць.** Пра нешта вельмі неабходнае. Янк., Пар., 170.

**як другí раз на свет нарадзíўся.** *Івац., Рэч.* Пра чалавека, які ачуняў, выздаравеў, адчуў вялікую палёгку. Pietkiewicz, 389; ЗЗайкі.

**як раз ды два.** *Мсцісл.* Пра хуткае і простае выкананне справы. Юрчанка, 195.

***разану́ць*** сказáць як сярпóм па я́йцах разану́ць. Гл. серп.

***разáчка*** узялó як пáна разáчка. Гл. пан.

***разбíты*** трэба як разбíтае калясó ў вóзе. Гл. калясо.

гавары́ць як у скры́пку іграць, а рабíць як у разбíты збан бразгаць. Гл. скрыпка.

стáры чоловéк ек горшчóк разбíты. Гл. гаршчок.

**хадзíць як разбíтый.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які адчувае сябе несабраным, хваравітым. Юрчанка, 195.

***разбóйнік*** **міна як у разбóйніка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека са злым, нялюдскім выразам твару. Federowski, 187.

***развéсці*** як рукáмі развéсці. Гл. рука.

***развéяць*** як вéцер развéяў. Гл. вецер.

***раздáўлены*** як курáпа раздáўленая. Гл. курапа.

***разівóн*** **ісці як разівóн.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра няўважлівага, разяватага чалавека. Юрчанка 1977, 108.

***разíнавы*** дурны́ што бот разíнавы. Гл. бот.

***разíнуць*** **Гаспадáрку вадзíць – не разíнуўшы рот хадзíць.** *Прык.* Пра складанасць упраўнага вядзення гаспадаркі. Янкоўскі, 22.

***разíнька*** **стая́ць як разíнька мóкрая.** *Докш. Насмешл.* Пра мокрага і таму смешнага чалавека. ФА. < Разінька – пушысты звярок, які жыве ў вадзе.

***разлéзлы*** згніць бы разлéзлы грыб. Гл. грыб.

***разлéпуха*** **ісці як разлéпуха.** *Мядз. Няўхв.* Пра павольную няўклюдную хаду. ФА.

***разлíцца*** як ліць разлíлася. Гл. ліць.

як вадóю разлíцца. Гл. вада.

***разляцéцца*** дзéўкі як гусяня́ты: як пéр’ямі абрасту́ць, так і разляця́цца. Гл. гусяняты.

***размáзаць*** **развáжыць як размáзаць.** Пра чалавека, які нейкую справу не столькі разважыць, колькі растушуе, расцягне. Матэрыялы 1981, 123.

***разнік*** вы́трашчыць (вы́рачыць) во́чы як вол на разніка́. Гл. вол.

***разніца*** уна́дзіцца як саба́ка ў разні́цу. Гл. сабака.

вісе́ць як саба́ка на разні́цы. Гл. сабака.

**гы́ркацца як на разні́цы.** Пра людзей, якія сварацца, грызуцца, не паміра́цца. Янк., Пар. 47.

нако́рмлены як саба́ка на разні́цы. Гл. сабака.

пацягну́цца як саба́ка да разні́цы. Гл. сабака.

прывы́кнуць як саба́ка да разні́цы. Гл. сабака.

прывучы́ць ек собаку к рэзні́цы. Гл. сабака.

стая́ць як саба́ка ля разні́цы. Гл. сабака.

шыхалява́цца як саба́кі каля́ разні́цы. Гл. сабака.

***разо́рва*** **е́сці як у разо́рву.** *Бран., Мсцісл. Груб.* Пра празмернае неперабарлівае спажыванне ежы. Расторгуев, 227; Юрчанка, 174.

***разу́цца*** **ісці́ як разу́ўшыся.** *Мсцісл.* Пра асцярожную хаду некага. Юрчанка, 178.

***раз'ю́шаны*** вы́скачыць як раз'юшаны звер. Гл. звер.

***раз'яро́ны*** сапе́ць як бык раз'яро́ны. Гл. бык.

***рай*** **жыць як у раі́.** *Слуцк., Чэрв. Ухв.* Пра вельмі добрае, заможнае, прыемнае жыццё. Сержпутоўскі 2000, 241; СПЗБ 4, 264.

**У маі́ як у раі.** *Брасл. Прык.* Пра майскае хараство прыроды. Рабкевіч, 207.

**У сваі́м кра́і як у ра́і.** *Паст. Прык.* Пра найлепшае жыццё на радзіме. БФМ, 238; Нос., 20; Federowski, 151.

**До́ма край як рай.** *Прык.* Санько, 128. Тое ж.

**до́бра як у раю́.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра найвышэйшую ацэнку ўмоў жыцця. Federowski, 78.

**душа́ накрасава́лася як у раю́ пажыла́.** *Мсцісл.* Пра добрыя моманты жыцця, якія чалавек успамінае з прыемнасцю. Юрчанка 1972, 210.

жыць як Ада́м у раю́. Гл. Адам.

***ра́йства*** **жыць як у ра́йстве.** *Віл. Ухв.* Пра найвышэйшую ацэнку ўмоў жыцця. СПЗБ 4, 264.

***рак*** **вешчава́цца як рак у гаршку́.** *Лаг. Насмешл.* Пра дарэмныя выказванні, намаганні некага. ФА.

**вы́шыкацца (вы́шаптацца) як рак (у то́рбе).** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра людзей, што ўволю нашапталіся, нагаварыліся. Federowski, 345. < Вышыкацца – шаптацца, шушукаць.

**злі́тавацца як рак над жа́баю [узяў ды й очы вы́драў].** *Слон. п. Іран.* Пра злосную расправу над некім. Federowski, 373.

**іці́ як рак пад зо́нцікам.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра некага абсалютна недарэчнага. Юрчанка, 195.

**красне́ць як рак.** *Мсцісл.* Пра пачырванелы твар каго-н. Высл., 336.

**ла́зіць як рак.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які лезе туды, куды яму не трэба. Federowski, 170.

**облéзлы ек рак.** *Стол. Здзекл.* Пра знешні выгляд недагледжанага, запушчанага чалавека. ТС 4, 282.

**паўзці́ як рак у гра́дзе.** *Кругл. Насмешл.* Пра павольнае нязграбнае перамяшчэнне. ДА.
**повзты́ як рак по пэску́.** *Кобр. Насмешл.* ФА. Тое ж.
**сядзе́ць як рак на ме́лі.** *Няўхв.* Пра чалавека, які трапіў у цяжкую сітуацыю. БПФС, 152.
**така́я пра́ўда як рак сві́шча.** *Ваўк. п.*, *Слуцк. Іран.* Пра адсутнасць праўды наогул. Federowski, 247; Рабкевіч, 199.
**таўчы́ся як рак у пролубцы.** *Астр. Няўхв.* Пра бесталкова праведзены час. Даніловіч, 243. < Пролубка – палонка.
**учапі́цца як рак за ко́рань.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які за нешта моцна трымаецца, не здаецца. Высл., 407.
**хадзі́ць як рак за жа́баю.** *Мсцісл. Жарт. Пагардл.* Пра чалавека, які некага адсочвае, цікуе, пераследуе. Юрчанка, 195.
**худы́ як рак.** *Сміл.*, *Кам.* Пра некага вельмі худога. Шатэрнік, 297; Янк., 436; СПЗБ 5, 329.
**чырво́ны (кра́сны, счырване́ць) як рак (варо́ны, пе́чаны).** *Смал. п.*, *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Слон.*, *Лаг. Насмешл.* Пра чалавека з пачырванелым (ад сораму, гарачыні) тварам. Добр., Смол., 772; Federowski, 70, 299; Высл., 420; Ройзензон, 79; ТС 4, 282; ЗЗайкі.
**вусы́ як у ра́ка.** Пра вострыя, доўгія вусы. Янк., Пар., 28.
**пакара́ць як ра́ка ў во́ду ўкі́нуўшы.** *Ваўк. п. Іран.* Пра адсутнасць пакарання, а толькі спрыянне ў нечым некаму. Federowski, 212.
**як ра́кі ўчхнулі.** *Карэл.* Пра некага, хто заціх, затаіўся. ЖН, 64.
**прыпячы́ як ра́ку на вуго́ллях.** *Мін. Спачув.* Пра адчуванні кагосьці ў вялікай небяспецы. Высл., 371.
**сма́ку як у пе́чаным ра́ку.** *Астр.*, *Дзярж. Іран.* Пра адсутнасць смаку ў нечым. Даніловіч, 259; Varłyha, 122; ФА.
**сма́ку як з ра́ку.** *Івац.*, *Шарк. Іран.* Пра нешта сумнеўна смачнае і ў малой колькасці. КВДУ; ЗЗайкі.
**трэ́ба** *каму што* **як ра́ку зо́нцік.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта абсалютна непатрэбнае. Юрчанка, 195.

***рака́*** жыву́ць лю́дзі бы вада́ цечэ́ ў рацэ́. Гл. вада.
**жыццё мяня́ецца як у рацэ́ вада́.** Пра зменлівасць жыцця. Высл., 321.
як вада́ ў рэ́ку жы́зьня пайшла́. Гл. вада.

***ра́кавы*** ру́кі як клы́шні ра́кавыя. Гл. клышня.

***ра́кам*** як да Маскві́ ра́кам. Гл. Масква.
**як ра́кам уста́ў.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека не ў гуморы. Юрчанка, 174.

***ракі́та*** **ба́ба як ракі́та прыжыву́шчая.** *Ушацк.* Пра ўстойлівасць і здольнасць адаптавання ў жанчын. Барадулін, 98.

***ралля́*** **змо́ршчыцца бы ралля́.** *Слуцк.* Пра маршчыністы твар старога чалавека. Сержпутоўскі 1999, 101.

***Рама́н*** **вы́скачыць як Рама́н з канапе́ль.** *Пух. Няўхв. Насмешл.* Пра чалавека, які недарэчна выказаўся, не па справе ўмяшаўся. Мін.-Мал., 1970, 159.

**пóйдзе рабóта** *ў каго* **як у Рамáна пáцяры.** *Воран. Насмешл.* Пра слабую надзею на добры ход справы ў кагосьці. Даніловіч, 260.

***рамíзнік*** **лáяцца як п’я́ны рамíзнік.** *Мін. Асудж.* Пра чалавека, які моцна і брыдка лаецца. ЛЦ, 97.

**п’я́ны як рамíзнік.** *Асудж.* Пра надта п’янага чалавека. Санько, 178.

***рамóнак*** **жóўты як рамóнак.** Пра нешта жоўтае. Янк., Пар., 60.

***рáна*** дóбры як соль на рáне. Гл. соль.

злятáцца як мýхі на рáну. Гл. муха.

лéзці як мýха на рáну. Гл. муха.

ляцéць як мýха на рáну. Гл. муха.

***рандэ́лек*** **як рандэ́лькам па зубáх** *каму. Смарг.* Пра перажыванне сораму, абразы, знявагі. Даніловіч, 243. < Рандэлек – каструля з доўгай ручкай.

***рандэ́льскі*** як карóва рандэльская. Гл. карова.

***рáненька*** рум’я́ны ек сóнейко ранéнько. Гл. сонейка.

***рапéй*** **брáцца як рапéй за адзéжу.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які да некага чапляецца. Federowski, 42.

**прычапíцца як рэпéй к авéчаму хвастý.** *Раг. Няўхв. Пагардл.* Пра чалавека, які да некага прыстаў, прычапіўся. АВНЛ.

***рапýха*** **зневáжаць ды сварьíцца як рапýха.** *Слуцк. Асудж.* Пра сварлівую кабету. Сержпутоўскі 1999, 95.

**цягнýцца як рапýха.** *Пагардл.* Пра павольную, нязграбную хаду кагосьці. Санько, 71.

***рапя́х*** **сядзéць у даўгáх як у рапяхáх.** *Рэч. Няўхв.* Пра чалавека, што дужа запазычаўся. ЛЦ, 123.

***расá*** слёзы льюцца бы з лíсця расá. Гл. ліст.

**чы́сты як расá.** *Ухв.* Пра чысціню, празрыстасць нечага. Янк., Пар., 194.

**я́гад як расá вісíць.** *Лоеў. Ухв.* Пра ўраджай ягад, вялікую колькасць пладоў на галінках. Янкова, 305.

**багáта як расы́.** Пра вялікую колькасць чаго-н. Янк., 396.

**Красы́ як расы́, а жы́зьня залатáя.** *Дзятл. Прык.* Пра прывольнае жыццё ў прыгажосці. Арх. Гр.

**як расы́.** *Стол.* ТС 5, 207; Янк., Пар., 208. Тое, што багáта як расы́.

***расáда*** **дзяўчы́на як расáда, абізáцільна пірасадзíць нáда, а то астáрыцца.** *Віл.* Пра неабходнасць аддаць дзяўчыну замуж. СЦБ, 29.

сядзéць у рáдзе як чорт у расáдзе. Гл. чорт.

***расамáха*** **хадзíць як расамáха.** *Нараўл.*, *Слуцк. Няўхв.* Пра неахайную, непрычасаную жанчыну. Мат. Гом., IV, 263; Сержпутоўскі 1999, 13.

**роспéйсацца як росомáха.** *Жытк. Асудж.* Пра жанчыну з неахайнай прычоскай. ТС 4, 316.

***раскусíць*** Галавý згубíць як арэ́х раскусíць. Гл. арэх.

залгáць як гарэ́х раскусíць. Гл. арэх.

Чалавéк не арэ́х – не раскýсіш. Гл. арэх.

***расóл*** **як расóлам умы́ты.** *Астр.* Пра панурага, засмучанага, прыгнечанага чалавека. Даніловіч, 244.

***распарóць*** Блін не клін – брýха не распóра. Гл. клін.

***расплю́шчаны*** хадзíць як расплю́шчаная жа́ба. Гл. жаба.

***распусцíўшы*** пяя́ць бы пяву́н, распусцíўшы хвост. Гл. пявун.

***распя́ты*** як Ісу́с Хрысто́с распя́ты. Гл. Ісус.

***рассо́ха*** **ходить як на разсо́хах.** *Смал. п. Кплів.* Пра няўклюдную хаду каго-н. Добровольский III, 87.< Рассоха – дрэва, жардзіна з развілістым канцом.

***растапы́рка*** **хадзíць як растапы́рка.** *Слаўг. Няўхв.* Пра непрывабную хаду чалавека. Нар. слов., 78.

***растá́яць*** **як растá́ў.** *Глуск.* Пра бясследнае непрыкметнае знікненне каго-н. Высл., 430.

***расхры́ста*** **хадзíць як расхры́ста.** *Пух. Няўхв.* Пра чалавека, які ходзіць у незашпіленым адзенні. СЦБ, 155.

***расцвітá́ць*** гэ́ты свет як ма́каў цвет: зра́нку расцвітá́е, да ве́чара апада́е. Гл. цвет.
як мак расцвітá́е. Гл. мак.

***расця́гваць*** расцэ́нкі як гармо́нік, як хо́чаш, так і расця́гвай. Гл. гармонік.

***расчо́ска*** трэ́ба як лы́саму расчо́ска. Гл. лысы.
трэ́ба як саба́ку расчо́ска. Гл. сабака.
дарва́цца як лы́сы да расчо́скі. Гл. лысы.

***察ся́нка*** **вы́смактаць** *каго* **як рася́нка камара́.** *Докш.* Пра вымучванне каго-н. цяжкой працай, пастаяннымі прыдзіркамі, з’едлівымі дакорамі. МК, 317; Санько, 120.

***раўге́ня*** **хлеб сало́дак як раўге́ня.** Пра смачны хлеб прыемнай закваскі. Носович, 544. < Раўгеня – рэдкая страва з запаранай і заквашанай жытняй мукі, кулага.

***рача́нец*** ждаць як убо́гі рача́нца. Гл. убогі.

***ра́шпіль*** **твар як ра́шпіль.** *Паст. Няўхв.* Пра шурпаты калючы твар кагосьці. СПЗБ 5, 97.

***рашчы́на*** тра́піць (уле́зці) як тарака́н у рашчы́ну. Гл. таракан.
убíцца як су́чка ў рашчы́ну. Гл. сучка.
уско́чыць як кот у рашчы́ну. Гл. кот.
круцíцца як су́чка ў рашчы́ня. Гл сучка.
узня́цца як це́ста на ро́шчыне. Гл. цеста.

***рая́ль*** ігра́ць як кот на рая́лі. Гл. кот.

***рваць*** Го́ра як зе́ллё: ко́лькі не рві – ко́жны год но́вае. Гл. зелле.
бы собá́кі рвуць за но́гі. Гл. сабака.

***ржа*** **е́сці як ржа жале́за.** *Асудж.* Пра чалавека, які вечна дакарае, данімае кагосьці, не дае спакойна жыць. Янкоўскі, 112.

***ржа́вы*** барбаце́ць як ржа́вая ліската́ха. Гл. ліскатуха.

***ржы́шча*** адзíн як ко́лас на ржы́шчы. Гл. колас.

***рог*** дзе́ўкіны ўбо́ры *каму* так як свінне́ ро́гі. Гл. свіння.
патрэ́бен як цацяруку́ ро́гі. Гл. цецярук.

***ро́дзіўшы*** **рабíць як родзіўшы хлеб.** Пра добрую, старанную працу кагосьці. СПЗБ 4, 233.

***ро́дны*** крыча́ць як на ро́днага ба́цьку. Гл. бацька.
нож як для (да) ро́днага ба́цькі. Гл. бацька.
шанава́ць як ро́днага ба́цька. Гл. бацька.

у зна́ці як у ро́днай ма́ці. Гл. маці.
аўчы́нная ла́тка як ро́дная ма́тка. Гл. матка.
дарагі́ як ма́тка ро́дная. Гл. матка.
дзе кажу́шная ла́тка, то як ро́дная ма́тка. Гл. матка.
свая́ ха́тка як ро́дная ма́тка. Гл. матка.
дагляда́ць як ро́дны ба́цька. Гл. бацька.
така́я радня́ як Са́ўка Кузьме́ ро́дны Хве́дар. Гл. Саўка.
як ро́дные браты́. Гл. брат.
лядцы́ як ро́дныя атцы́. Гл. ацэц.

***ро́жа****, гл. таксама*
***ружа, роза*** **свая́ жо́нка як ро́жа садава́я.** *Лоеў. Захапл.* Пра прыгажосць і прывабнасць менавіта сваёй жонкі. Янкова, 311.

***ро́жкі*** расьлі́нь но́жкі як бара́н ро́жкі. Гл. баран.

***ро́за****, гл. таксама*
***ружа, рожа*** **лы́біцца як ма́йская ро́за.** *Мін. Няўхв.* Пра кагосьці, хто ўсміхаецца, калі яго хваляць. СПЗБ 2, 694.

***ро́зум*** галава́ што кача́н капу́сты: хоць і вялі́кая, але без ро́зуму. Гл. качан.
гало́ўка як ма́каўка, а ро́зуму як насра́на. Гл. макаўка.
здаро́вы як бык, а ро́зуму ні на глык. Гл. бык.
лоб што лапа́та, ды ро́зуму небага́та. Гл. лапата.

***рог*** **як казлі́ныя ро́гі ў мяшку́.** *Мёр.* Пра тое, што выдаецца, вытыркаецца адкуль-н. Нар. скарбы, 141.

***рой*** **ро́ем хадзі́ць.** *Чэрык., Лід., Лаг.* Пра людзей, якія ходзяць цесным гуртам. Бялькевіч, 389.; МК, 225.
**мно́га як рой.** *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць чаго-н. Юрчанка, 195.
оводо́ў як із ву́лья рой. Гл. вулей.
**шуме́ць як рой пчол у рэ́шаце.** *Слон.* Пра нейкі характэрны дружны гоман, шум. Выcл., 422.

***ро́станькі*** спыні́цца як ста́рац на ро́станьках. Гл. старац.

***рот*** бяссло́ўны як вады́ ў рот набра́ў. Гл. вада.
**Гаспада́рку вадзі́ць – не разі́нуўшы рот хадзі́ць.** *Прык.* Пра складанасці вядзення гаспадаркі. Янкоўскі, 22.
Го́рла як про́рва, праглыне́ць, што ў рот пападзе́ць. Гл. прорва.
**жраць як не ў свой рот.** *Дзятл. Асудж. Груб.* Пра чалавека, які зашмат есць. ФА.
маўча́ць як гаўно́м рот зама́заўшы. Гл. гаўно.
**маўча́ць бы́ццам по́ўны рот ка́шы.** *Мін., Хоц. Няўхв.* Пра маўчанне кагосьці, ад каго чакаюць слова. ЛЦ, 65.
**маўча́ць нібы́** *ў каго* **рот зашы́ты.** *Мін., Хоц. Няўхв.* Пра ўпартае маўчанне каго-н. ЛЦ, 65.
маўча́ць як вады́ ў рот (у гу́бы) набра́ў (набра́ўшы). Гл. вада.
Наву́ка не пі́ва – у рот не ўлье́ш. Гл. піва.
**е́сці (жалуба́ць) як не сваі́м (як чужы́м) ро́там.** *Брасл., Гом., Дзярж., Зэльв., Івац., Карэл., Жабін.* Пра маруднае і неахвотнае, без апетыту спажыванне ежы. Юрчанка 1969, 114; Мат. Гом., IV, 138; Высл., 317; Нар. слов., 35; Мат., 174; Даніловіч, 238; ЗЗайкі.

гавары́ць як з во́ўнаю ў ро́це. Гл. воўна.
замінáць як скýла ў ро́це. Гл. скула.
лі́шні як гнілы́ ко́рань у ро́це. Гл. корань.

***ро́ха*** **хадзі́ць як ро́ха.** *Навагр. Няўхв.* Пра неакуратную, абыякавую да сваёй знешнасці жанчыну. Сцяшковіч, 618.

***ро́хля*** **ко́рпацца ек ро́хля.** *Жытк. Няўхв.* Пра тоўстую, непаваротлівую жанчыну. ТС 4, 331.

***рубáнак*** трэ́ба як свінне́ рубáнак. Гл. свіння.

***рубáць*** кáшляць як дро́ва рубáць. Гл. дровы.

***рубе́ль*** **як но́вы рубе́ль.** *Слон. Ухв.* Пра некага вельмі прыгожага, прыстойна апранутага. Даніловіч, 239.
**паглядзе́ць** *на каго* **як рублём падары́ць (адары́ць).** *Гродз., Воран., Смарг.* Пра добразычлівы, прыветны погляд на каго-н. Даніловіч, 244; ФА.
**паглядзе́ць як тры рублі́ даць.** *Касц.* Матэрыялы 1981, 14. Тое ж.
**хі́тры як тры рублі́.** *Чэрв. Насмешл.* Пра некага хітрага, пранырлівага. ФА.
набрáцца як Марці́н за рубля́. Гл. Марцін.
**погледáты ек рубля́ просі́ты.** *Жытк. Пагардл.* Пра ліслівы, прасіцельны погляд каго-н. ТС 4, 80.

***рубнýць*** як сяке́раю рубнýць. Гл. сякера.

***рудá*** **ры́жае як рудá.** *Ашм.* Пра нешта колеру бруду, гразі. СПЗБ 5, 164.

***руды́*** аблéзлы як рудáя мыш. Гл. мыш.
згі́нуць (змарнавáцца, прапáсці) як рудáя мыш [у балóце]. Гл. мыш.
мо́кры як рудáя мыш. Гл. мыш.
упацéць як рудáя мыш. Гл. мыш.
як рудáя мыш. Гл. мыш.
вугі́нуць як руды́е мýшы. Гл. мыш.
ганя́ць як руды́х мышэ́й. Гл. мыш.
разбе́гчыся як руды́я мы́шы. Гл. мыш.
рассы́пацца як ру́дыя мы́шы па све́це. Гл. мыш.
косы ек у собáкі рудо́го. Гл. сабака.

***рýжа**, гл. таксама* ***рожа, роза*** **цвісці́ як рýжа.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра добрае, прывольнае жыццё дзяўчыны, жанчыны. Federowski, 59.
**чырво́ны як рýжа.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта прыемна чырвонае. Federowski, 71.
**як рýжа-квя́та.** *Воран. Захапл.* Пра вельмі прыгожую дзяўчыну, жанчыну. Даніловіч, 244.

***ружжо́*** **п’ець як з ружжá б’ець.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра ахвотніка выпіць. Высл., 365.

***рукá*** **Без навýк як без рук.** *Прык.* Пра немагчымасць абысціся без навучання. Санько, 114.
**як без рук.** *Бабр., Пін., Слон., Стаўб., Івац.* Пра бездапаможнае, цяжкае абыходжанне без каго-, чаго-н. МК, 308; ПП 1, 150; Высл., 425; ЗЗайкі.

прычапі́цца як смала́ к рукам. Гл. смала.

**ласкава як ма́тчынымі рука́мі.** *Ухв.* Пра вельмі ласкавае абыходжанне. Янк., Пар., 94.

**рабі́ць як не сваі́мі рука́мі.** *Бераст.*, *Мсцісл.* Пра неакуратнае, нязграбнае выкананне нейкай працы. Сцяшковіч, 617; Даніловіч, 238; Юрчанка 1969, 114.

**як рука́мі разве́сці.** *Мёр.* Пра малы зямельны надзел. Нар. скарбы, 141.

право́рны як мятла́ ў рука́х. Гл. мятла.

**паўміра́лі як за ру́кі пабра́ліся.** *Ваўк. п.*, *Івац.* Пра вельмі кароткія прамежкі паміж смерцю каго-н. Federowski, 216; ЗЗайкі.

Шча́сце не цуке́рка – у ру́кі не во́зьмеш. Гл. цукерка.

**як руко́й даста́ць.** *Лельч.* Пра блізкую мэту, малую адлегласць, якую лёгка пераадолець. Кучук, Малюк, 119.

**як руко́й зняло́.** *Ваўк. п., Стаўб.*, *Клецк.*, *Шчуч.*, *Жытк.*, *Лельч.*, *Івац.* Пра эфектыўны сродак, спосаб лячэння, калі хвароба, перажыванні, пачуцці хутка і надзейна мінуліся. Federowski, 265; Сержпутоўскі 1999, 81, 137; МК, 317; Высл., 430; ТС 5, 127; Кучук, Малюк, 119; ЗЗайкі.

**як руко́й пада́ць.** *Свісл.* Сцяшковіч, 618. Тое, што як руко́й даста́ць.

**блі́зка як руко́ю пада́ць.** *Капыл.*, *Слуцк.* Высл., 287; Янк., Пар., 17; Никифоровский, 202; Сержпутоўскі 1999, 18. Тое ж.

**сон як у руку даў.** *Ваўк. п.*, *Іўеў.*, *Маст.*, *Воран., Івац.* Пра прарочы сон, які спраўдзіўся. Ляцкий, 42; Federowski, 265; Сцяшковіч, 620; Высл., 386; ЗЗайкі.

***рукаві́цы*** **хло́пцаў як рукаві́ц** *у каго. Івац. Жарт.* Пра некалькіх кавалераў у дзяўчыны. ЗЗайкі.

тр́эба як бязру́каму рукаві́цы. Гл. бязрукі.

***рука́ў*** **даць як з рукава́.** *Ваўк. п.* Пра малую колькасць нечага пададзенага, падараванага. Federowski, 296; Янк., Пар., 51.

**піса́ць як з рукава́ сы́паць.** *Паст. Ухв.* Пра бойкае, хуткае пісанне. СПЗБ 5, 53.

**Жо́нка не рука́ў – не адпо́раш.** *Прык.* Пра неабходнасць паважлівага стаўлення да жонкі і непажаданасці неабдуманага разыходжання. Federowski, 366.

***руно́*** **прапа́сці як саба́чае руно́.** *Глуск. Насмешл.* Пра нейчую бясслаўную пагібель. АВНЛ.

***рунь*** **зяляне́ць як рунь уво́сень.** *Ухв.* Пра нейчую роўную прыгожую зеляніну. Бялькевіч, 372.

***руса́лка*** **го́йдацца бы руса́лка на вярбе́.** *Слуцк.* Пра кагосьці, хто не пасядзіць роўна, калышацца, гойдаецца. Сержпутоўскі 1999, 96.

**хадзі́ць як руса́лка.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра непрычасаную жанчыну. Federowski, 48.

**шлаката́цца бы руса́лка.** Пра кагосьці, хто забаўляецца казытаннем, дурэе. Шпилевский, 187; Dybowski, 192. < Шлакатаць – казытаць. Традыцыйна русалкам прыпісваецца казытанне сваіх ахвяр, што магло прыводзіць і да смерці.

**валасы́ як у руса́лкі.** *Няўхв.* Пра незаплеценыя, распушчаныя па плячах валасы. Янк., Пар., 24.

**уросі́цца по по́ес бы русаўка.** *Стол.* Пра жанчыну, што намокла ад расы падчас працы ўранку ў полі, агародзе, лесе. ТС 4, 69.

***ру́скі*** дурны́ як ру́скі бот. Гл. бот.

***ру́та*** **зялёны як ру́та.** *Ваўк. п.*, *Рэч.* Пра яскрава-зялёны колер чаго-н. Federowski, 354; ЛЦ, 107. < Рута – эталон зялёнага колеру.

**се́на бы ру́та.** *Слуцк., Ухв.* Пра пахучае сенца добрай якасці. Сержпутоўскі, 34.

***руча́й*** **Смерць не ручаі́на – не пераско́чыш.** *Прык.* Пра немагчымасць мінуць смерць. Янкоўскі 1971, 41.

папяро́к го́рла стаў як ка́мень ручэ́й перакры́ў. Гл. камень.

***ручні́к*** **язы́к до́ўгі як ручні́к.** *Чэрык. Няўхв.* Пра плеткара, балбатуна, выкрывальніка сакрэтаў. ЛЦ, 67.

***ры́ба*** **абры́днуць як гніла́я ры́ба.** *Сак. п.*, *Клецк.* Пра некага вельмі абрыдлага, апрацівелага. Federowski, 3; ФА.

**бі́цца як ры́ба аб лёд.** *Смал. п.*, *Ваўк. п.*, *Рэч.*, *Касц.*, *Уздз.*, *Мсцісл.*, *Чэрык.*, *Касц.*, *Хоц.*, *Мін.*, *Брэсц.*, *Асіп.*, *Віл.*, *Нясв.*, *Івац.*, *Люб.* Пра чалавека, які выжывае, змагаецца ў цяжкіх абставінах. Добр., Смол., 28; Нос., 11; Federowski, 29; Pietkiewicz, 357; Высл., 286; Юрчанка 1972, 62; ЛЦ, 23; АВНЛ; СЦБ, 39; ДА; ЗЗайкі.

**бяда́ за бядо́ю як ры́ба за вадо́ю.** *Валож.*, *Навагр.* Пра цэлы ланцуг бедаў. Federowski, 26; Санько, 117.

**во́льны як ры́ба ў не́раце.** *Іран.* Пра зусім не вольнага чалавека, безнадзейна злоўленага. Янк., 399.

**Госьць як і ры́ба: на трэ́ці дзень сьмярдзі́ць.** *Прык. Лаг. Жарт.* Пра найбольшую пажаданасць кароткіх візітаў. Варлыга 1966, 25. < На аснове звычаёвага правіла: Госць першы дзень – золата, другі – серабро, трэці – медзь, дамоў едзь.

**жыву́ць між сабо́ю як ры́ба з вадо́ю.** *Івац. Ухв.* Пра людзей, што жывуць дружна, у згодзе. БФГ, 168; ЗЗайкі.

**жыць як ры́ба з вадо́й.** *Ашм. Ухв.* Пра вельмі дружнае, у згодзе жыццё. Даніловіч, 244.

**заскака́ць як ры́ба на кручку́.** *Зласл.* Пра некага, хто моцна, перапалохана зрэагаваў на нейкае непрыемнае для яго паведамленне, сітуацыю. Янк., 391.

**звы́кнуць з бядо́ю як ры́ба з вадо́ю.** Пра чалавека, што ўжо прымірыўся са сваёй цяжкой сітуацыяй. Янк., 409.

**здаро́ў як ры́ба.** *Ваўк.*, *Сак. п.*, *Ашм.*, *Гродз. Ухв.* Пра здаровага, спрытнага чалавека. Federowski, 353; Dybowski, 20; Высл., 328.

**кі́дацца як ры́ба ў вадзе́.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які актыўна змагаецца з абставінамі. Federowski, 143; Санько, 146.

**маўча́ць як ры́ба [у вадзе́].** *Сак. п.* Пра чалавека, які маўчыць, не выдае сакрэтаў. Federowski, 181; Ройзензон, 73.

**му́чыцца як ры́ба без вады́.** *Слон. Спачув.* Пра пакуты, выпрабаванні каго-н. Высл., 348.

**мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а ты гаўно́.** *Рэч. Груб. Вульг.* Пра нейчую дружбу. Pietkiewicz, 369.
**мы з табо́ю як ры́ба з вадо́ю: ры́ба на дно, а мы ў гаўно́.** *Ваўк. Груб. Вульг.* Federowski, 107. Тое ж.
**нямы́ як ры́ба.** БПФС, 160. Тое, што маўчаць як рыба.
**пагуля́ць як ры́ба на лёдзе.** *Іран.* Пра адсутнасць пагулянак, а толькі пакуты, клопаты. Рапановіч, 261.
**пла́ваць як ры́ба.** *Стаўб. Ухв.* Пра добрага плаўца. Высл., 366.
**сэ́рца тоўхая як ры́ба плёшча.** *Пух.* Пра неспакой, хваляванне, калі моцна б'ецца сэрца чалавека. СПЗБ 2, 181.
**таўчы́ся як ры́ба ў вядрэ́.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейчую мітусню, клопаты ў нявыкрутнай сітуацыі. Юрчанка 1969, 91.
**тру́цца перада́мі як ры́ба ў но́раст.** *Ушацк. Жарт.* Пра сучасныя танцы. Барадулін, 24.
**ходи́ть як ры́ба абтра́ўлиная.** *Смал. п. Зласл.* Пра аглушанага, хмурнага чалавека. Добр., Смол., 556.
**хадзі́ць як ры́ба па дну.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які дзейнічае стрымана, абачліва. Federowski, 48.
**хало́дная як ры́ба.** *Слуцк. Няўхв.* Пра некага астылага ці халоднага па характары. Сержпутоўскі 1999, 134.
**ха́ўкаць як ры́ба ў прыду́ху.** Пра чалавека, які цяжка дыхае, хапае ротам паветра. Янк., Дыял., III, 169. < Хаўкаць – хапаць паветра ротам.
**ці́хая як ры́ба.** Пра нейкую маўклівую, ціхую жанчыну. НН, 620.
**языко́м як ры́ба хвасто́м.** *Маст. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека, што менціць языком. ФА.
**як ры́ба без вады́** *хто без чаго. Ваўк. п.* Пра чалавека, які не можа жыць без нечага, некага. Federowski, 267.
**дзіця́ці патрэ́бна ла́ска як ры́бе вада́.** *Мін.* Пра важнасць цеплыні і ласкі для дзіцяці. ЛЦ, 82.
**до́бра** *каму* **як ры́бе на пяску́.** *Ваўк. Іран.* Пра вельмі цяжкое, пакутлівае становішча каго-н. ЛЦ, 61.
**на́да як ры́бе зо́нцік.** *Нясв. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае, недарэчнае ў дадзенай сітуацыі. ФА.
**патрэ́бен як ры́бе парасо́н.** *Карм. Іран.* Высл., 362. Тое ж.
**папа́сціся як ры́ба ў се́тку.** *Мін.* Пра чалавека, які трапіў у пастку, папаў у бяду. ЛЦ, 62.
**во́чы як у ры́бы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра вялікія непрыгожыя вочы без выразу. Federowski, 335.
дарва́цца як кот да ры́бы. Гл. кот.

***ры́біна*** **біцца як ры́біна аб лёд.** *В.-Дзв. Спачув.* Пра чалавека, які змагаецца з цяжкімі абставінамі. СПЗБ 4, 322.

***ры́бічы*** чы́сты як ры́бічае вока. Гл. вока.

***ры́бка*** **мы з табо́ю як ры́бка з вадо́ю.** *Памянш. Нясв.* ФА. Тое, што Мы з табою як рыба з вадою.
**Мы з табо́ю як ры́бка з вадо́ю; ты ў ваду́, а я над табо́ю.** *Памянш. Прык.* Шпилевский, 184; Dybowski, 184. Тое ж.

**папа́сціся як ры́бка у се́тку.** *Памянш. Мін.* Пра чалавека, які трапіў у цяжкія абставіны. ЛЦ, 62.

**як ры́бка ў вадзе́.** *Памянш. Касц., Слуцк.* Пра чалавека, які добра адчувае сябе ў сваім асяроддзі. Высл., 430; Сержпутоўскі 1999, 55.

**ве́села як ры́бцы на кручку́.** *Памянш. Іран.* Пра зусім невясёлую сітуацыю, хутчэй трагічную. Янк., 398.

***ры́б'я*** малы́ як ры́б'я во́чка. Гл. вочка.

***Ры́га*** збіра́цца як цар пад Ры́гу. Гл. цар.

з'е́здзіць як цар пад Ры́гу. Гл. цар.

***Рыго́р*** **така́я пра́ўда як Рыго́р зна́хар.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра поўны недавер, непрызнанне праўдзівымі пэўных звестак. Federowski, 247.

***рыдва́н*** **хло́пец як рыдва́н.** *Дзярж. Ухв.* Пра высокага і дужага чалавека. Нар. слов., 43. < Рыдван – даўні вялікі экіпаж.

***рыдлёўка*** **кі́пці як рыдлёўкі.** *Крыч. Асудж.* Пра нейчыя доўгія неахайныя ногці. Бялькевіч, 372.

***рыжо́к/ры́жык*** **расці́ як рыжо́к.** *Слуцк. Ухв.* Пра добры рост некага. Сержпутоўскі 1999, 40. < Рыжок – відаць, грыб рыжык.

**чырво́ны як рыжо́к.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра здаровага, вясёлага чалавека. Federowski, 71.

**здаро́вы як ры́жык баро́вы.** *Карм., Слон. Ухв.* Пра здаровага, дужага чалавека. Высл., 327; Сержпутоўскі 1999, 79.

***ры́ла*** прыне́сці ек свіння́ на ры́лі. Гл. свіння.

***ры́нак*** **як на парва́ным ры́нку** *дзе. Гродз. Няўхв.* Пра вялікі непарадак, разруху дзе-н. Даніловіч, 237.

***ры́нда*** **хадзі́ць як ры́нда.** *Ушацк. Няўхв.* Пра неахайна апранутую жанчыну. Барадулін, 120.

***рыса́к*** **бо́рзды як рыса́к.** *Ухв.* Пра вельмі энергічнага, хуткага чалавека. Янк., 398.

як падко́ва у рысака́. Гл. падкова.

***рысь*** **така́я дру́жба як у ры́си с мядве́дим.** *Смал. п. Іран.* Пра варожыя адносіны ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі. Добр., Смол., 805.

***ры́хтык*** **зрабі́ць як ры́хтык.** *Свісл.* Пра вельмі дакладнае выкананне нечага, належным чынам. Даніловіч, 244.

***рыцы́на*** **бе́гаць як рыцы́ны глыну́ўшы.** *Няўхв.* Пра прымусовы хуткі бег кудысьці. Янк., Пар., 15. < Рыцына дае расслабленне страўніка.

***рышта́нт*** **абкарна́ціць валаса́** *каму* **як ришта́нту.** *Смал.* Пра вельмі кароткую стрыжку кагосьці. Добр., Смол., 500.

***рэ́бры*** **вы́сах хоць рэ́бры лічы́.** Пра схуднелага, ссохлага чалавека. Янкоўскі 1971, 111.

***рэ́дзгіні****, гл.* ***рэзгіны***

***рэ́дзька*** **го́ркі як рэ́дзька.** *Віцеб. Няўхв.* Пра нешта вельмі горкае. КВДУ.

**сядзець як рэ́дзька на гра́дцы.** *Брэсц. Жарт.* 1. Пра чалавека, які недзе важна рассеўся. 2. Пра чалавека, які зацята маўчыць. ЛЦ, 123.

**надае́сці як го́ркая (пага́ная) рэ́дзька.** *Ваўк. п.*, *Іўеў.*, *Ушацк.*, *Кобр.*, *Люб.*, *Івац.*, *Пін. Няўхв.* Пра нешта, што вельмі моцна надакучыла. Federowski, 194; Высл., 350; МК, 309; ФА; Ззайкі; БД, 308.

***рэ́заны*** **крыча́ць як рэ́занае.** *Лаг.*, *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які надта моцна, прарэзліва крычыць. МК, 133; Высл., 338; Юрчанка 1977, 6.

**раўсці́ як рэ́заны.** *Івац.*, *Карэл. Няўхв.* Высл., 374; ЗЗайкі. Тое ж.

***рэ́заць*** балі́ць як піло́ю хто рэ́жа. Гл. піла.

**зараўсці́ ба́цցэ** *каго* **рэ́жуць.** *Слуцк.*, *Івац. Няўхв.* Пра надта моцны крык каго-н. Сержпутоўскі 1998, 269; ЗЗайкі.

нож як ву́да, да рэ́заць ім ху́да. Гл. вуда.

як бры́тваю рэ́заць. Гл. брытва.

***рэ́згіны*** **як рэ́дзгіні.** *Маст. Жарт.* 1. Пра тканіну з рэдка сатканых нітак. 2. Пра парванае, з дзіркамі адзенне. Даніловіч, 244.

набра́ць як тума́ну ў рэзгі́ны. Гл. туман.

**як стары́я рэ́згіны.** *Ашм. Насмешл.* Пра непрыгожага, нязграбнага, няўклюднага чалавека. Даніловіч, 253.

***рэзь*** жыць як бара́н да рэ́зі. Гл. баран.

***рэ́мень*** **як рэ́мень.** *Мсцісл. Ухв.* Пра моцную тканіну, пояс, шнурок. Юрчанка, 196.

***рэ́па*** **цыбу́ля як ре́па.** *Мсцісл. Ухв.* Пра вельмі вялікую ўраджайную цыбулю. Юрчанка 1993, 171.

**здаро́вы бы рэ́па.** *Слуцк. Ухв.* Пра моцнага крамянога чалавека. Сержпутоўскі 1998, 289.

**зу́бы як рэ́па.** *Навагр. Ухв.* Пра нейчыя белыя зубы. ФА.

**як па́раная рэ́па [сма́чна].** Пра нешта смачнае. Никифоровский, 146.

**ла́яць як рэ́пу гры́зці.** *Ваўк. п.* Пра нейчую зграбную лаянку. Federowski, 169; Санько, 149.

**мурза́ты хоць рэ́пу сей.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра некага крэпка мурзатага. Federowski, 190; Pietkiewicz, 371.

улé́зці як свіння́ ў рэ́пу. Гл. свіння.

**чыта́ць як рэ́пу гры́зці (сячы́).** *Ваўк.*, *Слон. п.*, *Шальч.*, *Мін.*, *Стаўб.*, *Валож.*, *Івац. Ухв.* Пра добрае, беглае чытанне. Federowski, 71; Dybowski, 7; Мін.-Мал., 170, 171; МК, 317, 318; СПЗБ 5, 75; Высл., 430; ЗЗайкі.

**як рэ́пу грызць.** *Лоеў.*, *Мсцісл. Ухв.* Пра добрае выкананне якой-н. справы. НН, 474; Dybowski, 6; Янкова, 315; Юрчанка 1977, 210, 218.

нае́сціся як свіння́ рэ́пы. Гл. свіння.

***рэ́ха*** **дру́жны як рэ́ха.** Пра неадлучнасць, неадчэпнасць кагосьці. Янк., Пар., 55.

***рэ́шата*** **галава́ [ста́ла] як рэ́шата.** *Стаўб.*, *Слон. Няўхв.* Пра чыю-н. дрэнную памяць. МК, 214; Высл., 302.

**дзіра́вы як рэ́шата.** *Слон.* Пра нейкі посуд, абутак, што прапускаюць вільгаць. Высл., 312.

**дождж лье як з рэ́шата.** *Мін.* Пра вялікі праліўны дождж. ЛЦ, 13.

жыво́т як гарбу́з, а мо́рда як рэ́шата. Гл. гарбуз.

**крам як рэ́шата.** *Няўхв.* Пра рэдкую недыхтоўную крамную тканіну. Янк., 411. < Крам – купленая ў краме тканіна.

**лýста як рэ́шата.** *Дзярж.* Пра вялікі кавалак хлеба, сала. Нар. слов., 25.
**цячы́ як праз рэ́шата.** *Мядз. Няўхв.* Пра дзіравую, ненадзейную страху, праз якую працякае дождж. ЗСалавей.
**цячы́ як рэ́шата.** *Свісл., Мсцісл., Івац. Няўхв.* Пра дзіравы посуд, дах, абутак і інш. Сцяшковіч, 245; Юрчанка 1977, 248; ЗЗайкі.
**цячэ́ як у рэ́шата.** *Мсцісл.* Пра дзіравую страху. Юрчанка 1998, 164.
**Бóга прасíць што рэ́шатам вадý насíць.** *Прык.* Пра бяссэнсавасць пасіўнага спадзявання на Бога, удачу. ПП 2, 143.
мнóга як дзíрак у рэ́шаце. Гл. дзірка.
**прáўда** *ў каго* **як у рэ́шаце вадá.** *Воран., Круп., Мядз., Стол. Іран.* Пра адсутнасць праўды ў каго-н. СПЗБ 4, 334; Даніловіч, 260; ТС 4, 214.
таўчы́ся як уюн у рэ́шаце. Гл. уюн.
шумéць як рой пчол у рэ́шаце. Гл. рой.
**шчáсця** *ў каго* **як у рэ́шаце вады́.** *Капатк. Іран.* Пра адсутнасць шчасця ў каго-н. Высл., 391.

# С

***сабáка***

**гіркаць як на сабáк.** *Нараўл. Няўхв.* Пра чалавека, які злосна, няветліва абыходзіцца з іншымі. Гаворац, 21.
**мнóга як нярэ́заных сабáк.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейкі непаважаны збор людзей. Юрчанка 1998, 227.
**мнóга як сабáк.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 188. Тое ж.
**хоць вадóю разлівáй бы сабáк.** *Слуцк. Няўхв.* Пра людзей, якія моцна сварацца, б'юцца. Сержпутоўскі 1999, 138. < Сабак, якія ярасна грызуцца, лёгка разагнаць, лінуўшы на іх вады.
**аблéзлы як сабáка.** *Гродз. п., Бяр., Івац. Пагардл.* Пра чалавека з нясвежай знешнасцю. Federowski, 2; ФА; ЗЗайкі.
**аблíзвацца як сабáка на сáла.** *Насмешл.* Пра чалавека, які выяўляе прагу займець нешта яму прывабнае. Шатэрнік, 4.
**абмóкнуць як сабáка.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які моцна вымак, выпацкаўся. Federowski, 2.
**агінáцца бы сабáка.** *Слуцк. Няўхв. Раздраж.* Пра чалавека, які не займаецца патрэбнай справай, толькі мітусіцца побач з іншымі. Сержпутоўскі 1998, 251.
**аглядáцца як сабáка ў чужы́м двары́.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе падазрона, з апаскай. ЛЦ, 47.
**Адзíн брэ́ша як сабáка, а другí маўчы́ць як ср...ка.** *Люб. Прык. Няўхв. Вульг.* Пра балбатлівага лгуна і пра неактыўнага маўчуна. ФА.
**азірáцца як сабáка на кірмашý, згубíўшы гаспадарá.** *Гродз. п. Няўхв.* Пра баязлівае, няўпэўненае становішча чалавека ў складанай сітуацыі. Federowski, 11.

**аскыля́цца як саба́ка на чужу́ю пра́цу.** *Слон. п. Няўхв.* Пра чалавека, які ганіць намаганні іншага. Federowski, 10.
**бага́ты як саба́ка кудла́ты.** *Брасл. Іран. Насмешл.* Пра зусім беднага чалавека. СПЗБ 1, 147.
**бая́цца як [шалёны] саба́ка вады́.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, які нечага панічна баіцца. Federowski, 20; Янк., Пар., 14.
**бая́цца як саба́ка мух.** *Навагр. п. Іран.* Пра чалавека, людзей, якія зусім не баяцца чаго-н. Federowski, 20.
**бе́гчы (валачы́ся) як саба́ка за во́зам.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які ідзе за некім, яго мэтамі, пра несамастойнага. Federowski, 31, 206; Янк., Пар., 24.
**бе́гчы бы [ку́цы] саба́ка.** *Слон.*, *Слуцк. Насмешл.* Пра чалавека, які вельмі хутка бяжыць, спяшаецца. Высл., 290; Сержпутоўскі 1999, 20.
**блі́шчаць у во́чы лю́дзям як саба́ка.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе лісліва, дагодліва перад іншымі. Шатэрнік, 22.
**блы́тацца як саба́ка ў збáне.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які не бачыць ісціны, рухаецца бязладна. Federowski, 32.
**бо́сы як саба́ка.** *Брэсц. Насмешл.* Пра беднага чалавека. ЛЦ, 69.
**браха́ць (ілга́ць) як саба́ка.** *Сак. п.*, *Слон.*, *Рэч. Асудж.* Пра няпраўдзівага чалавека, ілгуна. Дуб., 6; Каспяровіч, 145; Pietkiewicz, 359; Federowski, 42; Высл., 288.
**браха́ць як саба́ка на азяро́д.** *Светл. Асудж.* Пра чалавека, які моцна лжэ, дапякае іншым злоснымі нарокамі, сваркай. Высл., 289.
**браха́ць як саба́ка на ве́цер.** *Івац. Асудж.* Янк., Пар., 19; ЗЗайкі. Тое ж.
**браха́ць як саба́ка на ме́сяц.** *Асудж.* Янк., Пар., 19. Тое ж.
**браха́ць як саба́ка на не́ба.** *Слаўг. Асудж.* Высл., 289. Тое ж.
**браха́ць як саба́ка ў ле́се.** *Асудж.* Шпилевский, 180. Тое ж.
**бурча́ць як саба́ка.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які злосна выражае свае думкі. Шатэрнік, 38.
**бы саба́ка на двары́ жыць.** *Слуцк. Няўхв.* Пра бядотнае, бязладнае жыццё кагосьці. Сержпутоўскі 1999, 148.
**ве́рыць як саба́ка ў дзесянцёры.** *Іўеў. Іран.* Пра чалавека, які ў нешта зусім не верыць. Даніловіч, 244. < Дзесянцёры – ‘дзесяць рэлігійных запаведзяў у Бібліі, дэкалог’.
**віля́цца (выкру́чвацца, туля́цца, хава́цца, уцяка́ць) [ад рабо́ты] як саба́ка ад мух.** *Ваўк. п.*, *Рэч.*, *Мін. Асудж.* Пра чалавека, які ўсяляк выкручваецца ад работы, абавязкаў, заданняў. Анимелле, 264; Нос., 172; Dybowski, 190; Federowski, 343; Pietkiewicz, 360; Высл., 293.
**віля́ць як саба́ка хвасто́м.** *Астр. Асудж.* Пра чалавека, які паводзіць сябе лісліва, дагодліва, прыніжана. СПЗБ 5, 300; Янкоўскі, 124.
**віля́ць як саба́ка хвасто́м памі́ж па́лкай і кусто́м (памі́ж па́лкай і кава́лкам).** *Мін. Здзекл. Пагардл.* Пра чалавека, які арыентуецца ў жыцці толькі на пагрозу і на выгаду (карысць). ЛЦ, 50.

**вісе́ць як саба́ка пры (на) рэзніцы.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, які назаляе ўсім у чаканні спажывы, карысці. Federowski, 333; Янк., 399. < Вісіць – тут: тарчыць пастаянна.
**вурсь** *на каго* **як саба́ка.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які можа кінуць камусьці злоснае слова. СПЗБ 1, 337. < Вурсь – фырк.
**вы́бегацца як саба́ка.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, што моцна выгаладняўся, стаміўся. Высл., 295.
**выгляда́ць (пагляда́ць, пазіра́ць) як саба́ка з бу́ды.** *Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе не так, як трэба. Federowski, 210, 343.
**вы́лезці (выска́кваць) з языко́м як саба́ка з хвасто́м.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, які нядобрым словам умешваецца ў чужыя справы. Юрчанка 1969, 190.
**вы́скаліцца як саба́ка ў па́стцы.** *Асудж.* Пра чалавека, які паводзіць сябе злосна, агрэсіўна. Санько, 120.
**вы́скаліць зу́бы як саба́ка на вы́сеўкі (на пя́тніцу, на мя́са).** *Насмешл.* Пра чалавека, які злосна рэагуе на штосьці яму непрыемнае, непрывабнае. Federowski, 361.
**вы́скачыць як нашко́дзіўшы саба́ка.** *Мін. Няўхв. Насмешл.* Пра чалавека, які панічна збягае ад нечага. Высл., 298.
**выць як саба́ка.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра плач, енкі, крыкі непрыяцеля. Federowski, 343.
**вы́шчарыць клэ як саба́ка.** *Шчуч. Няўхв.* Пра непрыемнага чалавека, які насміхаецца. СПЗБ 2, 456.
**вя́каць як саба́ка.** *Міл.*, *Касц. Няўхв.* Пра чалавека, які нешта брыдкае гаворыць. Бялькевіч, 398.
**вярце́ць як саба́ка хвасто́м.** *Мсцісл. Асудж.* Пра дробнага махляра, ілгуна. Юрчанка, 175.
**гавары́ць як саба́ка брэ́ша.** *Слон. Няўхв. Пагардл.* Пра злоснага, безадказнага балбатуна. ФА.
**гало́дны як саба́ка [валача́шчы].** *Івац. Насмешл.* Пра моцна галоднага чалавека. Дуб., 8; Federowski, 102; ЗЗайкі.
**га́ркаць як собáка.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна агрызаецца. ТС 5, 67.
**га́ўкаць як саба́ка на ме́сяц.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, што нешта несправядлівае гаворыць, сварыцца. ЛЦ, 32.
**гламну́ць як саба́ка му́ху.** *Ваўк. п.*, *Слаўг. Няўхв.* Пра чалавека, які некага пакрыўдзіў, знішчыў. Federowski, 110; АВНЛ. < Гламнуць – глынуць.
**глядзе́ць (узіра́цца) як саба́ка на вы́сеўкі.** *Ваўк. п.*, *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які непрыязна, злосна ў некага, нешта ўзіраецца. Federowski, 109; Высл., 305.
**глядзе́ць як гало́дный саба́ка.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, які з прагнасцю на некага ці нешта глядзіць. Юрчанка, 181.
**глядзе́ць як саба́ка на ко́стку.** *Мін.*, *Хоц.*, *Петр. Насмешл.* Пра чалавека са злосным, агрэсіўным позіркам. ЛЦ, 50.
**глядзе́ць як саба́ка на ко́шку.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, які выказвае агрэсію, злосць. ЛЦ, 63.

**глядзе́ць як саба́ка на па́лку.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які з апасеннем, недаверліва на некага ці нешта глядзіць. Юрчанка, 196.

**го́лы як саба́ка.** *Капыл. Няўхв.* Пра беднага чалавека. ФА.

голыш як біч, гуля́ка як саба́ка. Гл. біч.

**гры́зціся як саба́ка з като́м.** *Ваўк. Асудж.* Пра несуладнае жыццё ў сям'і, калектыве. Высл., 308.

**гуля́ка як саба́ка.** *Пруж. Асудж.* Пра чалавека, аматара пагуляць. Шейн, 475.

**гэ́так** *хто* **да мо́рды як саба́ка да то́рбы.** *Докш.* Пра звычку кагосьці да мардабою. Высл., 310.

**дбаць як саба́ка аб пя́ту но́гу.** *Ваўк. п. Іран.* Пра раўнадушнае стаўленне да нечага. Federowski, 77.

**дваро́вая служа́ка што вяско́вая саба́ка.** *Асудж.* Пра нізкі маральны ўзровень дваровых слуг. Ляцкий, 9.

**дзяўкаць як саба́ка.** *Бар. Асудж.* Пра чалавека, які недарэчна абы-што вярзе. СПЗБ 2, 71. < Дзяўкаць – гаварыць недарэчнае, балбатаць.

**дра́цца як саба́ка з като́м.** *Гродз. п. Асудж.* Пра несуладнае жыццё сужонкаў і інш. Federowski, 95.

**дрыжа́ць бы саба́ка на маро́зе.** *Слуцк. Насмешл.* Пра нечае баязлівае захаванне. Сержпутоўскі 1998, 34.

**дурны́ як (што) саба́ка (шчаня́) да го́ду.** *Зэльв., Івац., Капыл. Асудж. Груб. Пагардл.* Пра вельмі дурнога чалавека. Даніловіч, 245; ФА.

**ды́хаць як саба́ка ў го́рач.** *Ваўк. п.* Насм. Пра цяжкое дыханне пасля бегу, работы. Federowski, 90.

**жале́ць як саба́ка па́лку.** *Брасл. Іран.* Пра адсутнасць шкадавання наогул. СПЗБ 2, 135.

жана́ты як пан бага́ты, а хало́сты як саба́ка бясхво́сты. Гл. пан.

**жыд брэ́ша як саба́ка ў ле́се.** *Асудж.* Пра падманлівасць гандляроў-яўрэяў. Нос., 43.

**заду́мацца як саба́ка ў чаўне́ (чо́ўне).** *Слуцк. п., Сак. п. Кплів.* Пра нешанаваную чыюсьці задуменнасць. Шейн, 484; Federowski, 347.

**запе́ніцца бы кру́чаны саба́ка.** *Слуцк. Асудж.* Пра злоснага, крыклівага, несправядлівага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 137.

**засе́дзецца до́ма як саба́ка ля бу́дкі.** *Карэл. Няўхв.* Пра дамаседа. Высл., 325.

**зая́длы як саба́ка.** *Слон. Няўхв.* Пра вельмі заўзятага, упартага чалавека. Federowski, 348; Высл., 325.

**збіра́ць як саба́ка ко́сці.** *Ваўк. п., Докш., Івац. Няўхв.* 1. Пра згаладалага або сквапнага чалавека, які збірае дзе што трапіцца. 2. Пра чалавека, які для працы, паездкі з цяжкасцю камплектуе бязладна раскіданыя рэчы. Federowski, 373; Высл., 325; ЗЗайкі.

**звяглі́вы (звягу́е) як саба́ка [усіх аббрэ́ша].** *Сак. п., Стаўб. Асудж.* Пра чалавека, які ўсіх злосна абмаўляе. Federowski, 374; Нар. слов., 150.

**здо́хнуць як [пасле́дні] саба́ка.** *Ваўк. п., Слон. Асудж. Змасл.* Пра смерць благога чалавека. Dybowski, 21; Federowski, 353; Высл., 328.
**з'е́хаць як саба́ка з се́на.** *Уздз. Асудж. Насмешл.* Пра нечаканае паніжэнне кагосьці (службовае, маёмаснае). ФА.
**з'е́хаць як саба́ка са страхі́.** *Мін. Асудж. Насмешл.* ЛЦ, 106. Тое, што з'ехаць як сабака з сена.
**злаві́ць (схапі́ць) як саба́ка му́ху.** *Слон. Насмешл.* Пра нечыю лёгкую расправу над кімсьці дакучлівым. Высл., 328; Янк., Пар., 159.
**зло́сны (ліхі́, сярдзі́ты, куслі́вы) як саба́ка.** *Ваўк. п., Карэл., Зэльв., Гродз., Івац. Асудж.* Пра вельмі злоснага чалавека. Federowski, 164, 277; Высл., 329; Жыв. сл., 140; Янк., Пар., 91; СПЗБ 5, 21; ЗЗайкі.
**змёрзнуць як саба́ка.** *Ваўк. п., Слон., Івац. Жарт.* Пра чалавека, які моцна замёрз. Federowski, 374; Высл., 329; ЗЗайкі.
**змо́ршчыцца як саба́ка на пасе́і.** *Вілен. Насмешл.* Пра чалавека, які сутыкнуўся з чымсьці яму непатрэбным, непрыемным. Sielicki, 163.
**знаць як саба́ка пя́тніцу.** *Ваўк. п. Іран.* Зусім не ведаць пра нешта. Federowski, 359. < Пятніца – посны дзень.
**кі́дацца (рва́цца) як злы саба́ка з ланцу́гаю.** *Бялын., Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе агрэсіўна, злосна, пагрозліва. Высл., 335; Яўсееў, 102.
**кла́цаць зуба́мэ бы соба́ка.** *Драг. Асудж.* Пра чалавека, што паводзіць сябе пагрозліва. Нар. слов., 147.
**круці́цца як саба́ка ля разні́цы.** *Люб. Няўхв.* Пра чалавека, які марнуе час у чаканні спажывы. ФА.
**круці́цца як саба́ка за хвасто́м.** *Мсцісл. Асудж.* Пра чалавека, які мітусіцца бязмэтна, бесталкова. Юрчанка, 196.
**круці́цца як саба́ка ля га́нку.** *Няўхв.* Пра чалавека, які знаходзіцца ў чаканні спажывы. Янк., Пар., 88.
**круці́цца як саба́ка ў мяшку́.** *Няўхв.* Пра распуснага, легкадумнага мужчыну. Козенка, 160.
**круці́цца як шалёны саба́ка.** *Слон., Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека з няправільнымі паводзінамі. Federowski, 153.
**круці́ць як саба́ка.** *Лоеў. Асудж.* Пра распуснага мужчыну. Янкова, 167.
**круці́ць [но́сам] як саба́ка хвасто́м.** *Ваўк. п., Іўеў., Мін. Няўхв.* Пра чалавека незадаволенага, неспагаднага. Federowski, 153; Высл., 338.
**ку́рчыцца як саба́ка ад хо́ладу.** *Сміл. Няўхв.* Пра нечыя непрыгожыя паводзіны. Шатэрнік, 143.
**ла́шчыцца (ла́сіцца) як саба́ка.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які хоча ўвайсці ў давер, падлізваецца. Federowski, 169; Янк., Пар., 94; Высл., 340.
**лёгак як саба́ка.** *Жарт.* Пра чалавека, лёгкага на хаду. Высл., 340.

**лёгкі з языко́м як саба́ка з хвасто́м.** *Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Янкоўскі, 211.
**лы́гаць як саба́ка.** *Краснап. Асудж.* Пра чалавека, які прагна хапае ежу. Бялькевіч, 253. < Лыгаць – хутка, спяшаючыся, есці.
**лы́сы як саба́ка.** *Гродз. п. Насмешл.* Пра лысага чалавека. Federowski, 173.
**любі́ць** *што* **як саба́ка біч.** *Іран.* Пра адсутнасць любові, а варожае стаўленне да нечага. Аксамітаў, 134.
**любі́ць** *што* **як саба́ка ві́лашнік.** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка, 196. Тое ж.
**любі́ць** *каго* **як саба́ка ката́.** *Ваўк. п.*, *Паст. Іран.* Пра непрыязнае, агрэсіўнае да каго-н. стаўленне. Federowski, 168; Высл., 342.
**любі́ць** *што* **як саба́ка па́лку.** *Уздз.*, *Іўеў.*, *Стол.*, *Смарг., Івац. Іран.* Ляцкий, 44; Янк., 413; Высл., 342; ТС 3, 54; ФА; ЗЗайкі. Тое, што любіць што як сабака біч.
**любі́ць** *што* **як саба́ка цыбу́лю.** *Сак. п. Іран.* Пра раўнадушнае стаўленне да чагосьці. Federowski, 168.
**ляжа́ць як саба́ка пад пло́там.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра гультая, п’яніцу, валацугу. Federowski, 161.
**мало́ць (менці́ць, вярцэ́ць, віля́ць) языко́м як саба́ка хвасто́м.** *Лід.*, *Ваўк.*, *Гродз. п.*, *Слон.*, *В.-Дзв.*, *Дзятл.*, *Клецк. Асудж.* Пра хлуслівага, балбатлівага чалавека. Шпилевский, 184; Киркор, 238; Нос., 14, 129; Ляцкий, 6; Pietkiewicz, 397; Dybowski, 184; Federowski, 127, 333; Сцяшковіч, 598; Шаталава, 96; Высл., 346.
**маўча́ць як саба́ка.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, якому няма чым апраўдвацца. Высл., 346.
**мужы́к не саба́ка, а мя́са вы́есць.** *Вілен. Жарт.* Пра пераборлівае стаўленне мужчыны да кабет. Sielicki, 145. < Замужняя кабета менш прывабная за паненку (тлумачэнне збіральніка).
**на чужо́е мя́са як саба́ка ла́сы.** *Воран. Асудж.* Пра залётніка, аматара чужых жонак. Янкоўскі, 193; Даніловіч, 131.
**набра́цца як саба́ка блох (во́шай).** *Шчуч.*, *Карэл. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. Даніловіч, 244.
**набра́цца як саба́ка заці́ркі.** *Капыл.*, *Карэл. Няўхв.* Пра п’янага чалавека. Высл., 349.
**нае́жыцца ек соба́ка.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які прыняў злосную, агрэсіўную позу. ТС 3,126. < Наежыцца – наставіць хіб, ашчацініцца, зазлаваць.
нае́ўся як бык, перагну́ўся як смык, а гало́дны як саба́ка. Гл. бык.
**накі́нуцца як саба́ка на ко́стку (мя́са).** *Смал. п. Насмешл.* Пра чалавека, які вёў сябе нястрымана, прагна, сквапна. Янк., Пар., 110; Добр., Смол., 443.
**нако́рмлены як саба́ка на разні́цы.** *Жарт.* Пра чалавека, які накормлены дасыта. Янк., Пар., 110.
**напі́цца як саба́ка.** *Слон. п. Злася.* Пра вельмі п’янага чалавека. Federowski, 230.

**нарабі́ць як саба́ка на трэ́скі.** *Вілен.* Пра малую колькасць зробленага. Sielicki, 160.
**насі́цца як пакі́нуты саба́ка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, няўрымслівасць, неспакойныя паводзіны якога раздражняюць. Бялькевіч, 309.
**насі́цца як саба́ка, сарва́ўшыся з ланцуга́/з пры́вязі.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 75. Тое, што насіцца як пакінуты сабака.
**пабе́гчы як зацкава́ны саба́ка.** *Бял. Асудж.* Пра чалавека, які злосна кінуўся прэч. Яўсееў, 47.
**пага́ўкаць як [той] саба́ка на лісі́ную нару́.** *Няўхв.* Пра чалавека, які шмат благога нагаварыў на кагосьці. Янк., 418.
**падвільну́ць як саба́ка хвасто́м.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не выконвае свае абяцанні. Нос., 129.
**пажыві́цца як саба́ка му́хаю (калaро́м).** *Ваўк., Сак. п. Насмешл.* Пра чалавека, якому не ўдалося пажывіцца. Federowski, 226; Дуб., 69.
**пазіра́ць як набі́ты саба́ка.** *Кплів.* Пра чалавека, які зрабіў праступак, адчувае сябе вінаватым. Янк., 419.
**пайсці́ як пабі́ты саба́ка.** *Мін. Кплів.* Высл., 360; Станкевіч, 1014. Тое, што пазіраць як набіты сабака.
**палкнуць як саба́ка му́ху.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра чалавека, які некага лёгка «з’еў». Federowski, 215.
**паляце́ць як саба́ка з цэ́пу спу́шчаны.** *Петр. Асудж.* Пра чалавека, які раптоўна кінуўся ў разгул, нейкую не вельмі разумную справу. Высл., 430.
**Пан шалёны як саба́ка, а ты ямў служы́, небара́ка.** *Слуцк. Прык.* Пра цяжкае становішча падначаленага пры злым кіраўніку. Сержпутоўскі 1999, 131.
**папа́сці як саба́ка ў саладу́ху.** *Мін. Насмешл.* Пра незайздросную сітуацыю кагосьці. ЛЦ, 69.
**пацягну́цца як саба́ка да разні́цы.** *Насмешл. Асудж.* Пра чалавека, які імкнецца да нечага. Янк., 420.
**пачці́вы як саба́ка сі́вы.** *Навагр. п. Здзекл.* Пра непачцівага чалавека. Federowski, 208; Dybowski, 15.
**пра́ўда як саба́ка сяке́ру з’еў.** *Маст. Іран.* Пра адсутнасць праўды, чыстую лухту. Даніловіч, 244.
**прывы́кнуць як саба́ка да па́длы.** *Докш. Зласл.* Пра чалавека, якому давялося прывыкнуць да аб’едкаў, беднасці, зняваг. Высл., 370.
**прывы́кнуць як саба́ка да разні́цы.** *Няўхв.* Пра чалавека, які адвучыўся працаваць і толькі цікуе дармавой спажывы. Янк., 422.
рад як саба́ка па́лцы. *Іран.* Пра адсутнасць радасці наогул. Высл., 375.
**разгуля́цца як саба́ка ў то́рбе.** *Ушацк. Іран.* Пра адсутнасць гуляння, пра несвабоду, скаванасць каго-н. Барадулін, 91.
**розу́мны ек Лейзероў соба́ка.** *Жытк. Іран.* Пра чалавека, які лічыць сабе разумным. ТС 4, 307.

**сарва́цца як саба́ка з ланцуга́.** *Івац. Асудж.* Пра чалавека, які ў злосці кідаецца на іншых. ЗЗайкі.
**сказа́ў як саба́ка гаў.** *Слон. Няўхв.* Пра нешта сказанае пустое, не падумаўшы, толькі каб сказаць. Высл., 383.
**скуго́ліць як саба́ка пры паро́зе.** *Няўхв.* Пра нараканні, жаласныя словы, скаргі кагосьці. Янк., Пар., 150.
**служы́ць** *каму* **як саба́ка.** *Ухв.* Пра вернага, надзейнага слугу, спадарожніка. Янк., Пар., 151.
**служы́ць** *каму* **як ве́рны саба́ка.** *Ухв.* ЗЗайкі. Тое ж.
**смярдзе́ць як саба́ка псі́наю.** *Карэл. Абразл.* Пра непрыемны пах ад некага, смурод. Высл., 386.
**ста́ры як саба́ка.** Пра некага даволі старога. Ляцкий, 42; Сержпутоўскі 1999, 97.
**стая́ць як саба́ка пад дзвяры́ма.** *Ваўк. п.* Няўхв. Пра папрашайку, бадзягу. Federowski, 289.
**стая́ць як саба́ка ля разні́цы.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які бяздзейнічае і толькі чакае дармавой спажывы. Высл., 389.
**сядзе́ць у даўга́х як саба́ка ў блыха́х.** *Воран. Няўхв.* Пра чалавека, які трапіў у вялікія даўгі. Даніловіч, 244.
**Сядзе́ць як саба́ка на се́не: і сам не гам, і друго́му не дам.** *Рэч. Прык.* Пра чалавека, які нечым не карыстаецца, але не аддае іншым. ПП 2, 333.
**сярдзі́ты як па́нскі (кула́цкі) саба́ка.** *Мін. Насмешл.* Пра злоснага чалавека. ЛЦ, 20.
**так памо́жа як саба́ка напла́ча.** *Ваўк. п. Іран.* Пра марнасць чакання чыёй-н. дапамогі. Federowski, 215.
**така́я пра́ўда як саба́ка сяке́ру з'еў і дзёгцем запі́ў.** *Капыл. Іран.* Ніякая не праўда, поўная лухта, небыль. Рабкевіч, 199.
**таке няўклю́днэ, таке кленда́тэ як соба́ка горба́ты.** *Жытк. Насмешл.* Пра нейчы зусім непрывабны знешні выгляд. ТС 3, 197.
**такі́ да сме́ху як саба́ка да брэ́ху.** *Валож. Няўхв.* Пра смяшлівага чалавека. ФА.
**тра́піць як саба́ка ў саладу́ху.** *Мін., Слон. Насмешл.* Пра чыюсьці незайздросную сітуацыю. Янк., Пар., 168; Янк., 420; Высл., 400.
**туля́цца ек [той] соба́ка.** *Стол. Асудж.* Пра чалавека, што ўхіляецца ад працы. ТС 5, 163.
**уз'есціся бы саба́ка.** *Слуцк. Асудж.* Пра зацятага, злоснага на кагосьці чалавека. Сержпутоўскі 1999, 88.
**уле́зці як саба́ка ў збан.** *Ваўк. Асудж.* Пра чалавека, які няпрошана некуды ўлез. Даніловіч, 244.
**уна́дзіцца як саба́ка ў разні́цу.** *Леп. Няўхв.* Пра чалавека, які набыў звычку некуды хадзіць, дзесьці надакучліва бываць. Высл., 405.
**уцячы́ як пабі́ты саба́ка.** *Чэрык. Насмешл.* Пра чалавека, які знік прысаромлены. ЛЦ, 58.
**хава́цца як саба́ка ад мух.** *Карэл., Рэч. Насмешл.* Пра чалавека, які хаваецца ад нечага, некага надакучлівых. АВНЛ; ЛЦ, 75.

**хадзíць па пятáх як сабáка.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, які прыстае, чапаецца да кагосьці. МК, 207.
**хадзíць як сабáка бóсы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Неспагадліва пра нейкага басяка. Federowski, 48.
**хадзíць як сабáка з абарвáнай вярóўкай.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які не трымае сябе ў пэўных рамках. ЛЦ, 75.
**хáпаць як сабáка.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека сквапнага, ухватлівага. Шатэрнік, 293.
**хáўкаць як сабáка [той].** *Дзярж. Жарт.* Пра чалавека задыханага, які ловіць паветра ротам. Нар. слов., 47.
**Стол без хлéба што сабáка без хвастá.** *Віл. Прык.* Пра пажаданасць хлеба пры кожнай страве. Гілевіч 2007, 101.
**хлебястáць языкóм як сабáка хвастóм.** *Дзярж. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека. СПЗБ 5, 312.
**цягáцца як сабáка.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, які недзе цягаецца, не пільнуецца сям'і. Federowski, 57.
**цяўкаць як сабáка.** *Віл. Асудж.* Пра чалавека, што блага пра кагосьці гаварыць. СПЗБ 5, 394.
**шнáрыць як сабáка.** *Бялын. Асудж.* Пра чалавека, што ўсё вышуквае сабе спажывы. Яўсееў, 110. < Шнарыць – шукаць.
**шчуць нóсам бы сабáка.** *Слуцк.* Пра чалавека, які ўсё пільна адсочвае, прадчувае. Сержпутоўскі 1999, 42.
**як забасýе сваíм бáсам як сабáка чáсам.** *Бераст. Няўхв. Кплів.* Пра непрыемны чыйсці спеў ці гаворку. ФА.
**як падцягне бáсам як сабáка чáсам.** *Уздз. Няўхв. Кплів.* Пра непрыемны спеў ці гаворку. Мін.-Мал., 1974, 190.
**як сабáка без хвастá** *ў чым. Гродз. Іран.* Пра чалавека, які непрыгожа выглядае ў якім-н. адзенні. Даніловіч, 254.
**як сабáка вільнýў (мільнýў, мялькнýў) хвастóм.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які не выконвае сваіх абяцанняў, абавязкаў, не плоціць даўгоў. Шпилевский, 187; Киркор, 239; Dybowski, 192; Federowski, 56.
**як сабáка каля разнíцы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які дзесьці пільнуе свае спажывы. Federowski, 333.
**як сабáка падхартáны.** *Ушацк.* Пра схуднелага чалавека. Барадулін, 106.
**як сабáка пераскóчыць.** *Пух.* Пра нешырокую перашкоду – канаву, рэчку. Шатэрнік, 105.
**як сабáка хвост паджáўшы.** *Карэл. Няўхв.* Пра паводзіны, паставу спалоханага, прыгнечанага чалавека. Даніловіч 2008, 137.
**якóя тваё гаранё – як сабáка на камень.** *Няўхв.* Пра няякаснае ворыва кагосьці. СПЗБ 1, 422. < Гаранё – ворыва.
жыць (дружыць, любíцца) як кот з сабáкам. Гл. кот.
цягáцца як хвост за сабáкам. Гл. хвост.
**абсмактáць (абабрáць) як сабáкі кóстку.** *Івац. Няўхв.* Пра поўнае рабаванне каго-н. ЗЗайкі.

**баля́ць як саба́кі.** *Навагр.* Пра грызучы боль у нагах, руках. Даніловіч, 245.
**бе́гаць як саба́кі па заву́глічу.** *Зэльв. Няўхв.* Пра чалавека, людзей, што бегаюць без работы, марнуюць час у гультайстве. Сцяцко 1970, 113.
бая́цца як воўк саба́кі. Гл. воўк.
бая́цца як кот саба́кі. Гл. кот.
**бая́цца як саба́кі дзе́да.** *Ваўк.*, *Сак. п.*, *Рэч. Іран.* Пра адсутнасць страху. Federowski, 20, 168; Pietkiewicz, 376.
**бая́цца** *каго* **як шалёнага (кру́чанага) саба́кі.** Пра злоснага чалавека, якога ўсе моцна баяцца. Янк., Пар., 14.
**без старо́га каля́ ха́ты як без саба́кі.** *Карэл.* Пра неабходнасць старога чалавека, які дапільнуе парадку і бяспекі дому. ФА.
**боя́цца** *каго* **ек ліхо́го собА́кі.** *Жытк.* Пра злоснага чалавека, якога ўсе баяцца. ТС 5, 67.
**бы соба́кі рвуць за но́гі.** *Стол.* Пра грызучы боль у руках, нагах. ТС 5, 67.
**бэнтацца як у саба́кі хвост.** *Гродз.* Пра нешта, што матляецца, ківаецца недзе. Цыхун, 24. < Бэнтацца – матляцца.
**го́нару як у саба́кі блох.** *Дзятл. Здзекл. Асудж.* Пра вельмі ганарлівага чалавека. СПЗБ 4, 336.
**гры́зціся (га́ркацца) як саба́кі.** *Мін.*, *Лід. Няўхв.* Пра людзей (мужа і жонку ці інш.), якія несуладна жывуць, сварацца. Янк., 403; Высл., 308; АВНЛ.
**гры́зціся як саба́кі на бо́йні.** *Няўхв.* Янк., Пар. 47. Тое, што грызціся (гаркацца) як сабакі.
**даўго́ў як у саба́кі кляшчо́ў.** *Ваўк. п.*, *Асіп.*, *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які мае шмат даўгоў. Federowski, 81; Высл., 311.
**жыць як саба́кі ў кары́тцы.** *Смал. п. Няўхв.* Пра благое, беднае жыццё. Доб., Смол., 115.
**жыць як саба́кі.** *Няўхв.* Пра благое, беднае жыццё. Янк., Пар., 63.
**збыткава́цца як з саба́кі.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, з якога нехта здзекваецца. Federowski, 352. < Збыткавацца – здзеквацца.
**змя́та як у саба́кі ў го́рле было́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра пакамечаную вопратку, тканіну. Federowski, 374; Янкоўскі, 178.
**зню́хацца як саба́кі.** *Светл. Няўхв.* Пра нейкую неўхвальную дружбу, хаўрус. Высл., 330.
**ки́нутца ў паку́ту як саба́ки ў кано́пли.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека, які раптам задумаў стаць пакутнікам. Добровольский III, 3.
**ко́сы ек у соба́кі рудо́го.** *Стол. Няўхв.* Пра кудлатыя валасы кагосьці. ТС 4, 334.
**любі́ць** *каго* **як саба́кі дзе́да ў це́снай ву́ліцы.** *Раг. Насмешл.* АВНЛ. Тое, што любіць *што* як сабака біч.
**любі́ць** *каго* **як саба́кі дзе́да.** *Насмешл.* Dybowski, 12; Аксамітаў, 134. Тое, што любіць *што* як сабака біч.
**ме́ле езы́к як у соба́кі хвост.** *Жытк.*, *Гродз. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. ТС 3, 89; Цыхун, 186.

**напа́сці як саба́кі на дзе́да.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра сумесны напад на кагосьці. Federowski, 197.
**но́гі [баля́ць] як саба́кі жую́ць.** *Смал., Навагр.* Пра грызучы боль у нагах ці руках, у касцях наогул. Добр., 216; Даніловіч, 245; Янк., Пар., 114.
**но́гі як саба́кі рвуць (дзяру́ць).** *Свісл., Навагр., Сен., Арш., Маладз.* Даніловіч, 245; МК, 318; Гілевіч, 167. Тое ж.
**пага́ркацца як саба́кі.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра людзей, што пасварыліся, нагаварылі адзін аднаму непрыемнага. Federowski, 210.
**паднябе́нне ў ро́це чо́рнае як у саба́кі.** *Івац. Асудж.* Пра злога чалавека. ЗЗайкі. < «Кажуць, у злога чалавека паднябенне чорнае» (тлумачэнне інфарманта).
**прыйсці бы ў соба́кі во́чэй позы́чыўшы.** *Стол. Асудж.* Пра чалавека, які зрабіў іншаму прыкрасць, а потым ідзе да яго, як бы нічога не было. ТС 4, 126.
**разарва́ць** *каго* **як саба́кі за́йца.** Пра бязлітасную расправу над кім-н. Высл., 375.
**расцягну́ць як саба́кі здо́хлага каня́.** *Бераст. Няўхв.* Пра сквапнае расцягванне чагосьці зайздроснымі людзьмі. ФА.
**ро́зум як у саба́кі да го́ду.** *Навагр. Няўхв.* Пра чалавека слабога розуму. Даніловіч, 260.
**сябрава́ць як гало́дныя саба́кі, што дзе́ляць ко́стку.** *Мін. Іран.* Пра людзей, што не сябруюць, а грызуцца, кусаюцца. ЛЦ, 64.
**Така́я кары́сць з мужыка́ бага́тага як з саба́кі касма́тага.** *Прык. Насмешл.* Пра бескарыснасць чужога багацця. Federowski, 193.
уцяка́ць як за́яц ад саба́кі. Гл. заяц.
уцяка́ць як ско́чкі з до́хлай саба́кі. Гл. скочкі.
**хлеб у прыма́кі як у саба́кі.** *Слон.* Пра няпэўнасць, несамастойнасць прымацкага жыцця. Арх. Гр.
**чо́рны рот як у ліхо́га саба́кі.** *Насмешл.* Пра злоснага чалавека. Янк., Пар., 193.
**шыхалявацца як саба́кі каля́ разні́цы.** *Лаг. Няўхв.* Пра людзей, якія групуюцца ў чаканні спажывы, карысці. Varłyha, 114.
**язы́к буўта́іцца што ў саба́кі хвост.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Юрчанка 1993, 96.
**язы́к кру́ціцца як хвост у саба́кі.** *Ваўк. п. Няўхв.* Добровольский III, 135; Federowski, 126. Тое, што язык буўтаіцца што ў сабакі хвост.
**як у саба́кі блох** *чаго. Маст. Няўхв.* Пра мноства чагосьці непатрэбнага (ганарлівасці, зазнайства, злосці). Даніловіч, 260.
**як у саба́кі з го́рла вы́цягнуў.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра доўг, вернуты з цяжкасцю, вырваны ў кагосьці. Federowski, 269; Янкоўскі, 128.
**як у саба́кі кілбаса́ на шы́і.** *Лід., Іўеў. Няўхв. Кплів.* Пра грошы, якія доўга не затрымаюцца ў кагосьці. Даніловіч, 260.
**біць як саба́ку.** *Карэл. Няўхв.* Пра моцную лупцоўку каго-н. Сцяшковіч, 309.

**ве́рыць** *каму* **як збро́дліваму саба́ку.** *Слон. п. Іран.* Зусім не верыць. Federowski, 113.
**вы́гнаць як саба́ку.** *Слон. Абразл.* Пра выгнанне кагосьці з абразай, аблаяўшы. Высл., 296.
**вы́лаяць як саба́ку.** *Ваўк. п.* Моцна кагосьці вылаяць не стрымліваючыся. Federowski, 60.
**ганя́ць як саба́ку.** *Ваўк. п.* Пра непаважнае стаўленне да кагосьці. Federowski, 103.
**гнаць як [таго́] саба́ку з ха́ты.** Пра чалавека, які заслужана трапіў пад абразы, выгнанне. Янк., Пар., 42.
**зажыва́ць як на пага́ным саба́ку.** *Калінк. Жарт.* Пра лёгкае зажыўленне ран, балячак. Рабкевіч, 79.
**збештаць як саба́ку.** *Ваўк. п.* Пра чалавека, якога заслужана аблаялі, прысарамоцілі. Federowski, 352.
**зла́яць (збэ́сціць) як саба́ку.** *Ваўк. п., Слон.* Federowski, 356; Высл., 328. Тое ж.
**знаць бы саба́ку.** *Слуцк.* Пра кагосьці добра знаёмага, хаця і не з лепшага боку. Сержпутоўскі 1999, 27.
**падаба́цца** *каму што* **як саба́ку ко́стка.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нешта для каго-н. прывабнае. Юрчанка, 196.
**патрэ́бен як саба́ку пе́чаная цыбу́ля.** *Ваўк. Іран.* Пра нешта зусім не патрэбнае. ЛЦ, 118.
**патрэ́бен як саба́ку пя́тая нага́.** *Ваўк., Мін., Чэрык., Ганц., В.-Дзв., Дзятл., Круп., Стаўб., Стол., Івац. Няўхв. Іран.* ЛЦ, 118; ФА; МК, 210; Барысюк, Буян, 26; ЗЗайкі. Тое ж.
*каму* **паабяца́ць што саба́ку хвасто́м махну́ць.** *Мін. Пагардл.* Пра чалавека, які не даражыць сваім словам. ЛЦ, 47.
*каму* **пабажы́цца як саба́ку му́ху схапі́ць.** *Ваўк. п. Пагардл.* Пра чалавека, які не баіцца граху і можа пабажыцца, там, дзе не варта. Federowski, 206.
**пасу́нуцца як саба́ка падпе́чаны.** *Насмешл.* Пра прысаромленага, зганьбаванага чалавека. Козенка, 160.
*на кім* **як на саба́ку зажыва́е (прысыха́е).** *Мін. Ухв.* Пра чалавека, раны якога лёгка зажываюць. ЛЦ, 88.
**пражы́ць як на саба́ку прае́хаць.** *Навагр., Маст. Здзекл.* Пра нецікавае, цяжкое жыццё. ФА; Даніловіч 2008, 137.
**тра́віць як саба́ку.** *Няўхв.* Пра чалавека, якога ўсе праследуюць. Ройзензон, 78.
**трэ́ба** *каму што* **як саба́ку (для саба́кі) груздзі́ла.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Юрчанка, 196.
**трэ́ба** *каму што* **як саба́ку га́лстук (расчо́ска, падця́жкі, штаны́, чулкі́).** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка, 196. Тое ж.
**трэ́ба** *каму што* **як саба́ку другі́ хвост.** *Іўеў., Маладз. Іран.* Dybowski, 16; Высл., 362; Даніловіч, 245. Тое ж.
**турну́ць як сыба́ку.** *Мсцісл. Пагардл.* Пра чалавека, якога груба, бесцырымонна выгналі, прагналі. Юрчанка 1993, 97.

**угадзі́ць** *каму* **як саба́цы кіпятко́м.** *Карэл. Іран.* Пра чалавека, якога моцна нечым апяклі (можа, у пераносным сэнсе). Высл., 403.

**узва́льваць як на саба́ку.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра ўзвальванне на кагосьці мноства спраў, клопатаў. Юрчанка, 192.

*што* **як саба́ку му́ха.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра малую, зусім недастатковую колькасць нечага. Юрчанка 1969, 229.

**язы́к чэ́шацца як саба́ку.** *Воран. Асудж.* Пра чалавека, якога цягне маніць, балбатаць, плявузгаць. Арх. Гр.

**як на саба́ку штаны́.** *Мсцісл. Жарт.* Пра адзенне не па фігуры, не па ўзросту. Юрчанка, 192.

**патрэ́бен як саба́цы (саба́ку, саба́кі) пя́тая нага́ (ла́па).** *Сак. п.*, *Мсцісл.*, *Маз. Іран.* Нос., 38; Federowski, 224, 294; Pietkiewicz, 385; Дуб., 45; Ляцкий, 44; Юрчанка 1969, 140; Высл., 362. Тое, што патрэбен як сабацы другі хвост.

**так хо́чацца** *каму* **рабі́ць як саба́цы паха́ць.** *Іран.* Пра поўную адсутнасць жадання працаваць. Дуб., Нар., 1.

патрэ́бна як се́на саба́ццы. Гл. сена.

**сты́дна** *каму* **як сыба́ку.** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, якому зусім не сорамна. Юрчанка 1993, 86.

***саба́чка*** **зажыва́ць як на саба́ццы.** *Памянш. Маст.*, *Гродз.* Пра кагосьці, на кім досыць хутка, без ускладненняў зажываюць раны. Даніловіч, 237.

**патрэ́бны як саба́ццы па́лка.** *Памянш. Бераст. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Даніловіч, 245.

**чы пры́стало? – як саба́ццы ў ганаві́цах.** *Памянш. Насмешл.* Пра ўбранне не да фігуры. Калі хто, прымяраючы ўбранне, пытае, ці пасуе. Федароўскі, 424.

**як саба́ццы ле́гчы.** *Памянш. Слон. Іран.* Пра вельмі малую плошчу. Даніловіч, 245.

**прыгаво́рны як саба́чка дво́рны.** *Памянш. Зэльв. Іран.* Пра каго-н. вельмі гаваркога, балбатлівага. Даніловіч, 245.

**кі́нуць ско́рку хле́ба** *каму* **як соба́чцы.** *Памянш. Лельч.* Пра неадпаведны пачастунак кагосьці. Кучук, Малюк, 124.

***сабачу́к*** **бе́гаць як сабачукі́.** *Шальч. Жарт.* Пра вясёлую бегатню, відаць, дзяцей. СПЗБ 4, 337. < Сабачук – сабачаня.

***саба́чы*** прапа́сці як саба́чае руно́. Гл. руно.

прасто́рна як у саба́чым го́рле. Гл. горла.

сра́но, мара́но як у саба́чым го́рле. Гл. горла.

тра́піць як на саба́чую га́ндлю. Гл. гандля.

цягну́цца як саба́чая пе́сня. Гл. песня.

прыста́ць як дзядо́ўнік да саба́чага хваста́. Гл. дзядоўнік.

цягну́цца як саба́чы хвост за кім-н. Гл. хвост.

язы́к як саба́чы хвост. Гл. хвост.

***сава́*** **вы́лупіць во́чы (вы́лупіцца, пазіра́ць) як сава́.** *Івац.*, *Мядз.*, *Клецк. Няўхв.* Пра непрыемны погляд, непрыемны выраз вачэй кагосьці. Янк., Дыял., І, 205; Мін.-Мал., 1974, 186; ФА; ЗЗайкі.

**лу́паты очы́ма бы голо́дна сова́.** *Кам. Няўхв.* Пра адмысловы непрыемны погляд кагосьці. ЖН, 44.

**лупа́ты як сава́.** *Івац. Няўхв.* Пра чалавека з непрыгожымі вачыма навыкаце. ЗЗайкі.

**наду́цца як сава́.** *Гродз. п. Насмешл.* Пра некага крыўдлівага, капрызнага. Federowski, 195.

**накі́нуцца як сава́ на ку́рыцу.** *Мсцісл. Асудж.* Пра драпежны выпад кагосьці. Юрчанка, 196.

**паглядзе́ць як сава́ ў глёк.** *Лоеў.* Пра ўважлівы, пільны позірк некага. Янкова, 85.

**спява́ць як сава́ за́йца выкліка́е.** *Брасл. Насмешл.* Пра не вельмі прыемны спеў кагосьці. Рабкевіч, 174.

**Сядзе́ць на куце́ як сава́ ў кусце́.** *Смарг. Прык. Насмешл.* Пра залішне важнае захаванне госці, сваццi ці інш. ФА.

**упусці́ць кі́пці што сава́.** *В.-Дзв. Няўхв.* Пра драпежны выпад, нападзенне на каго-н. СПЗБ 2, 463.

**ходить як сава́.** *Смал. п. Няўхв.* Пра надзьмутага чалавека. Добр., Смол., 350.

**жыве́цца** *каму* **як той саве́.** Пра жыццё адзінокае, у аддаленасці ад іншых. Янк., 407.

**жыць як саве́.** *Воран.* Сцяшковіч, 618. Тое ж.

**Старо́му з маладо́й жыць як саве́ з ла́стаўкай гняздо́ віць.** *Леп. Прык.* Пра неадпаведныя пары. АВНЛ.

**во́чы як у савы́.** *Жытк. Няўхв.* Пра нейчыя вялікія круглыя вочы. ТС 1, 173; Янк., Пар., 28.

**У ўдавы́ во́чы як у савы́.** *Прык. Вілен. Жарт.* Пра асаблівасці жыцця ўдавы. Sielicki, 147. < Намёк, што ўдава – «птушка» начная, што яе жыццё, найбольш цікавыя яго праявы хаваюцца пад покрывам ночы.

Як пазыча́ць, то во́чы як у сако́ла, а як аддава́ць, то як у савы́. Гл. сакол.

***Са́вка**, гл.* **Саўка**

***сага́н*** — **чо́рны як саган.** *Івац.* Пра нешта чорнае. *ЗЗайкі.* < Саган – жалезны чугун.

заробі́ць ек Пе́льха на саганах. Гл. Пельха.

***сад*** — **жыць як сад на паго́дзе (у паго́ду).** *Докш., Астр. Ухв.* Пра ўдалае, вясёлае жыццё ў дастатку. Высл., 320; Янук., 30; Даніловіч 2010, 91.

***са́дла**, гл.* **сала**

***садо́вы*** — свая́ жо́нка як ро́жа садава́я. Гл. рожа.

***садо́чак*** — вы́гадаваць як кве́тку ў садо́чку. Гл. кветка.

**прыго́жа як у садо́чку** *дзе. Памянш. Захапл.* Пра прыгажосць, дагледжанасць, утульнасць дзе-н. Янк., Пар., 133.

***са́жа*** — **Паклёп (плёткі) як са́жа: калі́ не абпа́ліць, то запэ́цкае.** *Мін. Прык.* Пра шкоднасць плётак, паклёпаў для чыёй-н. рэпутацыі. ЛЦ, 46.

**Сло́ва не са́жа – ні замара́ець.** *Чач. Прык.* Пра розны ўплыў слова на чалавека. ПП 2, 390.
**чо́рны як са́жа (со́пуха).** *Ваўк. п., Саліг., Слон., Жытк., Зэльв., Слуцк., Івац.* Пра нешта (некага) вельмі чорнае, закапчонае. Federowski, 66; Высл., 419; Жыв. сл., 159; ТС 5, 9; Сержпутоўскі 1999, 95; Сцяцко 2005, 114; ЗЗайкі.

***са́жалка*** як чорт з [маславага] з Кірзевай са́жалкі. Гл. чорт.

***сакаві́цкі*** набы́цца як сакаві́цкі (марцо́вы) снег. Гл. снег.

***сакату́ха*** **рассаката́цца як сакату́хі.** *Капыл.* Пра жанчын, што надта разгаварыліся. ДА.

***сако́л*** **ба́чыць як сако́л.** *Ухв.* Пра чалавека з зоркім поглядам. Янк., 397.
**гол як сако́л.** *Брасл., Івац., Слон., Слуцк., Мсціcл.* Пра некага вельмі беднага, безмаёмаснага. Нос., 26; Сержпутоўскі 1999, 23; Юрчанка 1969, 180; Высл., 306; ЗЗайкі. < Сакол – тут, відаць, сценапрабіўная прылада ў выглядзе важкага жалезнага лома, якая ўжывалася ў старадаўнія часы пры штурме крэпасці. Даль, Слов., 4, 262.
**Як пазыча́ць, то во́чы як у сакала́, а як аддава́ць, то як у савы́.** *Прык. Жарт.* Пра людзей, што ахвотна пазычаюць і ведаюць, у каго што ёсць, а як аддаць – забываюць, не заўважаюць. Dybowski, 10; Federowski, 226; Добровольский III, 30.

***са́ла*** жыць як по́чка (ны́рка) ў са́дле. Гл. почка.
аблі́звацца што кот на са́ла. Гл. кот.
аблі́звацца як кот (саба́ка) на са́ла. Гл. кот.
абрасці́ як ны́рка ў са́ла. Гл. нырка.
дабра́цца як ко́шка да са́ла. Гл. кошка.
дарва́цца як кот да са́ла. Гл. кот.
**дурны́ як са́ла.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, якому шмат не хапае, каб быць разумным. Federowski, 86.
**дурны́ як са́ла без со́лі.** *Свісл., Івац. Жарт.* Даніловіч, 245; ЗЗайкі. Тое ж.
**дурны́ як са́ла без хле́ба.** *Дзятл. Жарт.* Высл., 316; ЛЦ, 42; ФА. Тое ж.
**жыць як са́ла ў бо́чцы.** *Гродз. Ухв.* Пра забяспечанае, бестурботнае жыццё кагосьці. Даніловіч, 245.
**надае́сці як го́ркае са́ла.** *Смарг. Раздраж.* Пра чалавека ці прадмет, што вельмі надакучылі. ФА.
пава́дзіцца хадзі́ць як кот у са́ла. Гл. кот.
пагляда́ць як кот на са́ла. Гл. кот.
**скве́рціся як са́ла на патэ́льні.** *Глуск., Леп. Ушацк. Жарт.* Пра нейчыя капрызы, нараканне, бурчанне. Янк., Дыял., III, 166; ЗВалодзінай.
увы́кнуць як кот у са́ла. Гл. кот.
унадзіцца як кот да чужо́га (у чужо́е) са́ла. Гл. кот.
як з жа́бы са́ла. Гл. жаба.
як кату́ са́ла: нія́к з кубла́ не дାста́ць. Гл. кот.
бры́дзіцца як кот са́лам. Гл. кот.

насі́цца як кот з са́лам. Гл. кот.
сма́чна як цу́кар з са́лам. Гл. цукар.
**як са́лам** *што* **пама́заў.** *Слон. Ухв.* Пра нейкую справу, што лёгка пайшла, зрушылася з месца. Высл., 430.
жыць як ны́рка (по́чка) у са́ле. Гл. нырка.
ла́саваць ек кот на са́ло. Гл. кот.

***салаве́й*** **гавары́ць як салаве́й з зязю́ляй.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра любоўную, ласкавую гаворку двух людзей. Federowski, 108.
**загля́дваць у во́чы як салаве́й.** *Івац.* Пра нейчы лісліві позірк. ЗЗайкі.
**засвіста́ць як салаве́й.** *Мсцісл. Ухв.* Пра чалавека, што складна загаварыў. Бялькевіч, 206.
**спява́ць бы салаве́й.** *Івац., Слуцк. Захапл.* Пра прыгожыя, дасканалыя спевы каго-н. Сержпутоўскі 2000, 240; ЗЗайкі.
**шчабята́ць як салаве́й з зязю́ляю.** *Ваўк. п. Ухв.* Federowski, 297. Тое, што гаварыць як салавей з зязюляй.
**патрэ́бен як салаўю́ свісто́к.** *Мін. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае, лішняе. ЛЦ, 118.
**галасо́к як у таго салаўя́, што за гаро́ю (на зарэ́) кабы́лу ду́шыць (ко́ней кру́ціць).** *Ваўк. п., Браг. Іран.* Пра чалавека, голас якога нагадвае воўчае выццё. Federowski, 111; Высл., 302.

***саладзі́ны*** зна́цца як свіння́ на саладзі́нах. Гл. свіння.

***саладу́ха*** му́чыцца як лісі́ца ў саладу́се. Гл. лісіца.
папа́сці як му́ха ў саладу́ху. Гл. муха.
папа́сці як саба́ка ў саладу́ху. Гл. сабака.
тра́піць (улé́зці) як пруса́к у саладу́ху. Гл. прусак.
улі́пнуць як му́ха ў саладу́ху. Гл. муха.
утрэ́скацца як дурны́ ў саладу́ху. Гл. дурны.

***Салaмо́н*** Хоць гол як біч, да вумён як Саламо́н. Гл. біч.

***саламо́навы*** разу́мны як саламо́навы по́рткі. Гл. порткі.
такі́ мудрэ́ц як саламо́навы га́ці. Гл. гаці.
хі́тры як саламо́навыя по́рткі. Гл. порткі.

***салда́т*** **А́рмія без ма́та што салда́т без аўтама́та.** *Мінск. Прык. Жарт.* Пра панаванне ў войску ненарматыўнай лексікі. АВНЛ.
**наду́цца як салда́т на вош.** *Дзярж. Насмешл.* Пра чалавека крыўдлівага, капрызнага. ФА.

***салёны*** Век пражы́ць як салёны грыб праглыну́ць. Гл. грыб.
**хадзі́ць як соло́ны.** *Лоеў. Няўхв.* Пра чалавека маркотнага, заклапочанага, забедаванага. Янкова, 118.

***салідэ́ра*** як конь на салядэ́ру (на салідэ́ру). Гл. конь.

***сало́дкае*** прылі́пнуць як му́ха да сало́дкага. Гл. муха.

***сало́ма*** **Дзяўчы́на як сало́ма: пepатру́хне – ніко́му не патрэ́бна.** *Мін. Прык.* Пра хуткае знікненне жаноцкай прывабнасці. АВНЛ.
**прыста́ць як сало́ма ў ла́зні.** *Сен. Няўхв.* Пра настойлівае прыліпанне, прыставанне да некага. Каспяровіч, 254.
**размо́кнуць як гнілáя сало́ма.** *Карэл. Здзекл.* Пра нешта, некага непрывабных, мокрых, брыдкіх. ФА.

**як той, што ў салóме спіць, а зубáмі блóхі б’е.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра кагосьці, іншасказальна параўнанага з сабакам. Federowski, 286.
загарэ́цца (заня́цца) як стог салóмы. Гл. стог.
тóўсты як куль салóмы. Гл. куль.

***салóмка*** Без жóнкі як сяннíк без салóмкі. Гл. сяннік.

***Салóха*** **удалóся як тэй Салóсе (Шалóсе).** *Ваўк. п., Ушацк. Іран. Насмешл.* Пра няўдала зробленую справу, чыюсьці няўдачу. Нос., 166; Дуб., 65; Federowski, 317; Матэрыялы 1981, 124; Барадулін, 110.
**хадзíць як Салóха.** *Чашн. Няўхв.* Пра неахайную непрывабную жанчыну. Каспяровіч, 275.

***салявы́*** сýнуцца як салявы́ мяшóк (мех). Гл. мяшок.

***сам*** **рабіць як сабе.** *Івац. Ухв.* Пра надзейна, акуратна зробленую справу. ЗЗайкі.
**хадзíць як сам не свой.** *Ваўк. п., Рэч., Мсцісл., Івац.* Пра разгубленага ці хваравітага чалавека. Federowski, 48; Pietkiewicz, 394; Юрчанка 1974, 228; ЗЗайкі.
**éсці бы не ў себé.** *Стол., Жабін. Няўхв.* Пра прагнае паглынанне ежы кім-н. Барысюк, Буян, 13; Ганчук, Касцючык, 85.
**ця́жка на сэ́рцы, бáццэ сам сябé пахавáў.** *Слуцк. Спачув.* Пра невыносную тугу, сумоту, цяжар на сэрцы, душы. Сержпутоўскі 2000, 240.

***самавáр*** **блішчáць што мéдны самавáр.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нейчы добры выгляд, жартаўлівы настрой. Юрчанка, 206.
**разыйцíся як халóдны самавáр.** *Чач. Іран.* Пра чалавека раззлаванага, раздражнёнага. Янкоўскі, 81; Матэрыялы 1981, 143.
**пáра як з самавáра.** *Смарг., Лаг. Іран.* Пра абсалютна аднолькавых, калі адзін не лепшы за другога. Звычайна пра мужа і жонку. Даніловіч, 227; АВНЛ.

***санапрáдка*** **круцíцца як санапрáдка.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які надакучыў сваёй мітуснёй. Юрчанка, 196.

***сáні*** **Мужы́к як сáні, абы́ я самá былá як пáні.** *Астр., Вілен. Прык.* Пра пажаданасць, каб жонка была прыгожай, а мужыку гэта не абавязкова. СПЗБ 3, 80; Аксамітаў, 252; Sielicki, 150.
**трэ́ба як сáні па цалінé.** *Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Ройзензон, 81.
**як з саня́мі за стол.** *Смарг.* Пра нешта зробленае не да месца, недарэчна. Санько, 209. Сцяшковіч, 615.

***сапры́наўскі*** жыць як стáрцы сапры́наўскія. Гл. старац.

***саракóўка*** хацéць як стáрац саракóўкі. Гл. старац.

***саранчá*** **éсці бы саранчá.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чыйсьці празмерны апетыт, неперабарлівасць у ежы. Сержпутоўскі 2000, 243.
**наляцéць як саранчы́.** Пра мноства дзяцей, гасцей, птушак і г. д. Янк., 416.

***сарвáцца*** бáццэ з пры́вязі сарвáўся. Гл. прывязь.
вéцер як з чапы́ сарвáўся. Гл. чапа.
як з цэ́па (ланцугá, пры́вязі) сарвáўся. Гл. цэп.

як з шы́беніцы сарва́ўся. Гл. шыбеніца.
бе́гаць як з ланцуга́ сарва́ўшыся. Гл. ланцуг.
насі́цца як саба́ка, сарва́ўшыся з ланцуга́/з пры́вязі. Гл. сабака.

***са́рна*** **бе́гчы (скака́ць) як са́рна.** *Ухв.* Пра лёгкі, прыгожы бег кагосьці. Янк., 413.

***саро́ка*** **белабо́кі як саро́ка.** Пра рабога каня ці іншую жывёліну. Янк., Пар., 16.
**вы́скачыць як саро́ка на ве́рбе.** *Гродз. п. Жарт.* Пра нечаканае з'яўленне кагосьці. Federowski, 345.
**жыць як саро́ка на калу́.** *Мін. Няўхв.* Пра неўладкаванае жыццё часовы прытулак дзе-н. Высл., 320.
**застраката́ць як саро́ка на дождж.** *Мін. Няўхв.* Пра гучную, гарачую жаночую гаворку, балбатню. ЛЦ, 65.
**затрашча́ць/трашча́ць як саро́ка.** *Стаўб.*, *Мядз. Няўхв.* СЦБ, 155; ФА. Тое, што застракатаць як сарока на дождж.
**лахандзе́ць як саро́ка.** *Ваўк.* СРЛГ, 66. < Лахандзець – шмат гаварыць. Тое, што застракатаць як сарока на дождж.
**скергета́ць ек соро́ка.** *Жытк. Няўхв.* Пра нейчы адрывісты рэзкі смех. ТС 5, 41.
**стая́ць як саро́ка на калу́.** *Рэч. Няўхв.* Пра нейчае няпэўнае становішча. ЛЦ, 123.
**сядзе́ць як саро́ка на калу́.** *В.-Дзв. Няўхв.* СПЗБ 4, 369. Тое ж.
**тырча́ць (сядзе́ць, круці́цца) як саро́ка (варо́на) на па́лцы (калу).** *Уздз.*, *Слон.*, *Смарг.*, *Гом. Няўхв.* Высл., 402; ФА. Тое ж.
**угле́дзецца як саро́ка на ко́стку.** *Валож.* Пра нейчы пільны цікаўны погляд. Высл., 403.
**ха́та як саро́ка бяз хваста́: бяз хляво́ў, бязь сяне́й.** *Ушацк. Жарт.* Пра незакончаны будынак, сялібу. Барадулін, 120.
**хі́трая як саро́ка.** *Віл.* Пра хітрую жанчыну, якая ўсё ўгледзіць. СПЗБ 5, 305.
**шны́раць як саро́ка на падво́рку.** *Карэл. Няўхв.* Пра цікаўнага, дападлівага чалавека. Сцяшковіч, 619.
**шчабята́ць як саро́ка.** *Івац.* Шпилевский, 187; Киркор, 239; Federowski, 192; 297; ЗЗайкі. Тое, што застракатаць як сарока на дождж.
**як саро́ка на хвасце́.** *Ваўк.*, *Воран.* Пра вельмі хуткае распаўсюджванне плётак, чутак, навінаў. Даніловіч, 246.
**жанкі́ як саро́кі.** *Слон. Жарт.* Пра шчабятлівых жанчын. Высл., 318.
**зляце́цца як саро́кі.** *Жарт.* Пра жанчын, што сабраліся гуртам. Янк., Пар., 75.
**у ро́це як саро́кі начава́лі.** *Слон.* Пра благое адчуванне ў роце пры хваробе, пахмеллі. Высл., 402.

***саро́мецца*** гарэ́лка не дзе́ўка, не саро́меючыся п'е́цца. Гл. дзеўка.

***саро́чка*** *што* як у бе́днага саро́чка. Гл. бедны.
**прапа́сці як но́вая саро́чка з пло́ту.** *Ваўк. Жарт.* Пра бясследнае знікненне чаго-н. Даніловіч, 237.

даку́чыць як вош у саро́чцы. Гл. вош.

**адна́ дыты́на шчо адна́ соро́чка.** *Кобр.* Пра пажаданасць мець у сям'і дваіх і больш дзетак. ЗБоганевай.

***саро́ччы***

галава́ як саро́чча гняздо́. Гл. гняздо.

**дяво́чча як саро́чча.** *Смал. п. Жарт.* Пра ненадзейнасць чагосьці дзявочага. Добровольский III, 64.

дом як саро́чча гняздо́. Гл. гняздо.

як саро́чча гняздо́. Гл. гняздо.

***сарэ́на***

**раўсці́ як сарэ́на гарадска́я.** *Астр. Няўхв.* Пра нейчы моцны крык. ФА.

***сасва́таны***

**стая́ць як сасва́таны.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека нерухомага, у задуменні, заклапочанага. ЛЦ, 35.

***сасна́***

**вы́расці як со́сна.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра высокага стройнага чалавека. Federowski, 344.

**грымну́ць як со́сна аб зе́млю.** *Ваўк. п.* Пра чыёсьці моцнае рэзкае падзенне. Federowski, 119; Янк., 403.

**паляце́ць як со́сна.** *Трак.* СПЗБ 3, 373. Тое, што грымнуць як сосна аб землю.

**вялі́кі як со́сна.** *Ваўк. п. Ухв.* Federowski, 329. Тое, што вырасці як сосна.

**ла́зіць як бе́лка па со́снах.** Гл. белка.

***сасо́нка***

жыць на чужо́й старо́нцы, як на скале́ адзіно́кай сасо́нцы. Гл. скала.

***сатана́***

**прыйсці́ ек сатана́.** *Жытк. Няўхв.* Пра прыход злоснага, агрэсіўнага чалавека. ТС 3, 176.

**чапля́цца як сатана́.** *Мсцісл. Асудж.* Пра кагосьці, хто нахабна прыстае, чапляецца да іншых. Юрчанка, 196.

***сатаннё***

**чапля́цца як сатаннё.** *Мсцісл. Асудж.* Юрчанка, 196. Тое, што чапляцца як сатана.

***Са́ўка***

**круты́тыся бы Са́вка на я́йцых.** *Бяроз. Жарт.* Пра непаседлівага чалавека. АВНЛ. < Алюзія да паводзін літаратурнага героя.

**бе́гаць як збянтэ́жаны Са́ўка.** *Гом.* Пра бегатню ўстрывожанага, прыгнечанага чалавека. АВНЛ.

**дра́цца як Са́ўка ў асе́ць (падасе́цце).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які некуды недарэчна лезе. Юрчанка, 201.

**зарабі́ць як Са́ўка на барсуку́.** *Мін. Іран.* Пра адсутнасць заробку наогул. ЛЦ, 37.

**сябрава́ць як Са́ўка з Хо́ўрай (Мала́нкай).** *Мсцісл. Жарт.* Пра нейчае моцнае сяброўства. Юрчанка, 196.

**як збянтэ́жаны Са́ўка.** *Воран.*, *Шчуч.*, *Слон.*, *Жытк.* Пра разгубленага, прыгнечанага, устрывожанага чалавека. Даніловіч, 225; ТС 3, 247.

***саха́***

даве́сці што Флёрка саху́. Гл. Флёрка.

***сахары́***

**кіпці як сахары́.** Пра доўгія вострыя кіпці каго-н. Янк., 411. < Сахор – вілы для гною.

***сачы́нка***

**во́чы як сачы́нкаю прарэ́заны.** *Мсцісл.* Пра вузкія вочы. Юрчанка, 196.

***сва́дзьба*** **скрэ́бсці галаву́ як перад сва́дзьбаю.** *Мсцісл. Кплів.* Пра нейчы роздум перад сур'ёзнай справай. Юрчанка 1977, 217.

**нарадзі́цца як к сва́дзьбе ло́шадзь.** *Нясв. Кплів.* Пра чалавека, прыбранага як на свята. ФА.

***сват*** **го́нару як у бага́тага сва́та.** *Насмешл.* Пра вельмі ганарлівага чалавека. Янк., Пар. 43.

***сва́ты*** прыбра́цца як кот у сва́ты. Гл. кот.

***сва́ха*** **як сва́ха пераéзная.** *Рэч. Насмешл.* Пра чалавека, які пастаянна мяняе месца прыстанішча. ЛЦ, 32.

***сва́цця*** Шча́сце як тра́сца, перахо́дная сва́цця. Гл. трасца.

***сватя́к*** Сыр не заку́ска, кум не сватя́к. Гл. закуска.

**сядзéць як бéдны сватя́к.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, які ціха і сціпла сябе трымае. ЛЦ, 45.

***свекру́ха**, гл.* ***свякруха***

***свёкар*** **загрымéць як свёкар [якéй].** *Мсцісл.* Пра чалавека, што накінуўся на каго-н. з лаянкай, крыкам. Юрчанка 1977, 158.

**зьбіра́цца як сьвёкар пялёнкі паласка́ць.** *Ушацк. Здзекл.* Пра неахвотнае, павольнае збіранне нешта рабіць. Барадулін, 98.

**ла́дзіцца ўсё ро́ўна як сьвёкыр пялёнкі мыць.** *Насмешл.* Романов 1901, 68. Тое ж.

**як свёкар бурклі́вы пу́рхаць.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які незадаволена бурчыць. Юрчанка 1969, 52. < Пурхаць – вельмі злосна, адрывіста бурчаць.

**хо́чацца як свёкру пялёнкі мыць.** *Іран. Насмешл.* Пра адсутнасць жадання што-н. рабіць. Янк., 417.

***свéнты*** бая́цца як свéнты Міхал д'я́бла. Гл. Міхал.

***свéрдзел*** **лéзці як свéрдзел.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які настырна некуды імкнецца. Юрчанка, 197.

**круці́ць [па касця́х] як свéрдлам.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра рэжучы боль у касцях. Federowski, 150.

***свет*** **вялі́кі як свет.** Пра нешта вялікае, бясконцае. Янк., Пар., 32.

**пайсці́ як свет вéлькі.** *Маст.* Пра адпраўленне далёка і невядома куды. Даніловіч, 246.

**правалі́цца як на той свет.** *Карэл.* Пра бясследнае знікненне некага. Высл., 367.

**рад як на свет нарадзі́ўся.** Пра шчырую радасць каго-н. Янк., Пар., 136.

**стара́я як свет.** *Ваўк. п.*, *Пруж.* Пра вядомую казку, ісціну, сітуацыю. Federowski, 291; ФА.

**як другі́ раз на свет нарадзі́ўся.** *Рэч. Ухв.* Пра чалавека, які паздаравеў, адпачыў, паправіўся. Pietkiewicz, 389.

**як на́нава на свет нарадзі́ўся.** *Мсцісл.*, *Лях. Ухв.* Юрчанка 1977, 216. Тое ж.

**як свет вéлькі.** 1. *Шчуч.* Пра нешта ў найвышэйшай ступені праяўлення. 2. *Навагр.* Пра нешта вельмі моцнае ў сваім праяўленні, незвычайнае. Даніловіч, 246.

**бле́дны як з таго́ све́ту ўста́ў.** *Няўхв. Спачув.* Пра чалавека, які мае вельмі хваравіты выгляд. Ройзензон, 68.
матыля́цца як му́хі ля све́ту. Гл. муха.
**на сэ́рцы як са све́ту схо́дзячы.** *Спачув.* Пра чалавека, у якога туга, маркота на душы. Янк., 416.
**ра́дзенькі як з таго све́ту вярну́ўся.** Пра шчырую радасць некага. Янк., Пар., 137.
як здань з таго́ све́ту. Гл. здань.
**як з таго́ све́ту.** *Калінк. Спачув.* СПЗБ 5, 103. Тое, што бледны як з таго свету ўстаў.
**як з таго́ све́ту вярну́ўся.** *Івац.* ЗЗайкі. Тое ж.
**як з таго́ све́ту ўстаў.** *Ваўк. п. Спачув.* Federowski, 322. Тое ж.
**як не з гэ́тага све́ту.** *Спачув.* Санько, 211. Тое ж.
**хадзі́ць як бе́лый сьвет пыціря́ўшы.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра разгубленага, забедаванага, паніклага чалавека. Юрчанка 1993, 177.
рассы́пацца як ру́дыя мы́шы па све́це. Гл. мыш.
**(і́сці, е́хаць) як з-за сві́ту.** *Жабін.* Пра надта доўгае чаканне кагосьці, хто марудна ідзе або едзе. Ганчук, Касцючык, 85.

***све́тач*** **вы́мазацца як све́тач.** *Валож. Няўхв.* Пра чалавека бруднага, закопчанага, мурзатага. СПЗБ 4, 389. < Светач – лучнік.

***све́чачка*** **гарэ́ць як све́чачкі.** *Памянш.-ласк. Краснап. Ухв.* Пра нейчы яскравы прыемны бляск. Бялькевіч, 213.

***све́чка*** **дагара́ць (згаса́ць) як све́чка.** *Ваўк. п.*, *Слон. Спачув.* Пра ціхае згасанне хворага. Federowski, 353, 307; Высл., 310; Янк., 409; НН 1911, 42.
**жо́ўты як све́чка пе́рад Вялі́каднем.** *Няўхв.* Пра чалавека, скура якога пры хваробе набыла жоўтае адценне. Янкоўскі 1971, 110.
**пажы́ць як све́чка.** Пра нечае кароткае жыццё. Янк., Пар., 122.
**полом’е пошло роўненько як све́чка.** *Жытк.* Пра спакойнае гарэнне, ціхае полымя. ТС 4, 149.
**про́сты як све́чка.** *Ваўк. п.* Пра нешта простае, без хітрасцей, усім добра вядомае. Federowski, 247.
**стая́ць як све́чка.** *Мсцісл.* Пра некага, нешта, што нерухома стаяць. Юрчанка, 197, МК, 37; Бялькевіч, 116.
**у воўко́ў о́чы ек све́чкі.** *Жытк.* Пра вочы ваўка, што ўначы здалёк бачныя як аганькі свечак. ТС 5, 19.

***свіна́рнік*** **як у свіна́рніку** *дзе. Мсцісл. Асудж.* 1. Пра бруд і непарадак у хаце. 2. Пра моцны шум і крык у хаце. Юрчанка, 201.

***свіне́чнік*** **бру́дна як у свіне́чніку.** *Шчуч.*, *Гродз.*, *Маст.*, *Смарг. Асудж.* Пра памяшканне, якое вельмі забруджана. Сцяшковіч, 620.
**смуро́д як у свіне́чніку.** *Няўхв.* Пра непрыемны пах дзе-н., смурод. Высл., 386.

***сві́нка*** **вішча́ць ек сві́нка ў пло́це.** *Жытк. Няўхв.* Пра нечый візглівы крык. ТС 1, 129.
**Учыў Мацю́сь Марці́нка, а сам глупэ́й як сві́нка.** *Маладз. Прык. Жарт.* Пра тое, што невучоны вучыў іншага невука. ФА.

***свінны́*** як з свінно́га гнязда́. Гл. гняздо.
як свінно́е гнядо́. Гл. гняздо.
як у свінны́м гняздзе́. Гл. гняздо.
згóрбіца (сагну́цца) як свінны́ та́тко. Гл. татко.
змо́ршчыцца як свінны́ та́та. Гл. тата.
гра́зны як свіна́я ра́жка. Гл. ражка.
згарну́цца як свіны́ та́то. Гл. тата.
бе́лае як свіно́е це́ла. Гл. цела.
посыні́в як свыня́чый та́то. Гл. тата.

***свіння́*** **патрэ́бны як сьвіне́ ку́льбачка.** *Шчуч.*, *Навагр. Іран.* Даніловіч, 247. Тое, што нада як свінне рубанак. < Кульбачка – падсядзёлак.

**у пасце́лі так як сем свіне́й апарасі́лася.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра непрыбранасць, скамечанасць пасцелі. Federowski, 224.

цяга́цца як барана́ за свінне́ю. Гл. барана.

гавары́ць як гусь з свіннёю (з парэсе́м). Гл. гусь.

**во́чы як у свінні.** *Няўхв.* Пра нечыя непрыгожыя вочы. Янк., Пар., 28.

**вялі́кія ву́шы як у свінні.** *Сміл. Няўхв.* Пра нечыя вялікія вушы. Шатэрнік, 50.

**го́нару што ў свінні блох.** *Мядз. Насмешл.* Пра чалавека, які беспадстаўна ганарыцца, задаецца. Высл., 307.

**гро́шы пло́дныя бы сві́нні.** *Слуцк.* Пра здатнасць грошай быць зробленымі ізноў. Сержпутоўскі 1999, 42.

**дабра́** *з каго* **як ад свінні пу́ху.** *Лельч. Іран.* Пра тое, што ад кагосьці нельга чакаць дабра, не можа быць там дабра. Высл., 310.

**жыць як на свінні прае́хаць.** *Гом.*, *Івац. Леп.* З горыччу, расчаравальна. Пра нецікавае, невясёлае, цяжкае жыццё. АВНЛ; Гілевіч, 166; ЗЗайкі.

*з каго* **рабо́тнік як з свінні музыка́нт.** *Брасл. Іран.* Пра неадпаведнасць кагосьці пэўнай пасадзе, рабоце. Рабкевіч, 74.

**ісці (пасава́ць, падыхо́дзіць, прыста́ць) як свінні набэ́дрыкі (сядло́, паўшо́ры, падсядзёлак).** *Ваўк. п.*, *Слон.*, *Гом.*, *Валож.*, *Мсцісл. Іран.* Пра нешта, што зусім не падыходзіць, не пасуе, не адпавядае. Federowski, 251; Сержпутоўскі 1999, 56; Янк., 411; Высл., 332; Юрчанка 1977, 288; Скарбы, 179. < Набэдрыкі – частка збруі: шляі, якія ідуць ад хамута па баках каня і злучаюцца папярэчнымі шляямі.

**ісці як свінні па́церкі.** *Слон. Іран.* Высл., 332. Тое ж.

**йсці як свінне под попо́нкою.** *Стол. Няўхв. Насмешл.* Пра нешта непрыгожае. ТС 4, 173.

**ка́рак як у свінні.** *Краснап.*, *Сен. Ухв.* Пра сытага чалавека. Бялькевіч, 400; Каспяровіч, 154.

**клыкі як у свінні.** *Карэл. Няўхв.* Пра нечые непрыгожыя зубы. Высл., 335.

**на́да** *каму што* **як свінне́ руба́нак.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта непатрэбнае каму-н. Юрчанка, 197.

**накі́нуцца бы сві́нні на мякі́ну.** *Слуцк. Няўхв.* Пра нейчае прагнае, непрывабнае накідванне на нешта. Сержпутоўскі 2000, 165.
**насадились як сви́ньни ко́рмныя.** *Смал. п. Няўхв.* Пра людзей, што залішне наеліся. Добр., Смол., 460. < Насадзіцца – залішне наесціся.
**пава́га** *каму* **як свінні́ ў кары́це.** *Мін. Іран.* Пра поўную адсутнасць павагі. ЛЦ, 63.
**падыхо́дзіць** *каму што* **як свінні́ парасон.** *Астр. Іран.* Пра тое, што зусім не падыходзіць каму-н. Даніловіч, 247.
**пасава́ць** *каму* **як свінне́ ро́гі.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта, што зусім не падыходзіць. Юрчанка 1977, 242.
**патрэ́бен як свінні́ падко́ва.** *Ваўк. Іран.* ЛЦ, 118. Тое, што нада як свінне рубанак.
**патрэ́бен як свінні́ хаму́т.** *Касц. Іран.* ЛЦ, 118. Тое ж.
**пло́дны бы сві́нні.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чыюсьці шматдзетнасць. Сержпутоўскі 1999, 143.
**пражы́ць як на <рабо́й> свінні́ праехаць (пераехаў).** *Воран., Гродз., Маст.* З горыччу. Пра сваё няўдалае, нялёгкае жыццё. Даніловіч, 237.
**прыста́ло як да свінні́ ку́льбачка.** *Дзятл. Насмешл.* Пра нешта зусім неадпаведнае, непадыходзячае. Сцяшковіч, 614.
**разгуля́цца як сві́нні на до́жджык.** *Мін. Няўхв.* Пра тых, што разышліся, раздурэліся, засваволілі. ЛЦ, 120.
**трэ́ба (патрэ́бны) як свінні́ завушні́цы.** *Іран.* Пра поўную непатрэбнасць нечага. Янк., 434.
**Удало́ся як свінні́ ў гаро́се.** *Прык. Докш.* Пра нейкую няўдачу. Высл., 403.
**як з свінні́ гармані́ст.** *Мсцісл. Іран.* Пра дрэннага, ніякага спецыяліста. Юрчанка, 185.
**як з свінні́ няве́ста (ухажо́рка).** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, не адпаведнага нейкай ролі. Юрчанка, 173.
**як на свінні́ сядло́.** *Чэрык., Касц., Хоц., Брэсц. Насмешл.* Пра неадпаведнасць нейкага ўбору, адзення. ЛЦ, 76.
як хаму́т на свінні́. Гл. хамут.
**бру́дны як свінню́ ssа́ўшы.** *Астр. Насмешл.* Пра кагосьці вельмі бруднага, запэцканага з твару. Даніловіч, 247; ЛЦ, 72.
**мурза́ты бы́ццам свінню́ ссаў.** *Насмешл.* ЛЦ, 72. Тое ж.
**аб'е́сціся (нае́сціся) як свіння́.** *Ваўк. п., Карэл. Асудж.* Пра чалавека, які многа еў, задужа наеўся. Federowski, 2; Высл., 279.
**абке́шкацца (вы́качацца) як свіння́ [у гразі].** *Езяр. Няўхв.* Пра чалавека, які неакуратна працаваў, забрудзіўся. Каспяровіч, 3; Янк., Пар., 29. < Абкешкацца – вельмі запэцкацца.
**адна́ на све́ця век пражыла́, як свіня́ па гнаю́ хвост працягну́ла.** *Астр. Няўхв.* Пра сумна, нецікава пражытае жыццё (у самотнасці). СПЗБ 4, 78.
асма́лены бы пе́рад Каля́дамі свіння́. Гл. Каляды.

**Ба́ба п’яна́я як свіння́ худа́я.** *Ашм. Прык. Асудж.* Пра п’яную кабету. Сцяшковіч, 624.
**ба́сам – як свіння́ ча́сам.** *Капыл. Жарт.* Пра нейчы спеў непаважна, непрыгожа. Рабкевіч, 23.
**бе́гаць бу надво́рна свінья́.** *Жытк. Асудж.* Пра чалавека, які мітусіцца ў пошуках спажывы, выгоды. ТС 3, 122. < Надворны – які гадуецца не ў хляве (пра свіней).
**біць як свіння́ гарбу́з.** *Старадар.* Пра моцнае ўпартае біццё кагосьці. ФА.
**бру́дны як сьвіньня́.** *Чэрык., Дзятл. Асудж.* Пра бруднага чалавека. Бялькевіч, 135; СРЛГ, 6; Янк., Пар., 19.
**варо́чацца як свіння́.** *Івац. Няўхв.* Пра павольнага, няўклюднага чалавека. ЗЗайкі.
**варо́чаць як свіння́ ў кары́це.** *Лаг. Няўхв.* Пра чалавека, які капаецца ў місцы з ежай, неахвотна есць, вышуквае смачныя кавалкі. АВНЛ.
**вішча́ць як свіння́ ў пло́це.** *Люб., Воран. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна прарэзліва крычыць. ФА; СПЗБ 5, 210.
**вішча́ць як свіння́ ў пра́сле.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 197. Тое ж.
**ву́каліцца як свіння́.** *Лельч. Няўхв.* Пра чалавека, які неакуратна трымае сябе, забрудзіўся. Кучук, Малюк, 22. < Вукаліцца – запэцкацца.
**вы́квацацца як свіння́.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.
**гаспада́рыць як свіння́ ў гаро́дзе.** *Навагр. п., Докш. Асудж.* Пра чалавека, які дрэнна гаспадарыць. Federowski, 106; Дуб., 8; АВНЛ.
**гла́дкі як свіння́.** *Лельч.* Пра сытага чалавека. Кучук, Малюк, 25.
**гуля́ць як свіння́ на вяро́ўцы (пры́вязі).** *Капыл. Іран.* Пра кепскае гулянне або яго адсутнасць. Высл., 309; Янк., Пар., 46.
**дабра́цца (дапа́сці, дарва́цца) як свіння́ да бра́гі.** *Ваўк. п., Слон. Асудж.* Пра чалавека, які прагна да нечага дабраўся. Federowski, 76; Высл., 310.
**дапамагчы́ як свіння́ (каба́н, вапе́р) на вясе́ллі.** *Мсцісл. Іран.* Пра адсутнасць дапамогі наогул. Юрчанка, 174.
**дарва́цца бы свіння́ да це́ста.** *Слуцк. Асудж.* Пра чалавека, які да нечага прагна дапаў. Сержпутоўскі 1999, 133.
**Ду́жы як свіння́ ў лу́жы.** *Слон. Прык. Іран. Здзекл.* Пра сумніўную дужасць кагосьці. Высл., 316; Арх. Гр.
**дурны́ як свіння́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра не вельмі разумнага чалавека. Federowski, 86. < Несправядлівае параўнанне, свіння зусім не дурная жывёла.
**дурны́ як сто свінне́й.** *Смаляв. Няўхв.* ФА. Тое ж.
**Ек прышо́ў Ілья́, то чолове́к ек свіньсcя́.** *Стол. Прык.* На Іллю чалавек ужо можа паесці на агародзе. ТС 5, 21.
**жраць як свіння́.** *Івац. Абразл.* Пра чалавека, які шмат і неахайна есць. Dybowski, 21; ЗЗайкі.
**жыць як свіння́.** *Ваўк. п. Абразл.* Пра чалавека, які блага жыў, рабіў брыдкія ўчынкі. Federowski, 368.

**задава́цца як свіння́ на вяро́ўцы.** *Пруж. Насмешл.* Пра чалавека, якому няма чым ганарыцца. ФА.
**задава́цца як свіння́ ў кары́це.** *Маз. Насмешл.* Высл., 322. Тое, што задавацца як свіння на вяроўцы.
**задра́ць нос як свіння́ лыч.** *Люб. Згасл.* Пра чалавека, які неапраўдана заганарыўся. АВНЛ.
**заквэ́цаць як свіння́.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які забрудзіў нешта. Высл., 323. < Заквэцаць – забрудзіць.
**занадзіцца** *куды* **як свіння́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра частае нетактоўнае наведванне кагосьці. Federowski, 349.
**запэ́цкаць** *што* **як свіння́ гарбу́з.** *Бераст. Няўхв.* Пра вельмі моцна, да непазнавальнасці нешта запэцканае, часцей пра адзенне. Даніловіч, 247.
**зароби́тыся як свыння́ в Спа́совку.** *Кобр. Насмешл.* Пра моцна стомленага чалавека. ЖНС, 119.
**згра́бны як [худа́я] свіння́ ў дождж.** *Іран. Насмешл.* Пра некага зусім нязграбнага, непрывабнага. Янк., 405.
**згра́бны як свіння́ да алтара́.** *Ваўк. п. Іран.* Пра некага зусім неадпаведнага. Federowski, 353.
здаро́ва як каро́ва, бага́та як зямля́, пладаві́та як свіння́. Гл. карова.
**зна́цца як свіння́ на пастах.** *Іран.* Пра адсутнасць ведаў у каго-н. Янк., 410.
**зна́цца як свіння́ на пе́рцу.** *Іран.* Аксамітаў, 212; Матэрыялы 1981, 115. Тое ж.
**зна́цца як свіння́ на саладзі́нах.** *Іран.* Санько, 136. Тое ж.
**кача́ць як свіння́ гарбу́з.** *Саліг.*, *Хойн. Няўхв.* Пра нейкія настойлівыя безвыніковыя дзеянні. ФА.
**красі́ва як свіння́ сі́ва.** *Рэч.*, *Чэрык. Іран.* Пра некага зусім не прыгожага. ЛЦ, 71.
**красі́вая як свіння́ ў дождж.** *Хойн.* ФА. Тое ж.
**крыча́ць (пішчы́ць) як свіння́ ў дождж.** *Ваўк. п.*, *Асіп. Няўхв.* Пра нечыю гаворку, пранізлівы непрыемны спеў. Federowski, 154; Высл., 338.
**крыча́ць як свіння́ недарэ́заная.** *Асіп. Няўхв.* Пра нейчы рэзкі пранізлівы крык. АВНЛ.
**крыча́ць як свіння́, увя́зшы ў плот.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 154. Тое ж.
**курно́сая як заво́дная свіння́.** *Сен. Жарт.* Пра курносую, не вельмі прыгожую жанчыну. Каспяровіч, 173. < Заводная – пародзістая, пакінутая для заводу.
**любі́ць** *што* **як свіння́ гарбу́з.** *Рэч. Насмешл.* Пра нечыю палкую любоў. Pietkiewicz, 376.
**любі́ць** *што* **як свіння́ се́на.** *Слуцк. Іран.* Пра абыякавае стаўленне да пэўнай ежы. Высл., 342.
**ляжа́ць (валя́цца) як свіння́.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра гультая, што марнуе час без працы. Federowski, 1961; Янк., Пар., 25.

**набо́жна як свіння́ падаро́жна.** *Гродз. Іран.* Пра зусім ненабожную, нецнатлівую жанчыну. Цыхун, 187; Высл., 348.
**набра́цца бы свіньля́.** *Сміл., Стол. Асудж.* Пра моцна п'янага. Шатэрнік, 163; ТС 3, 36.
**набра́цца як свіння́ мы́ла.** *Слон., Крыч. Асудж.* Federowski, 194; Высл., 349; Даніловіч 2010, 91. Тое ж.
**набра́цца гарэ́лкі як свіньля́ му́ла.** *Жытк. Асудж.* ТС 3, 110. Тое ж.
**набра́цца як свіння́ бра́гі.** *Нясв., Жытк. Асудж.* ФА; Янк., Пар., 108; ТС 3, 110. Тое ж.
**набра́цца як свіння́ гра́зі.** *Мядз., Капыл., Маладз., Касц., Мін. Асудж.* ФА; Санько, 155; ЛЦ, 97; Гілевіч, 57. Тое ж.
**нае́сціся як свіння́ рэ́пы.** *Рэч., Мін., Чэрык. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта наеўся. ЛЦ, 93.
**нае́сціся як свіння́ гра́зі.** *Чэрв. Няўхв.* Пра чалавека, што перабраў з ежай, піццём. ФА.
**напі́цца як сьвіня́.** *Астр. Асудж.* Пра моцна п'янага чалавека. СРЛГ, 13.
**нарабі́ць як свіння́ ў гаро́дзе.** *Няўхв.* Пра чалавека, які нарабіў пустак. Ройзензон, 74.
**насса́цца як свіння́.** *Слон. п. Асудж.* Federowski, 288. Тое, што напіцца як свіння.
**нос задра́ць як свіння́ лыч.** *Клецк. Зласл. Насмешл.* Пра чалавека, які неапраўдана заганарыўся. Высл., 355.
**пабрата́цца як свіння́ з сядло́м.** *Гродз. п. Іран.* Зусім не пабратацца, не здружыцца. Federowski, 207.
**пагаво́рна як свіння́ дво́рна.** *Ваўк. Асудж.* Пра залішне гаваркую жанчыну. Даніловіч, 247.
**пагуля́ць як свіння́ на вяро́ўцы.** 1. *Гродз., Смарг. Іран.* Пра кагосьці, хто кепска або зусім не пагуляў, не павесяліўся. 2. *Іўеў. Асудж.* Пра чалавека, што не ў меру, залішне разгуляўся, раздурэўся. Даніловіч, 248.
**падо́бны як свіння́ да ле́бедзя.** *Насмешл. Іран.* Пра зусім непадобных. Янк., 418.
**пазна́цца як свіння́ на мы́длі.** *Насмешл.* Пра чалавека, які зусім не мае досведу. Ляцкий, 32.
**пазна́цца як свіння́ на пе́рцы.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 358; Dybowski, 16. Тое, што пазнацца як свіння на мы'длі.
**перабіра́ць як свіння́ лы́чам.** *Докш. Няўхв.* Пра пераборлівага ў ежы чалавека. Высл., 365.
**пе́рціся як свіння́ пад чалаве́ка.** *Рэч. Няўхв.* Пра чалавека, які ўпарта некуды імкнецца. Pietkiewicz, 386.
**пішча́ць як свіння́ ў пло́це.** *Гродз., Свісл., Бераст., Воран., Слон., Навагр., Ашм., Дзятл. Няўхв.* Пра піскрявы голас, рэзкі непрыемны спеў і інш. Даніловіч, 248; ФА.
**пішча́ць як сьвіньня́ ў пярэ́плаце.** *Ушацк. Няўхв.* Барадулін, 96. Тое ж.

**пля́мкаць бу свінья́.** *Стол. Асудж.* Пра чалавека, які есць чвякаючы. ТС 4, 65. < Плямкаць – чвякаць.
**Пражы́ць жызь як на свіні́ пераéхаць.** *Гом. Прык. Няўхв.* Пра нецікавую, цяжкую жыццёвую дарогу. АВНЛ.; Арх. Гр.
**прывы́кнуць як свіння́ да гра́зі.** *Кругл. Няўхв.* Пра прывыканне чалавека да чагосьці непрыемнага, бруднага. Высл., 370.
**прыго́жы як свіння́ ў дождж.** *Мін., Хойн. Насмешл.* Пра кагосьці непрыгожага. ЛЦ, 74; ФА.
**прынéсці ек свінья́ на ры́лі.** *Жытк.* Пра нешта атрыманае без намаганняў. ТС 4, 340.
**прыраўнава́лася як свіння́ да каня́, да шэ́рсць не така́я.** *Здзекл.* Пра кагосьці, хто неапраўдана раўнуе сябе да лепшага. Federowski, 251.
**пхаць як свіння́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра празмернае, непрыгожае, хуткае спажыванне ежы. Federowski, 226.
**разбіра́цца што свіння́ ў апельсі́нах.** *Дзятл., Касц., Нясв. Іран.* Пра чалавека, які ў нечым зусім не разбіраецца. ФА; ЛЦ, 40.
**разбіра́цца як свіння́ на бязмéне.** *Брасл. Іран.* Рабкевіч, 177. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў асеўках.** *Астр. Іран.* ФА. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў калба́сных абрэ́зках.** *Шчуч. Іран.* ФА. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў капу́сце.** *Маст. Іран.* Даніловіч 2008, 137. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў паміда́рах.** *Смарг. Іран.* Даніловіч, 248. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў па́церах.** *Пруж. Іран.* ФА. Тое ж.
**разбіра́цца як свіння́ ў пяры́нах.** *Мсцісл. Іран.* Юрчанка 1977, 242. Тое ж.
**разгуля́цца як свіння́ на лёдзе.** *Докш. Іран.* Пра няўдалыя, нязграбныя гулі каго-н. Высл., 375.
**раздурэ́цца як свіння́ на дождж.** *Шчуч. Няўхв.* Звычайна пра свавольствы дзяцей. Сцяшковіч, 619.
**розьéсціса як свінья́ на мякі́ні.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які разбагацеў за кошт іншых. Барысюк, Буян, 24.
**разу́мны як папо́ва свіння́.** *Брэсц. Насмешл.* Пра нейчы невялікі розум. ЛЦ, 43.
**разыйсці́ся як свіння́ на дождж.** *Хойн. Насмешл.* Пра нейчые ўзбуджэнне, весялосць. АВНЛ.
**распрараджа́цца як свіння́ ў лебядзé.** *Мсцісл. Няўхв. Насмешл.* Пра чалавека, які бесцырымонна сябе недзе паводзіць. Юрчанка, 197.
**раўня́ як свіння́ да каня́.** *Іран.* Пра двух няроўных людзей. Санько, 179.
**спява́ць як свіння́ ану́чу дзярэ́.** *Зэльв. Іран.* Пра непрыемныя, немілагучныя спевы. Даніловіч, 247.
**уба́чыць** *што* **як свіння́ нéба.** *Карэл. Іран.* Пра цяжкасць нешта ўбачыць, зведаць. Высл., 403; Санько, 189.

**убра́цца як свіння́ ў рэ́пу.** *Лаг. Насмешл.* Пра чалавека, які дапаў да нечага прыемнага, нашкодзіў. Varłyha, 139.
**уля́пацць сваё як свіння́ ў агаро́д.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які звык нязваны хадзіць у госці, да суседзяў. Сержпутоўскі 1999, 122.
**уна́дзіцца як свіння́ ў агаро́д.** *Івац., Капыл. Няўхв.* Пра чалавека, які прывык нязваны хадзіць у госці, да суседзяў. Высл., 405; Pietkiewicz, 397; Янк., Пар., 174; ЗЗайкі.
**уна́дзіцца як свіння́ ў бу́льбу.** *Воран. Няўхв.* СПЗБ 5, 210; Янк., Пар., 175. Тое ж.
**уна́дзіцца як свіння́ ў мо́ркву.** *Ваўк., Гродз. п. Няўхв.* Federowski, 320. Тое ж.
**усхадзі́цца як свіння́ на дождж.** *Насмешл.* Пра нечыю ўзбуджанасць, раздражнёнасць, актыўнасць. Санько, 193.
**ушчамі́цца як свіння́ ў плот.** *Смарг. Няўхв.* Пра кагосьці, хто ўмяшаўся ў чужыя размовы. ФА.
**хадзі́ць як свіння́ ву́шы апусці́ўшы.** *Навагр. Няўхв.* Пра чалавека маркотнага, прыгнечанага, бяссільнага. Даніловіч, 247.
**харо́ш як свіньня́ ў дождж.** *Ушацк., Слуцк. Насмешл.* Пра не вельмі прыемны выгляд кагосьці. Барадулін, 104; Гілевіч, 166.
**хламаць бі свіня́.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які есць чвякаючы, прагна хапае ежу. ТС 5, 240.
**Хоць жо́нка як свіння́, абы зо́лата сяўня́.** *Прык. Жарт.* Пра сквапнага чалавека, што выбірае не сужонку, а пасаг. БВ, 120.
**цмо́каць бы свіння́ ў кары́це.** *Насмешл. Здзекл.* Пра нейчы пацалунак. Сержпутоўскі 1998, 274.
**чу́хацца як свіння́ аб ву́гал (плот, пад пло́там).** *Слуцк. Насмешл.* 1. Пра чалавека, які аб нешта цярэбіцца. 2. Пра чалавека, які нечым азадачаны, збянтэжаны. Сержпутоўскі 1999, 45; Ляцкий, 58.
**шко́дны як свіння́.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра кепскага чалавека. Federowski, 299.
**як блага́я свіння́.** *Вілен. Асудж.* Пра непрыемнага чалавека. Sielicki, 159.
**як свіння́ на вясе́ллі.** *Мсцісл. Іран.* Пра чалавека, які бесцырымонна недзе распараджаецца. Юрчанка, 174.
**як свіння́ з грабля́мі.** *Мсцісл. Іран.* Пра кагосьці, хто выглядае непрыглядна. Юрчанка, 197.
**як свіння́ на бязме́не.** *Слон. Іран.* Пра чалавека, які нічога не цяміць у справе. Сцяшковіч, 619.
**як свінны́ у до́ждж.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра бруднага, непрывабнага чалавека. Юрчанка, 197.
**як свіння́: дзе есь, там і сера.** *Саліг. Асудж. Вульг.* Пра вельмі нястрыманага чалавека, які паводзіць сябе неадпаведна сітуацыі. ФА.
**са́вгать ек свы́ны.** *Драг. Няўхв.* Пра прагнае, хуткае спажыванне ежы. Скарбы, 91. < Савгаты – хутка есці.

***свінтýх*** **набрáцца ек свінтýх.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які залішне напіўся, страціў прыстойны выгляд. ТС 5, 20.

***свінчó*** **абмарáцца як свінчó.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна забрудзіўся, упэцкаўся. Шатэрнік, 4.

***свірэ́па*** **усміхáцца як свірэ́па з пóсцілкі.** *Навагр. Насмешл.* Пра прыветную ўсмешку кагосьці ў невыгоднай сітуацыі. Сцяшковіч, 619.

***свíснуць*** **Год пражы́ць – не свíснуць.** *Прык.* Пра розныя цяжкасці, што здараюцца за год. Рапановіч, 162.

***свістáць*** такая прáўда як рак свíшча. Гл. рак.

***свістóк*** патрэ́бен як салаўю́ свістóк. Гл. салавей.

***свістóчак*** **турлы́каць як свістóчак.** *Памянш.-ласк. Ухв. Захапл.* Пра гамонку дзіцяці. Юрчанка, 197.

***свой***
глядзéць як [сваé] вóка. Гл. вока.
знаць як сваé пяць пáльцаў. Гл. пальцы.
пабáчыць як сваé вýшы. Гл. вушы.
шанавáць як сваé галавы́. Гл. галава.
як гáдзіна, што сваé дзéці пажрэ́. Гл. гадзіна.
<як> не ў сваé дýхі (не ў свой дух). Гл. дух.
убáчыць як сваё вýха (сваíх вушэ́й) без люстэ́рка. Гл. вуха.
бая́цца як стáры конь сваёй мáткі. Гл. конь.
дýмаць як аб сваёй душы́. Гл. душа.
éсці як не сваёю губóю. Гл. губа.
**глядзéць (пільнавáць) як сваíх.** *Слон.* Пра мачаху і яе нястродных дзяцей. Высл., 306.
любíць як сваю́ душý. Гл. душа.
углéдзець як сваю патылíцу. Гл. патыліца.
гавары́ць як не сваíм гóласам. Гл. голас.
як не сваíм рóтам. Гл. рот.
дзéлаюць [усё] як не сваíмі рукáмі. Гл. рука.
éсці як не сваíмі зубáмі. Гл. зуб.
ісцí як не сваíмі нагáмі. Гл. нага.
рабíць як не сваíмі рукáмі. Гл. рука.

***свякрóў*** **бурчáць як ліхáя свякрóў.** *Слон., Івац. Насмешл.* Пра жанчыну, якая залішне бурчыць, выказвае раздражненне. Высл., 289; ЗЗайкі.
**Хáта чужáя як свякрóў ліхáя.** *Івац. Прык.* У чужой хаце нельга адчуваць сябе свабодна, яна няўтульная, неласкавая. ЗЗайкі.

***свякрóўка*** **дудýкаць як ліхáя свякрóўка.** Янк., Пар., 56. < Дудукаць – тут: бурчаць. Тое, што бурчаць як ліхая свякроў.

***свякрýха*** **бурчáць як свекрýха.** *Лоеў. Насмешл.* Пра жанчыну, якая залішне бурчыць, выказвае раздражненне. Янкова, 59.
**Чужáя хáта такáя як свякрýха ліхáя.** *Жытк., Мін. Прык.* ТС 5, 301. Тое, што Хáта чужáя як свякрóў ліхáя.

***свянты́*** як у хварóбе свянтэ́го Левантэ́го. Гл. хвароба.

***свянцóны***
смяя́цца як свянцóнае парася́. Гл. парася.
бая́цца як чорт (д'я́бал) свянцóнай вады́. Гл. чорт.
уцякáць як чорт ад свянцóнай вады́. Гл. чорт.
насíцца як са свянцóным я́йкам. Гл. яйка.

***свярдзёлак*** **ле́зці як свярдзёлак у дуб.** *Мсцісл. Іран.* Пра нейкую справу, што цяжка вырашаецца. Юрчанка, 197.

***свярдло́*** **круці́ць [па касця́х] як све́рдлам.** *Ваўк. п.* Пра праявы хваробы (раматуз, застуда, боль у касцях). Federowski, 150.

***свярчо́к*** **ле́зці як свяршчо́к на аго́нь.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра небяспечнае і нястрыманае імкненне да нечага. Federowski, 163.

***свя́та*** **пле́сціся як у свя́та ста́рцы на пабіра́нне.** *Касц. Няўхв. Насмешл.* Пра павольную хаду, падобную на хаду ўбогіх старцаў. ЛЦ, 26.

**прыбра́цца як у свя́та.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нейчае добрае ўбранне. Бялькевіч, 84.

**Пуры́м не свя́та, тра́сца не хваро́ба.** *Прык. Жарт.* Пра павярхоўнае, несур’ёзнае стаўленне сялян да чужых святаў і ліхаманкі. Янкоўскі, 117.

***святлі́ца*** **у ха́це як у па́нскай святлі́цы.** *Маладз. Захапл.* Пра багата аздобленую прыбраную хату. Гілевіч, 108.

***святы́*** бага́ты як зямля́ свята́я. Гл. зямля.

усё прыма́ць як зямля́ свята́я. Гл. зямля.

чо́рны як свята́я зямля́. Гл. зямля.

адвярну́цца як Ю́да ад свято́й вячэ́ры. Гл. Юда.

**седе́ть як света́я.** *Лоеў.* Пра жанчыну, якая нерухома сядзіць, нічога не робіць. Янкова, 195.

**сядзе́ць як намалёвы све́ты.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які нерухома сядзіць, як выява на абразе. Сержпутоўскі 1999, 30.

**С го́лыга як са свято́га, нічо́га ни во́зьмиш.** *Смал. Прык.* Пра немагчымасць атрымаць штосьці з беднага. Добровольский III, 70.

набо́жны як свято́га Ю́р’я конь. Гл. Юр’я.

набо́жны як свято́га Ю́р’я конь: ён да касцёла, а ён да кабы́лы. Гл. Юр’я.

прычапі́цца як д’я́бал да свято́га Міха́ла. Гл. д’ябал.

така́я паце́ха як на свято́га Вайце́ха. Гл. Вайцех.

го́лы як святы́ турэ́цкі. Гл. турэцкі.

**скла́сці ру́кі як святы́.** *Івац. Раздраж.* Пра чалавека, які проста сядзіць, бяздзейнічае, калі ад яго чакаюць працы. Янк., Пар., 149; ЗЗайкі.

хадзі́ць як святы́ Ма́рка па пе́кле. Гл. Марка.

сядзе́ць ру́кі палажа́ як святэ́й Божа. Гл. Божа.

**сядзе́ць як святэ́й (святы́м) пад храсто́м.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, што ціха і бесклапотна сядзіць, нічога не робіць. Юрчанка, 174.

**хава́цца за чужэ́й хрыбе́т як святэ́й яке́й.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які стараецца ўхіліцца ад работы. Юрчанка 1977, 152.

**яві́цца** *да каго* **як святэ́й.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які прыйшоў у госці, а нічога не прынёс. Юрчанка, 197.

сядзе́ць як сьве́нта турэ́цка. Гл. турэцкі.

***свяці́ць*** лы́сы – як ме́сяц све́ціць на галаве́. Гл. месяц.

ма́чаха як ме́сячык: све́ціць ды не грэ́е. Гл. месячык.

***свячá*** **даўжэ́зны як каля́дная свячá.** *Пруж.* Пра нейкі доўгі прадмет. ФА.
красá без умá – што фанáр без свячы́. Гл. фанар.

***седакí*** зарабíць як на валáх седакóў вóзячы. Гл. вол.

***секанýць*** сказáць як крапівóй секанýў па гóлых лы́тках. Гл. крапіва.
сказáць як сякéраю секанýць. Гл. сякера.

***селядзéц***,
*гл. таксама* ***следзь*** валачы́ як кот селядцá. Гл. кот.
трэ́ба як сóлі да селядцá. Гл. соль.
кéшкацца як кот з селядцóм. Гл. кот.
насíцца як кот з селядцóм. Гл. кот.
**вы́мачаны як селядзéц.** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра вымаклага пад кажухом, у балоце або моцна ўпацелага чалавека. Federowski, 344; Высл., 297.

***селянíн*** **Воўк не éўшы як селянíн пагарэ́ўшы: што ўбачыць, тое і трэба.** *Прык.* І воўк, і пагарэлец крадуць па неабходнасці. Янк., 209.

***сем*** Карóста ні папóўства: сем год адбýдзіць, тады́ ні бýдзіць. Гл. папоўства.
**у пасцéлі так як сем свінéй апарасíлася.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра неахайную, пакамечаную пасцель. Federowski, 224.
**уплятáць як за сямёх дурны́х.** *Дзярж. Няўхв.* Пра нейчы празмерны апетыт. Гілевіч, 166.
**як сем баб адхадзíла** *каго. Навагр. Ухв.* Пра раптоўнае і поўнае ўзнаўленне здароўя. Даніловіч, 253.
**як сем баб пошэптáло.** *Жытк. Ухв.* ТС 4, 211. Тое ж.
**як сем нéмцаў.** *Зэльв. Няўхв.* Пра вельмі тупога, неразумнага, няўцямнага. Даніловіч, 249.

***сéмера*** **нос як на семяры́х рос, а аднамý застáўся.** *Карэл. Кплів.* Пра чыйсці доўгі нос. Высл., 355.

***сéна*** **валасы́ шóрсткія як сéна.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра жорсткія валасы кагосьці. Federowski, 338.
звалíцца як дождж сярóд я́снага дня на сухóе сéна. Гл. дождж.
з'éхаць як сабáка з сéна. Гл. сабака.
**Любíць – не сéна касíць.** *Насмешл.* Пра складанасці ў каханні. БВ, 104.
любíць як свіння́ сéна. Гл. свіння.
наляцéць як дождж на сухóе сéна. Гл. дождж.
**Нявéстка пóрсткая як сéна жóрсткае.** *Прык.* Пра жвавую, рухавую маладзіцу. Янкоўскі 1971, 150.
**павязáць** *каго* **як сухóе сéна.** *Капыл.* Пра людзей, якіх пазбавілі свабоды. ДА.
**патрэ́бна як сéна сабáццы.** *Бераст. Іран.* Пра нешта, мала патрэбнае каму-н. Даніловіч 2008, 137.
**прыбрáць** *што* **як сухóе сéна.** *Гор. Ухв.* Пра хуткае, тэрміновае выкананне справы. АВНЛ.
сядзéць як капá сéна. Гл. капа.
трэ́ба як маты́ка для сéна. Гл. матыка.

прапáсці (знíкнуць, згубíцца) як ігóлка ў сéне. Гл. іголка.
сядзéць як сабáка на сéне: і сам не гам, і другóму не дам. Гл. сабака.

***сенажáць*** як тумáн па (на) сенажáці. Гл. туман.

***сенакóс*** зваліцца як снег на галаву́ ў сáмы сенакóс. Гл. снег.

***серабрó*** **блішчáць як сéрабра.** *Чашн. Ухв.* Пра нешта, што хораша блішчыць (рыба, вада, нейкія рэчы). Каспяровіч, 279.
**як жывóе серабрó.** *Шарк. Ухв.* Пра непаседлівага, рухомага чалавека. КВДУ.

***серадá*** **глядзéць бы серэдá на п'я́тніцу.** *Стол.* Пра нейчы нядобразычлівы, незадаволены позірк. Барысюк, Буян, 13.
**надзьму́цца як серадá на пя́тніцу.** *Нясв. Няўхв.* Пра чалавека, які выяўляе свой дрэнны настрой, незадаволенасць, раздражнёнасць. ФА.
**скрывíцца (змóршчыцца) як з серады́ на пя́тніцу.** *Ваўк. п., Воран., Валож., Івац., Маз., Уздз., Хоц., Пруж., Дзярж., Стаўб., Івац. Няўхв.* Federowski, 155; Dybowski, 189; Нос., 150; Дуб., 58; Pietkiewicz, 395; Высл., 329; Даніловіч, 227; Аксамітаў, 206; ФА; МК, 318; ЗЗайкі. Тое ж. < Серада і пятніца – посныя дні.

***серп*** **сказáць як сярпóм адрэ́заць.** Пра канчатковую рашучую адмову. Даніловіч, 254.
**сказáць як сярпóм па я́йцах разану́ць.** *Клецк. Няўхв. Вульг.* Пра нешта сказанае балюча, крыўдліва. ФА.
**як сярпóм па цéле.** *Насмешл.* Пра нешта сказанае, што моцна дапякло, уразіла, вывела з раўнавагі, дастала да жывога. Янк., 447.

***сéры**, гл.* ***шэры***

***сéсці*** двор як пáні сéсці. Гл. пані.
зямлí (дзя́лка, ласкуцíнка) як [дóбрай] бáбе сéсці. Гл. баба.
зямлí як малóму сéсці. Гл. малы.
пóле як старóй бáбе сéсці ср...ць. Гл. баба.
у Лагóйску як у вóйску: лáўкі шырóкі, ёсьць дзе сéсьці, ды нéчага éсьці. Гл. войска.
анёлам ляцéў, а чóртам сеў. Гл. анёл.
як на сто кóней сеў. Гл. сто.
як на яжá сеў. Гл. вожык.

***сéтка*** папáсціся як ры́бка ў сéтку. Гл. рыбка.

***сéчка*** уваліць як каню́ сéчкі. Гл. конь.

***сéяць*** мурзáты, хоць рэ́пу сей. Гл. рэпа.

***сёмы*** да яго як да ву́ткі на сёмыя су́ткі. Гл. вутка.

***сёння*** **трэ́ба як сённі памéрці.** *Лоеў. Іран.* Пра нешта, што зусім непатрэбна. Горленка, 251.
**як сёння з я́йка вылу́піўся.** *Насмешл.* Пра недасведчанага, някемнага чалавека. Санько, 71.
**як ся́ння радзíўся.** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 174. Тое ж.

***сібíрскі*** дурны́ як сібірскі вáленак. Гл. валенак.

***сíвы*** красíва як карóва сíва. Гл. карова.
красíва як свіння́ сíва. Гл. свіння.

запрагці́ як сівага жарабца́. Гл. жарабец.
бу́дзе *каму* як сіваму каню́. Гл. конь.
брат да сястры́ – гасцёк мілы, сястра́ бра́ту – як воўк сівы. Гл. воўк.
пачці́вы як саба́ка сівы. Гл. сабака.
хітры як сівы воўк. Гл. воўк.

***Сі́дар*** **піць гарэ́лку як Сі́дар сыро́ватку.** *Гом. Насмешл.* Пра вялікага ахвотніка выпіць. Высл., 364.
**расхіхіта́цца як Сі́дар на база́ры.** *Сміл. Насмешл.* Пра чалавека, які не да месца і без прычыны развесяліўся. Шатэрнік, 245.
свары́цца (апастыля́цца) як Сідарава су́чка. Гл. сучка.
як Сідарава каро́ва. Гл. карова.
ababра́ць як Сідараву казу́. Гл. каза.
біць як Сідараву казу́. Гл. каза.
лупа́сіць як Сідараву ко́зу. Гл. каза.
таўчы́ як Сідараву казу́. Гл. каза.

***сік*** **ара́ць бычы́ным сі́кам.** *Вілен. Насмешл.* Пра аратага, што не зладзіць правесці роўную баразну. Sielicki, 157.

***сілега*** **расці́ як сілега.** *Стол.* Пра нечыю жывучасць, што расце без догляду, як лаза. ТС 5, 258. < Сілега – лаза.

***сіло́*** **У ка́ждам сяле́ як у сіле́.** *Барыс. Прык.* Пра норавы ў кожнай вёсцы, якіх мусіш трымацца. ЗВалодзінай.

***сінаго́га*** сме́лы як жыд, калі ў сінаго́зе са стра́ху бздзіць. Гл. жыд.

***сіндзік*** **е́сці** *каму* **як сіндзіку.** *Няўхв.* Пра вельмі малую колькасць ежы. Янк., 406. < Сіндзік – сініца.

***сіні́ца*** **як сіні́ца на сучку́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра зграбную дзяўчыну. Юрчанка, 180.
**Дзе́ці гадава́ць як сіні́цы ка́мень клява́ць.** *Стаўб. Прык.* Пра цяжкасці гадавання дзяцей. ФА

***сірата́*** **жыць як сірата́.** *Івац., Мiл. Спачув.* Пра чалавека, што жыве ў нястачы, беднасці. Бялькевіч, 226; ЗЗайкі.
**нагарава́цца як сірата́.** *Пух. Спачув.* Пра кагосьці, хто моцна нагараваўся. Мін.-Мал., 1970, 162.
**такі́ дождж як сірата́ пла́ча.** *Рэч.* Пра спорны цёплы дождж. Высл., 397.

***сіраці́на*** **стая́ць як сіраці́на.** *Сміл. Спачув.* Пра чалавека, які стаіць адзін, з прыгнечаным, забедаваным выглядам. Шатэрнік, 232.
**Па чужы́ні – ек сіроці́ні.** *Жытк. Прык.* Пра тое, што на чужыне ніхто не стане клапаціцца пра цябе, шкадаваць. ТС 5, 37.

***сі́та*** **ба́чыць як скрозь сі́та.** *Лоеў.* Пра чалавека з аслабленым зрокам. Янкова, 36.
**до́джджык тру́сіць (цярушы́ць) як праз (з) сі́та.** *Краснап., Мін.* Пра дробненькі, роўны дождж. Бялькевіч, 445; ЛЦ, 13. < Трусіць – імжыць.
**дзіравая галава як сі́та.** *Няўхв.* Пра нейчую не надта добрую памяць. ФСБМ 1, 250.

***сітаўка*** **танкано́гі як сітаўка.** *Няўхв.* Пра танканогага чалавека. Янк., 432. < Сітка, сітаўка – пліска. Але, магчыма, тут параўнанне з ножкай грыба-махавіка (параўн. сітнік і сітавік на Пскоўшчыне – грыб махавік). Даль, Слов., 4, 189.

***сітка*** **танкано́гі як сітка.** *Няўхв.* Янк., 432. Тое ж.

***ска́ба*** **худа́я як ска́ба.** *Астр. Няўхв.* Пра худую жанчыну ці карову, іншую жывёлу. СПЗБ 4, 433. < Скаба – рабро.

***ска́бка*** **як ска́бка.** *Жлоб. Няўхв.* Пра жанчыну, якая хоча пра ўсё ведаць, імкнецца ўсюды патрапіць. Мат. Гом., VIII, 147. < Скабка – стрэмка.

***скаварада́*** **як скаварада́.** *Гом.* Пра нешта вялікае, круглае, часцей пра кветку. Матэрыялы 1981, 114.

**го́рача** *дзе* **як на скаварадзе́.** Пра гарачыню. Янк., Пар., 43.

**падско́кваць бы́ццам на гара́чай скаварадзе́.** *Брэсц. Насмешл.* Пра чалавека, які падскоквае, перапоўнены эмоцыямі. ЛЦ, 73.

скака́ць ба́ццэ гаро́х на гара́чай скаварадзе́. Гл. гарох.

падско́кваць як крась на скаўрадзе́. Гл. крась.

круці́цца (ві́цца, вярце́цца) як ую́н на [гара́чай] патэ́льні (скаўрадзе́, скаварадзе́). Гл. уюн.

бы гад на сковороді. Гл. гад.

***скажэ́нны*** **бе́гаць як скажэ́нны.** *Бран. Няўхв.* Пра чалавека, які мітусіцца, носіцца як хворы. Бялькевіч, 338; Расторгуев, 240.

**крыча́ць як скажэ́нны.** *Касц. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна крычыць. Бялькевіч, 406.

**ляце́ць як скажэ́нны.** *Касц. Няўхв.* Пра чалавека, які мітусіцца, імкліва бяжыць. Бялькевіч, 256.

**насі́цца як скажэ́нны.** *Лоеў. Няўхв.* Янкова, 325. Тое ж.

***сказа́ць*** ху́тка як сло́ва сказа́ць. Гл. слова.

як а́ман сказа́ць. Гл. аман.

***скака́ць*** жыццё як у таго вераб'я́: ска́ча па сце́жцы ды гаўно́ клюе́. Гл. верабей.

У мі́ру́ як на вялі́кім пі́ру́: хто ска́ча, а хто і пла́ча. Гл. пір.

згорбіцца як мядзве́дзь ска́чучы. Гл. мядзведзь.

***скаку́н*** бліשча́ць як падко́ва ў скакуна́. Гл. падкова.

***скала́*** **ба́бка цвёрдая як скала́**. *Смарг. Ухв.* Пра моцна загартаванае малое кавадлачка для кляпання касы. СПЗБ 5, 341.

**Жыць на чужо́й старо́нцы, як на скале́ адзіно́кай сасо́нцы.** *Добр. Прык. Фальк. Спачув.* Пра цяжкае жыццё на чужыне. ПП 1, 291.

***ска́лка*** гро́шай як у чо́рта ска́лак. Гл. чорт.

***скамаро́х*** **Усяк пля́ша, ды не як скамаро́х.** *Прык.* Пра тое, што кожны нешта робіць, але не так добра, як спецыяліст. Ром., Зап., I, 215.

***скамяне́лы*** **як скамяне́лы.** Пра чалавека, які, уражаны, знерухомеў. Санько, 213.

***скарбо́вы*** здаро́вы (здараўля́ка, крэ́пкі, мо́цны) як дуб [скарбо́вы]. Гл. дуб.

***ска́ўт*** **худы́ як скаут.** *Асіп. Няўхв.* Пра худога касцістага чалавека. Высл., 414. < Скаўт – магчыма, склют.

***скаці́на*** Гро́шы – не мякі́на, а чалаве́к не скаці́на. Гл. мякіна.
**з бо́лю як скаці́на б’ю́ся.** *Слон. п.* Чалавек пра сябе: ад болю ён траціць кантроль, развагу. Federowski, 41.
Ха́та бэз дыты́ны як хлів бэз скоты́ны. Гл. хлеў.

***сква́рка/шква́рка*** **вы́смажыцца як сква́рка.** *Спачув.* Пра чалавека, які схуднеў, спрацаваўся моцна. Янк., Пар., 32.
**скіпе́ць як сква́рка.** *Ваўк. п. Спачув.* Federowski, 279. < Скіпець – стаяць. Тое, што высмажыцца як скварка.
**Дождж на Ма́рка, дык зямля́ як сква́рка.** Народная прыкмета. Пра дождж у пару́. ФА.
**Цэ́ла – не сква́рка, капу́сту не запра́віш.** *Прык. Жарт.* Пра невялікую матэрыяльную карысць цнатлівасці маладой на вяселлі. Козенка, 148.
настра́шыць як ката́ сква́ркаю. Гл. кот.
пра́ўда як лісі́ца на ле́ташнім ламе сква́ркі пякла́. Гл. лісіца.
насі́ць як на ві́дэльцы сква́рку. Гл. відэлец.
**Пра́ўда не шква́рка – з бліна́мі не з’ясі́.** *Астр. Прык.* Пра немагчымасць прыхаваць праўду. ПП 2, 433.
напужа́ць як ката́ шква́ркаю. Гл. кот.

***скі́ба*** **пырыся́ты як скіб’ё.** *Мсціcл. Ухв.* Пра сытых дагледжаных парасят. Юрчанка 1998, 147.

***скі́даны*** дзе́ўка як ві́ламі скі́даная. Гл. вілы.

***скі́нуць*** Жані́цьба не ла́паць – з нагі́ не скі́неш. Гл. лапаць.
Жо́нка не бот – не скі́неш. Гл. бот.
Прывы́чка не ато́пак: з нагі́ не скі́неш. Гл. атопак.
як во́кам скі́нуць Гл. вока.
як ката́ з пе́чы скі́нуць. Гл. кот.
як то́рбу з плеч скі́нуць. Гл. торба.

***скі́тнік*** **седе́ць як скі́тнік.** *Лоеў. Няўхв.* Пра чалавека, які пасіўна сябе паводзіць, не цікавіцца актуальнымі праблемамі. Янкова, 327. < Скітнік – бадзяга-бядняк.

***склéзень*** **худы́ як склезень.** *Ушацк. Няўхв.* Пра некага худога. Барадулін, 90.

***склют*** **до́хлы як склют.** *Лаг. Няўхв.* Пра худога чалавека. Высл., 315.
**наса́ты як склют.** *Івац. Насмешл.* Пра чалавека з вялікім загнутым носам. ЗЗайкі.
**сагну́цца як склют.** *Паст. Няўхв.* Пра чалавека, што нагадвае спецыяльны тапор на доўгай ручцы – склют. СПЗБ 4, 453. < Ёсць сякера лёгкая – для абчосвання дрэва, тапор цяжкі і востры – для ссякання і склют – цяжкі, для абчосвання бярвення, калун для шчапання дроў.

***ско́бля*** **худы́ як [тая] ско́бля.** *Шчуч. Няўхв.* Пра худога чалавека (выпадковае параўнанне). СПЗБ 4, 454. < Скобля – скрабёлка.

***ско́тына**, гл.* ***скаціна***

***ско́чка*** у даўгах як су́чка ў ско́чках. Гл. сучка.
**уцяка́ць як ско́чкі з до́хлай саба́кі.** *Саліг. Здзекл.* Пра людзей, якім давялося хутка разбягацца з месца, стаўшага непрыдатным. Высл., 407. < Скочкі – блохі.

***скро́ня*** джгану́ць як шэ́ршань у скро́ню. Гл. шэршань.

***скрыль*** **як скрыль.** *Мсцісл.* 1. Пра нешта моцна перамерзлае. 2. *Няўхв.* Пра п'янага чалавека. Юрчанка, 174.

***скры́пка*** **Абе́д без мя́са – як скры́пка без ба́са.** *Мінск. Прык.* Пра непаўнавартасны абед без мяса.

**дзед ек скры́пка стаў.** *Жытк. Спачув.* Пра старога, што схуднеў, стаў кволы, «скрыпучы». ТС 5, 50.

**ісці́ як скры́пка, скрып-скрып.** *Шчуч. Няўхв.* Пра нездаровага чалавека, што ледзь скрыпіць (жыве). СПЗБ 4, 465. < Скрыпка – *перан.* хто часта хварэе.

**суха́я як скры́пка.** *Лаг., Чэрв. Няўхв.* Пра сухую, худую жанчыну. Высл., 391.

**трэ́ба як за́йцу скры́пка.** *Мсцісл. Іран.* Пра некага, нешта зусім непатрэбных. Юрчанка, 183.

**гавары́ць як у скры́пку граць.** *Ухв.* Відаць, пра чалавека, які прыгожа гаворыць. Санько, 120.

**Гаво́рыць як у скры́пку ігра́е, а ро́біць як у разбі́ты збан бразга́е.** *Рэч. Прык. Насмешл.* Пра чалавека, у якога складна ўсё на словах, а не на справе. Pietkiewicz, 369.

**ткаць бу ў скры́пку граць.** *Стол. Ухв.* Пра майстрыху-ткачыху, дасканалую работніцу. ТС 2, 236.

***ску́ла*** **бурча́ць як скула́ ліха́я.** *Івац. Няўхв.* Пра нейчыя пастаянныя папрокі, нараканні. ЗЗайкі.

**ліхі́ як ску́ла.** *Асудж.* Пра вельмі благога чалавека. Янк., Пар., 96.

**му́ляць як скула́ на баку́.** *Мін. Няўхв.* Пра нешта, некага, ад якіх адны непрыемнасці. ЛЦ, 61.

**трэ́ба як скула́ на ср...цы.** *Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Фед. Арх.

**ускo\u0301чыць як скула́ на баку́.** *Мін. Няўхв.* Пра кагосьці, хто з'явіўся недарэчы. ЛЦ, 75.

**чапа́цца як блага́я скула.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які чапляецца да кожнага. СПЗБ 4, 468.

**Чужы́ чалаве́к у ха́тцы, дык як ску́ла на сра́чцы.** *Прык. Вілен. Жарт.* Пра чужога чалавека, які вельмі перашкаджае гаспадарам. Sielicki, 136.

**як ску́ла ў ро́це.** *Маст. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна замінае, шкодзіць, не дае спакою. Даніловіч, 249.

**вадзі́цца [цэ́лы дзень] як з бально́ю ску́лаю.** *Няўхв.* Пра капрызнага, злога чалавека, якому хтосьці вымушаны дагаджаць. Юрчанка 1969, 71, 104.

**сядзе́ць ску́лаю.** *Клецк. Няўхв.* Пра чалавека, ад якога толькі непрыемнасці, нязручнасці. ДА.

**гадзі́ць як благо́й скуле́.** *Ушацк., Лаг. Раздраж.* Пра капрызнага, злоснага чалавека, якому даводзіцца дагаджаць. Барадулін, 101; Varłyha, 41.

**гадзі́ць (дагаджа́ць, ла́дзіць, нараві́ць, глядзе́ць, сцерагчы́, стрэ́нчыць яму́) як ліхо́й скуле́ (як ліхо́е скулы).** *Ваўк. п.,*

*Бялын.*, *Мсціcл.*, *Слон.*, *Стаўб.*, *Дзярж.*, *Сміл.*, *Лоеў.*, *Івац. Няўхв.* Дуб., 11; Нос., 72; Ром., Бел., 292; Сержпутоўскі 1999, 30, 47; Federowski, 74, 98; Ляцкий, 7; Юрчанка 1969, 67; Янк., 417; Высл., 301; Нар. слов., 45; Ройзензон, 69; Шатэрнік, 267; Яўсееў, 62; ЛЦ, 71; Янкова, 329; ЗЗайкі. Тое ж.

**берагчы́ як скулý.** *Мсціcл. Няўхв.* Юрчанка, 197. Тое ж.

**хадзіць як кала скулы́.** *Пін. Няўхв.* Пра чалавека, якога баяцца зачапіць, стараюцца абысці. Нар. лекс., 112.

***скýлка*** **наравíць** *каму* **як ніцай скýлкі.** *Памянш. Крыч. Няўхв.* Пра неабходнасць дагаджаць злому, капрызнаму чалавеку, каб пазбегнуць большай бяды. Бялькевіч, 289. < Ніцая скула – глыбокі нарыў, што цяжка прарывае.

***скуля́нка*** **насíцца як са скуля́нкаю.** *Няўхв.* Пра чалавека, які празмерна нешта апякае, беражэ, усім дакучае. Санько, 169.

***скýра*** **Спры́тны на пры́казкі як скýра на пры́вязкі.** *Гродз. Прык.* Пра чалавека, якому вельмі патрэбны прыказкі. Цыхун, 192.

круцíць як шавéц скýрай. Гл. шавец.

**крычáць нібы́** *з каго* **скýру лупíлі.** *Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі страшна крычаў. Санько, 148.

***скурáт*** **выпінáцца (напінáцца, выкрýчвацца, круцíцца) як скурáт (шкурáт) на агні.** *Мін.*, *Карэл.*, *Віл.*, *Пух.*, *Астр.*, *Ашм.*, *Карэл.*, *Віл. Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, які маніць, выкручваецца, калі яго прыціскаюць доказамі. Нос., 821; Дуб., 52; Янк., 400; Высл., 297; МК, 318; Мін.-Мал., 1970, 162; Сцяшковіч, 619; ФА; МК, 318; СПЗБ 4, 473.

**прáвіцца як скурáт на агнé.** *Вілен. п.*, *Лаг.* Dybowski, 16; Federowski, 220; Аксамітаў, 180; Varłyha, 102; Янкоўскі, 214. Тое ж.

***скуры́ць*** хýтка што папярóсу скуры́ць. Гл. папяроса.

***слáва*** адзéўся (адзéнецца) як пáва, але дурнáя слáва. Гл. пава.

***сланéчнік***, *гл. таксама* ***сонечнік*** **дзіця́ ця́гнецца да мáці як сланéчнік да сóнца.** *Мін.* Пра матчына цяпло, неабходнае дзіцяці. ЛЦ, 82.

**спакóйна як у сланéчніку пры дарóзе.** *Іран.* Пра адсутнасць якога б ні было спакою, бо ў сланечнік пастаянна хтосьці заходзіць паласавацца. Янк., 428.

***слатá*** **лéзці ў вóчы як (абы́, нéка) слатá.** *Івац. Раздраж.* Пра дакучлівага чалавека, які навязваецца іншаму, іншым. Federowski, 163; Янк., 413; Нар. слов., 77. < Слата – дрэннае надвор'е з дажджом і снегам; *перан.* – надакучлівы чалавек.

**ляжáць як слатá.** *Брасл. Ухв.* Пра вялікую колькасць патраўленых мух. СПЗБ 4, 479.

**напáсці як слатá.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 197; Янк., Пар., 134. Тое, што лезці ў вочы як слата.

**прычэпíцца (чапля́цца) ек слотá.** *Жытк.*, *Круп. Раздраж.* ТС 4, 263; СПЗБ 4, 479. Тое ж.

***слаць*** гавары́ць як пýхам слаць. Гл. пух.

языкóм мéле як хвастóм сцéле. Гл. хвост.

гавары́ць як лíстам слаць. Гл. ліст.

***след*** наплу́таць як за́яц слядо́ў. Гл. заяц.

***следзь*** **худы як следзь.** *Івац. Няўхв.* Пра кагосьці непрыемна худога. ЗЗайкі.

***слепіца**, гл.* ***сляпіца***

***слі́ва*** **нос як слі́ва.** *Ваўк. п.*, *Бярэз. Няўхв.* Пра апухлы нос. Federowski, 404; ФА; Янк., 417.

сало́дкая як з мёдам слі́ва. Гл. мёд.

**во́чы як слі́вы.** 1. Пра нечыя вялікія лупатыя вочы. 2. Пра вочы характэрнага колеру слівы. Янк., Пар., 27.

**за́валкі як сьлі́вы.** *Слуцк.* Пра павялічаныя гланды пры захворванні. ДА.

дарва́цца (набра́цца) як Гапо́н [да] сліў. Гл. Гапон.

***слі́вень*** **то́ўсты як слі́вень.** *Касц. Няўхв.* Пра азызлага, тоўстага чалавека. ЛЦ, 75.

***слі́віна*** **апу́хнуць як слі́віна.** *Лаг.* Пра пухліну асобных частак цела. Varłyha, 14.

***сліж*** **кру́глы як сліж.** *Смарг.* Пра тоўстага, круглага чалавека. СПЗБ 4, 482. < Сліж – брус, якім замацоўваюць насціл моста.

**слі́зкі як сліж.** *Слон. Пагардл.* Пра нешта або некага слізкіх, непрыемных. Нар. лекс., 57. < Сліж – малюск.

***слі́жань*** **хало́дны як слі́жань.** *Бялын.* Пра нешта халоднае. Яўсееў, 94.

***слімá́к*** **прыста́ць як слімá́к да гры́ба.** *Мін. Няўхв.* Пра нейчае непрыемнае, дакучлівае прыставанне. ЛЦ, 119.

**як слімá́к (сліманнё).** *Віц., Мсцісл.* Пра тоўстага чалавека. Никифоровский, 154; Юрчанка 1977, 22.

***слі́мень*** **ході́ть як слі́мень.** *Лоеў. Няўхв.* Пра тоўстага, запаволенага чалавека. Янкова, 331.

**як слі́мень.** *Мсцісл.* Пра кагосьці тоўстага, сытага. Высл., 375.

***слі́на*** **гро́шы як слі́на [по́йдуць].** *Слон. п. Няўхв.* Пра хуткае знікненне, разыходжанне грошай. Pietkiewicz, 117.

**добро́ пошло́ так як слі́на.** *Стол. Няўхв.* ТС 2, 23. Тое, што грошы як сліна.

**прапа́сці як слі́на.** *Ваўк. п.*, *Івац. Няўхв.* Пра хуткае і лёгкае знікненне, разыходжанне чаго-н. Federowski, 244; ЗЗайкі.

**сла́бкія ні́ткі як слі́на.** *Сміл. Няўхв.* Пра тонкія някрэпкія ніткі. Шатэрнік, 258.

**як слі́ну плю́нуць.** *Слуцк.* Пра хуткае, лёгкае выкананне пэўнай працы. ДА.

***сло́ва*** **як сло́ва му́віць [лёгка].** *Ваўк. п.* Пра лёгкае, хуткае выкананне якой-н. справы. Federowski, 282; Янк., Пар., 185.

**як сло́ва сказа́ць.** *Стаўб.* МК, 318. Тое ж.

***сло́ік*** **буракі́ як сло́ікі.** *Смарг. Ухв.* Пра вялікія буракі, добры ўраджай. СПЗБ 4, 486.

**прапа́сці як сло́ік з пло́ту.** *Слон. Жарт.* Пра бясследнае, невядома дзе знікненне чаго-н. Даніловіч, 249.

***слон*** **хадзі́ць як слон па бутэ́льках.** *Воран. Асудж.* Пра чалавека, які няўклюдна, нязграбна, няспрытна ходзіць. Даніловіч, 249.

**як слану́ шраці́на** *каму што. Слон. Жарт.* Пра зусім слабы неадчувальны ўдар камусьці. Высл., 431.

***сло́нка****, гл. таксама*

***слонца, сонца***

***слуп***

**маўча́ць як слуп.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра маўклівага няўцямнага чалавека. Federowski, 181.

**падыма́цца ад зямлі́ да абло́каў як слуп.** Пра густы туман. НН, 291.

**стая́ць як слуп.** *Стаўб. Няўхв.* Пра чалавека, які нерухома і доўга стаіць. МК, 247.

**во́чы слу́пам ста́лі.** *Стаўб.* Пра позірк, які выражае здзіўленне альбо жах. МК, 41.

***слупа́к***

**стая́ць як слупа́к пры даро́зе.** *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, які стаіць нерухома на адным месцы. Даніловіч, 253.

***слупо́к***

**нага́ як слупо́к.** *Шальч. Няўхв.* Відаць, пра апухлую нагу. СПЗБ 4, 491.

***слу́хаць***

ба́іш як поп, а слу́хаць не́чава. Гл. поп.

гаво́рыць як пя́е́ць, а слу́хаць не́чага. Гл. спяваць.

як у ву́ха слу́хаць. Гл. вуха.

***Слу́ччына***

до́бра як у гасця́х на Слу́ччыне. Гл. госці.

***слявя́да***

**прычапі́цца як слявя́да.** *Карэл. Няўхв.* Праназойлівага, надакучлівага чалавека. Высл., 372. < Слявяда – прыставучы чалавек.

***слядо́к***

**маршчакі́ на твары як куры́ны слядо́к.** *Памянш. Іўеў.* Пра маршчыны каля вачэй. СПЗБ 3, 38.

***сляза́***

Бяда́ як дуда́: зачне́ш дуць, аж слёзы набягу́ць. Гл. дуда.

**раса́ бы слёзы з вачэ́й.** Пра расу, якая выступае на травах. Сержпутоўскі 1998, 36.

**чы́стая як сляза́.** *Ваўк., Слон. п., Івац. Ухв.* Пра нешта, напрыклад, добрую самагонку, высокай якасці. Federowski, 71; ЗЗайкі.

***сляпа́к***

**нахлябта́цца як сляпа́к.** *Слон. Няўхв.* Пра п’янага чалавека, што напіўся гарэлкі як сляпень крыві – да адвалу. Высл., 353.

***сляпе́нь***

**куслі́вы як сляпе́нь.** *Няўхв.* Пра зласлівага, вострага на язык чалавека. Янк., Пар., 91.

***сляпе́ц***

**ле́зці як сляпе́ц** *куды. Стаўб., Маладз. Незадав.* Пра кагосьці, хто дакучае каму, назойліва ўмешваецца ў чые-н. справы. МК, 139.

***сляпі́ца***

**сляпі́цаю ле́зці (у во́чы).** *Слуцк., Лоеў. Асудж.* Пра чалавека, які неадчэпна лезе да іншага, не дае спакою. Янкова, 64; МК, 242.

***сляпы́***

**нягра́матнаму быць на́ча сле́пу.** *Карм.* Пра цяжкасці жыцця непісьменнага чалавека. Мат. Гом., V, 168.

тыцкацца як сляпа́я ку́рыца. Гл. курыца.

шыць як сляпа́я ба́ба. Гл. баба.

**пусці́ць** *каго* **як сляпо́га без кі́я.** *Лаг.* Пра выпраўленне каго-н. зусім бездапаможнага. Высл., 373.

**як у сляпо́га ў то́рбе** *дзе. Ваўк., Маст., Зэльв. Няўхв.* Пра вялікі беспарадак дзе-н. Даніловіч, 261.

папа́сці як сляпо́й ку́рыцы зе́рне. Гл. курыца.

пашанцава́ць як сляпо́й ку́рыцы знайсці́ зе́рне. Гл. курыца.

**патрэ́бны (прыда́ўся) як сляпо́му акуля́ры.** *Ваўк. п.*, *Слон. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае. Federowski, 224, 248; Высл., 363.
**трэ́ба як сляпо́му лю́стра (люстэ́рка).** *Іран.* Санько, 70. Тое ж.
любіць як цыга́н сляпу́ю кабы́лу. Гл. цыган.
біцца як сляпы́ казёл аб я́слі. Гл. казёл.
**гары́ць як сляпы́ глядзі́ць.** *Ваўк. п.*, *Маст. Іран.* Пра вельмі кепскае, цьмянае, няяркае гарэнне чаго-н. Federowski, 104; Даніловіч, 249.
**глядзе́ць як сляпы́ ў то́рбу.** *Зэльв.*, *Іўеў.*, *Свісл. Насмешл.* Пра доўгае, бесперапыннае глядзенне на каго-, што-н. ад здзіўлення, неразумення ці збянтэжанасці. Даніловіч, 250.
**дзяўбсці́ся як сляпы́.** *Паст. Няўхв.* Пра чалавека, які ідзе няўпэўненай маруднай хадой. СПЗБ 2, 71. < Дзяўбсціся – торкацца, лезці.
**капа́цца (грэ́бацца, паро́цца, по́ркацца, колупа́цца) як сляпы́ ў то́рбе.** *Сен. Жытк.*, *Астр.*, *Лід.*, *Маладз.*, *Навагр.*, *Ашм.*, *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які марудна, няспорна, нязграбна робіць нейкую работу. ТС 5, 55; Высл., 333; Даніловіч, 250; ФА; Гілевіч, 165.
**лэ́паць як сляпы́.** *Сміл. Няўхв. Раздраж.* Пра чалавека, які нешта непрыемна абмацвае. Шатэрнік, 150. < Лэпаць – абмацваць рукамі.
На чужы́не чужы́ да чужо́га, як у ле́се сляпы́ да сляпо́га. Гл. лес.
**Невучо́ны што сляпы́.** *Браг. Прык.* Пра неабходнасць навучання для чалавека. ПП 2. 178.
**пра́ўда як сляпы́ го́лага абакра́ў.** *Слуцк. Іран.* Пра адсутнасць праўды наогул. Гілевіч, 160.
**прыпе́рціся як сляпы́ да сту́пы.** *Мядз.* Пра кагосьці, хто знайшоў надзейнае, трывалае прыстанішча. Высл., 371.
**прысляні́цца да мі́скі як сляпы́ да це́ста.** *Езяр. Няўхв.* Пра чалавека, што прагна, з ахвотай узяўся за ежу. Каспяровіч, 255.
**прыста́ць як сляпы́ да пло́ту (прычапі́цца, прыста́ць).** *Ушацк.*, *Стаўб.*, *Астр.*, *Брасл.*, *Рэч. Асудж.* Пра чалавека, які нахабна прыстае, чапляецца да іншых. МК, 318; СПЗБ 4, 123; ФА; ЛЦ, 74.
пыта́цца як сляпы́ даро́гі. Пра кагосьці, хто без патрэбы, недарэчы нешта пытаецца. Даніловіч, 249.
**така́я пра́ўда як сляпы́ іска́ўся.** *Ваўк. п. Іран.* Пра нешта, не падобнае на праўду. Federowski, 247.
**угляда́цца (дзіві́цца) як сляпы́ ў то́рбу.** *Івац.*, *Слон. Няўхв.* Пра настырнае доўгае разглядванне кагосьці. Высл., 403; ЗЗайкі.
**улі́пнуць як сляпы́ ў це́ста.** *Пух. Жарт.* 1. Пра чалавека, які трапіў у смешную сітуацыю. 2. Пра закаханага чалавека. ЛЦ, 125.
*хто* **без мяне́ як сляпы́ без па́лкі.** *Мін. Жарт.* Пра чалавека, без якога не абыйсціся. ЛЦ, 38.
**шука́ць як сляпы́ пло́ту.** *Ваўк. Няўхв.* Пра чалавека, які нечага вельмі шукае. ФА.

**шука́ць як сьляпы́ ў то́рбе.** *Смарг.*, *Навагр.*, *Ваўк.*, *Шчуч.*, *Воран.*, *Уздз.*, *Івац. Віл.* Пра чалавека, які не бачыць, не арыентуецца ў цемры. Сцяшковіч, 619; ФА; АВНЛ; Даніловіч, 250; ТС 5, 55; ЗЗайкі.

***смаго́ль***

**чо́рны як смаго́ль.** *Сміл.* Пра вельмі чорнага чалавека ці нешта чорнае. Шатэрнік, 259. < Смаголь – галавешка ад смольнага карча.

***смагу́ль***

**чо́рны як смагу́ль.** *Карэл.* ЖН, 62. Тое ж.

***смала́***

**Быль як смала́, а небылі́ца як вадзі́ца.** *Прык.* Пра тое, што сапраўды добрыя падзеі застануцца ў памяці, а благія забудуцца. Рапановіч, 243.

**Быль як смала́, а нябы́ль як вада́.** *Прык.* Ром., Зап., І, 215. Тое ж.

**зямля́ [ста́ла лі́пкая] як смала́.** *Слон.* Пра зямлю пасля дажджу. Высл., 331.

**лі́пкі як смала́.** *Маладз.*, *Стаўб. Няўхв.* Пра нешта, некага прычэплівых. Носович, 595; МК, 139.

**навя́ліцца як смала́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра прычэплівага чалавека. Высл., 349, 137. < Навяліцца – прыліпнуць, прычапіцца.

**прылі́пнуць як смала́ да пло́та.** *Мін. Няўхв.* ЛЦ, 119. Тое, што прыляпіцца як смала.

**прыляпі́цца як смала́.** *Ганц.*, *Івац. Няўхв.* Пра таго, хто неадчэпна, дакучліва прыстае да каго-н. Аксамітаў, 136; ФА; ЗЗайкі.

**прыстава́ць як смала́ да падэ́швы.** *Лід. Няўхв.* Даніловіч, 250. Тое ж.

**прыстава́ць як смала́ да пастала́.** *Свісл. Няўхв.* Даніловіч, 250. Тое ж.

**прыста́ць бы шаўцо́ўская смала́.** *Слуцк. Няўхв.* Сержпутоўскі 1999, 132. Тое ж.

**прыста́ць як смала́ да кала́.** *Ашм., Пруж. Няўхв.* Станкевіч, 1055; ФА. Тое ж.

**прыста́ць як смала́ да пло́ту.** *Стаўб. Няўхв.* МК, 217. Тое ж.

**прычапі́цца** *да каго* **як смала́ да це́ла.** *Астр. Няўхв.* СПЗБ 4, 170. Тое ж.

**прычапі́цца як смала́ да дрэ́ва.** *Брасл.*, *Стол. Няўхв.* Рабкевіч, 172; Барысюк, Буян, 13. Тое ж.

**прычапі́цца як смала́ к рука́м.** *Пух. Няўхв.* СПЗБ 4, 170. Тое ж.

**учапі́цца як смала́ да кала́.** *Гродз. Няўхв.* Цыхун, 194. Тое ж.

**чапля́цца** *да каго* **як смала́ да кала́.** *Ашм.*, *Свісл. Няўхв.* Даніловіч, 250. Тое ж.

**чо́рны як смала́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нешта вельмі чорнае, бруднае. Federowski, 66.

завіха́цца як му́ха ў смалé. Гл. муха.

завя́знуць у сваі́м бага́цці як му́ха ў смалé. Гл. муха.

згі́нуць як му́ха ў смалé. Гл. муха.

**ісці́ як па смалé.** *Мін. Няўхв.* Пра цяжкую дарогу, павольны рух. ЛЦ, 32.

пама́лу (паво́льна) як му́ха на смалé. Гл. муха.

паўзці́ як му́ха па смалé. Гл. муха.

ру́хацца як му́ха па смале́. Гл. муха.
хадзі́ць як чорт па смале́. Гл. чорт.
улі́пнуць як му́ха ў смалу́. Гл. муха.
уле́зці/зале́зці як му́ха ў смалу́. Гл. муха.
За́муж – як у мёд, з заму́жжа – як са смалы́. Гл. мёд.
прылі́пнуць як пчала́ да смалы́. Гл. пчала.
**прыста́ць як да смалы́.** *Зэльв. Незадав.* Пра дакучэнне частымі просьбамі, назойлівымі роспытамі. МК, 218.

***смалі́ца*** **смалі́цаю ле́зці ў во́чы.** *Зэльв. Няўхв.* Пра чалавека, што неадчэпна лезе, назаляе іншаму. Сцяцко, 1970, 148.

***смало́вы*** дзед як смало́вы корч. Гл. корч.

***смаля́к*** **чо́рны як смаля́к.** *Ашм. Няўхв.* Пра некага, нешта вельмі чорных. СПЗБ 4, 499.
сядзе́ць як кот у смаляка́х. Гл. кот.

***смаляны́*** сеў і прыкіпе́ў як к смаляно́й ла́ўцы. Гл. лаўка.
ва́ша малада́я як су́чка раба́я, а ваш малады́ як пень смаляны́. Гл. сучка.
заму́рзаны як смаляны́ чорт. Гл. чорт.
чупры́на скаўтуні́лася бы на́чэ ў смаляно́га чо́рта. Гл. чорт.

***смаля́р*** **прапа́хнуць як смаля́р дзёгцем.** *Карэл. Няўхв.* Пра нейкі характэрны пах ад каго-н. Высл., 368.

***смаржо́к*** **маршчы́ністы як смаржо́к.** *Слон.* Пра нейчы моцна маршчыністы твар. Высл., 345.

***смарка́ты*** **як з смарка́тым наясі́(-ся).** *Слон. Няўхв. Іран.* Пра цяжкасці дайсці з кім-н. да згоды. Даніловіч, 227.

***смаро́да*** **чо́рна як смаро́да.** *Раг.* Пра нешта выразна, бліскуча чорнае. ФСГ, 229.

***смаршчо́к*** **змо́ршчыцца як смаршчо́к.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра міміку, знешні выгляд чалавека. Federowski, 358.

***смерць*** **бе́лы як смерць.** *Ваўк. п.*, *Івац.*, *Чэрв.* Пра вельмі бледнага чалавека. Federowski, 30; ФА; ЗЗайкі.
**забы́цца як на смерць.** *Лаг.* Пра поўнае забыццё нечага, некага. Высл., 322.
**збяле́ць як смерць.** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра чалавека, што моцна збялеў з перапуду, з-за млосці ці чаго іншага. Federowski, 373; Высл., 326.
пайсці́ як бага́таму па смерць. Гл. багаты.
**пайсці́ як па смерць (што за сме́рцю).** *Ваўк. п.*, *Жлоб.*, *Нясв.*, *Мядз.*, *Нясв.*, *Ашм.* Пра доўгую адсутнасць каго-н. Federowski, 211; Янк., 419; Высл., 360; ФА; Даніловіч, 241.
**спалатне́лы як смерць.** *Спачув.* Пра моцна збялелага (як палатно) чалавека. Санько, 185.
**стра́шны як смерць.** *Навагр. п. Абразл.* Пра кагосьці вельмі непрыгожага, з непрыемным і агідным выразам твару. Federowski, 292.
**хадзі́ць як ко́ньска смерць па вы́гане.** *Зэльв. Няўхв.* Пра кагосьці, хто без справы, без сур'ёзнага занятку ходзіць, лазіць і пад. Даніловіч, 230.

**ходи́ть як на смерть осужденный.** *Смал. п. Спачув.* Пра панурага, паніклага чалавека. Добр., Смол., 543.
**ходи́ть як смерть жива́я.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека вельмі страшнага незвычайнага выгляду. Добр., Смол., 848.
хадзíць як стары воўк сме́рці шука́ючы. Гл. воўк.
**худы́ як смерць.** *Слон. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі худога (адны косці). Высл., 414.
**цягну́цца як казíная смерць.** *Вілен. п., Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які вельмі марудна ідзе. Federowski, 57; ЗЗайкі.
**<як> смерць казíная.** *Навагр. Насмешл.* Пра вельмі худога, змарнелага чалавека. Даніловіч, 250.
**бая́цца як сме́рці.** *Навагр. п.* Пра вельмі моцны, панічны страх. Federowski, 20.
шука́ць як воўк сме́рці. Гл. воўк.
**е́сці як пе́рад сме́рцю.** Пра вялікі апетыт, як апошні раз есці. Янк., Пар., 59.
**як са сме́рцю пацалава́ўся.** *Мёр. Насмешл.* Пра вельмі бледнага чалавека. ДА.

***сме́тнік*** грэбсцíся як ку́рыца (ку́ра) [на сме́тніку]. Гл. курыца.
пяя́ць як пе́вень на сме́тніку. Гл. певень.
разысцíся як пяту́х на сме́тніку. Гл. пятух.
спява́ць як ку́рыца на сме́тніку. Гл. курыца.
**цяпе́р уся́кага граху́ на све́це як на сме́тніку паску́днага сме́цця.** Нар. сентэнцыя. Нараканне на маральны стан грамадства. Jelski, 9.
як смяцю́х на сме́тніку. Гл. смяцюх.

***смех*** **як на смех [зрабíць].** *Івац., Мсцісл., Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які нешта зрабіў нястала, неадпаведна, нібы здзекуючыся з каго. Юрчанка 1977, 216; Высл., 429; ЗЗайкі.

***сме́цце*** **На све́це як на сме́цці: што хо́чаш, тое і зно́йдзеш.** *Светл. Прык.* Пра шматлікасць праяў жыцця. Гілевіч, 171.
**гро́шай як сме́цця.** *Ваўк. п., Стаўб., Слон., Дубр.* Пра вялікую колькасць грошай у каго-н. Federowski, 117; МК, 310; Янкоўскі 1971, 43; Высл., 308; Гілевіч, 166.
цяпе́р уся́кага граху́ на све́це як на сме́тніку паску́днага сме́цця. Гл. сметнік.
**як смяцця́.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра вялікую колькасць нечага. Юрчанка, 198.

***смоль*** **хма́ра бы смоль.** *Слуцк.* Пра цёмную дажджавую хмару. Сержпутоўскі 1998, 65.
**чо́рны як смоль.** Пра некага вельмі чорнага. Янк., 440.

***смоўж*** **паўзцí як смоўж.** *Міл. Няўхв.* Пра чалавека павольнага ці пра чалавека непрыемнага. Бялькевіч, 412; Санько, 71.
**прычапíцца як смоўж.** *Карэл. Няўхв.* Пра назойлівага, надакучлівага чалавека. Высл., 372.
**слíзкі як смоўж.** *Слон. Няўхв.* Пра нешта або некага слізкіх, непрыемных. Высл., 385.

**сядзе́ць як смоўж.** *Смал.* Пра некага непрыветнага, непрыемнага, сцішанага. Добр., Смол., 843.

**цягну́цца як смоўж.** *Міл.* Бялькевіч, 486. Тое ж.

***смуга́*** **ісці́ як смуга́.** *Шальч.* Пра вялікую колькасць людзей у паходзе. СПЗБ 4, 507. < Смуга – пена, ціна, туман; *перан.* хто схуднелы, знясілены.

***сму́галь*** **чо́рны як сму́галь.** *Маладз.* Пра мужчыну са смуглявым тварам. Гілевіч, 112.

***смучо́к*** **то́нкі як смучо́к.** *Жытк.* Пра танклявага, худога чалавека. ТС 5, 64.

***смык*** нае́ўса як бык, а кішка́ як смык. Гл. бык.

нае́ўся як бык, перагну́ўся як смык. Гл. бык.

нае́ўся як бык, перагну́ўся як смык, а гало́дны як саба́ка. Гл. бык.

**худы́ як смык.** *Мсцісл.*, *Гродз.* Пра вельмі худога чалавека. Юрчанка, 198; Сцяшковіч, 619.

***смярдзе́ць*** Госьць як і ры́ба: на трэ́ці дзень сьмярдзіць. Гл. рыба.

***смяро́тны*** стра́шны як смяро́тны грэх. Гл. грэх.

***смята́на*** потягну́ты як кота́ на смэта́ну. Гл. кот.

**бе́лы як смята́на.** *Слон., Івац.* Пра чалавека з сівой барадой ці проста вельмі бялявага. Высл., 286; ЗЗайкі.

**це́ла бе́ла бы смята́на.** *Драг.* Пра незагарэлага чалавека. Нар. лекс., 222.

адто́чаны як кот на смята́не. Гл. кот.

кача́цца бы (як) сыр у смята́не. Гл. сыр.

нае́сціся як до́бры кот, дабра́ўшыся да смята́ны. Гл. кот.

шчаслі́вы як той кот, што дабра́ўся да смята́ны. Гл. кот.

***смята́нка*** адто́чаны як кот на смята́нцы. Гл. кот.

***смяцю́х*** **капа́цца як смяцю́х на сме́тніку.** *Шчуч. Насмешл.* Пра нечыю старанную занятасць сваёй справай. Сцяшковіч, 619.

***снег*** **бе́лы як снег [за гра́дамі].** *Слон. п.* Пра нешта вельмі белае. Federowski, 30; Янкоўскі 1971, 12; МК, 34.

**бе́лы як снег на ку́зьні.** *Лаг. Іран.* Пра нешта чорнае, бруднае. Варлыга 1966, 18.

**бялю́хтынькій як сьнег.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нешта вельмі белае, чыстае. Нар. слов., 175.

**вялі́кі страх як ле́ташні снег.** *Іран.* Пра ніякі не страх. Ляцкий, 124.

**звалі́цца як снег на галаву́ ў са́мы сенако́с.** *Брэсц.* Пра чыёсьці нечаканае з’яўленне. ЛЦ, 106.

**звалі́цца як хало́дны снег на галаву́ ўле́тку.** *Рэч.* ЛЦ, 106. Тое ж.

**з’яві́цца як снег сяро́д ле́та.** *Навагр.* Даніловіч, 250. Тое ж.

**набы́цца як сакаві́цкі (марцо́вы) снег.** *Слон. Жарт.* Пра нядоўгі побыт, пастой, гасціны. Янк., 416; Высл., 349.

**патрэ́бны (так стра́шан) як ле́ташні (ло́нскі, тагро́чны) снег [на гра́дах].** *Івац.*, *Клім.*, *Шчуч.*, *Мсцісл. Іран.* Пра некага, нешта зусім без патрэбы. Бялькевіч, 436; З нар. сл., 45; Юрчанка 1977, 214; ЗЗайкі. < Лонскі – леташні.

**растáяць як снег.** *Івац.* Пра нейчае знікненне. Янк., Пар., 138; ЗЗайкі.

**так гэ́та мяне́ абхóдзіць (так дбáю) як лéташні снег.** *Іран.* Пра поўную абыякавасць да падзей. Высл., 396. < Абходзіць – цікавіць, непакоіць.

**бая́цца** *каго/чаго* **як лéташняга (прóшлага) снéга.** *Капатк., Светл.*, *Пух.*, *Мсцісл., Івац. Іран.* Пра адсутнасць страху наогул. Добр., Смол., 388; Высл., 285; Нос., 196; Янк., 396; Юрчанка, 174; ЗЗайкі.

**бедавáць як па лéташняму снéгу.** *Іўеў. Іран.* Пра непатрэбнасць бедаваць па чым-н. ФА.

**рáдасць як з такрóчнага снéгу.** *Ваўк. п. Іран.* Пра пустую радасць без бачнай прычыны. Federowski, 256.

**шкóда як лéташняга снéгу.** *Ваўк. п.*, *Івац. Іран.* Пра адсутнасць шкадавання. Federowski, 299; ЗЗайкі.

пятля́ць як зáяц на снéзе. Гл. заяц.

***снітка*** **як снíтка.** *Ваўк. п.* Пра страту сіл, пругкасці, моцнасці. Federowski, 208.

***сноп*** **дзяцéй як снапóў у пасáдзе.** *Жарт.* Пра шматлікасць дзяцей. Янк., 406. < Пасад – тут: снапы, пасцеленыя на таку для абмалота.

**людзéй што снапóў на вóсеці.** *Лаг.* Пра вялікі збор людзей у цесным памяшканні. ФА.

**біць як па снóпе бíчам.** *Карэл.* Пра чалавека, які моцна кагосьці біў ці яго моцна білі. Высл., 286.

**бразнуцца як сноп на ток.** Пра чалавека, які зваліўся без сіл і без руху. *Янк.*, Пар., 18.

**вы́каціцца як сноп.** *Ваўк. п.* Federowski, 343. Тое ж.

**кулём лéгчы абы снэп.** *Івац.* Нар. слов., 77. Тое ж.

**кульну́цца як сноп.** Янк., 412. Тое ж.

**лупíць** *каго* **як сноп.** *Мсцісл.* Пра моцна пабітага чалавека. Юрчанка, 174.

**пакацíцца (паваліцца) як сноп.** *Ваўк. п.*, *Глуск.*, *Івац.*, *Слуцк.* Pietkiewicz, 361; Янк., Дыял., III, 164; Сержпутоўскі 1999, 82; ЗЗайкі. Тое, што бразнуцца як сноп на ток.

**спаць як сноп гнілы.** *Капыл. Няўхв.* Пра чалавека, што моцна спіць не варушачыся. ДА.

**упáсці як сноп.** *Слон.* Высл., 406. Тое, што бразнуцца як сноп на ток.

**як сноп.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра тоўстага непаваротлівага чалавека. Юрчанка, 174.

***Сож*** **мóкры як Сож пераплы́ўшы.** *Мсцісл.* Пра вельмі вымаклага чалавека. Юрчанка, 198.

***сóйка*** **збірáцца як сóйка за мóра.** *Ваўк.*, *Гродз.*, *Іўеў. Няўхв.* Пра чалавека, які марудна збіраецца і ніяк не збярэцца. Сцяшковіч, 617; Даніловіч, 250.

**збіра́цца як со́йка ў вы́рай.** *Лід., Шчуч. Няўхв.* Сцяшковіч, 617; Даніловіч, 251. Тое ж.

**хадзі́ць (пайсці́) як со́йка за мо́ра.** *Воран., Лід. Няўхв.* Пра чалавека, які невядома дзе валочыцца. Даніловіч, 250.

***сок*** **пачырване́ць як вішнёвы сок.** *Насмешл.* Пра чалавека, які моцна засаромеўся і пачырванеў. НН, 305.

**як со́кам налі́ты.** *Мсцісл. Ухв.* Пра некага здаровага, маладога. Юрчанка, 198.

***со́кал*** **Жо́нка як со́кал, мужы́к як дзья́вал, тады́ до́брая па́ра.** *Пол. Прык.* Пра розныя ролі сужонкаў у іх саюзе. АВНЛ.

**Чужы́ пра́знік як со́кал ляці́ць, а свой як гара́ ва́ліць.** *Прык.* Пра неаднназначнае стаўленне, успрыняцце аднолькавых з'яў. Аксамітаў, 142.

**Як пазыча́ць, то во́чы як у со́кала, а як аддава́ць, то як у савы́.** *Прык. Жарт.* Пра тое, што лёгка пазычаць, а неахвотна аддаваць. Янкоўскі, 232; Dybowski, 10; Federowski, 226; Добровольский III, 30.

***со́лад*** папа́сці як су́чка ў со́лад. Гл. сучка.

***Со́лтан*** **зарабі́ць як Со́лтан на гуся́х.** *Іран.* Пра адсутнасць заробку, няўдалае прадпрыемства. БПФС, 75.

***соль*** дурны́ як са́ла без со́лі. Гл. сала.

**на́чай со́лі мне хто ў во́чы насы́паў.** *Лоеў. Няўхв.* 1. Пра калючыя, балючыя словы, якія раняць, моцна ўражваюць. 2. Пра хваравіты стан вачэй. Янкова, 213.

**на́да як со́лі ў во́чы.** *Іран.* Пра тое, што непатрэбна, шкодна. Ройзензон, 78; Санько, 70.

**трэ́ба як со́лі да селядца́.** *Іран.* Пра нешта зусім лішняе, непатрэбнае. Янк., 434; Санько, 70.

чалаве́к без дру́га што яда́ без со́лі. Гл. яда.

чалаве́к без рабо́ты як яда́ без со́лі. Гл. яда.

круці́цца як ую́н, со́ллю пасы́паны. Гл. уюн.

**рвану́ць бы́ццам** *каму хто* **со́ллю пад хвост сыпану́ў.** *Мін. Насмешл.* Пра раптоўныя хуткія ўцёкі некага. ЛЦ, 74.

**до́бры як соль на ра́не.** *Дзятл. Іран.* Пра нешта зусім неадпаведнае, нядобрае. Арх. Гр.

**Жарт як соль: салі́ ды не перасо́львай.** *Ушацк. Прык.* Пра неабходнасць асцярожна карыстацца вострым, дасціпным жартам, словам. ЛЦ, 105.

зарабі́ць як ку́рыцы на соль. Гл. курыца.

неразлу́чныя як хлеб і соль. Гл. хлеб.

так любі́ць як во́чы соль. Гл. вочы.

**прапа́сти як соль на ваде́.** *Смал. Няўхв.* Пра бясследнае знікненне чаго-н. Добровольский III, 117.

**пра́ўда як соль у во́чы.** Пра едкасць, калючасць праўды для каго-н. Нос., 136.

**сло́ва як соль.** Пра вострае, балючае слова. Янк., Пар., 151.

***сом*** **паўзці́ як самы́ з палява́ння.** *Рэч. Жарт.* Пра павольную, стомленую хаду кагосьці. ЛЦ, 97.

***сон*** **ба́чыць як у сне.** *Слон.* Пра нейкі невыразны вобраз, успамін. Высл., 284.

**жыць як у сне.** Пра чалавека, захопленага калейдаскопам спраў, уражанняў, падзей, калі няма мажлівасці задумацца, асэнсаваць усё. МК, 315; Санько, 71.

**не́йкі вя́лы як со сну.** *Зэльв.* Пра чалавека, які знаходзіцца ў неактыўным стане. Сцяцко 1970, 149.

**мілы як сон.** *Ухв.* 1. Пра нешта вельмі прыемнае. 2. Пра чалавека, які ўяўляецца вельмі мілым. Янк., Пар., 104.

**сало́дкі як сон.** *Карэл. Ухв.* Пра нешта прыемнае, салодкае, неабходнае. Высл., 380.

**чуць як скрозь сон.** *Мсцісл.* Ледзь-ледзь чуць, амаль не ўсведамляць. Юрчанка 1977, 218.

**як праз сон.** *Стаўб.* Пра няясна ўяўленае, успомненае. МК, 317; Санько, 71.

***со́нейка*** **дарагі́ як со́нейка я́снае.** *Памянш. Ухв.* Пра вельмі дарагога чалавека. Янк., 404.

**непастая́нны як асе́нняе со́нейка (надво́р'е).** *Памянш. Мін. Жарт.* Пра нясталага чалавека, які то з'явіцца, то знікне. ЛЦ, 47.

**рум'я́ны ек со́нейко раненько.** *Памянш. Жытк. Ухв.* Пра румянае дзіцятка. ТС 4, 336.

**Шча́сце як со́нейка: усміхне́цца і схава́ецца.** *Памянш. Гом. Прык.* Пра нясталасць шчасця. АВНЛ.

**як зімо́вае со́нейка.** *Памянш. Маст., Свісл. Жарт.* Пра чалавека, які рэдка дае сябе ўбачыць. Даніловіч, 226.

**я́сны як [я́снае] со́нейка.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Пра некага светлага, прыветнага, мілага. Federowski, 125; Янк., 447.

***со́нечнік**, гл. таксама* ***сланечнік*** **зогну́цца ек соношнік на горо́дзі.** *Жытк. Няўхв.* Пра сагнутага, згорбленага чалавека. ТС 5, 73.

***со́нечны*** як на со́нешных ва́ннах. Гл. ванна.

***со́нны*** **рабо́та як у со́ннага.** *Міл. Няўхв.* Пра чалавека, які за работу бярэцца вяла, неахвотна. Бялькевіч, 169.

**ісці́ нібы́ со́нны.** *Лаг., Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які ідзе марудна, нібы не бачачы дарогі. Высл., 331.

паўзці́ як со́нная му́ха. Гл. муха.

со́вацца як со́нная му́ха. Гл. муха.

***со́нца /слонца/ слонка*** **я́сны як [я́снае] сло́нка.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта, некага вельмі светлых, ясных. Federowski, 125; Янк., 447.

**бе́лая як сло́нца.** *Стаўб. Ухв.* Відаць, пра прывабную дзяўчыну. МК, 66.

без гаспады́нькі ха́та што дзень без со́нца. Гл. дзень.

**вы́гнаць як со́нца пчо́лак.** *Ухв.* Пра нейкія абставіны, якія прымусілі людзей выйсці на вуліцу. Янк., Пар., 29.

дзіця́ да ма́ці як кра́ска да со́нца. Гл. краска.
дзіця́ ця́гнецца да ма́ці як сланéчнік да со́нца. Гл. сланечнік.
**Жада́ная пра́ца як узыхо́д со́нца.** *Гродз. Прык.* Пра стымулюючае ўздзеянне любімай працы на чалавека. Цыхун, 182.
**ззяць як со́нца.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нешта вельмі прывабнае, бліскучае. Бялькевіч, 213.
**зло́сны як со́нца ў завіру́ху.** *Няўхв.* Пра чалавека са зменлівым, халодным характарам. Янк., Пар., 75.
**зерно́ (пшені́ца) як со́нце.** *Смал. п.*, *Ухв.* Пра буйное, даспелае, высокай якасці зерне. Добр., Смол., 283, 757.
**Пра́ўда – як со́нца: дало́нню не закры́еш.** *Мін. Прык.* Пра ўсемагутнасць праўды. ЛЦ, 45.
**Пра́ўда я́сная як со́нца.** *Чэрык. Прык. Ухв.* Пра чыстую, незамутнёную праўду. ЛЦ, 45.
**Удаўцо́ва і ўдаві́нае сэ́рца як зімо́вае со́нца, а малайцо́ва і дзяво́цкае як ле́тняе со́нца.** *Прык.* Пра перавагу першых пачуццяў над пазнейшымі. Federowski, 318.
**Удаўцо́ва сэ́рца як маёвае со́нца.** *Прык.* Чалавек, многа перажыўшы, больш стрыманы ў пачуццях. Аксамітаў, 263.
**чака́ць як со́нца з-за хма́ры.** *Пруж.* Пра моцнае чаканне некага жаданага. ФА.
**як со́нца дзяўчы́на.** *Капыл. Ухв.* Пра прыгожую дзяўчыну. ДА.
рад як дзень (свет) со́нцу. Гл. дзень.
змо́ршчыцца як грыб на со́нцы. Гл. грыб.
жму́рыцца як кот на со́нцы. Гл. кот.
прыгрэ́цца як кот на со́нцы. Гл. кот.

***со́пуха*** **чо́рна як со́пуха.** *Смал. п.*, *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Саліг.*, *Зэльв.*, *Слон.*, *Жытк. Няўхв.* Пра нешта (тканіну, вопратку), моцна забруджанае – да чарнаты. Добр., Смол., 69; Federowski, 66; Сержпутоўскі 1999, 13; Высл., 419; Жыв. сл., 159; СПЗБ 4, 522; Сцяцко 1970, 149; ТС 5, 75. < Сопуха – сажа.

***Со́ра*** **збіра́цца як Со́ра за мо́ра.** *Астр. Няўхв.* Пра марудныя бесталковыя зборы кагосьці. Даніловіч, 251.
**цягну́цца як Со́ра за мо́ра.** *Ашм. Няўхв.* Пра павольную, нага за нагу хаду. Даніловіч, 251.

***со́сна***, *гл.* ***сасна***

***соя*** **збіра́цца як со́я за мо́ра.** *Лельч. Няўхв.* Пра павольнае, маруднае збіранне куды-н. Гор., Руд., 255.

***спаві́ты*** **спаць як спаві́ты.** *Астр.*, *Навагр. Ухв.* Пра спакойны моцны сон – бы немаўля. Даніловіч, 251.

***спайма́ць*** хадзі́ць як ваўка́ спайма́ўшы. Гл. воўк.

***спалі́ць*** жа́ру хоць ве́дзьму спалі́. Гл. ведзьма.
як перуно́м спалі́ла. Гл. пярун.
ху́тка як мала́нкаю спалі́ў. Гл. маланка.
зрабі́ць як перынку́ спалі́ць. Гл. пярынка.
схлусі́ць як пяры́нку спалі́ць. Гл. пярынка.
так лёгка (ху́тка) як пяро́ спалі́ць. Гл. пяро.

***Спас*** злóсныя (куслíвыя) як тыя мýхі пéрад Спáсам. Гл. муха.
**сядзéць як Спас.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які бяздзейна сядзіць у поўным дастатку. Federowski, 287. < Спас – выява Збавіцеля на абразе.

***Спáсаўка*** злóсныя (куслíвыя) як тыя мýхі ў Спáсаўку. Гл. муха.
лéзці ў вóчы як мýха ў Спáсаўку. Гл. муха.
заробы́тыся як свынняя́ в Спáсовку. Гл. свіння.

***спáсаўскі*** злóсны як спáсаўская мýха. Гл. муха.

***спасці́*** як гарá з плеч спáла (звалíлася). Гл. гара.
як з хмáры (тýчы) [на нас] спáла. Гл. хмара.
бы́ццам кáмень з сэ́рца спаў. Гл. камень.
як з нéба спаў. Гл. неба.

***спаць*** **гавары́ць як спаць.** *Ушацк. Няўхв.* Пра чалавека, які павольна, вяла мармыча. Барадулін, 106.
прывы́кнуць як унóчы спаць. Гл. уночы.
рóбіць як п'я́ны з жóнкай сьпіць. Гл. п'яны.

***спéкчы*** як на пáльцы спéкчы. Гл. палец.
уздыхáць як астáтнё спёкшы. Гл. астатняе.

***спéлы*** накíнуцца як вераб'í на спéлыя канóплі. Гл. верабей.

***спéраду*** **хóчацца як спéраду танцавáць.** *Слон. Іран.* Пра тое, чаго не хацелася б рабіць. Высл., 431.

***спéчаны*** **тóўсты ек іспéчаны.** *Жытк. Жарт.* Пра некага тоўстага, рыхлага. ТС 5, 148.

***спíсаны*** éсці як спíсаны конь. Гл. конь.

***спíчка*** **зрáзу ўзя́цца як спíчка.** *Мсцісл.* 1. Пра тое, што хутка і адразу разгараецца. 2. *Мсцісл.* Пра чалавека, які хутка загараецца справай, уключаецца ў работу. Юрчанка 1969, 219.

***сплéсці*** *каму* як лáпці плясці́ (лáпаць сплéсці). Гл. лапаць.
не лáпці сплéсці. Гл. лапаць.

***сплючы́*** **ажанíцца як сплючы́.** *Слуцк. Няўхв.* Пра хуткую безразважную жаніцьбу. ДА.

***спóведзь*** расказáць як папý на спóведзі. Гл. поп.
**говоры́ті прáвду як на спóвэді.** *Слон.* Пра шчырае, дакладнае расказванне праўды. СПЗБ 4, 541; Высл., 300.

***спóдні*** скры́тны як спóдні жóрнаў кáмень. Гл. камень.

***спружы́на*** **як на спружы́нах.** Пра вельмі рухомага, няўрымслівага чалавека. БПФС, 179.

***спрэ́гчыся*** пажанíліся што маладды́ і стары́ конь спрэ́гліся. Гл. конь.

***спрэ́жаны*** **як спрэ́жаныя.** *Гродз.*, *Слон.* Пра вельмі дружных, неразлучных таварышаў. Даніловіч, 251.

***спýтаны*** **стоя́ты бы спýтаны.** *Бяроз. Няўхв.* Пра чалавека, які стаіць на месцы, не праяўляючы актыўнасці. АВНЛ; Санько, 69.
шпáрка як на спýтаным канí. Гл. конь.
**ходы́ты як спýтаныя.** *Бяроз. Насмешл.* Пра неразлучных асобаў. ДА.

***спýшчаны*** як сабáка з цэ́пу спýшчаны паляцéць. Гл. сабака.

***спява́ць*** **Гаво́рыць як спява́е, а за па́зухай ка́мень трыма́е.** *Мін. Прык.* Пра неадпаведнасць слоў і намераў кагосьці. ЛЦ, 50.

***спячы́ся*** нажыла́ся як у пе́кле спякла́ся. Гл. пекла.

***ср...ка*** адзі́н брэ́ша як саба́ка, а другі́ маўчы́ць як ср...ка. Гл. сабака.

**маўча́ць як ср...ка.** *Ушацк. Здзекл. Вульг.* Пра маўклівага, пра таго, каму няма чаго сказаць. Барадулін, 121.

**падружы́цца як ср...ка з вехцем.** *Вілен. Вульг. Здзекл.* Пра нейкую непаважаную дружбу. Sielicki, 160.

**прывы́кнуць як ср...ка к бізуну́.** *Рэч. Вульг. Насмешл.* Пра кагосьці, хто прывык да прымусу. Pietkiewicz, 388.

**Кра́сен-чы́рван як са ср...кі вы́рван.** *Ушацк. Прык. Вульг. Насмешл.* Пра знешні выгляд кагосьці. Барадулін, 118.

**чырваны! – як із ср...кі вырваны (жартаўлівы адказ).** *Няўхв. Вульг. Пагардл.* Пра чалавека з непрыемна чырвоным тварам. Federowski, 421.

адгла́дзіць як до́брай ба́бы ср...ку. Гл. баба.

**ні сьле́ду, ні зна́ку – пабе́г як у ср...ку.** *Ушацк. Вульг. Насмешл.* Пра знікненне без следу некага нешанаванага. Барадулін, 115.

**ня слу́хай сма́ку – пхай як у ср...ку.** *Ушацк. Вульг. Жарт.* Заахвочванне есці, не прыслухоўваючыся да смаку. Барадулін, 120.

уцяка́ць як бы хто ўваткну́ў пяро́ ў ср...ку. Гл. пяро.

уле́зці як шы́ла ў ср...ку. Гл. шыла.

**патрэ́бен як у ср...цы валасы́.** *Ушацк. Вульг. Іран. Здзекл.* Пра зусім непатрэбнае. Барадулін, 121.

**патрэ́бны як у ср...цы дзве́рцы.** *Гом. Вульг. Здзекл. Іран.* Пра нешта, некага, зусім непатрэбных. АВНЛ.

трэ́ба як скула́ на ср...цы. Гл. скула.

***ср...ць*** рабі́ць як гало́дны с...ра. Гл. галодны.

вы́тарашчыцца як жа́ба ср...чы́. Гл. жаба.

збіра́цца як гало́дны ср...ць. Гл. галодны.

по́ле як staро́й ба́бе се́сці ср...ць. Гл. баба.

прыбіра́цца як гало́дны ср...ць. Гл. галодны.

**уто́ркнуцца як ср...ць у крапі́ву.** *Ушацк. Вульг. Здзекл.* Пра чалавека, які няпрошана ўмешваецца, за што атрымлівае непрыемнасці. Барадулін, 119.

***ср...чка*** чужы́ чалаве́к у ха́тцы, дык як ску́ла на ср...чцы. Гл. скула.

***ссаць*** мурза́ты, бы́ццам свінню́ ссаў. Гл. свіння.

як свінню́ сса́ўшы. Гл. свіння.

***ссу́нуцца*** як *што* з плеч ссу́нулася. Гл. плечы.

як ка́мень з грудзе́й ссу́нуўся. Гл. камень.

***стаго́дні*** чыкільда́ць як стаго́дні дзед. Гл. дзед.

***ста́да*** адбі́ць як аве́чку ад ста́да. Гл. авечка.

***стадо́ла*** **ха́та як стадо́ла (стадоля).** *Сміл., Івац. Няўхв.* Пра вялікую і пуставатую хату. Шатэрнік, 264; Станкевіч, 1072; ЗЗайкі.

***стае́нны*** як конь стае́нны. Гл. конь.

***ста́йня*** **пара́дак як на ста́йні.** 1. *Ухв.* Пра дагледжанасць нейкай будыніны. 2. *Насмешл.* Пра вялікі непарадак у хаце, пакоі. Янк., Пар., 125.

***сталь*** **цвёрды як сталь.** *Ухв.* 1. Пра нейкі вельмі цвёрды матэрыял. 2. Пра чалавека з цвёрдым характарам. Янк., 437.

***стаме́ска*** трэ́ба як петуху́ (ку́рыцы) стаме́ска. Гл. пятух.

***стапта́ны*** дурны́ як стапта́ны бот. Гл. бот.

трэ́ба як стапта́ны ла́паць на гарэ. Гл. лапаць.

***стапта́ць*** жы́тку ек у лапця́х стопта́ў. Гл. лапаць.

***стараве́р*** **зарасці як старавер́.** *Няўхв.* Пра нястрыжанага, няголенага чалавека. Янк., Пар., 68. < Стараверы па звычаі не галілі бараду.

***старадрэ́віна*** **жыць як старадрэ́віна.** *Ухв.* Пра чалавека, які моцна трымаецца за жыццё. Янк., 407.

***старана́*** чэ́сны як Бэ́ркавы штаны́ на ле́ву сто́рану. Гл. штаны.

***ста́рац*** **абарва́ны (абнасі́цца) як [той] ста́рац.** *Сміл.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра бедна апранутага, неахайнага чалавека. Шатэрнік, 3; Юрчанка 1969, 31.

**бо́ўтаць языко́м як ста́рац пу́гаю.** *Ганц. Няўхв.* Пра чалавека, што без толку шмат гаворыць. ДА.

**брадзі́ць па ха́тах як ста́рац на Вялі́кдзень.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, што любіць хадзіць на бяседы, пасядзелкі. Высл., 288.

**з то́рбаю як ста́рац.** *Няўхв.* Пра некага бедна апранутага, непрыгляднага. Янк., Пар., 66.

**не хо́ча як ста́рац саракo̍ўкі.** *Іран.* Пра чалавека, які нечага вельмі хоча, хоць і не паказвае гэтага. Янк., 417. < Саракоўка – дзве грыўні дваццаць капеек; таксама даўняя мерка гарэлкі: адна саракавая частка вядра.

**паро́цца як ста́рац у то́рбе.** *Лаг. Няўхв.* Пра чалавека, што доўга, марудна, безвынікова поркаецца з нейкай работай. Varłyha, 90.

**спыні́цца як ста́рац на ро́станьках.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, які раздумвае, праяўляе нерашучасць. ЛЦ, 122.

**трыма́цца (дзяржа́цца; прыста́ць) як ста́рац за плот (пло́ту, каля́ пло́ту, да пло́ту).** *Ваўк. п.*, *Маз.*, *Петр.*, *Рэч.*, *Іўеў.*, *Стаўб.*, *Сміл.*, *Пух.*, *Лід.*, *Ганц. Няўхв.* Пра чалавека, які сутаргава трымаецца звычнага, стандартнага, не шукаючы новых шляхоў, метадаў, новых поглядаў. Нос., 164; Ром., Бел., 294; Ляцкий, 10; Federowski, 95, 314; Сержпутоўскі 1999, 134; Янкоўскі 1971, 42; Высл., 401; Мін.-Мал., 1970, 171; Шатэрнік, 232, 233; Сцяшковіч, 618; ФА.

**хадзі́ць як ста́рац.** *Смал. п.*, *Крыч., Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, што не клапоціцца пра знешні выгляд. Добр., Смол., 569; Бялькевіч, 490; ТС 5, 96.

**очэпіць то́рбу ек ста́рэц.** *Стол. Няўхв.* Пра непрэзентабельны знешні выгляд кагосьці. ТС 5, 144.

**пэрыбэрэгла́ бы ста́рца то́рба до сэла́.** *Кобр.* Пра нешта, што дазволіла пратрымацца ў цяжкай сітуацыі. ФА.

**[рабіць]** *што* **как ста́рца за бараду́ тягни́ть.** *Смал. Іран.* Пра маруднае выкананне нейкай справы. Добровольский III, 57.

**такі́ хоро́шы ек у ста́рца кало́шы.** *Жытк. Насмешл. Іран.* Пра не вельмі прыгожага чалавека. ТС 5, 254.

**як у ста́рца кіёў** *чаго. Мсцісл. Іран.* Пра мноства нейкіх малаважных прадметаў у чалавека. Юрчанка, 174.

**працíўна як ста́рцу гры́ўна.** *Іран.* Кпіны з таго, хто прыкідваецца, быццам нешта вартаснае яму не даспадобы. Крэмнеў, № 939.

**жыць як ста́рцы сапры́наўскія.** *Няўхв.* Пра бедных людзей. Юрчанка 1969, 74. < Сапрынаўскія – ад назвы вёскі Сапрынаўка Мсціслаўскага р-на, жыхары якой раней жылі бедна, жабравалі.

**збіра́цца як ста́рцы на абе́д.** *Касц. Няўхв. Насмешл.* Пра людзей, якія марудна збіраюцца, павольна ідуць. ЛЦ, 38.

**пле́сціся як ста́рцы на фэст.** *Мін. Няўхв.* Пра нейчую павольную хаду. ЛЦ, 118.

пле́сціся як у свя́та ста́рцы на пабіра́нне. Гл. свята.

**пяя́ць як баркула́баўскія ста́рцы.** *Касц. Няўхв.* Пра непрыемны, нязладжаны спеў нейкіх людзей. ЛЦ, 26.

***старча́нка*** **оде́тса ек старча́нка.** *Жытк. Няўхв.* Пра неахайнае беднае адзенне, нібы ў жабрачкі. ТС 5, 95.

***старчо́ўка*** **абшмы́ндацца як старчо́ўка.** *Смал. п. Няўхв.* Пра жанчыну, што абнасілася, ходзіць у парванай вопратцы, як жабрачка. Добр., Смол., 516. < Старчоўка – жабрачка.

***ста́рчыха*** **валачы́цца як та́я ста́рчыха.** *Сміл., Леп. Няўхв.* Пра марудны бязладны рух. Шатэрнік, 265; ЗВалодзінай.

**хадзíць як галее́ўская ста́рчыха.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра жанчыну, што ходзіць ціха, павольна, непрыкметна. Юрчанка, 181.

**цяга́цца як ста́рчыха яка́я.** *Капыл. Няўхв.* Пра жанчыну, што ходзіць па суседзях, дома нічога не робіць. ДА.

**раздры́паць як гале́іўскую ста́рчыху.** *Мсцісл.* Пра неахайную непрывабную жанчыну. Юрчанка 1998, 37. < Раздрыпаць – давесці да неахайнасці.

***стары́*** ныць бы ста́ра ба́ба. Гл. баба.

як у ста́рага вераб'я́ кале́на. Гл. верабей.

гу́бы разве́сіць як стара́я кабы́ла. Гл. кабыла.

ка́шляць як стара́я ба́ба. Гл. баба.

раскіра́чыцца як стара́я ба́ба. Гл. баба.

сварлíвы як стара́я ба́ба. Гл. баба.

як гарэ́лка стара́я, так і дзе́ўка малада́я. Гл. гарэлка.

валасы́ сівы́я як у старо́й ба́бы. Гл. баба.

жыць як старо́й аве́чцы. Гл. авечка.

пад'ясí ад сы́на хле́ба як ад старо́й ку́рыцы я́ек. Гл. курыца.

по́ле як старо́й ба́бе се́сці ср...ць. Гл. баба.

прывяза́цца як чорт да старо́й ігру́шы. Гл. чорт.

сядзе́ць наве́рсе як зуб у старо́й ба́бы. Гл. зуб.

угадзíць [каму́] трудне́й як кату́ старо́й пане́нкі. Гл. кот.

як старо́й ба́бе се́сці. Гл. баба.

ліпе́ць як тое гніло́е да старо́е дзе́рава. Гл. дзерава.

**крыча́ць як на старо́га.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, што моцна крычыць на кагосьці. ЛЦ, 83. < У архаічным грамадстве нямоглага старога крыўдзілі, яго не шанавалі.
**сма́чна як старо́му малада́я жо́нка.** *Насмешл.* Пра чалавека, якому нешта вельмі да густу. Фед. Арх.
трэ́ба як старо́му каню́ ма́ці. Гл. конь.
бараба́ніць як стары́ бараба́н. Гл. барабан.
**бурча́ць як стары́.** *Ушацк. Няўхв.* Пра маладога чалавека, які мае благі настрой, незадаволена некага папракае, ушчувае. МК, 172.
**гаво́рыць як стары.** *Івац.* Пра дзіця, падлетка, які разважае па-даросламу. ЗЗайкі.
зако́пчаны як ста́ры гаршчо́к. Гл. гаршчок.
**змо́ршчыцца як стары́.** *Сміл. Няўхв.* Пра выраз твару маладога чалавека, які залішне моршчыцца. Шатэрнік, 118.
крэкта́ць як стары́ дзяду́лька. Гл. дзядулька.
маўча́ць як ста́ры казёл. Гл. казёл.
памага́ць як стары конь ма́церы. Гл. конь.
патрэ́бны як стары конь во́ўку. Гл. конь.
пле́сці як ста́ры дзед кашалі́.
разбалбата́цца як стары́ цецяру́к. Гл. цецярук.
разле́злы як стары́ грыб. Гл. грыб.
разбурчэ́цца як ста́ры кот. Гл. кот.
раскі́снуць як ста́ры грыб. Гл. грыб.
спыні́цца як стары конь пе́рад кана́вай. Гл. конь.
танцава́ць як ста́ры воўк у пілі́паўку. Гл. воўк.
уздыха́ць як ста́ры конь пе́рад пусты́м цэ́брам. Гл. конь.
**чо́ўкаць як ста́ры.** *Гродз. Няўхв.* Пра чалавека, што гучна жуе, чмякае, чоўкае. Цыхун, 163.
**як ста́ры.** *Ваўк. п.*, *Слон. Івац.* Пра дзіця, якое разважае не падзіцячаму, цікавіцца клопатамі дарослых. Federowski, 359; Высл., 431; ЗЗайкі.
як стары воўк сме́рці шука́ючы. Гл. воўк.
як стары́ маслю́к. Гл. маслюк.
цвісці́ як стары́ мухамо́р. Гл. мухамор.
дра́цца як стары́я га́ці. Гл. гаці.
як стары́я рэ́згіны. Гл. рэзгіны.
**хі́трыя як стары́я.** *Слон. п. Ухв.* Пра хітрых разважлівых дзяцей, падлеткаў. Federowski, 52.

***старэ́нькі*** **шанава́ць як старэ́нькага.** *Памянш..* Пра чалавека, якога трэба моцна шанаваць. Янк., Пар., 195.

***старэ́цкі*** распусці́цца як старэ́цкая пу́га. Гл. пуга.

***старэ́чы*** цягну́цца бы старэ́чая пу́га. Гл. пуга.

***ста́туй*** **стая́ць як ста́туй.** *Паст. Няўхв. Зласл.* Пра чалавека, які лянуецца рабіць, нерухома стаіць, глядзіць, як іншыя працуюць. СПЗБ 4, 578.

***стаўбе́нь*** **як стаўбе́нь.** *Няўхв.* Пра чалавека, што не працуе, стаіць нерухома як стоўб ці стаўбун (збан). Санько, 69.

***стаўбу́н*** **стая́ць як стаўбу́н.** *Дзятл.* СПЗБ 4, 579. Тое ж.

***стая́ць*** **астáцца як стой.** *Івац., Круп., Астр., Зэльв.* Пра чалавека, які застаўся толькі з тым, што было на ім апранута. Высл., 282; Ззайкі; Даніловіч 2010, 91.

**го́лы як стой.** 1. *Маст., Астр.* Пра чалавека, залішне лёгка, не цёпла апранутага. 2. *Зэльв., Воран., Навагр. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі беднага. Сцяшковіч, 584; Даніловіч, 253.

***стая́чы*** ціхмáны як стая́чая вадá. Гл. вада.

ціхі як [стая́чая] вадá. Гл. вада.

***сто*** **дурны́ як сто свінне́й.** *Смаляв. Здзекл.* Пра зусім неразумнага чалавека. ФА.

**спадзявáцца** *на каго* **як на сто тузо́ў.** *Мсцісл.* Пра цвёрдыя спадзяванні на каго-н. Юрчанка, 192.

**трымáцца** *за каго* **як за сто тузо́ў.** *Мсцісл. Ухв.* Пра чалавека, які трымаецца моцна, цвёрда спадзяецца на кагосьці. Юрчанка, 184.

**як на сто ко́ней сеў.** *Ухв.* Пра чалавека, якому моцна пашанцавала. Санько, 211.

**як сто баб адхадзíла** *каго. Навагр., Слуцк.* 1. Пра стан здароўя, самаадчуванне, калі значна палегчала. 2. Пра адступанне злосці, непрыязнасці. Даніловіч, 253.

**як сто дурны́х.** *Свісл., Ваўк. Іран.-абразл.* Пра зусім неразумнага чалавека. Даніловіч, 253.

**як сто пудо́ў ды́му.** *Смарг. Здзекл.* Даніловіч, 253. Тое ж.

**як сто пудо́ў звалíлася** *з каго. Ашм. Ухв.* Чалавек пра сябе, адчуўшы вялікую палёгку, вызваліўшыся ад цяжкіх думак, клопатаў. Даніловіч, 253.

***стог*** як казá паміж двух стаго́ў: не ве́дае, да като́рага (куды́) і кінуцца. Гл. каза.

**галавá як стог.** *Смал. п. Няўхв.* Пра непрычасанага чалавека. Добр., 63.

**загарэ́цца (зая́цца) як стог сало́мы.** *Навагр.* Пра чалавека, які вельмі хутка, раптоўна нечым загарэўся (ідэяй, работай). ЛЦ, 63.

распаўзлíся як мы́шы, стог з'е́ўшы. Гл. мыш.

***сто́йла*** драмáць як каро́вы на сто́йле. Гл. карова.

***стол*** **даро́га як па сталé.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра надта роўную добрую дарогу. Federowski, 76.

**су́ха як на сталé.** Пра сухую дарогу, перасохлую зямлю. Янк., Пар., 158.

**ро́ўны як стол.** *Ухв.* Пра вельмі роўны ўчастак дарогі, поля, луга і да т. п. НН, 441.

як з саня́мі за стол. Гл. сані.

***сто́ля*** такá до́ля як у не́бе сто́ля. Гл. неба.

До́ля, до́ля як у не́бі сто́ля. Нема ў небі столі. Нема ў мене долі. Гл. неба.

***стоп-сігнáл*** патрэ́бен як зáйцу стоп-сігнáл. Гл. заяц.

***стоўб*** **гудзе́ць як целегра́фный стоўб.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра бурклівага чалавека. Юрчанка, 202.

**як да стаўба́** *каму. Бераст. Асудж.* Пра чалавека, да якога не даходзіць што-н. Даніловіч, 219.

**высо́кі як стоўб.** *Брасл. Няўхв.* Пра высокага чалавека. СПЗБ 4, 591.

**стая́ць як стоўб пры даро́зе.** *Міл.*, *Гродз.*, *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, што нерухома стаіць, нічога не робіць. Бялькевіч, 150; Даніловіч, 253.

**дурны́ як стоўб.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра тупога, няўцямнага чалавека. Federowski, 86.

***стра́ва*** патрэ́бен як му́ха ў стра́ве. Гл. муха.

***страказа́*** **скака́ць як страказа́.** *Іўеў.*, *Чэрык. Кплів.* Пра кагосьці, што лоўка, весела падскоквае, часцей пра дзіця. Бялькевіч, 421; Сцяшковіч, 474.

***страла́*** **даро́га як страла́.** *Ухв.* Пра роўную, простую, без паваротаў дарогу. Янк., Пар., 51.

**ляце́ць як страла́.** *Ваўк. п.*, *Сміл.*, *Мсцісл.*, *Пух. Ухв.* Пра нейчы імклівы бег. Federowski, 160; Шатэрнік, 266; Янк., 421; Юрчанка, 198; Станкевіч, 1080.

паляце́ць як з лу́ка страла́. Гл. лук.

***стральба́*** **Варажба́ як стрильба́: куды́ палятить, туды́ и загрими́ть.** *Прык.* Пра варажбу і яе непрадказанасць. Добровольский III, 17.

***страля́ць*** **Мяня́ць як страля́ць.** *Прык.* Пра розныя наступствы абмену. Dybowski, 13.

**прамо́віць як стрэ́ліць.** 1. Пра дакладна сказанае слова, што выклікала пэўную рэакцыю. 2. Пра балючыя вострыя словы. Янк., Пар., 130.

***страпёны*** **бе́гчы як страпёны.** *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, які хутка, панічна, як непрытомны, бяжыць. Даніловіч, 254. < Страпёны – утрапёны.

***страха́*** з’е́хаць як саба́ка са страхі́. Гл. сабака.

шкадава́ць як ве́цер падра́ную стрэ́ху. Гл. вецер.

Любіліся, каха́ліся як галубкі ў стрэсе́, а ціпе́р разышлі́ся як я́гадкі ў ле́се. Гл. галубок.

любі́цца як ла́стаўкі ў стрэсе́. Гл. ластаўка.

Любіліся як пта́шкі ў стрэсе́, разышлі́ся як сце́жкі ў ле́се. Гл. пташка.

Мы любіліся як пту́шачкі ў стрэ́ся, а прышло́ся раста́ціся як я́гадца ў ле́ся. Гл. птушачка.

цягну́ць як вала́ на стрэ́ху. Гл. вол.

***стро́нга*** **асцяро́жна як стро́нга.** *Ухв.* Пра вельмі асцярожную, хітрую жанчыну. Янк., 396. < Стронга – фарэль.

**ху́ткі (шпа́ркі) як стро́нга.** *Ухв.* Пра хуткага, шпаркага чалавека. Янк., 437.

***стро́паны*** **як стро́паны.** Пра чалавека, што выглядае пабітым, стомленым. Санько, 69.

***струк*** **хло́пец як струк.** *Касц. Жарт.* Пра дужага танклявага хлопца. ЛЦ, 75.
**худэ́й як стру́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека (пэўна, мелася на ўвазе лапатка, а не поўны струк). Юрчанка 1977, 244.

***струме́нь*** **вада́ чы́ста як у струме́ні.** *Жытк. Ухв.* Пра чыстую ваду. ТС 1, 52.

***струна́*** **прамы́ як стру́на.** *Івац.* Пра нешта роўнае і прамое. ЗЗайкі.
**ро́ўны як струна́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра роўна, акуратна разагнаныя барозны. Юрчанка, 198.
**як струна́.** *Ухв.* Пра нешта роўнае, простае, пругкае. Янк., Пар., 51.
**нацягну́ць як струну́.** Пра моцную нацягненасць лейцаў, асновы палатна на кроснах. Янк., Пар., 112.

***стру́нка*** **адрэ́заць як пад стру́нку.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра нешта вельмі дакладна адрэзанае. Юрчанка, 193.
**як стру́нка.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра нешта роўнае. Юрчанка, 198.

***струп*** ле́зці як вош пад струп. Гл. вош.
сядзе́ць як вош пад стру́пам. Гл. вош.
спаўза́цца як вошы на стру́п'е. Гл. вош.

***стры́жаны*** дрыжа́ць як стры́жаная аўца́. Гл. аўца.
глядзе́ць як бара́н на стры́жаную аўцу́. Гл. баран.
**глядзе́ць як стры́жаный на го́ленага.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нейчы здзіўлены позірк. Юрчанка, 198.
задава́цца як го́леный пе́рад стры́жаным. Гл. голены.

***стрынгель*** **як стрынгель.** *Слон.* Пра высокага худога чалавека, каня і інш. Нар. слов., 39. < Стрынгель – высокі чалавек.

***стрэ́паны*** **леце́ць ек стрэ́паны.** *Жытк. Няўхв.* Пра хуткі, панічны бег чалавека ва ўзбуджаным стане. ТС 5, 110. < Стрэпаны – апантаны.

***сту́дзень*** **вя́лы як сту́дзень.** *Смал. п. Няўхв.* Пра нямоцнага, кволага чалавека. Добр., Смол., 886.

***сту́дня*** крыча́ць як бык у сту́дні. Гл. бык.
**хо́ладна як у сту́дні.** *Няўхв.* Пра няўтульнае, мала нагрэтае памяшканне. Янк., Пар., 184.
як бык у сту́дні. Гл. бык.
папа́сці як Му́рза ў сту́дню. Гл. Мурза.
разгуля́цца як су́чка ў сту́дні. Гл. сучка.

***стука́н*** **стая́ць як стука́н.** *Астр.* Пра кагосьці, што стаіць нерухома. ФА.

***сту́кнуты*** як пусты́м мяшко́м па галаве́ сту́кнуты. Гл. мяшок.

***сту́кнуць*** як па́лкай па галаве́ сту́кнуў. Гл. палка.

***стул*** **На пасули як на стули.** *Прык. Смал. п.* Пра ненадзейнае пачуванне кагосьці пры абяцанках, хабарах. Добровольский III, 59.

***сту́па*** **ба́ба як сту́па.** *Чыж., Астр. Няўхв.* Пра тоўстую жанчыну. СПЗБ 4, 614; Даніловіч 2008, 137.
**руха́вая як сту́па.** *Чэрык. Іран.* Пра зусім нерухавую жанчыну. ЛЦ, 74.
**то́ўстая як сту́па.** *Кругл., Мсцісл. Няўхв.* ФА; Юрчанка, 198. Тое, што баба як ступа.

**Век пражы́ць як у сту́пе пратаўчы́.** *Уздз., Лоеў., Лельч., Люб., Бярэз., Слуцк., Віл. Прык. Няўхв.* Пра цяжкое нецікавае жыццё. Мін.-Мал., 1970, 159; БФМ, 242; БФГ, 171; Янкова, 65; СПЗБ 4, 614; АВНЛ; ФА; БД, 146; Гілевіч 2007, 120.

**дзень прато́ўкся як таўка́ч у сту́пе.** *Рэч. Няўхв.* Пра змарнаваны дзень. ЛЦ, 29.

кідацца як тарака́н у сту́пе. Гл. таракан.

таўчы́ся як таба́к у сту́пе. Гл. табак.

насіцца ек ду́рэнь со сту́пою. Гл. дурань.

**ідэ́ да го́пае, бы сту́пу тоўчэ́.** *Драг. Няўхв.* Пра непрыгожую хаду кагосьці. Нар. слов., 142.

прыпе́рціся як сляпы́ да сту́пы. Гл. сляпы.

***ступі́ць*** як у бот ступіць. Гл. бот.

***суга́к*** **стаць як суга́к.** *Касц. Няўхв.* Пра чалавека, які стаў калючым, вострым, непрыемным. Бялькевіч, 425. < Сугак, сугака – касцяное або драўлянае шыла для пляцення лапцей.

***сугне́т*** **пасу́нуцца як сугне́т, не сказа́ўшы ні сло́ва.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які няветліва, нічога не кажучы, адыйшоў. Нар. лекс., 163.

***суд*** **е́хаць як на суд.** *Жарт.* Ехаць, адвярнуўшыся адзін ад аднаго. Янк., Пар., 58.

гавары́ць як за́шчыт у судзе́. Гл. зашчыт.

**пра́ўды** *дзе* **як у судзе́.** *Іран.* Пра адсутнасць дзе-н. праўды. Янк., 70.

***су́дзіна*** **таўсты́ як су́дзіна.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які нагадвае нейкі посуд (бочку?). Federowski, 312.

***судзі́цца*** **ісці́ як судзі́цца.** *Жарт.* Пра людзей, якія ідуць паасобку, нядружна. Янк., Пар., 81.

***сук*** **сказа́ць як у сук уляпі́ць.** *Карэл., Мін.* 1. *Ухв.* Пра нешта дакладна, трапна сказанае. 2. *Няўхв.* Пра нейчыя крыўдныя, балючыя словы. ФА; ЛЦ, 66.

**тра́піць як у сук тапаро́м.** *Мядз. Ухв.* АВНЛ. Тое ж.

як у сук уле́плена. Санько, 214. Тое ж.

***су́ка*** **браха́ць як су́ка.** *Вілен., Мёр. Асудж. Зняважл.* Пра жанчыну, якая сварыцца, брыдка гаворыць. Sielicki, 158; СПЗБ 5, 12.

**віжава́ць як су́ка на памы́ях.** *Свісл. Няўхв. Зневаж.* Пра чалавека, які нешта выведвае, вышуквае, інтрыгуе. СПЗБ 1, 309. < Віжаваць – шныраць, гойсаць.

**круці́цца як су́ка ў каро́бцы.** *Бераст. Асудж. Зневаж.* Пра чалавека, што трымаецца нястрымна, непаседліва, залішне актыўна. Даніловіч, 254.

**мало́ць языко́м як су́ка хвасто́м.** *Шчуч. Асудж.* Пра жанчыну, якая балбоча, лаецца. СПЗБ 3, 26.

**право́рна як су́ка дво́рна.** *Ваўк. п. Зласл. Зневаж.* Пра хітрую, вынаходлівую жанчыну. Federowski, 247.

**трапа́ць языко́м як су́ка хвасто́м.** *Шчуч. Асудж.* Пра жанчыну, якая сварыцца, брыдка гаворыць, маніць. СПЗБ 5, 116.

ру́кі як ку́кі, а язы́к як у су́кі. Гл. кука.

**Ні сту́ку, ні гру́ку, пове́злі ек су́ку.** *Стол.*, *Лід. Прык. Асудж.* Пра маладую, якая пайшла замуж без традыцыйнага вяселля. ТС 5, 111; СПЗБ 5, 197.

***суке́нка*** **як суке́нку хто пасла́ў.** *Ухв.* Пра прыгожую мясціну, усыпаную кветкамі, прыстроеную зелянінай. Тарас на Парнасе.

***сукно́*** **чо́рны як сукно́.** *Ваўк. п.* Пра цёмную ноч. Federowski, 66.

***суко́нны*** го́рла як суко́ннае бёрда. Гл. бёрда.

***суні́ца*** **дзяўчы́на як суні́ца.** *Захапл.* Пра маладую, румяную, прыгожую дзяўчыну. ФСБМ 1, 456.

***сурма́*** **надзьму́цца як сурма́.** *Сміл. Няўхв.* Пра некага капрызнага, надзьмутага («як дуда»). Шатэрнік, 268. < Сурма – від</br>аць, сурна або зурна, усходні духавы музычны інструмент тыпу флейты.

***усе́д*** **Го́лад не усе́д – ад яго́ не схава́ешся.** *Гом. Прык.* Пра тое, што голад усюды дастане чалавека. АВНЛ.

***су́сла*** **няве́стка не́кая як су́сла.** *Уздз. Няўхв.* Пра нязграбную дзяўчыну. Мін.-Мал., 1970, 131.

***сусо́л*** **заспа́ны як сусо́л.** *Чыж. Жарт.* Пра заспанага, соннага чалавека. СПЗБ 5, 22. < Сусол – суслік.

***су́ткі*** *да каго* як да ву́ткі на сёмыя су́ткі. Гл. вутка.

***суха́р*** **вы́петраць як суха́р.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека схуднелага, недагледжанага – высахшага. Юрчанка, 198.

**вы́сахнуць як суха́р.** *Вілен.*, *Віл. Няўхв.* Sielicki, 162; СПЗБ 5, 25. Тое ж.

***сухаро́к*** **як сухаро́к.** *Памянш. Мсцісл. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека. Юрчанка, 198.

***сухі́*** змо́ршчыцца як суха́я пя́тніца. Гл. пятніца.

з суда́ што з пруда́ – сухі́ не вы́йдзеш. Гл. пруд.

звалі́цца як дождж сяро́д я́снага дня на сухо́е се́на. Гл. дождж.

наляце́ць як дождж на сухо́е се́на. Гл. дождж.

павяза́ць як сухо́е се́на Гл. сена.

прыбра́ць як сухо́е се́на. Гл. сена.

ліпе́ць як арэ́х на сухо́й галі́не. Гл. арэх.

тлець як гарэ́х на сухо́й галі́не. Гл. арэх.

закаха́цца як чорт у суху́ю асі́ну. Гл. чорт.

як чорт суху́ю гру́шу: засу́ша, засу́ша, а тады́ і лю́біць. Гл. чорт.

***сухо́тнік*** **як сухо́тнік.** *Чыж. Спачув.* Пра чалавека, які дрэнна выглядае. СПЗБ 5, 27.

***су́чка*** **брахлі́вая ба́ба як су́чка.** *Асудж.* Пра злосную, языкатую кабету. Dybowski, 5.

**Ва́ша малада́я як су́чка раба́я, а ваш малады́, як пень смаляны́.** *Старадар. Фальк.* Лаянка сватоў, ганьбаванне супраціўнага боку. ФА.

**вышчара́цца як су́чка на пераво́зе.** *Асудж.* Пра жанчыну, якая агрызаецца, паказвае зубы. Dybowski, 20.

**дзяўгаць як су́чка.** *Іўеў. Асудж.* Пра жанчыну, якая лаецца, крычыць, выдумляе прычыны. СПЗБ 2, 71.

**круці́цца як су́чка бясхво́стая.** *Гродз. Асудж.* Пра дзяўчыну, жанчыну, якая непрыстойна, амаральна паводзіць сябе. Даніловіч, 254.
**круці́цца як су́чка на перавóзе.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое ж.
**крыча́ць як су́чка ў плот ушчамі́ўшыся.** *Астр. Няўхв.* Пра кагосьці, хто вельмі гучна, пранізліва, непрыемным для слыху голасам крычаць. Даніловіч, 254.
**мудрава́цца як су́чка пе́рад перавóзам.** *Іран.* Пра таго, хто чваніцца перад кімсьці. Нос., 80.
**набра́цца як су́чка блох.** *Івац., Нясв. Асудж. Здзекл.* Пра таго, хто моцна напіўся. ФА.
**нік! як су́чка ў збан – зірну́ць, каб падглéдзець.** *Лаг. Няўхв.* Пра залішне цікаўную асобу, якая ўсюды суе свой нос. Varłyha, 79.
**пазяха́ць як су́чка ў канóплях.** *Гом. Няўхв.* Пра чалавека, які нявыхавана сябе паводзіць. АВНЛ.
**папа́сці як су́чка ў сóлад.** *Насмешл.* Пра чалавека, які самахоць убіўся ў непрыемнасці. Дуб., Нар., 81.
**разгуля́цца як су́чка ў сту́дні.** *Докш. Іран.* Пра немагчымасць гуляў, трапляннe ў прыкрую сітуацыю. Высл., 375.
**сварьі́цца як Сі́дарава су́чка.** *Мсцісл. Асудж.* Пра кагосьці, хто пастаянна, бесперапынна сварыцца. Юрчанка, 197.
**Свая́ ру́чка не су́чка.** *Прык.* Пра тое, што сам сябе не пакрыўдзіш. ПП 2, 474.
**така́я пра́ўда была́ як су́чка дзёгаць пі́ла́.** *Дзятл., Свісл. Іран.* Пра нешта хлуслівае. Даніловіч, 254.
**тра́піць як су́чка ў саладу́ху.** *Насмешл.* Янк., Пар., 168. Тое, што папасці як сучка ў солад.
**у даўга́х як су́чка ў скóчках.** *Капыл. Здзекл.* Пра чалавека, што набраў шмат пазыкаў. ФА.
**убі́цца як су́чка ў рашчы́ну.** *Лаг. Насмешл.* Varłyha, 111. Тое, што папасці як сучка ў солад.
**уткну́цца як су́чка ў збан.** *Капыл., Лаг. Асудж.* Пра чалавека, які няпрошана ўмешваецца ў чужыя справы. Ляцкий, 49; Высл., 404; Varłyha, 145; Рабкевіч, 214.
**як су́чка (саба́ка) без хваста́** *ў чым. Ашм., Гродз. Іран.* Пра чалавека, які непрыгожа, нястройна выглядае ў якім-н. адзенні. Даніловіч, 254.
**як су́чка ў рашчы́ня кру́ціцца.** *Астр.* Пра чалавека, што робіць многа розных работ, мітусіцца, кідаецца. СПЗБ 5, 28.
**дачака́цца як ад рабóй су́чкі я́ек.** *Берасл. Няўхв. Іран.* Ніколі не дачакацца чагосьці ад кагосьці. Даніловіч, 212.
**даўгóў як у су́чкі блох.** *Капыл. Здзекл.* Пра чалавека, што вельмі запазычыўся. ФА.
**язы́к як у су́чкі хвост.** *Ваўк. п., Мсцісл. Асудж.* Пра кагосьці балбатлівага. Federowski, 126.; Юрчанка 1977, 13.
даня́ць як Каспар су́чку. Гл. Каспар.

**дагадзі́ць** *каму* **як збро́днай су́чцы ва́рам.** *Іран.* Зусім не дагадзіць, а моцна нашкодзіць. Янук., 30. < Збродная – валачашчая.

прыслужы́цца як дзя́дзька су́чцы: тая хвост незнаро́к прытулі́ла да кало́дкі, а ён сяке́рай – гак! І адрубі́ў. Гл. дзядзька.

***схава́цца*** Шча́сце як со́нейка: усміхне́цца і схава́ецца. Гл. сонейка.

Го́лад не сусе́д – ад яго́ не схава́ешся. Гл. сусед.

крыча́ць як той ду́рань касу́ схава́ўшы. Гл. дурань.

***схапі́ць*** ляце́ць як му́ху схапі́ўшы. Гл. муха.

*каму* пабажы́цца як саба́ку му́ху схапі́ць. Гл. сабака.

***схвацíць*** як шмяля́ схваці́ўшы. Гл. шмель.

***схо́дзячы*** тэ́нскнасць на сэ́рцы як са све́ту схо́дзячы. Гл. свет.

***сцаць*** гавары́ць як бык сцыць. Гл. бык.

як бык сцыць. Гл. бык.

***сцэ́жка*** Любіліся як пта́шкі ў стрэсе, разышлíся як сцэ́жкі ў лесе. Гл. пташкі.

пільнава́цца як сцэ́жкі ў ле́се. Пра неабходнасць нечага пільна трымацца, не саступаць убок. Янк., Пар., 127.

**разыйсцíся як сцэ́жкі ў ле́се.** *Івац.* Пра поўнае расстанне каго-н. ЗЗайкі.

Жыццё як у таго́ вераб'я́: ска́ча па сцэ́жцы ды гаўно́ клюе́. Гл. верабей.

сядзе́ць як корч на сцэ́жцы. Гл. корч.

***сцекаць*** як рука́ сцекае. Гл. рука.

***сцэ́нка*** **ля́пнуць як у сцэ́нку абу́хам.** *Клецк. Асудж.* Пра чалавека, які нешта груба і недарэчна сказаў. МК, 307.

як гаро́хам аб сцэ́нку. Гл. гарох.

**як за сцэ́нку заско́чыць.** *Ухв.* Пра чалавека, які трапіў у бяспечнае месца. Янк., Пар., 204. < За сценку, за сцяну – тут, відаць, за мяжу свайго надзелу, загону, сваёй сядзібы. Параўн.: «Засценак – ворныя і сенакосныя землі, якія апынуліся па-за межамі сялянскіх надзелаў пасля «Уставы на валокі» 1557 г.» (БелСЭ, т. 4, с. 521).

***сцень*** **хадзíць як сцень.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.*, *Ушацк. Спачув.* Пра чалавека вельмі схуднелага, схварэлага, ледзь жывога. Federowski, 48; Сержпутоўскі 1999, 81; Добр., Смол., 876; Скарбы, 134.

***сцэ́рва*** **вы́кінуць за плот як сцэ́рву.** *Слуцк. Няўхв.* Пра неабходнасць пазбавіцца ад некага як ад трупа жывёлы. Сержпутоўскі 1999, 78.

***сціля́га*** **кудла́ты як сціля́га.** *Слон.* Пра хлопца з доўгімі валасамі. Высл., 339.

***сцяке́льца*** **ха́та вы́скрабана, вы́мыта што сцяке́льца.** *Мсціcл. Ухв.* Пра вельмі чыстую адмытую хату. Юрчанка 1977, 245.

***сцякло́****, гл. таксама* ***шкло*** прыду́рвацца як му́ха на сцякле́. Гл. муха.

**гла́дкі як сцякло́.** *Мсціcл.*, *Лях. Ухв.* Пра нешта вельмі гладкае, роўнае, часцей пра лёд. Юрчанка 1969, 109; ЗВалодзінай.

***сця́міць*** як во́кам сця́міць. Гл. вока.

***сцяна́*** доложы́тыся як горба́ты до стэны́. Гл. гарбаты.

**ісці́ як у сцéну.** *Навагр.* Пра хаду вельмі цяжкую, натыкаючыся на перашкоды. Даніловіч, 261.

**як за сьцéну.** *Ушацк.* Пра чалавека, які спыніў адносіны, знік, схаваўся. Барадулін, 114.

**бéлы як сцяна́.** *Ваўк. п.*, *Лоеў., Івац.* Пра чалавека схварэлага, збялелага, бледнага. Federowski, 30; Янкова, 349; ЗЗайкі.

**бля́ды як сцяна́.** *Ваўк. п.* Federowski, 31. Тое ж.

**глухі́ як сцяна́.** *Зэльв. Няўхв.* Пра зусім глухога чалавека. Гілевіч, 165.

**жы́та (збо́жжа, пшані́ца, гаўёс) як сцяна́.** *Івац. Ухв.* Пра вельмі ўраджайнае збожжа. Federowski, 373, 352, 109; ЗЗайкі.

**маўча́ць як камéнная сцяна́.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які не выдае таямніцы, не адкрывае праўды. Юрчанка, 185.

**маўча́ць бы сцяна́.** *Ваўк. п.*, *Слуцк.* Federowski, 181; Сержпутоўскі 1999, 137. Тое ж.

**стаяць як глуха́я сцяна́.** *Лельч.* Кучук, Малюк, 26. Тое ж.

**трашча́ць як сцяна́ на маро́зе.** Пра нейкі шум, падобны на трэск драўніны. Янк., Пар., 169.

выду́рвацца як му́ха на сцянé. Гл. муха.

**сказа́ць як к сцянé прыклéіць.** *Петр.* Пра да месца, выразна, дакладна сказаныя словы. Мат., Гом., III, 199.

**жыць як за ка́меннай сцяно́й (гаро́ю).** *Арш.*, *Мсцісл. Ухв.* Пра жанчыну, якая вельмі бяспечна жыве замужам. МК, 310; Юрчанка 1977, 226.

**За мужыко́вай спіно́й як за сцяно́й.** *Мінск. Прык.* ПП 2, 59. Тое ж.

**сядзéць як за камéннаю сцяно́ю.** *Мсцісл.*, *Арш.* Юрчанка, 266; МК, 310. Тое ж.

напі́ўся – як галаво́й аб сцяну́ пабі́ўся. Гл. галава.

тра́піць як ку́ляй у сцяну́. Гл. куля.

**як за сцяну́ заваліцца.** *Дзятл.*, *Астр.* Пра адасабленне ад агульных спраў. Даніловіч, 224.

**як за сцяну́ заступі́ла.** *Ваўк. п.* Пра жанчыну, што адасобілася, адгарадзілася, страціла сувязь са знешнім светам. Federowski, 350.

**гавары́ць** *да каго* **як да сцяны́.** *Вілен. Няўхв.* Пра чалавека, які не хоча слухаць, што яму кажуць, як навучаюць. Sielicki, 158.

*да каго* **як да сцяны́.** *Ваўк. п.*, *Рэч.*, *Слон.* Federowski, 101; Pietkiewicz, 394; Высл., 310. Тое ж.

прыляпі́ць як гарба́тага да сцяны́. Гл. гарбаты.

***сцяць*** як во́кам сцяць. Гл. вока.

як галавé сцяць. Гл. галава.

***сшыць*** Век зжыў як мех сшыў. Гл. мех.

Век зжыць – не мех сшыць. Гл. мех.

Год пражы́ць – не луко́шка сшыць. Гл. лукошка.

Век пражы́ць – не каро́бку сшыць. Гл. каробка.

Век пражы́ць – не хаму́т ісшыць. Гл. хамут.

З жо́нкай пражы́ць – не штаны́ сшыць. Гл. штаны.

***сы́зма*** **зла́я як сы́зма.** *Смарг. Няўхв.* Пра злога, благога чалавека. СПЗБ 5, 50. < Сызма – пустая, неўрадлівая зямля.

***Сымо́наў*** прапа́сці як Сымо́наў башлы́к. Гл. башлык.

***сыпану́ць*** рвану́ць бы́ццам каму́ хто со́ллю пад хвост сыпану́ў. Гл. соль.

***сы́пацца*** уміра́лі, як мак сы́паліся. Гл. мак.

***сы́паць*** гавары́ць як бо́бам сы́паць. Гл. боб.
гавары́ць як ма́кам сы́паць. Гл. мак.
наўстыдзіць як жа́рам *на каго* сы́паць. Гл. жар.
піса́ць як з рукава́ сы́паць. Гл. рукаў.
языќом мало́ць як гаро́хам сы́паць. Гл. гарох.
чыта́ць як бо́бам сы́паць. Гл. боб.
як жа́ру на яго́ сыпну́лі. Гл. жар.
як пры́скам сыпну́лі. Гл. прысак.

***сыр*** **бе́лы як сыр**. *Слон. Ухв.* Пра здаровага прыгожага (бялявага) хлопца. Янкоўскі 1971, 12; Высл., 286.
**бы сыр у ма́сле кача́цца.** *Воран.*, *Івац. Ухв.* Пра чалавека, які добра жыве, багата, заможна, у дастатку. Янк., 398; Сцяшковіч, 582; ЗЗайкі.
**жыць як сыр у ма́сле ката́цца.** *Віл.*, *Смарг.*, *Слуцк.*, *Мсцісл.*, *Стаўб.*, *Маз.*, *Слон. Ухв.* СЦБ, 139; СПЗБ 5, 54; Сержпутоўскі 1999, 17, 55, 78; Юрчанка 1977, 199; Янк., 407, 423; МК, 319. Тое ж.
**жыць як сыр у ма́сле.** *Дзятл.*, *Стаўб.*, *Слуцк.*, *Саліг. Ухв.* Сцяшковіч, 620; ФА; МК, 319. Тое ж.
**здаро́вая дзе́ўка як сыр.** *Брасл.*, *Докш. Ухв.* Пра здаровую, моцную бялявую дзяўчыну. СПЗБ 2, 297; Высл., 328.
**як сыр у ма́сле купа́цца.** *Гродз. Ухв.* Цыхун, 197. Тое, што бы сыр у масле качацца.
**як сыр у смята́не пла́ваць.** *Ухв.* Санько, 71. Тое ж.
смэя́ціся бы дурны́ з сы́ру. Гл. дурны.

***сырава́тка*** смяцца як цыга́н сырава́ткай. Гл. цыган.
прапа́сці як му́ха ў сырава́тцы. Гл. муха.
залі́цца бы цыга́н сыро́ваткою. Гл. цыган.
піць гарэ́лку як Сі́дар сыро́ватку. Гл. Сідар.
паўзці́ як му́ха на сыро́ватцы. Гл. муха.
добра́цца ек поро́ся до сыро́водкі. Гл. парася.

***сыраве́жачка*** **як сыраве́жачка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага свежага чалавека. Юрчанка, 198.

***сырае́жка*** **як сыраве́жка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра здаровага свежага хлопца. Юрчанка, 198.

***сы́рчык*** **бе́лы як сы́рчык.** *Памянш. Слон. Ухв.* Пра здаровага бялявага прыгожага хлопца. Янкоўскі 1971, 12; Высл., 286.

***сы́тны*** до́бры сусе́д як сы́тны абе́д. Гл. абед.

***сы́ты*** даку́чыць як сы́тае мя́са. Гл. мяса.
збры́днуць як сы́тае мя́са. Гл. мяса.
глядзе́ць як сы́ты шчупа́к на вялі́кую пло́тку. Гл. шчупак.

***сыч*** **глядзе́ць як сыч.** *Мін. Няўхв.* Пра насуплены, надзьмуты выгляд кагосьці. Высл., 306.

**маўча́ць як сыч.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека надзьмутага, крыўдлівага, капрызнага. Высл., 346.
**мо́рду заверну́ць як сыч.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, што не хоча гаварыць, адварочваецца. Высл., 347.
**надзьму́цца як сыч.** *Івац.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра крыўдлівага, капрызнага чалавека. Юрчанка, 198; Санько, 155; ЗЗайкі.
**пану́ры як сыч.** *Івац. Няўхв.* ЗЗайкі. Тое, што глядзе́ць як сыч.
**сядзе́ць як сыч на пло́це.** *Дзятл. Няўхв.* Даніловіч 2008, 137. Тое ж.
**Сядзі́ць як сыч і ду́мае, што па́ніч.** *Прык.* Пра капрызнага і ганарлівага, які зашмат пра сябе думае. Санько, 186.
**сядзі́ць як сыч, і з но́су капці́ць.** *Насмешл.* Пра чалавека, які сядзіць надзьмуўшыся ды зашмат пра сябе думае. Матэрыялы 1981, 124.
**сярдзі́ты як сыч.** *Рэч. Няўхв.* Пра сярдзітага, злоснага, непрыветнага чалавека. ЛЦ, 63.

***сэ́рца*** бы́ццам ка́мень з сэ́рца спаў. Гл. камень.
бярэ́ як шчы́рага за сэ́рца, а бага́тага за жыво́т. Гл. шчыры.
**гарачо́ як удо́віна сэ́рца.** *Ваўк. п.* Іран. Пра некага або нешта халоднае, застылае. Federowski, 103.
пага́на бы на́чэ кот насра́ў на сэ́рца. Гл. кот.
**працава́ць як сэ́рца.** Пра роўную, бесперабойную працу. Янк., 425.
сказа́ць як цвік у сэ́рца ўбі́ць. Гл. цвік.
**Со́нцэ зімо́ю як удо́вінэ сэ́рцэ, усё све́ціць да ні грэе.** *Люб.* Пра зімовае сонца. Скарбы, 165.
узяло́ як бага́тага за жыво́т, а шчы́рага за сэ́рца. Гл. багаты.
узяло́ (бярэ́, ухапі́ла) як бага́тага за сэ́рца. Гл. багаты.
як нож у сэ́рца ўбі́ў. Гл. нож.

***сяве́нька*** **галава́ як сяве́нька ро́біцца ад рабо́ты.** *Ашм. Жарт.* Пра чалавека, якому за цяжкай працай няма калі думаць. СПЗБ 5, 63.

***сяве́ц*** **шпакі́ як сяўцы́.** Пра шпакоў, што ходзяць па свежай раллі. Янк., Пар., 196.

***сяда́ла*** масці́цца як ку́рыца на сяда́ле. Гл. курыца.

***сядзе́ць*** Ла́ска не каля́ска, ся́дзеш – не пае́дзеш. Гл. каляска.
ко́ле ў пле́чы усё ро́ўна як мядзве́дзь сядзі́ць. Гл. мядзведзь.
кра́хаць што індзю́чкі на яе́чках се́дзя. Гл. індзючка.

***сядзёлка*** **закруці́цца як сядзёлку пачу́ўшы.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра кагосьці, хто неспакойна закруціўся. Юрчанка, 174.

***сядло́*** пасава́ць як каро́ве сядло́. Гл. карова.
трэ́ба як каро́ве сядло́. Гл. карова.
як да каро́вы (каро́ве) сядло́. Гл. карова.
як свінні́ (да свінні́) сядло́. Гл. свіння.
пабрата́цца як свіння́ з сядло́м. Гл. свіння.

***сяке́ра*** го́лы як біч, а во́стры як сяке́ра. Гл. біч.
*з каго* **такі́ рабо́тнік як сяке́ра з гаўна́.** *Рэч. Вульг. Здзекл.* Пра благога работніка. Pietkiewicz, 389.
**пла́ваць як сяке́ра.** *Светл.*, *Слон. Іран. Няўхв.* Пра няўменне плаваць наогул. Высл., 366.

**сказа́ць як сяке́раю рубну́ць (секану́ць).** *Ваўк. п.* Пра нешта рэзка, катэгарычна, рашуча сказанае. Federowski, 280; Янк., 427.
**як сяке́раю ўцяць (рубну́ць).** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта, што можна хутка зрабіць. Federowski, 271; Ройзензон, 81.
така́я пра́ўда як саба́ка сяке́ру з’еў і дзёгцем запі́ў. Гл. сабака.
**Людзі́на невучо́ная як сякі́ра нетачо́ная.** *Прык.* Пра нязручнасці ў жыцці неадукаванага чалавека. Станкевіч, 654.

***сялёдка*** **найшло́ ў ха́ту як сялёдак у бо́чкі.** *Івац., Мсцісл.* Пра цесна запоўненую хату людзьмі. Юрчанка 1969, 121; ЗЗайкі.

***сяло́*** муці́ць у вадзе́ як маска́ль у сяле́. Гл. маскаль.
пакаці́лася (разышла́ся) гарэ́лка па жывату́ як брахня́ па сялу́. Гл. брахня.
пэрыбэ́гчы бы ста́рца то́рба до сэла́. Гл. старац.

***сяльні́к*** **трыбу́х як сяльні́к.** *Слон. Няўхв.* Пра чыйсьці вялікі жывот. Высл., 401. < Сяльнік – сяннік.

***сяльча́нін*** *у каго* **як у таго́ сяльча́ніна: айдзе́ ні паверне́цца, што-не́будзъ аберне́цца.** *Мсцісл. Жарт.* Пра селяніна, які паводзіць сябе нязграбна, у яго ўсё падае. Юрчанка, 11–12.

***сянні́к*** **Без жо́нкі як сянні́к без сало́мкі.** *Івац. Прык.* Пра нязручнасці жыцця без жонкі. ЗЗайкі.

***ся́ння**, гл.* ***сёння***

***сярбу́н*** **нахвата́цца як сярбу́н бліно́ў.** *Маг. Няўхв.* Пра чалавека, які шмат нечага нахватаўся. Высл., 353.

***сярлі́вы*** ве́зці абы́ сярлі́вага ката́ ў мяшку́. Гл. кот.

***сярпо́к*** **малады́ ме́сяц як сярпо́к.** *Памянш. Гарад.* Пра месяц у маладзіку. СПЗБ 3, 21.

***сярпо́чак*** **стары́ ме́сяц як сярпо́чак.** *Памянш.-ласк. Чэрв.* Пра месяц у ветаху. СПЗБ 1, 302.
**бро́ўкі як сярпо́чкі.** *Памянш.-ласк.* Пра нейчыя прыгожыя броўкі. Янк., Пар., 18; БВ, 109.

***сяўня́*** хоць жо́нка як свіння́, абы зо́лата сяўня́. Гл. свіння.

***сячка́рня*** **е́сці як у сячка́рню закі́дваць.** *Карэл. Насмешл.* Пра чалавека-абжору. Высл., 318.

***сячо́нка*** **зрубі́ць як сячо́нка.** *Смал. п. Няўхв.* Пра жанчыну, якая вельмі многа лапоча. Добр., Смол., 500. < Сячонка – нажом пасечанае цеста.

***сячы́*** чыта́ць як рэ́пу сячы́. Гл. рэпа.

# Т

***таба́к*** **таўчы́ся як таба́к у сту́пе.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, занятага дробнымі штодзённымі клопатамі. Высл., 399.
**даць як таба́кі на паню́шку.** *Касц.* Пра вельмі малую колькасць нечага. Бялькевіч, 314.

***табу́н*** **табуно́м хадзі́ць.** *Крыч.* Пра людзей, моладзь, што трымаюцца гуртам. Бялькевіч, 447.

***тава́р*** **спаць як тава́р збы́ўшы.** *Гродз.* Пра вельмі моцны, беспрабудны сон. Даніловіч, 254.

***Тадо́ра*** **Як тая Тадо́ра – то шы́е то по́ра.** *Прык. Свісл. Насмешл.* Пра чалавека, які няўважліва робіць, а затым перарабляе сваю работу. Даніловіч 2008, 138.

дзялі́ць як То́дар з Тадо́раю ла́паць з або́раю. Гл. Тодар.

***такро́чны*** ра́дасць як з такро́чнага сне́гу. Гл. снег.

патрэ́бны (так стра́шан) як тагро́чны снег [на гра́дах]. Гл. снег.

бая́цца як такро́чнай зімы́. Гл. зіма.

***талака́*** **завіха́цца як на папо́ўскай талацы́.** *Слуцк.*, *Лід. Насмешл.* Пра паказное завіханне падчас нейкай працы. Сержпутоўскі 1999, 44; Сцяшковіч, 617.

***тала́н*** **парасю́к сы́ты як тала́н.** *Сміл. Ухв.* Пра сытага ўкормленага парсюка. Шатэрнік, 276.

***тале́рка*** **кру́глы як тале́рка.** *Краснап.* Пра нешта роўна круглае. Бялькевіч, 139.

**кве́ткі як тарэ́лка.** *Б.-Каш.* Пра вялікае суквецце ў кветак. Мат., Гом., VI, 164.

**у га́пцы бы ў тарэ́лцы.** *Жытк.* Пра ненадзейнасць чаўна, яго неналежную бяспечнасць. Нар. слов., 303. < Гапка – рыбацкі човен.

***талму́д*** ківа́цца як ра́бін над талму́дам. Гл. рабін.

***та́нец*** гаранцава́ць як Вінцэ́сь у та́нцы. Гл. Вінцэсь.

заве́сціся як жыд у та́нцы. Гл. жыд.

збіра́цца як у Віга́нцы на та́нцы. Гл. Віганцы.

***танк*** **цішыня́, глухата́ як у та́нку.** *Карэл. Жарт.* Пра поўную ізаляванасць. Высл., 416.

***танцава́ць*** хо́чацца як спе́раду танцава́ць. Гл. спераду.

***Танявіцкі*** як цар Танявіцкі. Гл. цар.

***та́пак*** патрэ́бна як каню́ та́пкі. Гл. конь.

***тапары́шча*** **нос што тапары́шчо.** *Слон. Насмешл.* Пра нейчы вялікі адметны нос. ЖНС, 183.

***тапе́лец*** **павязло́** *каму* **як тапе́льцу.** *Івац.*, *Пруж. Іран.* Пра адсутнасць шанцавання наогул. ФА; ЗЗайкі.

***тапі́ла*** **уско́чыць як у тапі́ла.** *Насмешл.* Пра чалавека, які неабачліва трапіў у благія абставіны. Янк., Пар., 175. < Тапіла – багна.

***тапо́ля*** **адзіно́кая як тапо́ля сяро́д по́ля.** *Спачув.* Пра адзінокую самотную жанчыну. Янк., 396.

**дзе́ўка (дзяўчы́на) як тапо́ля.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра станістую танклявую дзяўчыну. Federowski, 95; Янк., Пар., 53.

***тапо́р*** **твар як з-пад тапара́.** *Слуцк.*, *Стаўб.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра грубы непрывабны твар. МК, 311; Юрчанка, 185.

**рубі́ць як тапаро́м.** Пра рашучы, цвёрды адказ. Нос., 145.

**сказа́ць як тапаро́м адсячы́.** *Мсцісл., Ветк.* Юрчанка, 174: ЗЛапаціна. Тое ж.

як у сук тапаро́м. Гл. сук.

**знайсці́ як тапо́р за ла́вай.** *Іран.* Пра таго, хто ўсім вядомае выдае за навіну. Ляцкий, 13.

неабхóдны як у лéсе тапóр. Гл. лес.
**пайсці як тапóр на дно.** *Мсцісл.* Пра некага, хто марна згінуў, утапіўся. Нар. лекс., 169.
**плáваць што тапóр.** *Брасл. Іран.* Пра таго, хто не ўмее плаваць зусім. СПЗБ 5, 500.
**плáваць як тапóр за пяць грóшай.** *Докш. Іран.* Высл., 366. Тое ж.
**Чалавéк невучóны як тапóр нетачóны.** *Ваўк. п., Кір. Прык.* Пра чалавека без адукацыі, неспецыяліста. ПП 2, 177; АВНЛ.

***таптáць*** жраць як у мех бяздóнны таптáць. Гл. мех.
як бáгну таптáць. Гл. багна.
бы жáбы тóпчэ. Гл. жаба.

***тáра*** **як тáра.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра надта распаўнелага чалавека. Юрчанка, 181.

***тарадэ́йка*** **трапáць як тарадэ́йка.** *Сен. Няўхв.* Пра балбатлівую шумную жанчыну. Каспяровіч, 308. < Тарадэйка – тут: вазок, драбінкі.

***таракáн*** **вы́сахнуць як таракáн.** *Івац. Насмешл.* Пра схуднелага, высахлага чалавека. ЗЗайкі.
**кідáцца як таракáн у стýпе.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра некага, хто кідаецца ў жаху, шукаючы паратунку. Юрчанка, 199.
**лéзці як таракáн у шчы́ліну.** *Карэл. Няўхв.* Пра чалавека, які нахабна імкнецца ў нейкае прывабнае для яго месца. Высл., 340.
**улéзці як таракáн у рóшчыну.** *Мінск. Капыл.* Пра кагосьці, хто па сваёй памаўзлівасці трапіў у цяжкое становішча. ЗСалавей.
**óчы як у таракáна.** *Насмешл.* Пра выпуклыя невыразныя вочы кагосьці. ЛА, 24.
**скрывíцца бы́ццам праглынýў таракáна.** *Брэсц., Мін., Чэрык. Насмешл.* Пра нейчую незадаволеную міну. ЛЦ, 74.
**снóўдацца што трýчаныя таракáны.** *Чэрык.* Пра кагосьці, што ледзь-ледзь перасоўваюцца, цягнуцца, плятуцца. ЛЦ, 122.
**разбéгчыся ва ўсе бакí як таракáны, калí на іх лінýлі вáрам.** *Брасл. Няўхв.* Пра людзей, якія панічна ад нечага разбегліся. ЛЦ, 120.
**сабрáцца як таракáны каля́ хлéба.** Пра хуткі збор каля стала. Тарас на Парнасе.

***таракáнні*** блішчáць як таракáнні вусы. Гл. вус.

***тарáн*** **вы́сахнуць як тарáн.** *Івац.* Пра некага вельмі схуднелага. Янк., Пар., 31; ФА.
**сухí як тарáн.** *Крыч., Капыл., Мсцісл.* Бялькевіч, 372; Юрчанка, 199. Тое, што высахнуць як таран.
**як тарáн.** *Мсцісл.* Пра кагосьці высокага, танклявага. Юрчанка, 199.

***таранóк*** **як таранóк.** *Памянш. Мсцісл.* Пра кагосьці вельмі худога. Юрчанка, 199.

***таранóчак*** **як таранóчак.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Пра кагосьці вельмі худога. Юрчанка, 199.

***тарáшча*** **глядзéць як тарáшча.** Пра чалавека з шырока адкрытымі вачамі. Ляцкий, 7.

***та́рка*** **як та́ркаю па жываце́.** *Слон. Няўхв.* Пра нешта зробленае, сказанае, што балюча ўразіла. Высл., 431.

***тарэ́лачка*** **Ве́рачка як тарэ́лачка, тарэ́лачка як скры́пка, а Ве́ра як карці́нка.** *Памянш. Люб. Жарт.* Пра дзявочую прыгажосць. ФА.

***тарэ́лка****, гл.* ***талерка***

***та́та*** **змо́ршчыцца як свінны́ та́та.** *Дзятл., Смарг., Мядз. Няўхв.* Пра кагосьці, хто вельмі, залішне зморшчыўся, скрывіўся. Даніловіч, 249; ФА.

**сагну́цца як свіны́ та́та.** *Івац., Навагр., Шчуч., Слон., Мядз. Няўхв. Іран.* Пра некага, хто залішне сагнуўся, згорбіўся, скурчыўся. Даніловіч, 249; ФА; ЗЗайкі.

**сагну́цца як цыга́нскі та́та.** *Гом. Насмешл.* Высл., 380. Тое ж.

**посыні́в як свыня́чый та́то.** *Пін. Насмешл.* БД, 308. Тое ж.

***тата́рскі*** дым як на тата́рскай працэ́сіі. Гл. працэсія.

пішча́ць, крыча́ць бы тата́рская арда́. Гл. арда.

***тата́рын*** **марда́ты як тата́рын.** *Сміл. Няўхв.* Пра нетутэйшы, таўсматы выгляд некага. Шатэрнік, 155.

**мо́рда то́ўстая бы ў тата́рына.** *Ганц. Няўхв.* ДА. Тое ж.

***таўка́ч*** **До́ля, мая́ до́ля, шча́сце як таўка́ч.** *Капатк.* Пра пераменлівасць, няўстойлівасць лёсу. ПП 2, 420.

**паваро́чвацца як таўка́ч кала́ мі́сак (гаршко́ў).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра няўклюднае абыходжанне з нечым. Юрчанка, 199.

**пахадзі́ць як таўка́ч па маслёнцы.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чалавека, які заўзята нечым займаецца. Юрчанка, 199.

**разысці́ся як таўка́ч у сту́пе.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які дзе-н. бесцырымонна гаспадарнічае. Юрчанка, 199.

**сябрава́ць як таўка́ч з кано́плямі (маслёнкаю).** *Мсцісл. Іран.* Пра нейчае моцнае сяброўства. Юрчанка, 199.

**таўчы́ся як таўка́ч.** *Слаўг., Рэч., Бабр., Навагр. Няўхв.* Пра чалавека, які заняты паўсядзённай работай, клопатамі. Нар. слов., 80; ЛЦ, 29; АВНЛ; Гілевіч, 119.

**як таўка́ч.** 1. *Мсцісл., Лаг. Няўхв.* Пра некага павольнага, непаваротлівага. 2. *Насмешл.* Пра галаву лысага чалавека. Бялькевіч, 441; Юрчанка, 199; Гілевіч 2007, 41.

як ве́дзьма з таўкача́мі. Гл. ведзьма.

хадзі́ць (насі́цца) як ве́дзьма на таўкача́х. Гл. ведзьма.

**не́сціся як на таўкачо́х.** *Карэл. Жарт.* Пра бегатню без парадку, туды-сюды. Высл., 357.

***таўка́чык*** **плывункі́ ў ры́біны як таўка́чыкі.** *Памянш. Шчуч.* Пра плавальныя пузыры падоўжанай формы. СПЗБ 3, 528. < Плывунок – плавальны пузыр.

***тачы́дла*** круці́цца як чорт на тачы́дле. Гл. чорт.

***тачы́ла*** **лоб як тачы́ла.** *Гродз. Няўхв.* Пра лоб чалавека, які тугавата кумекае. Цыхун, 77.

усе́сціся як цыга́н на тачы́ла. Гл. цыган.

***Ташке́нт*** **трэ́сці як у Ташке́нце.** *Слон.* Пра нейкую моцную трасуху. Высл., 400.

| | |
|---|---|
| ***твань*** | знікнуць як жа́ба ў тва́ні. Гл. жаба. |
| | набра́цца як жа́ба тва́ні. Гл. жаба. |
| ***тэ́леш*** | **дітя́ бы тэ́леш.** *Пін. Ухв.* Пра моцнае, крамяное дзіця. СПЗБ 5, 98. < Телеш – вялікае палена. |
| ***тлець*** | не жыве́ць, а як цень тле́ець. Гл. цень. |
| ***То́дар*** | **дзялі́ць як То́дар з Тадо́раю ла́паць з або́раю.** *Смарг. Насмешл.* Пра нейкую непатрэбную смешную дзяльбу. Арх. Гр.; Янк., Пар., 53. |
| ***ток1*** | **го́ла як на таку́.** Пра пустату, чысціню на нейкай пляцоўцы. Янк., Пар., 42. |
| | бра́знуцца як сноп на ток. Гл. сноп. |
| | **зямля́ цвёрда як ток.** *Шчуч.* Пра перасохлую глебу. СПЗБ 5, 341. |
| ***ток2*** | **як то́кам прабі́ла** (каго). *Астр.* Пра раптоўную вестку, думку. Даніловіч 2010, 91. |
| ***тон*** | **як у тон утану́ць.** *Стол.* Пра чалавека, які бясследна загінуў. ТС 5, 141; Санько, 214. < Тон – вір, загон. |
| ***то́ненькі*** | галасо́к як то́ненькі валасо́к. Гл. валасок. |
| ***то́пленік*** | **шанцава́ць як топе́льніку.** *Мядз., Мсцісл. Іран.* Пра адсутнасць шанцавання наогул. Высл. 299; Юрчанка, 174. |
| | **ву́класці во́чы ек то́пленік.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна вылупіў вочы. ТС 5, 143. |
| | **седзе́ць ек то́пленік.** *Жытк. Няўхв.* Пра непрыглядны знешні выгляд чалавека. ТС 5, 143. |
| ***то́рба*** | **матля́цца як то́рба за плячы́ма.** *Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які з-за сваёй лёгкадумнасці ніяк не знойдзе сябе ў жыцці. ЗЗайкі. |
| | **жыво́т як то́рба.** *Няўхв.* Пра нейчы занадта тоўсты сыты жывот. Янк., Пар., 62. |
| | **жыць як то́рба без поварзаў.** *Шчуч.* Пра беднае неўладкаванае жыццё. Даніловіч, 254. < Поварзы (устар.) – завязка. |
| | **мо́рда як то́рба.** *Смал. п. Груб.* Пра сыты непрывабны твар чалавека. Добр., Смол., 900. |
| | **напха́цца як то́рба.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта наеўся. Добр., Смол., 453. |
| | **насі́цца як пі́саная то́рба.** *Іран.* Пра жанчыну рухавую, увішную. Нос., 116. |
| | **няру́шны як то́рба на круку́.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які сядзіць нерухома і нічога не робіць. Высл., 357. |
| | **прапа́сці як то́рба жы́та.** *Свісл. Насмешл.* Пра нешта зусім, бясследна зніклае. Даніловіч 2010, 91. |
| | пэрыбэ́гла бы ста́рца то́рба до сэла́. Гл. старац. |
| | **як то́рба.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра кагосьці поўнага, сытага. Юрчанка, 195. |
| | насі́цца як дурны́ з то́рбай. Гл. дурны. |
| | бе́гчы (пабе́гчы) услед за кім як конь за то́рбай з аўсо́м. Гл. конь. |
| | **насі́цца як з пі́санай то́рбай.** *Бял., Івац., Светл. Няўхв.* Нос., 116; Мат., 63; АВНЛ; ЗЗайкі. Тое, што насіцца як дурны з з торбай. |

вышыкацца (вы́шаптацца) як рак (у то́рбе). Гл. рак.
капа́цца (грэ́бацца, по́ркацца) як сляпы́ ў то́рбе. Гл. сляпы.
капа́цца як сляпы́ ў то́рбе. Гл. сляпы.
марнава́цца як грэ́цкі блін у то́рбе. Гл. блін.
пара́дак як у дурно́га ў то́рбе. Гл. дурны.
паро́цца як сляпы́ ў то́рбе. Гл. сляпы.
паро́цца як ста́рац у то́рбе. Гл. старац.
разгуля́цца як саба́ка ў то́рбе. Гл. сабака.
шука́ць як сляпэ́й у то́рбе. Гл. сляпы.
як Пятру́ля ў то́рбе. Гл. Пятруля.
як Пятру́ся ў то́рбе. Гл. Пятруся.
як у дзе́да ў то́рбе *дзе*. Гл. дзед.
як у жабрака́ ў то́рбе *дзе*. Гл. жабрак.
як у жы́да ў то́рбе *дзе*. Гл. жыд.
як у Я́ся ў то́рбе *дзе*. Гл. Ясь.
**гавары́ць як у то́рбу кла́сці.** *Няўхв.* Відаць, пра чалавека, які зашмат гаворыць. Ляцкий, 63.
угляда́цца (дзіві́цца) як сляпы́ ў то́рбу. Гл. сляпы.
**як то́рбу з плеч скі́нуць.** *Свісл. Ухв.* Пра чалавека, што пазбавіўся клопатаў, цяжкасцей, непрыемнасцей. Даніловіч, 255.
як ваду́ ў то́рбу ліць. Гл. вада.
гэгак ты да мо́рды як саба́ка да то́рбы. Гл. сабака.
**сы́пацца як з дурно́й то́рбы.** *Мсцісл. Няўхв.* 1. Пра несупынны снег. 2. Пра пустую гаворку некага. Юрчанка, 184.

***торг*** памалу як з гаршка́мі на торг. Гл. гаршок.
спяша́цца як з ко́замі на торг. Гл. каза.
упіра́цца як каза́ на торг ідучы. Гл. каза.

***то́ўба*** **гладзезна бы то́ўба.** *Стол.* Пра тоўстага нязграбнага чалавека. ТС 5, 146.

***то́чаны*** **зу́бкі як то́чаныя.** *Ухв.* Пра чыесці роўныя, добрай формы зубкі. Янк., Пар., 77.

***трава́*** **без со́лі як трава́.** *Ваўк. п., Івац. Няўхв.* Пра невыразны смак нясоленай стравы. Federowski, 285; ЗЗайкі.
**капу́ста як трава́.** *Слон. Няўхв.* Пра невыразны смак непасоленай капусты. Высл., 334; Янк., 430.
**кла́сціся як трава́ пад касо́ю.** *Слуцк.* Пра гібель людзей на поле бітвы. Сержпутоўскі 1999, 93.
кура́ць як жа́ба траву́ есць. Гл. жаба.
бага́та як травы́. Пра вялікую колькасць нечага. Янк., Пар., 12.

***траві́нка*** **адна́ як траві́нка ў по́лі.** *Памянш. Мсцісл. Спачув.* Пра адзінокую самотную жанчыну. Юрчанка, 199.

***тра́ктар*** **гавары́ць «р» што тра́ктар ляхо́ча.** *Люб.* Пра хібы ў вымаўленні літары Р. ЖН, 108.

***тра́ла*** **браха́ць як тра́ла.** *Гродз. Няўхв.* Пра балбатуху, лапатуху. СПЗБ 5, 112.

***трапа́ч*** **як цыга́нскі трапа́ч.** *Маст. Асудж.* Пра кагосць няшчырага, хлуслівага. Даніловіч, 262.

***трапáчка*** **езы́к у кагó трэ́пле ек трэпáшка.** *Жытк., Драг. Няўхв.* Пра языкатага, гаварлівага чалавека. ТС 5, 361; Скарбы, 92.

**рострэпáцца як та трэпáшка.** *Жытк. Няўхв.* Пра чалавека, які занадта разгаварыўся, разышоўся. ТС 4, 324.

***трáпка*** **капýста як трáпка.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра мяккую перамёрзлую капусту. Юрчанка, 199.

**зацухмóліць** *каго* **як пасьлéднію тря́пку.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра залішнія нападкі на кагосьці, зневажанне і знеслаўленне некага. Юрчанка 1993, 180. < Зацухмоліць – затузаць.

***трапы́шка*** **балбатáць як трапы́шка.** *Мсціcл. Няўхв.* Пра балбатуна, надта гаварлівага чалавека. Юрчанка, 199.

***трáсца*** **худы́ ек трáсца.** *Жытк. Няўхв.* Пра некага вельмі, хваравіта худога. ТС 5, 152.

**Шчáсце як трáсца, перахóдная свáцця.** *Прык.* Пра непастаянства, зменлівасць удачы, шчасця. Нос., 190.

**дрыжáць як трáсца трасé.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які дрыжыць ад страху, холаду, іншых перажыванняў. Сержпутоўскі 1999, 38.

**дрыжáць як у трáсцы.** *Ваўк. п.* Federowski, 83; Санько, 128. Тое ж. трэ́сціся як у трáсцы. Янк., 433. Тое ж.

**як у трáсцы кідáе** *каго. Здзекл.* Пра вельмі раззлаванага чалавека. Янк., 447.

***трáўка*** **вóльна як на трáўцы.** *Ухв.* Пра нейкую прастору, волю для чалавека. Янк., Пар., 26.

***трахала*** **крычáць як [гэ́та] трахала.** *Брасл.* Пра надта крыклівага чалавека з зычным голасам. СПЗБ 5, 122.

***трашчáць*** язы́к ляшчы́ць што калаўрóт трашчы́ць. Гл. калаўрот.

***трая́к*** **Калí на дзераве як трая́к, то альбó сей, альбó няхáй бýдзе так.** *Прык. Фальк.* Калі ліст на дрэве з трохкапеечную манету, то гэта апошні час для сяўбы, іншы раз і запозна сеяць. Federowski, 166.

***Трóйца*** прыбрáцца як хáта перад Трóйцаю. Гл. хата.

***трóльскі*** хадзíць як трóльскі бугáй. Гл. бугай.

***Трóцкі*** **трындзéць як Трóцкі.** *Свісл., Гродз. Іран. Жарт.* Пра чалавека, які лёгка, па-штукарску лжэ, гаворыць няпраўду. Даніловіч, 255. < У аснове фразеалагізма – прозвішча ідэолага антыленінскага руху Л. Д. Троцкага.

***трубá*** **нос як трубá.** *Гродз. Насмешл.* Пра доўгі нос чалавека. СПЗБ 5, 128.

**расмаргáцца як у трубý.** *Мсціcл. Жарт.* Пра чалавека, які гучна смаркаецца. Бялькевіч, 126.

**гýбы як трýбы.** *Няўхв.* Пра нейчыя тоўстыя губы. Янк., Пар., 45.

***трубачы́ст*** **чыст як трубачы́ст.** *Жлоб., Мсціcл. Іран.* Пра забруджанага, мурзатага чалавека. Высл., 420; Юрчанка, 199.

***трудадзéнь*** **чапля́цца як трудадзéнь за пляцéнь.** *Мсціcл. Жарт.* Пра чалавека, які ўсюды чапляецца. Юрчанка, 199.

***трýены*** **хадзíць як трýены.** *Лоеў. Няўхв.* Пра чалавека, які выглядае прыгнечана, незадаволена. Янкова, 361. < Труены – тручаны.

***труна́*** **це́сна** *дзе* **як у труне́.** Пра вельмі цеснае памяшканне. Янк., Пар., 187.

**як з труны́.** *Спачув.* Пра бледнага чалавека, які вельмі кепска выглядае. Янк., Пар., 36.

**цёмна** *дзе* **як у труне́.** *Ваўк. п., Слон., Мсцісл.* Пра густую цемру дзе-н. Federowski, 59; Высл., 415; Янк., 439; Юрчанка 1977, 246.

**ціха** *дзе* **як у труне́.** *Ваўк. п., Слон., Мсцісл.* Пра поўную цішыню дзе-н. Federowski, 59; Высл., 415; Янк., 439.

***трупэ́рня*** **хо́ладна** *дзе* **як у трупэ́рні.** *Зэльв. Няўхв.* Пра холад у памяшканні. Сцяцко 1970, 162.

***трус*** глядзе́ць як кот на труса. Гл. кот.

***трусы́*** **прапа́сці як <но́выя> трусы́ з пло́ту.** *Шчуч., Слон., Свісл. Жарт.* Пра бясследнае знікненне нечага. Даніловіч, 239.

***труха́*** **сы́пацца як труха́.** *Івац.* Пра нешта сыпучае, спарахнелае ад старасці ці сапсаванасці. ЗЗайкі.

***трухля́вы*** як дзе́рава трухля́вае шапаце́ць. Гл. дрэва.

***тру́цень*** **вы́цягнуць** *каго* **як тру́тня з кара́ніка.** *Астр. Насмешл. Здзекл.* Пра чалавека, якога выцягнулі аднекуль, не далі застацца ў ленасці. СПЗБ 5, 134.

**адзі́н як тру́цень.** *Івац., Стаўб. Няўхв.* Пра адзінокага чалавека. МК, 23; ЗЗайкі.

**вала́ндацца бы тру́цень.** *Слуцк. Асудж.* Пра лянівага чалавека, які нічога не робіць. Сержпутоўскі 1999, 73.

**жыць як тру́цень.** *Асудж.* Пра чалавека, які жыве з чужой працы. Янк., Пар., 61.

**як тру́цень у кало́дзе.** *Навагр. Асудж.* Даніловіч 2008, 138.

***труці́зна*** **жоўць го́ркая як труці́зна.** *Шальч.* Пра высокую ступень горычы ў жоўці. СПЗБ 5, 134.

***тру́чаны*** сно́ўдацца што тру́чаныя тарака́ны. Гл. таракан.

***тры*** гавары́ць як тры дні не е́ўшы (не еў). Гл. дзень.

гля́нуў як тры гро́шы даў. Гл. грош.

жраць як тры дні не еў. Гл. дзень.

про́сты як тры капе́йкі. Гл. капейка.

рабіць як тры дні ня е́ўшы. Гл. дзень.

такі́ харо́шы як лю́лька за тры гро́шы. Гл. люлька.

харо́шы як драпя́нка за тры грошы. Гл. драпянка.

хі́тры як тры рублі́. Гл. стол.

чы́ста як тры ба́бы ўбіра́лі. Гл. баба.

як тры ме́ры по́пелу. Гл. попел.

***трыбу́х*** рабіць як бара́н на трыбу́х. Гл. баран.

**пагла́дзіць як па трыбуху́ наждако́м.** *Слон. Іран.* Пра нейкае жорсткае абыходжанне з кім-н. Высл. 357.

**шурпа́ты як вы́вернуты трыбу́х.** Пра нешта нягладкае, няроўнае, шурпатае. ФСБМ 1, 252.

***трысні́к*** **жы́та як трысні́к.** *Мсцісл. Ухв.* Пра высокае ўрадлівае жыта з тоўстымі сцябламі. Юрчанка 1998, 241.

***трэ́ска*** **гро́шай як трэ́сак.** *Ваўк. п.* Пра вялікую, незлічоную колькасць грошай. Federowski, 117; Санько, 123.

**вы́сахнуць як трэ́ска (у трэ́ску).** *Ваўк. п.*, *Слуцк. Няўхв.* Пра некага схудалага, высахлага. Federowski, 345; Сержпутоўскі 1999, 31.

**сухі́ як трэ́ска.** *Івац.* Янк., 430; ЗЗайкі. Тое ж.

**круці́цца як трэ́ска ў пало́нцы.** *Слон. Зласл.* Пра чалавека, які трапіў у палон абставін. Высл., 337.

нарабі́ць як саба́ка на трэ́скі. Гл. сабака.

Зяць на дачцэ́ што зо́лата ў руцэ́, а сын на няве́стцы што брыда́ на трэ́сцы. Гл. золата.

***трэ́ці*** госьць як і ры́ба: на трэ́ці дзень сьмярдзі́ць. Гл. рыба.

**насі́цца як па трэ́цьцяму.** *Ушацк.* Пра кагосьці, хто носіцца, сваволіць як жарэбчык. Барадулін, 116. < Жарабя на трэццім годзе добрае ўжо, моцнае.

***туз*** **жыць як туз (ту́за).** *Свісл.*, *Маст.* Пра вельмі добрае, у дастатку, раскошы жыццё. Сцяшковіч, 620; Даніловіч, 255.

**ляжа́ць як туз.** *Лід., Няўхв.* Пра чалавека, які ляжыць нерухома. Даніловіч 2010, 91.

**нае́сціся як туз.** *Ашм.*, *Гродз.*, *Кругл. Насмешл.* Пра чалавека, які вельмі добра, многа, сытна пад’еў. Даніловіч, 255; ФА.

**нарабі́цца як туз званко́вы.** *Стаўб.* Пра чалавека, які вельмі многа напрацаваўся. Даніловіч, 255.

**п’я́ны як туз.** *Мін.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра моцна п’янага чалавека. ЛЦ, 98; Юрчанка, 199.

**спадзява́цца як на пяць (сто) тузо́ў.** *Мсцісл.* Пра чалавека, які моцна спадзяецца на нешта. Юрчанка, 192.

**трыма́цца як за пяць (сто) тузо́ў.** *Мсцісл.* Пра чалавека, хто надта трымаецца за нешта. Юрчанка, 184.

***ту́зік*** **як ту́зік.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра моцна п’янага чалавека. Юрчанка, 199.

***тук*** адстава́ць як вада́ ад ту́ку. Гл. вада.

***тума́к*** **маўча́ць як тума́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра маўклівага, няўцямнага чалавека. Юрчанка 1977, 192.

***тума́н*** **згі́нуць як тума́н.** Пра поўнае, бясследнае знікненне нечага. Янк., Пар., 72.

Любі́ліся, кахáліся як малы́я дзе́ці, разышлі́ся як тума́н па све́це. Гл. дзіця.

**хадзі́ць як тума́н па бу́льбе.** *Іўеў. Няўхв.* Пра чалавека, які ходзіць, бадзяецца без толку, без справы. Даніловіч, 255.

**цягну́цца як тума́н па (на) сенажа́ці.** *Воран. Іран.* Пра кагосьці, хто павольна, не спяшаючыся ідзе, цягнецца і пад. Даніловіч, 255.

**як праз тума́н, як у тума́не.** *Паст. Спачув.* Пра невыразнае, няяснае, цьмянае бачанне чагосьці. СПЗБ 5, 146.

**як тума́н уваччу́.** *Лоеў.*, *Слуцк. Спачув.* Пра благі стан зроку ў кагосьці. Янкова, 139; ДА.

**ба́чыць як у тума́не.** *Слон. Спачув.* Высл., 284. Тое ж.

**як у тума́не быць.** *Смарг.* Пра стан вялікай разгубленасці, глыбокай безразважнасці. Даніловіч 2010, 91.

**тума́ном худы́ты.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які ходзіць без сэнсу, без мэты. Скарбы, 105.

**набра́ць як тума́ну ў рэзгіны.** *Іран.* Пра тое, чаго нельга набраць і панесці. Янк., Пар., 108.

***ту́мба*** **як ту́мба.** *Мсцісл.* Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека. Юрчанка, 200.

***тур*** **ду́жы як тур.** *Ухв.* Пра моцнага дужага чалавека. Янк., 405.

**здаро́вы як тур.** *Навагр. Ухв.* СПЗБ 5, 147. Тое, што дужы як тур.

**сядзе́ць як тур у гара́х.** *Ваўк., Слон. Ухв.* Пра нейчае прывольнае жыццё. Federowski, 275.

**нату́ра як у таго́ ту́ра.** *Ваўк. п.* Пра вельмі моцнага, але дзікаватага чалавека. Federowski, 199.

***ту́рак*** **карта́віць як ту́рак.** *Крыч. Няўхв.* Пра нейчую невыразную, картавую гаворку. Бялькевіч, 222.

**як ту́рак стаць.** *Мсцісл.* Пра моцна загарэлага чалавека. Юрчанка 1977, 157.

**нату́рка як у ту́рка.** *Арш.* Пра благую натуру чалавека. АВНЛ. < У дадзеным выпадку спрацоўвае ўніверсальная мадэль: усё чужое абавязкова дрэннае.

**нос як у ту́рка.** *Краснап. Кплів.* Пра нейчы пляскаты непрывабны нос. Бялькевіч, 228.

***турлу́шка*** **глуха́я як турлу́шка.** *Краснап. Насмешл.* Пра глухаватую жанчыну. Бялькевіч, 136, 448. < Турлушка – глушэц.

***турман*** **як турман.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра безразважлівага чалавека. Юрчанка, 200.

***турэ́цкі*** **сядзе́ць як сьве́нта турэ́цка.** *Гродз. Няўхв.* Пра адбыванне часу без справы, без клопату. Даніловіч 2008, 137.

**го́лы як святы́ турэ́цкі.** Пра распранутага беднага чалавека. НН, 456.

***ту́ча*** **людзе́й што чо́рная ту́ча [ішло́].** *Мсцісл.* Пра вялікую колькасць людзей. Юрчанка 1977, 249.

**то́ўсты як ту́ча.** *В.-Дзв.* Пра некага вельмі тоўстага. СПЗБ 5, 151.

**хадзі́ць як [чо́рная] ту́ча.** *Мсцісл.* Пра змрочнага, злоснага, панурага чалавека. Янк., 438; Юрчанка 1969, 189.

**як з ту́чы [на нас] спа́ла.** *Ваўк. п.* Пра нечаканае з'яўленне каго-н., вестку і г. д. Federowski, 287.

***тхаро́к*** **як тхаро́к падла́сы.** *Памянш. Мсцісл.* Пра падобную на тхара жывёлінку. Бялькевіч, 305.

***тхор*** **воню́чы ек тхор.** *Жытк. Няўхв.* Пра некага вельмі пахучага, смярдзючага. ТС 1, 139.

**жыловаты ек тхор.** *Жытк.* Пра гнуткага, жылістага, лоўкага чалавека. ТС 2, 71. < Жыловаты – жылісты.

**ляжа́ць мо́ўчкі бы тхор.** *Слуцк.* Пра кагосьці, хто сцішыўся, не падае ніякіх гукаў. Сержпутоўскі 2000, 219.

**папа́сціся як тхор у па́стку.** *Хоц. Зласл.* Пра кагосьці, хто трапіў у цяжкую сітуацыю. ЛЦ, 62.

**смярдзе́ць як на́ча тхор набздзе́ў.** *Рэч. Няўхв. Вульг.* Пра нешта страшэнна смярдзючае. Pietkiewicz, 396.

**шко́дны як тхор.** *Няўхв.* Пра некага шкоднага. Янк., Пар., 196.

***тыгр*** **руга́цца як ці́гра.** *Карэл. Асудж.* Пра чалавека, што любіць лаяцца, сварыцца. СПЗБ 1, 294.

***тыно́к*** **цыбу́ля як тыно́к.** *Ушацк. Ухв.* Пра рослую высокую цыбулю. Барадулін, 106.

***ты́сяча*** грымаці́ць бы ты́сяча гарма́т сма́ліць. Гл. гармата.

***ты́чка*** **высо́кі як ты́чка.** *Івац., Слон.* Пра высокага танклявага чалавека. Высл., 298; ЗЗайкі.

**до́ўгі як ты́чка.** *Ваўк. п.* Federowski, 81. Тое ж.

то́нкі як ты́чка. *Ваўк. п.* Federowski, 313. Тое ж.

***тычы́на*** **вы́гнаць як тычы́ну.** Пра кагосьці, хто раптам вырас высокім. Янк., 400.

***тэлефо́н*** трэ́ба як петуху́ тэлефо́н. Гл. пятух.

# У

***убіра́ць*** чы́ста як тры ба́бы убіра́лі. Гл. баба.

***убіць*** сказа́ць як цвік у сэ́рца ўбі́ць. Гл. цвік.

як нож у сэ́рца ўбіў. Гл. нож.

***убо́істы*** апусці́ць галаву́ як той конь убо́істы. Гл. конь.

***убрыкну́ць*** мо́цна як кот убрыкну́ў. Гл. кот.

***увалі́цца*** ажані́цца як у гаўно́ ўвалі́цца. Гл. гаўно.

***увarава́ць*** **дрыжа́ць як уварава́ўшы.** *Валож. Асудж.* Пра чалавека, які штосьці ўкраў і калоціцца ад страху быць выкрытым. Высл., 315.

***уваткну́ць*** сказа́ць як у во́сы прут уваткну́ць. Гл. аса.

уцяка́ць як бы *хто каму* ўваткну́ў пяро́ ў ср...ку. Гл. пяро.

***увесь*** **як не ўвесь.** *Астр. Няўхв.* Пра кагосьці з дзівацтвамі, крыху ненармальнага. Даніловіч, 238.

***уво́сень*** **дождж цараба́ніць як уво́сень.** *Стаўб.* Пра дробны зацяжны дождж. Нар. слов., 155.

зеляне́ць як рунь уво́сень. Гл. рунь.

зме́рзнуць як масля́к уво́сень. Гл. масляк.

**зо́льна на дворы́ як уво́сень.** *Ветк. Няўхв.* Пра халоднае і золкае надвор’е. Мат. Гом., IV, 183.

бружжа́ць што худа́я му́ха ўво́сень. Гл. муха.

мно́га як гра́зі ўво́сень. Гл. гразь.

***увя́заны*** **крыча́ць як увя́заны.** *Слон. п. Няўхв.* Пра кагосьці, хто крычыць моцна, голасна, нечага пратэстуе. Federowski, 154.

***увя́знуць*** кі́дацца як той кот, што ўвя́з у мо́край глі́не. Гл. кот.

крыча́ць як свіння́, увя́зшы ў плот. Гл. свіння.

***уга́рны*** насі́цца як кот уга́рны. Гл. кот.

***угарэ́лы*** **кі́дацца ва ўсе бакі́ як угарэ́лы.** *Брэсц. Няўхв.* Пра чалавека, які бязмэтна мітусіцца, бегае. ЛЦ, 71.

**ляцéць як угарэ́лы.** *Смал. п., Уздз. Няўхв.* Пра кагосьці, хто шпарка бяжыць. Добр., Смол., 499; ФА.

**насі́цца як угарэ́лыя.** *Добр., Жлоб., Івац., Карм., Рэч., Слон. Няўхв.* Мат. Гом., IV, 135; Барысюк, Буян, 13; ЗЗайкі. Тое, што кідацца на ўсе бакі як угарэлы.

***углéдзець*** так як што ліхóе ўглéдзеў. Гл. ліхое.

***удавá*** **накукавáцца як удавá.** *Пух. Спачув.* Пра перажытыя, аплаканыя ўдавой непрыемнасці, гора. Мін.-Мал., 1970, 163.

у я́зя ў галавé што ў кня́зя, а ў шчу́кі што ў удавы́. Гл. князь.

***удáрыць*** як пы́льным мяшкóм удáраны. Гл. мяшок.

ціха як пóўху ўдáрыўшы. Гл. поўху.

***удаўцóў*** асéнняе сóнца як удаўцóва сэ́рца. Гл. сэрца.

***удóвін*** гарачó як удóвіна сэ́рца. Гл. сэрца.

Сóнцэ зімóю як удóвінэ сэ́рцэ, усё свéціць да ні грэ́е. Гл. сэрца.

***удод*** **балбатáць як удóд.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Federowski 21.

**седзéць ек удóд.** *Жытк. Няўхв.* Пра насупленага, надзьмутага чалавека. ТС 5, 320.

**як удóд.** *Гродз. Няўхв.* Пра насупленага, пакрыўджанага, надзьмутага чалавека. Даніловіч, 257.

***удýшлівы*** ды́хаць як конь удýшлівы. Гл. конь.

***уéсці*** стая́ць як дронк уéўшы. Гл. дронк.

***ужáлены*** **адскóчыць бы ўжáлены.** *Слуцк.* Пра кагосьці, хто рэзка, імкліва, нечакана адскочыў. Сержпутоўскі 1999, 16.

***уз'éхаць*** як на пень уз'éхаць. Гл. пень.

***узі́мку*** бая́цца як мух узі́мку. Гл. муха.

**як узі́мку.** *Бял.* Пра чалавека, які празмерна цёпла апранаецца. Бялькевіч, 18.

***узыхóд*** **жадáная прáца як узыхóд сóнца.** *Гродз. Ухв.* Пра любімую працу. Цыхун, 182.

***узя́ты*** вясёлы як у нéба ўзя́ты. Гл. неба.

***узя́цца*** хадзі́ць як пан у бóкі узя́ўшыся. Гл. пан.

***узяць, забраць*** <як> чорт на фóрму ўзяў (забрáў) *каго, што.* Гл. чорт.

***укі́нуць*** пакарáць як рáка ў вóду ўкі́нуўшы. Гл. рак.

прапáла як у пéкла ўкі́нуў. Гл. пекла.

як у агóнь укі́нуць. Гл. агонь.

***уклю́нуць*** адзінóкаму мужыкý як кýрыцы: ідзé ні капанýў, дак і ўклю́нуў. Гл. курыца.

кусóчак як вераб'ю ўклю́нуць. Гл. верабей.

***укóпаны*** **спіць як укóпаны.** *Зэльв.* Пра моцны сон каго-н. Сцяцко 2005, 22.

**стая́ць як укóпаны.** *Івац.* Пра кагосьці нерухомага. Сцяшковіч, 620; ЗЗайкі.

**як укóпаны.** *Лях., Стаўб.* Пра чалавека ці жывёліну, што спыніліся – і ні з месца, нерухома стаяць. СПЗБ 5, 198; ФА.

***укрáсці*** пропáв як бы хапýн ёго ўкрáв. Гл. хапун.

**глядзéць з-пада лба, бы нéшта ўкраў.** *Рэч.* Пра насуплены, устрывожаны погляд каго-н. Pietkiewicz, 375.
так старáўся як бы пóдмаз укрáў. Гл. подмаз.
аглядвацца як парасѐ ўкрáўшы. Гл. парася.
**даць як укрáўшы.** *Ваўк. п., Бераст., Смарг. Няўхв.* Пра малую колькасць дадзенага, выдзеленага. Federowski, 73; Нос., 31; Даніловіч, 258; Sielicki, 158; ФА.
стаяць як у бóга цялё ўкрáўшы. Гл. Бог.

***укусíць*** скрывíцца бы́ццам укусíў кíслы я́блык. Гл. яблык.
**даць як на раз укусíць.** *Няўхв.* Пра малую, недастатковую колькасць дадзенага. Янк., Пар., 51.
Ду́рань не вужáка, не ўку́сіць. Гл. вужака.
трэ́ба як раз хлéба ўкусíць. Гл. хлеб.
укóл як камáр укусíў. Гл. камар.

***улéплены*** як у сук улéплена. Гл. сук.

***улéтку*** **захацéць як улéтку вады́.** *Капыл.* Пра вялікае жаданне нечага. Рабкевіч, 81.
звалíцца як халóдны снег на галаву́ ўлéтку. Гл. снег.

***улíты*** **касцю́м як улíты.** *Мсцісл. Ухв.* Пра касцюм, дакладна адпаведны фігуры. Юрчанка 1977, 219.
**сядзéць як улíты.** *Івац. Ухв.* ЗЗайкі. Тое ж.

***улíць*** Наву́ка не пíва – у рот не ўльéш. Гл. піва.
Рóзум не кулéш, у гóлаву не ўліéш. Гл. кулеш.

***уляпíць*** сказáць як у сук уляпíць. Гл. сук.

***умéрлы*** **памóжа як умéрламу (змáрламу, змáрнаму, мёртваму) кадзíла (прыпáрка).** *Ваўк. п., Слуцк., Нясв., Касц., Слон. Іран.* Пра нешта, што абсалютна не дапаможа. Федароўскі, 215; Сержпутоўскі 1999, 137, 138, 383; Бялькевіч, 216; Высл., 361; ФА.
**трэ́ба як умéрламу балалáйка.** *Іран.* Пра нешта абсалютна непатрэбнае. Янк., 434.

***умірáць*** хóчацца як багáтаму ўмірáць. Гл. багаты.

***уміру́шчы*** **плáкаць як па ўміру́шчаму.** *Ушацк.* Пра голасны жаласны плач. Барадулін, 106.

***умураваны*** **нíбы ўмуравáны.** *Ухв.* Пра нешта моцна замацаванае на месцы. Санько, 69.

***умы́ты*** як расóлам умы́ты. Гл. расол.

***умярцí*** **Зáмуж пайсцí як умярцí.** *Шум. Прык.* Пра беззваротную змену сацыяльнага статусу жанчыны. АВНЛ.

***унéсці*** як вадá ўняслá. Гл. вада.

***уніз*** ляцéць дадóму як з гары́ ўніз. Гл. гара.

***унóчы*** **прывы́кнуць як унóчы спаць.** Пра звычку да чаго-н. натуральнага, прынятага. Янк., Пар., 133.
У мáрцы як у гáрцы: уноч пячэ́, а ўдзень цячэ́. Гл. гарац.

***уну́к*** шчаслíвая як мáтка, уну́каў дачакáўшыся. Гл. матка.

***упáсці*** **Ажанíцца – не ўпáсці: не устáнеш, не атрасéшся.** *Воран. Прык.* Пра жаніцьбу як сур’ёзны крок у жыцці, калі адступленне дужа цяжкае і непажаданае. Ляцкий, 2; Сцяшковіч, 580.
прапáсці як у вадý ўпáсці. Гл. вада.

прапа́ў як у про́цьму упаў. Гл. процьма.
**сказа́ў як упаў у лу́жу.** *Воран. Няўхв.* Пра нешта недарэчы, абы-як сказанае. Арх. Гр.
як мыш у па́стку ўпаў. Гл. мыш.
як у во́ду ўпаў. Гл. вада.

***упіцца*** **Ажані́цца – не ўпі́цца.** *Уздз. Прык.* Пра сур'ёзнасць жаніцьбы, ад якой няма як «праспацца». Federowski, 11; Мін.-Мал., 1970, 158.

***упусціўшы*** укараць рыхтык як ра́ка ў ваду́ ўпусці́ўшы. Гл. рак.

***урод*** **разі́нуў рот як урод.** *Абразл.* Пра разяваку, тупаватага чалавека. Ляцкий, 37.

***уры́ты*** **стоя́ць ек уры́ты.** *Стол.* Пра нейчае нерухомае становішча, стаянне. ТС 5, 209.

***усміхну́цца*** Шча́сце як со́нейка: усміхне́цца і схава́ецца. Гл. сонейка.

***усра́цца*** **маўча́ць як уср...ўшыся.** *Вілен. Здзекл. Вульг.* Пра чалавека, які не мае нічога сказаць у сваё апраўданне. Sielicki, 160.

***уссе́сці*** як чорт уссеў *на каго.* Гл. чорт.
дурэ́е як на яго чэ́рці ўссе́лі. Гл. чорт.

***уста́віць*** ажані́цца як нагу́ ў бот уста́віць. Гл. нага.
усё гато́ва як нагу́ ў бот уста́віць. Гл. нага.

***устаць*** Ажані́цца – не ўпа́сці: не уста́неш, не атрасе́шся. Гл. упасці.
бле́дны як з таго́ све́ту ўстаў. Гл. свет.
як з магілы ўстаў (вы́йшаў, падня́ўся). Гл. магіла.
як з таго́ све́ту ўстаў. Гл. свет.
як ра́кам уста́ў. Гл. ракам.

***усы́пана*** **як усы́пана.** *Арш., Стаўб. Ухв.* Пра вялікую колькасць грыбоў, ягад, яблыкаў. МК, 320.

***усы́паць*** як апо́шняе ў печ усы́паўшы. Гл. апошняе.
як пасле́дняе ў печ усы́паўшы. Гл. паследняе.

***утану́ць*** як у тон утану́ў. Гл. тон.

***утапі́цца*** **ажані́ўся як утапі́ўся.** *Івац. Няўхв.* Пра нейчую паспешлівую няўдалую жаніцьбу. ЗЗайкі.
як утапі́ўся. *Шкл.* Пра раптоўнае бяследнае зніканне каго-н. Нар. слов., 82.
**Ажані́цца – не ўтапі́цца.** *Навагр. Прык.* Пра непажаданасць поўнага выключэння жанатага чалавека з нейкай кампаніі ці спраў. Гілевіч, 152.

***утаро́п*** **як утаро́п.** *Нясв. Зняважл.* Пра кагосці, хто здзяцінеў, страціў разуменне рэальнасці. СПЗБ 5, 241. < Утароп – вар'ят.

***уто́пленнік*** **везці** *каму* **як уто́пленніку.** *Іран.* Пра чалавека, якому не шанцуе. ЛА, 29.

***утрапёны*** **насі́цца як утрапёны.** *Докш., Шчуч. Няўхв.* Пра панічную мітусню каго-н. Мат., 147; З нар. сл., 50; Нікіфароўскі, 1924, 21.
**хадзі́ць як утраплёны.** *Сур.* Пра няўцямную хаду каго-н. Каспяровіч, 324. < Утраплёны – звар'яцелы.

***ухажо́рка*** як з казы́ (свінні́) ухажо́рка. Гл. каза.

***ухапі́цца*** як за ве́тачку ўхапі́ўся. Гл. ветачка.
бе́гчы як жа́ру ўхапі́ўшы. Гл. жар.

ляце́ць як жа́ру ўхапі́ўшы. Гл. жар.
пабы́ць як агню́ ўхапі́ўшы. Гл. агонь.

***ухапі́ць*** убе́г (забе́г) як агню́ ўхапі́ць. Гл. агонь.
як агню́ ўхапі́ць. Гл. агонь.
забе́гчыся як жа́ру ўхваці́ць. Гл. жар.
*у каго* стало́ўка як у во́ўка: дзе ўрве, дзе ўхо́піць. Гл. воўк.
вы́скачыць як шмяля́ схваці́ўшы (ухваці́ўшы). Гл. чмель.

***у́хо****, гл.* ***вуха***

***уця́ць*** **сказа́ць як уця́ць.** Пра рашуча, моцна сказанае. Санько, 183.
як сяке́раю ўцяць. Гл. сякера.

***уцячы́*** па́церы не за́яц, не ўцяку́ць. Гл. заяц.

***учадзе́ць*** **улюбі́цца як учадзе́ць.** *Слон. Насмешл.* Пра незвычайныя адчуванні закаханага. Высл., 405.

***учхну́ць*** як ра́кі ўчхну́лі. Гл. рак.

***ушва́лак*** **то́ўсты як ушва́лак.** *Маст.* Пра кагосьці тоўстага, ускормленага. СПЗБ 5, 257.

***ушчамі́цца*** як свіння́ ў пло́це ўшчамі́лася. Гл. свіння.
крыча́ць як су́чка ў плот ушчамі́ўшыся. Гл. сучка.

***ушчы́млены*** круці́цца (уе́цца, звіва́ецца) як вуж [ушчы́млены]. Гл. вуж.

***ую́н*** **Пры́йдзе іюнь, то круціса ек в'юн.** *Стол. Прык.* Пра вялікую колькасць работ у чэрвені. ТС 5, 225.
**вёрткі як ую́н.** *Івац.*, *Пух.*, *Слон. Ухв.* Пра вёрткага, зграбнага чалавека. Шатэрнік, 46; Высл., 293; ЗЗайкі.
**віцца як уюн у прало́мцы.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра выкручванні чалавека пры папроках, ушчуваннях. Federowski, 33.
**выкру́чвацца як ую́н.** *Няўхв.* Янк., Пар., 29. Тое ж.
гібкі як ую́н. *Сміл.* Шатэрнік, 67. Тое, што вёрткі як уюн.
**закруці́цца як ую́н на рожне́.** *Жытк. Зласл.* ТС 2, 102. Тое, што віцца як уюн у праломцы.
**круці́цца (уе́цца, ве́рціцца) як ую́н на [гара́чай] патэ́льні (скаўрадзе́, скаварадзе́).** *Стаўб.*, *Ельск.*, *Івац.*, *Карм., Жабін. Няўхв.* 1. Тое, што віцца як уюн у праломцы. 2. Пра чалавека, які імкнецца выжыць у складаных абставінах. Янк., 412; Юрчанка 1972, 269; МК, 158; Высл., 337; Мат. Гом., IV, 168; Расторгуев, 274; Ззайкі; Ганчук, Касцючык, 85.
**круці́цца як вьюн у гаршку́.** *Слуцк. Няўхв.* Сержпутоўскі 1999, 74. Тое, што віцца як уюн у праломцы.
**круці́цца як ую́н, со́ллю пасы́паны.** *Няўхв.* НН 1911, 230. Тое ж.
**слі́зкі як ую́н.** *Няўхв.* Пра нешта або некага слізкіх, непрыемных, што не ўтрымаць у руках. Янк., Дыял., I, 221.
**сы́ты як ую́н.** *Круп. Ухв.* Пра некага добра накормленага. СПЗБ 1, 319.
**таўчы́ся як ую́н у рэ́шаце.** *Слуцк.* Пра хмары, што ніяк не зыходзяць з небасхілу. Сержпутоўскі 1999, 44.
**як ую́н на ме́тцы.** *Лельч. Няўхв.* Пра неспакойнага, мітуслівага чалавека. Гор., Руд., 26.
**круці́цца як уюны́ ў каро́бацці.** *Пух. Няўхв.* Пра дзяцей, што надта раздурэліся, забаўляюцца. СПЗБ 5, 258.

# Ф

***фа́брыка*** *што* **як на фа́брыцы ідзе́ць.** *Паст. Ухв.* Пра наладжанасць, маштабнасць працы. СПЗБ 5, 258.

***фана́р*** **Краса́ без ума́ – што фана́р без свячы́.** *Паст. Прык.* Пра важнасць розуму і для прыгожага чалавека. СПЗБ 2, 517.

***Фанасёў*** выць як Фанасёва А́за. Гл. Аза.

***фа́нцік*** як у дурно́га фа́нцікаў. Гл. дурны.

***фары́на*** **ліць як у фары́ну.** *Стаўб., Маладз. Асудж.* Пра добрага п’яніцу. Мін.-Мал., 1970, 144; МК, 140. < Фарына – бочка.

***фашы́ст*** **дзікі як фашы́ст.** *Асудж.* Пра чалавека дзікага нораву. Янк., Пар., 52.

**нялю́дскі як фашы́ст.** *Асудж.* Пра злоснага, благога, жорсткага чалавека. Янк., Пар., 116.

***фей*** **як фей.** *Ашм.* Пра чалавека, які стаіць, ходзіць, паглыбіўшыся ў свае думкі. Даніловіч 2008, 138.

***філю́та*** **сядзе́ць як філю́та.** *Брасл. Асудж.* Пра гультаяватага, жулікаватага чалавека. СПЗБ 5, 266. < Філюта – гультай, параўн. польск. filut ‘дасціпнік, прайдзісвет’.

***фі́нскі*** як у фі́нскім ба́нку. Гл. банк.

***Флёрка*** **даве́сці што Флёрка саху́.** *Вілен. Іран. Няўхв.* Пра чалавека, што сапсаваў нейкую справу. Sielicki, 158. < З анекдота, які не захаваўся.

***флю́ндра*** **падбры́ндацца як флю́ндра.** *Слон. Няўхв.* Пра неахайную жанчыну. Высл., 358. < Пабрындацца – запэцкацца.

***фо́рма*** <як> чорт на фо́рму ўзяў (забра́ў) *каго́*, *што*. Гл. чорт.

***Фра́нак*** **як Фра́нак у аўто́бусе.** *Маст. Іран.* Пра кагосьці, хто важна, фанабэрыста паводзіць сябе. Даніловіч, 262; Сцяшковіч, 620.

***францу́з*** **бая́цца хо́ладу як пранцу́з.** *Жарт.* Алюзія да лёсу французскіх салдат, што памерзлі, адступаючы з Расіі. Federowski, 243.

прагна́ць як Куту́з пранцу́за. Гл. Кутуз.

***Фэ́лька*** **як Фэ́лька з Палесты́ны.** *Гродз. Няўхв.* Пра неахайна апранутага чалавека. Даніловіч 2008, 138.

***фэст*** плёсціся як ста́рцы на фэст. Гл. старац.

сабра́цца як шля́хта (шля́хціцы) на фэст. Гл. шляхта.

**людзе́й як на фэ́сце.** Пра вялікую колькасць людзей дзе-н. Янк., Пар., 98.

# Х

***хава́цца*** **е́хаць ціхінька як хува́цца.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра вельмі сцішаную, баязлівую язду. Нар. лекс., 181.

***хава́ць*** галасіць як нябо́жчыка хава́еш. Гл. нябожчык.

***хада́к*** **ску́ра злéзла што хада́к.** *Віл.* Пра нейкую прыгоду з пашкоджаннем скуры. СПЗБ 5, 277. < Хадак – лапаць, пашыты са скуры.

*хадзíць* гаспадáрку вадзíць – не разíнуўшы рот хадзíць. Гл. рот.

*Хáйка* **маліцца як Хáйка на Бэ́рку.** *Мсціcл. Жарт.* Пра стаўленне да кагосьці з захапленнем. Юрчанка, 201.

*халадзёнка* **як халадзёнкай аблíлі.** *Няўхв.* Пра чалавека, якога моцна ўразілі. Санько, 214.

*халéра* **вы́чагнуць як халéра.** *Смал. п. Няўхв.* Пра моцна схуднелага, змагнелага чалавека. Добр., Смол., 107. < Вычагнуць – высахнуць.

**стáра бáба як халéра, і то трэ́буе кавалéра.** *Слон. Жарт.* Пра старую кабету, што нібыта хоча мець каханка. Арх. Гр.

**бая́цца як халéры.** Пра моцны панічны страх. Янк., Пар., 14.

**карóвы лятáюць як халéры.** *Лях. Няўхв.* Пра кароў, што неспакойна пасуцца. СПЗБ 5, 283.

**уцякáць як ад халéры.** Пра хуткія, энергічныя ўцёкі ад каго-н. Янк., Пар., 176; Санько, 193.

**бы холéра волочы́ся по свíтэ.** *Драг. Няўхв.* Пра бязмэтавае надакучлівае для іншых бадзянне каго-н. Лучыц-Федарэц, 222.

*Халімóн* **дзяржáцца як Халімóн за Бóга.** *Насмешл.* Пра чалавека, які даверліва і безразважліва за штосьь або за каго-н. трымаецца. Ройзензон, 69; Янк., 398.

*халóдны* уладкавáцца як клоп, што з халóднай стóлі скóчыў у цёплую пáніну пасцéль. Гл. клоп.

вы́йсці як халóднаю вадóю аблíты. Гл. вада.

звалíцца як халóдны снег на галаву́ ўлéтку. Гл. снег.

разыйсцíся як халóдны самавáр. Гл. самавар.

*халява* **гóрла як халя́ва.** *Ваўк. п., Слон. Асудж.* Пра вялікага аматара выпіць. Federowski, 120; Высл., 307.

дурны́ як бот без халя́вы. Гл. бот.

**дурны́ як халя́ва.** *Смíл. Няўхв.* Пра кагосьці неразумнага. Шатэрнік, 283.

**Не вялíкая слáва, што рот – як халя́ва.** *Капыл. Прык. Асудж.* Пра тое, што крыкам славы не заслужыш. Рабкевіч, 133.

**рот бу халя́ва, без зубóў.** *Стол. Насмешл.* Пра стары, бяззубы рот. ТС 5, 227.

**чóрная шы́я як халя́ва.** *Докш. Няўхв.* Пра чыюсьці нямытую шыю. Высл., 418.

**разя́віць рот як халя́ву.** *Маст., Стол. Асудж. Абразл.* Пра чалавека, што моцна раскрычаўся. СПЗБ 4, 263; ТС 4, 308.

*хам* да людзéй як пан, а ў хáце як хам. Гл. пан.

*Хамá* **зарабíць што (як) Хамá на вóўне.** *Жлоб., Рэч. Іран.* Пра чалавека, што не зарабіў, а страціў. Высл., 324.

*хаму́т* **Век пражы́ць – не хаму́т íсшыць.** *Ветк. Прык.* Пра складанасці ў жыцці. ЗЛапаціна.

**дурны́ як хаму́т.** *Навагр., Сак. п. Няўхв. Абразл.* Пра неразумнага чалавека. Federowski 86; Dybowski, 8.

лéзці як конь у хаму́т. Гл. конь.

патрэ́бен як свінні хаму́т. Гл. свіння.

**як хаму́т на свінні́/на каро́ве.** *Чэрык.*, *Касц.*, *Хоц.*, *Брэсц. Іран.* Пра штосьці, што зусім не пасуе, не падыходзіць да чаго-н., каму-н. ЛЦ, 76.

**як хаму́т пашы́ўшы.** *Мсціcл. Іран.* Пра паводзіны ганарыстага чалавека. Юрчанка, 201.

спаць як пан на хамуце́. Гл. пан.

**таке́ цу́бке ек у хо́муце ля́мец.** *Стол.* Пра нейкі матэрыял (рэч), па цвёрдасці падобны на вайлак. ТС 5, 277. < Цубкі – цвёрды, каляны.

***хамя́к*** **то́ўсты як хамя́к.** *Карэл. Ухв.* Пра чалавека сытага, укормленага. Высл., 400.

***хапу́н*** **пропа́сты як бы хапу́н укра́в.** *Чыж.* Пра бясследнае знікненне каго-н. СПЗБ 5, 287.

***харт**, гл.* ***хорт***

***ха́та*** **аграмні́сты (ве́лькі) як ха́та.** *Слон.*, *Ваўк. п.* Пра вялікага тоўстага чалавека. Federowski, 7, 332; Высл., 280.

**прыбра́цца як ха́та перад Тро́йцаю.** *Кплів.* Пра залішне багата, акуратна прыбранага чалавека. Янк., 422. < Да Тройцы хаты старанна прыбіраліся, упрыгожваліся зелянінай.

*што на кім* як на чо́рту ха́та. Гл. чорт.

**як праз ха́ту <прайсці>.** *Гродз.*, *Астр.* Пра невялікую адлегласць паміж нечым. Даніловіч, 242.

гнаць як [таго́] саба́ку з ха́ты. Гл. сабака.

стая́ць як лучні́к пасярод ха́ты. Гл. лучнік.

трэ́ба як пя́ты ву́гал у ха́це. Гл. вугал.

**у ле́се як у ха́це.** Пра зацішша ў лесе. Янк., Пар., 172.

фы́ркаць як пан у мужы́цкай ха́це. Гл. пан.

***хва́ля*** **Людска́я пахва́ла што марска́я хва́ля.** *Б.-Каш. Прык.* Пра нетрываласць і непрацягласць людской прыхільнасці і славы. ПП 1, 370.

***хварасці́на*** трыма́цца як гаро́х за хварасці́ну. Гл. гарох.

***хваро́ба*** **го́ркі як хваро́ба.** *Смарг. Няўхв.* Пра нешта вельмі горкае, непрыемнае. СПЗБ 2, 91.

**Мужы́цкае здаро́ўе як па́нская хваро́ба.** *Прык.* Пра лёгкае недамаганне, на якое мужык не звяртае ўвагі. Аксамітаў, 214.

Пуры́м не свя́та, тра́сца не хваро́ба. Гл. свята.

**спро́ба не хваро́ба.** Пра пажаданасць спрабаваць нешта зрабіць.

**трыма́цца як хвароба це́ла.** Пра нешта ці некага прыліпчывае, непажаданае. Ляцкий, 46.

дапамо́жа як ка́шаль хваро́бе. Гл. кашаль.

**дрыжа́ць як у хваро́бе свянтэ́го Левантэ́го.** *Ашм.* Пра моцныя дрыжыкі ад страху, хвалявання ці холаду. Даніловіч, 261. < Хвароба святога Валентага – падучая хвароба, эпілепсія.

**трэ́ба як хваро́бе ка́шаль.** *Воран.*, *Дзятл. Іран. Няўхв.* Пра нешта зусім непатрэбнае. ФСБМ 1, 501; Даніловіч, 262; ФА.

падлéзці як ка́шаль пад хваро́бу. Гл. кашаль.

***хвасто́к*** **язычо́к лята́е як бара́нні хвасто́к.** *Памянш. Вілен. Няўхв.* Пра пляткарак. Sielicki, 159.

***хвасто́чак*** **ко́скі як мышы́ныя хвасто́чкі.** *Памянш.-ласк.* Пра тоненькія коскі ў кагосьці. Янк., Пар., 87.

***хваці́ць*** бе́гчы як агня́ (жа́ру) хваці́ўшы. Гл. агонь.

***Хве́дар*** ты така́я радня́ як Са́ўка Кузьме́ ро́дны Хве́дар. Гл. Саўка.

***хво́йка*** Чолове́к ек дуб, а жо́нка – ек та хво́йка. Гл. дуб.

***хво́йна*** **як хво́йна.** *Воран. Ухв.* Пра высокую прыгожую дзяўчыну. СПЗБ 5, 294.

***хво́ры*** прыбра́цца як чорт да хво́рага. Гл. чорт.

**даць е́сці як хво́раму.** *Вілен. Няўхв.* Пра зусім малую колькасць ежы. Sielicki, 158.

ныць як хво́ры зуб. Гл. зуб.

***хвост*** ба́сня (ба́йка) без канца́ як кабы́ла без хваста́. Гл. кабыла.

пе́сня без канца́ як кабы́ла без хваста́. Гл. кабыла.

прыста́ць як дзядо́ўнік да аве́чага (саба́чага) хваста́. Гл. дзядоўнік.

ха́та стаі́ць як саро́ка бяз хваста́: бяз хлявóў, бязь сяне́й. Гл. сарока.

Стол без хле́ба што саба́ка без хваста́. Гл. сабака.

як су́чка (саба́ка) без хваста́ *ў чым*. Гл. сучка.

віля́ць як саба́ка хвасто́м памі́ж па́лкай і кусто́м (памі́ж па́лкай і кава́лкам). Гл. сабака.

віля́ць як саба́ка хвасто́м. Гл. сабака.

вы́лезці з язы́ко́м як саба́ка з хвасто́м. Гл. сабака.

вы́скакаць з язы́ко́м як саба́ка з хвасто́м. Гл. сабака.

вярце́цца як саба́ка за хвасто́м. Гл. сабака.

вярце́ць як чорт (саба́ка) хвасто́м. Гл. чорт.

закруці́ць як лісі́ца хвасто́м. Гл. лісіца.

круці́ць [но́сам] як саба́ка хвасто́м. Гл. сабака.

лёгкі з языко́м як саба́ка з хвасто́м. Гл. сабака.

мало́ць языко́м як цяля́ хвасто́м. Гл. цяля.

накры́цца як ліса́ хвасто́м. Гл. ліса.

няма́ як чорт хвасто́м накры́ў. Гл. чорт.

падвільну́ць як саба́ка хвасто́м. Гл. сабака.

слаць як ліс хвасто́м. Гл. ліс.

трапа́ць языко́м як каро́ва хвасто́м. Гл. карова.

трапа́ць языко́м як су́ка хвасто́м. Гл. сука.

хлебяста́ць языко́м як саба́ка хвасто́м. Гл. сабака.

*што* **як хвасто́м накры́лася.** *Віл.* Кажуць у тым выпадку, калі чалавек пазычыў рэч, а пасля так і не вярнуў. ФА.

языкам хляста́ць як ры́ба хвасто́м. Гл. рыба.

**языко́м ме́ле як хвасто́м сце́ле.** *Асудж.* Пра пустую балбатню. БФМ, 242.

**языко́м ме́ле як хвасто́м це́ле.** Нос., 192; Сержп, 5. Тое ж. < Целе – цяля.

язычко́м як цялё хвасто́м. Гл. цялё.

як воўк (саба́ка) вільну́ў (мільну́ў, мялькну́ў) хвасто́м. Гл. воўк.

як кот з хвасто́м [усю́дых су́нецца]. Гл. кот.

**як хвасто́м па губа́х.** *Мсціcл. Іран.* Пра нешта непрыемнае, брыдкае. Юрчанка, 174.

**як хвасто́м пагла́джаны.** *Мсцісл. Іран.* Пра задаволенага чалавека. Юрчанка, 201.
*каму* паабяца́ць *што* саба́ку хвасто́м махну́ць. Гл. сабака.
прычапі́цца як рэпе́й к аве́чаму хвасту́. Гл. рэпей.
як варо́не на хвасце́ пане́сці. Гл. варона.
нарабі́ць як варо́на на хвасце́ панясе́. Гл. варона.
як саро́ка на хвасце́. Гл. сарока.
адна́ на све́ця век пражы́ла як свіня́ па гна́ю хвост працягну́ла. Гл. свіння.
бэ́нтацца як у саба́кі хвост. Гл. сабака.
дай табе́ тако́е шча́сце, як у казы́ хвост. Гл. каза.
**дрыжа́ць (трэ́сціся, мата́цца, бі́цца) як аве́чы (бара́нні, бара́нчыкаў) хвост (хво́сцік).** *Ваўк. п.*, *Докш. Насмешл.* Пра перажыванне, моцныя дрыжыкі чалавека ад страху, хвалявання. Federowski, 82, 273; Нос., 79, 46; Янк., 405; Юрчанка 1977, 57; Ройзензон, 77; Высл., 315.
**зацёпкацца як аве́ччый хвост.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нешта забруджанае, неахайнае. Юрчанка 1993, 178.
**калаці́цца як бара́ні хвост.** *Слуцк.* Пра біццё сэрца. Сержпутоўскі 1998, 64.
**каса́ даўга́я (густа́я) як кабыля́чы хвост.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра доўгую прыгожую касу. Federowski, 139.
**каса́ як мышы́ны хвост.** *Хоц.* Пра нейчую тоненькую кароткую коску. Бялькевіч, 270.
**пайсці́ ў рост як зайцаў хвост.** *Іран.* Пра маленькі рост. Янук., 31.
па́мяць як у за́йца хвост. Гл. заяц.
пане́сціся як жа́ру пад хвост насы́палі. Гл. жар.
патрэ́бен як кабы́ле во́ўчы хвост. Гл. кабыла.
патрэ́бен як саба́цы (саба́ку) другі́ хвост. Гл. сабака.
пяя́ць бы пяву́н, распусці́ўшы хвост. Гл. пявун.
рвану́ць бы́ццам каму́ хто со́ллю пад хвост сыпану́ў. Гл. соль.
**слівок – ек ове́чы хвост.** *Стол.* Пра вялікае мноства сліў. ТС 5, 56.
схава́цца як цецяру́к галаво́й у корч: нічо́га не віда́ць, а хвост тырчы́ць. Гл. цецярук.
уле́тку ноч (каро́тка) як у за́йца хвост. Гл. заяц.
**цяга́цца** *за кім* **як хвост за саба́кам.** *Мсцісл.* Пра пастаянную прысутнасць кагосьці за некім. Юрчанка, 175.
цяга́ць як ката́ за хвост. Гл. кот.
**цягну́цца як саба́чы хвост** *за кім*. Бялькевіч, 398. Тое, што цягацца за кім як хвост за сабакам.
**цягну́цца як хвост [за лісо́ю].** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра малое дзіця за маці. Federowski, 57; Высл., 417; Янк., 439.
**шы́я як бычы́ны (што ў вала́) хвост.** *Гом.*, *Вілен. Насмешл.* Пра чалавека з тонкай шыяй. Янк., Пар., 198, Высл., 423; Sielicki, 162.
язы́к буўта́іцца што ў саба́кі хвост. Гл. сабака.
**язы́к кру́ціцца як хвост у саба́кі.** *Ваўк. п.*, *Смал. п. Асудж.* Federowski, 126; Добр., 135. Тое, што язык што сабачы хвост.

**язы́к што псíны хвост віля́ець.** *Касц. Асудж.* Бялькевіч, 357. Тое ж.

**язы́к як сабáчы (як у сýчкі) хвост.** *Ваўк. п.*, *Рэч. Асудж. Пагардл.* Пра балбатлівага пляткара. Federowski, 126; Юрчанка 1977, 13; ЛЦ, 66.

як сабáка хвост паджáўшы. Гл. сабака.

як той воўк, што прасíў: «аннó хвост падвязí». Гл. воўк.

**як хвост авéчы.** *Рас. Няўхв.* Пра непрыемна навязчывага чалавека. КВДУ.

***хвóсцік*** **сэ́рца дрыжы́ць як авéчы хвóсцік.** *Памянш..* *Уздз.* Пра стан сэрца пры хваляванні, пераджыванні, страху. ФА.

**сэ́рца трапéчыць як барáні хвóсцік.** *Памяншн. Саліг.* ДА. Тое ж.

**мóркаў як мышы́ныя хвóсцікі.** *Чэрык.*, *Слон. Няўхв.* Пра малую тонкую моркву. Бялькевіч, 480; Высл., 347.

***хвошч*** **Калí на Пятрá пóйдзець дождж, бýдзець жы́та як хвошч.** *Фальк.* Прыкмета на малаўрадлівае жыта. Tyszkiewicz, 437; Нос., 64.

***хвóя*** **дóўга бы хвоíна вынóсна.** *Драг. Няўхв.* Пра надта высокую хударлявую жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222.

**выгóністы як хвóя.** Пра дужа высокага чалавека. Янк., Пар., 29.

***хлеб*** брáцца як галóдны за хлеб. Гл. галодны.

мазурý біцца, так як лю́дям хлеб з мáслам з’éсць. Гл. людзі.

накíнуцца як галóдны на хлеб. Гл. галодны.

**неразлýчныя як хлеб і соль.** *Мін. Ухв.* Пра чыюсьці моцную дружбу, сяброўства. ЛЦ, 38.

**рабíць як родзіўшы хлеб.** *Ухв.* Пра добрую, ад душы працу. СПЗБ 4, 233.

**хапíцца як за цёплы хлеб.** Пра чалавека, які жвава, ахвотна за нешта ўхапіўся. Янк., 436.

**Чалавéк вучóны як хлеб пячóны.** *Докш. Прык.* Пра неабходнасць вучэння для чалавека. ПП 2, 178.

І ў стáрца душá не пень: хóча хлéба і канапéль. Гл. пень.

дурны́ як сáла без хлéба. Гл. сала.

**залгáць як хлéба з мáслам з’éсці.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, якому прыемна і лёгка ілгаць. Federowski, 348.

**лёгка як хлéба з мáслам з’éсці.** *Мін.* Пра нейкую лёгкую і простую справу. Высл., 432.

**трэ́ба як раз хлéба ўкусíць.** Пра нешта вельмі патрэбнае чалавеку. Янк., Пар., 170.

**худы́ як нікóлі хлéба ў вóчы не бáчыў.** *Ваўк. п.* Пра вельмі худога чалавека. Federowski, 55.

**шукáць як хлéба.** *Слуцк.* Пра пільныя, настойлівыя пошукі нечага. Сержпутоўскі 1999, 46.

як таракáны каля́ хлéба. Гл. таракан.

***хлеў*** **Хáта бэз дыты́ны як хлів бэз скоты́ны.** *Кобр. Прык.* Пра пустату, нежыццёвасць хаты, у якой не гадуюцца дзеці. ФА.

**разя́віць гóрла як хлеў.** *Слон. Няўхв.* Пра крыклівую асобу. Высл., 375.

**ха́та што хлеў.** *Слон.* Пра вялікую і пуставатую хату. Высл., 408.
**Чужы́ рот не хлеў – не зачы́ніш.** *Прык.* Пра немагчымасць забараніць іншым гаварыць, пляткарыць. Нос., 185.
як во́ўка да гаве́ц у хлеў упусці́ць. Гл. воўк.
Дай, Бо́жа, каб пладзі́ліся як аве́чкі ў хляве́. Гл. авечка.

***хле́ўчык*** **ха́тка як хле́ўчык.** *Памяні. Дзярж. Няўхв.* Пра бедную малую хатку. Нар. слов., 32.

***хлоп*** **як хлоп (хлапо́к, хло́пік, хлапі́нка).** *Мсцісл.* Пра некага зусім слабога. Юрчанка, 201.

***хлюшч*** **вы́макнуць як хлюшч.** *Лоеў.* Пра моцна вымаклага чалавека. Янкова, 12. < Хлюшч – жорсткая балотная трава.
**мо́кры як хлюшч.** *Карэл.*, *Зэльв.* ЛЦ, 72; Сцяшковіч, 620; Сцяцко 1970, 169. Тое ж.

***хляста́ць*** крыча́ць як кнуто́м хляста́ць. Гл. кнут.

***хля́сцік*** трэ́ба як за́йцу хля́сцік. Гл. заяц.

***хма́ра*** **жы́та як хма́ра.** *Гродз. Ухв.* Пра густое, высокае, урадлівае жыта. Цыхун, 175.
**абадне бы хма́ра.** *Дзятл.* Пра напад аваднёў у вялікай колькасці. СПЗБ 5, 314. < Абадне – авадні.
**во́йска як хма́ра.** Пра вельмі вялікае войска. Янк., Пар., 26.
**заваліць** *што* **як цёмная хма́ра.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра надыход нечага цёмнага, трывожнага, цяжкага. Federowski, 351.
**людзе́й як цёмная хма́ра.** *Івац.* Пра вялікую колькасць людзей. ФА.
**навалі́цца як чо́рна хма́ра.** *Ваўк. п.* 1. Пра нападзенне кагосьці вялікага і непрыемнага. 2. Пра моцны цяжкі сон. Federowski, 199.
**падступа́ць як хма́ра.** Пра нешта агромністае і цёмнае, што набліжаецца да каго-н. НН, 546.
**су́нуцца бу хма́ра чо́рна.** *Жытк. Няўхв.* Пра панурага чалавека. ТС 5, 337.
**хадзі́ць як [чо́рная] хма́ра.** *Мсцісл.* Пра чалавека ў благім гуморы, расстроенага, прыгнечанага. Янк., 438; Юрчанка 1969, 189.
круці́цца як чорт пе́рад хма́рай. Гл. чорт.
кама́ндаваць як Ілля́ хма́рамі. Гл. Ілля.
пе́рці як чорт хма́ру. Гл. чорт.
**людзе́й як хма́ры.** *Ваўк. п.* Federowski, 63. Тое, што людзей як цёмная хмара.
**мітусі́цца як хма́ры ў бу́ру.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра сучасныя танцы з іх беспарадкам і мітуснёй. Юрчанка, 201.
**як з хма́ры спаў.** Пра нейчае нечаканае з’яўленне. Санько, 69.
**прыйсці́ як хма́ра.** *Стаўб.* Пра прыход хмурага, панурага, у змрочным настроі чалавека. МК, 244.
**разыйсці́ся як цёмныя хма́ры.** *Воран.* Пра канчатковае, назаўсёды, расстанне. Даніловіч 2010, 91.
**разыйшо́ўся як чо́рная хма́ра.** *Няўхв.* Пра раз’юшанага, раззлаванага чалавека. Янк., Пар., 137.
**хадзі́ць як чо́рная хма́ра.** *Івац.* Пра насупленага, прыгнечанага чалавека. ЗЗайкі.

**цёмны як хма́ра.** *Лях.* Пра нешта або некага цёмных, хмурых. ЗВалодзінай.

**чо́рны як хма́ра.** *Івац.* ЗЗайкі. Тое ж.

**Ажані́ўся і як за хма́ру закаці́ўся.** *Докш. Прык.* Пра мужчыну, які пасля жаніцьбы адышоў ад нейкай кампаніі. ПП 2, 56.

**таўчы́ся як хма́ры ў бу́ру.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра сучасныя мітуслівыя танцы. Юрчанка, 201.

чака́ць як со́нца з-за хма́ры. Гл. сонца.

***хмель*** **я́гад як хме́лю.** *Івац. Ухв.* Пра буйныя, ядраныя ягады ў вялікай колькасці. ЗЗайкі.

**ві́цца як хмель.** 1. Пра расліны, якія ўюцца. 2. Пра валасы, што ўюцца кудзеркамі. Янк., Пар., 173.

***хо́лад*** ку́рчыцца як саба́ка ад хо́ладу. Гл. сабака.

***Хо́мка*** **гну́цца як Хо́мка пе́рад Хо́ўрай (Кулі́най).** *Насмешл.* Пра чалавека, які паводзіць сябе лісліва, прыніжана. Юрчанка, 201.

**ле́зці як Хо́мка ў асе́ць (падасе́цце).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які нязграбна некуды пнецца. Юрчанка, 201.

**хадзі́ць як Хо́мка з балала́йкаю.** *Мсцісл. Іран.* Пра нейчыя недарэчныя, няўхвальныя паводзіны. Юрчанка, 194.

***хорт*** **як харт падга́лы.** *Зэльв.* Пра тонкую, высокую, з падцятым жыватом жывёлу. Сцяцко 1970, 110.

**накі́нуцца як па́нскія харты́.** Пра прагнае накідванне на ежу. Энеіда навыварат.

**вы́хартацца як хорт.** *Смал. п. Жарт.* Пра згаладалага, схудалага чалавека. Добр., Смол., 965.

**зрабі́цца як хорт.** Ляцкий, 13; Санько, 137. Тое ж.

**лёгкі як хорт.** *Гродз. Няўхв.* Пра недарослага падсвінка. Цыхун, 80.

**махну́ць як [тэй] хорт.** *Смал. п.* Пра кагосьці, хто хутка сіганууў, скочыў. Добр., Смол., 404.

**падгі́ндзіцца як хорт.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1999, 80. Тое, што выхартацца як хорт.

**Спе́раду як хорт, а зза́ду як чорт.** *Прык. Жарт.* Пра непрывабны выгляд чалавека. Federowski, 232.

**су́нуць як хорт.** *Слуцк.* Сержпутоўскі 1998, 269. Тое, што махнуць як хорт.

**то́нкі як хорт.** *Ваўк. п.* Пра танклявага чалавека. Federowski, 313.

**худы́ як хорт.** *Навагр.* СПЗБ 5, 318. Тое ж.

***Хо́ўра*** **зарабі́ць як Хо́ўра на во́ўне.** *Ушацк. Іран.* Пра адсутнасць заробку наогул. Барадулін, 114. < Хоўра – народная форма імя Фяўронія.

**паўзці́ як Хо́ўра з пе́чы.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нязграбнае перамяшчэнне каго-н. Юрчанка, 202.

**хадзі́ць як Хо́ўра.** *Сур. Няўхв.* Пра неахайную жанчыну. Каспяровіч, 331.

сябрава́ць як Са́ўка з Хо́ўрай. Гл. Саўка.

як Хо́мка пе́рад Хо́ўрай. Гл. Хомка.

| | |
|---|---|
| ***хо́хлік*** | **глядзе́ць як хо́хлік.** *Беш. Няўхв.* Пра непрыязны, насцярожаны пагляд каго-н. Носович, 683; Каспяровіч, 331. < Хохлік – чорт, чарцяня. |
| | **скака́ць як хо́хлік у бало́це.** *Слуцк. Насмешл.* Пра нейчыя дураслівыя, непрызваітыя паводзіны. Сержпутоўскі, 96. |
| ***хра́пка*** | **пасіве́ць як хра́пка ў капу́сты.** *Краснап.* Пра пасівелага да белізны чалавека. Бялькевіч, 475. < Храпка – ножка, цвёрды стрыжань у капусты. |
| ***хрусце́ль*** | **худ[ы] як хрусце́ль.** Пра кагосьці худога, лёгкага. Киркор, 239; Нос., 178. < Хрусцель – птушка драч, дзяркач. |
| ***Хрысто́с*** | **як Ісу́с Хрысто́с распя́ты.** *Маладз. Насмешл.* Пра нястрыжанага хлопца. ФА. |
| | **жыць як у Хрыста́ за па́зухай.** *Мсцісл. Ухв.* Пра прывольнае, забяспечанае жыццё каго-н. Юрчанка 1977, 248. |
| ***хры́шчаны*** | як у адно́й кашу́лі хры́шчаныя. Гл. кашуля. |
| ***хрэ́зьбіны*** | рассе́сціся як у це́шчы на хрэ́зьбінах. Гл. цешча. |
| ***хрэн*** | як у латыша́ хрэн ды душа́ *ў каго.* Гл. латыш. |
| ***хрэст*** | **як з храста́ зня́ты.** *Ваўк. п., Мсцісл. Спачув.* Пра выгляд чалавека пасля хваробы, перажыванняў, гора. Federowski, 374; Юрчанка 1977, 213. |
| | дрыжа́ць (трэ́сціся, калаці́цца) як чорт пад (пе́рад) храсто́м. Гл. чорт. |
| | сядзе́ць як святэ́й (святы́м) пад храсто́м. Гл. святы. |
| | бая́цца як чорт хрыста́ (храста́). Гл. чорт. |
| | як жыд да хрыста́. Гл. жыд. |
| | **Мужы́к хазя́ін над ба́бай як хрэст над царкво́й.** *Гарад. Прык.* Пра ўладу мужчыны ў сям'і. АВНЛ. |
| ***ху́кнуць*** | **лёгка як ху́кнуць.** Пра лёгкасць і хуткасць пры выкананні нейкай працы. Санько, 214. |
| ***ху́рманскі*** | распусці́ць язы́к як ху́рманскі біч. Гл. біч. |
| ***ху́ста*** | **збяле́ць як ху́ста.** *Ваўк. п. Спачув.* Пра збялелага ад страху, хваробы чалавека. Federowski, 373; Ляцкий, 19. |
| ***хутара́нец*** | **нядру́жны як хутара́нец.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не любіць быць у гурце. Янк., Пар., 116. |
| | **падпільно́ўваць як хутара́нец у са́дзе.** *Няўхв.* Пра жаднага чалавека, які кагосьці адсочвае, падпільноўвае. Янк., Пар., 121. |

# Ц

| | |
|---|---|
| ***цаблу́к*** | **вы́макнуць як цаблу́к.** *Ганц.* Пра крэпка вымаклага пад дажджом або ўпацелага ад цяжкай працы чалавека. СПЗБ 5, 333. < Цаблук – вобад у рыбалоўнай снасці. |
| ***цабэ́рак*** | **галава́ як цабэ́рак.** *Івац., Мядз.* Пра вялікую галаву. ЗСалавей; ЗЗайкі. |
| ***цаві́на*** | **гну́цца як цаві́на (цявіна).** *Няўхв.* 1. Пра нешта нямоцнае, гнуткае, нястойкае. 2. Пра чалавека, які ад нечага крэпка пакутуе. Янк., Пар., 42. < Цавіна, цявіна – былінка. |

***цадзілак*** **вісе́ць як цадзі́лак на пло́це** *над кім. Шчуч. Жарт. Няўхв.* Пра кагосьці, хто надакучае, назаляе каму-н. Даніловіч, 37.

***цаліна́*** як са́ні па цаліне́. Гл. сані.

***цапі́ла*** **сядзе́ць як цапі́ла.** *Капыл. Зласл.* Пра чалавека, які сядзіць з няўцямным, тупым выглядам. ДА.

***цапі́льня*** круці́цца як біч на цапі́льні. Гл. біч.

***цар*** **апрану́цца як цар Танявіцкі.** *Шчуч. Іран.* Пра чалавека, які сваім безгустоўным апрананнем нагадвае мясцовага камічнага персанажа. Даніловіч, 262. < Танявіцкі – ад Танявічы (назва вёскі ў Шчучынскім раёне).

**збіра́цца як цар пад Ры́гу.** Пра чалавека, які старанна выбіраецца на безвыніковае мерапрыемства. Арх. Гр.

**з'е́здзіць як цар пад Ры́гу.** *Брасл.* Пра нейкую безвыніковую паездку куды-н. КВДУ. < Параўнанні гэтыя маглі ўзнікнуць толькі пасля таго, як у 1710 г. у час Паўночнай вайны Рыга была вызвалена рускім войскам ад шведаў, а пазней (1721 г.) далучана да Расіі, і ў сувязі з наведваннем Рыгі Пятром.

***царква́*** Мужы́к хазя́ін над ба́бай як хрэст над царкво́й. Гл. хрэст.

худы́ як мыш з царквы́. Гл. мыш.

**гарэ́ць як у цэ́ркві.** *Слуцк. Ухв.* Пра роўнае яркае гарэнне свечак. Сержпутоўскі 1999, 79.

перагу́кваццa от не раўнуючы рыхтык поп з дзяком у цэ́ркві. Гл. поп.

пра́віць як поп у цэ́ркві. Гл. поп.

***царко́ўны*** бе́дны як царко́ўная мыш. Гл. мыш.

***цары́ца*** **жыць як цары́ца.** *Мсціcл. Ухв.* Пра добрае, прывольнае жыццё. Юрчанка, 202.

**маладзі́ца як цары́ца.** *Захапл.* Пра важную, прыгожую, статную жанчыну. Янк., Пар., 102.

***царэ́ва*** **прыго́жа ек царэ́ва.** *Жытк. Захапл.* Пра вельмі прыгожую дзяўчыну. ТС 5, 262. < Царэва – царэўна.

***ца́ца*** **як ца́ца ў пала́цы.** *Рас. Насмешл.* Пра маменькіну дачку-пястушку. КВДУ.

***ца́цачка*** **адзе́ты як ца́цачка.** *Памянш.-ласк. Маладз. Ухв.* Пра прыгожа, з густам убранае, апранутае дзіця. Гілевіч, 115.

***ца́цка*** **прыго́жая як ца́цка.** *Ухв.* Пра вельмі прыгожую дзяўчыну, жанчыну. Янк., Пар., 133.

**як ца́цка.** *Паст. Ухв.* Пра добра зроблены прадмет, дагледжаную жывёліну. СПЗБ 2, 224.

***цвет*** **Бе́лый (гэ́тат) сьвет як ма́кыў (ма́кавы) цьвет.** *Смал. п. Прык. Ухв.* Пра хараство гэтага свету. Добровольский III, 4.

**Гэ́ты свет як макоў цвет, а там бу́душчы век.** *Жытк. Прык.* ТС 1, 89. Тое ж.

**Гэ́ты свет як ма́каў цвет: зра́нку расцвіта́е, да ве́чара апада́е.** *Прык.* Пра падабенства хуткаплыннасці жыцця чалавека і хуткага адцвітання маку. Federowski, 307.

**Дзяво́чы век як ма́каў цвет.** *Зэльв. Прык.* Пра нядоўгі час дзявоцтва. ПП 2, 13; БВ, 107.
**загарэ́цца бы ма́каў цвет.** *Слуцк.* Пра крэпка, густа пачырванелыя шчокі. Сержпутоўскі 2000, 241.
**мой (наш) век як ма́каў цвет.** *Ваўк. п.* Пра хуткаплыннасць часу. Federowski, 331; Янк., Пар., 104.
**прайшо́ў мой век як ма́каў цвет.** Пра хутка прамінулыя гады жыцця. Янкоўскі, 80.
**сядзе́ць як цвет між крапі́вы.** *Брасл. Насмешл.* Пра жанчыну, што апынулася ў гурце мужчын. Рабкевіч, 198.
**харо́ша як ма́каў цвет.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра прыгожую румяную жанчыну. Federowski, 50.
**цвісці́ як адзі́н цвет.** *Мсцісл. Ухв.* Пра роўнае цвіценне пасадак. Юрчанка, 172.
**шчо́кі пачырване́лі як ма́каў цвет.** *Мсцісл.* Бялькевіч, 323, 475. Тое, што загарэцца бы макаў цвет.

***цвік,***
*гл. таксама* ***гвозд*** — **цвёрды як дзвік [сераўно].** *Шчуч. Ухв.* 1. Пра нейкі цвёрды, крэпкі прадмет. 2. Пра прамы, рашучы, цвёрды характар чалавека. Нар. лекс., 46.
**во́стры як цвік.** Пра нешта калючае, вострае. Янк., Пар., 27.
**здаро́вы як цвік.** *Ваўк. п., Лях. Ухв.* Пра моцнага, здаровага чалавека. Federowski, 353; ЗВалодзінай.
**му́ляць як цвік у бо́це.** *Мін. Няўхв.* Пра нешта альбо некага, што моцна перашкаджаюць. ЛЦ, 61.
падско́чыць бы́ццам наступі́ў пято́й на цвік. Гл. пята.
**сказа́ць як цвік у сэ́рца ўбі́ць.** *Няўхв.* Пра вельмі балючыя, непрыемныя словы. Янк., Пар., 148.
**сядзе́ць як цвік.** *Карэл.* Пра чалавека, які моцна трымаецца свайго месца, пасады. СПЗБ 5, 339; Санько, 186.
**сядзе́ць як на цвіка́х.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не можа ўседзець на месцы, выкручваецца, непакоіцца. Санько, 70.
**сказа́ць як цвіко́м прыбі́ць.** Пра нешта рашуча, катэгарычна сказанае, сцверджанае. Янкоўскі, 107.
**сядзе́ць цвіко́м у галаве́.** Пра моцна запалыя ў галаву думкі, праблемы, клопаты. БПФС, 60.
**ра́ды** *каму* **як цвіку́ ў бо́це пад пя́ткай.** *Мін. Іран.* Пра адсутнасць радасці, пачуццё непрыязні, раздражнення да каго-н. ЛЦ, 62.

***цвісці́*** — наро́д ідзе́ як мак цвіце́. Гл. мак.

***цвічо́к*** — **хадзі́ць як цвічо́к.** *Памянш.* Пра крамянога моцнага чалавека. Янк., 338.

***цвях*** — **здоро́вый як цвях.** *Кам. Ухв.* Пра крэпкага, моцнага чалавека. ЖН, 51. < Цвях – цвік.

***це́ла*** — **бе́ла як свіно́е це́ла.** *Ваўк. п., Карэл., Ушацк. Іран.* Пра нешта не зусім белае. Federowski, 30; Высл., 286; Барадулін, 103.
бяро́мся за дзе́ла як во́шы за це́ла. Гл. вош.
прыкарэ́ць да каго́ як ба́нны ліст да це́ла. Гл. ліст.

прыста́ць як ліст у ла́зні да це́ла. Гл. ліст.

**ску́ра зрабілася як кура́ча це́ла.** *Шчуч.* Пра скуру ў пупырышках ад холаду ці яшчэ чаго. СПЗБ 4, 471.

трыма́цца як хваро́ба це́ла. Гл. хвароба.

уе́ліся злы́дні як во́шы ў це́ла. Гл. вош.

хадзіць як душа́ без це́ла. Гл. душа.

**хадзіць як це́ла без душы́.** *Ваўк. Спачув.* Пра чалавека, нечым моцна расстроенага, напалоханага, абыякавага да жыцця. Federowski, 48; Санько, 68.

**цяга́цца як це́ла без душы́.** *Ваўк. п.* Federowski, 48, 57. Тое ж.

як сярпо́м па це́ле. Гл. серп.

напіцца як шаве́ц на Бо́жа ця́ла. Гл. шавец.

***целегра́фны*** бурча́ць як целегра́фный стоўб. Гл. стоўб.

***целеш*** **як целеш.** *Мсцісл. Ухв.* Пра крэпенькае дзіця. Юрчанка, 202.

***цельпушо́к*** **як цельпушо́к.** *Памянш. Мсцісл.* Пра поўнае, сытае дзіця. Юрчанка, 202.

***цельпушо́чак*** **як цельпушо́чак.** *Памянш.-ласк.* Пра моцнае, дагледжанае, сытае дзіця. Юрчанка, 202.

***целяшо́к*** **як целяшо́к.** *Памянш. Мсцісл.* Пра сыценькае дзіця. Юрчанка, 202.

***цень*** **блука́ць як цень.** Пра вельмі аслабленага, хворага чалавека. Янк., Пар., 18.

**не жыве́ць, а як цень тле́ець.** *Спачув.* Пра цяжка хворага, аслабленага чалавека. Ляцкий, 30.

**пле́сціся як цень загро́бная.** *Слон. Спачув.* Высл., 367. Тое, што блука́ць як цень.

**сла́бы як цень на вадзе́.** *Старадар. Спачув.* СПЗБ 4, 476. Тое ж.

стаць як цень. *Пруж. Спачув.* Санько, 185; Босак, 32. Тое ж.

**хадзіць сле́дам як цень.** *Слуцк. Няўхв.* Пра вельмі назойлівага, неадчэпнага чалавека. Сержпутоўскі 1998, 72.

**хадзіць як цень (сцень).** *Ваўк. п., Добр., Навагр., Саліг., Івац.* Спач. Federowski, 48; Сержпутоўскі 1999, 81; ЖНС, 164; ДА; ЗЗайкі. Тое ж.

**як цень цяня́цца.** *Слон.* Даніловіч, 262. Тое ж.

не адчапіцца *ад каго* як ад це́ню. Янк., Пар., 112. Тое, што хадзіць следам як цень.

разбе́гчыся хто куды́, як кураня́ты ад це́ню каршуна́. Гл. кураня.

***цёплы*** узя́цца за рабо́ту як пчолы ў цёплы дзень. Гл. пчала.

хапіцца як за цёплы хлеб. Гл. хлеб.

***це́рніца*** **як у це́рніцу це́рці.** *Ваўк. п. Бераст., Маст. Асудж.* Пра празмернае спажыванне ежы абжорлівым чалавекам. Federowski, 129; Сцяшковіч, 620; Даніловіч, 112; Янк., Пар., 59.

***це́сны*** любіць як саба́кі дзе́да ў це́снай ву́ліцы. Гл. сабака.

***це́ста*** дарва́цца бы свіння́ да це́ста. Гл. свіння.

**пе́нкна як пшо́ннае це́ста.** *Слон. п. Ухв.* Пра дагледжаную, ладную, прывабную жанчыну. Federowski, 232.

прысляніцца да міскі як сляпы́ да це́ста. Гл. сляпы.

**разыйсціся як цéста ў дзяжы́.** *Івац. Насмешл.* Пра разгневанага, разнерваванага чалавека. ЗЗайкі.
**узня́цца як цéста на рóшчыне.** *Валож.* Пра чый-н. хуткі, інтэнсіўны рост. АВНЛ.
улéзці як мыш у цéста. Гл. мыш.
улíпнуць як сляпы́ ў цéста. Гл. сляпы.
**што цéста: як замясíў, так і вы́расла.** *Арш.* Пра выхаванне чалавека: якім выхавалі, такім і будзе. ВА.
**як з цéста злéпленый.** *Мсцісл. Ухв.* Пра поўнага, сытага чалавека. Юрчанка, 185.
таўчы́ся як карóва ў цéсце. Гл. карова.
**У мéсце як у цéсце, не купíўшы – не з’éсці.** *Прык.* Пра неабходнасць купляць ежу ў горадзе ў адрозненне ад вёскі, дзе ежу вырошчваюць. Federowski, 185.

***цесць***
**умéсце жыць як у цéсця.** *Воран. Няўхв.* Пра нязручнасць, невыгоднасць жыць дзвюма сем’ямі ў адной хаце. СПЗБ 5, 208.

***цецéра**, гл.* ***цяцéра***

***цецяру́к***
**балбатáць як цецяру́к.** *Слон., Лід. п., В.-Дзв. Няўхв.* Пра чалавека, які надта захапляецца сваёй прамовай. Federowski, 21; СПЗБ 5, 355.
**вы́скачыць як цецяру́к.** Пра нейчы нечаканы, рэзкі рух. Federowski, 345.
**глухí як цецяру́к.** *Чэрв., Слуцк. Пагардл.* Пра глухога чалавека. Янк., 402; Сержпутоўскі 1999, 36; ФА.
**залапатáць як цецяру́к.** Янк., 408. Тое, што балбатаць як цецярук.
**затакавáцца як цецяру́к.** *Насмешл.* Пра таго, хто многа гаворыць, не зважаючы на іншых. Шпилевский, 180; Анимелле, 263; Нос.,47; Federowski, 350.
**наду́цца (сядзéць) як цецяру́к.** *Няўхв.* Пра чалавека, які трымаецца паасобку. Нос., 84; Расторгуев, 261.
**разбалбатáцца як стáры цецяру́к.** *Ушацк. Няўхв.* ЛЦ, 65. Тое, што балбатаць як цецярук.
**схавáцца як цецяру́к галавóй у корч: нічóга не відáць, а хвост тырчы́ць.** *Мін. Насмешл.* Пра чалавека, які смешна і недарэчна хаваецца ад людзей. ЛЦ, 123.
**патрэ́бен як цецеруку́ рóгі.** *Касц. Іран.* Пра нешта зусім непатрэбнае, недарэчнае. ЛЦ, 118.

***цéшча***
**бурчáць як ліхáя цéшча.** *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, што вечна бурчыць, вучыць іншых. Высл., 289.
пéрці як чорт цёшчу. Гл. чорт.
**расьсéсціся як у цéшчы на хрэ́зьбінах.** *Чэрык. Няўхв.* Пра чалавека, які надта важна і прывольна недзе рассеўся. Бялькевіч, 480.

***цёлка***
**раўсцí як цёлка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчы гучны, голасны крык. З нар. сл., 130.
**як цёлка ў кóхтачцы.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра жанчыну, убраную неадпаведна ўзросту, фігуры. Юрчанка, 202.

**на́да як цёлцы ко́хтачка.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта непатрэбнае. Юрчанка, 202.

**падыхо́дзіць як цёлцы ко́хтачка.** *Мсцісл. Іран.* Пра адзенне, што некаму зусім не падыходзіць. Юрчанка, 202.

***цёмны*** завалі́лі двор (ме́ста) як цёмная хма́ра. Гл. хмара.

людзе́й як цёмная хма́ра. Гл. хмара.

п’я́ны як цёмная ноч. Гл. ноч.

хадзі́ць як цёмная ноч. Гл. ноч.

як цёмная ноч *каму што*. Гл. ноч.

я́сна як цёмная ноч. Гл. ноч.

гэ́та *для каго* што цёмны лес. Гл. лес.

***цёплы*** уладкава́цца як клоп, што з хало́днай сто́лі ско́чыў у цёплую па́ніну пасце́ль. Гл. клоп.

***цётка*** **Го́лад не цётка, піражка́ не падсу́не.** *Прык.* Пра бязлітаснасць голаду. БПФС, 69.

***цібах/цыбах*** **вы́цягнуцца як [той] цібах.** *Пін.* Пра надта падрослага падлетка. Нар. лекс., 103. < Цібах – кветканоснае сцябло цыбулі.

**бы цыбахе́.** *Драг. Няўхв.* Пра худых бяскроўных дзяцей. Лучыц-Федарэц, 222.

***цігра*** **руга́цца як ці́гра.** *Карэл. Асудж.* Пра сварлівага злога чалавека. СПЗБ 5, 359.

**як ці́гра.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра злоснага, звераватага чалавека. Юрчанка, 202.

***ціўка*** **рука́ бы ці́ўка.** *Драг. Спачув.* Пра тонкую, худзенькую руку. Лучыц-Федарэц, 222.

***ціхі*** хло́пец як ці́хае ле́та. Гл. лета.

***ціць*** **глядзі́ць як ціць, а насі́лу відзі́ць.** *Іран.* Пра таго, хто пільна кудысьці ўглядаецца, але не заўважае самага істотнага. Нос., 24.

***цмык*** **худы́ як цмык.** *Сміл.* Пра вельмі худога чалавека. Шатэрнік, 297; Янк., 432. < Цмык – смык скрыпічны.

***цу́кар*** **заві́днаму чужа́я бяда́ як цу́кар.** *Бераст. Асудж.* Пра зайздросных людзей, якія радуюцца чужым непрыемнасцям. Сцяшковіч, 592; Янкоўскі, 190.

насе́сці як му́хі на цу́кар. Гл. муха.

**сма́чна як цу́кар з са́лам.** *Іран.* Пра нешта несумяшчальнае ў страве, адсутнасць смаку ад такога наедку. Ляцкий, 42.

**сало́дкі як цу́кар.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта вельмі салодкае, смачнае. Federowski, 271.

***цуке́рка*** **харо́шы як цуке́рка за два гро́шы.** *Іран.* Пра нешта не вельмі якаснае, харошае. Янк., 438.

**Шча́сце не цуке́рка – у ру́кі не во́зьмеш.** *Прык.* Пра немагчымасць проста так атрымаць і ўтрымаць шчасце. Янк., М., 41.

***цы́бала*** **як цыбала.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра няўклюднага чалавека. Юрчанка, 202.

***цы́бачка*** **но́гі бы цы́бачкі.** *Ганц.* Пра нейчыя тонкія ногі. ДА.

***цыбу́к*** **вы́цягнуцца як цыбу́к.** *Віл.* Пра падлетка, юнака, што непрыкметна вырас. СПЗБ 5, 383.

*цыбу́ля/цыбу́ліна* **надае́сці як го́ркая (пага́ная) цыбу́ліна.** *Ваўк. п.*, *Касц. Іўеў.*, *Ушацк.*, *Мсцісл. Раздраж.* Пра тое, што вельмі моцна надакучыла. Federowski, 194; Бялькевіч, 215; Высл., 350; Юрчанка 1977, 33.

зарабіць як Марцэ́ля на цыбу́лі. Гл. Марцэля.

**наве́шаць во́праткі** *на каго* **як на цыбу́лі.** *Слуцк.* Пра чалавека, што апрануўся шматслойна. Высл., 349.

**апры́крыць як го́ркая цыбу́ліна.** Санько, 112; Янк., 396. Тое, што надаесці як горкая (паганая) цыбуліна.

любіць як саба́ка цыбу́лю. Гл. сабака.

**Гро́шы не цыбу́ля, што на шастку́ вісі́ць.** *Гом. Прык.* Пра неабходнасць грошы зарабляць, яны не чакаюць дзесь у даступным месцы. ПП 1, 480.

патрэ́бен як саба́ку пе́чаная цыбу́ля. Гл. сабака.

*цыга́н* **выкру́чвацца як цыга́н на кірмашы́.** *Няўхв.* Пра чалавека-круцяля. Санько, 120.

**драць (запрасі́ць) што цыга́н за ба́цьку.** *Жлоб.*, *Касц.*, *Карм. Жарт.* Пра таго, хто вельмі даражыцца, выстаўляе вялікія цэны. Высл., 313; ПП 1, 466.

**залі́цца бы цыга́н сыро́ваткою.** *Стол. Насмешл.* Пра чалавека, які моцна, залівіста, але без прычыны засмяяўся. Барысюк, Буян, 17.

**круці́цца як цыга́н на до́лаце.** *Дзятл. Насмешл.* Пра непаседлівага чалавека, якому не сядзіцца на адным месцы. Гілевіч, 165.

**круці́цца як цыга́н на кермашы́ (ярмалку, ярмарку).** *Слон. п. Няўхв.* Пра паводзіны чалавека, які камбінуе нейкія хітрыя справы. Federowski, 60; Dybowski, 7.

**любі́ць як цыга́н сляпу́ю кабы́лу.** *Іўеў.*, *Ашм.*, *Мін.*, *Івац. Іран.* Пра нейкую ўяўную любоў, яе адсутнасць. Даніловіч, 262; Высл., 342; ЗЗайкі.

**мяня́ць рабо́ту як цыга́н куст.** *Здзекл.* Пра гультаяватага летуна, што не знойдзе шчаслівага месца. Янкоўскі, 19.

**мяня́ць** *што* **як цыга́н ко́ні.** *Ваўк. п*, *Івац. Няўхв.* Пра ўчынкі чалавека, схільнага да гандлю. Federowski, 60; ЗЗайкі.

**пайсці́ ўго́ру як цыга́н па драбі́нах на не́ба.** *Слон. Насмешл.* Пра кагосьці, хто хутка робіць кар'еру. Высл., 363.

**смяя́цца як цыга́н сырава́ткай.** *Лід. Кплів.* Пра чалавека, што моцна без прычыны смяецца. Сцяшковіч, 621.

**так до́рага хо́ча прада́ць як цыга́н ба́цьку.** *Слон.* Federowski, 60. Тое, што драць (запрасіць) што цыган за бацьку.

**таргава́цца як цыга́н.** *Ваўк. п.*, *Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які надта таргуецца, расхвальвае свой тавар. Federowski, 60; ЗЗайкі.

**усе́сціся як цыга́н на тачы́ла.** *Мін. Няўхв.* Пра чалавека, што застыў у бяздзейнасці. ЛЦ, 36.

**хвалі́цца як цыга́н канём.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які выхваляецца без падстаў. Federowski, 59.

**хвалі́цца як цыга́н каро́слівай кабы́лай.** *Здзекл.* Пра таго, хто непамерна хваліцца чым-, кім-н., хто не заслугоўвае такой пахвалы. Аксамітаў, 137.

*хто* **як цыга́н: як надзе́ніць надзе́тку яку́ю, паку́ль ня зва́ліцца но́сіць.** *Ушацк. Здзекл.* Барадулін, 123.

**цьмя́ны, акура́т як цыга́н.** *Мсцісл.* Пра смуглага, загарэлага чалавека. Бялькевіч, 485.

**чо́рны як цыга́н.** *Ваўк. п., Драг.* Пра смуглага чорнавалосага чалавека. Federowski, 66, 60; Нар. лекс., 222.

душа́ мінчуецца бы ко́ні ў цыга́на. Гл. конь.

У пе́чы гары́ць як у па́на, а ва́рыцца як у цыга́на. Гл. пан.

**гардыкаць бы [тые] цыга́не.** *Няўхв. Стол.* Пра людзей, што голасна, шумна сябе паводзяць, крычаць. ТС 1, 195.

**трэ́ба** *каму што* **як цыга́ну плуг.** *Мсцісл. Іран.* Пра нешта недарэчнае ў пэўнай сітуацыі. Юрчанка, 202.

**це́сна як цыга́ну на по́лі.** *Сак. п. Іран. Насмешл.* Пра нежаданне цыгана працаваць на полі. Federowski, 59.

***цыга́нка*** **вы́марачыць як цыга́нка.** *Кругл. Няўхв.* Пра жанчыну, якая ўмее выпрошваць тое, што ёй трэба. Матэрыялы 1981, 22.

**доку́члівы бу цыга́нка.** *Стол. Асудж.* Пра надта дакучлівага чалавека. ТС 2, 29.

**начапа́ць занізак як цыга́нка.** *Маг. Няўхв.* Пра жанчыну, што прыпадобілася да цыганкі шматлікасцю пацерак. Матэрыялы 1981, 35. < Занізкі – пацеркі.

**у зо́лаце як цыга́нка.** *Ушацк. Няўхв.* Пра жанчыну, што надзяе адначасова зашмат ювелірных вырабаў. ЖНС, 141.

**хадзіць як цыга́нка яка́я.** *Міл. Няўхв.* Пра жанчыну, што ходзіць па хатах з нейкімі прапановамі, замест таго, каб працаваць. Бялькевіч, 297.

**як цыга́нка.** *Люб.* Пра крэпка загарэлую жанчыну. ДА.

***цыга́нскі*** цяга́цца як пу́га цыга́нска. Гл. пуга.

гарто́ўны як цыга́нскае дзіця́. Гл. дзіця.

распусці́цца як цыга́нская пу́га. Гл. пуга.

цяга́цца як цыга́нская каза́ на вазах. Гл. каза.

сагну́цца як цыга́нскі та́та. Гл. тата.

скака́ць як цыга́нскі конь. Гл. конь.

як цыга́нскі трапа́ч. Гл. трапач.

распусці́ць язы́к як цыга́нску пу́гу. Гл. пуга.

***цы́мант*** **цягну́ць як цы́мант (цэ́мант) во́ду.** *Ваўк., Свісл. Няўхв.* Пра схільнага да выпіўкі чалавека. Даніловіч, 262. < Цымант – цэмент.

***цымба́лы*** ігра́ць як кот на цымба́лах. Гл. кот.

ля́пнуць як ла́пцем (ато́пкам) па цымба́лах. Гл. лапаць.

**папа́сці** *каму* **як у цымба́лы.** *Ушацк.* Пра лупцоўку кагосьці. Васюковіч, 19.

***цы́тра*** **сядзе́ць як цы́тра.** *Маладз., Івац. Няўхв.* Пра жанчыну непрыстойных паводзін. Мат., 108; ЗЗайкі.

**хі́тра як цы́тра.** *Вілен. Асудж.* Пра хітрую амаральную жанчыну. Sielicki, 158. < У аколіцах Свіслачы цытрай называюць суку.

***цы́цка*** прывы́кнуць як дзіця́ да ма́тчынай цы́цкі. Гл. дзіця.

як дзіцёнак без цы́цкі. Гл. дзіцёнак.

***цэ́бар***

**галава́ [вялі́зная] як цэ́бар.** *Ваўк. п., Сміл., Зэльв., Гродз., Стол.* Пра чыюсьці вялікую гававу. Pietkiewicz, 99; Шатэрнік, 62; Жыв. сл., 140; Цыхун, 33; ТС 3, 68; ЖН, 22.

**галава́ цяжо́лая як цэ́бар.** *Крыч.* Пра чалавека, які адчувае галаўны боль, галавакружэнне, нязмогу. Бялькевіч, 74.

**нашлю́хацца як цэ́бар.** *Астр. Асудж.* Пра крэпка п’янага чалавека. СПЗБ 3, 143. < Нашлюхацца – напіцца гарэлкі.

**дождж як з цэ́бра.** *Ваўк. п., Клецк.* Пра моцны праліўны дождж, лівень. Federowski, 81; Даніловіч, 227.

**ліць як з цэ́бра.** *Шчуч.* Даніловіч, 227. Тое ж.

узды́ха́ць як стары́ конь пе́рад пусты́м цэ́брам. Гл. конь.

***цэ́гла***

**хлеб як цэ́гла.** *Пух. Няўхв.* Пра хлеб благой выпечкі, цвёрды. Мін.-Мал., 1970, 166.

***цэп***

**пе́рыць каблука́мі як цапа́мі па таку́.** *Лаг. Насмешл.* Пра надта заўзятае выплясванне polькі. СЦБ, 255.

**гавары́ць бы́цццам у шэсць цапо́ў малаці́ць.** *Паст. Насмешл.* Пра хуткую гаворку кагосьці. КВДУ.

**браха́ць як цэп літо́ўскі.** Пра чалавека, які многа лапоча і маніць. Ром., Бел., 291. < Цэп літоўскі – цэп, які, відаць, вызначаецца асобым спосабам прывязвання біла да цапільна (параўн. каса-літоўка).

**нажлэхацца як цэп.** *Астр. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. СПЗБ 3, 143. < Нажлэхацца – напіцца гарэлкі.

**п’я́ны як цэп.** *Гродз., Мін. Асудж.* Даніловіч, 263; ЛЦ, 98. Тое ж.

**язы́к як цэп літо́ўській.** *Смал. п.* Пра некага балбатлівага, хлуслівага. Добровольский III, 135.

**як з цэпа сарва́ўся.** *Асудж.* Пра нястрыманыя, непрымальныя паводзіны каго-н. Ром., Бел., 316.

**езыко́м як цэ́пам.** *Лоеў. Асудж.* Пра чалавека, які гаворыць неабдумана. Янкова, 55.

**езыкі́ ў каго́ шо цэ́пу.** *Жытк. Няўхв.* Пра балбатлівых людзей. ТС 5, 283.

паляце́ць як саба́ка з цэ́пу спу́шчаны. Гл. сабака.

***цэр***

**капу́ста што цэр бе́лая.** *Стаўб. Ухв.* Пра вельмі добрую белую капусту. Мін.-Мал., 1970, 148. < Цэр – тут: ніжні пласт бярозавай кары.

***цэ́ўка***

**дошч як с цэ́ўкі.** *Гродз.* Пра моцны, суцэльным патокам дождж. Даніловіч, 227.

**ліць як з цэ́ўкі.** *Іўеў., Івац.* Даніловіч, 227; ЗЗайкі. Тое ж.

***Цю́рла***

**набра́цца гарэ́лкі як Цю́рла гарбуза́.** *Чэрв. Насмешл. Няўхв.* Пра крэпка ап’янелага чалавека. Гілевіч, 166.

***цю́цька***

**бо́сы як цю́цька.** *Няўхв.* Пра босага чалавека. Янк., Пар., 18.

**вы́лаяны як цю́цька.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, якога моцна за нешта вылаялі, паругалі. Шатэрнік, 53.

**гну́цца як анге́льскі цю́цька.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека з прыгнутым станам. Federowski, 8; Санько, 122.

**далікáтны як пáнскі (ангéльскі) цю́цька.** *Ваўк. п. Кплів.* Пра чалавека, што нязвычна далікатны ў манерах. Federowski, 8, 75; Янк., 404.

**лы́паць вачáмі як цю́цька.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які не мае годнасці слухаць папрокі. Шатэрнік, 150.

**скóрчыцца, змóршчыцца як цю́цька кудлáты.** *Ваўк. Насмешл.* Пра чыюсьці манеру трымацца. ФА.

**схапíць як цю́цька пóдмазку.** *Насмешл.* Пра чалавека, які цішком нешта ўхапіў, узрадаваўся дармавой спажыве. Янк., Пар., 159.

**ускóчыць як цю́цька ў гразь.** *Насмешл.* Пра нейкі недарэчны ўчынак кагосьці. Сцяшковіч, 621.

**хавáцца (уцякáць) [ад рабóты] як цю́цька (сабáка) ад мух.** *Ваўк. п., Сак. п., Рэч., Іўеў. Няўхв. Насмешл.* Пра чалавека, які ўсяляк пазбягае працы. Анимелле, 264; Нос., 172; Dybowski, 190; Federowski, 255, 51, 317; Pietkiewicz, 360.

**як пáнскі цю́цька.** *Свісл. Пагардл.* Пра ліслівага, няшчырага чалавека. Сцяшковіч, 617.

**аблáяць як цю́цьку.** *Сміл.* Пра ўшчуванне, сварку на некага. Шатэрнік, 4.

**прабрáць** *каго* **як таго цю́цьку.** *Сміл.* Шатэрнік, 220. Тое ж.

**сóрам** *каму* **як тамý цю́цьку.** *Няўхв.* Пра чалавека, які правініўся, зрабіў нешта не так. Санько, 185.

***цюцюк*** **абмóкнуць як цюцюк.** *Карэл. Насмешл.* Пра чалавека, які моцна вымак. СПЗБ 5, 381.

***цявíначка*** **як цявíначка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл.* Пра тоненькую дзяўчынку. Юрчанка, 202.

***цявíнка*** **тóнкая як цявíнка.** *Памянш. Капыл.* Пра тоненькую дзяўчынку. Юрчанка, 202.

***ця́жка*** як бáбе ця́жка радзíць, так скупóму даўгí плацíць. Гл. баба.

як жóнцы ця́жка радзíць, так скупóму доўг плацíць. Гл. жонка.

***цялéпкала*** **валачы́цца як цялéпкала.** *Касц. Няўхв.* Пра марудлівага, непаваротлівага чалавека. Нар., лекс., 164.

***цялё****, гл.* **цяля**

***цялёнак*** **валачы́цца як цялёнак.** *Лях. Няўхв.* Пра кагосьці, хто неахвотна ідзе, упіраецца, хапае што па баках. ЗВалодзінай.

**піць як цялёнак пóйла.** *Мсцісл. Жарт.* Пра чалавека, які прагна п’е. Юрчанка, 202.

***цялýшка*** **бры́каць як цялýшка.** *Леп. Ухв. Кплів.* Пра весялосць, жвавасць дзяўчыны. АСЭТ.

хадзíць услéд як бычóк за цялýшкай. Гл. бычок.

***цяльпýк*** **таўсты́ як цяльпýк.** *Лаг.* Пра моцнага, цяжкага, рослага дзіцёнка. Высл., 398.

**ця́жкі як цяльпýк.** *Сен.* Каспяровіч, 340. Тое ж.

***цяльпýх*** **як цяльпух.** *Мсцісл.* Пра поўнага, тоўстага чалавека. Юрчанка, 202.

***цялю́к*** **спакóйны як цялю́к.** *Швянч.* СПЗБ 5, 389. < Цялюк – цяля.

***цяля́***

**бы тэля́.** *Пруж.* Пра нясмелага, сарамлівага чалавека. Босак, 29.
вадзíцца як каро́ва з цéлям. Гл. карова.
цягáцца як каро́ва за цéлям. Гл. карова.
**ля́зіць як цялё без душы́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра нейкага вялага чалавека. Federowski, 170.
**мíгкаць як цялё.** *Сміл. Няўхв.* Пра чалавека, які наракае, жаліцца, непакоіцца. Шатэрнік, 158.
стая́ць як у Бо́га цялё ўкрáўшы. Гл. Бог.
**язычко́м як цялё хвасто́м.** *Стаўб. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. Мін.-Мал., 1974, 190.
хадзíць удваíх як каро́ва з цялём. Гл. карова.
**бéгчы (пабéгчы) услéд** *за кім* **як цяля́ за вядро́м з по́йлам.** *Ушацк. Касц. Насмешл.* Пра чалавека, які за кім-н. зацікаўлена бяжыць. ЛЦ, 90.
вы́лізаць як карова цяля. Гл. карова.
**глядзéць як цяля́ на рáбыя варо́ты.** *Кплів.* Пра чалавека, які не разбіраецца ў якой-н. справе, не разумее простых рэчаў. Аксамітаў, 242.
**гуля́ць (пагуля́ць) як цяля́ на вяро́вачцы.** *Гродз.*, *Рэч.*, *Стаўб., Івац. Іран.* Пра некага ў няволі, у прымусе, а не ў свабодным гулянні. ЛЦ, 102; Леп., 97; Даніловіч, 263; ФА; ЗЗайкі.
**дурнá́я (дурно́е) як цяля́ (як цялё).** *Мін. Няўхв.* Пра даверлівую, недасведчаную дзяўчыну, жанчыну. Высл., 316; Янк., Пар., 56.
**жыць як цяля́ на вяро́вачцы: дзе прывя́жуць, там і стой.** *Мін.* ЛЦ, 105. Тое, што гуляць (пагуляць) як цяля на вяровачцы.
**ласкáвы як цяля́.** *Мядз. Ухв.* Пра ласкавае, даверлівае дзіця. ЗСалавей.
**ляжáць як [здо́хлае] цяля́.** *Карэл., Жытк. Насмешл.* Пра вельмі стомленага, бяссільнага чалавека. Высл., 343; Мат. Гом., V, 112.
**мало́ць (менцíць, вярцéць, віля́ець, лапатáць) языко́м як цяля́ (сабáка) хвасто́м.** *Лід.*, *Ваўк.*, *Гродз. п.*, *Слон.*, *Дзятл.*, *Клецк.*, *Бяроз., Смарг. Асудж.* Пра балбатлівага чалавека, плеткара, што гаворыць абы-што. Шпилевский, 184; Киркор, 238; Нос., 14, 129; Ляцкий, 6; Pietkiewicz, 397; Dybowski, 184; Federowski, 127, 333; Сцяшковіч, 598; Шаталава, 96; Высл., 346; АВНЛ.
**маўчáнішча як цяля́ бо́жае.** *Пух. Асудж.* Пра нелюдзімага, негаваркога чалавека. СЦБ, 227.
пашкадавáць як воўк цяля́. Гл. воўк.
**прыго́жы як цяля́.** *Мін.* 1. Пра сапраўды кагосьці сімпатычнага. 2. *Іран.* Пра нягеглага чалавека, някідкай знешнасці. ЛЦ, 74.
**як цяля́.** *Леп.* Пра негаваркога, ціхага чалавека. ЗВалодзінай.
**спрэ́гчыся як Валéркавы цяля́ты.** *Смарг. Жарт.* Пра моцную дружбу неразлучных сяброў, як у пераблытаных ланцугамі цялят. Сцяшковіч, 614.
**як цяля́ты язы́к аджавáлі** *каму. Дзятл. Няўхв.* Пра маўклівага, затарможанага чалавека. Сцяшковіч, 621.
бáцька да дзіця́ці як бык да цяля́ці. Гл. бык.

***цяля́тка*** **це́рціся як цяля́тка каля́ ма́ткі.** *Памяншь. Брасл.* Пра некага, хто надта лашчыцца, дамагаецца апекі. Рабкевіч, 204.

***цяняк*** **як цяняк хадзі́ць** *за кім. Шальч.* Пра некага, вельмі залежнага ад другога, які пастаянна суправаджае яго. СПЗБ 5, 390. < Цяняк – цень.

***цяпло́*** **Жо́нчына дабро́, што ўзі́мку цяпло́.** *Прык. Слуцк.* Пра важнасць жончынай ласкі, цеплыні. Сержпутоўскі, 62.
Злосць што лёд: да цяпла́ жыве́. Гл. лёд.

***цяце́ра*** **глухі́ як цяце́ра.** *Слуцк., Жытк., Чэрв., Нясв. Насмешл.* Пра чалавека, хто моцна недачувае. Янк., 402; Сержпутоўскі 1999, 36; ТС 5, 272; ФА; БД, 146.
**рабы́ як цяце́ра.** Пра некага рабога, пярэстага. Янк., Пар., 136.

***цяць*** **стая́ць як цяць.** *Лід.* Пра чыюсьці поўную гатоўнасць да справы. Даніловіч, 263.

***цячы́*** жыву́ць лю́дзі бы вада́ цечэ́ ў рацэ́. Гл. вада.

# Ч

***чай*** **се́на як чай.** *Іваsucc. Ухв.* Пра духмянае, добрай якасці сена. ЗЗайкі.
**сма́шна бы чей.** *Драг. Ухв.* Пра нешта прыемнае на смак, далікатнае, святочнае. Лучыц-Федарэц, 222.

***ча́йка*** **выбіра́цца (збіра́цца) як ча́йка за мо́ра.** *Ваўк., Сак. п., Рэч., Воран.* Пра марудны збор, няспешную падрыхтоўку куды-н. Federowski, 342; Pietkiewicz, 399; Дуб., Нар.,1; Даніловіч, 263.
**зайсці́ як ча́йка за мо́ра.** *Стаўб.* 1. *Асудж.* Пра чалавека, які, ходзячы, трапіў некуды далёка, страціў шмат часу на хадзьбу, на зборы і тым самым выклікаў незадавальненне блізкіх. 2. Пра дзяўчыну, што далёка выйшла замуж. МК, 320; Мін.-Мал., 1970, 171.

***чаку́ха*** **галава́ дурна́я як чаку́ха.** *Гом. Пагардл.* Пра дурнога някемлівага чалавека. Высл., 302. < Чакуха – доўбня.

***чалаве́к*** **жыць як чалаве́к.** *Івац.* Пра чалавека, які жыве прыстойна, па-людску, праведна. ЗЗайкі.
**абхо́дзіць** *каго* **бы ліхо́га чалаве́ка.** *Слуцк.* Пра непажаданасць сустрэчы з кім-н., чым-н. Сержпутоўскі 2000, 239.
**пастры́гчыся як чалаве́ку.** *Зэльв.* Пра прызвычаіваю стрыжку, такую, як прынята ў дадзенай грамадзе, асяроддзі. СРЛГ, 57.
**расказа́ць** *каму* **як чалаве́ку.** *Гор.* Пра расказ з надзеяй на разуменне. Матэрыялы 1981, 36.

***чаме́р*** **го́ркі як чаме́р.** *Астр.* 1. Пра нешта вельмі горкае. 2. *Асудж.* Пра абрыдлага, ненавіснага чалавека. Сцяшковіч, 585.

***чамяры́ца*** **салёная як чамяры́ца.** *Мін. Няўхв.* Пра нейкую салёную, нясмачную страву. Высл., 380.

***Чанстахо́ва*** **адмысло́ва як з Чанстахо́ва.** *Воран. Ухв.* Пра нешта (рэчы, работу) выдатнае, добрае, нібы імпартаванае. Даніловіч, 228.
прыслужы́цца як д’я́бал у Чанстахо́ве. Гл. д’ябал.

***ча́па*** **ве́цер як з ча́пы сарва́ўся.** *Смал. Няўхв.* Пра моцны, рэзкі вецер. Добр., Смол., 976. < Чапа – прывязь.

**седе́ць як ча́па.** *Лоеў.* Пра чалавека, што нерухома сядзіць на адным месцы, бяздзейнічае. Янкова, 407. < Чапа – затычка, корак.

***ча́пля*** **худы́ як ца́пля.** *Брасл. Насмешл.* Пра худога, паддыглястага чалавека. СПЗБ 5, 337.

**стая́ць як ча́пля.** *Смарг. Няўхв.* Пра непрыгожую паставу жанчыны. ФА.

**стая́ць як ча́пля абмо́кла.** *Ваўк. п.* Пра забедаваную, прыгнечаную жанчыну, якая адпаведна і выглядае не самым лепшым чынам. Federowski, 289.

**худа́я як ча́пля.** *Смал. п. Насмешл.* Пра худую няскладную жанчыну. Добр., Смол., 970.

***чапля́ць*** е́сці як на плот чапля́ць. Гл. плот.

***чапяла́*** **вы́махаць як чапяла́.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра надта высокага падлетка. Юрчанка, 203.

**худзе́йшы за чапялу́.** *Чэрв. Няўхв.* Пра вельмі худога, танклявага чалавека. Гілевіч, 167.

***чапяльні́к*** **як чапяльні́к.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра хударлявага, тонкага чалавека. Юрчанка, 180.

***чарано́к*** **худы́ як чарано́к.** Пра хударлявага, тонкага чалавека. Высл., 414.

***чарапа́ха*** **паўзці́ як чарапа́ха.** *Івац.*, *Рэч.*, *Слон. Няўхв.* Пра павольную язду, марудную хаду кагосьці. Pietkiewicz, 385; Высл., 363; ЗЗайкі.

***чараці́на*** **адна́ як чэрэціна на пожарэ.** *Стол. Спачув.* Пра самотную, адзінокую, бездапаможную жанчыну. ТС 5, 315.

***чарвя́к*** **адзі́н чалаве́к бы чарвя́к.** *Слуцк. Спачув.* Пра цяжкасць жыцця адзінокага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 136.

**Паля́к з пе́чкі брак, расцягну́ўся як чарвя́к.** *Кір. Фальк. Жарт.* З дражнілкі. АВНЛ.

**прыві́цца як чарвя́к у кало́дзе.** *Насмешл.* Пра чыё-н. ціхае, непрыкметнае існаванне. Янк., 422.

**сядзе́ць як чарвя́к за гарэ́ю.** *Дзятл. Насмешл.* Пра чалавека, які дзесьці сцішыўся, прытаіўся. Арх. Гр.

**вы́кінуць** *каго* **як чарвяка́ з мя́са.** *Капыл. Насмешл.* Пра рашучае выгнанне каго-н. з прыемнага для таго месца, становішча. ЗВалодзінай.

**жыць як [тому] чарвяку́ па вяку́.** *Капыл.* Пра жыццё, поўнае нягод і клопатаў. БД, 146.

***чарга́*** **жы́цця прахо́дзяць баццэ чэ́ргу атбыва́юць.** *Слуцк. Няўхв.* Пра хуткае і нецікавае, няплённае мінанне жыцця. Сержпутоўскі 2000, 197.

***ча́рка*** нудзі́цца як п'я́ніца бэз ча́ркі, а курэ́ц бэз лю́лькі. Гл. п'яніца.

рад як п'я́ніца ча́рцы. Гл. п'яніца.

***чаро́т*** **жы́та як чаро́т.** *Івац. Ухв.* Пра жыта з буйным коласам, умалотнае. ЗЗайкі.

***чарцёнак*** **чалаве́к як чарцёнак.** *Ігн. Няўхв.* Пра нястрыжанага неахайнага падлетка. СПЗБ 1, 307.

***чарцянё*** **выкру́чвацца як тое чарцянё.** *Сміл. Насмешл.* Пра лоўкага, вясёлага дзіцёнка. Шатэрнік, 53.

***часавы́*** як з вераб’я́ часавы́. Гл. верабей.

***часа́ць*** Я брашу́ як клін чашу́, а ты пра́ўду гаво́рыш, як плот стро́іш. Гл. клін.

***часна́к*** **крэ́пкі як часна́к.** *Глыб. Ухв.* Пра нешта моцнае, крэпкае. Высл., 339.

**грыбо́к як часно́к.** *Дзярж. Ухв.* Пра моцны здаровы грыб. Высл., 308.

**як часно́к бе́лыя [баравікі].** *Лаг. Ухв.* Пра моцныя прыгожыя баравікі. Мін.-Мал., 1977, 20.

**зу́бы як часны́к (часно́к).** *Ваўк. п., Віл., Карэл., Мін., Чэрык., Хоц., Касц. Ухв.* Пра здаровыя белыя зубы. Federowski, 361; Юрчанка 1969, 93; Высл., 331; Янкова, 103; ЛЦ, 70; СПЗБ 2, 328.

**узбры́знуць як чэсно́к.** *Лоеў. Ухв.* Пра дружны, спорны ўзыход бульбы. Янкова, 369.

***частако́л*** за до́брым чоловéком ек за пло́том, а за нехоро́шым – ек за частоко́лом. Гл. плот.

***чаўно́к*** **язы́к трэ́плецца як чаўно́к.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека, які то хваліць, то ганіць. Юрчанка, 203. < Чаўнок у кроснах ходзіць то туды, то сюды.

***чачо́тка*** **зу́бы як чачо́тка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нейчыя здаровыя прыгожыя зубы. Юрчанка, 203.

**узыйшло́ ро́ўненька як чачо́тка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра дружныя, роўныя ўсходы жыта. Юрчанка, 203.

**шчабята́ць як [тая] чачо́тка.** *Смал. п. Ухв.* Пра прыветную гаваркую жанчыну. Добр., Смол., 788.

**закуда́хтаць як чачо́ткі.** *Смал. п. Насмешл.* Пра гаману жанчын. Добр., Смол., 648.

***чмара*** **дзяцéй як чмары́.** *Леп. Насмешл.* Пра шматлікасць дзяцей. ЖНС, 29.

***чмель*** **буіць як чмель.** *Іўеў.* Пра дзіця, што, выплакаўшыся, усхліпвае. СПЗБ 1, 249.

**гудзéць як чмель.** *Слон. Жарт.* Пра чалавека з нізкім голасам. Высл., 309.

**загусці як чмялі́ ў ку́піне.** *Слон.* Пра людзей, што ўстрывожана загаманілі. Высл., 322.

**шавардаць бу шмель гудзé.** *Жытк. Няўхв.* Пра балбатлівага чалавека. ТС 5, 318. < Шавардаць – балбатаць.

**вы́скачыць як шмяля́ схваці́ўшы (ухваці́ўшы).** *Мсцісл. Насмешл.* Пра чалавека, які імгненна аднекуль выскачыў. Юрчанка, 204.

**сядзéць як шчамéль на каманіцы.** *Смал. п.* Пра кагосьці, хто вельмі добра дзе-н. уладкаваўся. Добр., Смол., 309. < Шчамель – чмель; каманіца – травяністая расліна з блакітнымі кветкамі.

***чмут*** як чорт на чалавéка чмут пусціў. Гл. чорт.

***чо́бат*** **піць як у чо́баты ліць.** *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, які можа шмат піць. АВНЛ.

***чо́вен*** заду́мацца як саба́ка ў чаўне́ (чо́ўне). Гл. сабака.

***чоп*** **каро́ва як чоп.** *Мядз.* Пра карову з вялікім брухам. Высл., 334. < Чоп – бочка на брагу ў бровары.

**набра́цца як чоп.** *Стаўб. Асудж.* Пра празмерна п'янага чалавека. МК, 150; Мін.-Мал., 1970, 150.

**нае́сціся як чоп.** *Воран.*, *Стол. Няўхв.* Пра чалавека, што крэпка, празмерна пад'еў. Даніловіч, 263; ТС 5, 294.

***чо́рны*** навалі́цца як чо́рна хма́ра. Гл. хмара.

су́нуцца бу хма́ра чо́рна. Гл. хмара.

людзе́й што чо́рная ту́ча [ішло́]. Гл. туча.

разыйшо́ўся як чо́рная хма́ра. Гл. хмара.

як тая каланíца чо́рная. Гл. каланіца.

гарава́ць як чо́рны вол. Гл. вол.

працава́ць як чо́рны вол. Гл. вол.

***чорт*** **што чарце́й у бало́це [жаніхо́ў].** *Мсцісл. Насмешл.* Пра мноства жаніхоў у кагосьці. Юрчанка 1977, 250.

**абманíць** *каго* **як чорт до́брую ду́шу.** *Капыл. Няўхв.* Пра чалавека, які падступна падмануў даверлівага. Матэрыялы 1981, 114.

**ара́ць як чорт бало́там.** *Няўхв.* Пра бязладнае гаспадаранне некага, кіраўніцтва. Ройзензон, 67.

**Ба́ба як чорт: не атаксці́шся, не адмо́вішся.** *Сен. Прык.* Пра навязлівасць і настойлівасць некаторых кабет. ПП 2, 76.

**бага́ты як чорт рага́ты.** *Мядз. Іран.* Магчыма, пра нейчае ўяўнае багацце. Ром., Зап., III, 223; АВНЛ.

**бая́цца** *чаго* **як чорт кры́жа.** *Лід. п., Іўеў., Дзятл., Гродз., Клецк.* Пра моцны, панічны страх нечага. Federowski, 20; Шырма, 205; Высл., 284; СПЗБ 5, 496; ФА.

**бая́цца** *чаго* **як чорт (д'я́бал) свянцо́най вады́.** *Гродз. п., Свісл.* Federowski, 20; Ляцкий, 3; Даніловіч 2008, 138. Тое ж.

**бая́цца** *чаго* **як чорт гро́му.** *Брасл.* Рабкевіч, 23. Тое ж.

**бая́цца** *чаго* **як чорт крапі́дла.** *Мін.* ЛЦ, 58. Тое ж.

**бая́цца** *чаго* **як чорт ла́дана.** *Івац., Мядз., Пін.* ФА; Ззайкі; Нар. скарбы, 146. Тое ж.

**бая́цца** *чаго* **як чорт папа́.** Ром., Зап., I, 215. Тое, што баяцца як чорт крыжа.

**бая́цца** *чаго* **як чорт хрыста́.** *Мсцісл.* Юрчанка, 175. Тое ж.

**бе́гаць як чорт.** *Астр. Асудж.* Пра кагосьці, хто паводзіць сябе не па-людску. СПЗБ 5, 368.

**бе́гчы як чорт па лапу́шшу.** *Гом. Няўхв.* Пра чалавека, актыўнасць якога выглядае непрыгожа. Высл., 290. < Лапушша – месца, зарослае лапухом.

**бе́гчы як чорт ад кры́жа.** *Івац. Няўхв.* Пра нейчыя панічныя ўцёкі аднекуль. ЗЗайкі.

**Без усоў, без бараду́, так як чорт малады́.** *Прык. Ваўк. п., Мёр. Жарт.* Пра паголенага старога. Federowski, 342; Нар. скарбы, 140.

**бру́дны як чорт з ко́міна вы́лезшы.** *Воран. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі бруднага, запэцканага. Даніловіч, 264.

**вадзíць** *каго* **як чорт п'я́нага па бало́ту.** *Рэч.* Пра чалавека, які сябе дрэнна адчувае. Pietkiewicz, 398.
**выгляда́ць як чорт з-за кры́жа.** *Бяроз. Насмешл.* Пра чалавека, што злосна, спалохана аднекуль выглядае. АВНЛ.
**вы́плыць як чорт з амута́.** *Шум. Насмешл.* Пра нейчае нечаканае з'яўленне. СПЗБ 1, 79.
**вы́скачыць як чорт з бало́та.** *Мсцісл. Насмешл.* Юрчанка, 175. Тое ж.
**вы́скачыць як чорт з бу́рага бало́та.** *Хоц.*, *Брэсц. Насмешл.* ЛЦ, 101. Тое ж.
**вы́скачыць як чорт з канапе́ль.** *Івац. Насмешл.* ЗЗайкі. Тое ж.
**вы́скачыць як чорт з лазы́.** *Насмешл.* Янк., Пар., 32. Тое ж.
**вы́цапкацца як чорт бало́тны.** *Няўхв.* Пра кагосьці вельмі перапэцканага, бруднага. Носович, 101.
**вярце́цца як чорт у пе́кле.** *Мсцісл. Асудж.* Пра нейчую залішнюю мітусню, актыўнасць. Юрчанка, 204.
**гало́дны як чорт.** *Слон.* Пра некага вельмі галоднага. Высл., 303.
**глядзе́ць як чорт з-пад кры́жа.** *Іўеў. Няўхв.* Пра нейчы насуплены, варожы, агрэсіўны позірк. Даніловіч, 264.
**глядзе́ць (скасаву́рыцца) як чорт на папа́.** *Шчуч. Няўхв.* Пра нейчы пільны, уважлівы падазроны позірк. Станкевіч, 549; Арх. Гр.
**Дару́ торт, каб малады́ не быў як чорт.** *Жарт. Фальк.* З вясельнага пажадання мець прыстойнага мужа. БВ, 52.
**дрыжа́ць як чорт пад (пе́рад) храсто́м.** *Мсцісл. Зласл.* Пра нейчыя дрыжыкі ад моцнага страху. Юрчанка, 203.
**дрыжа́ць (знябо́жыцца, збядне́цца) як чорт пад кры́жам.** *Ваўк.*, *Сак. п.*, *Слон.*, *Іван. Зласл.* Federowski, 373; Высл., 315; ЗВалодзінай. Тое, што дрыжаць як чорт пад (перад) храстом.
**ду́жы як чорт.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра некага моцнага, дужага. Federowski, 89.
**Ду́рань як варо́на, а хіцёр як чорт.** *Прык. Жарт.* Пра чалавека, у якім спалучаюцца прастата і хітрасць. Federowski, 85.
**е́хаць як чорт ма́церу да до́ктара вязе́.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра вельмі хуткую, не разбіраючы дарогу, язду. Federowski, 90.
**жва́вы як чорт.** *Шчуч. Ухв.* Пра некага вёрткага, жвавага. СПЗБ 2, 146.
**заму́рзаны як смаляны́ чорт.** *Рэч. Няўхв.* Пра некага выпацканага, бруднага, неахайнага. Пяткевіч, 476.
**з'явíцца як чорт з Кі́рзевай са́жалкі.** *Мсцісл. Жарт.* Пра нейчае нечаканае з'яўленне. Юрчанка, 203.
**зве́сці (ашука́ць, звесці) як чорт до́брую ду́шу.** *Ваўк. п.*, *Рэч. Няўхв.* Tyszkiewicz, 413; Нос., 44, 129; Дуб., 22; Dybowski, 3; Pietkiewicz, 209, 358, 361. Тое, што абманіць каго як чорт добрую душу.
**запрасíць што чорт за ба́цьку.** *Жлоб.*, *Касц.*, *Мін. Няўхв. Жарт.* Пра чалавека, які дорага за нешта запрасіў. ЛЦ, 52.
зая́длы як чорт. *Слон. Няўхв.* Пра надта ўпартага, настойлівага, заядлага чалавека. Federowski, 348; Высл., 325.

**звяза́цца як чорт з д'я́блам.** *Няўхв.* Пра нейкую падазроную дружбу дваіх. Янкоўскі, 225.
**згава́рывацца як чорт з ве́дзьмаю.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчую размову без паразумення. Юрчанка, 203.
**згры́бчыць** *што* **як чорт грэ́шную ду́шу.** *Слон. Насмешл.* Пра чалавека, які нешта сквапна схапіў, прысвоіў. ЖН, 126.
**здатны на пры́казкі як чорт на пры́вязкі.** Пра чалавека, які багаты на прыказкі. Станкевіч, 935.
**зло́сны (злэй, ліхі́, сярдзі́ты) як чорт.** *Навагр.*, *Ваўк.*, *Слон. п.*, *Мсцісл. Асудж.* Пра вельмі злоснага ліхога сярдзітага чалавека. Federowski, 357, 164, 277; Юрчанка 1969, 206.
**зні́шчыцца як чорт пад кры́жам, а лі́ха ду́маць.** Пра двудушнага чалавека, які, затаіўшыся, плануе нешта ліхое. Federowski, 374.
**калаці́ць як чорт бало́там.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які бунтуе, бударажыць, нервуе іншых. Рабкевіч, 91.
**кама́ндаваць як чорт у пе́кле.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчае самаўладнае, аўтарытарнае кіраванне нечым, некім. Юрчанка, 204.
**кірава́ць як чорт ві́рам (бало́там).** *Мсцісл. Няўхв.* Юрчанка, 203. Тое, што камандаваць як чорт у пекле.
**круці́цца як [той] чорт.** *Сміл. Няўхв.* Пра некага, хто вельмі актыўнічае, мітусіцца. Шатэрнік, 139.
**круці́цца як чорт на пудэ́лку.** *Свісл.* Даніловіч, 264. < Пудэлак – параўн. польск. pudełko 'каробачка'. Тое ж.
**круці́цца як чорт на тачы́длe.** *Гродз. Няўхв.* Даніловіч, 264. Тое, што круціцца як чорт.
**круці́цца як чорт пе́рад хма́рай.** *Насмешл.* Пра нейчую мітусню ў страху, у роспачы. Шырма, 205.
**круці́цца як чорт у кру́глым крэ́сле.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейчыя неспакойныя паводзіны. Юрчанка, 204.
**круці́ць мі́рам як чорт ві́рам.** *Віл. Няўхв.* Гілевіч, 166. Тое, што камандаваць як чорт у пекле.
**круці́ць як чорт хвасто́м.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра пастаяннае выкручванне, вылузванне каго-н. Юрчанка, 175.
**крыча́ць як чорт у пе́кле.** *Ашм. Няўхв.* Пра чалавека, які моцна крычыць. Даніловіч, 265.
**ле́зці як чорт на ражо́н.** *Дзярж. Насмешл.* Пра чалавека, які настойліва імкнецца ў небяспечнае для яго месца. Гілевіч, 165.
**лупа́ты як чорт асмало́ўскі.** *Круп. Няўхв.* Пра чалавека з непрыгожымі лупатымі вачыма. СПЗБ 2, 685.
**лупа́ты бы чорт [які].** *Няўхв.* ЛА, 24. Тое ж.
Ляце́ла як а́нгел, уда́рылася як чорт. Гл. ангел.
Ляце́ў як анёл, а ўпаў як чорт. Гл. анёл.
**ляце́ць (пе́рці) так як [чэ́рці] з пе́кла.** *Сак. п.*, *Слон. Няўхв.* Пра нейкую хуткую язду, панічны рух. Federowski, 160; Высл., 344.
**ляце́ць як чорт на калясні́цы.** *Слон. Няўхв.* Пра надта шпаркае перамяшчэнне кагосьці. Даніловіч, 264.
**ляце́ць як чорт падсма́лены.** *Іўеў. Няўхв.* Сцяшковіч, 621. Тое ж.

Мужы́к глядзíць як варóна, а хіцёр як чорт. Гл. варона.
**мурзáты як чорт.** *Слон. Няўхв.* Пра некага надта замурзанага, бруднага. Высл., 347.
**насíцца як чорт.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра нейкае мітуслівае нашэнне, перамяшчэнне, бегатню. З нар. сл., 129.
**насíцца як чорт з ля́лькаю.** *Лід. Няўхв.* Пра чалавека, які надта носіцца з нейкім клопатам, дакучае іншым. Даніловіч, 264.
**насíцца як чорт з бу́бнам.** *Ветк. Няўхв.* Пра чалавека, які нечым надта выхваляецца, выстаўляе тое напаказ. Горленка, 249; Санько, 169.
**насíцца як чорт з грэ́шнай душóй.** *Ушацк. Няўхв.* Пра чалавека, які дакучае ўсім сваёй справай, ідэяй, размовай. Барадулін, 108.
**нямá як чорт хвастóм накры́ў.** *Насмешл.* Пра бясследнае знікненне нечага. Янк., Пар., 117.
**пéрці** *каго/што* **як чорт цёшчу.** *Іўеў., Воран. Жарт.* Пра вельмі хуткае перамяшчэнне некага. Даніловіч, 265.
**пабéгчы як чорт з нáбілак.** *Лоеў. Насмешл.* Пра чалавека, які хутка аднекуль уцякае. Янкова, 198. < Набілкі – набіліцы.
**паглядáць (пазірáць) як чорт на папá.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які пільна, варожа глядзіць. Federowski, 210, 225.
**падтóркнуцца як чорт з каўшóм пад брáгу.** *Ушацк. Няўхв.* Пра чалавека, які сваім умяшаннем нечаму перашкодзіў. Барадулін, 106.
**панéсці як чорт грэ́шную ду́шу.** *Няўхв.* Пра чалавека, які нешта сквапна схапіў. Высл., 361.
**пасхóдзіла** *што* **як чорт калóм паты́каў.** *Ваўк. п. Няўхв.* 1. Пра рэдкія ўсходы збажыны, гародніны. 2. Пра хуткі рост пустазелля. Federowski, 222.
**пéрці** *што* **як чорт хмáру.** *Шчуч. Насмешл.* Пра чалавека, які нешта хутка нясе. Сцяшковіч, 622.
**пéрціся як чорт лазáты.** Пра чый-н. імклівы бег. Янк., Пар., 135.
**прапáў як чорт у ваду́ бу́ркнуў.** *Докш. Зласл.* Пра знікненне каго-н. Высл., 368.
**прыбрáцца як чорт да хвóрага.** *Шчуч. Іран.* Пра чалавека, які непрыгожа, неакуратна, нястройна апрануўся. Даніловіч, 263.
**прывы́кнуць як чорт к балóту.** *Рэч.* Пра прывычку да нейкага месца, прыстанішча. Pietkiewicz, 388.
**прывязáцца як чорт да старóй ігру́шы.** *Ушацк. Няўхв.* Пра чалавека, які да нечага моцна прывязаўся, прывык. Васюковіч, 19.
**пяя́ць як чорт ану́чы дзярэ́.** *Докш. Няўхв. Насмешл.* Пра нейчыя немілагучныя спевы. Высл., 373.
**садрáць як чóрт за бáцьку.** *Мін., Ушацк. Няўхв. Жарт.* Пра чалавека, які за нешта дорага ўзяў. ЛЦ, 52; Барадулін, 90.
**скасаву́рыцца як чорт на пáна.** *Насмешл.* Пра чалавека, які непрыхільна на каго-н. пазірае. Матэрыялы 1981, 123.
**ску́рчыцца як чорт пад кры́жам.** *Глыб., Мядз. Насмешл.* Пра чалавека, які нечага баіцца. Рабкевіч, 189, Гілевіч, 166.

Спéраду як хорт, а ззáду як чорт. Гл. хорт.
**спры́тны як чорт.** *Насмешл.* Пра лоўкага, хуткага, кемлівага чалавека. Янк., 429.
**стая́ць як чорт над дóбраю душóй.** *Ваўк. п.* Пра пастаяннае адчуванне небяспекі, перашкоды. Federowski, 289.
**стая́ць як чорт пад кры́жам.** *Астр. Насмешл.* Пра чалавека, які баязліва, разгублена стаіць. ФА.
**стрáшны як чорт.** *Навагр. п. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі непрыгожага, з непрыемным і агідным выразам твару. Federowski, 292.
**сядзéць у рáдзе як чорт у расáдзе.** *Смарг. Насмешл.* Пра кагосьці, хто прыкметна вылучаецца сярод іншых. Сцяшковіч, 658.
**сядзéць як чорт на вы́скідзі.** *Кліч. Няўхв.* Пра чалавека, які сядзіць у сваім запушчаным двары. Жыв. сл., 126. < Выскідзь – вываpацень.
**сядзéць як чорт на пні.** *Рэч. Асудж.* Пра чалавека, які жыве недагледжаны, неадбудаваны. ЛЦ, 122.
**сядзéць як чорт на шаламя́ці.** *Вілен. Няўхв.* Пра чыесьці незразумелыя паводзіны, пра чалавека, які жыве не так, як усе. Sielicki, 127. < Шаламяць – грэбень страхі.
**сядзéць як чорт у балóце.** *Ваўк. п.*, *Рэч.* Пра кагосьці, хто месціцца ў сваёй сядзібе. Federowski, 275; Pietkiewicz, 363.
**таўчы́ся як чорт у пéкле.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які робіць бясконцую работу. Federowski, 311.
**трэ́сці як чорт лазóй.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які самаўладна і бесталкова камандуе, распараджаецца. Рабкевіч, 203.
**увя́знуць як (бы) чорт у балóце.** *Слуцк. Няўхв.* Пра чалавека, які ў нешта моцна ўліп. Ляцкий, 47; Сержпутоўскі 1999, 21.
**угледáцца як чорт у зáсланку.** *Зэльв. Іран.* Пра пільнае, уважлівае ўгляданне ў што-н. Даніловіч, 265.
**узяць як чорт жы́да.** *Ваўк. Насмешл.* Пра чалавека, які нешта/некага моцна схапіў. Federowski, 371.
**улéзці як чорт у гнілы́я (у кíслыя) грыбы́ (бліны́).** *Воран. Няўхв.* 1. Пра некага, хто моцна ўлез, ублытаўся, убіўся ў якую-н. справу. 2. Пра нейчую недарэчную закаханасць. Даніловіч, 264.
**улéзці** *куды* **як чорт у шнурóўку (лíфік).** *Брасл.* Пра чалавека, які ўлез не туды, куды яму можна ці трэба. Рабкевіч, 214.
**улюбíцца (утрэ́скацца) як чорт у сухýю (коляву) грýшу (сухýю вярбý).** *Ваўк. п.*, *Докш.*, *Іўеў.*, *Івац.*, *Мядз.*, *Слон.*, *Шарк.*, *Маладз., Пін. Насмешл.* Пра чалавека, які моцна закахаўся. Federowski, 319; Высл., 405; ФА; Гілевіч, 166; Ззайкі; Нар. скарбы, 145.
**умýрзацца (упэ́цкацца, урáбіцца) як чорт.** *Гродз. п.*, *Ваўк. п.*, *Сміл. Няўхв.* Пра моцна ўпэцканага, замурзанага, бруднага чалавека. Federowski, 320, 321; Шатэрнік, 288.
**упéрціся як чорт у грэ́блю.** *Капыл.*, *Воран.*, *Маст.*, *Стол.*, *Лід.*, *Карэл. Няўхв.* Пра кагосьці настырнага, хто вельмі моцна заўпарціўся. Высл., 406; Янк., 435; Даніловіч, 265; ТС 5, 202; Сцяшковіч, 621; ФА.

**утрэ́скацца як чорт у сухýю асíну.** *Шчуч. Насмешл.* Сцяшковіч, 622. Тое, што улюбіцца як чорт у сухую грушу.
**утрэ́скацца як чорт у сухýю грýшу.** *Ваўк.*, *Дзятл.*, *Бераст.* Даніловіч, 265. Тое ж.
**уцяка́ць як чорт ад ла́дану.** *Леп. Насмешл.* Пра чыесьці хуткія панічныя ўцёкі. ЗВалодзінай.
**уцяка́ць як чорт ад свянцóнай вады́.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 317. Тое ж.
**уцяка́ць як чорт з бабíнцу.** *Воран. Насмешл.* Даніловіч, 263. Тое ж.
**уцяка́ць як чорт з канóпляў.** *Воран. Насмешл.* Даніловіч, 264. Тое ж.
**хадзíць як чорт па смалé.** *Вілен. Кплів.* Пра чалавека, які пачуваецца слабым, нямоглым. Sielicki, 126.
**Хíтры наш брат як чорт, алé і дурны́ як варóна.** *Прык. Капыл.* Пра хітрага, але недалёкага чалавека. ФА.
**хіцер (хíтры) як чорт.** *Сак.*, *Ваўк.*, *Гродз. п.*, *Віл.*, *Івац.* Пра хітрага, спрытнага, лоўкага чалавека. Шпилевский, 178; Tyszkiewicz, 427; Dybowski, 192; Federowski, 52, 86, 109, 173; СПЗБ 3, 40; ЗЗайкі.
**цяга́ць як чорт Ма́рку па пéкле.** *Шарк. Няўхв.* Пра кагосьці, хто робіць клопаты і пакуты іншаму. Высл., 416.
**цягнýць як чорт за папóм.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра кагосьці, хто неадступна праследуе іншага. Federowski, 57.
**чóрны як чорт.** *Ваўк. п.*, *Асіп.*, *Жытк. Няўхв.* Пра моцна чорнага, магчыма, бруднага чалавека. Ляцкий, 58; Federowski, 66; АВНЛ; ТС 5, 362.
**чы́сты як чорт.** *Ваўк. п. Іран.* Пра бруднага, запэцканага чалавека. Federowski, 67.
**чыха́ць як чорт на дóбру дýшу.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра незадаволенае, пакрыўджанае стаўленне да каго-н. Federowski, 70.
**шата́цца як чорт па пéклі.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра кагосьці, хто ходзіць з благімі намерамі. Federowski, 297.
**Язы́к у рóти як чорт у балóти.** *Смал. п. Прык.* Пра балбатлівага, нястрыманага чалавека. Добровольский III, 135; Санько, 206.
**як чорт аблíза́ў (пацалава́ў).** *Ушацк.* Пра таго, хто нечакана і цяжка захварэў. Васюковіч, 200.
**як чорт гарóх малацíў** *на чым. Няўхв.* Пра нейчываспаваты, рабы твар. ФСБМ 2, 565.
**як чорт жы́да з'éўшы.** *Здзекл.* Пра чалавека, які пачувае сябе не вельмі добра. Dybowski, 17.
**як чорт з балóта.** *Бераст.*, *Мсцісл. Няўхв.* Пра вельмі бруднага, запэцканага чалавека. Даніловіч, 263; Юрчанка, 203.
**як чорт з лазы́ вы́лез.** *Драг. Няўхв.* Пра чалавека, які раптоўна і недарэчы з'явіўся. АВНЛ.
**як чорт з лазы́.** *Няўхв.* Пра бруднага, непрыемнага каго-н. Санько, 69.
**як чорт лапа́тай збіў.** *Астр.* Пра некага вельмі падобнага да кагосьці. ФА.

**як чорт на пікéце.** *Акц. Жарт.* Пра чалавека, гатовага да ўсяго, да любой нечаканасці. Гор., Руд., 255.
**як чорт на чалавéка чмут пусціў.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які нешта зрабіў няправільна, нібы пад уздзеяннем нячыстага. Янкоўскі, 78.
**як чорт на фóрму ўзяў (забрáў)** *каго, што. Навагр., Свісл.* Пра бясследнае знікненне некага альбо нечага. Даніловіч, 264.
**як чорт наварóжыць.** *Воран.* Пра штосьці, што наканавана лёсам. Даніловіч, 264.
**як чорт пéрад хмáрай.** *Маст. Няўхв.* Пра чалавека, які паводзіць сябе мітусліва, неспакойна. Сцяшковіч, 621.
**як чорт пýгаю назганя́ў.** *Ваўк. п. Жарт.* Пра зборышча кагосьці, сабраных нібы выпадкова, без бачнай прычыны. Federowski, 199.
**як чорт сухýю грýшу: засýша, засýша, а тады́ і лю́біць.** *Нясв. Іран.* Пра жорсткае каханне некага. ФА.
**як чорт у бабíнец.** *Шчуч.* Пра чалавека, які з'явіўся не да месца, не да часу. Сцяшковіч, 621; ФА.
**сказáць як чорт у вадý (у лýжыну) плю́нуў.** *Слон., Шчуч., Гарад. Няўхв.* Пра штосьці недарэчна сказанае. Даніловіч, 264; Сцяшковіч, 622; КВДУ.
**як чорт уссéў** *на каго. Стаўб.* Пра нечаканы агрэсіўны напад на кагосьці. МК, 93.
**як чорт ухапíў.** Пра раптоўнае знікненне некага альбо нечага. Бялькевіч, 490.
як чорт хвастóм накры́ў. Санько, 69. Тое ж.
**бая́цца** *каго* **як чóрта [якóга].** *Ваўк. п., Бран., Слон.* Пра моцны страх перад кім-н. Federowski, 20; Расторгуев, 188; Высл., 285.
**величáть** *каго* **як чорта на ви́лах.** *Смал. Іран.* Пра чалавека, якога не велічаюць, а толькі ганьбуюць. Добровольский III, 132.
**грóшай як у чóрта.** *Гродз.* Пра вялікую колькасць грошай у каго-н. Federowski,117; Цыхун, 180.
**грóшай як у чóрта скáлак.** *Воран. Жарт.* Даніловіч, 261. Тое ж. < Скалка – каменьчык, сколак крэменю для крэсіва.
**лятáць як чóрта з'éўшы.** *Шчуч. Жарт.* Пра некага, хто хутка, імкліва, энергічна бегае, лятае. Даніловіч, 263.
**міна як у чóрта пад кры́жам.** *Ваўк. п. Здзекл.* Пра чалавека з перакрыўленым тварам. Federowski, 187.
**падня́ць як чóрта на вíлах.** *Сен. Няўхв.* Пра чалавека, якога расхвалілі. Высл., 358.
Пóльзы як ад казлá, а грахóў як у чóрта. Гл. казёл.
**ця́жка што чóрта ажанíць.** *Шчуч. Няўхв.* Пра чалавека, якога вельмі цяжка прымусіць зрабіць што-н. Даніловіч, 208.
**цякéць** *з каго* **як ад чóрта з балóта.** *Мсцісл.* Пра каго-н. вельмі моцнага ці нават выпацканага граззю. Юрчанка 1977, 48.
**чупры́на скаўтунілася бы начэ ў смалянóга чóрта.** *Рэч. Няўхв.* Пра чые-н. неўпарадкаваныя, непрычасаныя валасы. Пяткевіч, 476.

**як чо́рта на ві́лах насі́ць** *каго. Ушацк.* Барадулін, 119. Тое, што велічаць як чорта на вілах.

*з кім* **што з чо́ртам.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра цяжкасць зносін з кім-н. Юрчанка 1977, 202.

**лётаць як чо́ртам падшы́ты.** *Паст. Ухв.* Пра чалавека, які лёгка, энергічна рухаецца, перамяшчаецца. СПЗБ 2, 651.

**як чо́ртам падшы́ты.** *Мядз., Маладз. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі благога. СПЗБ 5, 427; Гілевіч, 151.

**потрі́бный як чо́ртовы постолы́.** *Кам. Іран.* Пра нешта некаму не патрэбнае. ЖН, 55.

**патрэ́бна як чо́рту па́церы.** *Іран.* Пра нешта не толькі непатрэбнае, але і небяспечнае для каго-н. БПФС, 212.

**ляце́ць як на чо́рту.** *Зэльв. Няўхв.* Пра хуткае зношванне адзення. Сцяцко 1970, 93.

*што на кім* **як на чо́рту ха́та.** *Лоеў., Жытк. Няўхв.* Пра вопратку не па фігуры. Горленка, 251.

**вісе́ць як на забі́тым чо́рце.** *Мёр. Няўхв.* Нар. скарбы, 139. Тое ж.

**бы́та яго чэ́рці но́сяць.** *Рас.* Пра рухавага чалавека, хто ўсюды паспее, даскочыць. МК, 302.

**дурэ́ць як** *на каго* **чэ́рці ўссе́лі.** *Слуцк. Няўхв.* Пра дзяцей, моладзь, што надта раздурэліся, няма ўпыну. Сержпутоўскі 1999, 61.

**рано бы чэ́рці на кулачку.** *Стол.* Пра абуджэнне без пары, уночы. ТС 2, 249.

**як чэ́рці пад каўняро́м калды́чуць.** *Свісл. Асудж. Насмешл.* Пра несупынную прагу да выпіўкі. Сцяшковіч, 622.

***чуве́ра*** **як чуве́ра.** *Пол. Няўхв.* Пра неахайную жанчыну. ЖН, 17.

***чугу́н*** **гало́вішча як чугу́н, сам як бачо́нык.** *Мсцісл.* Пра знешні непрывабны выгляд кагосьці. Юрчанка 1993, 88.

**ра́жышча якраз як чугу́н ваду́ грэць.** *Мсцісл. Насмешл.* Пра нейчы шырокі тоўсты твар. Юрчанка 1998, 6.

***чугуні́шча*** **то́ўсты як чугуні́шчэ.** *Жытк. Пагардл.* Пра вельмі тоўстага чалавека. ТС 5, 300.

***чу́ецца*** **ідзе́ як ня чу́ецца.** *Астр.* Пра нейчую лёгкую хаду. СПЗБ 5, 434.

***чужы́*** уна́дзіцца як кот да чужо́га (у чужо́е) са́ла. Гл. кот.

кі́нуцца як пе́вень на пе́ўня з чужо́га двара́. Гл. певень.

гаспада́рыць як зло́дзей (жабра́к) у чужо́й кле́ці. Гл. злодзей.

аскыляцца як саба́ка на чужу́ю пра́цу. Гл. сабака.

агляда́цца як зло́дзей (саба́ка) ў чужы́м двары́. Гл. злодзей.

е́сці як чужы́м ро́там. Гл. рот.

***чужына*** **це́сна** *дзе* **як на чужы́не.** Пра цеснату, адсутнасць зручнага месца для чалавека. Янк., Пар., 187.

**згі́нуць як на чужы́не.** Пра чалавека, які непрыкметна для іншых прапаў. Янк., Пар., 71.

**го́рка** *каму* **як на чужы́не.** Пра адчуванне адзіноты, тугі. Янк., Пар., 43.

***чулкі́*** трэ́ба як саба́ку чулкі́. Гл. сабака.

***чума́*** **Абма́н як чума́: як пачне́ць, не спыніцца.** *Маст. Прык.* Пра тое, што адзін падман цягне за сабой шэраг іншых. ФА.

***чума́к*** **набра́цца што чума́к.** *Стол. Асудж.* Пра моцна п’янага чалавека. ТС 5, 302.

***чумічо́к*** **як чумічо́к.** *Памянш. Мсцісл.* Пра кагосьці маленькага, нізкага. Юрчанка, 204.

***чупíла*** **хадзíць як чупíла.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра непаваротлівага чалавека. Бялькевіч, 491.

***чупіра́дла*** **убра́цца як чупіра́дла [яко́е].** *Беласт. Няўхв.* Пра безгустоўна ўбраную жанчыну. Высл., 403.

***чурба́н*** **то́ўсты як чурба́н.** Пра тоўстую цяжкую асобу. Тарас на Парнасе.

***чуча́йло*** **стоя́ць ек чуча́йло.** *Жытк. Няўхв.* Пра непрывабнага чалавека. ТС 5, 304. < Чучайло – чучала, пудзіла.

***чу́чала*** **надзе́цца як чу́чала гаро́хавая.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра блага апранутага чалавека. Юрчанка 1969, 130.

**хадзíць як чу́чала.** *Кобр., Мсцісл. Няўхв.* ЖНС, 119; Юрчанка 1969, 67. Тое ж.

***чыгу́нны*** **галава́ як чыгу́нная.** *Слон.* Пра адчуванне чалавека пасля хваробы, пахмелля. Высл., 302.

***чыкірда́*** **дзяце́й як чыкірды́.** *Краснап.* Пра шматлікасць дзяцей. Бялькевіч, 492. < Чыкірда – гурт парасят.

***чырво́ны*** глядзе́ць як бык на чырво́нае. Гл. бык.

глядзе́ць як інды́к на чырво́но. Гл. індык.

***чы́сты*** адзíн як пень у чы́стым по́лі. Гл. пень.

***чы́сціць*** языко́м мянцíць як касу́ чысцíць. Гл. каса.

***чы́таны*** **сядзе́ць як чы́таны.** *Шум. Насмешл.* Пра кагосьці, хто вельмі ціха сядзіць. КВДУ.

***чыта́ць*** клясцí як па кнíжцы чыта́ць. Гл. кніжка.

***Чычыры́нда*** хо́дзіце як Міро́н з Чычыры́ндаю. Гл. Мірон.

***чэ́мер*** **го́ркі як чэ́мер.** *Чыж., Сен., Кам., Івац.* Пра нешта вельмі горкае. СПЗБ 5, 446; Янк., Пар., 43; Жыв. сл., 205; ЖНС, 77; ЗЗайкі.

надаку́чыць як го́ркі чэ́мер. *Дзятл.* Пра нешта, некага, што вельмі моцна надакучылі, абрыдзелі. Даніловіч, 218.

***чэрэн*** ля́пнуць ек кот на чэрэн. Гл. кот.

***чэ́чынь*** **вэ́сох бы чэ́чынь.** *Драг.* Пра вельмі худога чалавека. Скарбы, 121. < Чэчынь – этымалогія няясная, сустракаецца толькі ў гэтым выразе.

# Ш

***ша́бас*** спяша́цца як жыд на ша́бас. Гл. жыд.

***шаве́ц*** **бе́гчы** *куды* **як шаве́ц да карчмы́.** *Насмешл.* Пра чыюсьці паспешлівую хаду куды-н. Янкоўскі, 242.

**выкру́чвацца як шаве́ц на кірмашу́.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які хітруе, падманвае. Federowski, 60, 343.

**круці́ць як шаве́ц ску́рай.** *Брасл. Няўхв.* Пра некага, які кіруе іншымі, уплывае на іх. Рабкевіч, 98.

**напі́цца як шаве́ц.** *Ваўк. п., Расн. Няўхв.* Пра чалавека, які залішне, празмерна напіўся спіртнога. Federowski, 321; Бялькевіч, 277, НН 1911, 190.

**напі́цца як шаве́ц на Бо́жа ця́ла.** *Воран.* Даніловіч, 265. Тое ж.

**піць гарэ́лку як шаве́ц.** *Гродз. Няўхв.* Пра схільнага да выпіўкі чалавека. Цыхун, 190.

**спяша́цца як шаве́ц на кірма́ш за бо́тамі.** *Ваўк. п. Здзекл.* Пра неапраўданую спешку куды-н. Federowski, 388.

***шаве́цкі*** усю́ды гож як шаве́цкі нож. Гл. нож.

***шакаль*** **як шакаль то́нкі.** *Брасл. Няўхв.* Пра некага вельмі тонкага, худога. СПЗБ 5, 452. < Шакаль – трэска, аскепак.

***шаламя́ць*** сядзе́ць як чорт на шаламя́ці. Гл. чорт.

***шалёны*** бая́цца як шалёнага сабá кі. Гл. сабака.

бая́цца як [шалёны] сабá ка ваду́. Гл. сабака.

**бе́гаць (лята́ць) як шалёны.** *Ваўк. п., Сміл., Мсцісл., Астр., Лаг., Івац. Няўхв.* Пра чалавека, які бегае, не зважаючы на дарогу. Federowski, 160; Шатэрнік, 19; Бялькевіч, 56; СПЗБ 3, 143; Varłyha, 48; ЗЗайкі.

**гайса́ць як шалёны.** *Сміл. Няўхв.* Шатэрнік, 62. Тое ж.

**Гало́дны як шалёны: то кладзе́ пакло́ны, то праклёны.** *Слуцк. Прык.* Пра галоднага чалавека, які то моліцца, то праклінае. Сержпутоўскі 1999, 37.

круці́цца як шалёны сабá ка. Гл. сабака.

**драць го́рла як шалёны.** *Асудж.* Пра чалавека, які надта гучна, голасна крычыць. ФСБМ 1, 94.

**палянтава́ць як шалёны.** *Сміл. Асудж.* Пра чалавека, які злосна крычыць, лаецца ды чапляецца да іншых. Шатэрнік, 198. < Палянтаваць – гарлапаніць і моцна лаяцца.

***ша́лькі*** **хіста́цца як на ша́льках.** *Паст. Няўхв.* Пра кагосьці, хто не мае цвёрдай пазіцыі. СПЗБ 5, 456.

***шама́к*** **як шама́к не́йкі.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра неразумнага чалавека. Юрчанка 1977, 167.

***ша́пка*** **віда́ць як ліха́я (падра́ная) ша́пка.** Пра нешта зусім відавочнае. Янк., Пар., 25.

**ша́пкаю лята́ць.** *Лельч.* Пра вераб'ёў, што лятаюць густой грамадкай. Кучук, Малюк, 149.

**бая́цца** *каго* **як ліхо́й ша́пкі.** Пра страх перад кім-н. Янк., Пар., 13.

**Жыццё пражы́ць – не ша́пку знасі́ць.** *Прык. Арш.* Пра складанасць жыццёвай дарогі. ФА.

**знаць** *каго* **як ліху́ю ша́пку.** *Рэч. Асудж.* Пра знаёмства з ліхім чалавекам. Pietkiewicz, 401.

**навярну́цца (напусці́цца, навалі́цца) так як на ліху́ю ша́пку.** *Мін.* Пра рэзкі, катэгарычны напад на каго-н. Tyszkiewicz, 427; Dybowski, 184; Шпилевский, 184; АВНЛ.

папа́сціся як верабе́й у ша́пку. Гл. верабей.

**ускі́нуцца як на мо́крую ша́пку.** Дуб., 62. Нос., 18. < Кажуць, каб выклікаць смех з чыіх-н. вымоў (заўвага збіральніка). Тое, што навярнуцца (напусціцца, наваліцца) так як на ліхую шапку.

нанасі́ць як жа́ру ў ша́пцы. Гл. жар.

***шапра́н*** **се́на бы шапра́н.** *Ухв.* Пра пахучае сенца добрай якасці. Сержпутоўскі 34.

***шарва́рка*** **як шарва́рку адрабля́ць.** *Няўхв.* Пра чалавека, што нестаранна, неахвотна працуе, нібы адбывае правіннасць. Санько, 214.

***шарсце́нь*** **злы як шарсце́нь.** *Швянч. Няўхв.* Пра злога, агрэсіўнага чалавека. СПЗБ 5, 446. < Шарсцень – шэршань.

***шаршо́н*** **як шаршон.** *Лід. Няўхв.* Даніловіч 2008, 138. Тое ж.

***шаршу́н*** **кало́цца як шаршу́н.** *Шальч.* Пра калючую траву. СПЗБ 5, 467. < Шаршун – шэршань.

***шасна́ццатка*** **вы́брацца (убра́цца) як [сераўно́] шасна́ццатка.** *Клецк., Маст. Асудж.* Пра жанчыну, што апранулася не па ўзросту. Сцяшковіч, 371; Нар. лекс., 211.

***шата́н*** **бе́гаць як шата́н.** *Карм. Няўхв.* Пра чалавека, які злосна дзейнічае, бегае. ФА.

**як шата́н.** *Воран. Гродз. Шчуч. Няўхв.* Пра кагосьці вельмі рухавага, хуткага, актыўнага. Даніловіч, 265.

***шаўко́вы*** **як шаўко́вая.** *Стаўб., Стол. Ухв.* Пра лагодную, пакорлівую жонку. МК, 157; Барысюк, Буян, 28.

***шаўцо́ўскі*** прыста́ць бы шаўцо́ўская смала́. Гл. смала.

***шацёр*** **як шацёр.** *Ваўк. п., Слон. п.* Пра мажнага чалавека. Federowski, 11, 93.

***ша́шаль*** **тачы́ць як ша́шаль (шашо́л).** *Няўхв.* Пра чалавека, які некага пастаянна данімае, грызе. Ройзензон, 78.

***шашо́к*** **смярдзе́ць як шашо́к.** *Вілен. Пагардл.* 1. Пра кагосьці з непрыемным пахам. 2. Пра чалавека, што робіць нешта брыдкае. Sielicki, 162.

**ціхенька як шашо́к.** *Няўхв.* Пра чалавека, які шкодзіць цішком. Янк., Пар., 189.

**шко́дны як шашо́к.** *Няўхв.* Пра шкоднага, драпежнага чалавека. Янк., Пар., 196.

***шашо́лка*** **шашо́ліць і шашо́ліць як шашо́лкі.** *Глуск. Жарт.* Пра дзяцей, якія добра ядуць. Янк., Дыял., III, 147. < Шашолка – шашаль, шашоліць, тут: добра есці.

***шая*** **круці́цца ек [тая] шая.** *Жытк.* Пра непаседлівую дзяўчынку. ТС 5, 323. < Шая – непаседа.

***швед*** **прапа́сці як швед пад Палта́ваю.** *Карм., Слон. Насмешл.* Пра чыйсьці поўны пройгрыш, рашучую паразу. Нос., 196.

***шве́йка*** *хто з каго* як з ко́шкі шве́йка. Гл. кошка.

***шво́раб*** **ру́ка бы ў шво́раба кале́на.** *Драг. Кплів.* Пра нейчую тоненькую руку. Высл., 379. < Швораб – верабей.

***шво́рань*** **Ко́рань як шво́рань – ля дзе́вак право́рань.** *Жарт.* Пра заляцанні да дзяўчат. Фед. Арх.

**круці́цца як шво́ран.** *Воран.* 1. Пра паводзіны надта мітуслівага, заклапочанага чалавека. 2. *Няўхв.* Пра нясталага ў паводзінах мужчыну. Гілевіч 2007, 207.

***шка́ба*** **здзе́лацца як шка́ба.** *Езяр. Няўхв.* Пра вельмі худога чалавека. Каспяровіч, 350. < Шкаба – скаба.

**худа́я як шкаба.** *Ігн.* СПЗБ 5, 477. < Шкаба – рабро. Тое ж.

***шкадава́ць*** **даць усё раўно́ як шкаду́ючы.** *Слон. Няўхв.* Пра малую колькасць дадзенага. Высл., 358.

***шкадлі́вы*** карцэ́ць як шкадлі́вым у кату́. Гл. кот.

***шкарпэ́тка*** **Няха́й сабе́ мужы́к як шкарпэ́тка, абы я была як кве́тка.** *Прык.* Пра неабходнасць жанчыне ўпрыгожваць сужонскую пару. Янкоўскі, 78.

***шкару́пка*** **твар як шкару́пка.** *Навагр. Няўхв.* Пра нейчы зморшчаны твар. Нар. слов., 48.

***шква́рка****, гл.* ***скварка***

***шке́льца*** **блі́снуць як шке́льца.** Пра нешта, што бліснула, зіхатнула. Янк., Пар., 17.

***шкіле́т*** **вы́сахнуць як шкіле́т.** *Няўхв.* Пра вельмі схуднелага чалавека. Янк., 400; Ройзензон, 68.

**як шкіле́т.** *Краснап., Стол., Мсцісл. Няўхв.* Бялькевіч, 256; ТС 5, 325; ТС 2, 231; Юрчанка, 204. Тое ж.

***шкіле́цік*** **як шкіле́цік.** *Памянш. Мсцісл.* Пра худзенькае дзіця. Юрчанка, 204.

***шкіле́ціна*** **як шкіле́ціна.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра моцна схудалага чалавека. Юрчанка, 204.

***шкіле́цінaчка*** **як шкіле́цінaчка.** *Памянш.-ласк. Мсцісл. Спачув.* Пра некага вельмі худога. Юрчанка, 204.

***шкло́****, гл. таксама* ***сцякло***

**гла́дкыя як сьцякло́.** *Мсцісл.* Пра нешта гладкае празрыстае. Юрчанка 1993, 118.

выду́рвацца як му́ха на шкле. Гл. муха.

**блішча́ць як шкло.** *Слуцк.* Пра нешта бліщчастае. Сержпутоўскі 1999, 177.

**даро́га як шкло.** *Івац.* Пра роўную, гладкую, але коўзкую зімовую дарогу. ЗЗайкі.

**лёд як шкло.** *Івац.* Пра гладкі празрысты лёд. Янк., Пар., 96; ЗЗайкі.

падско́чыць бы́ццам наступі́ў бо́сай наго́й на бі́тае шкло. Гл. нага.

**чы́сты як шкло.** *Івац., Карэл. Ухв.* Пра нешта вельмі чыстае. Высл., 420; Янк., Пар., 194; ЗЗайкі.

**асцяро́жна як са шклом.** *Слон.* Пра неабходнасць асцярожнага абыходжання. Высл., 282.

***шклундзю́к*** **Да рабо́ты ані цюк, а да та́нцаў як шклундзю́к.** *Паст. Прык. Насмешл.* Пра чалавека, які не гадзіцца ні да работы, ні да танцаў, забаў. СПЗБ 5, 480. < Шклундзюк – свіны трыбушок, начынены мясам; *перан.* непаваротлівы чалавек.

***шклют*** **хадзíць як шклют.** *Паст. Няўхв.* Пра чалавека, які ходзіць згорбіўшыся, нагадвае склют. СПЗБ 5, 480.

***шклянка*** **гаспада́рка як шкля́нка.** *Гродз. Ухв.* Пра добра адладжаную гаспадарку. Цыхун, 175.

**Ср...чка не шкля́нка: не паб’е́цца.** *Прык. Жарт.* Чалавека, калі і адлупцаваць, будзе цэлы. Federowski, 288.

*у каго* **печ што шкля́нка.** *Астр. Ухв.* Пра вельмі добрую чыстую печ. СПЗБ 5, 480.

**ха́та як шкля́нка.** *Ваўк. п.*, *Докш.*, *Івац.*, *Маладз. Ухв.* Пра нечыю чыстую хату. Federowski, 50; Высл., 409; Гілевіч, 27; ЗЗайкі.

глядзе́ць як дура́к на шкля́нкі. Гл. дурак.

**ідзе́ як нясе́ шкля́нку вады́ на галаве́.** *Ваўк. п.*, *Слон. Ухв.* Пра роўную, асцярожную чыюсьці хаду. Federowski, 48, 122; Высл., 332; Янк., 410.

задава́цца як му́ха на шкля́нцы з мёдам. Гл. муха.

***шкляны́*** **во́чы як шкляны́я.** *Івац. Няўхв.* Пра нейчы пусты, адсутны погляд, часцей пра п’янага. ЗЗайкі.

***шко́да*** бы́стры як ліхí на шко́ду. Гл. ліхі.

***шко́дны*** біць як шко́днага ката́. Гл. кот.

***шко́ла*** **галасава́ць як у жыдо́ўскай шко́ле.** *Ваўк. Няўхв.* Пра шумную гамонку-спрэчку людзей. Federowski, 369.

крыча́ць як жыды́ ў шко́ле. Гл. жыд.

падня́ць гоман як жыды́ ў шко́ле. Гл. жыд.

сме́лы як жыд, калí ў шко́ле са стра́ху бздзіць. Гл. жыд.

**як у жыдо́ўскай шко́ле** *дзе. Вілен. Насмешл.* Пра памяшканне, дзе сабраныя людзі моцна шумяць, крычаць, бязмерна гамоняць. Sielicki, 186.

***шку́ра*** **крыча́ць як бы** *з каго* **шку́ру лу́пяць.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра чалавека, які голасна, прарэзліва, адчайна крычыць. Federowski, 154.

***шкура́т*** **вы́петраць як шкура́т.** *Слуцк.* Пра вельмі схуднелага, ссохлага чалавека. Сержпутоўскі 1999, 83.

**выпіна́цца (напіна́цца, выкру́чвацца, круцíцца) як шкура́т на агні́.** *Мін.*, *Карэл.*, *Пух. Няўхв.* Пра чалавека, які несалідна трымаецца, выстаўляецца, мітусіцца. Высл., 297; Нос., 821; Дуб., 52; Янк., 400; Мін.-Мал., 1970, 162.

***шкурлапа*** **суха́я як шкурлапа.** *Воран. Няўхв.* Пра жанчыну худую, сухую, касцістую. СПЗБ 5, 482. < Шкурлапа – скураны акравак.

***Шлёма*** **вы́йграць як Шлёма на арэ́ндзе.** *Насмешл.* Пра таго, хто прайграў справу ў працэсе альбо памыліўся пры арэндзе. Нос., 21.

***шлюб*** **прыбра́цца як да шлю́бу.** *Мін. Ухв.* Пра вельмі святочны выгляд кагосьці. ЛЦ, 74.

***шля́га*** **мо́рда як шля́га.** *Воран. Няўхв.* Пра шырокі, непрывабны твар. Гілевіч 2007, 207. < Шляга – трамбоўка.

**тупы́ як шля́га.** *Шчуч. Асудж. Зневаж.* Пра кагосьці вельмі тупога, неразумнага. Даніловіч, 265.

***шля́па*** Грыб – ні е́жа, а шля́па – ні адзе́жа. Гл. ежа.

***шля́хта*** **сабра́цца як шля́хта (шля́хціцы) на фэст.** *Мін. Жарт.* Пра вялікі збор людзей. ЛЦ, 20.

***шля́хціц*** **надзе́цца як той шля́хціц.** *Сміл. Ухв.* Пра фарсістага чалавека. Шатэрнік, 311.

**хадзі́ць як ашмя́нскі шля́хціц: адну́ калошу вы́пусціўшы, другу́ю абу́ўшы.** *Насмешл.* Пра чалавека, які не сочыць за сваім знешнім выглядам. Дуб., 69.

***шляхцю́к*** **ганары́сты як шляхцю́к.** *Слон. Няўхв.* Пра ганарлівага не да месца чалавека. Высл., 303. < У сваім асяроддзі ганарлівасць лічылася заганай.

***шляхця́нка*** **го́нару як у засцянко́вай шляхця́нкі.** *Няўхв.* Пра ганарлівую жанчыну-сялянку. Янк., Пар. 43. < Беларусы-сяляне пустую ганарлівасць не прымалі, лічылі заганай.

***шляя́*** патрэ́бен як каро́ве шляя́. Гл. карова.

***шмараві́дла*** уле́зці як ка́чка ў шмараві́дла. Гл. качка.

***шмель****, гл. таксама*

***чмель*** **шава́рдаць бу шмель гудзе́.** *Жытк. Жарт.* Пра нечыю гамонку на нізкіх тонах. ТС 5, 318. < Шавардаць – балбатаць.

**вы́скачыць як шмяля́ схваці́ўшы (ухваці́ўшы).** *Мсцісл.* Пра чалавека, які хутка выбег з памяшкання, некуды пабег. Юрчанка, 204.

***Шмуйла*** **хадзі́ць абквэ́цаны як Шму́йла.** *Сміл. Асудж.* Пра чалавека, які з-за свайго бруднага, неахайнага выгляду падобны на мясцовага персанажа Шмуйлу. Шатэрнік, 3. < Абквэцаны – брудны, замазаны.

***шнуро́к*** **заго́нчык як шнуро́к.** *Няўхв.* Пра вельмі вузкі загон. Янк., Пар., 67.

***шнуро́ўка*** уле́зці як чорт у шнуро́ўку. Гл. чорт.

***шнуро́чак*** **як пад шнуро́чак.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра нешта, што вельмі роўна адрэзана. Юрчанка, 193.

**бро́ўкі як шнуро́чкі.** *Памянш.-ласк. Ухв.* Пра вузкія роўныя броўкі. Янк., Пар., 18.

***шоўк*** **у даўгу́ як у шаўку́.** *Івац. Насмешл.* Пра чалавека, які дужа запазычаўся. Нос., 19; ЗЗайкі.

**валасы́ як шоўк.** *Мсцісл. Ухв.* Пра чыесці мяккія прыгожыя валасы. Янк., Пар., 27; Юрчанка, 204.

**мя́кке ек шоўк.** *Жытк. Ухв.* Пра нешта (тканіну, валасы, скуру) вельмі мяккае, прыемнае. ТС 3, 126.

**му́тыть бы шо́ўком шы́е.** *Драг. Няўхв.* Пра складную заўзятую хлусню. БА.

***шпак*** **аста́цца як шпак.** *Круп., Шкл.* Так пра сябе сказаў прымак, які застаўся жыць у хаце сваёй жонкі (у гатовай «шпакоўні»). Высл., 282.

**вы́біцца як шпак.** *Смал.* Пра чалавека, які вырваўся з няволі, нейкага акружэння ці непажаданай кампаніі. Добровольский III, 124.

**разя́віць рот як шпак.** *Глуск. Насмешл.* Пра чалавека, часцей дзіця, што, заслухаўшыся, адкрыў рот. Высл., 376.

**чарада́ як шпако́ў на сяўбе́.** Пра сабраных людзей, якія ішлі чарадой, адзін за адным. Янк., Пар., 191.

***шпацы́р*** **ісці́ як на шпа́цыр.** Пра хаду павольную, няспешную, дзеля прыемнасці. Янк., 411.

***шпе́ктар*** **разу́мны як жыдо́ўскі шпе́ктар.** *Рэч. Насмешл.* Пра некага, што выстаўляецца дужа разумным. Pietkiewicz, 390. < Шпектар – інспектар.

**разу́мны як шпэ́ктар.** *Ваўк. п. Насмешл.* Federowski, 260. Тое ж.

***шпік*** углéдзецца як варóна ў шпік. Гл. варона.

***шпі́лечка*** **то́нкі як шпі́лечка.** *Памянш.-ласк.* Пра некага худога, тонкага. Юрчанка, 204.

***шпі́лька*** **то́нкі як шпі́лька.** Юрчанка, 204. Тое ж.

**сядзе́ць як на шпі́льках.** *Мсцісл.* Пра неспакойнае, у хваляванні чаканне, сядзенне. Юрчанка 1974, 234.

ві́дна ноч, хоць шпі́лькі збіра́й. *Ваўк. п. Ухв.* Пра вельмі светлую месячную ноч. Federowski, 204; Янк., 399.

**сядзе́ць як на шпі́льцы.** Пра некага, хто спакойна, нерухома сядзіць. Даніловіч, 238.

***шпо́нка*** **глазы бальшы́і што шпо́нкі.** *Няўхв.* Пра чыесьці вялікія вочы. ЛА, 24.

***шпо́ра*** со́раму як у пе́ўня мя́са на шпо́рах. Гл. певень.

***шпунт*** **<як> шпунт ад бо́чкі.** *Смарг., Астр. Насмешл.* Пра чалавека малога росту. Даніловіч, 265.

***шпэ́рка*** **худа́я бы шпэ́рка.** *Драг. Няўхв.* Пра надта худую, сухарлявую жанчыну. Лучыц-Федарэц, 222. < Шпэрка – тонкае сала, шкварка.

***шраці́на*** як слану́ шраці́на. Гл. слон.

***шрот*** **пагавары́ць як шро́там пачастава́цца.** *Іран.* Пра непрыемную, калючую, вострую гаворку. Янк., Пар., 120.

***шруб*** **як на шру́бах.** Відаць, пра вельмі гнуткага, свабоднага ў рухах, непаседлівага чалавека. Санько, 70.

***штані́на*** прыста́ць як дзед да штані́ны. Гл. дзед.

***штаны́*** дзёргацца нібы ў іх бло́хі ў штана́х. Гл. блыха.

скака́ць як блыха́ ў штана́х. Гл. блыха.

**З жо́нкай пражы́ць – не штаны́ сшыць.** *Светл. Прык.* Пра цяжкасці, што сустракаюцца ў сямейным жыцці. ПП 2, 67.

**прапа́сці як штаны́ з пло́ту.** *Капыл. Насмешл.* Пра непрыкметнае знікненне кагосьці. ФА.

**разу́мны як Бэ́ркавы штаны́.** *Рэч. Здзекл.* Пра некага неразумнага. Pietkiewicz, 390.

**разу́мны як ра́бінавы штаны́.** *Капыл. Здзекл.* Высл., 376. Тое ж.

трэ́ба як саба́ку штаны́. Гл. сабака.

**чэ́сны як Бэ́ркавы штаны́ на ле́ву сто́рану.** *Карэл. Іран. Здзекл.* Пра вельмі сумніўную сумленнасць, чэснасць некага. Высл., 421.

як на саба́ку штаны́. Гл. сабака.

***штык*** **стая́ць як штык.** *Мядз. Ухв.* Пра нейчую гатоўнасць да справы, з’яўленне ў час. ФА.

***шу́ба*** **Бей жану́ як шу́бу, а любі́ як ду́шу.** *Прык.* Правіла архаічнай патрыярхальнай сям'і. Ром., Зап., I, 215.

***шуга́ць*** у грудцах як по́лынь шуга́ець. Гл. полынь.

***шука́ць*** як бо́бу у гаро́се шука́ць. Гл. боб.
як ве́тру ў по́лі шука́ць. Гл. вецер.
як ста́ры воўк сме́рці шука́ючы. Гл. воўк.

***шу́ла*** вы́лупіць (вы́рачыць) во́чы як вол (бык) на но́вае шу́ла. Гл. вол.
глядзе́ць як бык на но́вае шу́ла. Гл. бык.
**то́ўсты як шу́ла.** *Ухв.* Пра кагосьці тлустага, моцнага, шырокага. Янк., 432.
**шыро́кі як шу́ла.** *Слон. Ухв.* Пра моцнага шыракаплечага мужчыну. Высл., 423.

***шуля́к*** **налыты́в як шуля́к.** *Пін. Няўхв.* Пра нейчы агрэсіўны, рэзкі напад на каго-н. БД, 308.

***шуме́ць*** працу́е як гай шумі́ць. Гл. гай.
у галаве́ як у млы́не (шумі́ць). Гл. млын.

***шумо́чак*** **стаі́ць у глаза́х як шумо́чак.** *Воран. Няўхв.* Пра няясны зрок каго-н. СПЗБ 5, 507. < Шумочак – туман.

***шупало́нік*** **напетава́цца ек шупало́нік.** *Жытк. Насмешл.* Пра дзіця, што добра, сытна пад'ела. ТС 3, 149. < Напетавацца – нахлябацца; шупалоніць – есці.

***шу́рпа*** **хадзі́ць як ку́рыца шу́рпа.** *Ваўк. Няўхв.* Пра жанчыну, якая мае непрыгладжаны, «шурпаты» выгляд, неахайную. СПЗБ 5, 508. < Шурпа – парода кур, гусей з натапыраным, ускудлачаным пер'ем.
**як шу́рпа.** *Гродз. Няўхв.* Сцяшковіч, 622. Тое, што хадзіць як курыца шурпа.
**як шу́рпа лахма́та.** *Шчуч. Няўхв.* СПЗБ 5, 508. Тое ж.

***шу́фаль*** **ва́ліць як з шу́фля.** *Дзятл.* Пра густы снег. СПЗБ 5, 510.

***шуя*** **то́ўсты як шуя.** *Мсцісл.* Пра тоўстага, сытага чалавека. Юрчанка, 204.

***шча́ва*** **кі́слы як шча́ва.** *Лоеў. Няўхв.* Пра нешта досыць кіслае. Янкова, 424. < Шчава́ – шчаўе.

***шчанё****, гл.* ***шчаня***

***шчаню́к*** **вішча́ць як шчаню́к.** *Свісл. Няўхв.* Пра нейкі непрыемны візглівы крык кагосьці. СПЗБ 1, 318.
**курчы́цца як шчаню́к пад даждждо́м.** *Навагр. Няўхв.* Пра паставу чалавека, яго знешні выгляд. ЛЦ, 71.

***шчаня́*** **цю́хаць усле́д як шчанё.** *Крыч. Насмешл.* Пра чалавека, які стараецца не адстаць ад кагосьці. Бялькевіч, 485. < Цюхаць – бегчы.
**дзя́ўкуць як шчаня́.** *Слон. Няўхв.* Пра нейчае скуголенне, рэдкія ціхія гукі, словы. Высл., 313.
**дурны́ як шчаня́ да го́ду.** *Навагр., Зэльв., Івац. Асудж. Груб.* Пра вельмі недасведчанага неразумнага чалавека. Даніловіч, 245; ФА.
**Сваё дзіця́ не шчаня́: за плот не вы́кінеш.** *Брасл. Прык.* Пра неабходнасць прымаць сваё дзіця такім, якое яно ёсць. ПП 1, 114.

**Паны́ як папы́, а паня́ты як шчаня́ты, яшчэ́ го́ршыя.** *Прык. Няўхв.* Пра панскіх спешчаных дзяцей. Ляцкий, 33.

**набра́цца як шчэня́ сыро́ваткі.** *Стол. Няўхв.* Пра моцна п'янага чалавека. ТС 3, 110.

***шчаці́на*** **валасы́ як шчаці́на.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра надта цвёрдыя, жорсткія валасы. Federowski, 338.

***шчо́паць*** **як у шчо́пці ўзяць.** Пра нешта ў вельмі малой колькасці. Янк., Пар., 210.

***шчо́тачка*** **як шчо́тачка.** *Памянш. Мсцісл. Ухв.* Пра дружныя ўсходы. Юрчанка, 204.

***шчо́тка*** **конюшы́на як шчо́тка.** *Стол. Ухв.* Пра дружны рост густой канюшыны. ТС 2, 215.

**трава́ [густа́я] як шчо́тка.** *Івац., Мсцісл. Ухв.* Пра густую добрую траву. Янк., 432; Юрчанка, 204; ЗЗайкі.

***шчо́ўкаць*** як арэ́хі шчо́ўкаць. Гл. арэх.

***шчу́ка*** **вы́сахнуць як шчу́ка.** *Гом. Няўхв.* Пра схуднелую жанчыну. Высл., 298.

**коро́ва падхля́бістая як шчу́ка.** *Лоеў. Няўхв.* Пра худую, паджарую карову. Янкова, 237.

**зу́бы як у шчу́кі.** *Лельч. Няўхв.* Пра чалавека з вострымі зубамі. Кучук, Малюк, 109.

***шчупа́к*** **во́чы вы́тарашчыць што шчупа́к.** *Капыл. Няўхв.* Пра выраз вачэй кагосьці. ФА.

**глядзе́ць як сы́ты шчупа́к на вялі́кую пло́тку.** *Ушацк. Насмешл.* Пра сквапны, але сыты, лянівы погляд кагосьці. ЛЦ, 70.

**улéзці як шчупа́к у нéрат.** *Вілен. п., Касц., Уздз. Насмешл.* Пра чалавека, які папаўся самахоць у непрыемную сітуацыю. Czeczot, 115; Federowski, 319; Бялькевіч, 455; Высл., 404.

**зу́бы як у шчупака́.** Пра чыесьці вострыя зубы. Янк., Пар., 78.

раско́ша *каму дзе* як шчупаку́ ў во́зеры. *Ухв.* Пра спрыяльныя, добрыя ўмовы жыцця дзе-н. Янк., 424.

***шчур*** **вы́макнуць як шчур.** *Пін. Насмешл.* Пра чалавека, які недзе моцна вымак або спацеў. Нар. лекс., 119.

**мо́кры шо шчур.** *Жытк. Насмешл.* Пра чалавека, які недзе моцна вымак або спацеў. ТС 5, 344.

**сухі́ ек шчур.** *Стол.* Пра нейкую худую жывёліну. ТС 5, 344. < Шчур – пацук.

**сядзе́ць як шчур.** *Смал. п. Няўхв.* Пра чалавека, які трымаецца скрытна адасоблена. Добр., Смол., 1012.

**шко́дны як шчур.** *Ваўк. п. Асудж.* Пра чалавека, які жыць не можа, каб не шкодзіць. Federowski, 299.

***шчы́ліна*** сядзе́ць як блашчы́ца ў шчы́ліне. Гл. блашчыца.

ле́зці як тарака́н у шчы́ліну. Гл. таракан.

схава́цца як клоп у шчы́ліну. Гл. клоп.

ці́снуцца як прусакі́ ў шчы́ліну. Гл. прусак.

***шчы́лінка*** як пруса́к у шчы́лінцы. Гл. прусак.

***шчыпа́ць*** **иде́ть як шчи́плить.** *Насмешл.* Відаць, пра вельмі дробненькую хаду кагосьці. Добровольский III, 87.

***шчы́пці*** тр́эба як дзя́тлу шчы́пці. Гл. дзяцел.

***шчы́ры*** **Бяр́э як шчы́рага за с́эрца, а бага́тага за жыво́т.** *Рэч.* Пра шчыльна падагнаныя дошкі. Pietkiewicz, 359. < Заўвага збіральніка: «Так кажа цесля, калі яму ўдасца штось капітальна замацаваць».

узяло́ як бага́тага за жыво́т, а шчы́рага за с́эрца. Гл. багаты.

***шч́эпачка*** **худы́ як шч́эпачка.** *Памянш. Ваўк. п. Няўхв.* Пра моцна схуднелага чалавека. Federowski, 55.

**Бяда́ па бядзе́ як на шч́эпачцы едзе́.** *Памянш. Прык.* Пра тое, што беды ідуць чарадой адна за адной. Ляцкий, 4.

***шч́эпка*** **круці́цца як шч́эпка ў пр́олупца.** *Астр. Зласл.* Пра чалавека, які дзейнічае, мітусіцца ў вельмі неспрыяльных умовах. СПЗБ 4, 111.

**стаць як шч́эпка.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра моцна схуднелага чалавека. Юрчанка, 98.

**сухі́ як шч́эпка.** *Хойн. Няўхв.* Мат. Гом., VIII, 179. Тое ж.

**як (што) шч́эпка вы́сахнуць.** *Стаўб., Сен. Няўхв.* МК, 320. Тое ж.

шанава́ць як бруд на шч́эпках. Гл. бруд.

глядзе́ць як дура́к на шч́эпкі. Гл. дурак.

***шы́ба*** **як шы́бы ня вы́пхне.** Пра кагосьці, хто пільна, уважліва, зацікаўлена глядзіць. НН, 268.

***шы́бенік*** **насі́цца як шы́бенік.** *Няўхв.* Пра падлетка, дзіцёнка, які моцна дурэе, носіцца. Янк., Пар., 116.

***шы́бенiца*** **вы́сака як на шы́бенiцы.** *Мядз. Няўхв.* Пра высокае да страху месца. Высл., 297.

**як з шы́бенiцы сарва́ўся.** *Няўхв.* Пра чалавека, які нервуецца, злуецца, знаходзіцца ва ўзбуджаным стане. Санько, 209.

***шы́ла*** **адка́з як шы́ла.** *Ваўк. п.* Пра нейчы востры, калючы адказ. Federowski, 4; Нос., 121; Матэрыялы 1981, 114; Крэмнеў, № 830.

**круці́цца як шы́ла [яко́я].** *Краснап.* Пра мітуслівага, няўрымслівага чалавека. Бялькевіч, 463.

**таўчы́ся як шы́ла.** *Шчуч.* СПЗБ 5, 96. Тое ж.

**уле́зці як шы́ла ў ср...ку.** *Рэч. Асудж. Вульг.* Пра чалавека, які некуды ўлез няпрошаны. Pietkiewicz, 394.

**як шы́ла ў мы́ла.** *Свісл. Ухв.* Пра справу, якая рухаецца вельмі лёгка, спраўна, без перашкод. Даніловіч 2010, 91.

**кальну́ць як шы́лам.** Пра чалавека, які сказаў нешта вострае, калючае, дастаў да балючага. Янк., Пар., 84.

**схапі́цца як бы** *хто каго* **шы́лам парну́ў.** *Ваўк. п. Насмешл.* Пра чалавека, які рэзка падскочыў. Federowski, 273.

**схапі́ць як шы́лам па́такі.** *Іран.* Пра надта мізэрную колькасць нечага атрыманага, пра безвыніковасць намаганняў. Янк., Пар., 159.

**круці́цца як на шы́ле.** *Мін. Зласл.* Пра чалавека, які трымае сябе нервова, неспакойна. ЛЦ, 71.

**як на шы́ле (на шы́лах).** Пра чалавека, які адчувае сябе неспакойна, няўтульна, у чаканні. Санько, 70.

**верх то́нкі бы шы́ло.** *Стол.* Пра нейкае вострае высахлае дрэва. ТС 5, 349.

***Шыманелеў*** — **як Шыманелевы пчо́лы.** *Смарг. Ухв.* Відаць, пра дружную шпаркую работу нейкага гурта. Сцяшковіч, 622.

***шыпуль*** — **худы́я як шыпулі.** *Ваўк.* Пра вельмі худых людзей, жывёл. СПЗБ 5, 533. < Шыпуль – трэска, аскепак.

***шыць*** — **ма́ніць як шы́е.** *Пух.*, *Докш.*, *Івац. Асудж.* Пра чалавека, што лёгка і складна маніць. Шатэрнік, 154; Высл., 345; ЗЗайкі.

му́тыть бы шо́ўком шы́е. Гл. шоўк.

Як тая Тадо́ра – то шы́е то по́ра. Гл. Тадора.

Жыць – не мяшо́к шыць. Гл. мяшок.

***шы́хля*** — **трэ́сціся як ад шы́хлі.** *Пін. Няўхв.* Пра моцныя дрыжыкі каго-н. Высл., 365 < Шыхля – ліхаманка.

***шы́я*** — вісе́ць як ка́мень на шы́і. Гл. камень.

як нажо́м па шы́і. Гл. нож.

як у саба́кі кілбаса́ на шы́і. Гл. сабака.

***шэ́лег*** — **бая́цца** *каго* **як ліхо́га шэ́лега.** Пра чалавека, якога асцерагаюцца як няякасных грошай. Янк., Пар., 13; Нос., 50. < Ліхі шэлег – сцёртая альбо скрадзеная манета.

**знаць** *каго* **як ліхо́га шэ́лега.** Пра чалавека, якога добра ведаюць і не з лепшага боку. Аксамітаў, 201; Шпилевский, 181; Киркор, 235.

**не збу́дзеш** *каго/чаго* **як ліхо́га шэ́лега.** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра чалавека або рэч, ад якіх так цяжка пазбавіцца, як ад фальшывай манеты. Federowski, 352; Высл., 354; Янк., Пар., 113.

***шэ́ры*** — выязджа́ць усё ро́ўна як на се́рым камі́. Гл. конь.

***шэ́ранькі*** — бе́гаць як той за́йчык шэ́ранькі. Гл. зайчык.

***шэрсць*** — **гаво́рыць бы́ццам гла́дзіць па шэ́рсці.** *Мін. Ухв.* Пра чыюсьці ласкавую альбо лісліваю гаворку. ЛЦ, 50.

Як ад казла́ – ні шэ́рсці, ні малака́. Гл. казёл.

**валасы́ як шэрсць.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра жорсткія, непаслухмяныя валасы. Federowski, 338.

Прыраўнава́лася як свіння́ да каня́, да шэ́рсць не така́я. Гл. свіння.

***шэ́ршань*** — **джгану́ць як шэ́ршань у скро́ню.** Пра востры ўдар ці нутраны боль у скроні. Янк., Пар., 53.

**злы як шэ́ршань.** *Трак. Няўхв.* Пра злоснага, агрэсіўнага чалавека. СПЗБ 5, 538.

**ліхі́ як шэ́ршань.** *Ваўк. п. Няўхв.* Federowski, 164. Тое ж.

***шэсць*** — **гаво́рыць бы́ццам у шэсць цапо́ў мало́ціць.** *Паст. Няўхв.* Пра нечыю хуткую гаворку. КВДУ.

есць як вало́ў шэсць. Гл. вол.

# Э

***электравенік*** — **як электраве́нік.** *Астр. Насмешл.* Пра вельмі жвавага, шустрага чалавека. Даніловіч, 215.

# Ю

***Ю́да*** — **адвярну́цца як Ю́да ад свято́й вячэ́ры.** *Маладз. Няўхв.* Пра чалавека, які ад нечага адмовіўся ці нечаму здрадзіў. ФА.

**прада́жны як Ю́да.** *Асудж.* Пра прадажнага, нявернага чалавека. Янк., Пар., 129.

***Ю́р’я*** — **набо́жны як свято́га Ю́р’я конь.** *Слуцк. п. Іран. Жарт.* Пра чалавека, які далёкі ад набожнасці. Шейн, 478; Аксамітаў, 196.

**набо́жны як свято́га Ю́р’я конь: ён да касцёла, а ён да кабы́лы.** *Іран. Жарт.* Federowski, 131. Тое ж.

***ю́хта*** — **мо́кры як ю́хта.** *Кобр.* Пра некага моцна мокрага. ЖНС, 126.

***юхціна*** — **мо́кры як юхціна.** *Пол.* Пра чалавека, які вымак да ніткі. Нар. лекс., 15. < Юхціна – скура ў час вырабу.

***ю́шка*** — **чырво́на як ю́шка.** *Навагр.* Пра нешта вельмі чырвонае (зара, матэрыял і інш.). СПЗБ 5, 543. < Юшка – кроў.

# Я

***я́блык*** — **абры́дзець як го́ркі я́блык.** *Івац., Воран. Няўхв.* Пра нешта, некага, што вельмі моцна надакучылі, абрыдзелі. Даніловіч, 218; ЗЗайкі.

**кі́слы як лясны́ я́блык.** *Касц.* Пра нешта вельмі кіслае. Бялькевіч, 250.

**кі́слы як я́блык з дзі́чкі.** Пра вельмі нешта кіслае. Янк., Пар., 86.

**скрывí́цца бы́ццам укусі́ў кі́слы я́блык.** *Брэсц., Мін., Чэрык. Насмешл.* Пра чалавека, які ад нечага моцна зморшчыўся. ЛЦ, 74.

**маршчы́ністы як пе́чана я́блыка.** *Слон.* Пра твар старога чалавека. Высл., 435.

**надае́сці як го́ркае я́блыка.** *Рэч., Слон. Раздраж.* Пра нешта вельмі недакучлівае. Pietkiewicz, 380; Высл., 350.

**во́чы як я́блыкі.** *Слон.* Пра вельмі вялікія выразныя вочы. Высл., 295.

***я́блына*** — **галава́ бе́лая што я́блына.** *Мсцісл.* Пра галаву старога чалавека. Юрчанка 1977, 251.

***я́блычка*** — **гла́дзенькі як я́блычка.** *Памянш.-ласк. Ваўк. п. Ухв.* Пра тварык дзіцяці. Federowski, 110.

**кру́гленькі як я́блычка.** *Памянш.-ласк. Івац. Ухв.* Пра сыценькага, поўненькага дзіцёнка. ЗЗайкі.

***я́гада*** **мно́га як я́гад.** *Мсцісл.* Пра шматдзетную сям'ю. Юрчанка, 204.
**Гудзім папа́, а поп як я́гада.** *Прык.* Пра тое, што абмаўленне не ўплывае на таго, пра каго кажуць. Federowski, 240.
**напі́цца чырво́ніцы як я́гада.** *Сак. п. Насмешл.* Пра ап'янелага чалавека, што пачырванеў ад гарэлкі. Federowski, 230.
**хава́цца як я́гада пад лісто́к.** *Мсцісл. Ухв.* Пра некага, хто трымаецца скрытна. Юрчанка, 204.
**чырво́на як я́гада.** *Ваўк. п. Ухв.* Відаць, пра маладзіцу, дзяўчыну. Federowski, 70.
жуко́ў як на рабі́не ягод. Гл. рабіна.

***я́гадка*** **дзе́ўка як я́гадка [сакаўмая].** *Памянш. Ваўк. п., Слон. Захапл.* Пра маладую прыгожую дзяўчыну. Federowski, 95; Высл., 312.
**няве́ста як яго́дка ў ле́се.** *Рас. Ухв.* Пра чыюсьці прыгожую нявесту. СПЗБ 5, 547.
**харо́ша як я́гадка.** *Ваўк. п. Захапл.* Пра маладую прыгожую дзяўчыну. Federowski, 50.
Любіліся, каха́ліся як галубкі́ ў стрэсе́, а ціпе́р разышлі́ся як я́гадкі ў ле́се. Гл. галубок.

***ягі́ня*** **расчырване́цца як ягі́ня.** *Сміл. Няўхв.* Пра раз'юшаную, раззлаваную жанчыну. Шатэрнік, 152. < Ягіня – Яга, ведзьма.

***ягня́*** боя́цца ек воўк егня́ці. Гл. воўк.
дзі́віцца (глядзі́ць) як воўк на казу́ (ягня́). Гл. воўк.
любі́ць як воўк ягня́. Гл. воўк.
цяга́ць як воўк ягня́. Гл. воўк.
**дзіця́та бы ягня́та.** *Слуцк.* Пра безабароннасць малых дзяцей. Сержпутоўскі 1999, 52.
страшы́цца як воўк ягня́ці. Гл. воўк.
**як з ягня́ці во́ўны.** *Маст. Насмешл.* Пра вельмі малую карысць з чаго-н. Даніловіч 2008, 136.

***ягня́тка*** **бры́каць як ягня́тка.** *Памянш. Ваўк. п. Ухв.* Пра бегатню і весялосць дзяцей. Federowski, 43.

***ядá*** **Чалаве́к без дру́га што ядá без со́лі.** *Маз., Докш. Прык.* Пра нецікавага чалавека, што не мае сябра. ПП 1, 381; ФА.

***яе́чка*** **гато́ва як яе́чка аблу́пленае.** *Памянш. Ухв.* Пра высокую ступень гатоўнасці нечага. Янк., Пар., 39.
**даве́сці** *што* **як яе́чка.** *Мсцісл.* Пра вышэйшую ступень даведзенасці чаго-н. да ладу. Юрчанка 1969, 70.
**Да пяці́ год пясту́й дзіця́ як яе́чка, з сямі́ – пасі́ як аве́чку, тады́ вы́йдзе на чалаве́чка.** *Памянш. Брасл. Прык.* Пра неабходнасць адпаведнай увагі да дзіцяці на ўсіх этапах сталення. ПП 2, 133.
**сын як яе́чка.** *Ухв.* Пра дарагога і запеставанага сына. Добр., Смол., 896.
**трыма́ць як яе́чка.** *Памянш. Слон.* Пра вельмі беражлівае стаўленне да нечага. Высл., 401.
крахаць што індзю́чкі на яе́чках се́дзя. Гл. індзючка.
**берэгчы як яе́чко.** *Памянш. Бяроз.* ДА. Тое, што трыма́ць як яе́чка.

***яе́шня*** пристава́ць як ба́ба з яе́шняю. Гл. баба.

***яжгу́р*** **наду́цца як яжгу́р.** *Брасл. Няўхв.* Пра чалавека, які пакрыўдзіўся, надзьмуўся, выставіў свае калючкі. СПЗБ 5, 550.

***язы́к*** **гавары́ць усё дно як язы́к за што чыпля́іцца.** *Мсцісл.* Пра няроўную невыразную гаворку. Юрчанка 1993, 177.

**крыча́ць як за язы́к пачэ́плена.** *Асудж.* Пра жанчыну, што моцна раскрычалася. Дуб., 29; Носович, 489.

маўча́ць ба́ццэ *каму* каро́вы язы́к аджава́лі. Гл. карова.

**маўча́ць бы́ццам язы́к праглыну́ў.** *Мін.*, *Хоц.* Пра чалавека, які не хоча, не можа нешта сказаць. ЛЦ, 65; Янк., Пар., 76.

**спры́тны як язы́к.** *Насмешл.* Пра лоўкага, хуткага, кемлівага чалавека. Янк., 429.

**турлы́каць як за язы́к пыдвя́зыный.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра чалавека, які вядзе невыразную гаворку. Юрчанка 1993, 177.

**як за язы́к паве́шаны (прывя́заны).** *Мсцісл.* Пра балбатлівага, гаваркога чалавека. Нос., 195; Юрчанка 1977, 212.

як цяля́ты язы́к аджава́лі. Гл. цяля.

**як язы́к завяза́ў.** *Рэч.* Пра чалавека, які рашуча змоўк. Гор., Руд., 255.

гавары́ць гла́дка як вол языко́м лі́жа. Гл. вол.

няма́ як вол языко́м злі́за́ў. Гл. вол.

як каро́ва языко́м злiза́ла. Гл. карова.

**як языко́м злiза́ла.** Пра нешта, што цалкам знікла, не пакінула следу. Санько, 69.

***я́йка*** *ад каго* по́мачы як ад пе́ўня я́ек. Гл. певень.

пад’ясі́ ад сы́на хле́ба як ад старо́й ку́рыцы я́ек. Гл. курыца.

**зруб як я́йка.** *Ухв.* Пра вельмі прыгожы, чыста зроблены зруб. Янк., Пар., 77.

**кру́глы як я́йка.** *Ваўк. п.* Пра нейкі круглы прадмет. Federowski, 153; Янк., 412.

укі́нуць як зязю́лька я́йка. Гл. зязюлька.

**як сё́ння з я́йка вы́лупіўся.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не ведае звычайных рэчаў. Санько, 71.

**як я́йка.** *Маладз. Ухв.* Пра нешта дасканалае, добрае. Гілевіч 2007, 71.

**насі́цца як са свянцо́ным я́йкам.** *Воран. Няўхв.* Пра чалавека, які носіцца з нечым, празмерна аберагае, апякуецца, дагаджае. Даніловіч, 246.

насі́цца як ку́рыца з я́йкам (яйцо́м). Гл. курыца.

**ца́цкацца як з велiко́нным я́йкам.** *Ваўк. п.*, *Лід. Няўхв.* Federowski, 47; Высл., 414. Тое, што насіцца як са свянцоным яйкам.

**хадзі́ць як з я́йкамі на галаве́.** *Ваўк. Жарт.* Пра роўненькую, павольную, акуратную хаду. Federowski, 48.

масці́цца як ку́рыца на я́йках. Гл. курыца.

сядзе́ць як ка́чка на я́йках. Гл. качка.

глядзе́ць як вужа́ка на я́йкі. Гл. вужака.

**пало́бны як два кура́ныя я́йкі.** *Мін.* Пра двух вельмі падобных паміж сабой людзей. ЛЦ, 73.

***яйцо́***

вы́валыты о́чы ек бара́н е́йця. Гл. баран.
**глядзе́ць як з яйца́ вы́лупіўся.** *Стаўб.*, *Слон. Няўхв.* Пра чалавека, які недаўменна, здзіўлена штосьці разглядае, дзівіцца. Даніловіч, 228.
глядзе́ць як я́шчарыца на я́йца. Гл. яшчарыца.
**целепа́тца бы барано́вы я́йца.** *Слуцк. Здзекл.* Пра чалавека, які не мае цвёрдай паставы. Сержпутоўскі 1999, 148.
**як з яйца́ выліты.** *Воран.* Пра чалавека вельмі падобнага да кагосьці. Арх. Гр.
**як з яйца́ ся́ння вы́лупіўся.** *Няўхв.* Пра чалавека, які не ведае простых рэчаў. Юрчанка 1977, 213.
**хадзі́ць як з я́йцамі на галаве́.** *Ваўк.* Пра чалавека, які надта плаўна, роўненька ходзіць. Federowski, 48.
гняздзі́цца (мясці́цца) як ку́рыца на я́йцах. Гл. курыца.
сказа́ць як сярпо́м па я́йцах разану́ць. Гл. серп.
**бе́лы як яйцо́.** *Краснап. Ухв.* Пра нешта вельмі белае. Бялькевіч, 439.
**гла́дкая [даро́га] хоць яйцо́ кацí.** *Ухв.* Пра вельмі добрую дарогу. Янк., Пар. 39.
**гла́дкі як яйцо́.** *Жытк. Ухв.* Пра нейкі гладкі прадмет. Матэрыялы 1981, 120.
**гуза́к як яйцо́.** *Капыл.* Пра вялікі гузак у кагосьці. Нар. слов., 60.
**кволы як яйцо-вылівак.** *Лаг. Спачув.* Пра хваравітае, слабенькае дзіця. Гілевіч, 28.
**кру́глы як яйцо́.** *Ваўк. п. Ухв.* Пра нешта круглае, гладкае. Federowski, 153; Янк., 412.
**Ліцо́ як яйцо́, а ў галаве́ баўту́н.** *Раг. Прык. Здзекл.* Пра прыгожага ды дурнаватага чалавека. АВНЛ.
**падабра́ць, падагна́ць як яйцо́.** *Мсцісл. Ухв.* Пра нейкую добра зробленую справу, работу. Юрчанка 1969, 171.
**рабы́ як галубі́нае яйцо́.** *Івац.* Пра некага або нешта рабых, у кропачку. ЗЗайкі.
**рабы́ як кніжы́нае яйцо́.** *Івац.* ЗЗайкі. < Кніжынае яйцо – яйцо кнігаўкі. Тое ж.
рассаката́цца як ку́рыца, знёсшы яйцо́. Гл. курыца.
**абхо́дзіцца як з веліко́нным яйцо́м.** *Слон. п., Івац.* Пра вельмі далікатнае, паважнае абыходжанне. Federowski, 1; ЗЗайкі.
**асцяро́жна як з яйцо́м.** *Слон. п.* Federowski, 10; Янк., 396. Тое ж.
**ісці́ як з яйцо́м.** *Ваўк. п.*, *Слон.* Пра вельмі асцярожную хаду каго-н. Federowski, 48, 122; Высл., 332; Янк., 410.
насі́цца як ку́рыца з пе́ршым яйцо́м. Гл. курыца.
насі́цца як ку́рыца з яйцо́м. Гл. курыца.
пабе́гчы як ку́рыца з яйцо́м. Гл. курыца.
бліシча́ць як у ката́ я́йцы. Гл. кот.
круты́тыся бы Са́вка на я́йцых. Гл. Саўка.
пішча́ць як кураня́ ў яйцэ́. Гл. кураня.

***ялавец*** **жыгацéць як сухí ялавец.** *Зэльв.* Пра чалавека, які гарачыцца, палае, злуецца. Нар. слов., 16.

***я́ма*** зрахманіцца як воўк у я́ме. Гл. воўк.

**заснýў як у я́му праваліўся.** *Леп.* Пра моцны, глыбокі сон. ЗВалодзінай.

**як у я́му.** *Карэл. Няўхв.* Пра нешта, што робіцца без выніку, карысці, якога-н. следу. Сцяшковіч, 620.

***янгуль*** **гóлас як у янгуля.** *Бран. Ухв.* Відаць, пра чалавека з анёльскім, прыгожым галаском. Расторгуев, 294.

***Янкель*** **убíцца як Я́нкель у касцёл.** *Насмешл.* Пра чалавека, які не туды, куды трэба, улез. Янк., Пар., 172.

***ярблю́д**, гл.* ***вярблюд***

***я́рмарка*** круцíцца як цыгáн на я́рмарку. Гл. цыган.

**чы́ста** *дзе* **як на я́рмарку Адэ́льскім.** *Сак. п. Іран.* Пра адсутнасць парадку дзе-н. Federowski, 4.

***ярмó*** жывéцца як валý ў ярмé. Гл. вол.

працавáць як вол у ярмé. Гл. вол.

упéрціса ек вол у ермó. Гл. вол.

цягнýць як вол [ярмо]. Гл. вол.

**сагнýць кáрак як пад ярмóм.** Пра прыгнутага ссутуленага чалавека. Янкоўскі, 81.

***я́слі*** біцца як сляпы́ казёл аб я́слі. Гл. казёл.

***я́сны*** зваліцца як дождж сярóд я́снага дня на сухóе сéна. Гл. дождж.

як гром з я́снага нéба. Гл. гром.

дарагí як сóнейка я́снае. Гл. сонейка.

***я́страб*** **драпéжны як я́страб.** *Чыж. Няўхв.* Пра вельмі агрэсіўнага чалавека. СПЗБ 2, 87.

**накíнуцца як я́страб на кýрыцу.** *Мсцісл. Няўхв.* Пра некага, хто драпежна накінуўся на субяседнікаў. Юрчанка, 196.

***Ясь*** **як у Я́ся ў тóрбе** *дзе. Маст., Дзятл. Няўхв.* Пра непрыбранасць, неахайнасць у хаце, на стале і г. д. Даніловіч, 261.

***ятрóўка*** **свары́цца як ятрóўкі.** *Ваўк. п. Няўхв.* Пра сварлівых кабет, што ніяк не могуць дамовіцца. Federowski, 294.

***ячмéнь*** **галавá як на ёй ячмéнь змалацілі.** *Няўхв.* Пра распухлую галаву кагосьці. Янк., Пар., 37.

***я́чны*** усяды *каго* хапáе як я́чнай мякíны. Гл. мякіна.

***ячýк*** **дзéці як ячукí.** *Краснап. Ухв.* Пра дагледжаных дзяцей. Бялькевіч, 509. < Ячук – ускормленае парася.

***я́шчарка*** **глядзéць як я́шчарка [тая].** *Няўхв.* Пра жанчыну, што мае пільны, асцярожны погляд. Носович, 728.

**як я́шчарка.** *Мсцісл. Ухв.* Пра спрытнага, лоўкага, хуткага чалавека. Юрчанка, 204.

**грызéцца ек я́шчэрка.** *Жытк. Няўхв.* Пра дзёрзкага, злога на язык падлетка. ТС 1, 58.

**сы́кацца ек я́шчэрка.** *Жытк. Няўхв.* Пра адказы, паводзіны капрызнай непрыветнай жанчыны. ТС 5, 127.

*я́шчарыца* **вы́трашчыць во́чы як я́шчарыца на дзе́ці.** *Няўхв.* Пра нейчы непрыязны прагны погляд. Federowski, 336.

**глядзе́ць як я́шчарыца на я́йца.** *Ваўк. п.* Federowski, 109. Тое ж.

*я́шчык* **улажы́ць як у я́шчык.** *Мядз.* Пра нешта вельмі трапна сказанае. ЗСалавей.

Даведачнае выданне

**СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ПАРАЎНАННЯЎ**

Укладальнікі:
**Валодзіна** Таццяна Васільеўна
**Салавей** Лія Мацвееўна

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*
Мастацкі рэдактар *Т. Д. Царова*
Тэхнічны рэдактар *М. В. Савіцкая*
Камп'ютарная вёрстка *С. М. Касцюк*

Падпісана да друку 24.10.2011. Фармат 70×100 1/16. Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 39,16. Ум.-выд. арк. 27,5. Тыраж 300 экз. Заказ 263.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука».
ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.2009. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.